# АРХЕАЛОГІЯ БЕЛАРУСІ

## ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ Ў ДВУХ ТАМАХ



## 1 ТОМ

## А – К

Мінск
«Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
2009

# УВОДЗІНЫ

## АРХЕАЛОГІЯ БЕЛАРУСІ

Археалагічнае вывучэнне старажытнасцей Беларусі пачалося ў 2-й пал. 18 ст. У 1-й чв. 19 ст. Т.Нарбут даследаваў курганы паміж Магілёвам і Рагачовам і ў маёнтку Шаўры Лідскага пав., вызначыў пахавальны абрад — інгумацыя на грунце пад насыпам. З.Я.Даленга-Хадакоўскі склаў 4-томны «Слоўнік назваў гарадзішчаў і ўрочышчаў», які змяшчае дадзеныя пра некалькі тыс. археал. помнікаў, з іх каля 200 зафіксавана на Беларусі (гарадзішчы ён лічыў свяцілішчамі). У 1855 Я.П.Тышкевіч, які вывучаў курганы на Міншчыне, стварыў Віленскі музей старажытнасцей і пры ім Віленскую археал. камісію. Яна збірала і вывучала старажытнасці, арганізоўвала раскопкі, выдавала на іх дазвол. Надрукавана некалькі тамоў «Запісак археалагічнай камісіі» і шэраг краязнаўчых прац. Першым сфармуляваў канкрэтныя задачы раскопак К.П.Тышкевіч. Ён даследаваў каля 200 курганоў, гарадзішчы і замчышчы Мінскай губ., склаў іх тапаграфічныя планы. А.Г.К. Кіркор раскопваў курганы ў Ашмянскім, Барысаўскім, Вілейскім, Навагрудскім, Мінскім паветах, класіфікаваў і датаваў археал. помнікі, паводле пахавальнага абраду вызначаў этнічную прыналежнасць нябожчыкаў. На Полаччыне курганы раскопваў К.А.Гаворскі, на Лепельшчыне — М.Ф.Кусцінскі (ім даследавана каля 100 курганоў).

Асн. прыёмамі вывучэння курганоў у сяр. 19 ст. і пазней былі раскопкі вузкай ямай («калодзежам») ці траншэяй. У 1886—94 археал. раскопкі ў Віцебскай і Магілёўскай губернях праводзіў Е.Р.Раманаў. Ён сабраў звесткі пра 1 тыс. помнікаў археалогіі, склаў шэраг археал. карт, выявіў стаянкі каменнага веку, выказаў меркаванне, што тэр. Беларусі заселена чалавекам з эпохі палеаліту. Курганы даследавалі М.М.Турбін (у Ашмянскім, Быхаўскім, Мсціслаўскім паветах, каля г. Заслаўе), Р.Г.Ігнацьеў, Г.Х.Татур (у Мінскай губ.) і інш. У.З.Завітневіч раскапаў каля 670 курганоў пераважна ў Бабруйскім, Мазырскім і Рэчыцкім паветах, паводле этнавызначальных прадметаў (металічныя зярнёныя пацеркі) абазначыў межы рассялення дрыгавічоў. Ф.В.Пакроўскі праводзіў археал. даследаванні на мяжы Літвы і Беларусі, склаў археал. карты Віленскай і Гродзенскай губерняў. В.А.Шукевіч выявіў больш за 130 помнікаў каменнага веку, раскапаў 16 курганоў і 376 каменных магіл 13—14 ст. на Гродзеншчыне. Археал. раскопкі праводзілі М.П.Авенарыус (курганы ў Браслаўскім і Навагрудскім паветах, на Магілёўшчыне), І.І.Далгоў (курганы на Полаччыне), Ф.Вярэнька (гарадзішчы і курганы на Ушаччыне), З.Глогер (помнікі каменнага веку ў Панямонні і курганы каля Ваўкавыска), І.І.Стаброўскі (курганы ў басейне Нёмана), М.Ф. Фурсаў, С.Ю.Чалоўскі (курганы на Магілёўшчыне) і інш. А.А.Спіцын зрабіў агляд археал. даследаванняў бел. губерняў, згрупаваў матэрыялы ў храналагічнай паслядоўнасці з каменнага веку да сярэдневякоўя. Вынікі археал. даследаванняў у Беларусі падсумаваў 9-ы археал. з'езд 1893 у Вільні.

Нягледзячы на пэўныя поспехі, археал. даследаванні на Беларусі ў 19 — пач. 20 ст. праводзіліся без дзярж. падтрымкі, дзякуючы энтузіязму асобных вучоных. Шырока даследаваліся пераважна могільнікі, атрыманыя матэрыялы ацэньваліся з пункту гледжання рэчазнаўства, а курганы не



*Манетны скарб з феадальнай сядзібы Лучна (раскопкі М.В.Клімава).*



*Жаночы пахавальны інвентар 11 ст. з курганнага могільніка Ізбішча Лагойскага р-на (раскопкі В.У.Казея).*

разглядаліся ў якасці гіст. помнікаў. Найб. пашыраным спосабам вывучэння курганоў у пач. 20 ст. лічыліся раскопкі 2 траншэямі (накрыж), што пры даследаваннях буйных насыпаў не дазваляла грунтоўна іх вывучаць. Характэрнай рысай археалогіі таго часу быў яе краязнаўчы характар: адсутнічаў нац. цэнтр, які б каардынаваў даследаванні, распрацоўваў перспектыўную навук. праграму і планаваў экспедыцыйныя работы. 25.3.1919 была ўтворана першая на тэр. Беларусі дзярж. археал. ўстанова — Археал. камісія пры Нар. камісарыяце асветы Літ.-Бел. ССР (ЛітБел), якая акрамя даследчых задач узяла на сябе функцыі ўліку і аховы археал. помнікаў. Аднак з прычыны акупацыі тэр. ЛітБела войскамі Польшчы летам 1919 яна не паспела разгарнуць сваю дзейнасць. Створаная ў 1921 Навук.-тэрміналагічная камісія пры Наркамаце асветы БССР правяла значную работу па выяўленні і ўліку археал. помнікаў. У 1922 яе функцыі перададзены Ін-ту бел. культуры (Інбелкульт). У 1925 пры Інбелкульце створана гісторыка-археал. камісія пад кіраўніцтвам А.М.Ляўданскага, якая пачала сістэматычнае вывучэнне археал. помнікаў. У 1927 арганізавана кафедра археалогіі, якая ў 1929 пад назвай археал. камісіі ўвайшла ў склад ІГ Бел. АН, у 1932 перайменавана ў секцыю археалогіі. У 1920—30-я г. асн. задачай бел. даследчыкаў было выяўленне новых помнікаў і папярэдняе вызначэнне іх археал. прыналежнасці. К.М.Палікарповіч выявіў і даследаваў палеалітычныя стаянкі ў Бердыжы, Падлужжы, Юравічах, помнікі мезаліту, неаліту і бронзавага веку на Дняпры, Сажы, Беседзі, Зах. Дзвіне, абгрунтаваў думку, што чалавек на тэр. Беларусі з'явіўся ў палеаліце. А.М.Ляўданскі класіфікаваў гарадзішчы ранняга жал. веку, вызначыў іх культ.-археал. прыналежнасць, акрэсліў рысы матэрыяльнай культуры, гаспадаркі і патрыярхальнага ладу плямён жал. веку, раскопваў курганы ў Мінскай, Полацкай і Аршанскай акругах, даследаваў стараж. Полацк, Заслаўе, Оршу. Ён выказаў меркаванне, што курганныя могільнікі ў раёне Полацка, Віцебска ў 8—9 ст. належалі крывічам і паводле культуры блізкія да курганоў Смаленшчыны. А.М.Ляўданскі стварыў выдатны калектыў археолагаў, які зрабіў значны ўклад у вывучэнне старажытнасцей Беларусі. С.А.Дубінскі даследаваў гарадзішчы жал. веку і курганы 11—13 ст. на Міншчыне, Магілёўшчыне, Віцебшчыне. Значны ўклад у развіццё археалогіі зрабілі А.Дз.Каваленя, І.А.Сербаў, С.С.Шутаў, М.М. Улашчык і інш. Большая частка бел. археолагаў была рэпрэсіравана ў 1930-я г. У Зах. Беларусі, якая ў 1921—39 знаходзілася ў складзе Польшчы, археал. даследаванні ажыццявілі У.Антаневіч, У.Галубовіч, Г.Цэгак-Галубовіч, Я.Савіцкі, С.Крукоўскі, Ю.Ядкоўскі, З.Шміт, З.Дурчэўскі, М.Федароўскі, Р.Якімовіч і інш. У Панямонні каля г.п. Краснасельскі былі выяўлены крэменездабыўныя шахты, зроблены першыя спробы вылучэння археал. культур, у т.л. найб. ранняй — свідэрскай. Польскімі археолагамі праводзіліся выратавальныя археал. работы на Замкавай гары ў Гродне, разведкі ў Ваўкавыску, Давыд-Гарадку, раскопкі курганных могільнікаў (Засвір, Наўры ў Мядзельскім, Падрось ў Ваўкавыскім р-нах). Пасля Вял. Айч. вайны археал. даследаванні ў Беларусі вяліся супрацоўнікамі сектара археалогіі, утворанага ў 1944 у ІГ АН БССР. Кіравалі гэтым падраздзяленнем К.М.Палікарповіч (1943—61), В.Р.Тарасенка (1961—65), В.Д.Будзько (1965—70), Л.Д.Побаль (1970—80). З 1980 сектар пераўтвораны ў аддзел, у складзе якога працуюць 2 сектары: першабытнай і сярэдневяковай археалогіі. У 1981 утвораны 3-і сектар — археалогіі зон новабудоўляў. З 1986 гэтыя сектары становяцца аддзеламі, якія ўзначальваюць Л.Д.Побаль, П.Ф. Лысенка, Г.В.Штыхаў.

Было выяўлена каля 640 помнікаў каменнага і 670 помнікаў бронзавага вякоў на Палессі, у Пасожжы і Панямонні. Працягвалася вывучэнне

*Раскопкі У.Дз.Будзько на стаянцы-1 Бердыж.*



верхнепалеалітычных стаянак Бердыж, Падлужжа (раскапана 400 $м^2$) і Юравічы (260 $м^2$). Даследаваны 30 мезалітычных помнікаў (6,5 тыс. $м^2$), 78 неалітычных паселішчаў (28 тыс. $м^2$). У Падняпроўі вывучаны 18 могільнікаў бронзавага веку, на паселішчах раскапана 5,6 тыс. $м^2$, сабраны буйныя калекцыі (больш за 150 тыс. каменных прылад, да 1200 вырабаў з рога і косці, 90 рэчаў з бронзы, фр-ты соцень арнаментаваных гаршкоў). Устаноўлена, што на тэр. Беларусі існавала 12—15 культур каменнага веку і 9 — бронзавага. Значны ўклад у вывучэнне помнікаў і культур каменнага і бронзавага вякоў унеслі К.М.Палікарповіч, У.Дз.Будзько, У.Ф.Ісаенка, М.М.Чарняўскі, У.П.Ксянзоў, А.Г.Калечыц, Э.М.Зайкоўскі, В.Ф.Капыцін, В.Л.Ліпніцкая, М.М.Крывальцэвіч і інш. Праводзіліся метанакіраваныя даследаванні помнікаў жал. веку (А.Р.Мітрафанаў, Л.Д.Побаль, К.П.Шут, В.Б.Караткевіч, В.І. Шадыра, В.С.Вяргей, А.А.Егарэйчанка, М.І.Лашанкоў і інш.). Вылучаны трывалыя этнічныя ўтварэнні гэтага часу і археал. культуры (мілаградская, паморская, штрыхаванай керамікі, днепра-дзвінская, зарубінецкая, вельбарская, кіеўская, пражская, банцараўская, калочынская). Для кожнай культуры характэрны пэўныя рысы, што праяўляліся ў спецыфіцы паселішчаў і жытлаў, формах і арнаменце глінянага посуду і інш.

У 1950—70-я г. археал. помнікі Беларусі вывучалі таксама супрацоўнікі Ін-та археалогіі СССР (цяпер Ін-т археалогіі РАН) і ЛАІА (цяпер Ін-т гісторыі матэрыяльнай культуры РАН). Імі даследаваліся помнікі эпохі неаліту і бронзавага веку (І.І.Арцёменка, Н.М.Гурына), мілаградскай (В.М.Мельнікоўская) і зарубінецкай культур (К.В.Каспарава), першабытныя і сярэдневяковыя помнікі Палесся (Ю.В.Кухарэнка), помнікі жал. веку і ранняга сярэдневякоўя зах. і паўн.-зах. Беларусі (Ф.Д.Гурэвіч, М.У.Малеўская, К.В.Паўлава), гісторыя славян (І.П.Русанава, Б.А.Рыбакоў, Г.Ф.Салаўёва, Э.А.Сымановіч, П.М.Траццякоў), гісторыя ўсх.-слав. плямёнаў і гарадоў паўн. Беларусі (Л.В.Аляксееў, З.М.Сяргеева), помнікі манументальнай архітэктуры (В.А.Булкін, М.М.Воранін, М.К.Каргер, П.А.Рапапорт і інш.). В.В.Сядоў прапанаваў тэорыю субстратнага паходжання беларусаў, паводле якой элементы бел. народнасці склаліся ў выніку славянізацыі балцкага насельніцтва Верхняга Падняпроўя і Падзвіння і змешвання славян, якія прыйшлі сюды, з балтамі (адбывалася з 7—8 да 13 ст.).

Спецыялісты вывучалі археал. матэрыялы метадамі дэндрахраналогіі (Б.А.Колчын, Н.Б.Чарных), металаграфіі (С.А.Каднікаў, Г.В.Купчанка, М.Ф.Гурын), спектральнага і хімічнага аналізу (Ю.Л.Шчапава, Д.У.Навумаў, Т.С.Скрыпчанка). Выкарыстоўваліся метады сумежных навук: палеабатанікі (А.В.Кір'янаў, Н.А.Кір'янава, З.Л.Дземіловіч, М.І.Лашанкоў, П.М.Траццякоў), палеазаалогіі (В.І.Цалкін, Е.А.Цэпкін, В.В.Шчаглова і інш.), палеапаталогіі (Л.М.Казей), антрапалогіі (Т.І.Аляксеева, В.В.Бунак, І.І.Салівон, І.У.Чаквін).

З 1960-х г. археолагі вывучаюць стараж. бел. гарады 9—13 ст., якіх вядома каля 40. Выяўлены прыкметы, якія адрознівалі горад ад сельскага паселішча. Вызначаны дакладная лакалізацыя шэрагу гарадоў, тапаграфія, тыпалогія ўмацаванняў і планіроўкі, храналогія старажытнасцей, атрыманы дадзеныя пра гасп. жыццё і матэрыяльную культуру, памеры гарадоў і абарончых збудаванняў, даследаваны гар. некропалі (В.Р.Тарасенка, Г.В.Штыхаў, Э.М.Загарульскі, П.Ф.Лысенка, В.М.Ляўко, Я.Г.Звяруга, Ю.А.Заяц, А.А. Макушнікаў, І.А.Марзалюк, Л.У.Калядзінскі, Т.С.Бубенька, Д.У.Дук). Пры даследаваннях выкарыстоўваецца пераважна метад раскопак вял. плошчамі. На помніках, дзе культ. пласт утрымлівае дрэва, па рэштках драўляных канструкцый вызначаны буд. гарызонты (ярусы), комплексы сінхронных пабудоў. Буйныя раскопкі праведзены ў Віцебску, Мінску, Полацку, Друцку, Заслаўі, Гомелі, Брэсце, Тураве, Навагрудку, Ваўкавыску, Мсціславе, Гродне. Вывучаліся і інш. стараж. гарады (усяго каля 25). Дасягненнем 1980-х г. з'явілася вывучэнне Г.В.Штыхавым археал. комплексу на б. р. Менка (пад Мінскам), які папярэднічаў Менску на Свіслачы і па сваіх памерах і значэнні не саступаў вядомаму Гняздоўскаму комплексу на Смаленшчыне. У 1982 на аснове матэрыялаў, атрыманых у выніку даследавання П.Ф.Лысенкам дзяцінца стараж. Бярэсця, быў створаны унікальны музей драўлянай забудовы 13 ст. «Бярэсце».



*Косці маманта на стаянцы-1 Бердыж (раскопкі У.Дз.Будзько).*

З сяр. 1970-х г. навукоўцамі ІГ пачалося даследаванне матэрыяльнай культуры гарадоў 14—18 ст., што адкрыла новы навук. напрамак ў археалогіі Беларусі. Помнікі позняга сярэдневякоўя ў 1970—90-я г. даследаваліся таксама археолагамі НДІ «Белрэстаўрацыя». Значны матэрыял выяўлены ў стараж. гарадах Віцебск, Гродна, Друцк (цяпер вёска), Заслаўе, Капыль, Копысь (цяпер

гар. пасёлак), Магілёў, Мінск, Мсціслаў, Орша, Полацк, Слонім, Слуцк (В.М.Ляўко, М.А.Ткачоў, Ю.А.Заяц, І.А.Марзалюк, В.Е.Собаль, С.В. Тарасаў і інш.). Для абгрунтавання датавання і характарыстыкі пластоў 14—18 ст. В.М.Ляўко на прыкладзе Віцебска распрацавала тыпалагічную і храналагічную шкалу развіцця бытавой і архіт.-дэкаратыўнай керамікі, вылучыла інш. катэгорыі рэчаў, што датуюць гэты перыяд. Пры інтэрпрэтацыі выяў на кафлі і інш. сярэдневяковых вырабах даследчыкі выкарыстоўваюць матэрыялы геральдыкі, цесна звязанай з археалогіяй, нумізматыкай, сфрагістыкай. Вывучаюцца мястэчкі і замкі, якія актыўна развіваліся ў 14—18 ст.; праведзены даследаванні ў Ашмянах, Гальшанах, Глуску, Глыбокім, Дзісне, Друі, Дуброўне, Езярышчы, Крэве, Лепелі, Лідзе, Лоску, Любчы, Мазыры, Маладзечне, Міры, Мядзеле, Нясвіжы, Смалянах, Шклове і інш. (В.М.Ляўко, А.А.Трусаў, А.К.Краўцэвіч, І.М.Чарняўскі, Ю.М.Бохан, Г.М.Сагановіч, І.У.Ганецкая і інш.).

З 1970—80-х г. надаецца ўвага вывучэнню сярэдневяковых курганных могільнікаў і вясковых паселішчаў (Г.В.Штыхаў, Л.У.Дучыц, Т.М.Каробушкіна, У.У.Багамольнікаў, А.М.Плавінскі, Я.Р. Рыер, Ю.А.Заяц, В.У.Шаблюк, А.В.Іоў, М.В.Клімаў і інш.), каменных магіл (А.В.Квяткоўская). Атрыманыя вынікі дазваляюць вызначыць матэрыяльную культуру феад. вёскі, асвятліць этнічную гісторыю насельніцтва Беларусі.




*Старажытнае Заслаўе (фрагмент археалагічнай навукова-музейнай экспазіцыі ІГ НАН Беларусі).*

З 2006 існуюць 3 аддзелы археалогіі: першабытнага грамадства, археалогіі сярэдневяковага перыяду, захавання і выкарыстання археал. спадчыны (заг. адпаведна В.Л.Лакіза, А.М.Мядзведзеў, В.М.Ляўко), якія ўваходзяць у склад Цэнтра гісторыі даіндустрыяльнага грамадства (заг. В.М. Ляўко) ІГ НАН Беларусі. У структуры аддзелаў сектары бронзавага і жал. вякоў (заг. В.І.Шадыра), навук. археал. фондаў (заг. І.М.Язэпенка), навук. рукапісны архіў (больш за 4500 адз. захоўвання) і бібліятэку (звыш 6 тыс. адз.). У памяшканнях часовага і фондавага захоўвання змешчаны сотні тысяч артэфактаў розных эпох з больш чым 1500 археал. помнікаў. Усяго па Беларусі сабраны і ўведзены ў базу дадзеных звесткі пра 3 тыс. археал. аб'ектаў.

Пры археал. аддзелах у ІГ з 1993 працуе Палявы к-т, які згодна з інструкцыяй (зацверджана ў маі 2006 Прэзідыумам НАН Беларусі) аб палявых даследаваннях ажыццяўляе выдачу дазволаў на правядзенне археал. раскопак, каардынацыю даследаванняў на тэр. Беларусі, экспертызу навук. палявых справаздач, забяспечвае выкананне норм дзеючага заканадаўства ў галіне археал. навукі.

Да 2009 па археалогіі ў ІГ было абаронена 67 кандыдацкіх і 11 доктарскіх дысертацый. У аспірантуры па спецыяльнасці «археалогія» падрыхтавана звыш 45 чал. З 1991 да 2009 у археал. падраздзяленнях ІГ працуе 40—45 штатных супрацоўнікаў. Набор у аспірантуру і суіскальнікі складае 3—5 чал. у год. Сярод супрацоўнікаў археал. падраздзяленняў 3 лаўрэаты Дзярж. прэміі Рэспублікі Беларусь (Г.В.Штыхаў, 1990; П.Ф.Лысенка і Т.М.Каробушкіна, 2002), 1 узнагароджаны медалём «За працоўныя заслугі» (В.М.Ляўко, 2008), 2 ганаровыя грамадзяніны — г. Заслаўе (Ю.А.Заяц, 1996) і г. Тураў (П.Ф.Лысенка, 2005).

Страж. помнікі на Беларусі вывучаюць выкладчыкі БДУ, Гомельскага, Гродзенскага, Магілёўскага, Віцебскага, Брэсцкага дзярж. ун-таў, Бел. дзярж. педагагічнага ун-та імя М.Танка, Полацкага дзярж. ун-та, а таксама супрацоўнікі Нац. музея і шэрагу абл. і раённых краязнаўчых музеяў. У сістэме ВНУ дзейнічаюць 3 кафедры, на якіх ажыццяўляецца падрыхтоўка спецыялістаў па археалогіі. Гэта кафедры археалогіі і спец. гіст. дысцыплін гіст. ф-таў БДУ (з 1973; заг. — Э.М.Загарульскі ў 1973—97, А.А.Егарэйчанка з 1997), Магілёўскага дзярж. ун-та імя А.А.Куляшова (з 1999; заг. — М.Ф.Капыцін у 1999—2002, І.А.Марзалюк з 2003), Гродзенскага дзярж. ун-та імя Я.Купалы (з 2001; заг. С.А.Піваварчык). Дасягненні бел. археолагаў у вывучэнні мінулага Беларусі абагульнены ў 3 тамах «Прац» (1927—30), калектыўных працах «Нарысы па археалогіі Беларусі» (ч. 1—2, 1970—72), «Беларуская археалогія» (1987), 4-томнай «Археалогіі Беларусі» (1997—2001). На матэрыялах, сабраных больш чым за 100 гадоў распрацовак у галіне бел. археалогіі, прадстаўлена цэласная карціна развіцця першабытнага і сярэдневяковага грамадства.

Сотні тысяч каменных, гліняных, металічных, касцяных, драўляных і шкляных вырабаў, адзінак зброі, твораў мастацтва, сярод якіх сапраўды унікальныя знаходкі, сталі асновай экспазіцый шэрагу музеяў краіны. У 2007 у ІГ адкрыта археал. навук.-музейная экспазіцыя, якая з'яўляецца навук. і інфармацыйна-адукацыйным цэнтрам рэспублікі.

Выпрацавана храналагічная шкала гіст. працэсаў і развіцця матэрыяльнай культуры на землях Беларусі, якая ўпісана ў агульнаеўрап. кантэкст. Устаноўлена, што першапачатковыя спробы неандэртальскага чалавека пранікнуць на тэр. Беларусі прыпадаюць на ранні (мусцьерскі) перыяд каменнага веку (100—40/35 тыс. г. назад). З'яўленне доўгачасовых паселішчаў паляўнічых на мамантаў датуецца перыядам 26—24 тыс. г. назад. Яно было звязана з пранікненнем на нашу тэр. людзей сучаснага антрапалагічнага тыпу — краманьёнцаў. Пры гэтым з-за суровых умоў ледавіковай эпохі айкуменізацыя закранала толькі Пд Беларусі.

Археал. даследаванні ПнЗ Беларусі сведчаць аб тым, што жал. век тут пачынаецца на мяжы 1-га тыс. да н.э. — 1-га тыс. н.э. Гарадзішчы культуры штрыхаванай керамікі суадносяцца з познім бронзавым векам. Знаходкі стараж. печаўдомніц (Лабеншчына Мінскага, Канькі Віцебскага, Урагава Верхнядзвінскага, Новы Болецк Гарадоцкага р-наў і інш.), аналіз структуры крычнага жалеза і стараж. рэчаў паказаў, што з'яўленне жалеза ў стараж. плямёнаў на тэр. Беларусі, як і ў інш. рэгіёнах Еўропы, стварыла магчымасці для ажыццяўлення новых тэхналагічных ідэй, прагрэсу ў галіне вытворчасці.

Насельніцтва Беларусі жыло не ізалявана, мела цесныя кантакты і сувязі з інш. народамі, адчувала і ўспрымала культ. імпульсы, якія зыходзілі з боку Прыбалтыкі, Паволжа, Прычарнамор'я і Скіфіі, а таксама ад гальштацка-латэнскіх, правінцыяльна-рымскіх культур. Матэрыялы археал. раскопак з'яўляюцца базай для рэканструкцыі гэтых працэсаў, вызначэння часу і накірунку засялення славянамі тэр. Беларусі. На новы ўзровень даследаванасці выйшлі такія культуры, як кіеўская, вельбарская, пражская і лука-райкавецкая. Эталонныя помнікі кіеўскай культуры (Адаменка, Тайманава, Новы Быхаў, Чырвоная Зорка Быхаўскага р-на) 2—5 ст. дапоўнены новымі помнікамі, якія сведчаць аб прасоўванні носьбітаў гэтай культуры на Пн (Клішына Крупскага р-на Мінскай вобл., Гарадок Віцебскай вобл.). Прадстаўлены ў сістэматызаваным выглядзе старажытнасці вельбарскай і пражскай культур у Зах. Палессі, што дазволіла больш поўна выявіць кантакты насельніцтва Беларусі з готамі, а таксама вылучыць стараж. пласт пражскай культуры, які сведчыць пра дачыненне тэр. Беларусі да прарадзімы славян. Спрэчнай застаецца этнічная прыналежнасць помнікаў калочынскай культуры, арэал яе распаўсюджання значна ўдакладнены помнікамі, даследаванымі ў Магілёўскім і Аршанскім Падняпроўі (Нікадзімава Горацкага, Вежкі Дубровенскага р-наў). Удакладнены этнічныя межы рассялення асобных усх.-слав. плямёнаў, вызначаны буферныя зоны сумеснага пражывання крывічоў з дрыгавічамі (г. Заслаўе) і з радзімічамі (Магілёўшчына). Высветлены шляхі і час пранікнення крывічоў з Пскоўшчыны ў Полацкае і Віцебскае Падзвінне.

Прасочаны шляхі ўзнікнення гарадоў у Беларусі, іх сувязь з прылеглымі сельскімі акругамі. Падведзены вынікі даследаванняў розных тыпаў умацаваных і неўмацаваных сельскіх паселішчаў, дадзена характарыстыка матэрыяльнай культуры і сацыяльнага аблічча іх насельніцтва. Вылучаны асн. прыкметы мястэчак і неўмацаваных феад. сядзіб. Устаноўлены этапы развіцця замкавага будаўніцтва Беларусі — ад велікакняжацкіх рэзідэнцый і фартэцый да сеньёральных рэзідэнцый і ўмацаваных сядзіб феадалаў на працягу 14—17 ст., бастыённых замкаў, якія потым саступаюць месца палацава-паркавым ансамблям (18 ст.). Матэрыялы археал. вывучэння перыяду 14—18 ст. сведчаць пра высокую ступень развіцця горадабудаўніцтва, фартыфікацыі, манументальнага дойлідства, удасканаленне традыцыйных слав. навыкаў у спалучэнні з найноўшымі еўрап. запазычаннямі ў розных галінах вытворчасці.

*В.М.Ляўко, Г.В.Штыхаў.*



**АБАКУ́МЫ**, археалагічныя помнікі — паселішча і курганны могільнік каля в. Абакумы Лоеўскага р-на Гомельскай вобл.

П а с е л і ш ч а за 1 км на З і ПдЗ ад вёскі, пры ўпадзенні р. Сож у Дняпро, на мысападобным выступе тэрасы Сажа і Дняпра. Выяўлена К.М.Палікарповічам у 1926. У 1998—2000 М.М. Крывальцэвіч даследаваў 320 $м^2$. Культ. пласт 0,6—0,9 м. Неалітычны перыяд прадстаўлены крамянёвымі вырабамі (нажы, скоблі, скрабкі, праколкі, рэтушоры і інш.) і керамікай. Майстры выкарыстоўвалі крэмень «сожскага» тыпу, крамянёвую сыравіну шэрага і бежавага колеру. Найб. колькасць складаюць рэшткі крэменю першаснай апрацоўкі (адшчэпы, сколы, пласціны, лускавіны, абломкі, нуклеусы і інш.). Знойдзена больш за 1 тыс. фр-таў неалітычнага посуду *днепра-данецкай культуры* з «вусеневым», лапчатым, грабеньчатым арнаментам, наколамі, ямкамі, насечкамі, круглымі ямкамі пад краем венчыка і інш., фр-ты са слядамі прыцірання ўнутранай паверхні, з грабеньчатымі расчосамі. Сярод матэрыялаў эпохі бронзы вылучаецца больш за 300 фр-таў керамікі *сярэднедняпроўскай культуры*. Пасудзіны мелі параўнальна высокія, адагнутыя вонкі шыйкі, скошаныя ўнутр краі




*Кераміка тшцінецкага культурнага кола з жытла, паселішча Абакумы.*

венчыкаў, выпуклыя тулавы і вузкія плоскія донцы. Аздаблялі лінейнымі штампамі, шнуравым, «вусеневым» арнаментам, пракрэсленымі лініямі. Асобныя фр-ты посуду сярэднедняпроўскай культуры маюць элементы арнаментальнага аздаблення, характэрнага для *культуры шарападобных амфар*. Да матэрыялаў сярэднедняпроўскай культуры адносяцца крамянёвыя вырабы (фр-ты сякер, наканечнікі стрэл, нажы і інш.). Комплекс датуецца 2-й пал. 3-га — пач. 2-га тыс. да н.э. Вылучаецца больш за 20 фр-таў шматвалікавага посуду культ. кола Бабіна позняга перыяду (2000—1700/1600 да н.э.). Пасудзіны аздабляліся невысокімі наляпнымі валікамі трохвугольнай у разрэзе формы з пазногцевымі насечкамі. Да комплексу тшцінецкага культ. кола адносіцца кераміка, крамянёвыя і каменныя вырабы, рэшткі спаленага жытла са зрубнай канструкцыяй сцен. Захаваліся сляды паўн.-ўсх. (даўж. 6 м), часткова паўн.-зах. (даўж. 4,2 м) і паўд.-ўсх. (даўж. 4,9 м) сцен пабудовы. Ва ўсх. куце выяўлены рэшткі адкрытага агнішча, у межах якога знойдзена параўнальна вял. колькасць фр-таў тшцінецкага посуду — гаршкоў, пасудзін слоікавых форм, мініяцюрных кубачкаў. Кераміка ў асн. мае характэрныя патоўшчаныя, са скошаным вонкі краем венчыкі. На шыйкі некаторых пасудзін налепліваліся валікі, наносіліся ямкі. Кераміка аздаблялася пракрэсленымі лініямі, рыскамі, наколамі і ямкамі, лінейнымі штампамі. Самы распаўсюджаны арнаментальны матыў — звісаючыя і заштрыхаваныя трохвугольнікі. Сярод знаходак: фр-ты глінянай абмазкі, рэшткі керамічных фігурак, керамічныя пацеркі. Адзначаюцца вырабы з крэменю, а таксама камяні з прышліфаванымі паверхнямі. Храналогія тшцінецкага перыяду вызначаецца 2-й пал. 2-га тыс. да н.э.

Курганны могільнік за 1 км на З-ПдЗ ад вёскі, на месцы паселішча эпохі неаліту і бронзавага веку. Уключае 26 паўсферычных насыпаў, парослых сасновым лесам, вакол іх прасочваюцца ямы-раўкі. Наяўнасць кургаНоў выяўлена ў час апытанняў, праведзеных Е.Р.Раманавым сярод мясц. насельніцтва на мяжы 19—20 ст. Могільнік упершыню даследаваў К.М.Палікарповіч (1926), пасля яго тут працавалі інш. вучоныя, у т.л. М.І.Лашанкоў (1977). У 1963 Г.Ф. Салаўёва даследавала 2 курганы, адзін з іх утрымліваў інгумацыю (трупапалажэнне) на гарызонце, з бітым кругавым посудам. У 1997—2000 А.А.Макушнікаў даследаваў 17 курганоў, у якіх пераважалі інгумацыі ў ямах. Толькі аднаразова зафіксаваны поўная і частковая крэмацыя на гарызонце і трупапалажэнне на гарызонце. У шэрагу курганоў адзначаюцца рэшткі спаленых драўляных канструкцый у выглядзе зрубаў ці слупавых збудаванняў у 1—2 вянцы. Рэшткі крэмацыі суправаджаюцца невыразнымі фр-тамі грубай раннекругавой керамікі. Жаночая інгумацыя на гарызонце ўтрымлівае шкляныя і каменныя пацеркі, металічную пацерку дрыгавіцкага тыпу, рэшткі кругавых гаршкоў. Трупапалажэнні і няпоўныя трупаспаленні арыентаваны на З, некаторыя з невял. адхіленнямі. У большасці пахаванняў прасочваюцца рэшткі драўляных (з дошак) трун. У плане яны мелі форму рам з выпускамі канцоў. Жал. цвікі не ўжываліся. У некаторых курганах пад адным насыпам пахаваны 2 і нават 3 чал. Большасць такіх пахаванняў рабілася адначасова, але ёсць і ўпускныя пахаванні (напр., рэшткі крэмацыі дапоўнены ўпускнымі інгумацыямі). Суадносіны мужчынскіх і жаночых пахаванняў прыкладна роўныя, ёсць пахаванні немаўлят разам з жанчынамі. Усе пахаванні суправаджаюцца кругавой керамікай. Звычайна ў магіле (альбо над ёй) знаходзіцца разбіты посуд (ніжнія часткі ці разнастайныя аскепкі). Шматлікія фр-ты керамікі прысутнічаюць у раўках вакол курганоў. Амаль уся кераміка мае клеймы. Пераважаюць кругападобныя кампазіцыі (акружнасці, у т.л. ўпісаныя, з кропкамі ў цэнтры, спічастыя, свастыкі і інш.). У мужчынскіх пахаваннях сустракаецца толькі кераміка. У жаночых трапляюцца ўпрыгажэнні, блізкія палянскай традыцыі Сярэдняга Падняпроўя, у ліку якіх: малыя шкляныя ці бронзавыя гузікі з вушкамі (1—3 шт.), драцяныя скроневыя пярсцёнкападобныя кольцы з самкнутымі ці загнутымі канцамі, шкляныя пацеркі, металічныя пярсцёнкі, бранзалеты і інш. Прасочваюцца рэшткі жаночых лубяных галаўных убораў, на якіх мацаваліся скроневыя кольцы. Адзін убор мог утрымліваць ад 1—2 да 20 скроневых кольцаў. Адзначаецца асіметрыя ў іх размяшчэнні па розныя бакі галавы і наяўнасць кольцаў уздоўж цела (верагодна, частка іх насілася на косах). Могільнік належаў невял. сельскаму пасяленню, выкарыстоўваўся для пахаванняў у к. 10 — пач. 13 ст. Большасць пахаванняў належыць да сяр. — 2-й пал. 12 ст. Падставай для найб. позняга датавання магіл служыць знаходка бранзалета, які з'яўляецца танным перайманнем дарагіх гар. упрыгажэнняў-наручаў. У Вял. Ноўгарадзе такія наручы з'явіліся ў самым к. 12 ст.

*Літ.*: Р о м а н о в Е.Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии). Вильна, 1910; П а л і к а р п о в і ч К.М. Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сажа (па досьледах 1926 г.) // Працы. Т. 1; К р ы в а л ь ц э в і ч М.М. Супольнасці Беларускага Палесся і лесастэпаў-стэпаў у эпоху бронзы: праблемы культурных сувязяў // Od neolityzacji do początków epoki brązu. Przemiany kulturowe w międzyrzeczu Odry i Dniepru między VI i II tys. Przed Chr. Poznań, 2001. T. 2; Я г о ж. Праблемы перыядызацыі і храналогіі эпохі бронзы на тэрыторыі Паўднёвай Беларусі // ГАЗ. Мінск, 2006. Вып. 22.

*М.М.Крывальцэвіч, А.А.Макушнікаў.*

**АБАРО́НЧЫЯ ЗБУДАВА́ННІ**, штучныя перашкоды, якія ствараліся для абароны пасяленняў, тэрыторый, асобных пабудоў і г.д. Па вартасцях, канструкцыйных асаблівасцях і выкарыстанні розных элементаў А.з. падзяляюцца на простыя і складаныя, па выкарыстанні розных матэрыялаў для іх узвядзення — на драўляныя, земляныя, драўляна-земляныя, мураваныя (каменныя, цаг-

ляныя ці каменна-цагляныя). А.з. дапаўняліся натуральнымі перашкодамі: складаным рэльефам, балотамі, вадаёмамі. Першыя А.з. — гарадзішчы — узводзілся ў раннім жал. веку (у розных рэгіёнах Беларусі з 7 ці 4 ст. да н.э.). Умацаванні гарадзішчаў уяўлялі штучна эскарпаваныя схілы ўзвышшаў і драўляныя агароджы ў выглядзе частаколаў, парканаў, у лінію якіх маглі ўключацца і глухія тыльныя сцены жылых і гасп. пабудоў. Частка гарадзішчаў умацоўвалася земляныміваламі, якія атачалі пляцоўку па ўсім перыметры, некаторыя з іх узводзіліся толькі з боку поля, дзе не было натуральных перашкод, і мелі ў плане выгляд дугі. На грабянях валоў рабіліся драўляныя частаколы альбо парканы. Асобныя гарадзішчы маюць некалькі ліній валоў і равоў, што месціліся на схілах узвышшаў і па краях пляцоўкі. А.з. існавалі таксама і вакол свяцілішчаў. У раннім сярэдневякоўі (5—8 ст.) валы рабіліся больш магутныя, а драўляныя ўмацаванні часцей утвараліся тыльнымі сценамі доўгіх шматкамерных дамоў (Нікадзімава). З пач. перыяду класічнага сярэдневякоўя (раннефеад. перыяд, 9—13 ст.) з'яўляецца прынцыпова новы тып пасяленняў — гарады, якія абавязкова мелі ў сваёй структуры ўмацаваную частку — дзяцінец, да якога прымыкалі неўмацаваныя пасады. У некаторых гарадах (Віцебск, Друцк, Мсціслаў, Пінск, Слуцк, Тураў) А.з. ўмацоўвалася частка пасада, якая такім чынам ператваралася ў вакольны горад (звычайна прымыкаў да дзяцінца). Дзеля павелічэння трываласці валоў унутры насыпаў рабіліся драўляныя канструкцыі (руставаныя ці клецевазрубныя), схілы ўзводзіліся глінай альбо пластом інш. шчыльнага матэрыялу. На верхняй пляцоўцы вала ўзводзіліся драўляныя абарончыя канструкцыі, сцены складаліся з апорных зрубных клецяў-гародняў і забарол (напаўзакрытых баявых пляцовак з брустверам і дахавым пакрыццём), якія на іх абапіраліся. Паміж асобнымі ўчасткамі сцен — прасламі — маглі знаходзіцца абарончыя вежы. Яны ўзводзіліся ўнутры А.з. (Навагрудак) ці за іх межамі (Гродна), утвараючы асобны апорны пункт абароны. На знешніх схілах валоў у якасці дадатковых перашкод рабіліся нахіленыя частаколы з бярвёнаў (Заслаўе). Разрывы ў лініі вала, прызначаныя для ўезду ва ўмацаваную частку горада альбо ў замак, абараняліся *брамай* — звычайна ў выглядзе вежы з праездам, што мела 1—3 ярусы (Мінск). Вельмі рэдкімі ў гэты перыяд былі мураваныя А.з. гарадоў. Сцены выш. больш за 5 м з цэглы-плінфы ў 12 ст. меў дзяцінец Гродна. У канцы раннефеад. перыяду ў некаторых гарадах (Камянец, Навагрудак) будуюцца мураваныя абарончыя вежы. У 2-й пал. перыяду сталі з'яўляцца феад. замкі і ўмацаваныя двары. Яны мелі пераважна пляцоўкі невял. памераў і магутныя драўляна-земляныя ўмацаванні, якія ўтваралі адзін ці некалькі паясоў абароны (Вішчын, Вусце, Шаўнёва). У познім сярэдневякоўі (14—18 ст.) з развіццём узбраення ўдасканальваліся А.з. гарадоў і замкаў. У некаторых гарадах умацоўваліся некалькі частак пасада (Віцебск, Полацк), у асобных гарадах і нават мястэчках уся тэр. ці большая яе частка абкружалася А.з. (Гродна, Любча, Мінск, Нясвіж, Слуцк, Пінск). Гал. часткі горада цалкам ці часткова ўмацоўваліся мураванымі вежамі і сценамі (Віцебск, Гродна, Навагрудак, Орша). Пачалося будаўніцтва цалкам мураваных замкаў. Раннія з іх (1-я пал. 14 ст.) адносяцца да тыпу кастэляў з вежамі, якія прыбудоўваліся знутры да сцен альбо выступалі за іх лінію вонкі (Ліда, Крэва). У к. 14—15 ст. распаўсюджваюцца новыя тыпы замкаў (канвентхаўзы), у якіх вежы выступаюць за лінію сцен, а жылое памяшканне (палац) уключаецца ў іх лінію (Гародна, Мядзель, Любча, Смальяны). А.з. некаторых замкаў уключаліся ў лінію гар. умацаванняў (Стары Быхаў). У мураваных замках распаўсюджаны элементы А.з.: байніцы, абламы, машыкулі, пад'ёмныя масты-ўзводы, а таксама герсы (у брамах). Збудаванні асобных замкаў былі цалкам драўлянымі (Радашковічы) ці спалучалі мураваныя і драўляныя элементы (Рагачоў). Падчас Інфлянцкай вайны 1558—82 будаваліся драўляныя і драўляна-земляныя замкі-фартэцы для вайсковых гарнізонаў. Дамінаванне ў познасярэдневяковых замках функцый жылля буйнога магната, як і развіццё артылерыі, выклікала неабходнасць ствараць вакол мураваных замкаў дадатковую вонкавую лінію абарончых (пераважна земляных) умацаванняў (Мір, Нясвіж), будаваць перадбрамныя ўмацаванні (Мір). У А.з. замкаў выкарыстоўваліся *рандэлі* (Геранёны), *басцеі* (Мядзел), з 2-й пал. 16 ст. і ў 17 ст. пачалі пашырацца бастыённыя ўмацаванні мураваныя (Нясвіж) і земляныя (Заслаўе, Высокае, Глуск, Каралін, Жабер), якія належалі да стара- і новаітальянскай, старафранцузскай сістэм фартыфікацыі ці спалучалі ў сабе розныя іх элементы. У познім сярэдневякоўі абарончыя элементы (*вежы*, машыкулі) выкарыстоўваліся ў асобных мураваных храмах (цэрквы ў вёсках Сынковічы і Мураванка, касцёл у в. Камаі, сінагога ў г. Быхаў) і жылых мураваных дамах (в. Гайцюнішкі).

*Літ.*: Раппопорт П.А. Военное зодчество западнорусских земель X—XIV вв. // МИА. 1967. № 140; Ткачоў М.А. Замкі Беларусі (XIII—XVII ст.). Мінск, 1977; Яго ж. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мінск, 1978; Помнікі 14—18 стст. // Археалогія Беларусі. Мінск, 2001. Т. 4.

*Ю.А.Заяц, А.А.Трусаў.*

**АБВА́РА**, рошчына на аснове пшанічнай ці жытняй мукі на вадзе ці з дабаўленнем бурачнага альбо капуснага расолу, якой абліваюць (ці апырскваюць) гарачую кераміку з мэтай яе хіміка-тэрмічнай апрацоўкі (загартоўвання). Гэта павялічвае трываласць і памяншае порыстасць чарапка глінянага кухоннага посуду, надае вырабам дэкаратыўную афарбоўку (плямы А. розных памераў і формы ці яе пацёкі маюць колер ад цёмна-карычневага да чорнага). У некаторых мясцовасцях такая кераміка называлася «гартаваная», «рабая». А. вядома з 12 ст. па матэрыялах археал. раскопак

на тэр. Панямоння, Падзвіння, цэнтр. рэгіёна Беларусі і Падняпроўя. *Н.І.Здановіч.*

**АБЛО́МСКІ** Андрэй Міхайлавіч (н. 5.8.1957, Масква), расійскі археолаг. Д-р гіст. навук (2001). Скончыў Маскоўскі ун-т (1979). З 1983 у Ін-це археалогіі РАН (да 1991 АН СССР, Масква), кіраўнік групы па вывучэнні старажытнасцей эпохі Вял. перасялення народаў у аддзеле славяна-рус. археалогіі (з 2002), вядучы навук. супрацоўнік. Асн. навук. інтарэсы: слав. этнагенез, рэканструкцыя этнічных працэсаў у к. 1-га тыс. да н.э. — 1-м тыс. н.э. на тэр. Усх. Еўропы, у т.л. ў Беларусі. Праводзіў даследаванні ў цэнтр. і паўд. рэгіёнах Расіі, Украіны, Паўн. Прычарнамор'і, Польшчы, з 1984 кіраўнік Раннеслав. экспедыцыі Ін-та археалогіі РАН.

*Тв.*: Среднее Поднепровье и днепровское Левобережье в первые века н.э. М., 1991 (разам з Р.В.Церпілоўскім); Этнические процессы на водоразделе Днепра и Дона в I—V вв. н.э. М.; Сумы, 1991; О роли позднезарубинецкого населения в сложении киевской культуры Среднего Поднепровья и Днепровского Левобережья // СА. 1992. № 1; Гапоновский клад и его культурно-исторический контекст. М., 1996 (у сааўт.); Днепровское лесостепное Левобережье в позднеримское и гуннское время (середина III — первая половина V вв. н.э.). М., 2002; Острая Лука в древности. Замятнинский археологический комплекс гуннского времени. М., 2004 (у сааўт.); Восточная Европа в середине I тысячелетия н.э. М., 2007 (у сааўт.); Памятники киевской культуры лесостепной зоны России (III — начало V в. н.э.). М., 2007 (у сааўт.).

**АБПА́ЛЬВАННЕ** к е р а м і к і, спосаб апрацоўкі ганчарных вырабаў. У Беларусі вядома з эпохі неаліту. Найб. стараж. спосаб А. керамічнага посуду — на адкрытым агні (на паверхні зямлі ці ў ямах рознай глыбіні). Стараж. посуд абпальваўся ў акісляльным і аднаўленчым газавым асяроддзі. Бурая афарбоўка чарапка сведчыць пра А. ў акісляльным (з доступам кіслароду) асяроддзі, цёмна-шэрая і чорная — у аднаўленчым (без доступу кіслароду; найб. стараж. спосаб). Аднаўленчы абпал патрабуе больш нізкіх тэмператур, патрабаванні да якасці паліва таксама менш строгія. Пры такім спосабе А. маглі выкарыстоўваць аднакамерныя закрытыя прыстасаванні (простыя печы ў паглыбленнях і інш.), якія нельга зафіксаваць археал. метадам. Для атрымання цёмнага чарапка таксама ўжываліся розныя тэхналагічныя прыёмы (задымленне і інш.). Даволі часта чарапок мае двухколерную афарбоўку, якая ўзнікае ў нявытрыманым газавым асяроддзі, часта пры А. на вогнішчах. Тэмпературы абпалу глінянага посуду пры гэтым знаходзіліся ў дыяпазоне 500—850 °С. У апошняй чв. 1-га тыс. н.э. на тэр. Беларусі стаў распаўсюджвацца пячны абпал глінянага посуду. Тэмпературы А. ў пячах таксама не перавышалі 850 °С. Толькі з 16—17 ст. посуд сталі абпальваць у спец. горнах пры тэмпературы да 1000 °С і вышэй. *Н.М.Дубіцкая.*

**АБРАЗО́К**, і к о н к а, выява аднаго або некалькіх святых у выглядзе партрэта. На тэр. Беларусі вядомы з часоў прыняцця хрысціянства. Выраблялі з каменю, металу, косці. Насілі ў асн. на шыі, радзей — у мяшэчках. Знойдзены ў час археал. раскопак у Ваўкавыску, Мінску, Навагрудку, Пінску, Полацку, Тураве і інш. На каменным А. з Полацка (сяр. 12 ст., памер 62 × 41 мм) рэльефная выява імператара Канстанціна і імператрыцы Алены, якія трымаюць перад сабой 8-канцовы крыж. А. Спаса Эмануіла знойдзены ў Пінску, выява святога пагрудная, выканана ў высокім рэльефе. На каменным А. з замчышча ў Мінску (к. 12 — 1-я пал. 13 ст.) святыя Мікола і Стафан выкананы на ўвесь рост, над імі — паясная выява Спаса Эмануіла з распасцёртымі рукамі. На падвесным бронзавым А. з Копысі выявы ў рост Барыса і Глеба. Пласцінка ад трыпціха з Ваўкавыска (12 ст.) зроблена з косці, на ёй змешчаны 3 пагрудныя выявы: зверху архангел Гаўрыіл або Міхаіл, пасярэдзіне, магчыма, Пётр, унізе — Юрый ці Пракопій; на адваротным баку — рэльефны 4-канцовы крыж з медальёнам на перакрыжаванні. У Мінску на замчышчы знойдзены двухбаковы серпенцінны А. (12—13 ст.): на адным яго баку паясная выява Маці Божай, на другім — апостала Пятра. З Турава вядомы 4 авальныя А. (13 ст.) з алавяна-свінцовага сплаву, якія, магчыма, выкарыстоўваліся для ўпрыгожвання буйных прадметаў рэлігійнага культу. На адным з іх — Маці Божая, на другім — святы з раздвоенай барадой і кнігай у руках; на думку некаторых даследчыкаў, гэта відарыс Кірылы Тураўскага.

*Літ.*: Старажытныя скарбы Беларусі. Мінск, 1971; Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 1. Мінск, 1987.

*В.Г.Пуцко, Г.В.Штыхаў.*



*А.М.Абломскі.*

**АБРА́МАВА**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і курганныя могільнікі каля в. Абрамава Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а за 2,3 км на ПдЗ ад вёскі, у лесе, ва ўр. Гарадзец. Пляцоўка акруглай формы дыям. 37—38 м, выш. 5—6 м. Умацавана 3 кальцавымі валамі выш. да 2,5 м, равамі глыб. да 2,5 м, разамкнутымі ў паўн. частцы для ўваходу. У 1966 К.П.Шут даследаваў у паўд. частцы пляцоўкі 150 $м^2$, зрабіў прарэзку валоў. У 1979 абследаваў В.І.Шадыра. Культ. пласт 0,8—1,2 м. Выяўлены рэшткі наземных пабудоў слупавой канструкцыі, абгарэлыя бярвёны абаронных збудаванняў. Знойдзены фр-ты домніц, каменныя зерняцёркі, жал. наканечнікі стрэл, шылы, некалькі касцяных рэчаў, ляпны посуд у асн. слоікападобнай формы, фр-ты посуду з сеткападобным арнаментам. Належала да *днепра-дзвінскай культуры*, датуецца 1—4 ст.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к - 1 за 0,5 км на Пн ад гарадзішча. 32 насыпы дыям. 5—7 м, выш. каля 1 м. Выявіў у 1966 К.П.Шут. У 1974—75 З.М.Сяргеева даследавала 4 курганы. Пахавальны абрад — трупаспаленне на гарызонце. Знойдзены фр-ты ганчарнага посуду 9—10 ст. Належаў *крывічам*.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к - 2 за 0,6 км на З ад вёскі, побач з шашой Полацк—Асвея.

Больш 40 насыпаў дыям. 3—4 м, выш. 0,5—1 м. Выявіў у 1966 К.П.Шут. У 1974—75 З.М.Сяргеева даследавала 9 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў падкурганных ямах галавой на З. Пахаванні адзіночныя і парныя. Выяўлены інвентар — ганчарны посуд з лінейным арнаментам і неарнаментаваны, бранзалетападобныя скроневыя кольцы з завязанымі канцамі, вітыя і шырокасярэдзінныя пярсцёнкі, пасярэбраныя і залачоныя пацеркі, бронзавыя спіральныя пранізкі. Датуецца 11—12 ст., належаў *крывічам*.

*Літ.*: Шут К.П. Городища эпохи раннего железа на северо-западе Белоруссии // Докл. к XI конф. молодых ученых Белорусской ССР. Минск, 1967; Сергеева З.М. Раскопки курганов на северо-западе Витебской области // АО 1974. М., 1975; Сергеева З.М., Савицкий М.Г. Работы на Освейщине // Там жа; Шадыро В.И. Ранний железный век северной Белоруссии. Минск, 1985; Яго ж. Беларускае Падзвінне ў I тыс. н.э. Мінск, 2006. *В.І.Шадыра.*

**АБУ́ТАК.** Першым А. для чалавека была скура жывёлы, абкручаная вакол нагі. Паводле археал. знаходак вядомы А. скураны (поршні, чаравікі, боты) і плецены (лапці). Ад сучаснага адрозніваўся адсутнасцю цвёрдых дэталей (падэшва, заднік, абцас). На тэр. Беларусі да 13 ст. найб. былі пашыраны поршні (пасталы) простыя і ажурныя, зробленыя з аднаго (пазней з 2) кавалка скуры. У поршнях па баках і ў наску праразалі дзіркі, у якія працягвалі скураны раменьчык або пяньковую вяровачку (абору) для мацавання на назе. У розных варыянтах такі А. праіснаваў (пераважна ў вясковага насельніцтва) да пач. 20 ст. Чаравікі (вядомы з 11 ст.) кроілі з 2—3 кавалкаў скуры, якія сшывалі патайным швом паміж сабой і прышывалі да падэшвы вываратным спосабам; халявы закрывалі шчыкалатку, мацаваліся раменьчыкам, прасунутым у прарэзі па верхнім краі. У 10—13 ст. з пераходам ад мяккіх тыпаў А. да цвёрдых з'явілася неабходнасць умацоўваць падэшву, якая стала шматслойнай. У 13 ст. халявы чаравікаў арнаментавалі дарожкамі з праколатых дзірачак, вышыўкай т.зв. крынамі (Віцебск, Полацк, Мінск), салярнымі знакамі (Віцебск, Полацк), геам. арнаментам (Мінск). У 14 ст. на чаравіках, як правіла, арнамент адсутнічае. У 15—16 ст. у чаравікаў паявіліся цвёрдая сцілка, абцас. Адбываўся працэс спецыялізацыі рамеснікаў. У Віцебску зафіксавана асобная «кожемятская» слабада з царквой (пач. 17 ст., Заручаўе). У 1609 у Мінску ўзнік цэх шаўцоў, які аб'ядноўваў рамеснікаў 4 спецыяльнасцей: майстроў А. чорнага (для простага насельніцтва), гусарскага, «влоскага» (італьянскага), саф'янавага (для шляхты і заможных гараджан). Шылі таксама «коркавыя» чаравікі (нагадваюць сучасныя чаравікі на платформе) на абцягнутай скурай драўлянай калодцы таўшч. 1—2 см, падбітай па перыметры цвікамі. Боты вядомы з 11 ст. Мяккія былі распаўсюджаны пераважна да 14 ст., але паступова зніклі з паўсядзённага ўжытку са з'яўленнем абцаса і наладжваннем у к. 16 — пач. 17 ст. вытворчасці цвёрдых ботаў. Халявы (звычайна выш. 20—30 см) упрыгожвалі вышыўкай ці арнаментам з геам. фігур і палосак, цісненых па вільготнай скуры. Наскі мелі закругленую форму. Лапці паводле пісьмовых крыніц вядомы з 10 ст. пад назвай «лычніцы» (плялі з лыка, пянькі, лазовай і вязавай кары, прамым і косым пляценнем). Пераважна іх насілі вяскоўцы, у гарадах сустракаліся рэдка.

*Да арт.* ***Абутак.*** *Чаравікі 15—17 ст.: Віцебск (1—6, 8—11); Гродна (7).*




*Літ.*: Шут К.П. Обувь древнего Минска: (по археол. материалам) // Вопросы истории: материалы IX конф. молодых ученых. Минск, 1965; Молчанова Л.А. Материальная культура белорусов. Минск, 1968; Собаль В., Тарасаў С. Абутак сярэдневяковага Мінска // ПГКБ. 1985. № 4; Тарасаў С.В. Арнаменты мінскіх чаравікаў // Мастацтва Беларусі. 1985. № 12.

*Л.У.Калядзінскі, С.В.Тарасаў.*

**АБУХО́ВАЯ ЗБРО́Я**, зброя бліжняга бою, якая складаецца з рукаяці і сякучай альбо ўдарнай рабочай часткі. Эфектыўнасць выкарыстання А.з. дасягалася ўзмацненнем сякучага дзеяння ці аглушальна-дробячага ўдарнага эфекту за кошт даўжыні рукаяці, якая павялічвала кінетычную энергію зброі. У Беларусі найб. стараж. А.з. прадстаўлена каменнымі свідраванымі шліфаванымі сякерамі (3-е тыс. да н.э.) і булавамі (к. 3-га — пач. 2-га тыс. да н.э.), у жал. веку — сякерамі. У стараж.-рус. час акрамя шырокага асартыменту сякер (у т.л. чаканы), выкарыстоўваліся булавы і

кісцяні. Асартымент А.з. эпохі ВКЛ складалі сякеры і чаканы, кляўцы, дубіны, булавы, перначы, кісцяні, баявыя цапы. Большасць сякер гэтага часу мелі універсальнае прызначэнне, г.зн. маглі выкарыстоўвацца і як прылады працы, і як зброя. Мела месца працяглае, да 17 ст., бытаванне сякер даўніх тыпаў, што сфарміраваліся яшчэ ў 12—13 ст. Шырокае распаўсюджанне атрымалі кляўцы, якія ў дакументах пазначаны як «kirka», «kilof», «nadziak». Клявец 14 ст. ў выглядзе сякеркі з надзвычай вузкім лязом выяўлены ў Гомелі, з дзюбападобнай баявой часткай і малаткападобным абухом — у пластах 16 ст. Крычава. У той жа час традыцыйны від А.з. — кісцяні — паступова выцясняўся з баявога ўжытку. Жал. гірка кісцяня з шыпамі, знойдзеная на помніку Лучна-1 (Полацкі р-н), датуецца 1-й пал. 16 ст.

*Літ.*: Т к а ч о ў М.А., М я ц е л ь с к і А.А. Зброя і рыштунак вершніка з раскопак Крычава // ГАЗ. Мінск, 1994. № 4; К л і м а ў М.В. Зброя, ваенны рыштунак вершніка і каня з помніка Лучна-1 // МАБ. 2001. № 3; Б о х а н Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV — канцы XVI ст. Мінск, 2008.

*Ю.М.Бохан, М.А.Плавінскі.*

**АБУХО́ЎСКІ** Віктар Сцяпанавіч (11.10.1973, в. Сялец Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл. — 4.10.2007), беларускі археолаг. Магістр археалогіі (1998). Скончыў Ін-т археалогіі Варшаўскага ун-та (1998), аспірантуру пры ім (2003). З 2004 выкладчык у БДУ. Вывучаў помнікі каменнага і бронзавага вякоў на З Беларусі. Асн. тэма навук. даследаванняў — аналіз развіцця крэменездабыўной справы і крэменеапрацоўкі (тэхналогія і тыпалогія) ад палеаліту да сучаснасці на тэр. Беларусі і суседніх краін. Даследаваў фінальнапалеалітычныя стаянкі каля вёсак Кавальцы, Хамуты (Гродзенскі р-н), Опаль (Іванаўскі р-н), Бабровічы (Івацэвіцкі р-н); мезалітычныя стаянкі каля вёсак Пышкі (Гродзенскі р-н), Бабровічы (Івацэвіцкі р-н), Кастрычніцкі, Старыя Войкавічы (Баранавіцкі р-н).

*Тв.*: Раскопкі стаянкі Бершты VI // ГАЗ. Мінск, 1999. № 14; Матэрыялы каменнага і бронзавага вякоў з ваколіц маёнтка Антонава былога Слонімскага павета // Слонімшчына вачыма навукоўцаў і краязнаўцаў: матэрыялы рэгіянальнай гіст.-краязнаўчай канф. Слонім, 2002; Этапы засялення Бабровіцкага мікрарэгіёна ў фінальным палеаліце — бронзавым веку (у сааўт.) // ГАЗ. Мінск, 2003. № 18; Першабытная гісторыя Шчучынскага раёна (разам з В.Л.Лакізай) // Краязнаўчыя запіскі. Гродна, 2003. № 5; Zabytki krzemienne i kamienne od paleolitu do wczesnej epoki żelaza z terenów Białorusi w zbiórach Państwowego Muzeum Archeologicznego w Warszawie. Warszawa, 2003.

*В.І.Кошман, В.Л.Лакіза.*

**АБЦУГІ́**, прылада працы рамесніка (каваля, слесара, сталяра і інш.), прызначаная для трымання сыравіны ці вырабаў пры іх апрацоўцы. Складаюцца з 2 металічных стрыжняў, злучаных у месцы перакрыжавання шарнірам. Кавальскія А. вядомы з жал. веку: вял. двухручныя (даўж. 24—55 см) і малыя (даўж. 15—25 см). А. ранняга сярэдневякоўя знойдзены пры археал. раскопках у Полацку, Мінску, Навагрудку, позняга — у Друі, Крычаве, Мазыры і інш. гарадах.

*М.Ф.Гурын.*

**АВА́РЫ** (грэч. Avaroi; лац. Avares), старажытны, верагодна, цюркамоўны народ. Цалкам або часткова А. атаясамліваюць з жужанямі (кітайскія жуань-жуані), якія былі вядомы ў Цэнтр. Азіі, дзе ў сяр. 5 ст. ўтварылі дзяржаву. У 552—555, пад час стварэння Цюркскага каганата, яе разграмілі цюркі-паўстанцы на чале з родам Ашына. Частка А. пазбегла знішчэння і пайшла на З, далучаючы да сабе інш. плямёны. Верагодна, гэтае аб'яднанне ў 558 уварвалася ў Паўн. Прычарнамор'е і пакарыла некаторыя мясц., у асн. качэўніцкія, групоўкі. Паводле сцвярджэння пасольства цюркаў у Канстанцінопалі, еўрап. А. — разнароднае аб'яднанне, якое толькі ўзяло сабе грознае імя азіяцкага народа.

У Еўропе А. па згодзе з Візантыяй разграмілі протабалгарскае аб'яднанне утыгураў, якое панавала ў Паўн. Прычарнамор'і (каля 560), ваявалі з франкамі (562 і 566); у саюзе з лангабардамі разграмілі і захапілі каралеўства гепідаў на прытоку Дуная Цісе і, паводле дагавору, занялі землі лангабардаў, якія пайшлі ў Італію, на правабярэжжа Сярэдняга Дуная (567—568). Так быў створаны Аварскі каганат [1-ы каган — Баян; адны з апошніх кіраўнікоў, хрысціўшыся, мелі імёны Феадор (упамянуты ў 805) і Аўрам; інш. — невядомы], які кантраляваў большую частку Карпацкай катлавіны, падпарадкаваўшы мясц. германскае, раманізаванае, слав. і інш. насельніцтва. Пасля каганат пачаў экспансію супраць Візантыі, захапіў стратэгічна важны г. Сірмій (582), у пач. 7 ст. на некаторы час устанавіў кантроль над часткай

*Да арт.* ***Абутак.*** *Туфлі 17—18 ст.: Віцебск (1—6, 8—11), Гродна (7).*



*Да арт.* **Авары.** *Перыядызацыя раменных гарнітураў, завушніц, паказальныя тыпы зброі. Познааварскі перыяд (ПА), фазы па матэрыялах могільніка Леабердорф (паводле Ф.Дайма). Сярэднеаварскі перыяд, позняя фаза па матэрыялах могільнікаў Дэндыяш і Мёдлінг (СА2), ранняя — па «княжацкім» пахаванні Кунбабонь (СА1). Ранеаварскі перыяд (РА) па матэрыялах могільніка Кёлькед-Фекетэкапу 1 і пахаваннях з манетамі к. 6 – пач. 7 ст.*



Далмацыі. Выкуп, які ён атрымліваў ад Візантыі, дасягаў 120 тыс. солідаў у год. Істотную ролю ў гэтых поспехах адыграла эфектыўнасць ваеннай арганізацыі і рыштунку А. (у т.л. прынесеных імі ў Цэнтр. Еўропу жал. страмён), мабілізацыя імі сіл падпарадкаваных груповак. Канец аварскай экспансіі быў пакладзены паражэннем аб'яднанай арміі на чале з А. ад візантыйцаў пад Канстанцінопалем у 626. Знешнепалітычныя няўдачы, унутраныя спрэчкі 630-х г., паўстанні славян (у т.л. на чале з Само ў 623) сталі прычынай крызісу і перабудовы структуры каганата, што завяршылася ў к. 7 ст. У знешняй палітыцы праводзілася асваенне паўн. далін Карпацкай катлавіны, занятых у асн. славянамі. Войны франкаў Карла Вялікага (першы паход у 791), балгар хана Крума, слав. аб'яднанняў у к. 8 — пач. 9 ст. прывялі да разгрому каганата А. Апошняе ўпамінанне аб аварскіх паслах адносіцца да 822. У Вярдэнскім дагаворы (843) згадваецца «каралеўства А.», якое належала наследнікам Карла. Паўд.-ўсх. землі каганата ўвайшлі ў склад Балгарскага царства, на некаторых тэр. узніклі слав. палітычныя аб'яднанні, з якіх частка пазней увайшла ў Вял. Маравію. З к. 10 ст. практычна ўсе землі, што некалі ўваходзілі ў каганат А., падпарадкавалі венгры і ўтварылі тут сваё каралеўства. Памяць пра А. («обраў») як мучыцеляў і волатаў, пакараных багамі за гордасць і бясследна загінуўшых, доўгі час захоўвалася ў слав. паданнях (напр., у «Аповесці мінулых гадоў»). Сведчаннем цесных кантактаў А. са славянамі з'яўляюцца знаходкі асобных рэчаў аварскага кола на гарадзішчах Верхняга Падняпроўя ў Беларусі (*Вежкі*, *Нікадзімава*) і інш.

Археал. помнікі, пакінутыя А. і падпарадкаванымі імі народамі ў Сярэднім Падунаўі, прадстаўлены ў асн. грунтавымі могільнікамі. Раскапана больш за 50 тыс. пахаванняў, у асн. па абраду трупапалажэння (трупаспаленні на зах. і паўн. перыферыі нешматлікія і звязаны з некаторымі групамі славян), вядомы пахаванні з канём ці чучалам каня і з інш. рознакульт. ці лакальнымі асаблівасцямі. Некаторыя пасяленні А. узніклі на месцы больш ранніх (у т.л. антычных). Вывучаліся селішчы з паўзямлянкамі, шматлікімі гасп. ямамі і інш. пабудовамі, у т.л. з адрэзкамі равоў (адна з інтэрпрэтацый — загоны для жывёлы); вядомы металургічныя печы, калодзежы. Вылучаюць 3 перыяды з дзяленнем на фазы (суіснуюць некалькі храналагічных схем, якія адрозніваюцца дэталямі). Помнікаў ранneаварскага перыяду (каля 568—620/640) вядома параўнальна нямнога, яны гетэрагенныя ў культ. адносінах: адметнасцю з'яўляюцца своеасаблівыя паясы з радам падвешаных рамяшкоў і гладкімі наканечнікамі, паказальны шэраг рэчаў візантыйскага і германскага кола. Вылучаюць асобую «культуру Кестхей» (асн. цэнтр на зах. узбярэжжы воз. Балатан) з характэрнымі жаночымі ўпрыгажэннямі, што маюць аналагі ў Адрыятыцы; у розных формах праіснавала да познааварскага часу. Помнікаў сярэднеаварскага перыяду (каля 620/640 — 690/710) больш; з іх раннія (у т.л. «княжацкія» тыпу Боча, Кунбабонь, багатыя пахаванні рамеснікаў тыпу Фелнак, Кунсенмартон і інш.) шэраг даследчыкаў адносіць да позняй фазы раннеаварскага перыяду, працягваючы яго да 650/670-х г. У гэты час афармляюцца і некаторыя спецыфічныя для каганата А. стылі рэчаў; у позніх комплексах з'яўляюцца шаблі, страмёны з прамой падножкай і інш. Інавацыі ў асн. у воінскай культуры (менавіта іх шэраг венгерскіх даследчыкаў пачынаючы з І.Боны адносяць да сярэднеаварскага перыяду, але гіпотэза аб сувязі гэтых помнікаў з міграцыяй балгар Кувера цяпер практычна не мае прыхільнікаў). Помнікі познааварскага перыяду (у асн. 8 ст.; падзяляюць на 3—4 фазы) найб. шматлікія, але і найб. уніфікаваныя (хаця лакальныя групы вылучаюць і сярод іх); асабліва паказальныя літыя раменныя гарнітуры ў стылі «грыфа» і «расліннага парастка». Гіпотэза Д.Ласла, які звязваў гэтыя і інш. інавацыі са з'яўленнем пасля заваявання Арпадаў новага (ўграмоўнага) насельніцтва, што вызначыла мову венграў Падунаўя, у сучасных даследаваннях не падтрымліваецца. Захаваліся нямногія руны А. Найб. познія помнікі — самыя скупыя; вылучэнне аварскіх старажытнасцей 9 ст. лічыцца спрэчным.

*Літ.*: Свод древнейших письменных известий о славянах. Т. 1—2. М., 1991—1995; Гавритухин И.О. Хронология «среднеаварского» периода // Степи Евразии в эпоху средневековья. Донецк, 2002. Т. 2; Дайм Ф. История и археология авар // Материалы по археологии, истории и этнографии Таврии. Симферополь, 2002. Вып. 9; Ягож. Авары и Византия. История любви и ненависти // Там жа. Симферополь, 2008. Вып. 14; Pohl W. Die Awaren. Ein Steppenfolk in Mitteleuropa. 567—822 n. Chr. München, 1988; Awarenforschungen. Bd. I—II. Innsbruck, 1992; Caram É. Das awarenzeitliche Gräberfeld von Tiszafüred. Cemetries of the Avar Period (567—829) in Hungary 3. Budapest, 1995; Reitervölker aus dem Osten: Hunnen+Awaren. Eisenstadt, 1996; Kiss A. Das awarenzeitlich gepidesche Gräberfeld von Kölked-Feketekapu A. Studien zur Archäologie der Awaren 5. Innsbruck, 1996; Szentpéteri J. Archäologishe Denkmäler der Awarenzeit in Mitteleuropa. Bd. 1—2. Budapest, 2002; Antaeus. Vol. 29—30. Budapest, 2008.

*І.А.Гаўрытухін.*

**АВЕНА́РЫУС** Мікалай Пятровіч (12.9.1834, г. Пушкін Ленінградскай вобл., Расія — 17.7.1903), археолаг, краязнавец, дзеяч народнай асветы, педагог. Скончыў Гал. педагагічны ін-т у Санкт-Пецярбургу. Адзін з заснавальнікаў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі (1864); у 1864—85 інспектар Александрынска-Марыінскага ін-та ў Варшаве, потым — Беластоцкага настаўніцкага ін-та. У 1885—90 раскопваў курганы ў Барысаўскім і Навагрудскім, каменныя магілы ў Бельскім і Беластоцкім паветах. Сабраў 125 каменных сякер каля в. Эсьмоны на Магілёўшчыне, калекцыю свінцовых пломб са знакамі Рурыкавічаў у Драгічыне Надбужскім; апісаў яцвяжскія страж. помнікі Віленскага музея. Аўтар артыкулаў па нумізматыцы, археалогіі, педагогіцы, пытаннях асветы. Пісаў творы для дзяцей.

*Да арт. **Агінскі канал**. Крамянёвы інвентар са стаянак Свяціца-1 (1—2), Свіды-4 (3), Свіды-2 (4—5), Свіды-5 (6—7).*




*Тв.*: Дрогичин Надбужский и его древности // Древности Северо-Западного края. Санкт-Петербург, 1890. Т. 1, вып. 1.

*Літ.*: Авенариус Н.П. [Некролог] // Ист. вестн. Санкт-Петербург, 1903. № 8; Авенариус Н.П. [Некролог] // Виленский календарь на 1904 г. Вильна, 1904.

*У.Ф.Ісаенка.*

**АГАРО́ДНІКІ**, археалагічны помнік — селішча на паўд. ускраіне в. Агароднікі Камянецкага р-на Брэсцкай вобл., ва ўр. Наданне, на левым беразе р. Пульва (прыток Зах. Буга). У 1963 В.Б.Нікіціна-Караткевіч даследавала 50 $м^2$. Культ. пласт 0,4 м. Выяўлены рэшткі жытла ў форме няправільнага прамавугольніка памерам 4,5 × 4 м, арыентаванага з ПнУ на ПдЗ. Па перыметры сцен захаваліся камяні-валуны на адлегласці 0,3—1,25 м адзін ад другога — рэшткі падмурка альбо абкладкі сцен звонку. Падлога пабудовы земляная, каля паўд.-зах. сценкі і ў паўд. куце размяшчаліся 2 ачагі ў акруглых ямах дыям. каля 0,5 м, глыб. 0,35 і 0,15 м, змесціва складалася з перапаленых камянёў і попелу. Побач з жытлом — яма з попелам. У жытле і ніжнім слоі культ. пласта сабрана больш за 100 фр-таў ляпных таўстасценных гаршкоў з храпавой паверхняй і прамымі шыйкамі, упрыгожаных па вянцах пальцавымі ўціскаинямі, а таксама фр-ты глянцаванага посуду паморскай культуры 4—3 ст. да н.э. У верхнім ворным слоі знойдзена невял. колькасць кругавога посуду 11—12 ст.

*Літ.*: Н и к и т и н а В.Б. Вновь открытые памятники поморской культуры // КСИА. 1964. Вып. 102.

*В.С.Вяргей.*

**АГІ́НСКІ КАНА́Л**, археалагічныя помнікі — стаянкі каменнага і ранняга бронзавага вякоў. Да пач. рэканструкцыі Агінскага канала у Гродзенскай вобл. ў 2006 археолагі ІГ НАН Беларусі абследавалі прылягаючую да яго тэр. ад г.п. Целяханы Івацэвіцкага р-на да паўд. берага воз. Выганашчанскае, ад паўн. берага возера да шлюза № 10 і да в. Свяціца Ляхавіцкага р-на. У выніку разведак і шурфоўкі (100 $м^2$) лакалізаваны 3 археал. помнікі з матэрыяламі каменнага веку на воз. Вулькаўскае (стаянкі-1, 2 на зах. і паселішча-3 на ўсх. берагах), знойдзены 13 розначасовых стаянак і паселішчаў на З ад в. Свяціца ва ўрочышчах Куль, Свіды, Грады, Забеседка (Куль-1, 2, 3, Свіды-1, 2, 3, 4, 5, Грады-1, 2, Свяціца-1, 2, 3). Вызначаны іх межы, асаблівасці стратыграфіі, насычанасць культ. напластаванняў артэфактамі. Знаходкі шматлікіх крамянёвых і керамічных артэфактаў дазволілі правесці папярэднюю культ.-храналагічную ідэнтыфікацыю кожнага помніка. Даследаваная тэр. была заселена на працягу 9—2-га тыс. да н.э. ў фінальным палеаліце (*свідэрская культура*), мезаліце (кудлаеўская і яніславіцкая культуры), неаліце (прыпяцка-нёманская і нёманская культуры), познім неаліце і раннім бронзавым веку (*шнуравой керамікі культура*). На стаянках Куль-1, 2, 3 праведзены раскопкі. Найб. перспектыўнымі для далейшых даследаванняў з'яўляюцца помнікі Свіды-2, 3, 5 і Грады-2.

*Літ.*: Археалагічныя даследаванні ў зоне рэканструкцыі Агінскага канала // ГАЗ. Мінск, 2007. Вып. 23.

*В.Л.Лакіза.*

**АГНІ́ШЧА**, прыстасаванне для развядзення і падтрымання адкрытага агню ў жытлах альбо па-за імі для абагрэву, прыгатавання ежы, асвятлення і абароны ад дзікіх жывёл. Падчас археал. даследаванняў вызначаецца па рэштках попелу, вугалля і змяненні колеру глебы. Канструктыўна вылучаюцца А. адкрытыя, у ямах, з каменнай ці глінянай абкладкай ці вымасткай. Рэшткі найб. старaж. А. знойдзены на стаянках перыяду ніжняга (ранняга) *палеаліту* ў Алдувайскай цясніне ў паўн. Танзаніі (Афрыка). У Беларусі вядомы з эпохі верхняга (позняга) *палеаліту* (*Бердыж*, *Юравічы*). У гэты час А. паглыбляліся ў мацярык на 0,1—0,5 м, у разрэзе былі лінзападобныя, у плане акруглыя, дыям. 1—2 м. Часам побач з А. ставілі каменныя пліты альбо абкладвалі сценку дробнымі камянямі, каб захаваць агонь ад ветру. Пазней А. заглыбляліся ў мацярык да 1 м, мелі котлападобную форму ў разрэзе. Пашыраны на помніках эпохі неаліту, бронзавага і жал. вякоў. Пачынаючы з ранняга бронзавага веку на грунтавых могільніках зафіксаваны А., якія мелі рытуальны характар і з'яўляліся структурным элементам пахавальнага абраду — крэмацыі. На помніках *банцараўскай культуры* і *пражска-карчацкай культуры* існавалі побач з печамі-каменкамі, былі паступова выцеснены імі ў раннефеад. перыяд.

*І.М.Язэпенка.*

**АГНЯСТРЭ́ЛЬНАЯ ЗБРО́Я**, ручная лёгкая зброя, з якой страляюць кулямі. У ВКЛ першая А.з. з'явілася на мяжы 14—15 ст., мела 8-гранную жал. рулю даўж. 25—50 см на доўгім і тоўстым драўляным ложы. У 15—16 ст. выкарыстоўваліся гакаўніца, а таксама больш лёгкая і кароткая ручніца. У пісьмовых крыніцах Маскоўскай дзяржавы гакаўніца называлася пішчаллю зацiннай, ручніца — пішчаллю ручной. На мяжы 16—17 ст. пачалі выкарыстоўвацца мушкеты і аркебузы (выраблялiся ў Вільні). З к. 17 ст. ў войску ВКЛ вядома новая зброя з крамянёвымі замкамі (кароткія карабіны, флінты). Да 18 ст. гал. зброяй пяхоты сталі кнотавыя мушкеты, конніца мела пісталеты і аркебузы.

*Літ.*: Т а р а с ю к Л.И. Из истории русского ручного огнестрельного оружия XVI—XVII вв. // СА. 1965. № 2; Б о х а н Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы X — канца XVI ст. Мінск, 2002. *Г.М.Сагановіч.*

**АДА́МАЎКА**, археалагічныя помнікі — курганныя могільнікі *дрыгавічоў* каля в. Адамаўка Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл. За 1,5 км на У ад вёскі. У 2 могільніках было 70 насыпаў (не захаваліся). У 1890 У.З.Завітневіч даследаваў 9 курганоў выш. 1,5—1,6 м, дыям. 9—10 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З на гарызонце, у 3 насыпах пахаванні ў ямах глыб. 0,7 м, у адным — трайное пахаванне галавой на У. У 6 насыпах выяўлены рэшткі трун. Знойдзены залатая завушніца, віты пярсцёнак, пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы, шкляныя пацеркі, жал. нажы, крэсіва, спражка, гліняныя гаршкі. Датуецца 11 — пач. 12 ст.

*Літ.*: Л ы с е н к о П.Ф. Дреговичи. Минск, 1991.

**АДА́МЕНКА**, археалагічныя помнікі — селішчы і могільнікі каля в. Адаменка Быхаўскага р-на Магілёўскай вобл.

С е л і ш ч а - 1 за 0,5 км на У ад вёскі, на левым беразе р. Адаменка, ва ўр. Абідня. У навук. літаратуры вядома як селішча Абідня. Размешчана на 3 пясчаных узгорках выш. 2—4 м. Памеры 270—330 × 550—580 м. Л.Д.Побаль у 1960, 1962, 1964—67 даследаваў 16 404 $м^2$. Культ. пласт 0,15—0,35 м (у ямах да 1,1 м). Выяўлены 29 паўзямлянак і рэшткі наземных слупавых пабудоў рознага прызначэння. Паўзямлянкі квадратнай ці прамавугольнай формы, пл. 6—16 $м^2$, заглыблены ў мацярык на 0,2—0,9 м. Агнішчы знаходзіліся ўнутры жытлаў або за іх межамі, часткова ў ямах глыб. 0,2 м, дыям. 0,75 м. У паўзямлянцы № 29 знойдзены рэшткі глінабітнай печы падковападобнай формы. Частка пабудоў мела зрубную канструкцыю сцен, некаторыя былі з каркасна-плятнёвымі сценамі, уздоўж якіх зафіксаваны ямкі дыям. 0,2—0,3 м, глыб. да 0,7 м і гліняная абмазка з адбіткамі прутоў. Паўзямлянка № 27 пл. 3,36 $м^2$ без ачага аднесена да гасп. пабудоў. Кераміка грубаляпная гладкасценная (80,8%), з расчосамі (11,5%), штрыхаваная (5%) і глянцаваная (2,7%). Прадстаўлена карчагамі, гаршкамі, міскамі, мініяцюрнай пасудзінай, стопкамі і дыскамі. Знойдзены гліняныя праслiцы, грузікі, пацеркі, формы для адліўкі бронзавых упрыгажэнняў, тыглі і льячкі. Шмат вырабаў з жалеза: прылады працы (нажы, сярпы, іголкі, шылы, крэсівы, нажніцы, вастрыі, фр-ты ляза сякер і інш.), зброя (наканечнікі стрэл, утулка кап'я), упрыгажэнні і дэталі адзення (посахападобныя шпількі, падвязныя арбалетападобныя фібулы, паясныя спражкі, розныя кольцы). Бронзавыя рэчы: 4 лунніцы і круглая фібула-брошка з чырвонай эмаллю, 1 фр-т лунніцы без эмалі, трапеца- і вочкападобныя падвескі, посахападобныя шпількі, бранзалет, скроневыя кольцы, гузікі, пранізкі, пласцінкі, ланцужкі. Знойдзены пацеркі з аднакаляровага шкла (чырвоныя з глухога шкла, золаташкляныя, жоўтыя, зялёныя, сінія, блакітныя, чорныя, белыя), паліхромныя з перыстым і разеткавым арнаментам і бурштынавыя. Цікавыя знаходкі антычнага рымскага імпарту: манета Геты, выбітая ў 209—212 у г. Аўгуста-Траяна (цяпер балгарскі г. Філінопаль), чырваналакавая кераміка, бронзавая ручка ад куфра. Датуецца к. 2 — пач. 4 ст. Л.Д.Побаль адносіў помнік да позняга этапу *зарубінецкай культуры.* Большасць даследчыкаў




***Шкляныя і паставыя пацеркі (1—13, 19—23), бронзавыя лунніцы з эмалямі і фібула (14—17), прасліца з чырваналакавага посуду (18) з селішча-1 Адаменка.***




*Бронзавыя ручка ад куфэрка (1), трапецападобная падвеска (2), жалезнае крэсіва з кручком (3) з селішча-1* ***Адаменка.***

звязваюць гэтыя старажытнасці з верхнеднепроўскім варыянтам кіеўскай культуры Беларусі, за якім замацавалася назва — помнікі тыпу Абідня.

Б е с к у р г а н н ы  м о г і л ь н і к на тэр. селішча-1. 11 пахаванняў з трупаспаленнем даследаваў у 1960, 1962 Л.Д.Побаль. Круглыя ямы дыям. 0,45—1,05 м, авальныя памерамі 1—1,4 × 0,7—0,8 м. Глыб. пахаванняў 0,17—0,3 м. 8 пахаванняў мелі розную колькасць фр-таў керамікі. У адным знойдзена некалькі фр-таў посуду, праслiца, бронзавая трапецападобная падвеска, жал. посахападобная шпілька і золаташкляная пацерка, у трох — косткі жывёл. 3 пахаванні — безынвентарныя. Могільнік датуецца 3 ст., магчыма, ахоплівае к. 2 ст. і пач. 4 ст.

С е л і ш ч а - 2 на правым беразе р. Дняпро, паміж урочышчамі Абідня і Радышава гара, за 0,5—0,8 км на Пд ад селішча-1. Даўж. каля 0,5 км. Абследаваў у 1965 Л.Д.Побаль.

С е л і ш ч а - 3 за 0,5—0,7 км на Пд ад селішча-2. Памеры 200 × 300 × 50 м. Абследаваў у 1965 Л.Д.Побаль. На селішчах-2 і 3 знойдзена ляпная кераміка 1-га тыс. і кальцынiраваныя косці.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к на правым беразе р. Адаменка, у лесе. 10 насыпаў. У 1964 Л.Д.Побаль даследаваў 1 курган дыям. 5 і выш. да 0,6 м. Сярод знаходак: рэшткі ляпных пасудзін, абпаленай гліны, камяні, попел. За 20—30 м ад кургана знойдзены спаленыя косці чалавека.

*Літ.*: П о б о л ь Л.Д. Поздний этап зарубинецкой культуры // Очерки по археологии Белоруссии. Минск, 1970. Ч. 1; П о б о л ь Л.Д., И л ь ю т и к А.В. Жилища второй четверти 1 тысячелетия н.э. из поселения Абидня (по материалам раскопок 1960 г.) // МАБ. 2001. № 3; І х ж а. Жилища второй четверти 1 тысячелетия н.э. из Абидни (по материалам раскопок 1962, 1965, 1966 гг.) // Там жа. № 5; І х ж а. Могильник Абидня в Верхнем Поднепровье // Там жа. 2003. № 8.

*А.У.Ільюцік, Л.Д.Побаль.*

**АДАНТАЛО́ГІЯ** [ад грэч. odus (odontos) зуб + logos слова, вучэнне], раздзел антрапалогіі, які вывучае зубную сістэму сучаснага і выкапнёвага чалавека ў анатамічным, эвалюцыйным і раса-ва-генетычным планах. А. карыстаецца вымяральнымі і апісальнымі метадамі. У стараж. Егіпце, Індыі і інш. дзяржавах існавала стаматалагічнае лячэнне і пратэзаванне зубоў, аб чым сведчаць знойдзеныя ў егіпецкіх і этрускіх грабніцах зубныя пратэзы. У 19 ст. зарадзіліся новыя накірункі А., зубы пачалі вывучаць у эвалюцыйным працэсе. Даследуюцца іх паходжанне, зменлівасць у філагенезе і ў індывідульным плане. З'явіліся асобныя працы, прысвечаныя расавым адрозненням у будове зубоў (М. де Тэра, А.Грдлічка, В.М.Батуеў і інш.). У 20 ст. сав. вучоным А.А.Зубавым удакладнена методыка і прапанавана праграма адантлагічных даследаванняў насельніцтва СССР. Метады А. дазваляюць выпрацаваць крытэрыі расавых і ўзроставых адрозненняў, рэканструяваць асн. заканамернасці расагенезу, этнагенезу і напрамкі міграцый чалавека. Расследаванні зменлівасці зубной сістэмы стараж. чалавека ў Беларусі праводзяць В.В.Гатальскі, Л.І.Цягака, В.В.Цягака і інш.

*Літ.*: Б е т е л ь м а н А.И. Ортопедическая стоматология. М., 1965; З у б о в А.А. Одонтология. Методика антропологических исследований. М., 1968; Этническая одонтология народов СССР. М., 1973; Т е г а к о Л.И., М а р ф и н а О.В. Практическая антропология. Ростов-на-Дону, 2003; Беларусы. Т. 9. Антрапалогія. Мінск, 2006.

*Л.І.Цягака.*

**АДБІ́ТКІ ЗЯРНЯ́Т**, рэшткі раслінных дамешак у кераміцы часоў неаліту, бронзавага і ранняга жал. вякоў. Вывучэнне ляпной керамікі з мэтай ідэнтыфікацыі ўключэнняў насення раслін з дапамогай метадаў біялагічных навук — адзін з накірункаў археабатанікі. Ганчары наўмысна падсыпалі ў глінянае цеста, падрыхтаванае для лепкі посуду, разнастайныя арганічныя дамешкі, у т.л. расліннага паходжання. У раннім жал. веку ў якасці штучных абястлушчвальнікаў выкарыстоўвалі зерне збожжавых—мяккай альбо цвёрдай пшаніцы, ячменю, проса, з бабовых — гароху і бобу. Разам з насеннем культурных раслін у фармавое цеста трапляла і пустазелле. Яно прадстаўлена адбіткамі мышэя зялёнага і нізкага, жыта, куколю звычайнага, драсёна звычайнага і павойнага. У працэсе абпалу ляпнога посуду на звычайным вогнішчы пры тэмпературы 450—750 °С зярняты выгаралі, утвараючы пустоты-адбіткі. Уключэнні зярнят у посудзе насельніцтва мілаградскай культуры складаюць 0,5—2,5% (гарадзішчы Атрубы, Асарэвічы, Гарошкаў, Ліпнякі, Ліскі, Рассвет, Старакраснае, Чорнае, Чырвоная Горка, Ястрабка). Падобная з'ява зафіксавана на помніках *днепра-дзвінскай культуры* (гарадзішчы Крывель, Новае Сяло, Эсьмоны), *культуры штрыхаванай керамікі* (гарадзішчы Паліцкае, Прылепы, Пятровічы, Сарачы, Старыя Юркавічы, Шчаткава) і *зарубінецкай культуры* (гарадзішча Чаплін, селішчы Давыд-Гарадок, Рамель, Струга 1, Хотамель, могільнікі Атвержычы, Чаплін).

*Літ.*: Л а ш а н к о ў М., Т р а ц ц я к о ў Д. Палеаэтнабатанічныя даследаванні матэрыялаў з помнікаў

ранняга жалезнага веку паўднёва-ўсходняй Беларусі // ГАЗ. Мінск, 2005. № 20; І х ж а. Археабатанічныя матэрыялы жалезнага веку ў зборы Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі // ААА. 2007. № 1; Л о ш е н к о в М.И. Археоботанические материалы с зарубинецкого селища Хотомель // Ботаника (исследования): сб. науч. тр. Минск, 2008. Вып. 35; Я г о ж. Новые материалы по земледелию у населения милоградской культуры // Там жа. Мінск, 2009. Вып. 37.

*М.І.Лашанкоў.*

**АДБО́ЙНІК**, прылада для апрацоўкі каменю, інструмент, які дазваляў вырабляць інш. віды каменных прылад шляхам сколвання. Прыкметамі А. лічацца сляды ад udараў у выглядзе шчарбін і ямак на яго пукатай рабочай паверхні. У палеаліце ў якасці А. выкарыстоўвалі рачную гальку, жаўлакі крэменю шара-, яйца- і пальцападобнай формы. У неаліце з'явіліся А. з дзяржаннем, зробленым абіўкай на канцы крамянёвага жаўлака; у Краснасельскіх крэменеапрацоўчых майстэрнях Ваўкавыскага р-на мелі трохвугольную сегментападобную поліэдрычную форму, даўж. 5—13 см, шыр. 3,5—11 см, таўшч. 2,1—8,5 см, масу 0,1—0,9 кг. Ужываліся пры расколванні крэменю, счэсванні з яго жаўлачнай скарынкі, вырабе нуклеусаў, адбіўцы адшчэпаў і пласцін, якія з'яўляліся нарыхтоўкамі для прылад працы.

*Літ.*: С е м е н о в С.А. Первобытная техника // МИА. 1957. № 54; Я г о ж. Развитие техники в каменном веке. Ленинград, 1968; Я г о ж. Производство и функции каменных орудий // Каменный век на территории СССР. МИА. 1970. № 116.

*І.М.Язэпенка.*

**АДЗЕ́ННЕ**, штучнае покрыва цела чалавека; у шырокім сэнсе ўключае галаўныя ўборы, абутак і інш. Агульны выгляд А. залежыць ад прыродна-кліматычных умоў, відаў і спосабаў гасп. дзейнасці, нац. традыцый, узроўню развіцця вытворчых сіл, маёмасна-прававых адносін, этычных поглядаў і патрабаванняў. Выконвае эстэтычную, магічную і абрадавую функцыі. Мае адрозненні ў залежнасці ад полу, узросту, сямейнага становішча, саслоўнай, этнічнай і рэлігійнай прыналежнасці, роду заняткаў і службовага становішча. Паводле археал. даследаванняў А. са скур звяроў вядома з часоў палеаліту. У эпоху неаліту пачалі вырабляць вопратку з тканіны. Па знаходках упрыгажэнняў даследчыкі мяркуюць, што А. прадстаўнікоў днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур нагадвала балцкі і зах.-еўрап. (гальштацкі) касцюм, мілаградскай культуры — касцюм скіфаў. З 9—13 ст. захаваліся рэшткі льняных, пераважна белых, пяньковых, шарсцяных (гарады Заслаўе, Мінск, Полацк, вёскі Псуя і Чарневічы Глыбоцкага, Сакольнікі Віцебскага р-наў) і шаўковых (гарады Гродна, Давыд-Гарадок, Мінск) розных колераў тканін. У эпоху сярэдневякоўя асн. прадметам А. была тунікападобная кашуля. Мела круглы, чатырохвугольны або косы выраз каўняра, які аздабляўся вышыўкай ніткамі, пацеркамі, бронзавымі пранізкамі (г. Браслаў, в. Кублішчына Міёрскага р-на) або тасьмой (г. Гродна). Кашулі часта зашпільваліся фібуламі, гузікамі, завязваліся шнурком. Знойдзены жаночыя кашулі са стаячым шаўковым каўняром з вышыўкай (в. Лісна Верхнядзвінскага р-на). Доўгая кашуля жанчын дапаўнялася спадніцай, панёвай, андаракам, пашытымі з 3—6 полак, часта адкрытымі спераду альбо збоку, з рознакаляровай даматканай шарсцяной ці паўшарсцяной тканіны ў клетку або палоску. У мужчын кашуля спалучалася з порткамі. Верхняе А. (світы, плашчы, вілайнэ, кажухі, футры) насілі і мужчыны, і жанчыны. Яго шылі з цёплай тканіны або з аўчыны (кажухі) жоўта-карычневага, вохрыста-цаглянага, зрэдку белага колеру (г. Заслаўе, в. Чаркасова Аршанскага р-на). На Пн і ў цэнтр. частцы Беларусі мужчыны і жанчыны насілі наплечныя пакрывалы з шарсцяной і льняной клятчастай сіняй альбо цёмна-карычневай тканіны; па краях іх упрыгожвалі



*Работа адбойнікам.*



*Адбойнік.*

бронзавымі спіральнымі пранізкамі, вышыўкай, махрамі. А. заўсёды падвязвалася поясам з тканіны, плеценым, скураным са спражкамі або фібуламі.

Упрыгажэнні на А. мелі этнічныя адрозненні: крывічанкі насілі бранзалетападобныя, радзімічанкі — сяміпрамянёвыя, дрыгавічанкі — пярсцёнкападобныя з зярнёнымі меднымі пацеркамі скроневыя кольцы. Знаць шыла вопратку з больш дарагіх, часта прывазных тканін, упрыгожвала яе вышыўкай залатымі ніткамі, каштоўнымі камянямі. Доўгія рукавы жаночых кашуль сцягвалі бранзалетамі. Паверх кашулі апраналі кароткую сукенку з шырокімі кароткімі рукавамі, падпяразаную залататканым поясам. Зверху пакрываліся доўгім плашчом, які зашпільваўся на правым плячы. *Л.У.Дучыц.*

**АДКРЫ́ТЫ ЛІСТ**, дазвол (з 1992), афіцыйны дакумент, які выдаецца навуковымі ўстановамі на права правядзення даследчыкамі археал. разведак і раскопак. Усе самавольныя аматарскія доследы, звязаныя з пашкоджаннем помнікаў, забаронены.

У Беларусі першы А.л. (грамату) атрымаў 14.12.1818 А.Чарноцкі (З.Я.*Даленга-Хадакоўскі*). Напісаны ён на пергаменце на рус., лац. і польскай мовах, падпісаны рэктарам Віленскага ун-та; зберагаецца ў Мінскім абл. краязнаўчым музеі ў Маладзечне. У Рас. імперыі самавольныя раскопкі стараж. помнікаў былі забаронены царскім указам 1846. У СССР з 1971 дзейнічаў закон аб ахове помнікаў гісторыі і культуры.

У Беларусі ўсе археал. помнікі — гарадзішчы, курганы, рэшткі архіт. і культавых збудаванняў, умацаванняў, каменныя выявы (ідалы, крыжы) і г.д. — складаюць гісторыка-культ. спадчыну краіны і з'яўляюцца ўсенар. багаццем, знаходзяцца пад аховай дзяржавы. Гэтыя помнікі даследуюцца ўстановамі (навук. і навук.-рэстаўрацыйнымі, ВНУ, музеямі і дзярж. органамі, дзе ёсць спецыялісты-археолагі), якія атрымалі А.л. на права вядзення палявых работ. А.л. выдаюцца ІГ НАН Беларусі (пасля разгляду заяўкі, пададзенай не пазней як за 2 тыдні да пачатку работ) паводле інструкцыі, распрацаванай у адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны» (2006), «Палажэннем аб ахове археалагічных аб'ектаў пры правядзенні земляных і будаўнічых работ» (прынята Пастановай СМ Рэспублікі Беларусь ад 22.5.2002). Рэгіструюцца Упраўленнем па ахове гісторыка-культ. спадчыны і рэстаўрацыі Мін-ва культуры Рэспублікі Беларусь. Адмовіць выдаць А.л. могуць у тым выпадку, калі ён ужо выдадзены інш. асобе альбо прэтэндэнт на атрыманне дакумента не мае адпаведнай навук. кваліфікацыі. У А.л. ўказваецца пасада, месца працы, прозвішча даследчыка, назва адміністрацыйнага пункта і аб'екта, дзе вядуцца археал. работы, віды работ (раскопкі, шурфоўка, назіранне, разведачнае даследаванне). Перадаваць права работ інш. асобе забараняецца. У залежнасці ад характару даследаванняў выдаюць А.л. 4 форм: формы 1 — на права выкапання раскопак і разведак; формы 2 — на права вядзення разведак з абмежаваным (да 24 $м^2$ на помніку) ускрыццём невял. участкаў паселішчаў і грунтавых могільнікаў; формы 3 — на права правядзення разведак без якіх-небудзь земляных работ; формы 4 — на права ахоўных даследаванняў (назіранне і тэрміновыя раскопкі) помнікаў, якія знаходзяцца ў аварыйным стане ці ў зоне буд. работ. Пасля завяршэння палявых работ і камеральнай апрацоўкі рэчавых матэрыялаў даследчык абавязаны падрыхтаваць навук. справаздачу па выніках палявых даследаванняў і прадставіць яе ў ІГ НАН Беларусі; ён нясе персанальную адказнасць за захаванне гісторыка-культ. спадчыны, фіксацыю і захаванне знаходак у адпаведнасці з палявым вопісам да іх перадачы на пастаяннае захоўванне ў музей ці навук. археал. фонды ІГ НАН Беларусі.

*Літ.*: Кохановский Г.А. Открытый лист З.Доленги-Ходаковского // Белорусские древности. Минск, 1967; Левко О.Н. Практическая археология. Могилев, 2006.

*Адціскальнік.*



**АДЦІСКА́ЛЬНІК**, прылада для ручной апрацоўкі каменю ў тэхніцы адціскання. Матэрыялам для А. з'яўляліся камяні розных парод, рогі, косці і біўні. Прыкметы А. — заломы альбо ямкі на пукатай рабочай паверхні, якія ўзнікалі пры націсканні на край загатоўкі. У *палеаліце* каменныя А. рабіліся з плітак і гальгі, спрацаваных нуклеусаў, адшчэпаў, зламаных прылад, касцяныя — з трубчастых костак. У мезаліце вядомы А. з крамянёвых шпянёў даўж. 6—7 см. У *неаліце* каменныя і касцяныя А. набываюць чатырохвугольную ці акруглую у папярочніку форму, даўж. 6—7 см, шыр. да 1—3 см, таўшч. да 0,7 см. Выкарыстоўваліся на

стадыі апрацоўкі, калі тонкія лускі аддзяляліся пры рэтушаванні каменных прылад працы.

*Літ.*: С е м е н о в С.А. Первобытная техника // МИА. 1957. № 54; Я г о ж. Развитие техники в каменном веке. Ленинград, 1968; Технология производства в эпоху палеолита. Ленинград, 1983. *І.М.Язэпенка.*

**АДШЧЭ́П**, асколак, аддзелены адбойнікам ад кавалка крэменю або крамянёвага нуклеуса першабытным чалавекам каменнага і бронзавага вякоў. А. бываюць рознай формы і памераў з ударнай пляцоўкай, пукатасцю ад удару адбойнікам і 2 плоскасцямі: спінкай (са слядамі раней зробленых сколаў або без іх) і брушкам (са слядамі ўдарнага злому). Выкарыстоўваліся першабытнымі людзьмі для вырабу прылад працы (нажы, сярпы). *А.У.Коласаў.*

**АЗДЗЯ́ЦІЧЫ**, археалагічны помнік — гарадзішча культуры позняй штрыхаванай керамікі каля в. Аздзяцічы Барысаўскага р-на Мінскай вобл. За 1 км на ПдЗ ад вёскі, на высокім карэнным беразе р. Бярэзіна. Займае мыс, утвораны глыбокімі ярамі, якія спадаюць у забалочаную пойму. Пляцоўка авальная, памерамі 30 × 50 м. Адкрыў у 1931 А.М.Ляўданскі. У 1958 А.Р.Мітрафанаў даследаваў 264 м². Выяўлены рэшткі 2 жытлаў, заглыбленых у зямлю на 0,15—0,3 м. Пл. аднаго жытла 17, другога — 26 м². Знойдзены фр-ты ляпнога глінянага посуду, гліняныя праслiцы, грузікі, жал. наканечнікі коп'яў, абломак нажа, малыя сярпы, рыбалоўны кручок. Датуецца 1 ст. да н.э. — 1 ст. н.э.

*Літ.*: М и т р о ф а н о в А.Г. Железный век средней Белоруссии. Минск, 1978. *А.А.Егарэйчанка.*

**АЗЁРЫ**, археалагічныя помнікі — стаянкі і селішча каля в. Азёры Гродзенскага р-на. Вядомы з к. 19 ст. Стаянку-1 выявіў у 1958 Л.С.Клейн. Стаянкі-2, 3, 4 і селішча даследаваў у 1972, 1986 Міх.М.Чарняўскі.

С т а я н к а - 1 за 3 км ад вёскі, на паўн.-зах. беразе воз. Рыбніца, на пясчаным плато выш. 5 м над узроўнем вады. Памеры 250 × 120 м. Верхняя частка культ. пласта разараная. Пераважная большасць знаходак — пласціністыя крамянёвыя вырабы (нажы, лістападобныя наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі, скоблі, рэтушаваныя разцы і інш.) фінальнага палеаліту і мезаліту, адзінкавыя рэчы бронзавага веку.

С т а я н к і - 2, 3, 4 за 0,8—1 км на Пд ад стаянкі-1, на адлегласці 0,2—0,5 км адна ад адной. Найб. значная з іх — стаянка-4 на ўзгорыстым выгіне зах. берага возера. Яе памеры 140 × 50 м. Культ. пласт да 0,5 м. Сярод знаходак крамянёвыя прылады працы, фр-ты глінянага посуду неалітычнай *нёманскай культуры*, кераміка бронзавага веку.

С е л і ш ч а за 0,1 км на ПдЗ ад стаянкі-4, на ўзгорку прыазёрнага балота. Памеры 60 × 60 м, выш. 1,5 м. Культ. пласт да 0,5 м. Знойдзены ганчарная кераміка позняга сярэдневякоўя, перапаленыя камяні ад печаў. Нешматлікія расшчэпленыя крамяні сведчаць, што ў каменным веку тут знаходзілася невял. стаянка. Помнік пашкоджаны пры ўзвядзенні дачных будынкаў. На ПдЗ ад селішча, за вусцем меліяраванай рэчкі, на ўзвышэннях паўн. берага зах. азёрнай затокі сустракаюцца стаянкі каменнага веку.

*Літ.*: И с а е н к о В.Ф. Археологическая карта Белоруссии. Вып. 1. Памятники каменного века. Минск, 1968; Я г о ж. Археологическая карта Белоруссии. Вып. 3. Памятники бронзового века. Минск, 1976. *Міх.М.Чарняўскі.*



***Работа касцяным адціскальнікам.***

**АЗЯРА́НЫ**, археалагічныя помнікі — гарадзішча, курганныя могільнікі каля в. Азяраны Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а мілаградскай і зарубінецкай культур на паўн. ускраіне вёскі, на ўзвышшы левага берага р. Друць. Пляцоўка памерамі 27,5 × 18 м, выш. 8—9 м. З Пд, Пн і З умацавана 3 валамі (адзін выш. да 1,5 м, другі — да 0,9 м, трэці — да 0,7 м) і 2 равамі (глыб. 0,5—2 м). Абследавалі ў 1888 Е.Р.Раманаў, у 1976 А.Р.Мітрафанаў. Культ.



***Адшчэпы.***

пласт 0,25 м. Знойдзены фр-ты ляпнога глінянага посуду.

М о г і л ь н і к - 1 *дрыгавічоў* за 1 км на З ад вёскі, у лесе. 56 насыпаў выш. 2,5—4 м, дыям. 6—17 м. У 1888 Е.Р.Раманаў даследаваў 1 курган. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў дамавіне. Пахавальны інвентар — вітыя завушніцы, 8 бронзавых спіральных кольцаў, 81 біпірамідальная пацерка з пазалотай, прамавугольная падвеска з выявай Багародзіцы, кольцападобная падвеска са спіцамі. Датуецца 11—12 ст.

М о г і л ь н і к - 2 за 1,5 км на Пд ад вёскі, у лесе. 39 насыпаў выш. 3 м, дыям. 5—14 м. Абследавалі ў 1888 Е.Р.Раманаў, у 1976 А.Р.Мітрафанаў.

**АЗЯРНО́Е**, археалагічныя помнікі — паселішчы каменнага, бронзавага і жал. вякоў каля в. Азярное Любанскага р-на Мінскай вобл., на воз. Вячэра. Выявіў і даследаваў у 1985—91 М.М.Крывальцэвіч.

П а с е л і ш ч а - 1 за 0,7 км на З ад вёскі, на пясчаным узвышшы (памеры 250 × 150 м, выш. да 4,5 м) каля воз. Вячэра, ва ўр. Дубное. На выдме паўн.-зах. часткі пагорка знойдзены крамянёвыя вырабы, фр-ты посуду эпохі бронзы і жал. веку. Тэр. выдмы даследавалася пакваадратнымі паверхневымі зборамі на пл. 548 $м^2$. Вылучаецца комплекс матэрыялаў *кудлаеўскай культуры* мезалітычнага перыяду 8—5-га тыс. да н.э. Раскопы і шурфы пл. каля 800 $м^2$ закладаліся на паўд.-зах. і зах. ускраіне ўзвышша. На пляцоўцы памерамі 145 × 95 м выяўлены рэшткі паселішчаў каменнага, бронзавага і жал. вякоў. Культ. пласт 0,6 м. Знойдзены крамянёвыя прылады (нажы, скрабкі, скоблі, праколкі, разцы, адбойнікі, рэтушоры, наканечнікі стрэл і інш.), кераміка ўсх.-палескага варыянта *днепра-данецкай культуры* з элементамі *нёманскай неалітычнай культуры*. Посуд вастрадонны з пукатым, часам рабрыстым тулавам, адагнутымі вонкі венчыкамі. Аздабленне: грабеньчатыя штампы, наколы, насечкі, лініі, «вусеневыя», лапчастыя, вузельчатыя, шнуравыя адбіткі. Для перыяду 2-й пал. 3-га — пач. 2-га тыс. да н.э. характэрны комплекс *сярэднедняпроўскай культуры* з элементамі *шнуравой керамікі культуры* і *шарападобных амфар культуры*, позняга этапу днепра-данецкай культуры. Выяўлены сляды наземнай пабудовы. Знойдзены каменныя (сякера-клін, абломкі шліфавальных плітак) і крамянёвыя вырабы (чатырохграннае шліфаванае долата, фр-ты шліфаваных сякер, трохвугольныя наканечнікі стрэл, нажы і інш.), абломкі посуду амфарнага тыпу, слоікавай формы, місак. Аздабленне складалася з лінейных штампаў, зубчатых адбіткаў, наколаў, шнуравых і «вусеневых» арнаментаў, пракрэсленых ліній. Выяўлены комплекс знаходак тшцінецкага культ. кола, які мае лакальныя паўн.-палескія асаблівасці. Вылучаюцца абломкі гаршкоў, слоікавага посуду, місак. Паверхня посуду загладжвалася і ангабавалася, часта пакрывалася арнаментам ад венчыка да дна. Кераміка ў асн. упрыгожвалася т.зв. «ружанцовым» арнаментам, радзей пракрэсленымі лініямі, наколамі. Тшцінецкая кераміка датуецца ад 1700/1600 да к. 2-га тыс. да н.э. Частка фр-таў посуду мае аналагі на помніках *лебядоўскай культуры* позняга перыяду бронзавага веку. Знойдзена кераміка эпохі жалеза — *мілаградскай культуры* (з пукатым тулавам, высокай шыйкай, аздобленая «жамчужным» арнаментам) і рабрысты штрыхаваны посуд з выгнутымі шыйкамі.

П а с е л і ш ч а - 2 за 0,8—1 км на ПдЗ ад вёскі, на пясчаным мысападобным выступе берага воз. Вячэра (паселішча-2А) і ў падводнай зоне возера (паселішча-2Б). Большая частка паселішча-2А разбурана пры будаўніцтве копанак у 1970-я г. Пры паверхневых зборах знойдзены кераміка і крамянёвыя вырабы каменнага, бронзавага і жал. вякоў. Паселішча-2Б знаходзіцца насупраць паселішча-2А у донных адкладах воз. Вячэра. Злакалізаваныя пад вадой артэфакты збіраліся ў 1985—91, калі на возеры вялася прамысловая здабыча сапрапелю. Глыб. вады ў зоне залягання культ. рэштак дасягала да 1,5 м, магутнасць донных сапрапелевых адкладаў — 3,9 м. Артэфакты сустракаліся ў межах ад некалькіх




*Касцяныя вырабы (1—7, 9—12) і крамянёвы наканечнік стралы (8) мезалітычнага перыяду з паселішча-2Б* ***Азярное***.

дзесяткаў да некалькіх сотняў метраў ад берага. Комплексы выпадковых знаходак з Азярнога-2Б складаюцца з 1150 фр-таў керамікі, крамянёвага інвентару, рэштках костак і рагоў жывёл, больш чым 120 касцяных і рагавых вырабаў. Параўнальна-тыпалагічны аналіз знаходак дазваляе вылучыць мезалітычны і неалітычны комплексы. Пераважная большасць мезалітычных тыпаў касцяных і рагавых вырабаў мае аналагі ў *яніславіцкай культуры, кунда культуры.* Сярод артэфактаў вял. значэнне належыць касцяным і рагавым вырабам. На некаторых з іх захаваліся гравіраваныя малюнкі з выявамі людзей і арнаментальнае аздабленне. У складзе керамічнай калекцыі налічваецца каля 1100 абломкаў неалітычнага посуду (прыблізна ад 100 пасудзін) усх.-палескага варыянта днепра-данецкай культуры. Каля 50 фр-таў посуду маюць прыкметы шнуравой керамікі культуры. Кераміка паселішча-2Б датуецца 4—3-м тыс. да н.э.

*Літ.*: К р ы в а л ь ц э в і ч М.М. Касцяныя і рагавыя вырабы каменнага веку з возера Вячэра // З глыбі вякоў. Наш край: гіст.-культурал. зб. Мінск, 1996. [Вып. 1]; Я г о ж. Азярное 1 — паселішча эпохі бронзы на поўначы Палесся. Мінск, 1999; К р и в а л ь ц е в и ч Н.Н., С и м а к о в а Г.И. Микрорегион озера Вечера (Предполесье Беларуси): основные этапы освоения и использования (по археологическим и пыльцевым данным) // ГАЗ. Мінск, 2004. № 19; К р ы в а л ь ц э в і ч М.М. Гравіраваныя выявы і арнаментальнае аздабленне на касцяных вырабах з возера Вячэра // Na pograniczu swiatów. Studia z pradziejów międzymorza bałtycko-pontyjskiego ofiarowane Profesorowi Aleksandrowi Kośko w 60. rocznice urodzin. Poznań, 2008.

*М.М.Крывальцэвіч.*

**АЗЯРЦÓ**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Азярцо Мінскага р-на. На левым беразе р. Пціч, за 1,2 км на Пд ад вёскі. 6 насыпаў: 2 насыпы (выш. 2—3 м, дыям. 8—10 м) на ўзгорку і 4 (выш. 0,8 м, дыям. 9 м) на лузе пры ўпадзенні б. р. Менка ў р. Пціч. У 1979 В.А.Карпека даследаваў 1 курган на ўзгорку, у 1980 Г.В.Штыхаў — 2 курганы на лузе. Пахавальны абрад — трупаспаленне ў драўляных зрубах. Пахавальны інвентар — 5 шкляных і 4 бронзавыя спіралепадобныя, шматгранныя пацеркі, фр-т крывіцкага серпападобнага скроневага кальца, фр-т шыйнай грыўні, трапецападобная падвеска з лінейным арнаментам, гліняная біканічнае прасліца, фр-ты раннекругавой керамікі. Датуецца 10 ст. *Г.В.Штыхаў.*

**АЗЯРЫ́ШЧА**, археалагічныя помнікі — курганны могільнік і селішча каля в. Азярышча Асіповіцкага р-на Магілёўскай вобл.

М о г і л ь н і к за 1,35 км на ПдУ ад вёскі, на правым беразе р. Свіслач, у лесе. 130 насыпаў дыям. 5—14 м, выш. 0,5—2,3 м. У 1925 адкрыў А.Немцаў, у 1978 абследаваў А.Г.Мітрафанаў, у 1991 Ю.А.Заяц даследаваў 2 курганы. Пахавальны абрад — крэмацыя на месцы, на падсыпцы (курган № 1) і па-за межамі насыпу (курган № 2). Пахаванні безынвентарныя. У насыпе кургана № 1 знойдзены фр-ты ляпнога керамічнага посуду, што трапіў у курган разам з грунтам, з якога насыпаны; у насыпе кургана № 2 — донцы і сценкі з лінейным арнаментам ад гаршка, зробленага на ручным крузе. Пахаванні датуюцца 9—10 ст.

С е л і ш ч а, часткова занятае насыпамі курганнага могільніка, цягнецца ўздоўж правага берага р. Свіслач. Пл. каля 1 га, культ. пласт 0,25—0,35 м. У 1991 выявіў і даследаваў пад насыпам кургана № 1 Ю.А.Заяц. Знойдзены фр-ты ляпнога керамічнага посуду позняга этапу кіеўскай культуры к. 4 — пач. 5 ст.

*Літ.*: З а я ц Ю.А. Новые материалы и памятники раннего железного века и третьей четверти первого тысячелетия н.э. в Минском Поднепровье и Витебском Подвинье // МАБ. 2003. № 8. *Ю.А.Заяц.*

**АКІНÁК** (грэч. akinakēs), зброя колюча-сякучага дзеяння, кароткалязовы меч ці кінжал даўж. 17—40 см. Найб. распаўсюджанне мелі ў скіфаў у 6—3 ст. да н.э. А. выкоўвалі з адной нарыхтоўкі жалеза. Клінкі пераважна двухлязовыя, рэдка аднолязовыя. Па форме могуць быць трохвугольныя вузкія падоўжаныя альбо прамыя з паралельнымі лёзамі і кароткім вастрыём. Для засцярагання рукі аснаванні лёзаў абмяжоўваліся скрыжаваннямі прамавугольнай, сегментападобнай ці мятлюшкападобнай формы. Ручка, звычайна



*Кераміка 2-й пал. 3-га — пач. 2-га тыс. да н.э. з паселішча-1 **Азярное.***

*Выпадковыя знаходкі **акінакаў** каля в. Асарэвічы Брагінскага р-на.*



прамавугольная, заканчвалася навершам у выглядзе кароткага прамавугольніка, авала альбо антэны, у форме часткі дугі круга, кіпцюроў драпежнай птушкі, валютападобных завіткоў і г.д. У Беларусі А. зафіксаваны двойчы каля в. Асарэвічы Брагінскага р-на як выпадковыя знаходкі — В.М.Мельнікоўскай у 1957 і М.І.Лашанковым у 2007. Апошні А. мае агульную даўж. каля 32 см, ромбападобнае ў сячэнні лязо даўж. 22 см, антэннае наверша пашкоджана каразіяй; датуецца 5 ст. да н.э. У арэале мілаградскай культуры гэта другі А., першы быў знойдзены ва Украіне каля в. Казаровічы, мог належаць як мясц. аўтахтону «мілаградцу», так і ваяўнічаму скіфу.

*Літ.*: Мелюкова А.И. Вооружение скифов // САИ. 1964. Вып. Д1-4; Мельниковская О.Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке. М., 1967; Петровская Е.А. Находки скифского времени у с. Казаровичи Киевской области // Археологические иследования на Украине в 1968 г. Киев, 1971. Вып. 3; Лошенков М., Кенько П. Новые находки милоградского времени в Беларуси // ГАЗ. Мінск, 2007. Вып. 23.

*М.І.Лашанкоў.*

**«А́КТА АРХЕОЛО́ГИКА АЛЬБАРУТЕ́НИКА»**, «Acta archaeologica albaruthenica», навуковае выданне па археалогіі Беларусі і сумежных краін. Выдаецца з 2007, заснавальнікі М.А.Плавінскі і В.М.Сідаровіч. Выйшлі 4 выпускі. У працяглым выданні друкуюцца матэрыялы даследчыкаў з Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы, Вялікабрытаніі, Швецыі. Праблемы археалогіі Беларусі каменнага і бронзавага вякоў асвятляюцца ў артыкулах В.С.Абухоўскага, Г.І.Зайцавай, А.У. Зуевай, А.У.Коласава, В.Л.Лакізы, В.М.Сідаровіча, Міх.М.Чарняўскага, Макс.М. Чарняўскага. Пытанням жал. веку прысвечаны артыкулы В.Г. Беляўца, І.І.Ерамеева, М.І.Лашанкова, П.М.Падгурскага, В.М.Сідаровіча, Дз.І. Трацякова. Праблемы сярэдневяковай археалогіі Беларусі разглядаюцца ў артыкулах Ю.М.Бохана, Т.С.Бубенькі, Дз.У.Дука, І.І.Ерамеева, В.І.Кошмана, А.М.Плавінскага, М.А.Плавінскага, Г.В. Штыхава. Артыкулы ілюстраваны малюнкамі, картамі, фотаздымкамі, табліцамі, графікамі, пададзена бібліяграфія.

*М.А.Плавінскі.*

**«А́КТА БА́ЛТИКО-СЛА́ВИКА»**, «Acta baltico-slavica», штогоднік Беластоцкага навуковага таварыства ў 1964—75, з 1976 — Ін-та славістыкі Польскай акадэміі навук (г. Варшава). Змяшчае артыкулы, прысвечаныя балта-слав. сувязям у вобласці мовы, культуры і гісторыі. Матэрыялы друкуюцца на польскай, рус., англійскай, французскай мовах. У 1964— 2008 выдадзены 32 тамы. Гал. рэдактары: В.Антаневіч (1964—75, археолаг), Я.Шафарэвіч (1976—92, лінгвіст), І.Грэк-Пабісава (з 1992, лінгвіст). У артыкулах па археалогіі асн. ўвага канцэнтруецца на пытаннях узаемасувязей паміж балтамі і славянамі ў страж. часы, у т.л. выказана меркаванне пра існаванне прарадзімы літ. плямён на тэр. Літвы, Беларусі і Смаленшчыны ў раннім жал. веку (1966, т. 4). Сярод матэрыялаў польска-савецкага сімпозіума пра балта-слав. кантакты (1965) змешчана дыскусія аб паходжанні крывічоў (1969, т. 6). Друкуюцца рэцэнзіі на публікацыі па археалогіі Беларусі, паведамленні пра навук. нарады, у якіх прымалі ўдзел бел. даследчыкі.

*Г.В.Штыхаў.*

**АЛЕБА́РДА** (італьян. alabarda, франц. hallebarde, ням. Aalbarte ці Hallerbarte ад Aalm дрэўка + Barte сякера), від колюча-сякучай дрэўкавай зброі. Была спалучэннем кап'я, сякеры і крука, прызначанага для сцягвання кавалерыстаў з каня. З'явілася ў Еўропе ў к. 13 ст., у ВКЛ, магчыма, у 15 ст. (упамінаецца з 1-й пал. 16 ст.). Першапачаткова была ў ВКЛ зброяй наёмных пехацінцаў, для феад. апалчэння не характэрна. А. 2-й пал. 16 ст.



*Алебарды і бердыш 15 ст.*

знойдзены ў р. Нёман у г. Гродна і ў р. Піна ў г. Пінск. А. 15 ст. зберагаецца ў Віцебскім абл. краязнаўчым музеі.

*Літ.*: Б о х а н Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы X — канца XVI ст. Мінск, 2002; Я г о ж. Зброя Вялікага княства Літоўскага 1385—1576. Мінск, 2003; Я г о ж. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV — канцы XVI ст. Мінск, 2008. *Ю.М.Бохан.*

**АЛЕКСАНДРО́ВІЧ** Наталля Пятроўна (н. 1.12.1950, Мінск). Беларускі археазаолаг, біёлаг-сістэматык, марфолаг. Канд. біялагічных навук (1999). Скончыла БДУ (1974). У 1976—94 працавала ў ІГ НАН Беларусі. Даследавала праблему жывёлагадоўлі і палявання насельніцтва сярэдневяковых гарадоў і замкаў Беларусі 10—17 ст. Склала аснову эталоннай калекцыі астэалагічных рэштак млекакормячых з раскопак з археал. помнікаў Беларусі. Упершыню прымяніла кластэрны аналіз пры апрацоўцы касцявога матэрыялу, распрацавала крытэрыі і прапанавала выкарыстоўваць каэфіцыент насычанасці косткамі культ. пластоў.

*Тв.*: Фауна из раскопок древнего Витебска // Биология. Зоология наземных позвоночных. 1990. № 2; Остеологическая оценка географической и хронологической изменчивости Благородного оленя (Cervus elaphus Linnaeus, 1758) средневековой Беларуси // ВАНБ. Сер. біял. навук. 1999. № 4. *А.А.Разлуцкая.*

**АЛЁХАЎКА**, археалагічны помнік — гарадзішча за 2 км на З ад в. Алёхаўка Уздзенскага р-на Мінскай вобл. На ўзвышшы ў пойме р. Алёхаўка (верхняе цячэнне р. Жэсць). Пляцоўка амаль круглая у плане, памерамі 50 × 60 м, меліся вал і роў. Адкрыў у 1868 і даследаваў у 1869 Я.Завіша. Знойдзены чарапкі грубаляпнога посуду, гліняныя прасліцы, косткі жывёл, шлакі і молат ад металургічнай вытворчасці. У 1949 і 1971 абследаваў А.Р.Мітрафанаў, у 1976—77 Л.У.Калядзінскі. У 1979 гарадзішча было амаль цалкам знішчана пад час дарожна-буд. работ. У агаленнях сценак катлавана на пляцоўцы гарадзішча Л.У.Калядзінскім зафіксаваны культ. пласт чорнага колеру. Сабраны фр-ты глінянай абмазкі жытлаў, абломкі ляпнога посуду са штрыхоўкай, гліняныя біканічныя прасліцы і фр-т грузіка дзякоўскага тыпу. Матэрыялы датуюцца 7 ст. да н.э. — 4 ст. н.э., захоўваюцца ва Уздзенскім краязнаўчым музеі. *Л.У.Калядзінскі.*

**АЛЁШКІ**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Алёшкі Мядзельскага р-на Мінскай вобл. На правым беразе р. Страча, за 0,5 км на ПдЗ ад вёскі. 12 курганоў выш. 0,7—1,5 м, дыям. 6—11 м, з каменнымі абкладкамі на схілах. Выявіў і даследаваў 8 насыпаў у 1895 Ф.В.Пакроўскі, абследаваў у 1979 Я.Г.Звяруга. Пахавальны абрад — трупаспаленне на гарызонце, у грунтавых ямах, у насыпе, пахаванні адзіночныя і 1 двайное. Суправаджальны інвентар — жал. наканечнікі коп'яў, сякеры, нажы, шылы, шпоры, спражкі, кольцы, бронзавы пінцет, фр-ты гліняных гаршкоў. Датуецца 2-й пал. 1-га тыс.

*Літ.*: П о к р о в с к и й Ф.В. К исследованию бассейна Вилии в археологическом отношении. М., 1899. *Я.Г.Звяруга.*

**АЛЯКСЕ́ЕВА** Таццяна Іванаўна (7.2.1928, г. Казань — 22.6.2007), расійскі антраполаг. Д-р гіст. навук (1969), акадэмік РАН (1992). Скончыла Маскоўскі ун-т (1951). Працавала ў НДІ антрапалогіі імя Дз.М.Анучына Маскоўскага дзярж. ун-та. Даследавала краніялагічныя матэрыялы з усх.-слав. курганных могільнікаў 11—15 ст., у т.л. з тэр. расселення *дрыгавічоў*, *радзімічаў* і полацкіх *крывічоў*, у параўнанні з ранне- і познасярэдневяковымі пахаваннямі зах. і паўд. славян, балцкага і фіна-угорскага насельніцтва. Гэта дазволіла зрабіць шэраг высноў пра генетычныя вытокі, антрапалагічныя асаблівасці розных слав. плямён як следства іх кантактаў з абарыгенным насельніцтвам пры рассяленні па тэр. Усх. Еўропы. Распрацавала канцэпцыю экалагічнай абумоўленасці фарміравання адаптыўных тыпаў у сувязі з паходжаннем расавых асаблівасцей.

*Тв.*: Этногенез восточных славян по данным антропологии. М., 1973; Географическая среда и биология человека. М., 1977; Адаптивные процессы в популяциях человека. М., 1986; Адаптация человека в различных экологических нишах Земли. М., 1998; Антропоэкология Северо-Восточной Азии: Чукотка, Камчатка и Командорские острова. М., 2007. *І.І.Салівон.*

**АЛЯКСЕ́ЕЎ** Валерый Паўлавіч (2.8.1929, Масква — 7.11.1991), расійскі антраполаг і гісторык. Д-р гіст. навук (1967), акадэмік АН СССР (1988). Скончыў Маскоўскі ін-т усходазнаўства (1952). Працаваў у Ін-це этнаграфіі АН СССР. З 1988 дырэктар Ін-та археалогіі АН СССР. Даследаваў стараж. і сучаснае насельніцтва Усх. Еўропы, Каўказа, Сібіры, Манголіі, Індыі, Кубы і інш. Прапанаваў прынцыпова новую класіфікацыю чалавечых рас, засн. на паслядоўнасці ўзнікнення ачагоў расаўтварэння. Навук. працы па антрапагенезе, расагенезе, этнагенезе. У кн. «Паходжанне народаў Усходняй Еўропы» (1969) абагульніў этнагенетычны аналіз палеаантрапалагічных дадзеных, у т.л. па беларусах 19 ст. Прымаў удзел у падрыхтоўцы навук. кадраў і фарміра-



*Н.П.Александровіч.*




***Алебарды** 15—16 ст.: 1 — Гродна, 2 — Пінск, 3 — Віцебскі абласны краязнаўчы музей.*

ванні навук. тэматыкі групы антрапалогіі Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.

*Тв.*: География человеческих рас. М., 1974; Историческая антропология. М., 1979; Этногенез. М., 1986; Очерки экологии человека. М., 1993; Расавая геаграфія беларусаў і праблемы этнагенезу. Мінск, 1994 (разам з М.У.Вітавым, Л.І.Цягака).



*Л.В.Аляксееў.*

**АЛЯКСЕ́ЕЎ** Леанід Васілевіч (15.1.1921, г. Растоў-на-Доне, Расія — 22.3.2008), расійскі археолаг і гісторык. Д-р гіст. навук (1982). Скончыў Маскоўскі ун-т (1948). У 1948—50 працаваў у Гродзенскім гісторыка-археал. музеі, у 1950—52 першы аспірант па спецыяльнасці «археалогія» ІГ АН БССР. З 1953 у Ін-це археалогіі АН СССР. У 1955 абараніў кандыдацкую дысертацыю «Полацкая зямля ў IX—XIII стст.», у 1982 — доктарскую дысертацыю «Смаленская зямля ў IX—XIII стст.». У 1962—66 выкладаў агульны курс археалогіі ў Магілёўскім педагагічным ін-це. Кансультант па ўзнаўленні крыжа Ефрасінні Полацкай па даручэнні патрыяршага экзарха ўсяе Беларусі мітрапаліта Філарэта. Праводзіў раскопкі стараж. гарадоў Беларусі (Браслаў, Друцк, Мсціслаў) і Рослаўля (Расія). Даследаваў гісторыю Кіеўскай Русі, працэс феадалізацыі Смаленскай зямлі, пытанні засеrange гіст. геаграфіі зах.-рус. земляў 9—13 ст., развіцця культуры і краязнаўства ў Беларусі і Смаленшчыне, гісторыі навукі.

*Тв.*: Лазарь Богша — мастер-ювелир XII в. // СА. 1957. № 3.; Раскопки древнего Браслава // КСИА. 1960. Вып. 81; Полоцкая земля в IX—XIII вв.: очерки истории северной Белоруссии. М., 1966; Устав Ростислава Смоленского 1136 г. и процесс феодализации Смоленской земли // Słowianie w dziejach Europy. Poznań, 1974; Древний Ростиславль // КСИА. 1974. Вып. 139; Мелкое художественное литье из некоторых западнорусских земель // СА. 1974. № 3; По Западной Двине и Днепру Белоруссии. М., 1974; Домен Ростислава Смоленского // Средневековая Русь: сб. статей, посвященный Н.Н.Воронину. М., 1976; Периферийные центры домонгольской Смоленщины // СА. 1979. № 4; Смоленская земля в IX—XIII в. Очерки истории Смоленщины и восточной Белоруссии. М., 1980; Евфросиния Полоцкая: жизнь, деятельность, судьба // Весн. бел. экзархата. Мінск, 1995; Археология и краеведение Белоруссии с XVI века по 30-е годы XX века. Минск, 1996; Крест — хранитель всея Вселенныя. Минск, 1996; Гродна і помнікі Панямоння. Мінск, 1996; Археология средневекового периода в Белоруссии (1950—1990) // РА. 1998. № 3; Западные земли домонгольской Руси. Очерки истории, археологии, культуры. Кн. 1—2. М., 2006.

*Літ.*: М а к а р о в а Т.И. К 80-летию Л.В.Алексеева // РА. 2001. № 1. *А.А.Мяцельскі.*

**АМО́СЕНКІ**, археалагічныя помнікі — гарадзішча, селішчы і курганныя могільнікі каля в. Амосенкі Расонскага р-на Віцебскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а *днепра-дзвінскай культуры* за 0,15 км на Пн ад вёскі, каля б. в. Шуляцічы, на выспе, выцягнутай з Пн на Пд на 110 м. Пляцоўка авальная памерамі 40 × 30 м, выш. 10 м. З паўд. боку прасочваецца вал выш. 1,2 м. Абследавалі у 1964 К.П.Шут, у 1981 Т.С.Скрыпчанка. Культ. пласт 0,5—1,1 м. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі к. 1-га тыс. да н.э.

С е л і ш ч а - 1 на выспе, побач з гарадзішчам. Памеры 60 × 30 м. Абследавалі ў 1964 К.П.Шут, у 1981 Т.С.Скрыпчанка. Знойдзены рэшткі паўзямлянherачнага жытла, фр-ты ляпной гладкасценнай керамікі *банцараўскай культуры* 5—7 ст.

С е л і ш ч а - 2 на ўзвышшы паміж выспай і ручаём, які ўпадае ў воз. Стрэшна. Абследаваў у 1964 К.П.Шут. Знойдзены фр-ты ляпной гладкасценнай керамікі банцараўскай культуры 5—7 ст.

М о г і л ь н і к - 1 за 0,5 км на Пд ад гарадзішча, ва ўр. Барок. 2 курганы, выш. 1—1,4 м, дыям. 8—10 м. Выявіў у 1964 К.П.Шут, абследавалі ў 1974 Г.В.Штыхаў, у 1981 Т.С.Скрыпчанка.

М о г і л ь н і к - 2 за 1,5 км на Пд ад вёскі. 2 курганы, выш. 1,4 м, дыям. да 10 м. Выявіў у 1964 К.П.Шут, абследавалі ў 1974 Г.В.Штыхаў, у 1981 Т.С.Скрыпчанка. *Г.В.Штыхаў.*

**АМУЛЕ́Т** (лац. amuletum), прадмет, які людзі насілі на целе і якому прыпісвалі магічныя ўласцівасці засцерагаць ад злых духаў, чараў, няшчасцяў, адводзіць хваробу, прыносіць поспех. Вера ў чарадзейную сілу А. ўзнікла ў палеаліце і захавалася да нашых дзён. Яна звязана з першабытнай магіяй і фетышызмам.

На тэр. Беларусі найб. стараж. А. адносяцца да эпохі неаліту (паселішчы на Крывінскім тарфяніку ў Сенненскім р-не, каля в. Камень Пінскага р-на). Пашырыліся ў жал. веку: апрача прасвідраваных зубоў і касцей жывёл, пачалі выкарыстоўваць разнастайныя металічныя А. З'явіліся лунніцы (упрыгажэнні ў выглядзе паўмесяца), звязаныя з культам Месяца — часткай аграрнага культу. Пры раскопках раннесярэдневяковых курганоў знойдзены А.-падвескі — мініяцюрныя выявы сякер (сімвал Перуна), нажоў, лыжак. Выяўлена шмат А. у выглядзе конікаў. Як А.-абярэгі, нібыта здольныя ахоўваць здароўе ўладальніка, выкарыстоўвалі медальёны-змеевікі, а таксама «змеегаловыя» бранзалеты, якія трапляюцца пераважна на ПнУ Беларусі. Звышнатуральныя ўласцівасці прыпісваліся і некаторым каштоўным камяням. Напр., у старажытнасці лічылася, што бурштын дабратворна ўплывае на здароўе таго, хто яго носіць. Падвескі з яго былі адначасова і ўпрыгажэннем. У язычніцкія часы ў якасці А. насілі крыжападобныя падвескі, а пасля прыняцця хрысціянства — крыжыкі. *Э.М.Зайкоўскі.*

**А́МФАРА** (лац. amphora ад грэч. amphoreus), таўстасценная гліняная пасудзіна з высокім вузкім горлам і 2 ручкамі, прызначаная для транспартавання і захоўвання віна, алею, інш. вадкасцей. На тэр. Беларусі А. прывозіліся, верагодна, з грэчаскіх калоній у Крыме. Дзякуючы вузкаму цыліндрычнаму горлу лёгка закаркоўваліся і герметычна заліваліся воскам. Фр-ты А. вылучаліся сярод мясц. керамікі тоўстым (10—12 мм) моцна спечаным лёгкім чарапком крэмавага ці свет-

ла-ружовага колеру, тонкадысперсным на зломе, з прыкметамі вырабу на нажным крузе. Знешняя паверхня аздаблялася дробным шматрадным лінейным рыфленнем. На многіх фр-тах захаваліся малюнкі, надпісы, асобныя літары (на А. з Полацка прадрапана літара «А»). На ўсх.-слав. тэрыторыях, асабліва ў бязлесных раёнах, А. сталі прататыпамі тарных амфарападобных пасудзін-карчаг. Самыя раннія А. знойдзены пры раскопках гарадзішчаў зарубінецкай культуры ранняга жал. веку на Пд Беларусі, шырокае распаўсюджанне набылі ў сярэдневяковы час.

*Н.І.Здановіч.*

**АНГО́Б** (франц. engobe), вадкая тонкадысперсная (дробна змолатая) белая ці каляровая гліна, прызначаная для пакрыцця ці дэкарыравання гліняных вырабаў (посуду, кафлі, прадметаў дробнай пластыкі). Наносілася на сыры ці падсушаны выраб. У эпоху бронзы ў Беларусі ангабаванне знешняй паверхні вырабаў ужывалася з мэтай яе ўшчыльнення. Да 18 ст. замест А. ў Беларусі ўжывалі белую ці чырвоную гліну, разведзеную вадой да кансістэнцыі густой смятаны. У 16—17 ст. яе выкарыстоўвалі для змянення колеру чарапка (карычневага ці чырвонага на белы), як грунтоўку пад празрыстую паліву (на посудзе і кафлі) ці для дэкарыравання вырабаў роспісам (Ліда, Мір, Гародня, Віцебск, Мсціслаў, Магілёў і інш.). У Полацку к. 16 — пач. 17 ст. з мэтай імітацыі маёлікі чырвонагліняныя дэкаратыўныя талеркі пакрываліся белым А., па якім наносіўся геам. арнамент чырвоным А. У пач. 18 ст. полацкія майстры распісвалі белым А. свісцёлкі. Для размалёўкі талерак, кубкаў, збаноў А. падфарбоўваліся вокісламі металаў (пераважна меддзю), пасля арнаментаваная паверхня пакрывалася празрыстай бясколернай палівай. Мінскія ганчары к. 16 — 1-й пал. 17 ст., паліваючы ўнутраную паверхню гаршкоў, знешнюю пакрывалі А. крыху святлейшага колеру. А. наносіўся спосабам аблівання, а роспіс — з дапамогай ражка ці пэндзля. З 19 ст. ангобная размалёўка выкарыстоўвалася ў вясковым ганчарстве (гараднянская кераміка). У сучаснай керамічнай традыцыі пашырана тэхніка напылення, або пульверызацыя.

*Н.І.Здановіч.*

**АНГО́Н**, доўгі двухшыпны чарашковы дроцік (кідальнае кап'ё). Пры пападанні ў цела А. было цяжка дастаць, а нанесеныя ім раны прыносілі жорсткія пакуты. Калі А. трапляў у шчыт, воін больш не мог свабодна ім валодаць і вымушаны быў пакідаць яго на полі бою. А. развіўся з кідальных коп'яў рымскіх легіянэраў — пілумаў. Лічыцца тыповай зброяй франкаў і англасаксаў у 5—8 ст. Двухшыпныя чарашковыя дроцікі, якія тыпалагічна ўзыходзяць да А., шырока выкарыстоўваліся ў 2-й пал. 1-га тыс. ў Скандынавіі, Фінляндыі, Латвіі, вядомы ў Літве і на ПнЗ Расіі. На тэр. Беларусі знойдзены экзэмпляр А. на гарадзішчы Пруднікі 8 ст. З пач. 2-га тыс. А. паступова выходзяць з ужытку. Аднак у Латвіі і на эстонскіх астравах іх працягвалі выкарыстоўваць у 11—13 ст. На землях Стараж. Русі асобныя знаходкі А. 10—13 ст. выяўлены на ПнЗ Расіі, у зах. рэгіёнах Беларусі (гарадзішчы Маскаўцы, Турыйск, Брэст).

*Літ.*: Артемьев А.Р. О редких типах наконечников копий в Новгороде и Новгородской земле // Материалы по археологии Новгородской земли 1990. М., 1991; Atgāzis M. Dzelzs iedzītņa šķēpu gali ar atrakpēm Latvijā // Arheoloģija un etnogrāfija. 1974. Vol. 11.

*М.А.Плавінскі.*

**АНДРЭ́ЕЎЦЫ**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Андрэеўцы Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл. На правым беразе р. Вілія было 17 курганоў (захаваўся 1). У 1935 Г.Цэгак-Галубовіч даследавала 16 насыпаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне за межамі могільніка (14), трупапалажэнне (2). Пахавальны інвентар — жал. нажы, шылы, бронзавыя бранзалеты з патоўшчанымі канцамі, спіралепадобны пярсцёнак, авальная спражка, фр-ты глінянай керамікі, у т.л. слоікападобнай формы з шурпатай паверхняй. Датуецца 5—6 ст.

*Літ.*: Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Ленинград, 1962.

*Я.Г.Звяруга.*

**АНТАНЕ́ВІЧ** (Antoniewicz) Ежы (3.5.1919, г. Пётркаў-Трыбунальскі, Польшча — 29.6.1970), польскі гісторык і археолаг. Д-р навук (1951). Скончыў Варшаўскі ун-т (1945). У 1945—65 заг. аддзела Варшаўскага дзярж. археал. музея. Арганізатар і кіраўнік Яцвяжскай (з 1955) і Яцвяжска-Сувалкаўскай (з 1959) археал. экспедыцый, на падставе якіх утварылася Беластоцкае навук. т-ва (з 1962 А. яго генеральны сакратар). Рэдактар штотодніка «Acta Baltico-Slavica» па агульных праблемах гісторыі польскага, літ. і бел. народаў і намеснік гал. рэдактара час. «Rocznik Białostocki». З 1967 кіраўнік Мазавецкага цэнтра навук. даследаванняў у Варшаве. Аўтар прац па культуры балтыйскіх плямёнаў, якія насялялі паўн. раёны Польшчы і З Беларусі.

*Тв.*: Ślady handlu Słowian z Bałtami we wczesnym średniowieczu // Rocznik Olsztyński. Olsztyn, 1961. T. 3; Problemy i potrzeby badań archeologicznych na północno-wschodnich ziemiach Polski // Acta Baltico-Slavica. 1964. № 1.

*Літ.*: Okulicz J. Dr Jerzy Antoniewicz (1919—1970) // Komunikaty Mazursko-Warmińskie. 1970. № 4; Cieslak T. Jerzy Antoniewicz (1919—1970) // Rocznik Białostocki. Warszawa, 1971. T. 10.

*Г.М.Сагановіч.*

**АНТАНЕ́ВІЧ** (Antoniewicz) Уладзімеж (15.7.1893, г. Самбар Львоўскай вобл., Украіна — 20.5.1973), польскі археолаг. Праф. (1920), правадзейны чл. Польскай АН (з 1957). У 1925—33 выкладаў у Віленскім ун-це, у 1936—39 рэктар Варшаўскага ун-та і кіраўнік кафедры археалогіі. Вывучаў помнікі мезаліту на тэр. Зах. Беларусі. У 1934 удзельнічаў у навук. канферэнцыі ў Мінску. Аўтар прац па археалогіі, нар. мастацтве, музейнай справе, у т.л. даследаванняў пра залатыя

рымскія соліды 3—4 ст. браслаўскага скарбу (адзіная знаходка на тэр. Беларусі).

*Тв.*: Czasy przedhistoryczne i wczesnodziejowe Ziemi Wileńskiej // Wilno i Ziemia Wileńska. Wilno, 1930. T. 1; Древнейшие остатки человека в северо-восточной Польше и Литве // Тр. II Междунар. конф. Ассоциации по изучению четвертичного периода Европы. Ленинград и др., 1934. Вып. 5.

**АНТАНО́ВІЧ** Уладзімір Баніфатавіч [1830, мяст. Чарнобыль Радамышльскага пав. Кіеўскай губ. (па дадзеных сястры і сына А.) ці 18.2.1834, мяст. Махноўка Бярдзічаўскага пав. (па дадзеных паўторнага хрышчэння А.) — 8.3.1908], украінскі гісторык, археолаг, этнограф, адзін з заснавальнікаў т.зв. кіеўскай школы нац. гісторыі, археалогіі, этнаграфіі і геаграфіі. Чл.-кар. РАН з 1901. Скончыў 2-ю Адэскую гімназію, медыцынскі (1850—55) і гісторыка-філалагічны (1860) ф-ты Кіеўскага ун-та. Працаваў урачом у Чарнобылі і Бярдзічаве, потым выкладчыкам у кіеўскіх 1-й гімназіі і кадэцкім корпусе (1860—63), заг. музея старажытнасцей (1872) і дэканам гісторыка-філалагічнага ф-та (1880—83) Кіеўскага ун-та. Чытаў курсы лекцый па гісторыі Стараж. Русі да мангольскага нашэсця, ВКЛ, крыніцазнаўстве і археалогіі. У 1863—80 гал. рэдактар Часовай камісіі для разбору стараж. актаў па гісторыі Паўд.-Зах. краю пры канцылярыі Кіеўскага генерал-губернатара, адзін з кіраўнікоў выдання «Архіў Паўднёва-Заходняй Расіі». У 1878 абараніў доктарскую дысертацыю «Нарыс гісторыі Вялікага княства Літоўскага да смерці вялікага князя Альгерда», атрымаў званне праф. рус. гісторыі Кіеўскага ун-та. У 1891 абраны старшынёй Кіеўскага гіст. т-ва Нестара-летапісца пры ун-це. Удзельнічаў у арганізацыі *археалагічных з'ездаў* у Кіеве, прадстаўляў *Маскоўскае археалагічнае таварыства* на кангрэсе ў Лісабоне (1880). У 1893 пры абследаванні Сярэдняга Падняпроўя раскапаў 114 курганоў на 8 радзіміцкіх могільніках на тэр. Беларусі (сучасныя Буда-Кашалёўскі, Веткаўскі, Чачэрскі р-ны).

*Тв.*: Очерк истории Великого княжества Литовского до половины XV столетия. Вып. 1. Киев, 1878; Археологические находки в Киеве и Киевской губернии. Киев, 1879; Монографии по истории Западной и Юго-Западной России. Т. 1. Киев, 1885; Древности Юго-Западного края: раскопки в стране древлян // Материалы по археологии России. 1893. № 11; Погребальный тип могил Радимичей // Археологические известия и заметки. М., 1893. Т. 1, № 9—10; Раскопки в бывшей земле радимичей // Чтения в историческом обществе Нестора-летописца. Киев, 1894. Кн. 8; Археологическая карта Киевской губ. (Прил. к 15 тому «Древностей»). М., 1895; Археологическая карта Волынской губ. // Тр. XI АС. М., 1901. Т. 1; Моя сповідь: вибрані іст. та публіцистичні твори. Київ, 1995.

*Літ.*: Довнар-Запольский М.В. Исторические взгляды В.Б.Антоновича // Довнар-Запольский М.В. Из истории общественных течений в России. 2 изд. Киев, 1910; Лебедев Г.С. История отечественной археологии, 1700—1917 гг. Санкт-Петербург, 1992; Михальченко С.И. Киевская школа в российской историографии. М.; Брянск, 1997.

**АНТРАПАГЕ́Н** (грэч. anthrōpos чалавек + genos нараджэнне), антрапагенавы перыяд, *чацвярцічны перыяд*, апошні і самы кароткі ў

Табліца

**Падраздзяленні чацвярцічнага перыяду (антрапаген)**

| Альпійская схема | | | Рэгіянальная уніфікаваная схема чацвярцічных адкладаў (1983) | | Шкала часу (пачатак), тыс. гадоў назад |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Галацэн | Галацэнавы | | 10,3 |
| Плейстацэн (антрапаген) | верхні | Вюрм | Паазерскае зледзяненне | | 95 |
| | | Рыс—Вюрм | Муравінскае міжледавікоўе | | 110 |
| | сярэдні | Рыс | Прыпяцкае зледзяненне | Сожскае зледзяненне<br>Шклоўскае міжледавікоўе<br>Дняпроўскае зледзяненне | 320 |
| | | Міндэль—Рыс | Александрыйскае міжледавікоўе | | 460 |
| | ніжні | Міндэль | Беларускае зледзяненне | Бярэзінскае зледзяненне | 480 |
| | | Гюнц—Міндэль | | Белавежскае міжледавікоўе | 560 |
| Эаплейстацэн | верхні пліяцэн | Гюнц | | Нараўскае зледзяненне | 600 |
| | | Дунай—Гюнц | Брэсцкі гарызонт | | 700 |
| | | Дунай | Падсцілаючыя адклады | | 2,6 млн. |

гісторыі Зямлі геалагічны перыяд, які працягваецца і цяпер. Назву атрымаў паводле гал. адметнасці — з'яўленне чалавека. Ніжняя мяжа А. дакладна не вызначана, па гэтай прычыне працягласць А. вызначаюць ад 600—700 тыс. гадоў да 3—3,5 і нават 5,5 млн. гадоў. Розныя погляды існуюць наконт падзелу А. У большасці схем вылучаюць эаплейстацэн (верхняя частка папярэдняга неагенавага перыяду), плейстацэн, які ў сваю чаргу падзяляюць на раннюю, сярэднюю і познюю эпохі, і *галацэн* — сучасную эпоху. Найб. характэрнай рысай А. з'яўляецца неаднаразовае развіццё мацерыковых зледзяненняў. Паводле пашыранай у Зах. Еўропе альпійскай схемы зафіксавана 5 зледзяненняў (дунайскае, гюнцкае, міндэльскае, рыскае, вюрмскае) і 4 міжледавікоўі. Даследчыкі Беларусі пабудавалі і абгрунтавалі некалькі стратыграфічных схем падзелу А. Для службовага карыстання з мэтай пераадольвання розначытанняў у Беларусі ў 1983 была зацверджана уніфікаваная рэгіянальная схема, згодна якой вылучаюць марэнныя комплексы нараўскага, бярэзінскага, дняпроўскага, сожскага і паазерскага зледзяненняў і белавежскага, александрыйскага, шклоўскага, мураўінскага міжледавікоўяў. Агульная магутнасць антрапагенавых адкладаў на тэр. Беларусі дасягае 300 м. З імі звязаны радовішчы буд. матэрыялаў, паліва (торфу), водазабеспячэнне, на іх аснове фарміруюцца глебы. Антрапагенавыя адклады ўтвараюць сучасны рэльеф краіны, які мае выразны і моцны адбітак акумуляцыйнай дзейнасці ледавікоў. Менавіта ў гэтых адкладах захаваліся шматлікія археал. аб'екты.

*Літ.*: Цапенко М.М., Махнач Н.А. Антропогенные отложения Белоруссии. Минск, 1959; Геология СССР. Т. 3. Белорусская ССР. М., 1971; Геология Беларуси. Минск, 2001; Еловичева Я.К. Эволюция природной среды антропогена Беларуси (по палинологическим данным). Минск, 2001. *А.Г.Калечыц.*

**АНТРАПАЛАГІ́ЧНЫЯ ТЫ́ПЫ**, групы людзей у расавай класіфікацыі з комплексам агульных марфалагічных прыкмет (колер скуры, валасоў, вачэй, будова галавы, твару, цела і інш. у сучасных; будова чэрапа і шкілета ў выкапнёвых групах). Вял. расы (еўрапеоідная, мангалоідная, негроідная) сфарміраваліся ў першабытных калектывах у выніку адаптацыі да экстрэмальных прыродных умоў. Гэтыя асаблівасці, замацоўваючыся ў генафондзе адпаведных папуляцый, перадаваліся у спадчыннасць на працягу мноства пакаленняў. А.т. фарміраваліся значна пазней пад уплывам прыродных, сацыяльных фактараў, з-за міжрасавых і ўнутрырасавых змяшэнняў у выніку міграцыйнай актыўнасці чалавецтва. У сувязі з тым, што расавыя асаблівасці не перадаюцца ў спадчыну цэлым комплексам, на індывідуальным узроўні нельга вызначыць прыналежнасць да пэўнага А.т. Звычайна арэалы А.т. не супадаюць з этнічнымі ці дзярж. межамі, бо не супадаюць час і заканамернасці фарміравання гэтых супольнасцей. Да аднаго А.т. могуць належаць некалькі розных народаў, што сведчыць пра іх фарміраванне на генетычна роднаснай аснове, альбо адзін народ можа складацца з некалькіх А.т. з прычыны неаднароднасці яго паходжання. Адносная стабільнасць А.т. у часе і прасторы, абумоўленая спадчыннасцю, улічваецца пры вызначэнні вытокаў генетычнай роднасці пэўных этнатэрытарыяльных груп або выяўленні напрамку і ступені іншароднай прымесі ў выніку гіст. перамяшчэнняў і скрыжаванняў розных плямёнаў і народаў. Сярод беларусаў вылучаюць верхнедняпроўскі (паўн.) і палескі (паўд.) А.т. Сярод прадстаўнікоў першага тыпу часцей сустракаюцца людзі са светлымі адценнямі вачэй і валасоў, увагнутай спінкай носа, з больш высокім ростам. У насельніцтва Беларусі у напрамку з ПдЗ на ПнУ назіраецца невял. паслабленне еўрапеоідных рыс: больш плоскі твар, больш нізкая і шырокая пераносіца, змешаныя адценні колеру вачэй, менш густая барада ў мужчын. Сукупнасць антрапалагічных рыс дазваляе аднесці беларусаў да ўсх.-балтыйскага варыянта еўрапеоіднай расы.

*Літ.*: Алексеев В.П. География человеческих рас. М., 1974; Аляксееў В.П., Вітаў М.У., Цягака Л.І. Расавая геаграфія беларусаў і праблемы этнагенезу. Мінск, 1994; Салівон І.І. Фізічны тып беларусаў: узроставая, тыпалагічная і экал. зменлівасць. Мінск, 1994. *І.І.Салівон.*

**АНТРАПАЛО́ГІЯ** (ад грэч. anthrōpos чалавек + logos слова, вучэнне), галіна прыродазнаўства, якая вывучае чалавека як прадстаўніка біялагічнага віду (жывы арганізм) і пэўнага сацыяльнага асяроддзя. Існуюць 2 напрамкі антрапалагічных даследаванняў, якім адпавядаюць 2 раздзелы навукі: біялагічны — фізічная А. і гуманітарны — культ. А.

Біялагічныя заканамернасці паходжання, эвалюцыі, расаўтварэння і далейшай зменлівасці фізічных якасцей чалавека ў часе і прасторы вывучае фізічная А., якая да 1960-х г. складалася з 3 асн. раздзелаў: антрапагенезу (вывучае працэс фарміравання віда Homo sapiens, уключае палеаантрапалогію, прысвечаную біялагічнай зменлівасці стараж. людзей), расазнаўства (вызначае ўмовы і прычыны фарміравання і ўзаемадзеяння рас; часткай раздзела з'яўляецца этнічная А., якая даследуе праблемы фарміравання антрапалагічных рыс падчас этнагенезу) і марфалогіі (вывучае заканамернасці зменлівасці будовы цела і органаў чалавека ў залежнасці ад спадчыннасці, умоў жыцця і працы). Апошні раздзел уключае саматалогію (узроставыя варыяцыі будовы цела сучаснага чалавека), мералогію (варыяцыі асобных органаў), дэрматагліфіку (варыяцыі скураных узораў), *аданталогію* (структурныя асаблівасці зубоў). У 2-й пал. 20 ст. вылучыліся раздзелы: аўксалогія (вывучае зменлівасць працэсаў росту і выспявання дзіцячага арганізма пры розных умовах жыцця); антрапагенетыка (вывучае заканамернасці генетычнай зменлівасці папуляцый чалавека); фізіялагічная А. (прысвечана вы-

вучэнню індывідуальных і папуляцыйных адаптыўных рэакцый на розныя ўмовы асяроддзя).

Культурная А. вывучае чалавека як сацыяльную істоту — яго культ., грамадскія і асабіста-псіхалагічныя функцыі. Даследаванню гэтых індывідуальных і калектыўных адметнасці людзей прысвечаны розныя навукі: этналогія (вывучае этнічныя адметнасці матэрыяльнай і духоўнай культуры розных народаў, іх паходжанне і панайкуменнае рассяленне, гіст. працэсы культ. ўзаемадзеяння), *археалогія* (прысвечана зменлівасці культур стараж. насельніцтва ў сувязі з этнагенетычнымі працэсамі), псіхалогія, сацыялогія і інш.

Першыя звесткі пра А. сустракаюцца ў працах Герадота (5 ст. да н.э.), Арыстоцеля (4 ст. да н.э., увёў тэрмін «А.» як вучэнне пра духоўную прыроду чалавека) і інш. Вял. геаграфічныя адкрыцці 15—16 ст. далі магчымасць пазнаёміцца з народамі Амерыкі, Афрыкі, Акіяніі, Усх. Азіі і распачаць сістэматызацыю рас чалавека. У сяр. 19 ст. А. выдзяляецца з анатоміі ў самастойную галіну ведаў і распрацоўвае свае метады даследаванняў і класіфікацыі рас, назапашваюцца і сістэматызуюцца звесткі пра розныя тыпы стараж. і сучаснага насельніцтва. Ідэі біялагічнай роўнасці ўсіх рас закладзены ў 2-й пал. 19 ст. ў працах рус. антрапалагаў К.М.Бэра, А.П.Багданава, Дз.М.Анучына, М.М.Міклухі-Маклая і развіты сав. вучонымі В.В.Бунаком, Ф.Боасам, Г.Ф.Дэбецам, Ф.Лушанам, Л.Нідэрле, Я.Я.Рагінскім, Г.А.Бонч-Асмалоўскім, М.Р.Левіным, М.М.Чабаксаравым, В.П.Аляксеевым, А.А.Зубавым і інш.

Даследаванні антрапалагічнага складу беларусаў пачаліся ў к. 19 — пач. 20 ст. (Дз.М.Анучын, М.А.Янчук, К.М.Ікаў, А.Н.Раждзественскі, А.Л.Здраеўскі, А.А.Піянткоўскі, Я.Мыдлярскі, Ю.Д.Талька-Грынцэвіч). Вынікі іх даследаванняў абагульнялі А.А.Іваноўскі (1905), Я.М.Чапуркоўскі (1918). У 1920—30-я г. В.В.Бунак вывучаў фізічны тып і размеркаванне груп крыві ў беларусаў, даследаваў краніялагічныя калекцыі сярэдневяковага насельніцтва Беларусі. Па ініцыятыве А.К.Ленца ў 1926 пры Інбелкульце створана антрапалагічная камісія, пазней рэарганізаваная ў кафедру А. Бел. АН. Планамерныя даследаванні насельніцтва Слуцкага, Мазырскага, Магілёўскага, Аршанскага р-наў пачалі Ю.М.Верамецкая, А.Я.Вішнеўская, А.А.Смірноў, Д.Н.Эйнгорн. Рэарганізацыя кафедры А. ў НДІ псіханеўралогіі перапыніла антрапалагічныя даследаванні на тэр. Беларусі. У 1930—40-я г. антрапалагічны склад насельніцтва пач. 2-га тыс. н.э. вывучалі супрацоўнікі Ін-та этнаграфіі АН СССР Г.Ф.Дэбец, Т.А.Трафімава, потым В.В.Сядоў, Т.І.Аляксеева. Антрапалагічныя асаблівасці сучасных дарослых жыхароў Беларусі ў 1950-я г. вывучалі Р.Я.Дзянісава, В.В.Бунак, У.Дз.Дзячэнка. У 1965 пры Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР створана група А. (у 1990 пераўтворана ў аддзел А. і экалогіі, які ў 2008 пераведзены ў ІГ НАН Беларусі). Пад кіраўніцтвам Л.І.Цягака пачаліся планамерныя комплексныя антрапалагічныя даследаванні фізічнага тыпу стараж. (І.І.Салівон, А.І.Кушнір) і сучаснага дарослага насельніцтва Беларусі (І.І.Салівон), заканамернасцей росту і развіцця дзяцей і падлеткаў у розных экалагічных умовах (І.І.Салівон, Н.І.Поліна, В.У.Марфіна, Т.Л.Гурбо, Н.Н.Памазанаў), дэрматагліфічных (Л.І.Цягака) і аданталагічных (Л.І.Цягака, В.В.Гатальскі) асаблівасцей, размеркавання груп крыві і інш. фенатыпаў, генетычна абумоўленых прыкмет, генадэмаграфічных працэсаў у сельскага (А.І.Мікуліч, Н.Н.Памазанаў) і гар. (В.У.Марфіна) насельніцтва Беларусі. Пасля чарнобыльскай катастрофы 1986 даследаванні накіраваны на вывучэнне канстытуцыянальных (І.І.Салівон, Н.І.Поліна, Т.Л.Гурбо) асаблівасцей адаптыўных працэсаў у сучасных папуляцыях Беларусі.

*Літ.*: Слободчиков В.И., Исаев Е.И. Основы психологической антропологии. М., 1995; Тегако Л.И., Саливон И.И. Основы антропологии и экологии человека. Минск, 1997; Кукушкин В.С., Столяренко Л.Д. Этнопедагогика и этнопсихология. Ростов-на-Дону, 2000; Саливон И.И., Полина Н.И. Количественный подход к определению типов телосложения у школьников. Минск, 2003; Беларусы. Т. 9. Антрапалогія. Мінск, 2006; Тегако Л., Кметинский Е. Антропология. Минск, 2008.

*В.У.Марфіна, І.І.Салівон.*

**АНТРАПАМÉТРЫЯ** (ад грэч. anthrōpos чалавек + metreō вымяраю), адзін з метадаў антрапалагічнага даследавання, які заключаецца ў вымярэнні чалавечага цела і яго частак для колькаснай характарыстыкі ўзроставых, палавых, канстытуцыянальных, расавых і інш. структурных групавых і папуляцыйных асаблівасцей. Для дакладнай фіксацыі і супастаўляльнасці атрыманых рознымі аўтарамі дадзеных распрацаваны уніфікаваныя міжнар. стандарты вымярэнняў і спец. інструменты (антрапометр, цыркулі, каліперы, ганіёметры, стужкі і інш.). Для якаснай характарыстыкі прыкмет, якія немагчыма вымяраць (рысы твару, форма валасоў, колер валасоў, вачэй і скуры і інш.), складзены спец. шкалы уніфікаваных балавых ацэнак. Вылучаюць вымярэнні: цела — саматаметрыю, касцей шкілета — астэаметрыю, чэрапа — краніяметрыю.

*Літ.*: Морфология человека. М., 1983; Тегако Л.И., Саливон И.И. Основы антропологии и экологии человека. Минск, 1997; Тегако Л.И., Марфина О.В., Радзевич-Грун И. Основы антропологии. Минск, 2008. *І.І.Салівон.*

**АНТРАПАМÓРФНЫЯ ВЫЯ́ВЫ**, узнаўленне ў мастацкіх вырабах выяўленчымі сродкамі аблічча чалавека. Узровень выканання графічных і скульпт. (у т.л. рэльефных) А.в. стараж. часу адпавядае агульнаму ўзроўню развіцця мастацтва і залежыць ад светапогляду адпаведнага часу. На ранніх этапах гісторыі мелі пераважна культавае прызначэнне.

У Беларусі самыя раннія графічныя А.в. вядомы па гравіраваных малюнках на косці, выяўле-

ных на неалітычным паселішчы каля воз. Вячэра (Любанскі р-н). Выявы людзей трапляюцца таксама на гліняным посудзе з паселішчаў позняга неаліту—ранняга бронзавага веку Юравічы (Калінкавіцкі р-н) і *Асавец* (Бешанковіцкі р-н). У Асаўцы знойдзены і аб'ёмныя А.в. — скульптуркі мужчын еўрапеоіднага тыпу, якія адлюстроўваюць рысы канкрэтных людзей. У адрозненне ад палеаліту, калі галоўным у мастацтве быў паказ жаночага цела, біялагічнага пачатку ў чалавеку, неалітычныя мастакі аддавалі перавагу паказу твара, паколькі чалавек усё больш усведамляў сябе мыслячай істотай. У перыяд позняга бронзавага веку і асабліва ў жал. веку амаль знік арнамент на кераміцы, невядомы таксама графічныя і скульпт. выявы людзей.

Да позняга перыяду першабытнай эпохі і ранняга феадалізму належаць выяўленыя ў розных мясцінах Беларусі каменныя і металічныя язычніцкія ідалы. Знаходкі іх вядомы па шляху з Рэчыцы ў Бабруйск (чатырохтвары ідал), каля Шклова, Слоніма, Полацка, Барысава і інш. Драўляныя ідалы (іх было значна больш) не захаваліся. Пасля прыняцця хрысціянства ў к. 10 ст. ідалаў пачалі знішчаць або перарабляць на крыжы. Такія выявы вядомы ў ваколіцах вёсак Даўгінава Вілейскага, Грабаўцы і Залуззе Жабінкаўскага р-наў.

У перыяд феадалізму побач з нар. з'яўляецца прафесійнае мастацтва, на якое значны ўплыў аказала мастацтва Візантыі, Балгарыі і інш. еўрап. краін з багатымі традыцыямі жывапісу, кніжнай мініяцюры. А.в. на фрэсках полацкіх Сафійскага сабора і Спаса-Ефрасіннеўскай царквы напісаны ў класічнай візантыйскай манеры, у некаторых наглядаецца адыход ад візантыйскіх узораў. Шмат выяў людзей ёсць на кніжных мініяцюрах Аршанскага Евангелля, Ізборніка Святаслава 1073 і інш. У дробнай пластыцы А.в. трапляюцца ў выглядзе шахматных фігурак (знойдзены ў Лукомлі, Ваўкавыску, Брэсце, Гродне і інш.; часцей з канкрэтнымі рысамі свецкіх персанажаў), каменных і металічных абразкоў 12—13 ст. (Полацк, Гродна, Пінск, Мінск, Гарадзішча Мінскага р-на, Ваўкавыск, Копысь і інш.), на пячатках, змяшчае іх і кампазіцыя на крыжы Ефрасінні Полацкай.

У 14—16 ст. шматлікія выявы людзей трапляюцца сярод твораў жывапісу (у гэты час у Беларусі развіваўся партрэтны жанр), скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, на кніжных мініяцюрах (Радзівілаўскі летапіс), гравюрах першых друкаваных выданняў (у т.л. Ф.Скарыны), кафлі.

*Літ.*: Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 1. Мінск, 1987; Л а з у к а Б.А. Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 1. Мінск, 2007. *Э.М.Зайкоўскі.*

**АНТРАПАСАЦЫЯГЕНЕ́З** (ад грэч. anthrōpos чалавек + лац. societas грамадства + грэч. genesis паходжанне), паходжанне чалавека і грамадства; раздзел *антрапалогіі*. Праблема А. разглядаецца як прыватнае пытанне біялагічнай эвалюцыі, якая адлюстроўвае гіст. развіццё жывой прыроды, уключае змяненні генетычнага складу папуляцый, фарміраванне адаптацый, утварэнне і вымiранне відаў, пераўтварэнне біягеацэнозаў і біясферы ўвогуле. Выдзяляюць б і я л а г і ч н у ю э в а л ю ц ы ю ч а л а в е к а — фарміраванне марфалагічных асаблівасцей чалавека (прамахаджэнне, развіццё рукі як органа працы, развіццё мозга з цэнтрамі членараздзельнай мовы) і с а ц ы я г е н е з — станаўленне грамадскіх адносін, характэрных для чалавека (паходжанне форм грамадскай свядомасці, выяўленчага мастацтва, сям'і і інш.).

Тэорыя эвалюцыі была сфармулявана Ч.Дарвінам у 1859 у працы «Паходжанне відаў» на падставе ўскосных доказаў блізкасці жывёл і чалавека — рудыментарных органаў і атавізмаў, падабенства псіхічнай дзейнасці чалавека і вышэйшых чалавекападобных малпаў. Пазней яна была пацверджана прамымі доказамі — выкапнёвымі знаходкамі, паводле якіх будуецца эвалюцыйны рад ад ніжэйшых і вышэйшых прыматаў да чалавека. У далейшым рознымі навукамі — генетыкай, малекулярнай і агульнай біялогіяй, палеанталогіяй, геалогіяй і антрапалогіяй — атрыманы дадзеныя, якія дазваляюць лічыць эвалюцыйную тэорыю неабвержным фактам.

Да першапачатковай фазы папярэдніка чалавека аднеслі дрыяпітэкаў — высокаразвітых выкапнёвых малпаў, якіх большасць даследчыкаў лічыць агульнымі продкамі гарылы і шымпанзе. Яны не маюць прамых адносін да лініі сучаснага чалавека, але іх блізкасць абумоўлена асаблівым этапам развіцця, які прайшлі ўсе сучасныя антрапоіды і чалавек. У міяцэне дрыяпітэкі і блізкія да іх формы былі шырока распаўсюджаны на тэр. Еўропы, Каўказа, Азіі, Афрыкі, Індыі і Пакістана. У тых жа месцах былі знойдзены астанкі рамапітэкаў (жылі 10—14 млн. гадоў таму), якіх пачалі лічыць папярэднікам чалавека. Сярод іх выдзяляюць 2 лініі — рамапітэкаморфных, звязаных у большай ступені з азіяцкім кантынентам (у выніку іх развіцця з'явіліся азіяцкія чалавекападобныя — арангутаны і гібоны), і дрыяпітэкаморфных, больш распаўсюджаных у Афрыцы (далі пачатак развіццю афрыканскіх чалавекападобных малпаў і чалавека). У біялагічнай эвалюцыі чалавека выдзяляюць паслядоўныя этапы: аўстралапітэкаў (з'явіліся ў канцы міяцэна, звыш 5 млн. гадоў назад; у т.л. Homo habilis — чалавек умелы, каля 3 млн. гадоў назад), з якімі звязваюць пач. сямейства чалавека і з'яўленне прамахаджэння; архантрапаў (Homo erectus — чалавек прамаходзячы, каля 1 млн. 200 тыс. гадоў назад), самых стараж. жыхароў Еўропы; палеаантрапаў (жылі больш за 100—35 тыс. гадоў назад); сучаснага чалавека (Homo sapiens — чалавек разумны; з'явіўся больш за 50 тыс. гадоў назад). Найб. важныя фактары А. — прыстасаванне (адаптацыя) да зменлівых умоў навакольнага асяроддзя праз працоўную дзейнасць і пераход ад раслiннай ежы да мясной. Гэтыя змены ў паводзінах былі выклі-

каны пагаршэннем умоў існавання ў ледавіковую эпоху.

Развіццё грамадства (сацыягенез) адбывалася разам з біялагічнай эвалюцыяй чалавека. Першыя прылады працы паявіліся на стадыі чалавека ўмелага. Мова як сродак зносін людзей сфарміравалася на стадыі архантрапа. На стадыі палеаантрапаў пачалі фарміравацца ідэалагічныя ўяўленні, а таксама выявіліся культ. адрозненні — аснова сучасных этнічных адметнасцей, якія прасочваліся ў асаблівасцях вырабу прылад працы.

На тэр. б. СССР стаянкі верхнепалеалітычнага чалавека, які жыў каля 30 тыс. гадоў таму, выяўлены ва Украіне, Беларусі, Расіі, на Каўказе, Паміры, Сярэдняй Азіі, у басейнах рэк Кама, Індзігірка, Пячора, Дзясна, на Камчатцы. Неаантрапы знешне ўяўлялі сабой розныя расавыя тыпы. Тэр. Беларусі пачала засяляцца ў палеаліце чалавекам неандэртальскай стадыі, пра што сведчаць археал. стаянкі *Бердыж* і *Юравічы*. Пасля адступлення ледніка ў эпоху мезаліту тэр. Беларусі канчаткова засялялі краманьёнцы — людзі сучаснага тыпу.

*Літ.*: Бунак В.В. Род Homo, его возникновение и последующая эволюция. М., 1980; Джохансон Д., Иди М. Люси: истоки рода человеческого. М., 1984; Дерягина М.А. Эволюционная антропология. М., 1999; Бахолдина В.Ю. Происхождение человека: находки, термины, гипотезы. М., 2004; Зубов А.А. Палеоантропологическая родословная человека. М., 2004; Доисторический человек: биол. и социал. аспекты. М., 2006; Тегако Л.И., Марфина О.В. Основы антропологии. Минск, 2008; Значение молекулярно-генетического исследования мезмайского неандертальца для палеоантропологии и генетики // Вестн. Московского ун-та. 2009. № 1. *Л.І.Цягака.*

**А́НТЫ** (лац. Antes, Anti), славянскае военна-палітычнае аб'яднанне 6—7 ст., вядомае па звестках шэрага візантыйскіх аўтараў. Паводле Іардана (6 ст.), А. і склавіны з'яўляліся часткамі «шматлікага племя венетаў». Ім дадзены канкрэтныя геаграфічныя прывязкі, якія дазваляюць лакалізаваць А. у перыяд экспансіі на Балканы. Па меркаванні таго ж аўтара, А. — «самыя магутныя з іх (славян)», жылі паміж Днястром і Дняпром, дзе «Пантыйскае мора ўтварае дугу». Пракопій Кесарыйскі вызначае некалькі больш шырокія геаграфічныя межы знаходжання А. — ад Ніжняга Падунаўя да Прыазоўя (на Пн ад балгар-утыгураў). Тэрмін «А.», на думку лінгвістаў, служыў для вызначэння славян у іранамоўных этнасаў. Упершыню ён сустракаецца ў аўтараў 1 ст. — Пампонія Мелы і Плінія Старэйшага ў пераліку народаў, што насялялі Каўказ. Відавочна, гэта назва была перанесена ў больш позні час на суседняе слав. насельніцтва і азначала «пабрацімы, саюзнікі» або «жывучыя на ўскраіне (стэпу)». Першае ўпамінанне аб А.-славянах адносіцца да к. 4 ст. Іардан прыводзіць звесткі, што ў хуткім часе пасля навалы гунаў астраготы Вінітарыя, пасля перамогі над А., распялі іх «караля» Боза з сынамі і старэйшынамі. Ад канчатковага паражэння А. выратаваў правадыр гунаў Баламбер, які разграміў астраготаў і забіў Вінітарыя. Гэта звестка дазваляе лічыць А. саюзнікамі гунаў. Іншыя аўтары, якія апісваюць гэты перыяд, А. не згадваюць. Таму не выключана, што Іардан перанёс імя добра вядомых яму А. 6 ст. на рэчаіснасць больш ранняга часу. Аб гэтым можа сведчыць імя правадыра готаў Вінітарыя, якое можа быць інтэрпрэтавана як «пераможца венедаў». Такім чынам, «Анты Боза» належалі да таго адзінага народа венедаў, які ў гэты перыяд або ў хуткім часе пасля апісаных падзей падзяліўся на венедаў, А. і склавінаў. Звесткі аб паходах А. на Візантыю пачынаючы з 527 больш шматлікія. Так, Пракопій упершыню даў разгорнутую этнакульт. характарыстыку склавінам і «незлічоным плямёнам антаў». Візантыйскімі крыніцамі зафіксаваны імёны правадыроў А.: Мезамір, Ідарызій, Калагаст. На працягу 2-й пал. 6 ст. ў Падунаўі авары пастаянна ваявалі з А., спустошаючы іх землі. Паводле Менандра Пратэктара, адна са спроб заключэння міру і выкупу зняволеных скончылася забойствам аварамі пасольства А. на чале з Мезамірам. Прынята лічыць, што ў апошні раз А. ўпамінаюцца ў Феафілакта Сімакаты і Феафана, якія пад 602 паведамляюць аб паходзе авараў на чале з Апсіхам супраць А. (саюзнікаў рамеяў) з мэтай іх знішчэння. У час падрыхтоўкі карнай акцыі ў стаўцы кагана ўспыхнуў мяцеж. Таму невядома, ці адбыўся паход на А., а калі адбыўся — наколькі паспяховым ён быў. Верагодна, імя А. у пач. 7 ст. паглынаецца агульным этнонімам славян. Храналагічныя і геаграфічныя прывязкі дазваляюць лічыць археал. эквівалентам А. насельніцтва, якое ўтварыла *пянькоўскую культуру* 5—7 ст. Яе арэал ахопліваў паўд. частку лесастэпу ад Северскага Данца да Прута і далей да Ніжняга Падунаўя. Для пянькоўскай, а таксама паўд. часткі калочынскай



*Да арт.* ***Анты****. Паясная гарнітура кола «старажытнасцей антаў» Мартынаўскага скарбу (Сярэдняе Паднпроўе).*

культуры характэрны рэчы кола «старажытнасцей антаў», што належалі перш за ўсё сацыяльным вярхам грамадства. Набор упрыгажэнняў з бронзы і серабра ўключаў пальчатыя і літыя дунайскія фібулы, бранзалеты з патоўшчанымі канцамі, шыйныя грыўні, заа- і антрапаморфныя фігуры і інш. У багатых скарбах з Мартынаўкі, Козіеўкі, Новай Адэсы, Суджы, Каласкова, Трубчэўска, Гапонава і інш. акрамя жаночых упрыгажэнняў сустракаюцца дэталі вайсковага рыштунку (перш за ўсё паясныя наборы «геральдычнага» стылю), якія вызначаюць статус іх уладальнікаў у вайсковай іерархіі. Прэстыжныя ўпрыгажэнні кола «старажытнасцей антаў» падкрэслівалі своеасаблівасць гэтага магутнага ваенна-палітычнага аб'яднання. Асабістыя юртападобныя пабудовы і пахаванні з трупапалажэннем, вядомыя ў арэале пянькоўскай культуры, відавочна, сведчаць аб тым, што ў складзе А. знаходзіліся не толькі славяне, але і нейкая частка качавога насельніцтва (магчыма, балгар). Маецца на ўвазе, што «выпаданне скарбаў» у 2-й пал. 7 ст. магло быць вызвана экспансіяй правабярэжных слав. плямёнаў на тэр. пянькоўскай і калочынскай культур альбо разгромам хазарамі Вял. Балгарыі і саюзных балгарам А. Да к. 7 ст. належыць і фінал пяньковскай культуры. На тэр. Беларусі рэчы А. сустракаюцца на археал. помніках Падняпроўя і Прыпяцкага Палесся.

*Літ.*: Гавритухин И.О., Обломский А.М. Гапоновский клад и его культурно-исторический контекст // Раннеславянский мир. М., 1996. Вып. 3; Приходнюк О.М. Пеньковская культура. Воронеж, 1998; Свод древнейших письменных известий о славянах (I—VI вв.). Т. 1—2. М., 1991—95; Седов В.В. Славяне в раннем средневековье. М., 1995.

*Р.У.Церпілоўскі.*

**АНТЫ́ЧНЫЯ ЗНАХО́ДКІ**, рэчы эліністычнага і правінцыйна-рымскага паходжання 4—3 ст. да н.э. — 4 ст. н.э., якія сустракаюцца на археал. помніках Беларусі. Самую масавую катэгорыю знаходак складаюць шкляныя і паставыя пацеркі, вырабленыя ў грэч. гарадах-калоніях Паўн. Прычарнамор'я (пераважна ў Ольвіі), разнастайнай формы і каляровай гамы, у т.л. пазалочаныя. Сустракаюцца на помніках мілаградскай культуры (*Асарэвічы*, *Гарошкаў*, *Любны*, *Мілаград*). Выяўлены таксама пацеркі з бронзы, халцэдону, бурштыну (Асарэвічы, Гарошкаў, Мілаград). У зарубінецкай культуры антычны імпарт больш разнастайны, акрамя шматлікіх шкляных і паставых пацерак знойдзены фр-ты грэч. амфар (Рубель, Чаплін) і шкляных пасудзін (Чаплін). З рэчаў рымскага паходжання на тэр. Беларусі знаходзяць шкляныя і паставыя пацеркі, фібулы правінцыйна-рымскіх тыпаў (Адаменка, *Брэст-Трышын*, *Івань*, *Іванчыцы*, *Кашчэлічы*, *Пятровічы*, *Скорбічы*, *Тайманава* і інш.), касцяныя грабяні (Брэст-Трышын, Пятровічы), абломкі глінянага чырваналакавага і бронзавага посуду (Абідня, Тайманава).



*Да арт.* ***Анты.*** *Упрыгажэнні кола «старажытнасцей антаў» Мартынаўскага скарбу (Сярэдняе Падняпроўе).*

*Літ.*: М е л ь н и к о в с к а я О.Н. Племена Южной Беларуси в раннем железном веке. М., 1967; Славянские древности Белоруссии: свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры. Минск, 1974; К у х а р е н к о Ю.В. Могильник Брест—Тришин. М., 1980. *А.А.Егарэйчанка.*

**АНУ́СІНА**, археалагічныя помнікі — курганныя могільнікі каля в. Анусіна Мінскага р-на.

М о г і л ь н і к - 1 за 0,15 км на З ад паўн. ускраіны вёскі. На ўзгорку 42 насыпы (у к. 19 ст. было 80), дыям. 5—7,5, выш. да 1 м, значная колькасць пашкоджана ямамі. У 1983 абследаваў Э.М.Зайкоўскі, 4 курганы раскапаў Ю.А.Заяц. У 2 курганах пахаванняў не было, у астатніх — пахаванні па абраду трупапалажэння галавой на З, у падкурганных ямах глыб. 0,3—0,6 м, выкапаных у межах рытуальных вогнішчаў (у кургане № 3 абкладзена камянямі). У жаночым пахаванні знойдзены скроневыя кольцы (пярсцёнкападобныя з заходзячымі канцамі і адваротным завітком на адным з іх), шкляныя бочачкападобныя і цыліндрычныя пазалочаныя пацеркі, бронзавыя пярсцёнак, ланцужок, грушападобная бразготка з крыжападобнай прараззю, рэшткі баваўнянага шнурка.

М о г і л ь н і к - 2 за 0,6 км на ПдЗ ад вёскі, у лесе. 22 курганы паўсферычныя дыям. 4,5—8 м і авальныя памерамі да 7 × 8 м, выш. 0,7—1,5 м. Каля аднаго з насыпаў серпападобныя ямы. У 1988—89 Ю.А.Заяц даследаваў 6 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З у падкурганных ямах глыб. 0,4—0,6 м і на грунце. У 4 насыпаў каменныя агароджы, у кургане № 7 — імітацыя агнішча ці печы-каменкі. Знойдзены пярсцёнкападобныя, трохпацеркавыя, бранзалетападобныя з завязанымі канцамі скроневыя кольцы, пярсцёнкі, спражка, пацеркі шкляныя і сердалікавыя.

Могільнікі датуюцца 11 — пач. 12 ст.

*Літ.*: З а я ц Ю.А. Анусинские курганы // ГАЗ. Мінск, 1996. № 10. *Ю.А.Заяц.*

**АПЛІКАТЫ́ЎНЫ МЕ́ТАД**, м е т а д р э м а н т а ж у, адзін з метадаў тэхналагічнага аналізу ў археалогіі, які накіраваны на рэканструкцыю палеатэхналогій каменнага і бронзавага вякоў. Гал. мэтай А.м. з'яўляецца аднаўленне структуры артэфакта шляхам аплікацыі — паслядоўнага складання (падбору) падобных па форме прадметаў, т.зв. «складняў». Гэта своеасаблівая тэхналагічная мадэль, сканструяваная з прадметаў, якія выступаюць сапраўднымі археал. крыніцамі. А.м. дазваляе прасачыць дынаміку развіцця вытворчасці пэўных вырабаў, аднавіць працэс тэхналогіі апрацоўкі сыравіны (напр., з дапамогай паслядоўнага падбору да нуклеуса сколатых з яго асобных адшчэпаў). Аплікацыя прадметаў робіць больш канкрэтным і аб'ектыўным вызначэнне некаторых катэгорый вырабаў пры стварэнні тыпалагічных і тэхналагічных класіфікацый, а таксама ўдакладняе дадзеныя аб характары археал. помніка, ступені захаванасці культ. пласта, наяўнасці або адсутнасці культ.-гасп. комплексаў.

*Літ.*: А к с е н о в М.П. Аппликативный метод // Археология и этнография Сибири: тез. докл. Иркутск, 1978; Г и р я Е.Ю. Технологический анализ каменных индустрий. Методика микромакроанализа древних орудий труда. Ч. 1—2. Санкт-Петербург, 1997. *А.У.Коласаў.*

**АПО́НАЎЦЫ**, археалагічны помнік — бескурганны могільнік *яцвягаў* каля в. Апонаўцы Воранаўскага р-на Гродзенскай вобл. За 0,5 км на ПнУ ад вёскі, на пакатым узвышшы памерам 150 × 80 м, выцягнутым з У на З. Адкрыў у 1887 і даследаваў 14 пахаванняў у 1891 В.А.Шукевіч, у 1888 Э.А.Вольтэр даследаваў 51 пахаванне. Пахаванні 2 тыпаў: больш стараж. каменныя мuроўкі ў 3—4 паралельныя радкі, форма муру прамавугольная; муроўкі пазнейшага часу авальнай формы з 1—2 вял. камянямі ў галавах і нагах. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах глыб. 0,6—1,3 м, нябожчык абкладзены дошкамі. У запаўненні магіл выяўлены вугальныя праслойкі. Інвентар мужчынскіх пахаванняў: баявыя сякеры, жал. нажы і кінжалы, крэсівы, паясны набор (спражкі, бронзавыя накладкі). Інвентар жаночых пахаванняў: сярэбраныя (адзін з выявай птушкі) і бронзавыя пярсцёнкі, скроневыя кольцы, бронзавыя бранзалеты і завушніцы, бразготкі, бляшкі рознай формы і дробныя шкляныя пацеркі ад галаўнога ўбору, кавалкі тканіны, пражскія грошы 15 ст. і літ. дэнарыі 14—15 ст., у т.л. дэнарый Вітаўта пач. 15 ст. з надпісам «печать» на адным баку і выявай кап'я і крыжа — на другім.

*Літ.*: К в я т к о в с к а я А.В. Ятвяжские могильники Беларуси (к. XI—XVII вв.). Vilnius, 1998. *А.В.Кваткоўская.*

**АПРАЦО́ЎКА ЖАЛЕ́ЗА**. На тэр. Беларусі вядома з часоў засваення вытворчасці жалеза з мясц. балотных і лугавых руд (сяр. 1-га тыс. да н.э.). Яна звязана з дзейнасцю майстроў *мілаградскай культуры*, аб чым сведчаць знаходкі жал. вырабаў і адыходаў металургічнай вытворчасці (шлакаў) на археал. помніках (каля вёсак Мохаў Лоеўскага, Гарошкаў Рэчыцкага р-наў). Па функцыянальным прызначэнні вырабы з жалеза і сталі, што выяўлены на паселішчах ранняга жал. веку Беларусі, умоўна падзяляюць на 4 групы: прылады працы, прадметы гасп. ўжытку, зброя, рыштунак конніка і каня. На першапачатковым этапе асваення жалеза майстры сумяшчалі ў адной асобе і металурга, і каваля. Выраб прылад працы на раннім этапе А.ж. вёўся прыёмам коўкі для падрыхтоўкі крычнага металу і надання яму неабходнай формы. Практыкавалася т.зв. свабодная коўка металу, нагрэтага ў горне да адпаведнай тэмпературы. Горнавая зварка дазваляла атрымліваць масіўныя загатоўкі шляхам злучэння невял. пракаваных крыц «унакладку» і пакетаваннем сыравіны (спалучаліся аперацыі коўкі, складання і зваркі). У выніку атрымлівалася шматпалосная структура металу. З дапамогай зваркі выраблялі ўтулкі сякер-кельтаў, наканечнікаў коп'яў і інш. Большасць прадукцыі рабілі з крычнага жалеза ці

нераўнамерна навугляроджанай сталі. Такая тэхналогія А.ж. была ў плямён зарубінецкай і штрыхаванай керамікі культур. Прадукцыя кавалёў днепра-дзвінскай культуры мала чым адрознівалася, але асобныя прылады працы (сярпы, сякеры і інш.) вызначаліся своеасаблівай формай. Майстры *кіеўскай культуры* (2—5 ст.) часцей выкарыстоўвалі цэментацыю (насычэнне паверхні вырабаў вугляродам) і загартоўку стальных вырабаў. Кавалі пражскай, калочынскай і банцараўскай культур у 3-й чв. 1-га тыс. карысталіся традыцыйнымі прыёмамі пластычнай дэфармацыі і зваркі, але найб. пакетаваннем сыравіны для вырабу ляза сякер, нажоў, сярпоў. У эпоху Кіеўскай Русі ў А.ж. адбыўся ўздым узроўню апрацоўчай тэхнікі і тэхналогіі. Кавалі валодалі прыёмамі злучэння жалеза з вугляродзістай сталлю. У 10—11 ст. шырока ўжывалася трохпалосная тэхналагічная схема вырабу камбінаваных прылад працы з жалеза і сталі: да цэнтр. стальной рэжучай пласціны з абодвух бакоў прыварвалі жал. пласціны; на заключным этапе апрацоўкі праводзілі загартоўку вырабу. У 12—13 ст. з павелічэннем асартыменту кавальскай прадукцыі мянялася і тэхналогія яе вытворчасці: на жал. аснову ляза наварвалі стальную рабочую частку, якую потым загартоўвалі. З ускладненнем формы кавальскага інструменту павялічылася прадукцыйнасць працы майстроў. Выкарыстанне горнавага паяння (прыпой — медзь і яе сплавы) у складаных канструкцыях значна скарачала час вытворчасці прадукцыі. А.ж. ўскладнялася вырабам узорыстага ляза, аздабленнем вырабаў насечкай, пакрыццём прадметаў ахоўнымі плёнкамі з каляровых металаў і інш.

У часы ВКЛ тэхналагічныя схемы выканання традыцыйных вырабаў спрасціліся. Паступова адбыўся падзел працы ў металургіі і А.ж. Вытворчасць жалеза і сталі перамясцілася бліжэй да месцазнаходжання сыравіны, г.зн. у вёскі. Гар. рамеснікі (кавалі, слесары, збройнікі) пачалі абмяжоўваць сваю дзейнасць толькі апрацоўкай металаў. Павялічыўся выраб суцэльнастальной прадукцыі, хаця па-ранейшаму наварка стальнога ляза на жал. аснову часткова захавалася. У познафеад. перыяд пачалася масавая выплаўка чыгуну. З дапамогай замежнага вопыту і спецыялістаў у ліцейных майстэрнях Беларусі выраблялі гарматы і боепрыпасы, прадметы гасп. ўжытку, дэталі машын і механізмаў. Паверхню вырабаў і іх рэжучыя часткі апрацоўвалі шліфавальна-тачыльнымі кругамі і брускамі (знойдзены ў Віцебску, Мінску, Полацку, на селішчах каля вёсак Мачуліна Ваўкавыскага, Сямёнавічы Уздзенскага, Чэрнічы Жыткавіцкага р-наў і інш.).

*Літ.*: Гурин М.Ф. Древнее железо Белорусского Поднепровья (I тысячелетие н.э.). Минск, 1982; Я г о ж. Кузнечное ремесло Полоцкой земли IX—XIII вв. М., 1987; Я г о ж. Кавальская тэхналогія на тэрыторыі Беларусі ў XIV—XVIII стст. // ВАНБ. 1988. № 5.

*М.Ф.Гурын.*

**АПРАЦО́ЎКА КА́МЕНЮ**. У Беларусі вядома па археал. знаходках з часоў *палеаліту*, як і *апрацоўка крэменю*. Камень у старажытнасці быў асн. сыравінай, з якой выраблялі прылады працы, зброю, прадметы культу. Зручную форму гэтым вырабам надавалі шліфаваннем і свідраваннем. У неаліце з камянёў пачалі вырабляць сякеры, цёслы, долаты, кінжалы, наканечнікі стрэл і коп'яў, матыкі, сярпы. Знойдзеныя сякеры-молаты бронзавага веку з гранёным целам і веерападобным лязом, магчыма, былі знакамі ўлады ці прадметамі культу. З 10 ст. вядома А.к. для стварэння выяў язычніцкіх багоў (*каменныя бабы, ідалы*), сімвалаў веры і прадметаў культу продкаў (*каменныя крыжы, камяні з надпісамі, камяні са знакамі*). З розных парод каменю выраблялі жорны, зерняцёркі, з пясчаніку і сланцу — тачыльныя брускі, з мяккіх парод — грузікі для рыбалоўных сетак, прасліцы, састаўныя ліцейныя формы, нацельныя абразкі, пячаткі і інш. У Мазыры знойдзены сланцавыя дыскі-загатоўкі з круглымі адтулінамі пасярэдзіне. Паяўленне металу паступова адцясняла камень пры вырабе прылад працы і зброі. У буд. справе А.к. пашырылася ў 12 ст. Камяні падбіралі па пародах і колерах, адзін з бакоў часта шліфавалі. Вял. камяні ўмуроўвалі ў ніжнія часткі сцен і абапал уваходаў у храмы. Камяні меншых памераў уводзілі ў цагляную муроўку. Акрамя гранітных валуноў выкарыстоўваліся абчасаныя блокі вапняку або туфу, якія апрацоўвалі на буд. пляцоўцы (Дабравешчанская Віцебская царква, Навагрудская Барысаглебская царква, Мінская замкавая царква). У 12—13 ст. апрацоўвалі пірафітавы сланец (шыфер), які здабывалі ў ваколіцах Оўруча або прывозілі са Скандынавіі. З яго выраблялі праслiцы, крыжыкі і саркафагі (Полацк, Тураў). Адыходы апрацоўкі вырабаў сланцавых пліт выяўлены на мазырскім гарадзішчы Кімбараўка, каля в. Гарадзішча Мінскага р-на на б. р. Менка і інш.

У 14—16 ст. з граніту, пясчаніку, вапняку выраблялі ядры для гармат і каменямётаў, надмагільныя пліты і крыжы, у 16 ст. і пазней — прафіляваныя парталы дзвярэй і акон, кансолі і балясіны балконаў, аконныя рамы (Гродзенскі Стары замак, Мірскі замак і касцёл, Гродзенскі касцёл брыгітак). Каменныя жорны 14—18 ст. выяўлены ў Віцебску, Гродне, Мінску, Заслаўі.

*Літ.*: Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2. Минск, 1972; Т р у с а ў А.А. Выкарыстанне каменю ў беларускім мураваным дойлідстве // Из истории науки и техники Белоруссии. Минск, 1988.

*В.Л.Ліпніцкая, А.А.Трусаў.*

**АПРАЦО́ЎКА КО́СЦІ**. Гэты працэс займаў значнае месца ў жыццядзейнасці насельніцтва на тэр. Беларусі з ранняга каменнага веку да позняга сярэдневякоўя з-за даступнасці і добрых фізіка-механічных уласцівасцей касцяной сыравіны, магчымасці вырабу з яе разнастайных прадметаў высокай спажывецкай якасці. Апрацоўвалі некалькі тыпаў касцяной тканкі: жывёльныя косці, у асн. метаподыі (ніжнія аддзелы канечнасцей) буйной

рагатай жывёлы, каня, лася; рогі лася, а таксама зубы, птушыныя і рыбныя косткі. Гэты від сыравіны вельмі прыдатны для апрацоўкі і здольны падвяргацца многім яе відам: у стараж. часы імі былі расшчапленне, рэзанне, скрабенне, шліфоўка, свідраванне, паліроўка; у сярэдневякоўі таксама сячэнне, рэзанне, пілаванне, гравіроўка, разьба, апрацоўка на такарным станку і інш. З косці выраблялі як масавыя утылітарныя прадметы (праколкі, амулеты, прывескі, гарпуны, іголкі, шылы, грабяні, гузікі, дзяржанні, накладкі, праселкі), так і маст. рэчы (навершы, капавушкі, медальёны, абразкі, пячаткі) і інш. Для вырабу невял. рэчаў (іголкі, шпількі) расшчаплялі трубчастыя косці. Адтуліны свідравалі ці пракалупвалі крамянёвымі адшчэпамі, асколкамі камянёў, цвёрдымі касцямі. Шліфавалі рэчы дробназярністымі камянямі. Пры вырабе шылаў, іголак першапачатковую форму косці ў працэсе апрацоўкі толькі прыстасоўвалі для практычных мэт. Для вырабу рэчаў больш складанай формы (шпілек для ўпрыгажэння, грабеньчыкаў) косці перад апрацоўкай вымочвалі, награвалі, а ў больш позні часы выварвалі ў шчолаку (для выдалення тлушчу), потым пад ціскам ператваралі ў плоскія загатоўкі. Неабходную форму надавалі састругваннем, заточваннем, шліфоўкай, паліроўкай. Прылады А.к. падзяляюць на 2 групы: для атрымання загатовак (паўфабрыкатаў) і для вырабу і апрацоўкі прадметаў. Тэхнікі А.к. і *апрацоўкі дрэва* блізкія паміж сабою, і таму ў гэтых вытворчасцях прымяняліся універсальныя інструменты: сякеры, пілы, нажы, свердлы, скоблі, разцы, долаты, напільнікі, рашпілі, цыркулі, шылы, такарныя станкі. Спецыялізаваны кастарэзны інструментарый адрозніваўся крыху меншымі памерамі і спец. формамі. Існавалі таксама адмысловыя прылады, якія прымяняліся толькі пры косцеапрацоўцы (нажы з «гарбатымі» спінкамі, цыркульныя разцы і інш.). Большасць касцяных вырабаў (у т.л. утылітарнага прызначэння) была аздоблена разнастайным арнаментам, які наносілі нажом, разцом, шылам, цыркулем ці інш. інструментамі.




*Расшчапленне (1), гравіроўка (2), свідраванне (3), шліфаванне (4) пры **апрацоўцы косці**.*

На тэр. Беларусі самыя раннія касцяныя і рагавыя вырабы адносяцца да мезаліту. Найб. колькасць іх паходзіць са жвіровага кар'ера на р. Вілія каля г. *Смаргонь* і са дна воз. Вячэра (*Азярное*-2Б): наканечнікі дроцікаў і дзід, сякеры, востраканечнікі, арнаментаваныя дзяржанні, рэшткі майстравання прылад. Лічыцца, што ў мезаліце склаліся асн. спосабы апрацоўкі косткі і рога. Ранненеалітычныя вырабы з косткі і рога паходзяць з паселішчаў *Зацэнне*, *Асавец*-4, *Бярэшча*: наканечнікі стрэл і гарпуноў, кінжалы, сякеры, цёслы, матыкі, праколкі, вырабы са шчапаных іклоў дзікоў і мядзведзяў, падвескі з зубоў звяроў. Найб. прадстаўлены касцяныя і рагавыя матэрыялы сяр. неаліту—сяр. бронзавага веку: *Крывінскага тарфяніку* (*Асавец*-2, 3, 5, 7, *Крывіна*-1, 2, 3), Камень-2, 8, *Азярное*-2Б. Значная калекцыя рагавых шахцёрскіх інструментаў выяўлена пад час даследавання крэменездабыўных шахтаў позняга неаліту—ранняга бронзавага веку. У сяр. неаліту—бронзавым веку на тэр. Беларусі выкарыстоўваліся наступныя тыпы вырабаў: наканечнікі стрэл, дзід, гарпуноў, кінжалы, зубчастыя вастрыі, рыбалоўныя кручкі і «крукі», жэрліцы, сякеры, цёслы, долаты, рыдлёўкі, праколкі, адціскальнікі, рэтушоры, шпатэлі, арнаменціры, вырабы са шчапанага ікла дзіка («рыбныя» нажы), лыжкі, дзяржанні, амаль трохвугольныя невял. вырабы сплюшчанага сячэння, колючыя вырабы з адросткаў рагоў, кіркі, капачы, прылады з рагавых пласцін, муфты, вырабы з ласінага рога з захаваным адросткам і часткай лапаты, скоблярэзальныя з ніжніх сківіц баброў са збітымі кручкападобнымі адросткамі, падвескі, заа- і антрапаморфныя скульптуры, музычныя інструменты (флейты і флейты «Пана»). Разнастайныя вырабы з косці былі пашыраны ў плямён жал. веку мілаградскай, днепра-дзвінскай, штрыхаванай керамікі, зарубінецкай культур і інш. У доўгіх курганах 2-й пал. 1-га тыс. на Полаччыне выяўлены касцяныя фігуркі качак, каня.

Найб. росквіту А.к. дасягнула ў 12—13 ст. (Полацк, Віцебск, Мінск, Гродна, Ваўкавыск, Навагрудак, Брэст, Тураў, Гомель, Мсціслаў, Дрысвяты, Пашавічы і інш.). Прадметы з косці выкарыстоўвалі паўсюдна і па колькасці і значнасці саступалі толькі рэчам з гліны і металу. На гарадзішчы *Маскаўцы* знойдзены шматлікія косці з рунічнымі і кірылічнымі надпісамі, знакамі, малюнкамі на ваенную тэматыку. Рэчы кастарэзнай вытворчасці адлюстроўвалі ўсе сферы тага-

часнага жыцця: матэрыяльную, духоўную, культурную. З 12 ст. раменснікі-кастарэзы пачалі надаваць большую ўвагу вырабу высокамаст. твораў, якія з'яўляюцца ўзорамі сярэдневяковага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва: шахматы, шашкі, кубікі, капавушкі, культавыя прадметы і інш. Знойдзены шахматныя фігуркі каралёў (Брэст, Слуцк), ферзя (Лукомль), ладдзі-тура і пешкі-барабаншчыка (Ваўкавыск), капавушкі-музыканта (Навагрудак) і інш. У 14—18 ст. пласцінамі-накладкамі з косці аздаблялі абклады кніг, абразоў, лукі, калчаны, налуччы, ножны, шкатулкі, куфэркі і г.д. (Гродна, Полацк, Віцебск, Навагрудак, Мсціслаў, Чачэрск).

Рэшткі кастарэзных майстэрняў 12—18 ст. выяўлены ў Віцебску (3), Полацку (2), Копысі, Друцку, Мінску, Мсціславе. Ускосна аб іх існаванні можна меркаваць па знаходках у Гродне, Ваўкавыску, Навагрудку, Лідзе, Брэсце, Тураве, Пінску, Слуцку, Маскаўцах, Дрысвятах, Лукомлі, Гомелі.

*Літ.*: Чарняўскі М.М., Кудрашоў В.Я., Ліпніцкая В.Л. Старажытныя шахцёры на Русі. Мінск, 1996; Археалогія Беларусі. Т. 1. Мінск, 1997; Мядзведзева В.У. Майстэрства касцярэзаў Лукомля і яго акругі X—XIII стст. // Лепельскія чытанні: матэрыялы навук.-практ. канф., прысвечанай 565-годдзю г. Лепеля. Лепель, 2004; Я е ж. Копыская касцярэзная майстэрня XII стагоддзя // Вестн. Полоцкого гос. ун-та. Сер. А. Гуманитарные науки. 2005. № 7; Я е ж. Рамесныя касцярэзныя майстэрні XII—XVIII стст. // Романовские чтения: материалы Междунар. науч. конф. Могилев, 2005; Я е ж. Вытворчасць касцяных прадметаў Полацкай зямлі // МАБ. 2005. Вып. 9; Я е ж. Касцярэзнае рамяство Магілёўшчыны XII—XVIII стст. // Романовские чтения-2: сб. тр. Междунар. науч. конф., 10—11 нояб. 2005 г. Могилев, 2006; Чарняўскі Макс. М. Касцяныя і рагавыя вырабы на паселішчах Крывінскага тарфяніку (неаліт—бронзавы век). Мінск, 2007.

*В.У.Мядзведзева, А.А.Трусаў, Макс.М.Чарняўскі.*

**АПРАЦО́ЎКА КРЭ́МЕНЮ**. На тэр. Беларусі з эпохі палеаліту найб. прыдатнай сыравінай для атрымання прылад працы зручнай формы быў крэмень. Выяўлена шмат крэменездабыўных шахтаў (Ваўкавыскі р-н). Даследчыкі вылучаюць першасную і другасную апрацоўкі. Да першаснай адносяць раскалванне каменю адбойнікам: ад моцнага па блоку крэменю да лёгкага пастуквання для збівання адросткаў, выступаў, адшчэпаў, пласцін. Другасная апрацоўка ўключае выраб прылады працы сколваннем лусак, падчэсваннем, нанясеннем рэтушы, разцовых сколаў, шліфаваннем, свідраваннем (адтуліны ў сякеры). Правільныя тонкія пласціны, мікраліты атрымлівалі з дапамогай адціскальніка. У эпоху бронзы некаторыя сякеры-молаты мелі гранёнае цела, веерападобнае лязо і з'яўляліся, магчыма, знакамі ўлады ці прадметамі культу. Паяўленне металу паступова выціснула ўжыванне крэменю як матэрыялу для вырабу прылад працы. *В.Л.Ліпніцкая.*

**АПРАЦО́ЎКА СКУ́РЫ**. На тэр. Усх. Еўропы вядома з эпохі палеаліту, пра што сведчаць археал. знаходкі неабходных для работы са скурай каменных прылад: скрабкі, скрэблы, нажы, праколкі. На тэр. Беларусі А.с. была распаўсюджана з глыбокай старажытнасці. З вырабленай скуры шылі вопратку, абутак, чахлы для нажоў, грабянёў, зброі, кашалькі, якія часта аздаблялі вышыўкай і цісненнем. У дафеад. час была хатнім рамяством на патрэбу сям'і і непарыўна звязана з шавецтвам. А.с. складалася з некалькіх этапаў: вымочванне скур і ачыстка ад бруду, зняцце рэшткаў мяса, тлушчу, мяздры і скуранай клятчаткі, выдаленне і саскрабанне валасоў (вапнай і попелам), прамыўка, квашанне (надавала скуры мяккасць і гнуткасць), дубленне (карой дуба ці вярбы, скура набывала трываласць, лепш захоўвалася), канчатковая апрацоўка. У залежнасці ад якасці і спосабу апрацоўкі атрымлівалі скуру рознага прызначэння (на абутак, кажухі і інш.). У

*Да арт.* ***Апрацоўка скуры****. Скураныя рукавіцы, кашалькі, пуга, паясы 14—18 ст.: Полацк (1—2, 4—7, 9), Магілёў (3, 14), Гродна (8, 10), Віцебск (11—12), Мінск (13).*



стараж.-слав. мове скуру буйной рагатай жывёлы называлі юфць, казы — хъз, ніжняй часткі тулава жывёлы — чарэўе. У археал. знаходках у Беларусі часта сустракаецца апоек (скура малочных цялят), вырастак (скура цялят з раслінным харчаваннем), скура з маладняку буйной рагатай жывёлы, авечак, зрэдку трапляецца замша (са скуры лася, паўн. аленя, казулі) і свіная скура. У жал. веку для А.с. карысталіся металічнымі нажамі з закругленымі вастрыямі, скрабкамі, шыламі, стругамі. Працэс А.с. патрабаваў вял. колькасці вады, у т.л. праточнай, раслінных матэрыялаў, таму майстэрні размяшчалі на берагах рэк, ручаін, невял. азёр. На месцах б. майстэрняў па А.с. знаходзяць скураныя абрэзкі. Пры даследаванні Полацкага Верхняга замка выяўлена майстэрня гарбара 13 ст., знойдзены чан-попельнік з поўсцю жывёл і вапнай.

*Літ.*: Ш т ы х а ў Г.В. Гарбарнае рамяство старажытнага Полацка // ВАНБ. 1961. № 3; Т а р а с о в С.В. Технология и инструменты кожевенно-сапожного ремесла Полоцка и Минска (XI—XVIII вв.) // Памятники науки и техники, 1987—1988. М., 1989.

*С.В.Тарасаў.*

**АПТЭ́КАРСКІ ПО́СУД**, шкляная тара канца 17—18 ст. невялікай ёмкасці ў выглядзе слоікаў, флаконаў, бутлікаў і бутэлечак. Выраблялася з бясколернага або зялёнага шкла розных адценняў. Слоікі мелі дыям. па версе 3,1—10,8 см, дыям. днішча 3,2—11 см, дыям. вусця 2,1—6,8 см, невял. слоікі выш. 2,8 × 4,1 см. Выкарыстоўваліся пад мазі, крэмы, алей і інш. Флаконы па форме нагадваюць бутэлькі. Сустракаюцца з цыліндрычным і канічным горлам. Выш. флаконаў 7,5—8,5 см, дыям. вусця 0,8—1,3 см, дыям. дна 2,3—3,4 см. Ужываліся для рознага роду зёлак. Для гэтай мэты выкарыстоўвалі таксама бутлікі. Яны мелі форму бутэлек з вузкім доўгім горлам і авальнае донца. Бутэлечкі і флаконы былі падобныя на вял. бутэлькі, але ў адрозненне ад апошніх крыху большыя і мелі доўгае і вузкае горла, дно — круглае, ужываліся пад мінеральную ваду. А.п. — частая знаходка ў позніх пластах Віцебска, Мінска, Слуцка, Гродна, Магілёва, Мсціслава, Мірскага замка і інш. Па-за межамі Беларусі добра вядомы па раскопках Масквы, Пецярбурга, Кіева, гарадоў Польшчы і г.д. Сустракаецца разам з манетамі к. 17—18 ст. і з'яўляецца датуючым матэрыялам для позніх пластоў.

*Літ.*: С о б а л ь В.Е., Я н і ц к а я М.М. Шкляны посуд Мінска XII—XIX стст. // Помнікі старажытнабеларускай культуры. Мінск, 1984; Т р у с а ў А., Л я ш к е в і ч А. Шкло Мірскага замка // ПГКБ. 1984. № 3; Я н і ц к а я М.М., С т а ш к е в і ч А.Б. Мсціслаўскае шкло XVI—XIX стст. // Помнікі культуры: новыя адкрыцці. Мінск, 1985.

*Л.У.Калядзінскі.*

**АПЫТА́ЛЬНЫ ЛІСТ** у а р х е а л о г і і, анкета са звесткамі пра археалагічны помнік у пэўнай мясцовасці. У А.л. уключаюць кароткае апісанне помніка (наяўнасць чорнага пласта зямлі, або культ. пласта, валоў, насыпных узгоркаў і інш.), указваюць дакладнае месцазнаходжанне помніка, а таксама яго мясц. назвы: як правіла, для месцаў вытворчасці гэта гута, крыца, млынок, печы, паташня, рудня, смольня і інш.; для паселішчаў — дворышча, сяло, селішча, стадола, стараселле, царкавішча і інш.; для гарадзішчаў — гара, гарадзец, гарадок, замак, замчышча, курган, акоп, востраў, вал, груд, рог, роў і інш.; для курганных могільнікаў — валатоўкі, капцы, гамола, гурбы, малатоўкі, пагосты, шведскія (французскія) магілы і інш. Сукупнасць атрыманых звестак дазваляе іншы раз высветліць тып помніка для навукі. У 19 ст., калі пачалося складанне археал. карт, А.л. рассылалі асобныя даследчыкі (Ф.В. Пакроўскі, Я.П.Тышкевіч, Г.Х.Татур, Е.Р.Раманаў, А.М.Семянтоўскі, В.А.Шукевіч і інш.), губернскія статыстычныя і царкоўна-археал. к-ты, мінскі губернатар (1882), Віленскі аддзел Маскоўскага падрыхтоўчага к-та 9-га археал. з'езда, у 20 ст. — навук.-эксперыментальная камісія пры Наркамаце асветы БССР, пазней — Гісторыка-археал. камісія Ін-та бел. культуры і інш. У сувязі з высокім узроўнем развіцця археал. навукі ў Беларусі А.л. цяпер ужываюцца рэдка.

*У.Ф.Ісаенка.*

**АРАВА́**, археалагічны помнік — курганны могільнік на правым беразе р. Друць, за 0,5 км ад в. Арава Круглянскага р-на Магілёўскай вобл. 19 курганоў на ўзлессі і ў полі выш. 0,9—1,6 м, дыям. 5—10 м. Адкрыў у 1930 А.З.Каваленя. У 1967 З.М.Сяргеева даследавала 1 курган. Выяўлена трупаспаленне ў 3 урнах, змешчаных у драўляным зрубе: у 2 пахаваны па адным дарослым, у 1 — дзіця. Урны зроблены на ганчарным крузе, аздоблены хвалістым арнаментам. На адным з донцаў — таўро ў выглядзе 6-канцавой зоркі. Унутры зруба знойдзены 2 жал. нажы і бронзавы пярсцёнак з завязанымі канцамі. У 1989 В.Ф.Капыцін абследаваў могільнік. У 1993 Я.Р.Рыер даследаваў 3 курганы. Адзін з іх быў разрабаваны, у другім у перавернутым гаршку выяўлена трупаспаленне, зробленае па-за курганам. Над ім у насыпе — жал. сякера. Гаршчок-урна датуецца 11 ст. У цэнтры трэцяга кургана зафіксавана трупапалажэнне галавой на З у насыпе на зольнай падсыпцы. Пры нябожчыку знойдзены фр-ты жал. крэсіва і падкавападобнай спражкі са спіралепадобнымі канцамі (11—12 ст.). Над пахаваннем — фр-т пласцiністага пярсцёнка. За 2 м на З у насыпе выяўлена яшчэ адно пахаванне з зах. арыентацыяй, без рэчаў. Чарапы 2 нябожчыкаў — са слядамі пашкоджанняў.

*Літ.*: К а в а л е н я А.З. Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі // Працы. Т. 3; К о п ы т и н В.Ф. Археологические памятники Круглянского района Могилевской области. Могилев, 1991.

*Я.Р.Рыер.*

**АРБАЛЕ́Т** [франц. arbalète, позналац. arcubalista ад arcus (лук) + balista кідальная зброя], ручная кідальная зброя далёкага бою. Складаўся з лука, прымацаванага да ложа, прыстасавання для ўтрымання цецівы ў нацягнутым стане і спускавога

механізму. Першыя згадкі аб выкарыстанні А. паходзяць з Грэцыі (4 ст. да н.э.). У 3—5 ст. іх прымянялі ў рымскім войску. У сярэдневяковай Еўропе А. распаўсюджваецца з 11 ст. пасля першых крыжовых паходаў. Першапачаткова нацягванне А. ажыццяўлялася ўручную. У 13 ст. сталі выкарыстоўваць адмысловыя прыстасаванні: нацяжны крук, «казіная нага», калаўрот, якія павялічвалі сілу нацяжэння А., што зрабіла магчымым пераход да больш магутных лукаў, у т.л. з рога ці сталі. Прабіўная здольнасць стралы (балта), выпушчанай з дасканалага А., была вышэйшай, чым у звычайнага лука, аднак па хуткастрэльнасці А., асабліва са складаным нацяжным механізмам, саступаў луку ў некалькі разоў. У Беларусі А. з'яўляюцца ў к. 12 — пач. 13 ст. ў выніку кантактаў з крыжакамі. Былі вядомыя пад назвамі баліста, самастрэл, куша. Да к. 14 ст. А. выступае як тыповая зброя воінаў ВКЛ. Ён ужываўся пешымі і коннымі воінамі, у адкрытым баі, абароне і здабыванні ўмацаванняў, як ручная зброя і ў якасці цяжкіх кідальных машын. Апошнія згадванні аб ужыванні А. ў ВКЛ прыпадаюць на пач. 16 ст. У далейшым яны выходзяць з баявога ўжытку. У археал. матэрыяле дэталі А. прадстаўлены ў асн. элементамі спускавых механізмаў. У пласце 15 ст. Мсціслаўскага замчышча выяўлены 2 простыя спускавыя куркі-рычажкі. У познасярэдневяковых пластах Гродна (14 ст.) і Брэста (15 ст.) знойдзены касцяныя шайбы — «арэхі», якія ўтрымлівалі цеціву ў напятым стане. Нацяжны крук з падвоенай асновай, на якой маюцца 2 адтуліны для мацавання да пояса, знойдзены ў Лідскім замку; датуецца 14 ст.

*Літ.*: Б о х а н Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV — канцы XVI ст. Мінск, 2008; J u r g a R.M. Machiny wojenne. Kraków; Warszawa, 1995; R a c e t v i c i u s G. Arbaletas ir lankas Lietuvoje XIII—XVI a. Vilnius, 2002.

*Ю.М.Бохан, М.А.Плавінскі.*

**АРНА́МЕНТ** (ад лац. ornamentum упрыгажэнне), узор з рытмічна размешчаных геаметрычных, раслінных і жывёльных элементаў для аздаблення твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, прадметаў хатняга ўжытку, архіт. збудаванняў. Паводле тэхнікі выканання, у залежнасці ад матэрыялу бывае разны, маляваны, тканы, вышываны, плецены. У шэрагу вырабаў А. надаваўся сэнсавы, часам магічны характар, меў канкрэтны рэлігійна-міфалагічны змест. Зарадзіўся ў эпоху позняга палеаліту. Па археал. знаходках вядомы А. на гліняным посудзе (з часоў неаліту), металічных і касцяных жаночых упрыгажэннях і прадметах побыту (з 10—12 ст.), архіт. пабудовах. У асяроддзі сялян і гараджан пераважаў геам. А., а ў дружынна-баярскім — з раслінных і жывёльных форм. У 10—11 ст. з'явілася традыцыя арнаментальнага ўпрыгожвання чаравікоў, росквіт якой прыпаў на к. 12—13 ст.; на тэр. Беларусі найб. распаўсюджанымі былі А. з выявай распушчанай кветкі-крына, падобнай да сэрца, пальметы і прошвы. З к. 13 ст. раслінны А. пры захаванні геам. ўзору пашыраўся на бранзалетах (знаходкі каля в. Маскаўцы Браслаўскага р-на, г. Навагрудак). З пач. 2-га тыс. распаўсюдзіўся архіт. А., якім упрыгожваліся сцены, падлогі ў культавых і свецкіх пабудовах (Спаса-Ефрасіннеўская царква ў Полацку, Навагрудская Барысаглебская царква, гродзенскія Ніжняя і Каложская цэрквы, замкі ў Лідзе, Міры і інш.).

*Літ.*: Р ы б а к о в Б.А. Язычество древних славян. М., 1981; Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 1. Мінск, 1987; Л а з у к а Б.А. Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 1. Мінск, 2007.

*Л.У.Дучыц, С.В.Тарасаў.*

**АРНАМЕНТА́ЦЫЯ КЕРА́МІКІ**, аздабленне керамічных вырабаў (посуду, кафлі) *арнаментам*, выкананым у розных тэхніках — гравіравання (рыфлення), глянцавання, рэльефу, роспісу. Г р а в і р а в а н н е (рыфленне) — тэхніка заглыбленага дэкарыравання сырых ці злёгку падсушаных вырабаў наколваннем, прадрапваннем арнаменту з дапамогай драўляных кіёчка, нажа ці пласціны, грабеньчыка, драцяной пятлі ці скрабка. Вядома з часоў неаліту (самы стараж. спосаб







***Арбалет** (1), цэнтральнаеўрапейскі арбалет з прыстасаваннем для нацяжэння (нямецкі калаўрот), к. 15 ст. (2), канструкцыя спускавога механізму (3), «арэхі» (4—5, Брэст), касцяная накладка (6, Брэст), спускавыя куркі-рычажкі (7—8, Мсціслаў), балты (9—11, Мінск), паясны нацяжны крук (12, Ліда).*

А.к.). Неалітычная кераміка аздоблена гарызантальнымі, вертыкальнымі, дыяганальнымі кампазіцыямі на $^{2}/_{3}$ ці па ўсёй паверхні начыння. У бронзавым веку арнаментавалі верхнюю трэць гаршка. Асн. арнаменцірам таго часу былі шнур (наносілі шнуравы, «вусеневы» і ружанцовы арнамент) і лінейны штамп (рабілі кампазіцыі на аснове трохкутнікаў), хаця працягвалі выкарыстоўваць грабеньчык і кіёчкі. З вынаходніцтвам ручнога ганчарнага круга кардынальна змяніўся спосаб нанясення арнаменту: яго пачалі наносіць на рухомы посуд статычным арнаменцірам. У 10—11 ст. на раннеганчарную кераміку ў тэхніцы гравіравання наносілі суцэльны лінейны арнамент кіёчкам ці драўлянай пласцінай; у 12 ст. таксама хвалісты арнамент тымі ж інструментамі і пазногцямі; у 15—16 ст. шматраднае рыфленне і хвалісты арнамент — грабеньчыкам (Гродна). Тэхніку рыфлення (пераважна хвалісты арнамент) выкарыстоўвалі і пры аздабленні керамікі, зробленай на нажным крузе. Разнавіднасць гравіравання — А.к. з дапамогай рэльефнага штампа-пячаткі — інструмента з дрэва, косці ці гліны рознага памеру і формы, які меў заглыблены арнамент на рабочай паверхні. У 12 ст. такі арнаменцір выкарыстоўвалі для нанясення рэльефнага (заглыбленага) дэкору на керамічны посуд (Гродна), цагліны (Мірскі замак), пячныя дугі (Полацк). З дапамогай корбу (валіка з дрэва ці косці з выразаным на ім геам. арнаментам) наносілі штампаваны арнамент на паліваны і дымлены посуд к. 16 — сяр. 17 ст. ў тэхніцы накату (т.зв. карбоўка); часам пакрывалі палівай. Гэты спосаб быў распаўсюджаны на тэр. ВКЛ. Глянцаванне — спосаб механічнай апрацоўкі спец. інструментам (крамушкай) з косці ці крэменя паверхні тэракотавых ці дымленых начынняў з тэхналагічнымі (ушчыльненне паверхні і памяньшэнне вільгацепранікальнасці) і дэкаратыўнымі (на вырабах з'яўляўся бляск) мэтамі. З часоў неаліту вядомы першыя тэракотавыя глянцаваныя вырабы. Іх паверхню старанна выглянцоўвалі пры падрыхтоўцы гаршкоў да арнаментацыі (разнавіднасць паліроўкі). Глянцаванне на дымленай кераміцы вядома з жал. веку ў плямёнаў паморскай і асабліва зарубінецкай культур (пахавальная кераміка). Адзначана ў 2-й чв. 1-га тыс. ў плямёнаў вельбарскай і кіеўскай культур (цэнтр. і зах. Палессе ў Беларусі), пасля чаго знікла. Аднавілася толькі з 2-й пал. 17 ст. на дымленай кераміцы зах. Палесся, Панямоння, Падняпроўя. Для розных відаў посуду былі выпрацаваны свае арнаментальныя сістэмы, якія захоўваліся да 2-й пал. 20 ст. ў пружанскай кераміцы. Рэльефны арнамент на посудзе вядомы з часоў жал. веку ў выглядзе наляпных валікаў, зашчыпаў, гафрыраваных вянцоў. Валікамі прамавугольнай формы і з пальцавымі адбіткамі ўпрыгожвалі макотры ў 15—16 ст. (Віцебск, Мірскі замак). Наляпнымі шышачкамі аздаблялі паліваныя збаны к. 16 ст. на Падняпроўі (Магілёў, Крычаў). Рэльефны арнамент найб. распаўсюдзіўся ў кафлярстве (каробчатая кафля к. 15 ст.). Роспіс па сырым чарапку ці па ангобным фоне з дапамогай ражка распаўсюдзіўся ў к. 16 — сяр. 17 ст., пэндзлем — у к. 17—18 ст. Адрозніваюць суцэльны адвольны роспіс белым *ангобам* па чырвоным ці чырвоным па белым вырабе), а таксама контурны роспіс белым ангобам з наступным запаўненнем малюнка падфарбаваным ангобам. Апошняя тэхніка імітавала роспіс маёлікавага посуду вокісламі металаў. У тэхніцы фляндроўкі (адмысловай разнавіднасці роспісу), нанесенай эмалямі, рабілі керамічныя пісанкі ў 12 ст.

*Літ.*: Исаенко В.Ф. Неолитическая керамика Полесья // Беларускія старажытнасці. Мінск, 1972; Здановіч Н.І., Трусаў А.А. Беларуская паліваная кераміка XI—XVIII стст. Мінск, 1993.

*Н.І.Здановіч.*

**АРНІТАФА́УНА** ў археалогіі, сукупнасць выкапнёвых рэштак птушак з раскопак археал. помнікаў канкрэтнай тэр. ці адрэзку часу. Рэшткі А. з археал. помнікаў вывучае *археазаалогія*. З культ. адкладаў на тэр. Беларусі ад каменнага веку да позняга сярэдневякоўя вядома болей 45 відаў дзікіх птушак (дамінуюць гусепадобныя плыўцы і буслападобныя насельнікі мелкаводдзяў), некалькі відаў хатніх (курыца, качка, гусь, пава), лоўчыя (арлан-белахвост, беркут, ястраб-цецяроўнік, лясны канюк), дэкаратыўныя, пеўчыя (*Крывінскі тарфянік*, *Кузьмічы*-1; *Струга*-2, *Снядзін*; *Ваўкавыск*, *Віцебск*, *Полацк*, *Свіслач*, *Глуск*). Шэраг відаў гэтага комплексу не сустракаюцца без суседства з чалавекам (вераб'і, галка, шпак, грак, белы бусел, шызы голуб). Пачынаючы з каменнага веку насельнікі Беларусі акрамя палявання і гадоўлі птушак пакланяліся ім, дэкарыравалі выявамі качак ляпны посуд, выкарыстоўвалі ў маст. творчасці. З птушыных костак рабілі флейты, паляўнічыя манкі, разнастайныя ўпрыгажэнні, трубчастымі косткамі арнаментавалі посуд. Роля птушак у духоўным жыцці знайшла адлюстраванне ў элементах рытуалу — косткі знаходзяць у пахаваннях, у т.л. ў складзе крэмацый, на свяцілішчах. А. Беларусі з раскопак археал. помнікаў вывучалі расійскія і бел. даследчыкі Е.Е.Анціпіна, М.І.Бурчак-Абрамовіч, В.І.Громаў, А.М.Дарафееў, М.У.Зелянкоў, А.С.Уманская. У ІГ НАН Беларусі захоўваецца не менш за 1,5 тыс. экз. касцявых птушыных рэштак з археал. помнікаў. *А.А.Разлуцкая.*

**АРТЭФА́КТ** (ад лац. ars, artis рамяство, занятак, мастацтва + facio рабіць, выпрабляць, апрацоўваць), тэрмін, якім у археалогіі прынята наз. любы выраб, зроблены штучна рукою чалавека, ці наогул любы прыродны, натуральны матэрыял, апрацаваны або падпраўлены чалавекам для сваіх патрэб. Згодна з класіфікацыяй А. падзяляюцца на індывідуальныя (сустракаюцца ў адносна невял. колькасці) і масавыя (вял. колькасць вырабаў). Паводле матэрыялу А. прынята падзяляць на вырабы з металу, каменю, косці, дрэва і

інш., паводле прызначэння — на рэчы побыту, прылады працы, узбраенне, упрыгажэнні і г.д., па храналагічнай прыкмеце — на раннія і познія (пры адносным, стратыграфічным датаванні), на матэрыялы каменнага, бронзавага і жал. веку (згодна з тэорыяй трох вякоў вымярэння Томсана). У бел. археалогіі гэты тэрмін пачаў ужывацца з сяр. 1980-х г.

*Літ.*: Г а р д е н Ж.-К. Теоретическая археология. М., 1983; Ф э й г а н Б. Уводзіны ў археалогію. Мінск, 1996; Ф а г а н Б., Д е К о р с К. Археология. В начале. М., 2007. *Л.У.Калядзінскі.*

**АРХЕАБАТА́НІКА** (ад грэч. archaios старажытны + botanikē ад botanē трава, расліна), навука, якая вывучае рэшткі расліннага паходжання з раскопак помнікаў археалогіі: абпаленае збожжа, адбіткі раслін на кераміцы, матэрыялы, атрыманыя ў выніку флатацыі культ. пласта. Абпаленае збожжа трапляецца ў час раскопак паселішчаў з 2-й пал. 1-га тыс. (гарадзішчы *Вежкі*, *Нікадзімава*, *Свіла*), стараж. гарадоў Беларусі, пераважна з пач. 2-га тыс. — Віцебск, Друцк, Лукомль, Мсціслаў, Полацк, Свіслач, Слуцк, Тураў, Строчыцкае гарадзішча пад Мінскам і інш. Адбіткі расліннага паходжання на кераміцы храналагічна адносяцца да эпохі першабытнасці (4-е тыс. да н.э. — 1-я пал. 1-га тыс. н.э.). У час неаліту сярод штучных раслінных дамешкаў у гліняным цесце пераважалі сцёблы і зрэдку траплялася насенне. У перыяд ранняга жал. веку ў якасці арганічнага абястлушчвальніка выкарыстоўвалася зерне цвёрдай і мяккай пшаніцы, ячменю, проса. Уключэнні апошняга звычайна дамінуюць сярод адбіткаў на ляпным посудзе. Іншы раз сустракаюцца ўціскані гароху і бобу, пустазелля — драсёнаў звычайнага і павойнага, мяшэяў зялёнага і шызага, куколя звычайнага, жыта. Насенне збожжавых культур, бабовых і пустазелля прысутнічаюць на кераміцы жыхароў мілаградскай, зарубінецкай, штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай культур. Выявіць увесь спектр раслiннай арганікі, што ўтрымліваецца ў культ. пласце паселішчаў, дапамагае метад флатацыі, засн. на ўсплыванні здробненых частак раслін. Батанічныя матэрыялы адрозніваюцца метадамі атрымання і далейшага даследавання ў лабараторных умовах. У Беларусі археабатанічныя даследаванні абпаленага збожжа распрацоўваліся Т.М.Каробушкінай у 1970—90-я г., вывучэнне адбіткаў раслін на керамічным посудзе ажыццяўляецца з 1990-х г. Упершыню метад флатацыі выкарыстаны ў 1991—92 М.І.Лашанковым пры даследаваннях гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі Пятровічы Бабруйскага р-на.

*Літ.*: К о р о б у ш к и н а Т.Н. Земледелие на территории Белоруссии в X—XIII вв. Минск, 1979; Л а ш а н к о ў М., Т р а ц ц я к о ў Д. Палеаэтнабатанічныя даследаванні матэрыялаў з помнікаў ранняга жалезнага веку паўднёва-ўсходняй Беларусі // ГАЗ. Мінск, 2005. № 20; Л о ш е н к о в М.И. Археоботанические материалы с зарубинецкого селища Хотомель // Ботаника (исследования): сб. науч. тр. Минск, 2008. Вып. 35; Я г о ж. Новые материалы по земледелию у населения милоградской культуры // Там жа. Минск, 2009. Вып. 37. *М.І.Лашанкоў.*

**АРХЕАЗААЛО́ГІЯ** (грэч. archaios старажытны + zōon жывёла + logos слова, вучэнне), навуковая галіна, якая вывучае фауністычныя рэшткі з археал. помнікаў. А. спалучае ў сабе элементы прыродазнаўчых і гуманітарных навук. Пачатак бярэ ў 2-й пал. 19 ст. разам са станаўленнем археалогіі каменнага веку. Заснавальнікам навукі лічыцца Л.Рюціmeер. Ад археалогіі, палеанталогіі і традыцыйнай біялогіі А. аддзялілася ў 1950-я г., што замацавана рашэннем міжнар. сімпозіума 1961 у г. Кіль (Германія). У 1971 у Будапешце (Венгрыя) створана секцыя па праблемах А., пераўтвораная ў 1976 у Міжнар. савет па А. Вырашае задачы: даместыкацыі жывёл, ацэнкі ўкладу палявання ў эканоміку і арганізацыі паляўнічай гаспадаркі; характарыстыкі асн. форм і накірункаў жывёлагадоўлі; умоў і мадэлей утрымання, гадоўлі жывёл з вызначэннем пародных асаблівасцей, захворванняў і паталогій. А. дазваляе праводзіць разлікі мяснога харчавання ў сістэме жыццезабеспячэння стараж. плямён, устанаўліваць суадносіны паміж галінамі гаспадаркі, вызначаць маштабы абменна-гандл. сувязей і іх значэнне ва ўстойлівасці гасп. тыпаў. Асобныя спецыяльнасці А. вывучаюць касцявыя рэшткі млекакормячых, птушак, рыб, даследуюць скуры, воўну, пух, валасы. Незалежным кірункам А. з’яўляецца вывучэнне выяў і фігурак жывёл, зааморфных рэчаў. Рэшткі млекакормячых з археал. помнікаў Беларусі ад палеаліту да сярэдневякоўя з 1930-х г. вывучалі расійскія даследчыкі В.Я.Гарут, В.І.Громаў, І.Г. Проніна, В.І.Цалкін. Косці птушак ідэнтыфікавалі К.Е.Анціпіна, М.І.Бурчак-Абрамовіч, А.М. Дарафееў, Н.У.Зелянкоў, Я.М.Курачкін. Працы па вызначэнні рэшткаў жывёл з раскопак 1950-х г. у ІГ НАН Беларусі наладзіла В.В.Шчаглова, з сяр. 1970-х г. вывучэнне калекцый праводзіла Н.П. Александровіч, з к. 1990-х г. працуюць В.А.Блашко, А.А.Разлуцкая. Вызначэнні фауны з помнікаў археалогіі рабілі В.І.Бібікава, А.М.Жураўлёў, А.Д.Пісаненка, Л.М.Рэкавец, Н.М.Сілёнак, палеантолагі П.Ф.Каліноўскі, А.М.Матузка, герпетолаг В.А.Бахараў, іхтыяфауны — Э.А.Ляшкевіч.

*Літ.*: Б у р ч а к - А б р а м о в и ч Н.И. К изучению орнитофауны древнего Волковыска // Тезисы докладов к конференции по археологии Белоруссии. Минск, 1969; Я г о ж. Материалы к изучению орнитофауны Древнего Волковыска // Там жа; К а л и н о в с к и й П.Ф. Териофауна позднего антропогена и голоцена Белоруссии. Минск, 1983; Щ е г л о в а В.В. Роль охоты в снабжении мясом населения на территории Беларуси в X—XIV вв. // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі. Мінск, 1993; Р а з л у ц к а я А.А. Промысел медведя в неолите и ранней бронзе на Севере Беларуси (по материалам стоянки Асовец-2) // ГАЗ. Мінск, 2001. № 16; Я е ж. Фауна замка Свислочь // Там жа. Мінск, 2004. № 19; А н т и п и н а Е.Е. Археозоологические исследования: задачи, потенциальные возможности и реальные результаты // Новейшие археозоологические исследования в России. М., 2003; R a z l u c k a j a A. Nowe badania materialow osteologicznych z grodzisk

*Указ аб заснаванні Імператарскай **археалагічнай камісіі**.*

УКАЗЪ

ПРАВИТЕЛЬСТВУЮЩЕМУ

СЕНАТУ.

Заведывающему Археологическими розысканиями, Члену Государственнаго Совѣта, Генералъ-Адъютанту Генералу отъ Кавалерiи Графу Строганову 1-му Всемилостивѣйше повелѣваемъ быть Предсѣдателемъ Императорской Археологической Коммисiи.

На подлинномъ Собственною Его Императорскаго Величества рукою подписано: „Александръ".

Въ С. Петербургѣ
Февраля 2го дня 1859 г.

Вѣрно:

białoruskiego podźwinia // Pruthenia Antiqua (Studia do pradziejów i wczesnej historii ziem pruskich). Olsztyn, 2004. Vol. 1. Człowiek a środowisko w epoce brązu i wczesnej epoce żelaza u południowo-wschodnich pobrzeżu Bałtyki.

*А.А.Разлуцкая.*

**АРХЕАІХТЫЯЛО́ГІЯ**, галіна *археазаалогіі*, якая вывучае рэшткі рыб. Устанаўленне па касцях і лусцы відаў, памераў, узросту рыб дазваляе рэканструяваць змяненні ў складзе іхтыяфауны, экалагічныя ўмовы існавання, тып харчавання стараж. чалавека, спосабы лову, ролю промыслу ў гасп. жыцці. Першыя даследаванні былі зроблены ў сяр. 19 ст. ў Швейцарыі, Даніі, Нідэрландах, Расіі (К.Кеслер — неаліт Ладажскага воз.). Важнае значэнне для развіцця А. мела заснаванне ў 1981 у г. Капенгаген Рабочай групы па вывучэнні касцявых рэштак рыб пры Міжнар. савеце па археазаалогіі, які аб'ядноўвае каля 150 даследчыкаў з розных краін. Першапачаткова бел. матэрыялы з Гродна, Ваўкавыска, гарадзішча *Чаплін* вывучаліся на біялагічным ф-це Маскоўскага дзярж. ун-та ў 1960-я г. Даследаванні ў А. з к. 1990-х г. праводзяцца ў ІГ НАН Беларусі (вызначэнне касцей) і Ін-це заалогіі НАН Беларусі (вызначэнне лускі). У Беларусі налічваецца каля 50 іхтыялагічных калекцый з археал. помнікаў каменнага веку (*Крывінскія стаянкі*), жал. веку і ранняга сярэдневякоўя (гарадзішчы Рацюнкі, Клішына, Мікольцы), раннефеад. гарадоў, замкаў і вясковых паселішчаў (Гомель, Маскаўцы, Свіслач, Слабодка, Тураў і інш.).

*Літ.*: П о б о л ь Л.Д., Ц е п к и н Е.А. Рыбы Чаплинскага городища // ВАНБ. 1960. № 2; Ц е п к и н Е.А. Промысловые рыбы древнего Волковыска // Древности Белоруссии. Минск, 1969; Л я ш к е в и ч Э.А. Ихтиофауна стоянок каменного и бронзового веков Северной Белоруссии // ГАЗ. Мінск, 2001. № 16; Я е ж. Рыболовство в средневековом Гродно (по материалам раскопок Старого замка) // Там жа. Мінск, 2004. № 19.

*Э.А.Ляшкевіч.*

**АРХЕАЛАГІ́ЧНАЯ КАМІ́СІЯ** п р ы Н а р о д н ы м к а м і с а р ы я ц е а с в е т ы Л і т о ў с к а - Б е л а р у с к а й С С Р (Літбел). Засн. 25.3.1919 паводле пастановы ўрада Літбела для каардынацыі і кіраўніцтва ўсімі даследаваннямі гіст. і археал. помнікаў на тэр. рэспублікі. Асн. мэты: пошук помнікаў, іх навук. вывучэнне, сістэматызацыя і ацэнка, публікацыя атрыманых звестак, ахова гіст. і культ. спадчыны. Камісія атрымала права ствараць даследчыя экспедыцыі, выдаваць навук. працы, распаўсюджваць археал. веды сярод насельніцтва, кіраваць працай архіваў, бібліятэк, музеяў. Разгарнуць работу А.к. перашкодзіла акупацыя тэр. Літбела войскамі Польшчы летам 1919.

*Літ.*: В е р г е й В.С. Первые шаги советской археологической науки в БССР // Древности Белоруссии и Литвы. Минск, 1982.

**АРХЕАЛАГІ́ЧНАЯ КАМІ́СІЯ** ў П е ц я р б у р г у, Р а с і й с к а я І м п е р а т а р с к а я а р х е а л а г і ч н а я к а м і с і я, цэнтральная археалагічная ўстанова Расіі ў 1859—1919. З 1889 дазваляла і кантралявала раскопкі на дзярж., гар. і сялянскіх землях (на памешчыцкія землі яе правы не пашыраліся). Выдавала штогоднік «Отчеты» за 1859—1915 (1862—1918), «Известия» (вып. 1—66, 1901—18), а таксама «Матэрыялы па археалогіі Расіі» (т. 1—37, 1866—1918). А.к. правяла вял. работу па зборы помнікаў старажытнасці, іх ахове і рэстаўрацыі, у т.л. на тэр. Беларусі. У розны час А.к. ўзначальвалі С.Р.Строганаў, А.А.Васільчыкаў, А.А.Бобрынскі. У 1918 рэарганізавана, пасля ліквідацыі яе функцыі перададзены Расійскай (з 1926 Дзярж.) акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры, з 1959 Ін-т археалогіі АН СССР, з 1991 ІГ матэрыяльнай культуры РАН.

**«АРХЕАЛАГІ́ЧНАЯ КА́РТА БЕЛАРУ́СІ»**, выданне Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Змяшчае пералікі выяўленых археал. помнікаў пэўных эпох, адпаведна адміністрацыйна-тэрытарыяльнаму падзелу Беларусі. У Мінску выйшлі 3 выпускі (1968—76) на рус. мове. У 1-м вып. «Помнікі каменнага веку» (1968, складальнік У.Ф.Ісаенка), пералічаны 601 помнік палеаліту, мезаліту і неаліту, якія выяўлены на тэр. Беларусі і суседніх раёнаў Расіі і Украіны. У 2-м «Помнікі жалезнага веку і эпохі феадалізму» (1971, складальнік Г.В.Штыхаў) названы гарадзішчы, селішчы, курганы, камяні з надпісамі, манетныя і манетна-рэчавыя скарбы. У 3-і вып. «Помнікі бронзавага веку» (1976, складальнік У.Ф.Ісаенка) уключана 2400 помнікаў гэтага перыяду. Дадзена апісанне асобных археал. культур, сацыяльна-эканамічнага развіцця плямён. У кожным выпуску змешчана характарыстыка адпаведнай эпохі на тэр. Беларусі, прыво-

дзяцца спісы і карты помнікаў, даецца бібліяграфія. Выданне ілюстравана фотаздымкамі і замалёўкамі археал. знаходак, планамі некаторых помнікаў. *У.Ф.Ісаенка, Г.В.Штыхаў.*

**«АРХЕАЛАГІ́ЧНАЯ КА́РТА ГРО́ДЗЕНСКАЙ ГУБЕ́РНІ»**, навукова-краязнаўчая праца археолага Ф.В.Пакроўскага, падрыхтаваная да *Археалагічнага з'езда дзевятага*. Надрукавана ў «Працах дзевятага археалагічнага з'езда ў Вільні, 1893» (т. 1, 1895). У аснову кнігі пакладзены звесткі, сабраныя аўтарам самастойна або праз мясц. карэспандэнтаў (вясковых настаўнікаў, стараст, святароў), выкарыстаны публікацыі даследчыкаў Т.Тышкевіча, З.Глогера, Э.Вольтэра, М.Авенарыуса і інш. Археал. матэрыял размешчаны паводле гідраграфічнага члянення губерні: басейн р. Нёман (Гродзенскі, большая частка Слонімскага і Ваўкавыскага пав.), басейн р. Бобр (частка Сакольскага і Беластоцкага пав.), басейн р. Нараў (Ваўкавыскі, Пружанскі, Бельскі, Беластоцкі, частка Сакольскага пав.), басейн р. Зах. Буг (Брэсцкі, частково Кобрынскі, Бельскі і Пружанскі пав.), басейн р. Прыпяць (частка Слонімскага, Пружанскага і Кобрынскага пав.). Названы стаянкі і асобныя знаходкі каменнага веку, гарадзішчы жал. веку, курганныя групы, замкавыя горы, надмагільныя крыжы, камяні і пліты з надпісамі і без іх эпохі сярэдневякоўя. Змешчана шмат легенд і паданняў, звязаных з рознымі мясцінамі і помнікамі. *М.А.Ткачоў.*

**«АРХЕАЛАГІ́ЧНАЯ КА́РТА МАГІЛЁЎСКАЙ ГУБЕ́РНІ»**, адна з асноўных прац Е.Р.Раманава ў галіне археалогіі. Падрыхтоўка яе пачалася каля 1884. Паводле пастановы Віленскага аддзялення папярэдняга к-та *Археалагічнага з'езда дзевятага* карту планавалася надрукаваць на працягу 2 гадоў да пачатку з'езда (1893). Выданне не адбылося з-за недастатковасці звестак (былі толькі пра курганы і гарадзішчы) і пратэрміноўкі адказаў на разасланыя лісты (апошні дасланы ў 1897). У дапрацаваны варыянт карты Е.Р.Раманаў уключыў падрабязныя звесткі пра месцазнаходжанні шматлікіх прылад працы каменнага веку, каменныя крыжы з надпісамі і без іх, камяні-следавікі з выявамі крыжоў, месяца, падковы і пісталета (мяст. Хальч), язычніцкага ідала ў выглядзе 4-кантовага каменнага слупа з высечанай наверсе галавой (в. Пярэспа Сенненскага пав.), крыж з літарамі ІС $\frac{XC}{XЪ}$ і надпісам «БАРИСЪ БАИСЬЪ» (мяст. Раманава), «замкавішчы», палі пахаванняў, ахапіўшы практычна ўсе катэгорыі археал. помнікаў губерні. Вучоны пералічыў віды курганных пахаванняў (у мацерыку, на мацерыку, у насыпе, у труне і без яе, трупаспаленне па-за межамі кургана, у кургане, са зброяй, курганы-кенатафы, парныя курганы, злучаныя невял. валамі). Асаблівасцю могільнікаў Магілёўшчыны Е.Р.Раманаў лічыў наяўнасць у адных і тых жа могільніках розных відаў пахаванняў. Ім зафіксавана 9506 курганных насыпаў (у 1885—88 раскапаў 39 курганоў), атрыманы звесткі пра 245 гарадзішчаў. Е.Р.Раманаў зазначаў, што насельніцтва на Пн Магілёўскай губ. называла курганы «капцамі», на Пд — «валатоўкамі», на У — «курганамі». Да карты былі напісаны фізіка-геаграфічны і гіст. нарысы. Выдадзены толькі «Археалагічны нарыс Гомельскага павета (Магілёўскай губерні)» і фізіка-геаграфічны нарыс губерні (Вільня, 1910). Усе рукапісныя матэрыялы, апытальныя лісты захоўваюцца ў Цэнтр. гіст. архіве Украіны ў Львове.

*Літ.*: Р а с с а д и н С.Е. Неизданная книга: (Е.Р. Романов «Археологическая карта Могилевской губернии») // История книги, книжного дела и библиографии в Белоруссии. Минск, 1986.

*С.Я.Рассадзін, М.А.Ткачоў.*

**АРХЕАЛАГІ́ЧНАЯ ПРА́КТЫКА**, вучэбна-метадычны курс, прадугледжаны праграмай для студэнтаў гіст. ф-таў ВНУ. Паводле вучэбнай праграмы для практыкі адводзіцца 18—21 дзень. За гэты час студэнты павінны авалодаць навыкамі пошуку і раскопак *археалагічных помнікаў*, апрацоўкі знаходак і вядзення палявой дакументацыі. А.п. складаецца з падрыхтоўчага, асн. і заключнага этапаў. Спачатку студэнты-практыканты атрымліваюць тэарэтычную падрыхтоўку на лекцыях, знаёмяцца з відамі археал. помнікаў, методыкай іх выяўлення і даследавання, умовамі палявога побыту археал. экспедыцыі, тэхнікай бяспекі. Удзельнікі экспедыцыі забяспечваюцца неабходным інвентаром, абсталяваннем, транспартам, грашовымі сродкамі. На 2-м этапе студэнты-практыканты пад кіраўніцтвам выкладчыка, які мае *адкрыты ліст*, займаюцца выяўленнем і апісаннем археал. помнікаў (гарадзішчаў, паселішчаў, могільнікаў і інш.), удзельнічаюць у раскопках, знаёмяцца з тэхнікай вядзення палявой дакументацыі, пярвічнай апрацоўкі і кансервацыі археал. знаходак. На заключным этапе падводзяцца вынікі практыкі. У пачатку новага вучэбнага года праводзяцца канферэнцыі, на якіх заслухоўваюцца паведамленні кіраўніка практыкі і студэнтаў, дэманструюцца матэрыялы палявога сезона (слайды, фотаздымкі, знаходкі). Інфармацыя аб выніках А.п. змяшчаецца ў зборніку канферэнцыі, сродках масавай інфармацыі, у справаздачы аб палявых даследаваннях.

*Літ.*: А в д у с и н Д.А. Полевая археология. М., 1980; Л е в к о О.Н. Практическая археология. Могилев, 2006. *Л.У.Калядзінскі.*

**АРХЕАЛАГІ́ЧНАЯ ЭКСПЕДЫ́ЦЫЯ**, форма правядзення навукова-даследчых работ па выяўленні, фіксацыі і вывучэнні археал. помнікаў. У Беларусі праводзіцца ў адпаведнасці з планамі н.-д. работ ІГ НАН Беларусі, рэспубліканскага Нац. музея гісторыі і культуры Беларусі, абл. гісторыка-краязнаўчых музеяў, гіст. ф-та БДУ, а таксама ў выпадку пазапланавых даследчых, ахоўных ці выратавальных работ на помніках археалогіі, што знаходзяцца пад пагрозай знішчэння. Ствараецца загадам адміністрацыі ўстановы, якая мае права на правядзенне археал. работ (ІГ НАН Бела-

русі, БДУ, Магілёўскі, Гомельскі, Гродзенскі, Брэсцкі, Віцебскі, Полацкі ун-ты, Бел. педагагічны ун-т імя М.Танка, рэспубліканскі Нац. музей гісторыі і культуры Беларусі, абл. гісторыка-краязнаўчыя музеі Мінска, Магілёва, Гомеля). У структуру А.э. ўваходзяць археал. атрады і групы. Уключае кіраўніка экспедыцыі, яго намесніка, навук. супрацоўнікаў (штатных і пазаштатных), лабарантаў, чарцёжнікаў, фатографаў і інш. (усяго 15—20 чал.). Абавязкі ўдзельнікаў А.э. і размеркаванне работ у ёй рэгламентаваны Інструкцыяй аб правядзенні палявых работ. Кіраўнік А.э. атрымлівае *адкрыты ліст*, адказвае за тэхніку бяспекі ў час правядзення раскопак на археал. помніках, якасць работ і фіксацыю працэса раскопак, апрацоўку і захаванне здабытага матэрыялу, рэкультывацыю месца правядзення раскопак пасля іх завяршэння. Для раскопак у А.э. набіраюцца рабочыя, найчасцей мясц. старшакласнікі або студэнты ВНУ, якія праходзяць *археалагічную практыку*. Экспедыцыя, атрады і групы забяспечваюцца адпаведным рыштункам і абсталяваннем, пры фінансавай магчымасці — аўтатранспартам. Вынікам работ А.э. з'яўляецца справаздача аб даследаваннях, якую абмяркоўваюць у аддзелах і палявым к-це ІГ НАН Беларусі.

*Л.У.Калядзінскі.*

**АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ З'ЕЗД ДЗЕВЯ́ТЫ.** Адбыўся 31.7—14.8.1893 у Вільні па прапанове *Маскоўскага археалагічнага таварыства*. Пасяджэнні праходзілі ў памяшканні Віленскай публічнай бібліятэкі пад старшынствам графіні П.С.Уваравай пры ўдзеле 395 дэлегатаў (археолагаў, этнографаў, краязнаўцаў, гісторыкаў і інш.). Заслухана 86 дакладаў, з іх 43 прысвечаны старажытнасцям Беларусі: даследаванні курганоў Магілёўскай (У.З.Завітневіч, М.В.Фурсаў) і Мінскай (М.П. Авенарыус, Г.Х.Татур) губ., на мяжы Літвы і Беларусі (Ф.В.Пакроўскі), помнікаў бронзавага веку ў басейне Дняпра (К.П.Мельнік), пра заснаванне Гродна (Я.Ф.Арлоўскі), гісторыю Брэста (Л.С.Паеўскі), каменныя бабы (С.С.Слуцкі), стараж. храмы Віцебска і Полацка (А.М.Паўлінаў) і інш. У час работы з'езда працавала выстаўка археал. знаходак. Выдадзены «Працы дзевятага археалагічнага з'езда ў Вільні, 1893» пад рэдакцыяй П.С.Уваравай і С.С.Слуцкага, «Каталог прадметаў, дастаўленых на археалагічную выстаўку пры 9-м археалагічным з'ездзе ў Вільні ў 1893». У 1891 з мэтай падрыхтоўкі і правядзення 9-га А.з. створаны Маскоўскі падрыхтоўчы к-т з аддзяленнем у Вільні (кіраўнік генерал-лейтэнант А.П.Тыртоў, яго намеснік Ю.Ф.Крачкоўскі, члены к-та Ф.М.Дабранскі, І.Я.Спрогіс, К.І.Снітка, В.М.Плашчынскі, Ф.В.Пакроўскі, А.П.Адамсон, В.І.Насовіч, А.І.Шверубовіч, В.В.Гразноў, Я.Ф. Карскі, М.І.Самойла, П.Д.Бранцаў, М.І.Каханаў, І.П.Трутнеў). Выпрацавана праграма вывучэння старажытнасцей Беларусі і Літвы, якая ўключала праверку наяўных звестак аб курганах і гарадзішчах, разведачныя раскопкі новых археал. помнікаў, абагульненне атрыманых матэрыялаў, стварэнне археал. карт, збор дадзеных аб прыватных калекцыях. Для яе выканання распрацаваны апытальны ліст, які ў 7 тыс. экз. разасланы ў органы мясц. адміністрацыі, статыстычныя к-ты, прыватным асобам. Віленскае аддзяленне Маскоўскага падрыхтоўчага к-та атрымала каля 900 адказаў ад настаўнікаў, святароў, ляснічых, валасных пісараў. Да працы па рэалізацыі праграмы запрашаліся вучоныя з Масквы, Пецярбурга, Кіева, Харкава, Адэсы, Юр'ева (Тарту), Варшавы і інш. Вылучаныя папячыцелем Віленскай навучальнай акругі і ахвяраваныя прыватнымі асобамі сродкі пайшлі на выданне прац 9-га А.з. Магілёўскі губернатар А.С.Дамбавецкі фінансаваў археал. працы ў Падняпроўі Е.Р.Раманава, У.З. Завітневіча, М.В.Фурсава, С.Ю.Чалоўскага. Мэтанакіраваныя даследаванні археал. помнікаў у адпаведнасці з праграмай да з'езда правялі У.З. Завітневіч, Ф.В.Пакроўскі, М.В.Фурсаў, С.Ю. Чалоўскі, В.А.Шукевіч, А.С.Дамбавецкі, М.П.Авенарыус, Э.А.Вальтэр. Адбылося 15 пасяджэнняў арганізацыйнага к-та. Да 9-га А.з. завершаны *«Археалагічная карта Гродзенскай губерні»* (Ф.В.Пакроўскі), «Археалагічная карта Віленскай губерні», падрыхтаваны карты Віцебскай, Ковенскай, Мінскай і Магілёўскай губ. (гл. *«Археалагічная карта Магілёўскай губерні»*).

*Літ.*: Сторожев В.Н. IX археологический съезд в г. Вильно. Санкт-Петербург, 1894; Алексеев Л.В. Белорусская археология и историческое краеведение во второй половине XIX — начале XX в. // СА. 1968. № 3; Каханоўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мінск, 1984; Вяргей В. Археалагічнае вывучэнне Беларусі ў другой палове XIX ст. // ГАЗ. Мінск, 2006. Вып. 22.

**АРХЕАЛАГІ́ЧНЫЯ З'Е́ЗДЫ.** Склікаліся кожныя тры гады з 1869 па 1914 па ініцыятыве *Маскоўскага археалагічнага таварыства* (МАТ) з мэтай каардынацыі дзейнасці навук. археал. аб'яднанняў, папулярызацыі гісторыка-археал. даследаванняў, фарміравання і развіцця правінцыяльных музеяў. Праведзена 15 з'ездаў: I у 1869 (Масква), II — 1871 (Пецярбург), III — 1874 (Кіеў), IV — 1877 (Казань), V — 1884 (Адэса), VI — 1887 (Яраслаўль), VII — 1890 (Масква), VIII — 1891 (Тбілісі), IX — 1893 (Вільна, гл. *Археалагічны з'езд дзевяты*), X — 1896 (Рыга), XI — 1899 (Кіеў), XII — 1902 (Харкаў), XIII — 1905 (Кацярынаслаў), XIV — 1908 (Чарнігаў), XV — 1911 (Ноўгарад). 16-ы А.з., назначаны на 1914 у Пскове, быў адкладзены ў сувязі з пач. 1-й сусветнай вайны. Ідэя правядзення А.з. выказана старшынёй МАТ графам А.С.Уваравым. Дазвол на адкрыццё 1-га А.з. атрыманы 27.4.1867. А.з. знаходзіліся ў ведамстве Мін-ва нар. асветы, якое зацвердзіла ў 1868 правіла іх правядзення. Месца А.з. вызначалася на апошнім пасяджэнні з'езда, дзе адбыліся выбары папярэдняга к-та для арганізацыі падрыхтоўчай работы. Функцыі навук. кантролю А.з. вызначаў вучоны к-т (старшыні з'ездаў і сакратары аддзяленняў). Праграма дзейнасці А.з. уключала на-

вук. пасяджэнні, даклады і выстаўкі. З'езды насілі тэматычны характар і былі прысвечаны праблемам слав. археалогіі і старажытнасцям Кіева, Казані, Беларусі і Літвы, комплекснаму вывучэнню Каўказскага рэгіёна і пытанням усх. і візантыйскай археалогіі, гісторыі засялення Прычарнамор'я, вывучэнню і захаванню рус. культуры і праваслаўнага мастацтва, царкоўнай археалогіі, 25-гадоваму юбілею МАТ. Традыцыйнымі аддзяленнямі ў праграме работы з'ездаў былі «Старажытнасці першабытныя», «Помнікі мастацтва», «Помнікі пісьменства і мовы», «Гістарычная геаграфія і этнаграфія». Арганізацыяй выставак займаліся папярэднія к-ты, супрацоўнікі якіх адшуквалі і адбіралі экспанаты, складалі іх навук. апісанні, экспазіцыю, рыхтавалі каталог. У выстаўках удзельнічалі архівы, музеі, грамадскія аб'яднанні, калекцыянеры, шматлікія рэлігійныя арганізацыі, цэрквы і манастыры.

*Літ.*: Л е б е д е в Г.С. История отечественной археологии, 1700—1917 гг. Санкт-Петербург, 1992.

**АРХЕАЛАГІ́ЧНЫЯ МІКРАТАПО́НІМЫ**, народныя назвы помнікаў археалогіі, элементы этнакультурнага ландшафту, якія адлюстроўваюць міфапаэтычныя ўяўленні стараж. людзей. Амаль пра кожнае гарадзішча і курганны могільнік існуюць паданні, часам у некалькіх варыянтах, якія тлумачаць іх спецыфічныя назвы.

Сярод назваў гарадзішчаў шырока распаўсюджаны Гарадок, Гарадзец, Гарадзішча, Замак, Акоп, Батарэя, Татарская гара, Французская гара. З язычніцкімі вераваннямі звязаны назвы Капішча, Акураўшчына, Акунь-Гара, Дымакуры, Ігрышча, Гуслішча, Дзявочая Гара. Вядомы назвы, звязаныя з рэальнымі гіст. персанажамі: Гара Рагвалода і Рагнеды (в. Перавоз Расонскага р-на), Гара кн. Багуміла (в. Качановічы Нясвіжскага р-на), Замак каралевы Боны (гарады Мядзел, Рагачоў) і інш.

Для курганных могільнікаў найб. характэрны назвы Валатоўкі, Капцы, Курганы. Часам яны маюць яшчэ і дублетныя назвы: Татарскія магілы, Шведскія магілы, Французскія магілы, Французскія валатоўкі. Асобнай назвай звычайна вылучаюцца вял. насыпы (Волатава магіла, Княжая магіла, Дзявіч-Гара), а таксама адзіночныя курганы (Асілкава магіла, Магіла Міндоўга, Магіла Войшалка). Адметныя назвы маюць курганна-жальнічныя могільнікі (Галодныя магілы, Галоднік), каменныя магілы (Баярскія могілкі, Паганскія магілы, Яцвяжскія магілы), жальнікі (Халернік, Аўстрыйскія магілы, Жалі).

Захаваліся назвы месц старых могільнікаў — Кладавішча, Паганскі цвінтар, Чумныя могілкі, Мёртвае Поле; паселішчаў — Сяльцо, Гарадшчызна, Бабулін Бугор. Нар. назвы характэрны і для культавых камянёў — Божы камень, Чортаў камень, Волат, Пярун, Быкі, Кравец, Шавец; каменных крыжоў — Крыж-Баба, Кацярынінскі крыж, Каралеўскі камень, Растучы крыж.

Сувязь пэўных тапонімаў з наяўнасцю археал. аб'ектаў улічваецца пры правядзенні археал. разведкі.

*Літ.*: К а х а н о ў с к і Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мінск, 1984; Д у ч ы ц Л.У. Археалагічныя помнікі ў назвах, вераваннях і паданнях беларусаў. Мінск, 1993; Я е ж. Да пытання аб вялікіх курганах Беларусі // ГАЗ. Мінск, 2000. № 15; Я е ж. Этнаграфія і міфалогія курганоў Беларусі // Там жа. Мінск, 2006. № 21; Л о б а ч У.А. Курганы і гарадзішчы ў міфапаэтычнай карціне свету беларусаў // Вестн. Полоцкого гос. ун-та. Сер. А. 2007. №7.

*Л.У.Дучыц.*

**АРХЕАЛАГІ́ЧНЫЯ ПО́МНІКІ**, месцазнаходжанні, якія звязаны з жыццядзейнасцю і культурай стараж. чалавека, прымеркаваны да натуральных ландшафтаў і з'яўляюцца аб'ектам археал. вывучэння. Сярод А.п. вылучаюць: паселішчы (стаянкі, селішчы, гарадзішчы), пахаванні [бескурганныя (грунтавыя) і курганныя могільнікі, жальнікі, дальмены, катакомбы], мегалітычныя збудаванні (менгіры, кромлехі), месцы стараж. вытворчасці і горных выпрацовак (майстэрні, рудні, шахты), каменныя выявы (ідалы, каменныя бабы, стэлы і крыжы, камяні-следавікі), асобныя з якіх маюць надпісы і вызначаюцца сваім шматфункцыянальным, у большасці культавым, прызначэннем. Да асобнай катэгорыі А.п. адносяць помнікі першабытнага мастацтва (петрогліфы, графіці, скульптура), скарбы, рэшткі фартыфікацый (валы, рвы), ірыгацыйных сістэм, каналаў, водаправодаў, стараж. дарог, культавай і грамадзянскай архітэктуры, месцазнаходжанні асобных артэфактаў і інш. Вывучэнне помнікаў накіравана на атрыманне археал. крыніц, што выкарыстоўваюцца для правядзення рэканструкцый матэрыяльнай і духоўнай культуры грамадства. У Беларусі вядома каля 11 тыс. А.п.: 2 тыс. — каменнага і бронзавага вякоў і 9 тыс. — ранняга жал. веку і эпохі сярэдневякоўя.

*Літ.*: А в д у с и н Д.А. Полевая археология СССР. 2 изд. М., 1980; М а р т ы н о в А.И., Ш е р Я.А. Методы археологического исследования. 2 изд. М., 2002.

*А.У.Коласаў.*

**АРХЕАЛАГІ́ЧНЫЯ ПО́МНІКІ РАЁНАЎ МАГІЛЁЎСКАЙ ВО́БЛАСЦІ**, серыя манаграфій В.Ф.Капыціна па выніках вывучэння помнікаў археалогіі на тэр. 17 раёнаў вобласці: Круглянскага (1991), Бялыніцкага, Чавускага (абедзве 1992), Магілёўскага, Шклоўскага (абедзве 1993), Дрыбінскага, Чэрыкаўскага (абедзве 1994), Быхаўскага (1995), Касцюковіцкага, Краснапольскага (абедзве 1996), Слаўгарадскага, Хоцімскага (абедзве 1997), Клімавіцкага (1998), Крычаўскага (1999), Бабруйскага (2001), Кіраўскага (2002), Глускага (2004). У манаграфіях змешчаны фізікагеаграфічныя апісанні, гісторыя археал. вывучэння, нарысы стараж. гісторыі, рэестры помнікаў археалогіі з дадаткам (археал. карта, планы помнікаў, табліцы знаходак). Мэта — падрыхтоўка і стварэнне археал. карты Магілёўскай вобл., якая часткова была рэалізавана ў публіка-

цыі «Збор помнікаў археалогіі чарнобыльскай зоны Магілёўскай вобласці» (1998).

*Літ.*: Копытин В.Ф. О создании Свода памятников археологии Могилевской области // Проблемы археологии и древней истории Верхнего Поднепровья и соседних территорий: междунар. науч. конф. (30 янв. — 1 февр. 2002 г.): докл. и сообщения. Могилев, 2002.

*А.У.Коласаў.*

**АРХЕАЛО́ГІЯ** (ад грэч. arhaios старажытны, старадаўні + logos слова, паняцце, вучэнне), навука, якая займаецца вывучэннем мінулага людзей праз адкрыццё, інтэрпрэтацыю матэрыяльных рэштказ і інш. слядоў дзейнасці чалавека. Вылучаюць А. дагіст. (першабытную) і протагіст. (гіст.). Дагістарычная А. займаецца даследаваннем эпох, у якія не было пісьменнасці, таму іх вывучэнне магчыма толькі на падставе археал. крыніц. Протагістарычная А. вывучае матэрыяльныя рэшткі тых перыядаў гісторыі чалавецтва, ад якіх захаваліся пісьмовыя звесткі. Існуюць падыходы, пры якіх дагіст. А. і дагісторыя атаясамліваюцца і разглядаюцца ў якасці асобнай археал. дысцыпліны. Паводле інш. меркаванняў, гэтыя 2 галіны ведаў неабходна раздзяляць: першая звязваецца з вывучэннем дагіст. матэрыяльнай культуры, другая — з комплекснай (хаця і засн. гал. чынам на археал. крыніцах) рэканструкцыяй дагісторыі. У марксісцкім навуказнаўстве А. разглядаецца ў сістэме гіст. навукі — у рамках гісторыі першабытнага і сярэдневяковага грамадства, дзе ёй адводзіцца роля субдысцыпліны. Паводле амерыкана-брытанскай навуказнаўчай традыцыі, А. адносяць да адной з дысцыплін антрапалогіі (навукі пра чалавека), якая дзеліцца на фізічную і культ. (сацыяльную). А. бачыцца як адзін з раздзелаў культ. антрапалогіі.

Тэрмін «А.» ўпершыню быў ужыты ў 5 ст. да н.э. антычным гісторыкам Фукідзідам у працы «Пелапанеская вайна». Самыя раннія сведчанні, у якіх адлюстроўваецца цікавасць да архаічных культур, адносяцца да перыяду 18-й дынастыі фараонаў Егіпта. Вядома, што ў 6 ст. да н.э. вавілонскі цар Набанід збіраў у сваім палацы калекцыю архаічных артэфактаў. Рымляне праяўлялі вял. цікавасць да стараж.-грэч. мастацтва, але пошукі і зборы яго твораў часам ператвараліся ў рабаванне і знішчэнне помнікаў антычнага перыяду. У сярэдневяковы час стараж. аб'екты звычайна разглядаліся як схованкі скарбаў, крыніца нажывы. Эпоха Адраджэння разам з цікавасцю да антычнасці прынесла разуменне таго, што стараж. матэрыяльныя рэшткі могуць быць важнымі носьбітамі інфармацыі пра класічны перыяд гісторыі чалавецтва. У Італіі, а затым у многіх інш. краінах Еўропы становяцца папулярнымі антыкварныя калекцыі, якія складаюцца пераважна з твораў класічнага мастацтва, здабытых вельмі часта ў ходзе раскопвання стараж. пахаванняў, будынкаў. Сярод еўрап. антыквараў, якія ўжо ў 17 ст. сталі аб'ядноўвацца ў т-вы, расла цікавасць да сістэматызацыі знойдзеных старажытнасцей і ўстанаўлення іх храналогіі. Пры дварах манархаў, а таксама ў некаторых ун-тах узнікаюць першыя музейныя зборы, якія складаюцца таксама і з археал. знаходак. У 18 ст. ў Вялікабрытаніі інтэнсіўна раскопваліся мясц. курганныя пахаванні, а каштоўныя рэчы траплялі ў калекцыі каралёў і багатых вяльмож. У 1710 пачынаюцца раскопкі ў Пампеях (Італія). Адну з першых фундаментальных і шырокавядомых навук. прац, у якой апісвалася і аналізавалася вял. колькасць археал. матэрыялаў, напісаў у 1764 Ё.Вінкельман (1717—68).

А. як навук. дысцыпліна развіваецца з сяр. 19 ст., калі з'яўляюцца першыя працы па сістэматызацыі археал. знаходак, археал. перыядызацыі, стратыграфіі пластоў і інш. У 1836 дацкі вучоны К.Томсен (1788—1865), прааналізаваўшы стыль, аздабленне і кантэкст, вылучыў у археал. зборах Нац. музея Капенгагена 3 асн. групы знаходак, якія паходзілі адпаведна з эпох каменю, бронзы і жалеза, стварыўшы тым самым аснову археал. перыядызацыі, т.зв. сістэму трох вякоў. З пашырэннем у 2-й пал. 19 ст. эвалюцыйнай тэорыі Ч.Дарвіна распаўсюджваецца тэорыя эвалюцыянізму, што істотна паўплывала, напр., на працэс адкрыцця і даследавання помнікаў палеаліту ў Францыі. Вучонымі Э.Лартэ і Г. дэ Мартылье на падставе канцэпцыі змен палеанталагічных і культ. комплексаў ствараецца перыядызацыя палеалітычных комплексаў. У 2-й пал. 19 ст. распрацоўваюцца агульнаеўрап. і рэгіянальныя сістэмы адноснай храналогіі і перыядызацыі культур. Вял. роля ў гэтым накірунку даследаванняў належала П.Рэйнеке і О.Мантэліусу (1843—1921). Апошні, выкарыстоўваючы параўнальна-тыпалагічны метад, у 1870—90-я г. стварыў перыядызацыю неаліту, бронзавага і жал. вякоў для Паўн. Еўропы на падставе тыпалогіі металічных вырабаў з закрытых комплексаў. У пач. 20 ст. з узрастаннем уплыву культ.-гіст. школы ў этналогіі вял. значэнне набывае эвалюцыяністцкая тэорыя лінейнага і стадыяльнага развіцця культуры, дасягненні якой распаўсюджваліся ў працэсе дыфузій і міграцый. Нямецкі праф. Г.Касіна (1858—1931), выкарыстоўваючы паняцце археал. культуры, стварае т.зв. этнічны метад у А. Археал. культ. правінцыі, паводле Г.Касіны, суадносяцца з пэўнымі народамі ці плямёнамі. Розніца альбо падабенства археал. культур адлюстроўвае розніцу альбо падабенства этнічных груп, якія іх стварылі. Абапіраючыся на этнічную тэорыю, вучоны становіцца прыхільнікам ідэі адвечных праў германцаў на еўрап. тэрыторыі і іх выключнага значэння ў гісторыі індаеўрап. народаў, спрыяючы тым самым ідэалогіі расізму.

З к. 19 — пач. 20 ст. да 1960-х г. культ.-археал. падыход, змяняючы свой змест, становіцца распаўсюджаным метадам археал. навукі. У гэты перыяд у А. асн. месца займаюць працы па класіфікацыі, сістэматызацыі, храналогіі артэфактаў і комплексаў, вылучэнні і апісанні археал. культур. Актыўна ўдасканальваюцца метады і спосабы правядзення археал. даследаванняў. Перша-

пачаткова перавага аддавалася збору і пошукам асобных артэфактаў, аб'ектаў, пры раскопках улічвалася гал. чынам гарызантальная стратыграфія. З развіццём методыкі археолагі пачалі комплексна ацэньваць і выкарыстоўваць гарызантальную і вертыкальную стратыграфію, абапірацца на паквадратную методыку раскопак, ствараць палявую дакументацыю асобных аб'ектаў, помнікаў і інш. Далейшы рух наперад пераконваў у неабходнасці раскопак шырокімі плошчамі, дакладнага і дасканалага даследавання стратыграфіі, дакументавання раскопак у трохмернай праекцыі з выкарыстаннем спец. тэхнічных прыстасаванняў і г.д.

Каталізатарам істотных змен у развіцці еўрап. археал. навукі становяцца працы англійскага археолага Г.Чайлда (1892—1957), які, даследуючы працэс развіцця культур неаліту і эпохі бронзы ў Еўропе, не абмяжоўваўся фіксацыяй культ. змен, храналогіяй, перыядызацыяй і карэляцыяй культур. Г.Чайлд бачыў шлях развіцця еўрап. культур малазалежным ад цывілізацыйных цэнтраў, найперш ад стараж. культур Блізкага Усходу. Археал. культура, паводле яго пераканання, павінна быць крыніцай для рэканструкцыі гасп., сацыяльных, палітычных і інш. бакоў жыцця яе носьбітаў. Крытыку канцэпцый дыфузіянізму і культ.-гіст. падыходу ў сваіх працах працягваў Г.Кларк, які сцвярджаў, што мэтай А. павінны быць даследаванні ладу жыцця людзей мінулага, эканамічная, сацыяльная і палітычная структуры грамадства, якія звязаны ў адну функцыянальную сістэму і існуюць у цеснай сувязі з навакольным асяроддзем. Ён і некаторыя інш. археолагі пачынаючы з 1940-х г. скіроўваюцца на інтэрдысцыплінарныя даследаванні, у т.л. з выкарыстаннем дасягненняў прыродазнаўчых навук.

1960-я г. — пераломныя ў гісторыі А. Разгортваюцца дыскусіі па тэарэтычных асновах археал. навукі, гал. месца ў якіх займаюць спрэчкі вакол праблем інтэрпрэтацыі ў А. У брытана-амерыканскай А. ўзнікае новы напрамак — т.зв. новая (працэсуальная) А. Маладое пакаленне археолагаў (Л.Бінфард, Д.Кларк і інш.) імкнецца сцвердзіць новыя тэарэтычныя асновы археал. навукі: археал. даследаванне не павінна абмяжоўвацца толькі апісаннем, класіфікацыяй і тыпалогіяй артэфактаў, рэканструкцыяй ладу жыцця мінулых пакаленняў, археолаг павінен імкнуцца вызначыць і растлумачыць сутнасць тых ці інш. змен; культура павінна разглядацца праз прызму сістэмнага падыходу, пры гэтым неабходна улічваць узаемадзеянне ў ёй розных падсістэм (сацыяльнай, ідэалагічнай, дэмаграфічнай, тэхналагічнай і інш.); тлумачыць развіццё неабходна праз унутраныя змены самой сістэмы, якія адбываліся паводле эканамічных, дэмаграфічных, экалагічных і інш. прычын, не пакідаць па-за ўвагай помнікі, якія лічыліся раней малавыразнымі і неістотнымі, разглядаць іх на шырокім фоне і ў кантэксце сістэмных змен; пры раскопках важна выкарыстоўваць усе магчымыя спосабы здабывання інфармацыі, у т.л. метады дакладных навук, элементы тэорыі інфармацыі, статыстычныя метады і г.д. З'яўленне «новай А.» стымулявала дыскусіі па методыка-метадалагічных асновах археал. навукі. Тэарэтычным спрэчкам спрыялі новыя тэндэнцыі ў філасофска-гуманістычным развіцці навуказнаўства, у прыватнасці распрацоўка ідэй постструктуралізму, неамарксізму, герменеўтыкі і інш., што прывяло да з'яўлення ў 1990-я г. т.зв. постпрацэсуальнай (кантэкстуальнай, інтэрпрэтацыйнай) А. Новы накірунак стваралі брытана-амерыканскія археолагі Я.Ходэр, М.Шанкс, Х.Тылей і іх прыхільнікі. «Постпрацэсуалісты» падкрэсліваюць сацыяльную значымасць археал. даследаванняў; робяць акцэнт на непаўторны характар кожнай культуры, супольнасці, асобы, што вымушае шукаць у кожным выпадку індывідуальныя метады «вычытвання» адмысловага кантэксту; не можа быць слушнай толькі адна інтэрпрэтацыя — адзін і той жа факт можа мець у залежнасці ад кантэксту шмат розных інтэрпрэтацый. Прыхільнікі постпрацэсуалізму шмат увагі надаюць даследаванням ролі палоў у далёкім мінулым, а таксама спосабаў мыслення, сістэм вераванняў і паводзін стараж. людзей (кагнітыўна-працэсуальны накірунак А.), вытлумачэння іх знакавых сістэм, у т.л. праз сувязь з існуючымі культ. традыцыямі.

У сяр. 1970-х г. актыўна заяўляе пра сябе феміністычная А. Увага звяртаецца на ролю палоў у стварэнні культуры і на адносіны, якія складваліся паміж паламі ў старажытнасці (т.зв. гендэрныя даследаванні). На падставе археал. матэрыялу палавыя ўзаемадачыненні разглядаюцца ў сацыяльных і культ. катэгорыях.

У сучаснай А. назіраецца пэўная спецыялізацыя і дыферэнцыяцыя ў залежнасці ад структурных катэгорый, якія выходзяць на першы план: 1) паводле эпох і перыядаў, гісторыка-культ. комплексаў адпаведнага храналагічнага этапу (А. каменнага веку, неаліту, эпохі бронзы, сярэдневяковая, антычная, біблейская А. і г.д.); 2) паводле вылучаных этнічных груп і народаў (А. славян, балтаў і г.д.); 3) паводле гісторыка-геаграфічнага і дзярж.-адміністрацыйнага падзелу (А. Месапатаміі, Расіі, Падняпроўя, Прыбалтыкі, Міжземнамор'я і г.д.); 4) паводле спецыялізацыі навукоўцаў і спосабаў здабывання археал. ведаў (падводная, эксперыментальная, выратавальная, «мокрая», паветраная, геаграфічная, А. навакольнага асяроддзя, этнаархеалогія і інш.). У залежнасці ад прыхільнасці археолага да адпаведнай сферы археал. дзейнасці ён можа лічыцца спецыялістам у палявой альбо тэарэтычнай, музейнай альбо універсітэцкай (акадэмічнай) А.

Асн. і зыходныя паняцці А. — археал. крыніца (рэчавы аб'ект або сукупнасць аб'ектаў, якія з'яўляюцца патэнцыяльнай крыніцай інфармацыі пра гіст. мінулае) і археал. помнік (артэфакты і адклады, якія звязаны ў адно цэлае). Інфармацыя пра мінулае не захоўваецца ў гатовым выгля-

дзе ў археал. крыніцах і помніках, яна здабываецца ў працэсе спец. іх вывучэння. Археал. крыніцы дзеляцца на рухомыя і нерухомыя, з інш. боку, сярод іх вылучаюцца таксама такія катэгорыі, як артэфакты, аб'екты і экафакты. Археал. помнікі ў залежнасці ад функцый, якія належалі ім у мінулым, падзяляюцца на паселішчы, абарончыя збудаванні, месцы здабычы і апрацоўкі сыравіны, культавыя месцы, пахаванні і могільнікі, рэшткі сельскагасп. і інш. вытворчасці, дарогі і інш. абменныя шляхі і камунікацыі (іх сляды), скарбы і інш.

Працэс археал. даследавання ўключае ў сябе 3 гал. працэдуры: 1) збор і здабычу археал. матэрыялаў і дадзеных; 2) іх апрацоўку і папярэдні аналіз (класіфікацыя, сістэматызацыя, правядзенне спец. аналізаў і інш.); 3) інтэрпрэтацыю. На 1-й стадыі праводзяцца археал. раскопкі і разведкі, якія ўваходзяць у сферу палявой А. Палявыя археал. даследаванні ўключаюць: правядзенне раскопак, закладку шурфаў і свідравін у залежнасці ад катэгорый і тыпаў археал. помнікаў, на якіх вядуцца работы; візуальнае вывучэнне і паверхневыя зборы; аэра- і спадарожнікавую фотаздымку; фіксацыю і ідэнтыфікацыю помнікаў з выкарыстаннем геафізічных метадаў; падводную фіксацыю; даследаванні з выкарыстаннем геаграфічных інфармацыйных сістэм (GIS — Geographic Information Systems) і інш. Археолагі прымяняюць метады стратыграфіі, планіграфіі, кансервацыі і інш. На 2-м этапе археал. даследаванняў здзяйсняюцца статыстычная апрацоўка, сістэматызацыя, класіфікацыя дадзеных, тэхналагічны, стылістычны аналіз матэрыялаў, вызначаецца храналогія, робіцца культ., функцыянальная і інш. ідэнтыфікацыя, выконваецца эксперыментальнае мадэліраванне і г.д. Праведзенае вывучэнне археал. матэрыялу, «вычытванне» археал. кантэксту служыць асновай для інтэрпрэтацыі атрыманых дадзеных. Пры інтэрпрэтацыі даследчык павінен імкнуцца зразумець не толькі тое, як адбываліся тыя ці інш. змены, але і чаму яны адбываліся.

*Літ.*: Г а р д е н Ж.-К. Теоретическая археология. М., 1983; К л е й н Л.С. Археологическая типология. Ленинград, 1991; М а р т ы н о в А.И., Ш е р Я.А. Методы археологического исследования. М., 2002; R e n f r e w C., B a h n P. Archaeology. Theories, methods and practice. London, 1996; H o d d e r I. Theory and Practice in Archaeology. London; New York, 1996; Ł a w e c k a D. Wstęp do archeologii. Warszawa; Kraków, 2003.

*М.М.Крывальцэвіч.*

**АРХЕАЛО́ГІЯ АБАРО́НЧЫХ ЗБУДАВА́ННЯЎ**. Вывучае помнікі ваенна-інжынернага мастацтва. На тэр. Беларусі ўзнікла ў пач. 20 ст. У 1903 пад кіраўніцтвам акадэміка У.В.Суслава вывучаўся архіт. помнік 13 ст. *Камянецкая вежа*: вакол яе даследаваны пласт таўшч. 3 м, знесены земляны вал, засыпаны роў, праведзены архіт. абмер вежы, зроблены графічныя разрэзы, над 1-м і 2-м ярусамі разабраны познія скляпенні. Распрацаваны праект рэстаўрацыі вежы. У 1909 невял. археал. даследаванні, фотафіксацыя і архіт. абмеры праведзены ў *Лідскім замку.* На іх ажыццяўленне і часовую кансервацыю Пецярбургская археал. камісія адпусціла 943 руб. У 1924—25 пад кіраўніцтвам польскага археолага Р.Потлера праведзены архіт.-археал. работы ў *Навагрудскім замку* — выяўлены лініі сцен, рэшткі 2 раней невядомых вежаў і руіны храма 14 ст., зроблена частковая кансервацыя помніка. У 1928—29 польскія архіт. Е.Ромер і Ст.Лёрэнц праводзілі невял. даследаванні ў Лідскім і Крэўскім замках у сувязі з іх кансервацыяй і частковай рэстаўрацыяй. У 1930—31 Р.Якімовіч вывучаў унутрывальныя драўляныя канструкцыі ў Давыд-Гарадку. У 1932—39 Ю.Ядкоўскі і З.Дурчэўскі праводзілі археал. раскопкі ў *Гродзенскім Старым замку*, у выніку якіх былі адкрыты помнікі 12 ст. — *Гродзенская Ніжняя царква*, *Гродзенскі княжацкі палац*, *Гродзенская Верхняя царква*, храм мяжы 13—14 ст., участак абарончай сцяны 12 ст. з плінфы (гл. *Гродзенскія муры*), будынкі 15—17 ст., узведзеныя з цэглы і каменю, у т.л. руіны мураванага замка к. 14 ст. У 1949 гэтыя работы былі працягнуты групай сав. археолагаў (П.А.Рапапорт, В.В.Сядоў, Ф.Д.Гурэвіч, Л.В.Аляксееў і інш.) пад кіраўніцтвам М.М. Вароніна. У 1950—60-я г. абарончыя збудаванні Тураўскай і Полацкай зямель і бел. Панямоння вывучаў П.А.Рапапорт (зняў планы большасці гарадзішчаў 10—14 ст., зрабіў прарэзку валоў у Навагрудку, даследаваў Камянецкую вежу), разам з Ф.Д.Гурэвіч абследаваў умацаваныя гарадзішчы Верхняга Панямоння. Значны ўклад у высвятленне храналогіі будаўніцтва гар. умацаванняў Полаччыны, Палесся і Панямоння ўнеслі Г.В. Штыхаў, П.Ф.Лысенка, Я.Г.Зяруга і інш. У 1960-я г. Э.М.Загарульскі вывучаў драўляныя перакладныя ўнутрывальныя канструкцыі стараж. Мінска, зрабіў прарэзку валоў на гарадзішчах у Копысі і Вішчыне. З 1969 архіт.-археал. даследаванні на тэр. Беларусі праводзіў М.А.Ткачоў. У Навагрудку знойдзены рэшткі мураваных вежаў 13 ст., зроблены прарэзкі валоў, вызначаны час іх узвядзення (11 ст.), даследаваны комплекс мураванага замка. Вывучаліся планавая кампазіцыя, канструкцыйныя асаблівасці сцен і вежаў Лідскага і Крэўскага замкаў, адкрыты бастэйныя мураваныя ўмацаванні ў Геранёнскім і Ікazненскім замках, абарончая вежа-данжон 15 ст. ў Мядзельскім замку. Даследаваліся комплекс сярэдневяковых умацаванняў Гродзенскага, Мірскага, Віцебскіх Верхняга і Ніжняга замкаў, абарончыя збудаванні гарадоў і замкаў бел. Пасожжа, Падзвіння, Цэнтр. і Паўд. Беларусі. У 1980-я г. А.А.Трусаў пры ўдзеле групы бел. і расійскіх даследчыкаў А.К.Краўцэвіча, І.М.Чарняўскага, М.А.Ткачова, П.А.Рапапорта, Г.М.Бальшакова, Г.М.Сагановіча і інш. правёў значныя раскопкі ў Мірскім, Лідскім, Гродзенскім замках. А.А.Трусаў, М.А.Ткачоў і П.А.Рапапорт адкрылі і вывучылі абарончыя збудаванні 12 ст. з плінфы ў Гродзенскім замку. Вынікі раскопак апублікаваны ў манаграфіях і зборніках.

*Літ.:* Раппопорт П.А. Волынские башни // МИА. 1952. № 31; Его ж. Военное зодчество западнорусских земель X—XIV вв. // Там жа. 1967. № 140; Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Ленинград, 1962; Лысенко П.Ф. Города Туровской земли. Минск, 1974; Зверуго Я.Г. Древний Волковыск X—XIV вв. Минск, 1975; Штыхов Г.В. Древний Полоцк IX—XIII вв. Минск, 1975; Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мінск, 1978; Яго ж. Замки Белоруссии. Минск, 1987; Загорульский Э.М. Возникновение Минска. Минск, 1982; Трусов О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв.: архит.-археол. анализ. Минск, 1988.

*М.А.Ткачоў.*

**«АРХЕАЛО́ГІЯ БЕЛАРУ́СІ»**, чатырохтомнае навуковае галіновае выданне. Падрыхтавана калектывам аўтараў ІГ НАН Беларусі. Выйшла ў выдавецтве «Беларуская навука» ў 1997—2001 у Мінску на бел. мове. У 1-м томе («Каменны і бронзавы вякі») упершыню дадзена поўная характарыстыка развіцця культур першабытнага грамадства Беларусі ў каменным і бронзавым вяках на працягу амаль 13 тысячагоддзяў. Паказаны асаблівасці і характар першапачатковага засялення Беларусі ў ледавіковую і пасляледавіковую эпохі, археал. культуры, этнакульт. працэсы, звязаныя з пранікненнем на тэр. Беларусі цэнтр.-еўрап. насельніцтва. На агульнаеўрап. фоне падаецца гісторыя рассялення першабытных плямёнаў у басейнах рэк Зах. Дзвіна, Дняпро, Нёман, Прыпяць, прасочаны вытокі культур стараж. славян і балтаў. 2-і том («Жалезны век і ранняе сярэдневечча») ахоплівае перыяд з 8 ст. да н.э. па 8 ст. н.э. Асвятляюцца пытанні матэрыяльнай і духоўнай культуры, гаспадаркі, грамадзянскіх адносін, паходжання і этнічнай прыналежнасці плямёнаў, якія жылі на тэр. Беларусі ў жал. веку. Вызначаюцца тэрытарыяльныя і храналагічныя асаблівасці жыцця насельніцтва Беларусі жал. веку і іх месца сярод сумежных тэр. Еўропы. У 3-м томе («Сярэдневяковы перыяд: IX—XIII стст.») абагульнены ўсе матэрыялы па гісторыі Беларусі за гэты перыяд, разглядаюцца пытанні этнічнага фарміравання насельніцтва, яго сацыяльна-эканамічнага развіцця, характару заняткаў, эканамічных і культ. сувязей з інш. рэгіёнамі. 4-ы том («Помнікі XIV—XVIII стст.») прысвечаны даследаванню помнікаў гэтага перыяду на тэр. Беларусі, якія адлюстроўваюць развіццё гарадоў, мястэчак, замкаў, вясковых паселішчаў, манументальнага дойлідства і могільнікаў. Упершыню абагульняюцца ключавыя пытанні развіцця розных тыпаў паселішчаў, асвятляюцца асн. катэгорыі рэчавага матэрыялу, вызначаецца месца гіст. помнікаў Беларусі 14—18 ст. у агульнаеўрап. кантэксце. У кожным томе даюцца рэзюме на рус. і англійскай мовах, шматлікія літаратурныя крыніцы, паказальнікі імёнаў, помнікаў, геаграфічны. Выданне ілюстравана малюнкамі, картамі, планамі, схемамі.

**«АРХЕАЛО́ГІЯ І ГІСТО́РЫЯ ПСКО́ВА І ПСКО́ЎСКАЙ ЗЯМЛІ́»**, навуковы семінар, заснаваны ў 1980 Інстытутам археалогіі АН СССР і Пскоўскім дзярж. гісторыка-архіт. і маст. музеем-запаведнікам. Штогод праводзіліся 2—3 пасяджэнні семінара, з 1990 — 1 на год. У 1980—2003 яго працай кіраваў расійскі археолаг В.В.Сядоў. З 2005 семінар носіць яго імя. Даклады друкуюцца ў зборніках тэзісаў і артыкулаў (на рус. мове). Асн. напрамкі працы семінара: разгляд вынікаў і методыкі правядзення археал. даследаванняў у Пскове, вобласці і сумежных яе тэрыторыях; абмеркаванне праблем гісторыі і археалогіі паўн.-зах. Расіі; інфармаванне пра адкрыцці ў галіне археалогіі і гісторыі, абмеркаванне навейшай навук. літаратуры. З 1980 у працы семінара прынялі ўдзел археолагі, гісторыкі, лінгвісты, літаратуразнаўцы, мастацтвазнаўцы, антраполагі, этнографы з навук. цэнтраў Расіі, Беларусі, Літвы, Латвіі, Эстоніі. Сярод бел. археолагаў з дакладамі па праблемах археалогіі жал. веку выступілі А.А.Егарэйчанка, Ю.У.Каласоўскі, В.М. Ляўко, С.Я.Рассадзін, В.І.Шадыра, па археалогіі сярэдневякоўя — В.С.Вяргей, Дз.У.Дук, Л.У.Дучыц, В.Я.Зайцава, Ю.А.Заяц, А.В.Іоў, А.В.Квяткоўская, М.В.Клімаў, А.І.Кушнір, Г.В.Ласкавы, В.М.Ляўко, А.А.Мяцельскі, М.А.Плавінскі, Г.М. Сагановіч, Г.М.Семянчук, С.В.Тарасаў, М.А.Ткачоў, В.І.Шадыра, К.С.Шыдлоўскі, па вывучэнні помнікаў язычніцкай рэлігіі — Э.М.Зайкоўскі, Э.А.Ляўкоў.

*М.А.Плавінскі.*

**«АРХЕАЛО́ГІЯ І НУМІЗМА́ТЫКА БЕЛАРУ́СІ»**, аднатомная галіновая энцыклапедыя. Падрыхтавана і выдадзена ў Мінску ў 1993 выдавецтвам «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» тыражом 15 тыс. экз. У выданні змешчаны 2384 артыкулы, з іх 419 па нумізматыцы, вял. колькасць каляровых і чорна-белых здымкаў, планаў і схем асобных помнікаў. У артыкулах па археалогіі асвятляюцца ўсе культуры, якія існавалі на тэр. Беларусі, тыпы археал. помнікаў (стаянкі, паселішчы, гарадзішчы, селішчы, могільнікі, свяцілішчы), помнікі архітэктуры сярэдневякоўя (мураваныя храмы, замкі, палацы), рэчы матэрыяльнай культуры, а таксама унікальныя творы першабытнага мастацтва. У артыкулах па нумізматыцы прадстаўлена грунтоўная інфармацыя па ўсіх аспектах манетнай справы. Мэта выдання — пазнаёміць чытача з помнікамі археалогіі і нумізматыкі, адкрыццямі навукоўцаў за апошнія 250 гадоў. У стварэнні энцыклапедыі прымалі ўдзел вядучыя бел. вучоныя: археолагі, нумізматы, гісторыкі, краязнаўцы, мастацтвазнаўцы і інш. Выданне разлічана на выкладчыкаў і студэнтаў гуманітарных ф-таў ВНУ, настаўнікаў сярэдніх школ і ўсіх, хто цікавіцца гіст. мінулым Беларусі.

*А.А.Трусаў.*

**АРХЕАЛО́ГІЯ КУ́ЛЬТАВЫХ ПО́МНІКАЎ**. Археал. вывучэнне стараж. культавых помнікаў на тэр. Беларусі пачалося ў к. 18 — пач. 19 ст. Адзін з першых поўнасцю раскапаных стараж. архіт. пом-

нікаў — храм-трыконх Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра ў Полацку. Вывучэнне помнікаў 9—13 ст. было ўключана ў праграмы створанага ў 1864 у Маскве Археал. т-ва. З 1870-х г. у даследаваннях прымалі ўдзел прафесійныя архітэктары. У 1894 выйшла «Гісторыя рускай архітэктуры» А.М.Паўлінава, які вывучаў таксама помнікі Полацка і Віцебска. У пач. 20 ст. адначасова з рэстаўрацыяй некаторых стараж. храмаў праводзілася і іх архіт.-археал. даследаванне. У Беларусі ў гэты час працаваў рэстаўратар П.П.Пакрышкін, які даследаваў Полацкі Сафійскі сабор і Гродзенскую Барысаглебскую царкву. Ю.Ядкоўскі вывучаў абарончыя храмы ў Супраслі (Польшча), Мураванцы (Шчучынскі р-н) і Сынкавічах (Зэльвенскі р-н). У 1920—30-я г. архіт. даследаванні на тэр. Беларусі праводзілі савецкія і польскія археолагі. І.М.Хозераў у Полацку ў 1928 вывучаў рэшткі Пятніцкай, Барысаглебскай цэркваў і Вял. сабора Бельчыцкага манастыра. У 1933—34 Я.Юдкоўскі адкапаў рэшткі Гродзенскай Ніжняй царквы на Старым замку, у 1935 даследаваў Гродзенскую Барысаглебскую царкву. Рэшткі царквы 14 ст. былі выяўлены польскімі рэстаўратарамі на тэр. Замкавай гары ў Навагрудку. Шырокія даследаванні культавага дойлідства разгарнуліся ў Беларусі пасля Вял. Айч. вайны. Полацкія храмы 11—12 ст. вывучалі І.М.Хозераў, М.К.Каргер, П.А.Рапапорт, Вал.А.Булкін, Г.В.Штыхаў; Віцебскую царкву Звеставання 12 ст. — Г.В.Штыхаў, М.К.Каргер, А.А.Трусаў і П.А.Рапапорт. Рэшткі Ваўкавыскага храма 12 ст. раскапалі Г.І.Пех, П.А.Рапапорт і М.К.Каргер. Даследаванні Мінскага храма 12 ст. праводзілі В.Р.Тарасенка і Э.М.Загарульскі. Барысаглебскую царкву ў Навагрудку вывучалі М.К.Каргер, П.А.Рапапорт і А.А.Трусаў. У 1963—64 М.К.Каргер раскапаў Тураўскую царкву. У 1990-я г. гэты храм вывучаў П.Ф.Лысенка і дабіўся яго музеефікацыі.

У 1970—80-я г. пачынаецца вывучэнне бел. культавага дойлідства 14—18 ст. М.У.Малеўская даследавала царкву ў Навагрудку 14—17 ст. А.М.Кушнярэвіч — абарончыя храмы ў Мураванцы і Сынкавічах, касцёлы ва Уселюбе (Навагрудскі р-н), Гнёзне (Ваўкавыскі р-н), Клецку, Гальшанах (Ашмянскі р-н) і Іўі, кальвінскія зборы ў Кухцічах (Уздзенскі р-н) і Новым Свержані (Стаўбцоўскі р-н). І.М.Чарняўскі правёў раскопкі на тэр. Мікалаеўскага манастыра ў Магілёве, кляштара базыльянак у Гродне, Куцеінскага манастыра ў Оршы і цыстэрцыянскага кляштара 18 ст. ў Мазыры. Культавыя помнікі Мсціслава 17—18 ст. вывучаў А.А.Трусаў, Мінска — В.Е.Собаль. І.І.Сінчук правёў раскопкі кармеліцкага касцёла ў Магілёве, А.К.Краўцэвіч — францысканскага кляштара ў Ашмянах і Троіцкага касцёла ў Воўчыне (Камянецкі р-н), Г.М.Сагановіч — кляштара брыгітак у Гродне, В.М.Ляўко вывучала культавыя помнікі 17— 18 ст. у Віцебску і Оршы.

*Літ.*: Булкин В.А. Исследование Софийского собора в Полоцке // АО 1980. М., 1981; Воронин Н.Н. Древнее Гродно: (по материалам археол. раскопок 1932—1949 гг.). М., 1954 (МИА. № 41); Каргер М.К. К истории полоцкого зодчества 12 в.: (руины вновь открытого храма на Верхнем замке) // Новое в археологии. М., 1972; Павлинов А.М. Древние храмы Витебска и Полоцка // Тр. IX АС. М., 1895. Т. 1; Раппопорт П.А. Русская архитектура X—XIII вв.: кат. памятников. Ленинград, 1982 (САИ. Вып. Е1—47); Трусов О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв.: архит.-археол. анализ. Минск, 1988; Хозераў І. Полацкае будаўніцтва старадаўняга перыяду // Зап. аддз. гуманіт. навук БАН. Мінск, 1928. Кн. 6. Працы гісторыі мастацтва. Т. 1, сш. 1.

*А.А.Трусаў.*

**АРХЕАЛО́ГІЯ ПО́МНІКАЎ АРХІТЭКТУ́РЫ.** Вызначае месцазнаходжанне рэштак помнікаў манументальнай архітэктуры, якія загінулі або значна змяніліся, вывучае іх і на аснове атрыманых звестак аднаўляе планы і па магчымасці рэканструюе фасады і асн. аб'ёмы помнікаў у цэлым. У к. 18 — пач. 19 ст. манументальную архітэктуру вывучалі гісторыкі і мастацтвазнаўцы. У 1820—40-я г. ў Зах. Еўропе, у к. 19 — пач. 20 ст. ў Расійскай імперыі праводзіліся археал. даследаванні архіт. помнікаў. У 1930—40-я г. А.п.а. вылучылася ў самастойную галіну археалогіі.

На тэр. Беларусі археал. даследаванні архіт. помніка праведзены ў 1790-я г., калі ў Полацку невядомы даследчык раскапаў падмуркі храма-трыконха Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра 12 ст. У 1-й пал. 19 ст. ў Беларусі пачалося візуальнае мастацтвазнаўчае і гісторыка-архіўнае вывучэнне помнікаў архітэктуры. У 2-й пал. 19 ст. рус. і польскія даследчыкі сабралі вял. факталагічны матэрыял па гісторыі бел. архітэктуры. Было абследавана шмат помнікаў, зроблены іх першасныя абмеры, вывучаліся буд. матэрыялы і сістэмы муровак. Археал.-архіт. даследаванні спалучаліся з рамонтна-рэстаўрацыйнымі работамі. У к. 1920-х — пач. 1930-х г. А.п.а. ў Беларусі пачала хутка развівацца. Раскопкі полацкіх архіт. помнікаў 12 ст., праведзеныя на высокім навук. узроўні, далі пачатак вылучэнню самастойнай полацкай архіт. школы. У пасляваенны перыяд А.п.а. характарызуецца вял. аб'ёмам пошукавых работ, у выніку якіх былі выяўлены дзесяткі помнікаў. Раскопкі М.М.Вароніна, М.К.Каргера, П.А.Рапапорта, В.А.Булкіна дазволілі растлумачыць складаныя працэсы станаўлення і развіцця стараж. архітэктуры на тэр. Беларусі. З к. 1960-х г. пачаліся раскопкі помнікаў 13—18 ст.; іх вынікі надрукаваны ў працах М.А.Ткачова і М.У.Малеўскай, якія дапоўнілі раздзелы гісторыі архітэктуры Беларусі, прысвечаныя ранняй готыцы і фартыфікацыі. З 1980-х г. шырока вывучаецца культавая і грамадзянская архітэктура эпохі Адраджэння і барока (раскопкі І.М.Чарняўскага, А.М.Кушнярэвіча, А.А.Трусава і інш.).

*Літ.*: Воронин Н.Н. Архитектурный памятник как исторический источник // СА. 1954. № 19; Михайловский Е.В. Реставрация памятников архитектуры. М., 1971; Раппопорт П.А. О методике

археологических раскопок памятников древнерусского зодчества // КСИА. 1973. Вып. 135; Т р у с о в О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв.: архит.-археол. анализ. Минск, 1988; К у ш н я р э в і ч А.М. Тыпалогія гатычнага абарончага культавага дойлідства Вялікага Княства Літоўскага. Мінск, 2007. *А.А.Трусаў.*

**АРХЕАЛО́ГІЯ ПО́МНІКАЎ ГРАМАДЗЯ́НСКАЙ АРХІТЭКТУ́РЫ**. Вывучае рэштκі загінуўшых альбо значна перарobленых будынкаў жылога, гасп. і грамадзянскага прызначэння. У 1930-я г. Ю.Ядкоўскі раскапаў рэшткі *Гродзенскага княжацкага палаца* 12 ст. на Старым замку. М.М.Варонін, які даследаваў помнік у 1949, лічыў, што Ю.Ядкоўскі выявіў руіны паўд. абарончай вежы дзяцінца (гл. *Гродзенскія муры*). У 1977 П.А.Рапапорт на полацкім дзяцінцы знайшоў падмуркі харама (палаца). Як адзначаў даследчык, падобныя будынкі з-за адсутнасці ў іх эфектыўных ацяпляльных прыстасаванняў не маглі выкарыстоўвацца для жылля, у іх праводзіліся ўрачыстыя княжацкія застоллі і прыёмы замежных паслоў. Хорам разам з царквою ўваходзіў у комплекс княжацкага палаца, астатнія будынкі былі драўлянымі. У пач. 14 ст. пасля паяўлення кафляных печаў полацкі хорам выкарыстоўваўся для жылля. У 14—15 ст. у Гродзенскім палацы размяшчаўся склад вайсковага рыштунку. Пры даследаванні *Гродзенскага Старога замка* ў 1930-х г. Ю.Вайцяхоўскі знайшоў рэшткі 2-павярховага палаца 15 ст., які быў пабудаваны над усх. схілам узвышша з абарончымі мурамі і вежамі. У 2-й пал. 16 ст. пры перабудове замка было зменена аблічча палаца. Будаўніцтва гатычнага замка паклала пачатак пераўтварэнню гэтага тыпу пабудоў у палацавы комплекс з развітай сістэмай жылых і гасп. будынкаў. Даследаванні *Крэўскага замка*, праведзеныя ў пач. 1970-х г. М.А.Ткачовым, у к. 1970-х — пач. 1980-х г. А.А.Трусавым і ў к. 1980-х — пач. 1990-х г. І.М.Чарняўскім, паказалі, што княжацкая вежа, пабудаваная крыху пазней за яго абарончыя муры, з'яўляецца адным з першых у Беларусі данжонам — жылой вежай з функцыямі абароны ў замку. Побач з замкавай брамай знаходзіўся прамавугольны мураваны будынак, у якім, мяркуючы па знаходках гаршковай кафлі і фр-таў керамічнага посуду, было жыллё (захаваліся падмуркі і частка падвала). Драўляныя жылыя будынкі, дзе размяшчаліся гарнізон і прыслуга, знаходзіліся каля паўн.-зах. абарончага мура; існавалі таксама ў Лідскім замку. У к. 14 — пач. 15 ст. тут была пабудавана паўн.-ўсх. вуглавая вежа, на 1-м паверсе якой меліся каміны для абагравання памяшканняў, вышэй пакоі ацяпляліся кафлянымі печамі. Раздзяленне функцый абарончай і грамадзянскай адбываецца пры перабудове ў 2-й пал. 16 ст. Мірскага замка. Даследаванні ў 1970-х г. М.А.Ткачова і ў 1-й пал. 1980-х г. А.А.Трусава і І.М.Чарняўскага выявілі рэшткі першапачатковага гатычнага 1-павярховага палаца каля паўд. абарончага мура, дзе з пач. 17 ст. знаходзілася кухня. У 2-й пал. 16 — пач. 17 ст. каля ўсх. і паўн. абарончых муроў узведзены 3-павярховы палац. Звонку пад зах. і паўд. сценамі пабудаваны 1-павярховая пякарня, піваварня, стайня з вежай; брама была ўмацавана падковападобным прадбрам'ем. У 2-й пал. 16 ст. ўзведзены абарончыя ўмацаванні бастыённага характару за 80 м ад замкавых муроў. Пры раскопках у замку знойдзены фр-ты разнастайных пячных кафляў, элементы каменнага аздаблення аконных і дзвярных праёмаў, скабяныя вырабы, дэталі інтэр'ераў, якія сведчаць пра імкненне б. гаспадароў стварыць выгадныя ўмовы для жылля ў палацы. У гасп. будынках размяшчаліся службы, якія цалкам забяспечвалі жыццядзейнасць замка. Раскопкі найб. ранняга на тэр. Беларусі бастыённага замка ў Заслаўі, у якім былі раздзелены функцыі абароны і жылля, праводзілі ў к. 1970-х г. А.А.Трусаў і ў сяр. 1980-х г. Ю.А.Заяц. Даследаванні ў сяр. 1980-х г. І.М.Чарняўскім Любчанскага і Гальшанскага замкаў пацвярджаюць перамены ў гэтым тыпе пабудоў. Пры захаванні замкнёных планаў, утвораных жылымі і гасп. будынкамі, назіраецца раздзяленне абарончых і жылых функцый. З 2-й пал. 16 ст. ў бел. гарадах і мястэчках узводзяць мураваныя ратушы, цэйхгаўзы, крамы, з'яўляецца мураванае жыллё. Архіт.-археал. даследаванні такіх будынкаў, праведзеныя ў 1980-х г. А.А.Трусавым, М.А.Ткачовым, В.Е.Собалем, І.М.Чарняўскім у Магілёве, Мінску, Віцебску, Нясвіжы, а таксама Гайцюнішскага домакрэпасці (Воранаўскі р-н) сведчаць пра інтэнсіўнае развіццё мураванага будаўніцтва з выкарыстаннем шырокага асартыменту буд. і архіт.-дэкаратыўнай керамікі, скабяных і сталярных вырабаў, характэрных для бел. дойлідства 16—18 ст. Такімі ж асаблівасцямі вызначаюцца і грамадзянскія будынкі ў манастырах і кляштарах Мінска, Гродна, Пінска, Нясвіжа і інш. Па выніках даследаванняў аднаўляюцца планы, рэканструююцца фасады і асн. аб'ёмы помнікаў, іх частак, элементаў і інтэр'ераў у цэлым.

*Літ.*: В о р о н и н Н.Н. Древнее Гродно: (по материалам археол. раскопок 1932—1949 гг.). М., 1954 (МИА. № 41); Т к а ч о ў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мінск, 1978; Р а п п о п о р т П.А., Ш о л о х о в а Е.В. Дворец в Полоцке // КСИА. 1981. Вып. 164; Т р у с а ў А.А., Ч а р н я ў с к і І.М., К у к у н я В.Р. Архітэктурна-археалагічныя даследаванні гістарычнага цэнтра Магілёва // ВАНБ. 1983. № 5; Т р у с о в О.А., Ч е р н я в с к и й И.М., К р а в ц е в и ч А.К. Архитектурно-археологические исследования Мирского замка и городского поселка Мир Гродненской области // СА. 1986. № 4; Ч а р н я ў с к і І.М. Грамадзянскае мураванае дойлідства Беларусі ў XII—XV стст. // Помнікі мастацкай культуры Беларусі: новыя дасслед.: зб. арт. Мінск, 1989. *І.М.Чарняўскі.*

**«АРХЕОЛОГИ́ЧЕСКИЕ ИЗВЕ́СТИЯ И ЗАМЕ́ТКИ»**, перыядычнае ілюстраванае выданне Маскоўскага археалагічнага таварыства. Выходзіла ў 1893—1900 (7 нумароў) у Маскве на рус. мове. Змяшчала артыкулы і паведамленні пра раскопкі, выпадковыя знаходкі, царкоўныя і бытавыя




*Часопіс «Археологія».*

рукапісы, асвятляла дзейнасць археал. з'ездаў, археал. ін-та, музеяў, археал. і інш. т-ваў, кароткія рэцэнзіі на айчынныя і замежныя археал. і этнагр. выданні, спісы літаратуры. Найб. ўвага аддавалася даследаванням слав. старажытнасцей. Сярод публікацый артыкулы пра тыпы радзіміцкіх пахаванняў і вынікі раскопак курганных могільнікаў на Гомельшчыне (У.Б.Антановіч), пра раскопкі дрыгавіцкіх курганоў у басейне Бярэзіны (У.З.Завітневіч), курганы Мінскай губ. (Г.Х.Татур), пра В.М.Цяпінскага як перакладчыка Евангелля на бел. мову (М.В.Доўнар-Запольскі). *У.У.Багамольнікаў.*

**«АРХЕОЛОГИЧЕСКИЕ ОТКРЫТИЯ»**, штогоднік Інстытута археалогіі Расійскай акадэміі навук (г. Масква). Разлічаны на археолагаў, этнографаў, гісторыкаў, краязнаўцаў і аматараў даўніны. У 1965—86 змяшчаў звесткі пра вынікі раскопак, што праводзіліся на працягу палявога сезона на тэр. СССР, даследаванні савецкіх экспедыцый за мяжой, характарыстыкі вывучаемых помнікаў. Матэрыялы былі размешчаны па тэрытарыяльным прынцыпе. З 1993 выданне ўзноўлена. У 6 раздзелах публікуецца інфармацыя пра археал. работы на тэр. Расійскай Федэрацыі і даследаванні расійскіх археолагаў за мяжой. У кожным раздзеле ёсць карта археал. помнікаў. У канцы штогодніка змяшчаюцца паказальнікі.

**«АРХЕОЛО́ГИА БІМА́РИС»**, «Archaeologia bimaris», навуковае перыядычнае выданне Інстытута дагісторыі Ун-та А.Міцкевіча ў Познані (Польшча). Выдаецца з 1998. Змяшчае вынікі даследаванняў у галіне археалогіі каменнага веку і эпохі бронзы паміж Одрай і Дняпром, у т.л. на тэр. Беларусі, па сумесных навук. праграмах і праектах археолагаў Цэнтр. і Усх. Еўропы. Выдаецца ў 2 цыклах — «Dyskusje» («Дыскусіі») і «Monografie» («Манаграфіі»). У цыкле «Dyskusje» надрукаваны матэрыялы сімпозіумаў, прысвечаныя спрэчным праблемам археалогіі: «Тшцінец»: культурная сістэма ці інтэркультурны працэс?» (Абжыска-Познань, 1998); «Ад неалітызацыі да пачатку эпохі бронзы. Культурныя змены ў міжрэччы Одры і Дняпра паміж VI і II тыс. да н.э.» (Брэст, 2001); «Намадызм і пастаралізм у міжрэччы Віслы і Одры (неаліт, энеаліт, эпоха бронзы)» (Познань, 2004). У цыкле «Monografie» апублікаваны манаграфіі Я.Чабрашука (2001) і М.М.Крывальцэвіча (2007). У выданні прымалі ўдзел бел. археолагі: М.М.Крывальцэвіч, А.Г.Калечыц, В.Ф.Капыцін, М.М.Чарняўскі, В.Л.Лакіза, Э.М.Зайкоўскі.

*Літ.*: «Trzcinec»: system kulturowy czy interkulturowy proces? // Archaeologia Bimaris. Dyskusje. Poznań, 1998. T. 1; Od neolityzacji do początków epoki brązu. Przemiany kulturowe w międzyrzeczu Odry i Dniepru między VI i II tys. Przed Chr. // Там жа. Poznań, 2001. T. 2; Nomadyzm a pastoralizm w międzyrzeczu Wisłe i Odry (neolit, eneolit, epoka brązu) // Там жа. Poznań, 2004. T. 3; Czebreszuk J. Schyłek neolitu i początki epoki brązu w strefie południowo-zachodniobałtyckiej (III i początki II tys. przed Chr.). Alternatywny model kultury // Archaeologia Bimaris. Monografie. Poznań, 2001. T. 1; Krywalcewicz M., Prorwa I. Cmentarzysko z połowy III — początku II tysiąclecia przed Chr. na górnym Naddnieprzu // Там жа. Poznań, 2007. *М.М.Крывальцэвіч.*

**«АРХЕОЛО́ГІЯ»**, навуковы часопіс, орган Інстытута археалогіі Нацыянальнай акадэміі навук Украіны. Засн. ў 1947 з мэтай публікацыі навук. матэрыялаў супрацоўнікаў Ін-та археалогіі. Выходзіў 1 раз у год. З 1970 штоквартальнае выданне Ін-та археалогіі і Укр. рэспубліканскага т-ва аховы помнікаў гісторыі і культуры са статусам рэспубліканскага зборніка навук. прац. З 1989 агульнаакадэмічнае выданне. Выходзіць у Кіеве на ўкр., рус. і англійскай мовах. Пастаянныя рубрыкі: «Артыкулы», «Публікацыя археалагічных матэрыялаў», «Да гісторыі старажытнай вытворчасці», «Дыскусіі», «Новыя адкрыцці і знаходкі», «Кіеўскія старажытнасці» (з 2004), «У дапамогу настаўніку», «Ахова помнікаў археалогіі», «Памяць археалогіі», «Рэцэнзіі» і «Хроніка». Тэматыка часопіса — аналітычныя артыкулы па археалогіі і стараж. гісторыі, метадыцы даследаванняў, ахове помнікаў і інш. Асобныя нумары прысвечаны знакамітым асобам: С.М.Бібікаву (№ 3, 1996), В.Ф.Генінгу (№ 3, 1997), Б.А.Рыбакову (№ 2, 2002), І.Г.Шаўкаплясу (№ 1, 2002) і інш., а таксама юбілейным датам. Гал. рэдактарамі і членамі рэдкалегіі часопіса ў розныя гады былі акадэмікі П.П.Ефіменка, П.П.Талочка, чл.-кар. АН Украіны І.І.Арцёменка, В.Д.Баран, С.Д.Крыжыцкі, О.П.Моця, Л.М.Славін, д-ры і канд. гіст. навук В.А.Багусевіч, І.С.Вінакур, А.В.Дабравольскі, В.І.Даўжонак, Л.Л.Залізняк, М.П.Кучэра, Е.В.Максімаў, Р.В.Церпілоўскі, Д.Е.Цялегін і інш. У розныя гады друкаваліся навук. артыкулы бел. вучоных д-роў гіст. навук Л.Д.Побаля, М.Ф. Гурына і інш.

**«АРХЕОЛО́ГИЯ СССР»**, серыя кніг аб археалагічных даследаваннях на тэрыторыі б. СССР з найстаражытнейшых часоў да сярэдневякоўя, якая выдаецца з 1981 Ін-там археалогіі РАН (да 1991 Ін-т археалогіі АН СССР) у 20 тамах. Большасць прац напісана калектывам аўтараў; прыводзіцца бібліяграфія. Да 2003 выйшла 18 тамоў (кнігі не нумаруюцца): «Стэпы Еўразіі ў эпоху сярэднявечча» (1981), «Усходнія славяне ў VI—XIII ст.» (1982), «Энеаліт СССР» (1983), «Антычныя дзяржавы Паўночнага Прычарнамор'я» (1984), «Палеаліт СССР» (1984), «Старажытная Русь: горад, замак, сяло», «Найстаражытнейшыя дзяржавы Каўказа і Сярэдняй Азіі» (абедзве 1985), «Эпоха бронзы лясной паласы СССР», «Фіна-угры і балты ў эпоху сярэднявечча» (абедзве 1987), «Мезаліт СССР», «Стэпы еўрапейскай часткі СССР у скіфа-сармацкі час» (абедзве 1989), «Стэпавая паласа азіяцкай часткі СССР у скіфа-сармацкі час» (1992), «Славяне і іх суседзі ў канцы I тысячагоддзя да н.э. — першай паловы I тысячагоддзя н.э.» (1993), «Ранняя і сярэдняя бронза Каўказа» (1994), «Неаліт Паўночнай Еўразіі» (1996), «Старажытная Русь. Побыт і культура» (1997), «Сярэдняя Азія ў раннім сярэдневякоўі» (1999), «Крым, Паўночна-Усходняе Прычарнамор'е і Закаўказзе ў эпоху сярэдневякоўя» (2003).

У кн. «Усходнія славяне ў VI—XIII ст.» В.В.Сядова значная частка прысвечана характарыстыцы археал. помнікаў на тэр. Беларусі. У кн. «Палеаліт СССР» у сувязі з вызначэннем помнікаў віленДорфска-касцёнкаўскай культуры разгледжана Бердыжская стаянка. У выданні «Старажытная Русь: горад, замак, сяло» прыведзены вынікі даследаванняў стараж. гарадоў, ваенна-адміністрацыйных цэнтраў, гар. двароў-сядзіб, умацаваных феад. замкаў, сельскіх паселішчаў; характарыстыкі дзесяткаў тысяч знаходак з археал. раскопак. Сярод важнейшых гарадоў на аснове археал. дадзеных разгледжаны Полацк, Мінск, Друцк, Тураў, Навагрудак, Гродна, Мсціслаў. У калектыўнай манаграфіі «Эпоха бронзы лясной паласы СССР» пры характарыстыцы сярэднедняпроўскай культуры выкарыстаны матэрыялы з раскопак помнікаў *Ходасавічы* і Страліца (гл. *Рудня-Шлягіна*). У выданні «Фінаугры і балты ў эпоху сярэднявечча» разглядаецца праблема культ. кантактаў усх. славян з суседнімі плямёнамі прыбалтыйскіх, паволжскіх, прыкамскіх фінаў, а таксама з латышскімі, літ., прускімі, яцвяжскімі плямёнамі, якія жылі на тэр. Усходнееўрап. раўніны, у т.л. на тэр. Беларусі. У томе «Мезаліт СССР» спец. раздзел прысвечаны мезаліту Беларусі і Літвы. Змешчаны звесткі аб вывучэнні археал. помнікаў Прыпяцкага Палесся, Бел. Падняпроўя; абгрунтаванні вывАду пра тое, што мезалітычная культура паўд.-ўсх. Беларусі з'явілася асновай фарміравання верхнедняпроўскай неалітычнай культуры. *Г.В.Штыхаў.*

**«АРХИТЕКТУ́РНОЕ НАСЛЕ́ДСТВО»**, перыядычны штогадовы зборнік навуковых артыкулаў па архітэктуры. Выдаецца з 1951 Усерасійскім НДІ тэорыі архітэктуры і горадабудаўніцтва (да 1990 Цэнтр. НДІ тэорыі і гісторыі архітэктуры) у Маскве. У 2009 выйшаў 50-ы выпуск. Публікуе матэрыялы пра творчыя метады архітэктараў мінулага, асобныя помнікі і комплексы архітэктуры, па методыцы і выніках рэстаўрацыйных работ на тэр. СССР, потым Расіі і СНД. У зборніках надрукавана каля 40 артыкулаў па выніках даследавання архіт. спадчыны Беларусі, горадабуд. асаблівасцей шэрага гарадоў Беларусі, асобных помнікаў грамадзянскай і культавай архітэктуры, працэсаў станаўлення праектавання, у т.л. М.М.Вароніна, А.Д.Квітніцкай, У.У.Костачкіна, І.М.Слюньковай і інш., а таксама бел. даследчыкаў Т.В.Габрусь (распрацоўка праектнай дакументацыі ў 17 ст.), В.Ф.Марозава (архітэктура перыяду класіцызму і палацава-паркавы ансамбль у Гомелі), А.І.Лакоткі (сядзібныя комплексы нар. дойлідства), С.А.Сергачова (драўляны замак 17 ст. ў Свіслачы і архітэктура карчмы), У.А.Чантурыі (архітэктура к. 18 — пач. 19 ст.), Ю.У.Чантурыі (ансамбль цэнтр. плошчы Полацка ў к. 18—19 ст.). *С.А.Сергачоў.*

**АРХІТЭКТУ́РНА-АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ КО́МПЛЕКС**, помнік гісторыі і культуры, які складаецца з адной ці некалькіх архіт. пабудоў, што знаходзяцца паблізу адна ад адной у межах культ. пласта, які акружае іх. З'яўляецца аб'ектам археал. вывучэння, комплекснай крыніцай, якая дазваляе меркаваць пра вытворча-тэхнічны, ідэалагічны, маст. ўзровень пэўнага часу. Неад'емнай часткай папярэдніх даследаванняў і рэстаўрацыйных работ на помніку з'яўляюцца археал. раскопкі, мэта якіх — выяўленне месцазнаходжання старaж. будынка (калі яго сляды не прасочваюцца на паверхні), расчыстка рэшткаў, рэканструкцыя на іх аснове плана, фасадаў і ўсяго збудавання. Культ. пласт, што запаўняе і акружае помнік, дае магчымасць вызначыць храналогію помніка, канструкцыйныя элементы (пілястры, калоны, профілі парталаў і інш.), першапачатковыя архіт.-маст. формы фасадаў (сапсаваныя, перароблены або знішчаныя), часткі будынка, якія зніклі (галерэі, бабінцы, перадбрамы, ганкі). Культ. пласт захоўвае шматлікія архіт. дэталі, якія даюць уяўленні пра сістэмы насцілу падлогі (пліткі), малыя формы, кампазіцыю будынка (кавалкі муроў з элементамі старaж. дэкору, тып цэглы, кафлі, завесы, прабоі, замкі, клямкі, кавалкі аконных пралётаў, аконнае шкло, вітражы), добраўпарадкаванне комплексу.

*Літ.:* А в д у с и н Д.А. Полевая археология СССР. М., 1980; Т р у с о в О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв.: архит.-археол. анализ. Минск, 1988. *А.А.Трусаў.*

**АРЦЁМЕНКА** Іван Іванавіч (н. 15.9.1924, с. Гаўрылаўка Нававаранцоўскага р-на Херсонскай вобл., Украіна — 27.4.1989), украінскі археолаг.

Чл.-кар. АН Укр. ССР (1982). Д-р гіст. навук (1978). Скончыў Днепрапятроўскі ун-т (1948). У 1948—55 навук. супрацоўнік Гіст. музея ў Днепрапятроўску. У 1958—72 у Ін-це археалогіі АН СССР, з 1973 яго дырэктар, з 1987 заг. аддзела. Вывучаў праблемы гісторыі насельніцтва Усх. Еўропы эпохі неаліту, меднага і бронзавага вякоў. У Верхнім Падняпроўі Беларусі праводзіў археал. разведкі і раскопкі паселішчаў, курганных і грунтавых могільнікаў сярэднеднепроўскай культуры, помнікаў інш. культур эпохі бронзы і неаліту. Прапанаваў канцэпцыю храналогіі, перыядызацыі, генезісу сярэднеднепроўскай культуры, паводле якой яе самыя раннія носьбіты сфарміраваліся ў сярэднім Падняпроўі ў сяр. 3-га тыс. да н.э., на сярэднім і познім этапах (к. 2-га — 1-я пал. 2-га тыс. да н.э.) рассяліліся ў Верхнім Падняпроўі, пранікалі ў інш. рэгіёны. Абгрунтоўваў ідэю вылучэння сосніцкай культуры, якая прайшла 3 этапы развіцця і стала асновай для некаторых культур ранняга жал. веку. Дзярж. прэмія Укр. ССР 1980.

*Тв.*: Поселения среднеднепровской культуры на территории Верхнего Поднепровья // КСИА. 1962. Вып. 88; Среднеднепровская культура // СА. 1963. № 2; Неолитические стоянки и курганы эпохи бронзы близ с. Ходосовичи Гомельской области БССР // Памятники каменного и бронзового веков Евразии. М., 1964; Племена Верхнего и Среднего Поднепровья в эпоху бронзы. М., 1967; Могильник среднеднепровской культуры в урочище Стрелица // Энеолит и бронзовый век Украины. Киев, 1976; Среднеднепровская культура // Эпоха бронзы лесной полосы СССР. М., 1987; Сосницкая культура // Там жа.

*М.М.Крывальцэвіч, Г.В.Штыхаў.*




*План даследаванай часткі падмуркаў **Аршанскай царквы Раства Багародзіцы.** 17—18 ст.*

**АРША́НСКАЯ ЦАРКВА́ РАСТВА́ БАГАРО́ДЗІЦЫ**, археалагічны помнік у г. Орша Віцебскай вобл. Пабудавана ў 1661 у пасадзе Заршынным. На плане г. Орша пач. 1770 пазначана насупраць замка і гарадзішча. У 1781 яна мела назву саборнай у імя Раства Прасвятой Багародзіцы. Як «грэка-расійская саборная царква» вядома па плану Оршы 1813, рамантавалася ў 1818. На плане 1843 перад царквой пазначана пабудова званіцы. Пры пераходзе ў ведамства Расійскага сінода храм быў пераасвячоны ў Мікалаеўскую саборную царкву. Разбурана разам са званіцай у 1961. У сувязі з тым, што на фундаментах храма планавалася ўзвядзенне новай царквы, у 1994—95 і 1997 В.М.Ляўко былі праведзены археал. даследаванні на пл. 250 м². Храм арыентаваны па баках свету. Яго даўж. з З на У складала 19 м, апсіда выступала за асн. аб'ём на 1,6 м. Шыр. храма ў цэнтр. частцы была 11 м, каля ўсх. і зах. бакоў па 13 м за кошт выступаючых прытвораў. Даследаванні паказалі, што царква была ўзведзена на схіле пагорка каля р. Аршыца на стараж. могілках, дзе самыя раннія пахаванні датуюцца 12—13 ст. Устаноўлена, што гэта былі прыходскія могілкі, таму што знойдзены пахаванні як дарослых, так і дзяцей рознага ўзросту. Відаць, на самім пагорку раней стаяла драўляная царква Заршыннага пасада, на месцы якой у сяр. 17 ст. пабудавалі каменную царкву Раства Багародзіцы. Вонкавыя фундаменты царквы праразалі пахаванні па ўсім яе перыметры. Унутраныя часткі пабудовы (хрысцільня), а таксама каменныя фундаменты-лагі для пола перад уваходам у цэнтр. зал і па ўнутраным перыметры храма былі заглыблены ў зямлю да ўзроўню верху пазнейшых пахаванняў (датуюцца пач. 17 ст.) і не парушалі іх. Падвал адсутнічаў. Царква мела 3 уваходы: адзін размяшчаўся з З і 2 бакавыя — з Пн і Пд. З алтарнай часткі былі праходы ў бакавыя прытворы. Хрысцільня мела памеры 2,9 × 2,9 м і была ўзведзена значна пазней асн. аб'ёму царквы. Акрамя адзінкавай цэглы памерамі 30—31 × 14 × 6 см, аналагічнага матэрыялу, з якога пабудаваны храм, у хрысцільні большасць цаглін і рошчына адносяцца да 19—20 ст. Шыр. фундаментаў вонкавых сцен складала 1 м. Яны ўзведзены з цэглы-пальчаткі на вапнавай рошчыне з уключэннем бутавых камянёў. Глыб. залягання вонкавых фундаментаў 2,7 м. Дзённая паверхня (цокаль) зафіксавана на глыб. 1,1 м з паўд. боку і над ёю выяўлена слухавое акно, праз якое праветрывалася памяшканне. Могілкі, што папярэднічалі ўзвядзенню храма, дзеляцца на 3 гарызонты. Ніжні заглыблены ў мацярык з рэдка размешча-

нымі магіламі і суадносіцца з храмам, які існаваў на ўзгорку ў 12—13 ст., аб чым сведчыць знойдзеная ў слоі кераміка гэтага часу. У сярэднім гарызонце пахаванні адносяцца да часоў ВКЛ, у ім знойдзены шпілька і кераміка 14—15 ст. У адным з пахаванняў верхняга гарызонта выяўлена нацельная ладанка, перавязаная льняной ніццю. Усе пахаванні зроблены ў драўляных трунах, аб чым сведчаць рэшткі драўлянай трухі і дошак, а таксама жал. цвікі. Амаль усе нябожчыкі былі без суправаджальнага інвентару. З паўд.-зах. боку да царквы былі прыбудаваны скляпы, у якіх, магчыма, хавалі святароў.

*Літ.*: Л е в к о О.Н. Культовые памятники Орши конца XVI—XVIII вв.: (историко-археол. исслед.). Орша, 1996. *В.М.Ляўко.*

**АРША́НСКІ БАЗЫЛЬЯ́НСКІ МАНАСТЫ́Р**, помнік архітэктуры 18 ст. ў г. Орша Віцебскай вобл. Пабудаваны ў 2-й пал. 18 ст. на пустыры правага берага р. Аршыца пры перакрыжаванні сучасных вуліц Міра і Энгельса ў завулку Музейны для уніяцкага манаскага ордэна базыльян. Манастырскі комплекс у 1831 быў перададзены ў праваслаўнае ведамства, храм Апекі Маці Божай, які пераасвяцілі ў Пакроўскі, цяпер адносіцца да Пакроўскага праваслаўнага манастыра. У 1920-я г. ў самой царкве размяшчаўся сельскагасп. музей, праводзіліся выстаўкі, а ў 1930-я г. тут быў уладкаваны краязнаўчы музей. Наземная частка царквы знішчана ў 1960-я г., зберaглася жылая пабудова ў выглядзе літары «Г». Культ. пласт магутнасцю 0,6 м, утрымлівае матэрыялы 19—20 ст. Гэта пацвярджае, што манастыр закладзены на неабжытым месцы за гар. межамі. Жылы манаскі 2-павярховы корпус складаецца з 2 частак, злучаных пад прамым вуглом, мае галерэйную сістэму планіроўкі. Адна частка будынка арыентавана ўздоўж р. Аршыца, другая — па завулку Музейны. Пад манаскім корпусам находзяцца падвалы, аддзеленыя адзін ад аднаго арачнымі праёмамі. Паўн.-зах. тарэц пабудовы быў злучаны з вуглом муpаванай сцяны П а к р о ў с к а й ц а р к в ы, рэшткі якой захаваліся. Архіўныя фотаздымкі пач. 20 ст. сведчаць аб тым, што храм па аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі ўяўляў сабою 3-нефавую абсідную крыжова-купальную базіліку з 2-вежавым фасадам. Асаблівасцю храма з'яўлялася наяўнасць на скрыжаванні цэнтр. нефа і трансепта высокага светлавога барабана з фігурным барочным купалам. Гэтая дамінанта была больш значнай, чым вежы на гал. фасадзе, і падкрэслівала цэнтрычнасць крыжовай кампазіцыі кафалікона. Археал. даследаванні В.М.Ляўко ў зоне размяшчэння храма базыльянскага манастыра праводзіліся ў 1994 і 2006. Захаваліся фр-ты вонкавых сцен шыр. 1,4—1,6 м. У даўж. храм дасягаў 30 м, шыр. з боку апсіды дасягала 20,4 м, ад уваходу — 22 м (за кошт выступаў падножжаў веж). Апсіда выдавалася ўперад з-за паўн. сцяны храма на 2,6 м. Яе падмурак разам з муроўкай збярогся на выш. да 1 м, вонкавыя сцены, што прылягалі да апсіды (паўн. бок), мелі выш. 0,8—1,8 м.




*План **Аршанскага базыльянскага манастыра**.*

Сцены храма складзены з валуноў і цэглы на вапнавай рошчыне. Памеры цэглы 33 × 15,5 × 6 см; 33 × 15 × 7 см; 31 × 15,5 × 6,5 см. У 2006 выяўлены часткі падножжа вонкавых мураваных сцен 18 ст. Іх шыр. 1,8—2,8 м пры глыб. залягання ў мацерыковым пласце да 3 м. Падчас выбаркі грунту з унутранага аб'ёму храма выяўлены 2 апорныя слупы памерамі 2,5 × 1,8 м (у межах буд. катлавана), якія аддзялялі бакавы неф ад падкупальнага квадрата. У паўн. напрамку па-за межамі буд. катлавана заставаўся ўчастак з апсідай даўж. 8 м, у паўд. напрамку храм выходзіць за лінію катлавана на 4—4,5 м (тэр. з падножжамі веж і ўваходам). Ад лініі катлавана, па якой фіксуюцца слупы-апоры, да паўд.-ўсх. ўнутранага вугла (захаваўся) вонкавай сцяны храма адлегласць складае 14 м. Рэшткі яго падмуркаў 18 ст. з'яўляюцца неад'емнай часткай манастырскага комплексу.



*Фрагмент кладкі з цэглы храма **Аршанскага базыльянскага манастыра**.*

Будынак **Аршанскага калегіума езуітаў**.




*Літ.*: Л е в к о О.Н. Материалы раскопок исторического центра Орши // МАБ. 2008. № 15; Гл. да арт. *Аршанская царква Раства Багародзіцы.* *В.М.Ляўко.*

**АРША́НСКІ КАЛЕ́ГІУМ ЕЗУІ́ТАЎ**, помнік архітэктуры і археалогіі 17—18 ст. у г. Орша Віцебскай вобл. Размяшчаўся па вул. Леніна, на тэр. б. Надняпроўскага пасада 15—18 ст. Амаль уся тэр. паміж р. Аршыца, сучаснай вул. Леніна, замкавым ровам і паркавымі алеямі належала ў 17—18 ст. езуіцкаму калегіуму. У 1611 кароль Польшчы і вял. князь ВКЛ Жыгімонт III даў езуітам зямлю пад будаўніцтва касцёла, калегіума, аптэкі і бурсы (школы). У дакументах калегіума з 1620 згадваецца тэатр. Пажар у Оршы 1680 знішчыў драўляныя калегіум і школу, капліцу з недабудаваным касцёлам. Школа адноўлена ў 1680, інш. будынкі (акрамя касцёла) — у 1683. У 1786—88 пабудаваны мураваны 1-павярховы, накрыты 2-скатным дахам будынак бурсы. Сцены былі падзелены пляскатымі лапаткамі і прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Дамінанта гал. фасада бурсы абазначана ў выглядзе выступаючага за лінію фасада асн. аб'ёму будынка параднага ўвахода-тамбура. Храм, партал калегіума і фасад бурсы былі з'яднаны крытым пераходам у выглядзе васьмігранніка-актагона. Археал. даследаванні ў 1991 І.Цішкіна не высветлілі характар перакрыццяў перахода, але назіранні за земляными працамі ў 2007 каля калегіума даюць падставу меркаваць, што пераход меў мураваныя сцены. Такім чынам, калегіум, храм і бурса стваралі адзіны архіт. ансамбль. Вакол тэр. была ўзведзена мураваная сцяна. З высылкай езуітаў з тэр. Расійскай імперыі аршанскія дамініканцы ў 1822 прынялі ад іх публічную школу ў калегіуме, пераўтвораную ў 1825 у свецкую. У 1831 касцёл закрыты, будынак перададзены праваслаўнай епархіі; у 1835 складалася дакументацыя на яго перабудову ў праваслаўны храм. Аднак неўзабаве касцёл быў прададзены на знос, а манастырскі комплекс перайшоў у 1839 ваеннаму ведамству, потым прыстасаваны пад гар. турму, якая існавала ў 1842—1989. У турме з усх. боку заставалася ранейшая сцяна кляштара, з паўд. боку б. калегіума паміж будынкамі аптэкі і бурсы ў 19 ст. была ўзведзена новая мураваная сцяна, якая прайшла праз б. кляштарны двор, прарэзала будынак трапезнай і прымыкала да будынка бурсы. Рэшткі сцяны і падмуркаў трапезнай зафіксаваны В.М.Ляўко ў 1989—90. У шурфах з усх. боку калегіума выяўлена адмостка з бруку пачатковай дзённай паверхні, знойдзены рэчы 17—18 ст. — касцяная двухбаковая зубачыстка, завушніца, гліняны кубачак для парфумы, паліваная кафля, посуд і шкляныя вырабы. Бурса ўвайшла ў комплекс пабудоў, адведзеных пад турму, касцёл застаўся па-за яго межамі. Цяпер яго руіны знаходзяцца пад зямлёй з паўд.-зах. боку калегіума і бурсы. Падчас даследаванняў В.М.Ляўко ў 1990 фундаментаў касцёла ўстаноўлена, што яны мелі шыр. 1 м, складзены з цэглы-пальчаткі памерамі 31—32,5 × 15—16 × 6,5—7 см. З 1990 пачаліся работы па расчыстцы тэр. б. турмы, пры гэтым частка будынкаў, якія адносіліся раней да кляштара, была разабрана з-за дрэннага захавання (у т.л. пабудовы ўздоўж берага р. Аршыца). У зямлі засталіся фр-ты падмуркаў і сутарэнні пабудоў 18—19 ст. Паўн. крыло бурсы было парушана і адноўлена ў працэсе рэстаўрацыйных работ, адноўлены і некаторыя інш. страчаныя элементы сярэдневяковай пабудовы. У час археал. даследаванняў В.М.Ляўко тэр. езуіцкага калегіума ў 2007—08 высветлена, што зруйнаванымі былі паўн. часткі каменнай пабудовы бурсы і калегіума, зафіксаваны водаадвод, які быў прасочаны яшчэ ў 1991 І.Цішкіным каля інш. сцяны калегіума. На падвор'і калегіума ў культ. пласце знойдзены кафля 17 — пач. 19 ст. з каталіцкімі хрысціянскімі сімваламі, выявамі ра-

Унутраная галерэя **Аршанскага калегіума езуітаў**.



сійскай геральдыкі, падлогавая цагляная плітка і інш.; у пакоях калегіума і бурсы зафіксаваны поды кафляных печаў 18—19 ст.; на ПдЗ ад бурсы, адразу за алтарнай часткай касцёла, выяўлены могілкі. Адны з пахаванняў гэтых могілак звязаны з існаваннем калегіума і касцёла з моманту іх першаснай пабудовы. Яны вельмі рэдкія, выяўлены на мацерыку або крыху ў яго заглыблены. Іншыя адносяцца да перыяду вайны 1812, калі на тэр. калегіума знаходзіўся ваенны шпіталь для французаў; магчыма, тут хавалі памерлых з турмы, што існавала ў памяшканнях калегіума.

*Літ.*: Х м я л ь н і ц к а я Л., Ц і ш к і н І. Езуіцкі калегіум у Оршы // ГАЗ. Мінск, 1994. № 3; Л е в к о О.Н. Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси. Минск, 2004.

*Ю.А.Копцік, В.М.Ляўко.*

**АРША́НСКІ КЛЯ́ШТАР ДАМІНІКА́НЦАЎ**, помнік культавай архітэктуры і археалогіі на вул. Савецкай у г. Орша Віцебскай вобл. Мураваны касцёл св. Іосіфа і кляштарная прыбудова з усх. боку пабудаваны ў 1780—1808 замест драўлянага храма на каменным фундаменце на тэр. дамініканскага кляштара, вядомага з сяр. 17 ст. ў Заршынным пасадзе. На плане Оршы 1813 абазначаны кляштарны комплекс (касцёл, 2 кляштарныя пабудовы і невял. храм). Кляштар дзейнічаў да 1845. У 1870 разабраны 2 сіметрычныя вежы-званіцы гал. фасада касцёла. Пры касцёле раней меліся падвальныя памяшканні, якія суадносіліся з прыбудовай кляштарнага корпуса з усх. боку храма. Цяпер з наземных пабудоў існуе толькі касцёл св. Іосіфа, які ў 1989 вернуты каталіцкай абшчыне. Археал. даследаваннямі В.М. Ляўко ў 2000 устаноўлена, што асн. частка прыбудоў і сам касцёл узводзіліся адначасова. Ускрытыя канструкцыі сцен і фундаментаў падвалаў былі выкананы з цэглы памерамі 31 × 15,5 × 6,5 см на вапнавай рошчыне. Яны размяшчаліся ўздоўж усх. сцяны касцёла і ўтваралі 3 асобныя памяшканні, якія паслядоўна злучаліся паміж сабою. Памеры памяшканняў складалі 4,5 × 6 м, 4 × 9 м і 3 × 11 м, заглыбленасць вонкавых сцен памяшканняў у мацярык склала 3 м. Верхняя частка сцен размешчана ў буд. слоі 18 ст., які падсцілаўся культ. пластом з матэрыяламі 12—17 ст. Паралельна вонкавай сцяне аднаго з памяшканняў выяўлена бутавая кладка даўж. 4,5 м, шыр. 0,8 м на вапне. Гэта дазваляе выказаць меркаванне аб наяўнасці раней цаглянай пабудовы, якая спалучалася з кляштарнай. Касцёл і кляштар, якія прылягаў з усх. боку, былі ўзведзены адначасова ў 18 — пач. 19 ст. Праведзеныя ў 2004—08 работы на тэр. кляштара паказалі наяўнасць глыбокіх сутарэнняў са скляпеннямі, выкананых з цэглы-пальчаткі на вапнавай рошчыне. Гэта могуць быць пабудовы, якія адносіліся да комплексу 17 ст.

*Літ.*: Л е в к о О.Н. Материалы раскопок исторического центра Орши // МАБ. 2008. Вып. 15.

*В.М.Ляўко.*



*Каменны падмурак уязной брамы 18 ст.* ***Аршанскага Куцеінскага Богаяўленскага манастыра.***

**АРША́НСКІ КУЦЕ́ІНСКІ БОГАЯЎЛЕ́НСКІ МАНАСТЫ́Р**, помнік архітэктуры беларускага барока 17 ст. ў г. Орша. Засн. ў 1623 як праваслаўны мужчынскі манастыр. Манастырскі комплекс складаўся з гал. Богаяўленскага сабора, мураванай Святадухаўскай царквы, званіцы, жылых і гасп. пабудоў, быў абнесены агароджай з бутавага каменю і цэглы.

Археал. даследаванні, праведзеныя ў 1987—93 В.М.Ляўко і І.М.Чарняўскім, паказалі, што драўляны будынак Б о г а я ў л е н с к а г а с а б о р а быў узведзены на магутным каменным падмурку шыр. да 1,4 м і меў вял. падвальныя памяшканні выш. да 2,8 м. Выяўлена каменнае сутарэнне памерамі 4,8 × 4,2 м, перакрытае зводам. Спуск у яго здзяйсняўся з паўд. боку праз уваход шыр. 1 м. У раскопе пл. 300 $м^2$, закладзеным на Пд ад апсіды храма, ускрыты падвальныя памяшканні паўд. прыдзела і фр-т абходнай галерэі. Са-

*Арачны фундамент каменнай агароджы* ***Аршанскага Куцеінскага Богаяўленскага манастыра.***



Накладка на Евангелле 17 ст. з **Аршанскага Куцеінскага Богаяўленскага манастыра**.



бор меў пл. 1000—1200 м². Падлога сутарэнняў выкладзена 6-граннымі і квадратнымі пліткамі. Столі былі зводчатыя, пераходы з аднаго памяшкання ў другое здзяйсняліся праз арачныя праёмы. З зах. боку ўскрыты 2 уваходы ў сутарэнне храма звонку. Адзін з іх вядзе ў памяшканні пад паўд. прыдзелам, другі мае рэзкі спуск уніз з некалькі радоў ступеняў і паварочвае вузкім тунэлем у цэнтр. частку сутарэння храма. У 1910—12 манахамі манастыра пад падмуркамі сабора былі выяўлены рэшткі стараж. пячорнай падземнай царквы Уваскрэсення праведнага Лазара. Яна мела крыжападобную форму з нізкім каменным зводам і пл. каля 11 м². У цэнтр. (алтарнай) частцы пл. 2,5 м² на месцы прастола знаходзіўся нізкі драўляны крыж, абкладзены камянямі. У 2 бакавых памяшканнях зберагалася, відаць, найб. каштоўная царкоўная маёмасць. Злева ад пячоры пачынаўся падземны ход, які апускаўся ўніз і быў накіраваны ў бок Дняпра. Знешні бок галерэі адступаў на 0,6 м ад вонкавай сцяны храма і паўтараў яе абрысы. З паўд. боку амаль на ўзроўні сучаснай дзённай паверхні выяўлены бакавы ўваход у галерэю, вымашчаны цэглай і падлогавымі пліткамі.

Другі храм на тэр. манастыра — С в я т а д у х а ў с к а я ц а р к в а (дзейнічае), пабудаваная ў 1-й пал. 17 ст. З яе паўд. боку выяўлена яма, якая ўтрымлівала рознахарактарны рэчавы і буд. матэрыял 17—19 ст. Увесь комплекс знаходак (кафля 2-й пал. 17 ст., рэшткі печышча) указвае на перыяды ўзвядзення храма, прыбудоў да яго і прац па рэканструкцыі існуючых пабудоў.

Акрамя храмаў існавалі жылыя, службовыя і гасп. памяшканні (у асн. драўляныя): амбары, склеп, ляднік, пральня, фурманская, кавальня. У манастырскім двары выяўлены развал горна для абпальвання чарапіцы, гліняны посуд 17 ст., шкляныя вырабы. Тэр. манастыра была агароджана мурам выш. да 2,5 м. Падчас яго рэстаўрацыі заўважаны зводчатыя канструкцыі, выступаючыя на дзённую паверхню. У 1994 даследаваліся падмуркі агароджы працягласцю 20 м, якія ўяўлялі з сябе анфіладу арачных праёмаў, з'яднаных паміж сабой слупамі-апорамі. Слупы з буйных валуноў мелі ў падножжы вапнавую падушку з украпінамі бітай цэглы і дробных камянёў. Падмурак датуецца часам узвядзення першых каменных пабудоў на тэр. манастыра.

Праведзеныя ў 1997 археал. даследаванні на месцы размяшчэння б. брамы са званіцай (ускрыта пл. 144 м²) дазволілі зафіксаваць развіццё яе планіроўкі. Прасочаны канструктыўныя асаблівасці пабудовы, храналагічныя перыяды яе ўзвядзення і перабудоў. На этапе будаўніцтва манастырскай агароджы брама са званіцай была драўлянай і да яе з У і З прымыкала цагляна-каменная сцяна-агароджа.

*Літ.*: Л е в к о О.Н. Культовые памятники Орши XVI—XVIII вв.: (историко-археол. исслед.). Орша, 1996; Я е ж. Материалы раскопок исторического центра Орши // МАБ. 2008. Вып. 15. *В.М.Ляўко.*



Дэталі нацельнага разнога драўлянага абразка, знойдзеныя ў час раскопак на тэрыторыі **Аршанскага Куцеінскага Богаяўленскага манастыра**. Канец 16—17 ст.

**АРША́НСКІЯ ГАРАДЗІ́ШЧА І ЗА́МАК**, археалагічныя помнікі ў цэнтральнай частцы г. Орша па вул. Замкавая, на мысе пры ўпадзенні р. Аршыца ў р. Дняпро.

Г а р а д з і ш ч а з'яўляецца градафарміруючым цэнтрам, ад якога ва ўсе бакі разыходзіліся сярэдневяковыя пасады. Пляцоўка памерамі 105 × 75 м узвышаецца на 6—7 м. Даследавалі ў 1928 А.М.Ляўданскі (13 м²), у 1964 Г.В.Штыхаў (8 м²), у 1965—68 Ю.І.Драгун (503 м²), у 1988 В.М.Ляўко (200 м²). Культ. пласт 1,6—3,6 м. Выяўлены матэрыялы эпохі неаліту і 11—17 ст. Прасочаны рэшткі вала 12 ст. і каменнай адмосткі паверхні вала 14 ст. Першапачатковае паселішча на мысе паслужыла асновай для ўзвядзення ў пач. 12 ст. горада-крэпасці, абнесенага земляным валам. Ядро вала пабудавана з чырвонай гліны, па-

верхня была задзернавана. Улічваючы вял. колькасць вуглёў, знойдзеных пры раскопках у 1988, на вале знаходзілася драўляная сцяна. Гарадзішча-крэпасць аддзялялася з напольнага боку ад прылеглай да яго тэр. штучным ровам, пракапаным паміж рэкамі Дняпро і Аршыца. Роў запаўняўся вадой, пераўтвараў гарадзішча ў астраўную крэпасць. Адначасова з яе ўзвядзеннем за ровам пачаў фарміравацца гандл.-рамесны пасад, аб чым сведчаць рэчы 12 ст., выяўленыя пры раскопках В.М.Ляўко ў 1989—91 на ўчастках, прылеглых да гарадзішча.

З а м а к. Яго тэр. таксама, як і гарадзішча, прывязваецца да сучаснай вул. Замкавай. У 14 ст. адбывалася пашырэнне ўмацаванай часткі горада. Роў, які аддзяляў стараж. крэпасць ад пасада паміж рэкамі Дняпро і Аршыца, быў засыпаны. Другі роў, паралельны яму, быў прарыты далей ад гарадзішча, з'яднаўшы Дняпро з Аршыцай і заключыўшы ў вадзяное кола ўчастак пл. 3,1 га. Гэтая ўмацаваная тэр. была вядома пад назвай «замак». Інвентар 1560 дае ўяўленне аб забудове пляцоўкі пад аршанскі замак, дзе размяшчаўся двор караля, які складаўся з некалькіх святліц, сенцаў, камор, пякарні, кухні, свірнаў на падклецціах, піўніцы (віннага склепа), стайні. Меўся агарод. На тэр. замка размяшчаліся таксама царква, 11 дамоў буйной шляхты — зямян, 17 дамоў мяшчан. План аршанскага замка набліжаўся да трохвугольніка. Па перыметры ён налічваў 5 вежаў, 3 з якіх былі вуглавымі; 4 вежы з 5 мелі да пал. вышыні каменныя аснаванні. Цалкам драўлянымі з'яўляліся вял. ўязная і набатная вежы на мысе. Вуглавая вежа над Дняпром мела патайны выхад да ракі, а ў вежы над Аршыцай каля рынку былі 3 брамы. Унутры ў сцяну замка былі ўмураваны драўляныя гародні, запоўненыя зямлёю, а ўверсе — крытыя пераходы.

Археал. раскопкі, праведзеныя В.М.Ляўко на тэр. гарадзішча і замка, дазваляюць лічыць, што будаўніцтва замка пачалося ў 14 ст., вал гарадзішча з боку пляцоўкі быў умацаваны каменнай адмосткай на вапнавой рошчыне адначасова з узвядзеннем мураваных сцен замка. Першы і адзінкавы выпадак зрыцця землянога вала на гарадзішчы прасочваецца ў пласце сяр. 17 ст. Роў ля падножжа гарадзішча паступова запаўняўся адкладамі больш позняга часу (траншэя 1991). У 1989—91 на тэр. замчышча даследчыкі не знайшлі слядоў каменнага замка, аднак у раскопках 2003 на тэр. прыватнага сектара, прылягаючага да гарадзішча, ва ўсіх шурфах і раскопе выяўлены фр-ты валуннай кладкі на вапне, якія суадносяцца з каралеўскай рэзідэнцыяй 16 ст.

*Літ.*: Л е в к о О.Н. Средневековая Орша и ее округа: (историко-археол. очерк). Орша, 1993; Я е ж. Материалы раскопок исторического центра Орши // МАБ. 2008. Вып. 15. *В.М.Ляўко.*

**АРША́НСКІЯ КУРГА́ННЫЯ МО́ГІЛЬНІКІ**, археалагічныя помнікі каля г. Орша Віцебскай вобл.

М о г і л ь н і к - 1 за 2,5 км ад Аршанскага гарадзішча, на левым беразе р. Дняпро, ва ўр. Дубкі. 30 курганоў круглай і авальнай формы выш. 0,5—1 м, дыям. 6—8 м. У 1928 А.М.Ляўданскі даследаваў 3 насыпы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах глыб. да 1 м, без рэчаў. У насыпах на розных узроўнях ляжалі камяні, у адным трапляліся вугельчыкі.

М о г і л ь н і к - 2 на левым беразе р. Аршыца, каля б. в. Гразівец Аршанскага р-на. Было 169 круглых курганоў выш. 0,5—2 м, дыям. 6—8 м. У 1889 М.Е.Брандэнбург даследаваў 3 насыпы, у 1928 А.М.Ляўданскі і С.А.Дубінскі — 5. Пахавальны абрад — трупаспаленне (1) і трупапалажэнне (6) галавой на З на грунце ці ў ямах глыб. да 1 м. Інвентар: бронзавая спіралька, падвеска-лыжачка, касцяное арнаментаванае дзяржанне нажа, 2 падвескі-конікі, бронзавая спіралька з вушкам, лунніца, пацеркі, жал. абручы ад вядра, цвікі, гузік, нож, шыфернае прасліца, фр-ты гаршкоў.


Да арт. ***Аршанскія гарадзішча і замак***. *Аршанскае гарадзішча. Мост цераз замкавы роў і млын. 1902—15.*

Могільнікі датуюцца 11—12 ст.

*Літ.*: Б р а н д е н б у р г Н.Е. Журнал раскопок 1888—1902. Санкт-Петербург, 1908; Л я ў д а н с к і А.М. Археалагічныя доследы ў Аршанскай акрузе // Працы. Т. 2. *Г.В.Штыхаў.*

**АРША́НСКІЯ ПАСА́ДЫ І СЛАБО́ДЫ**, гандлёва-рамесніцкая частка феадальнай Оршы (12—18 ст.). Пл. ўмацаванага пасада 3,97 га.

П а с а д З а а р ш ы н н ы. Культ. напластаванні 12—17 ст. магутнасцю 1—1,2 м на тэр. Заршыння сведчаць аб інтэнсіўнасці яе засваення, шчыльнай заселенасці. У цэнтры восевай вуліцы пасада, размешчанага ўздоўж выгіну правага берага р. Аршыца, размяшчалася гандл. плошча. У 1620 Орша атрымала магдэбургскае права, на тэр. пасада была пабудавана ратуша. Выяўлены падмуркі са зводамі яе падвалаў. У паўн. частцы дас-



*Да арт.* ***Аршанскія пасады і слабоды.*** *Шкляная пасудзіна 17 ст. з Зааршыннага пасада.*

ледаваны культ. слой магутнасцю 0,8—2,2 м. У ніжняй частцы напластаванняў захаваліся матэрыялы к. 16—17 ст. У паўн.-зах. куце і ў паўн. сцяне раскопу выяўлены вугал пабудовы і падмурак шыр. 0,7 м, выш. 1,75—1,8 м, складзены з валуноў на вапнавай рошчыне. Сляды разбурэння будынка яскрава прасочваюцца ў верхняй частцы культ. напластаванняў, якія ўтрымліваюць матэрыялы 18—19 ст. У культ. слоі 17 ст. захаваліся сляды драўляных канструкцый. У траншэях ад сучасных вуліц Кірава па Васкрасенскай да Дамініканскай, уздоўж Аршыцы, ад вусця па правым яе беразе да моста па вул. Савецкая, а таксама ўздоўж вуліц Савецкай ад Дамініканскай да моста цераз р. Аршыца выяўлены культ. слой магутнасцю ад 0,6 да 2,5—2,8 м. Ён утрымлівае разнастайныя фр-ты драўлянай і каменнай забудовы 12—18 ст. Адкрыты падмурак (цагляная кладка і валуны на вапне), які, верагодна, належаў Васкрасенскай царкве. Каля яго знойдзены цэгла-пальчатка, фр-ты керамікі, жал. вырабы, рэшткі пахаванняў. Сярод інш. знаходак — кераміка 12 ст., фр-т наканечніка дружыннага пояса 10—11 ст. Каля Аршыцы была гаць, зробленая з хмызу, якая падтрымлівалася драўлянымі канструкцыямі, непадалёку — пераправа з замкавай часткі і Надняпроўя да Заршыння. У раскопах на тэр. былой гандл. плошчы выяўлены матэрыялы 12—18 ст., якія сведчаць аб тым, што тут існаваў стараж. пасад, а ў 17—18 ст. працавалі абутковыя і інш. майстэрні і крамы.



*Да арт.* ***Аршанскія пасады і слабоды.*** *Эмалевая талерка 17 ст. з Наддняпроўскага пасада.*

П а с а д  Н а д н я п р о ў с к і. Размешчаны паміж штучным замкавым ровам на З, вул. Камсамольскай на У, Аршыцай на Пн і Дняпром на Пд. Датуецца 14—18 ст. На гэтым пасадзе гандаль адбываўся каля сцен замка, куды сыходзілася лучавая сістэма вуліц. Ніжнія напластаванні ўчастка, набліжанага да замка, адносяцца да 12—15 ст. Інтэнсіўнасць жыцця ў гэты час тут невялікая, магутнасць культ. слоя 0,6—1 м. У паўд. частцы выяўлены культ. пласт магутнасцю ад 0,4 да 1,5 м, які ўтрымліваў рэчавыя крыніцы 14—18 ст. (бытавая кераміка, кафля, шкло, вырабы з жалеза). Дадзены ўчастак указвае на месца знаходжання сярэдневяковых сядзіб. На паўн.-зах. участку пасада, за межамі езуіцкага калегіума, выяўлены рэшткі могілак, якія датуюцца 18—19 ст.; на паўн.-ўсх. знойдзены рэшткі сутарэнняў пабудоў б. комплексу калегіума. Культ. слой магутнасцю да 0,4—0,8 м з разнастайнымі матэрыяламі 17—18 ст. Быў прасочаны гар. роў, выкапаны ў 17 ст.

С л а б о д ы. На правым беразе Дняпра знаходзіўся Надняпроўскі пасад, абведзены земляным валам, межаваў са слабадой, якая развівалася амаль да сучаснай вул. Цэнтральная. На левым беразе Дняпра насупраць замка развівалася слабада Ільінская, якая атрымала сваю назву ад царквы св. Ілы (1505). Драўляная Ільінская царква — самая ранняя культавая пабудова з вядомых на тэр. Оршы. Другая слабада — Куцеінская — знаходзілася ў некаторай аддаленасці ад сярэдневяковай Оршы, аднак была арганічна з ёю звязана. У 1592 у Оршы ўзнікла праваслаўнае брацтва, якое мела цесны кантакт з *Аршанскім Куцеінскім Богаяўленскім манастыром*, пабудаваным у 1623 на сродкі магілёўскага праваслаўнага брацтва. Пл. слабады ў 17 ст. дасягала 1,25 га.

*Літ.*: Гл. пры арт. *Аршанскія гарадзішчы і замак.*

*В.М.Ляўко.*

**АРША́НСКІЯ СТАЯ́НКІ** к а м е н н а г а  в е к у, археалагічныя помнікі каля г. Орша Віцебскай вобл.

С т а я н к а - 1 грэнскай культуры за 0,5 км на Пн ад горада, ва ўр. Кабыльнікі, на правым карэнным беразе Дняпра, выш. 25 м над узроўнем вады. Пл. каля 2000 м². У 1978 адкрыў і ў 1980—87 даследаваў 300 м² У.П.Ксянзоў. Культ. пласт разбураны ворывам. Знойдзены 2873 экз. расшчэпленых крэменяў і прылад працы. Пераважаюць адшчэпы, нуклеусы і пласціны. Сярод 124 прылад працы сіметрычны тронкавы наканечнік стралы, скоблі, сярэдневуглавыя, вуглавыя і ба-

кавыя разцы, праколкі, правёрткі, сякучыя і грубавыемчатыя прылады, скрабкі. Датуецца 9—8-м тыс. да н.э.

С т а я н к а - 2 неалітычнай эпохі ў межах горада, насупраць вуліц Бялінскага і Крылова, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага Дняпра, выш. над узроўнем вады 8—9 м. Пляцоўка памерамі 30 × 70 м. У 1988 У.П.Ксянзоў даследаваў 168 м$^2$. Культ. пласт 0,2—0,5 м. Знойдзены 2858 крамянёвых вырабаў і прылад працы, у т.л. лістападобны постсвідэрскі наканечнік стралы, праколка, скрабкі, вуглавыя разцы, укладышы, скоблі, фр-т ляпнога посуду, арнаментаваны адбіткамі. Датуецца к. 3-га — пач. 2-га тыс. да н.э.

*Літ.*: К с е н з о в В.П. Памятник гренской культуры Орша 1 // Гістарычныя лёсы Верхняга Падняпроўя: рэгіянал. навук. канф. Магілёў, 1995. Ч. 1. Археалогія; Я г о ж. Мезолит Северной и Центральной Беларуси. Минск, 2006. *І.М.Язэпенка.*




*Крамянёвыя наканечнік стралы (1), скрабкі (2—5), разцы (6—9) з* ***Аршанскай стаянкі-1.***

**АРЭНСБУ́РГСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура эпохі фінальнага палеаліту, якая існавала ў 9-м тыс. да н.э. ў межах Паўн.-Германскай і Польскай нізін, у басейнах рэк Рэйн, Везер, Эльба, ніжнім і сярэднім цячэнні р. Одра. Назву атрымала ад стаянак на тарфяніку каля г. Арэнсбург (Германія). Даследаванне А.к. пачата ў 1920 Г.Швантэсам. Найб. вядомасць атрымалі стаянкі Каленхарт, Кетцэндорф, Хёрпел, Штэльмаар (Германія), Вайнова, Кошлеў-1, Лукове-1 (Польшча). Паселішчы прадстаўлены кароткатэрміновымі стаянкамі, на асобных з іх захаваліся рэшткі акруглых і авальных жытлаў. Асн. занятак насельніцтва — паляванне на паўн. аленя, лася, бабра, пра што сведчаць шматлікія астэалагічныя знаходкі і прылады, звязаныя са здабычай і перапрацоўкай жывёлы. Першасная апрацоўка крэменю засн. на сколванні адшчэпаў і пласцін з адна- і двухпляцовачных нуклеусаў у тэхніцы мяккага адбойніка. У другаснай апрацоўцы вядомы стромкае і паўстромкае рэтушаванне загатоўкі, накіраванае на змяненне яе зыходнай формы, тэхніка разцовага сколу. Сярод прылад — канцавыя і двайныя скрабкі, сярэдзінныя, рэтушаваныя і вуглавыя разцы, скоблі, праколкі, сякерападобныя вырабы. Знаходкі з арганічных матэрыялаў уключаюць наканечнікі стрэл, гарпуны, нажы, кінжалы, долатападобныя вырабы. Вядомы драўляны лук. Вызначальнымі для А.к. з'яўляюцца вастрыі тыпу цанхафен (пласціны са скошаным рэтушшу канцом і натуральнай або рэтушаванай асновай) і наканечнікі стрэл: тронкавыя сіметрычныя з добра вылучаным чаранком, дарсальнай ці супрацьлеглай рэтушшу. Пяро наканечнікаў натуральнае ці скошана рэтушшу (арэнсбургскі тып). Генезіс А.к. звязваецца з фінальнапалеалітычнай культурай Броме—Лінгбі. Аналогіі вызначаюцца ў форме наканечнікаў стрэл, якія характарызуюцца меншымі памерамі ў параўнанні з лінгбійскімі. Заўважаецца некаторае падабенства з культурай Федэрмесер. Гіст. лёсы насельніцтва А.к. звязваюцца з культурамі Дзювензее і Маглемазэ (Англія, паўн. Германія, Данія), Фосна і Комса (Скандынавія). Асобныя групы насельніцтва А.к. пранікалі на тэр. Усх. Еўропы і далі пачатак *грэнскай культуры.*

*Літ.*: К р и ж е в с к а я Л.Я. Новые данные о хронологии позднепалеолитических и мезолитических памятников севера ГДР и ФРГ // МИА. 1966. № 126; К о л ь ц о в Л.В. Финальный палеолит и мезолит Южной и Восточной Прибалтики. М., 1977; T a u t e



Аўтар А.У. Коласаў




*Археалагічныя знаходкі **арэнсбургскай культуры** (паводле А.Руста): наканечнікі стрэл (1—18), скрабкі (19—21, 32—35, 38), разцы (22—24, 29—30), пласціны са скошаным рэтушшу канцом (25—28, 31, 36), вастрыё (37).*

W. Die Stielspitzen-Gruppen in nordlichen Mitteleuropa. Köln-Graz, 1968; K o z l o w s k i S.K. The Tanged Points Complex // Tanged pointes cultures in Europe. Lublin, 1999.

*А.У.Коласаў.*

**АРЭ́ХАЎСКІЯ КУРГА́ННЫЯ МО́ГІЛЬНІКІ**, археалагічныя помнікі каля г.п. Арэхаўск Аршанскага р-на Віцебскай вобл.

М о г і л ь н і к - 1 за 2,5 км на З ад гар. пасёлка, ва ўр. Бабінская Прыстань, на паўд.-зах. беразе воз. Арэхаўскае. 22 насыпы выш. 0,8—2,5 м, дыям. 7—12 м. Выявіў у 1926 Д.З.Васілеўскі, абследаваў у 1981 М.І.Лашанкоў.

М о г і л ь н і к - 2 на З ад могільніка-1, у лесе, абапал прасёлачнай дарогі. Складаецца з 4 курганных груп агульнай колькасцю 80 курганоў, выцягнутых у ланцужок. Датуецца 3-й чв. 1-га тыс. — 13—14 ст. Адкрыў Э.Навагонскі ў 1989, у 1990 даследавала В.М.Ляўко. Курганная група-1 налічвала 4 курганы: 1 падоўжаны памерамі 15,5—18 × 2,5—3 × 1,7—1,8 м і 3 паўсферычныя выш. 1,2—1,6 м, дыям. 9—10,5 м. Пахавальны абрад — трупаспаленне па-за межамі могільніка. Рэшткі крэмацыі выяўлены ў ляпных гаршках-урнах у верхняй частцы насыпу, пад дзірваном. У насыпе зафіксаваны попельныя праслойкі.

Курганная група-2 на некаторай адлегласці ад групы-1. 3 насыпы сопкападобнай формы, выш. да 3,5 м, дыям. каля 20 м.

Курганная група-3 размешчана ў напрамку азёр Карэсіна і Перавалочна. Курганы паўсферычнай формы з раўкамі. Па памерах і знешнім выглядзе адпавядаюць курганам могільніка-1. Былі даследаваны некалькі насыпаў, якія, па абраду пахавання (трупапалажэнне) і суправаджальным інвентары, датуюцца к. 10—11 ст. Пахаванні адзіночныя і парныя паралельна адно аднаму, на гарызонце або ў ямах пад насыпам. Мужчынскае пахаванне ў яме глыб. 0,2 м было зроблена ў калодзе. Інвентар — жал. цуглі, фібула. Цікавым з'яўляецца парнае пахаванне (курган № 8) групы-3. На падсыпцы выш. 0,1 м са слядамі абпальвання пляцоўкі было размешчана жаночае пахаванне галавой на З, з залачонымі бочкападобнымі пацеркамі. Каля ног нябожчыцы на гарызонце выяўлена мужчынскае безынвентарнае пахаванне галавой на Пн, пляцоўка пад ім не абпалена. Ногі падагнуты ў каленях, быццам былі звязаны, адна рука пакладзена на грудзі, другая каля твару. Скроня чэрапа прабіта.

Курганная група-4 у могільніку адносіцца да курганоў-жальнікаў. Насыпы ў ёй невялікія (выш. да 0,5 м), абкладзены камянямі. Сустракаюцца каменныя крыжы.

*Літ.*: Л е в к о О.Н. Средневековая Орша и ее округа: (историко-археол. очерк). Орша, 1993; Я е ж. Памятники второй половины I тысячелетия н.э. северо-восточной Беларуси в свете формирования племенных «княжений» // ГАЗ. Мінск, 1994. № 5.

*В.М.Ляўко.*



*Да арт. **Арэхаўскія курганныя могільнікі**. Пахавальныя урны з могільніка-2.*

**АРЭ́ШКАВІЧЫ**, археалагічныя помнікі — гарадзішча, курганны могільнік, курган каля в. Арэшкавічы Бярэзінскага р-на Мінскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а за 3 км на ПдУ ад вёскі, ва ўр. Гарады. Пляцоўка памерамі 37 × 61 м, выш. 18 м, умацавана 2 валамі. Абследаваў у 1929 А.А.Рынейскі. Знойдзены фр-ты керамікі, шлакі.

М о г і л ь н і к за 1 км на Пд ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, абапал дарогі ў в. Жукавец. 45 курганоў выш. 0,9—3,5 м, дыям. 18—20 м. Адкрыў і даследаваў 3 насыпы ў 1931 А.М.Ляўданскі, у 1979 абследавала Т.С.Бубенька. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах галавой на З, нябожчыкі абкладзены плахамі і дошкамі. Інвентар — рэшткі галаўнога венчыка з тонкай тканіны з бронзавымі залачонымі бляшкамі.

К у р г а н за 3 км на Пд ад вёскі, ва ўр. Гарады. Выш. 1,8—1,9 м, дыям. 12 м. Адкрыла ў 1979 Т.С.Бубенька.

*Літ.:* Л я ў д а н с к і А.М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг. // Працы. Т. 3.

**АРЭ́ШКАВІЧЫ**, археалагічныя помнікі — селішчы ў в. Арэшкавічы Пухавіцкага р-на Мінскай вобл.

С е л і ш ч а - 1 у вёсцы насупраць б. школы, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Свіслач, на У ад моста цераз раку. Выявіла і даследавала 40 м$^2$ у 2002 А.У.Ільюцік. Культ. пласт 0,4 м. Знойдзена кругавая кераміка 10—15 ст., каменны тачыльны брусок, гліняны грузік, фаянсавая люлька, гліняная фігурка, пакрытая карычневай эмаллю, жал. каваны цвік. Да бронзавага веку адносяцца абломкі крэменя і фр-ты ляпнога арнаментаванага посуду.

С е л і ш ч а - 2 у вёсцы, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Свіслач, злева ад дарогі ў в. Маліна́ўка. Выявіла і даследавала 12 м$^2$ у 2002 А.У.Ільюцік. Культ. пласт 0,4 м. Знойдзена кругавая непаліваная і паліваная кераміка, тэракотавая кафля з раслінным арнаментам, шкляны посуд з пацінай, аконнае круглае шкло з загнутым краем, каваныя цвікі, медны гузік. Датуецца 13—18 ст.

*А.У.Ільюцік.*

**АСАВЕ́Ц**, археалагічныя помнікі — стаянкі (6) каля в. Асавец Бешанковіцкага р-на Віцебскай вобл.

С т а я н к а - 1 позняга неаліту і ранняга бронзавага веку. За 2,5 км на Пд ад вёскі, у левабярэжжы р. Крывінка, на паўн. краі Крывінскага тарфяніку. Выявіў і даследаваў у 1934 К.М.Палікарповіч. Культ. пласт перакрыты слоем торфу ў 1,5 м. Знойдзены прылады працы і кераміка *паўночнабеларускай культуры*. Датуецца к. 3-га — 1-й пал. 2-га тыс. да н.э.

С т а я н к а - 2 неаліту і ранняга бронзавага веку. За 1,2 км на ПдУ ад вёскі, ва ўр. Дражня, на паўн. ускраіне асушанага тарфяніку. Тэр. стаянкі перарэзана выраўнаваным рэчышчам Крывінкі і каналамі-водаадводамі. Пляцоўка памерамі 80 × 250 м размяшчалася на нізкім пясчана-жвіровым берагавым выступе ў затоку пасляледавіковага возера. У 1960—80-я г., 1999—2008 Міх.М.Чарняўскі выявіў і даследаваў звыш 340 м$^2$, у 2008 на паўд. перыферыі помніка Макс.М.Чарняўскі — 15 м$^2$. Культ. пласт да 1,3 м, перакрыты торфам. Выяўлены рэшткі жытлаў слупавой канструкцыі з 2-схільным дахам, аснову якіх складаў шэраг вертыкальна ўбітых у мацярык завостраных слупоў з развілкамі ўверсе, што падтрымлівалі гарызантальную кладку ў вільчыку. У сярэдзіне жытлаў былі адкрытыя вогнішчы на пясчанай падсыпцы, падасланай пластамі кары. Побач — меншыя па памерах вогнішчы, месцы па апрацоўцы дрэва і вырабе глінянага посуду. У ніжняй частцы культ. пласта знойдзены касцяныя прылады працы, касцяныя і бурштынавыя ўпрыгажэнні, абломкі гліняных (з дамешкай тоўчаных ракавін) гаршкоў, з разрэджаным арнаментам з насечак, наколаў, ямчатых паглыбленняў, грабеньчатых адбіткаў. Некаторыя пасудзіны мелі гравіроўкі са стылізаваных выяў птушак і змей. Знаходкі адно-



*Упрыгажэнні з бурштыну са стаянкі-2 Асавец.*



*Вырабы з косці са стаянкі-2 Асавец.*




*Крамянёвыя наканечнікі стрэл (1—4) і сякеры (5—6) са стаянкі-7* ***Асавец.***

сяцца да мясц. варыянта *ўсвяцкай культуры*. Вышэй у пласце залягалі матэрыялы паўн.-бел. культуры, у т.л. фр-ты гліняных (з дамешкамі тоўчаных ракавін і жарствы) вастра- і пласкадонных гаршкоў, кубкаў, місак розных памераў з заштрыхаванымі паверхнямі сценак. Арнамент размеркаваны па ўсёй паверхні шчыльнымі ўзорамі з гарызантальных паясоў насечак, наколаў, грабеньчатых адбіткаў, ямчатых паглыбленняў. Частка пласкадонных пасудзін мела адбіткі шнура і лінейнага штампа. Знойдзены крамянёвыя наканечнікі стрэл (кароткія лістападобныя, рамбічныя і трохвугольныя), наканечнікі коп'яў, скрабкі, нажы, праколкі, клінападобныя сякеры, каменныя свідраваныя сякеры і матыкі, а таксама касцяныя і рагавыя наканечнікі стрэл, кінжалы, праколкі, іголкі, сякеры, цёслы, долаты, нажы з іклаў дзіка, гарпуны і рыбалоўныя кручкі, лыжкі, інструменты для лепкі і арнаментавання посуду, рэшткі драўляных чаўноў і вёслаў, місак, дошак і інш. Выяўлены ўпрыгажэнні з рога, костак і бурштыну: падвескі, гузікі, трубачкі, кольцы, творы першабытнага мастацтва — драўляныя і касцяныя мініяцюрныя фігуркі людзей, жывёл, птушак, гравіраваныя выявы людзей на сценках гаршкоў і інш. Датуецца к. 4-га — 1-й пал. 2-га тыс. да н.э.

*Вырабы з косці са стаянкі-7* ***Асавец:*** *гарпун (1), падвескі (2—6), жалейка (7), лыжачка (8).*




С т а я н к а - 3 бронзавага веку. За 1 км на ПдУ ад вёскі, на пясчаным узгорку Аксінаў в-аў. Выявіў і даследаваў у 1968 Міх.М.Чарняўскі. На паверхні знойдзены крамянёвыя прылады працы і фр-ты посуду пераважна сярэднябронзавага часу. На ўсх. краі стаянкі ў торфе — рэшткі драўлянага памоста-прыстані для чаўноў.

С т а я н к а - 4 ранняга неаліту. За 1,8 км на ПдУ ад вёскі, ва ўр. Брускавішча, на зах. схіле ўзгорка. Пашкоджана кар'ерам. Выявіў у 1971 Міх.М.Чарняўскі, у 1970—80 даследаваў 176 м². Знойдзены крамянёвыя лістападобныя з тронкамі наканечнікі стрэл, высокія канцавыя скрабкі, нажы, укладышы, сякеры, касцяныя праколкі, абломкі масіўных гарпуноў, верацёнападобныя і няправільнага трохвугольнага сячэння наканечнікі стрэл, сякерападобныя прылады, фр-ты вастрадонных гаршкоў з дамешкамі рэшткаў раслін і тоўчаных ракавін у гліне, арнаментаваных адбіткамі грэбеня, наколамі і насечкамі, пракрэсленымі лініямі. Па краі венчыкаў пояс глыбокіх круглых ямак. Стаянка адносіцца да *нарвенскай культуры*, датуецца 4-м тыс. да н.э.

С т а я н к а - 5 неаліту і ранняга бронзавага веку. За 1,1 км на ПдУ ад вёскі, на ўзвышэнні тарфяніку. У 1972 выявіў, у 1987 і 1991 даследаваў 32 м² Міх.М.Чарняўскі. Матэрыялы адносяцца да ўсвяцкай і паўн.-бел. культур. Датуецца 3-м — сяр. 2-га тыс. да н.э.

С т а я н к а - 7 позняга неаліту і ранняга бронзавага веку. За 1,5 км на ПдУ ад вёскі, 0,3 км на ПдУ ад стаянкі-2, у паўн. частцы Крывінскага тарфяніку. У 2000 выявіў Міх.М.Чарняўскі, у 2000—07 даследаваў 96 м² Макс.М.Чарняўскі. Пашкоджана пажарам, ацалелая пляцоўка на паўд. ускраіне мае памеры 20 × 50 м. Культ. пласт да 1,2 м. Знойдзена больш за 13 тыс. фр-таў керамікі, 421 крамянёвая і 251 касцяная прылады, вырабы і фр-ты з бурштыну, каменя, дрэва і бяросты, меднае шыла, 17 тыс. фр-таў костак млекакормячых, рыб і птушак, каля 1 тыс. фр-таў лясных і вадзяных арэхаў і інш. Часткова ўскрыта пабудова слупавой канструкцыі з вогнішчам. Выяўленыя матэрыялы адносяцца да паўн.-бел. культуры 3-й чв. 3-га — сяр. 2-га тыс. да н.э.

*Літ.*: П о л и к а р п о в и ч К.М. Торфяниковые стоянки Кривина и Осовец в БССР // Бюл. Комиссии по изучению четвертичного периода. М.; Ленинград, 1940; Ч е р н я в с к и й М.М. Исследование неолитических поселений Кривинского торфяника // Древности Белоруссии. Минск, 1969; Я г о ж. Нарвенская культура // Археалогія Беларусі. Мінск, 1997. Т. 1; Я г о ж. Паўночнабеларуская культура // Там жа; Ч а р -

н я ў с к і Макс.М. Першыя вынікі даследавання тарфянікавай стаянкі Асавец-7 // МАБ. 2003. № 6; Я г о ж. Керамічны комплекс стаянкі Асавец-7 // ГАЗ. Мінск, 2006. № 21; Я г о ж. Асавец 7 — новое поселение Кривинского торфяника // Человек. Адаптация. Культура. М., 2008.

*Макс.М.Чарняўскі, Міх.М.Чарняўскі.*

**АСАРЭ́ВІЧЫ**, археалагічныя помнікі — гарадзішча, бескурганны могільнік і неўмацаваныя паселішчы каля в. Асарэвічы Брагінскага р-на Гомельскай вобл. Адкрыў у 1929 І.Х.Юшчанка, даследавала ў 1955—57 В.М.Мельнікоўская, абследавалі ў 1956 Л.Д.Побаль, у 1975 — В.Е.Собаль, у 1985 — М.І.Лашанкоў, у 2007 — М.М.Крывальцэвіч.

Г а р а д з і ш ч а за 3,5 км на Пн ад вёскі, ва ўр. Гарадок, на ўзвышшы (выш. 10 м). З трох бакоў абмежавана р. Лебядзёўка (правы прыток Дняпра). Пляцоўка прамавугольная, памерамі 70 × 120 м, умацавана валам (шыр. 20 м, выш. з боку пляцоўкі 0,5—1 м) і ровам з напольнага боку. У 1955 В.М.Мельнікоўская даследавала 12 м² (4 шурфы). Культ. пласт 0,1—0,2 м. У паўд. частцы вала выяўлены абвугленыя бярвёны, што ўтваралі вугал драўлянай канструкцыі ў насыпе. На выдмах пляцоўкі знойдзены: каменная шліфаваная сякера, 8 праслiц (3 пасудападобныя, 3 біканічныя, шара- і бочачнападобнае), 7 шкляных пацерак жоўтага, блакітнага, сіняга, зялёнага і светла-зялёнага колераў, бронзавы бісер, нажны і 3 бронзавыя ручныя (2 з вітым стрыжнем і 1 пласціністы) бранзалеты, 5 шпілек (з посаха-, колца-, цвіка- і 2 са спіралепадобным навершам), 3 трапецападобныя падвескі з жалеза і 2 з бронзы, частка бронзавай іголкі, фр-ты ляпнога посуду, кавалкі шлаку.

Б е с к у р г а н н ы м о г і л ь н і к за валам гарадзішча, на паўд.-ўсх. і паўд. пакатых схілах узвышша. У 1955 В.М.Мельнікоўская даследавала 144 м² (2 раскопы і 8 шурфаў), сабрала артэфакты з пашкоджаных пахаванняў. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Перапаленыя косці з попелам ад кастра і суправаджальнымі рэчамі ссыпаліся на дно круглых і авальных ям глыб. 0,4—0,65 м. Знойдзены: жалезныя брытва, шыла, 2 нажы з адагнутай спінкай, бронзавыя восць двухшыпная, 18 пацерак, завушніца з канічным шчыткам, 2 пярсцёнкі з вітога дроту і 1 пласціністы з серабра, 36 наканечнікаў стрэл з бронзы (5 трохлопасцевых, 11 трохгранных) і жалеза (19 пласціністых, 1 утулкавы). Пласціністыя стрэлы без чаранкоў маюць пёры ў выглядзе выцягнутага трохвугольніка, ромба альбо ліста вярбы. З рэшткаў керамікі з пахаванняў цалкам і часткова ўзноўлены 4 ляпныя пасудзіны з шарападобным тулавам дыям. 19—27,5 см, выш. 22—23 см, дыям. шыек 15,4—21,5 см.

Гарадзішча і могільнік адносяцца да *мілаградскай культуры*, датуюцца 6—4 ст. да н.э. Каля в. Асарэвічы выпадкова знойдзены акінак і меч са страчаным канчаткам ляза, датуюцца 5 ст. да н.э.

Неўмацаваныя п а с е л і ш ч ы (8) знаходзяцца на рознай адлегласці ад вёскі, ва ўрочышчах Старык, Трэсце, Майдан, Хракаўскі Бор, Усох, Камень, Навінка (Курган) і Перадзел. Археал. раскопкі не праводзіліся.



*Наканечнікі стрэл з гарадзішча **Асарэвічы**.*

*Літ.*: Ю ш ч а н к а І.Х. Археоллёгічнае абсьледваньне р. Брагінкі (вадазбор ніжняй Прыпяці) // Працы. Т. 3; М е л ь н и к о в с к а я О.Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке. М., 1967; Л о ш е н к о в М., К е н ь к о П. Новые находки милоградского времени в Беларуси // ГАЗ. Мінск, 2007. Вып. 23.

*М.І.Лашанкоў.*

**АСВЕ́ЙСКІЯ ГАРАДЗІ́ШЧЫ**, археалагічныя помнікі — група ўмацаваных паселішчаў каля вёсак Абрамава, Латыгава (не існуе), Дубровы, Урагава, пас. Чапаеўскі і на выспе воз. Асвейскае Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобл. Даследавалі: у 1926 — В.Глацёнак, у 1949 — А.Р.Мітрафанаў, у 1965—66 — К.П.Шут. Абследавалі ў 1979 В.І.Шадыра, у 2000 — В.М.Сідаровіч. Гарадзішчы ўзнікалі паступова: Урагава і Дубровы ў 7—6 ст. да н.э., каля вёсак Абрамава, Латыгава і пас. Чапаеўскі — у к. 1-га тыс. да н.э., у паўд. частцы выспы — у першых стагоддзях н.э. На ранніх



*Да арт. **Асвейскія гарадзішчы.** Прылады працы і ўпрыгажэнні з гарадзішча Урагава.*

гарадзішчах знойдзены рэчы з косці (праколкі, шылы, шпількі, іголкі, невял. долаты) і каменю (сякеры, песты-цёрачнікі); на больш позніх пераважаюць жал. прадметы (нажы, сярпы, сякеры, шылы, іголкі, наканечнікі стрэл і інш.), зафіксаваны сляды мясц. вытворчасці жалеза (жужаль, крыцы, рэшткі домніц). Асн. маса ляпнога керамічнага посуду характэрна для зах. варыянта днепра-дзвінскай культуры — гладкасценныя слоіка- і вядропадобныя пасудзіны, аздобленыя ямачнымі ўціскannямі, адтулінамі і лініямі ў верхняй частцы гаршкоў. У верхніх пластах зафіксавана аблітая (шурпатая) кераміка (гарадзішча Урагава), характэрная для прыбалтыйскіх паселішчаў 2-й і 3-й чв. 1-га тыс. н.э. У невял. колькасці выяўлена кераміка банцараўскай культуры 2-й пал. 1-га тыс. н.э.

*Літ.*: Глацёнак В. Некаторыя з помнікаў Асвейскага раёна // Наш край. 1930. № 3; Шут К.П. Памятники раннего железного века на севере Белоруссии // Древности Белоруссии. Минск, 1966; Я г о ж. Городища эпохи раннего железа на северо-западе Белоруссии // Доклады к XI конференции молодых ученых Белорусской ССР. Минск, 1967; Шадыро В.И. Ранний железный век северной Белоруссии. Минск, 1985.

*В.І.Шадыра.*

**АСТАША́**, археалагічныя помнікі — стаянкі і крэменеапрацоўчыя майстэрні каля б. хутара Асташа Гродзенскага р-на.

Фінальнапалеалітычную стаянку Асташа-1, крэменеапрацоўчую майстэрню Асташа-2, стаянку і крэменеапрацоўчую майстэрню Асташа-3 выявілі ў 2005 на правым беразе Аўгустоўскага канала каля б. хутара В.С.Абухоўскі і В.Л.Лакіза. У тым жа годзе на помніку Асташа-1 праведзены раскопкі на пл. 23 $м^2$ (В.Лакіза, В.Абухоўскі, А.Калечыц, М.Чарняўскі). Стаянка размешчана за 0,5 км на ПнЗ ад хутара, на дзюнападобным павышэнні правабярэжнага поплаву Аўгустоўскага канала, на выш. 0,5—2 м. Памер 150 × 50 м. Даследавалася раскопам (18 $м^2$) і шурфам (5 $м^2$) у паўд. частцы. У пласце супесі палева-жоўтага колеру трапляліся рэдкія артэфакты. Асн. іх канцэнтрацыя прыпадала на тонкі пласт гумусаванай светла-карычневай супесі, а таксама на месца майстра па апрацоўцы крэменю. Знойдзена 56 крамянёвых артэфактаў: 2 нуклеусы, фр-ты нуклеусаў, 22 адшчэпы, 3 пласціністыя адшчэпы, 20 пласцін, 3 лускі, рабрыстая пласціна і адшчэп, скол падпраўкі пляцоўкі нуклеуса. Крамянёвы інвентар сведчыць пра засяленне ўрочышча ў фінальным палеаліце. Аналагічны набор артэфактаў характэрны для кола культур з лістападобнымі наканечнікамі стрэл на тэр. Цэнтр. і Усх. Еўропы ў 10—9-м тыс. да н.э. *В.Л.Лакіза.*




*Гульнявыя бабкі з астрагалаў аленя (1) і быка свойскага (2) з феадальнага замка Свіслач.*

**АСТРАГА́Л** (лац. Talus), найбольш масіўная косць заплюсны. Мае назвы: надпятачная, таранная; нар. — «бабка», «казан». У астэалогіі і археазаалогіі лічыцца высокадыягнастычнай для відавога вызначэння. У археал. тэрміналогіі ўсталяваліся назвы: А., «таранная» — для пазначэння костак, амулетаў з прасвідраванымі адтулінамі і падвесак; «бабкі», «біты» — для А. капытных, якія выкарыстоўвалі для гульні ў косці. Шырока распаўсюджаны знаходкі А. з адтулінамі і акруглымі паглыбленнямі для заліўкі металам. А. сустракаюцца ў гарадах, на феад. замках-сядзібах у сярэдневяковы перыяд. *А.А.Разлуцкая.*

**АСТРО́ЎШЧЫНА**, археалагічныя помнікі — селішчы каля в. Астроўшчына Полацкага р-на Віцебскай вобл. Адкрыў у 1997 М.В.Клімаў.

Селішча-1 на зах. ускраіне вёскі, на правым беразе р. Нача. Пл. 0,5 га. Культ. пласт 0,3 м. Выяўлены фр-ты керамічнага посуду і вугалле ў розных месцах паселішча, на перадмацерыковай паверхні. Археал. раскопкі не праводзіліся. Пляцоўка разворваецца. Селішча датуецца 14—17 ст.

Селішча-2 за 0,5 км на ПнЗ ад вёскі, на полі. Пляцоўка выцягнута ўздоўж правага берага р. Нача. Пл. 0,6 га. У 1998 М.В.Клімаў даследаваў 100 $м^2$. Культ. пласт 0,5 м. Выяўлены сляды жылой і гасп. пабудовы, драўляныя часткі яе не захаваліся. Знойдзены фр-ты керамічнага посуду, цвікі, нажы, асялкі, рыбалоўны кручок, медныя пярсцёнкі, шыферныя праслііцы і бронзавая падвеска-конік. Датуецца 11—16 ст.

*Літ.*: Клімаў М.В. Тапаграфія і планіроўка вясковых паселішчаў у акрузе Полацка // МАБ. 2005. Вып. 9. *М.В.Клімаў.*

**АСТЭАЛО́ГІЯ** (грэч. osteon косць + logos слова, вучэнне), раздзел анатоміі, які вывучае косці

шкілета. Даследаванні заключаюцца ў высвятленні расавых, полаўзроставых адзнак, вызначэнні зменлівасці памераў і форм шкілета чалавека (*антрапалогія*) і жывёл (*археазаалогія*, *палеантапогія*). Звесткі апісальнага і вымяральнага (біяметрыя) спосабаў апрацоўваюцца статыстычна і графічна, адзначаюцца безадносныя памеры, разлічваюцца іх суадносіны. Даследаванне касцявых рэштак і форм дае магчымасць вывучаць марфалогію выкапнёвых жывёл і чалавека.

*Н.П.Александровіч.*

**АТВЕ́РЖЫЧЫ**, археалагічныя помнікі — бескурганны могільнік і 2 селішчы зарубінецкай культуры каля в. Атвержычы Столінскага р-на Брэсцкай вобл.

Бескурганны могільнік на паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, на пясчаным узвышшы, у пойме правага берага р. Гарынь. Адкрыў Ю.У.Кухарэнка ў 1955, які даследаваў 13 магіл (1957, 1962). К.В.Каспарава даследавала 84 магілы (1963, 1965, 1968). Пахавальны абрад — трупаспаленне па-за межамі могільніка з далейшым пахаваннем рэш-



*Фібулы з могільніка Атвержычы.*

ткаў крэмацыі ў авальных або круглых ямах. У 60 пахаваннях перапаленыя косці ссыпалі на дно ямы, у 23 — у гліняныя урны. 13 магіл уяўлялі сабой кенатафы. У пахаваннях кальцыніраваныя косці знаходзіліся ў зах., паўн.-зах. або паўд.-зах. частках могільніка, пахавальны інвентар канцэнтраваўся з процілеглага боку. Колькасны і відавы склад керамікі ў магілах неаднолькавы: ад 1 да 5 пасудзін у розных спалучэннях (найчасцей гаршчок, міска, кубак). Сярод выяўленых рэчаў пераважаюць ляпныя пасудзіны, чорныя ці карычневыя глянцаваныя, грубаляпныя з загладжанай ці бугорчатай паверхняй. Знойдзены металічныя ўпрыгажэнні і дэталі адзення. Самую вял. групу ўпрыгажэнняў складаюць бронзавыя і жал. фібулы (37 экз. у 20 пахаваннях). Пераважаюць сярэднелатэнскія (25 экз., 18 з іх належаць да зарубінецкага тыпу з трохвугольным шчытком), астатнія — позналатэнскія. У ліку ўпрыгажэнняў і дэталей адзення буйныя бронзавыя шпількі з кольцападобнай, плоскаспіральнай і цвікападобнай галоўкамі, трапецападобныя падвескі на бронзавых ланцужках, бронзавыя спіралепадобныя бранзалеты, шкляныя пацеркі, бронзавыя спіралькі і трубачкі. Унікальная для тэр. Беларусі знаходка — скураны пояс з прымацаванымі да яго бронзавымі пласцінамі і бляшкамі, які завяршаўся жал. пласцінай, пакрытай бронзавым арнаментаваным лістом, і кручком для мацавання. Датуецца 2 ст. да н.э. — 1 ст. н.э.

С е л і ш ч а - 1 размяшчалася на Пд і Пн ад могільніка, з якім непасрэдна суседнічала. У яго паўн.-зах. частцы выяўлена паўзямлянкавае жытло прамавугольнай формы, памерамі 4,8 × 3 м, заглыбленае ў зямлю на 0,7 м. Сценкі катлавана жытла пакатыя, падлога з ушчыльненага мацерыковага пяску з украпінамі попелу і вугалю. У паўд.-ўсх. частцы выяўлены рэшткі глінабітнай печы (дыям. 0,65 м), што размяшчалася ў невял. паглыбленні ў падлозе. У запаўненні жытла выяўлена каля 200 фр-таў грубаляпных і 10 — глянцаваных пасудзін (некаторыя з іх арнаментаваны пальцавымі зашчапкамі, ямкамі і насечкамі па краі венчыка, наляпным валікам з зашчыпамі), а таксама 2 гліняныя біканічныя праслíцы і гліняныя грузіла. Знаходкі па-за межамі жытла: жал. спражка, гліняныя праслíцы, 2 крамянёвыя нажы для жніва і інш.

С е л і ш ч а - 2 за 1 км на ПнУ ад могільніка. Даследавалі Ю.У.Кухарэнка і К.В.Каспарава, раскапана 190 м$^2$. Выяўлены 2 гасп. ямы дыям. 1,1—1,5 м, глыб. 0,7—0,8 м. У іх знойдзены абломкі глянцаваных і неглянцаваных пасудзін, накрывак, косці жывёл і кавалкі глінянай абмазкі. Знаходкі з раскопу: гліняныя біканічныя праслíца і шарык, абломкі каменных зерняцёрак і сякеры.

*Літ.*: К у х а р е н к о Ю.В. Памятники железного века на территории Полесья // САИ. 1961. Вып. Д1—29; К а с п а р о в а К.В. Могильник и поселение у д. Отвержичи // МИА. 1969. № 160; Я е ж. Новые материалы могильника Отвержичи и некоторые вопросы относительной хронологии зарубинецкой культуры Полесья // АСГЭ. Ленинград, 1976. Вып. 17. *А.А.Егарэйчанка.*

**АТРУ́БЫ**, археалагічны помнік — гарадзішча жалезнага веку каля в. Атрубы Жлобінскага р-на Гомельскай вобл. Знаходзіцца за 0,5 км на ПнЗ ад вёскі, ва ўр. Гарадок, на левым беразе р. Бярэзіна. Адкрыта У.П.Ксянзовым у 1977. Раскопкі праводзіла Н.М.Дубіцкая ў 1983, 1997, 2000—06. Даследавана пл. 360 м$^2$ . Знойдзены керамічны посуд і крамянёвы наканечнік стралы эпох неаліту і бронзавага веку (культ. слой гэтага перыяду амаль не захаваўся). У 6—4 ст. да н.э. плямёны *мілаградскай культуры* збудавалі тут гарадзішча. Выяўлены кераміка з «жамчужным» арнаментам і скразнымі праколамі, пасудзіны ранніх форм і праслíцы ранніх тыпаў. Трэці этап засялення звязаны з прыходам постзарубінецкага насельніцтва, верагодна, у 1—2 ст. Знойдзены наканечнік дроціка, кераміка з насечкай і ўціскаеннем па краі і пад знешнім краем вянца, падглянцаваны посуд. А. адносяць да мілаградскіх гарадзішчаў. Прасочваецца ўплыў суседніх культур (юхнаўскай, штрыхаванай керамікі). *Н.М.Дубіцкая.*

**АЎГУСТО́ЎСКІ КАНА́Л**, археалагічныя помнікі — стаянкі каменнага і бронзавага веку. Бел. частка А.к. і басейн р. Чорная Ганча Гродзенскага р-на доўгі час заставаліся «белай плямай» на археал. карце Беларусі. У сувязі з рэканструкцыяй канала ў 2004 В.Л.Лакіза і В.С.Абухоўскі абследавалі ваколіцы в. Нямнова, выявілі стаянку са шматлікімі крамянёвымі артэфактамі Нямнова-1. У 2005 аб'яднаная экспедыцыя ІГ НАНБеларусі і БДУ правяла мэтанакіраваныя даследаванні на А. к. ў межах земляных работ па яго рэканструкцыі. У выніку разведак выяўлена 47 розначасовых археал. помнікаў каля вёсак Сонічы (11), Чарток (8), Лясная (7), Дамброўка (6), Вусава (5), Рынкаўцы (4), Нямнова (4), Асташа (3). Многія з адкрытых помнікаў размяшчаюцца непасрэдна на берагах канала, таму моцна пашкоджаны землянымі работамі ў час рэканструкцыі. Раскопкі праведзены на 11 помніках: мезалітычнай стаянцы Нямнова-1 (245 м$^2$), мезалітычнай стаянцы і селішчы Лясная-2 (24 м$^2$), селішчы Лясная-3 (18 м$^2$), фінальнапалеалітычнай стаянцы Асташа-1 (23 м$^2$), стаянцы Сонічы-1 (12 м$^2$), стаянцы і

*Гліняны посуд з гарадзішча **Атрубы**.*





Аўтар Лакіза В.Л.

селішчы Сонічы-5 (21 м²), мезалітычнай стаянцы Чарток-1 (24 м²), стаянцы і селішчы Дамброўка-5 (24 м²), селішчы Рынкаўцы-1 (21 м²), стаянцы Нямнова-3 (16 м²), крэменеапрацоўчай майстэрні Нямнова-4 (24 м²). Высветлена, што тэр. абапал А.к. была заселена з фінальнага палеаліту (Асташа-1, Сонічы-1 — *свідэрская культура*). У раннім мезаліце на стаянцы Нямнова-3 жылі носьбіты *кунда культуры*, у познім мезаліце на стаянках Нямнова-1, Лясная-2, Чарток-1 — плямёны *яніславіцкай культуры.* Да позняга неаліту і ранняга бронзавага веку адносяцца помнікі Лясная-2, Сонічы-5, Дамброўка-5 і Нямнова-4. Інтэнсіўнае засяленне тэр. працягвалася і ў сярэдневяковы час, аб чым сведчыць ганчарны посуд з помнікаў Рынкаўцы-1, Лясная-3, Дамброўка-5, Чарток-1.

*Літ.*: А б у х о ў с к і В.С., Л а к і з а В.Л. Археалагічныя помнікі беларускай часткі Аўгустоўскага канала // Августовский канал и современный экотуризм. Пултуск; Минск; Гродно, 2008. *В.Л.Лакіза.*

**АЎКШТА́ЙТЫ**, група балцкіх плямён, што жылі ў басейне р. Нявежыс і нізоўях Віліі (Нярыс). Назва паходзіць ад літ. auktulinis (верхні) у адрозненне ад назвы жэмайтаў, што жылі ніжэй па Нёмане. Упершыню А. ўпамінаюцца ў Дузбургскай хроніцы ў сувязі з падзеямі 1294—1300. Жылі А. ва неўмацаваных паселішчах, а гарадзішчы служылі ім сховішчамі (культ. пласт у гарадзішчах нязначны альбо адсутнічае). Даследаванымі археал. помнікамі А. з'яўляюцца бескурганныя могільнікі без наземных прыкмет. У 1—4 ст. характэрны для іх быў пахавальны абрад трупапалажэння (мужчын галавой на З, жанчын — на У), у магілах 5—6 ст. сустракаюцца трупапалажэнне і трупаспаленне, з 7 ст. пераважае апошні. Суправаджальны інвентар бедны: у пахаваннях 1—6 ст. жал. нажы, шылы, сякеры, бронзавыя шпількі і бранзалеты, 7—13 ст. — фр-ты ўпрыгажэнняў з каляровых металаў, зрэдку прылады працы і ўзбраенне. У 10—13 ст. побач з нябожчыкамі хавалі няспаленых коней (да 10 і больш жывёл) з амуніцыямі і ўпрыгажэннямі (цуглі, страмёны, спражкі, бронзавыя спіралі, пласціны, бразготкі, бурштынавыя пацеркі і інш.). Адзінкавыя археал. знаходкі, якія характэрны для побыту А., выяўлены на Пн і ПнУ Беларусі.

**АЎСЯ́НІКІ**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Аўсянікі Чашніцкага р-на Віцебскай вобл., на беразе воз. Старасельскае. Налічваў 60 (застаўся 1) курганоў выш. 1,5—3 м, дыям. 13—15 м. У 1888 Е.Р.Раманаў даследаваў 3 насыпы, абследавалі ў 1971 В.В.Караткевіч, у 1981 — Т.С.Бубенька. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на ПнЗ. У адным насыпе выяўлены 3 пахаванні і агнішча. Інвентар: сярэбраныя пярсцёнак, медальён і завушніцы, грыўня, лунніцы, скроневыя кольцы, каля 700 шкляных пацерак, вянок з дрэва, абцягнены скурай і тканінай з упрыгажэннямі (пацеркамі і медальёнамі), кольцы, жал. нажы, цвікі, крэсіва. Належаў крывічам, датуецца к. 1-га — пач. 2-га тыс.

*Т.С.Бубенька.*

**АХВЯ́РНІК** (старaслав. трэбішча), месца прынашэння дароў (матэрыяльных рэчаў, прадуктаў харчавання, паляўнічай здабычы, грошай і інш.) духам продкаў, багам, святым. Ахвярапрынашэнне — абавязковая частка рэлігійнага культу, яго звязваюць з традыцыяй задобрывання і ўміласціўлення духаў, з верай у чарадзейную сілу ахвярнай жывёлы і інш. У старажытнасці ў ахвяру часам прыносілі і людзей. Паводле сведчанняў візантыйскага гісторыка Пракопія Кесарыйскага (6 ст.), славяне прыносілі ахвяру з паяўленнем небяспекі, а калі яна мінавала, ахвяравалі ў знак удзячнасці.

Валы язычніцкіх свяцілішчаў Паўн. Букавіны (Украіна) мелі плоскую вяршыню або ступеньку на схіле, дзе гарэлі агні. У неглыбокіх равах з плоскім дном, на адмыслова зробленых выбрукоўках з камянёў разводзіліся вогнішчы, куды кідалі мяса жывёл і рытуальна разбітыя пасудзіны. У Беларусі тыпалагічна блізкія да А. Паўн. Букавіны — *Верхаўлянскае свяцілішча*, *Ходасавіцкае свяцілішча.* У якасці А. да нашага часу выкарыстоўваецца Дажбогаў камень *Крамянецкага свяцілішча.* На этнічна бел. тэрыторыі, каля в. Гачкі паблізу г. Бельск-Падляскі (усх. Беласточчына), у 1970 пры раскопках гарадзішча выяўлена ахвярная яма з вял. колькасцю гліняных місак і касцямі буйной рагатай жывёлы. У 6 ст. пляцоўка гарадзішча была аперазана кальцом жылой забудовы. Выяўленыя на ім сляды заняткаў каляровай металургіяй сведчаць аб б. прысутнасці тут «ча-

раўнікоў», якія часта паходзілі з асяроддзя каралёў. Мяркуюць пра існаванне А. на гарадзішчы (10—11 ст.) каля г. Косава Івацэвіцкага р-на. Яно размешчана на вяршыні высокай гары, мае сістэму размяшчэння равоў і валоў, у многім аналагічную свяцілішчам Смаленшчыны і Букавіны. Акрамя помнікаў, на якіх праводзіліся раскопкі, па запісаных у 19 ст. легендах язычніцкія А. існавалі таксама на гарадзішчах каля вёсак Васькаўцы і Хоўхлава Маладзечанскага р-на, ва ўр. Святая Грыва Ровенска-Слабодскай воласці б. Рэчыцкага пав. Паводле меркаванняў К.П.Тышкевіча, А. былі таксама на гарадзішчы каля в. Быстрыца Астравецкага р-на і каля культавага каменя паблізу б. хутара Тупальшчына Смаргонскага р-на. Пра месцы прынясення славянамі-язычнікамі ахвяр згадваецца ў «Аповесці мінулых гадоў» (пач. 12 ст.). Пазней частка язычніцкіх А., асабліва святых крыніц і камянёў, была адаптавана да хрысціянскіх абрадаў і выконвала функцыі прошчаў.

*Літ.*: С е д о в В.В. Восточные славяне в VI—XIII вв. М., 1982; Р ы б а к о в Б.А. Язычество Древней Руси. М., 1987.

*Э.М.Зайкоўскі.*

**АХО́ВА ПО́МНІКАЎ АРХЕАЛО́ГІІ**, сістэма дзяржаўных і грамадскіх мерапрыемстваў па засцярозе ад разбурэння і захаванні помнікаў археалогіі. Ахове падлягаюць рэшткі стараж. пасяленняў, стаянкі, паселішчы, гарадзішчы, бескурганныя і курганныя могільнікі, месцы знаходжання стараж. майстэраняў, шахтаў і інш. Дзейнасць па А.п.а. складаецца з н.-д. работы (вывучэнне, публікацыя), выдання заканадаўчых актаў (прызнанне таго ці інш. аб'екта помнікам археалогіі), прыняцця законаў, якія забараняюць іх разбурэнне або пашкоджанне, распрацоўкі інструкцый аб парадку ўліку, захавання, кансервацыі, рэстаўрацыі, папулярызацыі помнікаў як гіст. спадчыны. У Расійскай імперыі ўказы пра збіранне і захаванне стараж. рэчаў упершыню выдадзены Пятром I у 1718, 1722. У 19 ст. ствараліся навук. т-вы па вывучэнні гіст. помнікаў: *Археалагічная камісія* ў Пецярбургу (1859), *Маскоўскае археалагічнае таварыства* (1864), Маскоўскі археал. ін-т (1877), губернскія вучоныя архіўныя камісіі, губернскія і абл. статыстычныя к-ты. Пытанні аховы помнікаў абмяркоўвалася на *археалагічных з'ездах*. 5.11.1918 выканкам Савета Зах. камуны прыняў дэкрэт «Аб перадачы культурных каштоўнасцей, маёнткаў і ўстаноў аддзелам народнай асветы і аб арганізацыі іх збору, уліку і аховы». Аналагічныя пастановы былі апублікаваны часовым рабоча-сялянскім урадам Беларусі ў газ. «Звязда» ў пач. 1919. 24.12.1923 Савет нар. камісараў (СНК) БССР прыняў пастанову пра абавязковую рэгістрацыю і ахову помнікаў мастацтва, старажытнасці, нар. побыту і прыроды, якія знаходзяцца ва ўласнасці ўстаноў, т-ваў і прыватных асоб. Пастанова стала першым агульнарэспубліканскім законам аб ахове помнікаў гісторыі і прыроды. Пазней былі вызначаны катэгорыі помнікаў, якія падлягаюць дзярж. ахове, сярод іх: курганы, гарадзішчы, стараж. могільнікі, рэшткі замкаў і ўмацаванняў у выглядзе насыпных валоў, равоў, камянёў з надпісамі і інш. Ахову помнікаў да 1925 і з 1928 ажыццяўляў Наркамат асветы БССР, у 1926—27 — Інбелкульт. У 1926 I Усебел. краязнаўчы з'езд паставіў задачу ўлічыць помнікі археалогіі і выратаваць іх ад разбурэння. Першы спіс помнікаў культуры зацверджаны пастановай СНК БССР ад 5.7.1926. Створаная камісія па ахове помнікаў мела магчымасць арганізоўваць экспедыцыі для выяўлення і даследавання новых помнікаў, на месцах дзейнічалі яе ўпаўнаважаныя. Дзейнасць камісіі была спынена ў 1930-я г. ў сувязі з арыштам некаторых яе членаў (С.М.Некрашэвіч, А.М.Ляўданскі, А.Дз.Каваленя і інш.). Пасля Вял. Айч. вайны ў 1950, 1957 была праведзена перарэгістрацыя і зацверджаны новы спіс помнікаў археалогіі. У адпаведнасці з Законам БССР «Аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры» (ад 14.7.1978) дзярж. кіраўніцтва па ахове помнікаў на тэр. Беларусі ажыццяўлялася Саўмінам, выканкомамі абл., раённых, пасялковых і сельскіх Саветаў нар. дэпутатаў, спецыяльна ўпаўнаважанымі дзярж. органамі аховы помнікаў Мін-ва культуры, К-та па архівах і справаводстве і іх органамі на месцах. Значную дапамогу дзярж. органам аказвала *Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры*, створанае ў 1965, з 1970 выходзіў час. *«Помнікі гісторыі і культуры Беларусі»*. 13.11.1992 Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў новы Закон «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны», які ўключае ў сябе наступныя раздзелы: вызначэнне гісторыка-культ. спадчыны; яе ўлік і ахова; зберажэнне і аднаўленне помнікаў гісторыі і культуры; пытанні, звязаныя з уласнасцю помнікаў гісторыі і культуры; іх выкарыстанне і ўтрыманне; адказнасць за парушэнні заканадаўства аб іх ахове. У дапаўненне да закона былі прыняты Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб навуковых аб'ектах, якія складаюць нацыянальную спадчыну» (7.9.1998) і пастанова СМ «Аб зацвярджэнні Палажэння аб ахове археалагічных аб'ектаў пры правядзенні земляных і будаўнічых работ» (22.5.2002). Паводле заканадаўчых актаў забараняецца знішчаць, пашкоджваць археал. помнікі, выконваць іх змену, перабудову, забудову, знос, а таксама ліквідацыю музейных калекцый і рэчаў, праводзіць самастойныя раскопкі без спец. дазволу (адкрытага ліста). Вінаватыя ў наўмысным разбурэнні і пашкоджанні помнікаў прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці.

*Літ.*: Л е в к о О.Н. Практическая археология. Могилев, 2006; Нарматыўныя дакументы па правядзенню археалагічных даследаванняў. Мінск, б.г.

*В.І.Шадыра, Г.В.Штыхаў.*

**АХО́ЎНАЕ АБАВЯЗА́ЦЕЛЬСТВА**, дакумент, які падпісваюць дзяржаўныя, грамадскія арганізацыі, установы, асобы, што маюць ва ўласнасці або выкарыстоўваюць помнікі гісторыі і культуры для навук., культ.-асветных і інш. мэт, а таксама прадпрыемствы, установы, арганізацыі і грамадзяне, якія карыстаюцца зямлёй з размешчанымі на ёй нерухомымі помнікамі, за выключэннем тых помнікаў, што выкарыстоўваюцца на падставе ахоўна-арэндных і ахоўных дагавораў (пераважна помнікі архітэктуры і гісторыі). А.а. прадугледжвае дзеянні, якія ўладальнік павінен ажыццяўляць для забеспячэння захаванасці помніка, своечасовага яго догляду, умоў выкарыстання і інш. мерапрыемстваў, абумоўленых дзеючым заканадаўствам. Папярэджвае таксама пра адказнасць за парушэнні правіл аховы і выкарыстання помніка, вызначае адказную за іх выкананне асобу. Дакумент захоўваецца ў мясц. дзярж. органах аховы помнікаў, упраўленнях культуры, якія ажыццяўляюць нагляд за іх выкананнем.

*Літ.:* Л е в к о О.Н. Практическая археология. Могилев, 2006. *Дз.С.Бубноўскі.*

**АХО́ЎНЫ ЗНАК** н а п о м н і к а р х е а л о г і і, доўгачасовы знак, які ўстанаўліваюць на мяжы *ахоўнай зоны* археал. помніка як сведчанне пра ахову яго дзяржавай. У Беларусі першы А.з. быў распрацаваны па прапанове М.А.Ткачова (эскіз М.М.Чарняўскага, маст. Н.У.Малчанава), зацверджаны Мін-вам культуры БССР у 1976. Уяўляў сабой дошку ў выглядзе французскага геральдычнага шчыта памерамі 400 × 440 мм, адлітую з сілуміну — сплаву на аснове алюмінію; з надпісам «Міністэрства культуры БССР. Помнік археалогіі...» і ўказаннем тыпу помніка (гарадзішча, селішча, курганны і г.д.) і што ён ахоўваецца дзяржавай. Устаноўка А.з. прадугледжвалася Законам БССР аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры ад 1978, Пастановай з'езда Рэспубліканскага т-ва аховы помнікаў гісторыі і культуры ад 1980 і Пастановай СМ БССР ад 1984; ажыццяўлялася па рашэнні мясц. улад. Усяго ў Беларусі ў 1981—87 было ўстаноўлена каля 1200 А.з. На пач. 1990-х г. частка А.з. была разбурана ці вывезена як каляровы метал. Новы А.з. (эскіз Дз.С.Бубноўскага) зацверджаны ў 1999 К-там па ахове гісторыка-культ. спадчыны Мін-ва культуры Рэспублікі Беларусь, Пастановай Мін-ва культуры Рэспублікі Беларусь у 2006. Уяўляе сабою дошку ў выглядзе нямецкага геральдычнага шчыта памерамі 300 × 420 мм з відарысам герба Рэспублікі Беларусь, надпісам «Рэспубліка Беларусь. Гісторыка-культурная каштоўнасць» і датаваннем гісторыка-культ. каштоўнасці згодна з Дзярж. спісам гісторыка-культ. каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь. Унізе А.з. папярэджанне: «Прычыненне шкоды караецца па закону». Дазваляецца часова ставіць знакі з падручных матэрыялаў. Ставяць А.з. каля помніка з найб. даступнага да агляду боку, павернутага да дарогі альбо сцежкі на мяжы ахоўнай зоны, на адлегласці 15—20 м ад помніка, якая ахоплівае ўсе валы, схілы, равы. Вакол курганоў мяжу праводзяць з улікам прыкурганных раўкоў, для паселішчаў — на адлегласці 15—20 м, дзе культ. пласт ужо не назіраецца. Размяшчэнне А.з. не павінна шкодзіць помніку, таму забаронена ўмацоўваць яго на вяршыні кургана, на грэбені вала гарадзішча, у культ. пласце паселішча і г.д. Пашкоджанне А.з. разглядаецца і караецца, як і пашкоджанне помніка. *У.Ф.Ісаенка, Л.У.Калядзінскі.*

**АХРЭ́МАЎЦЫ**, Б я л ь м о н т ы, археалагічны помнік — курганны могільнік культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў каля в. Ахрэмаўцы Браслаўскага р-на Віцебскай вобл. Вядомы па назве б. маёнтка Бяльмонты. За 0,5 км на Пд ад вёскі, паабапал шашы Браслаў—Шаркаўшчына, у лесе побач з сучаснымі могілкамі. 76 паўсферычных і авальных насыпаў. Даследавалі ў 1893 Ф.В.Пакроўскі 7 насыпаў, у 1938 А.Цэгак-Галубовіч і У.Галубовіч — 2, у 1978 і 1982 Л.У.Дучыц — 5, у 1997 В.Н.Рабцэвіч і А.М.Плавінскі — 5. Пахавальны абрад — трупаспаленне па-за межамі курганоў. Рэшткі крэмацыі змяшчаліся на мацерыку, у мацерыковых ямах, у насыпе. Знойдзены гліняныя ляпны посуд і праслíцы, жал. і бронзавыя спражкі, 5 бронзавых серпападобных скроневых кольцаў, бронзавая падкавападобная фібула, рэшткі жаночага галаўнога венчыка-вайнагі з бронзавых спіральных пранізак і пласціністых абойміц-размеркавальнікаў, шкляныя пацеркі, жал. нож. Могільнік датуецца 9—10 ст. Знаходкі з раскопак 1978, 1982 і 1997 захоўваюцца ў Браслаўскім раённым аб'яднанні музеяў.

*Літ.:* П о к р о в с к и й Ф.В. Курганы на границе современной Литвы и Белоруссии // Тр. IX АС. М., 1895. Т. 1. *Л.У.Дучыц, А.М.Плавінскі, М.А.Плавінскі.*

**АШМЯНЕ́Ц**, язычніцкі культавы комплекс — сакральны валун і курганны могільнік. Знаходзіцца за 0,5 км на ПдУ ад в. Ашмянец Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл., на правым беразе р. Вілія.

С а к р а л ь н ы в а л у н («Вялікі камень») даўж. 3,17 м, шыр. 1,6 м, выш. 1,2 м. Адкрыў К.П.Тышкевіч у 1856. Каля валуна размешчана к у р г а н н а я г р у п а, якая складаецца з больш чым 40 насыпаў, выш. 0,4—1,2 м, дыям. 3—10 м. У 1999 Э.М.Зайкоўскі раскапаў адзін з курганоў: выш. 1,15 м, дыям. 8 м, насып з жоўтага пяску, каменная абкладка адсутнічала. На гарызонце ў розных месцах прасочваліся рэшткі кальцыніраваных касцей і попел з вугаллем, фр-ты керамікі і металічныя рэчы. Пахавана не менш за 9 чал., з іх 2 жанчыны (адсутнічала зброя, акрамя нажоў). У інвентары аднаго з жаночых пахаванняў знойдзены серп, нож, ключ з каляровага металу і акулярападобная падвеска, абломкі вітай шыйнай грыўні, у другім — 2 бранзалеты, 2 пярсцёнкі, пацерка з белай шклопадобнай масы і 2

бразготкі. У астатніх пахаваннях выяўлены нажы, сякеры, наканечнікі дзіды, фр-ты пасудзін, меч, 3 шпоры, 2 жал. брытвы з плаўнымі дугападобнымі лёзамі і ручкамі ў выглядзе пятлі, 6 жал. крэсіваў, каменныя брускі, акоўка, абломкі замка, кольцы, спражкі, бляшкі, бразготкі, пярсцёнкі, бранзалеты. Комплекс датуецца 13 ст.

*Літ.*: З а й к о ў с к і Э.М. Даследаванне культавага комплекса Ашмянец // ГАЗ. Мінск, 2002. № 17; П л а в і н с к і М., З а й к о ў с к і Э. Меч з курганнага могільніка Ашмянец у кантэксце сінхронных матэрыялаў // Там жа. Мінск, 2006. Вып. 22. *Э.М.Зайкоўскі.*

**АШМЯ́НЫ**, горад, цэнтр Ашмянскага р-на Гродзенскай вобл. Упершыню ўпамінаецца пад 1341 у «Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай». У часы ВКЛ А. выраслі з гаспадарскага двара ў невял. дзярж. горад. Самакіраванне атрымалі ў 1792. У 1984—85 А.К.Краўцэвіч выявіў сляды сярэдневяковага паселішча на правым беразе р. Ашмянка ў Старых Ашмянах (цяпер вул. Кастрычніцкая, каля б. касцёла францысканцаў). Культ. пласт (0,6—1,2 м) моцна парушаны пахаваннямі пры касцёле. Знойдзены матэрыялы 14 ст.: наканечнік стралы і некалькі фр-таў керамікі. Раскапаны падмуркі кляштара, які на паверхні зямлі не захаваўся. У цэнтры горада культ. пласт да 1,5 м і складаецца з 2 гарызонтаў: у верхнім (таўшч. 0,3—1 м) знаходкі 17—19 ст., у ніжнім (зафіксаваны толькі каля плошчы б. рынку) — рэчы 15—17 ст. Сабраная калекцыя матэрыялаў характэрна для бел. горада 16—18 ст. У вял. колькасці прадстаўлены керамічны посуд: непаліваны (гаршкі, макотры, міскі, накрыўкі), паліваны зялёнага і карычневага колеру (гаршкі, талеркі, кубкі, рынкі, накрыўкі, міскі), мораны (гаршкі, талеркі, збаны, міскі). Для Ашмяншчыны характэрны тып гаршка з закругленым патоўшчаным краем без венчыка. Кафля гаршковая з круглым і прамавугольным вусцем і каробчатая — тэракотавая і зялёнапаліваная, упрыгожаная раслінным, радзей геам. ці геральдычным арнаментам, а таксама зялёнапаліваная кафля-каронка 16 ст. Сярод знаходак шкляныя вырабы (кварты, бутэлькі, шкляніцы, чаркі, аконныя шыбы 17—19 ст.), вырабы з металу (падковы 15—16 ст., ключы, шпора 17—18 ст.).

Верагодна, першапачатковае невял. паселішча ў Старых Ашмянах узнікла ў пач. — 1-й пал. 14 ст. на вузкай рачной тэрасе. Падчас агульнаеўрап. эканамічнага і дэмаграфічнага ўздыму паселішча ў к. 15—16 ст. разрасталася ўжо на левым

*Пахавальны інвентар з курганнага могільніка **Ашмянец**.*





*Меч 13 ст. з разбуранага пахавання курганнага могільніка **Ашмянец**.*

беразе р. Ашмянка, у месцы, больш зручным для камунікацыі. Тут сфарміравалася планіроўка, тыповая для мястэчка ці невял. горада: у цэнтры рынaчная плошча, да якой сыходзяцца вуліцы-дарогі. Гэта планіроўка ў агульных рысах захавалася да нашых дзён. *А.К.Краўцэвіч.*

**АЭРАФОТАГРАФІ́ЧНЫ МЕ́ТАД**, метад выяўлення археалагічных помнікаў і аб'ектаў, скрытых у падглебе, пры дапамозе фатаграфавання мясцовасці з любой вышыні. Практыка аэрафотаразведкі базіруецца на наступных зыходных дадзеных: на цяні мікрарэльефу мясцовасці пры косым асвятленні; на адрозненнях у складзе глебы; на адрозненнях у складзе раслліннасці. Пры дапамозе аэрафотаздымкі магчыма выяўленне разбураных валоў і равоў, курганоў і грунтавых пахаванняў, пабудоў, гасп. збудаванняў, б. дарог, палёў і інш. аб'ектаў чалавечай дзейнасці. У Беларусі аэрафотаздымку гарадзішча Маскавічы (Маскаўцы) Браслаўскага р-на Віцебскай вобл. прымяніла ў к. 1970-х г. Л.У.Дучыц. Дэшыфроўка здымка выявіла шчыльную забудову паселішча з элементамі кучавой і вулічнай планіроўкі.

*Літ.*: М а р т ы н о в А.И., Ш е р Я.А. Методы археологического исследования. М., 1989; Д у ч ы ц Л.У. Браслаўскае Паазер'е ў 9—14 стст. Мінск, 1991.

*А.А.Егарэйчанка.*





*Кераміка **бабінавіцкага тыпу помнікаў**: першая група (1—6), другая (7—11), трэцяя (12—17). Элементы арнаменту: грабеньчаты (1—2, 5—6, 8—9, 12—13), тычкі (3, 7, 16), ямачны і грабеньчаты штампы (4, 10), наколы (11, 17), адбіткі вяровачкі (14) і «вусеневыя» (15).*

**БАБІ́НАВІЦКАГА ТЫПУ ПО́МНІКІ**, гістарычная агульнасць археалагічных помнікаў ранняга і развітога неаліту на У Бел. Падзвіння і ў прылеглых раёнах Верхняга Падняпроўя. Вылучаны Э.М.Зайкоўскім, даследаваліся В.П.Траццяковым, І.М.Ціханенкам. Паселішчы знаходзіліся на берагах рэк і азёр, у т.л. на карэнных берагах выш. 10 м і больш над сучасным межанным узроўнем вады, што звязана з трансгрэсіяй прыродных вадаёмаў у атлантычным альбо суббарэальным перыядзе. Насельніцтва займалася паляваннем, рыбалоўствам, збіральніцтвам. Большасць крамянёвых прылад працы зроблена на пласцінах і пласцiністых адшчэпах: канцавыя скрабкі, вуглавыя разцы, трапецыі і сячэнні пласцін, сегменты, грубаабабітыя сякеры. Наканечнікі стрэл падзяляюцца на 4 тыпы: тронкавыя бабінавіцкага тыпу, лістападобныя, з бакавымі выемкамі, рамбічныя. Кераміка па складу гліны, арнаментацыі і стратыграфічных умовах залягання падраздзяляецца на 3 храналагічныя групы. Найб. ранняя кераміка з дамешкам пяску ці кварцу ў гліне мае падгарызантальныя расчосы з унутранага боку. Таўшч. сценак 0,7—1 см. Венчыкі звычайна злёгку адагнутыя звонку, але трапляюцца і прамыя. 55—61% фр-таў керамікі неарнаментаваны, 25—37% з грабеньчатым арнаментам, 7—13% спалучаюць адбіткі грабеньчатага штампа з ямкамі і наколамі. Шмат абломкаў з накольчатым і грабеньчатым узорамі, зрэдку трапляецца арнамент у выглядзе пракрэсленых ліній. Больш за ўсё кераміка гэтага тыпу падобная да керамікі верхняволжскай культуры (5—4-е тыс. да н.э.) і менш да керамікі *днепра-данецкай культуры* і ранняга этапу *нарвенскай культуры.* Другую групу складае кераміка з арганічным дамешкам у гліне і расчосамі з унутранага боку. Пасудзіны мелі патоўшчаныя закругленыя донцы. Значная частка фр-таў без арнаментаў, сярод арнаментаваных пераважалі адбіткі грабеньчатага штампа, спалучэнне грэбеня з ямкамі і наколамі, наколы, ямкі. У арнаменце гаршкоў паявіліся насечкі, што збліжае іх з керамікай нарвенскай культуры. Да 3-й групы адносіцца гладкасценная кераміка з арганічным дамешкам у гліне, менш шчыльная, чым у папярэдняй групе. Таўшч. сценак пасудзін

0,4—0,9 см. Венчыкі найчасцей прамыя ці злёгку адагнутыя звонку, часам на зрэзы іх нанесены арнамент. З прыёмаў арнаментацыі па-ранейшаму пераважалі грабеньчатыя, а таксама спалучэнні грэбеня з інш. элементамі, паяўляюцца «вусеневыя» адбіткі і сляды тонкай, слаба перавітай вяровачкі, пашыраюцца насечкі. У гэтай групе яшчэ больш узмацняюцца рысы, характэрныя для нарвенскай культуры. Па аналогіі з верхняволжскай культурай помнікі тыпу Бабінавічаў датуюцца сяр. 5—4-га — к. 3-га тыс. да н.э. Да Б.т.п. належаць археал. помнікі *Бабінавічы*, *Мяжа*, *Старыя Лаўкі*, *Зарэчча*.

*Літ.*: З а й к о в с к и й Э.М. Этапы развития неолита Северной Белоруссии // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988. *Э.М.Зайкоўскі.*

**БАБІ́НАВІЧЫ**, археалагічныя помнікі — паселішчы эпохі неаліту каля в. Бабінавічы Лёзненскага р-на Віцебскай вобл.

П а с е л і ш ч а - 1 на мысе, утвораным паўн. берагам воз. Бабінавіцкае і правым берагам р. Вярхіта, каля вытоку яе з возера. Выявіў у 1926 Я.Сяргеенка, даследавалі ў 1967—68 І.М.Ціханенкаў, у 1978 Э.М.Зайкоўскі. Раскапана пл. 164 м$^2$. Культ. пласт 0,6—0,8 м. Знойдзены крамянёвыя скрабкі, скрэблы, скоблі, разцы, ромба- і




*Крамянёвы інвентар бабінавіцкага тыпу помнікаў: наканечнікі стрэл (1, 3—5, 7—9, 19, 23, 30), скрабкі (6, 11—15, 22, 25, 27—29, 31, 33, 36), разцы (10, 16—17, 21, 24, 35), нож (18), трапецыя (20), скобля (26), скрэбла (32), сякера (34).*

лістападобныя наканечнікі стрэл, сякеры. Найб. ранняя кераміка мела ў гліне дамешкі жарствы і пяску, на ўнутранай паверхні — расчосы, сярод арнаментаў пераважалі адбіткі грабеньчатага штампа, ямкі, наколы. У найб. позняй кераміцы пераважаў грабеньчаты арнамент у спалучэнні з інш. элементамі, паявіліся «вусеневыя» адбіткі і ўзоры з насечак. Кераміка ранняга этапу блізкая да посуду *верхняволжскай культуры*, пазней узмацняецца ўплыў *нарвенскай культуры*. Датуецца 4—3-м тыс. да н.э.

П а с е л і ш ч а - 2 на правым беразе р. Лучоса, вышэй моста. Выявіў у 1967, даследаваў у 1967—68 І.М.Ціханенкаў, ускрыта пл. 250 $м^2$. Культ. пласт 0,2—0,5 м. Знойдзены крамянёвыя скрабкі (закругленыя, канцавыя, бакавыя на пласцiністых адшчэпах і асколках), скобля, трапецападобныя прылады для сячэння, нажападобныя пласціны, нажы, вуглавыя разцы, ромбападобны наканечнік стралы, наканечнік кап'я, абломкі керамікі. На раннім этапе мае рысы, блізкія да верхняволжскай культуры, пазней узмацняецца ўплыў нарвенскай культуры. Гл. *Бабінавіцкага тыпу помнікі*. Датуецца 4—3-м тыс. да н.э.

*Літ.*: Гл. да арт. *Бабінавіцкага тыпу помнікі*.

*Э.М.Зайкоўскі.*

**БАБРО́ВІЧЫ**, археалагічныя помнікі — стаянкі каля в. Бабровічы Івацэвіцкага р-на Брэсцкай вобл.

С т а я н к а - 1 на паўн.-ўсх. беразе воз. Бабінавіцкае, ва ўр. Востраў, на марэнным узвышшы, даўж. каля 200 м. Выявіў у 1963 У.Ф.Ісаенка. Абследавала ў 1989 Н.В.Шаблюк. Зафіксаваны рэшткі 6 вогнішчаў, абкладзеных камянямі. Сабрана звыш 100 крамянёвых прылад працы і каля 600 апрацаваных крэменяў. Знойдзены крамянёвыя лістападобныя наканечнікі стрэл, праколкі, пракруткі, разцы, канцавыя скрабкі, скоблі свідэрскай культуры. Сустракаюцца грубыя разцы і скрабкі, рубячыя прылады, міндалепадобныя сякеры, вастрыі яніславіцкай культуры. Датуецца 10—6-м тыс. да н.э., адносіцца да фінальнага палеаліту і мезаліту.

С т а я н к а - 2 на паўн.-зах. беразе возера, ва ўрочышчах Вяда і Тупічыцы, на пясчаных раздувах. Выявіў у 1963 і абследаваў у 1971 У.Ф.Ісаенка. Даследавала ў 1989 Н.В.Шаблюк. У 2001—02 абследавалі В.С.Абухоўскі, А.Г.Калечыц, В.Л. Лакіза, Э.А.Ляшкевіч. Культ. пласт развеяны. На паверхні знойдзены крамянёвыя канічныя і двухпляцовачныя нуклеусы свідэрскага тыпу, канцавыя скрабкі з высокіх пласцін, вуглавыя і сярэдзінныя разцы, скоблі, чаранковыя наканечнікі стрэл, ляпная кераміка бронзавага і жал. вякоў, матэрыялы ранняга і позняга сярэдневякоўя.

С т а я н к а - 3 на паўд.-ўсх. беразе возера, на зах. ускраіне дзюны. Большая частка помніка знішчана возерам, аб чым сведчыць вял. колькасць знаходак у вадзе. Даследавалі ў 2001 В.С.Абухоўскі і В.Л.Лакіза. Культ. пласт магутнасцю 0,25—0,3 м. Знойдзены крамянёвыя вырабы, сярод якіх канцавы скрабок на пласцiністым адшчэпе, разцы двухгранны і на зломе пласцінкі,




*Крамянёвыя наканечнікі стрэл (1—5), вастрыі (6, 18, 27), разцы (7—17), нажы (19—21, 24), адціскальнік (22), скрабкі (23, 25—26, 28—29), сякеры (30—31), са стаянкі-1* ***Бабровічы.***

праколка на пласціне, яніслаўвіцкае вастрыё, фр-ты ляпной і ганчарнай керамікі. Адносіцца да мезаліту (яніслаўвіцкая культура), неаліту (нёманская культура), жал. веку, эпохі сярэдневякоўя (12—13 ст.) і новага часу (17—18 ст.).

С т а я н к а - 4 на паўд.-ўсх. беразе возера, на ўсх. ускраіне дзюны. Даследавалі ў 2001 В.С.Абухоўскі і В.Л.Лакіза. Культ. пласт пераважна развеяны, месцамі захаваліся рэшткі напластаванняў да 0,1 м. Знойдзена невял. колькасць артэфактаў, якія ў большасці датуюцца познім мезалітам (яніслаўвіцкая культура).

С т а я н к а - 5 на паўд.-ўсх. беразе возера, за 60 м на У ад стаянкі-4, на амаль круглай у плане дзюне, якая ўзвышаецца над узроўнем вады да 2,5 м. Даследавалі ў 2001 В.С.Абухоўскі і В.Л.Лакіза. Культ. пласт каля 0,2 м. Знойдзены адзінкавыя крамянёвыя знаходкі, якія датуюцца мезалітам.

С т а я н к а - 6 на паўд. беразе воз. Бабровіцкае, за 0,75 км на Пн ад вёскі на падоўжанай дзюне, якая цягнецца ад вясковых могілак у паўн.-ўсх. кірунку ад вёскі да возера. Даследавалі ў 2001 В.С.Абухоўскі, у 2003—04 Э.А.Ляшкевіч. Культ. пласт 0,4—0,8 м. Выяўлены крамянёвы інвентар каменнага веку, ганчарная кераміка 12—13 ст. і к. 14 — пач. 17 ст., косці рыб і жывёл. Знойдзена звыш 2 тыс. крамянёвых артэфактаў каменнага і бронзавага вякоў: трохкутныя наканечнікі стрэл, укладышы, скрабкі на адшчэпах і пласцінах, разцы на пласцінах, серпападобныя нажы, праколкі, мноства нажападобных пласцін і інш. Выяўлены дробныя ф-ты керамікі ранняга неаліту (прыпяцка-нёманская культура), бронзавага (палескі варыянт культуры шнуравой керамікі) і жал. вякоў; сярэдневяковыя знаходкі — шкляная пацерка 11—12 ст., фр-т аконнага і посуднага шкла 17—18 ст., рыбалоўнае грузіла, фр-т ганчарнай керамікі 11—17 ст., шлакі.

С т а я н к а - 7 за 0,75 км на Пн ад вёскі, 0,1 км на ПдЗ ад стаянкі-6. Помнікі раздзяляюць вясковыя могілкі. Даследаваў В.С.Абухоўскі. Знойдзены адзінкавыя крамянёвыя артэфакты, вял. колькасць керамікі і парцэляна 2-й пал. 19 — 1-й пал. 20 ст.

С т а я н к а - 8 на літаралі возера, на месцы вясковага пляжа. У 2002 абследавала Э.А.Ляшкевіч. Сабрана больш за 200 крамянёвых артэфактаў каменнага і бронзавага вякоў, костак хатніх жывёл, ганчарнай керамікі к. 16 — пач. 17 ст.

С т а я н к а - 9 на паўд. краі возера, у левы бок ад вясковага пляжа, на адлегласці 45 м ад берага, пад вадой. У 2002 выявіла Э.А.Ляшкевіч. У тым жа годзе даследавалі В.С.Абухоўскі, А.Г.Калечыц, В.Л.Лакіза, Э.А.Ляшкевіч. Датуецца мезалітам (яніслаўвіцкая культура).

*Літ.*: И с а е н к о В.Ф. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976; Этапы засялення Бабровіцкага мікрарэгіёна ў фінальным палеаліце — бронзавым веку // ГАЗ. Мінск, 2003. № 18. *В.Л.Лакіза, Э.А.Ляшкевіч.*

**БАБРУЙСКАЯ КРЭПАСЦЬ**, помнік абарончага дойлідства 1-й пал. 19 ст., комплекс земляных і мураваных збудаванняў у г. Бабруйск Магілёўскай вобл. Узведзена на правым беразе р. Бярэзіна, за 1,5—2 км на Пн ад сутокаў яе з р. Бабруйка, на месцы стараж. замка. Будаўніцтва вялося паводле праекта генерал-інжынера К.І.Опермана (першапачатковы варыянт плана будаўніцтва склаў Т.Нарбут) у 2 этапы: 1807—12 (ва ўмовах набліжэння вайны 1812), 1812—36.

Крэпасць складалася з 7 палігонаў, 8 асн. бастыёнаў, умацавання «Фрыдрых Вільгельм» (1822), вежы Опермана і ўнутраных збудаванняў, вакол якіх былі насыпаны валы і выкапаны глыбокія равы. Бастыёны ў плане сегментнай формы, з 2 ярусамі байніц, рытмічна размешчаных на гал. (скругленым) фасадзе. Дахі бастыёнаў засцерагаліся магутнымі цаглянымі парапетамі. Паводле плана 1818 (архіт. А.Штаўберт) унутраная планіроўка комплексу вызначалася сеткай узаемна перпендыкулярных вуліц, забудаваных 2—3-павярховымі цаглянымі дамамі. На скрыжаванні гал. вуліц была створана Саборная пл. з домам каменданта (1818), будынкамі шпіталя (1822) і штаба (1824), саборам св. Аляксандра Неўскага (1827, у 1931 узарваны; чарцяжы фасадаў, разрэзаў і планаў праекта сабора захоўваюцца ў Нац. гіст. архіве Беларусі). У зах. частцы крэпасці размяшчаліся казармы, ва ўсх. — склады, артылерыйскі і інжынерны паркі. У 1830-я г. на вонкавым рове ўзведзены капаніры для флангавага артылерыйскага і ружэйнага агню. Уезд у крэпасць быў праз Мінскую, Слуцкую і Вадзяную брамы.

У вайну 1812 Б.к. вытрымала 4-месячную аблогу напалеонаўскіх войск. Пасля задушэння паўстання дзекабрыстаў пераўтворана ў катаржную турму. Пасля паражэння паўстання 1863—64 тут было зняволена каля 2 тыс. яго ўдзельнікаў. У 1868 Б.к. пераведзена з 1-га класа абараназдольнасці ў 2-і. З 1886 выкарыстоўвалася як склад, у 1897 ліквідавана як стратэгічная адзінка і з гэтага часу пачала разбурацца. У час акупацыі Бабруйска польскімі войскамі (жнівень 1919 — ліпень 1920) на тэр. крэпасці знаходзіўся лагер ваеннапалонных. У Вял. Айч. вайну нямецкія фашысты зрабілі ў ёй лагер смерці для масавага знішчэння савецкіх ваеннапалонных і мірнага насельніцтва. У чэрвені 1944 савецкія войскі акружылі і знішчылі тут варожы гарнізон.

У 2008 у сувязі з будаўніцтвам насупраць рэштак Б.к. лядовага палаца пачалося аднаўленне земляных умацаванняў, рэстаўрацыя фартыфікацыйных збудаванняў, расчыстка падмуркаў сабора св. Аляксандра Неўскага.

На тэр. крэпасці праводзіла археал. даследаванні А.У.Ільюцік. Знойдзены фр-ты ганчарнай непаліванай і паліванай керамікі 16—20 ст., фарфоравы і фаянсавы посуд 20 ст., донца бутэлькі з белай гліны (рэйнскі каменны тавар 16—18 ст.); буд. кераміка: чырвоная цэгла 19 ст., фабрычная тэракотавая і пакрытая эмаллю кафля 19—20 ст., хвалістая чарапіца; аконнае шкло авальнай формы з загнутым краем таўшч. 1—2 мм не пазней 17 ст.); бутэлькі з тоўстага зялёнага шкла з увагну-

тым донцам 18—19 ст.; рэчы з металу: герб Расійскай імперыі — двухгаловы арол, манета 1850-х г., падкова, каваныя цвікі, буд. скобы.

Раскапаны падмуркі царквы з рэшткамі цаглянай кладкі. Падмуркі лесвіц маюць даўж. 10 м і шыр. 35—38 см, сцены царквы — даўж. 0,9—1,2 м і глыб. да 0,8 м. Знойдзены: чырвоная цэгла памерамі 26×13×7 см, у т.л. з кляймом «РОЗЕНБЕРГЪ»; фр-ты ганчарнай непаліванай керамікі 17—19 ст. (некаторыя венчыкі датуюцца к. 16 ст.); 2 гліняныя люлькі 18 ст., якія можна аднесці да турэцкага імпарту, хаця не выключана іх мясц. паходжанне; фабрычная тэракотавая кафля з гладкай і арнаментаванай паверхняй (19 ст.); пакрытая эмаллю кафля і кавалкі фаянсавага і фарфоравага начыння 20 ст.

*Літ.*: К в и т н и ц к а я Е.Д. Планировка Бобруйской крепости // Архитектурное наследство. 1976. № 25. *А.У.Ільюцік.*

**БАГАМО́ЛЬНІКАЎ** Уладзімір Уладзіміравіч (23.4.1941, г. Гомель — 6.9.1992), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1989). Скончыў Гомельскі ун-т (1974), з 1977 выкладаў у ім. Вывучаў гісторыю ўсх.-слав. летапісных плямён на тэр. Беларусі, даследаваў граніцы рассялення *радзімічаў* і іх суседзяў. Распрацаваў тыпалагічную класіфікацыю пахавальнага абрада і храналогію радзіміцкіх старажытнасцей, выявіў асаблівасці касцюма радзімічаў. Даследаваў курганныя могільнікі *Дзяніскавічы*, *Курганне*, *Нісімкавічы*, *Хізава*, *Чачэрск* і інш.

*Тв.*: Пахавальны абрад радзімічаў // ВАНБ. 1977. № 1; Радзіміцкія скроневыя кольцы // ПГКБ. 1977. № 4; Причины изменения погребального обряда радимичей // Древности Белоруссии и Литвы. Минск, 1982; Археологические памятники Гомельщины. Минск, 1988 (разам з А.А.Макушнікавым); Радимичи (по материалам курганов X—XII вв.). Гомель, 2004.

*Г.В.Штыхаў.*

**БАГРЫ́НАВА**, археалагічныя помнікі — гарадзішча, замчышча і курганны могільнік каля в. Багрынава Талачынскага р-на Віцебскай вобл. Абследавалі ў 1893 Е.Р.Раманаў, у 1930 А.Дз.Каваленя, у 1955 Л.В.Аляксееў, у 1967 і 1969 З.М. Сяргеева, у 1972 А.Р.Мітрафанаў, у 1981 і 1988 В.М.Ляўко, у 1990 В.М.Ляўко даследавала гарадзішча і замчышча.




***Сярэбраныя драцяныя скроневыя кольцы (1), жалезная сякера (2), білонавая падковападобная фібула (3), віты сярэбраны бранзалет (4) з курганнага могільніка Багрынава.***

Г а р а д з і ш ч а за 0,5 км на Пн ад вёскі. Часткова знішчана кар'ерам. Памеры часткі, што захавалася, 20 × 8 м. Культ. пласт 0,5—0,7 м. Знойдзены фр-ты ляпной і ганчарнай керамікі. У раскопе пл. 52 м$^2$ прасочана канструкцыя валоў, якія моцна аплылі і па краях пляцоўкі амаль непрыкметныя. У профілі валоў прасочваюцца ў выглядзе кратаў драўляныя канструкцыі з 3 ярусаў абпаленых бярвён дыям. 10—12 см. Праслойкі з бярвёнамі размешчаны на глыб. да 0,5 м адна пад адной. Ніжняя праслойка знаходзіцца на адлегласці 1,8 м ад дзённай паверхні. Ляпная кераміка і збудаванне вала адносяцца да 6—8 ст. Ганчарная кераміка датуецца 16—17 ст.

З а м ч ы ш ч а на У ад гарадзішча, на высокім мысе. З Пн і У да яго прымыкае кар'ер, з Пд і З абмежавана ярамі са стромкімі схіламі. На ўсх. схіле тэраса шыр. 4 м і роў глыб. да 5 м, шыр. 5—7 м. З боку р. Іржэўка мыс выш. 15—18 м. Пляцоўка памерамі 40 × 23 м з паўн. боку сапсавана вял. ямай. У 2 раскопах агульнай пл. 40 м$^2$ культ. пласт (1,2—1,5 м) складаецца з верхняга і ніжняга гарызонтаў. Знойдзены: ганчарная кераміка 14—17 ст., кафля 17 ст., цэгла-пальчатка, абпаленыя камяні. Рэшткі пабудоў з дрэва і цэглы прасочаны ў шурфе па-за межамі замчышча, тут выяўлены цэгла-пальчатка і гзымсавая кафля з выявою арла. Як паказваюць матэрыялы, на месцы гарадзішча жал. веку ў сярэдневякоўі ўзнікла сядзіба.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к крывічоў абапал дарогі на в. Варанцэвічы. 6 насыпаў (раней было 12) выш. 1,5—2 м, дыям. 10—12 м. У 1967 З.М.Сяргеева раскапала 4 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце. Знойдзены бранзалетападобныя скроневыя кольцы з пазалочанымі шклянымі і сердалікавымі прызматычнымі пацеркамі. У 1969 яна даследавала яшчэ 2 насыпы. У адным былі мужчынскае і жаночае пахаванні галавою на З, знойдзены 6 скроневых кольцаў з сярэбранага дроту, 4 арабскія дырхемы дынастыі Саманідаў з адтулінамі для падвешвання, пацеркі, бронзавы пласціністы пярсцёнак, жал. нож, віты сярэбраны бранзалет з завязанымі канцамі, жал. абруч і дужка ад драўлянага вядра, білонавая падкападобная фібула, баявая сякера, невял. бронзавы пласціністы бранзалет з канцамі ў выглядзе звярыных галовак, 2 пасудзіны. У другім кургане былі 3 пахаванні ў насыпе, на мацерыку, на пясчанай падсыпцы. Датуецца 11 ст.

*Літ.*: А л е к с е е в Л.В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины: (материалы к археол. карте Витебской обл. БССР) // Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959; С е р г е е в а З.М. Курганы у дер. Багриново вблизи древнерусского Друцка (БССР) // КСИА. 1969. Вып. 120; Я е ж. Раскопки курганов в Толочинском рай-

оне (БССР) // Там жа. 1972. Вып. 129; Л е в к о О.Н. Средневековая Орша и ее округа. Орша, 1993.

*В.М.Ляўко.*

**БАЖНІ́ЦА**, культавая пабудова. Значэнне тэрміна «Б.» ў розныя часы мянялася. У перыяд Кіеўскай Русі Б. называлі царкву або капліцу, а таксама паліцу з абразамі ў хаце. У старабел. і польскай мовах слова «Б.» мела значэнні: храм наогул, язычніцкая ці іудаісцкая культавая пабудова (апошняе значэнне пазней стала пераважаць у польскай мове). Верагодна, у часы ўвядзення хрысціянства Б. называлі язычніцкія храмы закрытага тыпу (будынкі) у адрозненне ад капішчаў і трэбішчаў (гл. *Ахвярнік*), размешчаных пад адкрытым небам. Такія пабудовы з дрэва зафіксаваны нямецкімі аўтарамі ранняга сярэдневякоўя ў палабскіх і паморскіх славян.

На тэр. Беларусі частковае ўяўленне пра язычніцкія Б. дае вусная нар. творчасць. В.Ю. Ластоўскі прыводзіць звесткі пра гарадзішча на востраве воз. Богінскае ў Браслаўскім р-не, дзе яшчэ ў 19 ст. «трымаўся высокі капец, у сярэдзіне якога была старой веры бажніца з адзіным аконцам, праз якое прамень сонца ў сярэдзіну падаў толькі роўна ў поўдзень». Пазней гэта Б. была разбурана. На гэтым жа востраве знойдзены каменны ідал. Паводле нар. падання, некалькі язычніцкіх Б. знаходзіліся ў в. Лоск Валожынскага р-на. Археал. даследаванні язычніцкіх Б. у Беларусі пакуль не праводзіліся.

*Літ.*: Р ы б а к о в Б.А. Язычество древних славян. М., 1981.

*Э.М.Зайкоўскі.*

**БАЙНІ́ЦА**, адтуліна ў сцяне абарончага збудавання (закрытая Б.) або прасвет паміж зубцамі ў завяршэнні замкавых сцен, вежаў і інш. (адкрытая Б.) для вядзення стральбы са стралковай зброі. Абодва віды з'явіліся ў антычны час, атрымала далейшае развіццё ў сярэдневякоўі, калі пачалося будаўніцтва замкаў, гар. умацаванняў, з 14—15 ст. і ў палявых абарончых збудаваннях. У Беларусі вядомы ў драўляных абарончых збудаваннях стараж. часоў, у мураваных вежах з 13 ст. (Камянецкая вежа); прызначаліся для вядзення стральбы з лукаў і арбалетаў, мелі прамавугольную, трапецападобную, паўцыркульную форму. Значна пашырыліся ў 14 ст. (Лідскі, Крэўскі замкі). У 15—16 ст. Б. набывалі акруглую форму, бо стала шырока ўжывацца ручная агнястрэльная зброя (ручніцы, аркебузы, мушкеты) і лёгкія гарматы (гакаўніцы), у 17 ст. — форму фігуры, утворанай з круга і прамавугольніка, пастаўленага на яго карацейшым бокам (замак у г.п. Любча Навагрудскага р-на, касцёл у в. Камаі Пастаўскага р-на, кляштар брыгітак у Гродне). На валах земляных умацаванняў 16—17 ст. траплялiся адкрытыя Б. — прасветы паміж лазовых кашоў, запоўненых зямлёй. Б., прызначаныя для вядзення агню з гармат, наз. амбразурамі, для кідання камянёў — машыкулямі.

*Літ.*: Б а г л а с о в С.Г., Т р у с о в О.А. Историко-архитектурные исследования и реставрации Лидского замка // Вопросы архитектуры Литовской ССР. 1981. Т. 7; Археалогія Беларусі. Т. 4. Мінск, 2001.

*А.А.Трусаў.*

**БА́КАЎ**, археалагічныя помнікі — стаянкі і селішча каля в. Бакаў Чэрыкаўскага р-на Магілёўскай вобл.

С т а я н к а - 1 каменнага і бронзавага вякоў на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Сож, за 0,5 км на ПнУ ад вёскі. Адкрыў у 1928 К.М.Палікарповіч, у 1972 абследаваў В.Ф.Капыцін, у 2000 і 2008 — А.У.Коласаў. Знойдзены адна- і двухпляцовачныя нуклеусы, адшчэпы, пласціны, канцавыя скрабкі, рэтушаваныя разцы, адшчэпы з рэтушшу, фр-ты ляпной керамікі, упрыгожанай наразнымі лініямі ў выглядзе «елачкі» і заштрыхаваных трохвугольнікаў.

С т а я н к а - 2 эпохі неаліту і с е л і ш ч а 2—5 ст. на пясчаным узвышшы, на поплаве правага берага р. Сож, за 1,4 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўр. Пясчаная Грыва. Выш. помніка над поплавам 1—2,2 м. Адкрыў у 1928 К.М.Палікарповіч, у 2005 абследавалі А.У.Коласаў і А.В.Пяскоўскі, у 2008 А.У.Коласаў даследаваў 20 м$^2$. Культ. пласт 0,1—0,35 м. Знойдзена 537 крэменяў, 30 з іх маюць другасную апрацоўку. Сярод знаходак — нуклеусы адна- і двухпляцовачныя, дыскападобнай формы, адшчэпы і пласціны, асобныя з якіх маюць рэтуш на краі. Прылады працы прадстаўлены канцавымі скрабкамі, рэтушаванымі, на зломе загатоўкі і двухгранным разцамі, скрэбламі, вырабамі з выемкай, нажамі на адшчэпах, сякерамі і цяслом, апрацаванымі з абодвух бакоў, ліс-



***Байніца** Камянецкай вежы.*

тападобнай нарыхтоўкай наканечніка стралы, «лыжачнікам»; маецца адзіны фр-т ляпнога посуду, упрыгожанага выцягнутымі наколамі, якія ўтвараюць паясы з вертыкальных і «елачных» кампазіцый. Знаходкі 36 фр-таў грубаляпной керамікі сведчаць, што на месцы стаянкі існавала селішча жал. веку.

С т а я н к а - 3 каменнага веку на пясчаным узвышшы 1-й надпоймавай тэрасы правага берага р. Сож, за 0,2 км на ПнУ ад вёскі, 0,1—0,15 км на З ад стаянкі-1. Адкрыў і абследаваў у 2000 А.У.Коласаў. Знойдзены кавалкі крэменю, адnапляцовачны нуклеус, нешматлікія адшчэпы і пласціны, выраб з выемкай, разец і скобля.

С т а я н к а - 4 на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Сож, за 1,6 км на ПдЗ ад вёскі, 0,4 км на ПдУ ад б. пас. Рамідоўшчына. Адкрылі і абследавалі ў 2006 А.У.Коласаў і А.В.Пяскоўскі. Знойдзены расшчэплены крэмень, канцавы скрабок, вырабы з рэтушшу, рэтушаваны разец і рэтушор.

С т а я н к а - 5 каменнага веку на пясчаным узвышшы левага берага р. Сож, за 1,1 км на ПдУ ад вёскі, на паўд. беразе старыцы Невадное. Ад-



*Загатоўка наканечніка стралы ці ўкладыш (1), скрабкі (2—6), скрэблападобны выраб (7), разцы (8—13), фрагмент ляпной керамікі эпохі неаліту (14), сякучыя прылады (15—16) з паселішча* ***Бакаў.***

крылі і абследавалі ў 2008 А.У.Коласаў і А.В.Пяскоўскі. Знойдзены кавалкі крэменю, нуклеус, адшчэпы і мелкія лускавінкі.

*Літ.*: Поликарпович К.М. Стоянки среднего Посожья // МАБ. 1957. Т.1; Копытин В.Ф. Исследование памятников эпохи мезолита в Могилевской области // АО 1972. М., 1973; Его ж. Археологические памятники Чериковского района Могилевской области. Могилев, 1994; Калечиц Е.Г. Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии. Минск, 1987. *А.У.Коласаў.*

**БАКІ́НІЧЫ**, археалагічны помнік — стаянка эпохі неаліту каля в. Бакінічы Пінскага р-на Брэсцкай вобл. За 0,5 км на ПдУ ад вёскі, на пясчаным узгорку правага берага р. Бобрык. Даўж. пляцоўкі каля 150 м. Выявіў у 1964 і даследаваў у 1965—67, 1987—88 У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт 0,3 м. Знойдзены ранненеалітычныя (5—4-е тыс. да н.э.) сякерападобныя, пласціністыя прылады працы з крэменю, абломкі 10—12 гаршкоў з дамешкамі ў гліне раслін, жарствы, тоўчаных ракавін і позданеалітычныя (3-е тыс. да н.э.) знаходкі, характэрныя для *нёманскай культуры*.

*Літ.*: Исаенко В.Ф. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976. *У.Ф.Ісаенка.*

**БАЛА́ШАЎКА**, археалагічны помнік — гарадзішча *мілаградскай культуры* каля вёсак Балашаўка і Гарадок Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл. За 0,5 км на ПдУ ад в. Балашаўка і за 0,4 км на У ад в. Гарадок у забалочаным поплаве вярхоўяў р. Днепрык. Помнік выяўлены і абследаваны ў 1954 В.М.Мельнікоўскай. Паўторна абследаваўся ў 1976 Г.В.Штыхавым і ў 1982 М.І.Лашанковым. Звесткі аб гарадзішчы прыводзяцца Г.В.Штыхавым са спасылкай на больш раннія абследаванні ў гэтым рэгіёне А.Дз.Кавалені і прывязкай да в. Валадарск, за 2 км на Пд ад вёскі. Пляцоўка паселішча ўмацавана асн. валам па ўсім перыметры. Шыр. гэтага вала з У і З 12—13 м, з Пн і Пд — 15 м. Выш. вагаецца ў межах 1—1,55 м. Даўж. яго па перыметры дасягае 300 м. З Пн праглядаюцца дадатковыя ўмацаванні: роў і вал. Роў мае шыр. 3—4 м, яго дно запоўнена зямлёй і мае невял. глыбіню. Вал за ровам дасягае шыр. 6—7 м, выш. да 1 м, даўж. 80 м. З У пляцоўка абмяжоўвалася рэчышчам ракі, якая служыла прыроднай перашкодай. Уся абарончая сістэма гарадзішча мае пл. 0,46 га, у той час як пляцоўка 0,54 га. Агульная пл. гэтага ўмацаванага паселішча крыху большая за 1 га. У плане яно ўяўляе сабой выцягнуты прамавугольнік з закругленымі вугламі. Па восі Пн—Пд цягнецца на 120 м, па лініі У—З на 95 м. Даўж. пляцоўкі 83 м, шыр. — 70 м. У маі 2009 у паўд.-ўсх. чвэрці гарадзішчаў І.М. Язэпенкам закладзены шурф пл. 4 $м^2$ (2×2 м), на адлегласці 5 м на З ад мяжы аснавання ўнутранага вала. Магутнасць культ. пласта (цёмна-шэры гумусаваны пясок) 0,28—0,37 м. У шурфе 2009 на гарадзішчы Б. выяўлены 323 фр-ты ляпной керамікі мілаградскай культуры і посудападобны гліняны грузік памерамі 2,8×3 см, арнаментаваны шэрагам двайных і трайных паз-



*Посудападобны гліняны грузік (1), фрагменты венчыкаў пасудзін мілаградскай культуры (2—3) з гарадзішча* ***Балашаўка***.

ногцевых насечак. Помнік датуецца 4 — пач. 2 ст. да н.э. *І.М.Язэпенка.*

**БАЛІ́НСКІ** Міхаіл Ігнатавіч (14.8.1794, маёнтак Цярэспаль Полацкага пав. — 22.12.1863), гісторык, археолаг, музеязнавец, дзеяч асветы. Скончыў Віленскі ун-т (1818). Магістр філасофіі (1815). Чл. т-ва шубраўцаў, дзе быў вядомы пад імем Аўшлавіс. У 1816—22 супрацоўнік час. «Dziennik Wileński» («Дзённік Віленскі», адзін з рэдактараў газ. «Wiadomości brukowe» («Вулічныя паведамленні»), час. «Tygodnik Wileński» («Віленскі штотыднёвік», з 1816 разам з І.Лялевелем). У 1818—22 супрацоўнік і сакратар Віленскага друкарскага т-ва. За ўдзел у падрыхтоўцы паўстання 1830—31 арыштаваны. У 1836 пераехаў у Варшаву, дзе займаўся навук. і літаратурнай працай. Адзін з заснавальнікаў навук.-літаратурнага час. «Biblioteka Warszawska» («Варшаўская бібліятэка»). У 1847 вярнуўся ў свой маёнтак Яшуны каля Вільні, даследаваў там археал. помнікі. З 1856 супрацоўнік *Віленскага музея старажытнасцей*, чл. Рус. геаграфічнага т-ва, у 1855—62 віцэ-старшыня *Віленскай археалагічнай камісіі*. Разам з Т.Ліпінскім выдаў працу «Старажытная Польшча...» (т. 1—3, 1843—46), апошні том якой прысвечаны гісторыі мясцін і населеных пунктаў ВКЛ, асабліва іх абарончым збудаванням. Выявіў і зафіксаваў многія гарадзішчы, курганы, замчышчы. Упершыню апісаў старажытнасці Лоска (Валожынскі р-н), Крэва (Смаргонскі р-н), Ружан (Пружанскі р-н), Смаргоні, Ляхавіч, Слуцка, Быхава, Пінска, Гродна і інш., рэшткі сцен замка на астравах воз. Мястра, датаваў 12 ст. закладку Ніжняга замка ў Полацку. Аўтар прац пра Вільню і Віленскі ун-т.

*Літ.*: Каханоўскі Г.В. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мінск, 1984.

**БА́ЛТЫ**, група індаеўрапейскіх плямён і народаў, якія гаварылі ці гавораць на балтыйскіх мовах або іх дыялектах (сучасныя літоўцы і латышы, гіст. прусы, яцвягі, куршы, земгалы, селы і інш.).

Упершыню тэрмін «Б.» ўвёў нямецкі вучоны Г.Ф.Несельман у 1845. Фарміраванне Б. адбывалася ў эпоху неаліту (3—2-е тыс. да н.э.), калі носьбіты культур шнуравой керамікі пранікалі ў Сярэднюю і Паўн. Еўропу і асімілявалі мясц. насельніцтва. Арэал пашырэння рассялення Б. ахопліваў басейны Віслы, Нёмана, Зах. Дзвіны, Верхняга Падняпроўя, вярхоўі Волгі і Акі. У жал. веку (8—7 ст. да н.э. — 4—5 ст.) Б. на Пд і ПдУ мяжавалі са скіфамі, сарматамі і плямёнамі зарубінецкай культуры, на Пн і ПнУ іх суседзямі былі фіна-угорскія плямёны, на З — славяне і германцы. У пісьмовых крыніцах Б. ўпершыню згадваюцца Тацытам (1 ст. н.э.) у сувязі з промыслам бурштыну. Пталамей (2 ст.) указваў на этнічнае чляненне плямён Былтыйскага ўзбярэжжа і сумежных тэр. (венеды, вельты, айсты, карбоны, карыёты, селы, гелоны і інш.). У скандынаўскіх хроніках 9 ст. згадваюцца куршы, земгалы, а ў стараж.-слав. летапісах (11 ст.) — куршы, латгалы, прусы, яцвягі, пазней (12 ст.) — літва, жмудзь і інш. На тэр. Беларусі Б. належалі днепра-дзвінскай, штрыхаванай керамікі і, магчыма, мілаградскай культурам. Старажытнасці больш позняга часу (6—8 ст.), на думку адных даследчыкаў, былі чыста балцкімі (А.Р.Мітрафанаў, Я.А.Шміт, У.П.Русанава, І.І.Ляпушкін, А.М.Мядзведзеў) альбо балцкімі са слав. уплывам (В.В.Сядоў, Г.В.Штыхаў, В.І.Шадыра), на думку іншых — славянская (Э.А.Сымановіч, Л.Д.Побаль, Р.В. Церпілоўскі). Вядучую ролю ў гаспадарцы Б. доўгі час адыгрывалі жывёлагадоўля, паляванне і рыбалоўства. З удасканаленнем прылад вытворчасці вядучай галіной гаспадаркі паступова становіцца земляробства. Асн. тыпам пасяленняў былі ўмацаваныя паселішчы — гарадзішчы, якія з развіццём земляробства змяніліся адкрытымі селішчамі — вёскамі, дзе жылі некалькі сямей. Тагачасныя Б. падзяляліся на зах., усх. і дняпроўскіх. Да заходніх адносіліся пруса-яцвяжскія плямёны (прусы, яцвягі, куршы,налінды, скальвы), да ўсх. — леталітоўскія (літва, аўкштайты, жэмайты, латгалы, земгалы і інш.). Вычляненне дняпроўскіх Б. можна правесці толькі археалагічна (юханаўская, верхняокская культуры і ўсх. частка днепра-дзвінскай культуры). Адзіны захаваны рэлікт 9—12 ст. — летапіснае племя голядзь. Паводле дадзеных тапанімікі і археалогіі на тэр. Беларусі пражывалі продкі балцкіх плямён літвы, лотвы, латыгалі, яцвягаў і інш. У 2-й пал. 1-га тыс. славяне, якія рухаліся з Пд на Пн па Дняпры, адрэзалі дняпроўскіх і часткова ўсх. Б. і амаль поўнасцю асімілявалі іх. Выцесненыя ў рэгіён Прыбалтыкі Б. прынялі ўдзел у фарміраванні этнічных літоўцаў і латышоў. На тэр. Беларусі асіміляцыя Б. працягвалася да 12—13 ст. і пазней. Частка іх была выцеснена на ПнЗ, частка знішчана, але значная колькасць засталася жыць на сваіх месцах, сярод слав. асяроддзя. З цягам часу славянізаваныя нашчадкі Б. усё больш зліваліся з новымі патокамі славян, што садзейнічала фарміраванню этнічнай спецыфікі зах. груп усх.-слав. насельніцтва 9—13 ст., з якіх паступова складалася бел. народнасць.

*Літ.*: Третьяков П.Н. Финно-угры, балты и славяне на Днепре и Волге. М.; Ленинград, 1966; Седов В.В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. М., 1970; Митрофанов А.Г. Железный век Средней Белоруссии (7—6 вв. до н.э. — 8 в. н.э.). Минск, 1978; Поболь Л.Д. Археологические памятники Белоруссии. Железный век. Минск, 1983; Шадыро В.И. Ранний железный век Северной Белоруссии. Минск, 1985; Яго ж. Беларускае Падзвінне (1-е тысячагоддзе н.э.). Мінск, 2006; Шмидт Е.А. Племена верховьев Днепра до образования Древнерусского государства (8 в. до н.э. — 3 в. н.э.). М., 1992; Яе ж. Верхнее Поднепровье и Подвинье в 3—7 вв. Тушемлинская культура. Смоленск, 2003; Медведев А.М. Белорусское Понеманье в раннем железном веке (1-е тысячелетие до н.э. — 5 в. н.э.). Минск, 1996; Археалогія Беларусі. Жалезны век і ранняе сярэднявечча. Т. 2. Мінск, 1999; Гимбутас М. Балты. М., 2004; Егорейченко А.А. Культуры штрихованной керамики. Минск, 2006; Откуда родом литовцы. Вильнюс, 2008.

*В.І.Шадыра.*

**«БА́ЛТИК-ПО́НТИК СТА́ДИС»**, «Baltic-Pontic Studies» («Балтыйска-Пантыйскія даследаванні»), навуковае перыядычнае выданне Ін-та дагісторыі Ун-та імя А.Міцкевіча ў Познані (Польшча). Выдаецца з 1933 на англійскай мове. Змяшчае вынікі сумеснага польска-ўкр. н.-д. праекта па вывучэнні першабытнай археалогіі на памежжы Усх. і Зах. Еўропы паміж Балтыйскім і Чорным морамі. У 1993—2006 выдадзены 13 нумароў пад гал. рэдакцыяй А.Коські. У «Б.-П.с.» разглядаюцца праблемныя тэмы каменнага, бронзавага вякоў: культ. ўзаемадзеянне і пранікненне культ. традыцый, узнікненне і шляхі распаўсюджання намадызму, храналогія і перыядызацыя культур, культуры ўсх.-заходнееўрап. памежжа і распаўсюджанне іх традыцый (трыпольская культура, тшцінецкае культ. кола, кола культур шнуравой керамікі і шарападобных амфар) і інш. У выпусках серыі адлюстроўваюцца некаторыя вынікі археал. вывучэння неаліту і эпохі бронзы ў Беларусі. Сярод аўтараў бел. археалагі М.М.Крывальцэвіч, М.М.Чарняўскі, І.М. Язэпенка.

*Літ.*: Відэйко М.Ю. Археологія та давня історія між Балтикою та Понтом // Археологія. 2002. № 4; Klochko V.I. Weapons of the Tribes of the Northern Pontic Zone in the 16th—10th Centuries BC // Baltic-Pontic Studies. 1993. [T.] 1; Nomadism and Pastoralism in the Circle of Baltic-Pontic Early Agrarian Cultures: 5000—1650 BC // Там жа. 1994. [T.] 2; Cemeteries of the Sofievka type: 2950—2750 BC // Там жа. 1995. [T.] 3; Eastern Exodus of the Globular Amphora People: 2950—2350 BC // Там жа. 1996. [T.] 4; Beyond Balkanization // Там жа. 1998. [T.] 5; The Trzciniec Area of the Early Bronze Age Civilization: 1950—1200 BC // Там жа. 1998. [T.] 6; The Foundation of Radiocarbon Chronology of Cultures Bet-

ween the Vistula and Dnieper: 3150—1850 BC // Там жа. 1999. [Т.] 7; Between West and East People of the Globular Amphora Culture in Eastern Europe: 2950—2350 BC // Там жа. 1999. [Т.] 8; The Western Border Area of the Tripolye Cultures // Там жа. 2000. [Т.] 9; Weaponry of Societes of the Northern Pontic Culture Circle: 5000—700 BC // Там жа. 2001. [Т.] 10; Fluted Maces in the System of Long-Distance Exchange Trails of the Bronze Age: 2350—800 BC // Там жа. 2002. [Т.] 11; The Foundation of Radiocarbon Chronology of Cultures between the Vistula and Dnieper: 4000—1000 BC // Там жа. 2003. [Т.] 12; Funeral Rites of the Catacomb Community: 2800—1900 BC // Там жа. 2006. [Т.] 13. *М.М.Крывальцэвіч.*

**БАНДА́РНЫЯ ВЫ́РАБЫ**, драўляныя ёмістасці з клёпак (адмысловых дошчачак) для захавання і транспарціроўкі вадкіх і сыпучых рэчываў. Рэшткі бандарнага посуду — днішчы, накрыўкі, клёпкі, жал. вядзёрныя дужкі, абручы і вушкі — часта сустракаюцца пры раскопках усх.-слав. гарадоў. Выяўлены ў Віцебску (найб. колькасць сабрана ў Верхнім замку), Мінску, Полацку, Гродне, Слуцку, Заслаўі. Паводле формы, памераў і матэрыялу знаходак можна меркаваць пра разнастайнасць Б.в. у гарадах Беларусі 12—16 ст. Хваёвыя днішчы дыям. 50 см і болей былі ў вадавозных бочак, хваёвыя і яловыя (як найб. вільгацеўстойлівыя) дыям. 28—29 см — у даёнак і боек, дубовыя дыям. 42—47 см — у 10-вядзёрных бочак, якія выкарыстоўваліся пад квашэнні, саленні і моцныя напоі. Днішчы меншых памераў былі ў бочачак, біклаг для пераносу вады, квасу, гарэлкі. Авальныя днішчы (памерамі 33—35 × 43—50 см) рабілі ў цэбрах, балеях, ражках. Сустракаюцца масіўныя днішчы (таўшч. 4,5—6,5 см) ліповак (посуду для захавання мёду), якія выдзёўбвалі з тоўстай калоды. Большасць знойдзеных клёпак паходзіць ад вёдраў (выш. 28 см), выяўлены невял. накрыўкі і клёпкі (дыяж. 10 см), верагодна, ад кубкаў. Каркас бочкі або вядра мацавалі лазовымі ці жал. (Бярэсце, Слуцк) абручамі.

*Літ.*: Калядзінскі Л.У., Ткачоў М.А. Драўляныя вырабы і дрэваапрацоўка ў сярэдневяковым Віцебску // Помнікі культуры: новыя адкрыцці. Мінск, 1985. *Л.У.Калядзінскі.*

**БА́НЦАРАЎСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, культура тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны. Аб'ядноўвае археал. помнікі культуры плямён, якія ў 5—8 ст. жылі ў Верхнім Падняпроўі, Верхнім Панямонні, Верхнім і Сярэднім Падзвінні. Назву атрымала ад гарадзішча *Банцараўшчына* Мінскага р-на. Асн. тыпам пасяленняў былі адкрытыя селішчы, якія размяшчаліся на пакатых узвышшах у поймах рэк або на мысападобных выступах надпоймавых тэрас. Шмат селішчаў узнікла каля ранніх гарадзішчаў, якія дадаткова ўмацоўваліся землянымі валамі і ператвараліся ў гарадзішчы-сховішчы. Жытлы будаваліся наземныя і паўзямлянaчныя. Паўзямлянкі мелі пераважна зрубавую канструкцыю, іх ніжнія вянкі паглыбляліся ў зямлю на 0,2—0,8 м. Наземныя жытлы былі слупавой канструкцыі. Сцены рабілі з бярвён таўшч. 0,25—0,35 м. Пл. жытлаў складала ад 7—9 да 18—20 м². Шматкамерная планіроўка іх сведчыла аб захаванні родавых адносін. Унутры жытлаў, часцей у далёкім ад увахода куце размяшчаліся печы-каменкі круглай або авальнай формы (даўж. 1—1,5 м, шыр. 0,9—0,95 м); радзей у цэнтры жытлаў былі агнішчы — вымасткі з дробных камянёў пад пластом гліны 0,15—0,2 м, круглай або авальнай формы, даўж. 1,9—2,15 м, шыр. 1,8—2 м. Каля дамоў размяшчаліся ямы-скляпы, верагодна, калектыўнага карыстання. Яны мелі круглую, авальную ці прамавугольную форму памерамі 1,2—1,5 × 1—1,7 м і глыб. 0,4—1 м. Некаторыя ямкі мелі амаль вертыкальныя сценкі, большасць з іх у разрэзе чашападобныя. Пахавальны абрад — трупаспаленне на бескурганных і курганных могільніках. Крэмацыя нябожчыкаў адбывалася за межамі некропаляў, пасля чаго ачышчаныя ад кастра косці змяшчаліся ў гліняныя пасудзіны-урны ці ссыпаліся на дно магільных ям. Для могільнікаў міжрэчча Дняпра і Нёмана характэрны бедныя пахаванні, часцей за ўсё інвентар складаецца з цэлых або фрагментарных пасудзін. Курганы па форме падзяляюцца на круглыя, падоўжаныя і доўгія, дзе сустракаюцца урнавыя і бязурнавыя пахаванні, змешчаныя на гарызонце, у насыпе альбо адразу пад дзярновым пакрыццём насыпу. У доўгіх курганах было 2—9 пахаванняў. Насельніцтва Б.к. займалася земляробствам і жывёлагадоўляй. Паляванне і рыбалоўства мелі дапаможны характар. Былі развіты здабыча і апрацоўка жалеза, бронзаліцейная вытворчасць, апрацоўка дрэва, косці, ганчарства. Выраблялі слабапрафіляваныя пласкадонныя ляпныя гаршкі. У гліну дадаваліся жарства і буйназярністы пясок. Посуд меў крыху адагнуты венчык, слабавыражаную шыйку, моцна апушчаны плячук, злёгку пукатае тулава. Трапляюцца таксама круглабокія, цыліндрычнаканічныя і міскападобныя пасудзіны, у Падзвінні — слоікападобныя. Знаходзяць разнастайныя прадукты гасп. побыту і ўпрыгажэнні: біканічныя гліняныя прасліцы, жал. нажы, сярпы, сякеры, шпоры, падкавападобныя фібулы, бронзавыя бранзалеты, падвескі, пярсцёнкі, рэшткі бронзаліцейнай вытворчасці. Тэр. Цэнтр. і Паўд. Беларусі многія даследчыкі суадносяць з



дзедзілавіцкім і атолінскім варыянтамі банцараўскай, рэгіёны Падзвіння і днепра-дзвінскага міжрэчча — са змешанай з тушамлінскай культур. Помнікі Б.к. даследавалі: С.А.Дубінскі, А.М. Ляўданскі, А.Дз.Каваленя, І.А.Сербаў, А.Р.Мітрафанаў, Л.В.Аляксееў, К.П.Шут, Г.В.Штыхаў, Я.Г.Звяруга, В.І.Шадыра, Л.У.Дучыц, А.М.Мядзведзеў, А.А.Егарэйчанка, А.А.Седзін, В.М.Ляўко, Ю.У.Каласоўскі. Многія даследчыкі лічаць, што Б.к. належала балтам і сфарміравалася ў выніку ўплываў з боку паўд. суседзяў і пранікнення на Пн Беларусі элементаў кіеўскай культуры (тыпу Абідні) у асяродак носьбітаў днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур. Пасля заняпаду Б.к., выкліканага шырокім рассяленнем слав. насельніцтва, заканчваецца апошні этап балцкага перыяду ў этнічнай гісторыі Беларусі.

*Літ.*: М и т р о ф а н о в А.Г. Железный век средней Белоруссии. Минск, 1978; П е р х а в к о В.Б. Раннесредневековые древности междуречья Днепра і Немана 5—8 вв. М., 1978; Ш т ы х а ў Г.В. Крывічы: па матэрыялах раскопак курганоў у Паўночнай Беларусі. Мінск, 1992; Археалогія Беларусі. Жалезны век і ранняе сярэднявечча. Т. 2. Мінск, 1999; Л е в к о О.Н. Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси. Минск, 2004; З в я р у г а Я.Г. Беларускае Павілле ў жалезным веку і раннім сярэдневякоўі // МАБ. 2005. Вып. 10; Ш а д ы р а В.І. Беларускае Падзвінне (1-е тысячагоддзе н.э.). Мінск, 2006. *В.І.Шадыра.*

**БА́НЦАРАЎШЧЫНА**, археалагічны помнік — гарадзішча каля б. в. Банцараўшчына Мінскага р-на. За 2,5 км на ПнУ ад чыг. ст. Ждановічы, на левым беразе р. Свіслач (цяпер тут вадасховішча Дразды). Пляцоўка авальная, выцягнутая з Пн на З, памерамі 55 × 35 м. З Пн і ПнЗ умацавана 2 валамі выш. каля 2 м, шыр. 11—12 м і равамі глыб. 1,5—2 м, шыр. 12—14 м. Выявілі ў 1925 М.М.Улашчык і С.С.Шутаў, даследавалі 245 м² у 1926—28 С.А.Дубінскі, у 1948—49 А.Р.Мітрафанаў, у 1982 Г.В.Штыхаў. Культ. пласт ад 0,2 м у цэнтры да 1,8—1,9 м па краях пляцоўкі, мае 2 гарызонты. На мацерыку знойдзены матэрыялы паселішча эпохі бронзы. Ніжні гарызонт адносіцца да *штрыхаванай керамікі культуры.* Знойдзены жал. сярпы, нажы, шылы, брытва, двухшыпныя наканечнікі коп'яў, падвязная фібула, жал. і бронзавыя пярсцёнкі, драцянае скроневае кольца, посахападобныя шпількі, гліняныя прасліцы (некаторыя з наразным арнаментам), жал. шлакі, кавалкі домніцы, косці свойскай жывёлы. Ляпная кераміка са штрыхаванай паверхняй падзяляецца на раннюю і пазнейшую вастрарэберную з «зашчыпамі» па рабры. Датуецца апошняй чв. 1-га тыс. да н.э. — пач. н.э. У верхнім гарызонце, уздоўж краю гарадзішча, выяўлены рэшткі драўляных наземных пабудоў і каменныя пляцоўкі. Паміж камянямі знойдзены гаршкі з абпаленым гарохам, пшаніцай і просам, косці жывёл. Знойдзены таксама бронзавыя арнаментаваны бранзалет з патоўшчанымі канцамі, спіралька, лунніца з 2 трапецападобнымі падвескамі, шкляная сіняя пацерка «ў вочкі», тыглі, льячка, гліняныя прасліцы з вял. адтулінамі. Ляпны посуд гладкасценны цюльпана-, міска- і слоікападобнай формы, сустракаюцца пасудзіны з рабром пасярэдзіне. Датуецца 6—8 ст. Ад верхняга гарызонта гарадзішча атрымала назву *банцараўская культура.*

*Літ.*: Д у б і н с к і С.А. Раскопкі Банцараўскага гарадзішча каля Менска ў 1926 // ГАЗ. Менск, 1927. № 1; М и т р о ф а н о в А.Г. Банцеровское городище // Белорусские древности. Минск, 1967; Археалогія Беларусі. Т. 2. Мінск, 1999. *Г.В.Штыхаў.*



*Упрыгажэнні з гарадзішча* ***Банцараўшчына****.*

**БАРЗДЫ́НЬ**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Барздынь Мінскага р-на. Размешчаны за 0,4 км на З ад вёскі, на левым беразе Чорнага ручая, які ўпадае ў р. Іслач. 13 насыпаў дыям. 3,5—8 м, выш. 0,5—1,5 м, на схілах якіх бачны камяні сярэдніх і буйных памераў. Адкрыў у 1978 і даследаваў 3 курганы ў 1980 Ю.А.Заяц. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на грунце і ў неглыбокіх падкурганных ямах галавой на З і У. Пахаванні (адзіночнае і парнае) абкружаны агароджамі з камянёў у 1—2 рады і ў 1—2 ярусы, адно з іх перакрыта плоскімі камянямі. Адзін курган пусты, у цэнтры яго складзены камяні. Знойдзена цыліндрычная пазалочаная пацерка. Датуецца 11 ст.

*Літ.*: З а я ц Ю.А. Работы Заславльского отряда // АО 1980. М., 1981. *Ю.А.Заяц.*

**БАРКАЛА́БАВА**, археалагічныя помнікі — стаянка, гарадзішча і селішча каля в. Баркалабава Быхаўскага р-на Магілёўскай вобл.

С т а я н к а ранняга *мезаліту* (10—8 тыс. гадоў таму назад). За 0,5 км на Пн ад вёскі, на 2-й надпоймавай тэрасе р. Дняпро выш. 16 м над узроўнем вады. Выявіў у 1972, абследаваў у 1973, даследаваў 100 м² у 1988 В.Ф.Капыцін. Знаходкі канцэнтраваліся на пляцоўцы памерамі 260 × 50 м уздоўж броўкі тэрасы. Культ. пласт 0,2—0,5 м. Знойдзены адшчэпы і сколы, адна- і двухпляцовачныя нуклеусы, пласціны і адшчэпы з рэтушшу, тронкавыя наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі з пласцін і пласцiністых адшчэпаў, разцы на вугле зламанай пласцінкі, вастрыі з пласцін і

адшчэпаў, скоблі, прылады з выемкамі і сякеркі з перахватам. Адносіцца да заключнага этапу *свідэрскай культуры*; магчыма, гэта была стаянка-майстэрня.

Г а р а д з і ш ч а ранняга жал. веку і эпохі Кіеўскай Русі. На паўд. ускраіне вёскі, ва ўр. Гарадок, пры ўпадзенні р. Струга ў р. Дняпро. Пляцоўка амаль трохвугольнай формы памерамі 95 × 58 м, выш. 13 м, папсавана траншэямі і дотамі часоў Вял. Айч. вайны. З паўн. і паўн.-зах. бакоў захаваліся сляды вала і часткова засыпаны роў, на якім прасочваецца ўезд на пляцоўку. Выявіў у 1855 М.В.Без-Карніловіч, абследавалі ў 1928 А.Дз.Каваленя, у 1951 Ю.У.Кухарэнка, у 1967 Л.Д.Побаль, у 1988 В.Ф.Капыцін. Культ. пласт да 1 м. Знойдзены фр-ты грубаляпной і кругавой керамікі, вырабы з крэменю, бронзы і жалеза, косці жывёл. Гарадзішча адносіцца да мілаградскай, зарубінецкай, штрыхаванай керамікі культур і ранняга сярэдневякоўя. Матэрыялы абследавання сведчаць, што яно ўзнікла на месцы паселішча бронзавага веку.

С е л і ш ч а. На З ад гарадзішча, уздоўж поймы р. Струга. Пл. каля 1 га. Адкрыў і абследаваў у 1928 А.Дз.Каваленя, абследавалі ў 1951 Ю.У.Кухарэнка, у 1967 Л.Д.Побаль. Знойдзена ляпная гладкасценная кераміка ранняга жал. веку і ганчарная кераміка ранняга сярэдневякоўя.

*Літ.*: К а в а л е н я А.Дз. Археалагічныя разведкі ў Магілёўскай, Бабруйскай і Мінскай акругах // Працы. Т. 2; П о б о л ь Л.Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н.э. по начало II в. н.э.). Минск, 1974; К о п ы т и н В.Ф. Памятники финального палеолита и мезолита Верхнего Поднепровья. Могилев, 1992; Я г о ж. Археологические памятники Быховского района Могилевской области. Могилев, 1995; Я г о ж. Свод памятников археологии чернобыльской зоны Могилевской области. Могилев, 1998.

*В.Ф.Капыцін.*

**БАРКІ́**, археалагічныя помнікі — курганны могільнік, гарадзішча і селішча каля в. Баркі Полацкага р-на Віцебскай вобл.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к крывічоў за 0,8 км ад вёскі. 18 курганоў: 1 доўгі (25 × 9 м, выш. 2 м), 3 падоўжаныя (7 × 5 м, выш. 1,4—2 м), астатнія круглыя дыям. 6—10 м, выш. 0,7—2 м. Адкрыў у 1967 і даследаваў 9 насыпаў у 1970—71 Г.В.Штыхаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне за межамі могільніка, у насыпах прасочваюцца нязначныя попельна-вугальныя праслойкі. Рэшткі крэмацыі змешчаны ў верхняй частцы насыпу на падсыпцы (1), на гарызонце (3), у ямцы, выкапанай у грунце і накрытай гаршком (5). У адным круглым кургане знойдзены перапаленыя косці каня і быка. Пашкоджаны агнём суправаджальны інвентар прадстаўлены ўпрыгажэннямі (касцяныя качкі, бронзавыя трапецападобныя пад-



*Пахавальная урна з курганнага могільніка **Баркі**.*




*Наканечнікі стрэл (1—5), вастрыё (6), скрабкі (7—11), разцы (12—16), сякучыя прылады (17—18) са стаянкі **Баркалабава**.*



*Пахавальны інвентар з курганнага могільніка **Баркі**: касцяныя качкі (1—4), бронзавыя трапецападобныя падвескі (5—7), жалезныя спражкі (8—9).*

вескі, грыўня, бранзалет, спіралькі, шкляныя блакітныя пацеркі, маніста, у якім чаргаваліся шкляныя пацеркі і рады бронзавых спіралек), жал. спражкі, глінянае праслíца, ляпныя гаршкі. Датуецца 8—9 ст.

Гарадзішча за 5 км ад вёскі (каля б. в. Глісnaўка), на ўзгорку выш. 4—5 м. Пляцоўка круглая, дыям. 40 м. Каля асновы гарадзішча прасочваюцца рэшткі вала і рова. Выявіў у 1967 і даследаваў у 1973 Г.В.Штыхаў. Культ. пласт 0,3 м. Знойдзена ляпная кераміка.

Селішча за 1,8 км ад вёскі, 1 км ад могільніка на беразе р. Дрыса. Пл. каля 2 га. Культ. пласт 0,5—0,6 м. Знойдзена кругавая кераміка.

*Літ.*: Штыхов Г.В. Полоцкие кривичи // Очерки по археологии Белоруссии. Минск, 1972. Ч. 2; Яго ж. Крывічы. Мінск, 1992; Яго ж. Полацкія крывічы // Археалогія Беларусі. Мінск, 2000. Т. 3. *Г.В.Штыхаў.*



*Упрыгажэнні з гарадзішча Баронікі.*

**БАРÓНІКІ**, археалагічны помнік — гарадзішча каля в. Баронікі Віцебскага р-на. Знаходзіцца на паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, на левым беразе р. Лучоса. Пляцоўка авальная памерамі 74 × 42 м, выш. 20 м, умацавана валам. У 1956 абследаваў Л.В. Аляксееў, даследавалі 160 $м^2$ у 1965 К.П.Шут, у 1972, 2006 Г.В.Штыхаў. Культ. пласт у цэнтры 0,2—0,3 м, з паўн. боку — 0,9 м. Выяўлены ямы ад жытлаў слупавой канструкцыі. Знойдзены бронзавая умбонападобная падвеска, жал. нож з гарбатай спінкай, сякера скіфскага тыпу, 2 каменныя клінападобныя сякеры, глінянае праслíца, тачыльны брусок, каля 200 фр-таў керамікі *днепра-дзвінскай культуры* сяр. 1-га тыс. да н.э. — пач. н.э. Кераміка ляпная ў большасці гладкасценная, зрэдку трапляюцца фр-ты, паверхня якіх пакрыта штрыхоўкай, асобныя чарапкі маюць адбіткі тэкстылю. Сярод знаходак скарб 6—8 ст. з 3 драцяных бронзавых скроневых кольцаў, якія мелі па 2 трапецападобныя падвескі.

*Літ.*: Шут К.П. Памятники раннего железного века на севере Белоруссии // Древности Белоруссии. Минск, 1966; Штыхов Г.В. Сравнительное изучение древностей городов Полоцкой земли и памятников их окрестностей // Там жа; Яго ж. Вынікі даследавання гарадзішча Баронікі пад Віцебскам // ГАЗ. Мінск, 2007. Вып. 23. *Г.В.Штыхаў.*



*Наканечнікі стрэл (1—9), дзюбападобныя вастры (10—11), пласціны з прытупленым краем (12—14), пласціны са скошаным рэтушшу канцом (15—17), праколка (18), скрабкі (19—21), разцы (22—25), сякерка з перахватам (26) з паселішча **Бароўка**.*

**БАРÓЎКА**, археалагічны помнік — паселішча ранняга этапу *грэнскай культуры* каля в. Бароўка Быхаўскага р-на Магілёўскай вобл. Размешчана на паўд.-ўсх. ускраіне вёскі, на 2-й надпоймавай тэрасе р. Дняпро. Выш. над узроўнем вады 18 м. Выявіў і абследаваў у 1973, даследаваў 280 $м^2$ у 1987 В.Ф.Капыцін. Культ. пласт 0,3 м. Уздоўж броўкі тэрасы на пляцоўцы памерамі 59 × 170 м выяўлены расшчэплены крэмень у выглядзе невял. сховаў. Знойдзены адшчэпы, пласціны, асколкі, кавалкі разбітага крэменю, канкрэцыі, нуклеусы, іх абломкі і інш., а таксама ўласна тронкавыя і асіметрычна-тронкавыя наканечнікі стрэл, скрабкі канцавыя на адшчэпах і пласцінистых загатоўках, двайныя з пласцін, з выемкамі на краі, скрабкі-разцы і скрабкі-праколкі, бакавыя, вуглавыя і сярэдзінныя разцы, сярэдзінныя і вуг-

лавыя праколкі, рэжучыя і дзюбападобныя вастрыі, вырабы з выемкамі, прылады працы і інш. Крамянёвы інвентар паселішча падобны да знаходак на Мезінскай стаянцы (Чарнігаўская вобл.). Датуецца 12—10-м тыс. да н.э.

*Літ.*: К о п ы т и н В.Ф. Мезолит Юго-Восточной Белоруссии // КСИА. 1977. Вып. 149; Я г о ж. Археологические памятники Быховского района Могилевской области. Могилев, 1995; Я г о ж. Свод памятников археологии чернобыльской зоны Могилевской области. Могилев, 1998; Я г о ж. У истоков гренской культуры. Боровка. Могилев, 2000; К с е н з о в В.П. Палеолит и мезолит Белорусского Поднепровья. Минск, 1988.

*В.Ф.Капыцін.*

**БАРСУ́КІ**, археалагічны помнік — гарадзішча за 2 км на ПдЗ ад в. Барсукі Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобл., у лесе, на правым беразе р. Зах. Дзвіна. Пляцоўка амаль круглая дыям. 34—36 м. На схілах гарадзішча захаваліся 3 кальцавыя (выш. да 2 м) і 2 падковападобныя (выш. да 1,5 м) валы і равы паміж імі. Па краях пляцоўкі прасочваецца вал выш. да 0,5 м. Выявіў і даследаваў 500 $м^2$ у 1975—76, 1981 В.І.Шадыра. Культ. пласт ад 0,3—0,5 м у цэнтры да 0,9—1 м па краі. Выяўлены абпаленыя рэшткі драўлянай абарончай сцяны 1-га тыс. да н.э. З рубяжа н.э. гарадзішча ўмацоўваецца па схілах пляцоўкі абарончымі валамі і равамі. Знойдзены каменныя сякеры, бронзавыя ўпрыгажэнні, гліняныя прасліцы і пацеркі, ляпны слабапрафіляваны і слоікападобны посуд, тыповы для *днепра-дзвінскай культуры*, фр-ты керамікі з аблітай (шурпатай) паверхняй, характэрнай для паселішчаў Літвы і Латвіі ў 2-й і 3-й чв. 1-га тыс. н.э., рэшткі посуду *банцараўскай культуры*. Датуецца 4 ст. да н.э. — 7 ст. н.э.

*Літ.*: Ш а д ы р о В.И. Ранний железный век северной Белоруссии. Минск, 1985. *В.І.Шадыра.*

**БАРЫ́САВІЧЫ**, археалагічныя помнікі — стаянкі і могільнік каля в. Барысавічы Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл.

С т а я н к а - 1 каменнага веку на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Сож, за 1 км на З ад вёскі, 0,1 км на ПдУ ад вусця ручая (левы прыток Сажа). Адкрыў у 1994 В.Ф.Капыцін, абследаваў у 2005 і 2008 А.У.Коласаў. Знойдзены нуклеусы, адшчэпы, пласціны, тронкавыя наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі, рэтушаваныя, двухгранныя і на вугле зламанай нарыхтоўкі разцы, праколкі, вастрыі, вырабы з выемкай, сякеры, асобныя з якіх маюць перахоп, пласціны і адшчэпы з рэтушшу.

С т а я н к а - 2 эпохі неаліту на пясчаным узвышшы левага берага р. Сож, за 0,2 км на Пн ад вёскі. Адкрыў у 1994 В.Ф.Капыцін, абследаваў у 2005 А.У.Коласаў. Знойдзены расшчэплены крэмень, скрабкі, разцы, вырабы з выемкай, наканечнік стралы, адшчэпы і пласціны з рэтушшу. Помнік знішчаны кар'ерам.

С т а я н к а - 3 каменнага і бронзавага вякоў і с е л і ш ч а жал. веку на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Сож, за 0,15 км на З ад вёскі і



*Прылады працы і ляпны гаршчок з гарадзішча Барсукі.*

курганнага могільніка, на Пн ад дарогі Барысавічы—Ігнатоўка. Адкрыў і абследаваў у 2007 А.У. Коласаў. Знойдзены нуклеусы, адшчэпы, пласціны, свідэрскія наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі, вырабы з выемкай, сякучыя прылады, сярэдневысокая трапецыя, пласціны і адшчэпы з рэтушшу.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к на паўд. беразе старыцы р. Сож, за 0,15 км на З ад вёскі. Адкрыў у 1994 В.Ф.Капыцін, абследаваў у 2005 А.У.Коласаў. Захаваліся 9 курганоў выш. 0,4—1 м, дыям. 5—11 м.

*Літ.*: К о п ы т и н В.Ф. Археологические памятники Климовичского района Могилевской области. Могилев, 1998. *А.У.Коласаў.*

**БАРЫ́САВЫ КАМЯНІ́**, манументальныя помнікі эпіграфікі на тэр. Беларусі: 7 вял. валуноў з высечанымі на іх 6-канцовымі крыжамі і надпісамі «Господи помози рабу своему Борису». Вядомы 5 камянёў у рэчышчы Зах. Дзвіны: па адным — каля б. в. Падкасцельцы за 5 км ад г. Полацк і пас. Друя Браслаўскага р-на, 3 — каля г. Дзісна Міёрскага р-на; 2 на сушы: адзін — каля в. Дзятлава Аршанскага р-на (т.зв. Рагвалодаў камень), другі — каля в. Высокі Гарадзец Талачынскага р-на. Захаваліся 3 камяні: адзін з дзісенскіх камянёў (з надпісам «Сулиборь хрьст»), які ў 1887—88 быў падняты з дна ракі і адпраўлены ў Маскву (знаходзіцца ў музеі-запаведніку «Каломенскае»); камень з б. в. Падкасцельцы, які ў 1981 падняты і ўстаноўлены каля Сафійскага сабора ў Полацку; камень каля Друі. Да прыняцця хрысціянства (10 ст.) камяні былі язычніцкімі фетышамі. Крыжы на валунах высечаны паводле загаду полацкага кн. Барыса Усяславіча ў 1-й трэці 12 ст. ў сувязі з ажыўленнем язычніцкіх вераванняў і з мэтай увекавечыць імя князя. У народзе камяні былі вядомы пад назвамі Барыс, Барыс-Хлебнік, Барыс-Глеб, Барысаглебскі, Пісар, Пісанік і інш. Захавалася шмат паданняў пра Б.к.

*Літ.*: Т а р а н о в и ч В.П. К вопросу о древних лапидарных памятниках с историческими надписями на территории Белорусской ССР // СА. 1946. № 8; Р ы б а к о в Б.А. Русские датированные надписи 11—14 веков. М., 1964; А л е к с е е в Л.В. Полоцкая земля в 9—13 вв.: (очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966.

*Л.У.Дучыц.*

**БАРЫ́САЎ**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і селішча ў пас. Старабарысаў Барысаўскага р-на Мінскай вобл., на левым беразе р. Бярэзіна.

Г а р а д з і ш ч а займае канцавую частку вял. мыса, абмежаванага з У возерам і ручаём, з З — доўгім ярам. Пляцоўка авальная, памерамі 150 × 80 м, выш. 8—10 м. Уваход на гарадзішча з паўн.-ўсх. боку. Участак пл. 1 га аддзелены штучным ровам, за якім на карэнным беразе знаходзіцца с е л і ш ч а пл. 3 га. У 1968—69, 1971 Г.В.Штыхаў даследаваў 224 $м^2$ на гарадзішчы і 96 $м^2$ на селішчы. Культ. пласт 1 м. Выяўлены рэшткі паўзямлянначнага жытла памерамі 2,2 × 2,2 м, заглыбленага ў мацярык на 0,8 м, з печчу-каменкай. У ім знойдзены залатое трохпацеркавае скроневае кольца, 5 шкляных бранзалетаў, фр-т шклянога пярсцёнка сіняга колеру, жал. сякера, 2 нажы, цвік, замок, касцяны грэбень, 2 шыферныя праслíцы. Сярод знаходак на гарадзішчы 59 шкляных бранзалетаў, 26 шыферных праслíц, жал. наканечнікі стрэл, шпоры, 2 сярпы, каса-гарбуша, 2 бронзавыя арнаментаваныя падкавападобныя фібулы, восці, кругавая кераміка 12—13 ст. На селішчы знойдзены 9 шкляных бранзалетаў, 2 пацеркі, дно шкляной пасудзіны, бразготка, бронзавая зярнёная пацерка, смальтавы кубік сіняга колеру, дзяржанне амфары з графіці (літара «В»). Кераміка падобная на знаходкі з гарадзішча. Археал. раскопкі пацвярджаюць меркаванне расійскага гісторыка В.М.Тацішчава пра заснаванне Б. ў 1102 полацкім кн. Барысам Усяславічам і дазваляюць лакалізаваць першапачатковае месцазнаходжанне горада. Праз некалькі стагоддзяў Б. быў перанесены за 4 км ад гэтага месца, ніжэй па р. Бярэзіна.

*Літ.*: Ш т ы х о в Г.В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). Минск, 1978; Дзевяць стагоддзяў Барысава. Мінск, 2002. *Г.В.Штыхаў.*

**БАРЫСАЎСКІ КУРГА́ННЫ МО́ГІЛЬНІК**, археалагічны помнік на паўн.-зах. ускраіне г. Барысаў Мінскай вобл., ва ўр. Барок, на ўзвышшы левага берага р. Бярэзіна. Да 1926 у 6 курганных групах былі 204 насыпы, захаваліся 2 групы з 70 насыпаў выш. 0,8—2 м, дыям. 6—10 м. Даследавалі больш за 10 курганоў у 1892 У.З.Завітневіч, у 1928 А.М.Ляўданскі, у 1971 Г.В.Штыхаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце пад насыпам зрэдку на вогнішчы галавой на З, трапляюцца пахаванні ў ямах. Знойдзены бронзавыя і сярэбраныя пацеркі тыпу дрыгавіцкіх, сердалікавыя, шкляныя (у т.л. залачоныя і пасярэбраныя, хрустальная) шматгранныя і круглыя пацеркі, бронзавы пласцiністы бранзалет, лунніца, пярсцёнкі, крыжыкі, жал. серп. Могільнік з'яўляўся некропалем стараж. Барысава.

*Літ.*: Ш т ы х а ў Г.В. Крывічы. Мінск, 1992; Дзевяць стагоддзяў Барысава. Мінск, 2002. *Г.В.Штыхаў.*

**БАРЫ́САЎШЧЫНА**, археалагічны помнік — бескурганны могільнік бронзавага веку каля в. Барысаўшчына Глускага р-на Магілёўскай вобл. За 2 км на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Камарынка. У 1964 выявіў Л.Д.Побаль, у 1977 абследаваў В.Ф.Капыцін. У паўн. частцы пясчанай касы выяўлена пахаванне па абраду трупаспалення. Пахавальная яма дыям. 0,5 м запоўнена дробным вуголлем, попелам і кальцыніраванымі касцямі. У верхняй частцы ямы знаходзіліся абломкі шматвалікавай пасудзіны, упрыгожанай лапчастым арнаментам. Пахавальны інвентар: крамянёвыя скрабкі, сякера, адшчэпы. Пад спаленымі касцямі, на дне ямы на глыб. 0,5 м ляжалі часткі чэрапа чалавека і 2 крамянёвыя нажы. На касе выяўлены таксама 4 месцазнаходжанні спаленых касцей і керамікі эпохі бронзы з разбураных пахаванняў.

*Літ.*: И с а е н к о В.Ф., Ч е р н я в с к и й М.М. Новые данные по спорным вопросам бронзового века Белоруссии // Белорусские древности. Минск, 1967; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1. Минск, 1970; Археалогія Беларусі. Т. 1. Мінск, 1997. *В.Ф.Капыцін.*

**БАРЫ́САЎШЧЫНА**, археалагічныя помнікі — паселішча і гарадзішча каля в. Барысаўшчына Хойніцкага р-на Гомельскай вобл.

П а с е л і ш ч а эпохі неаліту і мезаліту. За 0,5 км на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Віць, на пясчанай выдме. Выявілі ў 1960 У.Ф.Ісаенка і А.П.Гарчанка, даследаваў у 1966 У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт 0,3 м. Знойдзены 34 крамянёвыя прылады працы, 240 апрацаваных крэменяў, 35 абломкаў вастрадонных ляпных гаршкоў, меднае долата 3,5 тыс. гадоў да н.э. (самая стараж. металічная прылада ў Беларусі).

Г а р а д з і ш ч а ранняга жал. веку. Мясц. назва Акопы. За 2 км на Пд ад вёскі, ва ўр. Пало-



*Крамянёвыя вырабы з паселішча Барысаўшчына.*

сы. Пляцоўка памерамі 120 × 100 м, умацавана 2 кальцавымі валамі (выш. ўнутранага 0,6—0,8 м, шыр. 14—15 м, выш. вонкавага 1,9—2,1 м, шыр. 16 м) і ровам паміж імі (глыб. каля 1,5 м). Вядома з 1889, абследавалі ў 1963 У.Ф.Ісаенка, у 1976 Т.М.Каробушкіна.

*Літ.*: Запольский М. Брагинская волость: (ист. очерк) // Календарь «Северо-Западного края» на 1889 г. М., 1889. *У.Ф.Ісаенка.*

**БАРЫЧЭ́ЎСКІ** (сапр. Тарнава-Барычэўскі) Іван Пятровіч (1810, Мінская губ. — 5.8.1887), беларускі гісторык, археограф, фальклорыст, этнограф. Скончыў Кіеўскую духоўную акадэмію (1833). З 1835 служыў у дзярж. установах, з 1841 у Гал. упраўленні шляхоў зносін, у т.л. з 1860 дырэктар канцылярыі. У часопісах «Санкт-Петербургские ведомости», «Журнал Министерства народного просвещения» і інш. апублікаваў артыкулы «Пра рускі летапіс у Літве, названы «Хроніка Быхаўца» (1838), «Камяні літоўскіх багінь» (1839), «Урывак з літоўска-рускай гісторыі» (1845), «Даследаванне пра паходжанне, назву і мову літоўскага народа» (1847). Сабраў і выдаў шмат мясц. паданняў, легенд і павер'яў. Запісы фальклору паўд. і зах. славян надрукаваны ў яго кнігах «Аповесці і паданні народаў славянскага племя» (ч. 1—2, 1840—41) і «Народныя славянскія апавяданні» (1844). Аўтар прац «Праваслаўе і руская народнасць у Літве» (1851), «Паведамленні пра старажытныя помнікі, якія знаходзяцца ў ведамстве Галоўнага ўпраўлення шляхоў зносін і публічных будынкаў» (1861). Удзельнічаў у зборы матэрыялаў і падрыхтоўцы выданняў Археаграфічнай камісіі.

**БАСТЫЁН**, элемент доўгатэрміновых абарончых збудаванняў. З'яўляюцца далейшай формай развіцця *рандэлей*, якім пачалі надаваць форму пяцікутніка, і якія атрымалі базу — Б. (ад італьян. bastionato пабудова, якая выступала за асн. лінію). З к. 15 — пач. 16 ст. распаўсюджваліся ў многіх краінах свету, аднак найб. шырока былі вядомы ў Італіі.

Б. складаліся з земляных валоў, якія звонку абліцоўваліся камянямі. Артылерыя размяшчалася адкрыта, на бакавых фланках. Пярэднія часткі Б. (фасы) утваралі выходны вугал. Да пач. 16 ст. 2 паўбастыёны, якія звязваліся курцінаю, утваралі бастыённы фронт. Спалучэнне некалькіх бастыённых франтоў, што размяшчаліся па-рознаму і дапаўняліся ўнутранымі і вонкавымі пабудовамі, наз. бастыённай сістэмай. Для прыкрыцця гармат на фланку тая яго частка, што прымыкала да курціны, рабілася ніжэйшай за вал. За гэтым паніжаным фланкам рабіўся другі, аднолькавай вышыні з валам. Большая частка фланка закруглялася і ўтварала бакавое прыкрыццё — арыльён. Падобныя Б. наз. таксама «булевардзі», «турыёны» і «больвэркі». У ранніх бастыённых умацаваннях вельмі доўгія курціны падзялялі пасярэдзіне іх даўжыні дапаможнымі малымі Б., якія наз. «piata forma».

Узмацненне курцін «piata forma» і дэмілюнамі (паўкруглымі пабудовамі, што абараняпі курціну і выхад у роў) вымушала праціўніка перанесці цяжар і моц атакі з курціны на Б. Гэта прывяло да павелічэння памераў Б. і ўзмацнення іх кавальерамі, якія дазвалялі весці ярусны абстрэл мясцовасці, а таксама выкарыстоўваліся дэмілюны, якія пры гэтым пераўтвараліся ў равеліны, для агнявой падтрымкі Б.

На тэр. Беларусі Б. выкарыстоўваліся ў абарончых збудаваннях замкаў Заслаўя, Нясвіжа, Глуска, Ляхавіч, гарадоў Слуцк, Нясвіж. Вывучэннем бастыённых умацаванняў Беларусі займаўся М.А.Ткачоў, а таксама Ю.А.Заяц (Заслаўе, Нясвіж), І.У.Ганецкая (Глуск), А.А.Мяцельскі (Нясвіж).

*Літ.*: Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мінск, 1978; Заяц Ю.А. Замкі // Археалогія Беларусі. Мінск, 2001. Т. 4. *Ю.А.Заяц.*

**БАСТЭ́Я** (польск. basteja), элемент абарончых збудаванняў; пераходная форма ад *вежы* да *бастыёна*. Звычайна земляны насып або 2-яруснае мураванае збудаванне, паўкруглае ў плане. Значна выступала за лінію сцен крэпасці, але мала ўзвышалася над імі. Зверху мела адкрытую гарматную абарону, унізе складалася з трывалых казематаў (часам з жылымі памяшканнямі для гарнізона), прыстасаваных для вядзення франтальнага і фланкіруючага артылерыйскага агню. Як элемент умацаванняў распрацавана ў пач. 16 ст. германскім інжынерам А.Дзюрэрам. У Беларусі Б. выкарыстоўваліся ў абарончай сістэме 16—17 ст. Мядзельскага (на востраве воз. Мястра) і Геранёнскага (Іўеўскі р-н) замкаў. Магчыма, Б. ў спалучэнні з вежамі ўваходзілі ў абарончыя сістэмы замкаў-фартэцый, якія будавалі па загаду Івана IV на занятых яго войскамі землях Беларусі (пераважна ў Падзвінні) пад час Інфлянцкай вайны 1558—82. Невял. колькасць на бел. землях умацаванняў з Б. тлумачыцца даволі хуткім пераходам да будаўніцтва бастыёнаў замест гэтых абарончых збудаванняў.

*Літ.*: Гл. пры арт. *Бастыён.* *Ю.А.Заяц.*

**БАЦВІ́НАВА**, археалагічны помнік — курганны могільнік радзімічаў каля в. Бацвінава Чачэрскага р-на Гомельскай вобл. 18 насыпаў выш. 1,5—3 м, дыям. 6—12 м. У 1967 даследавала 18 курганоў Г.Ф.Салаўёва. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце на попельным слоі і ў яме (1), парныя і адзінкавыя. У аснаванні насыпаў маюцца характэрныя для радзімічаў «вогненныя кольцы». Жаночыя пахаванні — галавой на З, мужчынскія і парныя — на У. Суправаджальны інвентар: падкованападобныя фібулы, рэшткі паяснога набору, нож у ножнах на масіўным ланцугу, сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы, грыўня, бранзалеты, пярсцёнкі, лунніцы, крыжыкі круглаканцавыя, пятлістыя, язычковыя, дырхем 10 ст. Пахаванне ў яме галавой на Пд, у калодзе. Пахавальны інвентар: бранзалет, 2 нажы, фібулы. У 3



*А.А.Башкоў.*

курганах пахаванні не захаваліся. Могільнік датуецца 11—12 ст.

*Літ.*: С о л о в ь е в а Г.Ф. Славянские курганы у с. Ботвиновка Гомельской области // КСИА. 1982. Вып. 171.

**БАЦЭ́ВІЧЫ**, археалагічныя помнікі — курганны могільнік і селішча каля в. Бацэвічы Клічаўскага р-на Магілёўскай вобл. У 1892 згадаў М.Мышанкоў.

С е л і ш ч а на высокім участку левага берага р. Ольса. Выяўлена ў 1993 у выніку раскопак кургана, а таксама на падставе шурфоўкі паміж курганных насыпаў. Знойдзены матэрыялы каменнага веку, эпохі бронзы, ранняга жал. веку. Пра сабраныя ў 1888 у абрыве берага ракі крамянёвыя вырабы і фр-ты арнаментаванага посуду пісаў таксама М.Мышанкоў. Матэрыялы адносяцца да днепра-данецкай, сярэднедняпроўскай, тшцінецкай культур і эпохі ранняга жалеза.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к *дрыгавічоў* на месцы селішча. 8 насыпаў дыям. 9—15 м, выш. 0,44—1,2 м. У 1993 М.М.Крывальцэвіч даследаваў 1 курган дыям. каля 10 м, выш. 0,44 м на зах. ускраіне могільніка. Пад насыпам на ўзроўні пахаванай глебы прасочваўся кругавы равок шыр. 0,6—0,8 м, глыб. 0,2—0,65 м. У паўд.-зах. сектары знойдзены жал. серп. Рэшткі жаночага пахавання (узрост 20—25 гадоў, паводле І.І.Салівон) знаходзіліся пад насыпам на гарызонце ў цэнтр. частцы кургана, галавой на ПнЗ. За яго галавой на пляцоўцы памерамі 2,6 × 0,4—0,7 м знойдзены рэшткі спалення таўшч. 10—12 см. Каля ног нябожчыцы ляжалі фр-ты кругавога гаршка з хвалістым і гарызантальным арнаментам. Суправаджальны інвентар: бронзавыя прывеска-медальён з заамарфнай выявай, цыліндрычная ажурная пацерка на драцяным каркасе, вял. цыліндрычная буйназярнёная пацерка на драцяным каркасе, кольца няправільнай формы з загнутым у паўтараабаротны завіток канцом, трохпацеркавае скроневае кольца з паўтараабаротным завітком і 3 ажурнымі зярнёнымі пацеркамі на драцяных каркасах, зярнёная ажурная пацерка, фр-т шарападобнай зярнёнай пацеркі з шарыкамі фіялетавага колеру, напаянымі на металічны каркас жоўтага колеру, сердалікавая біпірамідальная і фр-ты шкляных мазаічных пацерак. Датуецца 1-й пал. 12 ст.

*Літ.*: М ы ш е н к о в Н. Курганы Бобруйского уезда Минской губернии // Вестн. археологии и истории. Санкт-Петербург, 1892. Вып. 9; К р ы в а л ь ц э в і ч М.М. Археалагічныя даследаванні ў басейне ракі Вольсы // Гістарычныя лёсы Верхняга Падняпроўя: рэгіянальная навук. канф. Магілёў, 1995. Ч. 2; К р ы в а л ь ц э в і ч М., К о ш м а н В. Раскопкі дрыгавіцкага кургана каля вёскі Бацэвічы Клічаўскага раёна // БГЧ. 2005. № 1.

*М.М.Крывальцэвіч.*

*Інвентар жаночага пахавання з курганнага могільніка* ***Бацэвічы****: 1 — бронзавая прывеска-медальён, 2 —трохпацеркавае скроневае кольца, 3 — шарападобная зярнёная пацерка, 4 — сердалікавая біпірамідальная пацерка, 5 — бронзавая цыліндрычная буйназярнёная пацерка.*




**БАШКО́Ў** Аляксандр Аляксандравіч (н. 12.12. 1972, г.п. Гарадзішча Баранавіцкага р-на Брэсцкай вобл.), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (2000). Скончыў Брэсцкі педагагічны ін-т імя А.С.Пушкіна (1994). З 1994 у Брэсцкім абл. краязнаўчым музеі, у 1995—97 і з 2000 у Брэсцкім ун-це імя А.С.Пушкіна (БрДУ), у т.л. намеснік дэкана ў 2003—05. Арганізатар і кіраўнік музейнай экспазіцыі пры кафедры гісторыі слав. народаў БрДУ. Вывучае ранняе хрысціянства ў Беларусі, археалогію Зах. Беларусі. Праводзіў археал. раскопкі познасярэдневяковага могільніка каля г. Камянец, палацава-паркавых комплексаў у в. Воўчын Камянецкага і г.п. Ружаны Пружанскага р-наў, палаца 1-й пал. 19 ст. ў г. Косава Івацэвіцкага р-на, археал. разведкі ў Брэсцкай вобл.

*Тв.*: Влияние северорусской культурной традиции на византийское наследие в декоративной пластике конца X—XIV вв. (на примере предметов христианского культа из Беларуси) // Беларуска-грэчаскія ўзаемасувязі: ад старажытнасці да сучаснасці: матэрыялы міжнар. навук. канф. Мінск, 2000; Старажытныя хрысціянскія святыні ў кантэксце духоўнай культуры Палесся XX ст. // Białoruskie zeszyty historyczne: Białoruskie Towarzystwo Historyczne. Białystok, 2002. № 17; The Major Problems of the Study of Devotional Objects of the 10—14 c. in Belarus // Trade Routes and Pilgrimage Trails as a Factor of Integration anctuaries and Cult. Łodź, 2004.

*В.І.Кошман.*

**БДЫН**, пахавальнае збудаванне, якое ставілася над магілай. У слав. фальклоры вядомы як «хатка смерці». У пісьмовых помніках 11—13 ст. найчасцей наз. «столп» і абазначаў невял. домік, келлю, вартоўню, надмагілле. Выконваў функцыі памяці пра нябожчыка, прыстанішча для яго душы, ахові пахавання ад знешніх уздзеянняў (атмасферных ападкаў, жывёл і г.д.). Паводле меркаванняў археолага Б.А.Рыбакова, дамавіны ў выглядзе невял. хатак над пахаваннямі палян, радзімічаў і драўлян паявіліся ў раннім жал. веку (зарубінецкая культура), былі распаўсюджаны да звычаю пахавання ў курганах, зноў паявіліся пасля яго адмірання і існавалі да 19 ст. У слав. курганах эпохі Кіеўскай Русі на тэр. Беларусі сустракаюцца рэшткі Б. 2 тыпаў: зрубавыя (з бярвён) і слупавыя (з каркасам з тонкіх слупоў, якія замацоўваліся

цвікамі). Этнографы сустракалі дамавіны ў выглядзе драўляных зрубавых домікаў памерамі 1,5 × 2 м з 2-схільным дахам і маленькім акенцам.

*Літ.*: Р ы б а к о в Б.А. Нестор о славянских обычаях // Древние славяне и их соседи. М., 1970 (МИА. № 176); Б о г о м о л ь н и к о в В.В. Причины изменений погребального обряда радимичей // Древности Белоруссии и Литвы. Минск, 1982.

**БЕЗ-КАРНІЛО́ВІЧ** Міхаіл Восіпавіч (10.10.1796, Магілёўская губ. — 19.1.1862), беларускі гісторык, краязнавец і этнограф, ваенны тапограф і статыстык. Генерал-маёр расійскай арміі. Брат дзекабрыста А.В.Карніловіча. Скончыў 1-ы кадэцкі корпус (1816). Удзельнік вайны з Турцыяй 1828—29. У 1831—47 кіраваў тапаграфічнай экспедыцыяй у Мінскай, Наўгародскай, Валынскай, Віцебскай, Магілёўскай губернях і Беластоцкай вобл. З 1852 у адстаўцы. Аўтар прац па гісторыі Беларусі, якую абмяжоўваў Віцебскай і Магілёўскай губернямі, астатнія бел. землі называў Літвой. Вывучаў гіст. дакументы ў дзярж., манастырскіх, прыватных архівах. Апісваў побыт бел. сялян, помнікі дойлідства, археалогіі і этнаграфіі, запісваў нар. паданні пра іх. Збіраў краязнаўчыя звесткі пра Віцебск, Полацк, Магілёў, Друцк, Оршу, Мсціслаў, Азярышча, Копысь, Лепель, Чэрыкаў і інш. бел. гарады і мястэчкі, адзначаў у іх археал. аб'екты. У Магілёве побач з горадам выявіў в. Магіла з мноствам курганоў, якія таксама зафіксаваў паміж Прапойскам і в. Лясная; у Дрысе выявіў сляды замка.

*Тв.*: Витебская губерния. Санкт-Петербург, 1852; Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся. Санкт-Петербург, 1855 (репр. изд. Минск, 1995).

**БЕКЦІНЕ́ЕЎ** Шаміль Іршатавіч (н. 31.8.1947, г. Патсдам, Германія), беларускі археолаг і нумізмат. Канд. гіст. навук (1990). Скончыў БДУ (1977). З 1970 працуе ў ІГ НАН Беларусі, з 1994 старшы навук. супрацоўнік. Даследуе нумізматыку, гісторыю грашовага абароту і метралогію на тэр. сучаснай Беларусі з 10 ст. да Люблінскай уніі 1569, гісторыю напалеонаўскіх войн (1796—1815), палкоў і інш. фарміраванняў расійскай арміі з бел. найменнямі (1772—1918), татар і казацтва Расійскай імперыі. Выказаў гіпотэзу пра існаванне на тэр. полацка-віцебскага Падзвіння ў 2-й пал. 13 — к. 14 ст. рэгіянальнай грашова-вагавай сістэмы як прататыпа агульнадзярж. грашовай сістэмы ВКЛ у к. 14 — сяр. 15 ст. Склаў каталог гірак-разнаваг, знойдзеных у Беларусі, вызначыў іх ролю ў вывучэнні грашовага абарачэння. Адзін з аўтараў «Археалогіі Беларусі» (т. 4, 2001).

*Тв.*: Грашова-вагавая сістэма XIV ст. ў Полацка-Віцебскім Падзвінні // ВАНБ. 1989. № 2; Денежное обращение Великого княжества Литовского в XIII—XV вв. Минск, 1994; Слуцкий клад 1902 года: (к истории денежного обращения Великого княжества Литовского на рубеже XIV и XV вв.) // ГАЗ. Мінск, 1996. № 10; «Осьмак» в денежных системах Великого княжества Литовского XVI—XVIII вв. (у сааўт.) // Наука и инновации. 2004. № 8.



*Ш.І.Бекцінееў.*

**БЕЛАВЕ́ЖСКАЯ ПУ́ШЧА**, археалагічныя помнікі на тэрыторыі нацыянальнага парку Белавежская пушча.

Першыя археал. аб'екты на бел. тэр. Б.п. зафіксаваны ў 19 ст. У пач. 20 ст. А.Гётцэ правёў улік, сістэматызацыю і раскопкі курганоў. У к. 20 ст. знойдзены некалькі стаянак і паселішчаў каменнага, бронзавага і жал. вякоў, а таксама распачаты даследаванні курганных могільнікаў (В.С.Вяргей, В.Л.Лакіза, А.В.Квяткоўская, В.Г. Белявец).

Мэтанакіраваныя і шырокамаштабныя археал. даследаванні на тэр. нац. парку супрацоўнікі ІГ НАН Беларусі (В.Л.Лакіза, В.Г.Белявец, А.Г. Калечыц) пачалі праводзіць з 2007. У выніку суцэльнага абследавання асобных участкаў пушчы ў басейнах рэк Белая, Лясная Правая, Нараў, Нараўка на тэр. Камянецкага, Пружанскага р-наў Брэсцкай вобл. і Свіслацкага р-на Гродзенскай вобл. зафіксавана звыш 50 першабытных помнікаў: Вілы-1, 2; Селішча Малое-1, 2, 3; Селішча Вялікае-1, 2, 3; Камянюкі-1, 2—12; Язвы-1, 2, 3; Стаўповіскі-1, 2, 3; Шышова-1, 2, 3; Роўбіцк 1, 2, 3; Рудня-1—5; Язвіны-1; Броўск і інш.

У 2007—08 В.Л.Лакіза правёў раскопкі і шурфоўку на стаянках і паселішчах каменнага і бронзавага вякоў Вілы-1 (40 м$^2$), Вілы-2 (24 м$^2$), Селішча Малое-1 (6 м$^2$), Селішча Малое-3 (15 м$^2$), Камянюкі-6 (65 м$^2$), Камянюкі-9 (6 м$^2$), А.Г.Калечыц даследавала паселішча Камянюкі-2 (110 м$^2$), В.Г.Белявец — Камянюкі-1 (20 м$^2$). У выніку атрыманы тысячы новых артэфактаў: крамянёвыя вырабы, наканечнікі стрэл, фр-ты ляпной арнаментаванай керамікі эпохі неаліту, бронзавага і жал. вякоў. Праведзена іх папярэдняя культ.-храналагічная ідэнтыфікацыя. Вызначана, што першыя людзі з'явіліся на гэтай тэр. ў фінальным палеаліце (культуры лінгбі і свідэрская) 14—10 тыс. гадоў назад (Язвы, Камянюкі). Да каморніцкай і кудлаеўскай культур 8—7-га тыс. да н.э. (Камянюкі-2, Вілы-1) адносіцца наступны этап засялення, якое дзякуючы носьбітам яніславіцкай культуры ў познім мезаліце (6—5-е тыс. да н.э.) стала яшчэ больш актыўным (Вілы-1, Селішча Малое-3, Камянюкі-2, 9). У неаліце спачатку з'яўляецца насельніцтва прыпяцка-нёманскай (5—4-е тыс. да н.э.), затым нёманскай культуры (4—3-е тыс. да н.э.; Вілы-2, Селішча Малое-2, 3, Камянюкі-2, 8, 9). З позняга неаліту (3-е — пач. 2-га тыс. да н.э.) прастора сучаснай пушчы ўваходзіць у арэал культур шарападобных амфар і шнуравой керамікі (Вілы-2, Селішча Вялікае-3, Камянюкі-2, 6, Рудня-3, Боркі-1). У бронзавым веку тут распаўсюджваюцца традыцыі тшцінецкай і лужыцкай (Селішча Малое-1, 3), а ў жал. веку — вельбарскай і пшэворскай культур (Гарошкаўка-1, Панасюкі-1).

*Літ.*: Л а к і з а В.Л. Вывучэнне помнікаў каменнага і бронзавага вякоў на тэрыторыі Белавежскай пушчы ў 2007 г. // МАБ. 2009. Вып. 17. *В.Л.Лакіза.*

**БЕЛАРУ́СКАЕ ДОБРААХВО́ТНАЕ ТАВАРЫ́СТВА АХО́ВЫ ПО́МНІКАЎ ГІСТО́РЫІ І КУЛЬТУ́РЫ**, масавая грамадская арганізацыя. Утвора-

на ў 1966. Вышэйшы кіруючы орган — з'езд (склікаецца не радзей, як 1 раз у 5 гадоў), які разглядае і прымае статут, уносіць у яго змены і дапаўненні, выбірае Рэспубліканскі савет, прэзідыум і рэвізійную камісію. Адбылося 9 з'ездаў т-ва (1966, 1971, 1977, 1981, 1986, 1991, 1996, 2001, 2007). Кіруючы орган паміж з'ездамі — Рэспубліканскі савет, выканаўчы — прэзідыум. У складзе т-ва працуюць (2009) 6 абл. і Мінскае гар. аддзяленні, раённыя і гар. саветы, пярвічныя арганізацыі.

Т-ва з дапамогай насельніцтва, грамадскасці і навук. устаноў праводзіць работу па выяўленні, вывучэнні і ўліку помнікаў гісторыі і культуры, забеспячэнні іх аховы, уносіць прапановы ў кампетэнтныя органы аб уключэнні выяўленых аб'ектаў у Дзярж. спіс гісторыка-культ. каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь. Ажыццяўляе грамадскі кантроль за выкананнем заканадаўства аб ахове гісторыка-культ. спадчыны. Арганізуе і праводзіць навук. і навук.-практычныя канферэнцыі па пытаннях захавання гісторыка-культ. спадчыны. У 1960—90-я г. т-ва фінансавала работы па кансервацыі і рэстаўрацыі унікальных помнікаў архітэктуры, археалогіі, гісторыі, сярод якіх Полацкі Сафійскі сабор, Мірскі замак, Заслаўская Спаса-Праабражэнская царква і інш. Выдае кнігі, брашуры, буклеты, плакаты гіст. і археал. тэматыкі. Найб. значныя выданні т-ва 1970—80-х г.: «*Археалагічная карта Беларусі*», «Гарады Беларусі па летапісах і раскопках (IX—XIII стст.)» Г.В.Штыхава і «Старажытная гісторыя Усходняга Палесся» У.Ф.Ісаенкі (1975), «Замкі Беларусі (XIII—XVII ст.)» М.Ткачова і «Заслаўскі гісторыка-археалагічны запаведнік» С.А.Мілючэнкава (1977), «Археалагічныя помнікі Гомельшчыны» У.У.Багамольнікава і А.А.Макушнікава, «Археалагічныя помнікі Міншчыны» М.М.Чарняўскага (1988). У 1970—89 выдавала штоквартальны бюлетэнь «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі», у 1989—96 сумесна з Бел. фондам культуры — час. «*Спадчына*». Выдае зб. навук. матэрыялаў «Каштоўнасці мінуўшчыны» (у 1998—2008 выйшла 9 выпускаў).

*У.М.Дзянісаў, Г.А.Саўчанка.*

**БЕЛАРУ́СКАЕ КРАЯЗНА́ЎЧАЕ ТАВАРЫ́СТВА** (БКТ), добраахвотная грамадская арганізацыя ў БССР і Рэспубліцы Беларусь. Існавала ў 1989—95. Было створана ў Мінску, мела краязнаўчыя аб'яднанні БКТ ва ўсіх абл. цэнтрах, мясц. арганізацыі амаль ва ўсіх раёнах Беларусі. Дзейнічала на аснове прынцыпаў, распрацаваных Цэнтр. бюро краязнаўства (з 1923) пры Інбелкульце, а таксама камісіяй па краязнаўстве (з 1987) Бел.



Аўтар В.Л. Лакіза

фонду культуры. Кіраўнічыя органы — рада і сакратарыят. Ставіла мэтай спрыянне нац. адраджэнню Беларусі праз творчую, навук. і асветную дзейнасць па вывучэнні канкрэтных мясцін або рэгіёнаў Беларусі; стварэнне ў кожным раёне грамадскіх структур па развіцці краязнаўчага руху. Вяло работу па выпуску краязнаўчай літаратуры, літаратуры пра асобныя помнікі бел. гісторыі і саміх краязнаўцаў.

**«БЕЛАРУ́СКАЯ АРХЕАЛО́ГІЯ»**, зборнік прац па беларускай археалогіі. Выдадзены ў 1987 у Мінску на рус. мове. Падрыхтаваны супрацоўнікамі ІГ НАН Беларусі. У кнізе абагульнены вынікі археал. даследаванняў на тэр. Беларусі за гады савецкай улады. Пададзена гісторыя арганізацыі і асн. праблемы археал. навукі ў Беларусі, кароткая характарыстыка археал. выданняў, названы даследчыкі, якія працавалі на тэр. рэспублікі, адлюстравана супрацоўніцтва бел. вучоных з вучонымі Масквы, Ленінграда, Украіны, Літвы, Польшчы. Зроблены агляд вывучэння культур каменнага і бронзавага вякоў у Палессі, Падняпроўі, Панямонні і Падзвінні (У.Ф.Ісаенка, А.Г.Калечыц, М.М.Чарняўскі), аналіз знаходак з гарадзішчаў, паселішчаў, могільнікаў жал. веку (В.С.Вяргей, Г.В.Штыхаў), матэрыялаў раскопак помнікаў сярэдневякоўя (Т.М.Каробушкіна, Я.Г.Звяруга). Зборнік ілюстраваны фотаздымкамі і замалёўкамі рэчавых знаходак, мае бібліяграфію.

*У.У.Багамольнікаў.*

**БЕЛАРУ́СКІ ДЗЯРЖА́ЎНЫ ПЕДАГАГІ́ЧНЫ УНІВЕРСІТЭ́Т** (БДПУ) імя Максіма Танка. Засн. ў 1922 як педагагічны ф-т БДУ, з 1931 Бел. дзярж. вышэйшы педагагічны ін-т, з 1935 Мінскі дзярж. педагагічны ін-т (МДПІ) імя М.Горкага, з 1993 — ун-т, з 1995 сучасная назва. У 1954 у МДПІ, як і ва ўсіх на той час педагагічных ін-тах, на гіст. ф-це ўведзены курс па археалогіі. Першым выкладчыкам гэтай дысцыпліны быў вядомы бел. археолаг В.Р.Тарасенка, які часова перайшоў у МДПІ з АН БССР і працаваў на кафедры ўсеагульнай гісторыі. У далейшым археалогію выкладалі Э.М.Загарульскі, Г.В.Штыхаў, М.І.Лашанкоў, Л.У.Калядзінскі. З 1986 выкладанне курса археалогіі ў БДПУ праводзіцца ў рамках штатнага раскладу, спачатку на базе кафедры гісторыі (заг. А.М.Люты), з 1992 — на кафедры дапаможных гіст. дысцыплін і методыкі выкладання гісторыі (заг. І.І.Багдановіч). Першым штатным выкладчыкам археалогіі ў БДПУ была Л.Г.Панічава, у 1995 да яе далучыўся Л.У.Калядзінскі. Амаль палова ўсіх археолагаў Беларусі з'яўляецца выпускнікамі ун-та. Сярод іх П.Ф.Лысенка (д-р гіст. навук, праф., лаўрэат Дзярж. прэміі Рэспублікі Беларусь), вядомыя ў сваёй галіне даследавання спецыялісты Ю.М.Бохан (д-р гіст. навук), М.М.Чарняўскі, Ю.А.Заяц, М.І.Лашанкоў, М.М. Крывальцэвіч, С.В.Тарасаў, Г.М.Сагановіч, І.У. Ганецкая, В.І.Кошман (кандыдаты гіст. навук), С.Д.Дзярновіч. Да 2005 уключна існавала палявая археал. практыка. Да 1991 студэнты гіст. ф-та БДПУ (на той час МДПІ) бралі ўдзел у археал. раскопках антычнага паселішча Херсанес (Крым, г. Севастопаль; кіраўнік практыкі В.І.Гарамыкіна), у раскопках паселішча Менка (кіраўнік Г.В.Штыхаў), да 1996 — паселішча Прудніке (кіраўнік В.І.Шадыра), у 1986—92 — у раскопках сярэдневяковага Пскова, у 1993 у Навагрудку (кіраўнік Л.Г.Панічава). Л.У.Калядзінскі ўзначальваў археал. практыку студэнтаў у Слуцку (1986), на раскопках курганнай групы каля в. Сухарава Мінскага р-на (1995), сядзібы 16—19 ст. у Лошыцы (Мінск, 2001), Верхняга і Ніжняга Менска 13—18 ст. (2002—04), стараж. Капыля (1996— 99, 2005). У час практыкі ў Капылі раскопкі ахапілі дзяцінец, вакольны горад і курганныя могільнікі як горада, так і сельскай акругі. Ускрытая студэнтамі пл. раскопак на дзяцінцы і вакольным горадзе складае каля 600 м², вывучаны 4 курганы. Матэрыялы раскопак знаходзяцца ў экспазіцыі і фондах Капыльскага краязнаўчага музея, адлюстраваны ў навук., навук.-метадычных і навук.-папулярных выданнях, выкарыстоўваюцца пры чытанні вучэбнага курса «Асновы археалогіі». Пагадненнем паміж БДПУ і ІГ НАН Беларусі, заключаным у 2006, прадугледжваецца ўдзел студэнтаў БДПУ у археал. разведках і раскопках ін-та, а таксама сумесная падрыхтоўка і публікацыя матэрыялаў па выніках н.-д. работ, арганізацыя сумесных навук. канферэнцый і інш.

*Літ.*: Калядзінскі Л.У. Археалогія ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце (з вопыту работы) // Проблемы археологии и древней истории Верхнего Поднепровья и соседних территорий. Международная научная конференция (30 янв. — 1 февр. 2002 г.): докл., сообщения. Могилев, 2002; Я г о ж. Археология в Белорусском государственном педагогическом университете: история, состояние, перспективы... // История и практика археологических исследований: материалы Междунар. науч. конф., посвящ. 150-летию со дня рождения чл.-корреспондента АН СССР, профессора А.А.Спицына. Санкт-Петербург, 26—30 нояб. 2008 г. Санкт-Петербург, 2008; Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя М.Танка: гісторыя і сучаснасць (1922—2002). Мінск, 2002.

*М.М.Забаўскі, Л.У.Калядзінскі.*

**БЕЛАРУ́СКІ ДЗЯРЖА́ЎНЫ УНІВЕРСІТЭ́Т** (БДУ), вядучая класічная вышэйшая навучальная ўстанова ў сістэме адукацыі Рэспублікі Беларусь. Засн. ў 1921 у Мінску. Археал. даследаванні выкладчыкі і студэнты БДУ пачалі ў 1926, з разгортваннем дзейнасці краязнаўчага т-ва, якое ўзначаліў першы рэктар БДУ праф. У.І.Пічэта. Т-ва мела на мэце вывучэнне Беларусі ў прыродна-геаграфічным, сацыяльна-эканамічным, культ. і гіст. кірунках. У першых экспедыцыях 1925—28 актыўны ўдзел прымалі А.Дз.Каваленя, С.С.Шутаў, М.М.Улашчык. У 1973 пры гіст. ф-це створана кафедра археалогіі, этнаграфіі і дапаможных гіст. дысцыплін (з 2001 — кафедра археалогіі, этнаграфіі і спец. гіст. дысцыплін), яе першым загадчыкам стаў д-р гіст. навук Э.М.Загарульскі. З 1997 кафедру ўзначальвае д-р гіст. навук А.А.Егарэйчанка.

Спектр навук. інтарэсаў супрацоўнікаў кафедры ахоплівае праблемы этнагенезу і ранняй гісторыі славян, жал. век і ранняе сярэдневякоўе на тэр. Беларусі, сярод напрамкаў даследаванняў — нумізматыка, сфрагістыка, геральдыка, палеаграфія і інш. Апублікаваны манаграфіі: Э.М.Загарульскага — «Старажытная гісторыя Беларусі. Нарысы этнічнай гісторыі і матэрыяльнай культуры да IX ст.» (1977), «Узнікненне Мінска» (1982), «Генеалогія полацкіх Ізяславічаў» (1994), «Вішчынскі замак» (2004); А.А.Егарэйчанкі — «Старажытныя гарадзішчы Беларускага Палесся» (1996), «Культуры штрыхаванай керамікі» (2006); В.Н.Рабцэвіча — «Пра што расказваюць манеты» (1968), «Нумізматыка Беларусі» (1995), «Расійска-польскія манетныя эмісіі эпохі Пятра I» (1995); М.М.Чарняўскага — «Неаліт беларускага Панямоння» (1979), «Старажытныя шахцёры на Росі» (1996), «Ілюстраваная гісторыя старадаўняй Беларусі» (2003) і інш. Супрацоўнікі кафедры прымалі ўдзел у стварэнні значных абагульняючых прац. Э.М.Загарульскі з'яўляецца аўтарам раздзелаў у «Гісторыі Беларускай ССР» (т. 1, 1984) і «Гісторыі сялянства Беларусі» (т. 1, 1997), А.А.Егарэйчанка — «Археалогіі Беларусі» (т. 1, 1996), В.Н.Рабцэвіч — «Нарысаў па археалогіі Беларусі» (1970), М.М.Чарняўскі — «Нарысаў па археалогіі Беларусі» (1970), «Археалогіі Беларусі» (1996), «Гісторыі беларускага мастацтва» (т. 1, 1987), «Гісторыі Беларусі» (т. 1, 2000). Акрамя таго, на кафедры распрацаваны першыя ў Беларусі падручнікі і вучэбныя дапаможнікі па археалогіі, палеаграфіі і гіст. краязнаўстве. Калектывам аўтараў БДУ створаны падручнік «Гістарычнае краязнаўства ў Беларусі» (1980). Э.М.Загарульскі з'яўляецца таксама аўтарам кніг «Археалогія Беларусі» (1965), «Заходняя Русь IX—XIII стст.» (1998), «Гісторыя Беларусі ў кароткім выкладанні» (2002), падручнікаў па гісторыі Беларусі для 4—6-х класаў (1998—2001), А.І.Груша — манаграфіі «Беларуская кірылічная палеаграфія» (2006).

Выкладчыкі кафедры забяспечваюць штогадовую археал. практыку студэнтаў гіст. ф-та (існуе з 1958), у час якой рэалізуюцца навук. і навучальна-метадычныя задачы. Археал. экспедыцыі БДУ працавалі ў Рагачове (1973, 1975—76), Копысі (1972), Мінску (1974). Э.М.Загарульскі ў 1976—85 даследаваў раннефеад. замак Вішчын, дзе быў знойдзены унікальны грашова-рэчавы скарб 12—13 ст. Археал. даследаванні праводзіліся ў 1963—89 на шэрагу гарадзішчаў жал. веку і ранняга сярэдневякоўя (Зазоны, Княгінін, Строчыцы і інш.), курганных могільнікаў 10—13 ст. (Гадзілавічы, Наўры, Укля і інш.). З 2005 экспедыцыі даследуюць помнік фінальнага палеаліту Кавальцы-4 у Гродзенскім р-не, у 2008 праведзены раскопкі на гарадзішчы бронзавага веку Асавец (Віцебская вобл.) і ў раёне красасельскіх крэменездабыўных шахт (Гродзенская вобл.). Знойдзеныя ў час экспедыцый матэрыялы, якія характарызуюць розныя аспекты і перыяды стараж. гісторыі Беларусі, сталі базай для стварэння археал. экспазіцыі пры вучэбнай лабараторыі музейнай справы гіст. ф-та. Падараваны ун-ту В.Н.Рабцэвічам збор манет (4 ст. да н.э. — 18 ст. н.э.) стаў асновай нумізматычнага аддзела. Экспазіцыя і фонды створанага пры БДУ музея




*Супрацоўнікі кафедры археалогіі і спецыяльных гістарычных дысцыплін* ***Беларускага дзяржаўнага універсітэта****, злева направа ў 1-м радзе: І.М.Колабава, А.М.Ваганава, Л.А.Мацвеева; у 2-м радзе: М.М.Чарняўскі, Э.М.Загарульскі, А.А.Егарэйчанка, А.М.Плавінскі.*

гісторыі шырока выкарыстоўваюцца пры распрацоўцы навук. праблем і ў навучальным працэсе.

Ун-т прыцягвае да чытання лекцый вядучых спецыялістаў НАН Беларусі ў галіне археалогіі і антрапалогіі, падтрымлівае цесныя кантакты з калегамі н.-д. цэнтраў і ВНУ Масквы, Санкт-Пецярбурга, Варшавы, Кракава, Стакгольма, Кіева. Доўгі час адбываўся абмен студэнтамі ў перыяд археал. практык з Ягелонскім ун-там у Кракаве. З 2005 студэнты БДУ удзельнічаюць у раскопках на в-аве Готланд (Швецыя) у рамках сумеснага праекта REACH-2, шведскія студэнты ў 2005—06 працавалі ў археал. экспедыцыі на гарадзішча Рацюнкі ў Браслаўскім р-не Віцебскай вобл.

*А.М.Ваганава.*

**«БЕЛАРУ́СКІЯ СТАРАЖЫ́ТНАСЦІ»**, зборнік дакладаў канферэнцыі па археалогіі Беларусі, якая адбылася ў студзені—лютым 1968. Выдадзены ў 1967 на рус. мове. Складаецца з матэрыялаў, прысвечаных розным эпохам стараж. гісторыі Беларусі ад верхняга палеаліту да ранняга феадалізму, у т.л. пра стаянку Юравічы Калінкавіцкага р-на (У.Дз.Будзько), неалітычныя помнікі на ніжняй Прыпяці (У.Ф.Ісаенка) і ў вярхоўі Дняпра (В.Р.Тарасенка), новыя дадзеныя па спрэчных пытаннях бронзавага веку на тэр. Беларусі (У.Ф. Ісаенка, М.М.Чарняўскі), пра паселішча Шчаткава Бабруйскага р-на (Л.Д.Побаль), гарадзішча Банцараўшчына Мінскага р-на (А.Р.Мітрафанаў), полацкае каменнае дойлідства (Г.В.Штыхаў), зброю (Я.Г.Зверуга) і фауну (В.В.Шчаглова, Я.Г.Зверуга) стараж. Ваўкавыска, раннеслав. паселішчы ў ніжнім цячэнні р. Свіслач (Ю.І.Драгун), вынікі нумізматычных даследаванняў на тэр. Беларусі (В.Н.Рабцэвіч). Кніга ілюстравана малюнкамі і табліцамі. Даецца бібліяграфічны матэрыял.

**«БЕЛАРУ́СКІЯ СТАРАЖЫ́ТНАСЦІ»**, зборнік матэрыялаў канферэнцыі па археалогіі БССР і сумежных тэр., якая адбылася 28—30.3.1972 у ІГ АН Беларусі. Выдадзены ў 1972 у Мінску на рус. мове. Складаецца з дакладаў і паведамленняў пра даследаванні помнікаў розных эпох, у т.л. пра неалітычную кераміку Палесся (У.Ф.Ісаенка), паходжанне банцараўскай культуры (А.Р.Мітрафанаў), фауну селішча Камень Пінскага р-на (В.В. Шчаглова), стараж. паселішчы на сярэдняй Бярэзіне (Л.Д.Побаль), курганы ў вёсках Эсьмоны Бялыніцкага (Я.Р.Рыер) і Капысіца Шклоўскага (А.А.Вержыкоўскі) р-наў, курганы Полацкай зямлі (Г.В.Штыхаў), звесткі з гісторыі Навагрудка (М.І.Ермаловіч), археал. даследаванні Брэста (П.Ф.Лысенка), Слоніма (Я.Г.Зверуга), месцазнаходжанне летапісных гарадоў Вевярэцк і Астрэя (В.В.Сядоў), паходжанне гарадоў Чорнай Русі (Ф.Д.Гурэвіч), пра вежы валынскага тыпу і іх пашырэнне на тэр. Беларусі (М.А.Ткачоў), рагавыя прылады працы з-пад Смаргоні (М.М.Чарняўскі, П.Ф.Каліноўскі), манеты Дзягцянскага манетна-рэчавага скарбу (В.Н.Рабцэвіч). Ілюстраваны малюнкамі, дадзена бібліяграфія.

*Г.В.Штыхаў.*

**БЕ́ЛАЯ САРО́КА**, археалагічны помнік — паселішча каля б. в. Белая Сарока Нараўлянскага р-на Гомельскай вобл. За 1—1,5 км на ПнЗ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе р. Прыпяць, на выш. 3—4 м над поймай. Абмежавана з трох бакоў балотамі, з чацвёртага — старыцай р. Прыпяць. Памеры 200 × 80 м. Адкрыў у 1962 і даследаваў у 1972 У.Ф.Ісаенка. Знойдзена 27 мікралітычных пласцінак з прытупленым рэтушшу краем, 600 апрацаваных крэменяў (нуклеусы, трапецыі, прамавугольнікі), 123 крамянёвыя прылады працы (нажы са скошаным канцом, скрабкі, скоблі, разцы, рэтушоры, праколкі, свярдзёлкі) і свідэрскія, постсвідэрскія, тронкавыя, вербалістыя наканечнікі стрэл, рэшткі 4 вогнішчаў. Датуецца 8—5-м тыс. да н.э.

*Літ.*: Исаенко В.Ф. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976.

*У.Ф.Ісаенка.*

**БЕ́ЛІЦА**, археалагічныя помнікі — стаянкі каля в. Беліца Лідскага р-на Гродзенскай вобл.

Стаянка-1 за 0,5 км на Пд ад вёскі, на краі правабярэжнай тэрасы выш. 8 м, ніжэй упадзення р. Залатая ў р. Нёман. Даўж. уздоўж краю



*Крамянёвы інвентар са стаянкі-2 Беліца.*

тэрасы каля 1,5 км, шыр. 60—70 м. Выявіў у 1970 Г.І.Гарэцкі, даследаваў у 1970-я г. М.М.Чарняўскі. Культ. пласт да 0,3—0,4 м. Знойдзены крамянёвыя лістападобныя і трохвугольныя наканечнікі стрэл, бакавыя і клінападобныя разцы, скрабкі на пласцінах і адшчэпах, нажы, праколкі, сякеры, нуклеусы, у т.л. двухпляцовачныя прызматычныя, трапляюцца фр-ты керамікі з раслннымі дамешкамі ў гліне і інш. Адносіцца да *свідэрскай культуры* фінальнага палеаліту і мезаліту, ранняга этапу ***нёманскай культуры*** і ранняга бронзавага веку.

С т а я н к а - 2 у пойме правага берага р. Нёман, ніжэй упадзення ў яго р. Залатая. Памеры 40 × 180 м. Выявіў у 1970 Г.І.Гарэцкі, даследаваў у 1977—79 і 1982 М.М.Чарняўскі, ускрыта пл. каля 600 м$^2$. Культ. пласт 0,3—0,4 м. У паглыбленнях выяўлены невял. агнішчы, знойдзены крамянёвыя скрабкі на адшчэпах, бакавыя і вуглавыя разцы, трапецыі, вастрыі, скоблі, нажы, аднапляцовачныя нуклеусы. Стаянка адносіцца да позняга мезаліту, крамянёвы матэрыял мае рысы *яніславіцкай культуры*.

С т а я н к а - 4 на схіле надпоймавай тэрасы, на паўд. ускраіне вёскі. Памеры 50 × 90 м. Выявіў і даследаваў у 1977 М.М.Чарняўскі, раскапана пл. 40 м$^2$. Культ. пласт 0,3 м. Знойдзены крамянёвыя вырабы позняга мезаліту, ранняга неаліту, фр-ты керамікі і крамянёвыя прылады *шнуравой керамікі культуры* ранняга бронзавага веку.

*Літ.*: Ч а р н я ў с к і М.М. Неаліт Беларускага Панямоння. Мінск, 1979. *М.М.Чарняўскі.*

**«БЕЛРЭСТАЎРА́ЦЫЯ»**, спецыялізаванае навукова-рэстаўрацыйнае вытворчае аб'яднанне Міністэрства культуры Беларусі. Створана ў 1985 на базе Спец. навук.-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў (з 1968). Аб'ядноўвала Мінскую (гал. арганізацыя), Брэсцкую, Віцебскую, Гомельскую, Гродзенскую, Магілёўскую спец. навук.-рэстаўрацыйныя вытворчыя майстэрні і Бел. рэстаўрацыйны праектны ін-т. Займалася спец. буд.-мантажнымі, праектнымі і н.-д. працамі па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі, архітэктуры, горабудаўніцтва, садова-паркавага мастацтва, твораў станковага і манументальнага жывапісу, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, кнігі. Археал. падраздзяленне «Б.» (2 археал. сектары і архіт. групы) праводзіла даследаванні архіт.-археал. помнікаў з мэтай іх кансервацыі і рэстаўрацыі, ахоўныя раскопкі (з ІГ АН Беларусі) у гіст. цэнтрах бел. гарадоў, распрацоўвала ахоўныя зоны археал. культ. пласта ў стараж. населеных пунктах Беларусі. З удзелам «Б.» выяўлена Гродзенская Прачысценская царква, рэшткі абарончых муроў 12 ст. на тэр. Гродзенскага Старога замка, падмуркі храма і 2 ярусы падлогі 16—18 ст. у Гальшанскім касцёле Яна Хрысціцеля, рэшткі Ашмянскага кляштара францысканцаў, падмуркі касцёла Дзевы Марыі (Фара Вітаўта) у Гродне, рэшткі гандл. радоў у Мінску і шэраг каменных пабудоў 17—18 ст. у Магілёве, Мінску, Пінску і інш.

У 1991 утворана Гал. ўпраўленне па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры пры СМ Беларусі, якое ў 1996 рэарганізавана ў К-т па кансервацыі і рэстаўрацыі помнікаў пры Мін-ве культуры Беларусі. *А.А.Трусаў.*

**БЕ́ЛЬЧЫЦА**, археалагічныя помнікі — селішча і курганны могільнік каля в. Бельчыца Полацкага р-на Віцебскай вобл.

С е л і ш ч а за 1 км на Пд ад вёскі, ва ўр. Валатоўкі. Адкрыў Г.В.Штыхаў у 1965 у час даследавання курганнага могільніка. Культ. пласт 0,5 м. Знойдзены ляпная гладкасценная і з расчосамі кераміка, фр-т жал. сярпа, кольца з завернутым канцом, глінянае праасліца. Датуецца сяр. 1-га тыс.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к *крывічоў* знаходзіцца на месцы селішча. Было 33 курганы, выш. 3—4 м, дыям. 15 м. Вакол іх прасочваюцца раўкі і ямы. У 1928 А.М.Ляўданскі і С.А.Дубінскі даследавалі 9 насыпаў, у 1965 Г.В.Штыхаў раскапаў 1 курган. Пахавальныя абрады — трупаспаленне, трупапалажэнне на грунце, часам на вогнішчы, і трупапалажэнне ў яме. Знойдзены 3 бронзавыя бранзалеты, скроневае кольца з завязанымі канцамі, арнаментаваная бляшка, шкляныя пацеркі сіняга, зялёнага і жоўтага колераў, жал. восці, нож, кругавая кераміка. Датуецца 10—11 ст.

*Літ.*: Ш т ы х а ў Г.В. Крывічы. Мінск, 1992; Л о п а т и н Н.В., Ш т ы х о в Г.В. Селище Бельчица // Раннеславянский мир. Верхнее Поднепровье и Подвинье в III—V веках н.э. М., 2002. Вып. 4.

*Г.В.Штыхаў.*

**БЕ́ЛЬЧЫЦКІЯ ХРА́МЫ**. Пабудаваны ў 12 ст. на тэр. Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра, засн. на месцы рэзідэнцыі полацкіх князёў у б. прадмесці Полацка Бельчыцы, на левым беразе Зах. Дзвіны пры ўпадзенні ў яе р. Бяльчанка. Існавалі 4 мураваныя храмы: Вялікі сабор (разбураны ў 16 ст., захаваліся падмуркі), Пятніцкая і Барысаглебская цэрквы (разбураны пасля 1920-х г.), храм-трыконх (разбураны да 18 ст.). Усе яны былі ўзведзены ў тэхніцы муроўкі сцен з плінфы са «схаваным радам». У 1928 Барысаглебскую і Пятніцкую цэрквы даследаваў І.М.Хозераў. У 1965 Вялікі сабор даследаваў М.К.Каргер, у 1970-я г. — П.А.Рапапорт, у 1990 — А.А.Трусаў.

В я л і к і с а б о р (1120—30-я г.), крыжова-купальная 3-апсідная пабудова, падзелена 6 слупамі на 3 нефы, мела 3 прытворы. Памеры без прытвораў 23,5 × 16,5 м. Сцены складзены з плінфы памерамі 3,5—4 × 20—21 × 32—33 см, маюць знакі і клеймы. Фасады дэкарываны плоскімі лапаткамі. Купал абапіраўся на зах. пары слупоў. Падмурак храма закладзены ў пясчаным грунце на глыб. 1,6 м. Унутры падлога выкладзена паліванымі пліткамі, сцены былі ўпрыгожаны фрэскамі. Дзвярны праём зах. сцяны аздоблены




*Бельчыцкія храмы. Паўночная (злева) і паўднёвая сцены Барысаглебскай царквы 12 ст. (рэканструкцыя).*

вітым геам. арнаментам, падобным на візантыйскі, панэль зах. сцяны пафарбавана пад мармур. Над чырвона-карычневай паласой, якая аддзяляла панэль ад верхняй часткі сцяны, белай фарбай выкананы складаны арнамент з выявай завіткоў «квітнеючага крыжа».

Пятніцкая царква (12 ст.), 1-нефавы бесслупавы храм памерамі каля 5,1 × 5,8 м (верагодна, дойлід Іаан). Мела прамавугольную апсіду, прытвор і падземную камеру (крыпту, магчыма, усыпальніцу кн. Барыса Усяславіча). Сцены складзены з плінфы (памеры 2,5—3,5 × 15—16,5 × 29—31 см), афармлены плоскімі лапаткамі па вуглах, 2 ярусамі аконных праёмаў. Унутры падлога была выкладзена керамічнымі паліванымі пліткамі. Інтэр'ер размаляваны фрэскамі на сюжэты евангельскага цыкла. На паўн. сцяне — кампазіцыі «Стрэчанне» і «Укрыжаванне», на паўд. сцяне — «Аплакванне». У ніжнім ярусе знаходзіліся выявы святых: на зах. баку перадалтарных слупоў — князёў Барыса і Глеба ў поўны рост, злева на ўнутранай плоскасці алтарнай аркі — св. Міколы, справа — невядомага святога. Паўн. сцяна была аздоблена чырвоным раслінным арнаментам на белым фоне. Фрэскі былі звязаны з архітэктонікай інтэр'ера: цыкл, які пачынаўся на паўн. сцяне, ішоў злева направа і заканчваўся на зах. сцяне.

Барысаглебская царква (сяр. 12 ст.), 3-нефавы крыжова-купальны 6-слупавы храм памерамі каля 8,3 × 14,5 м. Мела вузкія бакавыя нефы, прытвор з хорамі над ім, 3 апсіды (2 бакавыя ў тоўшчы сцяны), своеасаблівы падкупальны пастамент. Сцены складзены з плінфы (памеры 3—4 × 21 × 32—33 см), афармлены плоскімі лапаткамі. Аконныя праёмы размяшчаліся ў 2 ярусы (ніжні ярус большых памераў), знадворку афармлены ўступамі. Ліштвы драўляныя, круглай і трохвугольнай формы. Унутры царква была размалявана фрэскамі з выявамі святых, воінаў і пакутнікаў (на паўн. сцяне — франтальныя), арнаментам (выступы лапатак, аконныя і дзвярныя праёмы). Стыль і тэхніка выканання фрэсак блізкія да кіеўска-візантыйскай маст. традыцыі.

Храм-трыконх (12—13 ст.), крыжова-купальная 4-слупавая пабудова з 3 паўкруглымі апсідамі (з У, Пн і Пд), уключанымі ў інтэр'ер царквы. Верагодна, храм меў 3 уваходы і крыпту.



*Бельчыцкія храмы. Паўночная (злева) і ўсходняя сцены Пятніцкай царквы 12 ст. (рэканструкцыя).*



*В.Г.Белявец.*

М.М.Варонін лічыў, што помнік належыць да тыпу храмаў-трыконхаў, пашыраных на Афоне, у Балгарыі і Сербіі 11—17 ст.

*Літ.*: В о р о н и н Н.Н. Бельчицкие руины // Архитектурное наследство. М., 1956. Вып. 6; Р а п п о п о р т П.А. Русская архитектура X—XIII вв.: кат. памятников. Ленинград, 1982; Т р у с о в О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв.: архит.-археол. анализ. Минск, 1988; Я г о ж. Манументальнае дойлідства Беларусі XI—XVIII ст. Гісторыя будаўнічай тэхнікі. Мінск, 2001. *А.А.Трусаў.*

**БЕЛЯВЕ́Ц** Вадзім Георгіевіч (н. 2.8.1970, г. Брэст), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (2009). Скончыў БДУ (1996). З 1999 у ІГ НАН Беларусі. Даследуе археалогію Зах. Палесся ў перыяд правінцыйнарымскіх уплываў, старажытнасці вельбарскай культуры на тэр. Беларусі.

*Тв.*: Раннеславянские древности III—V вв. н.э. на территории Беларуси и России (свод памятников киевской культуры). Минск, 2005 (у сааўт.); Беларускае Заходняе Палессе ў перыяд правінцыйнарымскіх уплываў — стан і перспектывы даследаванняў // Wspólnota dziedzictwa kulturowego ziem Białorusi i Polski. Warszawa, 2004; Грунтовы могільнік у Трасцяніцы — невядомыя вынікі раскопак Палескай экспедыцыі 1962 г. // ГАЗ. Мінск, 2004. № 19; Папярэднія вынікі вывучэння грунтовага могільніка вельбарскай культуры Пятровічы (Белая гара) // Там жа. 2006. Вып. 22; Могильник Брест—Тришин: 30 лет по окончании раскопок // ААА. 2007. № 1.

**БЕЛЯШЭ́ЎСКІ** Мікалай Фядотавіч (12.10.1867, г. Умань Чаркаскай вобл., Украіна — 21.4.1926), украінскі археолаг, этнограф, мастацтвазнавец. Акадэмік АН Укр. ССР (1919). Скончыў Кіеўскі ун-т. У 1902—23 дырэктар Кіеўскага гіст. музея. Рэдактар зб. «Археологическая летопись Южной России» (т. 1—3, 1899—1901) і час. з той жа назвай (1903—05). Адзін з першых даследчыкаў (1890-я г.) паселішчаў на р. Зах. Буг, Гомельшчыне, у Сярэднім Падняпроўі. Аўтар прац па археалогіі і ўкр. арнаментацыі.

*Тв.*: Несколько новых стоянок каменного века по Днепру и его притокам // Киевская старина. 1891. Т. 32, № 3; Дюнные стоянки неолитической эпохи на берегах р. Западного Буга в среднем его течении // Тр. XI АС. М., 1901. Т. 1.

**БЕ́НЕВІЧЫ**, археалагічны помнік — стаянка каменнага і бронзавага вякоў каля в. Беневічы Лідскага р-на Гродзенскай вобл. Знаходзіцца на паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, на выступе паміж правым берагам Нёмана і поймай р. Дзітва, ва ўр. Бор. Пл. каля 400 м$^2$. Абследавалі ў 1957 Н.М.Гурына і Ф.Д.Гурэвіч; у 1961 Н.М.Гурына даследавала 50 м$^2$. Культ. пласт да 0,8 м. Выяўлены рэшткі вогнішча, невял. яма з вохрай, крамянёвы інвентар фінальнага палеаліту (*свідэрская культура*) і мезаліту (лістападобныя наканечнікі стрэл, ланцэтападобныя яніславіцкія вастрыі, трапецыі, двухпляцовачныя прызматычныя нуклеусы), неаліту (трохвугольныя наканечнікі стрэл, авальнавыцягнутыя рубячыя прылады, скрабкі на адшчэпах), абломкі гліняных арнаментаваных гаршкоў *прыпяцка-нёманскай культуры* і *нёманскай культуры*. Знойдзены шліфаваныя крамянёвыя сякеры і абломкі посуду *шнуравой керамікі культуры* канца неаліту і ранняга бронзавага веку.

*Літ.*: Г у р и н а Н.Н. Новые данные о каменном веке Северо-Западной Белоруссии // МИА. 1965. № 131. *М.М.Чарняўскі.*

**БЕРАГАВА́Я СЛАБАДА́**, археалагічны помнік — стаянка *днепра-дзяснінскай культуры* позняга *мезаліту* на зах. ускраіне в. Берагавая Слабада Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл., на 2-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Дняпро. Даўж. пляцоўкі 1 км, выш. 24 м. Выявіў у 1977 і даследаваў 989 м$^2$ у 1978—83 У.П.Ксяндзоў. Культ. пласт магутнасцю 0,3 м. Выяўлена частка мезалітычнага гасп.-бытавога комплексу: рэшткі агнішчаў, паглыбленага ў зямлю прамавугольнага жытла памерамі 4,3 × 3,8 м, ямы акруглай і авальнай формы. Знойдзена 6913 экз. вырабаў з крэменю, у т.л. 811 з другаснай апрацоўкай. Зыходным матэрыялам для выпрацоўкі пераважнай большасці знаходак служыў мелавы («сожскі») дробнакрапчасты крэмень. Сустракаюцца адзінкавыя крэмені ружова-ліловага колеру (валдайскі) і шакаладнага, а таксама нешматлікія вырабы з кварцыту. Сярод прылад выразнымі серыямі прадстаўлены: наканечнікі стрэл (41) — сіметрычныя і асіметрычныя тронкавыя постсвідэрскія; скрабкі (93), большасць з іх адносіцца да канцавых; разцы (39) — прысутнічаюць бакавыя, сярэдзінныя, сярэдзінна-вуглавыя, вуглавыя тыпы; вырабы з рэтушаванымі выемкамі (89) — скоблі; праколкі (22); свердлы (10); укладышавыя прылады (68) —




*Крамянёвыя наканечнікі стрэл (1—2, 7), вастрыі (3—4), разец (5), скрабок (6) са стаянкі **Берагавая Слабада**.*



*Агульны выгляд другога раскопу паселішча-1 Берагавы.*

у асн. медыяльныя часткі пласцін (сячэнні). Знойдзены таксама 3 экз. трапецый, 9 экз. рубячых прылад. Помнік аднесены У.П.Ксяндзовым да 3-га этапу развіцця днепра-дзяснінскай культуры. Датуецца 6—5-м тыс. да н.э.

*Літ.*: К с е н з о в В.П. Позднемезолитическое поселение Береговая Слобода на Днепре // СА. 1979. №4; Я г о ж. Мезолитическое поселение Береговая Слобода // КСИА. 1981. Вып. 165; Я г о ж. Палеолит и мезолит Белорусского Поднепровья. Минск, 1988.

*І.М.Язэпенка.*

**БЕРАГАВЫ́**, археалагічныя помнікі — паселішчы каля пас. Берагавы Гродзенскага р-на. Помнікі лакалізаваны і абследаваны В.С.Абухоўскім і В.Л.Лакізам у 1999 і ў час абследавання



*Крамянёвыя вырабы з паселішча Берагавы.*

зоны будаўніцтва Гродзенскай ГЭС у 2003. У 2008 даследаваў В.Л.Лакіза.

Паселішча-1 за 0,5—1 км на Пд ад пасёлка, на надпоймавай правабярэжнай тэрасе р. Нёман, выш. 5—6 м. Пляцоўка пераразаецца некалькімі глыбокімі ярамі, якія ўтвараюць адасобленыя ўчасткі (А, Б, В). Было закладзена 5 раскопаў пл. 300 м$^2$. Выяўлены 15 гасп. і слупавых ям, рэшткі вогнішчаў. Знойдзена звыш 4 тыс. артэфактаў: крамянёвыя нуклеусы, нажы, скрабкі, праколкі, вастрыі, наканечнікі стрэл, фр-ты ляпной неалітычнай керамікі, абломкі кругавога посуду сярэдневякоўя, жал. нажы, вырабы з каляровага металу, астэалагічны матэрыял. Датуецца фінальным палеалітам, мезалітам, неалітам, сярэдневякоўем. Пасля будаўніцтва ГЭС зах. схілы ўчасткаў А і В будуць падтапляцца вадасховішчам.

Паселішча-2 за 1,3—1,5 км на Пд ад пасёлка, 0,2—0,3 км на Пд ад паселішча-1, на надпоймавай правабярэжнай тэрасе р. Нёман, выш. над узроўнем вады 3—8 м. Пляцоўка памерамі 200—210 × 30 × 50 м выцягнута з ПнЗ на ПдУ, абмежавана на Пд вял. ярам з ручаём. Невял. яры дзеляць помнік на некалькі адасобленых участкаў (А, Б, В). Былі закладзены 2 раскопы і 3 шурфы пл. 118 м$^2$. Культ. пласт на ўчастках А і В не захаваўся. Знойдзена каля 100 артэфактаў: 2 нуклеусы, скрабок, рэтушаваныя пласціна і адшчэп. Участак Б знаходзіцца на высокім узроўні тэрасы. Культ. пласт перакрыты дэлювіяльнымі адкладамі магутнасцю 0,4—0,6 м. На глыб. 0,65—0,75 м знойдзены крамянёвыя вырабы, сярод якіх скобля-разец, фр-ты керамікі з мінеральнымі дамешкамі. У 2009 зах. частка помніка (участкі А і В) разбурана пры будаўніцтве дарогі і моста цераз р. Нёман. На ўчастку Б, пасля правядзення раскопак у 2010, будзе пабудавана апора моста.

*Літ.*: Археалагічныя абследаванні ўзбярэжжаў Нёмана ў зоне будаўніцтва Гродзенскай ГЭС // ГАЗ. Мінск, 2004. № 19. *В.Л.Лакіза.*

**БЕРАГО́ЎЦЫ**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Берагоўцы Шчучынскага р-на Гродзенскай вобл. У лесе паміж вёскамі Берагоўцы і Сарокі. 22 насыпы выш. 0,8—1,9 м, дыям. 5—12 м. У 1960 даследавала К.Т.Кавальская, у 1975 абследаваў М.А.Ткачоў. У адным насыпе выяўлена пахаванне па абраду трупаспалення. Знойдзены ляпная кераміка, жал. нажы, В-падобная спражка і інш. Датуецца 6—7 ст.

**БЕРАЗІ́НО**, археалагічны помнік — гарадзішча за 1 км на ПдУ ад в. Беразіно Докшыцкага р-на Віцебскай вобл., на ўзвышшы 1-й надпоймавай тэрасы правага берага р. Бярэзіна, ва ўр. Талерка (Гарадок). Пляцоўка памерамі 49 × 47 м мае нахіл на ПнУ. З трох бакоў умацавана валам і ровам, якія знаходзяцца на 5—6 м ніжэй за край пляцоўкі. Выш. вала з напольнага боку 0,7—0,8 м, з боку рова — 1,2—1,3 м. Вядома з 1924. У 1991 А.У.Ільюцік даследавала 40 м$^2$. Культ. слой 0,2—0,9 м. Зафіксаваны сляды гасп. ям памерамі 1 × 1 м і 1 × 0,7 м. Знойдзены ляпная кераміка (гладкасценная і штрыхаваная, бляшаначных начных і слабапрафіляваных форм), шлак, кальцынiраваныя косці, гліняныя праслiцы, жал. серп і шыла, касцяная праколка. Серп мае выгнутую пад тупым вуглом спінку, што характэрна для *днепра-дзвінскай культуры*. Верагодна, гарадзішча было заселена ў к. 1-га тыс. да н.э. — пач. 1-га тыс. н.э. *А.У.Ільюцік.*

**БЕРАСЦЕ́НАВА**, археалагічны помнік — стаянка каменнага веку за 0,5 км на З ад в. Берасценава Аршанскага р-на Віцебскай вобл., на 1-й надпоймавай тэрасе Дняпра. Адкрыў у 1984 і даследаваў 829 м$^2$ у 1987—88 У.П.Ксяндзоў. Культ. пласт 0,2—0,5 м. Знойдзена 2286 экз. крамянёвых прылад і адыходаў іх вытворчасці: адшчэпы (1277), разбітыя кускі і жаўлакі крэменю (489), пласціны (112) і нуклеусы (131), наканечнікі стрэл (13) — асіметрычныя і сіметрычныя, 2 з іх прадстаўляюць тып пераходны да грэнскага; разцы (64) — сярэдзінныя, сярэдзінна-вуглавыя, бакавыя і вуглавыя; скоблі (60). Па афармленні рабочага краю вылучаюцца канцавыя і авальныя скрабкі (28). У асобныя катэгорыі вылучаны грубавыемчатыя (71) і зубчатыя (28) прылады. У якасці асн. сыравіны выкарыстоўваўся мясц. марэнны някасны крэмень светла- і цёмна-шэрага колеру. У.П.Ксяндзовым помнік аднесены да ранняй храналагічнай групы *грэнскай культуры* і датуецца ў межах 10,8—10 тыс. гадоў назад.

*Літ.:* Ксензов В.П. Мезолит северной и центральной Беларуси // МАБ. 2006. № 13. *І.М.Язэпенка.*



*Крамянёвыя наканечнікі стрэл са стаянкі **Берасценава**.*

**БЕРАСЦЯ́НКА**, невялікая пасудзіна з бяросты для захоўвання мёду, прыпраў і інш. прадуктаў. На тэр. Беларусі вядома па знаходках 12—13 ст. у культ. пласце стараж. гарадоў Гродна і Віцебск. Выраблялася з суцэльнага кавалка бяросты. Гродзенская Б. выш. 18 см, дыям. донца каля 12 см, на знешніх баках вострым прадметам (трубачкай або цвіком) нанесены 4 княжацкія знакі. Віцебская Б. мае памеры донца 26 × 28 см, па краях — адтуліны для лазовых дубчыкаў. Б. часта аздаблялі ціснёным арнаментам у выглядзе сеткі, хваёвых лапак, кружкоў і кропак. У 19—20 ст. выраблялі Б. з вечкам.

*Літ.*: Калядзінскі Л.У., Ткачоў М.А. Драўляныя вырабы і дрэваапрацоўка ў сярэдневяковым Віцебску // Помнікі культуры: новыя адкрыцці. Мінск, 1985; Стары замак у Гродне XI—XVIII ст. Мінск, 1993.

*А.А.Трусаў.*

**БЕРАСЦЯ́НЫЯ ГРА́МАТЫ**, пісьмы, запіскі, дакументы 11—15 ст. на бяросце, выяўленыя пры раскопках стараж. усх.-слав. гарадоў. Літары надрапвалі завостранай касцяной ці жал. палачкай (пісалам) на тым баку бяросты, што прылягаў да дрэва. Вядома каля 1 тыс. Б.г., у т.л. з Ноўгарада (у 1951 знойдзена першая), Старой Русы (23 граматы), Смаленска (10), Пскова (8), Звянігарада (Украіна; 3) і інш. У Беларусі выяўлены ў Віцебску ў 1959 (13—14 ст., грамата зберагаецца ў Віцебскім абл. краязнаўчым музеі) і Мсціславе ў 1980 (пач. 13 ст., Мсціслаўскі краязнаўчы музей). Асн. тэма грамат 11—12 ст. — крэдыторства, пазыка грошай; 13—15 ст. — валоданне зямлёй, клопаты пра сяўбу і ўборку збожжавых, даходы з прамысловых угоддзяў, феад. павіннасці, абавязацельствы, завяшчанні. У асобных наўгародскіх граматах упамінаюцца жыхар Полацка і палонны, выкуплены з Полацка; адна з Б.г. 11 ст. напісана Жыравітам, жыхаром Полацка, Смаленска ці Віцебска. Для мовы грамат характэрна адсутнасць царкоўнаслав. кніжнай лексікі. Б.г. сведчаць, што на Русі ў ВКЛ пісьменнасць была пашырана не толькі сярод феадалаў, духавенства, але і сярод простых гараджан.

*Літ.*: Дроченина Н.Н., Рыбаков Б.А. Берестяная грамота из Витебска // СА. 1960. № 1; Арциховский А.В. Новгородские грамоты на бересте: (из раскопок 1958—1961 гг.). М., 1963; Янин В.Л. Я послал тебе бересту... 2 изд. М., 1975; Его ж. Берестяная почта столетий. М., 1979; Аляксееў Л.В. Берасцяная грамата // ПГКБ. 1982. № 2. *Г.В.Штыхаў.*

**БЕ́РДЫЖСКАЯ СТАЯ́НКА**, археалагічны помнік каля в. Падлужжа Чачэрскага р-на Гомельскай вобл. За 0,3 км на Пд ад вёскі, на схіле высокага правага берага р. Сож, ва ўр. Калодзежкі, якое складаецца з паўн. і паўд. яроў. Культ. пласт помніка найлепш захаваўся на Пд ад яра. Б.с. адкрыта К.М.Палікарповічам у 1926. У яе вывучэнні ў далейшым прымалі ўдзел вядучыя спецыялісты ў галіне першабытнай археалогіі, а таксама палеантолагі, геолагі і палеагеографы. Раскопкі праводзіліся ў 1926 К.М.Палікарповічам (ускрыта 10 м²), у 1927 С.М.Замятніным (20 м²), у 1928—29, 1938—39 К.М.Палікарповічам, П.П.Яфімен-







*Крамянёвыя вырабы (1) і прылады працы (2) з* ***Бердыжскай стаянкі.***

кам, Г.А.Бонч-Асмалоўскім, В.І.Громавым, Г.Ф. Мірчынкам (240 м$^2$), у 1959, 1968—70 У.Дз.Будзько, Л.М.Вазнечуком, М.М.Цапенка, В.В.Шчагловай, М.В.Мотузам (130 м$^2$), у 1971 А.Г.Калечыц (156 м$^2$). Агульная пл. раскопак склала каля 536 м$^2$. Аднак, паколькі раскопкі праводзіліся са значнымі перапынкамі па часе і ў сувязі са стратай у гады вайны даваеннай палявой дакументацыі, у далейшым адны і тыя ж плошчы неаднаразова ўскрываліся паўторна. З улікам распаўсюджання познапалеалітычных артэфактаў тэр., якую займала стараж. паселішча, па дадзеных А.Г.Калечыц, мела пл. каля 500 м$^2$.

У раскопе 1926 было знойдзена больш за 70 фаўністычных рэштак, якія (па вызначэнні В.І.Громава) належалі маманту, каню і мядзведзю, а таксама некалькі дзесяткаў крэменяў, кавалкі касцянога вугалю. Сярод крэменяў былі і штучна апрацаваныя, у т.л. пласціны, адшчэпы. Пасля раскопак С.М.Замятніна з'явілася першае меркаванне аб узросце помніка. Вучоны датаваў стаянку верхнепалеалітычным часам і правёў аналогіі з помнікамі Касцёнкі-1, Боршава-1, Гагарына і з познаарыньякскімі помнікамі Маравіі і Ніжняй Аўстрыі (Пшэдмасць, Ніжні Вістэрніц, Пекарна, Вілендорф і інш.). Велізарную ролю ў

*Археалагічныя раскопкі* ***Бердыжскай стаянкі*** *ў 1920-я г.*











высвятленні стратыграфіі культ. пласта Бердыжа ў перадваенныя гады адыгралі работы Г.Ф.Мірчынка. Зробленыя ім высновы ў наступным былі дэталізаваны і ўдакладнены, але прынцыпова не змяніліся.

Працы навукоўцаў, якія вывучалі Б.с. ў пасляваенныя гады, былі скіраваны на ўдакладненне стратыграфіі і геалагічных умоў залягання культ. пласта помніка. Л.М.Вазнячук з гэтай мэтай у 1959 заклаў на стаянцы звыш 30 шурфаў. На пач. 1970-х г., па меркаванні У.Дз.Будзько і Л.М.Вазнечука, на помніку 2 культ. пласты — паселішча ранняга верхняга палеаліту, якое адносілася да кола помнікаў касцёнкаўска-аўдзееўскай культуры больш ранняга, чым Бердыж, і менавіта Б.с. — помніка позняга верхняга палеаліту, якую можна датаваць у межах 34—22-га тыс. да н.э. Такія высновы лёгка тлумачыліся рэзкім падзеннем культ. рэштkаў уніз на схіле яра. Пры наяўнасці ўскрытых плошчаў на вяршыні схіла і шурфа на яго днішчы ўсвядоміць адзінства пласта, які меў розніцу ў адзнаках да 4 м, было амаль немагчыма. Для вырашэння гэтага спрэчнага пытання ў 1970 у геахраналагічнай лабараторыі Ленінградскага аддзялення Археал. ін-та на падставе аналізу, праведзенага па зубе маманта, была атрымана першая абсалютная дата помніка. Вынікам прац А.Г.Калечыц, якая зрабіла на Б.с. некалькі апорных прадольных і папярочных профіляў, стала выснова аб аднаслойнасці помніка, культ. рэшткі якога былі пераадкладзены ў выніку магутнага ўздзеяння соліфлюкцыйных працэсаў. Таму аднавіць колькасць і форму касцявых жытлаў, якія, відавочна, тут былі пабудаваны, не ўяўляецца магчымым.

Агульная колькасць знаходак, атрыманых за гады раскопак, перавышае 3 тыс. адз., у т.л. каля 2 тыс. касцявых рэштkаў, большасць з якіх належала маманту. Колькасна пераважаюць цэлыя і фрагментаваныя рэбры, пазванкі, расколатыя трубчастыя косткі, зубы, фр-ты чэрапа, біўняў і інш. Ад 50 інш. жывёл захаваліся цалкам некалькі чарапоў, ніжніх сківіц, біўняў, радзей лапатак і костак таза. Астатнія касцявыя




*План Бердыжскай стаянкі.*

рэшткі — адзінкавыя косткі яшчэ 14 відаў жывёл, сярод якіх тыповыя прадстаўнікі верхнепалеалітычнага комплексу: валасаты насарог, конь, мядзведзь, пясец, паўн. і высакародны алені і інш.

Для вырабу прылад жыхары Б.с. выкарыстоўвалі сожскі валунны крэмень характэрнай шэрай афарбоўкі з белымі кропкавымі ўкрапінамі, які ў вял. колькасці сустракаецца ў россыпах на паверхні і ў карэнным заляганні ў крэйдавых адкладах, што маюць выхады на паверхню па схілах р. Сож. Большасць артэфактаў абкатаная, з характэрным матавым бляскам.

Крамянёвы інвентар (больш за 1 тыс. адз.) складаецца са шматлікіх канкрэцый і кавалкаў крэменю, асобныя з якіх маюць сляды штучнай апрацоўкі, адно- і двухпляцовачных нуклеусаў прызматычнай формы, мноства нарыхтовак (пласцін і адшчэпаў). Найб. важную ролю адыгрываюць такія знойдзеныя прылады працы, як наканечнікі стрэл з бакавой выемкай і нажы з масіўных пласцін з усечанымі канцамі. Комплекс прылад з другаснай апрацоўкай характарызуецца наяўнасцю рэтушаваных і на вугле зламанай пласціны разцоў, канцавых, двайных і мысападобнага скрабкоў, а таксама вастрыямі, скоблепадобнымі вырабамі, праколкамі і невял. колькасцю мікрапласцін з рэтушшу.

У сусветнай археал. літаратуры Б.с. агульнапрызнана як познапалеалітычная, якая належыць да кола помнікаў вілендорфска-паўлаўска-касцёнкаўскага адзінства альбо вілендорфска-касцёнкаўскай археал. культуры. Датуецца 23 430±180 гадоў назад.



*Крамянёвыя вырабы з паселішча-2 Берштьі.*

*Літ.:* Б у д ь к о В.Д. О жилищах бердыжской палеолитической стоянки // КСИА. 1964. Вып. 1; П о л и к а р п о в и ч К.М. Палеолит Верхнего Поднепровья. Минск, 1968; Б у д ь к о В.Д., В о з н е ч у к Л.Н. Палеолит Белоруссии и смежных территорий // Древности Белоруссии. Минск, 1969; К а л е ч и ц Е.Г. Первоначальное заселение территории Белоруссии. Минск, 1984.

*А.Г.Калечыц.*

**БЕ́РШТЫ**, археалагічныя помнікі — паселішчы каля в. Берешты Шчучынскага р-на Гродзенскай вобл. Першыя матэрыялы каменнага і бронзавага вякоў на воз. Берштаўскае выяўлены ў пач. 20 ст., у т.л. каменныя свідраваныя сякера і булава. У 1950—60-я г. Л.С.Клейн і М.М.Чарняўскі лакалізавалі вакол вёскі і возера некалькі першабытных стаянак. У 1994, 1995 і 1997 М.М.Чарняўскі, В.Л.Лакіза і В.С.Абухоўскі абследавалі паселішчы-1, 3—5 і правялі раскопкі на паселішчах-2 і 6.

П а с е л і ш ч а - 2 за 0,5—0,6 км на ПдУ ад вёскі, на левабярэжнай дзюне р. Котра. Пл. 6000 $м^2$, выш. 1,5 м. Выявіў М.М.Чарняўскі. Даследаваў 72 $м^2$ у 1995 і 1997 В.Л.Лакіза. Культ. пласт 0,22—0,9 м. Выяўлены 32 аб'екты: гасп. ямы, рэшткі пабудоў і сляды ад драўляных слупоў. Знаходкі прадстаўлены крамянёвымі прыладамі працы і зброяй, нуклеусамі і расшчэпленымі крэменямі без другаснай апрацоўкі, фр-тамі ляпной і кругавой керамікі, дробнымі перапаленымі косткамі. Ляпная кераміка (464 адз.) адносіцца да прыпяцка-нёманскай і нёманскай неалітычных культур, тыпу Берешты—Русакова кола культуры шнуравой керамікі, нёманскай групы тшцінецкага культ. кола. Сярод 2161 крамянёвай знаходкі: 1958 прадуктаў першаснага расшчаплення, 32 нуклеусы, адбойнікі і рэтушоры, 113 вырабаў — разцы, вастрыі, наканечнікі стрэл — лістападобныя і трохвугольныя з увагнутай асновай, наканечнік дзіды, скоблі, пракруткі, праколкі, нажы, скрабкі, сякеры, у т.л. з прышліфоўкай ляза, а таксама камбінаваныя прылады, 55 пашкоджаных вырабаў і экзэмпляраў з рэтушшу. Паселішча датуецца перыядамі мезаліту (яніславіцкая культура), раннім і сярэднім неалітам (прыпяцка-нёманская і нёманская культура), позним неалітам (помнікі тыпу Берешты—Русакова кола культуры шнуравой керамікі), раннім перыядам бронзавага веку (нёманская група помнікаў тшцінецкага культ. кола), позним сярэдневякоўем і новым часам (16—18 ст.).

П а с е л і ш ч а - 6 за 0,6 км ад вёскі, на пясчанай азёрнай тэрасе паўд.-зах. берага воз. Берштаўскае. Памеры 20—30 × 250 м, выш. каля 7 м. Выявіў М.М.Чарняўскі, у 1997 В.С.Абухоўскі даследаваў 18 $м^2$ у паўд. частцы паселішча. Культ. пласт 0,3 м. Знойдзена 745 знаходак: 555 крамянёвых вырабаў і 190 фр-таў керамікі. Сярод іх крамянёвыя нуклеусы, разцы, яніславіцкія вастрыё і трохкутнік, ланцэтападобныя вастрыі, пласціны-ўкладышы, скрабкі і скрабачы, нажападобныя пласціны, нарыхтоўка наканечніка стралы, ляпная неалітычная кераміка (56 адз.), у т.л. арнаментаваная наколамі і лінейнымі адбіт-

камі, кругавая кераміка (134 адз.). Датуецца фінальным палеалітам, мезалітам (яніслаўіцкая культура), сярэднім неалітам (нёманская культура), познім неалітам (помнікі тыпу Бершты—Русакова кола культуры шнуравой керамікі), познім сярэдневякоўем і новым часам (16—18 ст.).

*Літ.*: Абухоўскі В.С. Раскопкі стаянкі Бершты VI // ГАЗ. Мінск, 1999. № 14; Лакіза В.Л. Паселішчы эпохі каменя і бронзы Шчучынскага раёна // Шчучыншчына: мінулае і сучаснасць: матэрыялы навук.-практ. краязнаўчай канф., прысвечанай знакамітым людзям, помнікам гісторыі і культуры. Ліда, 1997; Яго ж. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга бронзавага веку Беларускага Панямоння. Мінск, 2008.

*В.Л.Лакіза.*

**БЕ́РШТЫ—РУСАКО́ВА**, група археалагічных помнікаў кола *шнуравой керамікі культуры* позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Бел. Панямоння. Вядома звыш 200 помнікаў на тэр. паўн.-зах. і зах. Панямоння, часткі паўд.-ўсх. Панямоння (верхняе цячэнне р. Нёман, басейн р. Шчара), а таксама паўд. Літвы. У к. 1990-х г. на падставе сістэматызацыі і аналізу матэрыялаў гэтага рэгіёна вылучыў В.Л.Лакіза. Назву атрымалі ад найб. даследаваных паселішчаў *Бершты*-2 (Шчучынскі р-н, р. Котра) і *Русакова*-2 (Слонімскі р-н, р. Шчара).

Фарміраванне помнікаў тыпу Б.—Р. адбывалася на аснове мясц. неалітычных традыцый (дабраборскі тып *нёманскай* культуры) пры моцным уздзеянні прышлых кампанентаў цыркумбалтыйскага кола культур *шнуравой керамікі*: «А-гарызонта» шнуравой керамікі, культуры адзіночных пахаванняў, прыморскай (жуцаўскай). Прасочваюцца ўплывы *шарападобных амфар культуры*, а таксама *сярэднедняпроўскай культуры.* Асн. ролю пры фарміраванні адметнасцей групы помнікаў тыпу Б.—Р. адыгралі культ. ўплывы і традыцыі прыморскай (жуцаўскай) культуры. Аб гэтым сведчаць крамянёвыя і каменныя вырабы, адзіночныя пахаванні ў Красносельскай крэменездабыўной шахце, на паселішчах *Пархуты*-1, *Дакудава*-5 і кераміка асобнага тыпу. Для керамікі характэрны выкарыстанне ў якасці дамешак мінеральных кампанентаў (пяску, жарствы), розныя памеры і формы (з эсападобнай прафіліроўкай, лейкападобнымі шыйкамі і злёгку зведзенымі ўнутр венчыкамі, кубкі,

*Арнаментацыя керамікі культуры* ***Бершты—Русакова.***



міскі), разнастайная шнуравая і наразная арнаментацыя, адбіткі прамавугольнага штампа і наколы, упрыгожванне зрэзаў венчыкаў, матывы «ялінкі», зігзагаў, «заштрыхаваных трохвугольнікаў». Канцэнтрацыя помнікаў тыпу Б.—Р. прыпадае на тэр. паўн.-зах. і зах. Панямоння — басейны левых прытокаў Нёмана рэк Зальвянка і Рось — *Краснасельск*-5, *Навасёлкі*-3; правых прытокаў рэк Дзітва, Лебяда і Котра — *Дакудава*-5, *Берешты*-2, 6, *Нача*, ур. *Плітніца*. Сустракаюцца паселішчы з керамікай гэтага тыпу і на паўд.-ўсх. Панямонні — верхняе цячэнне р. Нёман — *Лысая Гара*, *Русаковічы*-7, 9; басейн р. Шчара — *Падгорная*-4, *Добры Бор*-1. Датуюцца ўсе помнікі 2-й чв. 3-га — 1-й чв. 2-га тыс. да н.э., адносяцца да позняга неаліту.

*Літ.*: Лакіза В.Л. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга бронзавага веку Беларускага Панямоння. Мінск, 2008. *В.Л.Лакіза.*

**«БІБЛІЯГРА́ФІЯ ПА ГІСТО́РЫІ БЕЛАРУ́СІ»**, даведачны бібліяграфічны паказальнік асноўных прац па гісторыі Беларусі да 1917. Выдадзены ў 1969 у Мінску. Змяшчае бібліяграфічныя звесткі пра летапісы, хронікі, зборнікі дакументаў, вучоныя запісы са зборнікаў, часопісаў, кніг на бел., рус., укр. мовах, выдадзеных з 1809 да 1966. У кнізе названы таксама працы па гісторыі Расіі, Літвы, Украіны, якія закранаюць асобныя пытанні гісторыі Беларусі. Уключаны найб. важныя работы па археалогіі, у т.л. пра рассяленне славян, стараж.-рус. плямён, помнікі сярэдняй і паўн. Беларусі, паселішчы 1-га тыс. н.э., курганы 10—13 ст., планіроўку і забудову раннефеад. гарадоў (Брэст, Ваўкавыск, Навагрудак, Пінск, Полацк і інш.), майстроў залатых і сярэбраных спраў 12—17 ст., маст. вырабы кастарэзаў стараж. гарадоў, нумізматычныя знаходкі, тапаграфію скарбаў 9—13 ст. і інш.



*Упрыгажэнні з каляровых металаў з пахаванняў курганнага могільніка **Бірулі**.*

**БІБЛІЯГРА́ФІЯ САВЕ́ЦКАЙ АРХЕАЛО́ГІІ**, даведачныя бібліяграфічныя паказальнікі «Савецкая археалагічная літаратура», якія ў 1965—86 выпускала Бібліятэка АН СССР сумесна з Ін-там археалогіі АН СССР. Ахоплівалі сав. літаратуру па археалогіі з 1918 да 1978. Змешчаны пералік практычна ўсіх савецкіх, у т.л. бел., навук. выданняў па археалогіі, а таксама працы па этнаграфіі, мовазнаўстве, дапаможных гіст. дысцыплінах, тэматыка якіх закранае праблемы археалогіі: геральдыцы, гіст. геаграфіі, нумізматыцы, сфрагістыцы, эпіграфіцы, інш. дысцыплінах (палеабатаніцы, палеаграфіі, палеазаалогіі, чацвярцічнай геалогіі). Друкаваліся таксама рэцэнзіі на археал. даследаванні і працы савецкіх археолагаў, апублікаваных у замежных выданнях. *А.А.Егарэйчанка.*

**БІКЛА́ГА**, баклага, бандарны і ганчарны выраб; двухдонны пляскаты посуд для працяглай транспарціроўкі вадкасці (вады, квасу і інш. напояў), звычайна ёмістасцю 5—10 л. Бандарныя Б. выраблялі са сцягнутых абручамі клёпак, у 1,5—2 разы карацейшых за дыяметр днішча; з адтулінай збоку (затыкалася шпунтам) і вушкамі для падчэпкі на рамяні. У Віцебску і Слуцку знойдзены клёпкі і донцы 13 ст. У Брэсце выяўлена цэлая Б. 13 ст.: корпус авальнай формы выдзеўбаны з хваёвага ствала, у верхняй вузкай частцы свідраваная адтуліна дыям. 2 см, побач з якой у спец. патаўшчэнні прасвідраваны перпендыкулярныя да корпуса адтуліны для падчэпкі на рэмень. Даўж. Б. 27 см, выш. 26 см, шыр. 10—14 см, ёмістасць 4 л. Ганчарныя Б. найчасцей мелі дыскападобную форму на кароткіх ножках, з кароткім і вузкім горлам і невял. ручкамі (у патаўшчэннях па баках зроблены адтуліны для падчэпкі), ёмістасць да 1 л. Б. звычайна пакрывалі зялёнай палівай. Знойдзены на раскопках Верхняга і Ніжняга замкаў Віцебска, у Крычаве, Мінску, Слуцку і інш.

*Літ.*: Калядзінскі Л.У., Ткачоў М.А. Драўляныя вырабы і дрэваапрацоўка ў сярэдневяковым Віцебску // Помнікі культуры: новыя адкрыцці. Мінск, 1985; Лысенка П.Ф. Берестье. Минск, 1985. *Л.У.Калядзінскі.*

**БІРУ́ЛІ**, археалагічныя помнікі — гарадзішча, селішчы і курганны могільнік каля в. Бірулі Докшыцкага р-на Віцебскай вобл.

Гарадзішча за 2 км на Пд ад вёскі, на стрэлцы доўгага ўзгорка выш. 10 м. Мясц. назва Шведская Гара. Пляцоўка авальная, памерамі 56 × 48 м. З Пн умацавана дугападобным валам (шыр. 7 м, выш. 0,6—0,7 м), яшчэ 2 валы (шыр. 10—12 м, выш. 1,5—2 м) размешчаны на ПнЗ і ПнУ. На вяршыні ўзгорка валы канцамі заходзяць адзін за адзін і ўтвараюць своеасаблівы калідор, які, магчыма, быў уваходам на пляцоўку.




*Знаходкі з селішча Бірулі.*

Паміж пляцоўкай і валам выкапаны роў глыб. 2,3 м, шыр. 12—13 м. Абследавалі ў 1938—39 Г.Цэгак-Галубовіч і У.Галубовіч, у 1971 А.Р.Мітрафанаў. Культ. пласт у цэнтры 0,3—0,4 м, па краях 1—1,3 м. Знойдзены фр-ты ляпнога штрыхаванага посуду, кавалкі шлаку, абпаленыя камяні.

Селішча-1 *банцараўскай культуры* за 2 км на Пд ад вёскі, з З прымыкае да гарадзішча. Даўж. да 200 м. Выявіў у 2005 і даследаваў у 2006 П.М.Кенька. Культ. пласт 0,2—0,5 м. Знойдзены прасліца, фр-т бранзалета, кавалкі шлаку, ляпная кераміка. Датуецца 6—8 ст.

Селішча-2 за 1 км на Пн ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна. Даўж. да 700 м. Выявіў і даследаваў у 2005, 2006, 2008 П.М.Кенька. Культ. пласт 0,2—0,9 м. Знойдзены фр-т бранзалета, спражкі, паясныя кольцы, фібула, накладкі, нажы, рыбалоўныя кручкі, серп, тачыльны камень, скроневае кольца, дэталі конскага рыштунку, абломкі ляпнога і кругавога посуду.

Селішча-3 за 0,6 км на Пд ад вёскі, на зах. беразе воз. Медзазол. Даўж. да 200 м. Выявіў і даследаваў у 2006 П.М.Кенька. Культ. пласт 0,2—0,4 м. Знойдзены пацерка, сашнік, кавалкі шлаку, ляпная кераміка, у т.л. з расчосамі. Датуецца 3—10 ст.

Стаянка-1 за 0,3 км на Пд ад вёскі, на зах. беразе воз. Медзазол. Даўж. да 50 м. Выявілі ў 2005 П.М.Кенька і А.В.Вайцяховіч. Культ. пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і фр-ты гаршкоў з раслінным дамешкам у цесце.

Стаянка-2 за 0,6 км на Пд ад вёскі, на зах. беразе воз. Медзазол. Даўж. да 100 м. Выявіў і даследаваў у 2006 П.М.Кенька. Культ. пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы.

Курганны могільнік *крывічоў* на Пд ад вёскі, на зах. беразе воз. Медзазол. 115 круглых у плане (выш. 0,2—3,5 м, дыям. 3—15 м) і падоўжаных курганоў (16 × 8 × 2 м). У 1938—39 Г.Цэгак-Галубовіч і У.Галубовіч даследавалі 13 насыпаў, у 1971 помнік абследаваў А.Р.Мітрафанаў, які налічыў тады 130 насыпаў. У 2005—08 А.В.Вайцяховіч даследаваў 14 насыпаў. Пахавальныя абрады — крэмацыя на баку ад могільніка з размяшчэннем рэштак у насыпе ці на гарызонце і трупапалажэнне на гарызонце альбо ў падкурганных ямах. Пахавальны інвентар: шкляныя каляровыя і металічныя пацеркі, бронзавыя скроневыя серпа- і бранзалетападобныя кольцы, фр-ты шыйных грыўняў, грушападобныя бразготкі, трапецападобныя падвескі, пярсцёнкі, бранзалеты, фібулы, паясныя жал. спражкі, наканечнік дзіды, сякера, наканечнікі стрэл, дэталі конскага рыштунку, ляпныя і кругавыя гаршкі. У курганах з крэмацыяй адзначаюцца сляды ахвярапрынашэнняў драпежнай і хатняй жывёлы. Часам у насыпах фіксуюцца каменныя канструкцыі ў выглядзе стосаў і вымасткаў. Могільнік датуецца 10—12 ст.

*Літ.*: Кенько П.М. Археологические раскопки в Докшицком и Лепельском районах Витебской области // ГАЗ. Мінск, 2006. № 21; Вайцяховіч А.В. Асаблівасці пахавальнага абрада курганнага могільніка Бірулі (Парэчча) Докшыцкага раёна Віцебскай вобл. // МАБ. 2008. Вып. 15; Hołubowiczowa H. Słowiansko-wareskie cmentarzysko kurhanowe kolo Porzecza w powiecie dzisnienskim // Przegląd archeologiczny. 1938/39. T. 6.

*А.В.Вайцяховіч, П.М.Кенька.*

**БІРУ́ЛЯ** Іван Вікенцьевіч (16.4.1924, б. хутар Агароды Смалявіцкага р-на Мінскай вобл. — 22.10.1997), беларускі археолаг. Скончыў БДУ (1953). З 1953 дырэктар Брэсцкага абл. краязнаўчага музея, з 1964 выкладчык палітэканоміі і грамадазнаўства Брэсцкага тэхнікума і сярэдняга прафе-

сійна-тэхнічнага вучылішча № 27 чыг. транспарту. У 1959—62 даследаваў 122 курганы на тэр. Брэсцкага і Камянецкага р-наў: могільнікі каля хутара Гуркі, вёсак Войская, Кусцічы, Любашкі, Свішчова, Трасцяніца, Хацінава, Шастакова, у т.л. 31 курган каля в. Ратайчыцы. Праводзіў археал. раскопкі на гарадзішчы сярэдневяковага перыяду каля в. Покры Брэсцкага р-на.

*Тв.*: Каменные курганы правобережья Западного Буга // Древности Белоруссии: материалы конф. по археологии Белоруссии и смежных территорий (1966). Минск, 1966; Северная граница распространения «парных» курганов // АО 1965. М., 1966; Раскопки курганов у д. Ратайчицы // Древние славяне и их соседи. М., 1970; Курганы у д. Ратайчицы (X—XII вв.) // МИА. 1970. № 176. *В.У.Мядзведзева.*

**БЛЕ́ШНІ**, металічныя рыбалоўныя прылады, якія імітуюць выгляд і рухі жыўца. Вылучаюцца Б. для адвеснага лову (зімовыя) і лову ў гарызантальную праводку (летнія, т.зв. дарожкі). Зімовыя Б. робяцца з невял. свінцовага, алавянага ці жал. бруска, у які ўпайваецца кручок. На тэр. Беларусі вядомы з 5—8 ст. (*Некасецк*, *Мікольцы*, *Засвір*). Знойдзены ў *Маскаўцах*, *Лукомлі*, *Гродне*, *Чачэрску*. Прызначаліся для здабычы акуня, судака і шчупака ўзімку ў палонках, летам — у карчах і ямах. Дарожкамі лавілі з лодкі, цягнучы іх на доўгім шнуры. Выкоўваліся з жалеза ці каляровага металу, мелі выгляд лістападобнай пласціны даўж. 9—15 см, шыр. 2—4 см, якая пераходзіла ў кручок. У археал. матэрыяле дарожкі сустракаюцца часцей, чым зімовыя Б. Самая ранняя іх знаходка на тэр. Беларусі (2-я пал. 10 ст.) звязана з пахаваннямі крывічоў (*Бірулі*). Знойдзены ў *Брэсце*, *Тураве*, *Гродне*, *Ваўкавыску*, *Полацку*, *Мінску*, *Маскаўцах*, *Вішчыне*, *Свіслачы*, *Збарове* (датуюцца пераважна 12—13 ст.), познасярэдневяковым *Гомелі*, *Лідскім замку*, на гарадзішчы *Вусце*. Прызначаліся ў асн. для лову шчупака. Шырока распаўсюджаны ў этнагр. матэрыяле.

*Э.А.Ляшкевіч.*

**БЛО́МБЕРГ** (Blomberg) Марыя Магдалена (н. 14.11.1936, в. Ванвальніца Люблінскага ваяводства, Польшча), польскі археолаг і гісторык. Д-р гуманітарных навук (1987). Скончыла Лодзінскі ун-т (1961). У 1957—73 супрацоўніца кафедры археалогіі Лодзінскага ун-та, з 1973 у ІГ матэрыяльнай культуры Польскай АН. Вывучае польска-рус., польска-бел. і польска-ўкр. сувязі ў гісторыі навук. кантактаў да 1917 па праблематыцы археал. даследаванняў, удзел археолагаў (у т.л. ўраджэнцаў Беларусі, якія пісалі на польскай мове) у дзейнасці рус. археал. т-ваў і з'ездаў (Я.П. і К.П. Тышкевічы, А.А.Плятэр, А.Г.К.Кіркор, І.Ф.Завіша, Э.Гутэн-Чапскі, А.Пшаздзецкі, В.Шукевіч і інш.). Прасачыла лёс вучоных-выгнаннікаў, якія апынуліся ў ссылцы (І.Дз.Чэрскі, Б.І.Дыбоўскі, Ю.Д.Талька-Грынцэвіч, М.Віткоўскі і інш.), паказала іх ролю ў вывучэнні розных рэгіёнаў Расіі. Аўтар манаграфіі «Палякі — члены расійскіх археалагічных таварыстваў 1839—1914» (1988).



*Блешні.*

**БЛЮВІ́НІЧЫ**, археалагічны помнік — паселішча каля в. Блювінічы Брэсцкага р-на. За 0,5 км на З ад вёскі, на ўзвышшы левага берага р. Лясная (прыток р. Зах. Буг), ва ўр. Мордкава Гара. Займала пл. больш за 1 га, зараз амаль поўнасцю знішчана кар'ерам. У 1990—91 на паўд. участку паселішча, які захаваўся, праведзены ахоўныя раскопкі; В.С.Вяргей даследавала 200 м². Культ. пласт 0,5—0,8 м. Выяўлены разбураная печ-каменка памерамі 1 × 1 м, складзеная з вял. (дыям. да 0,4 м) камянёў, глінабітны ачаг ліравіднай формы дыям. да 1,1 м, гасп. і слупавыя ямы; у жытле — абломкі ляпнога посуду раннеслав. пражскай культуры, а таксама фр-ты посуду, блізкія да керамічнага комплексу вельбарскай культуры. На селішчы знойдзены крамянёвыя вырабы (каля 3 тыс. экз.), характэрныя для яніслаўіцкай мезалітычнай культуры: вастрыі, трапецыі, разцы, адбойнікі, скрабкі, скоблі, наканечнікі стрэл і інш.; косткі жывёл, металургічны шлак. Керамічны комплекс прадстаўлены фр-тамі пасудзін нёманскай і шнуравой керамікі культур эпохі неаліту, асн. масіў — ляпнога посуду вельбарскай (к. 2 — 1-я пал. 4 ст.) і пражскай раннеслав. культур (6—7 ст.); ганчарны посуд (13—18 ст.) — гаршкі, міскі, макотры, крынкі, жбаны. Знойдзены рэшткі жал. нажоў, гліняных прасліц, абломкі тыгляў для плаўкі каляровых металаў, тачыльныя камяні.

*Літ.*: Вяргей В.С., Кудрашоў В.Я. Раскопкі паселішча Блювінічы на р. Лясной // ВАНБ. 1994. № 4. *В.С.Вяргей.*

**БОНЧ-АСМАЛО́ЎСКІ** Глеб Анатолевіч (3.11. 1890, в. Блонь Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. — 1.11.1943), антраполаг і археолаг. Д-р гіст. навук (1942). Скончыў Петраградскі ун-т (1923). З 1924 у Ленінградскім ун-це. З 1930 навук. супрацоўнік Геалагічнага ін-та АН СССР і Дзярж. акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры. У 1926—27 і 1934 разам з К.М.Палікарповічам вёў археал. раскопкі на Гомельшчыне і Смаленшчыне. Удзельнік этнагр. і археал. экспедыцый на Каўказе і ў Крыме. У час раскопак у пячоры Кіік-Каба (Крым, 1923—24) упершыню на тэр. СССР выявіў рэшткі выкапнёвага чалавека — неандэртальца, прылады працы ранняга палеаліту. Знойдзе-

ныя ім крамянёвыя скульпт. выявы чалавека маюць узрост больш за 50 тыс. гадоў, з'яўляюцца першымі ў гісторыі чалавецтва прадметамі мастацтва. Аўтар навук. прац, якія маюць вял. значэнне для доказу пераемнай сувязі культуры і фізічнага тыпу чалавека ранняга палеаліту. У 1934 арыштаваны, асуджаны на 3 гады, адбываў пакаранне ў лагерах Варкуты. Пасля вяртання жыў пад Ленінградам. Рэабілітаваны ў 1942. У Вял. Айч. вайну чытаў лекцыі ў Казанскім ун-це.

*Тв.*: Итоги изучения крымского палеолита // Тр. II Междунар. конф. Ассоциации по изучению четвертичного периода Европы. Ленинград и др., 1934. Вып. 5; Грот Киик-Коба. М.; Ленинград, 1940. *А.І.Марозава.*

**БОР**, археалагічныя помнікі — паселішчы каля в. Бор Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл. У 2002 В.Л.Лакіза і В.С.Абухоўскі выявілі на правабярэжжы р. Нёман 7 першабытных паселішчаў.

Найб. старажытнымі з'яўляюцца паселішчы-1 і 2, на якіх знойдзены фінальнапалеалітычны крамянёвы інвентар. Матэрыял, які дазваляе характарызаваць крамянёвую індустрыю неаліту і ранняга бронзавага веку, выразна прадстаўлены на паселішчах-3, 4 і 5.

П а с е л і ш ч а - 1 за паўд.-ўсх. ускраінай вёскі, на правабярэжнай тэрасе р. Нёман. Артэфакты сустракаюцца на пляцоўцы памерамі 300 × 150 м. Знойдзены 8 дробных фр-таў ляпной неарнаментаванай керамікі позняга неаліту і бронзавага веку; 354 крамянёвыя вырабы першаснай апрацоўкі (адшчэпы, пласціністыя адшчэпы, пласціны, сколы падпраўкі нуклеусаў, абломкі); 25 крамянёвых нуклеусаў (у т.л. 2 двухпляцовачныя монафрантальныя фінальнапалеалітычныя, 9 аднапляцовачных неалітычных); 56 крамянёвых вырабаў з другаснай апрацоўкай (у т.л. праколка, скрабкі, скрабачы, нож серпападобны, пласціна са скошаным рэтушшу канцом, разцы, цёслы, чаранковы наканечнік стралы, фр-т шліфаванай сякеры). Датуецца фінальным палеалітам, мезалітам, неалітам і раннім перыядам бронзавага веку.

П а с е л і ш ч а - 2 на паўд.-ўсх. ускраіне вёскі, за 0,2 км на Пд ад грамадскіх гасп. пабудоў, на правабярэжнай тэрасе р. Нёман. На пляцоўцы памерамі каля 80 × 100 м знойдзены крамянёвыя вырабы: нуклеусы, рэтушаваныя адшчэпы і пласціны, скрабок, цясла. Датуецца фінальным палеалітам, мезалітам і неалітам.

П а с е л і ш ч а - 3 за паўд.-ўсх. ускраінай вёскі, 0,4—0,45 км на Пд ад грамадскіх гасп. пабудоў, за забалочанай старыцай, на правабярэжнай тэрасе р. Нёман. На пляцоўцы памерамі каля 100 × 300 м знойдзены крамянёвыя вырабы позняга неаліту: 93 — першаснай і 41 — другаснай апрацоўкі (у т.л. рэтушор, рэтушаваныя адшчэпы і пласціны, скрабкі, скрабачы, разцы, нож серпападобны, яніславіцкае вастрыё, цясла, рубячыя прылады), 17 нуклеусаў. Датуецца мезалітам (*яніславіцкая культура*), неалітам і раннім перыядам бронзавага веку.

П а с е л і ш ч а - 4 за паўд.-ўсх. ускраінай вёскі, 60 м на Пд ад паселішча-3, на пясчаным узвышшы правабярэжнай поймы р. Нёман. На пляцоўцы памерамі 30 × 300 м знойдзены крамянёвыя вырабы: нуклеусы, рэтушаваныя адшчэпы і пласціны, праколка, разцы, фр-т трапецыі. Датуецца мезалітам і познім неалітам.

П а с е л і ш ч а - 5 за паўд.-ўсх. ускраінай вёскі, за забалочанай старыцай, на правабярэжнай тэрасе р. Нёман. На пляцоўцы памерамі каля 100 × 200 м знойдзены крамянёвыя вырабы мезаліту і позняга неаліту, у т.л. рэтушор, рэтушаваныя адшчэпы і пласціны, нуклеусы, праколка, разцы, фр-т рубячай прылады, скрабач, скрабок. Датуецца неалітам (*нёманская культура*, *шарападобных амфар культура*).

П а с е л і ш ч а - 6 за 1 км на Пд ад вёскі, на пясчаным узгорку пасярод правабярэжнай поймы р. Нёман. На пляцоўцы памерамі каля 50 × 150 м знойдзены крамянёвыя вырабы: рэтушор, нуклеусы, сколы падпраўкі пляцоўкі нуклеусаў, рэтушаваныя адшчэп і пласціны, разцы. Датуецца неалітам і раннім перыядам бронзавага веку.

П а с е л і ш ч а - 7 за 1,2 км на Пд ад вёскі, на невял. пясчаным узвышшы правабярэжнай поймы р. Нёман. Помнік пашкоджаны кар'ерам. У агаленнях кар'ера знойдзены фр-ты ляпной керамікі, крамянёвыя адшчэпы, пласціны, праколка, нуклеус. Датуецца мезалітам, неалітам (прыпяцка-нёманская і нёманская культуры).

*Літ.*: А б у х о ў с к і В.С., Л а к і з а В.Л. Археалагічныя даследаванні на тэрыторыі Беларускага Панямоння ў 2002 г. // ГАЗ. Мінск, 2003. № 18. *В.Л.Лакіза.*

**БО́РАЎНА**, археалагічны помнік — гарадзішча за 1 км на ПнУ ад в. Бораўна Лепельскага р-на Віцебскай вобл., на ўзгорку карэннага берага безыменнай ракі. Пляцоўка амаль круглая, дыям. 35—37 м, выш. ад 3—6 да 10 м, з напольнага (паўд.) боку умацавана валам выш. 2—2,3 м. Выявіў і даследаваў 100 м$^2$ у 1972, 1976 А.Р.Мітрафанаў, у 1989 абследаваў В.І.Шадыра. Культ. пласт у



***Крамянёвыя вырабы з паселішча-1 Бор.***



*Ю.М.Бохан.*

цэнтры 0,2—0,3 м, каля вала — 0,9—1 м. Выяўлены рэшткі наземных жытлаў слупавой канструкцыі, гасп. ямы. Знойдзены фр-ты ляпного посуду, жужаль, косці жывёл, жал. серп. Адносіцца да позняга этапу *днепра-дзвінскай культуры* (пач. н.э.) і *банцараўскай культуры* (6—8 ст.).

*В.І.Шадыра.*

**БО́РХАЎ**, археалагічны помнік — гарадзішча за 3 км на Пн ад в. Борхаў Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл., на пясчаным узвышшы, у поплаве левага берага Дняпра, ва ўр. Баброў Хутар. Упершыню згадваецца Е.Р.Раманавым у 1910. Абследавала ў 1955 і правяла раскопкі ў 1959 В.М.Мельнікоўская, у 1976 абследаваў Г.В.Штыхаў. Гарадзішча прамавугольнай формы, памерамі 30 × 60 м. Па перыметры ўмацавана валам, шыр. 10 м, выш. каля 1 м. Культ. пласт 0,2—0,65 м. Раскоп пл. 34 $м^2$ распрацаваны ў паўд.-ўсх. частцы помніка. Выяўлены рэшткі наземнага жытла квадратнай формы, памерамі 3,2 × 3,2 м, са слупавой частакольнай канструкцыяй сцен і арыентацыяй з ПнЗ на ПдУ. Уваход быў з Пн, каля паўн.-ўсх. вугла. Вугліста-попельная падлога заглыблена ў мацярык на 0,1 м, у якім засталіся ямкі ад слупоў, каля паўн.-зах. сценкі выяўлена вял. яма авальнай формы. У запаўненні жытла знойдзены мілаградская кераміка, у т.л. развалы 2 гаршкоў і камяні ад раскіданага вогнішча, у раскопе — абломкі глінянага посуду мілаградскай культуры, 8 грузікаў-прасліц канічнай, акруглаканічнай, шара- і посудападобнай форм, жал. шпілька кіепадобная з галоўкай трохвугольнай формы 3 ст. да н.э. Ляпны посуд прадстаўлены гаршкамі з шара-, яйцападобным альбо авальным тулавам, круглаватым донцам і адагнутым вонкі венцам. Верхнія часткі пасудзін упрыгожаны ямачнымі ўціскеннямі ад палачкі, пальца і пазногця пераважна па шыйкам пасудзін. Адносіцца да мілаградскай культуры, датуецца 3—2 ст. да н.э.

*Літ.:* М е л ь н и к о в с к а я О.Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке. М., 1967.

*М.І.Лашанкоў.*



*Знаходкі з раскопак **Брагіна**.*

**БО́ТАВА**, археалагічныя помнікі — стаянкі на паўн. беразе воз. Пагосцкае, каля в. Ботава Пінскага р-на Брэсцкай вобл.

С т а я н к а - 1 эпохі неаліту. За 2 км на Пд ад вёскі, на марэнным узгорку выш. да 4—6 м (цяпер востраў на вадасховішчы). Даўж. да 100 м. Выявіў у 1962 і даследаваў у 1987 У.Ф.Ісаенка. Знойдзена звыш 400 апрацаваных крэменяў і крамянёвых прылад працы, фр-ты ляпных гаршкоў. Датуецца 4—3-м тыс. да н.э.

С т а я н к а - 2 нёманскай і шнуравой керамікі культур бронзавага веку. За 3 км на ПдЗ ад вёскі, на схіле марэннага ўзгорка выш. 2—4 м. Даўж. больш за 120 м. Адкрыў у 1962 і даследаваў у 1967—70, 1987 У.Ф.Ісаенка. Выяўлены рэшткі агнішчаў, абкладзеных камянямі. Знойдзена 1250 апрацаваных крэменяў, звыш 190 прылад працы (трохвугольныя наканечнікі стрэл, сярпы, нажы, сякеры, скрабкі, скрэблы і інш.), рэчы ранняга жал. веку, фр-ты каля 20 пасудзін з дамешкамі ў гліне буйназярністага пяску і жарствы.

*Літ.:* И с а е н к о В.Ф. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976.

*У.Ф.Ісаенка.*

**БО́ХАН** Юрый Мікалаевіч (н. 21.2.1966, Мінск), беларускі гісторык і археолаг. Д-р гіст. навук (2003). Скончыў Мінскі педагагічны ін-т імя А.М.Горкага (1990). З 1990 у ІГ НАН Беларусі (з 2001 заг. аддзела), з 2005 заг. кафедры Бел. дзярж. эканамічнага ун-та. Даследуе пытанні урбаністычнага развіцця ВКЛ у 15—18 ст., праблемы Брэсцкай царкоўнай уніі 1596, узбраення і арганізацыі арміі ВКЛ 14—16 ст., побыту феадалаў ВКЛ.

*Тв.:* Узбраенне войска Вялікага княства Літоўскага ў другой палове XIV — канцы XVI ст. Мінск, 2002; Зброя Вялікага княства Літоўскага 1385—1576. Мінск, 2003; Наёмнае войска ў Вялікім княстве Літоўскім у XV—XVI стст. Мінск, 2004; Турнірныя традыцыі ў Вялікім княстве Літоўскім у XV—XVI ст. Мінск, 2008; Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV — канцы XVI ст. Мінск, 2008.

**БРА́ГІН**, археалагічныя помнікі — дзяцінец (замак) і пасад у г.п. Брагін Гомельскай вобл. Размешчаны на выступе правага берага р. Брагінка пры ўпадзенні ў яе безназоўнага ручая. Пляцоўка чатырохвугольная, памерамі 90 × 70 м. З Пн да яго прымыкала забалочаная пойма ракі, з З — вял. стаў, утвораны плацінай на ручаі, з Пд — балоты, праз якія пракладзена грэбля, з У уздоўж ручая распасціраўся пасад «Загароддзе». Дзяцінец быў абкружаны абарончым валам выш. 5—6 м, шыр. каля 10 м. У 1977 М.А.Ткачоў даследаваў 40 $м^2$. Культ. пласт 1,25—3,8 м, у верхняй частцы на глыб. 0,8—1 м моцна перамешаны. У час даследаванняў на дзяцінцы ўстаноўлена, што вал узведзены ў 11 ст., на працягу 12—13 ст. яго неаднаразова падсыпалі, зафіксаваны сляды 2 пажараў выглядзе попельна-вугальных прапласткаў, рэшткаў згарэлых навальных канструкцый. Каля асновы вала выяўлены рэшткі слупавой частакольнай канструкцыі, якая прадухіляла апаўзанне яго схілаў. На мацерыку прасочваюцца сляды агнішчаў, западзіны і ямы, знойдзены крамянёвае рубіла і ляпная кераміка *зарубінецкай культуры*. Да стараж.-рус. часу належаць фр-т венчыка с карнізікам 11 ст., абломкі посуду 12—13 ст., у т.л. імпартнага кіеўскага чырвонага і белага колераў, шкляныя бранзалеты, шыферныя праслiцы, касцяны грэбень, наканечнік стралы. У культ. пластах перыяду ВКЛ выяўлена кераміка 14—18 ст.: гаршкападобная кафля, паліваныя каронкі печаў, паліхромная сценная кафля, люлькі з арнаментам і клеймамі, цэгла. У выніку шурфоўкі на пасадзе за ручаём і ставам на З ад дзяцінца знойдзены матэрыялы 11—18 ст., фр-т керамікі 10 ст.

Старaж. Б. узнік як дрыгавіцкі горад у зоне змяшэння дрыгавічоў, палян і севяран, падпарадкоўваўся кіеўскім князям. Упершыню згадваецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1147 у сувязі з паходам чарнігаўскіх князёў, каб адпомсціць кіеўскаму кн. Ізяславу Мсціславічу за разрабаванне чарнігаўскіх гарадоў. З 1360-х г. Б. у складзе ВКЛ, уласнасць вял. князёў, на месцы дзяцінца быў закладзены замак, які праіснаваў да 1648.

*Літ.*: Археалогія Беларусі. Т. 3. Мінск, 2000.

**БРАЗГО́ТКА**, званочак, пустацелы металічны шарык з кавалачкамі металу ўсярэдзіне, своеасаблівае ўпрыгажэнне дэкаратыўных дэталей адзення ў выглядзе прывесак або гузікаў з вушкам для прывешвання. У старaж. часы лічылі, што Б. засцерагае ад няшчасцяў. У Беларусі вядома ў 10—15 ст., памеры 1,5 × 2,5 см. У 10 — сяр. 12 ст. найб. былі пашыраны грушападобныя Б. з крыжападобнай прарэззю і косай насечкай у ніжняй частцы; у 11 — пач. 14 ст. — шарападобныя Б., зробленыя з 2 цiснёных палавінак, некаторыя адлівалі з медзі. У 2-й пал. 13 — к. 14 ст. Б. выраблялі метадам ліцця па васковай мадэлі з лінейнай прарэззю ўнізе і папярочным ліцейным швом. Бронзавыя Б. выяўлены пры раскопках у Ваўкавыску, Лукомлі, Мінску, Полацку, у курганах помнікаў *Ізбішча*, *Наўры*, *Навасёлкі*, *Плусы* і інш.

**БРА́МА**, архітэктурнае і абарончае збудаванне з дрэва, каменю альбо цэглы, якое ўмацоўвала ці



*Уязная* ***брама*** *Нясвіжскага замка (рэканструкцыя).*

акцэнтавала ўезд у горад, замак, двор, манастыр, сядзібу ці інш. замкнёны комплекс пабудоў.

Уваход (праезд) ва ўмацаваныя паселішчы эпохі ранняга жал. веку не меў сапраўдных брам, а зачыняўся простымі варотамі, якія прыкрываліся складанай канфігурацыяй вала ці змяшчаліся ў цяжкадаступным месцы. Спец. ўмацаванні праезду з'яўляюцца толькі ў сярэдневяковых гарадах. У 10—13 ст. Б. гарадоў Усх. Еўропы, як і інш. гар. ўмацаванні, будаваліся звычайна з дрэва.

На тэр. Беларусі вывучаліся толькі рэшткі драўлянай Б. дзяцінца Мінска (Э.М.Загарульскі, Ю.А.Заяц), якія былі раскапаны пры будаўніцтве станцыі метрапалітэна ў 1984—85. Яна была ўзведзена з дубовых бярвён у разрыве вала дзяцінца з усх. боку. Тут знойдзены рэшткі 3 Б., якія паслядоўна змянялі адна другую. Лепш за ўсё захавалася Б., што існавала ў пач. 12 — сяр. 13 ст. Гэта была 2-ярусная і 2-аб'ёмная пабудова. Гал., найвялікшы аб'ём месціўся па восі трасы вала; малы ўзвышаўся над вонкавым схілам вала, фланкіруючы яго, і не выступаў за мяжу яго падэшвы. Выш. аб'ёмаў (без уліку дахаў) адпаведна 7 і 12 м. У кожным аб'ёме меліся насцілы, якія абапіраліся на слупы і дазвалялі весці абарону ўнутранай прасторы. Вял. аб'ём быў 2-павярховы. Першы паверх — уласна Б. з унутранымі баявымі насцiламі, драўлянай маставой і створкамі варот. Баявыя пляцоўкі з брустверамі верхняга паверха злучаліся з забароламі (верхнімі баявымі галерэямі) абарончых сцен, што стаялі на грэбені вала. На 2-м паверсе размяшчаліся надбрамная царква і памяшканне для варты і боепрыпасаў. Б. падобнай канструкцыі маглі быць у дзяцінцаў і вакольных градаў інш. гарадоў Беларусі, а таксама ва ўмацаваных феад. сядзібах — замках перыяду Кіеўскай Русі.

У познім сярэдневякоўі павялічваецца колькасць аб'ектаў, якія мелі Б., больш разнастайнай робіцца іх канструкцыя. Найб. раннія мураваныя замкі Беларусі (Лідскі, Крэўскі — 1-я пал. 14 ст.) мелі праёмы варот са звычайным абрамленнем, якія зачыняліся створкамі альбо пад'ёмным мостам. Выгляд мурававай вежы з праёмам праезду мелі Б. *Гродзенскага Старога замка*, Любчанскага замка, Малая Б. *Навагрудскага замка*.

Б.-вежа *Мірскага замка* (16 ст.) па форме і аздабленні нагадвае вуглавыя вежы. Аднак праём праезду, які меўся ў яе ніжнім ярусе, апрача дубовых варот зачыняўся яшчэ і пад'ёмнай кратай — герсай. Машыкулі, што меліся на ўзроўні 3-га паверха вежы, выкарыстоўваліся для абароны падыходаў. У к. 16 ст. да брамнай вежы Мірскага замка было прыбудавана мураванае падкованадобнае перадбрам'е, якое на 8 м выступала за лінію замкавых муроў, дазваляючы фланкіраваць іх і ў той жа час засцерагаючы Б. ад прамога артабстрэлу.

Спец. 2-павярховыя мураваныя Б. былі пабудаваны ў бастыённых замках Глуска і Заслаўя. Апошні меў 2 Б.: вял. (паўд.), якая злучала замак з горадам, і малую (паўн.), што давала выхад на бераг р. Свіслач. У некаторых замках з моцнай абаронай, якая забяспечвалася бастыёнамі і артылерыяй, Б. рабіліся ў большай ступені дэкаратыўнымі, з жылымі і гасп. памяшканнямі (*Нясвіжскі замак*). У замках 18 ст. (*Гродзенскі Новы замак*) Б. ў большай ступені былі ўласцівы парадна-дэкаратыўныя функцыі. Даследаваліся Б. замкаў у Глуску (І.У.Ганецкая), Заслаўі (Г.В. Штыхаў, Ю.А.Заяц, І.М.Чарняўскі), Міры (М.А. Ткачоў, Ю.А.Заяц).

У познім сярэдневякоўі ў гар. і местачковых агароджах меліся Б., якія звычайна атрымлівалі назвы па накірунках дарог. Так, у Нясвіжы меліся Б. Замкавая, Віленская, Клецкая, Слуцкая; у Магілёве — Быхаўская, Віленская, Шклоўская. Яны нярэдка былі месцамі збору мыта. Мелі выгляд мураваных альбо драўляных невял. праязных вежаў і часта месціліся побач з больш магутнымі вежамі гар. валоў. Зрэдку, як Слуцкая Б. Нясвіжа, што змяшчалася паміж лініямі земляных умацаванняў, яны будаваліся па асобным праекце. Гар. Б. даследаваліся ў Нясвіжы (Замкавая, ці Гарадская, — І.У.Ганецкай; Слуцкая — А.А.Мяцельскім) і Міры (А.К.Краўцэвіч).

Манастыры і кляштары, як і некаторыя асобныя храмы, агароджваліся, а на месцы праезду ў іх меліся драўляныя альбо мураваныя Б. Яны звычайна рабіліся 2-павярховымі, на 2-м паверсе змяшчалася званіца. Археолагамі вывучалася разбураная паўн. Б. *Аршанскага Куцеінскага Богаяўленскага манастыра* (В.М.Ляўко), якая ў 17 ст. была цалкам драўляная, у 18 ст. — драўляная на каменным падмурку (1-ы паверх яе мог быць цагляным), а ў 19 ст. — цалкам цагляная.

*Літ.*: Т к а ч о ў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мінск, 1978; К р а ў ц э в і ч А.К., Я к ш у к Г.М. Стары Мір. Мінск, 1993; З а я ц Ю.А. Заславль в эпоху феодализма. Минск, 1995; Я г о ж. Оборонительные сооружения Менска XI—XIII вв. Минск, 1996; Я г о ж. Замкі // Археалогія Беларусі. Мінск, 2001. Т. 4; Я г о ж. О некоторых особенностях принципов организации обороны Мирского замка (мифы и реальность) // МАБ. 2006. Вып. 12; Л я ў к о В.М. Манастырскія комплексы. Замкі // Археалогія Беларусі. Мінск, 2001. Т. 4.

*Ю.А.Заяц.*



*Шкляныя* ***бранзалеты*** *11—13 ст. з Гомеля.*

**БРАНЗАЛÉТ** (ад франц. bracelet запясце), упрыгажэнне для рук пераважна кольцападобнай альбо блізкай да яе формы. Носяць на запясці, часам вышэй локця. Вядомы з глыбокай старажытнас-

ці; акрамя дэкаратыўнай мог мець функцыі амулета, узнагароды, паказчыка прыналежнасці да пэўнай сацыяльнай групы; баявыя Б. засцерагалі руку ад удараў халоднай зброі. Выраблялі Б. з косці, рога, металаў, бурштыну, каменю, шкла. На тэр. Беларусі вядомы касцяныя і рагавыя Б. эпохі неаліту (*Галоўск*), медныя з каванага дроту ці пласцінак сярэднедняпроўскай культуры (*Рудня-Шлягіна*) і бронзавыя з завіткамі на канцах тшцінецкай культуры. У раннім жал. веку ў носьбітаў мілаградскай культуры былі пашыраны бронзавыя і сярэбраныя Б., якія ўпрыгожваліся папярочнымі насечкамі, зернем, вальцамі (*Гарошкаў*); бронзавыя і жал. Б. зарубінецкай культуры — спірале- і падковападобныя з гладкага і кручонага дроту, часам з ромбападобным арнаментам (*Чаплін*); разнастайныя па форме Б. днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур (*Банцараўшчына*, *Кімія*). У 10—13 ст. былі пашыраны металічныя Б.: медныя і бронзавыя круглага сячэння, плеценыя, вітыя з завязанымі канцамі, пласціністыя з канцамі ў выглядзе змяіных ці звярыных галовак. У 12—13 ст. у тэхніцы ліцця выраблялі лжэкручаныя, лжэплеценыя, вітыя Б. з петлепадобнымі канцамі; радзей сустракаюцца Б. жал. дротавыя і бронзавыя складанай тэхналогіі вырабу (напр., з драцянай асновай, пераплеценай больш тонкім дротам, перавітым сканню). Знойдзены створкавыя сярэбраныя (гл. *Вішчынскі грашова-рэчавы скарб*) і білонны Б. з Пінска (зроблены ў тэхніцы ліцця, упрыгожаны імітацыяй зерні і ўстаўкамі з чырвонага шкла). Залатыя Б. выяўлены ў Полацку (гл. *Полацкі рэчавы скарб*) і на Мінскім замчышчы. Былі пашыраны Б. са шкла, разнастайныя па колеры і якасці, форме сячэння, тэхналогіі вытворчасці. У 10—11 ст. іх прывозілі пераважна з Візантыі. У к. 11 — 1-й пал. 13 ст. былі распаўсюджаны кіеўскія шкляныя Б., а ў 13—14 ст. іх пачалі вырабляць і на тэр. Беларусі (знойдзены пры раскопках 60 населеных пунктаў, пераважна ў гарадах і на асобных селішчах, напр. *Гарадзілаўка*, *Міхалова*).

*Літ.*: Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1—2. Минск, 1970—72; Щ а п о в а Ю.Л. Стекло Киевской Руси. М., 1972; С к р ы п ч а н к а Т.С. О производстве двухслойных и филигранных стеклянных браслетов // Древнерусское государство и славяне. Минск, 1983; Л ы с е н к а П.Ф. Гандаль і прывазныя вырабы // Археалогія Беларусі. Мінск, 2000. Т. 3.

*Ю.А.Заяц, С.Я.Рассадзін, Т.С.Скрыпчанка.*

**БРА́СЛАЎ**, горад, цэнтр Браслаўскага р-на Віцебскай вобл., паміж азёрамі Дрывяты, Навята, Бярэжа, Святца, Загноек. За 220 км на З ад Віцебска, аўтадарогамі злучаны з Міёрамі, Шаркаўшчынай, Друяй, Відзамі, Даўгаўпілсам.

Узнік у к. 10 ст. на месцы латгала-слав. паселішча. Выконваў ролю абарончага пункта на паўн.-зах. парубежжы Полацкага княства. Паходжанне назвы Б. звязваюць з імем полацкага кн. Брачыслава Ізяславіча (1003—44); існуе думка, што яна паходзіць ад балцкай асновы «брасла» (брод), пазней пераасэнсаванай славянамі. Упершыню Б. (летапісны Б р а с л а в л ь, Б р а с л а в л ь  З а в е л ь с к и) упамінаецца ў летапісе Быхаўца і хроніцы М.Стрыйкоўскага пад 1065 у сувязі з нападам на яго літ. князёў братоў Кернуса і Гімбута (некаторыя даследчыкі лічаць, што гэтая падзея адбылася ў 1068). З 14 ст. велікакняжацкае ўладанне ў ВКЛ. У 15 ст. цэнтр Браслаўскага пав. Віленскага ваяводства. У 1500 атрымаў няпоўнае магдэбургскае права. У 16—17 ст. важнае значэнне меў Браслаўскі замак (упершы-



*Бронзавы **бранзалет** 11—12 ст. з гарадзішча Вежкі Дубровенскага р-на (раскопкі Ю.У.Каласоўскага).*



*Бронзавыя **бранзалеты** 12—13 ст. з Верхняга замка ў Віцебску (раскопкі Л.У.Калядзінскага).*



*Рэчы з раскопак **Браслава**.*

ню згадваецца ў 1514). У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 і Паўн. вайну 1700—21 Б. шматразова разбураўся. У 1793—95 існавала Браслаўскае ваяводства (пасля пажару 1794 яго цэнтр з Б. перанесены ў Відзы). У выніку 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Расіі.

Гарадзішча Замкавая Гара — стараж. цэнтр Б. — размешчана на вузкім перашыйку паміж азёрамі Дрывяты і Навята, недалёка ад пратокі паміж імі, на ўзвышшы 14 м. Пляцоўка памерамі 200 × 100 м умацавана валам выш. 3—4 м на ПдУ і 9 м на ПнЗ. Даследаваў у 1955—56 Л.В.Аляксееў, раскапана 400 м$^2$ ва ўсх. частцы гарадзішча. У 1989 Г.М.Семянчук і М.А.Ткачоў ускрылі 316 м$^2$, у 1990 Г.М.Семянчук — 184 м$^2$, у 1989—90 агульная даследаваная пл. склала 900 м$^2$. Культ. пласт каля валоў да 2 м, у напрамку да цэнтра — да 0,25 м; складаецца з 3 гарызонтаў. Культ. пласт ніжняга гарызонта (3-я чв. 1-га тыс. — сяр. 11 ст.) каля 0,25 м. Побач з раннеганчарным посудам выяўлена шмат ляпной керамікі 2-й пал. 1-га тыс., тыповай для крывіцкіх гарадзішчаў паўн. Беларусі. Аналіз астэалагічных матэрыялаў сведчыць аб перавазе свіней у жывёлагадоўлі, што характэрна для латгальскіх плямён. Ад сярэдняга ніжні гарызонт аддзелены рэшткамі пажарышча 11 ст. (5—20 см), дзе выяўлены наканечнік суліцы з лістападобным пяром, калачападобнае крэсіва з «язычком», скроневае кольца дрыгавіцкага тыпу і інш.

Культ. пласт сярэдняга гарызонта (2-я пал. 11—13 ст.) да 0,6—0,7 м. У ім выяўлены рэшткі 2 драўляных пабудоў: адна з іх памерамі 4 × 4 м, у паўн. куце рэшткі печы, адкапаны ніжнія вянкі пабудовы (даўж. сцяны 2,2 м). Знойдзены шыферныя і гліняныя праслiцы, касцяныя грабяні, жал. крэсівы з «язычком», ключ ад цыліндрычнага замка, нажы, баявая сякера 11 ст., рыбалоўныя кручкі, 2 жал. пісалы (2-я пал. 12—13 ст.), каменны нацельны крыжык. Сярод упрыгажэнняў скроневыя кольцы, шкляныя пацеркі, падковападобныя спражкі і фібулы, шкляны і кручаныя бранзалеты, бронзавыя пярсцёнкі, фр-ты шыйных грыўняў. Ёсць рэчы, характэрныя для латгальскага насельніцтва: бранзалеты са змеепадобнымі канцамі, бразготкі з прораззю, спіралепадобныя пранізкі, шпількі. Таксама знойдзены кераміка, якая мела адносіны да гарадоў Полацкай зямлі, донцы з клеймамі, косці свойскіх і дзікіх жывёл, зерне жыта, ячменю, аўса.



*Фібула 11 ст. з Браслава.*

У культ. пласце верхняга гарызонта (14—18 ст.; 0,2—0,5 м) знойдзены літ. манета «кейстутоўка» 14 ст., грашовы памятны жэтон 1586, металічны нацельны крыжык, ромбападобныя наканечнікі стрэл, абломак шпоры, замкі і ключы, нажы, уступчатая і слабапрафіляваная кераміка, пасудзіны з пукатым тулавам без шыйкі і венчыка ў выглядзе валіка, гаршкі з вертыкальна пастаўленай шыйкай і пукатым круглаватым тулавам. Знойдзена шмат гаршковай і каробчатай арнаментаванай кафлі 15—18 ст., з палівай і без яе.

*Літ.*: Алексеев Л.В. Раскопки древнего Браслава // КСИА. 1960. Вып. 81; Яго ж. Полоцкая земля в IX—XIII вв.: (очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966; Штыхов Г.В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). Минск, 1978. *Г.М.Семянчук.*

**БРА́СЛАЎСКІ КУРГА́ННЫ МО́ГІЛЬНІК**, археалагічны помнік — курганны могільнік 10 — пач. 11 ст. на ўсх. ускраіне г. Браслаў, на беразе воз. Цно, ва ўр. Заборныя Гумны. У к. 19 ст. ў могільніку было каля 10 курганоў дыям. 5,8—7,5 м, выш. 0,75—1,1 м. Цяпер не існуе. У 1893 Ф.В.Пакроўскі даследаваў 6 курганоў. Пахавальныя абрады — трупаспаленне па-за межамі кургана (3 курганы) і трупапалажэнне на мацерыку пад насыпам (3 курганы). Пры пахаваннях па абраду крэмацыі знойдзены ляпны посуд. Пры пахаваннях па абраду інгумацыі выяўлены жал. наканечнікі коп'яў, сякеры, нож, шпілька з рухомым кальцом, крэсіва, крэмень для крэсіва, тачыльны брусок, бронзавыя падковападобныя фібулы са спіральнымі і макападобнымі канцамі, бранзалеты, пярсцёнкі, гліняны ляпны посуд. Курганы з крэмацыямі з'яўляюцца пахаваннямі носьбітаў культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў, з інгумацыяй, верагодна, належаць прадстаўнікам полацкай княжацкай адміністрацыі і адлюстроўваюць працэс уключэння рэгіёна ў Полацкае княства.

*Лит.*: Покровский Ф.В. Курганы на границе современной Литвы и Белоруссии // Тр. IX АС. М., 1895. Т. 1. *М.А.Плавінскі.*

**БРО́НЗА** (франц. bronze), сплаў на аснове медзі, у якім асноўнымі дабаўкамі з'яўляюцца волава, алюміній, берылій, крэмній, свінец, хром і інш. элементы, за выключэннем цынку і нікелю. Б. мае значную трываласць, пластычнасць, цвёрдасць, высокія антыкаразійныя і антыфрыкцыйныя ўласцівасці. У 4—3-м тыс. да н.э. Б. пачалі выплаўляць у краінах Пярэдняй Азіі, Егіпце, Індыі, Кітаі. У Еўропе пач. эпохі Б. прыпадае на мяжу 3-га і 2-га тыс. да н.э. ў Міжземнамор'і, на Пд Балканскага паўвострава, Зах. Каўказе. Да к. 1-й пал. 2-га тыс. да н.э. металургія і апрацоўка Б. пашырылася на ўскраінах Паўн.-Зах. і Паўн.-Усх. Еўропы. Першыя распрацоўкі медных, алавяных і інш. руд у Еўропе пачаліся на Балканах і Карпатах, з 1700—1500 да н.э. — ва Усх. Альпах. На тэр.

Беларусі бронзавых знаходак мала — шылы, сякеры, наканечнікі коп'яў, упрыгажэнні. Гэта тлумачыцца аддаленасцю ад стараж. цэнтраў металургіі. Мясц. вытворчасць некаторых бронзавых рэчаў з прывазной сыравіны і пераплаўка сапсаваных вырабаў пачаліся ў Беларусі з сяр. 2-га тыс. да н.э.

*Літ.*: Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1. Минск, 1972; Исаенко В.Ф. Археологическая карта Белоруссии. Вып. 3. Памятники бронзового века. Минск, 1976.

*Дз.В.Кашавар.*

**БРО́НЗАВЫ ВЕК**, эпоха ў развіцці культуры чалавецтва, калі ўзніклі і актыўна распаўсюджва-




*Медныя і бронзавыя вырабы паўднёвай і паўднёва-ўсходняй Беларусі пачатковага (1—3), ранняга (4—8) і позняга (9—14) перыядаў* ***бронзавага веку****. 1 — Калічонка (Быхаўскі р-н); 2 — Барысаўшчына (Хойніцкі р-н); 3 — Тульгавічы (Хойніцкі р-н); 4 — Новы Быхаў (Быхаўскі р-н); 5, 10 — Пінск; 6 — Гомель; 7 — Прыбар (Гомельскі р-н); 8 — Прысно (Веткаўскі р-н); 9 — Камень (Кобрынскі р-н); 11 — Здзітава—Горбава (Бярозаўскі р-н); 12 — Смолаўская Буда (Чэрыкаўскі р-н); 13 — Сасонка (Рослаўскі р-н Смаленскай вобл., Расія); 14 — Бердыж (Чачэрскі р-н).*




*Медныя і бронзавыя вырабы з пахаванняў сярэдненяпроўскай культуры пачатку* ***бронзавага веку*** *паўднёва-ўсходняй Беларусі: 1, 3, 9, 10 — Ходасавічы—Мошка (курган 11/1); 2, 8 — Ходасавічы—Мошка (курган 10/2); 4 — Ходасавічы—Мошка (курган 12/1); 5 — Ходасавічы—Мошка (курган 10/4); 6 — Ходасавічы—Сяргеева Грыва (курган 1/2); 7 — Ходасавічы—Палік (курган, пахаванне 3); 11 — Пралетарыят, пахаванне 1; 12 — Страліца, пахаванне 4; 13 — Страліца, пахаванне 2; 14 — Страліца, пахаванне 44; 15, 19, 22, 25 — Страліца, пахаванне 53; 16, 24 — Страліца, пахаванне 43; 17, 18 — Страліца, пахаванне 88; 20 — Страліца, пахаванне 8; 21 — Страліца, пахаванне 7; 23 — Страліца, пахаванне 20.*

ліся металургія, апрацоўка, выкарыстанне бронзы (сплавы медзі з інш. металамі) і вырабаў з яе. Бронзавыя вырабы, як правіла, ужываліся побач з меднымі, каменнымі і крамянёвымі. Прылады з бронзы маюць значную перавагу не толькі перад каменнымі і крамянёвымі, але і меднымі. Бронзу выгадней апрацоўваць — яна больш цвёрдая ў параўнанні з меддзю, плавіцца пры меншай тэмпературы, мае прывабны залаціста-рудаваты колер.

Медная металургія зарадзілася ў 7—6-м тыс. да н.э. на Блізкім Усходзе ў зоне неалітычных культур ад Анатоліі і Усх. Міжземнамор'я на З да Іранскага Хузістана на У. Распаўсюджанне ў Еўразіі на мяжы 4—3-га тыс. да н.э. штучных сплаваў з медзі звязана з узнікненнем і развіццём Цыркумпантыйскай металургічнай правінцыі, якая прыйшла на змену Балкана-Карпацкай металургічнай правінцыі энеалітычнага перыяду і сфарміравалася на прасторах вакол Чорнага мора, ахапіўшы Балкана-Карпацце, ПдУ Еўропы да Прыуралля, Каўказ, Месапатамію, ПдЗ Ірана, Анатолію, Эгею, Левант. Цэнтрамі здабычы сыравіны сталі горныя вобласці Каўказа, Анатоліі, Балкана-Карпацця і Прыуралля. Ранняя бронза — штучныя медна-мыш'яковістыя сплавы — упершыню была вынайдзена ў Анатоліі і на Каўказе ў 4-м тыс. да н.э. Класічная бронза — сплаў медзі і волава (да 10—15%) — у 3-м тыс. да н.э. згадваецца ў клінапісных тэкстах на Блізкім Усходзе. Вытворчасць такой бронзы, паводле знаходак з царскіх грабніц Ура і скарбаў Трої, пачалася ў сяр. 3-га тыс. да н.э. Пачатак цэнтр.-еўрап. Б.в. прыпадае на 2350—1950 да н.э. разам з распаўсюджаннем металічных вырабаў перыяду А1 эпохі бронзы (паводле перыядызацыі П.Рэйнекі) і ранніх фаз унеціцкай культуры. З к. 3-га — сяр. 1-га тыс. да н.э. практыка вытворчасці альбо ўжывання бронзавых вырабаў распаўсюдзілася на большую частку Еўропы, у т.л. лясную зону Усх. Еўропы. Узнікалі мясц. цэнтры металургіі, металаапрацоўкі, складваліся камунікацыйныя шляхі распаўсюджання сыравіны і бронзавых вырабаў. Заканчэнне Б.в. ў многіх рэгіёнах Еўропы прыпадае на 1300—700 да н.э., а на асобных тэр. на пач. н.э., разам з адкрыццём металургіі жалеза і наступленнем *жалезнага веку*.

Укараненне металу ў паўсядзённую практыку на Блізкім Усходзе, у Міжземнамор'і, на Пд Еўропы, у Сярэдняй Азіі, на Каўказе суправаджалася эканамічнымі і сацыяльнымі зменамі: з'яўленнем новых форм земляробства і жывёлагадоўлі, далейшай сацыяльнай дыферэнцыяцыяй і вылучэннем мясц. эліт. Назіралася спецыялізацыя асобных відаў гасп. дзейнасці (металургія, ганчарства, камене- і крэменеапрацоўка і інш.), зарадзілася рамяство, якое абасобілася ад земляробства і жывёлагадоўлі. У 3-м тыс. да н.э. ў Пярэдняй Азіі ўзнікаюць гарады — цэнтры рамеснай і гандл. дзейнасці, узнікла пісьменнасць, складваліся першыя цывілізацыі ў даліне Ніла, Тыгра і Еўфрата, у Малой Азіі і інш., зарадзілася крыта-мікенская цывілізацыя. Перадавыя для таго часу культ. дасягненні і сацыяльна-эканамічныя зрухі ў найб. ступені закранулі супольнасці Балкан, Апенінскага і Пірэнейскага паўастравоў, Пд сучаснай Францыі, ніжняе і сярэдняе Падунаўе, стэпы Усх. Еўропы. Меншая дынаміка культ. і сацыяльна-эканамічных змен назіраецца ў паўн. частцы Еўразіі, многія рэгіёны якой выступалі ў якасці перыферыйных зон у адносінах да цэнтраў развіцця бронзавай металургіі і металаапрацоўкі, бурных сацыяльных і эканамічных зрухаў.

У дачыненні да тэр. Беларусі асобнымі даследчыкамі сцвярджалася, што з'яўленне медных і бронзавых вырабаў, развіццё мясц. металавытворчасці, пачатак развіцця культур, для якіх характэрны вырабы з ранніх металаў, былі тут, па сутнасці, толькі «знешнімі» праявамі глыбінных змен. Ключавым паказчыкам наступлення Б.в. варта лічыць «дасягненне пэўнага ўзроўню эканамічнага і грамадскага развіцця» (У.Ф.Ісаенка, М.М.Чарняўскі і інш.). М.М.Чарняўскі прапаноўваў вылучаць для тэр. Беларусі ранні (к. 3-га — пач. 2-га тыс. да н.э.), сярэдні (1600/1500 — 1200/1100 да н.э.), позні (1200/1100 да н.э. — ранні жал. век) перыяды Б.в. Паводле У.Ф.Ісаенкі, ранні перыяд Б.в. — пач. 2-га тыс. — 1600/1400 да н.э., сярэдні — 1600/1400 — 1300/1200 да н.э., позні — 1300/1200 — 700/600 да н.э.

М.М.Крывальцэвіч распрацаваў схему вылучэння перыядаў эпохі бронзы паўд. Беларусі па




*Тшцінецкая кераміка* ***бронзавага веку*** *з помнікаў Беларускага Палесся: 1 — Азярное-1; 2 — Бухлічкі Хутар-1; 3, 6 — Буразь; 4 — Прылукі; 5 — Камень-2. Паводле М.М.Крывальцэвіча і У.Ф.Ісаенкі.*

прынцыпе змяняльнасці асн. культ. комплексаў, у якіх прысутнічаюць вырабы з ранніх металаў. Найб. стараж. комплексы, што ўключаюць металічныя вырабы з медзі, медна-мыш'яковістых сплаваў і алавяністай бронзы, адзначаюцца ў помніках позняга этапу *сярэднедняпроўскай культуры* на тэр. паўд.-ўсх. Беларусі. Большасць металічных вырабаў, якія, як правіла, уваходзілі ў комплексы пахавальнага інвентару і адносіліся да катэгорый зброі і ўпрыгажэнняў, паступала ад насельніцтва катакомбнай культуры і ад супольнасцей прыкарпацкага эпішнуравога культ. кола. Асобныя металічныя рэчы не маюць аналогій сярод артэфактаў сінхронных культур, а таму разглядаюцца ў якасці вырабаў уласна носьбітаў сярэднедняпроўскай культуры. Акрамя таго, сярод пахавальных прынашэнняў прысутнічаюць рэчы, атрыманыя ў выніку пераплаўкі металу паўн.-прычарнаморскага і балкана-карпацкага паходжання. Ужыванне ранняга металу пры здзяйсненні пахавальных абрадаў звязана з істотнымі сацыяльнымі зменамі, якія наступілі ў асяроддзі асобных груп насельніцтва паўд.-ўсх. Беларусі, у т.л. пад уздзеяннем супольнасцей ранніх перыядаў Б.в. цэнтр.-ўсх. Еўропы і Цыркумпантыйскай зоны. Гэты этап у паўд.-ўсх. Беларусі М.М.Крывальцэвіч прапанаваў назваць пачатковым перыядам Б.в., папярэдне датуючы яго к. 3-га тыс. — 1700 да н.э. Сінхронна з пачатковым Б.в. у паўд. Беларусі працягвалася існаванне познанеалітычных (эпінеалітычных) супольнасцей, у т.л. тых, якія жылі ў Прыпяцкім і Брэсцкім Палессі, захоўваючы многія традыцыі кола *шнуравой керамікі культуры*, днепра-данецкай, нёманскай і інш. неалітычных культур. На адным з этапаў пачатковага Б.в. ў Гомельскае Палессе ў перыяд з 2000 да 1700/1600 да н.э. на берагі Дняпра, у нізоўі Прыпяці і Сажа пранікаюць прадстаўнікі лесастэпавага насельніцтва са шматвалікавай керамікай (культ. кола Бабіна). Ранні Б.в. надышоў у Бел. Палессі ў перыяд з'яўлення комплексаў тшцінецкага культ. кола — каля 1700/1600 да н.э. У ранні перыяд Б.в. на тэр. паўд. Беларусі паступаюць бронзавыя вырабы, якія адносяцца, паводле паўн.-еўрап. схем перыядызацыі, да к. 1—3-га перыядаў Б.в. Ва ўсх. Палессі да позняга этапу Б.в. (магчымае датаванне 1200/1000 — 800/600 да н.э.) аднесены комплексы лебядоўскага ці позняга сосніцкага тыпу. На іх аснове ў канцы позняга этапу эпохі бронзы ўзнікаюць пачатковыя структуры *мілаградскай культуры*. Насельніцтва тэр. паўд. Беларусі ўжывае бронзавыя вырабы, якія ў параўнанні з комплексамі на суседніх тэр. Цэнтр. і Усх. Еўропы, Прыбалтыкі датуюцца 3/4—6-м перыядамі Б.в., сярод іх вылучаюцца рэчы лужыцкага тыпу. У Верхнім Падняпроўі, паводле І.І.Арцёменкі, помнікі сярэднедняпроўскай культуры змяняюцца паселішча- мі і пахаваннямі *сосніцкай культуры*, развіццё якой прыходзіцца на сярэдні і позні перыяды Б.в. (2-я пал. 2-га — пач. 1-га тыс. да н.э.).




***Шматвалікавая кераміка* бронзавага веку *Гомельскага Палесся: 1, 5, 7—8 — Заспа-2; 2—4, 10—11 — Абакумы-1; 6 — Юравічы-5; 9 — Бывалькі. Паводле матэрыялаў М.М.Крывальцэвіча, М.В.Бычкова, У.Ф.Ісаенкі.***

У перыядызацыі помнікаў Бел. Панямоння В.Л.Лакіза аднёс да позняга неаліту—ранняга ці пачатковага перыяду Б.в. групы помнікаў кола культуры шнуравой керамікі (2-я чв. 3-га — сяр. 2-й чв. 2-га тыс. да н.э.). Б.в. у Панямонні пачынаецца са з'яўленнем помнікаў тшцінецкага культ. кола (к. 1-й — 2-я чв. 2-га тыс. да н.э.). На тэр. паўн.-зах. Беларусі, у міжрэччы Нёмана і Зах. Дзвіны, паводле даследаванняў А.А.Егарэйчанкі, Б.в. працягваўся да мяжы—пач. н.э. У позні перыяд Б.в. ад апошняй чв. 2-га тыс. да н.э. да мяжы—пач. н.э. існавала культура ранняй штрыхаванай керамікі, насельніцтва якой практыкавала бронзаліцейную вытворчасць. У паўн. Беларусі для к. 3-га — 3-й чв. 2-га тыс. да н.э. адзначаюцца помнікі паўн.-бел. культуры, развіццё якіх прыходзіцца на позні неаліт і ранні перыяд Б.в. Сярод знаходак вылучаецца некалькі ранніх металічных вырабаў, у т.л. з алавяністай бронзы. Для пазнейшых перыядаў у Бел. Падзвінні адзначаюцца помнікі з посудам, які аздабляўся «ружанцовым» арнаментам, і сінхронным комплексам тшцінецкага культ. кола. На заключным этапе Б.в. мясц. насельніцтва ўжывала тэкстыльную і штрыхаваную кераміку; пачынаючы з 8—7 ст. да н.э. ў паўн. і паўн.-ўсх. Беларусі пачаўся ранні перыяд *днепра-дзвінскай культуры*.

На тэр. Беларусі ўзнікненне комплексаў, у якіх адзначаюцца рысы, характэрныя для культуры шнуравой керамікі, мела месца бліжэй да сяр. 3-га тыс. да н.э. Распаўсюджанне «шнуравых» традыцый адбывалася ў выніку інфільтрацыі груп мігрантаў і ў працэсе доўгатэрміновых культ. кан-

тактаў, якія ўсталёўваліся на прасторах ад Одэра да Верхняга, Сярэдняга Падняпроўя і Верхняга Паволжа. Сінтэз прынесеных і засвоеных традыцый шнуравой керамікі культуры, *шарападобных амфар культуры* і інш. знешніх элементаў і аўтахтонных неалітычных культ. рыс прывялі да ўзнікнення комплексаў сярэднедняпроўскай і паўн.-бел. культур, групы шнуравой керамікі Палесся і Бел. Панямоння.

З сяр. 3-га тыс. да 1700 да н.э. на тэр. ўсх. і паўд.-ўсх. Беларусі развівалася сярэднедняпроўская культура. Яе аснову складалі традыцыі культуры шнуравой керамікі, мясц. неалітычных, шарападобных амфар і асобныя элементы культур стэпавай і лесастэпавай зон.

Групы насельніцтва кола шнуравой керамікі культуры сфарміраваліся на тэр. Зах. Палесся і Бел. Панямоння пры ўдзеле традыцый нёманскай неалітычнай і шарападобных амфар культур, шнуравой керамікі культуры. У Зах. Палессі праз суседнюю Валынь пранiклі некаторыя элементы цэнтр.-еўрап. культур ранняга Б.в. У Верхнім Панямонні адзначаны рысы, характэрныя для культур Прыбалтыкі, Цэнтр. Еўропы. Разам з тым, у Зах. Палессі і Панямонні сустракаюцца элементы, вытокі якіх узыходзяць да сярэднедняпроўскай культуры.

Паўн.-бел. культура існавала ў к. 3-га — 3-й чв. 2-га тыс. да н.э. на тэр. Бел. Паазер'я, Пд сучаснай Пскоўшчыны і ПнЗ Смаленшчыны. Яна ўзнікла ў выніку сінтэзу традыцый познанарвенскай неалітычнай культуры і ўспрынятых з Прыбалтыкі і Верхняга Падняпроўя элементаў кола культуры шнуравой керамікі. Група паселішчаў паўн.-бел. культуры даследавалася на Крывінскім тарфяніку (Бешанковіцкі р-н Віцебскай вобл.).

У 1700/1600-я г. да н.э. разам са знікненнем культур, структурная аснова якіх была пабудавана на традыцыях шнуравой керамікі культуры, на Пд Беларусі пачаўся тшцінецкі перыяд. Помнікі тшцінецкага культ. кола ўзнікаюць пасля 1900 да н.э. на прасторах ад Одэра да Віслы. Мяркуецца, што тшцінецкія комплексы неабходна разглядаць у якасці рэгіянальнай інтэграванай сістэмы з адмысловым «тшцінецкім стылем жыцця», якая ўзнікла на памежжы цэнтр.-еўрап. культур эпохі бронзы і субнеалітычных усх.-еўрап. культур. Характэрная для «Тшцінца» кераміка выяўлена ў Бел. Палессі, у басейне р. Нёман. Асобныя знаходкі сустракаюцца ў Цэнтр. Беларусі і Бел. Паазер'і, на Аршанска-Магілёўскай раўніне.

У зах. раёнах тшцінецкай тэр. ў позні перыяд Б.в. ранейшыя нестабільныя структуры пастухова трансфармаваліся ва ўстойлівыя сельскія паселішчы лужыцкай культуры. Далейшы лёс тшцінецкага насельніцтва на тэр. Беларусі маладомы. Археал. дадзеныя на аснове позняга перыяду Б.в. дазваляюць меркаваць, што ў гэты час на Верхнім Падняпроўі і ва Усх. Палессі распаўсюджваліся посттшцінецкія культ. комплексы, якія па сваіх асаблівасцях нагадваюць старажытнасці *лебядоўскай культуры*, альбо, паводле І.І.Арцёменкі, вылучаюцца ў позні этап сосніцкай культуры.



*Крамянёвыя наканечнікі стрэл з пахаванняў могільніка Страліца. Сярэднедняпроўская культура* ***бронзавага веку*** *(паводле матэрыялаў І.І.Арцёменкі, У.Ф.Ісаенкі).*

*Літ.*: Артеменко И.И. Племена Верхнего и Среднего Поднепровья в эпоху бронзы. М., 1967; Эпоха бронзы лесной полосы СССР. М., 1987; Археалогія Беларусі. Т. 1. Каменны і бронзавы вякі. Мінск, 1997; Рындина Н.В., Дегтярова А.Д. Энеолит и бронзовый век. М., 2000; Егорейченко А.А. Культуры штрихованной керамики. Минск, 2006; Крывальцэвіч М.М. Праблемы перыядызацыі і храналогіі эпохі бронзы на тэрыторыі Паўднёвай Беларусі // ГАЗ. Мінск, 2006. Вып. 22; Лакіза В.Л. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Беларускага Панямоння. Мінск, 2008; Chernykh E.N. Ancient Metallurgy in the USSR. The Early Metal Age. Cambridge, 1992; Vandkilde H. From Stone to Bronze. The Metalwork of the Late Neolithic and Earliest Bronze Age in Denmark. Moesgard, 1996; Harding A.F. European Societies in the Bronze Age. Cambridge, 2000; Kadrow S. U progu nowej epoki. Gospodarka i społeczeństwo wczesnego okresu epoki brązu w Europie Środkowej. Kraków, 2001. *М.М.Крывальцэвіч.*

**БРУ́САЎ** Аляксандр Якаўлевіч (29.10.1885, Масква — 1.12.1966), расійскі археолаг. Заслужаны дзеяч навукі РСФСР. Працаваў у Гіст. музеі (Масква), ІГ матэрыяльнай культуры (з 1959 Ін-т археалогіі АН СССР). Вывучаў эпоху неаліту і бронзы на Пн і ПнЗ СССР, у т.л. ў Беларусі, паходжанне індаеўрапейцаў і гісторыю плямён культуры шнуравой керамікі, тыпалогію каменных сякер.

*Тв.*: Очерки по истории племен Европейской части СССР в неолитическую эпоху. М., 1952.

**БРЫЛЁЎСКІ ГРАШО́ВА-РЭ́ЧАВЫ СКАРБ.** Знойдзены ў 2000 за 0,8 км ад в. Брылі Барысаўскага р-на Мінскай вобл., у правабярэжным поплаве р. Бярэзіна. На месцы знаходкі А.В.Іоў заклаў раскоп пл. 36 м$^2$, які дазволіў атрымаць апошнія рэчы скарбу. Скарб уключае каля 300 арабскіх дырхемаў і іх фр-таў, 10 гірак-разнава-

гаў, фр-т шыйнай грыўні і 10 фр-таў мяча. Сярэбраная грыўня (78 г) была звернута ў спіраль і выкарыстоўвалася ўладальнікам як плацёжны сродак. Сярод рэшткаў жал. мяча захаваліся 8 кавалкаў клінка, наверша дзяржання і перакрыжаванне з ручкай. Гіркі-разнавагі 2 тыпаў: 4 выраблены з медзі, маюць 14-гранную форму; 6 гірак — жал., сферычныя, плакіраваныя меддзю. Вага гірак 1,59—24,45 г.

Эмісія куфіцкіх дырхемаў са скарбу праводзілася паміж 742—743 і 890—891. В.Н.Рабцэвіч датаваў скарб 890—892.

*Літ.*: Иов О.В., Рябцевич В.Н. Клад конца IX в. с Брилевского поля // Клады: состав, хронология, интерпретация. Санкт-Петербург, 2002. *А.В.Іоў.*

**БРЫЛЁЎШЧЫНА**, археалагічны помнік — селішча на паўд.-зах. ускраіне Мінска. За 0,1—0,15 км на Пн ад чыгункі Мінск—Брэст, на правым беразе р. Лошыца, 0,4 км на ПдУ ад паўд. ускраіны б. в. Дружба (да 1964 Рылаўшчына) Мінскага р-на (урочышча Б.). Пл. каля 2—2,5 га. Выявіў і даследаваў 4 $м^2$ у 1991 Ю.А.Заяц. Культ. пласт складае 0,3 м. Выяўлены рэшткі мацерыковай прыпечнай ямы з развалам печы-каменкі, фр-ты вырабленага на ганчарным крузе керамічнага посуду 11 ст., упрыгожанага лінейным арнаментам; фр-ты акоўкі вянца драўлянага посуду, выкананай з каляровага металу. *Ю.А.Заяц.*

**БРЫТВА**, прылада для галення. Яе прататыпам маглі служыць нажападобныя пласцінкі з крэменю і абсідыяну ў эпоху неаліту і энеаліту (Блізкі Усход, Пярэдняя Азія). Першыя Б. з металу вырабляліся з медзі спосабам халоднай коўкі і з бронзы спосабам ліцця ў бронзавым веку. Жал. Б. на тэр. Еўропы з'явіліся ў антычны час, былі вядомыя носьбітам культур Гальштат і Латэн. У Беларусі Б. з'яўляюцца ў перыяд ранняга жал. веку ў паселішчах *мілаградскай культуры.* Самы ранні ўзор Б. паходзіць з грунтавога могільніка *Асарэвічы* (Брагінскі р-н) і датуецца к. 5 — пач. 3 ст. да н.э. Дзве другія знаходкі з паселішчаў *Падгор'е* і *Лемяшэвічы* адносяцца да 4—3 ст. да н.э. Гэтыя Б. ўяўлялі сабой жал. пласціну з выгнутым лязом даўж. 25 мм і шыр. 17 мм. Б. былі знойдзены на помніках *днепра-дзвінскай культуры* — гарадзішчах *Барсукі, Буракова, Дзямідаўка, Самсонцы, Халмец.* Напр., Б. з Буракова (даўж. ляза 75 мм, шыр. 13 мм) і з *Барсукоў* (80 і 14 мм адпаведна) уяўлялі сабою нажападобныя пласцінкі з плоскім прамым чаранком і выпуклым лязом; у Б. з Барсукоў на чаранку захаваліся рэшткі драўлянай ручкі.

На гарадзішчах *Лабеншчына* і *Банцараўшчына* выяўлены Б. культуры штрыхаванай керамікі, датаваныя 1—4 ст. Гэта былі нажападобныя пласціны з выпуклым лязом і ўвагнутай спінкай, мелі прамы ці колцападобны чаранок. На помніках *кіеўскай культуры* Б. 3—5 ст. знойдзена на паселішчы *Тайманава.* Яна ўяўляла сабою жал. пласцінку серпападобнай формы з выгнутай спінкай і выпуклым лязом даўж. 64 мм і шыр. 16 мм. Б. з вышэйзгаданых помнікаў паводле металаграфічнага аналізу рабіліся з жалеза, цалкам сталёвыя, цэментаваныя і з імітацыяй пакетавання. Якасць металу ў іх выдатная, шлакавых уключэнняў амаль няма.

Б. 7—8 ст., выяўленая на гарадзішчы Барсукова Горка каля в. Палыкавічы Магілёўскага р-на, мела агульную даўж. 110 мм, шыр. ляза 17 мм. Фр-т Б. знойдзены і сярод матэрыялаў 4 ст. — сяр. ці 2-й пал. 1-га тыс. на паселішчы Кемяны Ашмянскага р-на.

На помніках эпохі сярэдневякоўя самая ранняя на тэр. Беларусі Б. гэтага часу знойдзена на селішчы Малінаўка (мікраraён сучаснага Мінска).

На гар. помніках перыяду ранняга сярэдневякоўя 3 Б. знойдзены ў Брэсце, па адной — у Слуцку і Капылі. Першая, найб. ранняя са знойдзеных у Брэсце, Б. — складная (захавалася цалкам), датуецца 11—12 ст. Мае металічную ручку, якая выраблена з сагнутай удвая жал. пласціны даўж. 77 мм і шыр. 18 мм. Лязо мае выпуклае брушка, прамую спінку з увагнутай выемкай у пярэдняй трэці, адтуліну для шарніра — восі, вакол якой лязо свабодна пакручвалася ў ручцы, і хваставую частку ў выглядзе невял. выгнутага стрыжня. Агульная даўж. ляза 70 мм, шыр. 16 мм, даўж. рабочай часткі (да восі) — 57, хваставой — 13, таўшч. спінкі — 2 мм. Прыставанняў для фіксацыі ляза гэтая Б. не мела. Вугал яго заточкі каля $7^{\circ}$. Ад 2-й Б. са знойдзеных у Брэсце, якая датуецца 1-й пал. 13 ст., захавалася адно лязо. Яно мае агульную даўж. 93 мм, даўж. рабочай часткі 73 мм і шыр. палатна 16 мм. Хваставая частка ўтварае S-падобны завіток. Лязо мае прамую спінку і выпуклае брушка. Фр-т 3-й Б., знойдзены пры раскопках Бярэсця, адносіцца да 13—14 ст. Даўж. рабочай часткі прыкладна 64—67 мм, таўшч. ляза 17 мм.

Слуцкая Б. паходзіць са слоя 12 ст. Па знешнім выглядзе вельмі падобная на берасцейскую: мае прамую спінку і S-падобны завіток у хваставой частцы. Даўж. ляза 81 мм, таўшч. — 14, адлегласць ад шарніра да пяткі ляза — 5, адлегласць ад





*Дзяржанне мяча да 9 ст. і шыйная грыўня з* ***Брылёўскага грашова-рэчавага скарбу.***

пяткі ляза да рукаяткі — 22 мм, таўшч. спінкі 2 мм. У ручку Б. ўстаўлена колца дыям. 7 мм, выраблена з дроту сячэннем 2 мм.

Б., што знойдзена ў Капылі на Замкавай гары, па меркаванні даследчыкаў, адносіцца да 13 ст. Даўж. яе ляза 70, шыр. самай шырокай часткі — 12, таўшч. ляза — 15 мм. Ручка, крыху абламаная, захавалася на даўж. 27 мм. Памеры яе ў сячэнні 5 × 25 мм.

Даволі рэдка сустракаюцца Б. сярод курганных знаходак. У адным з курганоў могільніка Ашмянец у Смаргонскім р-не выяўлены адразу 2 Б. Яны даволі доўгія ў параўнанні з Б., вядомымі па раскопках гар. помнікаў. Даўж. адной Б. 130, а другой — 150 мм, даўж. ляза адпаведна 80 і 120 мм. Вонкава падобныя на наўгародскія, маюць плаўныя дугападобныя лёзы і ручкі ў выглядзе пятлі. Датуюцца па матэрыяле, які спадарожнічаў ім у комплексе, 1-й пал. ці сяр. 13 ст. Б. познасярэдневяковага перыяду выяўлены ў напластаваннях 14 і 18 ст. у Віцебску на Верхнім і Узгорскім замках. Яны маюць тонкае, пашыранае ў пярэдняй частцы лязо, якое свабодна мацавалася на восі. Б. 19 ст., якая была знойдзена на Верхнім замку Віцебска, па сваім выглядзе амаль не адрозніваецца ад сучасных. Яна мае доўгае лязо, адзін край закруглены, другі насаджаны на стрыжань і замацаваны 2 драўлянымі тронкамі.

*Літ.*: Г у р и н М.Ф. Древнее железо Белорусского Поднепровья (I тысячелетие н.э.). Минск, 1982; Л е в к о О.М. Витебск XIV—XVIII вв: (стратиграфия, хронология, социально-историческая топография и технология производств). Минск, 1984; Л ы с е н к о П.Ф. Берестье. Минск, 1985; Ш а д ы р о В.И. Ранний железный век северной Белоруссии. Минск, 1985; К о л е д и н с к и й Л.В. Городище средневекового Слуцка (предварительные итоги исследования 1985—1986 гг.) // ГАЗ. Мінск, 1994. №4; Л а ш а н к о ў М.І. Мілаградская і паморская культуры: матэрыяльная культура і заняткі насельніцтва // Археалогія Беларусі. Мінск, 1999. Т.2. Жалезны век і ранняе сярэднявечча; З а й к о ў с к і Э.М. Вілія — сакральная рака балтаў і славян // МАБ. 2002. №5; Я г о ж. Даследаванне культавага комплексу Ашмянец // ГАЗ. Мінск, 2002. №17; С е д и н А.А. Городище Барсукова горка под Могилевом // Шляхі Магілёўскай гісторыі: зб. навук. прац удзельнікаў 4-й Міжнар. навук. канф. Гісторыя: мінулае і сучаснасць. Магілёў, 2005; Я г о ж. Гарадзішча окрестностей Могилева // Гістарычнае і сацыякультурнае развіццё Магілёва. Магілёў, 2007.

*Л.У.Калядзінскі, М.І.Лашанкоў.*

**БРЫЦА́ЛАВІЧЫ**, археалагічны помнік — курганны могільнік *дрыгавічоў* каля в. Брыцалавічы Асіповіцкага р-на Магілёўскай вобл. На ўсх. ускраіне вёскі, на правым беразе р. Свіслач. 32 насыпы выш. 0,5—1 м, дыям. 4—9 м. Адкрыў і даследаваў 15 курганоў у 1892 У.З.Завітневіч, абследавалі ў 1926 С.С.Шутаў і М.М.Улашчык, у 1974 А.Р.Мітрафанаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце (14 насыпаў) і ў яме (1). Знойдзены ганчарны гаршчок. Датуецца 11—12 ст.

*Літ.*: З а в и т н е в и ч В.З. Археологические разыскания в бассейне реки Березины // Отчет Археологической комиссии за 1892 г. Санкт-Петербург, 1894.

**БРЭ́ЖГА** Баляслаў Рычардавіч (31.3.1887, Рэжыцкі пав. Віцебскай губ., цяпер Латвія — 30.9.1957), беларускі і латвійскі археолаг, гісторык, археограф, палеограф, філолаг. Адзін з пачынальнікаў архіўнай справы ў Беларусі. Д-р гісторыі (1933). Скончыў Маскоўскі археал. ін-т (1916). З 1918 заг. Віцебскага аддз. гэтага ін-та, у 1922—24 у Віцебскім губернскім архіве. З 1925 у Латвіі. З 1930 праф. кафедры археалогіі Рус. ін-та універсітэцкіх ведаў, з 1937 інспектар Упраўлення помнікаў, у 1940—41 дырэктар Даўгаўпілскага павятовага дзярж. архіва. З 1945 праф. Латвійскага дзярж. ун-та, з 1946 у ІГ і матэрыяльнай культуры АН Латвійскай ССР. Даследаваў гіст. сувязі беларусаў і латышоў, гісторыю паўстання 1863—64 на тэр. Віцебшчыны, вывучаў полацкія летапісы, складаў бібліяграфію па гісторыі Беларусі, збіраў матэрыял для параўнальнага аналізу бел. мовы і латгальскага дыялекту, у Латвійскім ун-це вёў курс стараж. бел. пісьменства.

*Тв.*: Ініцыялы і арнамент у актавых кнігах Віцебскага архіва старадаўніх актаў XVI—XVIII стагоддзяў // Виленский вестн. 1915; Адносіны палачан і латышоў у VIII—XVIII стст. // Школьная праца. 1926. № 1; Ахова помнікаў старажытнасці на Віцебшчыне // Беларуская школа ў Латвіі (Рыга). 1932. № 4—5; 1933. № 4—6; Замкі Віцебшчыны. Вільня, 1933; Очерки по истории крестьянских движений в Латгалии 1577— 1907. Рига, 1956.

*С.С.Панізнік.*

**БРЭСТ** (летапіснае Б я р э с ц е, Б е р е с т и й, у пісьмовых крыніцах 16 ст. Б р е с т ь е, Б е р е с т ь), горад абласнога падпарадкавання, цэнтр Брэсцкай вобл., на р. Мухавец пры ўпадзенні яе ў Зах. Буг. Эканамічны і культ. цэнтр, вузел чыгунак і аўтамабільных дарог, аэрапорт, рачны порт, звязаны Дняпроўска-Бугскім каналам з басейнамі Дняпра і Прыпяці.

Б. упершыню згадваецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1019 як горад Тураўскага княства. У 1022, 1031 і 1044 кіеўскі кн. Яраслаў Уладзіміравіч здзейсніў паходы да Б., які, як можна меркаваць, быў заняты палякамі. У «Павучанні» Уладзіміра



*Шахматная фігурка з* ***Брэста.***



*Самшытавы грэбень з кірылічным алфавітам (правы і адваротны бакі) з раскопак **Брэста**.*

Манамаха гаворыцца, што ў 1070-я г. яго пасылалі пільнаваць Б., спалены палякамі. У 1097 вял. кн. кіеўскі Святаслаў Ізяславіч выгнаў з Б. валынскага кн. Давыда Ігаравіча. У гэтых паведамленнях Б. названы горадам, што азначае існаванне там абарончых збудаванняў. З 2-й пал. 12 ст. Б. уваходзіў у склад Уладзіміра-Валынскага княства. На працягу 12—13 ст. летапісы неаднаразова адзначалі спробы Б. стаць цэнтрам самастойнага княства. Падчас мангола-татарскага нашэсця паблізу Б. адбылася жорсткая бітва, але горад, відаць, не быў захоплены. З 1272 Б. валодаў валынскі кн. Уладзімір Васількавіч, а з 1289 — Мсціслаў Данілавіч. У 1319 вял. кн. ВКЛ Гедзімін далучыў Б. да ВКЛ. Неўзабаве Б. ізноў трапіў пад уладу валынскіх князёў. У 1349 Б. захапіў польскі кароль Казімір III Вялікі, але паводле дамовы 1366 горад вернуты ў склад ВКЛ.

Найб. умацаваная стараж. частка Б. (дзяцінец) размяшчалася на мысе, утвораным правым берагам р. Зах. Буг і левым берагам левага рукава р. Мухавец. Вакольны горад размяшчаўся на востраве, утвораным 2 рукавамі р. Мухавец у месцы ўпадзення яе ў р. Зах. Буг. Тут выяўлена неўмацаванае паселішча, якое датуецца матэрыяламі 10 ст. Пры будаўніцтве ў 1830—42 Брэсцкай крэпасці, якая заняла ўсю гіст. тэр. тагачаснага Б. (горад перанесены на 3 км на У), рэльеф мясцовасці моцна быў зменены: скапаны сярэдневяковыя абарончыя валы, засыпаны равы, што ў далейшым ускладніла пошукі летапіснага Бярэсця.



*Прылады для пісьма і кніжныя спражкі з **Брэста**.*

Археал. даследаванні гарадзішча стараж. Б. праводзіў у 1969—81 П.Ф.Лысенка, ускрыта звыш 1800 $м^2$, з іх 528 $м^2$ — да мацерыка. Культ. пласт (да 7 м) добра захаваў рэшткі драўляных пабудоў і розныя прадметы з матэрыялаў арганічнага і неарганічнага паходжання (скуры, тканіны, дрэва, косці, метала, керамікі, каменю і інш.). Выяўлены рэшткі 24 жылых і гасп. пабудоў, насцілы трох вуліц, дваровыя насцілы, платы. Для забудовы стараж. Б. характэрна адсутнасць дваровай планіроўкі (выяўлены толькі адзін дваровы комплекс, які складаўся з жылой пабудовы, невял. гасп. двара, павеці). Большасць выяўленых пабудоў жылыя, значна менш гасп. пабудоў (клеці), вельмі рэдка сустракаюцца хлявы. Усе пабудовы адносяцца да 12 буд. ярусаў, якія паслядоўна змянялі адзін другі. Забудова дзяцінца была вельмі шчыльнай і пастаянна павялічвалася. У к. 13 — пач. 14 ст. пабудовы ўзводзілі на адлегласці 0,5—0,7 м адна ад адной. Вулічныя маставыя і пабудовы ў пазнейшы перыяд узводзілі на месцы папярэдніх на працягу доўгага часу, захоўваючы адно і тое ж месцазнаходжанне, арыенціроўку, памеры і кірунак. Асновай планіровачнай структуры Б. з'яўляліся вулічныя праезды. Раскопкамі выяўлены 3 паралельныя вуліцы, што ішлі ў агульным напрамку з У на З, як можна меркаваць, ад аднаго агульнага ўвахода на дзяцінец. Вуліцы шыр. 2,4—4 м мелі шчыльны папярочны насціл з тоўстых колатых дошак, пакладзеных на 2—3 лагі з бярвён, што ішлі ўздоўж кірунку вуліцы і абапіраліся, у сваю чаргу, на папярочныя бярвёны-падкладкі. Над папярэднім насцілам, занесеным з цягам часу смеццем і брудам, будавалі новы насціл гэтак жа, як і папярэдні. Раскопкамі выяўлены да 6 ярусаў такіх вулічных насцілаў адзін над адным, што сведчыць аб стабільнасці планіровачнай структуры стараж. Б. Жылыя пабудовы размяшчаліся на адлегласці 0,4—0,6 м адна ад адной у 3—4 рады паміж вуліцамі, глухімі сценамі да іх. У радах, якія ішлі ўздоўж вуліц, уваход рабілі ў сцяне, процілеглай вуліцы, а ў сярэдніх радах — у сцяне, накіраванай у бок вуліцы. Жылыя і гасп. пабудовы былі наземныя, аднапавярховыя, аднакамерныя, зрубавай канструкцыі памерамі 3,6 × 3,6—4 × 4 м. Іх узводзілі, як правіла, у просты вугал («у абло»), з круглых бярвён хвойных парод дыям. 14—18 см. Сустракаюцца пабудовы з часаных бярвён і скошаным на тупы клін астаткам бервяна за злучальнай «чашкай» (яе і пазы ўздоўж бервяна высякалі з верхняга боку). Гасп. пабудовы мелі меншыя памеры, часам іх будавалі з дрэў ліставых парод. Добрая захаванасць рэштак пабудоў (да 11—12 вянцоў) дазволіла даволі дакладна вывучыць канструкцыю дзвярных (прасякалі ў зрубах з 3—4 вянцоў знізу на 6—7 вянцоў у выш., шыр. 0,8— 0,9 м, выш. 0,95—1,1 м) і аконных (прасякалі ў суседніх вян-

цах высока ў сценах пабудоў, шыр. да 60 см) праёмаў. Падлогу ў пабудове будавалі з тоўстых колатых дошак, выкладзеных на 2—3 лагі, урубленыя ў сцены на выш. 2—3 вянцоў паралельна або перпендыкулярна сцяне з дзвярным праёмам. Знаходкі т. зв. «какошын» («курыц») сведчаць пра будову дашчанага даху. Печы ў найб. стараж. пабудовах былі глінабітныя, а з 13 ст. сустракаюцца з выкарыстаннем цаглін. Зрэдку ўжывалі кладку з бярвён пад вугламі і сценамі пабудовы.

У час раскопак знойдзена вял. колькасць стараж. прадметаў, выробленых з чорных і каляровых металаў, косці, скуры, гліны, дрэва. Мясц. кавалі выкарыстоўвалі складаныя тэхналагічныя прыёмы пры вырабе прылад працы (сякеры, сярпы, косы), прадметаў хатняга ўжытку (нажы, нажніцы, замкі, крэсівы), узбраення (наканечнікі дзід, стрэл, пласціністыя даспехі, рыштунак вершніка і каня). Знаходкі пінцэтаў, каменнай ліцейнай формы, сыравіны (свінец, медны дрот) сведчаць пра існаванне ювелірнага рамяства. Знойдзена шмат вырабаў з дрэва (бандарны і разны посуд, верацёны, нажныя ступы, прэс для выціскання расліннага алею, рала, дэталі ткацкага станка, церніцы і інш.), скураных вырабаў (абутак, кашалькі, ножны). Аб развіцці ганчарства сведчаць знаходкі фр-таў разнастайнага гліняннага посуду. Знойдзены шматлікія прылады земляробства і апрацоўкі ўраджаю, рыбалоўныя прылады, косткі свойскіх і дзікіх жывёл, рыб і інш. Існаванне развітых гандл. сувязей пацвярджаюць знаходкі прычарнаморскіх амфар, кіеўскіх шкляных бранзалетаў, валынскіх шыферных праслиц, прыбалтыйскіх фібул і бурштыну, мазавецкага скроневага кольца, прывазнога свінцу і свінцовых таварных пломбачак. Знойдзеныя грабеньчык з выразанай на ім кірыліцай ад А да Л, металічныя пісалы, фр-т драўлянай дошчачкі для пісьма (цэры), кніжныя засцежкі, касцяны мастыхін мастака, шахматныя фігуркі, дзіцячыя цацкі і прадметы хрысціянскага культу сведчаць аб высокім узроўні культуры гар. насельніцтва.

Агульнае аблічча матэрыяльнай культуры пацвярджае заснаванне Б. адным з усх.-слав. плямён — дрыгавічамі.

*Літ.*: Л ы с е н к о П.Ф. Берестье. Минск, 1985; Я г о ж. Открытие Берестья. Минск, 1989; Археалогія Беларусі. Т. 3—4. Мінск, 2000—01. *П.Ф.Лысенка.*

**БРЭ́СЦКІ БЕСКУРГА́ННЫ МО́ГІЛЬНІК**, Б р э с т—Т р ы ш ы н, археалагічны помнік — бескурганны могільнік на правым беразе р. Мухавец (прыток р. Зах. Буг), ва ўсх. частцы Брэста на вул. Маскоўская, б. в. Трышын. Адкрыты выпадкова ў 1959 падчас земляных работ. У 1961—63, 1965, 1977 Ю.У.Кухарэнка даследаваў 900 $м^2$. Выяўлена 75 пахаванняў па абраду трупаспален-




*Фібулы (1—8), касцяныя грабяні (9, 11, 14), бранзалет (10), спражкі (12—13) з пахаванняў **Брэсцкага бескурганнага могільніка**.*

ня і 8 ахвярных ям, запоўненых камянямі і попелам. Рэшткі крэмацыі, што адбывалася па-за межамі могільніка, часта з вуглямі і попелам пахавальнага вогнішча, змяшчалі ў посуд-урну альбо ссыпалі на дно ямы акруглых форм дыям. 0,3—0,7 м на глыб. 1 м ад сучаснай паверхні, за 2—3 м адно ад другога. У 9 выпадках у магільныя ямы былі пакладзены асобныя камяні-валуны, у 68 магілах — розныя рэчы, 7 пахаванняў былі безынвентарныя. У якасці пахавальнага інвентару выкарыстоўваліся гліняныя ляпныя гаршкі, міскі, вазы, збаны, бронзавыя грабеньчатыя і падвязныя фібулы, касцяныя грабяні, гліняныя прасліцы. Упрыгажэнні (шкляныя пацеркі, металічныя бранзалеты, падвескі, кольцы), прылады працы, дэталі паяснога набору (спражкі і наканечнікі на рэмень) сустракаліся рэдка, зброя ўвогуле адсутнічала. Могільнік датуецца 170—270-м г. н.э., належаў насельніцтву вельбарскай культуры.

*Літ.*: Кухаренко Ю.В. Могильник Брест—Тришин. М., 1980; Белявец В.Г. Могильник Брест—Тришин: 30 лет по окончании раскопок // ААА. 2007. № 1. *В.С.Вяргей.*

**БРЭ́СЦКІ КАСЦЁЛ БЕРНАРДЗІ́НЦАЎ**. Існаваў у Валынскім прадмесці Брэста (1605—1830). Мураваны будынак быў узведзены побач з кляштарам бернардзінцаў у 1623 на месцы драўлянага, зрубленага ў 1605 на фундуш луцкага біскупа М.Шышкоўскага. Касцёл з'яўляўся 3-нефавай базілікай з павышаным цэнтр. нефам, які пераходзіў у выцягнуты прэсбітэрый і завяршаўся падоўжанай паўцыркульнай апсідай. Бязвежавы гал. фасад меў 3 ярусы і завяршаўся франтонам трохвугольнай формы. Да паўн. сцяны касцёла прымыкаў 2-павярховы будынак кляштара. Пры будаўніцтве Брэсцкай крэпасці (1830-я г.) касцёл быў разабраны на цэглу.

У 1992 даследаваў В.Е.Собаль. Раскопкамі была ўскрыта пл. ў 76 $м^2$. Муры касцёла захоўваюцца на глыб. 0,2—0,5 м. Храм арыентаваны гал. фасадам на З. Сцены таўшч. 1,9—2 м змураваны з цэглы памерамі 24—25 × 12,5—14 × 5,5—6,5 см. Падлога цагляная на вапнавай рошчыне. У муроўцы храма шырока выкарыстаны палявы камень. Ад яго выцягнутай апсіды шыр. 9,2 м захаваліся на глыбіні 2 ніжнія рады камянёў з рэшткамі цаглянай муроўкі. Яе сцены таўшч. 1 м, унутры абкладзены каменем. Муроўка цаглянай капліцы выяўлена на глыб. 1—1,15 м каля паўд. сцяны храма. Капліца памерамі 9,6 × 8 м, таўшч. сцен 1 м. Яе муроўка мае перавязку з кладкай касцёла. Звонку да сцен касцёла прымыкала брукаваная адмостка. Дах храма быў драўляны. У рэштках муроўкі касцёла месцамі захавалася цэгла пач. 20 ст. стандартнага памеру 26 × 13,5 × 6,5 см на цэментнай рошчыне. На адной з іх выяўлена дата (1902). Вядома, што будынак кляштара бернардзінцаў быў перабудаваны ў Аляксандраўскі кадэцкі корпус. Пасля пераводу корпуса ў Вільню (1860) тут размяшчаўся ваенны шпіталь. Сярод знаходак касцёла фр-ты глінянага чорнаглянцаванага посуду: гаршкоў, збаноў, макотраў, місак, талерак, кубкаў, адносна мала паліванага посуду. Са шкляных вырабаў 17—18 ст. перабольшваюць кавалкі аконных шыб, пакрытых пацінай, донцы шклянак і пяткі келіхаў. *В.Е.Собаль.*



*Да арт.* ***Брэсцкі касцёл і кляштар бернардзінак.*** *Кафля-каронка 16 ст. з выявай шляхціца.*

**БРЭ́СЦКІ КАСЦЁЛ І КЛЯ́ШТАР БЕРНАРДЗІ́НАК**, мураваны комплекс, які існаваў у Валынскім прадмесці Брэста ў 18—19 ст. Яму папярэднічаў драўляны кляштар бернардзінак, пабудаваны ў 1624 на сродкі Г.Копцавай з роду Дольскіх. Мураваны 1-нефавы 2-вежавы з прамавугольнай апсідай касцёл у стылі позняга барока ўзведзены ў 1750. Разабраны ў час будаўніцтва Брэсцкай крэпасці (1830-я г.). У 1781 да касцёла прыбудаваны П-падобны 2-павярховы мураваны кляштар, які ўтвараў квадратны ў плане ўнутраны дворык. У 19 ст. перабудаваны ў вайсковы шпіталь. Пашкоджаны ў Вял. Айч. вайну.

У 1992—93 археал.-архіт. даследаванні комплекса правёў В.Е.Собаль. Вакол кляштара распрацаваны 9 шурфаў і 2 траншэі агульнай пл. 65 $м^2$. Таўшч. культ. пласта складае 1,4—1,9 м. Цэнтр. частка Валынскага прадмесця была заселена ў 11—12 ст. Аб гэтым сведчаць знаходкі: 2 шыферныя прасліцы, ключ ад цыліндрычнага навяснога замка, донцы гліняных гаршкоў з клеймамі ў выглядзе крыжа і кола. Будынак кляштара змураваны з чырвонай цэглы-пальчаткі памерамі 29—30,5 × 14—15,5 × 6—8,5 см з дадаткам у муроўку каменю. Стужачныя падмуркі з валуноў і цэглы на вапнавай рошчыне маюць выш. 2,5 м. Іх падэшва залягае на глыб. 2,9—3,3 м. Падмуркі ўмацаваны цаглянымі контрфорсамі шыр. 1 м. Цокаль абазначаны цёмна-карычневай клінкернай цэглай.

Касцёл бернардзінак прымыкаў да кляштара з У. Яго муры мелі выш. 2,8—3 м. Разабраны да ўзроўню цаглянай падлогі. Гал. фасадам арыентаваны на Пн. Памеры храма 32,7 × 16 м. Змураваны з чырвонай цэглы-пальчаткі памерамі 28—31 × 14—16 × 7—9 см на вапнавай рошчыне.

Цагляна-каменны падмурак выш. да 1,15 м. Яго падэшва выкладзена з валуноў выш. да 0,3 м. Шчыліны паміж камянёў закладзены кавалкамі цэглы. Сцены касцёла таўшч. да 3 м, узмоцнены каменнымі паясамі выш. да 0,5 м. Высокае цыліндрычнае скляпенне нефа пакоілася на магутных унутраных контрфорсах. Пад падлогай паўн. часткі храма захаваўся падвал агульнай пл. 190 $м^2$. Трыма апорнымі слупамі ён падзелены на 2 падоўжаныя і 3 папярочныя праходы шыр. 3,2—3,3 м. Выш. іх скляпення 2,1 м. Цагляныя слупы памерамі 1,3 × 1,2 м унутры мелі забутоўку з каменя і бітай цэглы. Абапіраліся на цагляна-каменныя падушкі памерамі 2,6 × 1,5 м і выш. да 0,5 м. Іх ніжняя частка, упушчаная ў мацярык, гідраізалявана вапнавай рошчынай.

Прамавугольная ў плане апсіда памерамі 6,6 × 3,55 м мела сцены таўшч. 0,9—1,2 м, якія захаваліся на выш. 2,5—2,7 м. Пасярэдзіне алтара знаходзіўся авальны ў плане слуп памерамі 1,45 × 1 м, выш. 0,85 м. Складзены з каменя і кавалкаў цэглы, ён, верагодна, служыў апорай для крыжовага скляпення. Да апсіды з У прымыкала прамавугольная ў плане сакрысцыя. Фр-ты яе зах. і паўд. сцен таўшч. 1 м захаваліся на выш. 1,4—1,6 м. Абодва памяшканні касцёла мелі драўляную падлогу. Пад яе спарахнелымі дошкамі на глыб. 1 м захаваўся чорны культ. пласт таўшч. 0,6—0,8 м, у якім знойдзены фр-ты гліняных гаршкоў, макотраў, збаноў, кавалкаў пячной зялёнапаліванай кафлі 17—18 ст. У мацерыковай гасп. яме знойдзены кавалак пячной кафлі-каронкі 16 ст. з выявай шляхціца, пятка шклянога келіха, фр-ты гліняных гаршкоў 16—17 ст., косці жывёл.

Да ўсх. сцяны касцёла на адлегласці 10 і 18 м ад яго паўн.-ўсх. вугла прымыкалі 2 цагляна-каменныя агароджы. Адна таўшч. 1,2 м захавалася на выш. 1,55 м, мае ўсх. напрамак, другая пры выш. 1,3 м і таўшч. 0,9 м — паўд.-ўсходні. Агароджы былі прыбудаваны да касцёла ў 19 ст. Дах касцёла быў накрыты хвалістай керамічнай дахоўкай. Яе шматлікія кавалкі знойдзены ў культ. пласце.

*В.Е.Собаль.*

**БРЭ́СЦКІ КУЛЬТУ́РНЫ СЛОЙ ВАЛЫ́НСКАГА ПРАДМЕ́СЦЯ.** Былое Валынскае прадмесце — паўд. частка сярэдневяковага Брэста. Яна была адмежавана ад цэнтр. часткі горада на Пн р. Мухавец, на З — р. Зах. Буг. Сфарміравалася абапал дарогі на Валынь на працягу 12—18 ст. У 1993 даследаваў В.Е.Собаль. Тэр. прадмесця ў межах земляных валоў і бастыёнаў валынскага ўмацавання Брэсцкай крэпасці (каля 24 га). Культ. наслаенні таўшч. 0,5—3,6 м. Мацярык уяўляе сабой глей альбо светла-шэры пясок. Найб. магутныя наслаенні 2—3,6 м канцэнтруюцца вакол комплексу б. бернардзінскіх манастыроў і на Пн ад іх бліжэй да Мухаўца. Стратыграфія культ. слоя парушана забудовай 19 ст. Выяўлены фр-ты падмуркаў камяніц і рэшткі цаглянай муроўкі. На плане Брэста 1824 паказана планіроўка і забудова прадмесця. Яе дамінантай з'яўляліся гандл. плошча на беразе Мухаўца і бернардзінскія кляштары. Прадмесце злучалася з цэнтрам горада Бернардзінскім мостам. Па перыметры плошча была забудавана каменнымі і драўлянымі пабудовамі. Ад яе ў паўд. накірунку адыходзілі 2 вуліцы — Валынскі паштовы тракт і Манастырская. На У ад тракта невял. завулак, а на ПдЗ — вуліца без назвы, ад якой ад-



*Да арт.* ***Брэсцкі касцёл і кляштар бернардзінак.*** *Рэшткі муроў касцёла (раскопкі В.Е.Собаля, 1993).*



*Т.С.Бубенька.*

галіноўваліся 3 завулкі (адзін з іх злучаў яе з Манастырскай вул.). Усе завулкі былі забудаваны драўлянымі пабудовамі. Паміж вуліцамі і завулкамі змяшчаліся гар. фундушавыя пляцы і сады. Вакол плошчы і кляштараў на тэр. ў 4—4,5 га захаваліся напластаванні 12—20 ст. Пласт таўшч. 10—20 см са старaж. керамікай, шыфернымі прасліцамі, ювелірным пінцэтам, цыліндрычным жал. замком знаходзіцца ў ніжніх пластах шурфаў. У гэтай частцы прадмесця на ПдУ ад дзяцінца ў 12—13 ст. існаваў адзін з пасадаў старaж. Бярэсця. У наслаеннях 14—16 ст. таўшч. 0,4—1 м знойдзены гліняны посуд, арбалетны болт, кавалкі гаршковай кафлі 15—16 ст. з круглым і квадратным вусцямі. Слой характарызуецца адсутнасцю цаглянага друзу, які ўтвараецца пры каменным будаўніцтве. За 30—70 м на Пн ад кляштара бернардзінак зафіксаваны асобныя бярвёны і спарахнелае дрэва. Верагодна, гэта рэшткі драўляных бернардзінскіх кляштараў 16 — пач. 17 ст. Наслаенні 17—19 ст. таўшч. 0,5—1,7 м насычаны фр-тамі цэглы, кавалкамі вапнавай рошчыны і тынкоўкі, каменнем і распаўсюджаны практычна па ўсёй тэр. прадмесця. У гэты перыяд вялося будаўніцтва бернардзінскіх касцёла, кляштара і Брэсцкай крэпасці. У слоі знойдзены разнастайны гліняны посуд: фр-ты кухонных гаршкоў, місак, збаноў, кубкаў, талерак. Сярод керамікі пераважаюць дымлёныя і чорнаглянцаваныя вырабы. Значна менш зялёнапаліванага і чырвонаглінянага посуду. Каробчатая пячная кафля прадстаўлена фр-тамі тэракотавых і зялёнапаліваных вырабаў з рэльефнай і гладкай вонкавай пласцінай. Да к. 19 — пач. 20 ст. адносіцца кафля з гладкай белаэмалевай паверхняй. Знойдзены таксама фр-ты шклянога посуду (бутэлькі, стопкі, кварты), аконных шыб і разнастайныя вырабы з жалеза: падковы, дзвярныя петлі, цвікі, абутковыя падкоўкі, ключ ад навяснога замка і інш.

Зах. частка прадмесця, што прылягае да Зах. Буга, мае паніжаны рэльеф мясцовасці. Таўшч. культ. наслаенняў 0,6—2,1 м. Слой у верхніх пластах моцна перакапаны агародамі, якія тут існуюць з 1990-х г. Прысутнасць у слоі наносаў рачнога пяску таўшч. 0,2—0,4 м сведчыць аб разлівах Зах. Буга і затапленні ўсх. забалочанай поймы. Грунтавыя воды на глыб. 1,6—1,7 м часта стаяць вышэй за ўзровень мацерыка. Калекцыя сабраных знаходак сведчыць, што гэтая тэр. прадмесця актыўна засялялася ў к. 16—17 ст.

У паўд. частцы прадмесця, непасрэдна каля валоў крэпасці, культ. пласт таўшч. 0,3—1 м. На Пн ад валоў таўшч. слоя ўзрастае да 1,2—1,8 м. Тут знойдзены рэчы 17—19 ст. Сярод іх фр-ты задымленай і глянцаванай керамікі, плiткі падлогі, жал. шлакаў, пячной кафлі, шкляных начынняў. Каля паўн.-ўсх. і ўсх. валоў валынскага ўмацавання таўшч. культ. пласта з парушанай стратыграфіяй складае 1,5—2 м. Тут знойдзены кавалкі паліхромнай кафлі 17 ст., донца шкляной кварты, манета 17 ст., фр-ты парцэляваных талерак, косці жывёл. Ад часоў будаўніцтва крэпасці захавалася спражка ад салдацкага паяснога рэменя з выявай двухгаловага расійскага арла. У верхніх наслаеннях (0,1—0,3 м) прадмесця прысутнічаюць сляды Вял. Айч. вайны ў выглядзе стрэляных гільзаў, штыка ад вінтоўкі Мосіна, асколкаў мін і снарадаў. *В.Е.Собаль.*

**БУБЕ́НЬКА** Таццяна Станіславаўна (н. 8.6.1957, г. Беразіно Мінскай вобл.), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1991). Скончыла БДУ (1980). У 1977—94 у ІГ АН Беларусі (з 1991 Бел. АН). З 1994 заг. сектара аховы помнікаў і археалогіі Віцебскага гарвыканкома. З 1998 дацэнт кафедры гісторыі, з 2003 дэкан ф-та давузаўскай падрыхтоўкі Віцебскага ун-та імя П.М.Машэрава. Вывучае старaж. гар. і сельскія паселішчы Беларусі 9—18 ст. Выявіла больш за 20 новых археал. помнікаў у Баранавіцкім, Бярэзінскім, Віцебскім, Мастоўскім, Пухавіцкім і Чашніцкім р-нах. З 1981 даследуе Ніжні замак у Віцебску, праводзіла раскопкі пасада старaж. Клецка (1986), дзяцінца ў Навагрудку (1991—92), гарадзішча Камень у Лепельскім р-не (1998).

*Тв.*: Стеклянные украшения средневекового Витебска // МАБ. 2001. № 3; Стратиграфия и хронология нижнего слоя Витебска // Ранние славяне Белорусского Поднепровья и Подвинья // Там жа. 2003. № 8; История и материальная культура. Витебск, 2003 (разам з А.У.Русецкім); Средневековый Витебск. Посад — Нижний замок (X — первая половина XIV вв.). Витебск, 2003; Лепная керамика средневекового Витебска // ААА. 2007. № 2; Новые данные о начальном этапе земледелия в бассейне Западной Двины (9—13 вв.). // Там жа. 2008. № 4. *Л.У.Калядзінскі.*

**БУДАЎНІ́ЧЫ Я́РУС** у археалогіі, комплекс старажытных рэштак сінхронных збудаванняў пэўнага перыяду (пабудовы, маставыя, агароджы і інш.) і знаходак іх у культ. пласце. З'яўляецца каштоўнай крыніцай вывучэння старадаўняй планіроўкі і забудовы старaж. гарадоў. Тэрмін «Б.я.» упершыню ўжыты Л.У.Арцыхоўскім у 1932 у час раскопак у Ноўгарадзе. У старaж. гарадах з магутным культ. пластом, які добра захоўвае рэшткі драўлянай забудовы, пачаргова вылучаюць некалькі ярусаў, якія аддзяляюцца адзін ад аднаго праслойкамі культ. пласта, слоем пажарышча, нівеліраванымі пракладкамі з рэштак бярвён, дошак і інш. Працягласць практычнага існавання яруса — 20—50 гадоў. У справаздачы з раскопак Б.я. фіксуецца з указаннем глыбіні залягання, апісаннем спадарожных знаходак, фотаздымкамі. Для датавання яруса выкарыстоўваюць дэндрахраналагічны, стратыграфічны і інш. метады. Часам робяцца пэўныя спробы для кансервацыі Б.я., як, напр., у археал. музеі «Бярэсце» (г. Брэст).

*Літ.*: Лысенко П.Ф. Города Туровской земли. Минск, 1974; Штыхов Г.В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). Минск, 1978; Загорульский Э.М. Возникновение Минска. Минск, 1982; Ткачев М.А., Колединский Л.В. Постройки древнего Витебска XII—XVII вв. // Древнерусский город. Киев, 1984; Поболь Л.Д. Новые данные о древнем Менеске (Минске) // Древности славян и Руси. М., 1988.

*Л.У.Калядзінскі.*

**БУДЗЬКО́** Уладзімір Дзмітрыевіч (30.12.1927, в. Ліскі Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл. — 19.10.2004), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1962). Скончыў БДУ (1957). З 1961 у ІГ АН БССР, у т.л. з 1964 старшы навук. супрацоўнік, з 1965 заг. сектара археалогіі. У 1970—72 дацэнт Гомельскага ун-та, з 1973 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі. Даследчык верхняга палеаліту і мезаліту на тэр. Беларусі і сумежнай тэр. Расіі. Праводзіў раскопкі верхнепалеалітычных стаянак у Бердыжы, *Елісеевічах*, *Юдзінаве*, *Юравічах*, стаянак фінальнага палеаліту ў Падлужжы, *Грэнску*, Рудні Споніцкай і інш., устанавіў іх геалагічны ўзрост (з Л.М.*Вазнечуком*) вызначыў месца гэтых помнікаў сярод аналагічных стаянак Усх. і Цэнтр. Еўропы. Вылучыў самастойную *грэнскую культуру*, якая ў сваім развіцці прайшла 2 этапы: фінальнапалеалітычны і мезалітычны. Адзін з аўтараў «Нарысаў па археалогіі Беларусі» (ч. 1, 1970), «Гісторыі Беларускай ССР» (т. 1, 1972), «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» (т. 1—7, 1984—88).

*Тв.*: О свидерской культуре в Белоруссии // Мезолит СССР: сб. ст. М.; Ленинград, 1962; Новейшие данные по палеолиту Белоруссии // Труды Четвертичной комиссии. М., 1964; О жилищах Бердыжской палеолитической стоянки // КСИА. 1964. Вып. 101; Памятники свидерско-гренской культуры на территории Белоруссии // МИА. 1966. № 126; Юровичская верхнепалеолитическая стоянка // Белорусские древности. Минск, 1967; Палеолит Белоруссии и смежных территорий // Древности Белоруссии. Минск, 1969. *А.Г.Калечыц.*


*У.Дз.Будзько.*

**БУДРА́НЫ**, археалагічны помнік — курганны могільнік балтаў каля в. Будраны Астравецкага р-на Гродзенскай вобл. За 0,7 км на ПдЗ ад вёскі. Мясц. назва Капцы. 12 насыпаў выш. 0,6—1 м, дыям. 6—9 м. Даследаваў 10 курганоў (9 круглых дыям. 6,5—15 м, авальны памерамі 11,5 × 15,5 м) у 1895 Ф.В.Пакроўскі. Пахавальны абрад — трупаспаленне на гарызонце (2) і ў насыпе (2). Пахавальны інвентар — сякеры, наканечнікі коп'яў, серп, нож, бронзавыя бляшкі, мініяцюрны ляпны гаршчок. У адным кургане выяўлены косці каня з жал. трохчасткавымі цуглямі і спражкамі; 5 насыпаў без пахаванняў. Датуецца к. 1-га тыс. н.э.

*Літ.*: П о к р о в с к и й Ф.В. К исследованию бассейна Вилии в археологическом отношении. М., 1899.

**БУЖА́НЕ**, усходнеславянскае племя (магчыма, саюз плямён), якое засяляла ў 6—9 ст. басейн р. Зах. Буг. Іх суседзямі на Пд былі *валыняне*, на З — *мазаўшане*. Аселыя, займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, бортніцтвам, рамёствамі. Упамінаюцца ў «Аповесці мінулых гадоў». На думку славацкага вучонага П.І.Шафарыка, у 5 ст. да н.э. наз. будзінамі, у першыя стагоддзі н.э. — сербамі (беласербамі). Паводле звестак географа Баварскага (к. 9 ст.), мелі 231 горад (замак). З 10 ст. Б. ў складзе Кіеўскай Русі. З 12 ст. жыхары зямель Пабужжа наз. па гал. гарадах княстваў — дарагічынцы, берасцейцы і г.д. З 13 ст. пашыраецца новая назва гэтых зямель — Падляшша. У літаратуры 19 ст. Б. зрэдку атаясамліваюць з валынянамі, палешукамі.

*Літ.*: Ш а ф а р и к П.И. Славянские древности: пер. с чеш. Т. 1—2. 2 изд. М., 1848; Т р е т ь я к о в П.Н. Восточно-славянские племена. 2 изд. М., 1953.

**БУ́ЙНІЧЫ**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і стаянка каля в. Буйнічы Магілёўскага р-на.

Г а р а д з і ш ч а ранняга жал. веку за 0,8 км на Пд ад вёскі, на правым беразе Дняпра (за


***Гарадзішча Буйнічы.***

0,4 км ад рэчышча), ва ўр. Благадаць. Выявіў у пач. 20 ст. Е.Р.Раманаў, абследавалі ў 1928 А.Дз. Каваленя, у 1951 Ю.У.Кухарэнка, у 1977 Л.У.Дучыц, у 1988 А.А.Седзін, у 1989 В.Ф.Капыцін. Пляцоўка авальная, памерамі 46 × 26 м, выцягнута з Пн на Пд, выш. над поймай 12,5—13,5 м. З боку поля (на Пн) умацавана валам выш. 4,5 м, шыр. 25 м, ровам глыб. 1 м. Пляцоўка здзірванелая, пашкоджана траншэямі, ямай ад бліндажа часоў Вял. Айч. вайны, вал — ярамі і варонкамі ад бомбаў. Знойдзены жал. нож і цуглі, ляпная кераміка з дамешкам жарствы.

С т а я н к а эпохі мезаліту на паўд. ускраіне вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра. Памеры 18 × 30 м. Выявіў і абследаваў у 1975 В.Ф.Капыцін. Культ. пласт 0,1 м. У агаленнях тэрасы знойдзены крамянёвыя канцавыя скрабкі, бакавыя разцы, нуклеусы і адшчэпы. Датуецца 8—5-м тыс. да н.э.

*Літ.*: Р о м а н о в Е.Р. Старина доисторическая Северо-Западного края // Виленский календарь на 1908 г. Вильно, 1908; К а в а л е н я А.Дз. Археалагічныя разведкі ў Магілёўскай, Бабруйскай і Менскай акругах // Працы. Т. 2; С е д и н А.А. Городища окрестностей Могилева // Гістарычнае і сацыякультурнае развіццё Магілёва. Магілёў, 2007.

*А.А.Седзін.*

**БУЛАВА́**, абуховая зброя, якая складаецца з дзяржання і наверша. Эфект выкарыстання Б. дасягаўся ўзмацненнем ударнага дзеяння за кошт даўжыні рукаяці, якая павялічвала кінетычную энергію зброі. Найб. стараж. Б. з каменнымі навершамі з'явіліся ў Беларусі ў канцы неаліту (*Гронаў*). У бронзавым веку навершы Б. вырабляліся з каменю альбо косці і мелі эліпса-, шарападобную і чатырохвугольную форму (в. Ляды Барысаўскага, в. Віць Хойніцкага, г.п. Сапоцкін Гродзенскага, в. Дружылавічы Іванаўскага р-наў і інш.). Зноў пачынаюць распаўсюджвацца з к. 10 — пач. 11 ст.: біметалічнае наверша (літы бронзавы корпус, запоўнены свінцом) з кургана-2 групы 7 *Заслаўскага курганнага могільніка*. Шырокае выкарыстанне Б. як дружыннікамі, так і простымі апалчэнцамі прыпадае на 12—13 ст.: знойдзена 28 цэлых и фрагментаваных экзэмпляраў гэтага часу. Вядомыя Б. з Беларусі мелі форму куба са зрэзанымі вугламі (*Брэст*, *Полацк*, *Гродна*, *Тураў*, курганны могільнік *Ашмянец*, гарадзішчы *Маскаўцы*, *Снядзін*, *Свіслач* Асіповіцкага р-на), шарападобную (*Мсціслаў*, гарадзішчы *Рацюнкі*, гарадзішча *Вішчын*), шарападобную з рэбрамі (*Лукомль*, гарадзішча Маскаўцы), з 4 пірамідальнымі шыпамі (*Гродна*, *Слуцк*, гарадзішчы *Вішчын*, *Свіслач* Асіповіцкага р-на), з 4 пірамідальнымі шыпамі і 8-дадатковымі 3-граннымі пірамідальнымі выступамі (*Копысь*, ваколіцы *Віцебска*). Б. 12—13 ст. вырабляліся з жалеза, бронзы, свінцу, біметалічныя — з бронзы і свінцу. Маса навершаў складала 200—300 г, рукаяць дасягала даўж. 50—60 см. Найб. каштоўныя біметалічныя Б. 12—13 ст. маглі быць сімваламі вайсковага старшынства. У 14—18 ст. ужываліся Б. з навершамі, блізкімі па форме да шара, грушы ці куба, гладкімі альбо шыпастымі. Мадыфікацыямі Б. былі пярнач і блізкі да яго буздыган, у якіх наверша складалася з радыяльна размешчаных вертыкальных лопасцей. Акрамя баявых Б. часта выконвала парадныя і рэпрэзентатыўныя функцыі як сімвал улады, у т.л. гетманскай. Такія Б. багата ўпрыгожваліся серабром, золатам і каштоўнымі камянямі. Прыкладам парадных Б. можа служыць экзэмпляр пач. 17 ст., які, магчыма, належаў польнаму гетману ВКЛ Яну Каралю Хадкевічу.




***Булавы** старажытнарускага часу на месцах знаходкі: 1 — Заслаўе; 2 — Ашмянец; 3 — Гродна; 4 — Слуцк; 5 — ваколіцы Віцебска; 6 — Лукомль.*

*Літ.*: К и р п и ч н и к о в А.Н. Древнерусское оружие. Вып. 2. Копья, сулицы, боевые топоры, булавы и кистени IX—XIII вв. // САИ. 1966. Вып. Е1—36; Б е к т и н е е в Ш.И. Булавы и кистени XI—XIV вв. на территории Беларуси // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі: новыя матэрыялы і даслед. Мінск, 1993; Б о х а н Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV — канца XVI ст. Мінск, 2002; П л а в и н с к и й Н.А. Булавы конца X—XIII вв. на территории Беларуси // Археология и история Пскова и Псковской земли. Семинар имени академика В.В.Седова: материалы 54 заседания. Псков, 2009; Ż y g u l s k i Zd. Stara broń w polskich zbiórach. Warszawa, 1982.

*Ю.М.Бохан, М.М.Крывальцэвіч, М.А.Плавінскі.*

**БУ́ЛКІН** Валянцін Аляксандравіч (н. 30.11.1937, Санкт-Пецярбург), расійскі археолаг і мастацтвазнавец. Брат Вас.А.*Булкіна*. Канд. мастацтвазнаўства (1975). Скончыў Ленінградскі ун-т (1966). Дацэнт кафедры гісторыі мастацтва Санкт-Пе-

цярбургскага ун-та (1978). Вывучае гісторыю старараж.-рус. мастацтва і археалогію архітэктуры. Кіраваў раскопкамі Полацкага Сафійскага сабора, у выніку якіх зрабіў план яго рэканструкцыі, датаваў першапачатковую пабудову сабора (11 ст.), адкрыў рэшткі прыбудоў да яго 12—13 ст., выказаў меркаванне пра існаванне прамавугольнай вежы каля паўн.-зах. вугла сабора, праз якую траплялі на хоры, у фундаменце выявіў камень з надпісам, даказаў наяўнасць княжацкага магільнага склепа і другой царквы побач.

*Тв.*: Проблемы изучения Полоцкого Софийского собора // Древнерусское государство и славяне. Минск, 1983; Надписи на камне из храма Софии в Полоцке (разам з Т.У.Раждзественскай) // Памятники культуры: новые открытия: ежегодник 1982. Ленинград, 1984; Социальный заказ и церковное строительство на Руси // Отечественное и зарубежное искусство XVIII в.: основные пробл. Ленинград, 1986; Софийский собор в Полоцке: (к вопросу о зап. апсидах) // Древнерусское искусство. М., 1988. *Г.В.Штыхаў.*

**БУ́ЛКІН** Васіль Аляксандравіч (н. 9.7.1945, Санкт-Пецярбург), расійскі археолаг і гісторык. Брат Вал.А.*Булкіна*. Канд. гіст. навук (1973). Скончыў Ленінградскі ун-т (1970). Дацэнт кафедры археалогіі Санкт-Пецярбургскага ун-та (1982), працаваў у ім да 2005. Вывучае пытанні развіцця Падзвіння і Верхняга Падняпроўя ў этнакульт. працэсах Усх. Еўропы ў 1-м — пач. 2-га тыс. У 1980-я г. прымаў удзел у раскопках у Полацку, Мазыры, Янкавічах (Расонскі р-н).

*Літ.*: Некоторые данные об исторической географии центральной Белоруссии // Древнерусское государство и славяне. Минск, 1983; Городище в Кимбаровке (разам з Г.М.Залашкам) // АО 1983. М., 1985; Об особенностях географии смоленско-полоцких длинных курганов // Археология и история Пскова и Псковской земли. Псков, 1988. *А.А.Трусаў.*

**БУНА́К** Віктар Валяр'янавіч (22.9.1891, Масква — 11.4.1979), расійскі антраполаг. Д-р біялагічных навук (1935), праф. (1925). З 1923 заг. кафедры антрапалогіі і дырэктар Ін-та антрапалогіі Маскоўскага ун-та, з 1948 у Ін-це этнаграфіі імя М.М.Міклухі-Маклая АН СССР. Распрацаваў методыку асн. прынцыпаў антрапалагічных даследаванняў. Арганізоўваў і прымаў удзел у антрапалагічных даследаваннях у паўд. і паўд.-зах. раёнах Беларусі. Сабраў дадзеныя па размеркаванні груп крыві на тэр. Усх. Еўропы, у т.л. Беларусі. Аўтар першага савецкага падручніка па антрапалогіі.

*Тв.*: Раса как историческое понятие // Наука о расах и расизм. М.; Ленинград, 1938; Антропологические исследования в южной Белоруссии // Антропологический сборник. М., 1956. № 1; Череп человека и стадии его формирования у ископаемых людей и современных рас. М., 1959. *Л.І.Цягака.*

**БУРНО́СЫ**, археалагічны помнік — стаянка каля в. Бурносы Лідскага р-на Гродзенскай вобл. На паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, уздоўж краю правабярэжнай тэрасы р. Нёман. Выявіла ў 1951 С.А.Тараканава, абследаваў у 1962 і 1985 М.М.Чарняўскі. Захаваўся толькі невял. вольны ад пасадак край паселішча, культ. пласт да 0,5 м. Знойдзены матэрыялы мезалітычнага часу (лістападобныя наканечнікі стрэл, ланцэтападобныя вастрыі, бакавыя разцы, трапецыі, частка з іх мае рысы *свідэрскай культуры*, фінальнага этапу палеаліту). Зрэдку сустракаюцца рэчы бронзавага веку (сэрцападобныя наканечнікі стрэл).

*Літ.*: Т а р а к а н о в а С.А. Археологическая разведка по Неману // КСИА. 1955. Вып. 57.

**БУРШТЫ́Н** (ад ням. Bernstein палаючы камень), зацвярдзелая выкапнёвая смала некаторых парод хваёвых дрэў палеагенавага і неагенавага перыядаў у геалагічнай гісторыі Зямлі (65—2 млн. гадоў таму назад). Б., які сустракаецца ва Усх. Еўропе, пераважна жоўты і жоўта-чырвоны з рознымі адценнямі. У Сіцыліі вядомы блакітны, чырвоны або зялёны, у Румыніі — чорны Б. Найбліжэйшыя ад Беларусі і найб. ў свеце радовішчы Б. знаходзяцца на паўд. беразе Балтыйскага мора (у Калінінградскай вобл. і на балтыйскім беразе Польшчы). Адсюль па рэках Зах. Дзвіна, Нёман, Зах. Буг і ўніз па Дняпры Б. трапляў на тэр. Беларусі, Украіны, на Верхняе Паволжа і ўсх. Міжземнамор'е (гл. *Бурштынавыя шляхі*). У пераадкладзеным россыпным выглядзе Б. сустракаецца ад вусця Рэйна да Падняпроўя і ад паўд. Швецыі да Карпат. У Беларусі Б. у невял. колькасці трапляецца ў глыбіні марэнных адкладаў Палесся. Матэрыял шырока выкарыстоўваўся для вырабу ўпрыгажэнняў. У Беларусі вядомы з сярэдняга неаліту, нярэдка сустракаецца пры раскопках археал. помнікаў — стаянак, могільнікаў, селішчаў, гарадзішчаў і стараж. гарадоў. Б. высока цаніўся з-за сваёй прыгажосці і меркаваных магічных якасцей, якія праяўляліся ў гаручасці і здольнасці пасля націрання прыцягваць дробныя прадметы. *М.М.Чарняўскі.*

**БУРШТЫ́НАВЫЯ ШЛЯХІ́**, шляхі пашырэння *бурштыну* і вырабаў з яго з паўд. ўзбярэжжа Прыбалтыкі. У познім неаліце (2-я пал. 3-га тыс. да



*Вырабы з **бурштыну** 6—7 ст., знойдзеныя на гарадзішчы Вежкі Дубровенскага р-на.*

н.э.) праходзілі праз тэр. паўн. Беларусі па Зах. Дзвіне — з усх. Латвіі на сучасную Віцебшчыну і ў вярхоўі Зах. Дзвіны. У пач. бронзавага веку гэты шлях стаў больш ажыўленым, узніклі яго адгалінаванні на Бел. Падняпроўе і цераз водападзел на Валдайскім узвышшы ў басейн Верхняй Волгі. На З Беларусі бурштын трапляў па Нёмане і па Зах. Бугу (апошнім шляхам яго транспартавалі з нізоўяў Віслы на З Украіны). У сяр. 2-га тыс. да н.э. функцыяніравалі шляхі, што звязалі Паўд. Прыбалтыку з эгейскімі гарадамі і інш. раёнамі ўсх. Міжземнамор'я — цераз Зах. Дзвіну і Дняпро ў Чорнае і Эгейскае моры, цераз Віслу і Зах. Буг у Паўд. Буг або Дняпро і далей у тыя ж моры. Да к. 2-га тыс. да н.э. прыбалтыйскі бурштын пранікае ў рознай колькасці на большую частку еўрап. тэрыторыі. У к. 1-га тыс. да н.э. з пашырэннем гегемоніі Рыма ў Міжземнамор'і найб. важным стаў шлях вывазу бурштыну па Віслe з адгалінаваннем на Зах. Буг. У сярэдневякоўі са змяншэннем попыту на бурштын і захопам Прычарнамор'я Турцыяй, саперніцтвам з Рус. дзяржавай традыцыйныя Б.ш. праз Беларусь заняпалі. *М.М.Чарняўскі.*

**БУ́ТАЎСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура эпохі *мезаліту*, насельніцтва якой у сяр. 8—6-га тыс. да н.э. жыло ў міжрэччы Волгі і Акі. Культура вылучана Л.У.Кальцовым у 1960-я г., атрымала назву па стаянцы Бутава (Цвярская вобл., Расія, басейн верхняй Волгі). Паселішчы Б.к. размешчаны на берагавых тэрасах ці пясчаных узвышшах. На некаторых стаянках захаваліся рэшткі наземных жытлаў і паўзямлянак акруглай, авальнай ці чатырохвугольнай формы пл. 8—29 $м^2$. Асн. заняткі насельніцтва — паляванне і рыбалоўства, што пацвярджаецца знаходкамі прылад працы з крэменю, косці і рога. Найб. ранпія помнікі Б.к. (Барысава-1, Бутава, Забароўе-2, Задне-Пілева-1 і 2, Мікуліна, Прыслон, Пятрушына і інш.) датуюцца сяр. прэбарэальнага—барэальным часам (9500—8500 гадоў таму назад). На гэтым этапе складваюцца асн. рысы культуры, якая характарызуецца развітой пласцiністай тэхнікай крэменеапрацоўкі. Для вырабу прылад працы выкарыстоўваюцца пласціны ножападобнай формы, атрыманыя шляхам адціскання пераважна з аднапляцовачных нуклеусаў. Значную частку крамянёвага інвентару складаюць разцы, выкананыя пераважна на вугле зламанай пласціны, мікрапласцінкі з прытупленым рэтушшу краем і канцом, прамавугольнікі, скрабкі, вастрыі, праколкі і свердлы, сякучыя прылады. Наканечнікі стрэл прадстаўлены чаранковымі вырабамі, асобныя з якіх нагадваюць тып Пулі. Разнастайнасцю вылучаюцца прадметы ўзбраення з косці і рога — іголкападобныя наканечнікі стрэл з канічным, рамбічным і біканічным вастрыём, наканечнікі лістападобнай, сіметрычнай і асіметрычнай формы, з вылучанымі пазамі для крамянёвых укладышаў і шыпамі. Комплекс касцяных і рагавых прылад дапаўняецца знаходкамі гарпуноў, нажоў, кінжалаў, рыбалоўных кручкоў, долатападобных вырабаў, рэтушораў, пасрэднікаў, падвесак з зубоў жывёлін і інш. У пач. 7-га тыс. да н.э. пачынаюць распаўсюджвацца геам. мікраліты (трапецыі), удасканальваецца тэхніка шліфоўкі сякучых прылад. Пачатак атлантычнага часу, які прадстаўлены матэрыяламі стаянак Азяркі-5, Акаёмава-4, Бязводнае-10, адзначаецца нестабільнасцю ў развіцці культуравызначальных рыс Б.к. У Беларусі першыя помнікі Б.к. вядомы з 2-й пал. 1920-х г. (К.М.Палікарповіч). Навукова абгрунтаваны ў выніку экспедыцый В.Ф.Капыціна, В.Л.Ліпніцкай, А.У.Коласава. Найб. значныя матэрыялы Б.к. атрыманы ў выніку раскопак стаянак Пасожжа — *Дзедня*, *Крынічная*, *Рудня*-1 (Клімавіцкі р-н). Вядомы таксама месцазнаходжанні асобных прылад Б.к. — Аднаполле, *Горкі*, *Грэнск*, Каробчына, *Пралетарскі* (ур. Папова). Помнікі Б.к. прымеркаваны да 1-й надпоймавай тэрасы або да яе астанцоў. Культ. пласт залягае ў ілювіяльных адкладах глебы і нявызначаны. На стаянцы Дзедня вывучаны рэшткі паглыбленага ў мацярык жытла пл. 78 $м^2$. У якасці сыравіны на стаянках Дзедня і Каробчына выкарыстоўваўся высакаякасны прывазны крэмень цёмна-шэрага колеру. Асн. тыпам загатоўкі для прылад з'яўляюцца рэгулярныя пласціны правільнай агранкі, якія атрыманы шляхам адціскання. Для тэхнікі расшчаплення характэрна сістэма кругавога сколвання пласцін з 1 ці 2 ударных пляцовак, падпраўленых папярочнымі сколамі. Вугал сколвання нарыхтовак складае 70—90°. У другаснай апрацоўцы шырока выкарыстоўваліся стромкае, паўстромкае і плоскае рэтушаванне нарыхтоўкі, тэхніка разцовага сколу, абіўка. Прыладам уласціва пэўная стандартызацыя форм. Выразную серыю ўтвараюць разцы, якія ў большасці прадстаўлены вырабамі на вугле зламанай пласціны. Комплекс знаходак дапаўняецца шматлікімі ўкладышавымі вырабамі, мікрапласцінкамі з прытупленымі краем і канцом, тронкавымі наканечнікамі стрэл з плоскім падчэсваннем чаранка, асобныя з якіх падобны да наканечнікаў тыпу Пулі, скрабкамі, вырабамі з выемкай, вастрыямі, праколкамі і свердламі, сякучымі прыладамі. З'яўленне стаянак Б.к. ў Пасожжы можа тлума-



Аўтар А.У. Коласаў

чыцца сезоннымі міграцыямі паляўнічых з Волга-Окскага міжрэчча, якія першапачаткова ішлі сюды са сваёй сыравінай, а ў далейшым пачалі выкарыстоўваць мясц. крэмень (*Крынічная*, *Рудня*-1). Тапаграфія стаянак, размешчаных каля радовішчаў сыравіны, вызначае некаторыя асаблівасці апрацоўкі крэменю ў насельніцтва Б.к. басейна р. Сож: помнікі характарызуюцца нізкімі індэксамі пласцініcтасці крамянёвага інвентару; для нуклеусаў выкарыстоўваліся жаўлакі авальна-сплошчанай формы; адціканне пласцін адбывалася пераважна з аднаго боку канкрэцыі; контрфронт большасці ядрышчаў (каля 80%) заставаўся неаформленым. Па аналогіі з помнікамі Б.к. час асваення яе насельніцтвам тэр. Пасожжа трэба адносіць да сяр. 8-га — пач. 7-га тыс. да н.э. Помнікі Б.к. маюць падабенства з матэрыяламі *кунда культуры*, стаянак Пн і ПнУ Еўропы. Большасць даследчыкаў генезіс Б.к. звязвае са *свідэрскай культурай* (Л.У.Кальцоў, М.Г.Жылін, Л.Л. Залізняк). А.М.Сарокін разглядае паходжанне Б.к. як вынік далейшага развіцця традыцый крэменеапрацоўкі насельніцтва мясц. *рэсецінскай культуры*. Мяркуецца, што насельніцтва Б.к. прымала ўдзел у фарміраванні верхняволжскай культуры ранняга неаліту.

*Літ.*: С о р о к и н А.Н. Бутовская мезолитическая культура. М., 1990; Я г о ж. Проблемы мезолитоведения. М., 2006; К о л ь ц о в Л.В., Ж и л и н М.Г. Мезолит Волго-Окского междуречья. Памятники бутовской культуры. М., 1999; К о л о с о в А.В. Мезолитическая стоянка Дедня // ААА. 2008. № 3. *А.У.Коласаў.*

**БУ́ХЛІЦКІ ХУ́ТАР**, археалагічны помнік — паселішча каля хутара Бухліцкі Хутар Столінскага р-на Брэсцкай вобл. За 0,3 км на Пд ад хутара, на ўзвышшы ў пойме левага берага р. Гарынь, ва ўр. Сільцэ. Пл. больш за 6 га. Выявіла ў 1986 В.С.Вяргей, абследавалі А.А.Егарэйчанка і В.Г.Белявец, у 1990 даследавалі М.М.Крывальцэвіч, Г.М.Бяліцкая, В.Я.Кудрашоў, А.В.Іоў.

Сабрана шматтысячная калекцыя артэфактаў розных эпох — ад мезаліту да сярэдневякоўя. Найб. колькасць вырабаў з крэменю. Да свідэрскай культуры ранняга мезаліту адносяць тронкавыя наканечнікі стрэл, косыя вастры, трапецыі, мікрапласціны з прытупленым краем, нуклеусы лодкападобнай формы, скрабкі, разцы, сярэдзінныя праколкі і інш. Позні мезаліт прадстаўлены рэчамі яніславіцкай культуры (5—6-е тыс. да н.э.) — ланцэтападобныя наканечнікі стрэл, скрабкі з адшчэпаў, вастры і трохвугольнікі. Неаліт характарызуецца наяўнасцю посуду нёманскай культуры — вастрадоннымі гаршкамі, арнаментаванымі амаль па ўсёй паверхні адбіткамі грэбеня, насечкамі, наколамі, пракрэсленымі кампазіцыямі. Позні неаліт прадстаўлены пласкадонным посудам культуры шнуравой керамікі. Выяўлена значная калекцыя прадметаў тшцінецкай культуры бронзавага веку, позні перыяд гэтай эпохі характарызуе невял. колькасць фр-таў керамікі лебядоўскай культуры. У керамічным комплексе эпохі жалеза прысутнічаюць формы посуду паморскай, мілаградскай, зарубінецкай, вельбарскай культур. На паўд. ускрайку помніка выяўлена напаўразбуранае пахаванне зарубінецкай культуры, выкананае па абраду трупаспалення ў неглыбокай ямцы. Да рымскага перыяду (3—4 ст.) адносяцца бронзавая сякерападобная падвеска, жал. спражка, шматгранная каменная пацерка. У 5—7 ст. на тэр. паселішча жылі прадстаўнікі раннеслав. пражскай культуры. Да гэтага перыяду адносіцца адкрытае пахаванне на зах. ускрайку ўзвышша. Крэміраваныя рэшткі нябожчыка былі змешчаны ў акруглай ямцы дыям. 0,5 м і глыб. 0,45 м. Разам з косткамі знойдзены попел і вугольчыкі з пахавальнага вогнішча, фр-ты ляпнога посуду. На паверхні селішча акрама фр-таў посуду пражскай культуры знойдзены пласцініcтае жал. трапецападобнае крэсіва з вушкам, бронзавая фібула дунайскага тыпу (6 ст.). Аб існаванні паселішча ў 10—12 ст. сведчаць знаходкі абломкаў раннеганчарных гаршкоў, часта ўпрыгожаных хвалістым пракрэсленым арнаментам і прутавым рыфленнем.

*Літ.*: В е р г е й В.С. Пражская культура в Беларуси // Archeologia o poczatkach słowian. Kraków, 2005.

*В.С.Вяргей.*

*Керамічны і крамянёвы інвентар (1—5 — з гаспадарчай ямы) тшцінецкага культурнага кола з паселішча* ***Бухліцкі Хутар***.



**БУЦЬКІ́**, археалагічны помнік — каменны ідал каля в. Буцькі Пружанскага р-на Брэсцкай вобл. За 0,6 км на ПдЗ ад вёскі, на тэр. старых могілак. Антрапаморфная фігура крыжападобнай формы высечана з светла-шэрага валуна. Выявіла і даследавала Т.М.Каробушкіна. Выш. 1,04 м, шыр. 40—50 см, таўшч. 30 см. Галава акруглая ($^1/_4$ фігуры), рукі абазначаны невял. бакавымі выступамі. Левая рука некалькі ніжэй за правую, што надае фігуры асіметрычнасць. Вонкавая частка сапсавана, прасочваюцца вочы, нос, рот. На грудзях высечаны крыж у коле. Фігура нязначна расшыраецца ўнізе.

*Літ.*: К о р о б у ш к и н а Т.Н. Раскопки курганов Среднего Побужья // АО 1986. М., 1988.

*Т.М.Каробушкіна.*

**БУЦЬКІ́**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Буцькі Пружанскага р-на Брэсцкай вобл. За 0,6 км на ПдЗ ад вёскі, на тэр. старых могілак. 4 насыпы паўсферычнай формы дыям. 5,6—8,5 м, выш. 0,5—0,8 м, на адлегласці 5— 12 м адзін ад аднаго. Вядомы пад назвай Французскія магілы. Выявіла і даследавала ў 1986 Т.М.Каробушкіна. Раскапаны 1 курган. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў труне на гарызонце галавой на З. Пахаванне безынвентарнае. Выяўлены таксама 4 больш раннія пахаванні ў ямах (адносяцца да грунтавога могільніка). Могільнік датуецца 11 ст. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў ІГ НАН Беларусі.

*Літ.*: Гл. пры арт. *Буцькі.* *Т.М.Каробушкіна.*

**БЫ́ХАЎ**, горад, цэнтр Быхаўскага р-на, прыстань на правым беразе р. Дняпро. За 51 км на Пд ад Магілёва, чыг. ст. на лініі Магілёў—Жлобін, аўтадарогамі злучаны з Магілёвам, Рагачовам, Гомелем, Бабруйскам.

Першыя паселішчы чалавека на тэр. сучаснага Б. і яго ваколіц паявіліся ў глыбокай старажытнасці. Ва ўр. Узлужжа, за 2 км на Пд ад горада, на левым беразе р. Рдзіца і на правым беразе Дняпра знойдзены сляды паселішча 1-га тыс. і эпохі Кіеўскай Русі; на паўд. ускраіне горада — стараж. паселішча, у самім горадзе — гарадзішча мілаградскай, ранняга этапу зарубінецкай культур і эпохі Кіеўскай Русі. Паводле падання, стараж. Б. склаўся на месцы ўмацаванага гарадзішча, дзе пазней быў узведзены замак. Ён размяшчаўся ў балоцістай мясцовасці і служыў надзейным схованішчам ад варожых нападаў, г.зн. «быў хоў» (адсюль назва).

Б. (Стары Быхаў) упершыню ўпамінаецца ў грамаце кн. Дзмітрыя Сямёнавіча ад 31.5.1393 як княжацкае ўладанне, у к. 14 — пач. 15 ст. ў «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх». У 1430 быў уладаннем вял. кн. ВКЛ Свідрыгайлы, у 2-й пал. 15 — 1-й пал. 16 ст. належаў княжацкаму роду Гаштольдаў, у 1542—1625 — магнатам ВКЛ Хадкевічам, з 1628 — княжацкаму роду Сапегаў. У 17 — 1-й пал. 18 ст. Б. — горад-крэпасць (гл. *Быхаўскія гарадскія ўмацаванні*, *Быхаўскі замак*), важны стратэгічны цэнтр. У 1590 Б. захапілі казакі данскога атамана Мацюшы Федаровіча, у 1648 на горад хадзілі прыступам укр. і бел. паўстанцы пад кіраўніцтвам палкоўніка войска Запарожскага Гаркушы. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 Б. вытрымаў 18-месячную (1654—55) аблогу казакоў Запарожскага войска, з 1655 — расійскіх войск. Паводле Віленскага перамір'я 1656 была асобна абумоўлена недатыкальнасць Б., але ў 1657 горад быў заняты расійскімі войскамі і казакамі і стаў рэзідэнцыяй «беларускага палкоўніка» Івана Нячая, які ў 1658 перайшоў на бок Рэчы Паспалітай. У 1659 царскія войскі пасля аблогі прыступам узялі Б. У 1660 войска Рэчы Паспалітай асадзіла ў Б. расійскі гарнізон і ў 1661 дамаглося яго капітуляцыі. У час Паўн. вайны 1700—21 гарнізон Б., які быў на баку групоўкі Сапегаў, пасля аблогі і гарматнага абстрэлу ў 1701 здаўся войскам антышведскай кааліцыі. Пасля пераходу гарнізона на бок праціўніка ў 1707 горад быў заняты расійскімі войскамі, якія размяшчаліся ў ім да 1716. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Расіі.

Межы гіст. часткі горада акрэслены берагам Дняпра і абарончымі валам і ровам пач. 17 ст., рэшткі якіх захаваліся да нашага часу. Пл. ўмацаванай часткі Б. каля 60 га. Даследаваў І.І.Сінчук, у 1988 ускрыта 24 м$^2$ у час назірання ў за землянымі работамі, у 1989 раскапана 120 м$^2$. Культ. пласт 0,5—2,5 м. У паўн.-ўсх. частцы горада выяўлены пласт знаходак, пашкоджаных пажарам 1650-х г. На глыб. 0,7 м адкрыты рэшткі 1-яруснага насцілу з бярвён маставой 17 ст. шыр. 4,5 м, што вяла да Магілёўскай брамы ў паўн. частцы горада. Пад маставой выяўлены культ. пласт 15—17 ст. таўшч. 0,6 м.

Сярод масавых знаходак пераважаюць матэрыялы 16—18 ст.: керамічныя вырабы з суглінку і глін мясц. паходжання, кафля з суглінкаў і лёсападобнага супеску, розныя віды тарнага і сталовага шклянога посуду, аконныя дыскавыя і прамавугольныя шыбы, плоская непаліваная і зялёнапаліваная дахоўка 17 ст. з паўцыркульным наском і «кубічным» мацавальным шыпам, цэгла-пальчатка з прамымі і косымі баразнамі і інш. Адзінкавыя знаходкі — пісталетны ствол 2-й пал. 17 ст., жал. акоўка рыдлёўкі 17 ст., пакеты прамавугольных аконных шыбак 17—18 ст., зялёнапаліваны лялечны збанок і фр-т непаліванай кафлі з дыдактычным сюжэтам 1-й пал. 17 ст., медны солід Рэчы Паспалітай 1664 і інш.

*Літ.*: Белоруссия в эпоху феодализма: сб. док. и материалов. Т. 2. Минск, 1960. *І.І.Сінчук.*

**БЯЛА́НАВІЧЫ**, археалагічны помнік — селішча каля в. Бяланавічы Петрыкаўскага р-на Гомельскай вобл. За 1 км на У ад вёскі, на краі карэннай тэрасы левага берага р. Прыпяць, выш. да 6 м над узроўнем вады. Пл. каля 2 га. Адкрыла ў 2008 і даследавала больш за 300 м$^2$ у 2008—09 В.С.Вяргей. Культ. пласт 0,6 м. Выяўлены 1 жытло, 4 гасп. ямы. Жытло (усх. частка яго знішчана калектарнай траншэяй) — паўквадратная паўзямлянка са зрубавай канструкцыяй сцен (даўж. да 4,4 м), у

паўд.-ўсх. і паўн.-ўсх. кутах — каменныя брукоўкі. Гасп. ямы амаль круглыя, дыям. 0,6—1,5 м. Знойдзена звыш 200 керамічных фр-таў, 1 цэлы і 4 узнаўляемыя гаршкі; жал. вырабы — нож, цвікі, вастрыі, скобы, D-падобная спражка з дроту; тачыльныя каменныя брускі. Сярод керамічных знаходак пераважаюць пасудзіны пражскай культуры — слабапрафіляваныя ляпныя гаршкі з прамымі альбо крыху адагнутымі вонкі шыйкамі. У адзінкавых экзэмплярах выяўлены фр-ты посуду мілаградскай культуры ранняга жал. веку, эпохі неаліту і новага часу. Помнік датуецца 4—7 ст.

*В.С.Вяргей.*

**БЯРДЫ́Ш**, старадаўняя баявая сякера на доўгім дзяржанні з шырокім месяцападобным лязом даўж. 0,4—1 м, з доўгім драўляным дрэўкам даўж. 1,8—2 м. Вядомы ва ўсёй Еўропе з 15 ст., у т.л. на тэр. Беларусі, хоць сам тэрмін тут вядомы з 17 ст. Б., унутраны бок якога мае спічастую «гатычную» прафілёўку, фіксуецца на адной з мініяцюр Радзівілаўскага летапісу. Б. знойдзены ў Віцебску, Мінску, Брэсце, Мядзеле, Гродне і інш. гарадах.

*Літ.*: Б о х а н Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV — канца XVI ст. Мінск, 2002.

*Ю.М.Бохан.*

**БЯРО́ЗАЎСКІ КЛЯ́ШТАР КАРТЭЗІЯ́НЦАЎ**, помнік архітэктуры 17—18 ст. Знаходзіцца ў г. Бяроза Брэсцкай вобл. Асн. частка комплексу пабудавана на працягу 1648—89. Кляштар фундаваны падканцлерам ВКЛ Казімірам Львом Сапегам, які запрасіў сюды манахаў ордэна картэзіянцаў. Вызначаюцца 2 функцыянальныя зоны: у знешняй (самай вялікай) размяшчаліся жылыя памяшканні манахаў, бібліятэка, трапезная, шпіталь, аптэка, гасп. пабудовы з сажалкай і садам. Уся тэр. комплексу была абнесена муравaнай сцяной з 5 абарончымі вежамі. Цэнтр. месца ў кляштары займалі касцёл і далучаныя да яго келлі манахаў-самотнікаў. Дамінантай была 8-гранная шмат'ярусная вежа-званіца, прыбудаваная да гал. апсіды касцёла. У сцяне кляштара быў пахаваны К.Л.Сапега і інш. прадстаўнікі яго роду. Пасля паўстання 1830—31 кляштар зачынены, у 1866 — таксама і касцёл (пазней разабраны на цэглу). Захаваліся рэшткі кляштара.

Археал. даследаванні помніка праводзіліся ў 1989—90 экспедыцыяй Бел. рэстаўрацыйна-праектнага ін-та (кіраўнік А.Дзярновіч). Былі закладзены 3 раскопы агульнай пл. 425 м² і 24 шурфы пл. 102 м². Высветлена, што заляганне трывалых парод ніжэй тагачасных гумусавых слаёў, а таксама значная вільготнасць мацерыковага грунту прывялі будаўнікоў да ўтварэння своеасаблівай тэхнікі выкладання падмуркаў кляштара. Зверху знаходзіцца цагляная муроўка; пад ёй залягае муроўка з камянёў, якая выступае гарызантальна над «заліўкай»; ніжэй знаходзіцца ўласна «заліўка», якая ўтваралася наступным чынам: выкапаны ў мацерыку роў літаральна заліваўся вапнавай рошчынай, у якую потым кідалі камяні. Такі прыём прывёў да таго, што ў стратыграфіі буд. роў не вызначаецца, а лінія мацерыка вызначаецца вышэй за лінію падэшвы падмурка. Магутны слой вапны захоўваў ад намакання асн. буд. матэрыял — цэглу. «Каменная» праслойка ўмацоўвала падмурак, на які ціснула маса гмаху. У месцах кантактаў у розных збудаваннях падмуркі дадаткова ўмацоўваліся рошчынай. Цэгла 17 ст. мае параметры 27—28 × 14,5—15 × 6—6,5 см (значна радзей 30—31 × 14—14,5 × 7,5—8 см). У 18 ст. памеры цэглы 31,5—33 × 15,5—16 × 6—6,5 см. У будынках 17 — 1-й пал. 18 ст. падлога пакрывалася квадратнымі керамічнымі пліткамі 21—21,2 × 21—21,2 × 5—5,5 см. У паўд.-зах. куце ўцалелай вежы знойдзены рэшткі печы, якая была вымуравана на плітачнай падлозе 17 ст. Характэрнай рысай ацяпляльнай сістэмы кляштара з'яўляліся цеплавыя каналы (выяўлены, у прыватнасці, у палацы Сапегаў). Ён пачынаўся ад каміна, ішоў пад падлогай, у т.л. і пад подам яшчэ адной печы, атрымліваючы такім чынам дадатковае цяпло. Сцены мелі рэнесансавую крыжовую муроўку (рады цэглы выкладаліся наступным чынам: адзін — цалкам з лажкоў, другі — цалкам з тычкоў і г.д.). Цэгла змацоўвалася вапнавай рошчынай. Шоў меў таўшч. 2—2,5 см. Знойдзены 2 тыпы дахоўкі — пляскатая і хвалістая. Першая датуецца 17 ст., адзін бок у яе скруглены. У раскопах і шурфах каля касцёла выяўлены пераважна зялёнапаліваныя экзэмпляры. Па меркаванні даследчы-



*Ляпны посуд пражскай культуры з аднаго з жытлаў паселішча **Бяланавічы**.*

каў, дах касцёла быў пакрыты паліванай дахоўкай. Знойдзеная кафля датуецца сяр. 17 — пач. 19 ст. Адзін з улюбёных матываў — раслінны. Большасць кафлі 17 ст. з расліннай арнаментацыяй зялёнапаліваная і толькі каля 30% — тэракотавая. У цэнтры арнаменту прысутнічае традыцыйны для бел. кафлярства элемент — валошка, закампанаваны ў рэнесансавую рамку. Фр-ты геральдычнай кафлі звязаны з родам Сапегаў, заснавальнікам кляштара. Родавы герб «Ліс» — асн. элемент дэкору тэракотавай кафлі сяр.—2-й пал. 17 ст. Своеасаблівым з'яўляецца дэкор кафлі 2-й пал. 18 ст. Яна мае гладкую паверхню, а пласціна пакрыта цёмна-жоўтай, светла-карычневай альбо салатавай палівай, на якую потым былі нанесены палосы і плямы карычневага, зялёнага, салатавага колеру. Менавіта такой кафляй былі аздоблены печы ў вежы і палацы. Сяр. 18 ст. датуецца гладкая кафля, пакрытая шчыльнай зялёнай палівай. Увесь керамічны посуд бярозаўскай калекцыі паводле прынцыпаў тэхналагічнай апрацоўкі падзяляецца на чарнадымлены (84% фр-таў), паліваны (10%) і тэракотавы (6%). Прафіліроўка вянцоў чарнадымленага посуду мае няшмат аналагаў у інш. гарадах і рэгіёнах Беларусі. У 18 ст. шырока ўжываліся паліхромныя талеркі і місы з бякла-ружовым фонам, раслінным роспісам цёмна-зялёнай і бэзавай палівы. У калекцыі ёсць таксама зялёнапаліваныя крынкі 2-й пал. 17 ст., якія маюць начынне дыям. 10 см («на адно яйка»). Сярод металічных вырабаў вылучаецца працоўны інвентар, што невыпадкова, бо кляштар праводзіў вял. гасп. дзейнасць, у т.л. і аграрную: апрацоўка садоў, агародаў, вырошчванне лекавых зёлак. Аналіз археал. інфармацыі дазваляе зрабіць наступныя высновы: 1) датаванне найстараж. матэрыялаў сяр. 17 ст. дазваляе сцвярджаць, што кляштар быў засн. на незаселеным месцы; 2) падчас яго будаўніцтва тэхнічныя прыёмы цесна ўвязваліся з умовамі прыроднага асяроддзя; 3) кляштар мае значна больш складаную архіт. гісторыю ў параўнанні з вядомымі планамі 1-й пал. 19 ст.; 4) у матэрыяльнай культуры (у прыватнасці, у керамічным посудзе) адлюстравана спецыфіка індывідуальнага кляштарнага жыцця; 5) кляштар з'яўляецца ўзорным помнікам развіцця матэрыяльнай культуры рэгіёна сяр. 17 ст. — 1820-х г.

*Літ.*: К в и т н и ц к а я Е.Д. Архитектура Белоруссии XIV—XVIII вв. // Всеобщая история архитектуры. М., 1968. Т. 6; Я е ж. Кляштар у Картузскай Бярозе // ПГКБ. 1973. № 4; С т а ш к е в і ч А., Д з я р н о в і ч А. Госця або пані?: па слядах адной знаходкі // Мастацтва. 1991. № 12; Д з я р н о в і ч А., К а л н і н В. Гісторыка-археалагічныя даследаванні Бярозаўскага кляштару картузаў // З глыбі вякоў. Наш край: гіст.-культурал. зб. Мінск. 1992; Г а б р у с ь Т. Па надзвычай строгаму статуту // Страчаная спадчына. Мінск, 1998; Я е ж. Мураваныя харалы: сакральная архітэктура бел. барока. Мінск, 2001; Яе ж. Мураваная сакральная архітэктура XVI—XVIII стст. // Архітэктура Беларусі: нарысы эвалюцыі ва ўсходнеславянскім і еўрапейскім кантэксце. Мінск, 2006. Т. 2. XV — сярэдзіна XVIII ст.; Л я ў к о В.М. Манастырскія комплексы // Археалогія Беларусі. Мінск, 2001. Т. 4. Помнікі XIV—XVIII стст.; С л ю н ь к о в а И.Н. Монастыри восточной и западной традиции. Наследие архитектуры Беларуси. М., 2002.

*А.І.Дзярновіч.*

**БЯРО́ЗКІ**, археалагічны помнік — неалітычнае паселішча *верхнедняпроўскай культуры* каля в. Бярозкі Добрушскага р-на Гомельскай вобл. На Пд ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Іпуць, ва ўр. Селішча. Адкрыў у пач. 1900-х г. Е.Р.Раманаў, даследавала ў 1975—76 А.Г.Калечыц. Выяўлены шматлікія рэшткі крамянёвай вытворчасці (адшчэпы, пласціны, нуклеусы), загатоўкі і гатовыя прылады працы (скрабкі, скоблі, сякеры, цёслы, праколкі, свярдзёлкі, адзінкавыя трапецыі), пласціністыя наканечнікі стрэл, фр-ты ляпнога посуду, упрыгожаныя лапчастым і ямачным арнаментам, наколамі, вуглом адступаючай лапаткі.

*Літ.*: Р о м а н о в Е.Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии). Вильна, 1910.

*А.Г.Калечыц.*

**БЯРЭ́ЗНІЦА**, археалагічны помнік — курганны могільнік раннеславянскай пражска-карчацкай культуры каля в. Бярэзніца Пружанскага р-на Брэсцкай вобл. За 1,1 км на ПдЗ ад вёскі, на ўскраіне сасновага бору, ва ўр. Пель. 11 насыпаў выш. 0,33—0,8 м, дыям. 8,3—12,5 м. Вядомы з к. 19 ст. У 1986 Т.М.Каробушкіна даследавала 1 курган. Пахавальны абрад — трупаспаленне па-за межамі могільніка. Рэшткі крэмацыі змешчаны ў цэнтры кургана ў яме дыям. 0,3 м, глыб. 0,27 м, на попельным слоі. У насыпе выяўлены рэшткі спаленай драўлянай канструкцыі прамавугольнай формы, памерамі 1,1 × 1 м. Датуецца 6—7 ст.

*Літ.*: К о р о б у ш к и н а Т.Н. Раскопки курганов Среднего Побужья // АО 1986. М., 1988.

*Т.М.Каробушкіна.*

**БЯРЭ́СЦЕ**, а р х е а л а г і ч н ы м у з е й «Б я р э с ц е», філіял Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея. Засн. 18.1.1972, адчынены для наведвання 2.3.1982. Размешчаны на Шпітальным в-аве (Валынскім умацаванні) Брэсцкай крэпасці на месцы дзяцінца стараж. Бярэсця, закладзенага *дрыгавічамі*.

Падставай для стварэння археал. музея з'явілася унікальная захаванасць выяўленых археал. даследаваннямі драўляных пабудоў стараж. горада Б. (сучасны Брэст). Гарадзішча стараж. Б. выяўлена на падставе комплексных даследаванняў пісьмовых і археал. крыніц у 1961—69 (ускрыта 1844 $м^2$, з іх да 400 $м^2$ да мацерыка на глыб. 7 м). Аснову экспазіцыі складаюць рэшткі выяўленых будынкаў стараж. Б., драўляных вуліц, дваровых насцілаў і платоў, а таксама шматлікіх прадметаў быту жыхароў горада. Рэшткі драўляных пабудоў маюць захаванасць да 11—12 вянкоў. У асн. гэта рэшткі наземных, аднакамерных збудаванняў зрубавай канструкцыі памерамі 3,6 × 3,6 м, са злучальнай чашкай з верхняга боку бервяна. Асн. пларіровачным сродкам былі 3 вуліцы ў напрам-



*Да арт. **Бярэсце**. Агульны выгляд экспазіцыі музея.*

ку з У на З, паміж якімі вельмі цесна, у 3—4 рады, стаялі жылыя (большасць) і гасп. пабудовы (5 з іх прызначаліся для ўтрымання жывёлы). У пабудовах выяўлены дзвярныя (35) і аконныя (3) праёмы, падлогі, рэшткі глінабітных і з ужываннем цэглы пячэй (57). У раскопках знойдзена вял. колькасць прадметаў (больш за 40 тыс.) — інструменты (долаты, кавальскія абцугі, молат, свярдзёлак), прылады працы (сярпы, косы, сякеры), штодзённага ўжытку (нажы, нажніцы, замкі, ключы, крэсівы і г.д.), зброя, жаночыя ўпрыгажэнні (металічныя і шкляныя бранзалеты, колты, спражкі і г.д.), рэшткі скуранога абутку і тканіны, розныя драўляныя прылады і вырабы, косткі свойскіх і дзікіх жывёл, прадметы рамеснай вытворчасці і гандлю. Сярод іх ёсць унікальныя: адзінае ў Еўропе дубовае рала, адзіны ў краінах СНД жом для выціскання алею, адзіны ў Беларусі алфавіт-кірыліца на драўляным грабеньчыку, драўляная дошчачка для пісьма — цэра, драўлянае кола. Экспазіцыя знойдзеных рэчаў прадстаўлена ў 14 асобных залах па тэматычным плане, дзе расказваецца аб гісторыі Б. і жыцці берасцейцаў, развіцці асобных рамёстваў і промыслаў, заняткаў насельніцтва, культуры і сувязей з інш. краінамі.

*П.Ф.Лысенка.*

**БЯРЭ́ШЧА**, археалагічны помнік — паселішча каменнага і бронзавага вякоў за 1 км на У ад в. Окана і на ПдЗ ад в. Верабкі Лепельскага р-на Віцебскай вобл., ва ўр. Дубавец, на выцягнутым з ПнЗ на ПдУ пагорку (100 × 20 м) на тарфянікавым узбярэжжы р. Бярэшча. Выяўлена ў 2006 В.Хацкевічам. Даследавалася ў 2006 і 2007 Макс.М.Чарняўскім. Знойдзены крамянёвыя, каменныя, касцяныя і рагавыя наканечнікі стрэл, дзід, гарпуноў, скрабкі, скоблі, адбойнікі, цёрачнікі, камбінаваныя вырабы, лашчылы, вырабы са шчапаных іклоў дзікоў, нарыхтоўкі прылад. Керамічны комплекс паселішча адносіцца да нарвенскай, грабеньчата-ямкавай керамікі, усвяцкай і паўн.-бел. культур. Адзінкавымі фр-тамі прадстаўлены матэрыялы сярэдняй бронзы. Ас-



*Касцяныя вырабы з паселішча **Бярэшча**.*




*Касцяныя (1—10) і шкляныя (11—16) вырабы з паселішча **Бярэшча**.*

тэалагічны матэрыял прадстаўлены рэшткамі млекакормячых, птушак, рыб і земнаводных. Акрамя гэтага маюцца адзінкавыя знаходкі чыліма.

*Макс.М.Чарняўскі.*

**БЯСКА́ТАВА**, археалагічныя помнікі — гарадзішча, селішча і курганны могільнік каля в. Бяскатава Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а на паўд. ускраіне вёскі, на пагорку выш. 20 м. Мясц. назва Папова Гара. У 1965 абследаваў К.П.Шут. Культ. пласт 1 м. Знойдзены ляпная гладкасценная і з адбіткамі тэкстылю кераміка днепра-дзвінскай і банцараўскай культур, фр-ты кругавога посуду.

С е л і ш ч а побач з гарадзішчам, пл. 1 га. Сабрана ляпная гладкасценная кераміка *банцараўскай культуры* 5—7 ст.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к *крывічоў* за 0,3 км на У ад гарадзішча. 12 насыпаў: 1 доўгі (25 ×

10 × 2 м), 4 падоўжаныя (15 × 10 × 2 м) і 7 круглых (выш. 1—1,5 м, дыям. 6—8 м). У 1975 Г.В.Штыхаў даследаваў 2 курганы. У падоўжаным кургане (7 × 5 × 0,8 м) пад насыпам выяўлена попельна-вугальная праслойка. Пахаванне ва ўсх. частцы кургана ў авальнай яме памерамі 30 × 40 см, выкапанай у мацерыку. Пахавальны інвентар пашкоджаны агнём: 2 касцяныя фігуркі птушак, бронзавае скроневае кольца з адтулінамі для трапецападобных падвесак, шкляная зялёная двайная пацерка, касцяны круглы гузік, ляпны гаршчок. У круглым кургане выш. 0,8 м, дыям. 5,5 м на ўзроўні стараж. дзённай паверхні прасочваюцца сляды вогнішча, у паўд.-зах. частцы неглыбокая ямка, у якой былі вуглі. Прыкмет пахавання не выяўлена.

*Літ.*: Ш т ы х а ў Г.В. Крывічы. Мінск, 1992.

*Г.В.Штыхаў.*





*А.М.Ваганава.*

**ВАГА́НАВА** Ала Мікалаеўна (н. 5.7.1948, с. Стараніkольскае Маскоўскай вобл.), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1985), дацэнт (1986). Скончыла БДУ (1972). З 1973 супрацоўнік Дзярж. музея БССР, з 1975 выкладае ў БДУ. Даследуе праблемы сацыяльнай тыпалогіі паселішчаў Кіеўскай Русі, пытанні ўмацавання сядзіб-замкаў 11—13 ст., вывучае праблемы першабытнай гісторыі, палеаантрапалогіі. Адзін з аўтараў навучальнага дапаможніка для студэнтаў ВНУ «Гістарычнае краязнаўства Беларусі» (1980). Удзельнічала ў археал. экспедыцыях БДУ у Рагачове, Вішчыне (Рагачоўскі р-н), Гарадзішчы (Мядзельскі р-н), Івані (Слуцкі р-н).

*Тв.*: Из истории изучения феодальных замков Древней Руси // Весн. БДУ. Сер. 3. 1980. № 3; Историческая география и типология древнерусских феодальных замков XI—XIII вв. // Там жа. 1987. № 1; Материальная культура древнерусских феодальных замков // Древнерусское государство и славяне. Минск, 1983; Антропогенез и становление человеческого общества. Минск, 2004; Новые подходы к проблеме антропогенеза: материалы Междунар. науч. конф., посвящ. 70-летию ист. фак. БГУ. Минск, 15—16 апр. 2004 г. // XXI век: актуальные проблемы исторической науки. Минск, 2004; Миграции древнейших гоминид // Древняя история Восточной Европы: сб. науч. ст., посвящ. 80-летию проф. Э.М.Загорульского. Минск, 2009.

*А.А.Егарэйчанка.*

**ВАДАЛЕ́Й**, металічная літая пасудзіна, якая выкарыстоўвалася для мыцця рук. Мела выгляд рэальных ці фантастычных жывёл, коннікаў, чалавечых галоў, бюстаў і інш. Адлівалі з бронзы ці серабра, аздаблялі чаканкай або гравіраваннем. Найб. цікавы В. 1-й пал. 13 ст. ў выглядзе коннага рыцара выяўлены ў *Гродзенскай Барысаглебскай царкве*. Зроблены ў Паўн. Германіі. Выш. 24 см, даўж. 19 см. Коннік у доўгай падпяразанай кашулі без рукавоў, надзетай на кальчугу, на галаве каня капялюш з адтулінамі для вачэй і вушэй. Вада налівалася праз адтуліну ў ілбе каня і выцякала з яго рота.

*Літ.*: Даркевич В.П. Произведения западного художественного ремесла в Восточной Европе (X—XIV вв.) // САИ. 1966. Вып. Е1—57.

**ВАЗНЯЧУ́К** Леанід Мікалаевіч (5.8.1929, Мінск — 1.2.1981), беларускі геолаг. Канд. геолага-мінералагічных навук (1963). Скончыў БДУ (1950). У 1953—56, 1964—69 на выкладчыцкай рабоце ў Мінскім педінстытуце і БДУ, з 1969 у Ін-це геахіміі і геафізікі АН БССР. Сумесна з супрацоўнікамі сектара археалогіі ІГ АН БССР праводзіў комплекснае даследаванне палеалітычных помнікаў, плейстацэнавых адкладаў Беларусі, вывучаў стратыграфію Бердыжскай і Юравіцкай палеалітычных стаянак, палеагеаграфію часу іх існавання, стварыў першую ў Беларусі радыевугляродную лабараторыю для вызначэння абсалютнага ўзросту плейстацэнавых адкладаў па ізатопе $C^{14}$. Паказаў цесную сувязь паміж археалогіяй і палеагеаграфіяй, падкрэсліў ролю археал. помнікаў у вывучэнні як гісторыі першабытнага чалавека, так і чацвярцічнай геалогіі. Прымаў актыўны ўдзел у распрацоўцы стратыграфічна-палеаграфічнай схемы краіны, даў падрабязную гісторыю развіцця фаз нававалдайскай стадыі апошняга абледзянення, звязаў яе з гісторыяй першабытнага чалавека.

*Тв.*: Геалагічнае мінулае Беларусі. Мінск, 1959 (разам з А.С.Махначом); О значении Бердыжской палеолитической стоянки для определения возраста речных террас бассейна Днепра (разам з У.Дз.Будзько) // Тезисы докладов к конференции по археологии Белоруссии. Минск, 1969; Схема стратиграфии и палеографии верхнего плейстоцена Белоруссии и смежных территорий (разам з У.Дз.Будзько, А.Г.Калечыц) // Древности Белоруссии. Минск, 1969; Палеолитическая стоянка Бердыж (з імі ж) // АО 1970. М., 1971.

*А.Г.Калечыц.*

**ВАЙШКУНЫ́**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Вайшкуны Пастаўскага р-на Віцебскай вобл. За 2 км на ПнУ ад вёскі, ва ўр. Магілы (Гарэлы Бор). 21 насып дыям. 6—10 м, выш. 0,3—1,5 м. Вакол большасці насыпаў прасочваюцца раўкі з перамычкамі. Абследавалі ў 1938—39 Г.Цэгак-Галубовіч і У.Галубовіч, у 1979 Я.Г.Звяруга даследаваў 9 курганоў. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Рэшткі крэмацыі змешчаны на гарызонце і ў насыпе. У большасці курганоў у аснаванні выяўлены рэшткі вогнішчаў дыям. 5—6 м. Суправаджальны інвентар — жал. сякеры, наканечнік кап'я, шыла, шпілька з коль-

цападобнай галоўкай, званочак для жывёлы, бронзавыя званочкі з крыжападобнай прарэззю, спіралькі, ланцужкі, фр-ты шыйных грыўняў, бранзалетаў і інш. упрыгажэнняў, злiткi з бронзы, гліняныя прасліцы, кругавая кераміка. Датуецца 9—11 ст.

*Літ.*: З в е р у г о Я.Г. Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. Минск, 1989. *Я.Г.Зверуга.*

**ВАКО́ЛЬНЫ ГО́РАД**, частка старажытнарускага горада, якая размяшчалася вакол *дзяцінца* і перавышала плошчу апошняга ў 1,5—3 разы, мела ўласныя ўмацаванні (валы, равы). Звычайна ўзнікаў на ранейшым месцы *пасада*, утвараючы 2-ю паласу абароны горада. Быў месцам сканцэнтравання свабодных рамёстваў і гандлю. Знаходкі з археал. раскопак В.г. ў большай ступені, чым матэрыял з раскопак дзяцінцаў, звязаны з рамяством і гандлем.

У Беларусі В.г. ўзніклі ў 12 ст., пад час вылучэння ўдзельных княстваў. Паводле Іпацьеўскага летапісу В.г. згадваецца ў Навагрудку ў 1274. Знешнія прыкметы В.г. (рэшткі валоў і равоў) захаваліся ў Ваўкавыску, Друцку, Капылі, Клецку, Тураве. Археал. раскопкі на тэр. В.г. праводзіліся ў Віцебску, Полацку, Пінску, Тураве, Друцку, Навагрудку, Капылі, Клецку, Мсціславе.

*Літ.*: Г у р е в и ч Ф.Д. Древний Новогрудок (посад — окольный город). Ленинград, 1981; Т и м о щ у к Б.А. Об археологических признаках древнерусского города // Археологические источники об общественных отношениях эпохи средневековья. М., 1988; К у з а А.В. Малые города Древней Руси. М., 1989; Т р у с а ў А.А., Т к а ч о ў М.А., М я ц е л ь с к і А.А. Некаторыя вынікі археалагічнага вывучэння вакольнага горада Мсціслава XII—XVIII стст. // ВАНБ. 1990. № 2; К о л е д и н с к и й Л.В. Аксиомы, теоремы и софизмы в интерпретации становления Верхнего замка Витебска // Castrum, urbis et bellum: зб. навук. прац, прысвечаных памяці М.Ткачова. Баранавічы, 2002; А л е к с е е в Л.В. Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси: формирование и развитие. Минск, 2004; Б у б е н ь к о Т.С. Средневековый Витебск. Посад — Нижний замок (X — первая половина XIV в.). Витебск, 2004. *Л.У.Калядзінскі.*

**ВАЛАТО́ЎКІ**, народная назва старажытных курганных могільнікаў. Найб. пашырана на Пн Беларусі, у сумежных з ёй раёнах Смаленшчыны, Пскоўшчыны і ўсх. Латвіі, у асн. супадае з арэалам рассялення *крывічоў*. У актавых дакументах 16—17 ст. урочышчы з такой назвай засведчаны на Віцебшчыне. Паводле легенд, у курганах быццам бы пахаваны волаты-асілкі — персанажы бел. міфалогіі. В. называюцца шэраг помнікаў *доўгіх курганоў паўночнай Беларусі культуры* з крэмацыяй, а таксама курганныя могільнікі 10—12 ст. з трупапалажэннем на Віцебшчыне і ў суседніх раёнах. Урочышчы з такой назвай, дзе ёсць курганы, зафіксаваны каля пас. *Друя* (Браслаўскі р-н), вёсак Куранец Вілейскага, *Бельчыцы*, *Лiпск*, *Малышкі*, *Пуканаўка 1*, *Сакольнікі*, Бяздзедавічы Полацкага, Валатоўкі Шумілінскага, Верхняе, Зарубчыкі, Мамаі Глыбоцкага, Галубова Гарадоцкага, Ёды Шаркаўшчынскага, Забаенне, Стаўбцы Чашніцкага, Іжа Вілейскага, Махіроўка Міёрскага, Палессе Мядзельскага, Стараселле Лепельскага р-наў.

*Літ.*: Я с і н с к і А. Два словы аб волатах: да прабл. першапачатковага насельніцтва Беларусі // Зап. аддз. гуманіт. навук БАН. Мінск, 1929. Кн. 8. Працы класа гісторыі, т. 3; К а с п я р о в і ч М. Валатоўкі і звязаныя з імі перажыткі: (першапачатковыя вынікі даследавання) // Наш край. 1929. № 6—7; С е р г е е в а З.М. Народные названия курганов на северо-востоке Белоруссии // Древности славян и Руси. М., 1988; Е р м а л о в і ч М.І. Старажытная Беларусь: полацкі і новагародскі перыяды. Мінск, 1990. *Г.В.Штыхаў, Э.М.Зайкоўскі.*

**ВАЛКУША́НСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура эпохі фінальнага палеаліту. Вылучана ў 1-й пал. 1990-х г. К.Шымчакам на падставе матэрыялаў з тэр. паўн.-ўсх. Польшчы, паўд. Літвы, зах. Беларусі і паўн. Украіны. Адначасова з'яву аналагічна апісаў Л.Л.Залізняк, вызначыўшы




*Прылады* ***валкушанскай культуры:*** *нуклеус — 1; наканечнікі — 2—9; скрабкі — 10—11; праколка — 12. Знойдзены: 1, 2 — Опаль-5; 3 — Адрыжын; 4—7 — Краснасельскі-6; 8 — Галачова; 9 — Ліхачы, ур. Востраў Салацкі; 10—12 — Жукевічы-1.*

краснасельскую культуру. Матэрыялы В.к. пад інш. назвамі згадваліся ў літаратуры з сяр. 20 ст. як «прыбалтыйскі мадлен» (Р.Рымантэнэ), «група Вільнюс» (Я.К. і С.К. Казлоўскія), «арэнсбургская культура» (Л.Кальцоў), «лінгбійская культура sensu largo» (С.К.Казлоўскі), «комплексы тыпу Вільня» (З.Сульгастоўска), «дасвідэрскія матэрыялы» (Р.Шыльд). В.к. разам з лінгбійскай, арэнсбургскай, свідэрскай і грэнскай культурамі належыць да тэхнакомплексу з чаранковымі наканечнікамі стрэл. К.Шымчак адзначае падабенства крамянёвых комплексаў В.к. з гэтымі фінальнапалеалітычнымі культурамі. Паводле Л.Л.Залізняка, В.к. сфарміравалася на аснове лінгбійскай і ўключае помнікі з грэнскімі наканечнікамі, грэнская група помнікаў з'яўляецца падасновай для пясочнароўскай і іенеўскай мезалітычных культур.

Крамянёвы інвентар В.к. характарызуюць нуклеусы двухпляцовачныя монафрантальныя ад пласцін без дадатковай апрацоўкі бакоў і контрфронту, аднапляцовачныя ад пласцін з частковай апрацоўкай бакоў і контрфронту; скрабкі на пласцінах; розныя тыпы разцоў з перавагай рэтушаваных і нуклеападобных; пласціны са скошаным дробнай рэтушшу канцом; чаранковыя наканечнікі стрэл без плоскай рэтушы насады з брушка.

Арэал В.к. ахоплівае басейны рэк Вісла і Нёман, зах. частку Бел. і Укр. Палесся. Да В.к. належаць археал. помнікі Бурдзенішкі-4, Багатэры Лесьны-2, Волкуш-3, Волкуш-5, Возьна Весь-1, Рыдна-10, Станькавічы-1 (Польшча), Краснасілля-Е, Лютка-Б, Нобель-2Б, Вял. Мідськ, Аносава (Украіна), Вільнюс-1, Эжарынас-8, 15—17 (Літва). На тэр. Беларусі матэрыялы В.к. вядомы з помнікаў *Жылічы*-1—3, *Жукевічы*-1, 2, *Кавальцы*-1, 4, *Ліхачы* ўр. «Востраў Ліхацкі», *Ліхачы* ўр. «Востраў Салацкі» (Гродзенскі р-н), *Краснасельскі*-6 (Ваўкавыскі р-н), *Беліца*-1, *Збляны*-2 (Лідскі р-н), *Моталь*-1, 5, 17, *Опаль*-5 (Іванаўскі р-н), *Вялічкавічы*-1—5, 7—8, Коладна-1—3 (Камянецкі р-н), Галачова (Брэсцкі р-н), Рубяжэвічы (Стаўбцоўскі р-н). Храналагічна культура адносіцца да перыяду 10 800—10 300 г. таму назад.

*Літ.*: З а л і з н я к Л. Фінальний палеоліт північного заходу Східної Європи. Київ, 1999; А б у х о ў с к і В.С. Палеаліт Беларусі — сучасны стан і перспектыва даследаванняў // Wspólnota dziedzictwa kulturowego ziem Białorusi i Polski. Warszawa, 2004; К а л е ч и ц Е.Г., О б у х о в с к и й В.С. Этапы заселения Мотольского микрорегиона в каменном и бронзовом веках: по материалам поселения Мотоль 17 // Lietuvos Archeologija. Vilnius, 2004. T. 25; S z y m c z a k K. Epoka kamienia Polski Północno-Wschodniej na tle Środkowoeuropejskim. Warszawa, 1995; O b u c h o w s k i W. Zabytki krzemienne i kamienne od paleolitu do wczesnej epoki żelaza z terenów Białorusi w zbiórach Państwowego Muzeum Archeologicznego w Warszawie. Warszawa, 2003.

*В.У.Ашэйчык, А.М.Вашанаў.*

**ВАЛМЯ́НСКАЯ СЯДЗІ́БА ВАНЬКО́ВІЧАЎ**, сядзібна-паркавы комплекс пачатку 19 ст. ў в. Волма Дзяржынскага р-на Мінскай вобл. Да 1939 належала Ваньковічам. Да нашых дзён захаваліся моцна перароблены сядзібны дом, адзін з двух бакавых флігеляў, службовы корпус і парк. На тэр. сядзібы размяшчаецца вучэбна-навук. станцыя «Волма» Міжнар. экалагічнага ун-та імя А.Дз.Сахарава.

У 2007 В.Е.Собаль правёў археал.-архіт. даследаванні сядзібы Ваньковічаў. Таўшч. культ. пласта 17 — пач. 20 ст. складала 0,3—1 м. Высветлілася, што на месцы мураванай сядзібы ў 17—18 ст. была драўляная забудова. Некаторыя яе пабудовы мелі печы, абкладзеныя тэракотавай і зялёнапаліванай кафляй. На адным кавалку кафлі захаваліся дата — 1722 і элементы герба Ваньковічаў з манаграмамі. Першапачаткова сядзібны дом на гал. фасадзе меў ганак з 4-калонным порцікам, які быў разабраны ў пасляваенны час. З тыльнага боку дома выяўлены закладзены ўваход з прыступкамі ў падвал. Флігель узведзены на месцы жылой, з кафельнымі печамі, драўлянай пабудовы. Яе спарахнелае дрэва захавалася пад падмуркам флігеля.

Калекцыя прадметаў матэрыяльнай культуры 17—20 ст., у большасці сваёй у фрагментарным выглядзе, налічвае 357 адз. Знаходкі: гліняны, фаянсавы посуд, жал. нажы, конскія падковы, дзвярныя ручкі, цвікі, абутковыя падкоўкі, чыгунныя дзверцы ад печаў, спружынныя нажніцы, шкляныя вырабы (бутэлькі, аптэчныя флаконы, кварты, стопкі, келіхі, кавалкі аконных шыб).

*В.Е.Собаль.*

**ВАЛУНЫ́ САКРА́ЛЬНЫЯ**, культавыя археалагічныя помнікі, вядомыя ў многіх народаў свету. У Беларусі іх выяўлена больш за 200, некаторыя маюць назвы: Князь-камень, Вялікі камень, Чортаў камень (гл. *Камяні «чортавы»*), Сцяпан, Мядзведзь, Быкі і інш. Паводле нар. паданняў, пад аднымі валунамі закапаны скарбы, каля другіх апоўначы скачуць чэрці, некаторыя атаясамліваюць з людзьмі, якія акамянелі з-за працы ў святочныя дні. У старажытнасці каля шматлікіх камянёў адпраўлялі язычніцкія культы, праводзілі малебны (Дажбог, Пярун, Дзявочы камень), сюды прыносілі падарункі (грошы, тканіны, ручнікі, ежу). Над некаторымі валунамі будавалі хрысціянскія капліцы і храмы (у Жыровічах, Барысаве, Чырвонай Слабадзе). Найб. распаўсюджаныя В.с. — камяні-краўцы, камяні-следавікі, камяні з паглыбленнямі. Гл. таксама *Барысавы камяні.*

*Літ.*: Б о г д а н о в и ч А.Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов: этногр. очерк. Гродно, 1895; М я л е ш к а М. Камень у вераваннях і паданнях беларусаў. Мінск, 1929; Д у ч ы ц Л.У. Культавыя камяні Беларусі // Помнікі мастацкай культуры Беларусі: новыя даслед.: зб. арт. Мінск, 1985; Л я ў к о ў Э.А. Маўклівыя сведкі мінуўшчыны. Мінск, 1992.

*Л.У.Дучыц.*

**ВАЛЫНЯ́НЕ**, в е л ы н я н е, усходнеславянскае племя (магчыма, саюз плямён), якое жыло ў к. 1-га — пач. 2-га тыс. н.э. ў басейне верхняга цячэння р. Зах. Буг і каля вытокаў р. Прыпяць. Іх

паўн. суседзі — *бужане*. Археал. раскопкамі высветлена, што В. са стараж. часоў жылі асела, займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, ляснымі промысламі. Паводле звестак географа Баварскага, В. ў сяр. 9 ст. мелі 70 гарадоў (замкаў). У 10 ст. ў В. развіваліся феад. адносіны, на тэр. іх рассялення існавала Уладзіміра-Валынскае, а пазней Галіцка-Валынскае княствы. З сяр. 14 ст. В. ў складзе ВКЛ.

*Літ.*: Андрияшев А.М. Очерк истории Волынской земли до конца XIV столетия (с картой Волынской земли). Киев, 1887; Филевич И.П. Борьба Польши и Литвы-Руси за Галицко-Владимирское наследие: ист. очерки. Санкт-Петербург, 1890; Пашуто В.Т. Очерки по истории Галицко-Волынской Руси. М., 1950; Тихомиров М.Н. Древнерусские города. 2 изд. М., 1956.

**ВАНЮ́ЖЫЧЫ**, археалагічныя помнікі — курганныя могільнікі дрыгавічоў каля в. Ванюжычы Петрыкаўскага р-на Гомельскай вобл. Датуюцца 11 ст.

Курганны могільнік-1 за 2 км на Пн ад вёскі, 0,3 км на ПнУ ад могілак, ва ўр. Курганы. Было 80 насыпаў, захаваліся 32 выш. 0,5—1,5 м, дыям. 6—8 м. Адкрыў і даследаваў 23 насыпы ў 1889 У.З.Завітневіч, абследаваў у 1976 В.І.Шадыра. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З на гарызонце, у ямах глыб. 1,2 м, у дамавінах; у адным насыпе выяўлена 6 касцякоў. Знойдзены пярсцёнкападобныя і трохпацеркавыя скроневыя кольцы, вял. зярнёныя і шкляныя залачоныя пацеркі, бронзавы крыжык з 2 пацеркамі, віты пярсцёнак, нож, прасліцы, гаршкі.

Курганны могільнік-2 за 0,7 км на У ад могільніка-1, ва ўр. Студзёны Калодзеж. Было 10 насыпаў. Даследаваў 2 курганы ў 1889 У.З.Завітневіч. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З.

*Літ.*: Кухаренко Ю.В. Средневековые памятники Полесья // САИ. 1961. Вып. Е1—57; Седов В.В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. М., 1970 (МИА. № 163). *Г.В.Штыхаў.*

**ВАРА́ГІ** (ад стараж.-сканд. Vaeringjar целаахоўнік, воін з наёмнай варты візантыйскага імператара). У Зах. Еўропе яны вядомы як нарманы («людзі з Поўначы»), у скандынаўскіх краінах — вікінгі, выхадцы са Скандынавіі, якія ў 9 — 1-й пал. 11 ст. рабілі паходы ў розныя краіны Еўропы і за яе межы (у Грэнландыю, Паўн. Амерыку).

Час надзвычайнай актыўнасці выхадцаў са Скандынавіі наз. эпохай вікінгаў, якая, як лічыцца традыцыйна, пачалася ў 793, калі В. разрабавалі манастыр на в-аве Ліндысфарн каля ўзбярэжжа Нартумбрыі (Паўн.-Усх. Англія). Завяршэнне эпохі прыпадае на 1066, калі на бераг Англіі высадзіліся франка-нармандскія воіны нармандскага герцага Вільгельма Заваёўніка.

Ва Усх. Еўропе эпоха вікінгаў мела свае асаблівасці. Тут В. ў першую чаргу ўдзельнічалі ў фарміраванні транскантынентальных гандл. камунікацый (Вял. Волжскі шлях і шлях «з варагаў у грэкі»), раннегар. цэнтраў (Старая Ладага, Рурыкава гарадзішча пад Ноўгарадам, Цімярова, Гняздова, Кіеў і інш.) і раннедзярж. інстытутаў улады. Вядома, што кн. Рурык, запрошаны ў 862 на княжанне слав. і фінскімі плямёнамі, быў выхадцам са Скандынавіі.

Прысутнасць В. на тэр. Беларусі фіксуецца пісьмовымі і археал. крыніцамі, а таксама рунічнымі графіці (якія з'яўляюцца ўзорамі стараж.-скандынаўскай пісьменнасці) на манетах і артэфактах.

Першы вядомы па летапісах полацкі кн. Рагвалод, магчыма, таксама быў В., бо «прыйшоў з замор'я». Назва Полацк (Pallteskja альбо Palteskjuborg) часта сустракаецца ў розных стараж.-скандынаўскіх крыніцах — геаграфічных творах, сагах.

Да ліку знойдзеных на тэр. Беларусі археал. артэфактаў, якія маюць скандынаўскае паходжанне, належаць прадметы ўзбраення і ювелірныя ўпрыгажэнні. Зброя прадстаўлена каралінгскімі мячамі і іх фр-тамі (скарб з Брылёўскага поля Барысаўскага р-на, Полацк, Віцебск, Ваўкавыск, курганны могільнік Гарадзілава Маладзечанскага р-на, гарадзішча Франопаль Брэсцкага р-на і інш.), наканечнікамі іх ножан (гарадзішча Франопаль), наканечнікамі коп'яў з пяром ланцэтападобнай формы і арнаментам на ўтулцы (курганныя могільнікі Вусце і Рацкі Бор Браслаўскага р-на, гарадзішча Кульбачына Шчучынскага р-на, аколіцы Мінска), наканечнікамі коп'яў з пяром падоўжана-трохвугольнай формы і арнаментам на ўтулцы, выкананым каштоўнымі металамі (Ваўкавыск, курганны могільнік «Праклятае поле» каля в. Лукомль Чашніцкага р-на), ланцэтападобнымі наканечнікамі стрэл (Полацк, Віцебск, Лукомль, Мінск, Ваўкавыск, Мазыр, гарадзішчы Кастрыца Лепельскага і Пруднікі Міёрскага р-наў, Свіла-1 Глыбоцкага р-на, Кульбачына, Франопаль).

Да ювелірных упрыгажэнняў паўн.-еўрап. паходжання належаць фібулы (Віцебск, гарадзішчы Маскаўцы Браслаўскага р-на, Пруднікі, курганны могільнік Гарадзілава, селішча Чырвоная Зорка Бярэзінскага р-на), падвескі ў стылі Барэ (Ваўкавыск, курганны могільнік Ізбішча Лагойскага р-на), падвескі з валютападобным арнаментам (курганныя могільнікі Заслаўе, гарадзішча Гарадзішча Мінскага р-на), антрапаморфныя падвескі (курганныя могільнікі Лудчыцы Быхаўскага і Калодзецкая Касцюковіцкага р-наў), шыйныя грыўні (курганныя могільнікі Заслаўе і Старое Сяло Віцебскага р-на), лодкападобныя бранзалеты (Віцебск, курганны могільнік Азярцо-2 Мінскага р-на), наканечнік пояса (Капыль). У 1984 на Ніжнім замку ў Полацку быў знойдзены скарб з 6 фрагментарна захаваных залатых бранзалетаў, якія маюць паўн.-еўрап. аналогіі.

На дырхемах з Каз'янкаўскага (Полацкі р-н) і Пагарэльшчынскага (Валожынскі р-н) скарбаў маюцца графіці ў выглядзе рун і рунападобных знакаў. Цэлы комплекс костак (больш за 120) з

нанесенымі на іх надпісамі і малюнкамі 12—13 ст. знойдзены падчас раскопак гарадзішча Маскаўцы. Сярод іх вылучаецца вял. серыя рунічных надпісаў і рунападобных знакаў. Ігральная костка (астрагал) з рунічнымі знакамі выяўлена ў слоі 1220-х г. пры раскопках *Полацкага Верхняга замка.*

*Літ.*: Л е б е д е в Г.С. Эпоха викингов в Северной Европе: ист.-археол. очерки. Ленинград, 1985; Д ж а к с о н Т.Н. AUSTR I GÖRDUM: древнерус. топонимы в древнескандинавских источниках. М., 2001; М е л ь н и к о в а Е.А. Скандинавские рунические надписи: новые находки и интерпретации. Тексты, перевод, комментарии. М., 2001; Вікінгі на Усходзе: кат. Мінск, 2002; А р б м а н Х. Викинги. Санкт-Петербург, 2003; Г у р е в и ч А.Я. Походы викингов. 2 изд. М., 2005; Е р е м е е в И.И. Волок «с верха Днепра до Ловати» и варяги // Археологические вести. Санкт-Петербург, 2005. №12; Д е р н о в и ч С.Д. Скандинавские древности эпохи викингов в Беларуси. Минск, 2006; П л а в і н с к і М.А. Нарысы гісторыі клінковай зброі X—XIII стагоддзяў на Беларусі. Мінск, 2009.

*С.Дз.Дзярновіч, М.А.Плавінскі.*

**ВАРАНІНÓ**, археалагічны помнік — курганны могільнік раннеславянскага часу каля в. Вараніно Быхаўскага р-на Магілёўскай вобл. За 1 км на ПдЗ ад вёскі, на левым беразе р. Дняпро. Датуецца 7—10 ст.; 12 курганоў выш. 0,5—1,4 м, дыям. 7—12 м. Выявіў у 1963 І.І.Арцёменка, даследавалі ў 1963 І.І.Арцёменка (1 курган), у 1964—65 Г.Ф. Салаўёва. Выяўлены перапаленыя косці на гарызонце ў вял. колькасці попелу і вугалю (5 пахаванняў) і ў круглаватых ямах дыям. 0,5—0,9 м (4 пахаванні); адно 30 × 84 × 58 см арыентавана ў напрамку ПнУ—ПдЗ. Пахавальны абрад — трупаспаленне па-за межамі кургана. 2 курганы без пахаванняў. Знойдзены аплаўленыя абломак бронзавай пласціны і шкляныя пацеркі, жал. нож і кольца, ляпная кераміка, паводле формы і арнаменту падобная да керамікі роменска-боршаўскай культуры.

*Літ.*: С о л о в ь е в а Г.Ф. Памятники конца I тысячелетия н.э. в Верхнем Поднепровье // Древние славяне и их соседи. М., 1970 (МИА. № 176).

**ВАРАЦІ́ШЫН КА́МЕНЬ**, В а р а ц і ш ы н х р э с т, помнік эпіграфікі ў цэнтры в. Камена Вілейскага р-на Мінскай вобл. За 0,1 км ад правага берага р. Вілія. Звесткі пра камень апублікаваў у сяр. 19 ст. К.П.Тышкевіч. У к. 19 ст. яго даследаваў А.П.Сапуноў, у пач. 20 ст. — Е.Р.Раманаў, у 1976 — Я.Г.Звяруга. Камень шэрага колеру, па форме падобны на звон. Выш. 1,9 м, акружнасць 10,8 м. На ім высечаны шасціканцовы крыж (выш. 1,72 м, шыр. верхняй перакладзіны 0,43 м, ніжняй — 0,61 м) і надпісы «ІС ХС» «НИКА» «ВОРОТИШИН ХРЬСТЬ». Захаваліся сляды пашкоджанага нечытальнага надпісу. Паводле палеаграфічных дадзеных мяркуюць, што надпісы выбіты ў 1-й трэці 12 ст. Нар. паданне звязвае В.к. з аратым, ператвораным у камень за працу ў святочны дзень.

*Літ.*: Т а р а н о в и ч В.П. К вопросу о древних лапидарных памятниках с историческими надписями на территории Белорусской ССР // СА. 1946. № 8.

*Л.У.Дучыц, Я.Г.Звяруга.*

**ВАРАЦЭ́ВІЦКАЯ СЯДЗІ́БА О́РДАЎ**, помнік сядзібна-паркавай архітэктуры 2-й пал. 18 ст. Знаходзіўся ва ўр. Чырвоны Двор каля в. Варацэвічы Іванаўскага р-на Брэсцкай вобл. Пабудавана бацькам вядомага бел. мастака, музыканта, педагога 19 ст. Н.Орды — Міхалам. Сядзібны дом згарэў у 1943. У 2004 яго рэшткі даследаваў В.Е.Собаль. Дом быў пастаўлены на пясчанай выспе сярод забалочанай мясцовасці. Прамавугольная ў плане пабудова памерамі 32,8 × 14,5 м у цэнтр. частцы мела прыхожую і вял. залу. Ад іх у бакі адыходзілі анфілады розных па плошчы памяшканняў. Дом налічваў 16 пакояў на 1-м паверсе і 2 — на мансардзе. Яго гал. фасад з 4-калонным порцікам арыентаваны на Пд. Такі ж порцік знаходзіўся і з паўн. боку. Круглыя ў сячэнні іх калоны дыям. 50 см складзены з чырвонай цэглы на вапнавай рошчыне і пакрыты светла-шэрым тынкам. Яны абапіраліся на цагляныя пастаменты памерамі 1,1 × 0,9 м, выш. да 65 см. Драўляны дом, пакрыты светла-шэрым тынкам, быў пастаўлены на цагляны падмурак таўшч. 50 см, выш. да 80 см. Пад яго паўн.-ўсх. вуглом знойдзена медная дзеньга Расійскай імперыі 1748. Да зах. фасада пабудовы ў к. 18 — пач. 19 ст. была прыбудавана цагляная дугападобная ў плане галерэя. Ва ўсх. частцы дома расчышчаны рэшткі каміна, які быў абкладзены кафляй, пакрытай палівай карычневага колеру. Знойдзены гліняныя апечкі яшчэ 3 печаў. Месцамі ў доме захавалася падлога з сасновых дошак таўшч. 40 мм. Дах будынка быў, верагодна, крыты дранкай ці гонтай. Вокны на 4—6 шыбах спачатку былі зашклёныя светла-зялёным з загладжанымі краямі, а ў к. 19 — пач. 20 ст. бясколерным празрыстым шклом таўшч. 1,5—2 мм. Пад падлогай прыхожай расчышчаны цагляны падвал памерамі 5,6 × 6,45 м, перакрыты крыжовым скляпеннем. Цаглянай перагародкай ён падзяляецца на 2 памяшканні з земляной падлогай. Меншае з іх было тамбурам для лесвічнага марша. У зах. сцяне большага памяшкання захавалася ніша выш. 1 м, заглыбленая ў сцяну на 40 см. У 2-й пал. 19 ст. да бакавых фасадаў дома была дабудавана цагляная агароджа таўшч. 30 см. На тэр. сядзібы знойдзены вілы, матыкі, драпачы для рыхлення глебы, калекцыя жал. падкоў, цугляў, буксы і падножкі ад брычкі, косці жывёл, цвікі, дзвярныя і аконныя петлі, завесы, клямкі, ручкі і крукі, касцяныя і жал. гузікі, абутковыя падкоўкі, дэталі насценнага гадзінніка, відэльцы, гліняныя гаршкі, міскі, талеркі, макотры, збаны і кубкі, шкляныя келіхі, кілішкі, шклянкі і стопкі. Большасць посуду была выраблена мясц. палескімі ганчарамі з в. Гарадная Столінскага р-на і майстрамі з Пружаншчыны і Піншчыны.

*В.Е.Собаль.*

**ВАРГАНЫ́**, археалагічныя помнікі — гарадзішча, селішча, курганныя могільнікі каля в. Варганы Докшыцкага р-на Віцебскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а на ўскраіне вёскі на ўзвышшы, злева ад шашы на г. Глыбокае. Пляцоўка памерамі 60 × 50 м. Абследаваў у 1949, 1965 і 1972 А.Р.Мітрафанаў. Культ. пласт 0,4—0,6 м. Знойдзены фр-ты ляпнога гладкасценнага і са штрыхаванай паверхняй посуду.

С е л і ш ч а *банцараўскай культуры* прымыкае да гарадзішча з паўд. боку. У 1965 Г.В.Штыхаў даследаваў 72 $м^2$, у 1972 абследаваў А.Р.Мітрафанаў. Культ. пласт 0,2—0,8 м. Знойдзены рэшткі наземнага жытла зрубавай канструкцыі з печчу-каменкай, жал. серп і шылы, 2 гліняныя формы для адліўкі бронзавых упрыгажэнняў, бікантычныя прасліцы, фр-ты ляпнога посуду. Датуецца 5—7 ст.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к - 1 побач з селішчам, за 0,5 км на ПдУ ад гарадзішча. 3 падоўжаныя насыпы даўж. 8—9 м, шыр. 5—7 м, выш. 1 м. У 1965 Г.В.Штыхаў даследаваў 2 курганы, абследаваў у 1972 А.Р.Мітрафанаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне. У адным кургане пахаванне на грунце ў попельна-вугальнай праслойцы. У другім пахаванне пад насыпам у яме дыям. 0,4 м і глыб. 0,2 м. Рэшткі крэмацыі былі накрыты перавернутым гаршком. Знойдзена жал. спражка.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к - 2 за 1 км на Пд ад вёскі, ва ўр. Калдоба. 3 насыпы выш. да 1,5 м, дыям. 7—8 м. Вядомы з к. 19 ст. Абследавалі ў 1965 Г.В.Штыхаў, у 1972 А.Р.Мітрафанаў.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к - 3 за 2,5 км на Пд ад гарадзішча. 40 насыпаў выш. да 1 м, дыям. 7—8 м. Вядомы з к. 19 ст. Абследавалі ў 1965 Г.В.Штыхаў, у 1972 А.Р.Мітрафанаў.

*Літ.*: Ш т ы х а ў Г.В. Крывічы. Мінск, 1992.

*Г.В.Штыхаў.*

**ВАРО́НІН** Мікалай Мікалаевіч (13.12.1904, г. Уладзімір, Расія — 4.4.1976), расійскі археолаг і гісторык мастацтва. Д-р гіст. навук, праф. (1946). Скончыў Уладзімірскі ін-т нар. асветы (1923), Ленінградскі ун-т (1926). У 1932—76 у Дзярж. акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры (з 1959 — Ін-т археалогіі АН СССР). Вывучаў гісторыю культуры і дойлідства гарадоў стараж. Русі. У 1949 праводзіў раскопкі на Замкавай Гары ў Гродне, выявіў рэшткі 2 цагляных вежаў крэпасці 12 ст., храма з маёлікавай падлогай, жылых будынкаў. Вывучаў таксама збудаванні і фрэскі Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра каля Полацка. Рэдактар і адзін з аўтараў «Гісторыі культуры Старажытнай Русі» (т. 1—2, 1948—51). Дзярж. прэмія СССР 1952, Ленінская прэмія 1965.

*Т.М.Каробушкіна.*

**ВАРО́НІНА**, археалагічныя помнікі — грунтавы могільнік і селішча *зарубінецкай культуры* каля в. Вароніна Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл.

М о г і л ь н і к у цэнтры вёскі. Адкрыты Ю.В.Кухарэнкам. У 1952—54 ім даследавана 1346 $м^2$ пл. могільніка, выяўлена 50 пахаванняў. Яшчэ 2 былі знойдзены выпадкова сялянамі ў час гасп. работ. Пахаванні здзейснены па абраду крэмацыі з наступным перамяшчэннем кальцыніраваных касцей на дно круглых ці авальных магільных ям, арыентаваных па лініі З—У. У 2 пахаваннях косці ўкладзены ў пасудзіны-урны. Рэшткі крэмацыі знаходзіліся ва ўсх. частцы магільных ям, пахавальны інвентар — у заходняй. 3 магілы з'яўляліся кенатафамі (не ўтрымліваюць кальцыніраваных касцей). Сярод пахавальнага інвентару дамінавалі гліняныя пасудзіны рознага прызначэння, сярод якіх пераважалі глянцаваныя, радзей — грубаляпныя. У 15 пахаваннях выяўлены фібулы, у 4 з іх — па 2 экз. Усе фібулы сярэднелатэнскай схемы, з іх 11 — драцяныя і 7 — зарубінецкія з трохвугольным шчытком на ножцы. Сярод інш. знаходак — бронзавыя булаўкі з кальцавымі і плоскаспіральнымі галоўкамі, бронзавыя спіралепадобныя бранзалеты, жал. кольцы, спражкі, нож, гліняная трапецападобная падвеска, сіняя шкляная пацерка з муараваным арнаментам. Па-за межамі магільных ям сустракаліся абломкі грубаляпнога і глянцаванага посуду, плоскіх накрывак, 2 бронзавыя булаўкі, фібула зарубінецкага

*Рэчы з пахаванняў грунтавога могільніка* ***Вароніна.***



тыпу і 3 гліняныя праслiцы. Могільнік датаваны 2 ст. да н.э. — сяр. 1 ст. н.э.

С е л і ш ч а за 1 км на Пн ад могільніка, на невял. пясчаным узвышшы правага берага старога рэчышча Прыпяці, ва ўр. Струмень, цягнецца на 200 м. У 1954 Ю.У.Кухарэнка даследаваў 12 $м^2$ на тэр. селішча. Таўшч. культ. пласта 0,7 м. Выяўлены абломкі грубаляпных і чорнаглянцаваных пасудзін. *А.А.Егарэйчанка.*

**ВАРО́НЧА**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і селішча каля в. Варонча Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а на паўн. ускраіне вёскі, паміж ручаём Карчоўка і дарогай на в. Райца. Пляцоўка памерамі 110 × 46 м, выш. 8—9 м над поплавам. З зах. боку гарадзішча роў у напрамку Пд—Пн, глыб. 5 м, шыр. 5—7 м. Схілы пляцоўкі штучна апрацаваны для надання большай стромкасці, на Пд — 2 штучныя тэрасы даўж. 35—40 м. На ўсх. і зах. краях глыбокія ямы дыям. 8—10 м. Абследаваў у 1987, даследаваў 100 $м^2$ у 1988—89 У.У.Хартановіч. Культ. пласт да 1 м па краях пляцоўкі (у цэнтры не прасочваецца). Выяўлены гасп. ямы, каменныя агнішчы, развал глінабітнай печы. Знойдзены фр-ты штрыхаванага, гладкасценнага, глянцаванага і неглянцаванага ляпнога посуду (рабрысты і слоікападобны) з дамешкам жарствы ў гліне, гліняныя грыбападобныя грузікі, фр-ты і цэлыя праслiцы розных форм і памераў (гладкія і арнаментаваныя), гліняная льячка, крыца, абломкі сярпоў, нажоў, утулкавы наканечнік кап'я, шпора, косці жывёл, шлакі і абпаленая абмазка. Датуецца 1-й пал. 1-га тыс. н.э.



*Фрагменты неалітычнага посуду са стаянкі-3* ***Васілевічы.***

С е л і ш ч а прымыкае да гарадзішча з З. Даўж. да 300 м. Абследаваў у 1987 У.У.Хартановіч. Культ. пласт выяўлены часткова. Знойдзены фр-ты штрыхаванай керамікі. Датуецца 2-й пал. 1-га тыс. *У.У.Хартановіч.*

**ВАРША́ЎСКІ АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ МУЗЕ́Й**. Адкрыты ў Варшаве ў 1928 як Цэнтр. дзярж. музей перадгісторыі. Утвораны на аснове збораў старажытнасцей Э.Маеўскага. У фондах матэрыялы з раскопак больш за 6 тыс. археал. помнікаў (гарадоў, гарадзішчаў, могільнікаў, стаянак, паселішчаў), у т.л. ранняга жал. веку на тэр. Беларусі [Скорбічы (*Дружба*) Брэсцкага р-на, *Трасцяніца*, *Нача*], раннефеад. перыяду (Віцебск, Вароніна Лепельскага, Арловічы Слонімскага, Відагошча Лагойскага р-наў, *Навасёлкі*, Засвір), рэчы з раскопак курганоў Лагойшчыны, што праводзілі ў 19 ст. археолагі К.П. і Я.П. Тышкевічы.

*Літ.*: П о б о л ь Л.Д. Древности Белоруссии в музеях Польши. Минск, 1979. *Г.В.Штыхаў.*

**ВАРЫЎНЯ́**, в а́ р ы ў н я, с т о п к а, і с т о п - к а, тып старадаўняй гаспадарчай пабудовы для захоўвання ў зімовы перыяд гароднiны, садавіны, малака, гатавання ежы для жывёлы. Абаграецца печкай-каменкай ці жарам. У Беларусі стараж. варыянт В. выяўлены пры раскопках Верхняга замка ў Віцебску ў культ. пласце 2-й пал. 13 ст. Зруб памерамі 2,96 × 2,98 м з сасновых бярвён дыям. 18—20 см. З трох захаваных вянкоў зруба 2 ніжнія з неабчасаных яловых бярвён. Захавалася падлога з плах, замацаваных на 4 лагах. Выяўлена печ з камянёў памерам да 8 см. В. згадваецца ў лісце к. 13 ст. рыжскіх купцоў да віцебскага кн. Міхаіла. У традыцыйным будаўніцтве В. вядома да 2-й пал. 20 ст. *Л.У.Калядзінскі.*

**ВАСІЛЕ́ВІЧЫ**, археалагічныя помнікі — стаянкі (7) каля в. Васілевічы Жлобінскага р-на Гомельскай вобл.

С т а я н к а - 3 *днепра-данецкай культуры* позняга *неаліту* за 0,8 км на У ад вёскі, на левым беразе р. Сінька пры ўпадзенні яе ў Бярэзіну, на астанцы 1-й надпоймавай тэрасы, выш. 2—2,5 м. У 1977 адкрыў У.П.Ксяндзоў, у 1990—91 І.М.Язэпенка даследаваў 368 $м^2$. Культ. пласт 0,35—0,4 м. Знойдзены 1205 экз. крамянёвага інвентару і 1764 абломкі ляпной неалітычнай керамікі, аздобленай грабеньчатым і накольчатым арнаментамі. Сярод крамянёвых вырабаў з двухбаковай апрацоўкай наканечнікі стрэл, вастрыі, разцы, рэтушаваныя пласціны, рубячыя прылады, скрабкі, нажы. Датуецца 2-й пал. 4-га — 3-м тыс. да н.э.

С т а я н к а - 3А неаліту за 0,1 км на Пн ад стаянкі-3. У 1991 І.М.Язэпенка даследаваў 50 $м^2$. Культ. пласт 0,25 м. Знойдзены крамянёвыя нажападобная пласціна з рэтушшу і тронкавы наканечнік стралы, каля 700 абломкаў ляпной неалітычнай керамікі. Датуецца 2-й пал. 4-га — 3-м тыс. да н.э.

*Літ.*: Я з э п е н к а І.М. Кераміка позняга неаліту паселішча Васілевічы-3 // ВАНБ. Сер. гуманіт. навук. 1994. № 4; Я г о ж. Да пытання аб інтэрпрэтацыі матэ-

рыялаў неалітычных паселішчаў Беларускага Падняпроўя // ГАЗ. Мінск, 1994. № 3. *І.М.Язэпенка.*

**ВАСІЛЕ́ЎШЧЫНА**, археалагічныя помнікі — могільнікі і селішча каля в. Васілеўшчына Дзяржынскага р-на Мінскай вобл.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к - 1 за 0,8 км на Пн ад вёскі, у лесе, злева ад дарогі на в. Слабодка. 11 курганоў выш. 0,5—1,5 м, дыям. 4,5—11 м. Адкрыў у 1983 і ў 1987 даследаваў 2 курганы Ю.А.Заяц. У адным кургане парнае пахаванне на мацерыку галовамі на З; пры жаночым касцяку знойдзены металічная псеўдазернявая пацерка і шыфернае прасліца. У другім кургане пад насыпам прасочана пляма попелу ад рытуальнага вогнішча і рэшткі выраблена на ганчарным крузе гаршка к. 13—14 ст. Датуецца 11—14 ст.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к - 2 за 0,65 км на Пн ад вёскі. 7 насыпаў. Знішчаны ў 1976.

С е л і ш ч а за 1,1 км на ПнЗ ад вёскі, 0,3 км ад курганнага могільніка-1, на ўзгорку каля лесу. Пл. каля 0,4 га. Культ. пласт да 0,15—0,2 м. Адкрыў у 1987 Ю.А.Заяц. Знойдзены фр-ты вырабленага на ганчарным крузе керамічнага посуду 10 — сяр. 13 ст. *Ю.А.Заяц.*

**ВАСІЛІ́НКІ**, археалагічны помнік — курганны могільнік 12—13 ст. каля в. Васілінкі Слуцкага р-на Мінскай вобл. За 1 км на З ад вёскі, 0,3 км на У ад шашы Мінск—Слуцк, на вясковых могілках. 30 насыпаў, выш. курганоў 0,5— 2,2 м, дыям. 6—14 м. Амаль усе курганы пашкоджаны сучаснымі пахаваннямі. Помнік вядомы з 19 ст. і зафіксаваны ў кн. «Сведения о городищах и курганах Минской губернии». Помнік абследавалі С.А.Дубінскі (1929), Г.М.Залашка (1979), А.А.Егарэйчанка (1983, 1985), Л.У.Калядзінскі (1991). У 1992 Л.У.Калядзінскі раскапаў 2 курганы, насыпы пад № 2 і 7 на плане помніка. Курган пад № 2 выш. 1,7 м і дыям. 8 м. У яго паўн.-ўсх. сектары на глыб. 1,45 м ад паверхні выяўлена пахаванне. Абрад — трупапалажэнне ў труне даўж. 1,94 м, выраблена з дубовых дошак таўшч. 3—3,5 см і ўпушчана ў мацярык на глыб. 40 см. Нябожчык (мужчына ва ўзросце 40—45 гадоў) арыентаваны галавою на З, рукі складзены на жываце. На чэрапе сляды 3 удараў рэжучай зброяй, зробленых мячом ці сякераю. У паўд.-зах. сектары кургана, на глыб. 60 см ад паверхні яго насыпу, знойдзены латунны пярсцёнак з раз'ёмнымі канцамі, выраблены ў тэхніцы імітаванага кручэння.

Курган пад № 7 выш. 0,8 м і дыям. 8 м. На глыб. 0,4—0,6 м ад яго паверхні выяўлена пахаванне (падлетак ва ўзросце 14—16 гадоў) у дубовай труне. У цэнтры кургана на глыб. 0,79 м знойдзены бронзавы вузкапласцініsты пярсцёнак, на знешнім баку якога арнаментацыя, штамп, што спалучае буйную і рэдкую насечку ў аблямоўцы дробнай і частай насечкі. Выяўлены 40 пацерак ярка-сіняга шкла, дзіцячае пахаванне фрагментарнай захаванасці, фр-ты гаршка. Датуецца 12—13 ст. Побач з могільнікам існавала паселішча.

*Літ.*: К а л я д з і н с к і Л.У. Раскопкі курганоў ля вёскі Васілінкі // ВАНБ. Сер. гуманіт. навук. 1994. № 2; Я г о  ж. Курганы каля в. Васілінкі // Случчына: мінулае і сучаснасць. Слуцк, 1995. *Л.У.Калядзінскі.*

**ВАСІ́ЛЬЕЎКА**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Васільеўка Круглянскага р-на Магілёўскай вобл. Размешчаны на выгане ўздоўж правага берага р. Друць, за 0,1 км на У ад вёскі. Цяпер мае 23 насыпы выш. 1—2,3 м, дыям. 6—12 м. Адкрыў у 1930 А.Дз.Каваленя і налічыў 83 курганы. Адзін быў раскапаны. У ім выяўлена трупаспаленне на вогнішчы з некалькімі невыразнымі фр-тамі керамікі. У 1977 і 1989 могільнік абследаваў В.Ф.Капыцін. У 1992—93 Я.Р.Рыер даследаваў 5 курганоў. 4 з іх утрымлівалі трупаспаленні па-за насыпамі, 1 — у насыпе. Прасочаны значныя пласты попелу, у адным з курганоў — да 1,8 м таўшчыні. Сярод знаходак — жал. нажы, упрыгажэнні (бронзавыя скроневыя кольцы, бранзалеты, пярсцёнкі), шмат керамікі, зробленай на ганчарным крузе. Інвентар датуе пахаванні к. 10 — пач. 12 ст. У адным з курганоў знойдзена грубаляпная кераміка сяр. 1-га тыс., якая паходзіць, верагодна, з паселішча тых часоў, аб наяўнасці якога сведчыў А.Дз.Каваленя.

*Літ.*: К а в а л е н я А.Дз. Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі // Працы. Т. 3; К о п ы т и н В.Ф. Археологические памятники Круглянского района Могилевской области. Могилев, 1991. *Я.Р.Рыер.*

**ВАСІЛЬКО́ЎКА**, археалагічныя помнікі — гарадзішча, курганныя могільнікі каля в. Васількоўка Лагойскага р-на Мінскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а *штрыхаванай керамікі культуры* за 1,5 км на ПдУ ад вёскі, на правым беразе р. Цна, на стрэліцы доўгага ўзгорка. Мясц. назва Замак. Пляцоўка круглая, дыям. 57—59 м. Умацавана 2 кальцавымі валамі шыр. 7—10 м і ровам глыб. 1,5 м, паміж імі. Вядома з 1924. У 1964, 1966—67 А.Р.Мітрафанаў даследаваў 402 $м^2$. Культ. пласт 0,2—2,24 м. Выяўлены рэшткі жылых і гасп. наземных пабудоў слупавой канструкцыі. Адно жытло двухкамернае, памеры камер 4,3—4,6 × 2,8 м, унутры размяшчалася агнішча падковападобнай формы памерамі 1,4 × 1,1 м, абкладзенае камянямі. Гасп. пабудова падзелена на 4 памяшканні (3 памерамі 3,8 × 2,8 м, 4-е меншае, трапецападобнай формы). Выяўлены 2 авальныя ямы-паграбы: адна памерамі 1,2 × 0,8 м, глыб. 0,4 м, сцены абкладзены камянямі; другая памерамі 3,2 × 1,95 м, урэзана ў схіл пляцоўкі. Знойдзены фр-ты гліняных гладкасценных і штрыхаваных пасудзін, жал. сярпы, шылы, фр-ты падковападобнай фібулы, сякеры, гліняныя праслiцы, абломкі грузіка дзякоўскага тыпу і ніжняга каменю зерняцёркі.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к - 1 за 1 км на З ад вёскі. 21 курган выш. 1,1—2,5 м, дыям. 8—12 м. Адкрыў і даследаваў 2 насыпы А.Р.Мітрафанаў, у 1976 абследаваў М.І.Лашанкоў. Пахавальны абрад — трупаспаленне. У адным кургане па-

хаванні размешчаны 5 ярусамі, у другім — 2 пахаванні, адно ў цэнтры насыпу. Знойдзены ляпны гаршчок конусападобнай формы.

Курганны могільнік-2 за 0,5 км на З ад курганнага могільніка-1. 37 насыпаў выш. 1,2—3,1 м, дыям. 8—15 м. Адкрыў і абследаваў у 1976 М.І.Лашанкоў.

*Літ.*: Митрофанов А.Г. Железный век Средней Белоруссии (VII—VI вв. до н.э. — VIII в. н.э.). Минск, 1978; Археалогія Беларусі. Т. 2. Мінск, 1999.

**ВАСТРЫЁ**, каменная прылада працы з завостраным рэтушшу канцом. У Беларусі вядома з каменнага веку (27—2-е тыс. да н.э.). У залежнасці ад віду рэтушы, месца яе размяшчэння, формы рэтушаванага краю адрозніваюцца В. з затупленым краем, косыя і лістападобныя, па якіх можна вызначыць тып культуры археал. помніка. В. з затупленым краем тыпу гравет (*Юравічы*) падобны на лязо сцізорыка, характэрны для культур позняга палеаліту, а тыпу Ставінога і яніславіцкага тыпу — для каморніцкай і яніславіцкай культур мезаліту. Косыя В., папярочныя краі якіх апрацаваныя стромай ці паўстромай рэтушшу, належаць розным культурам палеаліту і мезаліту. Лістападобныя В., абабітыя з аднаго ці абодвух бакоў плоскай адціскальнай рэтушшу, характэрны для неаліту.



*Вастрыі.*

**ВА́СЬКАЎЦЫ**, археалагічны помнік — гарадзішча *штрыхаванай керамікі культуры* за 0,1 км на ПнУ ад в. Васькаўцы Маладзечанскага р-на Мінскай вобл., на ўзгорку. Пляцоўка авальнай формы, памерамі 54 × 40 м. У 1989 А.М.Мядзведзеў даследаваў 71 м². Культ. пласт да 1,6 м. Знойдзены жылая пабудова (падоўжнае жытло слупавой канструкцыі ў паглыбленні каля краю пляцоўкі) шыр. да 2,3 м і каменная пляцоўка. Сярод знаходак маюцца жал. нож, гліняныя праслiцы. У керамічным комплексе адзначана штрыхаваная, гладкасценная, шурпатая і глянцаваная кераміка (1589 фр-таў). Датуецца 1—4 ст.

*Літ.*: Медведев А.М. Белорусское Понеманье в раннем железном веке (I тыс. до н.э. — 5 в. н.э.). Минск, 1996. *А.М.Мядзведзеў.*

**ВАЎКАВЫ́СК**, археалагічны помнік — могільнік 13—15 ст. у г. Ваўкавыск Гродзенскай вобл. Складаецца з 2 частак, размешчаны на безыменных пагорках на ПнЗ і ПдЗ ад *Ваўкавыскага храма*, на гарадзішчы Замчышча. Адкрыў і даследаваў у 2005 і 2009 Г.М.Семянчук. Раскапана 72 м². Большасць магіл абазначана каменнымі канструкцыямі. Выяўлены 24 пахаванні па абраду трупапалажэння (14 на паўн. і 10 на паўд. могільніку), размешчаныя радамі. Пахавальныя ямы прамавугольнай формы, з плоскім дном, глыб. 30—40 см, даўж. 1,5 × 2 м, шыр. 0,5 × 0,7 м; на глыб. 40—60 см ад дзённай паверхні арыентаваны па восі З—У, часам з невял. адхіленнем на ПдЗ і ПнУ. Усе нябожчыкі пахаваны галавою на З. Частка пахаванняў на цэнтр. і зах. участках раскопу выканана ў культ. напластаванні ранейшага паселішча. Знойдзена шмат рэшткаў керамічнага ганчарнага посуду 11— 13 ст., а таксама ўтулкавы двухшыпны наканечнік стралы, дротавае скроневае кольца, верхняя частка каменнага нацельнага крыжыка, нож, каваныя цвікі. Выяўлены ўпрыгажэнні 11—15 ст.: пласціністы пярсцёнак з выціснутым арнаментам і дротавыя пярсцёнкі — 2 псеўдавітыя і 1 з насечкамі; 2 сярэбраныя скроневыя кольцы з пятлёй і кручком на канцах. Магчыма, могільнік узнік адначасова з будаўніцтвам царквы і праіснаваў да 15 ст. — паводле гіст. крыніц, часу пераносу горада са Шведскай гары і Замчышча на берагі р. Ваўкавыя. *Г.М.Семянчук.*

**ВАЎКАВЫ́СК**, горад, цэнтр Ваўкавыскага р-на Гродзенскай вобл., на р. Рось, пры ўпадзенні ў яе р. Ваўкавыя. За 90 км на ПдУ ад Гродна. Вузел чыгунак на Баранавічы, Масты, Бераставіцу, Свіслач і аўтадарог на Масты, Слонім, Ружаны, Бераставіцу.

Першыя паселішчы ў межах сучаснага В. вядомы з 10 ст., паводле археал. даследаванняў на *Ваўкавыскім гарадзішчы*, дзяцінцы з мясц. назвай Шведская гара і вакольным горадзе — Замчышчы. Упершыню пісьмова ўпамінаецца пад 1252 у Іпацьеўскім летапісе як памежная крэпасць Волковыеск. У 13 ст. В. — цэнтр княства; аб'ект барацьбы паміж галіцка-валынскімі і літ. князямі. У 1256 мясц. кн. Глеб з князямі навагародскім Раманам і свіслацкім Ізяславам удзельнічаў у паходзе на яцвягаў. З пач. 14 ст. В. увайшоў у склад ВКЛ. Паселішчы на Шведскай гары і Замчышчы былі закінуты, горад перамясціўся на берагі Ваўкавы. У 1410 горад захапілі і спалілі тэўтонскія рыцары. Ваўкавыская харугва ўдзельнічала ў Грунвальдскай бітве 1410. З 15 ст. В. — цэнтр старості, з 16 ст. — Ваўкавыскага павета. У 1503 горад атрымаў магдэбургскае права. У 1513 было 9 вуліц. У 18 ст. адміністрацыйным і гасп.

цэнтрам В. быў замак на р. Ваўкавыя паблізу Ізабелінскага гасцінца. Паводле інвентару 1736, на тэр. замка размяшчаліся дом старосты, гасп. пабудовы, млын, карчма. З 1795 В. у Расійскай імперыі, цэнтр павета.

Дзяцінец В. — Ш в е д с к а я  г а р а — займае мыс марэннай грады выш. 28—32,5 м (ад асновы да вяршыні вала). Пляцоўка амаль круглая ў плане, памерамі 50 × 55 м, умацавана па перыметры абарончым валам выш. з боку поля да 7 м. Уезд на дзяцінец размяшчаўся з паўд. боку. Паселішча тут узнікла ў сяр. — 2-й пал. 10 ст. Магчыма, першапачаткова гэтая крэпасць была сядзібай феадала (княжацкім замкам), а дзяцінцам горада стала з 1-й пал. 12 ст. Абследавалі ў 1925 Ю.Ядкоўскі, у 1954 В.Р.Тарасенка, у 1965—66 Я.Г.Звяруга, ускрыта 540 м$^2$. Культ. пласт ад 0,6 м у цэнтр. частцы пляцоўкі да 3,5 м каля вала. Выяўлены рэшткі паўзямлянанных і наземных (зрубавай канструкцыі) жытлаў з абмазанымі глінай сценамі і печамі-каменкамі. Матэрыялы раскопак сведчаць пра высокі ўзровень развіцця рамяства і гандл. сувязей. Сярод знаходак асабліва шмат прадметаў узбраення, рыштунку воіна-конніка і баявога каня (наканечнікі коп'яў, стрэл, арбалетныя дэталі складаных лукаў і калчанаў, шпоры, страмёны, падковы, цуглі, вупражныя кольцы і інш.), прывазных рэчаў (амфары, ювелірныя вырабы, шкляныя бранзалеты, пацеркі, вырабы з бурштыну і інш.). Багата прадстаўлены прадметы гасп. і бытавога прызначэння, у т.л. сельскагасп. і прамысловыя прылады, інструменты рамеснікаў і іх вырабы. Знойдзена шмат рэчаў з косці, рога і каменю, ганчарнай керамікі, а таксама вял. колькасць касцей свойскіх і дзікіх жывёл.

Вакольны горад — З а м ч ы ш ч а — размяшчаўся на З ад дзяцінца і аддзяляўся ад яго шырокім ровам (цяпер моцна заплыў). Пляцоўка мае форму, блізкую да трапецыі, кароткі бок якой прымыкае да дзяцінца, памерамі 81 × 123 м, з боку поля ўмацавана валам выш. да 5 м і ровам глыб. 4—7 м. У сярэдняй частцы вала захаваліся сляды старaж. ўезда. Паселішча тут узнікла на мяжы 10—11 ст. У пач. 12 ст. яно было ўмацавана аба-




*Прывескі-абразкі (1, 13), гузікі (2, 12), ажурныя прывескі (3, 5), гравіраваны медальён (4), манетападобныя прывескі (6—7), лунніца (8), амулет-змеявік (9), бразготкі (10—11), крыжыкі (14—18), завушніца (19), скроневае кольца (20), пярсцёнкі (21—24) з каляровых металаў з г.* ***Ваўкавыск****.*

ройчым валам і ператварылася ў вакольны горад. Абследавалі ў 1925 Ю.Ядкоўскі, у 1959 П.А.Рапапорт, у 1966 М.К.Каргер, раскопкі праводзілі ў 1948 і 1958 Г.І.Пех, у 1954—56 В.Р.Тарасенка, у 1965 і 1967 Я.Г.Звяруга, даследавана 2196 м². Культ. пласт ад 0,3 м (у цэнтр. і ўсх. частках пляцоўкі) да 2,1 м (каля вала). Выяўлены рэшткі паўзямлянавых жытлаў (даўж. да 4,5 м, шыр. да 3,5 м, заглыбленых у мацярык на 0,1—1 м) і наземных жытлаў зрубавай канструкцыі з печамі-каменкамі ўсярэдзіне. Ускрыты падмуркі 3-нефавай, 6-стоўпнай недабудаванай царквы 12 ст. памерамі 22 × 16 м (гл. *Ваўкавыскі храм*). Выяўлены запасы плінфы, вапны, камянёў-уставак з гладка зашліфаванымі паверхнямі. Знойдзены вырабы з жалеза і сталі (кавальска-слясарныя і дрэваапрацоўчыя інструменты, сельскагасп. прылады працы, прадметы ўзбраення і рыштунак конніка, бытавыя рэчы і інш.), сярэбраныя, бронзавыя і шкляныя ўпрыгажэнні, вырабы з ро-




*Касцяныя пласцінкі-накладкі (1—2, 10, 17), прадметы нявызначанага прызначэння (3, 7—8), грабяні (4, 6, 9), пласціна футарала для грэбеня (5), капавушка (11), крыжык (12), лыжачка (13), трубачкі для сукання нітак (14, 22), дзяржанні (15—16, 23), гузікі (18—19), жалейка (21) з г.* ***Ваўкавыск.***

га і косці, а таксама арабскі дырхем, пражскія грошы, візантыйская манета і інш.

*Літ.*: Т а р а с е н к о В.Р. Раскопки городища «Шведская гора» в Волковыске в 1954 г. // МАБ. Минск, 1957. Т. 1; П е х Г.И. Раскопки в Волковыске в 1958 г. // СА. 1963. № 1; Р а п п о п о р т П.А. Раскопки в Волковыске в 1959 г. // Там жа; З в е р у г о Я.Г. Древний Волковыск X—XIV вв. Минск, 1975; Я г о ж. Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. Минск, 1989.

*Я.Г.Зверуга.*

**ВАЎКАВЫ́СКАЕ ГАРАДЗІ́ШЧА**, М у р а в е л ь н і к, археалагічны помнік на паўд.-ўсх. ускраіне г. Ваўкавыск Гродзенскай вобл. За 0,5 км на У ад дзяцінца стараж. горада (гарадзішча Шведская гара), у нізінным забалочаным месцы. Датуецца к. 10—11 ст., належала ўсх. славянам. Пляцоўка авальная, памерамі 120 × 60 м, умацавана валам выш. да 3 м, у паўд.-зах. частцы вала знаходзіўся ўезд. Побач з гарадзішчам некалі працякала р. Нятупа, левы прыток р. Ваўкавыя. У паўд. частцы




*Жалезныя фібулы (1, 8), спражкі (2, 7, 21), крэсівы (3—5), вушка з кольцам (6), шпількі (9—10), ключы (11, 19—20, 22), нажніцы (12—13), нажы (14—16), пісалы (17—18), кручкі (23—24), блешня (25), рыбалоўныя кручкі (26—27), восці (28—29), гарпун (30) з г.* ***Ваўкавыск.***

План падмурка **Ваўкавыскага храма** 12 ст. (рэканструкцыя П.А.Рапапорта).



пляцоўкі ёсць упадзіна памерамі 20 × 35 м, глыб. 5—6 м (тут, відаць, была студня). Абследаваў у 1959 П.А.Рапапорт, раскопкі на пл. 1024 $м^2$ праводзіў у 1965—71 Я.Г.Зверуга. Культ. пласт ад 0,2—0,3 м да 1,8—2 м каля вала. Выяўлены рэшткі жытлаў паўзямляначнага тыпу хутчэй за ўсё зрубавай канструкцыі, з печамі-каменкамі ўсярэдзіне. Знойдзены наканечнік кап'я з пяром трохвугольнай формы, наканечнікі стрэл, шпоры з шыпам у выглядзе круглага стрыжня, нажы, ключы, гліняныя і шыферныя прасліцы, вырабы з бронзы, косці, рога і каменю, ганчарная кераміка, косці свойскіх і дзікіх жывёл, птушак і рыб.



Вастры (1—2, 11), трапецыя (3), скрабкі (4—5, 10, 12, 17), пласціны са скошаным рэтушшу канцом (6—7), разцы (8—9, 14—15), скобля (13), нуклеус (16) з паселішча **Ваўчуны**.

Некаторыя рэчы маюць аналогіі ў старажытнасцях краін паўн. Еўропы.

*Літ.*: Раппопорт П.А. Раскопки в Волковыске в 1959 г. // СА. 1963. № 1; Зверуго Я.Г. Древний Волковыск X—XIV вв. Минск, 1975; Яго ж. Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. Минск, 1989. *Я.Г.Зверуга.*

**ВАЎКАВЫСКІ ХРАМ**, помнік архітэктуры 12 ст. на тэр. вакольнага горада Ваўкавыска (Замчышча). Выяўлены падмурак царквы (па невядомых прычынах будаўніцтва храма было спынена). Калі меркаваць па падмурку і форме плана, будынак павінен быў уяўляць 6-слупавую і 3-нефавую царкву. Памеры прыблізна 22 × 16 м. Падкупальная прастора павінна была стварацца 4 зах. (а не ўсх.) крыжападобнымі ў плане слупамі. Цэнтр. апсіда паўкруглая, бакавая прамавугольная. Да паўд.-зах. вугла будынка павінна прымыкаць квадратная ў плане вежа, у якой, верагодна, магла б знаходзіцца лесвіца на хоры. У 1925 Ю.Ядкоўскі папярэдне вызначыў месцазнаходжанне храма і адкапаў склад стараж. плінфы. У 1956 В.Р.Тарасенка выявіў падмурак храма. У 1958 Г.І.Пех зрабіў поўную зачыстку фундамента. Пазней храм вывучалі П.А.Рапапорт (1959), М.К.Каргер (1966), буд. матэрыял царквы даследаваў Я.Г.Зверуга (1967). Побач з падмуркам знойдзены складзеная ў штабелі плінфа, вял. яма з вапнай (пл. больш за 30 $м^2$, пласт вапны таўшч. 1—1,2 м), шмат камянёў з адшліфаваным бокам, падрыхтаваных для будаўніцтва і пакладзеных у рад. Выяўленая на Замчышчы плінфа некалькіх тыпаў: прамавугольная памерамі 3,5—4,5 × 14,7—16,5 × 26—28,5 см, трапецападобная, з круглаватым вуглом, з паўкруглым кароткім канцом, на тарцах плінфаў ёсць рэльефныя знакі.

*Літ.*: Зверуго Я.Г. Древний Волковыск X—XIV вв. Минск, 1975; Раппопорт П.А. Русская архитектура X—XIII вв.: кат. памятников. Ленинград, 1982; Трусов О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв.: архит.-археол. анализ. Минск, 1988. *А.А.Трусаў.*

**ВАЎКАЛА́ТА**, археалагічны помнік — курганны могільнік балтаў каля в. Ваўкалата Докшыцкага р-на Віцебскай вобл. На правым беразе р. Сэрвач. Даследавалі 4 курганы ў 1938—39 Г.Цэгак-Галубовіч і У.Галубовіч, абследаваў у 1972 А.Р.Мітрафанаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне на гарызонце (2 насыпы); сярод вуголля — фр-ты ляпной пасудзіны. У 2 курганах пахаванні не выяўлены, знойдзены абломкі ляпных пасудзін і жал. серп. Датуецца 6—8 ст.

*Літ.*: Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Ленинград, 1962.

**ВАЎЧУНЫ́**, археалагічны помнік — познамезалітычнае паселішча *яніславіцкай культуры* каля в. Ваўчуны Слонімскага р-на Гродзенскай вобл. За 0,2 км на Пн ад вёскі, на левым беразе р. Іса (прыток р. Шчара). Памеры 150 × 40 м. Выш. над узроўнем вады 6—7 м. Выявіў у 1985 І.І.Падгарадзецкі, даследавала ў 1987—88 Н.В.Шаблюк. Культ. пласт 0,2 м. Знойдзены 6 нуклеусаў, вас-

трыё, ланцэтападобны наканечнік, прылада тыпу сякеры, праколкі, крамянёвыя пласцінкі, нажы, канцавыя скрабкі з ножападобных пласцінак і адшчэпаў, шмат адшчэпаў сколаў з нуклеусаў. Датуецца 6—5-м тыс. да н.э.

**ВЕ́ЖА**, б а ш т а, к а с ц ё р, с т р а л ь н і ц а, с т о ў п, састаўная частка абарончых збудаванняў гарадоў, замкаў, асобных пабудоў; звычайна са значнай перавагай вышыні над стараной ці дыяметрам асновы. З'яўляліся апорнымі пунктамі абароны і часам былі здольны трымаць яе, калі сцяна горада або замка была ўжо захоплена. Дазвалялі весці падоўжны абстрэл сцены, скарачаючы т.зв. «мёртвую прастору»; забяспечвалі сувязь паміж рознымі ўчасткамі сцен (праслямі); былі месцам знаходжання гарнізона і ваенных прыпасаў. Звычайна размяшчаліся на рагах агароджаў; уздоўж сцен (пры даўж. апошніх больш за 400 м былі ў 1,5—2 разы вышэй за іх). Мелі 3—4 ярусы (часам да 6) з байніцамі ў сценах. З пашырэннем агнястрэльнай зброі В. пачалі будаваць больш нізкімі, з прыдатнай абароны ад гарматнага і ружэйнага абстрэлу таўшчынёй сцен. Існавалі драўляныя і мураваныя В., якія стаялі паасобку — унутры ўмацаванняў (Камянецкая) ці па-за іх межамі (Гародзенская). У плане былі квадратныя, круглыя (не атрымалі значнага пашырэння ў абарончым дойлідстве Беларусі), шматвугольныя (звычайна драўляныя). Круглыя В. — у Мядзельскім замку, *Гайцюнішскім доме-крэпасці*, Мураванкаўскай царкве, касцёле ў Камаях. Прамавугольныя, квадратныя В. замкаў у Лідзе і Крэве не выступалі за лінію абарончых сцен, а былі прыбудаваны да іх з боку двара. Такой жа формы былі В. Наваградскага замка і мураваных умацаванняў г. Нясвіж. З 16 ст. будавалі В. з прамавугольнымі і квадратнымі ніжнімі ярусамі і васьмівугольнымі верхнімі (замкі ў Міры, Любчы, царква ў Сынкавічах, кальвінскі збор у Заслаўі). У к. 16—17 ст. В. замкава-палацавых комплексаў (Нясвіжскі замак) страцілі абарончае значэнне і пачалі адыгрываць ролю архіт. і дэкаратыўных дамінант. Драўляныя В. гарадоў перыяду Кіеўскай Русі не захаваліся, рэшткі іх не знойдзены. Частковае ўяўленне пра іх дае «Чарцёж Віцебска» 1664 з выяваю драўляных В. 17 ст.

Археал. вывучэнне В. вялося ў Навагрудку (М.У.Малеўская, М.А.Ткачоў), Мядзеле (М.А.Ткачоў), Віцебску (Т.С.Бубенька). Рэшткі драўляных В. Дубровенскага і Шклоўскага замкаў 16—17 ст. даследавала В.М.Ляўко, вежападобныя храмы Мсціслаўскага замка — Л.В.Аляксееў.

*Літ.*: Б р э ж г о Б. Замкі Віцебшчыны. Вільня, 1933; Т к а ч о ў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мінск, 1978; А л е к с е е в Л.В. Проблема становления культово-оборонительного зодчества Руси в свете раскопок в Мстиславле // РА. 1993. № 4; Археалогія Беларусі. Т. 4. Мінск, 2001; Б у б е н ь к о Т.С. Средневековый Витебск. Посад — Нижний замок. Витебск, 2004.

*Ю.А.Заяц.*



*Рэчавы скарб 7 ст. з гарадзішча* ***Вежкі.***

**ВЕ́ЖКІ**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і селішча каля в. Вежкі Дубровенскага р-на Віцебскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а за 0,25 км на Пн ад дарогі паміж вёскамі Вежкі—Зарубы, на ўзгорку правага берага р. Расасенка. Пляцоўка трохвугольнай формы, памерамі 68 × 41 м, выш. 12—15 м. Вядома з к. 19 ст. У 1994—97 Ю.У.Каласоўскі даследаваў 320 м$^2$. Культ. пласт ад 0,6 м у цэнтры да 3,6 м па краях пляцоўкі, стратыграфічна падзяляецца на 3 гарызонты. Найб. раннія матэрыялы (кераміка, фр-т каменнай свідраванай сякеры) датуюцца бронзавым векам сяр. 2-га тыс. да н.э. У ніжнім гарызонце напластаванняў уздоўж зах. краю гарадзішча выяўлены рэшткі пабудовы памерамі 10 × 1,8—2 м, падлога, заглыбленая ў мацярык на 0,4—0,6 м. У яе запаўненні знойдзены



*Паўзямлянaчнае жытло на селішчы* ***Вежкі.***

фр-ты ляпнога посуду, касцяныя наканечнікі стрэл, праколкі *днепра-дзвінскай культуры* 2-й пал. 1-га тыс. да н.э. У паўд. частцы гарадзішча выяўлены рэшткі 2 наземных пабудоў са зрубава-слупавой канструкцыяй сцен, наземнымі ачагамі з каменнай абкладкай, гасп. ямы. Знойдзены таксама фр-ты ляпнога посуду днепра-дзвінскай культуры, у т.л. са штрыхаванай паверхняй, жал. серп, посахападобная шпілька, іголка ад латэнскай фібулы, брытва, гліняныя праслíцы, грузік дзякоўскага тыпу, якія датуюцца рубяжом н.э. Да сярэдняга гарызонта належаць рэшткі падоўжанай наземнай пабудовы слупавой канструкцыі ўздоўж краю пляцоўкі гарадзішча. Контуры пабудовы прасочваюцца па каменнай вымастцы шыр. да 2 м, абгарэлым бярвёнам. У гэты час гарадзішча выконвала функцыю адміністрацыйна-гасп. цэнтра прылеглага наваколля, аб чым сведчаць шматлікія знаходкі прэстыжных упрыгажэнняў (бронзавыя бранзалеты, скроневыя кольцы, трапецападобныя падвескі, шкляныя пацеркі і інш.), прылады працы рамеснікаў (гліняныя тыглі, невял. форма для адліўкі металічных упрыгажэнняў, жал. пінцэты і інш.), зброя. Посуд прадстаўлены гаршкамі цюльпанападобных і рабрыстых форм, карчагамі, мініяцюрнымі пасудзінамі *калочынскай культуры* 6—7 ст. У верхнім пласце знойдзены бронзавы бранзалет, жал. кручок, фр-ты кругавой керамікі 12—13 ст.

С е л і ш ч а за 50—60 м на У ад гарадзішча, на правым беразе р. Расасенка. Пл. каля 2,5 га. У 1997—98 Ю.У.Каласоўскі даследаваў 420 м². Культ. пласт 0,4—1 м. Выяўлены катлаваны 2 паўзямлянsocial жытлаў прамавугольнай формы, памерамі 3,2—3,4 × 3,7—3,8 м, глыб. да 0,5 м. У цэнтры жытлаў знаходзіліся адкрытыя наземныя ачагі, побач — печы-каміны. Асобна вылучаецца гасп. частка селішча, на якой былі ямы-скляпы, наземныя ачагі. У запаўненні пабудоў і ў культ. пласце знойдзены абломкі ляпнога посуду калочынскай культуры, жал. серп, наканечнік стралы, гліняныя біканічныя праслíцы.

*Літ.*: К о л о с о в с к и й Ю.В. Новые данные о раннеславянском поселении у д. Вежки в Оршанском Поднепровье // Гісторыя Беларусі. Жалезны век і сярэднявечча. Мінск, 1997; Я г о ж. Плямёны калочынскай культуры // Гісторыя Беларусі. Мінск, 2000. Т. 1.

*Ю.У.Каласоўскі.*

**ВЕЛЬБА́РСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура 1 — пач. 5 ст., насельніцтва якой атаясамліваецца з народамі, якія ўваходзілі ў племянны саюз *готаў*. З пач. 20 ст. розныя часткі В.к. акрэсліваліся паняццямі «гоцкая», «гоцка-гепідская», «познааксыўская», «усходнепаморская» «усходнепаморска-мазавецкая» культуры, «валынская група палёў пахаванняў». Паняцце В.к. як адзінай гісторыка-культ. з'явы было сфармулявана Р.Валангевічам у 1974. Вызначальным для



Аўтар В.Г. Белявец

культуры з'яўляецца могільнік Вельбарк—Мальбарк у нізоўях Віслы. В.к. сфарміравалася ў цэнтр. і ўсх. Памор'і на аснове мясц. аксыўскай культуры позняга перадрымскага часу. Завяршэнне працэсу яе ўтварэння звязана з міграцыяй на тэр. Кашубска-Крайненскага Паазер'я ў 3-й чв. 1 ст. выхадцаў з паўд. Скандынавіі, якім належаць помнікі тыпу Одры—Вэнсёры-Гжыбніца. У якасці зыходных рэгіёнаў міграцыі гэтых груп перасяленцаў даследчыкамі разглядаюцца розныя рэгіёны паўд. Швецыі: правінцыі Остэрготланд, Вестэрготланд, в-аў Готланд. Своеасаблівасць В.к. на фоне інш. культур цэнтр. і ўсх. Еўропы перыяду рымскіх уплываў найб. яскрава праяўляецца ў пахавальным абрадзе, які характарызуюць: 1) бірытуалізм, хаця суадносіны крэмацый і інгумацый могуць вар'іравацца на розных помніках і рэгіёнах, вядомы таксама монарытуальныя могільнікі; для інгумацый характэрна паўн. арыентацыя; 2) шырокае распаўсюджанне, асабліва на ранняй стадыі развіцця, надмагільных канструкцый у выглядзе курганных насыпаў, каменных стэл, брукаў, колаў з валуноў; 3) у пахавальным інвентары адсутнічаюць дэталі ўзбраення і конскай вупражы, выкарыстоўваецца абмежаванае кола вырабаў з жалеза; 4) характэрны склад інвентару ў пахаваннях абодвух палоў (дэталі касцюма і ўпрыгажэнні, посуд), які на фоне пахавальнай абраднасці інш. культур еўрап. Барбарыкума (свет варвараў) успрымаецца як «жаночы». У развіцці культуры вылучаюцца 2 стадыі: любовідзкая (каля 10—200: фазы B1—B2—B2/C1) і цэцэльская (каля 200—430: з фазы C1a да пачатку эпохі *Вялікага перасялення народаў* — фазы D1). На ранняй, любовідзкай стадыі, арэал культуры ахопліваў землі цэнтр. і ўсх. Памор'я. На працягу фазы B2/C1 (каля 160—200) вельбарскае насельніцтва пакідае землі на З ад Віслы і мігрыруе ў паўд.-зах. накірунку, займаючы тэр. правабярэжнай Мазовіі, паўд. Падляшша, Люблііншчыны, бел. Пабужжа, зах. Валыні і Турава-Пінскага Палесся. У 220—260-я г. (на працягу фазы C1) насельніцтва В.к. пранікае на землі Правабярэжнай Украіны, што паклала пачатак фарміраванню *чарняхоўскай культуры.* На тэр. Польшчы ў рознай ступені з к. 18 ст. даследавана больш за 300 помнікаў В.к. Ва ўсім арэале культуры яе носьбіты жылі ў неўмацаваных паселішчах (*селішчах*). Найб. характэрным тыпам пабудоў з'яўляюцца двухкамерныя (падзеленыя на жылую і гасп. часткі) наземныя жытлы слупавой канструкцыі — т.зв. «доўгія дамы», пл. якіх каля 80—100 м$^2$. Былі пашыраны таксама паўзямляначныя жытлы слупавой канструкцыі і гасп. пабудовы пл. каля 16—25 м$^2$. Аснову гаспадаркі насельніцтва В.к. складалі ворнае земляробства і чорная металургія. Сярод зернявых культур перавага аддавалася аўсу, ячменю, просу, пшаніцы; жыта, вядомае яшчэ ў 1—2 ст., шырокае распаўсюджанне набыло з 3 ст. Падчас жніва выкарыстоўваліся сярпы і косы. Памол зерня здзяйсняўся з дапамогай ручных жорнаў. Склад статкаў насельніцтва В.к. характарызуецца значным пагалоўем авечак і коз, што, побач з вынікамі аналізу тканін, сведчыць аб развітай селекцыйнай жывёлагадоўлі, арыентаванай на выраб высакаякасных тканін з воўны.

*Храналогія матэрыялаў* ***вельбарскай культуры*** *на тэрыторыі Беларусі з могільнікаў: 1, 2, 5—26, 28, 31, 45, 46 — Брэст—Трышын; 3, 4, 48 — Вялічкавічы; 27, 29, 30, 32—35, 37—44, 47, 49—57, 60 — Пятровічы; 36, 42, 61 — Скорбічы; 58, 63 — Бухліцкі Хутар; 59, 64, 65 — Велямічы-1; 66 — Ратайчыцы; 62 — з селішча Несвіло.*



Важную ролю ў гасп. дзейнасці адыгрываў гандаль. Насельніцтва В.к. кантралявала ключавыя ўчасткі *«бурштынавага»* і балтыйска-чарнаморскага камунікацыйна-гандл. шляхоў, якія злучалі народы цыркумбалтыйскага рэгіёнаў з Рымскай імперыяй. Уплыў насельніцтва В.к. на стасункі паміж народамі еўрап. Барбарыкума і адносіны іх з Рымскай імперыяй былі абумоўлены таксама высокім узроўнем развіцця вайсковай справы і ваенна-палітычнай актыўнасцю гэтага грамадства. На тэр. Беларусі матэрыялы В.к. былі атрыманы ўпершыню ў 1850-я г. М.Вiслоцкім на могільніку Вялічкавічы. Мэтанакіраванае вывучэнне помнікаў гэтай культуры ў зах. Палессі было распачата ў 1960 (раскопкі Ю.У.Кухарэнкі на могільніку *Брэст—Трышын*). У Беларусі помнікі В.к. вядомы ў 2 рэгіёнах — Пабужжы і Турава-Пінскім Палессі. Адкрыта 25 помнікаў: 12 пахавальных помнікаў, 10 селішчаў, 3 месцазнаходжанні. На значных плошчах раскопкі праводзіліся толькі на могільніках. У Пабужжы могільнікі В.к. лакалізуюцца на пясчаных узвышшах па высокіх (пераважна другіх) рачных тэрасах, на адлегласці ад 0,3 да 1,5 км, звычайна па тых жа берагах рэк, што і звязаныя з імі паселішчы. Селішчы размяшчаюцца на высокіх участках рачных тэрас, часцей пры месцах упадзення ў рэкі іх невял. прытокаў альбо ручаін. На буйных плошчах даследаваліся 2 могільнікі: Брэст—Трышын і *Пятровічы*. На землі Пабужжа насельніцтва В.к. пранікла каля 160—180-х г. (у фазе B2/C1) і захоўваецца да 350—375 (да фазы C3/D1) уключна. Вядомы помнікі 2 пахавальных традыцый — з монарытуальным, па абраду крэмацыі (Брэст—Трышын), і бірытуальным пахаваннем (*Пятровічы*, верагодна, таксама — *Велямічы* і *Скорбічы*). У 3—4 ст. насельніцтва Бел. Пабужжа ўтварала адзінства з носьбітамі В.к., якія жылі на правабярэжжы сярэдняй Віслы — у Мазовіі і Падляшшы. У Турава-Пінскае Палессе вельбарскае насельніцтва пранікае на рубяжы 2—3 ст. Помнікі В.к. вядомы тут пераважна па раскопках на могільніках, утвораных некалькімі храналагічнымі і культ. гарызонтамі (*Велямічы*-1, 2, *Атвержычы*, *Бухліцкі Хутар*) і па выпадкова адкрытых пахаваннях (*Мікашэвічы*, *Струга*-1). У 2-й пал. 2 — 3 ст. групы вельбарскіх пасяленцаў у Турава-Пінскім Палессі ўтваралі адзінства з насельніцтвам зах. Валыні, культ. аблічча якога паступова трансфармавалася, успрымаючы ўплывы з боку носьбітаў *чарняхоўскай культуры*. У 370-я г., у сувязі з нашэсцем *гунаў*, якія зруйнавалі протадзярж. сацыяльна-палітычныя ўтварэнні *готаў* у Паўн. Прычарнамор'і, помнікі В.к. ў Беларусі, як і на большай частцы арэалу гэтай культуры, спыняюць існаванне. У рэгіёне дэльты Віслы насельніцтва В.к. захоўваецца да 430-х г.



*Рэчы з пахаванняў бескурганнага могільніка-1 Велямічы.*

*Літ.*: Кухаренко Ю.В. Могильник Брест—Тришин. М., 1980; Вяргей В.С. Помнікі вельбарскай культуры // Археалогія Беларусі. Мінск, 1999. Т. 2; Белевец В.Г. К изучению памятников вельбарской культуры в Беларуси // Nowe materyały i interpretacje: stan dyskusji na temat kultury wielbarskiej. Gdańsk, 2007; Яго ж. Помнікі вельбарскай культуры ў Турава-Пінскім Палессі: праблемы вывучэння // ГАЗ. Мінск, 2008. № 22.

*В.Г.Белявец.*

**ВЕЛЯМІ́ЧЫ**, група бескурганных могільнікаў і селішчаў каля в. Велямічы Столінскага р-на Брэсцкай вобл.

Бескурганны могільнік-1 за 4 км на У ад вёскі, ва ўр. Турска, на высокім участку доўгай дзюны. У 1953—56 даследаваў 4680 м² Ю.У.Кухарэнка. Выяўлена 157 пахаванняў, з іх 10 належаць да *вельбарскай культуры* 3—2-й пал. 4 ст., 10 — стараж.-рус. курганы, астатнія пахаванні *зарубінецкай культуры*. Пахавальны абрад зарубінецкай культуры — трупаспаленне па-за межамі могільніка. Перапаленыя косці ссыпаліся на дно круглых і авальных ям або ў гліняныя урны. У адным пахаванні выяўлены няспалены жаночы чэрап. Суправаджальны інвентар размешчаны на Пн або ПнУ ад касцей: грубаляпныя і глянцаваныя гаршкі (арнаментаваны ўцісканнямі на плечуках або краях венчыка, налепленымі псеўдавушкамі, расчосамі і «жамчужнымі» ўцісканнямі), міскі, кубкі, стопкі, 77 бронзавых і жал. фібул (раннія экземпляры з дроту сярэднелатэнскай схемы, большасць зарубінецкага тыпу з

трохвугольным шчытком на спінцы, астатнія — познал атэнскай схемы), бронзавыя буйныя шпількі з кальцавой і пляската-спіральнай галоўкамі, арнаментаваныя трапецападобныя падвескі, пярсцёнкі. Датуецца 2 ст. да н.э. — 1-й пал. 1 ст. н.э.

Бескурганны могільнік-2 за 1,5 км на З ад могільніка-1, ва ўр. Пугачэнец, на невял. пясчаным узвышшы. Даследавалі ў 1954—55, 1957 Ю.У.Кухарэнка — 1868 м², у 1960—62 К.В.Каспарава — 6116 м². Выяўлены 2 пахаванні *вельбарскай культуры* 3 — 2-й пал. 4 ст., 116 — *зарубінецкай культуры.* У большасці пахаванняў рэшткі крэмацыі ссыпаліся на дно круглых і авальных ям, у адным выяўлена ў глінянай урне, у другім яма выкладзена абломкамі глінянага посуду, што імітуе скрыневыя пахаванні *паморскай культуры*, 12 — кенатафы. Частка суправаджальнага інвентару аналагічная рэчам могільніка-1, за выключэннем бронзавых пласціністых шпілек (2) і трапецападобнай падвескі, паяснога кручка, жал. званочка з кручком і інш. Сярод 89 фібул 63 сярэднелатэнскія зарубінецкага тыпу, астатнія — познал атэнскай схемы: адначленныя «воінскія» (19) і рамачныя (7). Датуецца 2 ст. да н.э. — 1-й пал. 1 ст. н.э. Вельбарскія пахаванні ў могільніках-1, 2 адбываліся па абраду трупаспалення. Рэшткі крэмацыі ўпярэмешку з попелам і вуглямі ад кастра і пахавальным інвентаром (пашкоджаныя агнём абломкі посуду, упрыгажэнні і дэталі касцюма) ссыпаліся ў ямы акруглай або авальнай формы.

Бескурганны могільнік-3 за 2 км на ПдЗ ад могільніка-1, на б. хутары Дуброўка, на невял. узвышшы сярод балот. У 1957 Ю.У.Кухарэнка правёў раскопкі. Знойдзены фр-ты пасудзін зарубінецкай культуры.

Селішча-1 на Пд ад могільніка-1, на пакатым схіле дзюны. Даследаваў Ю.У.Кухарэнка. Культ. пласт 0,8 м. Выяўлены фр-ты ляпных гаршкоў зарубінецкай культуры, косці жывёл, жал. шлакі.

Селішча-2 за 0,5 км на ПнУ ад могільніка-2. У 1953—57 даследавалі 600 м² Ю.У.Кухарэнка, у 1962 — 102 м² К.В.Каспарава. Культ. пласт 0,4—0,8 м. Выяўлены рэшткі пабудоў і некалькі гасп. ям. Адна з пабудоў зрубавая, няправільнай прамавугольнай формы, памерамі 6 × 4 м, паглыбленая на 0,8 м у мацярык. У ёй былі рэшткі глінабітнага вогнішча дыям. 1 м, абпаленыя камяні. Знойдзены косці жывёл, абломкі каменных зерняцёрак, фр-ты грубаляпнога і глянцаванага посуду, жал. нож, бронзавыя падвескі, кавалкі глінянай абмазкі.

Селішча-3 на У ад могільніка-2. Памеры 0,5 × 0,2 км. У 1962 даследавала 276 м² К.В.Каспарава. Культ. пласт 0,3—0,4 м. Выяўлены рэшткі грубаляпных і глянцаваных пасудзін.

Селішча-4 побач з могільнікам-3, на схіле ўзвышша. У 1957 абследаваў Ю.У.Кухарэнка. Знойдзена невял. колькасць фр-таў глінянага посуду.



*Археалагічныя рэчы з пахаванняў бескурганнага могільніка-2 Вялямічы.*



*Рэчы з пахаванняў бескурганнага могільніка-2 Вялямічы.*

*Літ.*: К у х а р е н к о Ю.В. Памятники железного века на территории Полесья // САИ. М., 1961. Вып. Д 1—29; Я г о ж. Зарубинецкая культура // Там жа. М., 1964. Вып. Д 1-19; К а с п а р о в а К.В. Зарубинецкий могильник Велемичи II // АСГЭ. Ленинград, 1972. Вып. 14; Я е ж. О хронологии и связях зарубинецкой культуры // Ziemie polskie we wczesnej epoce żelaza i ich powiązania z innymi terenami. Rzeszów, 1992; Б е л я в е ц В. Насельніцтва вельбарскай культуры ў Турава-Пінскім Палессі: праблемы вывучэння // ГАЗ. Мінск, 2007. Вып. 23. *А.А.Егарэйчанка, В.Г.Белявец.*

**ВЕНЕ́ДЫ**, в е н е т ы (лат. Venedi, Venethi, Veneti), старажытныя плямёны, пра якія згадвае шэраг антычных аўтараў 1—2 ст. н.э. і Іардан (6 ст.). У якасці тапоніма корань «венд» або «вент» адзначаецца з рубяжа н.э. ў шматлікіх мясцінах Еўропы (Брэтань, паўн. пабярэжжа Адрыятыкі, Прыбалтыкі і інш.). На Пеўтынгерывай карце, якая ўзыходзіць да раннярымскага часу, В. адзначаюцца ў нізоўях Дуная, а В.-сарматы(?) — у паўн. частцы Карпат. Звесткі Плінія Старэйшага, Тацыта і Пталамея аб В. не ўяўляюць сабой адзінага цэлага. Акрамя сучасных ім звестак, Пліній і Пталамей шырока выкарыстоўвалі ў сваіх апісаннях дадзеныя антычнай геаграфічнай традыцыі. Найменш прыкметны ўплыў гэтая традыцыя аказала на працу Тацыта «Германія», дзе адлюстравана рэальнасць сяр. — 2-й пал. 1 ст.: В. паказаны як вял. этнас, што займаў вобласць далёка ад мора на У ад лугіяў, готаў і эстыяў, на Пн ад бастарнаў і сарматаў, на Пд ад фенаў, г.зн. на Пн і У ад Карпат. Спосабам жыцця адрозніваліся як ад германцаў, так і ад сарматаў. У цэлым, інфармацыя Тацыта адносна ўсх.-еўрап. В. лічыцца найб. верагоднай. Гоцкі гісторык Іардан (6 ст.) сцвярджаў, што В., «паходзячы з аднаго кораня, парадзілі 3 народы, г.зн. венетаў, антаў і склавінаў». Такім чынам, імя В. тут выкарыстана ў 2 значэннях: як збіральнае ўсіх славян і як вызначэнне адной з груповак. Між тым, з тэксту Іардана вынікае, што, кажучы аб «адзіным корані» В., антаў і склавінаў 6 ст., ён меў на ўвазе ўвогуле не В., згаданых аўтарамі 1—2 ст., а тых В., з якімі ваяваў у 4 ст. кароль готаў Германарых. Менавіта гэта паведамленне аб В.-славянах, што паходзіць ад гоцкай фальклорнай традыцыі, з'яўляецца найб. старажытным, дастаткова верагодным, пісьмова зафіксаваным фактам слав. гісторыі. Паводле Іардана, В. жылі ў непасрэдным суседстве з вобласцю, дзе дамінавалі *готы*, хаця і не былі ім падпарадкаваны да вайны з Германарыхам; што яны знаходзіліся паміж *готамі* і эстамі (эстыямі Тацыта ?); што па ўзбраенні і тыпу ваеннай арганізацыі яны належылі да інш. сацыял.-культ. групы, чым *германцы*; што яны былі вельмі шматлікімі. Візантыйскія аўтары, апісваючы хуткае рассяленне славян у 6—7 ст. і неаднаразова ўзгадваючы *склавінаў* і *антаў*, аб В. не паведамляюць. Тым не менш, да позняга сярэдневякоўя назва В. захавалася сярод *германцаў* і фінаў для вызначэння славян-суседзяў. Таму можна меркаваць, што В. з'яўляліся паўн. слав. групоўкі, малавядомыя візантыйцам. Сярод лінгвістаў распаўсюджаны погляд, згодна з якім назва В. пры вызначэнні славян як этнічнага цэлага выкарыстоўвалася толькі суседзямі-неславянамі. Маецца на ўвазе, што першапачаткова гэты тэрмін азначаў іншы народ на паўн.-ўсх. германскіх рубяжах — стараж. індаеўрап. В. і толькі паўторна быў перанесены германцамі на славян, заняўшых часткова іх тэрыторыі. Традыцыйна В. антычных аўтараў 1—2 ст. звязвалі з носьбітамі зарубінецкай археал. культуры, датаванне найб. позніх помнікаў якой не выходзіць за межы сяр. 1 ст. Праведзены ў апошні час аналіз інфармацыі Тацыта дазваляе ідэнтыфікаваць усх.-еўрап. В. з познazарубінецкімі плямёнамі 1—2 ст., а таксама з насельніцтвам зубрыцкай культуры (паўн.-зах. Украіна). Генетычна звязаныя з імі В. перыяду венета-гоцкіх войнаў могуць быць плямёнамі кіеўскай і слав. часткі чарняхоўскай культур 3—5 ст. У перыяд шырокага рассялення славян на Балканах і на землях Цэнтр. Еўропы арэал знаходжання В. Іарданам не вызначаны: імі называюць насельніцтва дзедзіцкіх старажытнасцей на тэр. Польшчы або *калочынскай культуры*. Апошні пункт гледжання ўяўляецца больш аргументаваным, паколькі прынята лічыць, што інфармацыя Касіадора (485—578), якую выкарыстоўваў Іардан, адносіцца да рубяжа 5—6 ст., у той час як дзедзіцкая культура фарміруецца толькі ў 2-й пал. 6 ст. Такім чынам, В. ў вузкім сэнсе, хутчэй за ўсё, з'яўлялася насельніцтва калочынскай культуры — нашчадкаў носьбітаў кіеўскіх старажытнасцей.

*Літ.*: М а ч и н с к и й Д.А. К вопросу о территории обитания славян в I—VI веках // АСГЭ. Ленинград, 1976. Вып. 17; О б л о м с к и й А.М., Т е р п и л о в с к и й Р.В. Среднее Поднепровье и Днепровское Левобережье в первые века нашей эры. М., 1991; Свод древнейших письменных известий о славянах (I—VI вв.). Т. 1. М., 1991; Т е р п и л о в с к и й Р.В. Славяне Поднепровья в первой половине I тысячелетия н.э. (Monumenta studia Gothica III). Lublin, 2004; К о з а к Д.Н. Венеди. Київ, 2008. *Р.У.Церпілоўскі.*

**ВЕНЕ́РЫ ПАЛЕАЛІ́ТУ**, творы мастацтва малых форм эпохі верхняга палеаліту, скульпт. фігуркі жанчын невял. памеру (3,5—20 см), выразаныя з біўня мамата, рога, косці і інш., зробленыя з абпаленай керамічнай масы. Да найб. ранніх адносяцца знаходкі фігурак з біўня мамата з Зарайскай стаянкі ў Падмаскоўі (33 тыс. гадоў да н.э.). Сустракаюцца ў цэнтры Рус. раўніны, у Сібіры, зах. і цэнтр. Еўропе. Сімвалізуюць абагульнены вобраз жанчыны-маці, эстэтычны ідэал эпохі.

*Літ.*: А б р а м о в а З.А. Изображение человека в палеолитическом искусстве Евразии. М.; Ленинград, 1966; Е л и н е к Я. Большой иллюстрированный атлас первобытного человека. Прага, 1982. *А.М.Ваганава.*

**ВЕ́НЗАЎШЧЫНА**, археалагічныя помнікі — каменныя могільнікі каля в. Вензаўшчына Шчучынскага р-на Гродзенскай вобл.

М о г і л ь н і к - 1 за 1 км на З ад вёскі, 50—80 м на Пн ад левага берага р. Скарбянка, на

ўзвышшы, ва ўр. Ганчарыха. Магілы абкладзены камянямі (выш. 0,5—0,8 м) купалападобна ў 3—4 слаі. У галавах пахаванняў стаялі вял. камяні. Выявіў і даследаваў у 1889 Э.А.Вольтэр, даследаваў у 1889—90, 1892 В.А.Шукевіч. Раскапана 46 пахаванняў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З (у адным — на У). У слоі гумусу пад муроўкай знойдзены фр-ты керамічнага посуду, у некаторых — цэлыя гаршкі. Магільныя ямы глыб. 0,7—1,6 м, чатырохвугольныя, падоўжаныя. Амаль кожны нябожчык з усіх бакоў абстаўлены дошкамі, верхняя дошка ў некаторых магілах прагарэлая ці амаль спаленая. У мужчынскіх пахаваннях знойдзены сякеры, коп'і, каляровыя пацеркі на скураных шнурах, жал. нажы ў скураных вышытых чахлах, крэсівы з крэменямі, паясныя кольцы, кавалкі тканін ад адзення, скураных рамянёў, спражкі, тачыльныя брускі, пярсцёнкі, бронзавыя бразготкі і ўпрыгажэнні на скураных мяшэчках, шпоры, у жаночых — шматпацеркавыя скроневыя кольцы, бляшкі рознай формы ад галаўнога ўбору, рознакаляровыя шкляныя пацеркі, бронзавыя бразготкі, бранзалеты, пярсцёнкі, сімвалічныя ключы, кавалкі скуры і тканіны, нажы. У пахаваннях дзяўчынак — бляшкі да галаўнога ўбору, бранзалеты, пярсцёнкі. Некаторыя пахаванні без інвентару. Датуецца к. 10—12 ст.

М о г і л ь н і к - 2 за 80 м на ПдЗ ад вёскі, 0,15 км ад р. Скарбянка, на ўскрайку і схілах пагорка выш. 8—10 м, каля дарогі Вензаўшчына—Матылі, ва ўр. Барок. Адкрыла і даследавала 133 пахаванні ў 1986—89 А.В.Квяткоўская. Пахавальны абрад — трупапалажэнне (132) і трупаспаленне (1). На магілах з трупапалажэннем каменная муроўка памерамі 1,8—3,1 × 1,1—1,2 × 0,25 м у адзін слой. Зрэдку ў галавах пахавання ставілі вял. неапрацаваныя камяні. Магілы размешчаны групамі па 2—3 і больш, магчыма, сямейныя пахаванні. Адзначаны выпадкі больш позніх пахаванняў на месцы папярэдніх. На магіле з трупаспаленнем каменная муроўка памерамі 2,6 × 2,1 × 0,2—0,25 м; магільная яма глыб. 1,4 м, памерамі 2 × 1,5 м, арыентавана ў напрамку Пн—Пд, запоўнена вуглем, у якім на глыб. каля 1 м ад паверхні знойдзены фр-ты ляпной керамікі чырвонага і жоўтага колераў з дамешкамі жарствы і раслін у гліне, арнаментаванай адбіткамі пальцаў і штампам. У магілах з трупапалажэннем пад каменнымі муроўкамі ў пласце гумусу знойдзены вуголле і фр-ты ляпнога і ганчарнага посуду, арнаментаванага двух- і шматраднымі хвалістымі лініямі, рыфленнем. Побач з некаторымі магіламі выяўлены агнішчы, вугалі якіх насыпаны абапал галавы нябожчыка. У інш. пахаваннях вугалі выяўлены па перыметры магілы на шыр. 1,5—2 см. Магчыма, у магілах вакол нябожчыка клалі галінкі, падпальвалі іх, імітуючы абрад трупаспалення. Магільныя ямы авальныя, звужаныя каля доннай часткі, глыб. 0,75—1 м. У большасці пахаванняў выяўлены сляды дамавін (у адным знойдзена драўляная заклёпка ад труны). У некаторых пахаваннях дно магільных ям па-за межамі дамавін выкладзена камянямі дыям. 5—10 см. Нябожчыкі арыентаваны галавой на Пд і ПдЗ, зрэдку — на З. У мужчынскіх пахаваннях знойдзены фібула, нажы, тачыльныя брускі, крэсівы, жал. коп'і, сякеры, у пазнейшых пахаваннях — нажы, паясныя жал. кольцы, спражкі, кавалкі скураных паясоў, мяшэчкаў, кашалькоў, пярсцёнкі, грошы ВКЛ, грош пражскі 15 ст. У жаночых пахаваннях — фібула, шматпацеркавыя скроневыя кольцы, сярэбраныя, бронзавыя і медныя пярсцёнкі, бронзавыя грузікі, завушніцы. Па знаходках і тыпах пахаванняў можна меркаваць, што разам з карэнным балцкім тут жыла нязначная частка мазавецкага насельніцтва (кераміка, камяні ў запаўненні магільных ям). Датуецца к. 10 — пач. 15 ст.



*Спражка (1), бляшка (2), бразготка (3), пярсцёнак (4), скроневае кольца (5) з каменнага могільніка-1* ***Вензаўшчына.***

*Літ.*: Г у р е в и ч Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М., Ленинград, 1962; К в я т к о в с к а я А.В. Ятвяжские могильники Беларуси (к. XI—XVII вв.). Вильнюс, 1998; Materiały starożytne i wczesnośredniowieczne. T. 3. Warszawa, 1975; S z u k i e w i c z W. Kurhany kamienne w powiecie Lidzkim (gub. Wilenska) // Swiatowit. 1899. T. 1.

*А.В.Квяткоўская.*

**ВЕРАЦІ́ЛА** Міхаіл Уладзіміравіч (н. 17.1.1937, в. Навасёлкі Ваўкавыскага р-на Гродзенскай вобл.), беларускі краязнавец і калекцыянер. Удзельнічаў у археал. экспедыцыях ІГ НАН Беларусі, выявіў і абследаваў шэраг стараж. помнікаў у Ваўкавыскім р-не: могільнік культуры шарападобных амфар, крэменездабыўныя шахты каля г.п. Краснасельскі, стараж.-слав. паселішча каля Навасёлак, раннехрысціянскія могільнікі, уніяцкую драўляную царкву на могільніку в. Калантаі і інш. Збірае калекцыі па нумізматыцы, філатэліі (у т.л. бел. марак), рэдкія кнігадрукі, мясц. фаль-

клор, вывучае нар. медыцыну, выступае з краязнаўчымі нарысамі.

*Тв.*: Работы неманского отряда (разам з М.М.Чарняўскім) // АО 1971. М., 1972; Адкуль бяруцца самародкі? (разам з С.Панізнікам) // Сучаснік-88. Мінск, 1988.

*Чарняўскі М.М.*

**ВЕРАЦЯНО́**, прылада для скручвання ніткі ў прадзіве. Паявілася ў познім неаліце з узнікненнем прадзіва і ткацтва. У 10—13 ст. уяўляла сабой драўляны стрыжань даўж. 25 см з патончанымі канцамі. На ніжні канец В. надзявалі прасліцу для павелічэння яго вярчальнага руху. Вядомы знаходкі В. з раскопак у Полацку, Мінску, Віцебску, Брэсце, Слоніме, Давыд-Гарадку і інш. гарадах.

**ВЕРХАЎЛЯ́НСКАЕ СВЯЦІ́ЛІШЧА**, археалагічны помнік — язычніцкі культавы комплекс каля в. Верхаўляны Бераставіцкага р-на Гродзенскай вобл. Знаходзіцца за 0,23 км на ПдЗ ад вёскі і 0,07 км на Пд ад месца вытоку ручая, аднаго з прытокаў р. Верацейка, якая ўпадае ў р. Свіслач (басейн Нёмана). Мясц. назва Гарадзішча. Пляцоўка дыям. каля 7 м з трох бакоў абкружана рвом, які ніжэй за яе на 0,5—1,2 м, а ў паўн. частцы нават больш за 2 м. Па вонкавы бок ірва знаходзіцца вал, які ўзвышаецца над пляцоўкай. Уваход на пляцоўку з паўн.-зах. боку. Як роў, так і вал выконвалі не абарончую, а сакральна-культавую функцыі, адгароджваючы сакральную пляцоўку свяцілішча.

Помнік выявіў у к. 19 ст. Ф.В.Пакроўскі, абследаваў у 1973 Я.Г.Зверуга, а шурфоўку ў 1986 і раскопкі ў 1996 правёў Э.М.Зайкоўскі. Большы раскоп цалкам ахопліваў пляцоўку, яе паўд. схіл і часткова дно рова, а меншы ўключаў прарэзку вала. Таўшч. культ. пласта (разам з дзёрнам) у раскопе на пляцоўцы 0,14—0,28 м. У паўн.-зах. частцы вял. раскопу ў культ. пласце трапляліся камяні-валуны дыям. 0,1—0,2 м. На мацерыку раскопу, што займаў пляцоўку і яе схіл, налічвалася 29 ям і ямак розных памераў, з якіх толькі адна (дыям. 0,2 м, глыб. 0,36 м) магла быць слупавой. Найб. нагрувашчванне шчыльна накладзеных камянёў знаходзілася ў зах. частцы вял. раскопу і мела даўж. да 5,5 м і шыр. да 2 м. Наяўнасць у прарэзцы вала передмацерыковага праапластка пахаванай глебы сведчыць, што пасля 11 ст. вал быў дадаткова надсыпаны за кошт жоўтай супесі і культ. пласта. Знаходкі: фр-ты ганчарнай керамікі (10—17 ст.), чаранковы жал. нож, крэмені з апрацоўкай (фінальны палеаліт і мезаліт), косці буйной і дробнай рагатай жывёлы. Сярэдневяковы культ. пласт і за 8—10 м на З ад падножжа свяцілішча.



*Верхаўлянскае свяцілішча (рэканструкцыя Э.М.Зайкоўскага).*

У вытоку рэчкі за 70 м ад падножжа В.с. мелася крыніца. Як паказваюць даследаванні слав. свяцілішчаў, крыніца ці калодзеж (часам нават без вады) нярэдка з'яўляўся абавязковай складанай іх часткай і ўшаноўваўся як адзін з уваходаў на той свет, тут праводзіліся маленні аб дажджы. В.с. належыць да катэгорыі малых гарадзішчаў-свяцілішчаў і хутчэй за ўсё ўяўляла адзіны культавы комплекс разам з вытокам рэчкі і валуном каля яго. Свяцілішча магло выкарыстоўвацца да 17 ст.

*Літ.*: Р у с а н о в а И.П. Священные колодцы // Историческая археология. Традиции и перспективы. М., 1988; З а й к о ў с к і Э.М. Даследванне Свяцілішча каля в. Верхаўляны // МАБ. 2002. № 5.

*Э.М.Зайкоўскі.*

**ВЕРХНЕДНЯПРО́ЎСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура неалітычных плямён, якія насялялі тэр. ўсх. Беларусі ў басейне р. Дняпро і яе левабярэжных прытокаў у к. 5-га — 3-м тыс. да н.э. Аснову гаспадаркі складалі паляванне, рыбалоўства і збіральніцтва, у канцы існавання культуры пачалі развівацца земляробства і жывёлагадоўля. Насельніцтва жыло ў паселішчах (пл. 50—10 000 $м^2$) на дзюнных узгорках поймы Дняпра, Сажа і іх прытокаў і на краі надпоймавых тэрас. Жытлы былі драўляныя паўзямлянaчныя, заглыбленыя ў мацярык на 0,5 м, круглай або авальнай формы, пл. 8—12 $м^2$. На познім этапе В.к. жытлы размяшчалі найчасцей па адной лініі ўздоўж найб. высокай часткі тэрасы ці пясчанага астанца. У цэнтры жытлаў у невял. паглыбленнях у падлозе меліся агнішчы адкрытага тыпу і ямы-паграбы глыб. да 1 м. Каля жытлаў на адлегласці да 10 м выяўлены агнішчы і ямы-сховішчы (для ежы, паліва і інш.), месцы апрацоўкі крэменю і вырабу керамічнага посуду. На раннім этапе В.к. насельніцтва вырабляла таўстасценны вастрадонны посуд з прамымі сценкамі і прамым або ледзь адагнутым вонкі венчыкам з вял. колькасцю раслінных дамешкаў у гліне. Паверхня пасудзін часам упрыгожана гарызантальнымі радамі авальных ямачных уціскаанняў або адбіткаў буйнога грабеньчыка ці зусім без арнаментавання. Пазней паявіліся шыракагорлыя пасудзіны выш. да 0,4 м, дыям. да 0,3 м, з вострым, радзей круглаватым дном; падоўжаныя, пукатыя з адагнутымі венчыкамі, радзей — невысокія прамасценныя ці круглаватыя выш. да 0,1—0,15 м, дыям. да 0,15 м. У гліну дабаўлялі пясок, дробны кварц, радзей раслінныя рэшткі. Унутраную і знешнюю паверхню часта загладжвалі зубчастым штампам. Характэрная рыса В.к. — наяўнасць на некато-

рых пасудзінах (магчыма, рытуальных) двухбаковай арнаментацыі, асабліва венчыкаў і днішчаў. Асн. элементамі арнаменту былі адбіткі грабеньчатага штампа, разнастайныя ямачныя ўмяціны (круглаватыя, авальныя, падоўжаныя, трохвугольныя, серпа-, ромбападобныя і інш.), лапчастыя наколы, нарэзкі, насечкі і правільныя ямкі з негатывамі на адвароце. З дапамогай усіх гэтых элементаў стварaліся дыяганальныя, гарызантальныя, шахматныя, зігзагападобныя, трохвугольныя кампазіцыі, якія ўскладняліся па меры развіцця культуры. На раннім этапе В.к. крамянёвы інвентар меў шмат архаічных рыс, што засталіся з эпохі мезаліту. Для позняга этапу характэрны ромбападобныя і трохвугольныя наканечнікі стрэл і коп'яў, сякеры, цёслы, скрабкі на круглаватых адшчэпах, вуглавыя і нуклеусападобныя разцы, нажы, свярдзёлкі, вастрыі, часам трапляюцца мікраліты. Помнікі В.к. доўгі час былі аб'яднаны ў лакальныя варыянты *днепра-данецкай культуры* (гомельска-чарнігаўскі на 2-м, рагачоўскі на 3-м этапе развіцця). Пасля даследаванняў І.М.Цюрынай і А.Г.Калечыц вылучана самастойная В.к. Мела адчувальныя ўплывы *дзяснінскай культуры* і неалітычных культур Волга-Окскага рэгіёна.

*Літ.*: К а л е ч и ц Е.Г. Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии. Минск, 1987; Археалогія Беларусі. Т. 1. Мінск, 1997. *А.Г.Калечыц.*

**ВЕРХНЯНЁМАНСКАЯ (РУСАКÓВІЦКАЯ) ГРУ́ПА**, група археалагічных помнікаў тшцінецкага культурнага кола ў Верхнім Панямонні. Вядома 16 паселішчаў у верхнім цячэнні рэк Нёман і Шчара на тэр. Паўд.-Усх. Панямоння. Найб. калекцыя керамікі — звыш 70 абломкаў ад 14—16 пасудзін — знойдзена на паселішчы *Русаковічы*-9. В.(Р.)г. атрымала назву па тэр. распаўсюджвання і назве гэтага помніка. Вылучыў В.Л.Лакіза ў 1990-я г. на падставе сістэматызацыі і аналізу матэрыялаў бронзавага веку Бел. Панямоння.

Для посуду В.(Р.)г. характэрны дамешкі жарствы розных памераў, буйназярністага пяску. Паверхні цёмна-карычневага і цёмна-шэрага колераў, загладжаныя ці шурпаватыя вобмацкам, часта пакрытыя *ангобам*. Знойдзены эса- і цюльпанападобны посуд з патоўшчанымі коса зрэзанымі і адагнутымі вонкі венчыкамі, прафіляванай шыйкай і тулавам, якое плаўна пераходзіць у неширокае дно; посуд буйных памераў з патоўшчанымі закругленымі венчыкамі; бочкападобны; посуд з патоўшчанымі венчыкамі, высокімі прамымі шыйкамі і валікападобнымі патаўшчэннямі. Ляпіліся невял. (дыям. венчыка 13—15 см, дна — 8 см) і сярэдніх (дыям. венчыка 18—24 см, дна — 10—11 см) памераў пасудзіны і буйныя гаршкі (дыям. венчыка 26—28 см). Большая частка керамікі ўпрыгожвалася разнастайнымі ружанцовымі штампамі і наколамі, шнуравым арнаментам, пракрэсленымі лініямі, валікападобнымі патаўшчэннямі, адбіткамі лінейнага штампа, з якіх утвараліся паралельныя гарызантальныя рады. Арнамент у асн. пакрываў усю паверхню посуду, зрэзы венчыкаў і нават дны. Аналогіі керамікі маюцца ў матэрыялах паселішчаў Іванаўка, Валынцава, Пустынка (Украіна), з Паўн. Украіны (паводле С.С.Беразанскай, прыпяцкі варыянт усх.-тшцінецкай культуры) і на помніках паўн.-палескай групы ўсх.-тшцінецкай культуры (паводле М.М.Крывальцэвіча, усх. Тшцінца).

Фарміраванне В.(Р.)г. адбывалася на мясц. аснове пры моцным уплыве старажытнасцей паўн.-палескай групы на тэр., якая ў познім неаліце ўваходзіла ў арэал падгорнаўскай групы помнікаў кола *шнуравой керамікі культуры.*

Паселішчы В.(Р.)г. размяшчаліся ў далінах рэк на дзюнах, назіраецца іх канцэнтрацыя і «гнездавы» спосаб размяшчэння (*Русаковічы*-1, 7, 9). Распаўсюджваліся характэрныя крамянёвыя вырабы (трохвугольныя чаранковыя наканечнікі стрэл, сярпы валынскага тыпу), каменныя свідраваныя сякеры (*Лысая Гара*). Верхнянёманская група помнікаў ранняга перыяду бронзавага веку датуецца 2-й чв. — к. 2-га тыс. да н.э.

*Літ.*: Л а к і з а В.Л. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга бронзавага веку Беларускага Панямоння. Мінск, 2008. *В.Л.Лакіза.*

**«ВЕ́СЦІ НАЦЫЯНА́ЛЬНАЙ АКАДЭ́МІІ НАВУ́К БЕЛАРУ́СІ»** (да 1991 «Весці Акадэміі навук БССР»), навуковы часопіс. Выдаецца з 1940 у Мінску (у 1942—46 не выходзіў), у 1956 падзелены на 3, у 1968 на 7 серый. Выходзіць 4 разы на год на бел. мове, рэзюме на рус. і англійскай мовах. У 2009 выдаваліся серыі аграрных, біялагічных, гуманітарных, медыцынскіх, фізіка-матэматычных, фізіка-тэхнічных, хімічных навук. У серыі гуманітарных навук асвятляюцца таксама пытанні гісторыі і археалогіі Беларусі, змяшчаюцца матэрыялы навук. даследаванняў бел. археолагаў, біяграфічныя артыкулы пра іх.

**ВЕ́ТАЧКА**, археалагічныя помнікі — курганныя могільнікі каля в. Ветачка Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл.

М о г і л ь н і к *радзімічаў* за 1 км на ПдУ ад вёскі, каля дарогі на Гарадзец. 47 насыпаў, у т.л. 37 выш. каля 1,5 м і 10 выш. 1,5—5 м, дыям. 5—25 м. Вядомы з 1873. Даследавала ў 1963—65 Г.Ф.Салаўёва. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на грунце ў межах рытуальнага вогнішча, жаночыя галавой на З, мужчынскія — на З і У. Вакол многіх касцякоў попельна-вугальныя («вогненныя») кольцы. У жаночых пахаваннях знойдзены нажы, сярпы, прасліцы, упрыгажэнні: пярсцёнкападобныя несамкнутыя скроневыя кольцы, каралі з пацерак і бісеру, грыўня, бранзалеты, пярсцёнкі, язычковыя і пятлістыя прывескі, лунніцы, крыжыкі, рэшткі галаўнога вянка. У ранніх курганах пахавальны абрад — трупаспаленне па-за межамі могільніка. Рэшткі крэмацыі звычайна ў насыпе, часам на рытуальным вогнішчы. Выяўлены часткі паяснога набору, касцяное дзяржанне нажа, кераміка гнёздаўскага тыпу. У 1983—84 А.М.Плавінскі і В.Н.Рабцэвіч раска-

палі 7 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Мужчынскія касцякі арыентаваны галавой на ПнУ, жаночыя — на ПдЗ, 1 мужчынскі і 1 жаночы накрыты плахамі, 2 пахаванні парныя — жанчыны з дзецьмі. У жаночых пахаваннях знойдзены пацеркі (шарападобныя і біпірамідальныя сердалікавыя, шкляныя пазалочаныя і пасярэбраныя бочачкападобныя), бісер, бронзавыя трохдрацяная грыўня, сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы, зоркападобная фібула, пярсцёнкі, разнастайныя касцяныя прывескі-амулеты. У нагах дзяўчынкі (узрост каля 5 гадоў) ляжалі загорнутыя ў бяросту 8 арыгінальных скроневых кольцаў. Датуецца 10—12 ст.

М о г і л ь н і к *дрыгавічоў* за 0,15 км на ПдЗ ад вёскі, каля пясчанага кар'ера. 32 насыпы выш. 0,5—4 м, дыям. 5—16 м. Вядомы з 1873. Даследавалі ў 1963 Г.Ф.Салаўёва, у 1983 А.М.Плавінскі, В.Н.Рабцэвіч. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на попельнай падсыпцы галавой на З (жаночыя), З і У (мужчынскія). У жаночых пахаваннях знойдзены трохпацеркавае скроневае кольца, сярэбраныя буйназярністыя і разнастайныя шкляныя пацеркі, пярсцёнкі, бразготкі, фр-ты ганчарнага посуду. Адзін моцна пашкоджаны курган пахавання не меў. Датуецца 11—12 ст.

*Літ.*: С о л о в ь е в а Г.Ф. О восточной границе дреговичей // КСИА. 1967. Вып. 110; П л а в и н с к и й А.Н. Раскопки у д. Веточка // АО 1984. М., 1986.

*А.М.Плавінскі.*

**ВЕЦЬ**, археалагічныя помнікі — стаянкі і курганны могільнік каля в. Веть Быхаўскага р-на Магілёўскай вобл.

С т а я н к а - 1 позняга неаліту за 0,5 км на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Гутлянка, пры ўпадзенні яе ў р. Дняпро, на пясчаным узвышшы, выш. 1—1,5 м над поймай. Памеры 70 × 40 м. Выявіў у 1926 К.М.Палікарповіч, даследаваў 80 м² у 1959 І.І.Арцёменка. Культ. пласт 0,2—0,25 м, залягае ў падзолістым гарызонце глебы. Знойдзены крамянёвыя скрабкі, клінападобныя сякеры, нажы, тронкавыя наканечнікі стрэл, рэтушор, каменны адбойнік, адшчэпы, фр-ты шыракагорлых пасудзін, арнаментаваных адбіткамі грэбеню, неглыбокімі ямачнымі ўцісканнямі і насечкамі. Пасудзіны выраблялісяўручную стужачным спосабам з прамымі ці зведзенымі ў верхняй частцы сценкамі і канічным дном.

С т а я н к а - 2 позняга неаліту і бронзавага веку за 0,4 км на Пд ад стаянкі-1, на беразе воз. Станавое, на пясчаным узвышшы (выш. 1,6 м над поймай). Выявіў у 1926 К.М.Палікарповіч, даследаваў 120 м² у 1954 І.І.Арцёменка. Культ. пласт 0,3—0,35 м. Выяўлены ромба- і лістападобныя наканечнікі стрэл, клінападобныя сякеры, пласціны з рэтушшу, канцавыя скрабкі, фр-ты пасудзін вял. памераў з канічным дном, пукатым тулавам і адагнутым вонкі венчыкам, упрыгожаных глыбокімі цыліндрычнымі ямкамі, адбіткамі грэбеню ў выглядзе дыяганальных паясоў, вуглавых зігзагаў, арнаментам «у елачку». Сустракаецца кераміка перыяду неаліту з лапчастым арнаментам, зробленым канцом палачкі, абматанай ніткай ці вяровачкай, невял. колькасць фр-таў пасудзін бронзавага веку, упрыгожаных кароткімі наразнымі паглыбленнямі і адбіткамі перавітай вяровачкі. Знаходкі сведчаць пра кантакты мясц. неалітычных і прышлых сярэднедняпроўскіх плямён у перыяд рассялення апошніх на тэр. Верхняга Падняпроўя ў к. 3-га — пач. 2-га тыс. да н.э. Знойдзена больш за 100 фр-таў кругавой керамікі 12—13 ст.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к часоў Кіеўскай Русі на паўн. ускраіне вёскі, на левым беразе старыцы р. Дняпро. 11 паўсферычных насыпаў. Вядомы з 1873, у 1964 даследаваў Г.І.Іонэ. Знойдзены жаночыя ўпрыгажэнні радзімічаў (бронзавыя бранзалеты, скроневыя кольцы). Побач з могільнікам знаходзіцца селішча 6—8 ст.

*Літ.:* П а л і к а р п о в і ч К.М. Досьледы культур каменнага і бронзавага перыядаў у Усходняй Беларусі // Працы. Т. 1; А р т е м е н к о И.И. Неолитические стоянки у с. Веть Могилевской области // КСИА. М., 1964. Вып. 97.

*А.Г.Калечыц.*

**ВЁДРЫ ДРАЎЛЯ́НЫЯ**, начынне для чэрпання, пераноскі і захавання вады і інш. вадкасцей або паўвадкіх прадуктаў. Выраблялiся з драўляных дошчачак, змацаваных металічнымі (як правіла, жал.) абручамі, з металічнымі вушкамі і дужкамі. У помніках рымскага перыяду В.д. вядомы ў пахавальным інвентары пшэворскай і любошыцкай археал. культур (Польшча), ва ўсх. частцы Германіі і ў Даніі. Найб. раннія В.д. ў Цэнтр. Еўропе сустракаюцца ў пахаваннях латэнскай культуры (стараж. кельты). Іх папярэднікамі былі бронзавыя вёдры (цысты, сітулы) у могільніках гальштацкай культуры. У перыяд *Вялікага перасялення народаў* драўляныя вёдры (каля 400) былі занесены «варварамі» ў правінцыйнарымскае асяроддзе, а пазней вядомы ў меравінгскіх могільніках і пахаваннях англа-саксаў. Знаходкі В.д. сустракаюцца на тэр. Беларусі пры раскопках гарадоў перыяду Кіеўскай Русі. Аднак металічныя дэталі ад драўляных вёдзер нярэдка знаходзяць у курганных пахаваннях тых слав. плямёнаў, якія вялі паходжанне ад насельніцтва пражскай (сукацка-дзедзіцкай) культуры.

На тэр. пераважна паўд. і цэнтр. частак Беларусі, а таксама паўд. часткі Бел. Падзвіння ў слав. курганах 2-й пал. 11—12 ст. вядома каля 60 курганных пахаванняў, у якіх выяўлены абручы, дужкі і вушкі ад В.д.

*Літ.:* Д у ч ы ц Л. Аб адной катэгорыі курганных знаходак // ГАЗ. Мінск, 1994. № 4; З а й к о ў с к і Э.М. Пахаванні з драўлянымі вёдрамі // Там жа. Мінск, 2005. № 20; Z e m a n J. Dřevěna vědérka doby řimské a otázka jejich dalsino vyvoje // Památky archeologické, cislo 1, ročnik XLVII. Praha, 1957.

*Э.М.Зайкоўскі.*

**ВЁСКА**, тып паселішча, жыхары якога займаюцца пераважна сельскай гаспадаркай. Назва паходзіць ад стараж.-слав. слова «весь». Пры першабытнаабшчынных адносінах да тыпу В. адносіліся практычна ўсе паселішчы аселых земляробаў і жывёлаводаў. Пасля аддзялення рамяства ад

сельскай гаспадаркі з агульнай масы паселішчаў пачалі вылучацца рамесна-гандл. і адміністрацыйна-палітычныя цэнтры, якія з цягам часу ператвараліся ў гарады. Гэтыя працэсы ў Беларусі прасочваюцца ў археал. матэрыялах з 8—9 ст. З гэтага часу В. становяцца спецыфічнымі паселішчамі, якія паводле функцый і складу насельніцтва процістаяць усім інш. населеным пунктам. Археал. даследаванні дазваляюць прасачыць развіццё В. у перыяд, які слаба адлюстраваны ў інш. крыніцах — ад узнікнення да 14—15 ст. У к. 1-га тыс. В., як і земляробчыя паселішчы папярэдняга часу, размяшчаліся на поймавых узвышшах і берагавых схілах, найчасцей не вышэй за 10 м над узроўнем ракі ці возера. Скопішчы паселішчаў перамяжоўваліся вял. прасторамі міжрэчных узвышшаў, водападзелаў і лясоў. Памеры і формы В. былі разнастайныя, але пераважалі невял. і сярэднія В. пл. да 3 га, з бессістэмнай забудовай. У 8—9 ст. з'яўляюцца асобныя сялянскія двары-сядзібы, што адлюстроўвае пераход да суседскай абшчыны. Распад родавай абшчыны на пач. 2-га тыс. адбываўся ва ўмовах гасп. прагрэсу: пашырылася ўжыванне сахі, ляднае (падсечнае) земляробства паступова змянялася лясной аблогай і папаравай сістэмай, замест паўзямлянак сяляне пачалі будаваць наземныя хаты, а паглыбленыя ў грунт пабудовы выкарыстоўваліся толькі ў гасп. мэтах. Характар забудовы, планіроўка і памеры жытлаў (9—12 $м^2$) сведчаць аб тым, што малыя сем'і жылі паасобку, але вялі сумесную гаспадарку у межах вял. сям'і — патраніміі. У перыяд з к. 10 ст. да 2-й пал. 13 ст. колькасць В. павялічылася больш як у 2 разы. Рассяленне стала больш шчыльным, але яшчэ заставалася шмат незанятых зямель, у т.л. ўсе міжрэчныя ўзвышшы. Захавалася большасць ранейшых В., але павялічыліся іх памеры, вырасла колькасць сярэдніх маладворных В., часам недаўгавечных, бо адбывалася інтэнсіўнае адасабленне новых паселішчаў невял. сем'яў. Захоўвалася бессістэмная забудова, але часцей пачалі трапляцца В. з рэгулярнай лінейнай планіроўкай. У гэты час пашыраліся папаравая сістэма земляробства і карыстанне плугам, развівалася рамяство, асабліва апрацоўка металаў і ювелірная справа. Знаходкі шматлікіх упрыгажэнняў і інш. рэчаў матэрыяльнай культуры на археал. помніках (паселішчах і пахаваннях) сведчаць пра даволі высокі ўзровень жыцця сялян, якія ў большасці выпадкаў заставаліся асабіста, а месцамі і пазямельна свабоднымі. З 11 ст. ў В. пачало пранікаць хрысціянства, якое ў 13 ст. поўнасцю выцесніла язычніцтва, што праявілася ў знікненні язычніцкіх курганных пахаванняў з вясковых могілак. Распаўсюджанне з 11—12 ст. невял. рэзідэнцый-замкаў сведчыла пра пашырэнне феад. землеўладання. У к. 13—14 ст. пачалося асваенне сялянамі міжрэчных узвышшаў і водападзелаў, на якіх яшчэ існавалі некранутыя лясы. Дробнаконтурнасць палеткаў і інш. угоддзяў дазваляла будаваць толькі маладворныя В., якія і зрабіліся пануючымі на некалькі стагоддзяў. За кошт такога перасялення паменшылася колькасць В. у рачных далінах. Змена структуры рассялення была выклікана, з аднаго боку, гасп. прагрэсам — масавым распаўсюджаннем плуга і трохполля, з другога — складваннем феад. гаспадаркі. Сказвалася і адзначанае з 14 ст. пагаршэнне прыродных умоў — павышэнне вільготнасці і больш частыя, чым раней, паводкі.

*Літ.*: Древняя Русь: город, замок, село. М., 1985; Коробушкина Т.Н. Земледелие на территории Белоруссии в X—XIII вв. Минск, 1979; Шаблюк В.І. Сельскія паселішчы Верхняга Панямоння XIV—XVIII стст. Мінск, 1996; Риер Я.Г. Аграрный мир Восточной и Центральной Европы в средние века по археологическим данным. Могилев, 2000; Его же. Археология средневековой европейской деревни: общие черты и региональные особенности. Могилев, 2008. *Я.Р.Рыер.*

**ВІДАГО́ШЧА**, археалагічны помнік — курганная група каля в. Камсамолец (б. Відагошча) Мінскага р-на, побач з вадасховішчам Вяча. Вывучалася К.П.Тышкевічам у 1862, усяго раскапана 10 насыпаў. Дыям. курганоў 7—10 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце, у 2 насыпах — трупапалажэнні ў ямах. У адным кургане выяўлены рэшткі труны. Нябожчыкі арыентаваны галавой на ПдЗ, ПнЗ, ПдУ. У пахаваннях знойдзены гліняныя гаршкі, дыскападобныя пацеркі з празрыстага шкла зялёнага колеру, чапец з ваўнянай тканіны прамога пляцення, край якога ўпрыгожаны скобамі з бронзавай бляхі, чапец таксама меў аплікацыі або вышыўку ў выглядзе стужкі з 3 моцна скручаных пасмаў шаўковых нітак, у некаторых месцах умацаваны скурай. Шмат знойдзена металічных вырабаў: з бронзы — шыйныя грыўні, сплеценыя з 3 акруглых дратоў, спіралькі, бранзалет акруглай у сячэнні формы, скручаны ўздоўж восі, бразготкі грушападобнай формы з крыжападобнымі проразямі; падковападобныя фібулы з цыліндрычнымі, макападобнымі і рамбічнымі галоўкамі, а таксама фібулы ў выглядзе 12-канцовай зоркі, паясныя спражкі прамавугольнай і ліраподобнай формы, акоўкі заканчэнняў пояса, некалькі кальe з бронзавых спіралек і шкляных пацерак, а інш. — са спіралек, бронзавых лунніц, бразготак і шкляных пацерак. Характар значнай часткі гэтых упрыгажэнняў сведчыць пра моцнае ўздзеянне балцкага субстрату. Г.В.Штыхаў датуе пахаванні 9—12 ст.

*Літ.*: Тышкевич К.П. О курганах в Литве и Западной Руси. Вильна, 1865; Указатель памятников Российского исторического музея в Москве. М., 1893; Лысенко П.Ф. Дреговичи. Минск, 1991; Штыхаў Г.В. Крывічы: па матэрыялах раскопак курганоў у Паўночнай Беларусі. Мінск, 1992; Zabytki z okresu wpływów rzymskich, średniowiecza i czasów nowożytnych w Białorusi w zbiorach Państwowego Muzeum Archeologicznego w Warszawie. Warszawa, 2005. *Э.М.Зайкоўскі.*

**ВІДЗІБО́Р**, археалагічны помнік — курганны могільнік *драўлян* каля в. Відзібор Столінскага р-на Брэсцкай вобл. За 2,5 км на ПнЗ ад вёскі, на ўзвышшы каля балота, ва ўр. Гуркі. У 1950-я г. было каля 40 насыпаў выш. 0,3—0,7 м, дыям. 4—7 м (усе разараны). Вакол некаторых курганоў пра-

сочваліся кальцавыя раўкі. У 1956 Ю.У.Кухарэнка даследаваў 13 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце, на попельна-вугальнай праслойцы. Суправаджальны інвентар — сердалікавая прызматычная пацерка, жал. нож, бронзавыя пярсцёнак і спражка з жал. язычком. Кругавыя гаршкі арнаментаваны хвалістымі лініямі і рыфленнем. У насыпах знойдзены ляпны посуд зарубінецкай і пражска-карчацкай культур. Датуецца 11 ст.

*Літ.*: К у х а р е н к о Ю.В. Видиборские курганы // КСИА. 1983. Вып. 175. *В.С.Вяргей.*

**ВІДЭ́ЛЕЦ**, сталовы прыбор для раздачы і ўжывання стравы, які мае выгляд ручкі з доўгімі зуб'ямі. Магчыма, быў вядомы з эпохі палеаліту, калі з'явілася тэрмаапрацоўка ежы (мяса, рыбы) на адкрытым вогнішчы, і ўяўляў сабой натуральнае разгалінаванае дрэўка ці костку жывёлы, папраўленую крамянёвым нажом. Падобныя на іх прыстасаванні захоўваліся ў традыцыйным побыце некаторых этнасаў да нядаўняга часу. Вырабленыя з медзі і бронзы В. вядомы ў краінах Стараж. Усходу (Егіпет, Асірыя), дзе мелі, хутчэй за ўсё, сакральнае прызначэнне. Жал. В. з доўгімі і роўнымі зуб'ямі выяўлены пры раскопках антычных паселішчаў. Выкарыстоўваліся для гатавання і раздачы мяса. В. вікінгаў мелі спецыфічную форму. Іх рабілі трохзубымі, прычым чаранок і зубцы такога В. былі загнуты пад прамым вуглом адносна самога трымання, часта дапаўняліся дэкаратыўнымі дэталямі. Адзін з такіх В. знойдзены на паселішчы *Франопаль* Брэсцкага р-на. Яго агульная даўж. каля 9 см, даўж. зубцоў 4,5 см, датуецца 11 ст. У 14—16 ст. В. распаўсюджваюцца па ўсёй Еўропе. У 16 ст. трапляюць на тэр. Беларусі праз Польшчу. Уяўлялі з сябе 2 зубцы, што пераходзілі ў плоскае трыманне, якое абкладвалася тронкамі з косці або высакаякаснага дрэва і мацавалася да ручкі меднымі заклёпкамі ці штыфтамі. В. такога кшталту былі прывазныя, хутчэй за ўсё з Германіі. Знойдзены пад час раскопак у Магілёве і *Віцебскім Ніжнім замку* (з касцянымі тронкамі), у Лідскім замку з драўлянымі тронкамі. В. 17 ст. мелі трыманне ў выглядзе конусападобнага стрыжня, што ўстаўляўся ў драўляную ці касцяную калодачку-ручку (*Мірскі замак*, гарады Крычаў, Мсціслаў і інш.). У 18 ст. пачалі вырабляць трохзубыя В. (Віцебск, Орша, Мінск). У 19 ст. В. набывае сваё сучаснае аблічча, становіцца чатырохзубым.

*Літ.*: К о л о д о ч к и н а Е. История вилки // Ист. журн. 2005. №5; К а л я д з і н с к і Л. Трохзубы відэлец шляхціца // Культура. 2009. № 9.

*Э.М.Зайкоўскі.*

**ВІ́ЛЕНСКАЯ АРХЕАЛАГІ́ЧНАЯ КАМІ́СІЯ** (ВАК), навуковая ўстанова ў Вільні ў 1855—65. Утворана па ініцыятыве групы віленскіх аматараў гісторыі на чале з Я.Тышкевічам пры *Віленскім музеі старажытнасцей (ВМС)* з мэтай вывучэння помнікаў старажытнасці на тэр. Беларусі і Літвы, экспанавання атрыманых матэрыялаў. У 1851 Я.Тышкевіч распрацаваў праекты арганізацыі і дзейнасці музея і камісіі. 11.5.1855 расійскі імператар Аляксандр II зацвердзіў «Высочайше утвержденное положение о Музеуме древностей и о Временной Археологической комиссии в Вильно», у якім указвалася, что яна ствараецца на 3 гады, у якасці выпрабавальнага тэрміну. Музей і камісія мелі сваю пячатку з дзярж. гербам і надпісам «Виленского музеума древностей». Старшынёй ВАК і куратарам музея стаў граф Я.Тышкевіч з правам нашэння мундзіра чыноўніка Мін-ва нар. асветы 5-га класа, намеснікам старшыні — М.Балінскі, вучоным сакратаром — М.Круповіч. Па палажэнні ўсе члены Музея і ВАК падзяляліся на сапраўдных, ганаровых і членаў-супрацоўнікаў. У першым спісе членаў Віленскага музея старажытнасцей і ВАК, зацверджаным генерал-губернатарам 1.1.1856, налічваўся 51 чал. Ён уключаў 15 сапраўдных чл., сярод якіх Т.Нарбут, Ю.І.Крашэўскі, М.Гербурт, М.Маліноўскі, І.Ходзька, П.В.Кукальнік, А.Г.К.Кіркор, М.М.Гусеў і інш., 8 ганаровых (князі М.Радзівіл, К.Снітка, Я.Любанскі і інш.), 18 чл.-папячыцеляў (графы Р.Тызенгаўз, М.Гутэн-Чапскі, К.Тышкевіч і інш.) і 9 чл.-супрацоўнікаў (Я.К. Вільчынскі, А.Завадскі і інш.). Інфармацыя аб рабоце камісіі рэгулярна друкавалася ў газ. *«Виленский вестник»*. Камісія збірала матэрыялы па гісторыі краю, звесткі пра ўладальнікаў археал. матэрыялаў, рукапісы, наладжвала археал. экспедыцыі, заслухоўвала даклады і рэфераты па краязнаўстве. Найб. цікавыя матэрыялы змяшчаліся ў спец. выданні ВАК «Записки Виленского археологического общества», выходзілі асобнымі краязнаўчымі працамі. У 1858 Я.Тышкевіч падрыхтаваў праект аб рэарганізацыі ВАК у т-ва з аддзяленнямі па археалогіі, археаграфіі, натуральным навукам, статыстыкі і эканоміікі, але ў сувязі з палітычнай нестабільнасцю ў краіне ён не быў зацверджаны. Пасля паўстання 1863 ВАК зачынена па загаду генерал-губернатара М.М.Мураўёва.

*Літ.*: К а х а н о ў с к і Г.В. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мінск, 1984; А л е к с е е в Л.В. Археология и краеведение Беларуси XVI в. — 30-ые годы XX в. Минск, 1996; В я р г е й В. Археалагічнае вывучэнне Беларусі ў другой палове XIX ст. // ГАЗ. Мінск, 2006. Вып. 22; Д о б р и я н А. Деятельность Виленского музеума древностей и временной археологической комиссии по изучению археологических памятников // Там жа. *Л.Г.Марковіч.*

**ВІЛЕ́НСКІ МУЗЕ́Й СТАРАЖЫ́ТНАСЦЕЙ.** Засн. 29.4.1855 Я.П.*Тышкевічам*, адкрыты для наведвальнікаў 1.12.1856 у будынку бібліятэкі Віленскага ун-та. У сувязі з паўстаннем 1863—64 музей паводле загаду генерал-губернатара М.М.Мураўёва быў зачынены і падвергнуты «рэвізіі». Шмат каштоўных экспанатаў адправілі ў Маскву. У знак пратэсту кіраўнік музея Я.П.Тышкевіч склаў свае паўнамоцтвы і пакінуў Вільню. Пад націскам грамадскасці частка экспанатаў была вернута ў музей. Рэканструяваны і русіфікаваны,

ён праіснаваў да 1-й сусветнай вайны. Меў аддзелы: археалогіі, этнаграфіі, мастацтва, зброі, мінералогіі, арніталогіі. Свае калекцыі музею перадалі Я.П. і К.П. Тышкевічы, У.Сыракомля, А.К.Кіркор, Т.У.Нарбут, М.І.Балінскі, Ф.К.Багушэвіч, І.Р.Кулакоўскі, К.А.Буйніцкі, А.А.Плятэр і інш. У к. 19 ст. фонды музея налічвалі больш за 12 тыс. экспанатаў, у т.л. стараж. рукапісы, інкунабулы, рэдкія выданні 15—18 ст., калекцыі зброі, слуцкіх паясоў, габеленаў, графікі, скульптуры, партрэтаў магнацкіх родаў (Радзівілаў, Тышкевічаў, Хадкевічаў, Храптовічаў, Сапегаў), гербаў гарадоў, манет, этрускіх ваз, японскіх, італьянскіх і кітайскіх тканін, фарфору, бронзавых вырабаў. Пераважная большасць матэрыялаў была з Беларусі: археал. знаходкі, каменныя ідалы са Случчыны, граматы 12—14 ст. аб сувязях полацкіх князёў з ганзейскімі гарадамі, кальчуга са слав. надпісамі з Оршы, ядры з Мінскага замка, пячатка з Крэва, стараж. рэчы з Гродзенскай Каложскай царквы, карэліцкія габелены і інш. У фондах музея ўпершыню выкарыстаны метад захавання знаходак па аднароднасці матэрыялаў, з якіх зроблены прадметы: метал, дрэва, шкло, тканіны, косць, камень, папера і інш. Пры музеі ў 1855—65 дзейнічала *Віленская археалагічная камісія.* Большасць экспанатаў зберагаецца ў гісторыка-этнагр. музеі АН Літвы і Рэспубліканскай маст. галерэі Літвы, у Музеі бурштыну ў г. Паланга (Літва), Дзярж. гіст. музеі ў Маскве, Нар. музеі ў Варшаве.

**«ВИ́ЛЕНСКИЙ ВЕ́СТНИК»** («Kurier Wileński»), палітычная і літаратурная газета, афіцыйны орган расійскай адміністрацыі Паўн.-Зах. краю (бел. і літ. губерні). Выдавалася ў 1841—1915 у Вільні, з кастрычніка 1915 да 1916 у Гомелі. У 1841—65 афіцыйныя матэрыялы друкаваліся на рус. і польскай мовах, неафіцыйныя — пераважна на польскай, з 1865 толькі на рус. мове. «В.в.» — працяг газ. «Літоўскі веснік». У 1859—65 рэдактар газеты — даследчык гісторыі, літаратуры і фальклору Паўн.-Зах. краю А.К.Кіркор; з газетай супрацоўнічалі бел. і польскія пісьменнікі, этнографы, гісторыкі. Друкаваліся матэрыялы пра археал. даследаванні, у т.л. падрабязнае апісанне каменных прылад працы са збораў Шукінаса на Віленшчыне і Віцебшчыне (А.К.Кіркор, Л.Т.Нарбут; 1864, № 147); справаздача У.З.Завітневіча з раскопак курганоў на Прыпяці ў Мазырскім пав. з высновамі аб этнічнай прыналежнасці насельніцтва таго часу (1898, № 64, 187); аналіз археал. абследаванняў басейна Віліі (Ф.В.Пакроўскі; 1894, № 24); нарыс, прысвечаны курганам у Віцебскім, Лепельскім і Веліжскім паветах (М.Ф.Кусцінскі; 1860, № 12); агляд археал. даследаванняў М.П.Авенарыуса на Гродзеншчыне, Э.А.Вольтэра на Вілейшчыне, У.З.Завітневіча на Міншчыне ў 1887—88 (1889, № 121); рэцэнзіі на працы А.М.Семянтоўскага «Беларускія старажытнасці» (1890, № 26), Ф.В.Пакроўскага «Археалагічная карта Гродзенскай губерні» (1895, № 110) і інш. Сістэматычна друкавала справаздачы з раскопак гарадзішчаў, замчышчаў, селішчаў, з археал. экспедыцый, звесткі Віленскай археал. камісіі пра арганізацыю і работу археал. музея і бібліятэкі ў Вільні (1857, № 15, 47; 1858, № 1—3, 21, 40, 48, 68, 69; 1859, № 19; 1860, № 5, 6, 12, 16, 47, 64, 73, 90, 91; 1861, № 8, 14, 22, 23, 32, 34, 39, 40, 65, 90, 98, 99, 101; 1862, № 6, 15, 16, 23, 24, 31, 39, 55, 65, 72, 81, 90; 1863, №6, 19, 36, 84; 1864, № 16, 25, 30, 46, 132, 147; 1865, № 26; 1869, № 30). Газета рэгулярна друкавала пратаколы падрыхтоўчага к-та, матэрыялы *Археалагічнага з'езда дзевятага* (1892, № 5, 6, 10, 28, 41, 42, 46, 51, 72, 85, 96, 97, 129, 143, 179, 184, 244, 249; 1893, № 9, 10, 16, 17, 19, 29, 64, 162).

*Літ.*: М а р х е л ь У.І. «Кур'ер Віленьскі» як крыніца для вывучэння гісторыі культуры Беларусі (1860—1862 гг.) // Из истории книги, библиотечного дела и библиографии в Белоруссии. Минск, 1972. Вып. 2.

**ВІ́ЛЫ**, археалагічныя помнікі — паселішчы каля в. Вілы Камянецкага р-на Брэсцкай вобл.

П а с е л і ш ч а - 1 за 0,15—0,2 км на У ад вёскі, на правабярэжнай тэрасе р. Лясная Правая праз 0,25—0,3 км ад месца ўпадзення ў яе р. Белая. Абследавалі ў 2007 В.Л.Лакіза, В.Г.Белявец і А.Г.Калечыц. Плошча помніка разворвалася. На паверхні знойдзены 101 артэфакт, у т.л. 14 нуклеусаў, 32 крамянёвыя вырабы, сярод якіх вастрыі, трапецыі, скрабкі, наканечнікі стрэл. У 2007 В.Л.Лакіза правёў раскопкі на пл. 40 м$^2$. Магутнасць культ. пласта ад 0,45 м у паўд. да 0,23—0,32 м у паўн. частках раскопу. Знойдзена 320 артэфактаў: фр-ты керамікі (41 экз.), расшчэпленыя крэмені, крамянёвыя прылады працы і зброя (23 экз.). Ляпная кераміка з дамешкамі дробнай жарствы, злёгку заштрыхаванымі паверхнямі ад-



*Крамянёвыя нуклеусы са стаянкі Вілы.*

носіцца да позняга неаліту, ганчарная (33 сценкі, 1 венчык) — да эпохі позняга сярэдневякоўя і новага часу. Сярод 276 крамянёвых знаходак пераважную большасць складаюць адшчэпы, пласціны, абломкі, луска. Датуецца мезалітам (*кудлаеўская культура, яніславіцкая культура*), неалітам (*нёманская культура*, кола *шнуравой керамікі культуры*), а таксама эпохай позняга сярэдневякоўя і новага часу.

Паселішча-2 за 0,3—0,35 км на ПдУ ад вёскі, 0,15 км на ПдУ ад паселішча-1, у месцы зліцця рэк Лясная Правая і Белая, на мысападобным пясчаным узвышшы памерамі каля 40 × 55 м, выш. над поймай да 1,6 м. Абследавалі ў 2007 В.Л.Лакіза, В.Г.Белявец і А.Г.Калечыц. Плошча помніка пашкоджана гасп. ямамі. На паверхні знойдзена 25 артэфактаў, у т.л. 1 нуклеус і 6 крамянёвых прылад працы. У 2007 В.Л.Лакіза даследаваў 24 м$^2$ культ. пласта магутнасцю 0,6—0,7 м. На глыб. 0,5 м ад паверхні была зафіксавана яма дыям. 1,24 м і глыб. 0,36 м. У яе запаўненні знойдзена 11 артэфактаў, у т.л. ляпная кераміка ранняга і позняга неаліту, крамянёвыя адшчэпы. Выяўлена 825 артэфактаў: фр-ты керамікі (60 ляпной і 362 ганчарнай), расшчэпленыя крэмені, крамянёвыя прылады працы і зброя, жал. і каменныя вырабы, косткі. Кераміка ранненеалітычная з арганічнымі дамешкамі, упрыгожана арнаментам з гарызантальных паралельных пракрэсленых ліній і поясам скразных адтулін амаль пад самым краем венчыка, звязваецца з познім этапам *нёманскай культуры*. Посуд кола шнуравой керамікі культуры з дамешкам жарствы і гладкімі паверхнямі. На 2 фр-тах сценак маецца арнаментацыя шнуравымі адбіткамі. Ганчарная кераміка (242 сценкі, 87 венчыкаў, 26 плоскіх дноў, 1 фр-т ручкі, 6 вушак) адносіцца да перыяду Стараж. Русі, а таксама да позняга сярэдневякоўя. Сярод 395 крамянёвых знаходак маюцца 25 нуклеусаў, 37 вырабаў з другаснай апрацоўкай (трапецыя, яніславіцкі трохвугольнік, 3 вастрыі, 2 мікрапласціны, 3 нажы на пласцінах, 14 скрабкоў, чаранковы і трохвугольны наканечнікі стрэл, 2 рубячыя прылады, 2 пласціны і 6 адшчэпаў з участкамі рэтушы, абпаленая пашкоджаная прылада), каменны адбойнік, фігурны камень, каменны шліфавальны брусок, каваныя цвікі і фр-т жал. нажа. Датуецца мезалітам (яніславіцкая культура), раннім (*прыпяцка-нёманская культура*) і познім неалітам (кола культуры шнуравой керамікі), а таксама эпохай ранняга і позняга сярэдневякоўя. *В.Л.Лакіза.*



*Крамянёвыя наканечнікі стрэл са стаянкі **Вілы**.*

**ВІРЫ́ЧАЎ**, археалагічныя помнікі — стаянкі і гарадзішча каля в. Вірычаў Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл.

Стаянка-1 ранняга *мезаліту* за 2 км на У ад вёскі, на мысе правага берага р. Друць пры ўпадзенні ў яе р. Дабрыца. Выш. над узроўнем ракі 7—8 м. Адкрыў у 1980 і даследаваў 82 м$^2$ у 1982 і 1986—88 В.Ф.Капыцін. Культ. пласт 0,2—0,6 м. Знойдзены канцавыя скрабкі з кароткіх пласцін і адшчэпаў (некаторыя са скошаным лязом і камфортнай рэтушшу па краі), скрабкі двайныя і з «шыпам» на лязе, разцы рэтушаваныя і на зломе загатоўкі, вырабы з выемкай, вастрыі, праколкі, рэтушоры і сякучыя прылады, пласціны-ўкладышы, шмат адшчэпаў і пласцін з дробнай рэтушшу па краі.

Стаянка-2 эпохі *неаліту* за 0,5 км ад вёскі, на мысе левага берага р. Дабрыца. У 1987—88 В.Ф.Капыцін даследаваў 15 м$^2$. Культ. пласт 0,2—0,5 м. Знойдзены расшчэплены крэмень, скрабкі з адшчэпаў, праколкі, фр-ты керамікі, упрыгожаныя адбіткамі дробназубчастага штампа і ямачнымі ўціскannямі пад венчыкам.

Гарадзішча ранняга жал. веку. Пры ўпадзенні р. Дабрыца ў р. Друць. Пляцоўка авальная, памерамі 30 × 40 м. Вядома з 1873, даследаваў у 1976 А.Р.Мітрафанаў. З боку поля і ПдЗ умацавана валам і ровам, часткова разбураным у час Вял. Айч. вайны. Знойдзены рэчы мілаградскай і зарубінецкай культур.

*Літ.*: Копытин В.Ф. Работы по изучению мезолита в Белорусском Поднепровье // АО 1980. М., 1981.

*В.Ф.Капыцін.*

**«ВИ́ТЕБСКИЕ ГУБЕ́РНСКИЕ ВЕ́ДОМОСТИ»**, газета, якая выдавалася губернскім праўленнем у Віцебску з 1838 да 23.12.1917 на рус. мове. Мела афіцыйны і неафіцыйны (з 1845) аддзелы. Афіцыйны змяшчаў пастановы і распараджэнні цэнтр. і мясц. улад. Неафіцыйны (з 1901 выдаваўся асобна) асвятляў мясц. жыццё, падзеі ў краіне і за мяжой, друкаваў літ. творы, даследаванні па гісторыі, этнаграфіі і фальклоры. Сярод публікацый: артыкулы А.Семянтоўскага пра знаходкі каменнага веку на Віцебшчыне (1887, № 13), калекцыі каменных прылад з раскапанага М.Ф. Кусцінскім курганнага могільніка ў Лепельскім пав. (1865, № 35); справаздачы пра раскопкі курганных старажытнасцей Л.Ю.Лазарэвічам-Шапялевічам у Гарадоцкім, Невельскім і Себежскім паветах (1900, № 14, 153, 154); артыкулы К.А.Гаворскага пра вынікі археал. даследаванняў каля вёсак Рудня і Бяздзедавічы, каменныя крыжы і

гарадзішчы ў наваколлі Полацка (1852, № 32; 1860, № 11, 12). У сваіх працах, змешчаных у газеце, І.Гарбачэўскі даў падлік курганоў і гарадзішчаў Полацкага і Віцебскага паветаў (1884, № 72, 73), Е.Р.Раманаў зрабіў высновы аб этнічнай прыналежнасці курганоў Віцебшчыны, назваў новыя помнікі (1881, № 70; 1892, № 18). Друкаваліся звесткі пра стараж. манетныя скарбы (1894, студзень; 1904, № 173; 1909, № 166, 179, 184), пра арганізацыю музейнай і краязнаўчай справы ў губерні, сувязь музея Віцебскага губернскага статыстычнага к-та з вядомымі археолагамі краіны (1865, № 25), характарыстыка археал. экспанатаў музея (1911, № 80), гар. выстаўкі 1871 (1871, № 16—19).

**ВІТУ́НІЦКІ КАМЕ́ННЫ КРЫЖ**. Знаходзіўся за 2 км ад в. Вітунічы Докшыцкага р-на Віцебскай вобл., 0,2 км ад дарогі Вітунічы—Сасновая, у лесе, ва ўр. Каралёў Стан, на месцы сярэдневяковага могільніка. Высечаны з мясц. граніту шэрага колеру. Плоскасці роўныя, шурпатыя. Перавезены ў Музей валуноў Ін-та геахіміі і геафізікі НАН Беларусі (Мінск). Выш. крыжа 1,85 м, даўж. ў папярочніку 1,1 м, ніжняя частка патоўшчаная. На фасадным баку схематычная выява чалавека з каронай на галаве, са шчытом і мячом. Пад ёю літары RSB і 2 кругі адзін у адным. Па краях лопасцей высечаны крыжыкі. Паводле падання, крыж пастаўлены на месцы стана караля польскага і вял. князя літ. Стэфана Баторыя ў час аднаго з яго паходаў у Інфлянцкую вайну (1558—82). Ускосна гэта пацвярджаецца назвай урочышча і выбітымі літарамі, якія расшыфроўваюцца як «Rex Stefan Batory» — кароль Стэфан Баторый.




*Вітуніцкі каменны крыж.*

**ВІТУ́НІЧЫ**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і курганны могільнік каля в. Вітунічы Докшыцкага р-на Віцебскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а на У ад вёскі, на правым беразе р. Поня (прыток р. Бярэзіна). Пляцоўка авальная, памерамі 270 × 100 м, з паўд.-ўсх. боку прасочваюцца рэшткі вала. Вядома з пач. 20 ст., у 2002, 2005 абследавалі А.В.Вайцяховіч і П.М.Кенька. Культ. пласт 0,4—0,5 м. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы і нажападобныя пласціны, шліфаваная сякера, бронзавыя фр-ты бранзалета і падкովападобнай фібулы з эмалямі, жал. шылы, ігла, спражка з увагнутымі бакамі, кольца, нажы, гліняная пацерка, кераміка гладкасценная, з расчосамі і штрыхаваная, шлакі. Належала насельніцтву *штрыхаванай керамікі культуры* і *банцараўскай культуры*, а таксама стараж.-рус. часу 9—10 ст.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к  крывічоў за 2 км ад вёскі, на правым беразе р. Поня. 47 круглых насыпаў дыям. 4—12 м, выш. 0,5—2,5 м, вакол якіх прасочваюцца раўкі. Выявіў і даследаваў 19 курганоў у 2002—06 А.В.Вайцяховіч. Пахавальны абрад — у 2 курганах крэмацыя ў насыпе, у астатніх — трупапалажэнне на падсыпцы на гарызонце і ў падкурганных ямах. Пахавальны інвентар: бронзавыя арнаментаваныя накладкі ад наборнага пояса (каля 50), сярэбраны дырхем,




*Археалагічныя знаходкі з гарадзішча **Вітунічы**: 1 — каменная сякера; 2 — жалезная спражка; 3 — бронзавы бранзалет; 4 — шкляная пацерка; 5 — жалезны нож; 6 — іголка; 7 — фрагмент бронзавай фібулы.*



*Бронзавыя арнаментавыя накладкі ад наборнага пояса з курганнага могільніка **Вітунічы**.*

бронзавыя і жал. падкавападобныя фібулы, бронзавыя і жал. паясныя спражкі, шкляныя пацеркі, бронзавыя дротавыя пярсцёнкі, вітыя і змеегаловыя бранзалеты, жал. наканечнік дзіды і нажы, ляпны і кругавы посуд. Датуецца к. 10—12 ст. У некаторых насыпах знойдзены рэчы жал. веку: фр-т каменнай свідраванай сякеры, жал. крэсіва і серп, глінянае прасліца, абломкі ляпной керамікі.

*Літ.*: Вайцяховіч А.В. Даследаванні курганных могільнікаў у Докшыцкім раёне Віцебскай вобласці // МАБ. 2003. № 7; Яго ж. Пахавальны абрад курганнага могільніка канца X — XII стст. каля в. Вітунічы Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці // Там жа. 2007. Вып. 14; Кенько П.М. Археологические раскопки в Докшицком и Лепельском районах Витебской области // ГАЗ. Мінск, 2006. № 21.

*А.В.Вайцяховіч, П.М.Кенька.*



*Герб **Віцебска**. Малюнак з Прывілея 1597.*

**ВІЦЕБСК**, горад, цэнтр Віцебскай вобл., на р. Зах. Дзвіна пры ўпадзенні ў яе рэк Віцьба і Лучоса.

В. (летапісны Видбеск, Видебск, Витьбеск, Витепеск), паводле падання, зафіксаванага ў Віцебскім летапісе 18 ст. (рукапіс Міхаіла Панцырнага 1760), засн. вял. княгіняй кіеўскай Вольгай у 974. Займаў важнае месца на шляху «з варагаў у грэкі», належаў вял. князям кіеўскім да 1021, калі вял. кіеўскі кн. Яраслаў Мудры перадаў горад полацкаму кн. Брачыславу Ізяславічу. В. быў буйным гандл.-эканамічным цэнтрам. Разам з Полацкам і Смаленскам ён удзельнічаў у заключэнні гандл. дагавораў з Рыгай і Гоцкім берагам у 1-й трэці 13 ст. З 17 ст. стаў гал. гандл. цэнтрам у межах Заходнедзвінскага басейна.

Археал. раскопкі ў В. праводзілі ў 1895—96 А.П.Сапуноў (*Віцебская Замкавая гара*), у 1928 А.М.Ляўданскі (Замкавая гара), у 1960—70-я г. Г.В.Штыхаў (замкі і *Віцебскі Узгорскі астрог*), у 1960-я г. М.К.Каргер (*Віцебская Дабравешчанская царква*), у 1976—2009 В.М.Ляўко (замкі, Узгорскі астрог і слабоды), у 1977—79 М.А.Ткачоў (*Віцебскі Верхні замак* і *Віцебскі Ніжні замак*), у 1978—83, 1988 Л.У.Калядзінскі (Верхні замак), у 1981—97 Т.С.Бубенька (Ніжні замак), у 1982 П.А.Рапапорт, у 1983 А.А.Трусаў (Дабравешчанская царква), у 1984—85 П.Ф.Лысенка (Верхні і Ніжні замкі), у 1987 і 1988 І.М.Чарняўскі (*Віцебская ратуша*, *Віцебская Пакроўская царква*), у 1988, 1993—97 І.А.Цішкін (ратуша, *Віцебская Уваскрасенская царква*, *Віцебскія саляныя склады*, *Віцебскі Успенскі сабор*). Археал. даследаваннямі ўстаноўлена, што першыя пасяленні чалавека на тэр. горада адносяцца да каменнага веку. На Верхнім замку знойдзены каменныя сякеры тыпу «паль-

штаб» і сякера са свідраванай адтулінай, нажападобная крамянёвая пласціна і рэшткі вытворчасці — крамянёвыя адшчэпы. Знаходкі адносяцца да неаліту або ранняга перыяду бронзавага веку. За 0,1—0,15 км на У ад вусця Віцьбы на Замкавай гары (Ламіха) размяшчалася гарадзішча з матэрыяламі 1-га тыс. У раннім жал. веку (3—5 ст.) тут існавала змешаная культура днепра-дзвінцаў і зарубінцаў. Знойдзена ляпная кераміка і грузікі дзякоўскага тыпу, што адносяцца да сярэдняга слоя *Тушамлі.* У 6—8 ст. на гары, а таксама на мысе ў сутоках Віцьбы і Зах. Дзвіны і тэр. Ніжняга замка размяшчалася селішча *банцараўскай культуры*, на якім знойдзены рэшткі ляпнога посуду, гліняныя прасліцы. У 9—10 ст. на тэр. сучаснага В. існавала некалькі крывіцкіх паселішчаў. На мяжы 10—11 ст. у выніку аб'яднання паасобных паселішчаў складваўся горад. У 11 ст. ён меў дзяцінец пл. 0,7 га на Замкавай гары і пасад, што ўключаў тэр. вакол дзяцінца і на правым беразе Віцьбы (гл. *Віцебскі пасад*). Пасля 1132 В. стаў цэнтрам удзельнага княства. У 1140-я г. (па дадзеных дэндрахраналогіі) да ўмацаванняў Замкавай гары былі далучаны драўляныя ўмацаванні пляцоўкі з боку Зах. Дзвіны і ўтвораны *Віцебскі вакольны горад.* Агульная пл. ўмацаванай тэр. дзяцінца (Замкавай гары) і вакольнага горада 4 га. Верагодна, у гэты час на дзяцінцы пачалося будаўніцтва *Віцебскай царквы Архангела Міхаіла*). На Пн ад дзяцінца, за Віцьбай, у 12—13 ст. склалася перадградздзе. На ПдУ за Пілатавым (Замкавым) ручаём існаваў гар. некропаль. Аснову ўнутранай планіроўкі В. складалі вулічныя маставыя, падпарадкаваныя рэльефу мясцовасці (выяўлены ў час раскопак на дзяцінцы, вакольным горадзе і перадградздзі). Маставыя шыр. каля 2 м насцілалі з дошак або аполкаў на лагі, абапал вуліц размяшчаліся сядзібы гараджан (уключалі жылыя і гасп. пабудовы). Пад час раскопак на Верхнім і Ніжнім замках ускрыты рэшткі больш за 170 пабудоў. Матэрыяльная культура гараджан мела агульны ўсх.-слав. характар і ўключала вырабы з дрэва, косці, каменю, жалеза, каляровых металаў, шкла, гліны і скуры. Знойдзены: берасцяная грамата 13—14 ст., прасліцы з надпісамі «Марьино» і «Бабино», залаты пярсцёнак, частка сахі, шахматы, шашкі і інш. прадметы. Да сяр. 14 ст. дзяцінец і вакольны горад былі абнесены мураванымі сценамі з вежамі і атрымалі назву Верхні замак. Да яго быў далучаны Ніжні замак пл. 6 га, утвораны на месцы неўмацаванага пасада, што размяшчаўся на Пд і на У ад дзяцінца і вакольнага горада. Перадградздзе да к. 16 ст. наз. Вял. пасад Завіцебны, пазней, калі было ўмацавана драўлянымі сценамі з вежамі — Астрог (Узгорскі астрог). Сельскія паселішчы вакол замкаў ператварыліся ў слабоды (гл. *Віцебская Задзвінская слабада*, *Віцебская Задунайская слабада*, *Віцебская Заручайская слабада*, *Віцебская Узгорская слабада*). Планіроўка горада ў гэты час заставалася ўстойлівай, матэрыяльная культура пры захаванні агульных усх.-слав. рыс не пазбегла зах.-еўрап.



*Чарцёж Віцебска 1664.*

ўплыву, што праявілася ў з'яўленні рамачна-каркасных канструкцый, вялікапамернай цэглы, керамічнай дахоўкі, кафлі, водаадводаў уздоўж вуліц і каля будынкаў і інш. У к. 16—17 ст. ў планіроўцы В. адбыліся прыкметныя змены, выкліканыя ўзнікненнем новага цэнтра — рыначнай плошчы і ратушы ва Узгорскім астрозе, што было звязана з атрыманнем горадам магдэбургскага права ў 1597. На фарміраванне матэрыяльнай культуры вял. ўплыў аказала цэхавая вытворчасць. Першыя рамесныя карпарацыі (кавалёў) у В. з'явіліся яшчэ ў 15 ст. Пасля атрымання магдэбургскага права ўсталяваліся цэхі па вырабе розных відаў запатрабаванай прадукцыі.

*Літ.*: А л е к с е е в Л.В. К истории топографии древнейшего Витебска // СА. 1964. № 1; Я г о ж. Полоцкая земля в IX—XIII вв.: (очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966; Ш т ы х о в Г.В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). Минск, 1978; Л е в к о О.Н. Витебск XIV—XVIII вв. Минск, 1984; Я е ж. Торговые связи Витебска X—XVIII вв. Минск, 1989; Я е ж. Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси. Минск, 2004; Р а п п о п о р т П.А. Церковь Благовещения в Витебске // Памятники культуры: новые открытия: ежегодник. 1985. М., 1987; Ч а р н я ў с к і І., Ц і ш к і н І. Віцебская ратуша // ПГКБ. 1987. № 2; Б у б е н ь к о Т.С. Древний Витебск. Витебск, 2004. *В.М.Ляўко.*

**ВІ́ЦЕБСКАЕ АДДЗЯЛЕ́ННЕ МАСКО́ЎСКАГА АРХЕАЛАГІ́ЧНАГА ІНСТЫТУ́ТА**, навучальная ўстанова, якая дзейнічала ў 1911—22 у Віцебску. Адкрыта па ініцыятыве *Віцебскай вучонай архіўнай камісіі.* Мела ф-ты: археал., археаграфічны, гісторыі мастацтва (з 1917). Тэрмін навучання 3 гады, з 1917 — 4 гады, разлічаны на слухачоў з вышэйшай адукацыяй, але сярод студэнтаў пераважалі выпускнікі сярэдніх школ. У 1911 на 1-ы курс прынята каля 90 чал., у 1918—19 навучалася 428 чал. Выкладалі археолаг В.А.Гарадцоў, мастацтвазнавец А.І.Успенскі, гісторыкі Б.Р.Брэжга (з 1918 заг. аддзялення), А.П.Сапуноў (курс «Старажытнасці Паўночна-Заходняга краю»), У.М. Перцаў, этнограф У.М.Дабравольскі і інш. У пач. 1919 ін-ту перададзены бібліятэка (3,7 тыс. тамоў), музей і гіст. архіў (314 спраў) б. Віцебскай вучонай архіўнай камісіі, частка бібліятэкі (2 тыс. тамоў) б. Віцебскай езуіцкай калегіі. У распараджэнні аддзялення быў Віцебскі губернскі архіў (1,5 млн. спраў).

*Літ.*: Ш и б е к о З. Из истории Витебских археологических «курсов» // Неман. 1980. № 6.

**ВІ́ЦЕБСКАЯ АРХІТЭКТУ́РНАЯ ШКО́ЛА**, самабытная архітэктурная школа, якая склалася ў 2-й чв. 12 ст. Яе адметнай рысай з'яўляецца дэкаратыўная мяшаная муроўка, якая рабілася з абчасаных і падагнаных каменных блокаў, рады якіх аддзяляліся адзін ад аднаго 2 радамі плінфы. Звонку фасады пакрываліся тонкім пластом тынкоўкі-заціркі, потым іх паверхня дзялілася белымі вапнавымі палоскамі (таўшч. каля 1,5 см) на русты адпаведна памерам каменных блокаў. Да помнікаў В.а.ш. адносяцца *Віцебская царква Звеставання* (Благавешчанская) і Барысаглебская царква ў Навагрудку.

Віцебскі храм мае шэраг адметнасцей, што дазваляе меркаваць аб асаблівасцях планіроўкі. Маючы ў аснове крыжова-купальную кампазіцыю, царква вызначаецца падкрэслена выцягнутай падоўжнай воссю, што надае ёй базілікальны характар. Унутраная прастора храма падзелена на 3 нефы 6 крыжападобных у плане апорных слупоў, пастаўленых у 2 рады. Прасторавыя ячэйкі цэнтр. нефа атрымалі ў плане форму квадрата, як у раманскіх базіліках. У квадратных прасторавых ячэйках захаваліся скляпенні-закамары, характэрныя для полацкай архітэктуры. Храм меў фрэскавы роспіс і падлогу, выкладзеную з дробных камянёў.

Навагрудская Барысаглебская царква была ўзведзена на пасадзе стараж. горада ў 2-й пал. 12 ст. Яе сцены складзены з вапняковых туфавых блокаў з нязначнымі ўстаўкамі плінфы. Храм быў размаляваны фрэскамі, меў умураваныя галаснікі і керамічную падлогу з рознакаляровых паліваных плітак. Крыху пазней вакол царквы з трох бакоў была зроблена вонкавая галерэя з плінфы ў тэхніцы муроўкі «са схаваным радам», уласцівай для полацкай архіт. школы 12 ст. У 16—17 ст. храм быў поўнасцю перабудаваны.

Магчыма, што храмы ў стылі В.а.ш. існавалі ў Верхнім замку Віцебска (знойдзены кавалкі плінфы і некалькі паліваных плітак аблогі) і на слуцкім дзяцінцы (фр-ты каменных блокаў і плінфы). Спалучэнне абчасаных каменных блокаў з пракладкамі з плінфы характэрна для будаўніцтва Візантыі. Таму некаторыя даследчыкі лічаць, што Віцебскую царкву Звеставання збудаваў візантыйскі дойлід, які і заснаваў у Беларусі самабытную архіт. школу.

*Літ.*: Т р у с о в О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв.: архит.-археол. анализ. Минск, 1988. *А.А.Трусаў.*

**ВІ́ЦЕБСКАЯ ВУЧО́НАЯ АРХІ́ЎНАЯ КАМІ́СІЯ**, гістарычнае таварыства ў Віцебску ў 1909—19, якое займалася збіраннем архіўных, фальклорна-этнагр. і археал. матэрыялаў у Віцебскай губ. Засн. 13.6.1909 па ініцыятыве М.Ц.Багародзінскага, існавала да 1918 на ахвяраванні з Бешанковіч, Невеля, Полацка, Янавіч і інш. Старшыні камісіі: В.С.Арсеньеў, з 1910 У.А.Кадыгробаў, потым К.І.Ціхаміраў і інш. Члены камісіі: М.Я. Нікіфароўскі, А.П.Сапуноў, В.П.Федаровіч, І.І. Далгоў, Дз.С.Леанардаў, М.В.Анцаў і інш. Ганаровыя чл.: Б.І.Эпімах-Шыпіла, В.В.Ключэўскі, Я.Ф.Карскі, П.П.Сямёнаў-Цян-Шанскі, В.І. Сразнеўскі і інш. Пры камісіі працавалі бібліятэка, музей, архіў. Адбываўся абмен навук. выданнямі і матэрыяламі са 105 навук. ўстановамі Масквы, Львова, Кіева, Мінусінска, Табольска, Тулы, Кракава і інш. Камісія падтрымлівала сувязі з археал. т-вамі Вільні, Масквы, Ноўгарада, Пецярбурга, чл. камісіі запрашаліся на археал. з'езды. На пасяджэннях камісіі прачытаны лекцыі пра побыт бел. вёскі (У.К.Стукаліч), пра Бела-

русь і беларусаў (А.П.Сапуноў), пра Ф.Скарыну (І.І.Далгоў) і інш. Па ініцыятыве камісіі адкрыта *Віцебскае аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута*, выдадзены зборнікі «Працы Віцебскай вучонай архіўнай камісіі» (1910) і «Полоцко-Витебская старина» (1911—16), вялася работа па складанні гісторыка-геаграфічнага слоўніка Віцебскай губ., 8.1.1917 утворана Віцебскае гісторыка-археал. т-ва. У Віцебску было арганізавана некалькі выставак матэрыялаў археал. раскопак. У 1918 усе матэрыялы камісіі перададзены Віцебскаму аддзяленню Маскоўскага археал. ін-та.

*Літ.*: Змигродский К.А. Каталог музея Витебской ученой архивной комиссии. Витебск, 1912; Шибеко З. Из истории Витебских археологических «курсов» // Нёман. 1980. № 6.

**ВІ́ЦЕБСКАЯ ЗАДЗВІ́НСКАЯ СЛАБАДА́**, пасад Віцебска ў 16—18 ст.; тэрыторыя на правым беразе Зах. Дзвіны, насупраць Верхняга і Ніжняга замкаў. У паўн. частцы Задзвіння ў 10—13 ст. існавала паселішча (паводле пісьмовых крыніц, вядомы і курганныя могільнікі), на аснове якога сфарміравалася частка гар. пасада — Ільіншчына. З 15 ст. дзейнічала царква св. Ільі, з 17 ст. — драўляная Пакроўская царква. Пазней гэтая тэр. наз. Слабада Валатоўка (1714), Слабадскі пасад (1761). З крыніц 16 ст. вядома аб існаванні ў паўд. частцы Задзвіння паселішча Русь, або Пасад Рускі (магчыма, месца жыхарства гандляроў, якія прыбывалі з рус. зямель). Паводле «Чарцяжа места Віцебска» (1664) слабада Задзвінская спалучалася з Узгор'ем з дапамогай моста цераз Зах. Дзвіну, скіраванага да вул. Падзвінская. У 1990 па вул. Ільінскага пры будаўніцтве катлавана пл. 400 м$^2$ В.М.Ляўко зафіксаваны культ. пласт таўшч. да 2 м. У 1991 закладзены раскоп на тэр. Віцебскага вучэбна-вытворчага прадпрыемства. На пл. 72 м$^2$ у культ. пласце, які значна сапсаваны пазнейшымі пабудовамі, знойдзены матэрыялы 17—18 ст.: кафля мураваная, бытавая кераміка, шкляны посуд, манеты. У зоне размяшчэння раскопу раней знаходзілася гарнізонная Мікалаеўская царква, пазначаная на планах 19 ст. Другі раскоп пл. 60 м$^2$ быў закладзены па вул. Ільінскага пасля праведзеных у 1990 назіранняў. Тут знойдзена значная калекцыя матэрыялаў 17—18 ст. і больш ранняга часу. У 2000 у паўд. частцы слабады І.А.Цішкіным праведзены архіт.-археал. работы пры рэстаўрацыі памяшканняў саляных складоў к. 18 ст. і выяўлены каменныя фундаменты храма 16—18 ст., якія атаясамліваюцца з царквою Стрэчання. У 2002 В.М.Ляўко працягнуты работы па назіранні за рэстаўрацыяй складоў і знойдзены рэшткі прыцаркоўных могілак, што існавалі на працягу дзейнасці царквы. Яе разабралі, калі будавалі склады. У 2005 праведзены археал. даследаванні па вул. Чайкоўскага на тэр. ўчастка, які наз. Пасад Рускі. На планах Віцебска 19 ст. і пач. 20 ст. гэта месца пазначана як вул. Лабазная (ці пл. Лабазная — ад назвы саляных складоў). Да пач. 20 ст. тут была аднабаковая драўляная забудова. Потым насупраць складоў (лабазаў) быў пабудаваны каменны дом з аркай, у двары якога быў закладзены катлаван пад будынак царквы «Добрая весць». Яго памеры 24 × 27 м, магутнасць культ. пласта да 1,3 м (магчыма, і да 2 м у некаторых месцах), дзе былі выяўлены рэшткі каменных кладак к. 19—20 ст. Рэшткі каменных канструкцый разам з драўлянай парахнёй, якія былі знойдзены ў паўн. частцы катлавана, сведчаць аб пабудовах з дрэва на каменных фундаментах. Рэчавы матэрыял з катлавана адносіцца да 17—19 ст. Гэта ў асн. вырабы з жалеза, бронзы, шкла, а таксама кераміка. Пісьмовыя крыніцы сведчаць, што ў 17 ст. віцебская шляхта валодала «слабодкамі» ў паўн. частцы Задзвіння (зямля Зверынецкая). Ільінская царква перайшла да уніятаў. Яна была драўляная і неаднаразова аднаўлялася. Пад 1873 ёсць сведчанне: «...церковь деревянная, ветхая, во имя пророка Ильи, построена витебскими купцами Запольскими в 1746 г.». У Віцебскім краязнаўчым музеі захоўваецца пячная кафля, знойдзеная паблізу царквы сярод рэшткаў сядзібы. На ёй адбіта дата — 1743. Магчыма, кафля належала купцам Запольскім. В.М.Ляўко ў 2006 на вул. Жарэса, каля Зах. Дзвіны, выявіла рэшткі каменнай пабудовы 18 ст. і посуд, што сведчыць аб размяшчэнні тут сядзібы. Побач неаднаразова знаходзілі манеты, якія адносіліся да 17—18 ст. Паводле пісьмовых крыніц тут таксама існавалі арцелі па абслугоўванні суднаходства. На працягу 2000—07 В.М. Ляўко былі праведзены назіранні тэр. Задзвіння пры пракладцы розных камунікацый і рэканструкцыі моста цераз Зах. Дзвіну. Прасочаны культ. адкладанні магутнасцю ад 0,5 да 2 м. Устаноўлена, што бліжэй да ракі інтэнсіўнасць засялення была значна большая. У той жа час наяўнасць храмаў не дазваляла будавацца побач з імі, паколькі культ. пласт менш выразны. У к. 18 — пач. 19 ст. Задзвінне становіцца зонай абслугоўвання перавозак водным шляхам. У паўд. частцы Задзвіння, паміж вуліцамі Чайкоўскага і Камсамольская, выяўлены рэшткі скляпоў 17—18 ст., арыентаваных уздоўж сучаснай вуліцы. Больш шчыльная забудова гэтага часу прасочана паміж вуліцамі Камсамольская і Ільінскага ў паўн. частцы.

*Літ.*: Штыхов Г.В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). Минск, 1978; Левко О.Н. Витебск XIV—XVIII вв. Минск, 1984; Ее ж. Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси. Минск, 2004. *В.М.Ляўко.*

**ВІ́ЦЕБСКАЯ ЗАДУНА́ЙСКАЯ СЛАБАДА́**, археалагічны помнік у Віцебску — неўмацаванае паселішча на левым беразе р. Віцьба, у месцы ўпадзення ў яе ручая Дунай, на У ад *Віцебскага Ніжняга замка* і *Віцебскага Узгорскага астрога.* Пл. 5 га. Уключала 2 пасады: Кстоўскую гару (паўн. ўчастак) і Задунаўе (паўд. ўчастак). Стараж. паселішча 12—13 ст. пл. да 1 га знаходзілася на паўд. ускраіне слабады каля Ніжняга замка, у 14—17 ст.




*Да арт.* ***Віцебск.*** *Віцебскія замкі 1665 з чарцяжа А.П.Сапунова паводле матэрыялаў Міністэрства замежных спраў.*

яно развівалася ў паўн. і ўсх. напрамках. Забудова спачатку свабодная, у 16—17 ст. больш шчыльная і рэгулярная. Праз слабаду праходзіла вул. Вялікая (Задунайская), да яе прымыкаў завулак Алешнікаўскі. Другая вуліца вяла з Задунайскага прадмесця на Кстоўскую гару. Паселішча ў Задунайскай слабадзе было сельскім, доўгі час развівалася самастойна, на Кстоўскай гары ў стараж.-рус. перыяд знаходзіўся курганны могільнік. З уключэннем паселішча ў гар. мяжу яго зямля становіцца часткова гар., часткова архіепіскапскай. У 17 ст. на гары знаходзілася Мікалаеўская (Завіцьбенская) царква, у Задунаўі — капліца і царква Іаана Прадцечы (Пакроўская). На працягу 17—18 ст. зямля В.З.с. пераходзіць да езуіцкага касцёла і манастыра. Археал. раскопкі на тэр. слабады праводзілі ў 197 М.А.Ткачоў (шурфоўка, выяўлены матэрыялы 13—17 ст.), у 1980—81, 1986 і 1994 В.М.Ляўко. Усяго раскапана больш за 700 м$^2$. Культ. пласт на Кстоўскай гары 0,4—1,2 м, выяўлены рэшткі жытлаў 14—15 ст., прадметы матэрыяльнай культуры 14—18 ст. У Задунайскай слабадзе культ. пласт 0,5—2 м, на паўд. участку выяўлены фр-ты драўляных пабудоў 17 ст. са слядамі пажару. Выяўлена таксама водаадводная сістэма 17 ст.: драўляныя трубы і забрукаваны вадасцёк, які вёў да ракі. У ніжніх напластаваннях захаваліся сляды жытлаў, агнішчаў 12 ст., вырабы з жалеза, шкла, керамікі 12—18 ст.

*Літ.:* Витебская старина. Т. 1. Витебск, 1883; Гл. таксама пры арт. *Віцебская Задзвінская слабада.*

*В.М.Ляўко.*

**ВІ́ЦЕБСКАЯ ЗА́МКАВАЯ ГАРА́**, помнік археалогіі шэрага гістарычных эпох ад ранняга жалезнага веку да позняга сярэдневякоўя ў г. Віцебск. Размяшчалася за 0,15 км на У ад вусця р. Віцьба, на месцы сучаснага будынка Віцебскага аблвыканкома. У пісьмовых крыніцах 17—19 ст. В.З.г. вядома пад назвамі Замкавая гара, Гара Ламіха, Ваксальная гара. Пазначана на планах Віцебска к. 18—19 ст., адлюстравана на акварэлях Ю.Пешкі, фотаздымках С.А.Юркоўскага і С.М.Пракудзіна-Горскага. У к. 19 ст. мела выш. 9—10,5 м, пляцоўку авальнай формы пл. 0,7 га; аснаванне гары займала пл. 0,85 га. У раннім жал. веку выкарыстоўвалася пад *гарадзішча.* У 9—10 ст. тут існавала крывіцкае паселішча, якое, магчыма, магло мець сакральнае прызначэнне. У 11 ст. месцаразмяшчэнне дзяцінца летапіснага Відбеска. У пач. 12 ст., магчыма пры Святаславе Усяславічу, узведзена Віцебская *царква святога Міхаіла.* У 12—13 ст. В.З.г. — княжацкі двор, які дамінаваў над астатняй тэр. Віцебскага дзяцінца, значна пашыранай у 12 ст. ў зах. накірунку, і паселішчам, што займала палоску сушы ўздоўж левага берага р. Віцьба. У 12—13 ст. сувязь паміж княжацкім дваром, які згадваецца ў пісьмовых крыніцах паміж 1271 і 1289, і зах. тэр. дзяцінца (мыс пры ўпадзенні Віцьбы ў Зах. Дзвіну) ажыццяўлялася па вуліцы, якая падымалася па схіле В.З.г. (паказана на чарцяжы Віцебска 1664). Участкі яе выяўлены раскопкамі 1977, было ўскрыта да 6 ярусаў насцілаў гэтай вуліцы, якія, паводле дадзеных дэндрахраналогіі, узводзіліся з 1231 па 1558. У сяр. 14 ст. на Замкавай гары быў узведзены палац вял. князя літ. Альгерда. Рэшткі яго выявіў у 1895—96 А.П.*Сапуноў.* Асобныя буд. дэталі з гэтага палаца — гатычная цэгла (стрэлападобнай формы, для кладкі нервюр сутарэння), тэракотавыя пліткі падлогі, знойдзены і ў час раскопак 1978 на *Віцебскім Верхнім замку*, што праводзілі Л.У.Калядзінскі і М.А.Ткачоў. Да сяр. 14 ст. В.З.г., як і ўся тэр. б. дзяцінца Віцебска 12—13 ст., была абнесена мураванай сцяной. У 16 ст. В.З.г. злучалася з *Віцебскім Ніжнім замкам* праз браму Замкавую па вуліцы Прабойная. У 17 ст. гара яшчэ захоўвала мураваныя ўмацаванні, за якімі знайшлі апошні прытулак абаронцы Віцебска ад войскаў маскоўскага ваяводы В.П.Шарамецева ў 1654. Знішчэнне ўмацаванняў Замкавай гары пачалося з аблогі Віцебска войскамі літ. князёў Вітаўта і Скіргайлы і смаленскага кн. Юрыя Святаславіча ў 1393, калі яны, «заточив дела в церкви мурованой на Нижним замку, разбивали мур замку Вышняга». Найб. моцнае разбурэнне прыпала на час Паўн. вайны 1700—21. В.З.г. была скапана ў 19 ст. ў сувязі з узвядзеннем будынкаў Акруговага суда і гімназіі, але рэшткі яе захоўваліся да пач. 1970-х г.

Першыя археал. раскопкі на В.З.г. праводзіў у 1895—96 А.П.Сапуноў. Пл. раскопу складала больш за 400 м$^2$, глыб. — каля 2 м. Раскапаны рэшткі каменнай пабудовы (ніжні паверх і падмурак), якая захавалася да вышыні паловы аконнага праёму, каменная лесвіца і падлога, выкладзеная керамічнай пліткай і каменем. Паблізу выяўлена 14 пахаванняў. На краі пляцоўкі, у яе паўн. і паўд.-зах. частках былі ўскрыты каменныя сцены і арка, выкладзеныя з цэглы. Сабраны рэчавы матэрыял, які прадстаўлены звыш 70 знаходкамі з жалеза (наканечнікі кап'я і стрэл, сякеры, нажы, замкі, ключы, спражкі, падковы, дзвярныя петлі і інш.), вырабамі з каменю — асялкі, жорны, а таксама выяўлены гліняныя грузілы, шматлікія фр-ты керамічнага і шклянога посуду, каменныя

і жал. ядры, пячная кафля. Адзначающа знаходкі костак свойскіх і дзікіх звяроў (бык хатні, свіння свойская, авечка, лось, мядзведзь), птушак і лускі рыб. Матэрыял гэтых раскопак датуецца 13—17 ст. Вопіс знаходак склаў і апублікаваў А.Зміг-родскі. У гады 2-й сусветнай вайны калекцыя была вывезена ў Германію. У пасляваенны час частка дэпаспартызаванай калекцыі была вернута ў Віцебскі абл. краязнаўчы музей, а частка паступіла ў Дзярж. музей у Варшаве. Апісанне і замалёўку варшаўскай часткі калекцыі з раскопак В.З.г. зрабіў Л.Д.Побаль. У 1928 рэшткі В.З.г. даследавалі А.М.Ляўданскі і С.А.Дубінскі. Яны зафіксавалі культ. пласт таўшч. да 1 м. У перамешаным культ. слоі чорнага колеру імі сабрана ганчарная і ляпная кераміка. Апошняя па сваім выглядзе нагадвала кераміку сярэдняга пласта Тушамлі—Банцараўшчыны і больш ранняга часу, магчыма, днепра-дзвінскай культуры. Акрамя таго, імі ж тут былі знойдзены гліняныя прасліца і грузік дзякоўскага тыпу. А.М.Ляўданскім было выказана меркаванне, што пасяленне на В.З.г., магло існаваць у дафеад. час. У 1964 за землянымі работамі, што вяліся каля падэшвы В.З.г., сачыў М.І.Рыўкін, які зафіксаваў рэшткі старадаўняй кладкі — плінфу на цэменце, магчыма, рэшткі царквы св. Міхаіла. У 1971—74 апошнія рэшткі В.З.г. зафіксаваў Г.В.Штыхаў. Ім быў адзначаны культ. пласт цёмна-шэрага колеру і прыродныя рэшткі самой гары. У 1977 археал. раскопкі каля зах. схілу В.З.г. праводзілі Л.У.Калядзінскі і М.А.Ткачоў. Ускрыты напластаванні 10—17 ст., выяўлены 6 ярусаў вулічных маставых, якія былі пракладзены ў кірунку З—У. У 1991 геалагічныя адклады аснавання В.З.г. фіксаваў шурфоўкай Л.У.Калядзінскі. У 1994 невял. раскопкі (пл. 40 м$^2$) каля аснавання В.З.г. правяла Т.С.Бубенька, вывучаны адклады культ. слоя 11—17 ст., выяўлены рэшткі драўлянай забудовы.

*Літ.*: А л е к с е е в Л.В. К истории и топографии древнего Витебска // СА. 1964. №1; К а л я д з і н с к і Л. «Витбеск — три стены каменные...» // БГЧ. 1995. №2.

*Л.У.Калядзінскі.*

**ВІ́ЦЕБСКАЯ ЗАРУЧА́ЙСКАЯ СЛАБАДА́**, археалагічны помнік у Віцебску — неўмацаванае паселішча 12—13 ст. на Пд і ПдУ ад *Віцебскага Ніжняга замка.* Абмежавана з З р. Зах. Дзвіна, з Пн — ручаём Замкавы (Пілатавы), з У — ручаём Дунай, з Пд — сучаснай вул. Газета «Праўда». Пл. каля 5 га. На ўсх. узвышэнні знаходзіўся курганны некропаль (валатоўкі). Тут жа ў 14 ст. княгіня Ульяна пабудавала каменную царкву Святога Духа; склалася вулічная сетка. Вуліца Вялікая (Кажамяцкая) з'яднала яго з Ніжнім замкам праз Заручайскія праязныя вароты. Другая вуліца вяла ад Зах. Дзвіны да Святадухаўскай царквы. Археал. раскопкі на тэр. Заручайскай слабады ў 1981, 1986 і археал. назіранні ў 1995, 2003—09 праводзіла В.М.Ляўко. У зах. частцы слабады (сквер каля вул. Калініна) раскопкамі даследавана 150 м$^2$. Культ. пласт 0,5—2 м, магутнасць яго павялічваецца на Пд ад Ніжняга замка. У ніжніх напластаваннях выяўлены матэрыялы 12—13 ст. (кераміка, шыферныя прасліцы), у пласце 14—16 ст. — рэшткі глінабітных печаў, манеты, вырабы з металу, шкла, керамікі. У выніку даследавання рэштак падвальнай часткі Святадухаўскай царквы з манастыром на пл. 1550 м$^2$ устаноўлена, што манастырскі комплекс будаваўся ў некалькі этапаў, у 17—19 ст. развіваўся ў паўд. і ўсх. напрамках. Культ. пласт магутнасцю 0,4 м утрымлівае рэшткі драўляных канструкцый 17 ст., вырабы са шкла, керамікі, металу 17—18 ст. У царкоўных нефах ускрыты рэшткі пахаванняў, выяўлены фрэскі і кафля 17—19 ст. Падчас прац па археал. назіранні выяўлены 2 культ. пласты магутнасцю да 1 м (з матэрыяламі 17—19 ст.) і 0,4—1,5 м (з рэшткамі драўляных пабудоў на каменных падмурках 17—18 ст.). Прасочаны падземны ход ад Пакроўскай царквы з тыльнай дваровай часткі ў бок сучаснай вул. Шубіна.

*Літ.*: Витебская старина. Т. 1. Витебск, 1883; Ш т ы х о в Г.В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). Минск, 1978; Л е в к о О.Н. Витебск XIV—XVIII вв. Минск, 1984; Я е ж. Исследования в Витебской области // АО 1986. М., 1988.

*В.М.Ляўко.*

**ВІ́ЦЕБСКАЯ РА́ТУША**, помнік архітэктуры 16—18 ст. у г. Віцебск. Размешчана ў цэнтры горада. Даследаванні на тэр. ратушы праводзіла ў сяр. 1980-х г. В.М.Ляўко, архіт.-археал. назіранні ў ходзе рамонтных работ помніка — І.М.Чарняўскі і І.А.Цішкін. Першая драўляная ратуша была пабудавана ў Віцебску пасля надання яму магдэбургскага права ў 1597, цагляная — у 1775 (захавалася да нашага часу). На «Чарцяжы места Віцебска» (1664) змешчана першая графічная выява віцебскай ратушы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак быў накрыты 4-схільным дахам і завершаны 8-граннай назіральнай вышкай з



*Завушніца, знойдзеная на тэрыторыі **Віцебскай Заручайскай слабады**.*




*Віцебская Святадухаўская царква 14—17 ст. (А) і 19 ст. (Б).*

купалам і шпілем. Гал. фасад ратушы арыентаваны на забрукаваную гандл. плошчу, абкружаную з трох бакоў жыллёва-гандл. пабудовамі. Да бакавых фасадаў прымыкалі будынкі гасцінага двара. У падвале ратушы 18 ст. выяўлены рэшткі муроўкі 2-й пал. 17 ст., якая, верагодна, з'яўляецца фр-там гал. фасада будынка, паказанага на «Чарцяжы...». У муроўцы выкарыстана цэгла-пальчатка памерамі 28,5—29 × 13,5—14,5 × 5—5,5 см, а таксама невял. камяні. Ёсць падставы меркаваць, што мураванымі ў будынку 17 ст. былі сцены паўпадвала і 1-га паверха. Другі паверх ратушы і яе завяршэнне былі складзены з дрэва, што характэрна для архітэктуры Беларусі 17 і пазнейшых стагоддзяў. На фр-це фасада помніка 17 ст. захаваліся аконныя праёмы паўпадвала шыр. 0,98 і 0,85 м, аконны (1,03 м) і дзвярны (0,7 м) праёмы 1-га паверха; дзвярны праём шыр. 1,25 м вёў у памяшканне паўпадвала. Верхні абрэз аконных праёмаў знаходзіўся на выш. 1,5—1,7 м ад паверхні брукоўкі гандл. плошчы. Каля ратушы знойдзены абломкі і цэлыя экзэмпляры зялёнапаліванай кафлі, з якой маглі быць выкладзены печы будынка. У 18 ст. яны абмямоўваліся «галандскай» кафляй з выявамі расліннага характару ў складанай геам. рамцы. У малюнку кафлі выкарыстаны ультрамарынавы, зялёны і карычневы колеры.

*І.М.Чарняўскі.*

**ВІЦЕБСКАЯ СВЯТАДУ́ХАЎСКАЯ ЦАРКВА́ І МАНАСТЫ́Р БАЗЫЛЬЯ́Н**, помнік археалогіі — рэшткі каменнага комплексу жаночага базыльянскага манастыра пры царкве Святога Духа ў г. Віцебск. Складаюцца з фундаментаў 2 манастырскіх пабудоў, якія разам з унутраным дваром мелі пл. 1200 м², і з падвалаў царквы пл. 350 м². У 1986 даследавала В.М.Ляўко. У сяр. 14 ст. ўжо існавала праваслаўная царква Святога Духа. Першыя пабудовы манастырскага комплексу з'явіліся ў к. 17 — пач. 18 ст. Удалейшым мелі месца неаднаразовыя перабудовы, пашырэнне тэр. манастыра за кошт новых пабудоў і змяненні ва ўнутранай планіроўцы храма. У працэсе раскопак ускрыты рэшткі 6 памяшканняў, выкананых у адной тэхніцы і па шэрагу рэканструкцыйных прыкмет, аб'яднаных у адзіную пабудову. У ходзе расчысткі памяшканняў устаноўлена размяшчэнне дзвярных і аконных праёмаў, а таксама ўзроўні падлогі, месцы правядзення пазнейшых рамонтных работ, закладкі сценных ніш і інш. Акрамя манастырскіх пабудоў былі вывучаны рэшткі падмуркаў і падвальных памяшканняў храма, які знаходзіўся на Пн ад манастырскага комплексу. У працэсе расчысткі руінаў царквы Святога Духа ад буд. смецця было ўстаноўлена, што апсіда храма арыентавана на У, а да яго цэнтр. часткі прымыкалі паўд. і паўн. нефы, у падвалах якіх меліся пахавальныя камеры, размешчаныя ў 2 ярусы. У цэнтр. частцы царквы таксама выяўлены пахавальныя камеры, арыентаваныя з Пн на Пд, і прамавугольная цэглавая канструкцыя, верх унутранай часткі якой ацэментаваны. Унутры канструкцыі знойдзена пячная літая дзверца з няясным сюжэтам выявы, сляды нагару, вуголле, рэшткі дрэва, фр-ты кафлі 18—19 ст. Пад час работ выяўлены фр-ты фрэсак, экзэмпляры падлогавай пліткі і інш. буд.-аддзелачных матэрыялаў, прадметы з пахавальных камер, фр-ты керамічнага і шклянога посуду, 2 медныя манеты. Храм неаднаразова перабудоўваўся.

*Літ.*: Сапунов А.П. Витебская старина. Т. 1. Витебск, 1883; Левко О.Н. Исследования в Витебской области // АО 1986. М., 1988; Е е ж. Средневековое гончарство северо-восточной Белоруссии. Минск, 1992; Е е ж. Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси. Минск, 2004.

*В.М.Ляўко.*

**ВІЦЕБСКАЯ СЯДЗІ́БА АГІ́НСКІХ**, архітэктурна-археалагічны помнік 17 ст. ў г. Віцебск. Сядзіба памерамі не менш 20 × 30 м прымыкала да вул. Вялікая Задунайская. Гаспадарскі дом, уключаны ў лінію агароджы, размяшчаўся ў паўн. частцы тэрыторыі, за ім па перыметры — пабудовы сядзібнага комплексу. У 1989 пл. 320 м² даследавала Т.С.Бубенька.

Дом-палац быў выцягнуты з У на З. Асн. зруб меў высокае падклецце, напэўна, жылога назначэння. Памеры падклецця былі некалькі меншымі, чым жылыя памяшканні 2-га паверха. Уваход у княжацкія апартаменты-«святліцу» зафіксаваны ў цэнтры паўн. сцяны. Ганак быў аформлены ў выглядзе 6-граннай вежы з шатровым верхам і адкрытай галерэяй, якая ішла па перыметры 2-га паверха асн. будынка. З усх. боку дома была прыбудавана вежа з купалам і шпілем, якая выконва-

ла функцыю хатняй царквы. Флігель прымыкаў з З, меў святліцу з вял. вокнамі, вышэй размяшчалася мансарда.

У паўд.-зах. частцы двара ўскрыта яшчэ адно жылое збудаванне — 2-павярховае памерамі 5 × 5 м, узведзена на падклецці, якое на 1,2 м было заглыблена ў зямлю. Перакрыццё 2-га паверха падтрымлівалі брусы-апоры, наяўнасць у іх пазоў для закідкі бярвён у «шулу» ўказвае на тое, што ўнутраная прастора падклецця складалася з 2 памяшканняў памерамі 1,7 × 4,6 м і 2,8 × 4 м. Падлога ў памяшканнях адсутнічала. У падклецце вёў ганак з плах, якія мелі трохвугольнае сячэнне. У падклецці знойдзены тыглі, льячкі, кавалкі шкла. У паўд. памяшканні захоўваліся керамічныя і драўляныя рэчы, тара для прадуктаў, плеценыя берасцянкі, рыбалоўныя снасці. У паўд.-ўсх. частцы пабудовы знойдзена драўляная бочка. Першы паверх «святліцы» быў раздзелены сцяной з бярвення на 2 памяшканні. Падлога складалася з 11 дошак шыр. 0,2—0,3 м, таўшч. 4,5 см. Развал глінабітнай кафельнай печы (1,75 × 2,1 м) займаў паўн.-зах. вугал жылля. Люстра печы было выкладзена з каробчатай кафлі з раслінным і геам. запаўненнем пярэдніх пласцін, а таксама пласцін з гербамі князёў Агінскіх. Знойдзеныя ў святліцы рэчы прадстаўлены разнастайным па асартыменце кухонным і сталовым посудам 17 ст. Сярод сталовага посуду пераважае распісная і паліваная кераміка, сабрана калекцыя фр-таў шклянога посуду для піцця, сустракаюцца экзэмпляры распісных замежных пасудзін, знойдзены нажы, адзін з якіх меў інкруставанае серабром касцяное дзяржанне.

За 1,85 м на У ад дома ўскрыта 2-павярховае збудаванне княжацкага сядзібнага комплексу. Наземная частка зруба была пашкоджана ў час пажару, ніжні паверх дома — упушчаны ў зямлю падклецці, практычна не падвергнулася разбурэнню. Памеры пабудовы 4,3 × 4,5 м. У падклецці знойдзены фр-ты льячак, тыгляў, шкляных нарыхтовак, кавалкі аплаўленага шкла, вял. кавалак белага металу — нікеля, каменнае цясла. Верхні наземны паверх выкарыстоўваўся ў якасці жылля. У ім захаваўся невял. па плошчы (1,4 × 1,9 м) участак падлогі і развал глінабітнай печы, якая займала паўд.-зах. вугал збудавання. У развале печы пераважаюць кафельныя пласціны з гербамі некалькіх прадстаўнікоў княжацкага роду Агінскіх. У доме знойдзены розныя па асартыменце керамічныя і шкляныя рэчы, не характэрныя для дамоў радавых гараджан, фр-ты муштукоў белагліняных курыльных люлек, некалькі гліняных цацак-свісткоў, жал. ключы, наканечнікі стрэл і інш. Унікальнай знаходкай з'яўляецца шкляная ўстаўка-гема для пярсцёнка, якая выконвала функцыю пячаткі. На геме выява Караля Сымона Агінскага. Комплекс рэчаў, знойдзеных у збудаванні, і канструкцыйныя асаблівасці дазваляюць разглядаць яго як жыллё майстра-ювеліра, які працаваў з каляровымі металамі і шклом.

*Літ.*: К р а с н я н с к і В.Р. «Чарцёж» места Віцебску 1664 г. як дакументальны помнік да гісторыі беларускага драўлянага будаўніцтва. Мінск, 1928; Б у б е н ь к а Т.С., Х м я л ь н і ц к а я Л.У. Кафля з гербам Агінскіх з Віцебска // ГАЗ. Мінск, 1994. №3; Я е ж. Усадьба кн. Огинских в Витебске или новые дополнения к «Чертежу» места Витебска 1664 г. // Актуаль-



***Віцебская сядзіба Агінскіх**. Рэшткі жылога будынка.*

ные проблемы из исторического прошлого и современности в общественно-гуманитарных и социо-религиоведчеських науках Беларуси, ближнего и дальнего зарубежья: материалы Междунар. научно-теорет. конф. Витебск, 2007. *Т.С.Бубенька.*

**ВІ́ЦЕБСКАЯ УВАСКРАСЕ́НСКАЯ ЦАРКВА́**, помнік археалогіі ў г. Віцебск. Уніяцкі мураваны храм пабудаваны ў 2-й пал. 18 ст. на б. Рынкавай пл. каля ратушы (*Віцебскі Узгорскі астрог*). На месцы храма раней размяшчалася драўляная праваслаўная царква Уваскрашэння Хрыстова. Разбураны ў 1936. Даследавалі ў пач. 1990-х г. І.А. Цішкін, у 2001 і 2008 В.М.Ляўко. Храм быў узведзены на старых могілках 16—17 ст. і арыентаваны апсідай на Пн. Рэшткі выяўленых падчас будаўніцтва царквы пахаванняў былі перазахаваны ў спец. нішы ў цэнтры падмурка апсіды. Выяўлены таксама рэшткі падмуркаў капліцы, якая стаяла побач з царквой і была пабудавана ў 19 ст. (рэтраспектыўна-рус. стыль). У 2000-я г. храм адбудаваны на старым месцы.

*Літ.*: Сементовский А.М. Витебск, статистический очерк // ПКВГ на 1865 год. Санкт-Петербург, 1865; Витебская старина. Т. 1. Витебск, 1883; Цішкін І. Храм на рынку ў Віцебску // Віцебскі сшытак. 1996. № 2. *В.М.Ляўко.*

**ВІ́ЦЕБСКАЯ УЗГО́РСКАЯ СЛАБАДА́**, археалагічны помнік — пасад Віцебска 17—18 ст., тэр. паміж рэкамі Зах. Дзвіна і Віцьба, на Пн ад *Віцебскага Узгорскага астрога.* Абмежавана забудовай 17—18 ст. сучасных пл. Леніна, Смаленскага рынку, вул. Чэхава. У 16 ст. быў забудаваны толькі ўчастак паміж Ярковым ірвом, Ніжнім замкам і «вялікай дарогай вулічнай», на астатняй тэр. размяшчаліся гар. агароды. У 17 ст. забудавана ўся слабада, сфарміраваліся вуліцы Узгорская (сучасная вул. Суворава), Падтычынская, завулак Багаслоўскі (вул. Камуністычная); на Вострай-Спаскай гары (Вострая магіла) у межах цяперашняй пляцоўкі перад домам губернатара была пабудавана Спаская царква (не захавалася). Паводле інвентароў 1641 і 1664 у слабадзе жылі майстры па апрацоўцы жалеза і вырабе шкла. Археал. раскопкі і назіранні на тэр. Узгорскай слабады ў 1979, 1980—82, 1984, 2004—07 праводзіла В.М. Ляўко. Культ. пласт таўшч. да 1,7 м. Знойдзены вырабы з гліны, жалеза, шкла 17—18 ст. Шэры надмацерыковы пласт таўшч. да 0,2 м не мае археал. матэрыялаў. Ён перакрыты праслойкай гліны з пяском. Гэта дазваляе лічыць, што колер надмацерыковага пласта ўтварыўся ў выніку выкарыстання глебы пад агароды ў 15—16 ст. Потым, як сведчыць праслойка гліны з пяском, гэты ўчастак нейкі час пуставаў і быў забудаваны толькі ў 17—18 ст. Якраз у гэты час з'яўляецца ў пісьмовых крыніцах тэрмін «Слабада Узгорская». У 2007 у час пракладкі камунікацый па вуліцах Я.Купалы, Савецкая і Леніна былі зафіксаваны адразу за сцяною Узгорскага астрога (вул. Я.Купалы) адкладанні культ. пласта таўшч. да 2 м — чорнага колеру, насычаныя трэскамі і друзам; яны ўтрымлівалі фр-ты драўляных канструкцый. Па вул. Савецкая ў цёмна-шэрым пласце выяўлена размаляваная талерка 18 ст. У некаторых шурфах на вул. Леніна, паблізу Смаленскай пл. (даследаванні В.М.Ляўко 2004—07), на глыб. 0,7—1,8 м зафіксаваны чорны слой, які ўтрымлівае рэшткі драўляных і асобных каменных (цэгла памерамі 13× 5,5× 25,5 см на вапне) гар. пабудоў 18 ст. У траншэях з пластом шэрага колеру таўшч. 0,5—0,6 м выяўлены гасп. ямы-сметнікі з гліняным і шкляным посудам 17—19 ст. (донцы, венцы, накрыўкі, фр-ты шкляніц і інш.), а таксама рэшткі паграбоў з фр-тамі тарнага глінянага посуду, калодзежаў. Фіксуюцца 2 гарызонты культ. адкладанняў. Ніжні з іх датуецца 17—18 ст., верхні — 18—19 ст. Гэты ўчастак належыць да яшчэ не завершанай структурна гар. ускраіны. Тут у к. 17—18 ст. забудова свабодная, а ў 18—19 ст. больш шчыльная і рэгулярная. Матэрыялы захоўваюцца ў Віцебскім абл. краязнаўчым музеі і ІГ НАН Беларусі.

*Літ.*: Витебская старина. Т.1. Витебск, 1883; Левко О.Н. Витебск XIV—XVIII вв. Минск, 1984; Я е ж. Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси. Минск, 2004. *В.М.Ляўко.*

**ВІ́ЦЕБСКАЯ ЦАРКВА́ АРХА́НГЕЛА МІХАІ́ЛА**, помнік археалогіі на *Віцебскай Замкавай гары.* Пабудавана на дзяцінцы стараж. Віцебска, на тэр. княжацкага дворышча (пляцоўка Замкавай гары). Узвядзенне храма віцебскі летапіс прыпісвае княгіне Вользе. На самой справе царква магла быць пабудавана на мяжы 11—12 ст. ці ў 1-й чв. 12 ст. як патранальны храм у час вылучэння Віцебскай зямлі ў самастойнае княства. Рэшткі муроў царквы прасочаны ў час раскопак А.П.Сапунова ў 1895—96 на Замкавай гары, адзначаліся М.С.Рыўкіным у назіраннях за буд., землянымі работамі ля падэшвы б. Замкавай гары ў 1964. Плінфа, вапняковыя пліты, а таксама керамічныя паліваныя плІткі падлогі, фр-ты алавянага пакрыцця купала храма, аконнае шкло і залачоная смальта выяўлены ў раскопках на Верхнім замку Віцебска ў 1977, 1978, 1982, 1988 і 1993.Паводле атрыманых археолагамі дадзеных, першапачатковая царква была пабудавана ў мяшанай тэхніцы муроўкі, са схаваным радам плінфы таўшч. 3,7 см і часанага вапняку таўшч. 3— 3,5 см, мела драўляныя вокны з дыскападобнымі шыбамі зеленаватага колеру. Алтарная частка была аздоблена залачонай мазаікай, падлога вымашчана керамічнымі пліткамі стрэлападобнай і трохвугольнай формы. Стрэлападобныя пліткі мелі даўж. верхняй грані 11,5—12 см і шыр. 7,5 см, а ў вузкай частцы 4 см. Трохвугольныя — даўж. бакоў 7,5 см, таўшч. 2,5—3 см, бакі скошаны, ніжняя грань на 2—4 см карацейшая за верхнюю. Пліткі пакрыты палівай ярка-жоўтага (свінцова-крэменязёмнае шкло з вокісам жалеза ў якасці фарбавальніка) і травяніста-зялёнага (вокіс медзі і невял. дамешак вокісу волава) колераў, мацаваліся на рошчыне вапны і пяску ў роўных прапорцыях. Пясок сярэдняй зярністасці, з гранулямі

памерамі ад 0,25× 0,5 да 0,5× 1 мм. Кампазіцыйна малюнак падлогі ўяўляў сабой чаргаванне жоўтых і зялёных палос у абрамленні зубцоў такога ж колеру. Дах храма быў пакрыты алавянымі лістамі. Шкло з царквы зах.-еўрап. паходжання. Знешняе аблічча храма, магчыма, мела рысы, уласцівыя чарнігаўскай школе дойлідства, якая ў 12 ст. зрабіла пэўны ўплыў на фарміраванне архіт. школы Полацкай зямлі. Царква была разбурана або ў час пажару 1335, або ў час аблогі Віцебскага Верхняга замка вял. князем літ. Вітаўтам у 1396. Пазней яна аднаўлялася, але ў інш. тэхніцы і з інш. матэрыялу. На плане Віцебска 1664 царква паказана як драўляная. Гэта 2-камерны зруб, меншая камера з'яўляецца алтарнай часткай. Храм быў ўзведзены ў домабуд. традыцыі «хата+сенцы». Вокны прамавугольныя. Гал. фасад упрыгожвала невял. адкрытая галерэя з балясавай агароджай. Будынак завяршала чацверыковая шатровая вежачка. Паводле ліста М.Стрыйкоўскага (пач. 17 ст.), у царкве меўся абраз з выявай кн. Альгерда і яго жонкі ў доўгім плашчы.

*Літ.*: Калядзінскі Л.У. Віцебскі храм Св. Міхаіла // ВАНБ. Сер. гуманіт. навук. 1995. № 1; Я г о ж. О церкви Св. Михаила в Витебске (конец XI — начало XII века) // Проблемы изучения древнерусского зодчества (по материалам архитектурно-археологических чтений, посвященных памяти П.А.Раппопорта, 15—19 января 1990 г.). Санкт-Петербург, 1996.

*Л.У.Калядзінскі.*

**ВІ́ЦЕБСКАЯ ЦАРКВА́ ЗВЕСТАВА́ННЯ**, Віцебская Благавешчанская царква, помнік старажытнай архітэктуры. Пабудавана ў 1-й пал. — сяр. 12 ст. ў Віцебску на левым беразе р. Зах. Дзвіна, на тэр. Ніжняга замка. У 14—19 ст. неаднаразова перабудоўвалася. Першапачаткова ўяўляла сабой выцягнутую 3-нефавую і 6-слупавую пабудову, якая мела з У паўкруглую апсіду і 2 паўкруглыя нішы ў тоўшчы ўсх. сцяны. Шыр. храма 11,1 м, даўж. без апсіды 18,2 м, з апсідай — 21 м. У зах. сцяне (таўшч. каля 1,5 м) размяшчалася лесвіца, якая вяла на хоры. Таўшч. астатніх сцен каля 1,1 м. Фасады і інтэр'еры царквы былі ўпрыгожаны плоскімі 1-ступеньчатымі лапаткамі (шыр. вонкавых лапатак 0,8 м). Апсіду аздаблялі плоскія вертыкальныя цягі. Сцены будынка былі складзены ў тэхніцы дэкаратыўнай мяшанай муроўкі (часаныя вапняковыя блокі чаргаваліся з радамі плінфы) мелі закамары, на якія абапіраўся дах. Знешнія муры храма былі пакрыты вапнавай абмазкай, размаляванай белымі палоскамі шыр. 1,5 см, адпаведна памерам каменных блокаў. У муроўцы выкарыстоўвалася плінфа памерамі 3—3,7 × 19—20 × 27—29 см (асн. фармат), 2,8 × 15 × 21 см і 6 × 27 × 30 см. На тарцах і шырокіх баках плінфы трапляюцца знакі і клеймы. Царква мела фрэскавую размалёўку. Упершыню помнік у к. 19 ст. даследаваў А.М. Паўлінаў, ён падрабязна апісаў муроўку 12 ст., склаў план храма і прапанаваў яго рэканструкцыю. У 1944 абмеры царквы, пашкоджанай у Вял. Айч. вайну, зрабіў П.Браноўскі. У 1961 храм зруйнаваны. Раскопкі рэшткаў будынка праводзілі ў 1964 Г.В.Штыхаў, у 1968 М.К.Каргер. Была вызначана глыбіня падмуркаў, складзеных з невял. камянёў, не змацаваных рошчынай, і сцен, амаль на метр укапаных у мацярык. У 1977 рэшткі храма закансерваваны. У 1982 іх даследавалі А.А.Трусаў, П.А.Рапапорт і Т.С.Бубенька. У выніку раскопак устаноўлена, што падлога складзена з невял. часаных камянёў, яе ўзровень падняты на 105 см над цокалем будынка. Пад першапачатковай падлогай на глыб. да 1 м знаходзіцца пласт вапнавай рошчыны з дамешкамі дробных камянёў, пад якім залягае культ. пласт (0,4— 0,6 м) з керамікай 11—1-й чв. 12 ст. У 1997 храм адбудаваны на старым падмурку ў адпаведнасці з рэканструкцыяй яго выгляду ў 12 ст. (архіт. Г.А.Лаўрэцкі).

*Літ.*: Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2. Минск, 1972; Раппопорт П.А. Русская архитектура X—XIII вв.: кат. памятников. Ленинград, 1982; Трусов О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв.: архит.-археол. анализ. Минск, 1988.

*А.А.Трусаў.*

**ВІ́ЦЕБСКІ ВЕ́РХНІ ЗА́МАК**, помнік археалогіі ў г. Віцебск, гіст. зона, размешчаная ў цэнтр. частцы сучаснага горада. З Пн абмяжоўваецца р. Віцьба, з З — Дзвіной. З напольнага боку ахопліваецца *Віцебскім Ніжнім замкам*: з Пд — вул. Замкавай, з У — вул. Леніна. Знешніх прыкмет, акрамя дамінант у 2—3 м у зах. і паўн.-ўсх. частках, не захаваў. Помнік моцна пашкоджаны ў час земляных работ, што адбываліся тут у 2-й пал. 19 ст., шчыльна забудаваны ў 1950—90-я г. У 1957, 1971 і 1980 узяты пад ахову дзяржавы. Археал. раскопкі на В.В.з. праводзілі А.П.Сапуноў у 1895—96 (ускрыта пл. 450 $м^2$), В.М.Ляўко ў 1976 (вывучана пл. 180 $м^2$ на глыб. да 3 м), М.А.Ткачоў і Л.У.Калядзінскі ў 1977—78, Л.У.Калядзінскі ў 1979, 1982— 83, 1988 і 1993. Агульная пл., вывуча-




*Рэканструкцыя галоўнага фасада **Віцебскай царквы Звеставання** ў 12 ст. (1) і ў 18 ст. (2).*

ная даследчыкамі, 1996 м$^2$, з якіх 588 м$^2$ былі распрацаваны да мацерыка. У 1994 раскопкі праводзіла Т.С.Бубенька (ускрыта пл. 42 м$^2$). Земляныя работы і збор пад'ёмнага матэрыялу ажыццяўлялі ў 2-й пал. 19 ст. В.П.Федаровіч, Н.Я.Нікіфароўскі, Е.Р.Раманаў, у 1928 А.М.Ляўданскі і С.А. Дубінскі, у 1950—90-я г. Б.А.Колчын, М.С.Рыўкін, І.А.Цішкін, Г.В.Штыхаў, В.М.Ляўко, М.А. Ткачоў і Л.У.Калядзінскі, у пач. 2000-х г. — В.М.Ляўко. Культ. пласт таўшч. 6—6,8 м, месцамі да 8—13,7 м; утрымлівае матэрыялы ад бронзавага і ранняга жал. вякоў да позняга феадалізму і новага часу. Залягае нераўнамерна з-за спецыфікі стараж. рэльефу мясцовасці, на фарміраванне якога зрабілі ўплыў 2 узвышшы; адно ля вусця Віцьбы, другое, на якім у ранні жал. век размяшчалася гарадзішча, у 15 м на У ад яго. Пры раскопках В.В.з. археолагамі вылучаны 4 стратыграфічныя пласты. Баластны пласт 20—18 ст. таўшч. 1,2—3,2 м; пласт 17 ст. — 0,5—1,2 м, які часам захоўвае рэчы арганічнага паходжання, напр., вырабы са скуры і рэшткі драўлянай забудовы, утрымлівае гумусу да 14,5%. Пласт 16 — 2-й пал. 12 ст. мае таўшч. 3,3, м, добра захоўвае рэчы арганічнага паходжання і рэшткі стараж. драўлянай забудовы, утрымлівае гумусу да 19,4% у верхніх напластаваннях і да 20,51% — у ніжніх. Слой 11—9 ст. таўшч. 3—3,7 м, амаль не захоўвае, за выключэннем косці, рэчаў арганічнага паходжання, утрымлівае гумусу да 23,6%; часам сустракаюцца матэрыялы больш ранняга часу: 3-й чв. 1-га тыс. і ранняга жал. веку. У тапаграфічных адносінах В.В.з. займаў месца дзяцінца Віцебска 12—13 ст., меў трапецападобную ў плане форму і займаў пл. 4 га. У 1-й пал. 14 ст., пры вял. князі літ. Альгердзе, на земляным вале дзяцінца быў пастаўлены мур «з баштамі вынеслымі і вежамі». З 1351, як сведчаць пісьмовыя крыніцы, Віцебскі дзяцінец атрымаў назву — Верхні замак Віцебска. Рэшткі яго абарончых збудаванняў зафіксаваны ў паўн. частцы Верхняга замка раскопкамі М.А.Ткачова ў 1978 і прасочаны ў ходзе буд. работ у 2005 В.М.Ляўко ў яго паўд. частцы. Умацаванні 14 ст. уяўлялі сабою магутную сцяну з валуноў памерамі 44—50 × 70—80 см на вапнавай рошчыне з забутоўкай з дробнага каменю. Сцяна таўшч. ў аснаванні больш за 2 м была ўпушчана на глыб. 0,5 м і прайшла па грэбені вала, па знешнім схіле якога мелася каменная вымастка. Па перыметры сцяны, што ахоплівала В.В.з. у гэты час, стаялі 8 вежаў. Іх памеры ў аснавання былі 7 × 7 і 9,9 × 8,8 м. Абарончыя збудаванні Верхняга і Ніжняга замкаў складалі адзіную сістэму ўмацаванняў Віцебска ў 14 ст. На пач. 15 ст. В.В.з. меў яшчэ каменныя ўмацаванні. Аб гэтым сведчыць запіс у летапісе: «Витебск три стены каменны», пацверджаны археал. даследаваннямі. Першай лініяй абароны была каменная сцяна Ніжняга замка, другой — лінія ўмацаванняў Верхняга замка, трэцяя сцяна праходзіла па краі пляцоўкі Замкавай гары ў яе зах. частцы. У 1-й пал. 16 ст. В.В.з. у цэлым захоўваў аблічча каменнага. Аднак, паводле Літ. хронікі сяр. 16 ст., Верхні замак быў моцна пашкоджаны. Разбураныя ўчасткі сцен замка аднаўляліся з дрэва ў зрубавай тэхніцы — «гароднямі», рэшткі якіх былі прасочаны ў буд. траншэі ля паўд.-ўсх. вугла будынка драмтэатра імя Я.Коласа Л.У.Калядзінскім у 1983. Аснаванне вала ў гэты час было ўмацавана магутнымі палямі. Раскопкамі і назіраннямі за буд. работамі ў зоне размяшчэння пясчанага насыпу В.В.з. былі выяўлены палі таўшч. 20—50 см і даўж. больш за 3 м, зацёсаныя на конус. Дэндрадата гэтых паляў — першае дзесяцігоддзе 16 ст. У 1-й пал. 17 ст. В.В.з. яшчэ часткова захоўваў каменныя ўмацаванні, якія ўсё больш замяняліся драўлянымі. Інвентары 1638—41 адзначаюць, што «Вышні замак моцна разбураны» і наз. «Вялікую вышнюю башту», «башту Круглікову», «фортку да Віцьбы», г.зн. каменную сцяну, што ішла да «брамы Великой». Знешняе аблічча В.В.з. 2-й пал. 17 ст. моцна змянілася ў выніку капітальнага рамонту пасля жорсткай аблогі горада ў 1654, пасля чаго ён да 1667 знаходзіўся пад уладай Расіі. На месцы разбураных участкаў каменнай сцяны ў гэты час узводзіліся з дрэва сцены і вежы, аснаванні якіх нярэдка яшчэ заставаліся каменнымі. Гэтыя абарончыя збудаванні змешчаны на чарцяжы Віцебска 1664 і апісаны ў Сметных кнігах Віцебска 1665—66. Амаль без істотных змен сваё аблічча В.В.з. захоўваў да Паўн. вайны 1700—21, калі ў 1708 быў спалены. Аснову планіроўкі замка складалі мошчаныя вуліцы, падпарадкаваныя мясц. рэльефу. Ускрыты 6 ярусаў вулічных маставых 13—16 ст., якія насціляліся з дошак, аполкаў,



*Агульны выгляд раскопу на тэрыторыі **Віцебскага Верхняга замка** ў 1978.*

бярвён; шыр. іх была каля 2 м. Яны ішлі ў напрамку З—У і вялі на Замкавую гару. Вуліцы 17 ст. мелі шыр. да 5 м. Апошнія 2 ярусы гэтай вуліцы былі пракладзены ў напрамку Пн—Пд. У 2-й пал. 17 ст. адбылося перапланаванне В.В.з., выклікане агульнымі зменамі ў планіроўцы Віцебска. Гэта прасочана на ўчастку раскопу 1977, дзе на месцы жылой забудовы больш ранняга часу пралягала вулічная маставая, узведзеная з бярвён рубкі 1661 і пазначаная на плане Віцебска 1664. Домабудаванне прадстаўлена знаходкамі больш за 70 пабудоў жылога і гасп. прызначэння. Пры ўзвядзенні В.В.з. выкарыстоўвалася сасновае, яловае і ў меншай ступені дубовае дрэва. Жытлы і клеці будавалі ў зрубавай тэхніцы, хлявы — у слупавой і зрубавай. У 14—17 ст. ў параўнанні з мінулымі часамі пл. жытлаў павялічваецца да 36—42 м$^2$. Усе пабудовы замка незалежна ад прызначэння і часу ўзвядзення мелі добраўпарадкаваную падлогу і ставіліся на фундамент, які рабіўся з абрубкаў бярвён — падкладкі пад вуглы і сцены зруба, слупы — палі, штандары, дылі, рэшткі ранейшых збудаванняў. Печы да 16 ст. былі глінабітныя, з 17 ст. — цагляныя. Аздабленне печы кафляй назіраецца з 15 ст.: з пачатку пасудападобная, з 16 ст. — рамачная. Дах зрубавых пабудоў 2-схільны на лемягах, у пабудовах слупавой канструкцыі — 1-схільны, на сохах. На плане Віцебска 1664 пазначаны і з 4-схільным дахам. Пакрыццё дахаў было з бярвён рубкі — «тарціцы», у 16 ст. вядома таксама і гонтавае (знойдзена дубовая дошчачка — гонт). Пакрыццё керамічнай дахоўкай — чарапіцай, уласціва, відаць, для камяніц — замкавых вежаў. Форма столі ў 16 ст. была скляпеністай. Кампазіцыйна пабудовы В.В.з. аб'ядноўваліся ў сядзібы, якія нагадвалі ў плане вяночны двор, вядомы ў традыцыйным домабудаўніцтве Паўн. Беларусі. У час раскопак замка выяўлена больш за 3 тыс. знаходак, якія характарызуюць матэрыяльную і гасп. дзейнасць яго насельніцтва: вырабы з металу, дрэва, косці, скуры, каменю, шкла і гліны. Храналагічна яны прысутнічаюць ва ўсіх пластах, але найчасцей сустракаюцца ў напластаваннях к. 13 — пач. 14 ст. і 17 ст. Па функцыянальным прызначэнні гэтыя рэчы прадстаўлены прыладамі працы, прадметамі вайсковай справы і хатняга ўжытку, упрыгажэннямі. Найб. важныя знаходкі: крышталёвы гузік 15—16 ст., частка маёлікавай талеркі 16—17 ст. італьянскай вытворчасці, нагрудны крыж 15—16 ст. з клеймамі, больш за 20 каменных ядраў, кафля з геральдычнымі матывамі. Тапаграфічнае апісанне В.В.з. ў 16 ст. пакінулі М.Стрыйкоўскі і А.Гваньіні, у пач. 19 ст. — Р.Пінкертон, у сяр. 19 ст. — Д.Мацкевіч, у 2-й пал. і ў к. 19 ст. Н.Я.Нікіфароўскі і А.П.Сапуноў. Знешні выгляд замка адлюстраваны на карце ВКЛ 16 ст., плане Віцебска 1664, акварэлях Ю.Пешкі пач. 19 ст., фотаздымках С.Юркоўскага і С.Пракудзіна-Горскага пач. 20 ст. Матэрыялы раскопак з В.В.з. ў асн. захоўваюцца ў Віцебскім абл. краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Колединский Л. Аксиомы, теоремы и софизмы в интерпретации становления Верхнего замка Витебска // Castrum, urbis et bellum: зб. навук. прац. Баранавічы, 2002; Яго ж. Замак Віцебскі // Zamek i dwór w średniowieczu. Materiały XIX Seminarium Mediewistycznego. Poznań, 2001; Ткачев М.А. Замки Белоруссии. Минск, 1987.

*Л.У.Калядзінскі.*

**ВІ́ЦЕБСКІ ГУБЕ́РНСКІ СТАТЫСТЫ́ЧНЫ КАМІТЭ́Т**, афіцыйная ўстанова ў Віцебску ў 1835—36, 1853—1917, якая займалася зборам статыстычных звестак пра губерню, яе паветы, гарады, насельніцтва, прамысловасць, колькасць зямель і інш. На падставе правераных і апрацаваных звестак складаліся статыстычныя ведамасці і табліцы, якія прадстаўляліся ў Цэнтр. статыстычны к-т, а таксама прыкладаліся да гадавых справаздач віцебскіх губернатараў пра становішча ў губерні. Створаны 4.5.1835, працаваў да жніўня 1836, пасля чаго з-за адсутнасці матэрыяльных сродкаў закрыты. Аднавіў дзейнасць 15.4.1853, але да 1863 існаваў намінальна, вынікі дзейнасці былі вельмі нязначныя. Больш плённа працаваў з 22.9.1863 да 1917. Старшынёй к-та з'яўляўся губернатар. У склад к-та ўваходзілі памочнікі старшыні, сакратар, неадменныя, правадзейныя і ганаровыя члены. У розны час сакратарамі і справаводамі к-та працавалі К.А.*Гаворскі*, А.М.*Семянтоўскі*, А.П.*Сапуноў*, А.М.Сазонаў. Сабраныя матэрыялы друкаваліся ў «*Витебских губернских ведомостях*», «Памятных кніжках Віцебскай губерні» і асобных манаграфіях. К-т па меры неабходнасці збіраўся на чарговыя сходы, пратаколы якіх друкаваліся ў «Витебских губернских ведомостях». Справаздачы пра дзейнасць за год дасылаліся ў Цэнтр. статыстычны к-т. 29.10.1868 пры к-це створаны музей старажытнасцей. Аснову яго фондаў склалі рэчавыя ахвяраванні М.Ф.*Кусцінскага*, В.П.*Федаровіча*, М.Я.Нікіфароўскага і інш. У 1890 Е.Р.*Раманаў* перадаў музею 200 прадметаў з раскопак Люцынскага могільніка. К-там распаўсюджваліся *апытальныя лісты* і збіраліся звесткі пра гарадзішчы, курганы і могільнікі для складання археал. карты Віцебскай губ. Падтрымліваў цесныя сувязі з Маскоўскім археал. т-вам і *археалагічнай камісіяй* у Пецярбургу. Члены к-та ўдзельнічалі ў рабоце археал. з'ездаў.

*Літ.:* Сапунов А. Исторический очерк 50-летия Витебского губернского статистического комитета. Витебск, 1913.

*Л.У.Хмяльніцкая.*

**ВІ́ЦЕБСКІ ДЗЯЦІ́НЕЦ**, гістарычнае ядро сярэдневяковага Віцебска. Да 11 ст. размяшчаўся на гарадзішчы ранняга жал. веку на р. Віцьба, вядомага ў пісьмовых крыніцах пад назвамі Замкавая гара, гара Ламіха, Ваксальная гара (гл. *Віцебская Замкавая гара*). Пляцоўка авальнай формы, выцягнутая па восі ПнЗ—ПдУ, умацаваная па краі земляным валам, займала пл. 0,7 га. У 2-й пал. 1130-х г. пачалося будаўніцтва новых абарончых збудаванняў, якое завершылася к 1140-м г. Новая лінія ўмацаванняў ахапіла і частку пасада, што размяшчаўся ў 10—11 ст. на востраве ў сутоку Дзвіны і Віцьбы. Будаўніцтва вала, паводле да-

дзеных дэндрахраналогіі, атрыманых са спілаў унутрывальных канструкцый, доўжылася з 1136 па 1140. На ўзвядзенне ўнутрывальных канструкцый В. дз. было вырублена 2772 $м^3$ лесу, альбо 46 216 ствалоў дрэва, якія маглі б займаць пл. ў 12—14 га. Аб'ём грунту на ўзвядзенне вала склаў 17 748 $м^3$. Для рэалізацыі гэтых работ спатрэбілася б 20 361 чалавека-дзён, або каля 140 чал. на 150 прац. дзён. Паводле дадзеных палеабатанікі, атрыманых пры вывучэнні зерня і пладоў з гумусаваных праслоек насыпу вала, работы па ўзвядзенні вала праводзіліся ў маі—кастрычніку, яго перыметр у 12—13 ст. складаў 770 м, шыр. падножжа — 14 м, выш. — 6 м, стромкасць схілаў 45—50°. Ядро было арміравана драўлянай субструкцыяй, выкананай у перакладной тэхніцы, аснову якой складалі лагі даўж. 4—8 м, а на іх кладзіся бярвёны даўж. 4 м, утвараючы накат. Па шырыні вала такіх накатаў было 3, а па вышыні — 12. Узвядзенне вала, верагодна, звязана з княжаннем у Віцебску кн. Васількі Святаславіча — унука Усяслава Полацкага. Аналаг будовы ўнутрывальных канструкцый В.дз. поўнасцю адпавядае ўнутрывальным канструкцыям Мінскага замчышча. Пл. В.дз. к 13 ст. складала 4 га. Пляцоўка паступова набывае авальна-трапецападобную форму. Структурна падзялялася на 2 часткі — княжацкі двор, які згадваецца ў пісьмовых крыніцах паміж 1271 і 1289, з царквой св. Міхаіла, размешчанай на Віцебскай Замкавай гары, і тэр., якая займала прастору ад Замкавай гары да мыса на ўзвышшы, утвораным Дзвіной і Віцьбай. Сувязь паміж княжацкім дваром і астатняй тэр. дзяцінца ажыццяўлялася па вуліцы, што падымалася па схіле гарадзішча. Участкі насцілаў вуліцы прасочаны раскопкамі 1977. Шыр. маставых у 12—13 ст. дасягала 2 м. Уздоўж яе размяшчаліся сядзібы, якія размяжоўваліся частаколам. Сядзіба складалася з жылой і 3—5 пабудоў гасп. прызначэння (пры раскопках выяўлена каля 30 пабудоў). Жытлы-зрубы пл. 20—25 $м^2$, гасп. пабудовы, клеці і хлявы выконваліся ў зрубавай і слупавой тэхніцы. Аналіз рэчавага матэрыялу дазваляе сцвярджаць, што значная большасць прадметаў: узбраенне, прылады працы, рэчы побыту і ўпрыгажэнні — мела мясц. паходжанне і адносілася да штодзённага побыту насельніцтва В.дз. Рэчы прывазнога паходжання сведчаць аб гандл. сувязях з пaўд.-рус. землямі, візантыйскімі калоніямі, Каўказам, Блізкім Усходам, Прыбалтыкай. Дзяцінец Віцебска 12—13 ст. не ператварыўся ў арыстакратычны цэнтр, але меў рысы, уласцівыя для большасці ўдзельных цэнтраў таго часу, напр., Полацк, Мінск, Берасце, Слуцк і інш. Асн. насельніцтва гарадоў займалася рамяством, сельскай гаспадаркай, промысламі, гандлем, накіраванымі на ўласныя патрэбы і патрэбу княжацкага двара. Да сяр. 14 ст. вакол В.дз. ўзводзяцца каменныя ўмацаванні; менавіта з гэтага часу ён атрымлівае назву і статус Віцебскага Верхняга замка, археал. раскопкі якога правялі ў 1977—78 М.А.Ткачоў і Л.У.Калядзінскі, у 1979, 1983, 1988 і 1993 — Л.У. Калядзінскі, у 1994 — Т.С.Бубенька.

*Літ.*: К а л я д з і н с к і Л.У. Пра абарончы вал дзяцінца летапіснага Віцебска // Заслаўскія чытанні 1995 г.: матэрыялы міжнар. канф. «Гісторыя і культура Заслаўя ў святле агульнанацыянальных праблем». Заслаўе, 1997; Я г о ж. «Витебск — три стены каменные...» // БГЧ. 1995. № 2.

*Л.У.Калядзінскі.*



*Раскопкі 1984 на **Віцебскім Ніжнім замку**.*

**ВІ́ЦЕБСКІ НІ́ЖНІ ЗА́МАК**, археалагічны помнік у Віцебску. Далучаўся да *Віцебскага Верхняга замка* з Пд і ПдУ. Пл. 7—7,5 га. З У і Пд абмежаваны *Віцебскім Пілатавым ручаём*, з З — р. Зах. Дзвіна.

Паводле пісьмовых крыніц замак узведзены каля 1320—50-х г. кн. Альгердам як знешняя лінія абароны вакол *Віцебскага пасада*. Даследаваннямі ўстаноўлена, што фартыфікацыйныя ўмацаванні ствараліся ў 2 этапы: спачатку ўзводзіўся каменны пояс, пазней дадатковыя глініста-земляныя ўмацаванні. У інвентары горада 1638 і «Каштарысных кнігах» за 1655 змешчаны апісанні віцебскіх замкаў, што дазваляе ўзнавіць іх першапачатковы выгляд. Даўж. ўмацаванняў Ніжняга замка складала 1160 м (амаль у 2 разы больш за аналагічны памер Верхняга замка). З вонкавага боку крапасныя сцены былі ўмацаваны абарончым валам, які адсутнічаў толькі ў месцах будаўніцтва вежаў, што выступалі за перыметр сцен. Лінія ўмацаванняў уяўляла сабой 7-вежавы комплекс каменных збудаванняў, у які ўваходзілі 3 брамы: Завіцебная, Задунайская, Жыдоўская. Усе «глухія» вежы размяшчаліся ўздоўж усх. і паўд.-усх. мяжы горада, што сведчыць не толькі пра слабыя ўчасткі ў сістэме абароны, але і пра накірунак верагоднага ўдару праціўніка. Абарончыя сцены замка (таўшч. 1,6—3,2 м у залежнасці ад стратэгічных асаблівасцей мясцовасці) рабілі з валуннага каменю на вапне ў тэхніцы «grand appereil». Выш. вежаў, якія мелі не больш за 3 ярусы, дасягала 12—13 м. У першапачатковым вы-

глядзе мураваныя замкі праіснавалі параўнальна нядоўга, бо з 1393 яны не менш 3 разоў цярпелі страты пад час ваенных дзеянняў, пакуль не былі дашчэнту разбураны кн. Міхаілам Жыгімонтавічам у 1437. У к. 15 ст. вял. князь літ. Аляксандр загадаў давесці Віцебскі замак да стану, годнага для абароны. Пасля рамонту Ніжні замак ператварыўся ў камбінаванае драўляна-мураванае ўмацаванне, якое да 18 ст. стала цалкам драўляным. У 14—16 ст. ваенна-абарончы фактар быў найважнейшым у агульнай сістэме планіроўкі горада. Патрабаванні абароны абумоўлівалі кампактнасць забудовы, прасторавую замкнёнасць Віцебска. Гандл. плошчы са старараж.-рус. часоў па-ранейшаму з'яўляліся планіровачнымі цэнтрамі, да якіх сцягваліся гар. вуліцы, са своеасаблівым, здалёк бачным арыенцірам — царквою. Ва ўсх. частцы замка знаходзілася Пятніцкая (пазней Аляксееўская) царква, у зах. — *Віцебская царква Звеставання*. На Пн ад яе ў 16—18 ст. знаходзіліся могілкі, якія аддзяляліся ад гар. кварталаў вул. Вялікай. Вулічная планіроўка эканамічнага цэнтра склалася ў асн. ў 12—13 ст. і заставалася нязменнай амаль да к. 16 ст. Ва ўсх. частцы замка вуліцы Вялікая, Вял. Задунайская і завулак Кузьмадзям'янаўскі кальцом абкружалі гандл. плошчу і злучалі горад з мяжуючымі пасадамі праз Завіцебную і Задунайскую брамы. Сучасная гал. гар. магістраль — вул. Леніна, а тады Вялікая — вядзе праз увесь Ніжні замак да Заручайскай праезджай брамы, паўтараючы канфігурацыю абарончых умацаванняў. Пад час археал. даследаванняў былі ўскрыты 4—5 ярусаў замошчвання вул. Вялікая, што дазволіла прасачыць планіроўку цэнтр. і зах. частак Ніжняга замка з пач. 16 ст. Дэталёвае вывучэнне чарцяжоў і планаў Віцебска 17—19 ст. з дапамогаю пісьмовых і археал. матэрыялаў узнаўляе вулічную планіроўку к. 16 — 18 ст. гэтага раёна. Паралельна цэнтр. магістралі каля падножжа Замкавай гары праходзіла вуліца, якая злучала Жыдоўскую браму з Валконскім круглікам, яшчэ адна — ад Верхняга замка да вул. Вялікай і да рынку каля царквы Звеставання. Вуліцы замошчваліся хваёвымі бярвёнамі ці плахамі шыр. 24—32 см. Шыр. цэнтр. вуліц дасягала 4,5—5 м, другарадных — не больш за 3—3,5 м. Для Ніжняга замка характэрна шчыльная сядзібная забудова. Асн. частка насельніцтва жыла ў аднакамерных хатах, рубленых у «верхняе абло» з астаткам або «чысты вугал» і накрытых дошкамі або драніцай. Зрубы ў асн. пл. 14,5—20 м$^2$, ставілі на драўляныя падкладкі, мелі дашчаную падлогу на лагах, глінабітную печ з дамешкам каменю, якую палілі па-чорнаму. Гар. бедната жыла найчасцей на пасадах, больш заможнае насельніцтва — рамеснікі, купцы — за замкавымі сценамі. У к. 16 ст. паявіліся дамы складанай канструкцыі і шматпавярховыя на высокіх падклеццях жылога або гасп. прызначэння, часам — вытворчага (напр., кастарэзныя, ювелірныя і інш. майстэрні). Верхнія паверхі такіх дамоў займалі жылыя памяшканні — святліцы з кафлянымі печамі і дымаходамі. Побач з гандлярамі і рамеснікамі на тэр. Ніжняга замка жылі баяры і князі. У непасрэднай блізкасці ад царквы ўскрыты адзін з дамоў Самуіла Агінскага. Далей па вуліцы былі сядзібы Пірагова, Леаніда Граковіча, кн. Друцкага-Сакалінскага і інш. багатых гараджан, пра што сведчаць выяўленыя на кафляных печах гербы ўладальнікаў. Тып багатага гар. будынка вывучаны на прыкладзе дома Шапкі і дома-палаца кн. Агінскага. Дом Шапкі складаўся з 2 размешчаных пад вуглом карпусоў, 2-павярховых жылых памяшканняў, меў высокі ўваход у выглядзе 8-граннай вежы, якая паўтарала форму «круглікаў» віцебскіх замкаў. Дом Агінскага з высокім падклеццем, быў абкружаны адкрытай галерэяй, да яго прымыкаў 6-гранны аб'ём (у выглядзе вежы з шатром) з шырокай знадворнай лесвіцай. З усх. боку дома была прыбудавана вежа з купалам і шпілем, якая адыгрывала ролю хатняй царквы.

Археал. даследаванне пачаў у 1963 Г.В.Штыхаў, які ў зах. частцы замка раскапаў 572 м$^2$ (1963—64, 1966, 1972). Выяўлены 3 ярусы вул. Вялікая, бытавая забудова 14—18 ст., сляды перабудовы царквы кн. Альгерда (14 ст.), ускрыты стараж. прытворы царквы Звеставання. У 1976 раскопкі праводзіла В.М.Ляўко (108 м$^2$) на ПдЗ ад рэштак царквы Звеставання, зафіксавала аснову Замкавай гары, на якой размяшчаўся Верхні замак, даследавала вулічную планіроўку ў цэнтр.



*Да арт.* ***Віцебскі Ніжні замак****. Падклет жылога будынка.*

частцы Ніжняга замка. У 1977—78 раскопкі ў цэнтр. і ўсх. частках замка праводзіў М.А.Ткачоў (40 м$^2$), у 1979 на паўд.-ўсх. ускраіне — М.А. Дзмітрыеў (100 м$^2$). У 1981—89, 1992—97 замак даследавала Т.С.Бубенька (звыш 5 тыс. м$^2$), у розных яго частках выявіла да 5 ярусаў замошчвання вул. Вялікая, 95 пабудоў living рознага прызначэння, 2 драўляныя дрэнажныя сістэмы. Найб. значныя раскапаныя аб'екты — каменная вежа 14 ст. «Духаўскі круглік», фр-т Праезджай Задунайскай форткі (мал. брамы) 17 ст., частка сядзібы кн. Агінскага 17 ст. са шматпавярховымі дамамі на падклецціях, карчма 17—18 ст. Пад час раскопак 1993—97 у зоне рэстаўрацыі царквы Звеставання Т.С.Бубенька выявіла пахавальны інвентар 16—18 ст., ускрыла і даследавала бабінцы царквы 14 ст.

На тэр. В.н.з. знойдзены прылады працы кавалёў, ювеліраў, рэзчыкаў па косці, дрэве, камені; цесляроў, шкларобаў, гарбароў, ткачоў, ганчароў, а таксама прадметы побыту, зброя, упрыгажэнні, цацкі. Сярод рэдкіх знаходак — крыж-складзень з выявай велікамучаніка Мікіты (14 ст.), касцяны нагрудны крыж з біблейскімі сюжэтамі на адным баку і абліччамі св. Міколы, Сергія і Нікана Раданежскіх на другім (15—16 ст.), кляймо майстра-шклароба (17 ст.), касцяныя пячаткі Леаніда Граковіча і Пірагова (17—18 ст.), шкляная ўстаўка ў пярсцёнак (гема) з выявай кн. Агінскага (17 ст.).

*Літ.*: Б у б е н ь к о Т.С. Раскопки окольного города феодального Витебска // АО 1982. М., 1984; Я е ж. Жыллё феадальнага Віцебска (па матэрыялах даследаванняў Ніжняга замка) // З глыбі вякоў. Наш край: гіст.-культуралаг. зб. Мінск, 1992; Я е ж. Планировка и застройка посада средневекового Витебска // ГАЗ. Мінск, 1996. № 2; Т к а ч о ў М.А., Б у б е н ь к а Т.С. Да пытання аб каменных умацаваннях Дольнага замка Віцебска // Там жа. Мінск, 1999. № 2, ч. 2.

*Т.С.Бубенька.*

**ВІЦЕБСКІ ПІЛА́ТАЎ РУЧА́Й**, З а м к а в ы р у ч а й, археалагічныя помнікі на тэрыторыі сучаснага Віцебска. Планы Віцебска к. 18 — пач. 20 ст. дазваляюць прасачыць фарміраванне ў яго гіст. частцы (уключаючы замкі і навакольныя слабоды) рэгулярнай планіроўкі і забудовы кварталаў, а таксама тыя змяненні, якія адбываліся з цягам часу. Супастаўленне гэтых планаў дае магчымасць удакладніць і прывязаць да рэальна існуючых аб'ектаў тыя рэшткі пабудоў, якія выяўляюцца ў працэсе археал. даследаванняў.

Пілатаў (Замкавы) ручай, які часам наз. Безыменным, абазначаны не толькі на планах к. 18 — пач. 20 ст., але і на «Чарцяжы» г. Віцебска 1664. Пачынаючы з гэтага «Чарцяжа...», траса гал. вуліцы Ніжняга замка — Вялікая, якая паварочвае каля царквы Звеставання ў бок Заручаўя, падаецца нязменна на планах к. 18 ст., 1825, 1904. Шэраг збудаванняў, абазначаных на гэтых планах, добра лакалізуецца на мясцовасці. Гэта царква Дабравешчання на тэр. Ніжняга замка і з паўн. боку ад яе фарны касцёл, які на плане 1904 абазначаны ўжо як губернскі архіў. Падмуркі фарнага касцёла вывучаліся і былі прывязаны да царквы Звеставання В.М.Ляўко ў 1976. У паўд.-зах. вугле раскопу на Ніжнім замку з паўд. боку царквы Звеставання быў зафіксаваны паварот вул. Вялікая ў бок Заручаўя. У Заручаўі на гэтых жа планах пазначаны 4 культавыя аб'екты: царква Нараджэння Божага, Уваскрасенская (Заручаўская), Пакроўская (касцёл манастыра трынітарыяў), а таксама базыльянскі кляштар (Духаўская царква і жаночае духоўнае вучылішча). Пакроўская царква і цяпер знаходзіцца на тым месцы, дзе ў пач. 19 ст. быў пабудаваны мураваны касцёл трынітарыяў. Духаўская царква разам з манастырскімі пабудовамі даследавана і прывязана да сучаснага плана В.М.Ляўко ў 1986. Цэрквы Нараджэння Божага і Уваскрасенскую (Заручаўскую) не ўяўлялася магчымым лакалізаваць на мясцовасці, таму што вуліцы, на якіх яны былі размешчаны і якія звязвалі раней тэр. Ніжняга замка з Заручаўем, моцна перапланаваны. Вуліца Заручаўская, пазначаная на плане 1825, ужо на плане 1904 стала Магілёўскай. Усе 3 планы захоўваюць таксама з паўд. боку Пілатава ручая пляцоўку з царквою Нараджэння Божага. На плане 1904 пляцоўка мае назву Набярэжнай Нараджэння Божага. Да яе далучаецца аднайменны завулак, які праходзіў уздоўж храма з яго паўд. боку. Працягам завулка ва ўсх. напрамку была Духаўская набярэжная, якая падыходзіла да манастырскага комплексу на гары. Пры супастаўленні плана 1904 з сучасным планам Віцебска і з улікам даследаванняў, праведзеных В.М.Ляўко ў 2006—09 на тэр. Пілатава ручая, высветлена, што 2 праваслаўныя храмы, адлюстраваныя на плане 1904, — цэрквы Уваскрасенская (Заручаўская) і Нараджэння Божага — апынуліся ў зоне буд. работ. Распрацоўка грунту ў паўд.-зах. частцы рэчышча б. Пілатава ручая праводзілася на пл. 10 тыс. м$^2$ да глыб. 8—10 м, у некаторых месцах і болей. Падчас назіранняў ўстаноўлена, што з паўд. боку карэнны бераг уздоўж ручая быў часткова скапаны (насупраць друкарні і Цэнтра пазашкольнай работы), а рэшткі царквы Нараджэння Божага — моцна абгарэлыя фр-ты цаглянай муроўкі з прапласткам вугалля, якія ўтваралі тарцы сцен, арыентаваныя з Пд на Пн, разам з 2 пахаваннямі з яго паўн. боку, былі прысыпаны і зараз адкрыліся ў буд. катлаване. Грунт з паўд. схілу ручая быў перамешчаны да яго паўн. схілу (з боку гасцініцы «Віцебск» і універмага). Тут на глыб. каля 8 м ніжэй узроўню сучаснай паверхні дна рову, дзе працякаў раней ручай, паблізу універмага зафіксаваны рэшткі цаглянай муроўкі на вапне (18 ст.) і фр-ты муроўкі з цэглы (19 ст.), якія засталіся ад пабудоў, што размяшчаліся на дадзеным участку пасля нівеліроўкі сярэдневяковага вала і пашырэння на Пд пляцоўкі б. Ніжняга замка яшчэ ў 18—19 ст. На тое, што гэты ўчастак выкарыстоўваўся працяглы час пад забудову, указваюць ніжнія (яшчэ жывыя) часткі ствалоў дрэў, выяўленых тут жа. Новая падсыпка ўчастка з паўн.

боку адбывалася, відаць, ужо пасля Вял. Айч. вайны. У пласце ў значнай меры прысутнічаюць адыходы рознай вытворчасці. Іх магутнасць дасягае 3—5 м і больш. Цяперашняя вул. Шчарбакова-Набярэжная з паўд. боку даліны ручая праходзіць побач з рэшткамі храма Нараджэння Божага таксама з Пд, такім чынам, б. Набярэжная Нараджэння Божага, зафіксаваная планамі к.18 ст., 1825 і 1904, ужо не існуе. Трасы сучасных вуліц Гогаля і Калініна не супадаюць з сярэдневяковымі вуліцамі, але месцазнаходжанне б. Уваскрасенскай (Заручаўскай) царквы вызначана. Часткі яе падмуркаў былі зафіксаваны насупраць спартыўнай школы па вул. Калініна ў 2008. Тут у буд. катлаване выяўлены таксама бронзавы нацельны крыж (быў сагнуты), завушніца, аналагічная знойдзеным раней у пахаваннях каля царквы Звеставання і інш. прадметы.

Даследаванні, праведзеныя ў зоне размяшчэння стараж. Пілатава ручая, паказалі, што сучасны рэльеф яго рэчышча і планіроўка прылеглых вуліц супадаюць з сярэдневяковымі толькі часткова. Маштабныя буд. работы садзейнічалі выяўленню і лакалізацыі на мясцовасці рэштак праваслаўных цэркваў Нараджэння Божага і Уваскрасенскай, а таксама ўдакладненню характару асваення гэтай тэр. на працягу 12—18 ст.

*В.М.Ляўко.*

**ВІ́ЦЕБСКІ УЗГО́РСКІ АСТРО́Г**. Размяшчаўся на Пн ад *Віцебскага Верхняга замка* і *Віцебскага Ніжняга замка*, паміж рэкамі Зах. Дзвіна і Віцьба (на яе правым беразе). Займаў частку ўзвышша Узгор'е, а таксама Успенскую (Лысую) гару. Меў амаль прамавугольную форму, пл. каля 10 га. З Пн абмежаваны штучным ровам шыр. 15—20 м, глыб. да 8 м. У 10—13 ст. на яго тэр. існавала неўмацаванае паселішча, якое займала паўд. і часткова ўсх. ўскраіну Узгор'я (пл. каля 2 га). У 13—15 ст. тут пабудаваны Успенская, Уваскрасенская, Увядзенская цэрквы. У к. 16 ст. з нададзеннем гораду магдэбургскага права (1597) гандл.-эканамічны цэнтр Віцебска перанесены з Ніжняга замка на Узгор'е. У пісьмовых крыніцах яго называлі пасадам Завіцебным (Вялікім), пазней «местам» (горадам). На рубяжы 16—17 ст. паўд. частка Узгор'я абнесена драўлянымі сценамі і стала наз. «астрог Узгорскі». Тут пабудаваны драўляная 2-павярховая ратуша (магчыма, з каменным ніжнім паверхам), гасціны двор, гандл. рады (ганчарны, саляны, мясны і інш.). Паводле інвентароў 1641 і 1644 гэты ўчастак вядомы як Узгорскі замак. Ён меў 3 брамы (Падзвінскую, Суражскую, Кстоўскую), 7 вежаў (Прачысценскую, Вуглавую, 2 Сярэднія, Навугольную, Узгорскую, Манастырскі круглік), Прачысценскі і Мікольскі бычкі. Агульная даўж. драўляных умацаванняў каля 1030 м. З Ніжнім замкам злучаўся мостам цераз Віцьбу. Ад моста пачыналася гал. вуліца — Вялікая Ілямніцкая, якая потым наз. Вялікая, Вялікая Суражская, Старасуражская (цяпер вул. Леніна). Унутры замка знаходзіліся таксама вуліцы Узгорская (цяпер вул. Суворава), Падзвінская (вул. Талстога), Багародзіцкая (вул. Камісара Крылова).

Археал. раскопкі і даследаванні праводзілі ў 1972 Г.В.Штыхаў на пл. 104 м$^2$, у 1979—82, 1984, 1988—91, 1997—2009 В.М.Ляўко на пл. больш за 3000 м$^2$. Магутнасць культ. пласта 0,5—8 м. Пласт 12—13 ст. прысутнічае на асобных участках, яго таўшч. 0,7—2 м. Знойдзены пацеркі, шкляныя бранзалеты, шыферныя прасліцы. У 1979 на беразе Віцьбы выяўлены 3 ярусы драўлянага прычала (к. 16—17 ст.), у паўн. частцы замка ў 1980 раскапаны фр-т абарончай сцяны (драўляныя канструкцыі). Яшчэ адзін фр-т драўляных клецяў абарончай сцяны астрога разам са штучным ровам з Пн быў зафіксаваны па вул. Я.Купалы (2005). Шыр. рова, запоўненага наносамі ад Зах. Дзвіны, дасягала 30 м, глыб. 8 м. У 1981—82 у цэнтр. частцы замка знойдзены рэшткі жытлаў 12 ст. з каменнымі агнішчамі, у мацерыковых ямах — кераміка 10 ст. У 1988—89, 1997 вывучаны стараж. рэльеф і вызначана мяжа паўд. схілаў Успенскай гары ўздоўж вул. Талстога, фр-ты драўлянай забудовы 12—17 ст., мураваных збудаванняў 18 ст. У 2003—06 вывучаліся дваровая частка дамоў 2 і 4 па вул. Талстога, могілкі ў скверы Маякоўскага. У 2008 даследаваны паўд.-ўсх. частка тэр. астрога, дзе прасочаны рэшткі яго драўляных умацаванняў 17 ст., а таксама цагляныя слупы варот ад млына 19 ст. на Віцьбе. Знойдзены: вырабы з гліны, шкла, жалеза, скуры, упрыгажэнні з каляровых металаў, абразок Міколы Цудатворца, часткі культавага інвентара 18 ст., які адносіцца да касцёла св. Антонія. Тэр. В.У.а. ўваходзіць у ахоўную зону гіст. часткі горада.

*Да арт.* ***Віцебскі Узгорскі астрог:*** *фрагмент крыжа 17—18 ст. (1), абразок Міколы Цудатворца 15—17 ст. (2), падстаўка 18—19 ст. (3), вечка кадзільніцы 18—19 ст. (4) — усе з каляровых металаў.*


1


2


3


4

*Літ.:* А л е к с е е в Л.В. Полоцкая земля в IX—XIII вв.: (очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966; Ш т ы х о в Г.В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). Минск, 1978; Л е в к о О.Н. Витебск XIV—XVIII вв. Минск, 1984; Я е ж. Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси. Минск, 2004. *В.М.Ляўко.*

**ВІ́ЦЕБСКІ УСПЕ́НСКІ САБО́Р**, помнік археалогіі і архітэктуры ў г. Віцебск. Існаваў з 2-й пал. 18 ст. да 1936. Знаходзіўся на высокім левым беразе р. Зах. Дзвіна пры ўпадзенні ў яе р. Віцьба (Успенская горка, Лысая гара, Узгор'е, Узгоркаўскі пасад). Збудаванню сабора папярэднічала ўзвядзенне некалькіх драўляных храмаў, якія змянялі адзін аднаго. Найб. ранні з іх вядомы па крыніцах з 1406. З 1743 базыльяне пачалі будаўніцтва мураванага храма. Верагодна, аўтарам праекта сабора быў італьянскі архіт. Іосіф Фантана III. У пабудаваных адначасова з храмам каменных памяшканнях манастыра размяшчаліся манаскія келлі і школа. Да іх прымыкала 2-павярховае крыло з трапезнай і бібліятэкай. Службовыя і гасп. пабудовы манастыра размяшчаліся па перыметры невял. двара з мураванай агароджай. Будаванне храма і манастырскага комплексу завяршылася ў 1785. З 1799 сабор перададзены ў праваслаўнае ведамства, а памяшканні манастыра ў падпарадкаванне губернскай адміністрацыі. Храм перабудоўваўся ў 1804 і пазней, у выніку чаго барочныя формы атрымалі рысы класіцызму. У 1936 зруйнаваны.

Археал. даследаваннямі (І.А.Цішкін у 1991, В.М.Ляўко ў 1998 і 2001) устаноўлена месцапалажэнне паўд.-зах. кута храма з вежай, прасочана траса вонкавых зах. і паўд. сцен. Выяўлены рэшткі падмуркаў, сцен і падлогі падвальных памяшканняў, якія прымыкалі да асн. часткі храма з паўд. боку. Зыходзячы з матэрыялаў раскопак, можна меркаваць, што першапачаткова сабор планаваўся як 3-нефавы. З боку вежы ўнутры прымыкаючага да яе памяшкання прасочваецца разбураны контрфорс. Вонкавая паўд. сцяна храма мае меншую таўшчыню, чым паралельная ёй унутраная сцяна, якая абмяжоўвае арыентаваныя з З на У дробныя памяшканні, з'яднаныя скразнымі праходамі. У 2000-я г. храм адбудаваны нанава на старым месцы.

*Літ.*: Витебская старина. Т.1; Витебск, 1883; С а п у н о в А.П. Витебский Успенский собор в связи с событиями из религиозной жизни витеблян. Витебск, 1894; Х м я л ь н і ц к а я Л. З гісторыі Віцебскага Базыльянскага кляштара // ГАЗ. Мінск, 1994. № 4. *В.М.Ляўко.*

**ВІ́ЦЕБСКІ ЦАРКО́ЎНА-АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ МУЗЕ́Й**. Засн. ў 1893 у Віцебску ў памяшканнях б. езуіцкага калегіума. У Расійскай імперыі пытанне аб утварэнні царкоўна-археал. музеяў уздымалася з к. 1870-х г. Іх стваралі «ў мэтах захавання для навукі царкоўных каштоўнасцей, а таксама і такіх, каторыя толькі састаяць у сувязі з царкоўнымі і служаць да ўсведамлення рэлігійнага побыту старажытных людзей». У 1892 Е.Р.Раманаў, інспектар нар. вучылішчаў Віцебскай губ., звярнуўся да архіепіскапа полацкага і віцебскага Антаніна з прапановай аб стварэнні музея царкоўных старажытнасцей. Музей размясціўся ў адным з пакояў на 2-м паверсе архірэйскага дома пры Мікалаеўскім кафедральным саборы. Але



*Падмуркі **Віцебскага Успенскага сабора** (раскопкі В.М.Ляўко).*

указ Сінода аб адкрыцці музея і зацвярджэнні яго статута выйшаў толькі ў 1895. Зборам экспанатаў займаліся Е.Р.Раманаў, настаўнікі мужчынскай гімназіі А.П.Сапуноў і М.Я.Нікіфароўскі, свяшчэннік Мікалаеўскага кафедральнага сабора В.Гаворскі, настаўнік духоўнай семінарыі Дз.І. Даўгяла.

У 1905 у фондах музея налічвалася 1247 экспанатаў, далейшы рост калекцый моцна абмяжоўвала адсутнасць дадатковых памяшканняў. Музей праіснаваў да 1919, яго фонды былі перададзены ў засн. тады Віцебскі губернскі музей.

Пераемнікам традыцый таго музея ў 2000-я г. стаў Царкоўна-археал. кабінет, створаны пры Віцебскім духоўным вучылішчы (семінарыі) з благаславення архіепіскапа віцебскага і аршанскага Дзімітрыя. Аснову экспазіцыі складаюць сабраныя святарамі і міранамі кнігі, пісьмы, дакументы — сведчанні царкоўнага жыцця і быту ў мінулым. Дзейнічае выстаўка прадметаў культу і быту 12—19 ст., выкананых з металу, шкла, гліны. Сярод экспанатаў — кафля і паліўная плітка 18—19 ст. з інтэр'ера Успенскага сабора, знойдзеныя падчас будаўніцтва на яго месцы сабора-навадзела (2004—09). Асабліва цікавымі з'яўляюцца 4 каменныя крыжы з адзнакамі, знойдзеныя ў ваколіцах Віцебска, Оршы. Такімі крыжамі быў адзначаны перавоз на р. Зах. Дзвіна вышэй Віцебска. Тры з іх — паклонныя ці храмавыя: іх умуроўвалі ў сцены цэркваў або ставілі пры дарогах. Крыжы чатырохканцовыя роўнабаковыя. На 2 з іх адбітак Галгофы простай аднаступеньчатай формы, што дазваляе датаваць крыжы 11—13 ст. Выш. цэлага крыжа 43 см, шыр. 37 см. 4-ы крыж — межавы, выява на ім нагадвае герб Полацка; выш. 62 см, шыр. 60 см, ніжні край абламаны. Крыж знойдзены ў в. Межава Аршанскага р-на. *В.М.Ляўко, А.Р.Белавусаў.*

**ВІ́ЦЕБСКІЯ ГАРАДСКІ́Я СЯРЭДНЕВЯКО́ВЫЯ МО́ГІЛЬНІКІ**, археалагічныя помнікі, выяўленыя на розных участках Віцебска.

На *Віцебскай Замкавай гары* (б. дзяцінец) у к. 19 ст. ўскрыты 14 пахаванняў, якія суадносяцца з могілкамі каля рэштkaў сярэдневяковай царквы архангела Міхаіла. Вял. колькасць розначасовых пахаванняў знойдзена падчас раскопак Т.С.Бубенька ў *Віцебскай царкве Звеставання* і вакол яе. Характэрнай рысай іх у царкве з'яўляецца забутоўка камянямі прасторы паміж дамавінай і сценкамі ямы, а таксама ўстаноўка дамавіны на ўзвышшах з камянёў. Сярод знаходак ёсць солід 1664, культавыя прадметы і шэраг упрыгажэнняў, якія звязаны з уніяцкімі пахаваннямі 17 ст. У раскопе на У ад царквы ў 1993 Т.С.Бубенька прасачыла некалькі гарызонтаў пахаванняў дарослых і дзяцей. Амаль усе яны былі арыентаваны галавой на З, зрэдку на ПдЗ. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў дамавіне. Самыя раннія пахаванні размешчаны ніжэй каменна-вапнавай вымасткі вакол царквы. У адным з іх знойдзены заручальны пярсцёнак, астатнія безынвентарныя.

Падчас рэстаўрацыі *Віцебскіх саляных складоў* 18 ст. і падрыхтоўкі да ўзнаўлення *Віцебскай Уваскрасенскай царквы* і *Віцебскага Успенскага сабора* (1998—2001), а таксама земляных работ па рэканструкцыі сквера імя Маякоўскага (2003) В.М. Ляўко адкрыла сярэдневяковыя гар. могільнікі. Сляды гэтых могільнікаў выяўлены В.М.Ляўко пры археал. наглядзе паблізу месца размяшчэння рэшткаў Нікольскай царквы ў Кстоўскім пасадзе (2004), цэркваў Раства Багародзіцы і царквы Уваскрасенскай Заручайскай, датуемых 18 ст. у Заручайскай слабадзе (2008—09). Яны складаюцца з рэшткаў чалавечых костак, чарапоў, нацельных крыжыкаў, драўляных навершаў трунаў.

У 1991—94 І.А.Цішкін даследаваў падмурак мураванага уніяцкага храма 18 ст., пабудаванага на месцы Уваскрасенскай (Рынкавай) царквы. Падчас работ з паўн. боку на ўзвышшы за апсідай царквы быў адкрыты шэраг безынвентарных пахаванняў, арыентаваных галавой на У. Адно з іх з арыентацыяй на Пд адкрыта ў зах. частцы ўнутранага аб'ёму падмуркаў царквы, ля выступу пад аснаванне калон. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў дамавіне. Пад пахаваннямі знойдзены 2 медныя расійскія манеты (дзенга 1731 і 1743).

У 2001 В.М.Ляўко пры даследаванні уніяцкай царквы 18 ст. пад пясчана-глiністай падсыпкай, якая павінна была падняць узровень падмурка мураванага храма, выявіла рэшткі пахаванняў, арыентаваных галавой на З. Яны былі ўпушчаны ў мацерыковы пясок на 0,2—0,3 м. Пахавальныя ямы са слядамі драўлянага тлену мелі акруглую форму. Побач з адным пахаваннем выяўлена кераміка, якая датуецца 15—16 ст. Фр-ты падобнай керамікі знойдзены і ў культ. пласце пад пясчанай падсыпкай. У траншэі з зах. вонкавага боку мураванага падмурка пад брукоўкай знойдзена пахаванне, арыентаванае галавой на Пд, таксама як і 2 пахаванні каля выступаў пад паўд.-зах. вежу храма з унутранага яго боку.

У 2000 падчас даследаванняў В.М.Ляўко памяшканняў *Віцебскіх саляных складоў* пад полам і брукоўкай унутры іх знойдзены пахаванні з рэшткамі драўляных дамавін, якія ўяўляюць 2 стратыграфічныя гарызонты. Ніжні залягаў у мацерыку і адносіўся да часу пабудовы на месцы размяшчэння саляных складоў царквы Стрэчання Хрыстова; тут выяўлены пахаванні жанчыны і дзіцяці, прычым у жаночым сабраны рэшткі тканіны з арнаментам у выглядзе ціснення. Усе памерлыя арыентаваны галавой на З. Пахаванні датуюцца к. 16 — пач. 18 ст.

Арыентацыя па баках свету рэшткаў нябожчыкаў, пахаваных у культавых збудаваннях, дазваляе падзяліць іх на праваслаўныя (З), уніяцкія (Пд, Пн і У). Большасць пахаванняў знаходзілася ў драўляных дамавінах, канструкцыя якіх не прасочваецца. Гар. могілкі спачатку былі з рэдкім размяшчэннем пахаванняў, аб чым сведчаць ніжнія гарызонты Віцебска (Ніжні замак, Задзвінне, Успенская гара). Пазнейшыя гарызонты больш шчыльныя. Гэта можа ўказваць як на дэмагра-

фічнае развіццё горада на працягу сярэдневякоўя, так і на тое, што пахаванні ў больш ранні час маглі адбывацца ў курганных могільніках за гар. мяжой. У месцах іх размяшчэння (Заручаўе, Кстоўская гара) пазней з'яўляюцца храмы з могілкамі 14—17 ст. Як правіла, сярэдневяковыя гар. могільнікі безынвентарныя. У некаторых пахаваннях, набліжаных да храма, сустракаецца рэчавы матэрыял. Гэта можа сведчыць аб сацыяльным статусе пахаваных. Найб. багатыя пахаванні характэрны для храмаў. Іх дамавіны былі аздоблены карункавымі лентамі з металічнымі ніткамі, мелі вытачаныя на станку драўняныя ручкі, тканіна мацавалася да дамавіны цвікамі з каляровага металу. На памерлых было дарагое адзенне, упрыгажэнні, прадметы культу. Суправаджаліся пахаванні манетамі — «аболамі памерлых». Пахаванні ў падвалах (крыптах) храмаў маглі быць абкладзены камянямі, зроблены ў спец. нішах. Пры адсутнасці падвала ў пахаванні перакрываліся покрывам з камянёў.

*Літ.*: Кацар М.С., Жабінская М.П. Тканіны з старажытных пахаванняў // ПГКБ. 1980. № 2; Левко О.Н. Исследования в Витебской области // АО 1986. М., 1988; Калядзінскі Л.У. Віцебскі храм Св. Міхаіла // ВАНБ. Сер. гуманіт. навук. 1995. № 1; Цішкін І. Храм на рынку ў Віцебску // Віцебскі сшытак. 1996. № 2; Яго ж. Невядомы помнік беларускага рэнесансу // Castrum, urbis et bellum: зб. навук. прац. Барановичи, 2002; Археалогія Беларусі. Т. 4. Помнікі XIV—XVIII стст. Мінск, 2001. *В.М.Ляўко.*

**ВІ́ЦЕБСКІЯ ЕЗУІ́ЦКІЯ КАЛЕ́ГІУМ І КАСЦЁЛ,** помнікі археалогіі ў г. Віцебск. Калегіум засн. ў 1639 ваяводам смаленскім А.Гансеўскім. У 1640 у зоне размяшчэння сучасных пл. Свабоды і парку імя Фрунзе загадам вял. князя літ. і караля польскага Уладзіслава IV Вазы выдзяляецца зямля для будаўніцтва касцёла і калегіума. У 1641—46 езуітам перадаюцца найбліжэйшыя зямельныя ўчасткі шляхты, а таксама працягваюцца зямельныя падараванні князя, на р. Віцьба будуецца млын. У 1649 пабудаваны касцёл. Калегіум і касцёл спачатку былі драўляныя, у 17 ст. перад іх фасадамі знаходзілася вул. Вялікая, якая вяла да ўязной брамы каля моста цераз р. Віцьба (зафіксаваны на «Чарцяжы» Віцебска 1664). У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67, калі Віцебск быў заняты расійскімі войскамі, езуіцкі калегіум вядомы як праваслаўны *Аляксееўскі манастыр*. Яго мураваныя пабудовы пачалі ўзводзіць толькі ў 1716 (у 1731 быў асвячоны мураваны касцёл). На месцы вартаўнічай уязной езуіты ўзвялі каменную браму з капліцай (дакумент аб фінансаванні будаўніцтва капліцы датаваны 1760). Будаўніцтва комплексу было завершана ў 1799 узвядзеннем 2-павярховай каменнай школы праз вуліцу ад калегіума (сучасны праспект Фрунзе). Падчас буд. работ тэр. перад касцёлам была пашырана за кошт зрыцця часткі гары Ламіха (Замкавая) і пераўтворана ў плошчу. Падэшва гары прасочана ў археал. даследаваннях В.М.Ляўко ў 1977, 2004, 2005 уздоўж вул. Леніна, насупраць пл. Свабоды. Калегіум займаў вял. тэрыторыю на левым беразе р. Віцьба ад моста цераз яе на Узгор'е (з Пн) амаль да ручая Дунай і Задунайскага моста (на У). Двухпавярховы будынак калегіума быў выцягнуты ў выглядзе літары «П», меў характэрную для падобных пабудоў планіроўку: доўгі аднабаковы калідор, арыентаваны ва ўнутранае падвор'е, жылыя, вучэбныя і службовыя пакоі; меўся паўпадвальны паверх. Зах. бокам калегіум выходзіў на чырвоную лінію плошчы перад мостам. Яго тарэц з паўд. боку завяршала пабудова «духоўнага праўлення» (так названа на плане 1841), увенчаная вежай са шпілем і крыжом. У 2 верхніх ярусах вежы знаходзіліся званы, а ў ніжнім змяшчаліся гадзіннік, архіў і вартаўнічы пакой. На ўзроўні 2-га яруса на вуглавых пілястрах таксама знаходзіліся крыжы, якія ўскладнялі сілуэт збудавання ў цэлым. Вежа над будынкам «духоўнага праўлення» пераклікалася з завяршэннем касцёла і акцэнтавала ўвагу на ўваход у калегіум. Гэтая пабудова нагадвала будынак гар. ратушы (зах. фасад калегіума).

Фасад касцёла быў некалькі ссунуты на У ад зах. лініі калегіума і злучаўся крытым пераходам з тарцом калегіума. Касцёл меў 2 традыцыйныя вежы, 8-гранныя, а не 4-гранныя, як звычайна. Тарцы трансепта завяршаліся фігурнымі шчытамі, падобнымі шчыту паміж вежамі зах. фасада. Вянчаў касцёл высокі купал на светлавым барабане над сяродкрыжжам храма. Будынкі калегіума і касцёла ўтваралі ўнутраны прамавугольны двор у зах. частцы тэрыторыі. Усх. частку ўздоўж выгіну ручая Дунай займалі сад і агарод. Паміж садам і комплексам знаходзіўся гасп. двор, па перыметры якога размяшчаліся мураваныя і драўляныя 1-павярховыя службовыя пабудовы. Да 1820 калегіум у валоданні езуітаў, у 1822—39 — базыльян. Пасля перадачы яго ў 1843 у праўленне праваслаўнага Сінода наверша вежы над будынкам «духоўнага праўлення» і завяршэнне касцёла былі моцна зменены. У 1843 і 1872 адбываліся перабудовы касцёла, які ў выніку быў пераtвораны ў Мікалаеўскі кафедральны сабор. Вежа над «духоўным праўленнем» была знішчана ў 1872, а вежы касцёла перабудаваны. Пабудовы калегіума таксама падвяргаліся рамонту. У іх з цягам часу размясціліся архірэйскі дом, царкоўна-археал. дрэўлесховішча, брацкія бібліятэка-чытальня і крама. Будынкі б. комплексу зруйнаваны ў 1930-я г.

Праведзеныя тут у 2005—07 В.М.Ляўко археал. даследаванні паказалі, што пл. Свабоды і прылеглая да яе зона парку імя Фрунзе былі заняты рознымі пабудовамі культавага і гасп. прызначэння, якія адносяцца да 17 ст. (драўляныя) і 18—19 ст. (мураваныя). У парку ў шурфе 1 (пл. 20 $м^2$) былі адкрыты часткова канструкцыі над паўпадвальным паверхам. Зафіксаваны падвальныя пустоты і скляпенні ўсх. часткі калегіума. У шурфе 2 (пл. 16 $м^2$) таксама выяўлены фр-ты сцен пабудоў усх. часткі калегіума, скіраваных у бок гасп. двара. Шурфы 3, 4 (кожны пл. 16 $м^2$) адкры-

лі каменныя канструкцыі, якія могуць суадносіцца з гасп. пабудовамі 18—19 ст., размешчанымі, паводле архіўных дадзеных, уздоўж цячэння ручая Дунай пры яго ўпадзенні ў Віцьбу. Акрамя таго, у шурфе 3 на ўзроўні залягання пласта 17 ст. знойдзены рэшткі драўляных канструкцый, што адпавядае часу існавання абарончых збудаванняў Віцебскага Ніжняга замка і драўляных пабудоў езуіцкага калегіума. Траншэя з У на З даўж. 26 м пры шыр. 3 м і глыб. да 4,5 м, а таксама шурфы 1, 3 на пл. Свабоды адкрылі падвальныя памяшканні пабудовы калегіума са скляпеннямі, сцены якіх былі пакрыты некалькімі слаямі фарбы рознага колеру. Складзены сцены з цэглы памерамі 31—32 × 15—16,5 × 6—7 см, таўшч. да 1,2 м. Траншэя ў комплексе з шурфам 3 дазволіла вызначыць дакладнае размяшчэнне зах. краю калегіума ў межах сучаснай пл. Свабоды, шурф 1 выявіў усх. край пабудовы.

*Літ.*: Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской, хранящихся в Центральном архиве в Витебске, и изданные под редакцией архивариуса сего архива Сазонова. Т. 19. 1889; Т. 21. 1891; Т. 26. 1895; Никифоровский Н.Я. Странички из недавней старины г. Витебска. Витебск, 1899; Труды Витебской ученой архивной комиссии. Кн. 1. Витебск, 1910; Квітніцкая А. Прыёмы фарміравання гандлёва-адміністрацыйнага цэнтра Віцебска ў XVIII ст. // Віцебскі сшытак. 1995. №1. *В.М.Ляўко.*

**ВІ́ЦЕБСКІЯ САЛЯНЫ́Я СКЛАДЫ́**, археалагічныя помнікі на тэрыторыі сучаснага Віцебска. Архіт.-археал. даследаванні б. саляных складоў к. 18 ст. на тэр. віцебскага Задзвіння ў 1993 праводзіў І.А.Цішкін. Выпадкова былі знойдзены побач з даследаваным будынкам складоў падмуркі апсіды, памяшканне падвала пад ёй, 4 асн. вуглы культавай пабудовы. Выяўлены храм І.А.Цішкін па тэхніцы кладкі падмурка адносіць да гатычна-рэнесанснага тыпу, вядомага ў Беларусі з 2-й пал. 16 ст., і лічыць яго аналагам Духаўскай царквы Куцеінскага Богаяўленскага манастыра ў Оршы (1-зальны храм з 5-граннай апсідай 1-й пал. 17 ст.). Знойдзеная пры раскопках храма зялёнапаліўная кафля з выявай рэнесанснага вянка, які абрамляў герб, разам з інш. матэрыяламі дазволіла датаваць яго будаўніцтва 1-й пал. 17 ст. У 2000 В.М.Ляўко працягнуты работы па даследаванні памяшканняў саляных складоў. Пад падлогай і брукоўкай унутры іх знойдзены пахаванні з рэшткамі драўляных дамавін, якія ўтвараюць 2 стратыграфічныя гарызонты. Ніжні залягаў у мацерыку і адносіўся да часу пабудовы на месцы наступнага размяшчэння саляных складоў царквы Стрэчання Хрыстова, якая ўпамінаецца ў дакуменце 1618.

*Літ.*: Цішкін І. Невядомы помнік беларускага рэнесансу // Castrum, urbis et bellum: зб. навук. прац. Баранавічы, 2002. *В.М.Ляўко.*

**ВІ́ЦЕБСКІЯ СЯРЭДНЕВЯКО́ВЫЯ ВОДААДВО́ДЫ**. Развіццё дрэнажнай сеткі — сведчанне і вынік высокага ўзроўню горадабудаўніцтва. Прававыя крыніцы Зах. Еўропы фіксуюць ужо ў пач. 13 ст. неабходнасць адвода сцёкавых вод у гарадах. Як правіла, водаадводы пачыналіся каля важных для жыцця горада будынкаў: цэркваў, ратушы, складоў-сховішчаў, размяшчаліся ў цэнтр. частцы сярэдневяковага горада і служылі для адводу грунтавых вод ад гал. вулічных магістраляў. У Віцебску фр-ты водаадводных сістэм былі выяўлены В.М.Ляўко пры раскопках тэр. Ніжняга замка каля царквы Звеставання (1976), Узгорскага астрога — па вул. Талстога і ў двары паміж скверам Маякоўскага і вул. Я.Купалы (1980, 1991), а таксама на тэр. Задунаўя (1986, 1994). На Верхнім замку рэшткі такіх пабудоў знойдзены Л.У.Калядзінскім (1979).

Знойдзеныя часткі водаадводных збудаванняў пераважна датуюцца 17—18 ст. (гэта водаадводныя жолабы, злучальныя калодзежы, паглынальны калодзеж, фільтрацыйны канал) і сведчаць аб развітай дрэнажнай сістэме ў тагачасным Віцебску. Выяўленыя пры раскопках фр-ты дрэнажу не толькі даюць магчымасць вызначыць яго канструкцыйныя асаблівасці, але і ўявіць прыкладную схему размяшчэння водаадводных сістэм на тэр. горада.

Калодзеж, выяўлены паблізу царквы Звеставання (1976), належыць да тыпу паглынальных калодзежаў без дна. Да яго, магчыма, былі падключаны водаадводы з-пад царквы Звеставання, а таксама магістраль уздоўж вул. Вялікай, якая праходзіла побач з царквой. Месцазнаходжанне калодзежа-адстойніка, выяўленага ў квартале паміж вул. Я.Купалы і скверам Маякоўскага (1980), указвае на разгалінаваную сістэму водаадвядзення, г.зн. да калодзежа маглі быць падключаны і водаадводы ад будынка ратушы, а пазней і ад мураваных будынкаў, узведзеных у 18 ст. на Узгор'і.

Найб. поўную інфармацыю даюць матэрыялы, адтрыманыя падчас даследаванняў уздоўж вул. Талстога (б. Падзвінская) і ў раёне вуліц Фрунзе—Даватара (б. Задунайская). Уздоўж б. маставой вул. Падзвінскай у 1991 быў ускрыты магістральны водаадвод (праходзіў паралельна вуліцы) і размешчаны паблізу яго калодзеж-адстойнік (к. 17 — пач. 18 ст.). Асн. частка ўскрытага ўчастка складаецца з суцэльнага выдзеўбанага ствала дрэва даўж. больш за 20 м, дыям. 0,3—0,35 м. Калодзеж-адстойнік аддалены ад водаадвода на 0,8 м. Зруб калодзежа захаваўся ў вышыню на 2 вянцы (урубка «ў замок». Унутры калодзежа выяўлены фр-ты дошак, бяроста, запаўненне калодзежа — пласт 18 ст. Магчыма, гэты адстойнік выкарыстоўваўся ў сістэме водаадвода толькі пад мураваныя будынкі, пабудаваныя на вул. Падзвінскай у 18 ст. Але не выключана, што да яго падключаліся і драўляныя пабудовы. Паміж сучаснымі вуліцамі Даватара і Фрунзе, на паніжаным участку б. слабады Задунайская, аддзеленай ад Ніжняга замка ручаём Дунай, які ўпадаў у р. Віцьба, у 1986 быў выяўлены ўчастак водаадводнай сістэмы 17 ст. Ён складаўся з драўляных жалабоў (выдзеўбаных сасновых ствалоў, якія

з'ядноўваліся з фільтрацыйным каналам, складзеным з валуноў і вымашчаным дробным каменнем. Агульная даўж. ўскрытага раскопкамі водаадводнага збудавання 16 м. Адна з драўляных труб праходзіць пад вуглом 40° да адстойніка (фільтрацыйнага канала) з ПдЗ на ПнУ, 2 іншыя — паралельна адна адной арыентаваны з Пн на Пд. Выяўленая водаадводная сістэма вылучаецца камбінаваным матэрыялам, складанасцю канструкцыі. Даўж. ўскрытых частак труб 8,3—9 м. Кожная труба складзена з 3 колатых гарбылёў, выдзеўбаных знутры, звернутых пукатым бокам вонкі і накіраваных адзін да аднаго пад пэўным вуглом, каб стварыць замкнутую прастору. Адстойнік, да якога прымыкалі трубы, уяўляў сабой канал, сценкі якога былі складзены з буйных валуноў, выш. да 0,2—0,35 м. Шыр. адстойніка 0,3—0,35 м, а ў месцы злучэння з трубамі дасягае 0,5 м. Даўж. ўскрытай раскопам часткі адстойніка 7,7 м. Дно яго вымашчана дробным каменнем, якое стварае шчыльнае покрыва. Пры расчыстцы адстойніка былі зафіксаваны драўляныя колатыя фільтрацыйныя папярочныя перагародкі, пастаўленыя на рабро на адлегласці 0,2 м адна ад адной. Насупраць гэтай водаадводнай сістэмы праз дарогу па вул. Фрунзе паміж жылымі дамамі № 17—19 у 1994 выяўлены таксама фр-ты драўлянага дрэнажу к. 17 — пач. 18 ст. У адрозненне ад папярэдняга збудавання труба і адстойнікі складаліся з дошак. Бакавыя дошкі падтрымліваліся вертыкальна ўбітымі ў зямлю слупамі, што выступалі над узроўнем жолаба, які арыентаваны з ПнЗ на ПдУ і з'яднаны з калодзежам-адстойнікам (уваходзіць у яго з вугла). Дно адстойніка вымашчана камянямі і дрэвам. З усх. боку адстойнік, як і сам жолаб водаадвода, умацаваны вертыкальна пастаўленай плахай. Другі адстойнік выяўлены на адлегласці 20 м ад першага.

Водаадводы на тэр. Задунаўя можна звязаць з царквой Іаана Прадцечы, размешчанай на ўзвышаным (у раёне вул. Фрунзе) участку, а таксама з інш. пабудовамі, якія мелі важнае значэнне для горада.

*Літ.*: Л е в к о О.Н. Витебск XIV—XVIII вв.: (стратиграфия, хронология, социально-историческая топография и технология производств). Минск, 1984; Я е ж. Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси: формирование и развитие. Минск, 2004. *В.М.Ляўко.*

**ВІ́ШАНЬКА**, археалагічныя помнікі — стаянка і курганны могільнік каля в. Вішанька Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл.

С т а я н к а *грэнскай культуры* ранняга *мезаліту*. На паўд.-ўсх. ускраіне вёскі, на правым беразе р. Друць. Памеры 50 × 30 м. Адкрыў у 1981 і даследаваў 12 м² у 1982, 1988 В.Ф.Капыцін. У пласце пяску на глыб. 0,3—0,5 м знойдзены крамянёвыя прылады працы (тронкавыя, асіметрычныя наканечнікі стрэл, рэтушаваныя разцы, канцавыя скрабкі, нажападобныя пласціны і адшчэпы), прадукты расшчаплення крэменю (нуклеусы, фрагментаваныя пласціны і адшчэпы).

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к дрыгавічоў за 0,2 км на Пд ад стаянкі. 15 насыпаў (было 20) выш. 1,5—3 м, дыям. 8—12 м. У 1966 Г.Ф.Салаўёва даследавала 4 курганы выш. 1—1,5 м, дыям. 5—7 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З (жаночае пахаванне) і на У (мужчынскія). Знойдзены пацеркі, падвескі (лунніцы, крыжык), трохпацеркавае скроневае кольца. Датуецца 11—12 ст.

*Літ.*: С о л о в ь е в а Г.Ф. Радимичские курганы // АО 1966. М., 1967; К о п ы т и н В.Ф. Исследование стоянки Гренск // АО 1981. М., 1983. *В.Ф.Капыцін.*

**ВІ́ШЧЫН**, археалагічны помнік — гарадзішча 12—13 ст. тыпу феадальна-ўладальніцкіх замкаў паміж вёскамі Вішчын і Кісцяні Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл. На правым высокім беразе Дняпра, на месцы стаянкі мезаліту і ранняга неаліту. Вядомы з 1873, абследавалі С.Ю.Чалоўскі (1880-я г.), А.М.Ляўданскі (1931), Ю.У.Кухарэнка (1950), В.М.Мельнікоўская (1956). У 1976—85 раскопкі праводзіў Э.М.Загарульскі. Даследавана 2350 м², што складае больш за 70% усёй пл. Пляцоўка паўкруглая, культ. пласт 0,4 м у цэнтры і да 1,5 м па краях. З боку поля ўмацавана 3 паралельнымі лініямі валоў і равоў, якія складалі паласу абароны шыр. да 40 м. З боку ракі абмежавана стромкім абрывам рачной тэрасы. Выш. вонкавых валоў 2,5—3 м, глыб. равоў 3,5 м.

На грэбені ўнутранага вала выяўлены і на працягу 30 м даследаваны рэшткі згарэлай абарончай сцяны, пабудаванай з гарызантальна пакладзеных бярвён (дыям. 18—23 см), умацаваных кароткімі папярочнымі сценкамі на адлегласці каля 5 м адна ад адной. Тыльны бок сцяны абмазаны глінай. Каля асновы ўнутранага вала была яшчэ сцяна з часаных дошак, якая адгароджвала ад участка забудовы. На пляцоўцы выяўлены рэшткі не меньш 10 наземных пабудоў на адлегласці 10—15 м адна ад адной, у некаторых пабудовах захаваліся рэшткі падлогі з дошак і развалы печаў. Побач з жыллём знойдзена гасп. пабудова тыпу свірна з абгарэлым зернем. У паўд.-зах. частцы гарадзішча выяўлены рэшткі майстэрні ювеліраў: абломкі гліняных трубак ад соплаў горна, гліняная льячка з застылай бронзай, невял. кавадла, матрыцы для вырабу крыжападобных падвесак, раснаў, колтаў з выявай грыфонаў, вырабы з каляровых і каштоўных металаў (розныя тыпы бранзалетаў і падвесак, пярсцёнкі, пацеркі, шпількі, нацельныя крыжы, бразготкі, шкляныя і хрустальныя пацеркі і бранзалеты). З рознымі галінамі гасп. і вытворчай дзейнасці звязаны знаходкі: абломкі 2 сашнікоў, 2 матык, сярпоў, жорнаў, шлакі, зубілы, молаты, нажы, ножны, шылы, іголкі, гарпуны, рыбалоўныя кручкі, праслíцы. Шмат прадметаў ваеннай справы: наверша і крыжавіны мяча, шарападобны бронзавы кісцень, кавалкі кальчуг, пласціны ад панцырных даспехаў, наканечнікі стрэл і коп'яў, інкруставаныя меддзю і серабром шпоры, серыя страмён, цуглі. Каля крапасной сцяны на вале выяўлены

грашова-рэчавы скарб. Знаходкі 2 віслых свінцовых пячатак смаленскага кн. Мсціслава Расціславіча Храбрага сведчаць пра магчымую сувязь уладальнікаў замка з дынастыяй смаленскіх князёў.

*Літ.*: Ваганава А.М. Умацаваныя феадальныя сядзібы XI—XIII ст. // ПГКБ. 1980. № 3; Загорульский Э.М. Вищинский замок XII—XIII вв. Минск, 2004. *А.М.Ваганава.*

**ВІ́ШЧЫНСКІ ГРАШО́ВА-РЭ́ЧАВЫ СКАРБ.** Знойдзены ў 1979 каля в. *Вішчын* Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл. ў час даследавання крапасной сцяны гарадзішча *Вішчын*. Адзін з найб. выдатных па маст. каштоўнасці скарбаў на тэр. Беларусі. Складаўся з рэчавай і грашовай частак (усяго 37 адз.). Рэчавая прадстаўлена жаночымі ўпрыгажэннямі: 2 колты з выявамі птушак на шчытках, выкананых у тэхніцы перагародчатай эмалі; зоркавы 6-прамянёвы колт з зерню і колт з ажурным краем і выявамі 2 птушак і крына; фр-ты караляў з 3 авальных сярэбраных пацерак і 4 крынападобных падвесак; фр-ты расен — ланцужкоў з ціснёных калодачак-паўцыліндрыкаў, на якіх падвешваліся колты; 2 падвескі з кананічнымі верхавінкамі і прымацаванымі да іх ланцужкамі з круглымі бляшкамі са скразнымі адтулінамі, упрыгожаныя сканню і зерню, апраўленыя дробнымі кольцамі; масіўны бранзалет, скручаны з 3 жгутоў з канцамі ў выглядзе стылізаваных галовак змей; 2-створкавы пласціністы бранзалет з раслінным арнаментам і гравіраванымі выявамі птушак. Усе рэчы выраблены з высакаякаснага серабра, колты з эмалямі, крыжападобныя падвескі, пацеркі і пласціністы бранзалет залачоныя. Грашовая частка складаецца з сярэбраных зліткаў-грыўняў: 6 — кіеўскага, 2 — наўгародскага, 8 — цэлых і 2 абрубкі літ. тыпаў. Скарб агульнай вагой каля 2 кг быў схаваны ў час аблогі Вішчынскага замка ў сяр. 13 ст. на глыб. 18 см. Зберагаецца ў нумізматычнай экспазіцыі лабараторыі музейнай справы гіст. ф-та БДУ.

*Літ.*: Загорульский Э.М. Вищинский замок 12—13 вв. Минск, 2004. *А.М.Ваганава.*

**ВО́ЙСКАЯ**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Войская Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. За 1,8 км на ПнУ ад вёскі, справа ад дарогі на в. Лісоўчыцы. Мясц. назва Шведскія магілы. Засталося 13 насыпаў з 65, выш. 0,2—0,6, дыям. 3—6 м, у аснаванні абкладзены валунамі. У 1959 адкрыў і даследаваў 31 курган І.В.Біруля, у 1981—83 даследавала 8 курганоў Т.М.Каробушкіна. Пахавальны абрад — трупаспаленне (2) і трупапалажэнне (28). У 9 насыпах пахаванні адсутнічалі. Адзіночныя пахаванні на гарызонце ці ў прамавугольных ямах глыб. 0,15—0,5 м, галавой на З (18) і У (10). У 19 курганах пад дзёрнам выяўлены каменныя вымасткі ў адзін ярус. Суправаджальны інвентар — шкляныя align="left"познакаляровыя і пасярэбраныя, металічныя зярнёныя і гліняныя белыя пацеркі, вітыя бронзавыя пярсцёнкі, драцяныя ў паўтара абароты, трохпацеркавае зярнёнае і S-падобнае скроневыя кольцы, жал. трубчасты замок, цвікі, праслíцы з ружовага сланцу, цэлыя і ў фр-тах кругавыя гаршкі розных памераў з хвалістым арнаментам і рыфленнем, адзін — чорнаглянцаваны. Курганы з трупаспаленнем датуюцца не пазней 11 ст., з трупапалажэннем — 12 ст.

*Літ.*: Бирули И.В. Каменные курганы правобережья Западного Буга // Древности Белоруссии. Минск, 1966; Коробушкина Т.Н. Курганные древности XI—XIII вв. в Белорусском Побужье // Древнерусское государство и славяне. Минск, 1983; Яе ж. Курганы Белорусского Побужья X—XIII вв. Минск, 1993. *Т.М.Каробушкіна.*

**ВО́ЛАК**, волакі, старажытнаруская назва месца найбольшага зближэння 2 суседніх суднаходных рэк, дзе карацейшым і найзручнейшым шляхам рачныя судны, чаўны перацягвалі (валаклі) на катках і колах па сушы або выгружаныя з іх тавары перавозіліся на фурманках ці пераносіліся з аднаго воднага басейна ў другі. Вядомы па пісьмовых крыніцах («Аповесць мінулых часоў», Дагавор Смаленска з Рыгай і Гоцкім берагам 1229 і інш.). В. паміж верхнім Дняпром і левымі прытокамі Зах. Дзвіны, яе правымі прытокамі і Ловаццю злучалі адрэзкі *шляху з «варагаў у грэкі»*. Адлегласць паміж крайнімі пунктамі В. звычайна не перавышала 20—30 км. В. маглі выкарыстоўвацца ў перыяд навігацыі (з вясны да восені) рэгулярна ці зрэдку, у абодвух напрамках руху ці ў адным, што залежала ад зручнасці перамяшчэння і прыроднага рэльефу мясцовасці, наяўнасці схілу на водападзеле, балот, азёр. Даследчыкі М.П.Загоскін, В.А.Жучкевіч і інш. на аснове «волакавай» тапаніміі, аналізу тапаграфіі і геамарфалагічнага характару мясцовасці адзначылі на тэр. Беларусі каля 20 сярэдневяковых В., якія злучалі таксама левыя прытокі Прыпяці і правыя Дняпра з прытокамі Зах. Буга і Нёмана. Дадатковыя звесткі пра існаванне стараж.-рус. В. даюць археал. і нумізматычныя матэрыялы. Нярэдка на іх месцы сустракаюцца рэшткі стараж. паселішчаў і курганныя могільнікі, якія належалі насельніцтву, што абслугоўвала В., а таксама знаходзяць грашова-рэчавыя скарбы, захаваныя гандлярамі або мясц. жыхарамі ў час небяспекі. Так, каля В. паміж прытокам Бярэзіны р. Сергуч і прытокам Зах. Дзвіны р. Эса знаходзяцца некалькі курганоў (Асецішчы Докшыцкага р-на, Домжарыцы, Ствольна Лепельскага р-на) і 2 вёскі з назвамі Волак і Завалочча. Л.В.Аляксееў і З.М.Сяргеева ў 1960-х — пач. 1970-х г. праводзілі раскопкі курганных пахаванняў 10—12 ст. каля Друцкага В., які злучаў стараж.-рус. гарады Друцк (на р. Друць, прыток Дняпра) і Лукомль (на р. Лукомка, цераз р. Усвейка, прыток Зах. Дзвіны), дзе таксама выяўлены розныя імпартныя рэчы (залачоныя пацеркі, бурштынавыя ўпрыгажэнні, паліваная кераміка, чырвонагліняныя прычарнаморскія амфары, сярэбраны арабскі дырхем 10 ст.) і 2 манетна-рэчавыя скарбы сяр. 11 ст. недалёка ад в. Стражавічы (гл. *Стражавіцкія манетна-рэчавыя*

*скарбы*). Пра існаванне В. паміж вярхоўямі Мухаўца і Піны, які злучаў рэкі басейнаў Балтыйскага і Чорнага мораў, сведчаць назва «Мухаўлокі» і адкрыты ў г.п. Антопаль Драгічынскага р-на скарб арабскіх дырхемаў сяр. 10 ст. На магчымасць выкарыстання В. паміж прытокам Случы р. Морач і прытокам Нёмана р. Лоша ўказвае знаходка вял. скарбу зах.-еўрап. дэнарыяў, куфіцкіх дырхемаў і сярэбраных упрыгажэнняў, схаванага каля 1050 на месцы в. Дзягцяныя (гл. *Дзягцянскі манетна-рэчавы скарб*). Старадж.-рус. В. выкарыстоўваліся не толькі ў гандл. і гасп. мэтах для перавозкі грузаў, але і княжацкімі дружынамі ў час паходаў.

*Літ.*: Загоскин Н.П. Русские водные пути и судовое дело в допетровской России: ист.-геогр. исслед. Казань, 1910; Алексеев Л.В. Полоцкая земля в IX—XIII вв.: (очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966; Сергеева З.М. Раскопки курганов на Друцком волоке // КСИА. 1974. Вып. 139; Буров В.А. Усвятский волок по археологическим данным // Вестн. МГУ. Сер. 9. История. 1975. № 4; Жучкевич В.А. Дороги и водные пути Белоруссии: ист.-геогр. очерки. Минск, 1977; Его ж. Топонимические свидетельства древних волоков на водоразделах Днепра и рек бассейна Балтийского моря // Топонимика на службе географии. М., 1979.

*В.Б.Перхаўка.*

**ВО́ЛЬТЭР** (Volteris) Эдуард Аляксандравіч (19.3. 1856, Рыга — 14.12.1941), літоўскі і латышскі археолаг, гісторык, этнограф, філолаг, даследчык балтыйскіх і слав. народаў. Вучыўся ў Лейпцыгскім (1875—77), Дэрпцкім (цяпер Тартускі ў Эстоніі, 1877—80) і Харкаўскім ун-тах. Прыват-дацэнт Петраградскага ун-та (1885—1918). У 1919—22 кіраўнік Нац. бібліятэкі Літвы ў Каўнасе, у 1922—33 праф. Каўнаскага ун-та і дырэктар Каўнаскага гар. музея. У «Календары Паўночна-Заходняга краю на 1890 г.» змясціў арт. «Статыстыка племяннога складу народанасельніцтва Паўночна-Заходняга краю». У к. 1890-х г. з В.А.Шукевічам раскопваў старадж. могільнікі ў Бел. Панямонні (*Дварчаны*, *Апонаўцы*, *Пузелі*, *Вензаўшчына*), збі- раў археал. і этнагр. матэрыялы ў паўн.-зах. Беларусі. Паставіў задачу комплекснага вывучэння Нясвіжскай ардынацкай бібліятэкі як помніка культуры.

*Тв.*: Археологические коллекции частных лиц в Северо-Западном крае. Вильна, 1889; О ятвягах // Ежегодник Русского антропологического общества при имп. С.-Петербургском ун-те. 1908. Т. 2; Гора Мендовга, или где искать Летовию XIII в.? // Изв. Отд-ния рус. яз. и словесности. 1909. Т. 14, кн. 3; Следы древних Пруссов и их языка в Гродненской губернии // Там жа. 1911. Т. 16, кн. 4.

**ВО́РАНЬ**, археалагічныя помнікі — паселішчы, гарадзішча, селішча і курганны могільнік каля в. Ворань Лепельскага р-на Віцебскай вобл.

Паселішча-1 позняга неаліту і бронзавага веку. За 1—1,5 км на У ад вёскі, на правым беразе р. Вароніца, за 0,3—0,5 км на Пн ад упадзення яе ў воз. Ворань. Прыблізныя памеры 50 × 50 м. Выявіў А.М.Семянтоўскі ў 1867, абследавалі Л.В.Аляксееў у 1956, А.Р.Мітрафанаў у 1972, Ю.А.Заяц у 1981, даследаваў 100 м$^2$ Э.М.Зайкоўскі ў 1979. Культ. пласт каля 0,6 м. Знойдзены прылады працы са светла-шэрага крэменю: скрабкі, скрэблы, адшчэпы з падрэтушоўкай па краях, праколка, нажы, пласціны, тронкавы наканечнік стралы. Кераміка порыстая, з дамешкам у гліне тоўчаных ракавінак, пераважна неарнаментаваная, часам трапляюцца ўпрыгажэнні ў выглядзе ямак, наколаў, зашчыпаў, адбіткаў тканіны, грабеньчатага штампа. Выяўлена таксама гладкасценная кераміка шэра-жоўтага колеру з дамешкам пяску ў гліне эпохі позняй бронзы, кераміка банцараўскай культуры і сярэдневякоўя.

Паселішча-2 позняга неаліту. За 1,7 км на У ад вёскі, 0,5 км ад воз. Ворань, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Вароніца, ва ўр. Малінаўка. Пл. каля 0,5 га. Выявіў і даследаваў 24 м$^2$ Э.М.Зайкоўскі ў 1979. Культ. пласт 0,5—0,76 м. Выяўлены крамянёвыя прылады працы: нож з трохграннай пласцінкі, бакавы скрабок на адшчэпе з невысокай спінкай, 3 ножападобныя пласцінкі, мікрануклеус, адшчэпы і дробныя сколы, фр-ты ляпной порыстай керамікі, часткова ўпрыгожанай насечкам, і інш. У верхнім пласце знойдзены абломкі ганчарнай керамікі. Помнік датуецца 3-м тыс. да н.э.

Гарадзішча штрыхаванай керамікі культуры. За 3 км на З ад вёскі, у лесе, на беразе воз. Азяруты, ва ўр. Рачаўшчына на падоўжаным узгорку. Пляцоўка авальная, памерамі 50 × 31 м, здзірванелая, параслая лесам і хмызняком. Схілы стромкія, выш. паўн.-зах. часткі 10—12 м, астатніх — 6—8 м. З паўн. і паўн.-зах. бакоў невял. тэраса шыр. каля 8 м, якая ляжыць ніжэй пляцоўкі на 5—6 м. Магчыма, гэта рэшткі апоўзлага вала і рова. Выявіў А.М.Семянтоўскі ў 1867, абследавалі А.М.Ляўданскі ў 1931, А.Р.Мітрафанаў у 1972, Ю.А.Заяц у 1981. Культ. пласт больш за 0,5 м. У паўн.-зах. частцы пляцоўкі закладзены шурф (0,25 × 0,25 м$^2$). Знойдзены фр-ты ляпнога посуду. Датуецца 4—1 ст. да н.э.

Селішча банцараўскай культуры і эпохі Кіеўскай Русі, узнікла на месцы стаянкі бронзавага веку. За 1 км на У ад вёскі, на беразе безыменнай рэчкі, за 0,15 км на Пн ад месца ўпадзення яе ў воз. Ворань. Пл. каля 0,5 га. Выявіў А.М.Семянтоўскі ў 1867, абследавалі Л.В.Аляксееў у 1956, А.Р.Мітрафанаў у 1972, Ю.А.Заяц у 1981. Знойдзены абломкі ляпных гладкасценных і ганчарных пасудзін. Датуецца 6—11 ст.

Курганны могільнік за 0,5 км на У ад селішча, ва ўр. Аўсянікі (б. хутар). Больш за 100 круглых у плане насыпаў, каля 30 з іх вялікія, дыям. 20—25 м, выш. 4—5 м, астатнія дыям. 5—13 м, выш. 0,5—2,5 м. Выявіў і даследаваў М.Ф.Кусцінскі ў 1867, абследавалі А.Р.Мітрафанаў у 1972, Ю.А.Заяц у 1981. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены сярэбраныя скроневыя кольцы з напускнымі паставымі пацеркамі, жал. нож. Датуецца 11—12 ст.

*Літ.*: Сементовский А.М. Белорусские древности. Вып. 1. Санкт-Петербург, 1890; Зайков-

с к и й Э.М. Исследования в Белорусском Поозерье // АО 1979. М., 1980. *Э.М.Зайкоўскі.*

**ВО́РНАЎКА**, археалагічны помнік — гарадзішча мілаградскай і зарубінецкай культур каля в. Ворнаўка Кармянскага р-на Гомельскай вобл. За 1,5 км на Пд ад вёскі, ва ўр. Грэнск, на правым беразе р. Сож. Пляцоўка авальная, памеры 66×73 м. З ПнЗ умацавана дугападобным валам даўж. 85 м і выш. 2,5 м. З Пд і ПдЗ прасочаны 2 валы даўж. 30—40 м, шыр. 4—6 м і равы глыб. 0,4—0,6 м. Вядома з к. 19 ст., даследавалі 220 м$^2$ у 1936 А.М.Ляўданскі і А.Дз.Каваленя, абследавалі ў 1957 В.М.Мельнікоўская, у 1969 У.Дз.Будзько і Я.А.Шміт, у 1975 В.І.Шадыра. Культ. пласт 0,5—1 м. Знойдзены прасліца, падвеска, касцяная іголка, зерняцёрка, бронзавае кольца, абломак і цэлы жал. кельт, гладкасценная ляпная і арнаментаваная (палачкай, пазногцем, штрыхаваная або з расчосамі) кераміка. Знойдзены 2 агнішчы з каменнай абкладкай, больш за 300 абпаленых камянёў, а таксама месцы выплаўкі жалеза, 2 ліцейныя формы, шлакі. Датуецца 7—6 ст. да н.э. — 2 ст. н.э.

*Літ.*: П о б о л ь Л.Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археол. памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н.э. до начала II в. н.э.). Минск, 1974. *В.І.Шадыра.*

**ВОСТРАКАНЕ́ЧНІК**, каменная рэжучая прылада працы з завостраным канцом, даўж. да 10 см. Выраблялі В. з крамянёвага адшчэпу, абабітага па краях. У Еўропе вядомы з эпохі мусцье (100—40 тыс. гадоў да н.э.). Выкарыстоўваўся для разбірання жывёлы, апрацоўкі скуры, вырабу драўлянай зброі і інш. Адрозніваюцца па форме (трохвугольныя, авальныя), па контуры рэжучага краю (прама-, пуката- і ўвагнуталязовыя), па па-



*Востраканечнік.*

лажэнні рэтушы (1- і 2-баковыя) і інш. У Беларусі вядомы толькі 2 В. мусцьерскага тыпу па знаходках у в. Свяцілавічы Веткаўскага р-на і на групе археал. помнікаў *Бердыж.*

**ВО́СТРАЎ**, археалагічныя помнікі — селішчы каля в. Востраў Пінскага р-на Брэсцкай вобл.

С е л і ш ч а - 1 на зах. ускраіне вёскі, ва ўр. Аселіца. Належыць да *зарубінецкай культуры.* Выявіла ў 1963 К.В.Каспарава. Таўшч. культ. пласта да 0,6 м. Даследавана 240 м$^2$. Знойдзены



*Рэшткі пабудовы селішча-2 Востраў.*

*Рэчы з пабудовы-3 селішча-2 Востраў.*



фр-ты грубаляпнога зарубінецкага посуду, арнаментаванага насечкамі па краі венчыка, рэльефнымі валікамі з зашчэпамі на тулаве, а таксама абломкі глянцаваных місак і гаршкоў.

С е л і ш ч а - 2 за 1 км на З ад вёскі, на ўзгорыстым левым беразе старыцы (старога рэчышча) р. Стыр (з трох інш. бакоў абкружана поймай ракі), ва ўр. Марфянец. Утрымлівае матэрыялы ад мезаліту да сярэдневякоўя, аднак найб. выразныя знаходкі звязаны з *пражскай культурай.* Выявіў А.А.Егарэйчанка, які даследаваў 296 м$^2$. У раскопе знойдзены рэшткі 3 прамавугольных жылых пабудоў зрубавай канструкцыі, належалі да пражскай культуры. Адна з іх мела няправільную чатырохвугольную форму, памеры 2,5 × 3,1 м, заглыблялася ў мацерыковую частку на 0,15 м. У паўд.-ўсх. куце катлавана выяўлены рэшткі ачага, абкладзенага кавалкамі жал. шлаку. У запаўненні пабудовы знойдзены буйныя фр-ты 2 ляпных гаршкоў, фр-т глінянага прасліца, жал. нож. Другая паўзямлянка амаль прамавугольнай формы, памерамі 2,9 × 3 м. Падлога няроўная, заглыблена на 0,1 м. Ачаг, аналагічны папярэдняму, знаходзіўся ў паўн.-зах. частцы пабудовы. Знойдзены 2 біканічныя праслíцы і больш за 100 абломкаў ляпнога посуду (5 з іх глянцаваныя). Трэцяя пабудова амаль прамавугольнай формы, памерамі 3,1 × 3,7 м, заглыблена на 0,05—0,25 м. У ачагу, абкладзеным кавалкамі жал. шлаку і абломкамі посуду, знойдзены развал вял. слабапрафіляванага гаршка, буйныя фр-ты венчыкаў і донцаў некалькіх пасудзін; у запаўненні катлавана — абломак біканічнага прасліца, 14-гранная бусіна з глухога сіняга шкла. Каля кожнай з пабудоў знаходзіліся гасп. ямы дыям. 0,85—1,15 м і глыб. 0,1—0,2 м, у якіх выяўлены фр-ты ляпнога посуду. Сярод знаходак па-за межамі пабудоў — абломкі грубаляпнога і глянцаванага посуду, крамянёвы скрабок, круглае пляскатае праслíца, 2 пацеркі (залачоная і з глухога сіняга шкла), 2 бронзавыя пранізкі, абломкі жал. і бронзавых рэчаў. Матэрыял з тэр. селішча прадстаўлены таксама прадметамі з бронзы (спінка падвязнай фібулы, трапецападобныя арнаментаваныя падвескі, абломак бранзалета, пранізкі, ланцужкі), жалеза (пражка, абломкі нажоў, рыбалоўны кручок), шкла (пацеркі — залачоныя, 14-гранныя сіняга шкла, белая з сінімі вочкамі, сіняя з бірузовымі кольцамі; сіні бісер і інш.), гліны і каменя.

*Літ.*: Е г о р е й ч е н к о А.А. Поселение у д. Остров Пинского района Брестской области // Archaeoslavica. Kraków, 1991. № 1. *А.А.Егарэйчанка.*

**ВÓСЦІ**, рыбалоўныя прылады ўдарнага дзеяння ў выглядзе шматзубчастага наканечніка на драўляным шосце. У старажытнасці выраблялíся з косці і дрэва. Жал. В. на тэр. Беларусі вядомы з 1-й пал. 1-га тыс. Як і гарпуны, мелі прамыя зубцы, прывязаныя да дрэўка (*Замошша, Абідня*). У 2-й пал. 1-га тыс. ва ўжытак увайшлі каленцавыя В. з большай плошчай паражэння, якія складаліся з сіметрычных палавінак адна- ці двухзубых наканечнікаў з даўж. зубца 8—12 см (Гарадзішча Пінскага р-на і інш.). У 10—13 ст. колькасць каленцавых В. значна ўзрастае. Знойдзены ў Віцебску, Полацку, Маскаўцах, Рагачове, на Менцы, у Свіслачы, Тураве, у курганным пахаванні Ізбішча Лагойскага р-на і інш. Далейшае развіццё каленцавых В. ідзе ў бок павелічэння колькасці зубцоў. З 13—14 ст. выкарыстоўваюцца ўжо трохзубыя цэльнакаваныя наканечнікі, што складаліся адпаведна ў шасцізубую прыладу (Заслаўе, Чачэрск, Крычаў). Інш. будову мелі грабеньчыкавыя В., у якіх невял. зубцы з упорам часта забіваліся ў драўляную планку. Гэты тып В. сфар-

*Восці.*



міраваўся пераважна на тэр. Беларусі, выяўлены ў Навагрудку, Ваўкавыску, Мінску, Барысаве, Свіслачы, Вішчыне. Усе В. — вельмі зручныя прылады для біцця рыбы падчас нерасту на мелкаводдзі, у летнія ночы з лодкі. В. шырока вядомы ў этнагр. матэрыяле. Іх выкарыстанне ў Беларусі забаронена ў 1958.

*Э.А.Ляшкевіч.*

**ВО́ТЫЎНЫЯ ДАРЫ́** (ад лац. votivus прысвечаны багам), рэчы, якія прыносіліся ў дар бажаству паводле зароку, дзеля вылячэння ад хваробы або выканання нейкага жадання. Звычай прынашэння В.п. з'яўляецца змякчанай формай ахвярапринашэння і ўзнік яшчэ ў першабытную эпоху. У адрозненне ад звычайных, т.зв. эканамічных, скарбаў, якія закопваліся з мэтай зноў іх адкапаць, наборы В.п. ахвяроўваліся бажаству назаўсёды, дзеля чаго частка рэчаў магла ламацца або пашкоджвацца інш. чынам, каб прадухіліць іх паўторнае выкарыстанне людзьмі (т.зв. сакральныя скарбы). У стараж. германцаў, асабліва готаў (атаясамліваюцца з *вельбарскай культурай*), была распаўсюджана традыцыя кідаць у якасці ахвяры каштоўныя рэчы або скарбы манет у прыродныя вадаёмы. З паведамлення Пракопія Кесарыйскага (4 ст.), славяне прыносілі ў ахвяру богу навальніцы быкоў. У Беларусі не выключана прыналежнасць да В.п. некаторых упрыгажэнняў, знойдзеных на гарадзішчах дафеад. часу, напр., бранзалеты 8—10 ст. з гарадзішча Радагошча ў Навагрудскім р-не, а таксама паасобныя скарбы манет. Пасля прыняцця хрысціянства распаўсюджаным звычаем вотыўных ахвярапринашэнняў стала ахвяраванне хворымі да цудатворных абразоў выяў (часам з каштоўных металаў) органаў цела, пра вылячэнне якіх маліліся.

*Э.М.Зайкоўскі.*

**ВО́ЎКАВІЧЫ**, археалагічныя помнікі — курганныя могільнікі каля в. Воўкавічы Талачынскага р-на Віцебскай вобл.

М о г і л ь н і к - 1 *крывічоў* за 0,2 км на Пн ад вёскі, на беразе р. Крывая. 30 насыпаў (захавалася 18) дыям. 5—12 м, выш. 1—3 м. Абследавалі ў 1958 Л.В.Аляксееў, у 1972 А.Р.Мітрафанаў, у 1981 Ш.І.Бекцінееў, у 1990 В.М.Ляўко. У 1969 З.М. Сяргеева раскапала 2 курганы. У першым пахавальны абрад — трупапалажэнне. Парнае пахаванне (мужчынскае і жаночае) арыентавана галавой на ПдЗ. Знойдзены рэшткі жал. абручоў ад драўляных вёдзер, жал. нажы (тронкі аднаго мелі абмотку з бронзавага дроту), бронзавыя віты бранзалет з завязанымі канцамі і пярсцёнак, сярэбранае скроневае кольца, пацеркі (85 бісерных, сінія зонная, цыліндрычная і лімонападобная). У другім кургане пахавальны абрад — трупапаленне. Выяўлена агнішча памерамі 4 × 4 м з попелам, вуголлем, перапаленай зямлёй і вял. колькасцю дробных кальцыніраваных касцей (частка з іх конскія). Знойдзены ганчарны гаршчок з лінейным арнаментам і кляймом, жал. нож. Датуецца 11 ст.

М о г і л ь н і к - 2 за 0,3 км на ПдЗ ад вёскі, абапал лясной дарогі. 21 курган дыям. 6—8 м, выш. 1—2 м, адзін дыям. 10 м, выш. 2,5 м. Выявіў і абследаваў у 1981 Ш.І.Бекцінееў.

М о г і л ь н і к-3 за 0,3 км на ПдЗ ад могільніка-2. 22 курганы дыям. 4 м, выш. 0,5—2 м. 2 насыпы выш. 3 і 5 м. Выявіў і абследаваў у 1981 Ш.І.Бекцінееў.

*Літ.*: А л е к с е е в Л.В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины: (материалы к археол. карте Витебской обл. БССР) // Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959; С е р г е е в а З.М. Раскопки курганов в Толочинском районе (БССР) // КСИА. 1972. Вып. 129.

*Ш.І.Бекцінееў, В.М.Ляўко.*




*Сярэбранае скроневае кольца (1), бронзавы віты бранзалет (2), жалезны нож (3) з курганнага могільніка-1 Воўкавічы.*

**ВО́ЎКАЎШЧЫНА**, археалагічны помнік — група пахаванняў у лесе за 2 км на Пн ад в. Воўкаўшчына Міёрскага р-на Віцебскай вобл. Усяго налічваецца 4 пахавальныя збудаванні (3 у асн. групе, адно за 0,5 км на З ад іх). Амаль не выдзяляюцца над паверхняй зямлі і ўяўляюць сабой кругі дыям. 4—6 м кожнае, складзеныя з вял. камянёў (некаторыя дыям. больш за 1 м). Выяўлены ў 1993 Э.М.Зайкоўскім, адно пахавальнае збудаванне раскапана ім у 1997. Вонкавы дыям. каменнай абкладкі каля 4—6 м, унутраны — каля 4 м. Самыя вял. камяні дасягаюць дыям. 1,5 м і ўзвышаюцца над падножжам збудавання на 0,6—0,7 м. Унутры кола, на глыб. 0,2 м ад дзённай паверхні, выяўлена попельная праслойка каля 5 см з рэдкімі вугольчыкамі, у якіх трапляліся кавалкі кальцыніраваных касцей. Там жа быў знойдзены фр-т венчыка ляпной гладкасценнай керамікі, які нагадвае посуд банцараўскай культуры або культуры доўгіх курганоў. Вял. колькасць кальцыніраваных касцей займае пляцоўку памерамі 1,64 × 1,12 м і ўтварае эліпсападобную фігуру, выцягнутую з ПдЗ на ПнУ. Праслойка з попелу і вугольчыкаў была не толькі ўнутры круга, але выходзіла на 3—4 м вонкі ва ўсе бакі. Пахаванні В. датуюцца 2-й пал. 1-га тыс. і, магчыма, былі ў пэўнай ступені прататыпамі пазнейшых курганоў з каменнымі абкладкамі, распаўсюджаных у 11—12 ст. у паўн.-зах. Беларусі, але адрозніваліся ад іх

большым дыяметрам камянёў і амаль поўнай адсутнасцю курганных насыпаў. *Э.М.Зайкоўскі.*

**ВО́ЎЧЫН**, вёска ў Камянецкім р-не Брэсцкай вобл. За 45 км на ПнЗ ад Брэста, на правым беразе р. Пульва. У 2005—07 А.А.Башкоў даследаваў тут каля 200 м². На ПдУ вёскі (т.зв. Стары Воўчын) выяўлены культ. пласт 14—18 ст., вял. будынак 18 ст. Знойдзены фр-ты ляпной керамікі 8—10 ст. лукі-райкавецкага культ. арэала і фр-ты раннеганчарнай керамікі 10 ст.; кераміка 17—19 ст., манеты 17 — пач. 20 ст., пячатка з выявай шляхецкага герба «Наленч» 17—18 ст., ювелірныя вырабы 17 — пач. 20 ст. і г.д. Унікальнай знаходкай з'яўляецца бронзавая фібула, якая адносіцца да прускага тыпу «вочных» фібул к. 1 — пач. 2 ст. (пшэворская культура). Будынак 18 ст. меў прамавугольную форму, шыр. 8,45 м, даўж. 15,45 м, верагодна, 6 памяшканняў. Быў разбураны ў пач. 20 ст. падчас 1-й сусветнай вайны. Таксама выяўлена месцазнаходжанне палаца Чартарыйскіх 18 ст. У 2009 былі праведзены раскопкі ў раёне Воўчынскага Троіцкага касцёла.

*Літ.*: Даследаванні старажытнага Воўчына // ГАЗ. Мінск, 2006. № 21; Археологические исследования древнего Волчина // Там жа. Мінск, 2007. Вып. 23. *А.А.Башкоў.*

**ВО́ЎЧЫНСКІ ТРО́ІЦКІ КАСЦЁЛ**, помнік архітэктуры позняга барока ў в. Воўчын Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. Узведзены ў 1-й пал. 18 ст. з цэглы. Рэстаўрыраваны ў 1770-я г. Знаходзіцца ў паўн. частцы вёскі. Уяўляе сабой 8-гранную ратонду, увянчаную гранёным шатром з купальным бельведэрам, на якім было 4 гадзіннікі. Чатыры франтальныя грані будынка завершаны лучковымі франтонамі, над якімі былі пастаўлены скульптуры евангелістаў (знішчаны ў 1980-я г.), апрацаваны падвойнымі пілястрамі карынфскага ордэра, апяразаны антаблементам, дэкарыраваны арнаментальнай лепкай. Каменныя гірлянды аплятаюць высокія арачныя аконныя праёмы з фігурнымі сандрыкамі, круглыя і авальныя люкарны. Уваход акцэнтаваны невял. прытворам, над якім раней навісаў балкон. Цяпер касцёл у паўразбураным стане.

У 2009 у раёне касцёла раскопкі (пл. 60 м²) правеў А.А.Башкоў. Выяўлены рэшткі збудавання 2-й пал. 17 — 1-й пал. 18 ст.: фр-ты каменнага фундамента, сутарэннага памяшкання з індывідуальнымі знаходкамі і рэшткі печы. Па-за межамі памяшкання прасочаны развал каменнай печы са шматлікімі фр-тамі керамічнага посуду. Знойдзены фр-ты ляпной арнаментаванай керамікі і рэтушаваная пласціна бронзавага веку, сярэбраныя манеты 2-й пал. 18 — пач. 19 ст., бронзавы шчытковы пярсцёнак з манаграмай, пярсцёнак з рэшткамі каштоўнага каменю і інш. *А.А.Башкоў, Дз.В.Кашавар.*

**ВУГЛЫ́**, археалагічныя помнікі — паселішчы (2) каля в. Вуглы Бабруйскага р-на Мінскай вобл.

П а с е л і ш ч а - 2 неаліту і бронзавага веку за 1,75 км на У ад в. Вуглы, ва ўр. Колбіна Гара, на выступе 1-й надпоймавай тэрасы левага берагу р. Бярэзіна, пры ўпадзенні ў яе левага прытока р. Вір. У 1997 К.М.Барынаў і І.М.Язэпенка адкрылі помнік і даследавалі 100 м². Культ. пласт 0,2—0,5 м. Знойдзены крамянёвыя прылады: наканечнікі стрэл, скрабкі, разцы, вастрыё, мікраўкладышы, нажападобныя пласціны з рэтушшу; каля 500 абломкаў неалітычнай керамікі, якія аздабляліся падавальнымі наколамі, неглыбокімі ўцісканнямі, лапчастымі штампамі, насечкамі, пракрэсленымі лініямі. У патаўшчэннях пласта сустракаецца кераміка перыяду бронзавага веку, арнаментаваная лінейным і шнуравым штампамі. Датуецца 3—2-м тыс. да н.э.

*Літ.*: Я з э п е н к а І.М., Б а г д а н о в і ч Р.А., Б а р ы н а ў К.М. Неалітычныя матэрыялы з археалагічных помнікаў Бабруйскага раёна // Старажытнасці Бабруйшчыны. Бабруйск, 1998. *І.М.Язэпенка.*

**ВУГО́ЛЬШЧЫНА**, археалагічныя помнікі — стаянкі, селішчы і курганны могільнік каля в. Вугольшчына Бялыніцкага р-на Магілёўскай вобл.

С т а я н к а - 1 каменнага веку і с е л і ш ч а - 1 жал. веку і эпохі сярэдневякоўя, на мысе, утвораным берагамі рэк Друць і Малыш, за 0,5 км на Пд ад вёскі, на пясчаным узвышшы. Адкрыў у 1930 А.Дз.Каваленя, абследаваў у 1982 Э.М.Зайкоўскі. Знойдзены адшчэпы і пласціны, асобныя з якіх маюць рэтуш на краі, фр-ты ляп-




*Знаходкі з культурнага пласта в.* ***Воўчын****: гаршчок (1), пячаць (2), пячатка (3), фібула ў вочкі 1—2 ст. (4).*

ной гладкасценнай керамікі, абломкі ганчарнага посуду 16 ст.

Стаянка-2 *верхнедняпроўскай культуры* позняга *неаліту* на астанцы 1-й надпоймавай тэрасы правага берага р. Друць, за 1 км на Пд ад вёскі, ніжэй вусця р. Малыш, правага прытока Друці. У 1991 адкрыў і даследаваў 18 $м^2$ В.Ф.Капыцін, у 1993 У.М.Чарняўскі — 138 $м^2$. Культ. пласт 0,2—0,5 м. Выяўлена 1676 крамянёвых вырабаў, у т.л. 235 адз. з другаснай апрацоўкай. Знаходкі прадстаўлены шматлікімі адшчэпамі, пласцінамі, адна- і двухпляцовачнымі нуклеусамі. Прылады працы ўключаюць скрабкі, разцы, вырабы з выемкай, вастрыі, праколкі і свердлы, наканечнікі стрэл і дроцікаў, пласціны з прытупленым краем, трапецыі, сякучыя прылады. Знойдзены 184 фр-ты ляпной керамікі, арнаментаваныя глыбокімі цыліндрычнымі ямкамі, якія спалучаюцца з косапастаўленымі і «елачнымі» адбіткамі грабеньчатага штампа. Унутраная паверхня асобных фр-таў захоўвае сляды расчосаў грэбенем. Датуецца 4—3-м тыс. да н.э.

Селішча-2 старaж.-рус. часу (10—14 ст.) размешчана на месцы стаянкі-2. Культ. пласт 0,2—0,5 м. Сярод знаходак — абломкі ганчарнага посуду (3183 адз.), жал. наканечнік стралы, бронзавае кольца, дужка ад цыліндрычнага замка, фр-т металічнай спражкі, скаба і фр-т льячкі. Выяўлена некалькі акруглых агнішчаў, абкладзеных камянямі, дыям. 1,1—1,7 м, глыб. 0,2—0,35 м.

Селішча-3 на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Друць, за 0,8 км на ПдУ ад вёскі, ніжэй вусця р. Ліпаўка, левага прытока р. Малыш. Адкрыў і абследаваў у 1975 Я.Р.Рыер. Культ. пласт не захаваўся. Знойдзены фр-ты кругавой керамікі 10—13 ст.

Курганны могільнік на правым беразе р. Друць, за 1,3 км на Пд ад вёскі, 0,5 км на Пд ад селішча-3. Адкрыў і абследаваў у 1930 А.Дз.Каваленя, у 1975 Я.Р.Рыер. Захаваліся 102 курганы выш. 1—1,5 м, дыям. 3—16 м.

*Літ.*: Каваленя А.Дз. Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі // Працы. Т. 3; Копытин В.Ф. Археологические памятники Белыничского района Могилевской области. Могилев, 1992; Зайкоўскі Э.М. Разведкі на Друці // Гістарычныя лёсы Верхняга Падняпроўя: рэгіянал. навук. канф. Магілёў, 1995. Ч.1 (Археалогія); Чернявский В.М. Раскопки неолитического поселения у д. Угольщина Белыничского района // Там жа. *А.У.Коласаў.*

**ВУ́СЦЕ**, археалагічны помнік — гарадзішча каля в. Вусце Аршанскага р-на Віцебскай вобл. За 1,5 км на Пн ад вёскі, на мысе правага берага р. Дняпро, ва ўр. Гарадзец. Пляцоўка памерамі 50 × 40 м, выш. 20 м, з боку поля ўмацавана дугападобным валам выш. 1—4 м, з астатніх трох бакоў абмежавана ярамі глыб. да 20 м. Выявіў у 1929 С.А.Дубінскі, абследавалі ў 1971 Л.Д.Побаль, у 1981 М.І.Лашанкоў, у 1990 В.М.Ляўко даследавала 108 $м^2$. Культ. пласт 0,4—2 м, мае 2 гарызонты. У ніжнім гарызонце выяўлены 3 наземныя жытлы слупавой канструкцыі, прамавугольнай формы, памерамі 3—3,6×3,8—4 м і гасп. ямы побач з імі. У цэнтры пабудоў змешчаны каменныя авальныя (2) ці круглыя (1) ачагі, паглыбленыя ў мацярык на 0,15—0,6 м. Знойдзены жал. нож з гарбатай спінкай, посахападобная шпілька, псалій, трапецападобная падвеска. Ляпны посуд прадстаўлены гаршкамі *днепра-дзвінскай культуры* са штрыхаванай паверхняй, позназарубінецкай керамікай, арнаментаванай зашчыпамі па краі венчыка, фр-там пшэворскай міскі з меандравым арнаментам. Датуецца апошняй чвэрцю 1-га тыс. да н.э. — 1—2 ст. н.э. У верхнім гарызонце выяўлены абпаленныя рэшткі драўляных наземных пабудоў. Знойдзены матэрыялы 10—13 ст.: шкляныя бранзалеты, бронзавае наверша мяча, пярсцёнак з бурштыну, жал. прылады працы, кераміка, гліняныя і шыферныя праслíцы 10—13 ст., бронзавыя і жал. замкі, фр-ты кругавой керамікі 14 — 1-й пал. 16 ст. Паводле стратыграфіі вал насыпаны ў 14 ст., калі гарадзішча выконвала функцыі ўмацаванага замка.

*Літ.*: Левко О.Н. Средневековая Орша и ее округа. Орша, 1993; Колосовский Ю.В. Штрихованная керамика на северо-востоке Беларуси (по материалам городищ Оршанского поднепровья) // Рэгіянальная навуковая канферэнцыя «Гістарычныя лёсы Верхняга Падняпроўя». Магілёў, 1995. Ч. 1. (Археалогія). *Ю.У.Каласоўскі, В.М.Ляўко.*

**ВУ́СЦЕ**, Багіна, археалагічны помнік — курганны могільнік к. 9 — пач. 11 ст. *смаленска-полацкіх доўгіх курганоў культуры* каля в. Вусце Браслаўскага р-на Віцебскай вобл. За 1 км на Пд ад вёскі, у лесе, злева ад дарогі на в. Казяны, на нізіннай раўніне правага берага р. Дрысвята. У к. 19 ст. складаўся з 3 груп: асн. (каля 100 курганоў) і 2 меншых (па 10 курганоў). Да 1980-х г. 2-я і 3-я групы былі знішчаны, а ў гал. захаваліся 74 круглыя (дыям. 2—12 м) і авальныя насыпы выш. 0,2—2,3 м. Авальныя маюць памеры 5 × 7, 7 × 8 м і расцягнуты па лініях З—У і Пн—Пд. Раўкі малапрыкметныя. Выявіў і даследаваў у 1886 У.Плятэр, 4 курганы даследаваў у 1893 Ф.В.Пакроўскі. У 1972 абследаваў М.М.Чарняўскі. У 1982, 1986 і 1987 даследавалі 16 курганоў Л.У.Дучыц і В.І.Шадыра. Насыпы з украпінамі дробнага вугалю, у аснаваннях курганоў — попельныя праслойкі. Пахавальны абрад — трупаспаленне па-за межамі могільніка. Пахаванні змешчаны на гарызонце (10 курганоў, у адным з іх 3 пахаванні), адначасова на грунце і ў верхняй частцы насыпу (1), у ямах (2), у насыпе (2). У 4 курганах рэштак крэмацый не знойдзена. У адным кургане пахаванне па абраду трупапалажэння на гарызонце галавой на ПнЗ. Пры пахаваннях па абраду крэмацыі знойдзены: гліняны ляпны посуд, жал. нажы, крэсіва і спражка, бронзавыя ланцужкі, ланцугатрымальнікі, спіральныя пранізкі, серпападобныя скроневыя кольцы, бранзалеты, фр-ты шыйнай грыўні, пярсцёнкі, падкавападобная спіралеканечная фібула, фр-ты круглай бляхі з умбонападобным выступам у цэнтры і лодкападобнага

бранзалета, лірападобная спражка са свінцова-алавянага сплаву, шкляныя пацеркі, у т.л. лімонападобныя і вочкавыя. Пры пахаванні па абраду інгумацыі знойдзены жал. сякера, наканечнік кап'я і нож, 2 бронзавыя грушападобныя крыжапраразныя бразготкі і бранзалет, гліняны кругавы гаршчок. Гэта пахаванне датуецца к. 10 — пач. 11 ст., належыць прадстаўніку полацкай княжацкай адміністрацыі і адлюстроўвае працэс уключэння рэгіёна ў Полацкае княства.

*Літ.:* Покровский В.Ф. Курганы на границе современной Литвы и Белоруссии // Тр. IX АС. М., 1895. Т. 1; Дучыц Л.У., Шадыра В.І. Аб славянскім рассяленні на паўночным захадзе Беларусі (па матэрыялах курганнага могільніка каля в. Вусце Браслаўскага раёна) // ВАНБ. 1992. № 3—4; Плавінскі М.А. Ланцэтападобныя наканечнікі коп'яў на тэ-

*Курганны могільнік **Вусце** (Богіна): А — інвентар кургана 1 з пахаваннем па абраду інгумацыі, В — інвентар курганоў з пахаваннямі па абраду крэмацыі.*

рыторыі Беларусі: храналогія і тапаграфія знаходак // МАБ. 2007. Вып. 14.

*Л.У.Дучыц, М.А.Плавінскі, В.І.Шадыра.*

**ВЎСЦЕ**, археалагічны помнік — курганны могільнік *крывічоў* каля в. Вусце Полацкага р-на Віцебскай вобл. 29 насыпаў круглых і падоўжаных, выш. 1—2 м. У 1974 Г.В.Штыхаў даследаваў падоўжаны курган памерамі 6 × 4 × 1 м. У насыпе на глыб. 0,9 м у попельна-вугальнай праслойцы знойдзены кальцынiраваныя косці, у паўд.-зах. частцы кургана — ляпны гаршчок. Датуецца 9 — пач. 10 ст.

*Літ.*: Ш т ы х а ў  Г.В. Крывічы. Мінск, 1992.

*Г.В.Штыхаў.*

**ВЎСЦЕ**, археалагічныя помнікі — стаянкі каля в. Вусце Чэрыкаўскага р-на Магілёўскай вобл.

С т а я н к а - 1 эпохі неаліту і селішча жал. веку на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Сож, на паўд.-зах. ускраіне вёскі. Адкрыў у 1931 К.М.Палікарповіч, абследавалі ў 1969 У.Дз.Будзько, у 1975 А.Г.Калечыц, у 1989 В.Ф.Капыцін, у 2001—02, 2006 А.У.Коласаў. Культ. пласт 0,2—0,5 м. Знойдзены аднапляцовачныя нуклеусы, адшчэпы і пласціны, канцавыя скрабкі, разец на зломе загатоўкі, вырабы з выемкай, сякучыя прылады; фр-ты ляпной керамікі, упрыгожанай ямкамі, вертыкальнымі наколамі, палачкай, адбіткамі грэбеню жал. веку.

С т а я н к а - 2 на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Сож, за 1,2 км на ПдЗ ад вёскі. Адкрыў у 2005 і даследаваў 170 м² у 2005—07 А.У.Коласаў. Культ. пласт на глыб. 0,2—0,4 м. Калекцыя знаходак утрымлівае 5661 крамянёвы артэфакт, у т.л. 215 вырабаў з другаснай апрацоўкай. Сярод знаходак — расшчэплены крэмень, скрабкі, разцы, вырабы з выемкай, скрэблападобныя вырабы, вастрыі, праколкі, пласціны і адшчэпы з рэтушшу, пласціны-ўкладышы і з прытупленым краем, чаранковыя і лістападобны наканечнікі стрэл, сякеры і цёслы, тачыльны брусок. Выяўлены 4 ямы і агнішча, вакол якіх зафіксавана вял. колькасць крамянёвых артэфактаў. Два з іх лакалізаваны ў межах 2 акруглых (магчыма, месцы, дзе апрацоўвалася крамянёвая сыравіна), 3-я яма (4 × 4 м) з акруглым агнішчам уяўляла сабой рэшткі жытла. У адной з ям знойдзены 23 фр-ты ляпной керамікі эпохі бронзы, арнаментаваныя пракрэсленымі зігзагападобнымі лініямі. Датуецца эпохамі *мезаліту*, *неаліту*, *бронзавым векам* (*тшцінецка-сосніцкая культура*).

*Літ.*: П а л і к а р п о в і ч  К.М. Доследы культур каменнага і бронзавага перыядаў у БССР у 1930—1931 гг. // Працы. Т. 3; К а л е ч и ц  Е.Г. Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии. Минск, 1987; К о п ы т и н  В.Ф. Археологические памятники Чериковского района Могилевской области. Могилев, 1994.

*А.У.Коласаў.*




***Стаянка-2 Вусце**. Агульны выгляд раскопу. 2007.*

**ВЫГО́ДА**, археалагічныя помнікі — стаянкі каля в. Выгода Мастоўскага р-на Гродзенскай вобл. Выявіў і даследаваў у 1966 і 1978 М.М.Чарняўскі.

С т а я н к а - 1 за 0,3 км на Пн ад вёскі, на выступе левабярэжнай надпоймавай тэрасы р. Зальвянка (цяпер тут жывёлагадоўчы комплекс). Знойдзены мезалітычныя крамянёвыя матэрыялы, абломкі танкасценных штрыхаваных гаршкоў бронзавага веку. На Пд ад стаянкі выяўлена крэменеапрацоўчая майстэрня з вял. колькасцю нуклеусаў.

С т а я н к а - 2 за 0,5 км на ПнУ ад вёскі, на паўд.-зах. краі пясчанага ўзвышэння левабярэжнай поймы р. Зальвянка. Пл. 1000 м$^2$. Культ. пласт каля 0,4 м. Даследавана 40 м$^2$. Знойдзены аднапляцовачныя нуклеусы, крамянёвыя скрабкі на пласцінках і адшчэпах, цяслападобныя вырабы, скоблі і інш. прылады працы, а таксама кера-




*Наканечнікі стрэл (1—3), праколка (4), мікрапласціны з прытупленым краем (5—7), скрабкі (8—12), разцы (13—15), тачыльны брусок (16), сякучыя прылады (17—18) са стаянкі-2 Вусце.*

міка *нёманскай культуры* неаліту, *тшцінецкай культуры* бронзавага веку. Выяўлены печ-каменка і невял. ляпны гаршчок 7—8 ст.

С т а я н к а - 3 за 0,25 км на ПнУ ад стаянкі-1, на зах. беразе старыцы Зальвянкі. Пл. каля 600 м$^2$. Выяўлены знаходкі часоў неаліту і бронзавага веку.

С т а я н к а - 4 за 1 км на ПнУ ад вёскі. Пл. каля 200 м$^2$. Раскапана 40 м$^2$. Выяўлены крамянёвыя скрабкі на адшчэпах, нажы, праколкі, вузкаабушковыя сякеры, нуклеусы, кераміка бронзавага веку, абломкі ляпных гаршкоў *жалезнага веку*.

На ПнУ і У ад вёскі сустракаюцца рэшткі інш. паселішчаў са знаходкамі рэчаў эпохі неаліту, бронзавага і жал. вякоў. *М.М.Чарняўскі.*

**ВЫ́ЛЕВА**, археалагічныя помнікі — гарадзішча, селішча і курганны могільнік каля в. Вылева Добрушскага р-на Гомельскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а мілаградскай і зарубінецкай культур на ўсх. ускраіне вёскі, на правым беразе р. Іпуць, ва ўр. Гарадзец. Пляцоўка памерамі 75 × 46 м, прамавугольная з закругленымі вугламі, выцягнута з ПнУ на ПдЗ. Выш. 9,5 м над узроўнем ракі. З боку поля ўмацавана 2 валамі (адзін разбураны пры будаўніцтве шашы, выш. другога 3—5 м, шыр. 8,5—13,5 м) і равамі. Вядома з 1873, абследавалі ў 1910 Е.Р.Раманаў, у 1957 І.І.Арцёменка і В.М.Мельнікоўская, у 1976 В.М. Ляўко. Культ. пласт 1,5 м. Знойдзены ляпная кераміка, ажурная бронзавая бляха з пятлёй для прымацавання да адзення, фр-ты керамікі бронзавага веку. Датуецца 7 ст. да н.э. — 2 ст. н.э.

С е л і ш ч а ранняга жал. веку побач з гарадзішчам, з боку р. Іпуць. На пл. 0,5 м$^2$ выяўлены фр-ты ляпной керамікі.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к за 3 км на ПдУ ад вёскі, на левым беразе р. Іпуць, ва ўр. Часнакова Балота. 40 насыпаў дыям. 8—17 м, выш. каля 1,5 м. Выявілі і даследавалі 12 насыпаў у 1910 М.М.Філонаў і Е.Р.Раманаў, у 1976 абследавала В.М.Ляўко. Выяўлены рэшткі пахавальных вогнішчаў, невыразныя сляды трупаспаленняў. Знойдзены 3 фр-ты ляпнога посуду бронзавага веку, кальцыніраваныя косці, абломкі глінянай статуэткі, кераміка 8—6 ст. да н.э.

*Літ.*: Р о м а н о в Е.Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии). Вильна, 1910. *В.М.Ляўко.*

**ВЫПАДКО́ВЫЯ ЗНАХО́ДКІ**. Гэты тэрмін ужываецца да археал. знаходак, выяўленых выпадкова ў выніку гасп. дзейнасці чалавека: земляных, буд., дарожных ці сельскагасп. работ альбо знойдзеных падчас аэрацыі дзённай паверхні паселішча, размыву часткі помніка дажджом ці паводкай, змянення рэчышча ракі, асушэння вадаёма-возера, несанкцыянаваных аматарскіх ці скарбашукальніцкіх, рабаўнічых раскопак, выпадковага альбо наўмыснага пашкоджання помніка археалогіі; выяўленых у прыватных калекцыях ці выстаўленых на аўкцыён па продажы старадаўніх, антыкварных рэчаў. Напр., меч 10 ст. выяўлены пры будаўніцтве вытворчых карпусоў у Гродне (1975). *Полацкі рэчавы скарб* знойдзены падчас суботніка на стадыёне (1984) на тэр. колішняга Ніжняга замка. Комплекс зброі і рыштунку 13 ст. з-пад Гродна знойдзены ў зямлі, якая аддзялілася ад берага і спаўзла амаль да ўрэзу вады. Касцяныя і рагавыя вырабы эпохі мезаліту, неаліту і бронзавага веку сабраны ў катлаванах-адстойніках пры здабычы азёрнага сапрапелю непадалёку ад в. Азярное Любанскага р-на, у воз. Вячэра, у 1985—92. Меч, разнавагі, арабскія дырхемы, сярэбраныя ўпрыгажэнні і кавалкі сярэбранага дроту к. 9 ст. знойдзены ў час абследавання ў 2004 месца пераправы войска Напалеона цераз р. Бярэзіна (1812) каля в. Брылі. Элементы засцерагальнага ўзбраення знойдзены ў Нясвіжскім замку падчас разборкі пагарэлых драўляных канструкцый пасля пажару 2002. В.з. клінковага ўзбраення 10—13 ст. выяўлены ў прыватных калекцыях. Рэчавы комплекс з пахавання 14 ст. выяўлены ў 2003 каля в. Солы Смаргонскага р-на пры земляных работах для утылізацыі побытавых адыходаў. Бронзавыя ўпрыгажэнні 6—7 ст. з Івацэвіцкага р-на трапілі на Інтэрнэт-форум у маі 2009 для продажу і інш. Пазбаўленыя гіст. кантэксту, яны не могуць з'яўляцца паўнавартаснымі гіст. крыніцамі, але як асколкі стараж. культуры маюць пэўную каштоўнасць, утрымліваюць інфармацыю пра тэхналогію вытворчасці, гандл. і культ. сувязі, стан развіцця грамадства і г.д.

*Літ.*: Ш т ы х а ў Г. З часоў Рагнеды // Беларусь. 1985. №2; К р а ў ц э в і ч А. Комплекс зброі і рыштунку XIII стагоддзя з-пад Гродна // З глыбі вякоў. Наш край: гіст.-культурал. зб. Мінск, 1992; К р ы в а л ь ц э в і ч М. Касцяныя і рагавыя вырабы каменнага веку з возера Вячэра // Там жа. Мінск, 1996. № 1.

*Л.У.Калядзінскі.*

**ВЫ́ШАДКІ**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і курганны могільнік каля в. Вышадкі Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а на мысе воз. Вышадскае. Памеры 70 × 40 м, выш. 12 м. Па краі пляцоўкі прасочваецца вал выш. 0,5 м. Культ. пласт 1 м. Знойдзена ляпная кераміка і гліняныя прасліцы *днепра-дзвінскай культуры* і *штрыхаванай керамікі культуры.*

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к *крывічоў* побач з гарадзішчам, на беразе воз. Вышадскае. 207 круглых і падоўжаных насыпаў. У 1971 і 1980 Г.В.Штыхаў даследаваў 25 курганоў. Пахавальны абрад у 11 курганах — трупаспаленне, у т.л. на месцы пахавання, у 8 — трупапалажэнне ў падкурганных ямах галавой на З (у т.л. ў труне), у 6 — пахаванняў не выяўлена. У курганах з трупаспаленнем на грунце прасочваюцца попельна-вугальныя плямы з кальцыніраванымі касцямі. У адным кургане ў паглыбленні каля пахавання выяўлены пашкоджаныя агнём каля 300 бронзавых рэчаў: фр-ты плецёнага бронзавага ланцужка, спіралькі ад галаўнога ўбору, трапецападобныя падвескі, амулет у выглядзе чалавечай фігу-

ры; сердалікавыя, хрустальныя, шкляныя пацеркі; гліняны тыгель і ляпны гаршчок. У курганах з трупапалажэннем знойдзены абломак жал. сярпа, бронзавая падвеска-канёк, шкляныя і алавяныя пацеркі, фр-ты ляпной керамікі. Датуецца 8—11 ст.

*Літ.*: Ш т ы х а ў Г.В. Крывічы. Мінск, 1992.

*Г.В.Штыхаў.*

**ВЫШЫЎКА**, від дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, у якім узор ці выява выкананы ўручную іголкай, з дапамогай шыдэлка рознакаляровымі льнянымі, шарсцянымі, шаўковымі ніткамі, воласам, бісерам, каштоўнымі камянямі на тканінах, скуры, лямцы. У Беларусі В. існуе з глыбокай старажытнасці, прыёмы яе звязаны з ткацтвам і пляценнем. Паводле археал. даследаванняў найб. раннія ўзоры В. вядомы на скураным абутку 10—13 ст., знойдзеным пры раскопках стараж. гарадзішчаў Брэста, Ваўкавыска, Мінска, Полацка і інш. Сустракаюцца таксама вышываныя скураныя кашалькі, сумкі, футаралы нажоў і грабеньчыкаў. Малюнкі са спіралепадобных завіткоў, кружкоў, хвалістых і гладкіх палосак вышывалі шарсцянымі ніткамі сіняга, зялёнага, жоўтага і чырвонага колераў. Найб. пашыраны матыў — выява крыжа або геам. малюнак. Шаўковыя тканіны вышывалі малюнкамі з геам. фігур, птушак залатымі ніткамі, а льняныя і шарсцяныя — каляровымі, часам скручанымі ўдвая ніткамі, упрыгожвалі нашыўкамі з каляровых шнуркоў. Вядома В. пацеркамі, дробнымі бронзавымі ўпрыгажэннямі, бронзавымі спіралькамі і шкляным бісерам (фр-т скураной вопраткі з в. Вензаўшчына Шчучынскага р-на).

*Літ.*: В о р о н и н Н.Н. Древнее Гродно: (по материалам археол. раскопок 1932—1949 гг.). М., 1954 (МИА. № 41); К а ц е р М.С. Народно-прикладное искусство Белоруссии (от первобытного общества до 1917 г.). Минск, 1972; С е р г е е в а З.М. Курганы у озера Лисно // КСИА. 1983. Вып. 175; Ф а д з е е в а В.Я. Да пытання аб узаемасувязі вышыўкі і ўзорнага ткацтва // Помнікі культуры: новыя адкрыцці. Мінск, 1985.

*Л.У.Дучыц.*



*Крамянёвыя наканечнікі стрэл (1—2), коп'яў (4—5), вастры (3, 6, 10—11), серпападобныя нажы (7—8), нажы (9, 13—14), разец (12), скоблі (15—16, 19—21), скрабкі (17—18, 22), сякерка-адбойнік (23) са стаянкі-1* ***Вяз.***

**ВЯЗ**, археалагічныя помнікі — стаянкі каменнага веку каля в. Вяз Пінскага р-на Брэсцкай вобл.

С т а я н к а - 1 за 0,5 км на З ад вёскі, на паўд. беразе воз. Пагосцкае (цяпер пад дамбай вадасховішча). Даўж. 220 м, шыр. 80 м. Выявіў і даследаваў у 1969 і 1987 У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт да 0,2 м. Знойдзены рэшткі жытлаў, 270 крамянёвых прылад працы, фр-ты каля 20 гліняных гаршкоў і інш. Большасць знаходак адносіцца да *нёманскай культуры*, астатнія — да *шнуравой керамікі Палесся культуры.* Датуецца 5—4-м тыс. да н.э.

С т а я н к а - 2 за 1 км на З ад вёскі, на востраве сярод вадасховішча. Даўж. 60 м. Выявіў і даследаваў у 1970 і 1987 У.Ф.Ісаенка. Знойдзена 300 апрацаваных крэменяў, 35 крамянёвых прылад працы і інш., тыповых для мясц. макралітычнай культуры. Стаянка адносіцца да эпохі мезаліту.

*Літ.*: И с а е н к о В.Ф. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976.

*У.Ф.Ісаенка.*

**ВЯЗЁНКІ**, рукавіцы з грубых шарсцяных нітак, звязаныя стараж. тэхнікай *іголкавага пляцення* з асобным размяшчэннем вял. пальца. Для іх вырабу выкарыстоўвалі тоўстыя роўныя ніткі, што надавала вырабу шаўкавісты бляск, а пукатая фактура ўскладняла візуальна малюнак пляцення. В. 13 ст. знойдзены пры раскопках у Брэсце (дзіцячая, трохвугольнай формы), Віцебску (памеры 24 × 14 см, з правай рукі).

*Літ.*: К а л я д з і н с к і Л., Л о с ь - З а л у ж н а я А., Т к а ч о ў М. Рукавіца XIII ст. // ПГКБ. 1986. № 1.

**ВЯЗЫНКА**, археалагічныя помнікі — гарадзішчы *штрыхаванай керамікі культуры* каля в. Вязынка Маладзечанскага р-на Мінскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а - 1 за 0,1—0,2 км на У ад вёскі, на левым беразе р. Вязынка, на пагорку выш. 6—7 м. Мясц. назва Замэчак. Пляцоўка

авальная, памерамі 61 × 51 м. У 1952 абследаваў К.М.Палікарповіч, раскопкі правёў А.Р.Мітрафанаў на пл. 284 $м^2$. Гарадзішча было ўмацавана драўлянай абарончай сцяной, якая згарэла. Пазней насыпаны вал, на грэбені якога збудавана новая абарончая сцяна (таксама згарэла). Пасля трэцяга пажару пляцоўка расшырана, па краі насыпаны вал з пяску і суглінку, пабудавана новая абарончая сцяна з гарызантальна пакладзеных бярвён дыям. 30—35 см, вертыкальна ўмацаваных слупамі. У 4—5 ст. з паўн.-зах. боку гарадзішча насыпаны вал і выкапаны роў, па краі пляцоўкі і на схілы падсыпаны тоўсты пласт пяску і суглінку.

У 2 буд. гарызонтах выяўлены рэшткі драўляных жытлаў: у ніжнім — вял., 4-вугольнае ў плане, 3-камернае (памяшканні пл. 48, 31 і 26 $м^2$ мелі падковападобныя агнішчы), у верхнім — жытлы, верагодна, мелі слупавую канструкцыю. Каля жытлаў размяшчаліся круглыя і авальныя ў плане ямы-паграбы. Знойдзены фр-ты глянцаванага і падглянцаванага посуду, абломкі венчыкаў рабрыстых і слоікавых пасудзін, жал. нож, сярпы, шылы, гліняныя прасліцы, грузікі дзякоўскага тыпу.

Г а р а д з і ш ч а - 2 за 0,5 км на ПнУ ад вёскі, на левым беразе канала Вілейска-Мінскай воднай сістэмы. Пляцоўка авальная, памерамі 45 ×35 м, выш. 3,5—8 м, з даволі стромкімі схіламі, акрамя паўднёвага. Выявіў у 1954 А.Р.Мітрафанаў, абследаваў у 1985 Я.Г.Звяруга. Знойдзены штрыхаваная кераміка, косці жывёл, абпаленыя камяні. Датуецца 2—5 ст.

*Літ.*: М и т р о ф а н о в А.Г. Городище в Вязынке // МАБ. 1957. Т. 1; Я г о ж. Железный век Средней Белоруссии (VII—VI вв. до н.э. — VIII в. н.э.). Минск, 1978. *Я.Г.Звяруга.*

**ВЯЛА́ЎСК**, археалагічныя помнікі — паселішчы і курганны могільнік каля в. Вялаўск Петрыкаўскага р-на Гомельскай вобл.

П а с е л і ш ч а - 1 палескага варыянта *днепра-данецкай культуры* (3-е тыс. да н.э.). За 1 км на ПдУ ад вёскі, на левым беразе р. Скалодзіна, на выш. 2—3 м над поймай і 3 м над узроўнем вады ў рацэ. Даўж. 120 м. Выявіў і даследаваў у 1965 У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт 0,25 м. Знойдзена 150 апрацаваных крэменяў, 31 крамянёвая прылада працы, каля 180 фр-таў 18—20 гліняных пасудзін, рэшткі вогнішча.

П а с е л і ш ч а - 2 палескага варыянта днепра-данецкай культуры (3-е тыс. да н.э.). За 0,3 км на ПдУ ад паселішча-1, на правым беразе р. Скалодзіна, у месцы яе вытоку з воз. Глінніцкае. Даўж. каля 150 м. Выявіў і абследаваў у 1976 У.Ф.Ісаенка. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і фр-ты керамікі.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к 11—13 ст. за 2 км на ПнЗ ад вёскі, ва ўр. Прыбітуха. 7 насыпаў выш. 0,8—1 м, дыям. 5—8 м. Адкрыў і даследаваў 3 курганы ў 1889 У.З.Завітневіч, абследавалі ў 1956 Ю.У.Кухарэнка, у 1976 У.Ф.Ісаенка, В.І.Шадыра. Пахаванняў пад насыпамі не выяўлена.

*Літ.*: И с а е н к о В.Ф. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976. *У.Ф.Ісаенка.*

**ВЯЛІ́КАЕ ПЕРАСЯЛЕ́ННЕ НАРО́ДАЎ**, перыяд у гісторыі Еўропы, адзначаны масавымі міграцыямі, у выніку якіх склалася аснова сучаснай этнакульт. карты гэтай часткі свету. Традыцыйна пачатак В.п.н. звязваюць з міграцыямі, што выклікалі разгром гунамі аб'яднання Германарыха (каля 375), фінал у Зах. Еўропе — з узнікненнем Франкскай дзяржавы і падзеннем шэрага ўсх.-германскіх каралеўстваў да сяр. 6 ст.; ва Усх. Еўропе — з рассяленнем слав. і цюркскіх народаў, утварэннем да к. 7 ст. Хазарскага каганата і першага Балгарскага царства. Некаторыя даследчыкі прымяркоўваюць пачатак В.п.н. да 2-й пал. 2 ст.; шэраг гістарыяграфічных школ лічаць заканчэннем В.п.н. перасяленне венграў у Карпацкую катлавіну ў к. 10 ст., пачатак ці заканчэнне эпохі вікінгаў. Існуюць і інш. канцэпцыі.

Гуны, якія прыйшлі ў Еўропу з Азіі, пасля заваявання аланаў перайшлі Дон і каля 375 перамаглі саюз готаў на чале з Германарыхам. Частка готаў і суседніх плямён скарылася заваёўнікам, іншыя адступілі на тэр. Усх. Рымскай імперыі. У 379—380 група плямён готаў, аланаў і гунаў на чале з Алтэем і Сафраксам у якасці федэратаў імперыі атрымалі землі на Сярэднім Дунаі і займалі іх да 400. Паводле мірнай дамовы 382 частка готаў (ядро будучых вестготаў) на аналагічных умовах заняла землі паміж Дунаем і Балканскімі гарамі. Для абароны мяжы па Дунаі імперыя прыцягвала і інш. групоўкі гунаў і готаў. Нападзенні квадаў, маркаманаў і вандалаў на Пн Сярэдняга Падунаўя і на Паўн. Рэйне былі адбіты войскамі Стыліхона, які ў 395—396 заключыў новыя дамовы з некаторымі групамі франкаў. Пасля сыходу шэрага вайсковых кантынгентаў з Брытаніі за узурпатарам Магнам Максімам у 383—388 паўн. мяжа Зах. Рымскай імперыі па Адрыянавай сцяне перастала існаваць.

У 395 пачаўся новы этап заваяванняў — вестготы на чале з Аларыхам І рушылі на Балканы. У 401 яны скіраваліся ў Італію, але былі спынены войскамі Стыліхона, які прапанаваў ім выплаты, і засталіся ў Ілірыі. Актывізаваліся і інш. групоўкі варварскіх плямёнаў. У 404 групы готаў, свеваў, вандалаў, аланаў і інш. плямёнаў на чале з Радагайстам уварваліся ў Італію, аднак зноў былі спынены Стыліхонам, які абапіраўся на федэрацкія атрады. У 406 вандалы, аланы і свевы прарваліся праз заслоны франкскіх федератаў у Галію. У 407 бургунды занялі Майнц і прылеглыя землі, пачаліся ўварванні саксаў на ўзбярэжжа Галіі, а узурпатар Канстанцін III пасля смерці Стыліхона ў 408 вывеў рэшткі рэгулярных войск з Брытаніі ў Галію. Пад націскам гэтых легіёнаў вандалы, аланы і свевы ў 409 пакінулі спустошаную Галію. Да 411 яны авалодалі значнай часткай Іспаніі. У 411 Канстанцін III быў забіты, уладу ў Галіі пры падтрымцы аланаў, бургундаў, алеманаў, франкаў захапіў узурпатар Іявіян. Пасля смерці Стыліхона

(408) спыніліся выплаты вестготам, якія неўзабаве ўварваліся ў Італію і ў 410 разрабавалі Рым. З імі была заключана новая дамова, і ў 412 вестготы рушылі ў Галію, дзе скінулі Іявіяна. У 413 вестготы разарвалі дамову з Рымам, франкі разрабавалі Трыр, імперыя прызнала бургундаў федэратамі на захопленых імі землях. У 415 вестготы сышлі ў Іспанію, у 416 зноў сталі федэратамі Рыма, паспяхова ваявалі з вандаламі і аланамі. У 418 аселі на ПдУ Францыі, зрабілі сваёй сталіцай Тулузу і ў далейшым пашыралі падкантрольную тэр.

У 420-я г. ў Брытаніі ў якасці федэратаў Зах. Рымскай імперыі з'явіліся новыя атрады саксаў для абароны ад уварванняў скотаў і піктаў. У 440-я г. саксы пасля шэрагу войн заснавалі ўласнае каралеўства, частка брытаў мусіла перасяліцца ў Брэтань. Франкі і аляманы ў 420-я г. пашыралі свае ўладанні, узяўшы пад кантроль практычна ўвесь басейн Рэйна. У 422 вандалы і аланы разграмілі рымскія легіёны, захапілі ў Іспаніі прыморскія гарады і флот; у 429 на чале з Гейзерыхам перапраавіліся ў Паўн.-Зах. Афрыку. Пасля ўпартай барацьбы ў 435 Рым прызнаў іх федэратамі, але неўзабаве яны захапілі Карфаген і інш. землі, якія яшчэ заставаліся ў Зах. Рымскай імперыі ў Афрыцы. Актыўны ўдзел вандалаў і аланаў у еўрап. палітыцы прывёў да таго, што па дагаворы 442 іх каралеўства стала першай юрыдычна прызнанай незалежнай дзяржавай на тэр. Рымскай імперыі.

За межамі абедзвюх Рымскіх імперый з к. 4 ст. найб. значнай сілай з'яўляліся гуны, якія падпарадкавалі многія групоўкі Усх. і Цэнтр. Еўропы. Выкліканыя іх прыходам перамяшчэнні плямён



Аўтар А.А. Лукашоў

аказалі значны ўплыў на многія інш. культуры Усх. Еўропы. Некаторыя гунскія атрады рабілі набегі на Усх. Рымскую імперыю, але многія служылі ёй у якасці федэратаў альбо наёмнікаў. У 420-я г. пачалася кансалідацыя гунаў пад верхавенствам Руа. Ён і яго пераемнікі прымусілі Усх. Рымскую імперыю да заключэння шэрагу дамоўленасцей. Афармленне дзяржавы гунаў ад Волгі да Рэйна і ад дацкіх астравоў да правабярэжжа Дуная завершылася пры пляменніках Руа — Блэдзе і Атыле, якія пачалі правіць у 435. Блэд і Атыла ў 436 разграмілі бургундаў і прымусілі акацыраў, якія вандравалі па Усх. Еўропе, адмовіцца ад саюзу з Канстанцінопалем. У 445 Атыла стаў аднаасобным уладаром і пачаў канцэнтраваць у Падунаўі сілы для ўварвання на імперскія тэр. У 447—448 гуны здзейснілі шэраг паходаў ва Усх. імперыю, якія скончыліся заключэннем дамовы, паводле якой гуны павінны былі кантраляваць усё Ніжняе Падунаўе. Аднак пагадненне не было рэалізавана з-за адмовы імператара Маркіяна (450—457) і перамяшчэннем сіл гунаў для вайны супраць Зах. Рымскай імперыі. У 451 гуны ўвайшлі ў Галію, але былі разбіты аб'яднанымі сіламі рымлян, вестготаў, франкаў і бургундаў. У 452 Атыла спустошыў Паўн. Італію і падступіў да Рыма, але адмовіўся ад штурму, атрымаўшы багаты выкуп, а ў 453 памёр. Сярод гунаў адбыўся раскол, у выніку якога сыны Атылы і іх саюзнікі былі разгромлены гепідамі.

Гепіды ў 2-й пал. 5 ст. заснавалі каралеўства на берагах р. Ціса, остготы ў гэты перыяд кантралявалі Сярэдняе Падунаўе (поўнасцю — з 469, пасля перамогі над скірамі, сарматамі і інш. плямёнамі), герулы — землі ў Паўд. Маравіі і Зах. Славакіі. Групы з перавагай усх.-германскага кампанента вядомыя ў гэты час у Паўн. і Цэнтр. Польшчы, Усх. Прыкарпацці, вярхоўях Цісы. У 470-я г. адна частка остготаў на чале з Відзімерам скіравалася ў Італію, пасля рушыла ў паўд. Францыю, другая — на Балканы, адкуль пасля шэрагу канфліктаў і дамоўленасцей з Усх. Рымскай імперыяй, узначальваемая Тэадорыхам Вялікім, у саюзе з ругіямі і інш. групоўкамі рушыла ў 489 у Італію. Зах. Рымскай імперыяй (рэальная ўлада якой ужо не выходзіла за межы Італіі) у 456—472, абапіраючыся на дружыны варвараў, фактычна кіраваў Рыкімер, сам напалову варвар, з 476 — скір Адаакр, які пазбавіў улады апошняга імператара Зах. Рымскай імперыі Ромула Аўгустула. Да 493 Тэадорых захапіў усю Італію (Адаакр быў забіты) і ў 497 атрымаў ад імператара Усх. Рымскай імперыі Анастасія I рэгаліі, якія пацвярджалі яго ўладу над Італіяй. На некалькі дзесяцігоддзяў Остгоцкае каралеўства стала мацнейшай дзяржавай у Зах. Еўропе.

Вандалы, якія з пач. 5 ст. разам з інш. плямёнамі кантралявалі Іспанію і Пн Афрыкі, у 455 разарвалі дамовы з Зах. Рымскай імперыяй, разрабавалі Рым і амаль кожны год рабілі набегі на Міжземнаморскае ўзбярэжжа. У 474 Усх. Рымская імперыя прызнала іх незалежнасць. Свевы, што засталіся ў Іспаніі, пачалі пашыраць свае тэр., аднак у 456 пацярпелі паражэнне і да 485 канчаткова падпарадкаваліся вестготам, якія на той момант кантралявалі ўжо большую частку Францыі. Зах. Швейцарыя і ПдУ Францыі належалі бургундам. Яны дасягнулі найвышэйшай магутнасці пры Гундабадзе, які правіў у 480—516. Землі па Верхнім Дунаі і Рэйну кантралявалі аляманы, на У ад іх жылі бавары, на Пн ад бавараў — цюрынгі і інш. Землі ў сярэднім і ніжнім цячэнні Рэйна займалі франкі, зах. мяжа іх уладанняў праходзіла па рэках Сона і Марна. У 486 франкскія войскі караля Хлодвіга разграмілі ў паўн.-ўсх. Галіі дзяржаву б. рымскага намесніка Сіагрыя і прасунуліся далёка на З, у 496—508 яны разграмілі аляманаў і вестготаў, захапілі Тулузу і атрымалі рэгаліі з Канстанцінопаля на кіраванне Галіяй. У 530-я г. канчаткова выціснулі вестготаў у Іспанію, заваявалі бургундаў, цюрынгаў, бавараў, фактычна скончыўшы В.п.н. для Зах. Еўропы.

Лангабарды ў к. 5 ст. асвоілі вярхоўі Эльбы, у 488—489 занялі пакінутыя ругіямі землі ў Норыку, у 510 пасля працяглай вайны перамаглі герулаў, а пасля смерці Тэадорыха ў 526 пашырылі свае ўладанні на землі ад Вены да Будапешта. У 547 лангабарды заключылі дагавор з Усх. Рымскай імперыяй (Візантыяй), занялі ПдЗ Венгрыі і пачалі барацьбу з гепідамі.

Рэалізацыю захаванай правіцелямі Візантыі ідэі аднаўлення Рымскай імперыі ў яе б. межах пасляхова распачаў Юстыніян I Вялікі [527—565]. Да пач. 530-х г. Візантыя далучыла Баспор і рэфармавала кіраванне і сістэму абароны паўд. Крыма. Пасля заключэння міру з персамі (532) візантыйскія войскі высадзіліся ў Паўн. Афрыцы і на працягу 533—534 заваявалі дзяржаву вандалаў. У 534 пачалася вайна з остготамі, якая цягнулася з пераменным поспехам да 552, калі візантыйцы пачалі браць верх. Да 555 Італія і Далмацыя поўнасцю перайшлі пад уладу Канстанцінопаля. За год да гэтага візантыйскія войскі высадзіліся ў Іспаніі, захапіўшы яе паўд.-ўсх. частку (кантралявалі яе да 624). Страціўшы дзяржаўнасць, остготы, вандалы і звязаныя з імі інш. народы асіміляваліся сярод мясц. насельніцтва і новых заваёўнікаў.

Па меры сыходу актыўных груповак, звязаных пераважна з усх. германцамі, ужо ў 5 ст. ўласна славяне («склавіны» ў лац. і грэч. крыніцах) асвоілі тэр. ад Дняпра да Одэра і ад паўд. Беларусі да ўсх. Прыкарпацця (пражская культура). Блізкія да іх групы з Верхняга Падняпроўя (Заазер'е) рассяліліся да паўд.-ўсх. Эстоніі, Пскоўшчыны і вярхоўяў Волгі (культура доўгіх курганоў). Інш. групы славян займалі басейн Дзясны і Сейма (*калочынская культура*), а таксама лесастэпавыя зоны Украіны да цэнтр. Малдовы (*анты*). Да сяр. 6 ст. склавіны прасунуліся ва ўсх. Германію (паступова асвоілі землі да Эльбы) і паўн. Польшчу (да Памор'я), а таксама на ПнУ Карпацкай катлавіны (верагодна, па дамоўленасці з лангабарда-

мі) і да нізоўяў Дуная (раён Іпатэшць—Кындэшць—Чурэл). З 530-х г. вядомы набегі склавінаў і антаў на Балканы. Асабліва масавымі яны былі ў 540—542, 548—551 і ў к. 570-х—580-я г. Разам з імі ці асобна набегі на Балканы рабілі і ўсх.-еўрап. качэўнікі, сярод якіх дамінавалі зах.-цюркскія групы (протабалгары).

У 558 у стэпах на ПдУ Еўропы з'явіліся *авары*, якія ўвабралі тут шэраг груповак і неўзабаве рушылі ў цэнтр кантынента. Да 568 яны, аб'яднаўшыся з лангабардамі, перамаглі гепідаў. Пасля сыходу лангабардаў у паўн. Італію авары сталі гаспадарамі ўсяго Сярэдняга Падунаўя і заснавалі Аварскі каганат (экспансію якога на прылеглыя землі спыніла толькі паражэнне авараў пад Канстанцінопалем у 626). Працягваліся паходы славян, якія суправаджаліся каланізацыяй заваяваных зямель. У 580-я г. іх групы ўжо жылі ў Фесаліі, да 630-х г. асвоілі зах. Балканы, паўд. і ўсх. Альпы (будучыя сербы, харваты, славенцы). Заключыўшы мір з персамі (591), візантыйцы кінулі войскі супраць славян і авараў. Гэтая вайна скончылася паўстаннем Фокі (602) і падзеннем мяжы Візантыі на Дунаі. У 7 ст. славяне рассяліліся па ўсім Балканскім паўвостраве, утвараючы племянныя княжанні («склавініі»), некаторыя групы перасяліліся ў Малую Азію, робячы набегі да Крыта і Паўд. Італіі, хаця ў 2-й пал. 7 ст. Візантыя пачала выціскаць славян з Пд Балкан.




*Крамянёвыя прылады з паселішча-1* ***Вялікія Бортнікі.***

У стэпах Усх. Еўропы следам за аварамі з'явіліся цюркі (Цюркскі каганат у к. 620-х г. уключаў землі на У ад Дона), у сяр. 7 ст. тут узнікаюць новыя цэнтры ўлады. Вынікам экспансіі хазар у 660—680-я г. стаў сыход часткі булгар на Балканы, дзе склалася першае Балгарскае царства, і фарміраванне на Пд Усх. Еўропы Хазарскага каганата. Гэтыя падзеі, на думку большасці даследчыкаў, пазначаюць заканчэнне В.п.н. на землях Усх. Еўропы.

*Літ.*: С и р о т е н к о В.Т. История международных отношений в Европе во второй половине IV — начале VI в. Пермь, 1975; К о р с у н с к и й А.Р., Г ю н т е р Р. Упадок и гибель Западной Римской империи и возникновение германских королевств. М., 1984; Свод древнейших письменных известий о славянах. Т. 1—2. М., 1991—95; К у л а к о в с к и й Ю.А. История Византии. Т. 1—3. Санкт-Петербург, 1996; Б у д а н о в а В.П. Варварский мир эпохи Великого переселения народов. М., 2000; Г а в р и т у х и н И.О. Начало великого славянского расселения на юг и запад // Археологічні студії. Київ; Чернівці, 2000. Т. 1; Т о м п с о н Э.А. Римляне и варвары. Санкт-Петербург, 2003; В о л ь ф р а м Х. Готы. Санкт-Петербург, 2003; Die Germanen. Bd.2. Berlin, 1983; Germanen, Hunen und Awaren. Nürnberg, 1987; L'occident romain et l'Europe centrale au début de l'époque des Grandes Migrations. Brno, 1999.

*І.А.Гаўрытухін.*

**ВЯЛІ́КІЯ БО́РТНІКІ**, археалагічныя помнікі — паселішчы каля в. Вялікія Бортнікі Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл.

П а с е л і ш ч а - 1 за 0,6 км на ПдЗ ад вёскі, у левабярэжжы меліяраванага русла р. Ала (прыток р. Бярэзіна). Займае прыбярэжны тарфянік і выступ карэннага берага ва ўрочышчах Дубраўкі і Сарокаў Вір. Адкрыта В.Г.Сілічам, абследавалі В.Ф.Капыцін, І.М.Язэпенка, М.І.Лашанкоў, В.І. Кошман, з 2001 раскопкі праводзіць А.А.Разлуцкая, ускрыта 195 м$^2$. Культ. пласт 0,35—1,14 м. У тарфяніку захоўваюцца арганічныя рэшткі, касцяны, рагавы, драўляны інвентар. Дамінуюць матэрыялы сярэдняга і позняга неаліту (3-і і 4-ы этапы *днепра-данецкай культуры*), у арнаментацыі керамікі заўважаны ўплывы традыцыі *верхнедняпроўскай культуры*), выяўлены адзінкавыя знаходкі *шнуравой керамікі культуры.* Атрыманы абсалютныя даты метадам 14С па костках жывёл (зубр, лось) са слядамі ад разборкі тушаў крамянёвымі прыладамі 8000±700 ВР (Ле-7888), 5370±130 ВР (Кі-15029), 3975±75 ВР (Ле-7889). Знойдзены таксама матэрыялы *сярэднедняпроўскай культуры* ранняга перыяду бронзавага веку, тшцінецкага культ. кола, штрыхаваная кераміка і грузікі жал. веку; кругавы посуд дрыгавіцкіх

старажытнасцей, каляровыя шкляныя пацеркі, бронзавая рыбацкая блешня 10—12 ст. Крамянёвы інвентар вырабляўся на месцы з марэннай стракатай крапчастай сыравіны, адзінкавыя рэчы зроблены з якаснай крэйдавай. Нуклеусы невял. памераў, спрацаваныя, адна-, двух- і шматпляцовачныя, 1 алоўкападобны. З прыкметамі другаснай апрацоўкі і слядамі выкарыстання каля 30% знойдзена інвентару. Большасць прылад выканана на адшчэпах. Наканечнікі стрэл трохкутныя і лістападобныя, праколкі, разцы, разнастайныя скрабкі, скоблі, рэжучыя прылады, свердлы, укладышы, нажы, абломкі цёслаў і сякер. Колькасна пераважае ляпная неалітычная кераміка, посуд шыракагорлы, з канічнымі днішчамі, арнаментацыя ў большасці выпадкаў занальная, разнастайныя спалучэнні грабеньчатых і накольчатых матываў, знутры расчосы. Касцяны інвентар




*Ляпная неалітычная кераміка з паселішча-1 Вялікія Бортнікі.*

прадстаўлены адціскальнікамі, долатамі, праколкай, муфтай, прыладай кшталту кляўца, вастрыямі, лашчыламі. Астэалагічны матэрыял (1235 адз.) у большасці прэзентуе рэшткі паляўнічых відаў жывёл: дамінуюць бабёр, куніца, дзік, лось, алень, зубр, мядзведзь, выяўлены рэшткі тура, казулі, сярэдніх драпежнікаў, балотнай чарапахі, дзікіх качак крыжанкі і чэрнеці. Прамысловая фауна складае 68—82%, сярод хатніх відаў пераважаюць рэшткі свінні, костак авечак, буйной рагатай жывёлы і коней амаль пароўну, менш было коз, сустрэты фасіліі сабак.

П а с е л і ш ч а - 2 днепра-данецкай культуры сярэдняга і позняга неаліту. За 0,2 км на ПдУ ад паселішча-1, на пясчанай дзюне авальнай формы, затарфаванай каля зах. падножжа, паміж меліярацыйным каналам і левым берагам р. Ала. Адкрыў у 2000 В.Ф.Капыцін, абследавала ў 2002 А.А.Разлуцкая. Знаходкі выяўлены на пл. 50 × 30 м². Культ. пласт 0,4 м. Знойдзена 39 прылад з крапчастага крэменя. Крамянёвы інвентар выкананы ў большасці на адшчэпах: скрабкі, рэжучыя прылады, укладыш, адыходы вытворчасці. Ляпны неалітычны посуд прадстаўлены 54 фр-тамі посуду. Арнаментацыя керамікі занальная, уяўляе разнастайныя зубчастыя адбіткі, адступаючыя наколы, глыбокія наколы тарцом полага акруглага, канцом раздвоенага арнаменціраў. У керамічным цесце багатая расліннасць і жарства. Выяўлены дробныя кальцыніраваныя косткі.

Калекцыя знаходак захоўваецца ў ІГ НАН Беларусі.

*Літ.*: К о п ы т и н В.Ф. Археологические памятники Бобруйского района Могилевской области. Могилев, 2001; Р а з л у ц к а я А.А. Новые материалы по




***Касцяныя і рагавыя вырабы з паселішча-1 Вялікія Бортнікі.***

каменному веку из раскопок поселения Большие Бортники 1 в Поднепровье // «Открыть миру душу белоруса...»: матэрыялы Міжнар. навук.-практ. канф., прысвечанай 150-годдзю з дня нарадж. Е.Р.Раманава. Гомель, 2005; Я е ж. Остатки растений из культурного слоя поселения Большие Бортники (бассейн Березины) // Ботаника. Минск, 2008. Вып. 35. *А.А.Разлуцкая.*

**ВЯЛІ́КІЯ СПО́РЫ**, археалагічны помнік — гарадзішча каля в. Вялікія Споры Пастаўскага р-на Віцебскай вобл. За 0,4 км на У ад вёскі, на мысе паміж азёрамі Вялікая і Малая Світа, ва ўр. Гарадок. Пляцоўка памерамі 60 × 74 м, выш. 15—20 м, пашкоджана акопамі 1-й сусветнай вайны. У 1966 абследаваў Э.М. Зайкоўскі, у 2001 В.М.Сідаровіч даследавала 20 м$^2$, вызначэнне астэалагічнага матэрыялу праведзена А.А.Разлуцкай. Знойдзены фр-ты ляпнога гладкасценнага і штрыхаванага посуду, у т.л. рабрыстых форм, жал. серп, шпілька з касцяным навершам у выглядзе шпулькі, праколкі, гліняныя рыбалоўныя грузілы, каменныя цёрачнікі, якія належаць носьбітам *штрыхаванай керамікі культуры* і датуюцца к. 1-га тыс. да н.э. — пач. 1-га тыс. н.э.



*Рэчы з гарадзішча **Вялікія Споры**.*

*Літ.*: С и д о р о в и ч О. Материалы раскопок городища Большие Споры Поставского района // Музейны весн. Мінск, 2005. Вып. 2; Р а з л у ц к а я А. Охота и скотоводство обитателей городища Большие Споры в Поозерье (железный век) // Там жа. *В.М.Сідаровіч.*

**ВЯЛІ́КІЯ ШЫЛАВІЧЫ**, археалагічныя помнікі — стаянкі, гарадзішча і селішчы каля в. Вялікія Шылавічы Слонімскага р-на Гродзенскай вобл.

С е л і ш ч а - 1 за 0,1 км ад правага берага р. Шчара, ва ўр. Папова Гара. Пляцоўка памерамі 70 × 50 м. Выявіў у пач. 1970-х г. В.Р.Супрун, даследавалі ў 1986 М.М.Чарняўскі, у 1987—88 Н.В. Шаблюк. Культ. пласт 0,4 м. Выяўлена 80 нуклеусаў, 248 прылад працы, 2 вербалістыя наканечнікі стрэл, авальныя сякучыя прылады, ланцэтападобныя вастрыі, разцы, канцавыя скрабкі, скоблі, нажы, праколкі, фр-ты керамікі ранняга неаліту. Датуецца 6—4-м тыс. да н.э.

С т а я н к а - 1 за 0,2 км на Пд ад вёскі, на краі надпоймавай тэрасы р. Шчара, ва ўр. Палачышча. Адкрыў і даследаваў у 1963—64 В.Р.Супрун, абследаваў у 1974 М.М.Чарняўскі. На паверхні сабраны ляпная кераміка, крамянёвыя скрабкі, ножападобныя пласціны, наканечнікі стрэл і коп'яў, нуклеусы і інш. прадметы неаліту і бронзавага веку.

С т а я н к а - 2 *нёманскай культуры* на правым беразе Шчары, ва ўр. Ніўкі. Памеры 50 × 60 м. Адкрыў і даследаваў у 1963—64 В.Р.Супрун, даследаваў у 1974 М.М.Чарняўскі. Культ. пласт да 0,5 м. Выяўлены крамянёвыя прылады працы.

Г а р а д з і ш ч а за 1,5 км на ПнУ ад вёскі, на беразе р. Гараднянка, ва ўр. Гарадок (Маргач). Пляцоўка авальная, памерамі 15 × 10 м, узвышаецца над поймай на 8 м. Адкрыў у 1895 Ф.В.Пакроўскі, абследавалі ў 1963 В.Р.Супрун, у 1974 Л.Д.Побаль. Культ. пласт 0,2 м. Знойдзены рэшткі зерняцёркі, абломкі гаршкоў, па форме падобныя да посуду мілаградскай і зарубінецкай культур. Датуецца к. 1-га тыс. да н.э. — пач. н.э.

С е л і ш ч а - 2 побач з гарадзішчам, на беразе ручая Студзянец (правы прыток Шчары). Памеры 300 × 50 м. Абследавалі ў 1973 В.Р.Супрун, у 1974 Л.Д.Побаль. Культ. пласт 0,2 м. Выяўлены кераміка з расчосамі 2—5 ст., фр-ты глянцавых гаршкоў, ганчарны посуд эпохі Кіеўскай Русі.

С е л і ш ч а - 3 за 2 км на ПнЗ ад вёскі, на правым беразе Шчары. Пл. каля 1 га. Абследавалі ў 1963 В.Р.Супрун, у 1973 Л.Д.Побаль. На паверхні сабрана ляпная гладкасценная кераміка 6—8 ст.

С е л і ш ч а - 4 за 2,5 км на ПдУ ад вёскі, на левым беразе Шчары, на месцы стаянкі каменнага веку. Пл. каля 1 га. Абследавалі ў 1963 В.Р.Супрун, у 1974 Л.Д.Побаль. На паверхні сабраны фр-ты ляпной гладкасценнай керамікі 6—8 ст.

*Літ.*: С у п р у н В.Г. Памятники каменного века и эпохи бронзы в бассейне среднего течения р. Щары // Древности Белоруссии. Минск, 1966. *М.М.Чарняўскі.*

**ВЯЛЯ́ЦІЧЫ**, археалагічныя помнікі — селішча і могільнікі каля в. Вяляцічы Барысаўскага р-на Мінскай вобл.

С е л і ш ч а за 0,4—0,5 км на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Нача пры ўпадзенні яе ў р. Бобр. Пл. каля 1 га. Культ. пласт 0,2 м. Пашкоджана пясчаным кар'ерам. Выявіў і абследаваў у 1986 Ю.А.Заяц. Знойдзены нарыхтоўка крамянёвай стралы і скрабок (адносяцца да позняга неаліту ці бронзавага веку), фр-ты керамічнага посуду, жал. нож, фр-т глінянага прасліца. Помнік датуецца 6—10 ст.

М о г і л ь н і к - 1 за 0,45 км на Пд ад вёскі, ва ўр. Перавоз, блізка да левага берага Бабра. 12 насыпаў дыям. 5—9 м, выш. 0,5—1 м. У 1979 выявіў, у 1986 раскапаў 3 курганы Ю.А.Заяц. У курга-



*Крамянёвыя наканечнікі (1—2), трапецыі (3—6), мікрапласцінкі з рэтушшу (7—10, 12), сегмент (11), ланцэтападобныя вастрыі (13—18), скрабкі (19—20, 24—27), разцы (21—23), нож (28), скоблі (29—30), нуклеус (31), рубячыя прылады (32—33) з паселішча* ***Вялікія Шылавічы.***



*В.С.Вяргей.*

не № 1 пахавальны абрад — крэмацыя са змяшчэннем рэштакаў каля вяршыні кургана. Знаходкі: жал. спражка і фр-т бронзавага вырабу. У кургане № 2 пахавальны абрад — трупапалажэнне на попельнай пляме ад рытуальнага вогнішча галавамі на З і ПнЗ. Пры жаночым пахаванні знойдзены каралі са шкляных залачоных цыліндрычных і бочкападобных пацерак, жал. нож і медны дротавы бранзалет. Курган № 3 быў пусты. Датуецца 10—12 ст.

М о г і л ь н і к - 2 за 0,25 км на У ад вёскі, у лесе. 4 насыпы дыям. 8—10 м і выш. 0,8—1,5 м. Вядомы з 1930-х г.

М о г і л ь н і к - 3 за 3 км на ПдУ ад вёскі, на левым беразе Бабра, у лесе, ва ўр. Старая Маталыга. 2 насыпы дыям. 5 і 10 м, выш. адпаведна 0,8 і 1,5 м. Адкрыў і абследаваў у 1986 Ю.А.Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

М о г і л ь н і к - 4 за 2 км на ПдЗ ад вёскі, на левым беразе р. Бобр, ва ўр. Пецкі Бор, абапал лясной дарогі. 30 насыпаў дыям. 6—14 м, выш. 1—2,5 м. Адкрыў у 1986 Ю.А.Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.*: Ш т ы х о в Г.В., З а я ц Ю.А., і інш. Исследования в Минске и его округе // АО 1986. М., 1988.

*Ю.А.Заяц.*

**ВЯРГЕ́Й** Валянціна Сяргееўна (н. 28.9.1946, г. Петрыкаў Гомельскай вобл.), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1984). Скончыла БДУ (1968), працавала ў ім (1969—71), потым у Гродзенскім педагагічным ін-це (1971—75), у 1978—2007 у ІГ НАН Беларусі. Асн. кірунак навук. дзейнасці — гістарыяграфія археалогіі Беларусі і археалогія славян у жал. веку і раннім сярэдневякоўі. Выявіла і абследавала каля 100 археал. помнікаў. На 14 помніках правяла раскопкі.

*Тв.*: Белорусская археология: достижения археологов за годы советской власти. Минск, 1987 (у сааўт.); Археалагічная навука ў Беларускай ССР, 1919—1941 гг. Мінск, 1992; Археалогія Беларусі. Т. 2 Мінск, 1999 (у сааўт.); Раннеславянские древности III—V вв. н.э. на территории Беларуси и России (свод памятников киевской археологической культуры). Минск, 2005 (у сааўт.); Археалагічнае вывучэнне Беларусі ў другой палове XIX ст. // ГАЗ. 2006. Вып. 22.

*В.І.Шадыра.*

**ВЯРЭ́НЬКА** Францішак Леапольдавіч [15.3.1862, б. маёнтак Пуцілкавічы (цяпер вёска) Ушацкага р-на Віцебскай вобл. — 4.3.1892], беларускі археолаг і краязнавец. Скончыў Мінскую гімназію (1881), Варшаўскі ун-т (1887). Запісваў легенды і паданні роднага краю. У ваколіцах Пуцілкавічаў выявіў 9 гарадзішчаў жал. веку (каля вёсак Гвазды, Вял. Бірукі), да 50 курганных могільнікаў, селішчы каля вёсак Малыя Дольцы і Афераўшчына; у курганна-жальнічным могільніку раскапаў 36 пахаванняў. Рэчы з раскопак, справаздачы, археал. карта, планы гарадзішчаў і рукапісы прац «Курганы ў Пуцілкавічах», «Курганы і два дагістарычныя паселішчы ў Пуцілкавічах» захоўваюцца ў Кракаўскім археал. музеі.

*Літ.*: П о б о л ь Л.Д. Древности Беларуси в музеях Польши. Минск, 1979.

*Л.У.Дучыц.*

**ВЯРЭ́НЬКА**, каробка (часам заплечная), плеценая з палос бяросты, лубу, для пераносу прадуктаў, збору грыбоў, ягад. Мела прадаўгаватую ці авальную форму з ручкай і вечкам або без яго. Знойдзена пры раскопках у Мінску, Віцебску ў культ. пласце 17 ст.

**ВЯ́ЦІЧЫ**, усходнеславянскае племя, якое жыло на У ад *крывічоў*, *радзімічаў*, севяран у басейне р. Ака. Паводле летапісных крыніц В. прыйшлі з ляшскіх (прапольскіх) зямель, а правадыры радзімічаў і В. (Радзім і Вятка) былі братамі, якія са сваімі родамі аселі — Радзім на р. Сож, Вятка на р. Ака. З 11 ст. ў В. развіваліся феад. адносіны. У 12 ст. іх землі былі падзелены паміж суздальскімі і чарнігаўскімі князямі, у 14—15 ст. увайшлі ў склад Маскоўскага княства. Курганы В. 8—10 ст. з трупаспаленнем, у 11—12 ст. яны выцясняюцца пахаваннямі з трупапалажэннем галавой на З. Многія археолагі звяртаюць увагу на падабенства радзіміцкага і вяціцкага жаночага ўпрыгажэння (племянная адзнака) — сяміпрамянёвага і сямілопасцевага скроневых кольцаў. У жаночых пахаваннях шмат упрыгажэнняў, з якіх найчасцей сустракаюцца крыштальныя і жоўтыя шкляныя шарападобныя пацеркі, пярсцёнкі ў краты, пласціністыя бранзалеты з загнутымі канцамі.

*Літ.*: А р ц и х о в с к и й А.В. Курганы вятичей. М., 1930; Н е д о ш и в и н а Н.Г. К вопросу о связях радимичей и вятичей // Очерки по истории русской деревни X—XIII вв. М., 1960 (Тр. ГИМ. Вып. 37); Р а в д и н а Т.В. Семилопастные височные кольца // Проблемы советской археологии. М., 1978; С е д о в В.В. Восточные славяне в VI—XIII вв. М., 1982.



**ГАВО́РСКІ** Ксенафонт Антонавіч (1821, Кіеў — 29.6.1871), беларускі і рускі археолаг, гісторык. Чл.-кар. Імператарскага рус. археал. т-ва. Скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію (1845), выкладаў царкоўную археалогію ў Полацкай духоўнай семінарыі. У 1857—58 рэдагаваў неафіцыйную частку газ. «Витебские губернские ведомости». З 1864 у Вільні выдаваў час. «Вестник Западной России». У пач. 1850-х г. праводзіў раскопкі курганоў у наваколлі Полацка (Шпакоўшчына, Рудня, Балотаўка) і на Ушаччыне каля мяст. Селішча, па берагах р. Дрыса і ў інш. месцах. Першым у Беларусі падрабязна апісаў структуру курганных насыпаў, акцэнтаваў увагу на вывучэнні раўкоў. Надрукаваў апісанне археал. помнікаў наваколля Полацка і нар. паданні пра іх. Вёў рэгулярную перапіску з Імператарскім археал. т-вам, пасылаў туды знаходкі. Вывучаў мясц. архівы.



*К.А.Гаворскі.*

*Тв.*: Поездка (14 сент. 1852 г.) из г. Полоцка по направлению, так называемой, Ольгердовой дороги; Археологические разыскания в окрестностях г. Полоцка // Зап. имп. Археологического о-ва. Санкт-Петербург, 1853. Т. 5; Летопись императорского археологического общества // Изв. Археологического о-ва. Санкт-Петербург, 1859. Т. 1, вып. 4; Историческое описание Полоцкого Борисоглебского монастыря // Вестн. Западной России. 1865. Кн. 5, нояб.

*Літ.*: Сементовский А. Белорусские древности. Вып. 1. Санкт-Петербург, 1890; Каханоўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мінск, 1984; Алексеев Л.В. Археология и краеведение Беларуси XVI — 30-е годы XX в. Минск, 1996.

*Л.У.Дучыц.*

**ГАДЗІ́ЛАВІЧЫ**, археалагічны помнік — курганны могільнік *радзімічаў* каля в. Гадзілавічы Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл. За 1,5 км на ПнЗ ад вёскі, на левым беразе р. Дняпро. Датуецца 10—12 ст. Захавалася каля 100 (было каля 400) паўсферычных насыпаў выш. 0,5—2 м, дыям. 5—12 м. Вядомы з 1873. Абследавалі ў 1892 М.В.Фурсаў і С.Ю.Чалоўскі, даследавалі ў 1930 А.М.Ляўданскі, у 1964 Г.Ф.Салаўёва, у 1981 А.М.Плавінскі і В.Н.Рабцэвіч. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце на рытуальным вогнішчы галавой на З (часам з невял. адхіленнямі на ПдЗ), у адзінкавых выпадках — на У. Вакол многіх касцякоў выяўлены попельна-вугальныя («вогненныя») кольцы. Знойдзены нажы, крэсівы, бранзалеты, пярсцёнкападобныя і сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы, фібулы, сярэбраны псеўдавіты пярсцёнак, бронзавыя паясныя кольцы, шматлікія разнастайныя шкляныя (золата- і сярэбрашкляныя бачонкападобныя, зонныя, малінападобныя, бісер) і сердалікавыя пацеркі, вітая грыўня, бразготкі, медныя пярсцёнкі, бронзавыя падвескі-лунніцы, пятлістыя, манетападобныя (некаторыя з выявай галавы быка) падвескі, бронзавыя паясныя накладкі, якія маюць аналагі ў матэрыялах Гнёздаўскага некропаля каля Смаленска (Расія). Сярод шматлікіх фр-таў кругавой керамікі выяўлены 2 цэлыя гаршкі выш. 10 см. На адным з іх лінейны і хвалісты арнамент, у другога на донцы кляймо — крыж у коле.

*Літ.*: Ляўданскі А.М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг. // Працы. Т. 3; Соловьева Г.Ф. Погребальные обряды // Древности железного века в междуречье Десны и Днепра // САИ. 1962. Вып. Д 1—12; Я е ж. Славянские курганы близ г. Рогачева Гомельской области // КСИА. 1972. Вып. 129; Плавінскі А.М. Курганная група // ПГКБ. 1983. № 4; Я г о ж. Раскопки



*Жаночыя ўпрыгажэнні з курганнага могільніка Гадзілавічы.*

курганов в Рогачевском районе археологической экспедицией Белгосуниверситета // Старажытнасці Рагачоўшчыны. Мінск; Рагачоў, 2000. *А.М.Плавінскі.*

**ГАДЛО́ЎСКІ** (Godłowski) Казімір (9.12.1934—9.7.1995), польскі археолаг-славіст. Д-р габілітаваны (1969). Скончыў Ін-т археалогіі Ягелонскага ун-та ў Кракаве (1955), у 1976—91 яго дырэктар, адначасова праф. Ягелонскага (з 1977) і Венскага (з 1988) ун-таў. Чл.-кар. Нямецкага археал. ін-та (1975), Баварскай АН (1994). Спецыяліст у галіне археалогіі рымскага перыяду і эпохі *Вялікага перасялення народаў*, гісторыі ранніх славян. У сваіх работах неаднаразова карыстаўся археал. матэрыяламі з раскопак на тэр. Беларусі (*Чаплін*, *Адаменка*, *Тайманава*, *Дзедзілавічы* і інш.). Быў ініцыятарам абмену студэнтамі ў перыяд правядзення археал. практык паміж Ягелонскім ун-там і БДУ, неаднаразова ўдзельнічаў у археал. канферэнцыях, якія праводзіліся ІГ НАН Беларусі.

*Тв.*: The Chronology of the Late Roman and Early Migration Periods in Central Europe // Zeszyty Naukowe Uniwersyteta Jagełłońskiego 217. Prace Archeologiczne 11. Kraków, 1970. T. 4; Materiały do poznania kultury przeworskiej na Górnym Śląsku // Materiały starożytne i wczesnośredniowieczne. Kraków, 1977. T. 4; Okres lateński w Europie // Archeologia pierwotna i wczesnośredniowieczna. Kraków, 1977. Cz. 4; Z badań nad zagadnieniem rozprzenienia Słowian w V—VII w. n. e. Kraków, 1979; Przemiany kulturowe i osadnicze w południowej i środkowej Polsce w młodszym okresie przedrzymskim i w okresie rzymskim // Prace Komisji Archeologicznej PAN — Oddział w Krakowie. Wrocław etc., 1985. № 23.

*А.А.Егарэйчанка.*

**ГАЙКО́ЎКА**, археалагічны помнік — стаянка *грэнскай культуры* каля в. Гайкоўка Касцюковіцкага р-на Магілёўскай вобл., на беразе возера, у басейне р. Беседзь, на схіле ўр. Печанеж. Выявіў у 1926 і даследаваў у 1930 К.М.Палікарповіч, у 1972 В.Ф.Капыцін даследаваў 265 $м^2$. Культ. пласт залягае пад ворывам на глыб. 0,4—0,5 м. Знойдзены 1974 артэфакты, у т.л. 351 прылада працы: тронкавыя наканечнікі стрэл, бакавыя, вуглавыя і сярэдзінна-вуглавыя разцы, канцавыя, падакруглыя і двайныя скрабкі, скрэблападобныя прылады, авальныя сякеры і цёслы, пласціны-ўкладышы, вырабы з выемкамі, праколкі і вастрыі, пласціны і адшчэпы з рэтушшу. Апрацоўка крэменю адбывалася на паселішчы, пра што сведчыць вял. колькасць нуклеусаў, пласцін і адшчэпаў.

*Літ.*: Палікарповіч К.М. Неалітычная стаянка каля балота Печанеж на Калініншчыне. Мінск, 1927; Яго ж. Досьледы культур каменнага і бронзавага перыодаў у БССР у 1930 — 1931 гг. // Працы. Т. 1; Копытин В.Ф. Поздний мезолит Посожья // Изыскания по мезолиту и неолиту СССР. Ленинград, 1983; Его ж. Археологические памятники Костюковичского района Могилевской области. Могилев, 1996; Его ж. Свод памятников археологии чернобыльской зоны Могилевской области. Могилев, 1998. *А.У.Коласаў.*



*Гайцюнішскі дом-крэпасць.*

**ГАЙЦЮНІ́ШСКІ ДОМ-КРЭ́ПАСЦЬ**, помнік грамадзянскага будаўніцтва пачатку 17 ст., на паўд. ускраіне в. Гайцюнішкі Воранаўскага р-на Гродзенскай вобл., на левым беразе р. Жыжма. Пабудаваны ў 1611—12 з цэглы па ўласным праекце яго ўладальніка, будаўніка і начальніка каралеўскіх збудаванняў у Вільні П.Нонхарта сумесна з інжынерам-фартыфікатарам Ван Дадэнам. Пабудову абкружалі абарончыя збудаванні бастыённага тыпу і роў, запоўнены вадой. Будынак прамавугольны ў плане, 2-павярховы, пад высокім вальмавым дахам. Па цэнтры гал. фасада размешчана 3-павярховая прамавугольная ў плане вежа; пазней да яе прыбудаваны ганак у выглядзе невысокага кубічнага аб'ёму з арачнымі праёмамі і тэрасай наверсе. Па вуглах будынка цыліндрычныя вежы з шатровымі завяршэннямі і вузкімі байніцамі. У 1986 помнік даследавала архіт.-археал. экспедыцыя Спец. навук.-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў. Устаноўлена, што падмуркі пад уваходнай і вуглавымі вежамі не заглыблены ў мацерыковы грунт, падмурак асн. будынка дастаткова глыбокі. Гэта звязана з наяўнасцю падвалаў, перакрытых цаглянымі скляпеннямі, і высокім узроўнем грунтавых вод, што паўплывала на выкарыстанне ў муроўцы і пры будаўніцтве падпорных слупоў у падвалах толькі камянёў, замацаваных вапнавай рошчынай. Падмуркі ў аснове прыблізна на 1 м шырэйшыя за цагляныя сцены будынка, што звязана з балоцістым характарам мясцовасці. У будаўніцтве выкарыстоўвалася цэгла-пальчатка памерамі 29,3 × 15 × 6—7 см. Камяні падмуркаў маюць у папярэчніку 20—30 см, а закладзеныя бліжэй да асновы — каля 50 см. У шурфе, закладзеным на сярэдзіне тыльнага фасада будынка, знойдзены рэшткі муроўкі з камянёў і цэглы на вапнавай рошчыне. Таўшч. цаглін (5—5,5 см) і выяўленыя фр-ты кафлі даюць падставы меркаваць, што прыбудова да замка была зроблена ў 2-й пал. ці ў к. 17 ст. Знойдзены таксама фр-ты пляскатых даховак таўшч. 1,5 см. Дом-крэпасць — узор пабудовы загараднай рэзідэнцыі ў выглядзе мініяцюрнага замка. *І.М.Чарняўскі.*

**ГА́КАЎНІЦА**, ручная агнястрэльная зброя, прызначаная для абароны замкавых і гар. умацаванняў. Паявіліся ў к. 14 ст. ў выніку ўдасканалення ручной стрэльбы. На тэр. Беларусі былі найб. распаўсюджаны ў 15—16 ст. Вялікія Г. па памерах набліжаліся да гармат. Раннія экзэмпляры адліваліся з бронзы ці каваліся з жалеза. Для больш зручнага ўтрымання ў руках мацаваліся пры дапамозе ўтулкі ці дзяржання на драўлянай жэрдцы альбо на простай драўлянай ложы. Порах запальвалі пры дапамозе кнота праз адтуліну ў ствале. У 16 ст. маглі забяспечвацца колавым замком. Для змяншэння аддачы мелі знізу спец. крук (гак), які чапляўся за выступ муру ці інш. падпору. Даўж. Г. 1,5—1,8 м, вага да 25 кг. Стралялі жал. і алавянымі кулямі дыям. 2—2,6 см. Укарочаныя Г. наз. паўгакаўніцамі, пулгакамі.

*Літ.*: Бохан Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV — канца XVI ст. Мінск, 2002.

*Ю.М.Бохан.*

**ГАЛАСНІКІ́**, гліняныя пасудзіны ў выглядзе высокага збана з доўгім вузкім горлам, якія ўмуроўвалі ў сцены і скляпенні храмаў горлам у інтэр'ер. Г. паляпшалі акустыку памяшкання, аблягчалі мураваную сцяну. У Беларусі вядомы з 12 ст., у муроўцы сцен гродзенскіх Барысаглебскай і Ніжняй цэркваў. Выш. гродзенскіх Г. вагаецца ад 38 да 49,5 см. Дыям. гарлавін Г. Каложскай царквы ўсярэдзіне 7—8 см, паверхня пакрыта шчыльным лінейным (шнураваным) арнаментам. Г. выкарыстоўвалі полацкія і навагрудскія майстры (Барысаглебская царква ў Навагрудку, Спаса-Праабражэнская царква Ефрасіннеўскага манастыра ў Полацку). Часам замест Г. у Полацку ўжываліся амфары.

*Літ.*: Трусаў А. Манументальнае дойлідства Беларусі XI—XVIII стст. Мінск, 2001.

*А.А.Трусаў.*

**ГАЛАЎНЫ́Я ЎБО́РЫ**, састаўная частка адзення. У мінулым адлюстроўвалі сацыяльнае, а жаночыя — і сямейнае становішча чалавека. Паводле археал. знаходак найб. раннія Г.ў. вядомы з эпохі неаліту — скураныя ці футравыя шапачкі, часам упрыгожаныя бурштынавымі гузікамі. У ранні́м жал. веку насілі шапачкі са спірале- ці акулярападобнымі падвескамі. Г.ў. плямён зарубінецкай і мілаградскай культур нагадвалі скіфскія і сармацкія (у жанчын — чапец і пакрывала, расшытае пацеркамі). У 9—13 ст. дзяўчаты насілі вянкі з бяросты ці лубу, абшытыя скурай або тканінай (б. в. Аўсянікі Магілёўскага р-на), часам з шаўковай тасьмой, металічнымі венчыкамі. Упрыгожвалі іх вышыўкай ніткамі, шклянымі пацеркамі, зрэдку залачонымі бляшкамі (г. Навагрудак, вёскі Камена Вілейскага, Жукавец Бярэзінскага р-наў). Вясельныя Г.ў. выяўлены каля царквы 12 ст. ў Мінску: вянок з кветак, з расшытым ачэллем на бяросце, рэшткамі лёгкай тканіны. Жанчыны на сколатыя валасы надзявалі чапец, шапачку, кіку, аснову якіх рабілі з бяросты ці лубу, абцягвалі тканінай ці скурай (вёскі Узноснае Талачынскага, Дзям'янкі Добрушскага р-наў), расшывалі, як і дзявочыя вянкі. Да Г.ў. жанчын і дзяўчат прымацоўвалі скроневыя кольцы. Для балцкіх плямён 7—13 ст. характэрны жаночы галаўны вянок-упрыгажэнне — вайнага. З іх найб. пашыраныя лентападобныя з 3—6 радоў бронзавых спіралек уперамежку з бронзавымі пласцінамі, нанізанымі на тонкія жгуты з лыка. У 11—12 ст. вянкі дапаўняліся трапецападобнымі падвескамі і званочкамі. На ПнЗ Беларусі жанчыны насілі шапачкі, упрыгожаныя спераду металічнымі пласцінамі (вёскі Апонаўцы і Пузелі Воранаўскага, Вензаўшчына Шчучынскага р-наў), наміткі (зашпільвалі булаўкамі), павой, убрус (накшталт сучасных шаляў), якія выраблялі з розных тканін белага ці чырвонага колераў, упрыгожвалі вышыўкай, нашывалі металічныя бляшкі рознай формы (в. Казлоўцы Міёрскага р-на). Гараджанкі насілі ачэлле з 2 сагнутых драўляных валікаў, абшытых тканінай, на якой замацоўвалі да 20 металічных дужак, заможныя на шалі надзявалі шапкі, аздобленыя футрам. Мужчыны насілі суконныя ці лямцавыя каўпакі з нізкім паўкруглым, конусападобным верхам, з аколышам, часта абшытыя футрам (гарады Брэст, Полацк). *Л.У.Дучыц.*

**ГАЛАЦЭ́Н** (ад грэч. holos увесь + kainos новы), сучасная геалагічная эпоха, апошні ў гісторыі Зямлі адрэзак чацвярцічнага перыяду, які лічаць на тэрыторыях, што былі пакрыты ў антрапагене ледавіком, пасляледавікоўем. Тэрмін «Г.» прапанаваны ў 1869 французскім даследчыкам П.Жарвэ. Паводле радыевугляроднага датавання большасць даследчыкаў вызначае мяжу плейстацэну—Г. датай 10,3 тыс. гадоў таму назад. У пач. Г. вызначылася сучасная занальнасць расліннага покрыва, з зямлі зніклі апошнія прадстаўнікі мамантавага палеалітычнага комплексу, адбыўся пераход ад палеаліту да мезаліту. Галацэнавы гарызонт у адпаведнасці са зменамі кліматычных фаз складаецца з 3 падгарызонтаў. Ранні (10,3—8 тыс. гадоў таму назад) уключае прэбарэальны (10,3—9,2 тыс. гадоў) і барэальны (9,2—8 тыс. гадоў) перыяды з халодным і ўмераным кліматам. Сярэдні (8—2,5 тыс. гадоў назад) падзяляецца на вельмі цёплы і вільготны атлантычны (кліматычны оптымум Г., 8—5 тыс. гадоў) і ўмераны сухі суббарэальны (5—2,5 тыс. гадоў) перыяды. У познім сучасным субатлантычным перыядзе (пачаўся 2,5 тыс. гадоў таму назад) усталявалася ўмеранае вільготнае надвор'е. Пры гэтым па дадзеных палеакліматычных рэканструкцый увесь час адбывалася чаргаванне пацяпленняў і пахаладанняў, што дазволіла даследчыкам вылучыць у кожным з перыядаў адпаведныя этапы. Пачатак ранняга Г. лічаць мяжой палеаліту і мезаліту, на працягу ўсяго этапу (у эпоху мезаліту) адбывалася засяленне чалавекам тэр. Беларусі.

*Літ.*: Голоцен Беларуси. Минск, 2004.

*А.Г.Калечыц.*

**ГАЛБЕ́Я**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і курганны могільнік каля в. Галбея Пастаўскага р-на Віцебскай вобл. Выяўлены ў к. 19 в. Ф.В.

Пакроўскім, абследавалі ў 1938 У.Галубовіч і Г.Цэгак-Галубовіч.

Г а р а д з і ш ч а за 0,5 км на Пд ад вёскі, на правым беразе р. Галбея, на ўзгорку Гарадзец. Пляцоўка талеркападобнай формы дыям. 45 м, па краі мае вал, які вельмі аплыў. Яго максімальная выш. над самай нізкай часткай пляцоўкі ад 1,4 на З да 2,4 м на ПнУ, шыр. 4—6 м. З паўн., паўн.-зах. і ўсх. бакоў каля падножжа гарадзішча знаходзіцца забалочаны роў, з паўд. — возера. Раскоп (8 × 4 м), выцягнуты з Пд на Пн, быў закладзены ў паўд.-зах. частцы пляцоўкі, на Пн ад унутранага падножжа вала. Магутнасць культ. пласта 0,9—1,2 м. У мацерыку выяўлены 4 буйныя ямы і мноства дробных, у буйных ямах было шмат вугольчыкаў, а ў самай паўн. з іх знойдзены кавалкі кальцынíраванай косткі. Самая масавая катэгорыя знаходак — фр-ты ганчарнай непаліванай керамікі, трапляліся таксама гліняная абмазка, дзындра, рэшткі жал. прылад, косткі жывёл (дзіка, свінні, буйной рагатай жывёлы і інш.). Паводле формы венчыкаў керамікі гарадзішча датуецца 10—15 ст. На думку літ. археолага Г.Забелы, гарадзішча Г. напярэдадні ўтварэння ВКЛ з'яўлялася памежным пунктам Нальшчанскай зямлі. Абследавалі у 1972 Я.Г.Звяруга, у 1997 Э.М.Зайкоўскі. У 1992 шурф заклала А.В.Квяткоўская, у 1998 раскопкі праводзіў Э.М.Зайкоўскі (раскапаў 32 м²).

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к за 1 км на У ад вёскі, ва ўр. Валатоўкі, на правым беразе р. Чартка. 49 насыпаў дыям. 4—10 м, выш. 0,2—1,7 м. Курганы размешчаны кучна, на невял. адлегласці адзін ад аднаго, большасць насыпаў пашкоджана ямамі і траншэямі. Абследаваў у 1972 Я.Г.Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.*: П о к р о в с к и й Ф.В. Археологическая карта Виленской губернии. Вильна, 1893; Г о л у б о в и ч Е., Г о л у б о в и ч В. Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР // КСИИМК. М.; Ленинград, 1945. Вып. 11.

*Э.М.Зайкоўскі, Я.Г.Звяруга.*

**ГАЛІНÓВА**, археалагічныя помнікі — гарадзішчы і курганныя могільнікі каля в. Галінова Вілейскага р-на Мінскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а за 1,5 км на ПнУ ад вёскі, у лесе, на мысе прыроднага ўзвышша. Мясц. назва Скабеева Гара. Пляцоўка дыям. 55 м, па краі ўмацавана валам выш. да 3 м. З зах. і ўсх. бакоў ёсць дадатковыя дугападобныя валы выш. 1,5—2 м. Выявіў і абследаваў у 1850-я г. А.Г.К.Кіркор, абследавалі ў 1980 А.Р.Мітрафанаў, у 1985 Я.Г.Звяруга. Раскопкі не праводзіліся

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к - 1, магчыма, балтаў. За 0,2 км на ПнУ ад гарадзішча, абапал дарогі ў в. Студзёнкі. Мясц. назва Валатоўкі. 77 круглых насыпаў, якія цягнуцца вузкай паласой з ПдЗ на ПнУ на 0,5 км. Дыям. насыпаў 5—11 м, выш. 0,6—1,7 м. Каля большасці насыпаў захаваліся кругавыя раўкі. Прыблізна трэцяя частка курганоў пашкоджана. 15 курганоў у 1934, 1937 даследавалі Г.Цэгак-Галубовіч і У.Галубовіч, абследаваў у 1985 Я.Г.Звяруга. Пахавальны абрад — трупаспаленне на гарызонце. Пахавальны інвентар: жал. нажы, фібулы, спражкі, тачыльныя камяні, бранзалеты з бронзы, трапецападобныя і круглыя падвескі, абломкі грыўняў, ляпныя слабапрафіляваныя гаршкі і пасудзіны слоікавай формы. Датуецца 7—10 ст.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к - 2 за 0,4 км на ПнУ ад могільніка-1. 3 расплывістыя насыпы дыям. 7—9 м, выш. 0,7—0,9 м. Выявіў і абследаваў у 1985 Я.Г.Звяруга.

*Літ.*: Г у р е в и ч Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Ленинград, 1962; H o ł u b o w i c z W. Pięć lat pracy terenowej Muzeum Archeologicznego Uniwersytetu Stefana Batorego w Wilnie (1933—1937) // Rocznik Arheologiczny. Wilno, 1937. T. 1.

*Я.Г.Звяруга.*

**ГАЛÓЎСК**, К р ы в і н а, археалагічныя помнікі — стаянкі каменнага і бронзавага вякоў каля в. Галоўск Сенненскага р-на Віцебскай вобл. Размешчаны на паўд. ускраіне тарфяніку Крывіна.

С т а я н к а К р ы в і н а - 1 за 0,8 км на ПнЗ ад вёскі, на паўд.-ўсх. краі выспы Ворлева, на левабярэжжы р. Крывінка. Выяўлена ў пач. 1930-х г. пры асушэнні тарфяніку. Абследавалі ў 1934 К.М.Палікарповіч і А.Дз.Каваленя, раскопкі праводзілі ў 1939 К.М.Палікарповіч, у 1959—61 П.А.Прыбыткін, у 1962—63 Я.Г.Краскоўская, у 1969—70, 1996 М.М.Чарняўскі. Ускрыта 510 м². Культ. пласт перарэзаны асушальнымі канавамі. Выяўлены 2 гарызонты. У ніжнім (прымацерыковым) гарызонце знойдзены касцяныя і крамянёвыя вырабы, нешматлікія абломкі гладкасценных гаршкоў з ракушачнымі дамешкамі ў гліне, сціпла ўпрыгожаныя пераважна насечкамі і наколамі, адбіткамі перавітага шнура. Матэрыялы адносяцца да ўсвяцкай культуры сярэдняга неаліту і датуюцца 1-й пал. 3-га тыс. да н.э. У верхнім гарызонце выяўлены рэшткі пабудоў з кары і жэрдак, абломкі вастрадонных і пласкадонных гаршкоў з заштрыхаванымі паверхнямі, шчыльна аздобленымі насечкамі, грабеньчатымі адбіткамі, тычкамі, наколамі, ямачнымі ўціскannямі, шнуравымі ўзорамі, прылады працы з рога і косці (наканечнікі стрэл, сякеры, праколкі, рыбалоўныя кручкі і інш.), крамянёвыя вырабы (наканечнікі стрэл і коп'яў, сякеры, скрабкі, нажы), бурштынавыя і касцяныя ўпрыгажэнні. Матэрыял верхняга гарызонта адносіцца да *паўночнабеларускай культуры* (позні неаліт—бронзавы век) і датуецца 2-й пал. 3-га — сяр. 2-га тыс. да н.э.

С т а я н к а К р ы в і н а - 2 за 0,1 км на Пн ад стаянкі-1, на ўсх. краі выспы Ворлева. Даследавалі ў 1960 Я.Г.Краскоўская і В.У.Скарабагаты (25 м²), у 1980—81 Э.М.Зайкоўскі (55 м²). Культ. пласт да 0,4 м. Знаходкі адносяцца да ўсвяцкай і паўн.-бел. культур, падобныя да знаходак на стаянцы Крывіна-1.

С т а я н к а К р ы в і н а - 3 за 0,1 км на У ад выспы Ворлева, абапал магістральнага канала, якім выпрамлена рэчышча р. Крывінка. Выявіў у

1978, даследаваў у 1978—79 Э.М.Зайкоўскі (81 м$^2$). У культ. пласце знойдзены матэрыялы паўн.-бел. культуры, як і ў верхніх пластах папярэдніх тарфянікавых стаянак.

*Літ.*: Поликарпович К.М. Торфяниковые стоянки Кривина и Осовец в БССР // Бюл. Комиссии по изучению четвертичного периода. М.; Ленинград, 1940. № 6—7; Чернявский М.М. Исследование неолитических поселений Кривинского торфяника // Древности Белоруссии. М., 1969; Яго ж. Да гісторыі выяўлення і даследавання тарфянікавай стаянкі Крывіна 1 (1934—1963 гг.) // ГАЗ. Мінск, 2006. № 21; Зайкоўскі Э.М. Новае паселішча паўночнабеларускай культуры // ВАНБ. 1982. № 5. *М.М.Чарняўскі.*

**ГАЛО́ШАВА**, археалагічны помнік — курганны могільнік *крывічоў* на ўсх. ускраіне в. Галошава Талачынскага р-на Віцебскай вобл. Зберагліся 5 курганоў: па 2 абапал дарогі на г.п. Коханава і 1 — на могілках. Дыям. 7—10 м, выш. 0,8—2 м, на паверхні сляды ям. Выявіў і абследаваў у 1885 М.М.Турбін, абследавалі ў 1956 Л.В.Аляксееў, у 1972 А.Р.Мітрафанаў, у 1981 В.М.Ляўко. У 1988 В.М.Ляўко раскапала курган каля дарогі. Выяўлены 2 пахаванні — адно ў насыпе (безынвентарнае), другое на грунце на падсыпцы таўшч. 0,2 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне з частковым трупаспаленнем. Знойдзены бронзавы пласціністы пярсцёнак, жал. выраб дрэннай захаванасці (магчыма, фібула), хрусталёвая пацерка, гаршчок, вуголле. Датуецца 1-й пал. 11 ст.

*Літ.*: Турбин Н.М. Раскопки 1885 г. // Древности: тр. Московского археол. о-ва. М., 1886. Т. 11, вып. 2; Алексеев Л.В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины: (материалы к археологической карте Витебской области БССР) // Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959. *В.М.Ляўко.*

**ГАЛУБО́ВІЧ** Уладзімір (7.4.1908, г. Екацярынадар, цяпер Краснадар, Расія — 7.4.1962), беларускі і польскі археолаг. Скончыў ф-т гуманітарных навук Віленскага ун-та (1932), працаваў у археал. музеі пры ун-це. З 1944 навук. супрацоўнік ІГ АН БССР, у 1946—62 праф. Торуньскага і Вроцлаўскага ун-таў, кіраўнік Вроцлаўскага аддзялення Ін-та археалогіі Польскай АН, заг. кафедры археалогіі Вроцлаўскага ун-та. У 1933—39 разам з жонкай Г.Цэгак-Галубовіч ажыццявіў маштабныя разведкі і раскопкі курганных могільнікаў на З і ПнЗ Беларусі: *Андрэеўцы*, *Ахрэмаўцы* (Бяльмонты), *Бірулі* (Парэчча), *Ваўкалата*, *Галінова*, *Залессе*, *Наўры*, *Паддубнікі*, *Платава*, *Чабаны*, *Чарневічы*, *Чурылава*, *Шо* і інш. Праводзіў раскопкі ў Вільнюсе. Займаўся вывучэннем балта-слав. этнакульт. кантактаў, раннесярэдневяковых пахавальных помнікаў і гарадоў, ганчарства Зах. Беларусі. Даследаваў помнікі ў зах. Польшчы (г. Аполе) і ГДР. Вывучаў этнаграфію і тапаніміку.

*Тв.*: Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР (разам з Г.Цэгак-Галубовіч) // КСИИМК. М.; Ленинград, 1945. Вып. 11; Ceramika słowiańska XI—XII wieku cmentarzhyska koło wsi Nawry // Rocznik archeologiczny. Wilno, 1937. T. 1; Pięć lat pracy terenowej Museum Archeologicznego Universitetu Stefana Batorego w Wilnie (1933—1937) Nawry // Там жа; Garncarskie tecyniki lepienia na terenie ziem północno-wschodnich Polski w Świetle ostatnich wykopalisk // Ateneum Wileńskie. Wilno, 1938. R. 13; Wykopaliska na Wileńszczyznie w latah 1938 i 1939. Wilno, 1940 (разам з Г.Цэгак-Галубовіч); Garncarstwo wiejskie zachodnich terenów Białorusi. Toruń, 1950. *М.А.Плавінскі.*

**ГАЛУ́ЗЫ**, археалагічныя помнікі — стаянкі і курганны могільнік каля в. Галузы Чавускага р-на Магілёўскай вобл.

Стаянка *верхнедняпроўскай культуры* эпохі неаліту на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Вербаўка (правы прыток р. Проня), за 2 км на ПнУ ад вёскі. Адкрыў у 1991 і даследаваў 110 м$^2$ у 1992 В.Ф.Капыцін. Культ. пласт 0,2—0,5 м. Знойдзены адна- і двухпляцовачныя нуклеусы, адшчэпы, пласціны, канцавыя скрабкі, рэтушаваныя разцы, вырабы з выемкай, нажы, наканечнік стралы, фр-ты ляпной керамікі, упрыгожаныя адбіткамі ямак.

Курганны могільнік на правым беразе р. Проня, за 1,5 км на ПнУ ад вёскі, 1,3 км на ПдУ ад в. Сялец, у лесе. Вядомы з 1873 (7 насыпаў), абследаваў у 1992 В.Ф.Капыцін. Захаваліся 2 курганы выш. 1,1—1,2 м, дыям. 10 м.

*Літ.*: Копытин В.Ф. Археологические памятники Чаусского района Могилевской области. Могилев, 1992. *А.У.Коласаў.*

**ГАЛЬША́НСКІ ЗА́МАК**, помнік палацава-замкавай архітэктуры 17—20 ст. у в. Гальшаны Ашмянскага р-на Гродзенскай вобл. Пабудаваны ў к. 16 — пач. 17 ст. на паўд.-ўсх. ускраіне вёскі, на левым беразе р. Гальшанка. Да сяр. 16 ст. феад. рэзідэнцыя размяшчалася на гарадзішчы, што знаходзілася за 1,5 км на У ад вёскі, на правым беразе р. Карабель (левы прыток Гальшанкі). На новае месца перанесена, відаць, Багданам Сапегам. Г.з. адразу пасля пабудовы ўяўляў мураваны прамавугольны ў плане 3-павярховы будынак (94,9 × 78,4 м). Яго карпусы з 4 шасціграннымі шатровымі вежамі ўтваралі замкнёны амаль квадратны двор (65,4×57,4 м). Арачны праезд зроблены ў



*Гаршчок з курганнага могільніка* ***Галошава.***

шматграннай надбрамнай вежы, якая была ўбудавана ў паўн.-ўсх. корпус. Помнік неаднойчы разбураўся, перабудаваны ў 2-й пал. 18 ст. і ў пач. 20 ст., што значна змяніла яго знешні выгляд і аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю (страчаны галерэі, надбрамная вежа, дэкаратыўнае афармленне сцен, да фасадаў прыбудаваны 2 пяцігранныя 2-павярховыя будынкі). У 1880-я г. тагачасны ўладальнік узарваў з мэтай продажу цэглы большую частку замка. Ва ўцалелай частцы (палавіна паўн.-зах. корпуса і прыбудова да яго, больш за палавіну паўн.-ўсх. корпуса, паўн. вуглавая вежа) у сав. час размяшчаліся розныя ўстановы. З 1950-х г. замак закінуты. Даследаванні праведзены ў 1981—83 архіт.-археал. экспедыцыяй Спец. навук.-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў (цяпер Бел. рэстаўрацыйна-праектны ін-т). Пры абследаванні замка выяўлены 3 розначасовыя этапы буд. работ, якія адрозніваюцца характарам цэглы і тэхнікай муроўкі. Паміж розначасовымі муроўкамі няма перавязкі. Найб. ранняй уцалелай часткай помніка з'яўляецца зах. палавіна паўн.-зах. корпуса, пабудаванага з цэглы-пальчаткі памерамі 29×13×7 см; сустракаецца клінкерная цэгла. Пазней з цэглы-пальчаткі памерамі 28,5—29,5×15—16×5,5—7 см пабудавана астатняя частка паўн.-зах. корпуса, а таксама паўд.-ўсх. і паўд.-зах. карпусы. На заключным этапе з цэглы-пальчаткі памерамі 31,5×17,7×7 см пабудаваны паўн.-ўсх. корпус з надбрамнай паўд. і зах. вуглавымі вежамі. Аб іх пазнейшым паходжанні сведчаць і памеры цэглы, і штрабы, да якіх яны прыбудоўваліся пазней. Па буд. матэрыяле і характары муроўкі 1-ы этап будаўніцтва можна датаваць 2-й пал. — к. 16 ст., 2-і, 3-і этапы — пач. 17 ст. У час раскопак выяўлены рэшткі 5-граннай надбрамнай вежы, у тоўшчы паўн.-зах. мура якой былі вітыя прыступкі, што вялі з брамы на 2-і паверх палаца. У ніжняй частцы яе падмурка разам з цэглай выкарыстоўвалі камяні. Падмуркі паўн.-ўсх., паўд.-ўсх. і паўд.-зах. карпусоў (2 апошнія захаваліся) былі менш глыбокія, чым падмуркі паўн.-зах. корпуса, пад якім зроблены глыбокія падвалы. Пасярэдзіне паўд.-зах. корпуса пабудавана замкавая капліца з гранёнай апсідай. У тыльнай сцяне корпуса, бліжэй да паўд. вежы, знаходзіўся смеццеправод, ад якога захавалася адтуліна, абкладзеная пляскатымі камянямі. Мяркуючы па знаходках кавалкаў кафлі, керамічнага і шклянога посуду, ён выкарыстоўваўся з к. 16 да к. 17 ст. Падобная адтуліна, але з паўцыркульным цагляным перакрыццем, выяўлена ў паўн.-зах. грані паўд. вежы, што дае падставы меркаваць пра выкарыстанне паўд.-ўсх. часткі замка для гасп. мэт. Будынкі замка былі накрыты плоскай дахоўкай, падлога выкладзена з плітак (таўшч. 5 см) тэракотавых зорка- і крыжападобных з завостранымі канцамі і прамавугольных з зялёнай палівай. Печы аздоблены кафляй, пакрытай зялёнай і паліхромнай палівай, з раслінным, геам., зааморфным арнаментам. Трапляецца кафля з гербам роду Сапегаў, фр-ты тэракотавай кафлі, пазначанай 1665, калі памёр П.Сапега. Вынікі даследаванняў замка даюць падставу меркаваць, што ён з'яўляецца помнікам архітэктуры часоў маньерызму. Найбліжэйшыя аналагі — галандскія замкі гэтага ж перыяду. *І.М.Чарняўскі.*



***Гальшанскі замак*** *у 1-й пал. 17 ст. Рэканструкцыя Дз.С.Бубноўскага.*

**ГАЛЬША́НСКІ КЛЯ́ШТАР ФРАНЦЫСКА́НЦАЎ**, помнік архітэктуры 16—18 ст. у в. Гальшаны Ашмянскага р-на Гродзенскай вобл. У комплекс уваходзяць касцёл Іаана Хрысціцеля, кляштар і жылы корпус. Касцёл — 3-нефавая прамавугольная ў плане базіліка. Цэнтр. неф перакрыты цыліндрычным, бакавыя нефы — крыжовымі скляпеннямі. З ПдЗ да касцёла прымыкае П-падобны ў плане 2-павярховы будынак кляштара. Раскопкі ў 1985—87, 1990 праводзіў А.М.Кушнярэвіч. Даследаваннямі ўстаноўлена, што касцёл і кляштар будаваліся ў некалькі этапаў. Кожнаму з іх адпавядае свая тэхніка ўзвядзення падмурка. Паміж гэтымі муроўкамі адсутнічае перавязка. Яна не прасочваецца і паміж асобнымі праслаімі сцен, што сведчыць пра несінхроннасць іх будаўніцтва. У інтэр'еры касцёла выяўлены падмуркі з квадратных у плане (памеры 1,35 × 1,37 м) апорных слупоў, расчышчаны падмуркі ранейшага храма, прасочаны 2 ярусы падлогі 16—19 ст., якія знаходзяцца пад сучасным яе пакрыццём. Стратыграфія выяўленых тыпаў муроўкі і абрысы сутарэнняў усх. часткі касцёла дазволілі А.М.Кушнярэвічу і архіт. У.С.Маскалёву рэканструяваць першапачатковую структуру касцёла. Гэта было, напэўна, прамавугольнае 3-нефавае пабудаванне з добра развітым трансептам і паўкруглай апсідай. Яно ўзведзена ў 2-й пал.

16 ст. У сяр. 2-й пал. 17 ст. касцёл быў павялічаны ў шырыню. У пач. 18 ст. перароблена яго ўсх. частка, што прывяло да пераарыентацыі храма. У 16—18 ст. да паўд. фасада касцёла прыбудаваны кляштар. У працэсе археал. даследаванняў на яго паўд.-ўсх. баку расчышчаны рэшткі 2 шасціграпных вежаў, унутры двара — падмуркі галерэі, якая злучала ўсх. і зах. карпусы кляштара з касцёлам. Падмуркі вежаў і галерэі складзены ў тэхніцы мяшанай муроўкі. У інтэр'еры храма ў 3 шурфах знойдзены фр-ты фрэскавай размалёўкі 16 ст. У двары кляштара выяўлены 4 фр-ты скульптур 17 ст. з алебастру, што знаходзіліся ў капліцы Сапегаў, а таксама архіт. дэталі ад іх надмагілля. Сярод знаходак пераважаюць керамічныя вырабы 17—18 ст.: бытавы посуд (гаршкі, макотры, рынкі, талеркі, міскі, збаны, кубкі і інш.), тэракотавая, паліваная і паліхромная кафля 17 ст. з раслінным, геам., геральдычным арнаментам, кафля 18 ст. з гладкай паверхняй, буд. кераміка (цэгла, паліваныя пліткі падлогі, плоская і хвалістая дахоўка). Знойдзена шмат шкляных вырабаў 17—19 ст. (кілішкі, чаркі, кварты, пляшкі і інш.). Калекцыя металічных вырабаў складаецца з нажоў, відэльцаў, цвікоў, ключоў, манет, падкоў, абутковых падковак і інш.

*Літ.:* М а с к а л е в В., К у ш н е р е в и ч А., К у к у н я О. Методика натурных исследований монастырского комплекса францисканцев в д. Гольшаны // Охрана и реставрация комплексных памятников: тез. докл. межресп. науч. конф. Рига, 1987.

*А.М.Кушнярэвіч.*

**ГАЛЬША́НСКІЯ ГАРАДЗІ́ШЧА, СЕ́ЛІШЧА І КУРГА́ННЫ МО́ГІЛЬНІК**, археалагічныя помнікі каля в. Гальшаны Ашмянскага р-на Гродзенскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а за 1,5 км на У ад вёскі, на правым беразе р. Карабель (левы прыток р. Гальшанка), на мысе. Пляцоўка прамавугольная з закругленымі вугламі, памерамі 70 × 80 м. З Пд абмежавана шырокім ровам, з ПнУ і Пн — валамі выш. 2 м і стромкімі падрэзанымі схіламі. Адкрыў і даследаваў у к. 19 ст. В.Савіцкі, даследаваў 160 $м^2$ у 1966 і 1970 Я.Г.Зверуга. Культ. пласт ад 0,4 м у




*Да арт. Гальшанскія гарадзішча, селішча і курганны могільнік. Падвескі (1, 3, 8—11), бранзалет (2), фібула (4), ключ (5), спіралька (6), пацерка (7), прасліцы (12, 13, 15), спражка (14), іголка (16), пласціна-накладка (17) з Гальшанскіх гарадзішча і селішча.*

цэнтры пляцоўкі да 1,5 м каля вала. Пляцоўка была забудавана наземнымі жытламі, ад якіх захаваліся печы-каменкі. Знойдзены наканечнікі стрэл, шпоры, фр-ты пласцiністых даспехаў, рыштунак конніка, металічныя амулеты (ключыкі, сякеркі, бразготкі), прылады працы (сярпы, нажы, іголкі, рыбалоўныя кручкі, гліняныя і шыферныя праслiцы), фр-ты шкляннога посуду, гліняны ляпны і кругавы посуд. Датуецца 12—16 ст.

С е л і ш ч а прымыкае да гарадзішча з зах. і паўн.-ўсх. бакоў. Пл. каля 1 га. Выявіў і абследаваў у 1970-я г. Я.Г.Зверуга, даследавалі ў 1999 С.А.Піваварчык, у 2007—08 П.М.Кенька. Культ. пласт 0,4—1,2 м. Знойдзены вырабы з крэменю, ляпная і кругавая кераміка, гліняныя і шыферныя праслiцы, пацеркі з шкла і бурштыну, бронзавыя бразготкі, спражкі, амулеты (лунніца, когаць, конік), крыжыкі, пласцiністая і падкowападобная фібулы, пярсцёнкі, гузікі, жал. фібулы, бляшкі, фр-ты кальчугі, нажы, наканечнікі стрэл, серп, ключы, дэталі замкоў, крэсіва, рыбалоўныя кручкі, цвікі, свінцовыя пломбы. Першапачатковае засяленне мясцовасці адбылося ў каменным веку, потым — у раннім сярэдневякоўі (5—8 ст., носьбіты *ўсходнелітоўскіх курганоў культуры*), найб. выразныя матэрыялы адносяцца да 10—13 ст.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к за 2 км на У ад вёскі, у лесе. 80 паўсферычных насыпаў з раўкамі дыям. 3—15 м, выш. 0,5—2 м. Пераважаюць насыпы з камянёў. У 2009 П.М.Кенька даследаваў 4 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на грунце і ў падкурганных ямах, галавой на З. Знойдзены кругавы посуд, нож, спражка, скроневыя кольцы, пярсцёнак. Датуецца 11—12 ст.

*Літ.*: З в е р у г о  Я.Г. Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. Минск, 1989; Ю р к о в е ц  Ю.В. Керамика с гольшанского археологического комплекса // МАБ. 2006. № 11.

*Я.Г.Зверуга, П.М.Кенька, А.М.Мядзведзеў.*



*Да арт. **Гальшанскія гарадзішча, селішча і курганны могільнік.** Наканечнікі стрэл (1—5), нажы (6, 12), шыла (7), сярпы (8, 13), вядзёрнае вушка (9), скобы (10, 13), пласціна ад панцыра (14), цвік (15), рыбалоўны кручок (16), шпора (17) наканечнік кап'я (18) фігурная акоўка (19) з Гальшанскіх гарадзішча і селішча.*

**ГАЛЬША́НЫ**, вёска ў Ашмянскім р-не Гродзенскай вобл., на левым беразе р. Гальшанка. За 20 км на Пд ад г. Ашмяны, 12 км ад чыг. ст. Багданаў, на аўтадарозе Ашмяны—Валожын. Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 13 ст. як валоданне князёў Гальшанскіх. Першапачатковае паселішча (гарадзішча Карабель і селішча Пабач) знаходзілася за 1,5 км ад сучаснай вёскі (гл. *Гальшанскія гарадзішча, селішча і курганны могільнік*). У 14—15 ст. цэнтр удзельнага княства ў ВКЛ. Пасяленне на скрыжаванні дарог пры пераправе цераз р. Гальшанка пачало актыўна развівацца з 2-й пал. 15 ст. як сярэдневяковае прыватнаўласніцкае мястэчка. З 2-й пал. 16 ст. Г. належалі Сапегам. У 16—17 ст. пабудаваны — *Гальшанскі замак* і кальвінскі збор, у 17 ст. — *Гальшанскі кляштар францысканцаў*. З к. 16 ст. тут выраблялі паперу для пісьма і друку. У 1795 мястэчка ўвайшло ў склад Расійскай імперыі.

Г. вызначаюцца добрым захаваннем мураванай забудовы 18 — 1-й пал. 20 ст. ў гіст. цэнтры. Даследаваў у 1982 А.К.Краўцэвіч (23 м$^2$). Культ. пласт 0,4—1,4 м. Знойдзены гаршкі з фігурным вусцем, макотры, накрыўкі, талеркі, збаны, кубкі, фр-ты гаршковай, каробчатай тэракотавай і паліванай кафлі з раслінным, геам. і геральдычным арнаментам, фр-т глінянай формы для вырабу кафлі (к. 15—16 ст.). *А.К.Краўцэвіч.*

**ГАЛЬШТА́ЦКАЯ КУЛЬТУ́РА**, культура ілірыйскіх і кельцкіх плямён, што жылі на Пд Сярэдняй Еўропы ў раннім жал. веку (8—5 ст. да н.э.). Назва ад могільніка каля г. Гальштат (Аўстрыя), адкрытага ў 1846. Пры раскопках больш за 2 тыс. пахаванняў знойдзены жал. і бронзавая зброя, прылады працы, упрыгажэнні, керамічныя вырабы з геам. арнаментам. Насельніцтва Г.к. займалася земляробствам, здабывала медную руду і соль, выраблялa бронзавыя, пазней жал. рэчы; жыло ў драўляных дамах слупавой канструкцыі, а такса-

ма ў паўзямлянках і пабудовах на палях. Грамадскія адносіны характарызаваліся распадам роду і пераходам да класавага грамадства. На тэр. Гомельскай вобл. пры раскопках помнікаў *мілаградскай культуры* знойдзены рэчы гальштацкага тыпу: шкляныя пацеркі, бронзавыя шпількі і кельты, жал. наканечнікі коп'яў, матыка з двума бакавымі выступамі і інш.

*Літ.*: Арциховский А.В. Введение в археологию. 3 изд. М., 1947; Kromer K. Das Gräberfeld von Hallstatt. Finenze, 1959.

**ГАНЕ́ЦКАЯ** Ірына Уладзіміраўна (н. 22.9.1961, г. Маладзечна Мінскай вобл.), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1993). Скончыла Мінскі педагагічны ін-т імя А.М.Горкага (1984). З 1989 у ІГ НАН Беларусі, з 1999 старшы навук. супрацоўнік. Вывучае археалогію сярэдневяковых і постсярэдневяковых гарадоў, архіт. археалогію, гісторыю і археалогію бел. замкаў, керамічную вытворчасць 11—18 ст. З 1980 удзельнічала ў экспедыцыях па вывучэнні асобных бел. стараж. замкаў, гарадоў, курганных могільнікаў (Лагойскі р-н). З 1988 даследуе археал. помнікі 11—18 ст., сярод якіх гіст. цэнтры гарадоў Слонім (1988), Маладзечна (1991), Мінск (1994), в. Лебедзева Маладзечанскага р-на (1991), замак у г.п. Глуск Магілёўскай вобл. (з 1996), замак і гарадзішча эпохі ранняга жал. веку ў в. Гарадок Маладзечанскага р-на (1998), гарадзішча ў в. Гарадзішча Глускага р-на (2000), Жыровіцкі манастыр у Слонімскім р-не (1996—2001), касцёл Божага Цела ў Нясвіжы (2001) і інш. Адзін з рэдактараў і сааўтараў «Археалогіі Беларусі». (т. 4, 2001).

*Тв.*: Маёліка на Беларусі ў XI—XVIII стст. Мінск, 1995; Раскопкі ў Маладзечне // ГАЗ. Мінск, 1996. № 8; Гісторыя фартыфікацыі гарадзішча ў в. Гарадок Маладзечанскага раёна // Там жа. Мінск, 2002. № 17; Археалагічныя даследаванні на тэрыторыі Жыровіцкага манастыра // МАБ. 2002. № 5; Археалагічныя даследаванні вакол касцёла Божага Цела ў Нясвіжы // Там жа. 2007. Вып. 14; Крыніцы па вывучэнні беларускіх замкаў // БГЧ. 2003. № 9; Свержанская фаянсавая мануфактура XVIII ст. // Там жа. 2004. № 12; Глускі замак: гісторыя аднаго помніка ў асобах // Там жа. 2006. № 9.

*В.У.Мядзведзева.*



*І.У.Ганецкая.*

**ГАНЧА́РНЫ ГО́РАН**, спецыяльная печ для абпальвання бытавой і архіт.-дэкаратыўнай керамікі. На тэр. Беларусі пры раскопках знойдзены 3 Г.г. 16—18 ст. для абпальвання кафлі і дахоўкі. Найб. ранні Г.г. 16 ст. выявіў У.Е.Собаль у Мінску. Ён выраблены з чырвонай, добра абпаленай гліны. Таўшч. сценак 12 см. Паўтарае архаічную канструкцыю 2-яруснага цыліндрычнага горана, вядомага па матэрыялах раскопак па-за межамі Беларусі помнікаў эпохі Кіеўскай Русі. У ніжнім ярусе знаходзілася топка, у верхнім змяшчалася прадукцыя для абпальвання, у перагародцы паміж ярусамі зроблены адтуліны для паступлення гарачага паветра. Прадукцыю загружалі і вымалі праз адтуліну ўверсе, якая на час абпальвання замазвалася глінай. Г.г. 17 ст. выявіла В.М.Ляўко на тэр. Куцеінскага манастыра ў Оршы. Меў цыліндрычную форму. Быў складзены з баразнаватай цэглы памерамі 3×15,5×13 см. Таўшч. сценак каля асновы і ў ніжняй частцы 0,26—0,3 м. Чарэнь (под) верхняга яруса таксама выкладзены з цэглы. У цэнтр. частцы Г.г. знаходзіўся чатырохвугольны слуп са скразной адтулінай для паступлення гарачага паветра з топкі. Верхняя камера для абпальвання была запоўнена вял. колькасцю дахоўкі. Г.г. 18 ст., выяўлены А.К.Краўцэвічам у Міры, паводле канструкцыі аналагічны горану з Куцеінскага манастыра.

*Літ.*: Бобринский А.А. Гончарство Восточной Европы: источн. и методы изучения. М., 1978; Милюченков С.А. Белорусское народное гончарство. Минск, 1984.

*В.М.Ляўко.*




***Да арт. Гальшанскія гарадзішча, селішча і курганны могільнік.*** *Знаходкі з Гальшанскага селішча.*

**ГАНЧА́РНЫ КРУГ**, прыстасаванне для фармоўкі ганчарных вырабаў. Яго дзеянне засн. на цэнтраваным вярчэнні ў адной плоскасці пры дапамозе вертыкальнай восі. На Г.к. загладжвалася паверхня пасудзіны, зробленай ад рукі, або з камяка гліны выцягвалася полае цела пэўнай формы. Вынаходства і пашырэнне Г.к. сведчыла пра пераход да рамеснай вытворчасці. Першапачаткова выкарыстоўваўся на паўд. землях Усх. Еўропы, адкуль у 10 ст. пашырыўся на лясную паласу, у т.л. на тэр. Беларусі. Найб. архаічны — р у ч н ы Г.к. (прыводзіўся ў рух рукамі) з нерухомай або рухомай воссю. Кругу з нерухомай воссю папярэднічала круглая фармовачная падстаўка, якая стала выкарыстоўвацца пры пераходзе ад вастрадонных пасудзін да пласкадонных. Найпрасцейшы круг з нерухомай воссю быў аднадыскавым. Дыск з сасны ці бярозы дыям. 25—40 см, таўшч. 4—8 см выраблялі разам з ножкай, у цэнтры якой прасвідроўвалі адтуліны для восі («шпяня», «шворна») з дубу або жалеза. У выніку развіцця канструкцыі ўзнік ручны Г.к. з крыжавінай, спіцамі, 2 дыскамі. З сяр. 16 ст. ў Беларусі ў культ. пластах гар. і сельскіх паселішчаў шырока фіксуецца кераміка, выкананая на н а ж н ы м Г.к. (прыводзіўся ў рух нагамі). Яго таксама цалкам выраблялі з дрэва. Складаўся з 2 дыскаў, злучаных на адлегласці 35—45 см 4—8 спіцамі. Праз адтуліну ў ніжнім дыску насаджваўся на вось, наглуха замацаваную ў зямлі або крыжавіне. Самым познім з'яўляецца нажны Г.к. з рухомай воссю («станок», «варштат», «пагон»). Складаецца з верхняга малога дыска («галоўка», «верх», «вярхняк», «верхнік», «вяршок», «крутэлка», «кружка», «кацёлка») дыям. 20—27 см і ніжняга вялікага («сподак», «спадняк», «споднік», «круг», «крыжэлка», «кацёлка») дыям. 65—80 см. Дыскі таўшч. 8—10 см, кожны цвёрда прымацаваны да восі, якая ніжнім канцом упіраецца ў падстаўку з гняздом — порпліцу («паўпрыца», «бабка», «чашачка», «панеўка», «мітэрка»). Вось круцілася разам з дыскамі. Нажны Г.к. выкарыстоўвалі ў фаянсавай вытворчасці, чым тлумачыцца яго пашырэнне ў Беларусі з сяр. 18 ст. разам з паяўленнем фаянсавых мануфактур.

*Літ.*: Гл. пры арт. *Ганчарны горан.* *В.М.Ляўко.*

**ГАНЧА́РСТВА**, адзін з найстаражытнейшых спецыялізаваных відаў вытворчасці, з якім звязана з'яўленне новых рамесных форм арганізацыі працы. На тэр. Беларусі вытворчасць керамічнага посуду пачалася ў эпоху *неаліту*. Спачатку посуд фармавалі ўручную. У жал. веку з'явіліся розныя прыстасаванні для фармоўкі («паваротны столік»). *Ганчарны круг* на тэр. Беларусі з'яўляецца не раней 10 ст. Для вытворчасці посуду старaж. ганчары выкарыстоўвалі легкаплаўкія азёрна-алювіяльныя гліны пераважна гідраслюдзістага мінеральнага складу. Вогнетрывалыя каалінітавыя гліны амаль не ўжываліся. Гэта звязана з тым, што адзіным спосабам *абпальвання* глінянага посуду ў старажытнасці ў ляснoй зоне Усх. Еўропы было абпальванне ў вогнішчах, для якога характэрны невысокія тэмпературы — 550—750 °С. Звычайна гэта былі сярэднепластычныя гліны, у якіх прыродны паглынальнік складае 15—20%. У асобных выпадках посуд выраблялі з тлустых гідраслюдзіста-мантмарыланітавых глiністых парод, у якіх доля прыродных дамешак складае 3—10% (*Чаплін*). На гарадзішчы Чаплін ганчары выкарыстоўвалі некалькі крыніц сыравіны. Гэта былі як тлустыя, так і сярэднепластычныя гліны. Для вырабу глянцаванага посуду найчасцей выкарыстоўвалі тлустыя гліністыя пароды. Для вырабу мініяцюрных пасудзін (Чаплін, *Ліскі*) часам ужывалі нятлустыя запясочаныя гліністыя пароды (суглінкі). З мэтай надання посуду большай трываласці ў керамічную масу ўводзілі спец. дамешкі. У старaж. ганчарстве на тэр. Беларусі выкарыстоўваліся толькі штучныя дамешкі мінеральнага паходжання. Арганічны паглынальнік не ўжываўся. Асобныя зярняты культ. злакаў, рэшткі костак (не больш за 1%) у складзе фармовачнай масы не мелі тэхналагічнага значэння. Асн. штучнай дамешкай для старaж. ганчарства з'яўлялася жарства крышталічных парод. Матэрыялам для яе атрымання, як правіла, служылі слюдзяныя граніты. Другім штучным кампанентам з'яўляўся шамот. Гэтыя дамешкі прымяняліся паралельна, аднак рэцэпты з выкарыстаннем аднаго шамоту ніколі не былі масавымі. У якасці другасных спец. паглынальнікаў у рэцэптах фармовачных мас сустракаюцца здробненая балотная жал. руда, гліністы паглынальнік, зрэдку адкаліграваны пясок. Здробненая балотная жал. руда, якая з'явілася ў ганчарстве мілаградскіх плямён у 4—3 ст. да н.э., захоўвала свае пазіцыі амаль да старaж. часу. Прыпяцкія ганчары ўжывалі ў якасці штучных дамешак таксама гліністы паглынальнік і адкалібраваны кварцавы пясок. Традыцыя выкарыстання гліністага паглынальніка і пяску мае паўд. паходжанне. У Верхнім Падняпроўі гэтыя віды дамешак амаль не вядомы. Для ганчарства Бел. Падняпроўя і Прыпяцкага Палесся характэрна выкарыстоўванне тонказдробненага паглынальніка, асабліва шамоту і балотнай руды, якія нярэдка для паляпшэння тэхналагічных уласцівасцей мас здрабнялі ў парашок. Самымі старaж. тэхналагічнымі схемамі з'яўляюцца простыя рэцэпты керамічных мас «гліна+жарства» і «гліна+шамот». Іх вытокі трэба шукаць у ганчарстве эпохі неаліту і бронзы. Верагодна, спачатку з'явіўся рэцэпт «гліна+жарства», некалькі пазней — «гліна + шамот». Такім жа старaж. з'яўляецца рэцэпт «гліна + пясок». Рэцэпты «гліна+здробненая балотная руда» і «гліна+гліністы паглынальнік» маюць пазнейшае паходжанне. Рэцэпты, якія ўключаюць здробненую балотную руду, з'явіліся ў Верхнім Падняпроўі і Прыпяцкім Палессі не раней 4—3 ст. да н.э. Верагодна, гэта звязана з пэўнымі тэхнічнымі складанасцямі пры рабоце з рудой. Распаўсюджанне гліністага паглынальніка — вынік уздзеяння паўд. тэхналогій, якія былі прыўнесены зарубінецкім насельніцтвам (к. 3 — пач. 2 ст. да н.э.). Выкарыстанне

глiністага паглынальніка — характэрная адметнасць палескага ганчарства. Для Верхняга Падняпроўя гэты від паглынальніка нетыповы. З'яўленне складаных рэцэптаў, у склад якіх уваходзяць некалькі розных спец. дамешак, упершыню зафіксавана ў эпоху бронзы (*Азярное*, *Прорва*). Першы складаны рэцэпт — «гліна+жарства+шамот». На раннім і сярэднім этапах мілаградскай культуры (7—3 ст. да н.э.) рэцэпт «гліна+ жарства+шамот» становіцца агульнарэгіянальным. Калі для мілаградскага ганчарства як у Верхнім Падняпроўі, так і ў Прыпяцкім Палессі характэрна перавага жарствы ў складаных рэцэптах, то змяненне ў суадносінах жарствы і шамоту на карысць шамоту ў зарубінецкім палескім ганчарстве трэба шукаць у моцным уплыве лесастэпавай шамотнай традыцыі ў гэты перыяд. Наступная змена пазіцый жарствы і шамоту на карысць шамоту ў палескім ганчарстве адбываецца ў пач. 2-й пал. 1-га тыс. Агульныя тэндэнцыі ў развіцці ганчарства, характэрныя для жал. веку, захаваліся ў ганчарстве апошняй чв. 1-га тыс. У той жа час адбыліся колькасныя і якасныя змены. Значна пашырыўся асартымент фармовачных мас. У палескім ганчарстве гэта рэцэпты, у склад якіх уваходзіў глiністы паглынальнік. Зліццё традыцый выкарыстання шамоту і глiністага паглынальніка прывяло да ўзнікнення новай разнавіднасці спец. штучнай дамешкі — нізкатэмпературнага шамоту. Агульнарэгіянальная схема на аснове глiністай звязуючай, жарствы і шамоту, якая ўзнікла і канчаткова замацавалася ў мілаградскім ганчарстве да 3 ст. да н.э., адзначалася выключнай вытворчай устойлівасцю і шырокім выкарыстаннем. На працягу доўгага часу яна ўтрымлівала асн. пазіцыі ў ганчарстве на тэр. Беларусі. Стварэнне і замацаванне агульнарэгіянальнай схемы з'явілася важным момантам у станаўленні рамесных форм працы ў ганчарстве (гл. таксама *Кераміка*). *Н.М.Дубіцкая.*

**ГАНЧАРЫ́**, археалагічны помнік — стаянка часоў мезаліту, ранняга неаліту і бронзавага веку каля в. Ганчары Лідскага р-на Гродзенскай вобл. За 1 км на ПнУ ад вёскі, на краі правабярэжнай тэрасы р. Дзітва, ва ўр. Ціханавічаў Брод. Памеры 60 × 40 м, выш. 2,5 м. Адкрыў і даследаваў 38 м$^2$ у 1962 М.М.Чарняўскі. Культ. пласт 0,8 м. Выяўлены рэшткі вогнішча з перапаленымі камянямі і крамянёвыя вырабы, у т.л. ланцэтападобныя наканечнікі стрэл яніславіцкай культуры, архаічныя сякеры, трохвугольныя наканечнікі стрэл, абломак венчыка ранненеалітычнай пасудзіны.

*Літ.:* Ч а р н я ў с к і М.М. Неаліт Беларускага Панямоння. Мінск, 1979; Археалогія Беларусі. Т. 1. Каменны і бронзавы вякі. Мінск, 1997.

**ГАРАВЕ́Ц**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Гаравец Барысаўскага р-на Мінскай вобл. За 0,7 км на ПнУ ад вёскі, у лесе. Выцягнуты з З на У. У паўн. частцы пераважаюць круглыя насыпы дыям. 5—10 м, выш. да 1,5 м (часткова абкладзены вял. камянямі), у паўд. — насыпы памерамі 2 × 1 м, выш. 0,6 м, абкладзены камянямі, на якіх устаноўлены вял. валуны, часам са слядамі апрацоўкі, у т.л. з выявамі крыжоў. У 1986 А.М.Плавінскі і В.Н.Рабцэвіч раскапалі 2 круглыя курганы з трупапалажэннямі галавой на У у ямах глыб. 0,5—0,7 м і 5 падоўжаных курганоў з двума трупапалажэннямі галавой на З і трыма на ПнЗ. У 3 пахаваннях нябожчыкі былі абкладзены драўлянымі плахамі. Рэчавага інвентару мала. Знойдзены рэшткі ачэлляў з металічных бляшак, нашытых на палоскі з тканіны або скуры, невял. бронзавае скроневае кольца з S-падобным завітком. Датуецца 14—15 ст. *А.М.Плавінскі.*

**ГАРАВЫ́Я**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і курганны могільнік каля в. Гаравыя Полацкага р-на Віцебскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а за 1 км на ПдУ ад вёскі, на в-аве Таўкач сярод балота. Пляцоўка авальная, памерамі 28 × 21 м. Даследавалі ў к. 19 ст. А.М. Семянтоўскі, у 1928 А.М.Ляўданскі, у 1961 А.Р. Мітрафанаў. Культ. пласт 0,25 м. Выяўлены рэшткі наземных доўгіх пабудоў слупавой канструкцыі, каменнае агнішча. Знойдзены ляпны гліняны посуд і жал. прылады працы *днепра-дзвінскай культуры*, косці жывёл.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к *крывічоў* за 0,5 км на ПнУ ад вёскі, каля дарогі Гаравыя—Баравуха 1. 15 курганоў (было 38 паўсферычных і падоўжаных) дыям. да 8 м, выш. да 1 м. У 1928 А.М.Ляўданскі даследаваў 8 насыпаў, у 1980 Вас.А.Булкін — 2. Пахавальны абрад — трупспаленне па-за межамі могільніка. У 3 насыпах побач з рэшткамі крэмацыі знойдзены ляпныя гаршкі, шкляныя пацеркі, бронзавая спіралька. Частка курганоў без пахаванняў. У адным кургане рэшткі крэмацыі знаходзіліся ў верхняй частцы насыпу ў слоікападобным гаршку-урне, накрытым другой пасудзінай такой жа формы. Побач з адным з курганоў у культ. пласце знойдзены фр-ты ляпной керамікі 4—5 ст., арнаментаваныя расчосамі.

*Літ.:* С е м е н т о в с к и й А.М. Белорусские древности. Вып. 1. Санкт-Петербург, 1890; Л я ў д а н с к і А.М. Археалагічныя доследы ў Полацкай акрузе // Працы. Т. 2; Ш т ы х а ў Г.В. Крывічы. Мінск, 1992.

*Г.В.Штыхаў.*

**ГАРАДЗІ́ЛАЎКА**, археалагічныя помнікі — селішча і курганныя могільнікі каля б. в. Гарадзілаўка Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл.

С е л і ш ч а за 0,5 км на У ад вёскі, на левым беразе безназоўнай ракі. Пляцоўка памерамі 130 × 125 м. Выявіла і даследавала 160 м$^2$ у 1956 Ф.Д.Гурэвіч. Культ. пласт 0,5 м. Выяўлены рэшткі паглыбленых у зямлю і наземных жытлаў, шматлікія гасп. ямы. Знойдзены тронкавы нож, лыжкарэз, ключ, абломкі шкляных бранзалетаў, вырабы з бронзы, крамянёвы наканечнік стралы, фр-ты ляпнога і ганчарнага посуду, упрыгожаныя лінейным, хвалістым арнаментам і косымі насечкамі.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к - 1 за 0,25—0,5 км на З ад селішча. Было больш за 10 насыпаў выш. да 2 м, дыям. 5—12 м. Па 2 курганы даследавалі ў 1892 М.А.Цыбішаў, у 1956 — Ф.Д.Гурэвіч. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены жал. нажы, крэсівы, жал. і бронзавыя спражкі, тачыльныя камяні, бронзавыя завушніца, скроневае кольца з перавітымі канцамі і бранзалеты (адзін абцягнуты меддзю), шыфернае біканічнае прасліца, сердалікавая 14-гранная, жоўтая паставая і шкляныя пацеркі, абломкі 3 пасудзін ганчарнай керамікі.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к - 2 за 0,5 км на З ад могільніка-1, у лесе каля дарогі на Навагрудак. Было каля 40 курганоў дыям. 5—10 м. Даследавала 1 насып (дыям. 7,5 м, выш. 1,25 м) у 1956 Ф.Д.Гурэвіч. У невял. яме выяўлены абкладзены камянямі касцяк нябожчыка галавой на З.

Помнікі датуюцца 10—12 ст.

*Літ.*: Ц ы б и ш е в М.А. Раскопка в конце 1892 г. некоторых курганов близ г. Новогрудка Минской губернии // Каталог предметов, доставленных на археологическую выставку при IX Археологическом съезде в Вильне в 1893 г. Вильна, 1893; Г у р е в и ч Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Ленинград, 1962.

**ГАРАДЗІ́ШЧА**, рэшткі старажытнага ўмацаванага паселішча або горада. Назва паходзіць ад стараж.-слав. «городити» — агароджваць, умацоўваць. У сэнсе «ўмацаванае пасяленне, гарадок» слова Г. сустракаецца ў 12 ст. ў «Аповесці мінулых гадоў». Найчасцей вызначаюцца валамі, равамі, рэшткамі сцен, наяўнасцю культ. пласта. З'яўленне Г. звязана з эпохай патрыярхату і пераходам насельніцтва да заняткаў жывёлагадоўляй і земляробствам. Рост прадукцыйных сіл садзейнічаў з'яўленню і паглыбленню супярэчнасцей паміж родамі і плямёнамі, што выклікала ўзмацненне ваеннай небяспекі. Людзі вымушаны былі сяліцца на ўмацаваных прыродай мясцінах і ствараць абарончыя збудаванні, якія ўзводзіліся з разлікам больш эфектыўна абараняць маёмасць роду ад варожых нападаў. На тэр. Беларусі Г. вядомы з позняга бронзавага веку, але найб. характэрны для жал. веку з 8—7 ст. да н.э. Часта Г., узведзеныя ў пэўныя эпохі, выкарыстоўваліся насельніцтвам больш позняга часу. Звычайна іх будавалі на ўзвышаных месцах, каля берагоў рэчак і вадаёмаў, часцей за ўсё паблізу іх вусцяў. Размяшчаліся паасобку і групамі (гнёздамі) па 3—5 і болей, што адлюстроўвала сацыяльную структуру развітога патрыярхату. Асн. гасп. адзінкай была сям'я з 30—50 чал., што пражывала на адным Г. Некалькі такіх сямей складалі радавую супольнасць, якая мела сваю пэўную тэр. для пражывання, апрацоўкі глебы і пашавых угоддзяў. У залежнасці ад месца ўзвядзення ўсе Г. на тэр. Беларусі тыпалагічна падзяляюць на ўзгоркавыя, мысавыя і балотныя. Іх колькасныя суадносіны звязаны з геаграфічным рэльефам канкрэтнай мясцовасці. Узгоркавыя будавалі на ледавіковых халмах-астанцах, мысавыя — на высокіх берагах рэк і азёр, балотныя — сярод поймавых нізін, балот і лясоў. На Пн і ў цэнтры Беларусі часцей сустракаюцца ўзгоркавыя, на Пд — мысавыя і балотныя Г. Тыпалагічную характарыстыку Г. складаюць наступныя фактары: форма, выгляд абарончых збудаванняў і суадносіны іх асобных элементаў; дасканаласць і адпаведнасць пэўным баявым задачам. Форма пляцоўкі Г. залежала ад канфігурацыі мысаў ці ўзвышшаў: узгоркавыя звычайна мелі круглую ці авальную пляцоўку, мысавыя былі трох- ці чатырохвугольныя. Пл. Г. ранняга жал. веку была 0,5—2 тыс. $м^2$, пазней — 2—10 тыс. $м^2$ і болей. Сістэма збудаванняў з цягам часу мянялася ад простых канструкцый з вастраколаў да складанай фартыфікацыйнай сістэмы з валоў і равоў. На валах узводзілі сцены з бярвён. У раннім сярэднявякоўі на месцы былых Г. узнікалі гарады, замкі і сядзібы феадалаў. Г. звычайна маюць культ. пласт, у якім пры раскопках знаходзяць рэшткі жытлаў гасп. пабудоў, майстэрняў, розныя артэфакты з каменю, косці, гліны, жалеза, бронзы, шкла і інш. Выключэнне складаюць балотныя Г.-сховішчы, дзе насельніцтва хавалася ў час ваеннай небяспекі. На тэр. Беларусі захавалася звыш 1 тыс. Г. Прыкладна ў палове з іх праводзіліся археал. даследаванні.

*Літ.*: Ш т ы х о в Г.В. Археологическая карта Белоруссии. Вып. 2. Памятники железного века и эпохи феодализма. Минск, 1971; Археалогія Беларусі. Т. 2. Жалезны век і ранняе сярэднявечча. Мінск, 1999.

*В.І.Шадыра.*

**ГАРАДЗІ́ШЧА**, археалагічны помнік — гарадзішча за 0,5 км на ПдЗ ад г.п. Гарадзішча Баранавіцкага р-на Брэсцкай вобл., на ўзгорку. Пляцоўка авальнай формы, памерамі 75 × 30 м, умацавана з напольнага боку валам, які размешчаны ніжэй па склоне. Выявіла і даследавала ў 1957 Ф.Д.Гурэвіч (шурфоўка). У 1988—89 А.М.Мядзведзеў даследаваў 251 $м^2$. Культ. пласт да 1,5 м. Знойдзены агнішчы ў выглядзе ям, запоўненых камянямі, якія сведчаць, што помнік быў забудаваны зрубавымі пабудовамі бліжэй да цэнтра. Верагодна, жытлы мелі прамавугольную форму, але іх дакладныя памеры вызначыць немагчыма. Знойдзены шкляныя і бурштынавыя пацеркі, бронзавыя вісочнае кольца і бляшка, жал. наканечнік стралы, абломак сярпа, гліняныя прасліцы і тыглі. Асн. частку знаходак складае ляпная кераміка пераважна са штрыхаванай паверхняй. Адносіцца да *штрыхаванай керамікі культуры*, датуецца 1—4 ст.

*Літ.*: Г у р е в и ч Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Ленинград, 1962; М е д в е д е в А.М. Белорусское Понеманье в раннем железном веке (I тысячелетие до н.э. — 5 в. н.э.). Минск, 1996.

*А.М.Мядзведзеў.*

**ГАРАДЗІ́ШЧА**, археалагічныя помнікі — стаянкі, гарадзішча і курганны могільнік каменнага, жал. вякоў і эпохі сярэднявякоўя каля в. Гарадзішча Бярэзінскага р-на Мінскай вобл.

С т а я н к а - 1 каменнага веку за 0,3 км на З ад вёскі, на 2-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна, на выш. 10—12 м над узроўнем вады. Пл. каля 1500 $м^2$. Выявіў і даследаваў у 1982 У.П.Ксяндзоў. Знойдзены крамянёвыя нуклеусы, пласціны і адшчэпы (часткова з рэтушшу), фр-ты ганчарнай керамікі.

С т а я н к а - 2 днепра-дзяснінскай культуры эпохі мезаліту за 0,3 км на Пд ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна,



*Крамянёвы інвентар стаянкі-2* ***Гарадзішча*** *Бярэзінскага р-на: пласціны з прытупленай спінкай (1, 7), сячэнні пласцін (2—5), наканечнікі стрэл (6, 18), скрабкі (8—10, 15—24), паўсегмент (11), пласціна са скошаным краем (12), трапецыя (13), праколка (14), разцы (25, 26, 28—30), пласціны з крутой рэтушшу па краі (27), скоблі (31—35).*

Бронзавыя накладкі з селішча **Гарадзішча** Мінскага р-на.



на выш. 3—4 м над узроўнем вады. Адкрыў у 1987 і даследаваў 112 $м^2$ у 1988 У.П.Ксяндзоў. Культ. пласт 0,2—0,4 м. Знойдзены прылады працы з цёмна-шэрага крэйдавага крэменю высокай якасці: наканечнік стралы, разцы, скрабкі, праколка, скоблі, укладышавыя вырабы, пласціны і адшчэпы з рэтушшу, нуклеусы, жаўлакі крэменю.

Гарадзішча жал. веку і эпохі сярэднявякоўя. Размешчана на ўсх. ускраіне вёскі, на правым беразе Бярэзіны, ва ўр. Гарадок. З У да гарадзішча падступае старыца р. Бярэзіна. З напольнага боку яно ўмацавана 2 валамі і равамі.

Рэчы з каляровых металаў з селішча **Гарадзішча** Мінскага р-на.



Выш. над поплавам 10—12 м, памеры 110 × 80 м. З У валы і край пляцоўкі пашкоджаны траншэямі часоў Вял. Айч. вайны, паўн. край часткова разбураны. Адкрыў у 1930 А.М.Ляўданскі, абследавалі ў 1963 Л.Д.Побаль, у 1979 Т.С.Бубенька, даследаваў 16 $м^2$ у 2001 і 2003 В.І.Кошман. Знойдзена ляпная кераміка мілаградскай і ранняга этапу зарубінецкай і штрыхаванай керамікі культур, ганчарная кераміка і жал. сякера раннефеад. часу, а таксама ганчарная кераміка 13—14 ст.

Курганны могільнік размяшчаўся з паўн.-зах. боку гарадзішча, у полі. Налічваў некалькі дзесяткаў курганоў выш. 0,6—1,2 м і дыям. 10—12 м. Знішчаны падчас разворвання поля ў 1950—60-я г. *Т.С.Бубенька, У.П.Ксяндзоў, В.І.Кошман.*

**ГАРАДЗІ́ШЧА**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і селішча каля в. Гарадзішча Мінскага р-на.

Гарадзішча — шматслойнае ўмацаванае паселішча складанай канфігурацыі на правым беразе прытока Пцічы р. Мена (Менка) у месцы ўпадзення ў яе ручая Дунай. Складаецца з вузкага мысавага малога (з адной пляцоўкай) і вял. (амаль квадратнай формы з верхняй і ніжняй пляцоўкамі, з розніцай узроўняў паміж якімі 8—9 м) гарадзішчаў. З напольнага боку ўмацавана дугападобным ровам і валам выш. 8 м. Малое гарадзішча шматслойнае. Ніжнія пласты ўтрымліваюць матэрыялы *штрыхаванай керамікі культуры*, верхнія — часоў *Кіеўскай Русі.* Ад вял. гарадзішча малое аддзялялася валам, які цяпер ледзь прыкметны. Культ. пласт вял. гарадзішча ўтрымлівае матэрыялы *банцараўскай культуры*, перыядаў Кіеўскай Русі, ВКЛ і новага часу. Пазнейшыя напластаванні верхняй пляцоўкі часткова знішчаны.

Абследаванні і раскопкі праводзілі ў 1930 А.А.Рынейскі, у 1935 А.М.Ляўданскі, у 1954 А.Р.Мітрафанаў, у 1963 і 1967 Э.М.Загарульскі, у 1968, 1970 М.А.Ткачоў, у 1976—83 Г.В.Штыхаў, у 1991 Ю.А.Заяц. Культ. пласт 0,4—0,5 м. Першапачаткова малое гарадзішча займала мысавое ўзвышша ў сутоках Дуная і Мены. Земляныя ўмацаванні былі пабудаваны на фінальным этапе існавання або пры засяленні пляцоўкі вял. гарадзішча носьбітамі банцараўскай культуры. Валы вял. гарадзішча былі ўзведзены ў 10 ст. і спачатку мелі выш. 4 м. Аснову вала складалі 3 рады дубовых зрубаў-гародняў памерамі 3,5 × 4 м, запоўненыя супессю і суглінкам. На працягу стагоддзя вал дабудоўваўся двойчы, у выніку чаго яго выш. дасягнула 8—8,2 м. Знойдзена пацерка (амулет) з егіпецкага фаянсу (2—3 ст.), сярэбраная завушніца з прывескай валынскага тыпу, бронзавыя спражкі, нагрудны абразок з выявамі лекараў святых Казьмы і Даміяна, якіх благаслаўляе Спас-Эмануіл, наканечнік ножнаў мяча, шкляныя і сердалікавая пацеркі, фр-ты амфар, ляпнога і вырабленага на крузе керамічнага посуду, донцы гаршкоў з клеймамі ў выглядзе знака Рурыкавічаў (трохзубца), жорны (9—12 ст.), кафля,

манеты, керамічны посуд і вырабы з жалеза (17—19 ст.).

С е л і ш ч а на палях і на тэр. вёскі ўздоўж ручая Дунай і р. Мена да ўпадзення яе ў Пціч. Пл. 40 га. Даследавалі ў 1963 Э.М.Загарульскі, у 1975 і 1983 Г.В.Штыхаў, у 1992, 1996—2001 Ю.А.Заяц. Даследавана 1900 м$^2$. Выяўлены рэшткі жылых і гасп. пабудоў, развалы печаў 10—12 і 14—17 ст. Вызначана, што ў 5—8 ст. мела пл. 1,5—2 га, да пач. 10 ст. — не менш за 10 га, да сяр. 11 ст. — 40 га. Знойдзены фр-ты глінянага посуду культур штрыхаванай керамікі, банцараўскай, валынцоўскай, лукі-райкавецкай і роменскай, гліняныя праслыцы біканічныя з вял. адтулінай, жал. нажы, ключы, наканечнікі стрэл, сякеры, парахаўніца, наральнікі, крэсівы, шыферныя праслыцы, тачыльныя бруські, бронзавыя спражкі, пярсцёнкі, фібулы, гіркі-разнавагі, накладкі на наборныя баявыя паясы, віслая пячатка кн. Глеба (12 ст.), сярэбраны дырхем 893; да 14—17 ст. адносяцца керамічныя посуд, кафлі, курыльныя люлькі, жал. нажы, ключы, відэлец, шкляны посуд, вырабы з каляровых металаў, сярэбраныя, білонавыя і медныя манеты. На той частцы неўмацаванага паселішча, што знаходзіцца на Пд ад гарадзішча, знойдзены спарадычна размешчаныя 18 пахаванняў, пераважна дарослых і дзяцей. Неўмацаванае паселішча з 10 ст. з'яўлялася эканамічным і, магчыма, культавым цэнтрам вясковых паселішчаў цэнтр. тэр. Беларусі. Верагодна, яно было і «местам» — тыпам неўмацаваных перадгар. паселішчаў. З будаўніцтвам дзяцінца і ператварэннем «места» ў горад неўмацаванае паселішча стала гар. пасадам, які раздзяляўся на некалькі частак рэчкай і ручаём. Гарадзішча было ўмацаваным цэнтрам (дзяцінцам) пасялення (горада) на р. Мена — цэнтра Менскай воласці дрыгавічоў, потым Менскага ўдзельнага княства Полацкай зямлі. Мяркуюць, што гэты горад наз. Менскам (Меньскам, Менескам) і папярэднічаў больш познаму аднайменнаму цэнтру (сучасны Мінск), які быў пабудаваны пры ўпадзенні Нямігі ў Свіслач. Пасля разгрому паселішча ў 1067 і ў далейшым яго заняпаду гарадзішча ператварылася ва ўмацаваную феад. сядзібу — «двор», а на частцы тэр. пасада пачало фарміравацца мястэчка.

*Літ.*: З а г о р у л ь с к и й Э.М. Возникновение Минска. Минск, 1982; Ш т ы х о в Г.В. Прагорад на Менцы // Беларуская археалогія. Мінск, 2001. Т. 3; З а я ц Ю.А. К проблеме первоначального Менска (сравнительная хронология поселений на реках Немига и Мена) // МАБ. 2005. Вып. 9.

*Ю.А.Заяц.*

**ГАРАДЗІ́ШЧА**, археалагічныя помнікі жалезнага веку — гарадзішча і селішча каля в. Гарадзішча Мядзельскага р-на Мінскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а *штрыхаванай керамікі культуры* і *банцараўскай культуры* за 0,5 км на З ад вёскі, злева ад шашы Княгінін—Мядзел, на ўзгорку. Пляцоўка авальнай формы, памерамі 62 × 36 м, умацавана 2 дугападобныміваламі: унутраным выш. 0,6—0,7 м, шыр. 8—10 м, які прахо-



*Пацерка (амулет) з егіпецкага фаянсу 2—3 ст. з **Гарадзішча** Мінскага р-на.*

дзіў па краі пляцоўкі (не захаваўся), і вонкавым, што размяшчаўся на схіле ўзгорка, на 4—5 м ніжэй краю пляцоўкі. Адкрыў у 1893 Ф.В.Пакроўскі, даследавалі ў 1969—73 А.Р.Мітрафанаў, у 1986—88 археал. экспедыцыя БДУ пад кіраўніцтвам Э.М.Загарульскага. На думку А.Р.Мітрафанава, першапачаткова па краі пляцоўкі на невял. падсыпцы была ўзведзена драўляная сцяна, якая пазней згарэла. У к. 1-га тыс. да н.э. — пач. 1-га тыс. н.э. пляцоўка была значна павялічана за кошт перамяшчэння на схілы культ. пласта, па краі яе была ўзведзена яшчэ адна абарончая сцяна, таксама знішчаная пажарам. У 5—6 ст. пляцоўка зноў была павялічана, усх. бок гарадзішча дадаткова ўмацаваны ўнутраным валам, астатняя частка пляцоўкі абнесена яшчэ адной абарончай сцяной. Адначасова ва ўсх. частцы на схіле быў выкапаны роў і насыпаны вонкавы вал. У гэты час яно выкарыстоўвалася як гарадзішча-сховішча для насельніцтва, што жыло на суседнім селішчы. Культ. пласт ад 0,25 м у цэнтры да 1,65 м каля краю пляцоўкі.

Выяўлена вял. колькасць камянёў, каменныя вымасткі, складзеныя ў 2—3 рады, больш за 20 гасп. ям круглай і авальнай у плане і чашападоб-



*Гаршкі 11—13 ст. з селішча **Гарадзішча** Мінскага р-на.*

най у сячэнні формы. У адной з ям выяўлены 2 узвышэнні, плоскія паверхні якіх забрукаваны камянямі. Пограб меў драўлянае перакрыццё, аснову якога складалі ўкапаныя па перыметры слупы. Знойдзены таксама гліняныя лінзы круглаватай формы, дыям. 0,4—0,75 м, акаймаваныя раўкамі глыб. 0,1 м, запоўнены культ. пластом і дробным вуголлем. Лінзы мелі, напэўна, культавае прызначэнне. Для ранняга этапу існавання гарадзішча характэрны гліняныя штрыхаваныя гаршкі слоікавых і слабапрафіляваных форм. Апошнія ўпрыгожваліся ямачнымі ўцісканнямі,

*Знаходкі з селішча **Гарадзішча** Мядзельскага р-на.*



якія наносілі ў лінію праз пэўныя інтэрвалы на шыйцы пасудзін, або ямкамі, згрупаванымі ў трохвугольнікі. На 2-м этапе пашырыліся рабрыстыя штрыхаваныя гаршкі, нязначная частка якіх арнаментавана зашчыпамі або ямачнымі ўцісканнямі, нанесенымі на рэбры пасудзіны. Знойдзены жал. сякера-кельт, зубіла, сярпы, нажы, каса, шылы, посахападобныя шпількі, каменныя зерняцёркі, цёрачнікі, тачыльныя брускі, загатоўка каменнай пацеркі, бронзавае скроневае кольца, пранізка, авальная спражка, накладка на пояс, гліняныя прасліцы, тыглі, грузілы, грузікі і інш. На 3-м этапе пераважалі слабапрафіляваныя гаршкі з невял. адагнутым вонкі венчыкам з загладжанай або храпаватай паверхняй без арнаментацыі, прылады працы, упрыгажэнні і зброя (сярпы, нажы, посахападобныя шпількі, шылы, шпоры, трапецападобныя падвескі, льячка, біканічныя прасліцы) і інш.

Селішча банцараўскай культуры на паўн., паўн.-зах. і зах. частках пакатых схілаў гарадзішча. Адкрыў у 1964, даследаваў у 1965—72 А.Р.Мітрафанаў, раскапана 2612 $м^2$. Выяўлены рэшткі 42 жытлаў, у т.л. 11 слупавых (5 наземных і 5 урэзаных у схілы ўзгорка) і 31 зрубавае (14 паўзямляначных і 15 урэзаных у схілы ўзгорка), і 17 гасп. ям. Слупавыя дамы прамавугольнай або трапецападобнай формы, пл. 10—21 $м^2$, арыентаваны сценамі на З ці У (або з невял. адхіленнем). Дыям. слупоў, што фарміравалі каркас пабудоў, дасягаў 0,4—0,5 м, дыям. гарызантальных бярвён, якія ўпускаліся ў пазы слупоў, — 0,25—0,3 м. У цэнтры жытлаў размяшчаліся адкрытыя агнішчы круглай або авальнай формы ў выглядзе гліняных пляцовак таўшч. 0,08—0,12 м, куды былі ўмураваны камяні. Зрубавыя пабудовы прамавугольнай формы, пл. 6,2—15 $м^2$, глыб. катлаванаў у залежнасці ад стромкасці схілу вагалася ад 0,2 да 0,6 м, арыентаваны ў большасці выпадкаў па кірунках свету. У шэрагу паўзямлянак захаваліся рэшткі ніжніх бярвён зрубаў у выглядзе абгарэлага дрэва або вугалля, якія размяшчаліся ўздоўж сцен катлаванаў. У некаторых выпадках удалося прасачыць уваходы ў жытлы (у адной паўзямлянцы ўваход знаходзіўся з паўн. боку і ўяўляў сабой напаўавальны выступ). Зрубавыя пабудовы ацяпляліся печамі-каменкамі, рэшткі якіх у выглядзе развалаў буйных абпаленых камянёў размяшчаліся ў адным з кутоў жытлаў. Гасп. ямы знаходзіліся непадалёку ад дамоў. Яны мелі авальную (0,9—2,7 × 0,9—1,9 м), прамавугольную (1,3—2,8 × 0,9—1,9 м) або круглую (дыям. 0,9— 1,1 м) форму. Сцены прамавугольных ям-паграбоў амаль вертыкальныя, у астатніх — пакатыя. У 5 буйных авальных ямах былі прыступкі. У жытлах знойдзены абломкі гладкасценных гаршкоў (слабапрафіляваных, цюльпанападобных, слоікавых, рабрыстых, з круглаватымі бакамі), місак і міскападобных пасудзін, а таксама жал. сярпы, нажы з прамой спінкай і валютападобным навершам, шылы, наканечнікі кап'я, шпоры, падковападобная фібула, посахападобная шпілька, бронзавы пласціністы бранзалет і бранзалеты, зробленыя з круглых і квадратных у сячэнні стрыжняў, трапецападобныя падвескі, пярсцёнкі, пранізка, абломкі сярэбраных шыйных грыўняў, гліняныя біканічныя прасліцы, тыглі. Датуецца 6—7 ст.



*Жалезны серп і гліняная льячка з* ***Гарадзішча*** *Мядзельскага р-на.*



*Вырабы з жалеза, косці, гліны і каменю з* ***Гарадзішча*** *Мядзельскага р-на.*

*Літ.*: Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1. Минск, 1970; Митрофанов А.Г. Железный век Средней Белоруссии (VII—VI вв. до н.э. — VIII в. н.э.). Минск, 1978. *А.А.Егарэйчанка.*

**ГАРАДЗІ́ШЧА**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і селішча каля в. Гарадзішча Пінскага р-на Брэсцкай вобл.

Гарадзішча на высокім (выш. 12—14 м) мысе карэннай тэрасы ўсх. берага воз. Гарадзішчанскае (Палескае), у басейне р. Ясельда (левы прыток р. Прыпяць). Авальная ў плане пляцоўка памерамі 22 × 27 м арыентавана з У на З, мае нахіл у бок возера. У 1983 і 1986 В.С.Вяргей даследавала 200 м$^2$. Культ. пласт таўшч. 2,4—3 м, верхняя частка пашкоджана пазнейшымі перакопамі і насычана буд. смеццем. На глыб. 0,6—0,7 м выяўлены каменна-цагляны фундамент васьмівугольнай у плане капліцы к. 18 ст., 17 драўляных слупоў выш. 0,1—0,45 м і 5 безынвентарных пахаванняў па абраду трупапалажэння. З паўн. і ўсх. бакоў пляцоўкі ўскрыты ўчастак схаванага ў зямлі пясчанага вала выш. 0,7—1,8 м. На грэбені вала выяўлены рэшткі згарэлай драўлянай асцяны з вертыкальных слупоў, пастаўленых на адлегласці 3 м адзін ад аднаго і замацаваных паміж імі гарызантальных бярвён. Пад валам — даследаваны культ. пласт таўшч. 0,7—0,9 м з матэрыяламі эпохі неаліту, бронзавага веку і *зарубінецкай культуры.*

Селішча (пл. каля 4 га) прымыкае да гарадзішча з трох бакоў, першапачаткова было аддзелена ад яго ярам. У 1987—89 і 1990—99 В.С. Вяргей і А.У.Іоў даследавалі каля 1000 м$^2$. Культ. пласт таўшч. 0,5—1,2 м. Выяўлены 150 гасп. і слупавых ям (50 з іх належаць да 8—10 ст., астатнія — да 16—19 ст.), 2 ачагі (позназарубінецкая культура к. 1—3 ст.) і 4 наземныя жылыя пабудовы зрубавай канструкцыі пл. каля 30 м$^2$ з печкамі-каменкамі (10 ст.). Знойдзена каля 17 тыс. вырабаў з крэменю, гліны, каменю, чорнага і каляровых металаў, шкла, косці. Па дадзеных стратыграфіі і тыпалогіі рэчаў прасочваюцца культ.-гіст. этапы функцыяніравання паселішча. Яно ўзнікла на беразе возера ў фінальным палеаліце (8-е тыс. да н.э.; *свідэрская культура*); у познім неаліце (3-е — пач. 2-га тыс. да н.э.) тут пражывала насельніцтва нёманскай і шнуравой керамікі культур, у 2 ст. да н.э. — 2 ст. н.э. — зарубінецкай культуры. На мяжы 2—3 ст. у керамічным комплексе прасочваюцца элементы *вельбарскай культуры*, усх.-германскай культуры *готаў.*

Росквіт паселішча ў Г. прыпадае на 8—10 ст. і звязаны са слав. насельніцтвам лука-райкавецкай культуры. Гэтым перыядам датуюцца абарончыя збудаванні на пляцоўцы гарадзішча; прылеглае да яго селішча дасягае ў гэты час сваіх максімальных памераў. Тапаграфія гэтага часу, рэчавы комплекс, у якім прысутнічаюць рамесныя вырабы як мясц., так і блізкаўсх., цэнтр.-азіяцкага і зах.-еўрап. паходжання (упрыгажэнні, зброя, рыштунак каня і вершніка, прылады працы і прадметы побыту), сведчаць, што паселішча з'яўлялася гандл.-рамесным цэнтрам, ці «протагорадам». Статус паселішча вызначаўся яго месцазнаходжаннем на ўчастку еўразійскага воднага шляху з Прыбалтыкі ў Чорнае і Каспійскае моры. Археал. матэрыялы таксама дазваляюць прасачыць генетычную сувязь лука-райкавецкай культуры са стараж.-рус. часам. *В.С.Вяргей, А.В.Іоў.*



*Жалезныя восці і рыбалоўны кручок з гарадзішча і селішча* ***Гарадзішча*** *Пінскага р-на.*

**ГАРАДО́К**, горад, цэнтр Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл., на р. Гаражанка (упадае ў воз. Лугавое). За 39 км ад Віцебска, 2 км ад чыг. ст. Гарадок на лініі Віцебск—Невель (Расія), на аўтадарозе Віцебск—Невель.

У эпоху сярэдневякоўя Г. — адзін з паўн. ускраінных населеных пунктаў Віцебскай зямлі. Цэнтрам стараж.-рус. паселішча (магчыма, гар. пасада) з'яўлялася гарадзішча, што размяшчалася на правым беразе ракі, мела пляцоўку авальнай формы, памерамі 100 × 120 м з умацаваннямі па краі (знішчана пры будаўніцтве Санкт-Пецярбургскай шашы). У адпаведнасці з планіровачнай структурай гар. паселішчаў 16—17 ст. на процілеглым беразе Гаражанкі насупраць стараж. гарадзішча, на высокім мысе, што наз. Узгор'е, быў узведзены *Гарадоцкі замак,* які стаў новым цэнтрам і фарміраваў далейшае развіццё гар. вулічнай сеткі. У гэты час уся тэр. ўздоўж берагоў Гаражанкі ад воз. Лугавое і ўчастак Узгор'е былі заселены. Да 16 ст. Г., верагодна, уваходзіў у склад Азярышчанскай воласці ВКЛ з цэнтрам у Азярышчы (цяпер г.п. Езярышча). Пасля заняпаду Езярышчанскага замка Г. стаў цэнтрам акругі. У 1979 В.М.Ляўко ўпершыню праведзена абследаванне гіст. часткі Г., у 1986—88 праводзілася шурфоўка і прарэзка паўн. схілу Узгорскага ўзвыш-

ша. Даследаванні пацвердзілі, што абарончы вал, які праходзіў па краі пляцоўкі, быў знівеліраваны на рубяжы 18—19 ст. Пад нівеліровачным пластом выяўлены культ. пласт 0,7—0,8 м з матэрыяламі 16—17 ст. і больш ранняга часу. У 1988 праведзены раскопкі ў цэнтр. часткі Узгор'я, у культ. пласце 0,5—0,8 м знойдзены адзінкавыя фр-ты ляпной керамікі з шурпатай паверхняй, кераміка 10—13 ст., 14—18 ст. і вырабы з жалеза, шкла, манеты 16—18 ст. Пад развалам каменнай муроўкі царквы і каля яе выяўлены 4 пахаванні па абраду трупапалажэння ў трунах, у адным пахаванні знойдзены ружанец, пацеркі з сіняга шкла, фр-т крыжа з каляровага металу, бронзавыя пярсцёнак і спражка, арнаментаваная насечкамі. Пахаванні адносіліся да 15—16 ст. і папярэднічалі будаўніцтву мураванай царквы. У час археал. раскопак і назіранняў за буд. работамі ўстаноўлена, што ў жал. веку тут існавала невял. паселішча, у 10—11 ст. яно было пастаянна заселеным. Найб. інтэнсіўныя адкладанні адносяцца да к. 16—18 ст. — часу існавання замка. Рост горада ў 17—18 ст. адбываўся ва ўсх. і паўд.-ўсх. напрамках, пра што сведчаць выяўленыя там культ. напластаванні таўшч. 0,5—1,5 м. У шэрагу выпадкаў у буд. траншэях зафіксаваны 1—2 ярусы драўляных насцілаў вулічных маставых, што пацвярджае стабільнасць планіроўкі вулічнай сеткі.

На паўд.-зах. ускраіне сучаснага Г. на правым беразе Гаражанкі размяшчаецца *Гарадоцкае селішча.*

*Літ.*: Л е в к о О.Н. Исследования в Городке Витебской области // Археология и история Пскова и Псковской земли: тез. докл. научно-практ. конф. Псков, 1988; Я е ж. Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси. Минск, 2004.

*В.М.Ляўко.*

**ГАРАДО́К**, археалагічныя помнікі — паселішчы, гарадзішча і селішча каля в. Гарадок Жлобінскага р-на Гомельскай вобл.

П а с е л і ш ч а - 1 неаліту і бронзавага веку за 0,5 км на ПдУ ад вёскі, ва ўр. Ляды, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Бярэзіна. Пл. 1100 м$^2$. Выявіў і абследаваў у 1977 У.П.Ксяндзоў, у 1988 — В.Л.Ліпніцкая і В.Я.Кудрашоў, у 1991 — І.М.Язэпенка. Знойдзены фр-ты неалітычнай керамікі з накольчатымі і грабеньчатымі арнаментамі, абломкі ляпной керамікі *сярэднедняпроўскай культуры* ранняга перыяду бронзавага веку (упрыгожана адбіткамі лінейнага штампа, шнура, наразнымі лініямі), крамянёвыя прылады — свярдзёлак на адшчэпе, наканечнікі стрэл (трохвугольныя, з прамой і ўвагнутай асновай, тронкавыя), праколка з пласціны, нажы, скоблі, сячэнні пласцін, скрабкі, рэтушоры.

П а с е л і ш ч а - 2 неаліту і бронзавага веку за 1,2 км на Пд ад вёскі, на дзюнным пагорку, у пойме левага берага р. Бярэзіна. Выявіў і абследаваў у 1977 У.П.Ксяндзоў, у 1990 — І.М.Язэпенка. Тэр. помніка (каля 2500 м$^2$) распахана пад лесапасадку. Знойдзены крамянёвыя вырабы — канцавыя скрабкі, двухбаковы тронкавы наканечнік стралы, нож з пласціністага адшчэпа, абломак крамянёвай сякеры, адшчэпы; кераміка ранняга перыяду бронзавага веку, арнаментаваная лінейным штампам, пракрэсленымі лініямі, 2 фр-ты, упрыгожаныя лапчастым штампам і наколамі.

П а с е л і ш ч а - 3 неаліту і бронзавага веку за 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, на пясчаным узгорку 1-й надпоймавай тэрасы левага берага р. Бярэзіна. Памеры 40 × 30 м. Выявіў і абследаваў у 1977 У.П.Ксяндзоў, у 1988 В.Л.Ліпніцкая і В.Я.Кудрашоў, у 1990—92 І.М.Язэпенка. На пл. каля 150 м$^2$ сабрана каля 95 крамянёвых вырабаў, у асн. першаснай апрацоўкі: нуклеусы (14), адшчэпы (65), пласціны (12). Сярод прылад — скрабкі (8), наканечнікі стрэл (3), вастрыі (2), мікраразец; абломкі неалітычнай керамікі (16), некаторыя з іх арнаментаваны грабеньчатым штампам.

П а с е л і ш ч а - 4 днепра-дзяснінскай мезалітычнай культуры і *днепра-данецкай культуры* неаліту за 3 км на ПдЗ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Бярэзіна. Пл. 1400 м$^2$, выш. 5—6 м. Адкрыў і даследаваў 44 м$^2$ у 1977 У.П.Ксяндзоў. Выяўлены мезалітычны (на глыб. 0,8—1,1 м ад паверхні) і неалітычны (на глыб. 0,1—0,5 м) культ. пласты. У мезалітычным пласце знойдзены рэшткі вогнішча і гасп. ям, прылады працы з шэрага крэйдавага крэменю (т.зв. «сожскага»): постсвідэрскія наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі, сярэдзінныя і бакавыя разцы, праколкі, вастрыі, пласціны, укладышы, скоблі, нажы, пласціны і адшчэпы з рэтушшу, нуклеусы. У неалітычным пласце выяўлены рэшткі 3 круглых вогнішчаў. Знойдзены абломкі ляпной керамікі, арнаментаванай адбіткамі грабеньчыка і наколамі, крамянёвыя прылады працы (скрабкі, наканечнікі стрэл), пласціны, адшчэпы, нуклеусы.

Г а р а д з і ш ч а за 0,25 км на ПдУ ад вёскі, ва ўр. Тарэлка, на левым беразе безназоўнага прытока р. Бярэзіна. Выявіў у 1977 У.П.Ксян-



*Упрыгажэнні з пахаванняў 15—16 ст. з г. **Гарадок**.*

дзоў, Н.М.Дубіцкая даследавала 16 м². Культ. пласт 0,7 м. Знойдзены фр-ты ляпной прафіляванай пасудзіны *мілаградскай культуры*, часткова арнаментаваныя насечкамі.

С е л і ш ч а ранняга *жалезнага веку* за 50 м на ПдЗ ад вясковых могілак, на дзюнным пагорку 1-й надпоймавай тэрасы р. Бярэзіна. Пл. 400 м². Выявіў і абследаваў у 1977 У.П.Ксяндзоў. Культ. пласт 0,2 м. Знойдзены фр-ты грубаляпной таўстасценнай керамікі, абломкі жал. рэчаў.

*Літ.*: К с е н з о в В.П. Палеолит и мезолит Белорусского Поднепровья. Минск, 1988.

*Н.М.Дубіцкая, І.М.Язэпенка.*

*Крамянёвы інвентар паселішча-4* ***Гарадок*** *Жлобінскага р-на: наканечнікі стрэл (1—4), скрабкі (5—17).*




**ГАРАДО́К**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і селішча каля в. Гарадок Маладзечанскага р-на Мінскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а ранняга жал. веку і сярэдневякоўя. У паўн. частцы вёскі, паблізу р. Бярэзіна. Мясц. назва Замак. Пляцоўка памерамі 60 × 40 м, выш. 4—5 м над узроўнем вады. Абкружана ровам шыр. 25—30 м, за якім размешчана тэраса шыр. 10—12 м, за ёй — кальцавы вал выш. да 10 м, часткова разбураны з усх. боку. Тут захавалася пляцоўка дыям. 7 м, дзе, магчыма, стаяла абарончая вежа. Мост цераз роў знаходзіўся на Пд. Даследавалі Я.Г.Зверуга ў 1966 (72 м²), М.А.Ткачоў у 1973, Г.М.Сагановіч у 1989 (больш за 500 м²). Ніжні культ. пласт на глыб. 1,5 м пад нівеліраванай падсыпкай пяску і жвіру. На З пляцоўкі выяўлена праслойка пажарышча з абломкамі штрыхаванай керамікі і кавалкамі жал. шлаку. У верхнім культ. пласце (0,3—0,4 м) знойдзена кераміка 14—17 ст. і вял. колькасць фр-таў паліхромнай (зялёная, фіялетавая, карычневая, жоўтая, блакітная, белая) і аднаколернай зялёнай кафлі. Арнаментавана традыц. раслінным ці геам. малюнкам, узорам з гербам «Ружа», сцэнамі палявання, казачнымі сюжэтамі, выявамі чалавека, амура, цмока і інш. Некаторыя даследчыкі звязваюць гарадзішча з летапісным *Гарадцом*, у якім у сяр. 12 ст. княжыў Валадар Глебавіч.

С е л і ш ч а прымыкае да гарадзішча з ПдЗ і З; паміж гарадзішчам і селішчам ёсць паніжаны, часткова забалочаны ўчастак шыр. 20—40 м. Выявіў і абследаваў у 1985 Я.Г.Зверуга. У культ. пласце (0,4—0,5 м) знойдзена кераміка 14—17 ст., адзінкавыя фр-ты посуду эпохі Кіеўскай Русі, кавалкі жал. шлаку, абпаленыя камяні.

*Літ.*: З в е р у г о Я.Г. Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. Минск, 1989.

*Я.Г.Зверуга, Г.М.Сагановіч.*

**ГАРАДО́К**, археалагічны помнік — гарадзішча каля хутара Гарадок Полацкага р-на Віцебскай вобл. Размешчаны на ўзгорку выш. 25 м, на паўд. беразе воз. Нявіда. Пляцоўка авальная, памерамі 35 × 50 м. На паўд. ускраіне захаваліся рэшткі вала выш. да 1,5 м і некалькі сучасных магіл. Вядомы з 19 ст., даследаваў каля 100 м² у 1979, 1981 В.І.Шадыра. Культ. пласт 0,5—2 м каля вала. Выяўлена кераміка днепра-дзвінскай і банцараўскай культур. Зрэдку ў верхніх пластах сустракаецца ганчарная кераміка. Знойдзены біканічныя праслiцы, жал. сярпы, нажы, шылы, шпоры, бранзалет і інш. Матэрыялы раскопак адносяцца да позняга этапу днепра-дзвінскай культуры. Інтэнсіўны перыяд выкарыстання гарадзішча звязаны з носьбітамі *банцараўскай культуры*, якія выкарыстоўвалі яго і. як сховішча. Датуецца 1—13 ст. У 11—12 ст. тут, хутчэй за ўсё, размяшчалася феад. сядзіба.

*Літ.*: Ш а д ы р о В.И. Раскопки городищ на севере Белоруссии // АО 1981. М., 1983; Я г о ж. Беларускае Падзвінне (І тысячагоддзе н.э.). Мінск, 2006.

*В.І.Шадыра.*

**ГАРАДО́К**, археалагічны помнік — стаянка позняга мезаліту *днепра-дзяснінскай культуры* каля г. Новалукомль Чашніцкага р-на Віцебскай вобл. На паўд.-ўсх. ускраіне горада, ва ўр. Гарадок, на 2-й надпоймавай тэрасе воз. Лукомскае, выш. 10—12 м. У 1968 І.М.Ціханенкаў даследаваў 120 м². Культ. пласт 0,3—0,4 м. Знойдзены постсвідэрскія і асіметрычныя тронкавыя наканечнікі стрэл з рэтушшу з брушка, канцавыя і авальныя скрабкі, мікраскрабкі, разцы, праколкі, пласціны-ўкладышы, нажападобныя, з прытупленым рэтушшу краем і без рэтушы, нуклеусы, крамянёвая луска.

*Літ.*: Т и х о н е н к о в И.М. Мезолитическая стоянка Городок в Чашникском районе Витебской области // Беларускія старажытнасці. Мінск, 1972.

**ГАРАДО́К**, К р ы в е л ь, археалагічны помнік — гарадзішча ранняга жалезнага веку каля в. Гарадок Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл. За 0,3 км на З ад вёскі, на левым беразе Дняпра, 1,5 км ад рэчышча, на мысе берагавой тэрасы паміж ярамі. Мясц. назва Барсукова гара. Пляцоўка авальная, памерамі 64 × 46 м, выш. 17,5—19 м, выцягнута з ПнУ на ПдЗ. 2 валы выш. 2 і 3 м з У, паміж імі роў глыб. 2,5 м, шыр. 8 м, невысокі вал — з ПдЗ. Даследавалі ў 1936 В.Р.Тарасенка, у 1988 А.А.Седзін, абследавалі ў 1977 В.Ф.Капыцін, у 1983 В.М. Ляўко. Культ. пласт 0,45—0,5 м. Знойдзена шмат фр-таў штрыхаванага і гладкасценнага ляпнога керамічнага посуду, часткова арнаментаванага, рэшткі глінабітнай печкі-домніцы, шлакі, вогнішча з камянёў.

*Літ.*: Т а р а с е н к о В.Р. К истории позднеродового общества на территории Белоруссии // Изв. АН БССР. 1948. № 2.

*А.А.Седзін.*

**ГАРАДО́ЦКАЕ СЕ́ЛІШЧА**, археалагічны помнік у г. *Гарадок* Віцебскай вобл. На паўд.-зах. ускраіне горада, на 1-й і часткова 2-й надпоймавых тэрасах правага берага р. Гаражанка. У 1934 абследаваў А.Дз.Каваленя, у 1986, 1988—89 даследавала В.М.Ляўко, раскапана 560 м², у т.л. 140 м² пад курганом (гл. *Гарадоцкі курганны могільнік*). Культ. пласт 0,4—1 м. Прасочаны сляды жытлаў 6—8 ст. (ямкі ад слупавых канструкцый у мацерыку, развалы агнішчаў з ляпной керамікай, гліняная абмазка, абгарэлае дрэва і інш.). Культ. пласт 3—5 ст. утрымліваў пераважна таўстасценную ляпную кераміку з расчосамі, зашчыпамі, косымі насечкамі па краі венчыка (частка пасудзін мела плечукі). Знойдзена спіралепадобная



*Паліхромная кафля 14—17 ст. з гарадзішча **Гарадок** (Маладзечанскага р-на).*



*Рэчы з **Гарадоцкага селішча**.*

пацерка са светла-зялёнага шкла 2—3 ст. Ніжні пласт (3—5 ст.) перакрыты цёмна-карычневым пластом 6—9 ст., у якім знойдзены ляпная гладкасценная кераміка, жал. наканечнік кап'я, гліняныя прасліцы і інш. У верхніх напластаваннях знойдзены кераміка 10—12 ст., шкляныя пацеркі, бранзалеты, жал. нажы і інш. рэчы эпохі Кіеўскай Русі, а таксама асобныя прадметы 17— 18 ст. (курыльныя люлькі, гліняныя цацкі, посуд). Кераміка ніжняга пласта селішча блізкая да матэрыялаў *кіеўскай культуры*, археал. помніка Абідня ў Бел. Падняпроўі, селішчаў і гарадзішчаў у міжрэччы рэк Ловаць і Вялікая на Пскоўшчыне. Знаходкі 8—9 ст. — венчыкі пасудзін з плечукамі тыпу пасудзін доўгіх курганоў Смаленшчыны. Кераміка 6—8 ст. належыць да *банцараўскай культуры*.

*Літ.*: Л е в к о О.Н. Археологическое исследование селища у оз. Луговое на территории г. Городок Витебской области // МАБ. 2003. № 8. *В.М.Ляўко.*



*Фрагменты ляпной керамікі кіеўскай культуры з **Гарадоцкага селішча**.*

**ГАРАДО́ЦКА-ЗДО́ЎБІЦКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура, пашыраная ў Зах. Валыні і паўд. раёнах Валынскага Палесся (ад Случы на У да Зах. Буга на З), асобныя помнікі сустракаюцца ў вярхоўях р. Прыпяць. Вылучыў І.К.Свешнікаў у 1966. Назву атрымала ад паселішчаў каля сёл Гарадок і Здоўбіца (Ровенская вобл., Украіна). Датуецца апошняй чв. 3-га тыс. — пач. 2-й чв. 2-га тыс. да н.э. І.К.Свешнікаў вылучаў 2 этапы: гарадоцкі (ранні) і здоўбіцкі (позні). На гарадоцкім этапе насельніцтва жыло ў наземных пабудовах прамавугольнай або авальнай формы слупавой канструкцыі з адкрытымі ачагамі пасярэдзіне, карысталася глінянымі пасудзінамі з шарападобным тулавам, міскамі, амфарамі з 2 ручкамі, крамянёвымі, каменнымі і касцянымі вырабамі. Побач з жытламі знойдзены гасп. ямы, на некаторых паселішчах таксама сляды крэменеапрацоўчых майстэрняў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў скурчаным становішчы на курганных могільніках. На здоўбіцкім этапе вядомы жытлы, у якіх прасочваюцца наземныя і паглыбленыя часткі, грунтавыя пахаванні з трупапалажэннямі, характэрны гаршкі з пукатым тулавам, амфары, цыліндрычныя кубкі і чарпакі, крамянёвыя сякеры, сярпы, кінжалы, наканечнікі коп'яў, каменныя зерняцёркі, свідраваныя сякеры, касцяныя наканечнікі стрэл, металічныя падвескі, пранізкі, завушніцы, скроневыя кольцы, драцяныя пярсцёнкі, пацеркі і інш. Асобныя элементы Г.-з.к. адзначаюцца на матэрыяле адначасовых помнікаў Бел. Палесся.




Аўтар М.М. Крывальцэвіч

Некаторыя археолагі (Я.Махнік, С.Кадраў і інш.) разглядаюць помнікі Г.-з.к. ў якасці лакальнага ўсх. варыянта межанавіцкай культуры (перыяды BrA1a — BrA2 цэнтр.-еўрап. бронзавага веку). Паводле К.П.Буняцян, Г.-з.к. была мала звязана з культурамі эпохі бронзы Балкана-Дунайскага свету, з'яўлялася працягам і, верагодна, новым этапам развіцця асобных прышлых груп *шнуравой керамікі культуры*. Помнікі Г.-з.к. сінхранізуюцца з комплексамі перыядаў BrA1a —

BrA2 цэнтр.-еўрап. бронзавага веку (2350—1600-я г. да н.э.).

*Літ.*: Свешніков І.К. Історія населення Передкарпаття, Поділля і Волині в кінці III — на початку II тис. до н.е. Київ, 1974; Його ж. Культуры шнуровой керамики // Археология Прикарпатья, Волыни и Закарпатья (энеолит, бронза и раннее железо). Киев, 1990; Крывальцэвіч М.М. «Шнуравы гарызонт» на Беларусі: праблемы ідэнтыфікацыі і генэзіса // Czebreszuk J., Kryvalcevič, Makarovicz P. (red.). Od neolityzacj do początków epoki brązu. Przemiany kulturowe w międzyrzeczu Odry i Dniepru między VI i II tys. przed Chr. Poznań, 2001; Бунятян К.П. Городоцька-здовбіцька культура: проблемна ситуація // Археологія. 2008. № 3; Kadrow S., Machnik J. Kultura mierzanowicka. Chronologia, taksonomia i roswój przestrzenny // Prace komisija archeologicznej. Kraków, 1997. № 29.

*М.М.Крывальцэвіч.*

**ГАРАДО́ЦКІ КУРГА́ННЫ МО́ГІЛЬНІК**, археалагічны помнік у г. Гарадок Віцебскай вобл., на паўд. ускраіне горада, на правым беразе р. Гаражанка, каля воз. Лугавое. Уключае 4 круглыя курганы выш. 1,1—3,5 м, дыям. 11—13 м, і адзін доўгі памерамі 25 × 12 м, выш. 2,5 м, насупраць іх на левым беразе ракі. Выявіў у 1934 А.Дз.Кавaленя, абследавалі ў 1971 Г.В.Штыхаў, у 1981 В.М.Ляўко. У 1986 В.М.Ляўко раскапала 1 круглы курган. Пахавальны абрад — трупаспаленне (3 урны з плечукамі і прамым горлам, аздобленыя хвалістым і лінейным арнаментам, выяўлены ў паўд.-ўсх. частцы насыпу). Пахавальны інвентар — фр-ты трапецападобных бронзавых падвесак з кропкавым арнаментам, сплаў сіняй шкламасы (магчыма, пацеркі), палавінка дырхема Арабскага халіфата (892—902, т.зв. абол мёртвых), серп. Вакол насыпу выяўлены кальцавыя равы шыр. каля 1,9 м, глыб. 0,4 м. У насыпе кургана, створаным з культ. пласта, знойдзены рэшткі гладкасценнай ляпной неарнаментаванай керамікі 6—8 ст. (*банцараўскай культуры*). Пад насыпам выяўлены культ. пласт таўшч. 0,1—0,3 м, у якім знойдзена ляпная таўстасценная кераміка 3—5 ст., арнаментаваная расчосамі і зашчыпамі па краі венчыка (*кіеўская культура*).

*Літ.*: Левко О.Н. Исследования в Городке Витебской области // Археология и история Пскова и Псковской земли: тез. докл. научно-практ. конф. Псков, 1988; Ее ж. Археологические памятники Городокщины в свете формирования раннегосударственных образований Восточной Европы // Гарадоччына ўчора, сёння, заўтра: матэрыялы I Гарадоцкіх краязн. чытанняў. 26 кастр. 2007 г. Гарадок, 2008. *В.М.Ляўко.*

**ГАРА́НІ**, археалагічны помнік — гарадзішча за 1,5 км на ПнЗ ад в. Гарані Смаргонскага р-на Віцебскай вобл., на зах. беразе воз. Свір. Займае мыс прыроднага ўзвышша, выцягнутага з ПдЗ на ПнУ. Пляцоўка трохвугольная, памерамі 75 × 60 м, выш. 7—12 м. З напольнага паўд.-зах. боку быў насыпаны вал (цяпер разбураны). Для надання большай стромкасці паўн.-зах. схілу ён быў падрэзаны, аб чым сведчыць тэраса ў яго аснове. Гарадзішча выявілі і абследавалі Г.Цэгак-Галубовіч і У.Галубовіч. У 1978—81 Я.Г.Звяруга даследаваў 680 м². Культ. пласт ад 0,2—0,3 м па краях пляцоўкі да 2—2,5 м у яе цэнтры. На мацерыку выяўлены рэшткі слупавых пабудоў круглай формы пач. 1-га тыс. да н.э. Сярод 860 індывідуальных знаходак вял. колькасць каменных прылад працы (сякеры-кліны, свідраваныя сякеры, а



*Рэчавы матэрыял гарадоцкага (1—7, 9) і здоўбіцкага (8, 10—19) этапаў **гарадоцка-здоўбіцкай культуры** (паводле І.К.Свешнікава): 1—3, 5—7, 9, 15 — Гарадок; 4 — Суцець; 8, 12,13, 17 — Зозіў; 10, 14, 18,19 — Здоўбіца; 11 — Княгініне; 16 — Гірка-Палонка. 1, 4, 5, 11, 14—17, 19 — кераміка; 2, 3, 6, 8, 9, 12, 13, 18 — крэмень; 7 — костка; 10 — камень.*


*Доўгі курган **Гарадоцкага курганнага могільніка**.*

таксама высвідраваныя асяродкі — адыходы мясц. вытворчасці сякер), вырабаў з косці і рога (наканечнікі стрэл і дзід, долаты, праколкі, рагавыя муфты для рубячых прылад, булаўкі, падвескі-амулеты), якія датуюцца 1-м тыс. да н.э. З пач. н.э. большая частка прылад працы выраблялася з жалеза (посахападобныя шпілі, шпілі з касцяной катушкападобнай верхняй часткай, сякеры, сярпы, нажы, наканечнікі стрэл, праколкі). Сярод ляпной керамікі (каля 50 тыс. фр-таў) пераважае штрыхаваны посуд, у меншай колькасці прысутнічае гладкасценны, шурпаты, абліты і глянцаваны. Помнік адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца 1-м тыс. да н.э. — 4 ст. н.э.

*Літ.*: Медведев А.М. Белорусское Понеманье в раннем железном веке (I тысячелетие до н.э. — 5 в. н.э.). Минск, 1996; Зверуга Я.Г. Беларускае Павілле ў жалезным веку і раннім сярэдневякоўі // МАБ. 2005. Вып. 10.

*Я.Г.Зверуга, А.М.Мядзведзеў.*

**ГАРАЎЛЯ́НСКІЯ МАНЕ́ТНА-РЭ́ЧАВЫЯ СКА́РБЫ.** Знойдзены ў 1965 каля в. Гараўляны Глыбоцкага р-на Віцебскай вобл. 1) У ляпным гліняным гаршку былі фрагментаваныя ювелірныя вырабы з серабра (2 фр-ты 4-граннага ў сячэнні дроту, 3 фр-ты і цэлая загатоўка для пласціністага бранзалета, зашчыпка), фр-ты пасудзіны, шыфернае прасліца; 405 сярэбраных манет, у т.л. 220 пераважна фрагментаваных куфіцкіх *дырхемаў* Арабскага халіфата і 185 дэнарыяў з Англіі, Германіі, Францыі, Чэхіі. Дырхемы дынастый Абасідаў (нявызначаны манетны двор), Саманідаў (манетныя двары аш-Шаш, Бухара, Рашт, Самарканд), Бавендыдаў (Фірым), Буідаў (Бувайхідаў; манетныя двары Араджан, Амоль, Астарабад, Джурджан, Сарыя), Хамданідаў (манетныя двары ал-Мусіл, Халеб), правіцеляў Нісабура (манетны двор Нісабур), г. Булгар (манетаперайманне саманідскага дырхема — манетны двор аш-Шаш). Скарб ухаваны ў 11 ст., зберагаецца ў Нумізматычным кабінеце БДУ. 2) У ляпным гаршку знаходзіліся цэлыя і фрагментаваныя ювелірныя вырабы з серабра (бранзалеты, пярсцёнак, загатоўкі для ювелірных вырабаў), 15 манет-перайманняў куфіцкіх дырхемаў у выглядзе брактэатаў з вушкамі для падвешвання, шкляныя бочачкападобныя залачоныя пацеркі, 135 пера-



*Знаходкі з гарадзішча Гарані.*

важна фрагментаваных сярэбраных манет, у т.л. 134 куфіцкія дырхемы Арабскага халіфата і 1 чэшскі дэнарый Баляслава III Крывавустага (999—1003). Дырхемы дынастый Абасідаў (манетны двор Мадынат ас-Салам), Саманідаў (манетныя двары Андэраба, аш-Шаш, Балх, Бухара, Самарканд), Абу-Даўдыдаў (Андэраба), Бувайхідаў (Араджан, Шыраз), Зіярыдаў (Джурджан, Сарыя). Ухаваны ў сяр. 11 ст., зберагаецца ў Нац. музеі гісторыі і культуры Беларусі. *В.Н.Рабцэвіч.*

**ГАРЛА́Ч**, г л а д ы ш, с т а ў б у н, ганчарны выраб; высокая гліняная пасудзіна з пукатымі бакамі і звужанай шыйкай. З 10—14 ст. сустракаўся ў Беларусі (гаршкі з вертыкальным горлам), найб. пашыраны з 17 ст., выкарыстоўваўся для захавання малака. У пісьмовых крыніцах стараж.-рус. часу вядомы пад назвай «кринъ». Выраблялі непаліраваныя, чорназадымленыя, глянцаваныя Г.

**ГАРМА́ТА**, агульная назва ўсіх відаў артылерыйскай агнястрэльнай зброі. На тэр. Беларусі Г. ўпершыню выкарысталі нямецкія рыцары ў 14 ст. З к. 14 ст. імі карысталіся войскі ВКЛ. Першыя Г. адлівалі з бронзы ці кавалі з жалеза. Стралялі яны каменнымі ядрамі на адлегласць да 0,2 км. Для аблогі і разбурэння мураваных умацаванняў выкарыстоўвалі найб. цяжкія і кароткія Г. — марціры і бамбарды. У 15 ст. паявіліся лёгкія Г. з падоўжаным ствалом, у 16 ст. — доўгія Г., якія ў залежнасці ад даўжыні ствала і яго вагі падзяляліся на розныя тыпы (картавуны, фальконы, калеўрыны і інш.). У Беларусі вытворчасць Г. пачалася ў к. 16 ст. ў Нясвіжы, Слуцку, Быхаве і інш. гарадах.

**ГАРО́ДНЯ**, г а р а д н я́, прамавугольны зруб з бярвён ці брусоў, тып *абарончага збудавання*. Шэраг Г., шчыльна пастаўленых адна да адной тарцамі, утваралі абарончую сцяну. Г. маглі засыпацца паміж сценамі зямлёй ці каменнем, пустыя зрубы выкарыстоўвалі як укрыцце («схаванне») для жыхароў горада і хатняга скарбу на час аблогі або як склад правіянту (жытніца, «спіхлеры») на выпадак вайны. Будавалі 1-ярусныя (выш. 3—4 м) і 2—3-ярусныя. У верхняй частцы Г. насцілалі баявую галерэю («бланкаванне», «вуліца») з абломамі і *байніцамі*, перакрытую 2-схільнай гонтавай страхой. Сценкі, звернутыя ў бок поля, рабілі таўшч. у 2—5 бярвён для большай трываласці (напр., *Полацкі Верхні замак*). Для зберажэння ад гніення і пажараў сцены абмазвалі глінай да ўзроўню галерэі. Г. выкарыстоўвалі для абароны драўляных замкаў большасці гарадоў Беларусі з часоў Кіеўскай Русі (Віцебскі Узгорскі замак, замкі Полацка, Мсціслава, Крычава, Слаўгарада, Гомеля, Мазыра і інш.). Рэшткі Г. 13 ст. выяўлены ў Навагрудку (гл. *Навагрудскі Малы замак*), згарэлага бланкавання ў Гродне (гл. *Гродзенскі Стары замак*).

*Літ.*: Т к а ч о ў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мінск, 1978.

*М.А.Ткачоў.*

**ГАРО́ШКАЎ**, археалагічныя помнікі — гарадзішча, бескурганныя могільнікі і селішчы каля в. Гарошкаў Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а *мілаградскай культуры*. У вёсцы, на правым беразе р. Дняпро, ва ўр. Гарадок. Пляцоўка памерам 2 га, трохвугольная ў плане, падзелена ўнутраным валам (выш. 2 м, шыр. 12 м) на 2 часткі: жылую пл. 5200 $м^2$, на мысе, і нежылую, размешчаную паміж унутраным і знешнім (выш. 3,5 м, шыр. 16 м) валамі. Адкрыў у к. 19 ст. У.З.Завітневіч, абследавалі ў 1935 А.Дз.Каваленя, у 1952 Ю.У.Кухарэнка, у 1964—67 Л.Д. Побаль, у 1976 Г.В.Штыхаў, у 1985 і 1988 М.І.Лашанкоў, даследавала 5400 $м^2$ у 1954 і 1961 В.М. Мельнікоўская. Культ. пласт 0,6 м. Выяўлены рэшткі 20 наземных і паўзямляначных жытлаў слупавой канструкцыі, размешчаных скучана ў цэнтры жылой пляцоўкі. Жытлы квадратныя, прамавугольныя, круглыя, авальныя пл. 9—50 $м^2$ (большасць — 12—16 $м^2$), заглыблены ў мацярык на 0,25—0,6 м, разлічаны на адну сям'ю. Уваходы з усх. і паўд.-ўсх. бакоў. Характэрная асаблівасць жытлаў — наяўнасць выступу прамавугольнай, круглай ці авальнай формы ў адной са сцен альбо вуглоў. Двухсхільны дах мацаваўся на сохах — высокіх слупах з развілкай, усярэдзіне жылля падтрымліваўся цэнтр. слупам. Агнішчы размешчаны паміж цэнтр. слупам і сцяной у процілеглым ад увахода баку, у круглых ці авальных ямах




***Гарматы** 16—17 ст. (1—3) з Нясвіжскага замка.*

*Жалезныя матычка і сякера з гарадзішча **Гарошкаў**.*



глыб. 0,4—0,5 м, абкладзеных камянямі, альбо на падлозе. Двары агароджаны плятнём. Выяўлены рэшткі культавай пабудовы (за валам гарадзішча памерамі 8,5 × 1,5 м), заглыбленай у мацярык на 0,5 м. Гасп. пабудовы прамавугольнай, зрэдку квадратнай, формы памерамі 2 × 1,5 і 2 × 2,5 м, групаваліся паблізу жытлаў. Некаторыя выкарыстоўваліся жыхарамі ў вытворчых мэтах. Каля кожнага жытла — невял. склеп-яма глыб. каля 0,6 м, дыям. да 1,5 м, з прыступкамі і пакрыццём у выглядзе будана. У 4 ямах знойдзены скарбы: у адным — жал. прылады працы (сярпы, матыка, сякера), у трох — упрыгажэнні (бронзавыя бранзалеты, паставыя каралі). Знойдзены крамянёвыя прылады працы (сякеры, адшчэпы), дзесяткі нажоў, 14 сярпоў, камяні зерняцёрак, таўкачы-расціральнікі, наканечнікі стрэл, рыштунак каня (бронзавыя бляхі з петлямі, званочкі, жал. кольцы, ланцуг з аброці), касцяныя дзяржанні шыла і нажа з арнаментам, пацеркі (паставыя, халцэдонавыя, гліняныя, бронзавыя, бурштынавыя), бранзалеты (круглыя, вітыя, спіралепадобныя) з серабра, жалеза, бронзы, 10 шпілек, трохвугольныя падвескі, пярсцёнкі з заходзячымі канцамі, завушніцы зканічнымі і пукатымі шчыткамі, 4 абломкі латэнскіх фібул, 600 гліняных грузікаў і прасліц, 90 фр-таў фігурак жывёлін, ляпны кругладонны і гладкасценны посуд, абломкі ліцейных форм, льячак і тыгляў, больш за 10 тыс. касцей хатняй (каня, дробнай рагатай жывёлы, свінні, сабакі) і дзікай (тура, лася, высакароднага аленя, дзіка, мядзведзя, бабра, барсука) жывёлы. Датуецца 4—1 ст. да н.э.

Б е с к у р г а н н ы  м о г і л ь н і к - 1 мілаградскай культуры. Паміж валамі гарадзішча (нежылая пляцоўка) і часткова за знешнім валам. Даследавала каля 100 пахаванняў у 1954—55 і 1959—61 В.М.Мельнікоўская. Трупаспаленні знаходзіліся ў круглых (дыям. 0,4—1,6 м) ці прадаўгаватых ямах глыб. 0,5—1 м з нахіленымі сценкамі і чашападобным альбо плоскім (з ямкамі для рэштак трупаспалення) дном. Некаторыя ямы папарна сутыкаюцца краямі, утвараючы «васьмёрку», перакрыты адным развалам пасудзіны (магчыма, парныя пахаванні). Знойдзены крамянёвыя прылады працы, прасліцы, кавалачкі шлакаў, жал. наканечнік стралы, бронзавыя шпілька і скроневыя кольцы з выступамі, жал. спіралепадобная праколка, каралі, абломкі бранзалетаў, ліцейных форм, льячак, кавалачкі чырвонай і жоўтай вохры. Для пахаванняў мілаградскай культуры характэрна невял. колькасць касцей чалавека, старанна ачышчаных ад вогнішча, небагаты інвентар. На жылой пляцоўцы выяўлены 2 пахаванні па абраду трупапалажэння на спіне, адно — галавой на ПнУ, другое — на З. Датуецца 3—2 ст. да н.э.

Б е с к у р г а н н ы  м о г і л ь н і к - 2 *зарубінецкай культуры.* За 0,15 км на Пн ад гарадзішча, уздоўж правага берага Дняпра. Даследавала 170 м$^2$ у 1958 В.М.Мельнікоўская. Выяўлена 5 пахаванняў з трупаспаленнем у круглых і падоўжаных ямах. Знойдзены фр-ты ляпнога посуду, вугольчыкі, камяні, наканечнік кап'я, нож з гарбатай спінкай, бронзавая авальная бляха з крыжападобнымі ўціскаpreviewнямі пасярэдзіне і кропкавымі па краях, бронзавыя скроневыя кольцы і ланцужок з трубачак, 2 жал. фібулы. Датуецца 1 ст. да н.э.

*Бранзалеты з гарадзішча **Гарошкаў**.*



С е л і ш ч а - 1 мілаградскай культуры. У вёсцы з паўн. боку гарадзішча. Даследавала 400 м² у 1954—55 і 1960 В.М.Мельнікоўская. Селішча існавала кароткі час, культ. пласт слаба выражаны. Знойдзены рэшткі заглыбленай у мацярык пабудовы, шмат абломкаў посуду, значная частка якога аздоблена «жамчужным» арнаментам. Датуецца 6 ст. да н.э.

С е л і ш ч а - 2 зарубінецкай культуры. За 0,25 км на Пн ад гарадзішча, уздоўж правага берага Дняпра. Даследавала 135 м² у 1959 В.М.Мельнікоўская. На глыб. 0,25—0,3 м выяўлены рэшткі квадратнай у плане пабудовы памерамі 6 × 6 м. Знойдзена раннезарубінецкая кераміка.

*Літ.*: М е л ь н и к о в с к а я О.Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке. М., 1967; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1. Минск, 1970.

*М.І.Лашанкоў.*

**ГАРПУ́Н**, старажытная прылада ўдарнага дзеяння для здабычы рыбы і вадаплаваючых звяроў. Мезалітычныя касцяныя Г. з тэр. Беларусі маюць доўгі стройны пляскаты стрыжань з частымі зубцамі і невыразны насад (*Азярное*). У неаліце яны становяцца больш масіўнымі, колькасць зубцоў скарачаецца (*Камень*). У познім неаліце—пач. бронзавага веку складваецца т.зв. крывінскі тып Г. — невял. вырабы (10—14 см) з 2 дзюбападобнымі зубцамі, з авальным ці круглым стрыжнем, з выразнымканічным насадам (*Крывінскія стаянкі*). Маецца знаходка маленькага цацачнага Г. (*Асавец*). У раннім жал. веку Г. мае адзін доўгі зубец і валікападобны насад (*Зазоны*, *Млыны*). У пазнейшыя часы роля Г. значна змяншаецца, іх функцыі сталі выконваць жал. восці.

*Літ.*: Ч а р н я ў с к і Макс.М. Касцяныя і рагавыя вырабы на паселішчах Крывінскага тарфяніку. Мінск, 2007.

*Э.А.Ляшкевіч.*

**ГАРТ**, дадатковая апрацоўка непаліваных ганчарных вырабаў для атрымання стракатай плямістай паверхні (кераміка рабая, абварная). Атрымліваецца ў выніку гартавання, г.зн. абварвання распаленага дачырвана посуду ў рошчыне з мукі з дабаўкамі попелу, квасу, кастрыцы. Вырабы набываюць большую тэрмічную ўстойлівасць і прыгажосць. Спосаб Г. вядомы з 12—13 ст., пашыраны ў познім сярэднявякоўі на ўсёй тэр. Беларусі, за выключэннем усх. Палесся.

*Літ.*: С а х у т а Е.М. Народное искусство и художественные промыслы Белоруссии. Минск, 1982.

**ГАРШЧО́К**, гліняная пасудзіна для гатавання гарачай стравы і захавання сыпкіх прадуктаў. Посуд з гліны з'явіўся ў неаліце, таму Г. — вызначальная рэч гэтай эпохі. Акрамя прамога функцыянальнага прызначэння, у археал. даследаваннях асаблівае значэнне маюць форма, тэхналогія вырабу і арнаментацыя Г. для вызначэння ўстойлівасці традыцый у розных груп насельніцтва, часу існавання, этнічнай прыналежнасці помніка, генетычнай сувязі паміж асобнымі культурамі, археал. спецыфіка культуры і інш. Як масавы археал. матэрыял Г. патрабуюць адзінай сістэмы апрацоўкі, выкарыстання статыстычнага і параўнальнага аналізу. Пры вял. разнастайнасці канкрэтных форм Г. маюць агульныя састаўныя часткі: гарлавіну, тулава і дно. Гарлавіна (верхняя частка, вусце) уключае венчык (верхні абрэз або край), шыйку (верхняя частка пасудзіны асаблівай формы), аснову шыйкі (месца пераходу ад шыйкі да тулава). Тулава — асн. ёмістасць Г., складаецца з плечука (верхняя частка тулава ад асновы шыйкі), уласна тулава і прыдоннай часткі (ніжняя пераходная частка ад найб. дыяметра тулава да дна). Дно — аснова Г. Характарызуюць Г. па 4 асн. катэгорыях паказчыкаў: абсалютныя памеры (дыяметры па венчыку, аснове шыйкі, найб. дыяметр тулава, дна, вышыня шыйкі, плечука, прыдоннай часткі), форма, арнаментацыя (элементы, ступень, насычанасць малюнкаў, тэхніка іх выкапання), тэхналогія вырабу (састаў гліны, тэхніка апрацоўкі паверхні Г., абпальванне).



*Бронзавыя бранзалеты з гарадзішча* ***Гарошкаў***.

Найб. стараж. Г. — ляпныя, розных памераў, мелі канічную форму тулава, найчасцей з шырокім вусцем, тоўстымі сценкамі. Для трываласці посуду ў гліну дамешвалі драбнарэзаную траву або тоўчаныя ракавіны. Арнаментавалі Г. ямачнымі ўціскannямі, адбіткамі грабеньчыка, пракрэсленымі лініямі і інш. У познім неаліце ў гліну дамешвалі жарству ці буйназярністы пясок, сценкі пасудзін сталі больш тонкія. Разам з вастрадоннымі Г. пачалі выкарыстоўваць кругла- і пласкадонныя, багацейшай стала арнаментацыя (гарызантальныя палосы на тулаве, утвораныя ямкамі і пракрэсленымі лініямі наколаў, грабеньчыка). У бронзавым веку пераважалі Г. з шара- або яйцападобным тулавам ці пляскатым дном, звужанай шыйкай і адагнутым венчыкам. У гліну дамешвалі пясок, жарству, шамот. Арнаментавалі Г. адбіткамі перакручанай вяровачкі, палачкай, абматанай шнуром, лінейным або зубчастым штампам, наразнымі лініямі. У Г. сярэ-

днедняпроўскай, тшцінецкай культур найб. арнаментавана яго верхняя частка (заштрыхаваныя трохвугольнікі, елачныя ўзоры, гарызантальныя і дыяганальныя радкі, зігзагі). Для Г. жал. веку характэрна разнастайнасць форм і далейшае ўдасканаленне тэхналогіі іх выпрацоўкі. Г. мілаградскай і зарубінецкай культур (на Пд Беларусі) былі глянцаваныя, упрыгожаныя па краі венчыкаў зашчыпамі і насечкамі; штрыхаванай керамікі культуры (цэнтр. раёны Беларусі) — вастрарэберныя; на Пн пераважалі слоікападобныя Г., арнаментаваныя скразнымі адтулінамі, ямкамі, лініямі. Г. банцараўскай культуры былі неарнаментаваныя. Г. крывічоў (культура доўгіх курганоў Паўн. Беларусі) мелі плячук, які выступаў у верхняй частцы, і шыйку з адагнутым ці прамым венчыкам; некаторыя з іх арнаментаваны па краі насечкамі ці зашчыпамі.

З 10 ст. пашырыўся выраб Г. на ручным *ганчарным крузе*, што садзейнічала вырабу танкасценнага посуду з моцнапрафіляваным тулавам і выразным венчыкам розных контураў. У 10—11 ст. найб. распаўсюджаны Г. са знешнім выступам на верхняй частцы (карнізік або манжэта) і рыфленым тулавам, з лінейным арнаментам па ўсёй іх паверхні. У 12—13 ст. пераважалі Г. сярэдніх памераў з хвалістым ці лінейным арнаментам на плечуках, высокай шыйкай і краем, прыстасаваным для накрыўкі. На днішчах сустракаюцца *клеймы*. У 13—15 ст. у зах. рэгіёнах Беларусі Г. мелі S-падобны профіль або выразнае рабро на плечуку, былі арнаментаваны адна- ці шматраднымі хвалямі або простым рыфленнем; ва ўсх. рэгіёнах мелі авальнае тулава і амаль цыліндрычную шыйку, былі арнаментаваны пераважна наколкамі і насечкамі; на Палессі з раўчуком па краі венчыка і петлепадобнай ручкай, арнамент дапаўняўся 2—3 рыфленымі стужкамі. З к. 15 ст. пачалі вырабляць Г. паліваныя, задымленыя, пазней і чорнаглянцаваныя, пакрытыя *ангобам*. З 16 ст. з пераходам на нажны круг Г. набылі больш прысадзістую форму і звычайна не арнаментаваліся, за выключэннем Магілёўшчыны, дзе хвалісты ці серпападобны арнамент захоўваўся да к. 17 ст. На працягу 18 ст. форма гліняных Г. наблізілася да формы чыгунка.

*Літ.*: Ч а р н я ў с к і М. Бронзавы век на тэрыторыі Беларусі. Мінск, 1981; Археалогія Беларусі. Т. 1—4. Мінск, 1997—2001. *А.А.Егарэйчанка, Н.І.Здановіч.*

**ГАРЫ́ВАДА**, археалагічны помнік — курганны могільнік *дрыгавічоў* каля в. Гарывада Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл. За 2 км на У ад вёскі. У 1890 У.З.Завітневіч даследаваў 8 курганоў. Пахавальныя абрады — трупаспаленне на гарызонце (3 курганы) і трупапалажэнне на гарызонце галавой на З і Пн (5). Знойдзены бранзалетападобныя скроневыя кольцы, каралі з пацерак і бразготак, спражка, бранзалет, крэсіва, нажы, гаршкі.

*Літ.*: З а в и т н е в и ч В.З. Вторая археологическая экскурсия в Припятское Полесье. Киев, 1892; Ш т ы х о в Г.В. Археологическая карта Белоруссии. Вып. 2. Памятники железного века и эпохи феодализма. Минск, 1971.

**ГАРЭ́ЦКІ** Гаўрыла Іванавіч (10.4.1900, в. Малая Багацькаўка Мсціслаўскага р-на Магілёўскай вобл. — 20.11.1988), беларускі геолаг. Акадэмік АН БССР (1928). Д-р геолага-мінералагічных навук (1946). Засл. дзеяч навукі Беларусі (1972). Лаўрэат Дзярж. прэміі СССР (1971). Скончыў Цімі-разеўскую акадэмію (1924). У 1925—27 заг. кафедры эканамічнай геаграфіі Бел. сельскагасп. акадэміі (Горкі), у 1927—30 — дырэктар Ін-та сельскай і лясной гаспадаркі імя Леніна пры СНК БССР. У 1925—28 сапраўдны чл., з 1927 чл. прэзідыума Інбелкульта. З 1931 займаўся геалогіяй антрапагену і інжынернай геалогіяй. У 1930, 1937 і 1938 рэпрэсіраваны, пазбаўлены звання акадэміка. Рэабілітаваны 22.4.1958, адноўлены ў званні акадэміка ў 1965. З 1969 заг. аддзела геалогіі і палеапатамалогіі антрапагену Ін-та геахіміі і геафізікі АН БССР. Заснаваў айчынную палеапатамалогію (навука пра рэкі мінулых часоў). Даследаваў б. даліны Пра-Волгі, Пра-Камы, Пра-Дняпра, Пра-Нёмана і інш. Буйны спецыяліст у многіх галінах навукі (эканамічнай геаграфіі, дэмаграфіі, сельскай і лясной гаспадарцы і інш.). Быў Старшынёй Камісіі па вывучэнні антрапагену пры АН СССР і АН БССР, Старшынёй Сав. секцыі Міжнар. саюза па вывучэнні чацвярцічнага перыяду, гал. кансультантам па геалогіі Гідрапраекта СССР, заг. аддзела палеагеаграфіі антрапагеннага перыяду Ін-та геахіміі і геафізікі АН БССР. Адыграў значную ролю ў падрыхтоўцы школы палеагеаграфіі Беларусі. Надаваў вял. ўвагу археалогіі каменнага веку, адкрыў шэраг новых помнікаў у розных частках Беларусі. Удзельнічаў у вывучэнні стратыграфіі і храналогіі палеалітычных помнікаў Бердыж і Юравічы.

*Тв.*: Аллювиальная летопись великого Пра-Днепра. М., 1970.

*Літ.*: К р и г е р Н.И. О жизни и научной деятельности Г.И.Горецкого // Бюл. Комиссии по изучению четвертичного периода. М., 1970. № 37; Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі (да 100-годдзя з дня нараджэння). Мінск, 2000. *А.Г.Калечыц.*

**ГАТО́ВІНА**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Гатовіна Мінскага р-на. За 1 км на Пд ад вёскі, на пагорку. 68 круглых насыпаў (частка разбурана буд. работамі) выш. 0,3—2,5 м, дыям. 4—12 м, многія з раўкамі па перыметры. Адзін курган прадаўгаваты, памерамі 12 × 8 м, выцягнуты па лініі З—У. Могільнік выявіў у 1988 М.М.Чарняўскі, даследаваў 15 насыпаў у 1988—89 Г.М.Семянчук. Адзін з раскапаных курганоў не ўтрымліваў слядоў пахавання, 14 мелі каменныя абкладкі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на грунце (8) і ў падкурганных ямах (7). Знойдзены крывіцкія медныя скроневыя кольцы з завязанымі канцамі, шкляныя залачоныя і пасярэбраныя пацеркі, псеўдакручаны пярсцёнак, гаршкі, косці жывёл. Датуецца 12—13 ст. *Г.М.Семянчук.*

**ГАЎРЫТУ́ХІН** Ігар Алегавіч (н. 20.8.1960, г. Умань Чаркаскай вобл., Украіна), расійскі археолаг. Скончыў Горкаўскі (цяпер Ніжагародскі) ун-т (1982). З 1985 працаваў у Звенігародскім гісторыка-архіт. музеі, з 1987 у Ін-це археалогіі РАН (Масква). Асн. кірункі дзейнасці — вывучэнне культ. кантактаў Усх., Цэнтр. і Паўд. Еўропы ў 4—7 ст., культуры і міграцыйных сувязей Усх., Цэнтр. і Паўд. Еўропы ў 4—7 ст., даследаванне матэрыяльнай культуры (фібулы, раменныя гарнітуры, шкляны посуд 4 — сяр. 8 ст.). Удзельнік шэрага бел.-расійскіх навук. праектаў па археалогіі ранніх славян. Распрацаваў гіпотэзу аб сувязі паходжання пражскай культуры з тэр. Бел. Палесся. Прымаў удзел у археал. экспедыцыях 1987—94 у Падмаскоўі, Зах. Украіне.

*Тв.*: Пальчатые фибулы пражских памятников Поднестровья // Древности Северного Кавказа и Причерноморья. М., 1991; Гапоновский клад и его историко-культурный контекст. М., 1996 (у сааўт.); Хронология пражской культуры // Тр. VI Международного конгресса славянской археологии. М., 1997. Т. 3; Этногенез и этнокультурные контакты славян; Фибулы византийского круга в Восточной Европе (І.Дунайско-иллирийские) // Материалы по археологии, истории и этнографии Таврии. Симферополь, 2002. Вып. 9; Комплексы пражской культуры с датирующими вещами // Archeologia o początkach Słowian. Kraków, 2005; Фибулы верхнеокско-донского водораздела: двучленные прогнутые подвязные и со сплошным приемником (разам з А.М.Варанцовым) // Лесная и лесостепная зоны Восточной Европы в эпохи римских влияний и Великого переселения народов. Тула, 2008.

**ГА́ЎСМАН** Міхаіл Антонавіч (сапр. М і х а і л Л е а п о л ь д ф о н Д а м а л ь с к і Г а ў с м а н; 1817, каля г.п. Брагін Гомельскай вобл. — 1889), беларускі гісторык, краязнавец, археолаг. Скончыў Мазырскую гімназію (1834). З 1841 на службе ў Мінскім дваранскім сходзе (у 1850—63 сакратар канцылярыі). У 1850-х г. удзельнічаў у раскопках К.Тышкевіча ў Астрашыцкім Гарадку. У 1863 за ўдзел у паўстанні быў арыштаваны, у 1864 высланы ў Валагодскую губ. З 1867 жыў у Варшаве, з 1876—77 — у Мінску. Правёў археал. экспедыцыі ў Навагрудку, Заслаўі, Уздзе, Мар'інай Горцы, Слуцку і інш. У адным з уласных дамоў у Мінску стварыў археал. музей. У 1880 быў арганізатарам і сакратаром археал. выстаўкі ў Мінску. У газ. «Минские губернские ведомости» друкаваў артыкулы па гісторыі Мінска, Слуцка, Навагрудка, Заслаўя і інш. гарадоў. Аўтар рукапісу «Историческое описание города Минска и губернии», які захоўваецца ў Аддзеле рукапісаў Ін-та рус. літаратуры (Пушкінскі дом) у фондзе час. «Русская старина».

*Тв.*: Исторический очерк местечка Турова, прежней столицы удельного Туровского княжества. Минск, 1877.

*Літ.*: Д е н и с о в В.Н. К истории одной неопубликованной книги // Книга в Белоруссии. Минск, 1968; К а х а н о ў с к і Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мінск, 1984; Г у ж а л о ў с к і А.А. Нараджэнне беларускага музея. Мінск, 2001. *Л.У.Дучыц.*



*І.А.Гаўрытухін.*

**ГЕ́ЗГАЛЫ**, археалагічны помнік 4—3-га тыс. да н.э. — стаянка нёманскай культуры каля пас. Гезгалы Дзятлаўскага р-на Гродзенскай вобл. За 1,7 км на ПнЗ ад вёскі, на выступе левабярэжнай тэрасы р. Моўчадзь, выш. 5 м над паверхняй вады. Выявіў у 1976 М.М.Чарняўскі. Памеры 30 × 70 м. Культ. пласт да 0,3 м. Знойдзены крамянёвыя вырабы і фр-ты керамікі дубчайскага этапу, арнаментаваныя адбіткамі грэбеня, насечкамі і наколамі. Непадалёку ад стаянкі на тым жа рачным беразе ёсць мелавое агаленне з крамянёвымі канкрэцыямі. Мяркуючы па матэрыялах са стаянак ніжняга цячэння Моўчадзі і прылеглых берагоў Нёмана, крэмень з гэтага радовішча шырока выкарыстоўваўся тутэйшым першабытным чалавекам. *М.М.Чарняўскі.*

**ГЕРА́ЛЬДЫКА** (позналац. heraldica ад heraldus вяшчальнік), г е р б а з н а ў с т в а, навука аб гербах, правілах іх складання, апісанні і карыстанні, рэгламентуе элементы герба, надае кожнаму з іх пэўны сэнс і змест; дапаможная гіст. дысцыпліна, якая на падставе вывучэння гербаў дае магчымасць вызначыць час складання, аўтарства або прыналежнасць адзначаных гербамі дакументаў і рэчаў. Г. цесна звязана з археалогіяй, нумізматыкай, сфрагістыкай і генеалогіяй. Як навука Г. ўзнікла ў 1-й пал. 14 ст. Тэорыя Г. распрацавана і сістэматызавана ў 16—18 ст. Навук. вывучэнне гербаў у Рэчы Паспалітай пачалося ў 16 ст. Б.Папроцкім, Д.Колі, Е.Ябланоўскім, К.Нясецкім, А.Банецкім і інш. былі апісаны гербы вядо-



*Гаршкі 12—13 ст. з курганнага могільніка Гатовіна.*

мых родаў ВКЛ (у т.л. з бел. зямель). Пасля далучэння бел. зямель да Расійскай імперыі адбываліся змены ў гар. і зямельнай Г., якія былі зафіксаваны А.Б.Лакіерам і П.П.Вінклерам. Напр., А.Б.Лакіер у кн. «Руская геральдыка» апісаў гербы расійскага дваранства, чые продкі выехалі ў Расію з Польшчы і ВКЛ. Дз.І.Даўгяла ў 1900 апублікаваў «Аршанскі гярбоўнік», у якім змяшчалася каля 1500 шляхецкіх гербаў з Аршаншчыны. Сістэматызацыяй існуючых, стварэннем і зацвярджэннем новых гербаў для населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь займаецца Геральдычны Савет пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

У археал. матэрыялах, што выяўлены на паселішчах і могільніках на тэр. Беларусі, геральдычныя знакі сустракаюцца на ганчарных клеймах, пячатках, пярсцёнках, кафлях, шкляным посудзе, зброі. На керамічным посудзе з Заслаўя, археал. помнікаў *Гарадзішча* на р. Мена, *Дружба*, *Горы*, паселішчаў і курганоў наваколляў Мінска і Лукомля ёсць выявы ў выглядзе двух- і трохзубца (асабістыя знакі, або гербы князёў Святаслава Ігаравіча і Уладзіміра Святаславіча). Уладальніцкія знакі, дагэтуль не атрыбутаваныя, прысутнічаюць на посудзе з Ваўкавыска і Заслаўя. У Ноўгарадзе знойдзена пячатка са знакам полацкага кн. Ізяслава Уладзіміравіча. Выявы княжацкіх знакаў 11—12 ст. вядомы на дзяржаннях нажоў, упрыгажэннях, буд. матэрыялах. У 16—17 ст. шырокае распаўсюджанне атрымаў звычай змяшчаць відарысы гербаў на пячной кафлі. Адлюстроўваліся гербы гарадоў (Друя, Слуцк), магнатаў (Мірскі і Глускі замкі, Заслаўе, Стары Шклоў), шляхты (Мінск, Заслаўе, Іказнь, Друя, Віцебск, Магілёў, Мсціслаў, Орша). Над шчытамі з гербамі змяшчаліся шлемы з каронамі, княжацкія шапкі, галаўныя ўборы святароў (кардыналаў і біскупаў). Шчыт быў абкружаны намётам, які сімвалізаваў рыцарскі плашч, але часта яму надавалі выгляд лісця раслін. За шчытом або побач з ім маглі быць змешчаны выявы шчытатрымальнікаў — пажоў, рыцараў, геральдычных звяроў, збраяносцаў. Нярэдка па краях кафлі, пад шчытом герба ці вакол яго ставіліся лац. або слав. літары — абрэвіятуры імён, прозвішчаў, тытулаў і дзярж. пасады ўладальнікаў герба. Выява лаўровага лісця азначала заслугі ў барацьбе з ворагамі, епіскапскія пасахі, зброя, сцягі былі атрыбутамі пасад. Сярод адлюстраваных на кафлях гербы «Пагоня», «Ляліва», «Багорыя», «Амадэй», «Лебедзь», «Леў», «Ліс», «Гарнастай», «Ястрабец» і інш. На некаторых кафлях прадстаўлены састаўныя гербы, дзе на шчыце змешчана ад 2 да 5 гербаў. Геральдычныя выявы гэтага часу ёсць на пячатках, знойдзеных у Полацку, Віцебску, Мінску і Заслаўі.




*Да арт.* ***Геральдыка****. Фрагмент рамачнай паліванай кафлі з гербам П.Сапегі 2-й чв. 17 ст. з г. Дзятлава.*

*Літ.*: Заяц Ю. Таямніцы геральдыкі // Мастацтва Беларусі. 1985. № 8; Яго ж. Заслаўская кафля. Мінск,1990; Цітоў А.К. Гарадская геральдыка Беларусі. Мінск, 1986. *Ю.А.Заяц, Г.В.Штыхаў.*

**ГЕРАНЁНСКІ ЗА́МАК**. Існаваў у к. 15 — 18 ст. каля в. Геранёны Іўеўскага р-на Гродзенскай вобл. Даследаваў у 1972 М.А.Ткачоў. Пабудаваны на мяжы 15—16 ст. Замак размяшчаўся на штучнай выспе, насыпанай з зямлі, што была выкінута з рова, які абкружаў замчышча. Перад ровам быў земляны вал выш. 9—10 м, шыр. каля 15 м, даўж. па перыметры больш за 0,7 км. Вал у плане нагадваў выцягнуты прамавугольнік з закругленымі вугламі. Абарона Г.з. не была разлічана на прыродныя перашкоды і не мела штучнага абваднення. Толькі знешні абарончы роў на асобных участках мог напаўняцца вадой у час веснавога раставання снегу альбо ўвосень, калі ішлі дажджы. Характар першапачатковых навальных канструкцый Г.з. не высветлены, аднак можна меркаваць, што яны ўяўлялі сабой звычайныя драўляныя сцены. Сам жа замак меў выгляд квадрата (27 × 27 м), на кожным рагу якога стаялі мураваныя вежы. Археал. даследаванне ўцалелых рэшткаў сцен і вежаў сведчыць, што яны былі складзены ў традыцыйнай для Беларусі тэхніцы паласатай муроўкі з шырокім выкарыстаннем каменю і цэглы, якая ўжывалася ў асн. для абліцоўкі вежаў. Вапнавая рошчына мае нязначны дамешак тоўчанай цэглы і вызначаецца трываласцю. Сцены замка таўшч. 1,4 м на асобных участках дасягаюць цяпер у выш. каля 4 м. Завяршэнне сцен было цаглянае. Падмуркі выш. 1 м зроблены з вял. камянёў (70 × 50 см), пакладзеных на вапне. Прамежкі паміж імі замураваны рошчынай з кавалкамі цэглы. Вежы Г.з. мелі цыліндрычную форму дыям. 8 м. Сцены таўшч. 2 м складзены з каменю (муроўка лускавая) і звонку абліцаваны цэглай (муроўка гатычная). Таўшч. вапнавай рошчыны 2—3,5 см. Цэгла буйнапамерная, баразнаватая, памерамі 29,5 × 13—14 × 6—8,5 см. Глыб. залягання падмурка вежаў і сцен каля 1 м. Падмуркі перавязаны, а лініі каменнай і цаглянай муроўкі супадаюць. Аднолькавыя тэхніка муроўкі і памеры цэглы — сведчанне аднаначасовасці ўзвядзення сцен і вежаў. Рэшткі паўн.-зах. вежы сведчаць,

што ў ёй было скляпеністае перакрыцце, якім раздзяляліся 2 ніжнія паверхі. Захаваўся аконны праём ніжняга паверха выш. 1 м і шыр. 0,6 м з гатычнай аркай. Да пaўд. сцяны замка быў прыбудаваны палац, узведзены ў к. 16 ст. Вядома, што ў 1565 панскі палац у Г.з. быў ящчэ драўляны. Паводле інвентару замка за 1765, палац — 2-павярховы будынак на 12 акон, у якім на 1-м паверсе размяшчаліся розныя службы, на 2-м — парадныя пакоі. Дах вянчалі па вуглах бляшаныя зоркі, па цэнтры — флюгер у выглядзе бляшанага бусла. Аднак сцены замка ўжо тады былі значна пашкоджаны. Пры раскопках знойдзена плоская і карытападобная чарапіца, якой былі пакрыты дахі вежаў, палаца і дахі над баявым ходам сцен. Г.з. узводзіўся ў тыя часы, калі роля артылерыі ў ходзе баявых дзеянняў значна ўзрасла і стала вельмі эфектыўнай. У сувязі з гэтым асн. цяжар абароны сталі пераносіць на знешнія ўмацаванні — равы і валы. Валы ўзводзіліся высокія, каб надзейна закрываць гал. частку замкавага будынка. Цэнтр абароны Г.з. акцэнтаваны на знешнім вале, які і цяпер дасягае выш. 10 м. З унутранага боку вала зроблена мураваная сцяна таўшч. 1,25 м і выш. 4,5 м, якая выконвала ролю падпорнай сценкі і надзейна прадухіляла апаўзанне вала ўнутр замкавага двара. Акрамя таго, пад яе заслонай у час аблогі маглі перамяшчацца воіны гарнізона, пра што сведчыць брукаваная дарожка ля самага нізу сцяны. Пасля адной з падсыпак вала будаўнікі падмацавалі сцяну невял. контрфорсамі — «бычкамі», узведзенымі амаль праз кожныя 3—3,5 м. Падпорная сцяна і бычкі выкананы ў традыцыйнай тэхніцы паласатай муроўкі з выкарыстаннем вялізных (каля 1 м) абчасаных камянёў і баразнаватай цэглы (як на замку), пакладзеных на вапне. Адрэзкі падпорнай сценкі зыходзіліся ў вуглах вала і пераходзілі ў 7-кантовыя вежы-рандэлі, якія былі важнымі агнявымі пунктамі. Таўшч. сценак рандэляў дасягае 1,75 м. Па ацалелых фр-тах рандэляў можна меркаваць, што яны былі 2-павярховыя, з бэлечным перакрыццем. Іх ніжні паверх выш. каля 4,5 м поўнасцю знаходзіўся ў тоўшчы вала. Другі паверх пачынаўся ад дзённай паверхні вала і нагадваў 7-кантовы мураваны бастыён з перыметрам сцен каля 25 м. Гэта дазваляла размясціць тут некалькі гармат альбо некалькі дзесяткаў салдат. Траплялі на 2-і паверх па прыступках мураванай лесвіцы, якая пачыналася каля нізу падпорнай сцяны, на сутыку яе з рандэлем. На асобных участках асабліва з У, дзе быў уезд у замак, шыр. вяршыні вала цяпер дасягае 6—7 м. Уезд у Г.з. знаходзіўся з усх. боку, дзе абарончы роў у наш час дасягае глыб. 4 м, шыр. 15 м. Уязная замкавая брама размяшчалася ў ніжнім паверсе паўд.-зах. рандэля, сцены якога мелі таўшч. 2,2 м. Да брамы траплялі па перакінутым цераз роў лёгкім драўляным мосце. Уезд у замак знаходзіўся пад абстрэлам з верхняй часткі брамы. Справа ад яе існаваў бастыёнападобны выступ, які фланкіраваў агнём мост і бліжэйшыя подступы да брамы. Такі элемент абароны быў адным з першых вядомых на тэр. Беларусі (датуецца пач. 16 ст.). Геранёнскі мураваны касцёл, узведзены ў пач. 16 ст., быў абнесены мураванай сцяной і прымыкаў непасрэдна да абарончага рова перад брамай, што з'яўлялася дадатковай перашкодай на шляху ў замак. З ваеннага пункту гледжання, Г.з. у пач. 16 ст. быў магутным збудаваннем. Ён увабраў у сябе амаль усе вядомыя тады элементы фартыфікацыі, якія дазвалялі на працягу доўгага часу процістаяць тагачаснай тактыцы і тэхніцы аблогі.

*Літ.*: Т к а ч о ў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мінск, 1978.

*М.А.Ткачоў.*

**ГЕРМА́НЦЫ** (лац. Germani, ням. die Germanen), група народаў старажытных носьбітаў германскіх моў. Сярод іх звычайна вылучаюць 3 групы: зах. (сфарміравалася паміж рэкамі Рэйн і Одэр, у сваю чаргу, падзялялася на некалькі груп), паўн. (склалася на Пд Скандынаўскага паўвострава і Пн паўвострава Ютландыя) і ўсх. (аформілася ў ходзе міграцый). У старажытнасці назву Г. насіла невял. (магчыма, нават негерманскае) племя на левабярэжжы Рэйна. З сяр. 1 ст. назва Г. распаўсюдзілася на народы (не толькі германскія), якія жылі на У ад Рэйна і на Пн ад Ніжняга Дуная. Усх. межы рассялення Г. антычныя аўтары праводзілі ў раёне Віслы. Да Г. яны залічвалі і больш усх. групоўкі, напр. бастарнаў (на падставе падабенства аблічча і некаторых вонкавых асаблівасцей культуры), з мэтай супрацьпаставіць іх сарматам і інш. народам.

Пераканаўчых матэрыяльных доказаў культ. адзінства Г. у перыяд бронзавага веку не знойдзена, хаця шэраг лінгвістаў лічыць, што германскія мовы ў гэты час ужо адасобіліся. Фарміраванне Г. звязана з археал. *ясторфскай культурай* і рассяленнем у раннім жал. веку часткі носьбітаў гэтай і блізкіх ёй культур. Моцны ўплыў на Г. аказалі культуры Гальштата і Латэна (гл. *Латэнская культура*).



*Геранёнскі замак. Рэканструкцыя М.А.Ткачова. Мастак Я.Кулік.*

Найб. стараж. міграцыяй Г., адлюстраванай у пісьмовых крыніцах, былі перасяленні кімвраў і тэўтонаў. Іх групоўкі ў 2 ст. да н.э. пачалі рухацца з паўд. Ютландыі, паглынаючы на шляху інш. аб'яднанні, і дасягнулі Сярэдняга Дуная, Галіі, ПдУ Іспаніі і Пн Італіі. У 102—101 да н.э. авангард Г. сустрэўся з рымскімі легіёнамі, якімі камандаваў Гай Марый, і быў разгромлены. Пік наступнай хвалі міграцыі Г., у якой дамінавалі свевы, адбыўся ў 70—60-я г. да н.э. Перадавая групоўка гэтага аб'яднання на чале з Арыявістам захапіла ПнУ Галіі, але ў 58 яе атрады разграміў Гай Юлій Цэзар. Уварванне свеваў паслужыла падставай для рымскай акупацыі Галіі. Мяжа паміж рымскімі ўладаннямі і Г. прайшла па Рэйну, стабілізаваўшыся пасля ваенных экспедыцый Цэзара ў землі Г. у 55—53 да н.э.

У к. 1 ст. да н.э. — пач. 1 ст. н.э. Рым пашырыў сваю ўладу над Г. на землі ад Рэйна да р. Везер. Аднак паўстанне герускаў, якое ўзначаліў Арміній і якое падтрымалі інш. плямёны Г., скончылася ў 9 г. н.э. разгромам рымлян у Тэўтабургскім лесе. Толькі пасля паходаў Тыберыя (11) і Германіка (14—16) рымлянам удалося аднавіць свае пазіцыі, пасля чаго Рым перайшоў да палітыкі актыўнай абароны ў дачыненні да Г. Былі створаны правінцыі Верхняя Германія і Ніжняя Германія, пабудавана сістэма ўмацаванняў па берагах рэк Майн, Рэйн і Некар, насыпаны верхнегерманскі вал, злучаны з рэтыйскім валам, які праходзіў на Пн ад верхняга цячэння Дуная. З часткай лаяльных плямён Г. рымляне заключылі дамовы аб пастаўцы рэкрутаў, на астатнія плямёны ўздзейнічалі дыпламатычнымі і інш. сродкамі.

У 1 ст. н.э. можна вылучыць наступныя найб. значныя плямёны і племянныя аб'яднанні Г.: батавы (ніжняе цячэнне Рэйна), тэнктэры (левабярэжжа Ніжняга Рэйна; знакамітыя сваёй конніцай), гермундуры (на У ад верхнегерманскага і на Пн ад рэтыйскага валоў; адзіныя з Г., каму дазвалялася гандляваць на рымскай тэр.), хаты (верхняе цячэнне Везера; знакамітыя сваёй пяхотай), герускі (сярэдняе цячэнне Везера), хаўкі (ніжняе цячэнне Везера), фрызы (узбярэжжа Паўн. мора, на З ад р. Эмс). На Пд Ютландыі жылі кімвры, у басейне р. Эльба ўладарыла аб'яднанне свеваў (якое ўключала таксама лангабардаў, сямнонаў і інш.), у Багеміі жылі маркаманы, на У ад іх — квады і інш., у т.л. негерманскія плямёны. Басейн Віслы насялялі шматлікія плямёны лугіяў (тут склалася пшэворская культура), бліжэй да Балтыйскага мора жылі ругіі, готы і інш. Са скандынаўскіх плямён вядомы свеоны. Існавалі, верагодна, і групы плямён Г., складзеныя па культавай прыкмеце: інгевоны (каля Паўн. мора), герміноны (на Эльбе і Везеры), істэвоны (бліжэй да Рэйна) і інш.

У гэты перыяд грамадства Г. мела родаплемянную арганізацыю. Яны займаліся земляробствам і жывёлагадоўляй. Экстэнсіўны характар гаспадаркі з'яўляўся адной з прычын іх міграцый, падчас якіх адны плямёны мацнелі, іншыя паглыналіся, складваліся ці распадаліся іх аб'яднанні, мяняліся тэр. пражывання. Важным фактарам развіцця Г. з'яўляўся ўплыў Рымскай імперыі, у т.л. аднаўленне імператарам Неронам бурштынавага шляху.

Да сяр. 2 ст. працэсы на тэр. Г. спарадзілі новую хвалю міграцый. У Сярэднім Падунаўі гэта вылілася ў Маркаманскія войны, у якіх акрамя маркаманаў і квадаў прымалі ўдзел і інш. германскія і негерманскія плямёны. Іх спусташальныя паходы ахапілі ўсё Падунаўе, закрануўшы нават Паўн. Італію, але рымляне здолелі супрацьстаяць уварванню. Аднак працэс міграцый быў толькі прыпынены. У 2-й пал. 2 ст. вандалы пакінулі вярхоўі Віслы і скіраваліся на ПнУ Карпацкай катлавіны, пачаўся рух готаў і гепідаў з нізоўяў Віслы ў Прычарнамор'е (*вельбарская культура*). У 1-й пал. 3 ст. на У ад Рэйна аформіліся новыя аб'яднанні Г. — алеманы і франкі.

У сяр. 3 ст. націск варвараў на Рымскую імперыю, якая перажывала эканамічны і палітычны крызіс, зноў рэзка ўзмацніўся. Арэнай ваенных дзеянняў, што перыядычна аднаўляліся, сталі ўсе паўн.-ўсх. правінцыі імперыі. З боку Рэйна актывізаваліся алеманы, франкі, ютунгі і інш., якія прарываліся далёка ў глыб рымскіх правінцый (паходы 233—234, 259—261, 268, 270—271, 274—276). Асабліва спусташальнымі былі ўварванні, вядомыя як «скіфскія» ці «готскія войны». На пачатковым этапе гэтых войн значная роля належала негерманскім аб'яднанням карпаў і інш. плямён, аднак паступова пачалі пераважаць паходы ўсх. Г., асабліва готаў, якія ахапілі ўзбярэжжы Чорнага і Эгейскага мораў (на караблях, атрыманых у Баспорскім царстве), практычна ўвесь Балканскі паўвостраў, частку Малой Азіі (233—234, 250—251, 254—258, 263—264, 270—271, 274—276). Рымская імперыя выстаяла, але толькі коштам вял. напружання сіл і шматлікіх рэформ, якія прывялі да фарміравання сістэмы неабмежаванай манархіі (дамінату). Для павышэння абараназдольнасці межаў была эвакуіравана правінцыя Дакія, пакінутыя т.зв. Дзесяцінныя палі паміж вярхоўямі Рэйна і Дуная, з шэрагам германскіх плямён былі заключаны ваенныя саюзы. Нягледзячы на асобныя канфлікты германскіх плямён з Рымам і паміж сабой, свет Г. стабілізаваўся больш чым на стагоддзе.

За час войнаў і міграцый узмацнілася роля правадыроў, што абапіраліся на ўласныя дружыны, фарміраваліся дынастыі, складваліся даволі ўстойлівыя аб'яднанні, якія ўключалі і негерманскія групоўкі. Пашыраліся сувязі Г. з Рымскай імперыяй. У якасці федэратаў і наёмнікаў Г. адыгрывалі важную ролю ў яе ваенна-палітычных структурах. Рым, у сваю чаргу, аказваў заўважны ўплыў на гасп. жыццё і культуру Г. (*чарняхоўская культура* і інш.). Сярод Г. пачало пашырацца хрысціянства, з'явіліся першыя рэлігійныя абшчыны. Біскуп Ульфіла склаў першую германскую азбуку (гоцкае пісьмо) і пераклаў на мову готаў значную частку Бібліі. Хрысціянства сярод

Г. першапачаткова распаўсюдзілася ў выглядзе арыянства.

Якасныя перамены адбыліся ў свеце Г. у эпоху *Вялікага перасялення народаў*. У ходзе міграцый некаторыя групы Г. перасталі існаваць альбо ўзмацніліся за кошт уключэння іншых, у т.л. негерманскіх аб'яднанняў і ваенных атрадаў. Важнае значэнне для фарміравання новых супольнасцей і вызначэння характару ўзаемных стасункаў мелі прыналежнасць прававадыра да той ці інш. дынастыі, удзел у супольных ваенных паходах. Велізарны ўплыў аказвалі разнастайныя формы ўзаемадзеяння з Рымам, прыцягненне вопыту рымскай адміністрацыі на заваяваных землях ці служба ў імперскіх ваенна-палітычных структурах. У выніку пачалося фарміраванне дзяржаў Г. і стварэнне ўласных законаў.

Амаль усе ўсх. Г. ў к. 4 — 5 ст. ў некалькі хваляў перасяліліся на тэр. Рымскай імперыі, дзе былі створаны Вестгоцкае каралеўства спачатку ў Галіі, потым у Іспаніі, дзяржава вандалаў у Паўн. Афрыцы, Остгоцкае каралеўства ў Італіі. Гэтыя дзяржавы ўключалі акрамя Г. мясц. насельніцтва, якое колькасна іх пераўзыходзіла. У басейне Цісы сфарміравалася дзяржава гепідаў, на ўсёй прасторы рассялення ўсх. Г. да паўн.-ўсх. Прычарнамор'я ўзніклі больш дробныя «каралеўствы» і ваенна-палітычныя аб'яднанні. Аднак усе яны даволі хутка сышлі з гіст. сцэны. Ужо ў сяр. 6 ст. пад ударамі Візантыі, лангабардаў і авараў рухнулі дзяржавы вандалаў, остготаў, гепідаў, у 7—8 ст. ахвярай арабскіх заваёў стала дзяржава вестготаў. Усходніх Г., удзельнікаў гэтых і інш. палітычных аб'яднанняў, паглынула мясц. і прышлае насельніцтва.

У 5 ст. пачалося масавае рассяленне ў Зах. Рымскай імперыі плямён зах. Г., вынікам чаго стала ўтварэнне дзяржаў алеманаў, франкаў, лангабардаў, бургундаў, бавараў. На З ад Эльбы склаліся аб'яднанні цюрынгаў, саксаў (землі на У ад Эльбы былі пакінуты Г. і неўзабаве заняты славянамі). У далейшым практычна ўсе гэтыя тэр. ўвайшлі ў межы Франкскай дзяржавы. Пасля яе распаду на З і Пд, дзе пераважала раманамоўнае насельніцтва, сфарміраваліся раманскія народы — валоны, французы, італьянцы, якія ўвабралі ў сябе германскі культ. кампанент, на Пн і У — сучасныя носьбіты германскіх моў — фламандцы, галандцы, немцы, аўстрыйцы. Англы, частка саксаў і ютаў на працягу 5—6 ст. перасяліліся ў Брытанію. Супольнасць англасаксаў паслужыла асновай для фарміравання англічан, якія таксама належаць да германскай моўнай сям'і.

Паўночныя Г., хаця і ўдзельнічалі ў працэсах эпохі Вял. перасялення народаў, пераважна засталіся на ранейшых месцах. Але ў эпоху вікінгаў яны перажылі перыяд досыць значных міграцый. Нягледзячы на значную ролю, якую яны адыгралі ў развіцці шэрага дзяржаў (Англія, Францыя, стараж.-рус. дзяржава; гл. *Варагі*), на новых землях (акрамя пустыннай Ісландыі) яны з часам растварыліся сярод інш. народаў. Паўн. Г., што не пакінулі радзімы, склалі аснову сучасных скандынаўскіх народаў: шведаў, нарвежцаў, датчан, ісландцаў.

Г. пакінулі пасля сябе глыбокі след у еўрап. культуры. Іх стараж. выяўленчае мастацтва цесна звязана з традыцыямі інш. народаў Еўропы, часам амаль не адрозніваецца ад іх. Моцны ўплыў на яго аказалі кельты, пазней — рымляне. Найб. яркай яго праявай стаў звярыны стыль, для якога характэрны арнаменталізм і фармалізм. Ён узыходзіць да скіфа-сібірскага звярынага стылю і асабліва — да мастацтва Латэна. Да к. 5 ст. склаўся набор матываў, які захоўваўся нязменным да канца эпохі вікінгаў. Першы самастойны германскі звярыны стыль сфарміраваўся на аснове тэхнікі ліцця, якая імітавала разьбу, і рымскага мастацтва 4—5 ст. Пад уплывам гэтай тэхнікі звярыныя (радзей чалавечыя) выявы набывалі геаметр. абрысы. У 2-й пал. 6 ст. ў звярыным стылі з'явілася стужкавая пляцёнка, пад уплывам якой выявы падвяргаліся лінейнай стылізацыі, кампазіцыя набывала хвалепадобны рытм. Гэты стыль (т.зв. стыль II) атрымаў найб. развіццё ў Скандынавіі (культура Вендэль) і англа-саксонскай Брытаніі (6—8 ст.). Класічны звярыны стыль згас у кантынентальнай Еўропе ў эпоху Каралінгаў. У 8 ст. раўнамерная рытміка пляцення саступіла месца ірэгулярнай і нераўнамернай, з'явіўся характэрны матыў звера, завязанага ў вузел (т.зв. стыль III), адрадзіліся геаметрызм, элементы рэльефу і натуралізму (у т.л. зараджаецца матыў «звера, які хапае», ён замяніў пляценне). Усе гэтыя тэндэнцыі дасягнулі найвышэйшага развіцця ў мастацтве 1-й пал. 9 ст. (драўляная разьба з Осеберга, скарб з Броа). У 2-й пал. 10 ст. ў звярыны стыль пранікалі элементы расліннага арнаменту, матыў адзіночнай звярынай выявы — т.зв. вял. звера (упершыню сустракаецца ў 7 ст.). На аснове гэтых тэндэнцый склаліся стылі канца эпохі вікінгаў, пазней адбылося вяртанне да плоскаснага зааморфна-стужкавага пляцення. Традыцыі звярынага стылю працягваліся ў фасаднай разьбе нарвежскіх драўляных «слупавых» цэркваў, каменных купеляў для хрышчэння, паўплывалі на ўкладанне тэраталогіі еўрап. раманскага стылю ў цэлым.

У процілегласць звярынаму стылю стылістыка антрапаморфных выяў Г. прымітыўная. Сюжэты ўзыходзяць да скандынаўскіх петрогліфаў бронзавага і жал. вякоў, шэраг матываў запазычаны з антычнага мастацтва: выявы ўзброеных воінаў, караблёў, коннікаў (у т.л. на брактэатах — залатых медальёнах, якія імітуюць рымскія ўзнагароды), жанчын, якія трымаюць рог; сустракаюцца шматфігурныя кампазіцыі, міфалагічныя сцэны (архітэктура Осеберга, «выяўленчыя камяні» в-ава Готланд, рунічныя камяні, парталы «слупавых цэркваў» і інш.).

*Літ.*: Иордан. О происхождении и деяниях гетов. М., 1960; Грацианский Н.П. Из социально-экономической истории западноевропейского средневековья. М., 1960; Хойслер А. Германский героический эпос и сказание о Нибелунгах: пер. с нем. М.,

1960; М е л е т и н с к и й Е.М. «Эдда» и ранние формы эпоса. М., 1968; Н е у с ы х и н А.И. Проблемы европейского феодализма. М., 1974; Г у р е в и ч А.Я. «Эдда» и сага. М., 1979; К о р с у н с к и й А.Р., Г ю н т е р Р. Упадок и гибель Западной Римской империи и возникновение германских королевств. М., 1984; История крестьянства в Европе. Т. 1. М., 1985; Щ у к и н М.Б. На рубеже эр. Санкт-Петербург, 1994; Б у д а н о в а В.П. Варварский мир эпохи Великого переселения народов. М., 2000; К о л о с о в с к а я Ю.К. Рим и мир племён на Дунае. I—IV вв. М., 2000; С т е б л и н - К а м е н с к и й М.И. Труды по филологии. Санкт-Петербург, 2003; Т о м п с о н Э.А. Римляне и варвары. Санкт-Петербург, 2003; H a c h m a n n R. Die Germanen. München etc., 1971; Reallexikon der Germanischen Altertumskunde. Berlin; New York, 1973; Die Germanen. Bd. 1—2. Berlin, 1976—83; H a s e l o f f G. Die Germanische Tierornamentik der Völkerwanderung. Studien über Salin's Stil I. Berlin; New York, 1981; W o l f r a m H. Die Germanen. München, 1995; Germanen beiderseits des spätantiken Limes. Köln; Brno, 1999.

*І.А.Гаўрытухін, Я.У.Смірніцкая.*

**ГЕРМАНЫ́**, археалагічны помнік — гарадзішча каля б. в. Германы (Дняпроўка) Дубровенскага р-на Віцебскай вобл. Размешчана на мысе правага берага р. Дняпро. Пляцоўка авальная, памерамі 46×30 м, па краі ўмацавана валам выш. 1,5—2,3 м і ровам у падножжы. Пашкоджана акопамі і бліндажамі ў гады Вял. Айч. вайны. У 1929 С.А.Дубінскі даследаваў 14 $м^2$, у 1998 Ю.У.Каласоўскі — 76 $м^2$. Культ. пласт 0,6—1,8 м. У паўн. частцы пляцоўкі выяўлены абгарэлыя рэшткі драўлянай абарончай сцяны 12—13 ст. Знойдзены фр-ты ляпной керамікі *днепра-дзвінскай культуры* к. 1-га тыс. да н.э. і *калочынскай культуры* 3-й чв. 1-га тыс. н.э., кругавы посуд, жал. рала, ключ, замок, шкляныя бранзалеты 12—13 ст.

*Літ.:* Д у б і н с к і С.А. Гарадзішча каля в. Германы Аршанскай акругі // Працы. Т. 2. *Ю.У.Каласоўскі.*

**ГЕ́РЦЫКЕ** (Г е р ц ы к, Г е р с і к е, Г е р с і к, Г а р ц ы к е), старажытны горад Полацкага княства, на правым беразе р. Зах. Дзвіна. За 180 км ад Полацка, 2 км ад в. Ерсіка Прэйльскага р-на Латвіі. Даследаваў у 1939 Ф.Балодзіс (600 $м^2$). Г а р а д з і ш ч а авальнай формы, памеры 70 × 100 м, выш. 14 м. На Пн ад яго пасад (750 × 200 м). Зафіксаваны 10 буд. гарызонтаў, найб. ранні з іх адносіцца да 10 ст. У 11 ст. пабудаваны земляныя ўмацаванні. Горад быў цесна забудаваны, пабудовы арыентаваны перпендыкулярна Зах. Дзвіне. На гарадзішчы выяўлены рэшткі драўляных пабудоў з печамі, знойдзены рэчы, тыповыя для прыбалтыйскіх і слав. народаў і характэрныя для гарадоў Полацкай зямлі. П а с а д заселены ў 11—12 ст., нанова адроджаны ў 14 ст. Непадалёку ад гарадзішча і пасада знаходзіцца могільнік 10—12 ст. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Мужчынскія касцякі арыентаваны галавой на У. Жаночыя ўпрыгажэнні ў большасці латгальскія; знойдзены крыжыкі і 2 крутарогія лунніцы, характэрныя для славян. П а с е л і ш ч а Г. існавала з 10 ст. У 2-й пал. 11 — 1-й пал. 13 ст. горад Г. належаў Полацкаму княству як фарпост і цэнтр феад. уладання ў ніжнім Падзвінні. Насельніцтва складалася пераважна з латгалаў і славян. Упершыню ўпамінаецца ў «Хроніцы Лівоніі» Генрыха Латвійскага пад 1203 як багатая княжацкая рэзідэнцыя з некалькімі праваслаў-



*Упрыгажэнні з раскопак паселішча **Герцыке**.*

ными цэрквамі. У 1230 перайшоў пад уладу рыжскага епіскапа.

*Літ.*: Генрих Латвийский. Хроника Ливонии. 2 изд. М.; Ленинград, 1938; Штыхов Г.В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). Минск, 1978; Ермаловіч М.І. Старажытная Беларусь: полацкі і новагародскі перыяды. Мінск, 1990. *Г.М.Семянчук.*

**ГІДРАНІМІ́Я** (ад грэч. hydōr вада + onyma імя), сукупнасць уласных назваў мораў, рэк, азёр, ручаёў, сажалак, балот і інш. гідронімаў пэўнай тэрыторыі. Адзін з раздзелаў у *тапаніміі.* Гідронімы падзяляюцца на акіянонімы — назвы акіянаў і іх частак (Атлантычны акіян, Балтыйскае мора, Рыжскі заліў), патамонімы — назвы рэк (Нёман, Прыпяць), гелонімы — назвы балот (Выганаўскае балота), лімнонімы — назвы азёр, ставоў, віроў (Нарач, Судабле). Назвы невял. водных аб'ектаў абмежавання тэр., вядомыя толькі мясц. жыхарам, адносяцца да мікратапаніміі.

Г. з'яўляецца вынікам нар. творчасці і служыць багатай крыніцай інфармацыі пра этнасы, пасля якіх засталіся гідронімы. У Г. захоўваюцца пласты розных часоў і розных моў, архаічныя і дыялектныя рысы. Вывучэнне Г. дае магчымасць выявіць узаемаадносіны моў і этнічных супольнасцей у стараж. часы, межы рассялення і шляхі перасялення народаў; дапамагае ўзнавіць этнічную гісторыю краю. Вывучэнне Г. пэўнай тэр., устанаўленне лінгвістычнага характару гідронімаў, іх храналагічная стратыфікацыя ў шэрагу выпадкаў дапамагаюць устанавіць этнічную прыналежнасць археал. культур, прасачыць стараж. міграцыі і на гэтай аснове рэканструяваць этнакульт. гісторыю, паслядоўнасць змены насельніцтва і стараж. межы кожнага этнасу.

Эпізадычны збор і даследаванні гідронімаў Беларусі пачаліся ў 1-й пал. 19 ст. У сяр. 19 ст. А.Г.К.Кіркор заклікаў даследаваць назвы старажытнейшых месцаў, рэк, азёр і інш. Гідронімы Беларусі вывучалі А.А.Качубінскі, А.А.Пагодзін, І.П.Філевіч, Я.Ф.Карскі, М.Фасмер. Пытанні аб шырокім рассяленні балтаў у старажытнасці на сучаснай тэр. Беларусі да басейнаў Бярэзіны на У і Прыпяці на Пд першым паставіў А.А.Качубінскі. У пач. 20 ст. значную ўвагу гідронімам на тэр. Беларусі аддаў у сваіх працах літ. мовазнавец К.Буга, які меркаваў, што паўд. мяжа рассялення стараж. балтаў (па яго тэрміналогіі айстаў) праходзіла па Прыпяці, на Пд ад якой жылі славяне. Нямецкі мовазнавец Х.Краэ прапанаваў гіпотэзу, паводле якой існавалі стараж.-індаеўрап. групы насельніцтва, што мелі слабы, але пастаянны кантакт паміж сабой. З часам у іх развіліся мовы: прагерманская, праілірыйская, прабалцкая і праславянская. Гэта насельніцтва існавала ў 2-м тыс. да н.э. і займала тэр. ад Брытанскіх астравоў да ПдУ Прыбалтыкі. Асобныя стараж.-індаеўрап. гідронімы Х.Краэ знаходзіў і на тэр. Беларусі; асаблівая іх канцэнтрацыя назіраецца ў ніжнім цячэнні р. Нёман. У.М.Тапароў і А.М.Трубачоў падлічылі, што ў Верхнім Падняпроўі захавалася каля 700—800 балцкіх гідронімаў, якія раўнамерна распаўсюджаны па гэтай тэрыторыі. На гэтай і інш. падставах аўтары робяць выснову, што балцкае насельніцтва не адступіла пад націскам славян на ПнЗ, а паступова асімілявалася. Пазней яны перагледзелі паўд. мяжу балцкай Г., выявілі балцкія гідронімы і на Пд ад Прыпяці. На Пн балцкая Г. Верхняга Падняпроўя пераходзіць у басейн Зах. Дзвіны. У Падняпроўі найб. ўдзельная вага балцкай Г. ў басейне Бярэзіны. Як лічаць даследчыкі, рассяленне ўсх. славян на Пн ішло па рэках Дняпроўскага басейна, найперш па Дняпры. Гіпотэзы мовазнаўцаў пра познюю славянізацыю Верхняга Падняпроўя і Падзвіння выкарыстаны ў працах маскоўскага археолага В.В.Сядова, які абгрунтаваў палажэнне пра вызначальную ролю балцкага субстрату ў паходжанні бел. народнасці. Балцкі гідранімічны пласт мог скласціся ў раннім жал. веку (1-е тыс. да н.э. — пач. н.э.). Шэраг даследчыкаў вылучае ў Падзвінні, уздоўж мяжы з Латвіяй і Літвой, асобныя фіна-угорскія гідронімы, пакінутыя, як мяркуецца, неалітычнымі плямёнамі тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі культуры. Працы па Г. Беларусі, у першую чаргу Падзвіння, належаць А.М.Катонавай, якая высунула гіпотэзу, што тапонім «Палессе» мае неслав. паходжанне, як лічылася да гэтага, а паходзіць ад балцкага кораня -pal- «балота». У Падзвінні А.М.Катонава вылучыла 2 розначасовыя гідранімічныя пласты: слав. (найб. позні) і балцкі, а таксама асобныя фіна-угорскія назвы. Разам з інш. відамі тапонімаў гідронімы разглядаліся ў працах бел. географа В.А.Жучкевіча. Даследаванні балцкай і слав. Г. на ўсх.-слав. тэр. праводзілі Р.А.Агеева, Р.М.Казлова і інш. мовазнаўцы. Этымалогіяй гідронімаў тэр. Літвы, многія з якіх аднатыпныя з гідронімамі Беларусі, займаецца А.Ванагас.

*Літ.*: Топоров В.Н., Трубачев О.Н. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. М., 1962; Седов В.В. Происхождение и ранняя история славян. М., 1979; Агеева Р.А. Проблемы межрегионального исследования топонимии балтийского происхождения на восточнославянской территории // Балто-славянские исследования. 1980. М., 1981; Катонова Е.М. Балто-славянские контакты и проблемы этимологии гидронимов // Проблемы этногенеза и этнической истории балтов: сб. ст. Вильнюс, 1985; Būga K. Rinktiniai Raštai. T. 1—3. Vilnius, 1958—61; Vanagas A. Lietuvių hidronimų etimologinis žodynas. Vilnius, 1981. *Э.М.Зайкоўскі.*

**«ГІСТАРЫ́ЧНА-АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ ЗБО́РНІК»**, навуковае выданне, у якім змешчаны артыкулы археолагаў і гісторыкаў Беларусі і Расіі, прысвечаныя актуальным праблемам археалогіі шырокага храналагічнага дыяпазону. Першы нумар зборніка выдадзены Ін-там бел. культуры ў 1927 у Мінску на бел. мове. У ім апублікаваны матэрыял пра дзейнасць гісторыка-археал. камісіі Інбелкульта ў 1925—26 Дз.І.Даўгялы, працы па выніках археал. даследаванняў А.М.Ляўданскага, К.М. Палікарповіча, І.А.Сербава, С.А.Дубінскага, па гісторыі і нумізматыцы П.Харламповіча, М.М. Шчакаціхіна, І.М.Хозерава; у канцы змешчана

бібліяграфія (77 работ). Выданне было закрыта. Адноўлена ІГ НАН Беларусі ў 1993. Да 2009 выйшлі 24 нумары. У зборніку разглядаюцца актуальныя праблемы археалогіі каменнага, бронзавага і жал. вякоў, сярэдневяковага перыяду Усх. Еўропы, друкуюцца матэрыялы археал. помнікаў, а з 2007 (№ 23) таксама артыкулы па новай і найноўшай гісторыі Беларусі. Перыядычна публікуюцца матэрыялы рэспубліканскай навук. канферэнцыі па выніках археал. даследаванняў. Сярод аўтараў адноўленага выдання археолагі і гісторыкі Беларусі, Расіі, Польшчы, Украіны і краін Балтыі.

**ГЛЕДНЯВІ́ЧЫ**, археалагічныя помнікі — стаянкі і селішча каля в. Гледнявічы Ваўкавыскага р-на Гродзенскай вобл.

С т а я н к а-1 ранняга мезаліту за 0,5 км на ПдУ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Рось. Выявіў у 1958 Л.С.Клейн, даследавалі М.М.Чарняўскі, у 1986 Н.В.Шаблюк. Культ. пласт 0,2 м. Знойдзены алоўкападобны нуклеус, канцавыя скрабкі з пласцінак, адшчэпы і сколы ад нуклеусаў, пласцінкі і іх рэшткі. Датуецца 8—7-м тыс. да н.э.

С т а я н к а-2 ранняга мезаліту за 0,25 км на ПнУ ад стаянкі-1. Памеры 170 × 20 м. Выявіў у 1958 Л.С.Клейн, даследавала ў 1986 Н.В.Шаблюк. Культ. пласт 0,35 м. Выяўлены адшчэпы, пласцінкі, укладышы на адшчэпах, канцавыя скрабкі з адшчэпаў, праколкі, скоблі, канічны нуклеус. Датуецца 8—7-м тыс. да н.э.

С т а я н к а-3 позняга мезаліту за 0,7 км на Пн ад стаянкі-2, па краі тэрасы правага берага р. Рось. Даўж. 150 м. Выявіла і даследавала ў 1986 Н.В.Шаблюк. Культ. пласт 0,65 м. Знойдзены нуклеусы, адшчэпы, пласцінкі і іх рэшткі, нажы, скрабкі, скоблі, праколкі. Датуецца 5—4-м тыс. да н.э.

С т а я н к а-4 позняга мезаліту за 0,3 км на Пн ад стаянкі-2, на схіле 1-й надпоймавай тэрасы правага берага Росі. Даўж. каля 200 м. Культ. пласт да 0,35 м. Знойдзены нуклеусы і іх сколы, адшчэпы, пласцінкі, праколкі, скрабкі, рэжучыя прылады, скобля, фр-ты керамікі бронзавага веку.

С т а я н к а-5 позняга мезаліту за 0,4 км на ПнУ ад стаянкі-4, на схіле 1-й надпоймавай тэрасы правага берага Росі. Выявіў у 1985 В.У.Шаблюк, даследавала ў 1986—88 Н.В.Шаблюк. Культ. пласт каля 0,4 м. Знойдзены нуклеусы, адшчэпы (некаторыя з рэтушшу), рэтушоры, разцы, скоблі, 2 праколкі, пласцінка-ўкладыш, канцавыя скрабкі, нажы, ланцэтападобныя пласцінкі, мікрапласцінкі з рэтушшу, трапецыі, фр-ты ляпных пасудзін з дамешкамі шамоту ў гліне, упрыгожаных падвертыкальнымі расчосамі (2—5 ст.). Датуецца 6—5-м тыс. да н.э.

С е л і ш ч а позняга сярэдневякоўя, на паўд. ускраіне вёскі. Выявіла ў 1958 Ф.Д.Гурэвіч, абследаваў у 1973 Я.Г.Звяруга. Знойдзены ганчарная кераміка (фр-ты пасудзін з дамешкамі жарствы ў гліне).

*Літ.*: Г у р е в и ч Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Ленинград, 1962. *Н.В.Шаблюк.*



*Крамянёвыя пласціны са стаянкі **Глівін**.*

**ГЛІ́ВІН**, археалагічныя помнікі — стаянка, селішча і курганныя могільнікі каля в. Глівін Барысаўскага р-на Мінскай вобл.

С т а я н к а эпохі мезаліту за 0,1 км на У ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна, ва ўр. Смалярня, на пясчаным узгорку выш. 3,5 м. Пл. каля 2000 $м^2$. Адкрыў у 1981 і даследаваў 653 $м^2$ у 1986 і 1988 У.П.Ксяндзоў. Знойдзена 3283 экз. артэфактаў з крэйдавага крэменю, дробназярністага кварцыту. Пераважаюць адшчэпы (2468 адз.), таксама знойдзены пласціны (310), нуклеусы (43), прылады працы (441). Выразнымі серыямі прадстаўлены: разцы — 34 адз. (на вуглу зламанай пласціны, бакавыя і сярэдзінныя тыпы), скрабкі — 64 адз. (у т.л. канцавыя і авальныя мікраскрабкі), скрабачы — 26 адз., скоблі — 48 адз. У асобныя групы аб'яднаны разнастайныя ўкладышавыя прылады (33), пласціны з рэтушаванымі канцамі (7), укладышы з рэтушшу па адным (25) і абодвух краях (14), па сячэнні пласцін (63), вастрыі (12), сярэдзінныя праколкі (7) і тронкавыя сіметрычныя наканечнікі стрэл (3). На глыб. 0,75 м ад паверхні, пад мезалітычным культ. пластом, выяўлены скарб з 21 крамянёвай пласціны (нарыхтоўкі для вырабу

прылад працы). Датуецца 6—5-м тыс. да н.э., адносіцца да *днепра-дзяснінскай культуры.*

Селішча за 0,2 км на У ад вёскі. Памеры 250 × 120 м. Даследаваў 32 м² у 1982 Г.В.Штыхаў. Культ. пласт 0,5 м. Знойдзены фр-ты ляпной слабапрафіляванай керамікі, у т.л. з расчосамі, і фр-т глянцаванай міскі 3—5 ст., ляпны (8—9 ст.) і кругавы посуд 10—13 ст.

Курганны могільнік-1 *крывічоў* у зах. частцы селішча. 55 насыпаў выш. 0,5—2,5 м, дыям. 4—10 м. У 1982 Г.В.Штыхаў даследаваў 18 курганоў. Пахавальны абрад — трупаспаленне,




***Крамянёвы інвентар стаянкі Глівін:** укладышавыя прылады (1—11), вастрыі (12—20, 22), мікраразец (21), пласціна са скошаным краем (23), наканечнікі стрэл (24, 25, 29, 31), праколкі (26—28, 30), свердлы-правёрткі (32—34).*

рэшткі крэмацыі змешчаны ў верхняй частцы насыпу ў ямках — ад аднаго да трох пахаванняў. У адным кургане разам з кальцыніраванымі касцямі знойдзены фр-ты 3 ляпных гаршкоў. У 9 курганах прыкмет пахаванняў не выяўлена. Датуецца 9 ст.

Курганны могільнік-2 за 1 км ад вёскі, каля дарогі ў в. Навасёлкі. 4 курганы выш. 1,5 м, дыям. 8—9 м. У 1982 Г.В.Штыхаў даследаваў 2 насыпы. Пахаванняў і рэчаў не выяўлена.

*Літ.*: Ксяндзоў В.П. Помнікі каменнага веку ў сярэднім цячэнні ракі Бярэзіна // Помнікі культуры: новыя адкрыцці. Мінск, 1985; Яго ж. Мезолит северной и центральной Беларуси // МАБ. 2006. № 13; Штыхаў Г.В. Крывічы. Мінск, 1992.

*І.М.Язэпенка, Г.В.Штыхаў.*

**ГЛІ́НІЦА**, археалагічны помнік — курганны могільнік дрыгавічоў каля в. Глініца Мазырскага р-на Гомельскай вобл. За 1 км на ПнЗ ад вёскі. Было 50 курганоў. 16 насыпаў у 1889 даследаваў У.З.Завітневіч. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З. Захаваліся рэшткі дамавін. Знойдзены бронзавыя скроневыя кольцы, зярнёныя металічныя пацеркі, крэсіва, гаршчок. Датуецца 11 ст.

*Літ.*: Завитневич В.З. Вторая археологическая экскурсия в Припятское Полесье. Киев, 1892.

**ГЛО́ГЕР** (Gloger) Зыгмунт (3.11.1845, в. Каменка-Падляская Падляскага ваяводства, Польшча — 15.8.1910), польскі археолаг, этнограф, географ, гісторык. Вучыўся ў Кракаўскім і Варшаўскім ун-тах (скончыў у 1867). Працаваў у Варшаўскім навук. т-ве. З 1870 у маёнтку Яжэва пад Тыкоцінам. Быў першым кіраўніком Польскага краязнаўчага т-ва (1906). Друкаваўся ў польскіх перыядычных выданнях. Даследаваў помнікі археалогіі каменнага і бронзавага вякоў Беларусі — на Гродзеншчыне і Брэстчыне, а таксама ў Літве і Польшчы. Разам з жонкай А.А.Ельскай-Глогер сабраў вял. музейную калекцыю археал. і этнагр. матэрыялаў. У сваёй бібліятэцы захоўваў матэрыялы са збораў М.Федароўскага, А.Кіркора, Я. і К. Тышкевічаў, А.Ельскага і інш. У створанай ім «Старапольскай энцыклапеды» (т. 1—4, 1900—03, 5-е выд. 1985) змясціў матэрыялы пра бел. драўляную архітэктуру, «Смаргонскую мядзведжую акадэмію», бел. стравы, хатнія прылады працы, вайсковую атрыбутыку, стараж. ўпрыгажэнні.

*Тв.*: Notatki archeologiczne Michała Federowskiego z okolic Słonima // Pamiętnik fizyograficzny. Kurhany pod Wiszowem. Warszawa, 1882. T. 2; Dolinami rzek, opisy podróży wzdłuż Niemna i Wisły, Bugu i Biebrzy. Warszawa, 1903; Encyklopedia staropolska ilustrowana. Warszawa, 1985; Geografia historyczna ziem dawnej Polski. Kraków, 1990.

*Літ.*: Саламевіч Я. Міхал Федароўскі. Мінск, 1972; Federowski M. Zygmunt Gloger. Warszawa, 1912; Syska H. Zygmunt Gloger. Warszawa, 1963; Żurkowa R. Listy Z.Glogera do J.J.Kraszewskiego // Rocznijk białostocki. Białystok, 1967. T. 7; Zygmunt Gloger — badacz przeszłości ziemi ojczystej. Warszawa, 1978; Komorowska T. Gloger: opowieść biograficzna. Warszawa, 1985.

*Л.У.Дучыц.*




*Глускі замак (1) і гарадскія ўмацаванні (2).*

**ГЛУ́СКІ ЗА́МАК**, археалагічны помнік 16—18 ст., на правым беразе р. Пціч на У ад цэнтр. плошчы г.п. Глуск Магілёўскай вобл. Засн. каля 1522 князем Юрыем Гальшанскім. На працягу 16 ст. ім валодалі Гальшанскія-Дубровіцкія, Заслаўскія, Чартарыйскія, Палубінскія. У 1626 цалкам перайшоў у рукі Палубінскіх, з 1685 уласнасць Радзівілаў. Першыя паўтара стагоддзя замак быў абнесены гароднямі і меў драўляныя вежы і забудову. У 1655 спалены атрадам казакоў І.Залатарэнкі. У 1670—80 адноўлены як бастыённы замак з абарончым валам, 5 бастыёнамі і ровам, запоўненым вадой. У 2002—08 І.У.Ганецкая даследавала 668 м². На падставе стратыграфіі вызначана храналогія помніка: 1-я фаза — 16 ст.—1655 (ад заснавання замка да спалення яго казакамі ў сакавіку 1655); 2-я — 1655—75/80 (ад пажару да ўзвядзення валоў); 3-я — апошняя чв. 17 — к. 18 ст. (ад рэканструкцыі замка да яго знішчэння). Атрыманы дадзеныя пра існаванне на месцы Глускага замка паселішча *калочынскай культуры* (6—8 ст.), пра што сведчаць знаходкі ляпной керамікі таго часу. Устаноўлена, што адкладанні 16 — 1-й пал. 17 ст. — самыя раннія на замчышчы, залягаюць непасрэдна на мацерыку, зверху перакрыты праслойкай попелу і вугалля ад пажару ці насыпам вала. З гэтым стратыграфічным пластом звязаны: першапачатковая брама з развалам печы, рэшткі

2 спаленых у 1655 жылых дамоў, пляцоўка, на якой рыхтавалі дрэва для будаўніцтва, гасп. яма. Знойдзена шмат драўніны (дуб, бяроза, сасна), рэшткі раслін (грушы, насенне гарбуза, маку і бузіны, салома, мох), жал. рэчы (наканечнік стралы, сталовыя, кухонныя і спец. нажы), вырабы з каляровых металаў (шчытковы пярсцёнак, нацельны крыжык, іголка, гузікі), фр-ты скуранога абутку, разнастайнага керамічнага посуду, гліняных цацак, пячной кафлі, аконнага шкла і шкляных сасудаў, у т.л. венецыянскіх. Сярод знаходак сустракаюцца бракаваныя керамічныя вырабы (паліваны посуд, кафля, цэгла). У астэалагічнай калекцыі прадстаўлены рэшткі хатніх і дзікіх жывёлін і птушак, рачной рыбы. Стратыграфія раскопаў у паўд. частцы замка паказвае, што землянымі работамі ў працэсе капання рова і ўзвядзення вала ў 2-й пал. 17 ст. пласт першай фазы быў часткова знішчаны, рэльеф помніка зменены. Другая фаза ўтварэння культ. адкладанняў 1655—75/80 была вынікам маштабных земляных работ па ўзвядзенні новых абарончых умацаванняў: мураваных вежаў, вала з 5 бастыёнамі, рова, запоўненага вадой. У гэтым пласце былі даследаваны могілкі сяр. 17 ст., дзе пахаваны ахвяры ўзяцця Глуска ў 1655, мураваная вежа-брама з узводам і падземным ходам, падмуркі Вадзяной вежы, драўляныя вальныя канструкцыі з усх. боку, абарончы вал. Часткова расчышчаны сутарэнні і ацалелая частка 1-га яруса брамы, квадратная ў плане, памерамі 14,2 × 14,2 м. Вывучаны план падземнай часткі брамы, зроблена рэканструкцыя 1-га паверху, выяўлены і прасочаны на 17 м рэшткі падземнага хода, асобныя элементы ўзвода. Знаходкі фр-таў гербавай кафлі з датамі 1670, 1673 і 1675 у аснаванні вала сведчаць пра тое, што земляныя ўмацаванні ўзводзіліся не раней 1675. Трэцяя фаза культ. пласта датуецца апошняй чв.




***План Глускага замка** з археалагічнымі раскопамі і шурфамі.*

17 — к. 18 ст. Адзіным археал. аб'ектам гэтага часу з'яўляюцца малавыразныя рэшткі жылой пабудовы, цагляная выбрукоўка каля палаца 18 ст. У 2-й пал. 17 ст. ва ўсх. частцы тэрыторыі была выкапана сажалка, донныя адкладанні якой магутнасцю 0,9 м прасочаны ў раскопах. Знаходкі гэтага храналагічнага перыяду складаюць абсалютную большасць археал. калекцыі, сабранай за ўсе гады даследаванняў на замку: керамічны і шкляны посуд, манеты, шматлікія кавалкі разнастайнай кафлі, цэгла-пальчатка, багаты астэалагічны матэрыял і інш.

З к. 18 ст. замак прыйшоў у заняпад, пра што сведчаць як археал. дадзеныя, так і пісьмовыя крыніцы.

*Літ.*: Ганецкая І. Стратыграфія і храналогія культурнага пласту Глускага замка // МАБ. 2005. Вып. 9; Я е ж. Асартымент керамічнага посуду з ніжніх стратыграфічных гарызонтаў культурнага пласту Глускага замка // Там жа; Я е ж. Керамічны посуд з культурнага пласту 1522—1680 гг. Глускага замка: тэхналагічны аспект // ГАЗ. Мінск, 2006. № 21. *І.У.Ганецкая.*

**ГЛЫБАЎ**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і курганныя могільнікі каля в. Глыбаў Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл.

Гарадзішча *мілаградскай культуры*. На паўд.-ўсх. ускраіне вёскі, ва ўр. Гарадок. Пляцоўка авальная, памерамі 160 × 110 м, абнесена




*Гербавая кафля 17 ст. з Глускага замка.*



*Фрагмент паліхромнай гербавай кафлі 17 ст. з Глускага замка.*

дугападобным валам выш. каля 2 м, шыр. 12—14 м. Адкрылі ў 1951 Ю.У.Кухарэнка і В.М.Мельнікоўская, даследавала ў 1954, 1955 і 1961 В.М. Мельнікоўская, абследавалі ў 1976 Г.В.Штыхаў, у 1988 М.І.Лашанкоў. Культ. пласт 0,4—0,6 м. Выяўлены рэшткі 2 жытлаў: слабыя контуры аднаго (захаваліся ямы розных форм і памераў), вузкія канаўкі ад сцен і ямкі ад слупоў, шматлікія ямкі ад калкоў вакол другога, квадратнага ў плане з цэнтр. апорным слупам. Побач выяўлены 2 гасп. ямы: скляпок і круглая глыб. 0,8 м з абпаленым каменнем у ёй. Знойдзены каменная сякерка (клінападобная без адтуліны, са шліфаваным лязом, выш. 6,4 см), крамянёвы адшчэп са слядамі апрацоўкі, бронзавая пласцінка, верхні камень ад зерняцёркі, прасліцы, 3 гліняныя грузікі, абломкі ляпной керамікі, косці свойскай жывёлы і інш. Датуецца сяр. 1-га тыс. — 2 ст. да н.э.

Курганны могільнік-1 *дрыгавічоў* за 0,2 км на Пн ад гарадзішча. 3 курганы (раней было 9) выш. 1,5—2 м, дыям. 10—12 м. Даследаваў 2 курганы ў 1958 С.С.Шырынскі, абследаваў у 1976 Г.В.Штыхаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах пад насыпам. Знойдзены бронзавыя ўпрыгажэнні, шкляныя пацеркі, бронзавы крыжык, упрыгожаны выемчастай эмаллю. Датуецца 12 ст.

Курганны могільнік-2 дрыгавічоў на тэр. сучасных могілак. 4 насыпы выш. 1,5—2 м, дыям. 10—12 м. Даследаваў у 1958 С.С.Шырынскі, абследаваў у 1976 Г.В.Штыхаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў яме пад насыпам. Знойдзены фр-ты ганчарнага посуду, бронзавыя ўпрыгажэнні. Датуецца 12 — пач. 13 ст.

*Літ.*: Ширинский С.С. Курганы XI—XII в. у дер. Глыбов // КСИА. 1965. Вып. 104; Мельниковская О.Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке. М., 1967.

*М.І.Лашанкоў, Г.В.Штыхаў.*

**ГЛЫБАЎКА**, археалагічныя помнікі — паселішча і курганны могільнік каля в. Глыбаўка Веткаўскага р-на Гомельскай вобл.

П а с е л і ш ч а позняга мезаліту, неаліту і бронзавага веку. Знаходзіцца за 0,3 км на ПдЗ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Беседзь, ва ўр. Бабулін Бугор. Адкрыла ў 1979 і даследавала ў 1980—82 А.Г.Калечыц (558 м²). Культ. пласт 0,3—0,6 м. Выяўлена 5 паўзямлянaчных жытлаў, 17 агнішчаў і 14 гасп. ям. Жытлы круглыя (дыям. каля 2,3 м) і авальныя (даўж. 2,5 м), паглыблены ў мацярык да 0,5 м. Агнішчы адкрытага тыпу размяшчаліся ў цэнтры ці каля сцяны жытла. Рэшткі даху і падлогі не выяўлены. Знойдзена больш за 33 тыс. вырабаў з крэменю: 1-, 2- і шматпляцовачныя нуклеусы, адшчэпы, пласціны, скрабкі, вял. скрэблы, скоблі, вуглавыя і бакавыя разцы, вастрыі, свярдзёлкі, 2 дрэнна апрацаваныя цяслы, наканечнікі стрэл з пласцін з рэтушаванымі тронкамі, мікраліты, рубячыя прылады (спрацаваныя нуклеусы, невял. валуны).

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к за 2 км на Пн ад вёскі, ва ўр. Курганне. 7 насыпаў выш. 0,5—1,2 м, дыям. 5—12 м. Выяўлены ў 1910, абследавала ў 1976 С.М.Васільева.

*Літ.*: К а л е ч и ц Е.Г. Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии. Минск, 1987.

*А.Г.Калечыц.*

**ГЛЫБО́ЦКАЕ**, археалагічныя помнікі — гарадзішча, курганны могільнік і селішча каля в. Глыбоцкае Гомельскага р-на. У 1883 ва ўр. Струпава ў полі быў знойдзены скарб, які налічваў прыблізна «два вядры манет». З іх у музеі паступіла 79 манет — саманідскія дырхемы, выпушчаныя паміж 892 і 912. Сярод манет былі каралі з буйных пацерак і «сярэбраных трубачак», бронзавая кольцападобная фібула з макападобнымі галоўкамі. Е.Р.Раманаў адзначаў, што скарб знойдзены на гарадзішчы каля ручая і балота Струпаў.

Г а р а д з і ш ч а-свяцілішча даўно знішчана. Маюцца 2 яго апісанні. Па звестках, сабраных сярод сялян у 1873, знаходзілася за паўвярсты ад сяла, мела квадратную ў плане форму з даўж. бакоў у 27 аршын, вакол быў насыпаны вал шыр. 2 аршыны, уваход знаходзіўся з паўн. боку. Паводле апісання Е.Р.Раманава, гарадзішча размяшчалася непадалёку ад сяла, на беразе ручая і балота, мела круглую форму дыям. 10 сажняў. Менавіта тут быў знойдзены вышэйзгаданы скарб. Апісанне бел. археолага і краязнаўца варта ўвагі, паколькі ён крытычна ставіўся да сведчанняў інфарматараў і правяраў іх звесткі ўласнымі пошукамі.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к размяшчаўся па абодва берагі ручая Струпаў, за 2 вярсты ад сяла. Да 1873 быў разбураны, але яшчэ налічваў да 30 курганоў. У 1910 заставалася 5 насыпаў. У 1850-я г. аканом мясц. фальварка з дапамогай сялян раскапаў 6 курганоў. У кожным з іх выяўлена па шкілету, знойдзены металічныя ўпрыгажэнні, міска, а таксама прадметы, пазначаныя ў запісах як эфес шаблі, медаль, куля. На месцы разбураных курганоў знаходзілі каралі, крыжыкі і інш. Е.Р.Раманаў адзначаў, што ў могільніку адкрываліся інгумацыі на гарызонце з усх. манетамі 9—10 ст.

С е л і ш ч а за 2 км на Пн ад вёскі, па аўтадарозе ў в. Чарацянка. Адкрыта ў 1981 А.А.Макушнікавым. Займае ўчастак схілу правабярэжнай тэрасы ручая Струпаў (прыток р. Лубянка, басейн р. Нямыльня) памерамі 450 × 220 м. Выяўлены апрацаваны крэмень, кераміка ляпная 1-га тыс., раннекругавая 9—10 ст., кругавая 10—13 ст. Знойдзены таксама свінцовая пломба, сіняя шкляная пранізка, асколкі оўруцкага сланцу. Тэр. селішча зарасла сасновым лесам, пашкоджана дарогай і катлаванамі, з якіх здабываўся пясок. Глыбоцкае селішча, якое размяшчалася на мяжы тэр. радзімічаў і чарнігава-кіеўскіх зямель, побач са старым шляхам з Кіева на Гомель, належыць да ліку самых буйных помнікаў стараж. Русі ў Гомельскім Падняпроўі.

*Літ.*: К о р з у х и н а Г.Ф. Русские клады IX—XIII вв. М.; Ленинград, 1954; М а р к о в А.К. Топография кладов восточных монет (сасанидских и куфических). Санкт-Петербург, 1910; Р о м а н о в Е.Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губ.). Вильна, 1910.

*А.А.Макушнікаў.*

**ГЛЫБО́ЧЫЦА**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Глыбочыца Лепельскага р-на Віцебскай вобл. Ва ўр. Князінкі, на беразе воз. Глыбочыца. Курганы выш. 1,5—2 м, дыям. не менш за 10 м. У 1851, 1859 М.Ф. Кусцінскі раскапаў некалькі курганоў, у 1951 А.Р.Мітрафанаў — 1, у 1976 — 3 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце на попельна-вугальнай праслойцы. Знойдзены жал. сякеры, коп'і, драцяны бранзалет з нанізанымі на яго паставымі пацеркамі; у жаночым пахаванні былі шкляныя пацеркі з пазалотай (12 ст.), бронзавая зярнёная пацерка дрыгавіцкага тыпу, драцяное скроневае кольца з пятлёй на адным канцы і кручком — на другім (12—13 ст.). Курганы насыпаны на месцы паселішча 3-й чв. 1-га тыс. н.э.

*Літ.*: К у с ц и н с к и й М.Ф. Лепельские древности // Виленский вестн. 1866. № 181; А л е к с е е в Л.В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины: (материалы к археол. карте Витебской обл. БССР) // Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.

**ГЛЯК**, г л ё к, л я ч о к, гліняная шарападобная пасудзіна з вузкім (дыям. 3—6 см) горлам з літком, пляскатым шырокім дном і з адным ці двума вушкамі, ганчарны выраб. Памерамі ад цацачных да 8—10 л. З 16 ст. выраблялі пераважна паліваныя Г., радзей задымленыя ці глянцаваныя. Паверхню часта ўпрыгожвалі геам. ці раслінным арнаментам, які наносілі гравіраваннем, штампікам, пакрывалі зялёнай, карычневай, светла-карычневай ці празрыстай глазурай. Выкарыстоўвалі Г. для захоўвання, транспартавання вады, квасу, алею, піва і інш.

**ГЛЯНЦАВА́ННЕ**, спосаб апрацоўкі керамічнага посуду, у выніку якога ўшчыльнялася яго паверхня і ёй надаваўся бляск. Для вырабу глянцаваных

пасудзін выкарыстоўвалі глінянае цеста, ачышчанае ад прыродных дамешкаў, але ў яго дабаўлялі дробны кварцавы пясок і шамот. Сфармаваныя вырабы прасушвалі, потым іх паверхню старанна загладжвалі каменнай або касцяной глянцавалкай і дадаткова паліравалі да бляску кавалкам скуры. Па колеры пасудзіны былі карычневыя і чорныя. Карычневы колер утвараўся пры абпальванні керамікі на адкрытым вогнішчы. Для атрымання чорнага колеру выкарыстоўвалі чарненне або абварванне. Пры чарненні абпаленыя вырабы ўтрымлівалі ў аднаўленчым асяродку. Для гэтага ў печ клалі паліва, якое давала шмат дыму, а печ замуроўвалі. Пры абварванні распаленыя пасудзіны апускалі ў ёмістасць з цёплым хлебным растворам, пасля зноў змяшчалі ў зачыненую печ або астуджвалі на адкрытым паветры. Упершыню на тэр. Беларусі глянцаваная кераміка паявілася ў плямён *паморскай культуры*, але найб. пашырэнне атрымала ў насельніцтва *зарубінецкай культуры*. Выкарыстоўвалася пераважна ў якасці пахавальных урнаў і пахавальнага інвентару, на паселішчах трапляецца вельмі рэдка. У 2-й чв. 1-га тыс. н.э. яна бытавала ў плямён *вельбарскай культуры* і *кіеўскай культуры*, пасля чаго выйшла з ужытку.

*Літ.*: Пачкова С.П. Господарство східнослов'янських племен на рубежі нашої ери. Київ, 1974; Бобринский А.А. Гончарство Восточной Европы: источн. и методы изучения. Минск, 1978.

*А.А.Егарэйчанка.*

**ГНЕ́ЗНАЎСКІ МІХА́ЙЛАЎСКІ КАСЦЁЛ**, помнік архітэктуры позняй готыкі з элементамі рэнесансу ў в. Гнезна Ваўкавыскага р-на Гродзенскай вобл. Пабудаваны ў пач. 16 ст. ўладальнікамі маёнтка Гнезна Янам і Эльжбетай Шамятовічамі. У 2-й пал. 16 ст. ператвораны ў кальвінскі збор, у 1643 зноў стаў каталіцкім. Моцна пашкоджаны ў час Паўн. вайны 1700—21. У вайну 1812 згарэлі дах касцёла, плябанія і інш. будынкі. Праз некаторы час храм быў адрамантаваны, а вакол яго ўзвялі мураваную агароджу. Рэстаўрыраваны ў 1930-я г. Аднанефавае ў плане збудаванне, не мае архітэктурна выдзеленай алтарнай апсіды. Яе замяняе 3-гранная алтарная сцяна, якая надае маналітнасць аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі помніка. Уваходную частку акцэнтуе шмат'ярусная вежа, узведзеная па восі сіметрыі гал. фасада. Верагодна, помнік планаваўся першапачаткова як 3-нефавая залавая пабудова. Акрамя гал. ўвахода ў сцяне паўд. фасада маецца бакавы. Памеры касцёла 21 × 12 м. У зах. частцы над уваходам размешчаны хоры на 2 мураваных слупах. Злева ад яго ў тоўшчы зах. сцяны знаходзяцца ўсходы на хоры і ва ўнутраныя вежы. Інтэр'ер да нядаўняга часу быў пакрыты плоскай драўлянай столлю на бэльках. Сцены таўшч. 1 м узведзены на падмурках магутнасцю 2 м у тэхніцы гатычнай муроўкі з цэглы-пальчаткі памерамі 28 × 13,5 × 7 см на вапнава-пясчанай рошчыне. Таўшч. швоў 2—3,5 см. Яны падрэзаны і маюць у профілі 3-гранную форму. Гатычныя рысы архітэктуры храма выяўляюцца ў рытмічным чляненні сцен шматпрыступкавымі контрфорсамі. У паўд. фасадзе і алтарнай частцы знаходзяцца высокія спічастыя вокны. Бакавыя праслы фасадаў і грані алтарнай часткі прарэзаны даволі шырокімі вокнамі спічастай формы. Першапачаткова вокны былі высокія. Іх адхоны апрацаваны 2 радамі фасоннай цэглы, якая мае ў профілі хвалістую вырабку. Своеасаблівым фонам для вокнаў з'яўляюцца нішы прамавугольнай формы, якія таксама акцэнтаваны фасоннай цэглай (выкружка). На фасадах касцёла прасочаны яшчэ 2 віды цэглы — скос і валік. Дзвярны праём паўд. фасада вядзе ў сакрысцію, з якой можна трапіць у асн. частку храма. Гэты праём акцэнтуе акно круглай формы. Да зах. фасада касцёла прымыкае шмат'ярусная, 8-гранная, на амаль квадратнай аснове вежа, якая ўтварае самастойную частку аб'ёмнай кампазіцыі і з'яўляецца яе дамінантай.

*Літ.*: Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мінск, 1993. *А.М.Кушнярэвіч.*

**ГНЕ́СІЧЫ**, археалагічны помнік — стаянка каля в. Гнесічы Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл. За 0,2 км ад правага берага р. Нёман, на дзюне памерамі 120 × 150 м, на нізкім поплаве. Выявіў у 1973 М.А.Ткачоў. Помнік у значнай ступені разбураны ветрам, на краях захаваўся культ. пласт да 0,3 м. На пясчанай паверхні сабраны разнастайны крамянёвы інвентар і кераміка: мезалітычныя знаходкі — лістападобныя наканечнікі стрэл і інш. вырабы, блізкія да познасвідэрскіх, прылады працы і фр-ты керамікі нёманскай неалітычнай культуры, матэрыялы сярэднябронзавага часу тшцінецкай культуры, а таксама ганчарная кераміка. *В.Л.Лакіза, М.М.Чарняўскі.*

**ГО́ЖА**, археалагічны помнік — стаянка *свідэрскай культуры* эпохі ранняга мезаліту (10—7-е тыс. да н.э.) каля в. Гожа Гродзенскага р-на. За 0,5 км на Пд ад вёскі, на краі высокай правабярэжнай тэрасы р. Нёман, каля левага берага р. Гожа і аўтадарогі Гродна—Друскінінкай (Літва). Выявіў у к. 19 ст. З.Глогер, даследавалі ў пач. 20 ст. Ю.Ядкоўскі, у 1976 М.М.Чарняўскі. Культ. пласт да 0,4 м. На пясчаных выдмах знойдзены крамянёвыя вырабы: лістападобныя наканечнікі стрэл, скрабкі на пласцінках, разцы, рубячыя прылады, двухпляцовачныя прызматычныя нуклеусы і інш.

*Літ.*: Покровский Ф.В. Археологическая карта Гродненской губернии. Вильна, 1895.

*М.М.Чарняўскі.*

**ГО́МЕЛЬ** (летапісны Гомій, з 14—15 ст. — Гомей), горад, цэнтр Гомельскай вобл., на р. Сож.

У гіст. цэнтры сучаснага горада (тэр. парку імя А.У.Луначарскага з прылеглымі ўчасткамі сучаснай забудовы) у зямлі знаходзяцца рэшткі археал. помнікаў шэрага гіст. эпох. Яны пацярпелі ў час будаўніцтва горада ў 18—20 ст., большая частка гарадзішча-замчышча знішчана. Першыя

разведачныя раскопкі рабілі І.Х.Юшчанка (1926) і М.А.Ткачоў (1975), шырокія даследаванні (пераважна ахоўнага характару) праводзяцца з 1986 А.А.Макушнікавым (ускрыта больш за 5000 $м^2$). Упершыню горад згадваецца ў летапісах у 1142 у сувязі з барацьбой княжацкіх груповак за кіеўскі прастол. На той час Г. уваходзіў у склад Чарнігаўскага княства, яго ваколіцы былі разрабаваны войскамі смаленскага кн. Расціслава Мсціславіча. Каля 1335 далучаны да ВКЛ.

Рэшткі самых стараж. паселішчаў у гіст. цэнтры Г. ўзыходзяць да каменнага веку. У 2001 знойдзена апрацаваная костка шарсцістага насарога, якую можна аднесці да палеаліту. Да бронзавага веку належаць крамянёвыя вырабы, шліфаваныя каменныя сякеры і цёслы, абломкі керамікі. Гарадзішча на мысе правага карэннага берага р. Сож пры ўпадзенні ручая Гамяюк узнікла ў 6—5 ст. да н.э., існавала ў мілаградскі і зарубінецкі перыяды. На ўчастках даследаванага слоя і пераадкладзеных напластаваннях знойдзены ляпная кераміка, гліняныя праслíцы, косткі жывёл і інш. Сярод інш. знаходак — шкляная пацерка егіпецкага паходжання, абломак кельцкага керамічнага посуду, цеста якога насычана графітам. Пастаяннае пасяленне, якое паклала пач. протагісторыі горада, існавала на месцы ранейшага гарадзішча ў 5—7 ст., вакол яго склалася селішча-спадарожнік, абкружанае ўласнымі ўмацаваннямі. На селішчы адкрыты рэшткі жылых і вытворчых памяшканняў з заглыбленымі ў мацярык ніжнімі часткамі. Знаходкі прадстаўлены ляпной керамікай калочынскага і пражскага стылю, глінянымі ўсечана-біканічнымі праслíцамі, бронзавай пальчатай фібулай, жал. нажамі, рэшткамі металургічнай вытворчасці. Пл. ранняга пасялення складала не менш чым 4 га. На гарадзішчы і прылеглых участках выяўлены вырабы грубай ляпной керамікі кола Лука-Райкавецкая—Сахноўка—Валынцава, роменскай і раннекругавой стараж.-рус. тыпу.

Дзяцінец феадальнага горада (1,4—1,5 га) развіваўся на месцы ранейшага гарадзішча. Таўшч. пластоў да 2 м і больш, моцна сапсаваны пазнейшым палацавым будаўніцтвам. У шурфе М.А.Ткачова ўскрыты ўчастак абарончага паркана і фр-т насыпу вала. Першыя ўмацаванні з боку ракі з'явіліся ў 11 ст. У 1988 А.А.Макушнікаў даследаваў 204 $м^2$, былі ўскрыты ўчасткі 2 абарончых равоў — перыяду ранняга гарадзішча і



*Рэканструкцыя цэнтральнай часткі **Гомеля** 12 ст. Малюнак Ю.М.Лупіненкі.*

*Бронзавыя бранзалеты 11—12 ст. з* ***Гомеля.***





страж.-рус. часу. Культ. адклады дзяцінца насычаны кругавой керамікай 11—14 ст., косткамі жывёл. Сярод знаходак: шкляныя бранзалеты, пацеркі, кубкі на паддонах, шыферныя прасліцы, абломкі каменных жорнаў, мармуровы нацельны крыж-«корсунчык», жал. нажы, скабяныя вырабы, рыбалоўныя прылады, калачападобныя і авальныя крэсівы, ключы і замкі, бронзавыя ўпрыгажэнні. Значную серыю складаюць жал. прадметы ўзбраення: наканечнікі стрэл, крыжавіна мяча, рэшткі кальчугі, шпора. Знойдзены таксама развал зах.-еўрап. бронзавай пасудзіны — вадаліва (у аплаўленых фр-тах). Сабрана каля 20 абломкаў жоўтай і чырванаватай плінфы — сведчанне будаўніцтва мураваных храмаў. Слой са слядамі пажару і тыпова качэўніцкія стрэлы (зрэзні) сведчаць аб зруйнаванні горада манголамі ў 13 ст. Напластаванні замчышча перыяду ВКЛ знішчаны пазнейшым будаўніцтвам, частка з іх скінута ў ранейшыя равы. Сярод знаходак — кераміка, асколкі шклянога посуду, каробчатая кафля, жал. нажы, падкоўкі ад абутку, цагліна-пальчатка і інш. **Вакольны горад** (пазней — «места») размяшчаўся на З ад дзяцінца-замчышча, займаў пл. 10—12 га, меў уласныя ўмацаванні ў выглядзе падковападобнага вала і рова, якія аб'ядноўвалі ў адзінае цэлае яры Кіеўскі Спуск і Гамяюк. У межах «места» ў к. 17 ст. размяшчаліся гар. сядзібы, рынак (каля самага замка), Прачысценская (Раства Багародзіцы), Троіцкая і Спаская цэрквы, касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі. На большай частцы помніка культ. слой знішчаны пазнейшым будаўніцтвам. У час раскопак 1986—87, 1991, 1995 і 2000-х г. адкрыта больш за 2500 $м^2$. Даследаваны рэшткі дзесяткаў драўляных пабудоў жылога, гасп. і вытворчага прызначэння з заглыбленым аснаваннем (11—18 ст.). Атрыманы велізарны рэчавы матэрыял: кераміка і шкляны посуд, жал. вырабы бытавога і гасп. прызначэння, рамесніцкі інструментарый (нажы, замкі, ключы, сярпы, косы, нажніцы, шылы, скобы, цвікі, напільнікі, кулялейкі, падковы для ботаў і коней), ствол ружжа, свінцовыя і жал. кулі, курыльныя люлькі, гаршковая і каробчатая кафля, гліняныя грузілы, шыферныя прасліцы, упрыгажэнні з каляровых металаў, бронзавыя энкалпіёны, наканечнік ад ножан мячоў, манеты ВКЛ, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі і інш. Да страж.-рус. часу належаць рэшткі зброевай і ювелірна-ліцейнай майстэрняў. М.А.Ткачоў паставіў пытанне пра наяўнасць у Г. пасада страж.-рус. часу на правым беразе Гамеюка. Даследаваннямі А.А.Макушнікава ў 1986—2008 (на пл. больш за 2500 $м^2$) устаноўлена, што горад меў вял. «паўднёвы» пасад. Ён аддзелены ад умацаванага гар. ядра ярам ручая Гамяюк і лакалізаваны на ўчастку плато

*Да арт.* ***Гомель.*** *Бронзавая пальчатая фібула 3-й чв. 1-га тыс.*





*Да арт.* ***Гомель.*** *Жалезны наканечнік стралы са знакамі Рурыкавічаў з вакольнага горада.*



*Да арт.* ***Гомель.*** *Свінцовыя пячаткі (правы і адваротны бакі), князёў Мсціслава Уладзіміравіча канца 11—12 ст. (1) і Святаслава Усеваладавіча 2-й пал. 12 ст. (2).*

выш. 20—25 м над узроўнем вады ў р. Сож. Працягласць пасада 12—13 ст. уздоўж Сажа складае не менш чым 800 м, з Пд яго абмяжоўвае Ільінскі Спуск. Шыр. пасада 300—600 м, пл. не менш чым 30 га. Адкрыты выразныя сляды сядзібна-вулічнай планіроўкі 2-й пал. 11 — 13 ст. Абмежаваныя драўлянымі платамі двары простых жыхароў мелі прамавугольную форму (240—360 $м^2$). Рэшткі жылых пабудоў прадстаўлены мацерыковымі выемкамі (3,5—18 $м^2$) з заваламі глінабітных печак, адкрыты рэшткі кастарэзнай майстэрні, смалакурныя ямы, ёсць выразныя прыкметы жалезаробчай і ганчарнай вытворчасці. Сярод знаходак — кераміка, шыферныя прасліцы, абломкі шкляных бранзалетаў, каменных жорнаў; бронзавыя энкалпіён, нацельны крыж, пярсцёнкі, бранзалеты; шматлікія жал. вырабы — нажы, замкі, ключы, наральнікі, сярпы, косы і інш. Цікавая знаходка — бракаваны кругавы посуд са знакам Рурыкавічаў. Г. прайшоў шлях ад абшчынна-племяннога цэнтра да развітога феад. горада.

*А.А.Макушнікаў.*

**ГО́МЕЛЬСКАЯ ЗБРО́ЕВАЯ МАЙСТЭ́РНЯ**, археалагічны помнік 1-й пал. 13 ст., размешчаны ў зах. частцы вакольнага горада летапіснага *Гомеля*, у цэнтры сучаснага г. Гомель. Адкрыта А.А.Макушнікавым у час раскопак у 1986—87. Рэшткі збудавання прадстаўлены 2 прамавугольнымі мацерыковымі выемкамі-падклетамі, якія прымыкаюць адна да адной, з рэшткамі згарэлых драўляных канструкцый. Знішчэнне майстэрні, верагодна, звязана з нападам манголаў на горад у 1239. Да матэрыялаў, якія дазваляюць вызначыць перыяд яе існавання, належаць навясныя цыліндрычныя замкі (сяр. 12 — пач. 15 ст.), фр-ты кальчужнага палатна з плоскім сячэннем кольцаў (з'явіліся ў к. 12 ст.), серыя дэталей клінковай зброі, у т.л. з досыць вузкім перыядам выкарыстання (сяр. 12 — сяр. 13 ст.), кераміка, абломкі шкляных бранзалетаў і інш. На падлозе аднаго з падклетаў знойдзена больш за 1,6 тыс. прадметаў, пераважна з жалеза. Значная іх частка фрагментавана, спяклася пад уздзеяннем агню і карозіі ў «маналіты». Інструмент прадстаўлены вял. колькасцю каменных шліфавальных прылад: цэлымі



*Пярсцёнкі, пацеркі і бранзалеты з* ***Гомеля*** *11—13 ст.*



*Бронзавы наканечнік ножан мяча 11—13 ст. з **Гомельскай зброевай майстэрні**-2.*

(7) і фрагментаванымі (каля 20) брускамі, пліткай і разбітым каменем-кругам. Жал. прылады: спіральны свердзел даўж. 29,5 см, двуручная скобля, лязо сякеры, нож, напільнікі (шылападобны круглы і рашпіль прамавугольнага сячэння). Сярод дэталей прадметаў узбраення — 14 крыжавін клінковай зброі (13 жал., 1 бронзавая), 7 з іх мечавыя, 6 — шабельныя. У калекцыі таксама 4 навершы для мячоў і шабель (у т.л. загатоўкі), згарэлыя мечавыя ножны, панцырныя пласціны ламелярнага і лускаватага строю (каля 1,5 тыс. — буйнейшы збор на страж.-рус. землях), абрыўкі кальчужнага палатна, абломкі шарнірных трубчастых наручаў (не менш чым 10, у т.л. з незавершанай слясарнай апрацоўкай), фр-ты понажаў шыннага тыпу і інш. У другім падклеце выяўлены звычайны гасп.-бытавы інвентар. У майстэрні праводзіліся пераважна падгоначныя, зборачныя і рамонтныя работы. Многія вырабы з'яўляюцца паўфабрыкатамі ці бракам. Шэраг пласцін для даспехаў маюць адтуліны з завусенцамі, некаторыя трэснулі пры прабіванні, інш. — зусім не прабітыя. Слясарную даводку і брак ілюструюць недаробленыя навершы мячоў, крыжавіны мячоў і шабель. У Гомелі ва ўмовах закрытага археал. комплексу ўпершыню выяўлены амаль усе вядомыя навуцы разнавіднасці мечавых і шабельных крыжавін і навершаў, распаўсюджаных у 12—13 ст. Рэпрэзентацыйны матэрыял пераканаўча сведчыць, што ў Гомелі выраблялася і збіралася клінковая зброя практычна ўсіх тыпаў, распаўсюджаных у Еўропе, пры гэтым спецыфіку яе асартыменту вызначала набліжанасць рэгіёна да Вялікага Стэпу. Матэрыялы раскопак падцвярджаюць выснову, што патрэбнасць рэгіёна ў зброі задавальнялася на ўнутраным рынку. Вытворчасць зброі існавала не толькі ў буйных цэнтрах, але і ў такіх параўнаўча невял. «прыгарадах», як тагачасны Гомель. Вузкая спецыялізацыя майстэрні сведчыць аб серыйным выпуску даступнай, дзеяздольнай і запатрабаванай прадукцыі. Гомельскія майстры-збройнікі чуйна рэагавалі на ваенныя вынаходніцтвы свайго часу, хутка ўспрымалі зброевыя навінкі айчыннага і міжнар.

*Фрагменты кальчужнага палатна з **Гомельскай зброевай майстэрні**.*



маштабу, горад сам з'яўляўся крыніцай стварэння новых узораў зброі і ваеннай тэхнікі. Знойдзеныя ў Гомелі наручы належаць да ліку самых стараж. элементаў узбраення падобнага кшталту. У Зах. Еўропе з'яўленне трубчастых наручаў адносіцца да 1250—60-х г., а ў манголаў яны з'яўляюцца, верагодна, яшчэ пазней — не раней 1320—50-х г. Абломкі гомельскіх наручаў пераканаўча сведчаць пра выкарыстанне іх разам з кольчатай пальчаткай. Гомельскі матэрыял дае значныя падставы для навук. рэканструкцыі комплексу цяжкага ўзбраення ўсх.-слав. ратніка 12—13 ст.

*А.А.Макушнікаў.*

**ГО́МЕЛЬСКІ ДЗЯРЖА́ЎНЫ УНІВЕРСІТЭ́Т** імя Ф.Скарыны. Засн. ў 1969 у Гомелі на базе Гомельскага педагагічнага ін-та імя В.П. Чкалава. Мае археал. музей-лабараторыю, які захоўвае, экспануе і выкарыстоўвае ў вучэбна-навук. працы дзесяткі калекцый археал. знаходак перыядаў каменнага, бронзавага, жал. вякоў і эпохі сярэдневякоўя. Ун-т штогод праводзіць археал. экспедыцыі ў рамках летняй практыкі студэнтаў і валанцёрскія, садзейнічае навукоўцам ІГ НАН Беларусі ў форме правядзення сумесных палявых даследаванняў, актыўна супрацоўнічае з музейнымі ўстановамі і Бел. добраахвотным т-вам аховы помнікаў гісторыі і культуры. Першым пастаянным кіраўніком універсітэцкіх экспедыцый быў У.У.Багамольнікаў, з сяр. 1990-х г. археал. даследаванні ўзначальвае А.А.Макушнікаў. Археал. групы і атрады ун-та прымалі ўдзел у даследаваннях палеалітычных стаянак Бердыж (Падлужжа) у Чачэрскім і Юравічы ў Калінкавіцкім р-нах (кіраўнік А.Г.Калечыц), гарадзішча Брэста (П.Ф.Лысенка), курганных могільнікаў у Цэнтр. і Паўн. Беларусі (Г.В.Штыхаў), гарадзішчаў жал. веку Пруднікі ў Віцебскай вобл. (В.І.Шадыра), Ліскі, Ястрабка і інш. у Лоеўскім, Брагінскім і Рэчыцкім р-нах (М.І.Лашанкоў), паселішча жал. веку і ранняга сярэдневякоўя Тайманава ў Быхаўскім р-не (Л.Д.Побаль), сярэдневяковых курганных могільнікаў *Дзяніскавічы*, *Курганне*, *Калінаўка*, *Нісімкавічы* і інш. на Гомельшчыне, гарадзішча летапіснага Чачэрска (У.У. Багамольнікаў), гарадзішча ранняга жал. веку Нісімкавічы ў Чачэрскім р-не (С.Я.Рассадзін), сярэдневяковых курганных могільнікаў Абакумы ў Лоеўскім і Шарпілаўка ў Гомельскім р-нах, паселішчаў радзімічаў Насовічы ў Добрушскім і Нісімкавічы ў Чачэрскім р-нах (А.А.Макушнікаў), гарадзішча жал. веку Увaравічы ў Буда-Кашалёўскім р-не (А.І.Драбушэўскі), стаянак каменнага веку ў Рагачоўскім р-не (І.Н.Язэпенка) і інш. Пастаянныя экспедыцыі даследуюць рэшткі летапіснага Гомеля і сярэдневяковага паселішча ў в. Мохаў Лоеўскага р-на (А.А.Макушнікаў), пасяленні і могільнікі эпохі бронзы ў Рагачоўскім, Гомельскім і Лоеўскім р-нах (кіраўнік М.М.Крывальцэвіч). Ун-т актыўна супрацоўнічае з Чарнігаўскім педагагічным ун-там імя Т.Р.Шаўчэнкі, студэнты гіст. ф-та ўдзельнічаюць у працы ўкр. археал. экспедыцый па даследаванні стараж.-рус. ваенна-дружыннага лагера Шаставіца каля Чарнігава і сярэдневяковага г. Батурын. Навукоўцы ун-та — пастаянныя ўдзельнікі абл., міжуніверсітэцкіх, рэспубліканскіх і міжнар. гісторыка-археал. канферэнцый і семінараў. У 2004 ун-т правёў Міжнар. канферэнцыю «Славянскі свет Палесся ў старажытнасці і сярэдневякоўі» і апублікаваў яе матэрыялы. Выдадзена манаграфія У.У.Багамольнікава «Радзімічы (паводле матэрыялаў з курганоў X—XII ст.)» (2004). Выпускнікі ун-та абаранілі кандыдацкія (У.У.Багамольнікаў, А.А. Макушнікаў, А.І.Драбушэўскі) і доктарскую (С.Я.Рассадзін) дысертацыі па гісторыка-археал. тэматыцы.

*А.А.Макушнікаў.*

**ГО́МЕЛЬСКІ КУРГА́ННЫ МО́ГІЛЬНІК**, археалагічны помнік каля б. в. Любны (цяпер у межах г. Гомель). Склаўся ў к. 10—11 ст. Размяшчаўся на беразе возера ў правабярэжжы р. Сож, ва ўр. Любенскі Гай. Налічваў 60 курганоў. У 1888 Е.Р.Ра-



*Пласціны ад даспеха ламелярнага і чашуйчатага строяў з **Гомельскай зброевай майстэрні**.*

манаў даследаваў 2 насыпы. У адным пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З, пры ім быў кругладонны гаршчок. У другім — трупаспаленне на падсыпцы (10 ст.), вогнішча складалася з вуголля, попелу, перапаленых касцей чалавека і жывёл, фр-таў керамікі; у верхняй частцы насыпаў праслойка попелу, чарапкоў, птушыных костак. У 1926 І.Х.Юшчанка даследаваў 3 насыпы. Выш. курганоў каля 0,5 м, дыям. каля 15 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З з выяўленымі слядамі труны або абкладкі нябожчыка з бярвён. Знойдзены бранзалет, гліняны арнаментаваны гаршчок. Рэшткі могільніка знішчаны ў 1930-я г.

*А.А.Макушнікаў.*

**«ГО́МЕЛЬШЧЫНА: АРХЕАЛО́ГІЯ, ГІСТО́РЫЯ, ПО́МНІКІ»**, тэзісы дакладаў гомельскіх абласных навуковых канферэнцый па гіст. краязнаўстве. Выдаваліся ў Гомелі на рус. мове з 1989. Канферэнцыі праводзіліся ў Гомелі з 1989 *Гомельскім абласным археалагічным цэнтрам*, абл. Т-вам аховы помнікаў гісторыі і культуры, Гомельскім абл. краязнаўчым музеем. У канферэнцыях прымалі ўдзел археолагі, гісторыкі, краязнаўцы Беларусі, Украіны, Расіі. Выйшлі 2 выпускі (1989—91). Матэрыялы 1-га вып. прысвечаны гісторыі Гомельшчыны розных часоў, сярод іх паведамленні пра археал. культуры жал. веку (Л.Д.Побаль, М.І.Лашанкоў, А.І.Драбушэўскі), новыя звесткі пра дзяцінец Гомеля (А.А.Макушнікаў). Асвятляюцца таксама пытанні гісторыі Клецка (В.С.Пазднякоў), Полацка (С.В.Тарасаў), Віцебска (Т.С.Бубенька), Друі і Дзісны (В.Я.Зайцава); матэрыялы пра развіццё рамёстваў (А.А.Макушнікаў, А.М.Пісарэнка, Л.У.Калядзінскі), узнікненне і эвалюцыю літ. грыўны (Ш.І.Бекцінееў), рэчавыя знаходкі (У.У.Багамольнікаў, У.А.Ліцвінаў). У 2-м змешчаны матэрыялы пра генезіс раннемезалітычнага насельніцтва Гомельшчыны (У.П.Ксяндзоў), помнікі каменнага і бронзавага вякоў (І.М.Язэпенка), пра археал. культуры жал. веку (Л.Д.Побаль, К.В.Каспарава, Я.А.Шміт, М.І.Лашанкоў, А.І. Драбушэўскі, Г.М.Беліцкая), асаблівасці пахаванняў (Г.В.Штыхаў, У.У.Багамольнікаў), фарміраванне тэрытарыяльнай асновы Полацкай зямлі (Г.М.Семянчук), пра даследаванні і знаходкі на тэр. Беларусі, у т.л. ў гарадах Палесся (У.М.Мілюцін, З.М.Сяргеева, А.А.Макушнікаў, І.І.Сінчук, Н.І.Здановіч, А.А.Трусаў, В.С.Пазднякоў і інш.). Разгледжаны пытанні лакалізацыі Ізяслаўля Смаленскай зямлі (А.А.Мяцельскі), развіцця тапаструктуры Віцебска ў 11—13 ст. (Л.У.Калядзінскі), тапаграфіі і планіроўкі слав. сельскіх паселішчаў ва Усх. Еўропе (Я.Р.Рыер), развіцця жывёлагадоўлі ў Слуцку ў 12—13 ст. (Н.П.Александровіч, Л.У.Калядзінскі), фальсіфікацыі грашовых сродкаў у к. 15 ст. (І.Ф.Масько). Падведзены першыя вынікі палявых работ Гомельскага абл. археал. цэнтра (А.А.Макушнікаў). Шэраг дакладаў прысвечаны старажытнасцям сумежнай тэр. Чарнігаўшчыны. Зборнік ілюстраваны малюнкамі, планамі, схемамі.

**ГО́РАД**, населены пункт, жыхары якога заняты пераважна ў прамысловасці, гандлі, сферах абслугоўвання, кіравання, навукі і культуры. Г. ўзніклі ў працэсе паглыблення грамадскага падзелу працы — аддзялення рамёстваў ад земляробства, якое адбылося пры пераходзе ад першабытнаабшчыннага ладу да рабаўладальніцкага альбо феадальнага. Гал. рыса феад. Г. — канцэнтрацыя рамёстваў і абмену. На тэр. Беларусі першыя Г. ўзніклі ў 9—13 ст. і ўяўлялі сабой агароджанае ўмацаванае паселішча. Нярэдка яны ўтвараліся на месцах б. *гарадзішчаў* жал. веку. Многія бел. Г. развіваліся з умацаваных паселішчаў, феад. замкаў, парубежных крэпасцей. Ядром Г. звычайна быў *дзяцінец*, найчасцей размешчаны на ўзвышаным месцы, абкружаны абарончымі збудаваннямі. Побач узнікалі вакольны горад, вакол якога ўтваралася 2-я лінія ўмацаванняў, і пасады. Непадалёку ад Г. знаходзіўся курганны могільнік (некропаль). Росту Г. спрыяла іх геаграфічнае размяшчэнне — скрыжаванне гандл. шляхоў, блізкасць ракі ці возера, якія выкарыстоўваліся як транспартныя магістралі. У стараж.-рус. летапісах і інш. крыніцах 9—13 ст. на тэр. Беларусі названы 34 Г., што дакладна ідэнтыфікаваны, вывучаны і археалагічна даследаваны: з 9 ст. — Полацк, з 10 ст. — Заслаўе, Тураў, Віцебск, з 11 ст. — Браслаў, Брэст, Друцк, Копысь, Лагойск, Лукомль, Мінск, Орша, Пінск, з 12 ст. — Барысаў, Брагін, Гомель, Гродна, Клецк, Мазыр, Мсціслаў, Навагрудак, Рагачоў, Слуцк, Слаўгарад (Прапойск), Чачэрск, з 13 ст. — Ваўкавыск, Здзітаў, Камянец, Капыль, Кобрын, Рэчыца, Слонім, Турыйск (пра кожны гл. адпаведны артыкул). Некаторыя Г. ўзніклі раней, чым трапілі на старонкі дакументаў. Застаецца невядомым месцазнаходжанне летапісных Г.: Галацічаск, Гарадзец, Некалач, Стрэжаў і інш. У выніку археал. даследаванняў вызначана тапаграфія многіх Г., тыпалогія іх умацаванняў і планіроўкі, храналогія старажытнасцей, атрыманы дадзеныя пра гасп. дзейнасць іх жыхароў, матэрыяльную культуру насельніцтва. У 9—12 ст. у Г. канцэнтраваліся рамеснікі і гандляры, якія сяліліся за межамі ўмацаванняў. Развіваліся Г. на аснове радыяльна-кальцавой і радыяльна-веернай сістэм планіроўкі, у 11—13 ст. будаваліся мураваныя храмы, замкавыя вежы — данжоны. Абарончая сістэма спалучала прыродны ландшафт (высокі бераг ракі, абрыў) і штучныя ўмацаванні: земляныя равы і валы, на якіх у 10—12 ст. узводзіліся вастраколы, зрубавыя сцены-гародні, умацаваныя драўлянымі вежамі. Вуліцы шыр. 2—5 м масцілі бярвеннем; абапал вуліцы размяшчаліся двары гараджан (кожны пл. каля 200 $м^2$), абгароджаныя парканам. Жытлы ў дварах, квадратных у плане, мелі рубленыя сцены даўж. 3—5 м, побач з імі размяшчаліся майстэрня і хлеў. У феад. эпоху каля дзяцінца працаваў рынак, вакол Г. былі пасады. У Г. 12—13 ст. пера-

важна развіваліся кавальства, рамёствы: ювелірнае (выраб падвесак, скроневых кольцаў, бранзалетаў, пярсцёнкаў, пацерак, гузікаў і інш.), шавецкае і кравецкае (абутак, адзенне), кастарэзнае (грабеньчыкі, шахматы, тронкі нажоў), ганчарнае (бытавая кераміка), бандарнае. Сярод гараджан была пашырана пісьменнасць, пра што сведчаць берасцяныя граматы, надпісы на драўляных і касцяных вырабах. Вяршыняй матэрыяльнай культуры стараж. Г. з'яўляліся манументальныя мураваныя пабудовы (саборы ў Ваўкавыску, Віцебску, Навагрудку, Полацку, Тураве і інш.). Адсутнасць значнага тавараабмену паміж Г. і вёскай прымушала гараджан трымаць асабістую гаспадарку. У 15—16 ст. у большасці Г. фарміраваліся 2 цэнтры забудовы: замак феадала і гандл. плошча з крамамі. У Г. з магдэбургскім правам на плошчы ставілі ратушу. Вакольны горад ці пасадскае паселішча наз. «местам», жыхароў — мяшчанамі. З ростам рамяства і гандлю пасады пашыраліся, іх планіроўка станавілася больш упарадкаванай, вуліцы брукаванымі. Сістэма планіроўкі вуліц найчасцей была радыяльная альбо радыяльна-веерная, фарміраваліся ансамблі гар. цэнтраў. Па перыметры плошчаў і на блізкіх да іх вуліцах жылі рамеснікі і гандляры.

*Літ.*: Беларускі архіў. Т. 2. Мінск, 1928; Е г о р о в Ю. Градостроительство Белоруссии. М., 1954; Ш т ы х о в Г.В., Л ы с е н к о П.Ф. Древнейшие города Белоруссии. Минск, 1966; Ш т ы х о в Г.В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). Минск, 1978.

*Г.В.Штыхаў.*

**ГО́РАН**, 1) печ для награвання металу перад плаўкай. Рабілі з вогнетрывалых матэрыялаў. Паліва — драўняны вугаль. Інтэнсіўнасць гарэння забяспечвалася надзіманнем паветра скуранымі мяхамі з ручным, нажным, а пазней вадзяным прыводам. 2) Ніжняя частка шахтавай плавільнай печы (домны, вагранкі), дзе адбываюцца гарэнне паліва і плаўка металу. 3) Некаторыя даследчыкі наз. Г. домніцу (сырадутную печ для металургіі жалеза з балотных і лугавых руд). 4) Тыгельны Г., які выкарыстоўвалі для плаўкі, варкі або награвання металу ў *тыглях*. 5) Г. для абпальвання керамікі (посуду, кафлі, чарапіцы). Рабілі ў зямлі, на паверхню выходзіла толькі скляпенне з загрузачнай адтулінай. Такі цыліндрычны 2-камерны Г. знойдзены ў 1980 у Мінску на р. Няміга ў час буд. работ каля Петрапаўлаўскай царквы (на глыб. 2,7 м). Выкананы з добра ачышчанай чырвонай гліны (выш. 1 м, дыям. 0,9 м, таўшч. сценак 10—12 см), чарэнь для змяншэння цеплааддачы выкладзены з камянёў. Ніжняя камера з'яўлялася топкай, у верхняй захавалася пячная кафля к. 16 ст. Арачная перагародка паміж камерамі мела скразныя адтуліны (прарухі) для паступлення гарачага паветра. Датуецца к. 16 — пач. 17 ст.

*Літ.*: Л я ў д а н с к і А.М., Палікарповіч К.М. Да гісторыі жалезнай прамысловасці на Беларусі па даных арэалогіі // Сав. краіна. 1932. № 5; С о б а л ь В. Цікавая знаходка // ПГКБ. 1980. № 2.

*М.Ф.Гурын.*



*Горан к. 16 — пач. 17 ст. з Мінска.*

**ГО́РВАЛЬ**, археалагічныя помнікі — стаянка, гарадзішча і курганны могільнік каля в. Горваль Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл.

С т а я н к а эпохі неаліту. У вёсцы каля могілак. Выявіў і абследаваў у 1977 У.П.Ксяндзоў. Культ. пласт на значнай частцы помніка разбураны ветравой эрозіяй. На пл. 800 $м^2$ знойдзены крамянёвыя скрабкі, наканечнікі стрэл, нажападобныя пласціны, адшчэпы, фр-ты грабеньчата-ямкавай керамікі. Датуецца 4—2-м тыс. да н.э.

Г а р а д з і ш ч а мілаградскай, зарубінецкай культур і эпохі Кіеўскай Русі. За 1,5 км на Пд ад вёскі. Пляцоўка трохвугольная, пл. 600 $м^2$. З боку поля ўмацавана валам выш. 1,5 м, даўж. 25 м і ровам глыб. 5 м. Даследавалі ў 1958 В.М.Мельнікоўская, у 1976 Г.В.Штыхаў. Культ. пласт 0,6 м. Знойдзены фр-ты ляпнога посуду, ганчарнай керамікі 11—13 ст. (у верхняй частцы).

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к за 0,3 км на У ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна. 30 насыпаў выш. 0,5—2 м, дыям. 9—12 м. Абследавалі ў 1958 В.М.Мельнікоўская, у 1976 Г.В.Штыхаў.



*Рэшткі горна 2-й пал. 17 — пач. 18 ст. з г.п. Мір Карэліцкага р-на.*

*Літ.*: Ш т ы х о в Г.В. Обследование городищ и курганов в Речицком районе // АО 1976. М., 1977.

*У.П.Ксяндзоў.*

**ГО́РВАЛЬСКІ ЗА́МАК**. Існаваў у 16—18 ст. на ўсх. ускраіне сучаснай в. Горваль Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл., на правым беразе р. Бярэзіна. Паводле іканаграфічных матэрыялаў, у сяр. 16 ст. замак быў бастыённым, хаця меў і драўляныя ўмацаванні. З'яўляўся важным пунктам кантролю за пераправай цераз р. Бярэзіна і водным шляхам да р. Дняпро. За час існавання падвяргаўся неаднаразовым штурмам і разбурэнням, пасля якіх аднаўляўся. У Паўн. вайну 1700—21 быў канчаткова знішчаны. Даследаваў у 1981 М.А.Ткачоў. Замчышча са слядамі земляных бастыёнаў з усх. боку мае блізкую да чатырохвугольнай форму (40 × 20 м); з Пн і Пд абаронена прыроднымі ярамі, з боку поля — штучнымі ровам і валам, з У ад р. Бярэзіна — высокім (да 13 м) схілам берага. Культ. пласт 0,2—0,3 м. Выяўлены рэдкія абломкі керамікі 16—18 ст.

*Літ.*: Т к а ч е в М.А. Изучение средневековых памятников Белоруссии // АО 1983. М., 1985.

*М.А.Ткачоў.*

**ГО́РКІ**, археалагічныя помнікі — стаянкі і курганны могільнік каля в. Горкі Чэрыкаўскага р-на Магілёўскай вобл.

С т а я н к а - 1 каменнага веку на мысе 1-й надпоймавай тэрасы правага берага р. Сож, за 0,5 км на Пд ад вёскі, ва ўр. Ніўкі. Адкрыў у 1928 К.М.Палікарповіч, абследаваў у 1989 В.Ф.Капыцін, у 2000—02 А.У.Коласаў. Знойдзены аднапляцовачныя нуклеусы, пласціны і адшчэпы, асобныя з якіх маюць рэтуш на краі.

С т а я н к а - 2 *свідэрскай культуры* за 1 км на ПдЗ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Сож, на выш. 6—7 м над узроўнем вады, ва ўр. Угароўка. Адкрыў у 1928 К.М.Палікарповіч, у 1974—89 В.Ф.Капыцін даследаваў 1688 м$^2$, у 2000—02 абследаваў А.У.Коласаў. Культ. пласт 0,2—0,5 м. Знойдзена 52 895 адз., у т.л. 1300 прылад працы: канцавыя, двайныя, авальныя і з «шыпам» скрабкі, рэтушаваныя, двугранныя і на вугле зламанай нарыхтоўкі разцы, вастрыі і праколкі, вырабы з выемкай, скрэблы, тронкавыя наканечнікі стрэл, выкананыя ў свідэрскай манеры, адзінкавыя асіметрычныя наканечнікі стрэл, 2 трапецыі, сякучыя прылады, пласціны і адшчэпы з рэтушшу. На месцы паселішча існавала майстэрня па крэменеапрацоўцы, пра гэта сведчаць шматлікія кавалкі расколатага крэменю, канкрэцыі, адна-, двух- і шматпляцовачныя нуклеусы, адшчэпы, пласціны, мелкія лускі. Датуецца эпохай фінальнага палеаліту, трапляюцца матэрыялы грэнскай і бутаўскай культур бронзавага веку.

С т а я н к а - 3 *бутаўскай культуры* эпохі мезаліту (7—6-е тыс. да н.э.) на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага старыцы р. Сож, за 2 км на ПдЗ ад вёскі, 0,2 км на ПдУ ад стаянкі-1, на левым беразе ручая Крынічны. Выявіў у 1928 К.М.Палікарповіч, даследавалі ў 1977—78 В.Л.Ліпніцкая, у 1972 і 1984 В.Ф.Капыцін — 334 м$^2$, абследаваў у 2000—03 А.У.Коласаў. Культ. пласт 0,1—0,6 м. Знойдзена больш за 11 тыс. прадметаў з цёмна-шэрага мелавога крэменю, паклады якога знаходзяцца на беразе старыцы р. Сож. Каля 2% вырабаў зроблена з прывазнога паўпразрыстага крэменю шэрага колеру. Сярод знаходак — адна- і двухпляцовачныя нуклеусы, пласціны, адшчэпы і мелкія лускі. Прылады працы (280 адз.) прадстаўлены канцавымі, двайнымі і авальнымі скрабкамі, скрэбламі; вуглавымі (дамінуюць), бакавымі і двуграннымі разцамі, вастрыямі, праколкамі, пласцінкамі з прытупленым рэтушшу краем, вырабамі з выемкай, тронкавымі наканечнікамі стрэл, сярэдневысокай трапецыяй, прыладамі сякучых форм. Выяўлены некалькі вогнішчаў, рэшткі жытла-паўзямлянкі чатырохвугольнай формы памерамі 3,75 × 2,5 м, вакол якога групаваліся крамянёвыя вырабы.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к - 1 за 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, на паўн. ускраіне стаянкі-1. 9 насыпаў выш. 0,5—1,8 м, дыям. 8—14 м. Адкрыў у 1928 К.М.Палікарповіч, абследаваў у 1972 В.Ф.Капыцін.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к - 2 за 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, 1,7 км на ПнУ ад в. Журавель. 119 насыпаў выш. 0,4—2,5 м, дыям. 5—20 м. Адкрыў і абследаваў у 2003 А.У.Коласаў.

*Літ.*: П о л и к а р п о в и ч К.М. Стоянки среднего Посожья // МАБ. 1957. Т. 1; К о п ы т и н В.Ф. Мезолит Юго-Восточной Белоруссии // КСИА. М., 1977. Вып. 149; Я г о ж. Мезолитическое поселение Горки в Посожье // Там жа. М., 1979. Вып. 157; Я г о ж. Поздний мезолит Посожья // Изыскания по мезолиту и неолиту СССР. Ленинград, 1983; Я г о ж. Археологические памятники Чериковского района Могилевской области. Могилев, 1994; Я г о ж. Свод памятников археологии чернобыльской зоны Могилевской области. Могилев, 1998; Л и п н и ц к а я О.Л. Мезолитическая стоянка Криничная // КСИА. М., 1979. Вып. 157.

*А.У.Коласаў.*

**ГО́РЫ**, археалагічныя помнікі — гарадзішча, замак і пасад каля в. Горы Горацкага р-на Магілёўскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а «Курган» за 0,3 км на ПнЗ ад вёскі, у месцы сутокаў рэк Карчаваха і Быстрая. Выш. 10 м. Першапачаткова помнік меў памеры 180 × 70 м, захаваная частка памерамі 90 × 60 м. У цэнтры круглая ў плане пляцоўка выш. 1,5 м, дыям. 8 м. З ПдУ і Пд захаваўся фр-т вала выш. да 3 м. Выявіў у 1936 А.Дз.Каваленя, даследавалі ў 1976 М.А.Ткачоў, у 1982—83 Ш.І.Бекцінееў, у 1990—91 А.А.Мяцельскі. Знойдзены фр-ты ляпнога і кругавога посуду, тачыльныя брускі, шыферныя прасліцы, жал. цвікі, сякеры, крэсівы, наканечнікі стрэл і кап'я, шкляныя бранзалеты, фр-ты касцяных абкладак лука і калчана, касцяныя праколкі, скроневыя кольцы, двухбаковыя крыжыкі, каменны абразок з надпісам. На ўзвышшы, што ў цэнтры пляцоўкі, стаяла абарончая вежа. Паселішча на мысе існавала

ў 1-й пал. — 3-й чв. 1-га тыс. н.э., адрадзілася ў 10—11 ст. Асн. этап яго функцыяніравання адносіцца да 12 — сяр. 16 ст., калі на ім былі ўзведзены штучныя ўмацаванні.

З а м ч ы ш ч а за 0,2 км на ПдУ ад гарадзішча, у луцэ, утворанай р. Карчаваха. З'яўляецца рэшткамі замка, закладзенага ў к. 16 ст. канцлерам ВКЛ Львом Сапегай. Мясц. назва Вал. Даўж. 230 м, шыр. 110—160 м. Умацавана па перыметры валамі выш. 3 м, шыр. каля падэшвы 8 м. Ад берагавога плато замчышча адрэзана равамі глыб. да 3 м і шыр. 10 м. Выявіў у 1936 А.Дз.Каваленя, абследавалі ў 1976 М.А.Ткачоў, у 1982—83 Ш.І.Бекцінееў, у 1990—91 А.А.Мяцельскі. Ар-




*Наканечнікі стрэл (1—5), вастрыі (6—13), праколкі (14—18), скрабкі (19—22), разцы (23—29) са стаянкі* ***Горкі.***



*Скроневае кольца к. 10 — пач. 11 ст. з гарадзішча **Горы**.*

хеал. даследаванні не праводзіліся. На дзённай паверхні трапляюцца фр-ты керамікі і кафлі 17—18 ст.

П а с а д на Пд ад замчышча. Памеры 190 × 140—160 м. З паўд. боку ўмацаваны валам даўж. каля 220 м, выш. 1,5—2 м і шыр. да 5 м. Культ. пласт 0,6—0,8 м. Знойдзены фр-ты посуду 17—18 ст.

*Літ.*: М і р о н ч ы к а ў Л.Ц. Помнікі в. Горы // ПГКБ. 1978. № 2; Б е к т и н е е в Ш.И., Л е в к о О.Н. Городище Горы // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі: новыя матэрыялы і даслед. Мінск, 1993; М я ц е л ь с к і А., Т к а ч о ў М. Гарадзішча каля в. Горы Горацкага раёна // З глыбі вякоў. Наш край: гіст.-культурал. зб. Мінск, 1996. Вып. 1; Т к а ч е в М.А. Замки Беларуси. Минск, 2003.

*Ш.І.Бекцінееў, А.А.Мяцельскі.*

**ГО́ТЫ**, племянны саюз, пазней народ усходнегерманскай моўнай групы. У археалогіі плямёны, якія на тэр. Цэнтр. і Усх. Еўропы ў 1 — пач. 5 ст., уваходзілі ў саюз Г., атаясамліваюцца з насельніцтвам *вельбарскай культуры*, *чарняхоўскай культуры* — Сынтана дэ Мурэш культуры і масламенцкай групы (на тэр. Хрубяшоўскай даліны ў ніжнім цячэнні Зах. Буга). Першая згадка аб Г. («гутонах») адносіцца да 19 н.э., калі дружына Катуальда адыграла рашучую ролю ў разбурэнні каралеўства Марабада ў Падунаўі. На пач. 1 ст. Г. займалі землі ў нізоўях р. Вісла і знаходзіліся ў сферы ўплыву племяннога саюза лугіяў. На працягу 1 ст. яны сфарміравалі новы саюз плямён ва ўсх. Паморʼі, палітычная ініцыятыва ў якім знаходзілася ў руках эліты скандынаўскага паходжання. Згодна з паданнем, запісаным Касіядорам у 1-й пал. 6 ст., рашаючую ролю ў фарміраванні саюза адыгралі Г. пад кіраўніцтвам караля Берыга, якія разам з роднаснымі ім гепідамі прыплылі на Паморʼе са Скандынавіі і падпарадкавалі мясц. плямёны: лямовіяў, ульмеругіяў, частку вандалаў. Гэта фаза этнагенезу Г. суадносіцца з этапам фарміравання і любовідзкай стадыяй развіцця вельбарскай культуры. У перыяд маркамона-квадскіх войнаў (167—180) Г. пачалі пакідаць землі на З ад Віслы і да пач. 3 ст. рассяліліся па ўсх. Мазовіі, Падляшшы, Бел. Пабужжы, зах. Валыні і Турава-Пінскім Палессі. Іх міграцыя адлюстравалася ў гоцкім паданні пра перасяленне народа караля Фелімера ў краіну Оюм. Верагодна, што слова «gudas» (беларус) у літ. мове (да 1940) паходзіць ад слова «гот». З 230-х г. групы Г. праніклі ў Паўн. Прычарнаморʼе, дзе яны адыгралі важную ролю ў скіфскіх войнах (каля 238—270). Марскія і сухапутныя нашэсці германскіх (готы, герулы, тайфалы, бастарны), сармацкіх, скіфскіх плямён і раманізаванага насельніцтва Прычарнаморʼя на прычарнаморскія, балканскія і малаазійскія правінцыі Рымскай імперыі суправаджаліся спробамі засялення Г. адбітых зямель. Пасля паражэння ад рымлян у бітве пры Наісе (270) палітычная і ваенная актыўнасць Г. накіравалася на ўзмацненне пазіцый у Паўн. Прычарнаморʼі, што знаходзіць адлюстраванне ў фарміраванні чарняхоўскай — Сынтана дэ Мурэш культур. У 1-й пал. 4 ст. палітыка візантыйскіх імператараў у дачыненні да поліэтнічнага насельніцтва Паўн. Прычарнаморʼя будавалася на ўмовах феодуса (форма саюзных адносін). З 240-х г. буйныя кантынгенты гоцкіх федэратаў удзельнічалі у войнах Рымскай імперыі, Г. дасягалі відных пасад у яе вайсковай іерархіі. На працягу 2-й пал. 3 ст. ў Прычарнаморʼі Г. падзяліліся на астраготаў-грэйтунгаў («стэпавых») і візіготаў-тэрвінгаў («лясных»). Візіготы, абʼяднаныя аўтарытэтам каралеўскага роду Балтаў, жылі ў міжрэччы ніжняга Дуная і Днястра. Астраготы засялялі землі ніжняга, сярэдняга Падняпроўя і прылягаючых лесастэпавых зон. У сяр. 4 ст. ў сферы ваенна-палітычнага ўплыву і гандл. сувязей астрагоцкай «дзяржавы Германарыха» знаходзілася значная частка плямён Цэнтр. і Усх. Еўропы. Не пазней 4 ст. сярод Г. стала распаўсюджвацца хрысціянства ў форме арыянства. Вульфілам на гоцкую мову была перакладзена Біблія. Ганенні на хрысціян прымусілі частку Г. перасяліцца на ПнУ Балкан, дзе сфарміравалася супольнасць «малых Г.». Апошнія ў раннім сярэдневякоўі прынялі ўдзел у этнагенезе балгар. Хрышчэнне часткі Г. аказала важны ўплыў на хрысціянізацыю інш. варварскіх народаў Еўропы. У 375, з нашэсцем *гунаў*, сувязі ўнутры супольнасці гоцкіх народаў у арэале паміж польскім Паморʼем і Прычарнаморʼем былі разарваны, распачалася эпоха *Вялікага перасялення народаў*. Г., якія жылі на правабярэжжы Віслы (насельніцтва *вельбарскай культуры* цэцэльскай стадыі), у 1-я дзесяцігоддзі 5 ст. захаваліся толькі ў яе дэльце. На працягу 5 ст. яны, змяшаўшыся з балцкімі народамі, утварылі супольнасць відзіварыяў. З 376 пасля няўдалых спроб Атанарыха супрацьстаяць *гунам*, асн. маса візіготаў пачала перасяляцца на тэр. Рымскай імперыі ў Мезіі і Фракіі. З к. 370-х г. розныя іх групоўкі ці служылі Рымскай імперыі ў якасці федэратаў, ці ваявалі супраць яе. У 418 візіготы на чале з Атаульфам заснавалі вестгоцкае («заходнегоцкае») каралеўства ў Галіі са сталіцай

у Тулузе — першае варварскае каралеўства на тэр. Рымскай імперыі. Пад націскам франкаў яны вымушаны былі пакінуць Галію і перанесці ў 580 сталіцу каралеўства ў Іспанію (г. Таледа). У 589 візіготы прынялі зах. форму хрысціянства (у далейшым каталіцызм). Таледскае каралеўства праіснавала да 711—718, калі большая частка Іспаніі была захоплена арабамі. Значная частка астраготаў пасля смерці Германарыха ў 375 падпарадкавалася ўладзе *гунаў*. У к. 4 ст. ў кантэксце сутыкненняў у Падняпроўі з Г. караля Вінітарыя на старонкі гісторыі выходзяць першыя слав. народы, шырока прадстаўленыя ў пісьмовых крыніцах, — *анты* і *склавіны*. У 380, пасля перамогі гоцка-аланскага войска над легіёнамі імператара Валента ў бітве пры Адрыянопалі (278), частка астраготаў, узначаленых Алатэям і Сафракам, атрымала для засялення землі ў Фракіі. Пасля бітвы пры Недаа (455) і развалу гунскай імперыі большасць астраготаў рассялілася ў паўд. Паноніі і з'яўлялася федэратамі Усходнерымскай імперыі (Візантыі). У 493 з санкцыі імператара Зенона астраготы на чале з каралём Тэадорыхам з роду Амалаў, разграміўшы Адаакра, заснавалі остгоцкае («усходнегоцкае») каралеўства на тэр. Італіі, Сіцыліі і Перадальпійскіх абласцей са сталіцай у Равэне (Італія). У 554, пасля 20-гадовай вайны з Візантыяй, остгоцкае каралеўства спыніла існаванне. Групы Г., якія сярод інш. германскіх народаў жылі на Крымскім паўвостраве, захавалі незалежнасць ад *гунаў* і з'яўляліся федэратамі Візантыі. Яны займалі вобл. Доры і мелі праваслаўнага епіскапа. Пазней увайшлі ў склад княства Феадора са сталіцай у Мангупе. Існуюць дадзеныя аб захаванні групамі крымскіх готаў сваёй мовы яшчэ ў 16 ст.

*Літ.*: Буданова В.П. Готы в эпоху Великого переселения народов. Санкт-Петербург, 1999; Вольфрам Х. Готы: от истоков до середины VI в.: (опыт ист. этнографии). Санкт-Петербург, 2003; Щукин М.Б. Готский путь: готы, Рим и черняховская культура. Санкт-Петербург, 2005; Kokowski A. Goci: od Skandzy do Campi Gothorum. Warszawa, 2007.

*В.Г.Белявец.*

**ГРАФІ́ЦІ** (італьян. graffiti множны лік ад graffito, літар. надрапаны), спантанна нанесены надпіс, часцей бытавога характару. Наносіліся вострымі прадметамі (нож, пісала, іголка) на сцены будынкаў і прадметы з каменя (прасліцы), дрэва (посуд, грабеньчык), скуры (ножны), гліны (амфары) косткі і касцяныя вырабы. Г. вельмі разнастайныя па мэце нанясення. Сярод іх азбука, «спроба пяра», азначэнне ўласнасці, аўтограф, малітоўнае прашэнне, памінальныя надпісы, надпіс-папярэджанне, умовы нанясення (месца ці абставіны), літарны надпіс магічнага характару, дзелавыя надпісы. Азбучныя кірылічныя надпісы змяшчаюць ад 5 да 13 літар у алфавітным парадку. Яны зафіксаваны на праслiцы (*Вішчын*), грабеньчыку (*Бярэсце*), скураных ножнах (*Пінск*), вапняковай «запісной кніжцы» (*Полацк*), у якасці надпісаў на сценах (*Полацк*). «Спроба пяра» — гэта некалькі спантана нанесеных літар (напр., «ЕІ» — нарыхтоўка з косці лася, Мінск). Азначэнне ўласнасці — часцей за ўсё імя ўладальніка (напр., на амфары «Олексій», *Навагрудак*). Аўтографы будаўнікоў полацкай Сафіі «Давыд, Тума, Мікула, Копесь, Пётр, Варышка» знойдзены на камені з падмурка гэтага храма. Малітоўнае прашэнне ў выглядзе формулы «Госпадзе, дапамажы рабу свайму (імярэк)» сустракаецца на сценах цэркваў, на бытавых прадметах (праслiцах, місах). Памінальныя надпісы, якія складаюць вял. колькасць, змяшчаюць імя чалавека, дату смерці (лічбу або дзень памяці святога). Надпіс-папярэджанне прызначаны для таго, каб прадухіліць крадзеж пэўнага прадмета. На дзяржанні нажа, напр., напісана: «Ежкаў нож, а хто ўкрадзе — пракляты будзе» (Драгічын-Надбужскі, цяпер Польшча). Магічныя і дзелавыя надпісы знойдзены сярод рунічных надпісаў гарадзішча *Маскаўцы*. Значная колькасць Г. зафіксавана ў Спаса-Праабражэнскай царкве г. Полацк (памінальныя і малітоўныя надпісы, азбука), адзінкавыя надпісы — у цэрквах Каложскай (Гродна), Дабравешчанскай (Віцебск), Барысаглебскай (Навагрудак). Самы стараж. помнік з кірылічнымі Г. — камень з падмурка Сафійскага сабора (Полацк), на якім выдрапаны імёны будаўнікоў і бытавая лексіка.

*Літ.*: Булкин В.А. Надписи на камне из храма Софии в Полоцке // Памятники культуры. Новые открытия 1982 г. Ленинград, 1984; Лысенко П.Ф. Берестье. Минск, 1985; Загорульский Э.М. Вищинский замок XII—XIII вв. Минск, 2004; Калечыц І.Л. Графіці X—XIV стст. у Спаса-Праабражэнскай царкве ў Полацку // БГЧ. 2007. № 3; Musianowicz K. Sprawozdanie z prac wykopaliskowych przeprowadzonych w roku 1954 w Drohiczynie, pow. Siemiatysze // Wiadomości archeologiczne. Warszawa, 1956. T. 12.

*І.Л.Калечыц.*

**ГРО́ДЗЕНСКАЯ АРХІТЭКТУ́РНАЯ ШКО́ЛА**, самабытная архітэктурная школа, якая склалася ў г. Гродна ў 12 ст. Яе адметныя рысы — цагляная роўнаслаёвая муроўка, незвычайная планавая структура і своеасаблівы дэкор фасадаў. Паводле планавай структуры найб. характэрнымі для Г.а.ш. з'яўляюцца *Гродзенская Ніжняя царква* і недабудаваны *Ваўкавыскі храм* (6-слупавыя пабудовы з адной апсідай і плоскімі лапаткамі). *Гродзенская Прачысценская царква* таксама мае планіроўку, блізкую да Ніжняй царквы, але яе апсіда прамавугольнай формы, што з'яўляецца сведчаннем уплыву *Полацкай архітэктурнай школы*. У Ваўкавыскім храме слупы павінны былі быць крыжовымі, але ў названых вышэй храмах яны квадратныя са скошанымі вугламі. Планіроўка *Гродзенскай Барысаглебскай царквы* іншая — слупы круглыя на прамавугольных падмурках, з У прыбудаваны 3 паўкруглыя выступаючыя апсіды. Вонкавыя пілястры маюць 2-ступеньчаты профіль са скругленымі вугламі. Царква мела фрэскавую размалёўку, якая часткова захавалася. Вывучэнне рэшткаў *Гродзенскага княжацкага пала-*

*ца* дазволіла зрабіць вывад, што гродзенскія палацы адрозніваліся ад аналагічных будынкаў у Смаленску і Полацку манументальнасцю і багаццем аздаблення. Усе гродзенскія мураваныя будынкі мелі падлогі, выкладзеныя разнастайнымі па форме і колеры паліванымі керамічнымі пліткамі са складаным геам. арнаментам, а для паляпшэння акустыкі ў верхнія часткі сцен і скляпенняў умуроўваліся керамічныя збаны — галаснікі, гарлавіны якіх (дыям. 8—10 см) выходзілі ў пэўным парадку на паверхню. Самая характэрная асаблівасць гродзенскіх помнікаў дойлідства 12 ст. — выключная па разнастайнасці дэкаратыўная апрацоўка фасадаў. Для гэтага выкарыстоўваліся розныя па колеры і памерах шліфаваныя камяні і фігурныя керамічныя пліткі, з якіх выкладваліся крыжы і інш. фігуры. Напр., для аздаблення фасадаў Ніжняй царквы былі выкарыстаны зялёнапаліваныя керамічныя начынні накшталт глыбокіх талерак дыям. 24—26 см. Аналіз знакаў на гродзенскай плінфе дазваляе зрабіць вывад, што тут працавалі запрошаныя з Полацка муляры. Пазней яны і іх нашчадкі пераехалі ў Чарнігаў, дзе выраблялі плінфу для будаўніцтва Пятніцкай царквы. П.А.Рапапорт выказаў меркаванне, што заснавальнікам Г.а.ш. быў славуты ўсх.-слав. дойлід Пётр Міланег.

*Літ.*: Раппопорт П.А. Русская архитектура X—XIII вв.: кат. памятников. Ленинград, 1982.

*А.А.Трусаў.*

**ГРО́ДЗЕНСКАЯ БАРЫСАГЛЕ́БСКАЯ ЦАРКВА́**, Каложская царква, помнік архітэктуры апошняй чвэрці 12 ст. Пабудавана ў г. Гродна на высокім правым беразе р. Нёман пры ўпадзенні ў яе р. Гараднічанка, на тэр. б. Каложскага пасада.

Верхняя частка будынка разам са скляпеннямі і купалам аднаўлялася ў 16 і 17 ст. У 1853 царква часткова разбурана ў выніку апоўзня, у 1889 часткова абвалілася паўд. апсіда. У 1890-я г. знішчаныя часткі храма ўзноўлены з дрэва, царква накрыта 2-скатным дахам з маленькім купалам. Ад храма 12 ст. захаваліся паўн. і частка зах. сцяны, 3 апсіды і 2 зах. падкупальныя слупы. Мураваны 6-стаўпавы 3-апсідны крыжова-купальны храм памерамі 13,5 × 21,5 м, таўшч. сцен каля 1,2 м. У к. 19 ст. помнік даследаваў В.В.Грозноў, які выявіў у муроўцы будынка галаснікі, знакі на цэгле і выказаў думку, што царква мела фрэскавую размалёўку. У пач. 20 ст. храм вывучаў П.П.Пакрышкін, які прапанаваў праект яго поўнага аднаўлення. У 1935 раскопкі вёў Ю.Ядкоўскі, які высветліў, што падмуркі царквы зроблены ўсухую з камянёў сярэдніх памераў на глыб. 1,5 м. Унутры храма сабрана шмат паліваных плітак ад падлогі 12 ст., а ў паўн.-ўсх. апсідзе прасочаны кавалак першапачатковай падлогі, над якім знаходзілася праслойка чорнай зямлі таўшч. 5—8 см, вышэй былі знойдзены фр-ты тоўстых (да 5 см) рэльефных арнаментаваных непаліваных плітак памерамі 19,5 × 19,5 см, якія, магчыма, адносяцца да 13 ст. Рэшткі першапачатковай падлогі 12 ст., зробленай з фігурных плітак з зялёнай і жоўтай палівай, прасочаны ў гал. апсідзе. У 1946 храм абследаваў І.М.Хозераў, які адзначыў наяўнасць 4 круглых слупоў, не характэрных для помнікаў дойлідства 12 ст. на тэр. Беларусі. У 1981, 1983—84 царкву даследавалі П.А.Рапапорт і А.А.Трусаў. Ускрыты квадратныя падмуркі паўн.-ўсх., паўн.-зах. і паўд.-зах. слупоў. Высветлена, што дыяметры зах. слупоў маюць амаль аднолькавыя памеры з падкупальнымі (адпаведна 1,85 і 1,72 м). У паўд. апсідзе захаваліся рэшткі падлогі 12 ст., выкладзенай з квадратных і трохвугольных паліваных плітак. У час раскопак каля царквы прасочаны культ. пласт з керамікай 11—12 ст., вызначана месцазнаходжанне больш позняга манастыра (сабрана вял. колькасць непаліванай керамікі 15—16 ст.). Пад час рэстаўрацыйных работ 1985—86 раскрыты фр-ты фрэскавай размалёўкі 16 ст. і шматлікія графіці на сценах. Сцены зроблены з добра абпаленай плінфы памерамі 3,5—4 × 16—16,5 × 26—28 см у тэхніцы роўнаслаёвай муроўкі. Вапнавая рошчына, акрамя цамянкі, мае дамешкі дробнапасечанай саломы і кавалкаў драўніннага вугалю. Муроўка сцен выканана ў лусковай тэхніцы: з цэглы рабіліся толькі шчокі сцяны, а сярэдзіна складалася з забутоўкі — цаглянага друзу і дробных камянёў. Галаснікі (дыям. гарлавін 7—8 см) не толькі стваралі рэзананс, але памяншалі вагу скляпенняў і гарызантальны распор. Таму купал і слупы, што падпіралі скляпенні, былі больш тонкімі, і ўнутраная прастора царквы мае выгляд вял. залы. Параўнальна невял. храм уяўляецца значна большым па плошчы.

*Літ.*: Трусов О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв.: архит.-археол. анализ. Минск, 1988.

*А.А.Трусаў.*

**ГРО́ДЗЕНСКАЯ ВЕ́РХНЯЯ ЦАРКВА́**, помнік старажытнага дойлідства. Пабудавана ў к. 13 — пач. 14 ст. ў г. Гродна на месцы *Гродзенскай Ніжняй царквы* на тэр. *Гродзенскага Старога замка*.

Выяўлена ў 1933 Ю.Ядкоўскім, які ў працэсе даследавання не праводзіў фіксацыі раскопак і не звяртаў увагі на стратыграфію, таму помнік быў цалкам пазбаўлены археал. асяроддзя. Гэта быў невял. храм, квадратны ў плане (8,9 × 8,9 м), з паўкруглай выступаючай апсідай. Вуглы яго былі абрэзаны, што нагадвае абрысы Ніжняй царквы. Падмурак складзены з 2—3 радоў камянёў, у муроўцы выкарыстаны тонкая і тоўстая брусковая цэгла (31 × 17 × 8,7 см, 31 × 16 × 8 см, 30,5 × 15 × 7 см, 28,7 × 13,5 × 7 см). Таўшч. швоў 1—5 см, у якасці рошчыны выкарыстана белая вапна з дамешкамі пяску і жвіру. Падлога была цагляная. Усярэдзіне будынка знойдзены рэшткі крыжовага ў плане слупа са зрэзанымі вугламі, які, на думку М.М.Вароніна, быў зроблены значна пазней. Пазнейшымі ён лічыў і 2 інш. слупы, што аддзялялі апсіду ад асн. аб'ёму будынка. М.М.Воронін прапанаваў першапачатковую рэканструкцыю плана царквы ў выглядзе бесслупавога аб'ёму з вял. апсідай. Сярод даследчыкаў існуюць розныя

версіі наконт часу ўзвядзення помніка. Польскія вучоныя лічылі, што храм пабудаваны ў 13 ст. Я.Вайцяхоўскі звязваў існаванне царквы з часам праўлення вял. князя ВКЛ Міндоўга, але, на яго думку, яна магла знаходзіцца і ў замку вял. князя ВКЛ Вітаўта. М.М.Воронін датаваў храм к. 14 — пач. 15 ст. Літ. даследчыкі С.Абрамаўскас і В.Левандаўскас лічаць, што помнік узведзены ў сяр.—к. 13 ст. А.А.Трусаў і інш. бел. вучоныя, параўнаўшы цэглу Г.В.ц. з цэглай многіх тагачасных пабудоў Беларусі і Літвы робяць выснову, што храм узведзены на мяжы 13 і 14 ст. Па знаходках пляскатай дахоўкі і фігурнай цэглы можна меркаваць, што царква мела высокі гатычны дах і нервюрныя скляпенні. Дахоўка шыр. 15 см, таўшч. 2 см з адным круглаватым канцом і трохвугольным або авальным па форме мацавальным шыпам існавала ў Беларусі ў к. 15—16 ст. Зыходзячы з гэтага, некаторыя даследчыкі лічаць, што Г.В.ц. існавала ў 1-й пал. — сяр. 16 ст. як замкавы храм і была разабрана ў час будаўніцтва замка караля Польшчы і вял. князя ВКЛ Стафана Баторыя ў апошняй чв. 16 ст. *А.А.Трусаў.*

**ГРО́ДЗЕНСКАЯ ГЭС**, археалагічныя помнікі ў зоне будаўніцтва гідраэлектрастанцы ў Гродзенскім і Мастоўскім р-нах, на р. Нёман.

У 2003 у выніку разведак і шурфоўкі на тэр., адведзенай для будаўніцтва і затаплення будучым вадасховішчам, зафіксаваны 33 археал. помнікі: стаянкі каменнага і бронзавага вякоў, крэменеапрацоўчыя майстэрні, селішчы і гарадзішча з матэрыяламі жал. веку, сярэдневякоўя і новага часу, могільнікі. На левым беразе ракі выяўлены помнікі Жылічы-1, 2—5; Славічы-1, 2; Кавальцы-1, 2, 3-Турыст, 4; Дарошавічы-1, 2—3; Дзякалавічы-1, 2; Глядавічы-1; Навасёлкі-1. На правым беразе — Берагавы-1, 2; Сіўкава-1; Александрова-1, 2; Мігова-1; Коматава-1, 2—6; Пужычы-1, 2; Селюкі-1 (да назвы кожнага помніка яшчэ дадаецца абазначэнне — ГЭС).

Першыя раскопкі былі праведзены ў 2003 на паселішчы Жылічы-1 (В.С.Абухоўскі, А.Г.Калечыц, В.Л.Лакіза, М.М.Чарняўскі і інш.). Даследавана звыш 600 м$^2$, выяўлена каля 10 тыс. артэфактаў фінальнага палеаліту, мезаліту, неаліту, бронзавага веку і сярэдневякоўя.

У 2005—06 В.Л.Лакіза даследаваў паселішча Кавальцы 3-Турыст пл. 84 м$^2$.

У 2008 пачалося будаўніцтва ГЭС: узвядзенне плаціны каля в. Шчачынова і земляныя работы ў ложы вадасховішча ад в. Жылічы Гродзенскага р-на да в. Лунна Мастоўскага р-на. Аддзел археалогіі першабытнага грамадства ІГ НАН Беларусі распачаў комплекс выратавальных мерапрыемстваў (раскопкі, нагляд, разведкі і выяўленне новых аб'ектаў) у ахоўных межах усіх помнікаў. Палявыя даследаванні разлічаны на 3 гады (2008—10).

У красавіку 2008 В.Л.Лакіза правёў раскопкі на 5 археал. помніках — Жылічы-1Б (24 м$^2$), Жылічы-2 (41 м$^2$), Жылічы-2А (102 м$^2$), Шчачынова-Падстанцыя (17 м$^2$) і Шчачынова-Плаціна (122 м$^2$). Усяго даследавана 306 м$^2$.

У ліпені—кастрычніку 2008 супрацоўнікамі аддзела археалогіі першабытнага грамадства даследавана яшчэ 9 археал. помнікаў. На правабярэжжы Нёмана: Берагавы-1 (300 м$^2$), Берагавы-2 (80 м$^2$), Сіўкава-1 (136 м$^2$); на левабярэжжы Нёмана: Жылічы-3 (36 м$^2$), Жылічы-4 (64 м$^2$), Жылічы-5 (112 м$^2$), Кавальцы 3-Турыст (300 м$^2$); Кавальцы-1 (440 м$^2$); Кавальцы-2 (208 м$^2$). Усяго даследавана 1676 м$^2$.

У 2009 даследаваны 11 помнікаў. На правабярэжжы Нёмана: Александрова (58 м$^2$), Александрова-2 (272 м$^2$); Коматава-1 (112 м$^2$), Коматава-1А (10 м$^2$), Коматава-2 (120 м$^2$), Коматава-4 (384 м$^2$), Коматава-6 (168 м$^2$), Пузічы-2 (ГЭС) (80 м$^2$); на левабярэжжы Нёмана: Славічы-1 (208 м$^2$), Славічы-2 (168 м$^2$), Кавальцы-4 (158 м$^2$).

У 2008—09 знойдзена каля 50 тыс. разнастайных археал. артэфактаў, сярод якіх крамянёвыя наканечнікі стрэл, скрабкі, разцы, каменныя сякеры, фр-ты ляпнога і ганчарнага посуду, вырабы з каляровага металу і жалеза, разнастайныя і розначасовыя манеты. Даследаваныя помнікі і атрыманыя матэрыялы датуюцца фінальным палеалітам, мезалітам, неалітам, бронзавым і жал. вякамі, эпохай сярэдневякоўя і новага часу.

*Літ.*: Археалагічнае абследаванне ўзбярэжжаў Нёмана ў зоне будаўніцтва Гродзенскай ГЭС // ГАЗ. Мінск, 2004. № 19; Раскопкі паселішча Жылічы 1 // Там жа; Л а к и з а В.Л. Исследования поселений позднего неолита и бронзового века в бассейне Немана // АО 2005. М., 2007. *В.Л.Лакіза.*

**ГРО́ДЗЕНСКАЯ НІ́ЖНЯЯ ЦАРКВА́**, помнік архітэктуры 12 ст. Знаходзілася ў г. Гродна на тэр. *Гродзенскага Старога замка*, на б. дзяцінцы. Захаваліся рэшткі сцен, драўлянай алтарнай сценкі, падлогі з керамічных плітак. Рэшткі зах. і паўд. сцен храма на выш. ад 2 да 3,5 м выявіў у 1932—33 Ю.Ядкоўскі. Ён не звяртаў увагі на стратыграфію і таму быў адхілены ад кіраўніцтва раскопкамі. У 1937—39 даследаванне царквы працягваў З.Дурчэўскі, у 1949 — М.М.Воронін.



*Цэгла з літарнымі знакамі і арнаментальным графіці з* ***Гродзенскай Ніжняй царквы*** *12 ст.*

Царква ўяўляла сабой 6-слупавы храм даўж. каля 16,8 м, шыр. 11,6 м з 3 апсідамі, вуглы будынка зрэзаны. Адкапаны паўн.-зах. слуп, таксама са зрэзанымі вугламі. Фасады і інтэр'еры былі аздоблены плоскімі лапаткамі. Унутраная паверхня сцен мела шматлікія адтуліны, што ўтвараліся гарлавінамі галаснікоў. У паўд.-зах. куце будынка размяшчалася цагляная вітая лесвіца, якая вяла на хоры. Муры царквы складзены з плінфы (сярэднія памеры 3,5—4 × 15 × 25—26,5 см), некаторыя цагліны маюць на тарцах знакі. Падмурак складзены з дробных камянёў без вапнавай рошчыны. Знойдзены кавалкі аплаўленых у агні свінцовых лістоў даху. Фасады храма былі ўпрыгожаны керамічнымі паліванымі пліткамі рознай формы, вял. шліфаванымі камянямі і паліванымі круглымі блюдамі. Захаваліся рэшткі падлогі з керамічных паліваных плітак, якія стваралі складаны геам. малюнак. Царква не мела фрэскавай размалёўкі. Былі прасочаны таксама рэшткі драўлянай алтарнай сценкі, некалі аздобленай шматлікімі меднымі пласцінкамі з markмі выявамі. Знойдзены кавалкі панікадзілаў, лампад, рэшткі звона з рэльефным надпісам.

*Літ.*: В о р о н и н Н.Н. Древнее Гродно: (по материалам археол. раскопок 1932—1949 гг.). М., 1954; М а л е в с к а я М.В. К реконструкции майоликового пола Нижней церкви в Гродно // Культура Древней Руси. М., 1966; Р а п п о п о р т П.А. Русская архитектура X—XIII вв.: кат. памятников. Ленинград, 1982.

*А.А.Трусаў.*

**ГРО́ДЗЕНСКАЯ ПРАЧЫ́СЦЕНСКАЯ ЦАРКВА́**, помнік археалогіі ў г. Гродна. Пабудавана ў 12 ст. на сучаснай вул. Новазамкавая ў тэхніцы рознаслаёвай муроўкі з выкарыстаннем дэкаратыўных элементаў, характэрных для *Гродзенскай архітэктурнай школы.* Ад гал. фасада застаўся толькі падмурак. У апсіднай частцы муроўка сцен захавалася на выш. да 1,5 м, паніжаецца ў зах. кірунку. У 1-й пал. 15 ст. храм капітальна адрамантаваны з выкарыстаннем буйнапамернай цэглы-пальчаткі цёмна-чырвонага колеру. Даследаванні рэштак царквы праведзены ў 1980 архіт.-археал. экспедыцыяй Спец. навук.-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў Мін-ва культуры БССР (кіраўнік І.М.Чарняўскі) пры ўдзеле археал. атрада Гродзенскага ун-та (кіраўнік М.А.Ткачоў). Царква ўяўляла сабой 6-слупавы 3-нефавы храм з 3 прамавугольнымі ў плане апсідамі. Даўж. яго 12,5 м, шыр. 3,8 м, даўж. падкупальнай прасторы 3,35 м. Падмуркі царквы глыб. 0,5 м складзены насуха з камянёў розных памераў. Вышэй каменнага падмурка ідзе муроўка на цамяначнай рошчыне. Пераважае плінфа вял. памеру. Пры раскопках знойдзена некалькі экзэмпляраў лякальных цаглін, якія выкарыстоўваліся для вымуроўкі калонак, карнізаў і інш. архіт. дэталей верхняй часткі храма. Ніжнія 5 радоў муроўкі сцен выступаюць на 0,2 м, утвараючы ступеньчаты цокаль, які ахоплівае будынак па ўнутраным перыметры. Аналагічны цокаль ёсць і з вонкавага боку. Муроўка сцен парадковая, без пэўнага парадку ў чаргаванні старчкоў і рубаў. У цэнтр. апсідзе выяўлены рэшткі 2 канструкцый з плінфы. Адна з іх мае фігурныя абрысы і прымыкае непасрэдна да ўсх. сцяны, другая, прамавугольная ў плане, размяшчаецца пасярод алтара. У паўд.-зах. частцы храма выяўлены рэшткі падлогі з маёлікавых плітак зялёнага, жоўтага і карычневага колеру. Акрамя таго, у розных частках храма пры раскопках трапляліся квадратныя, трохвугольныя, трапецападобныя са скошанымі вугламі, круглыя, сегментападобныя пліткі і шматлікія іх фр-ты. У царкве каля паўд. партала выяўлены прыступкі з 2 апрацаваных камянёў. Знойдзены таксама абломкі галаснікоў, фр-ты і цэлыя часткі дэкору сцен — паліваных плітак у выглядзе пялёсткаў, крыжоў, іх цэнтр. частак квадратнай формы. Для аздаблення фасадаў у муроўку з плінфы ўводзіліся шліфаваныя камяні розных памераў. У завалах буд. матэрыялу знойдзены кавалкі расплаўленага свінцу (відавочна, рэшткі першапачатковага пакрыцця храма). Пад царквой залягае культ. пласт 11—12 ст. таўшч. 0,2—0,6 м. Храм быў знішчаны пажарам каля 1654. З 2-й пал. 17 ст. на гэтым месцы размяшчаліся магільныя скляпы, зробленыя ў выглядзе паўцыліндрычных аб'ёмаў. У пач. 18 ст. рэшткі храма разабраны, а пры будаўніцтве манастыра базыльянак, якое пачалося ў 1720, засыпаны буд. друзам. *І.М.Чарняўскі.*

**ГРО́ДЗЕНСКІ ВАКО́ЛЬНЫ ГО́РАД**, умацаваная гандлёва-рамесніцкая частка сярэдневяковага Гродна. Размяшчаўся на ўзвышшы Новы Замак побач з *Гродзенскім Старым замкам.* З 14 ст. вядомы як Гродзенскі Ніжні замак. З Пд абмежаваны высокім абрывам берага Нёмана, з У — глыбокім ярам, які да 18 ст. амаль цалкам абкружаў Новы замак, пазней засыпаны. У 1987—88 А.К.Краўцэвіч даследаваў 40 $м^2$ у паўд.-зах. частцы. Культ. пласт да 3,3 м. Амаль на самым мацерыку прасочваюцца сляды пажару. Выяўлены фр-ты керамічнага посуду 12—13 ст. (у перадмацерыковым пласце — 11 ст.), вял. колькасць прамавугольнай (28 × 16,5 × 3,5 см) і фігурнай плінфы, 4 фр-ты маёлікавых плітак падлогі і 3 — галаснікоў 12 ст. Знаходкі дазваляюць меркаваць пра існаванне ў 12 ст. на вакольным горадзе Васкрасенскай царквы — помніка *Гродзенскай архітэктурнай школы.* Астатнія матэрыялы датуюцца 15—18 ст. Знойдзены вял. колькасць керамічнага посуду, фр-ты фаянсавых талерак, шкляныя бутэлькі, кварты, стопкі, бутлі, слоікі 17—19 ст., маёлікавыя міскі і талеркі 18 ст., аптэчны посуд к. 19 — пач. 20 ст., фр-ты гаршковай кафлі 14—15 і 16—17 ст. з круглым, квадратным і прамавугольным вусцем, каробчатай кафлі к. 16—17 ст. з зялёнай палівай, паглыбленай выявай шматпялёсткавай разеткі з дывановым арнаментам, металічныя абутковыя падкоўкі, дужка шпоры 15—16 ст., цвікі і інш. *А.К.Краўцэвіч.*

**ГРО́ДЗЕНСКІ ДЗЯРЖА́ЎНЫ УНІВЕРСІТЭ́Т** і м я Я н к і К у п а л ы. Засн. ў 1940 як Гро-

дзенскі настаўніцкі ін-т, з 1944 педагагічны, з 1977 ун-т, з 1988 сучасная назва.

Кафедра археалогіі і этналогіі ун-та створана ў 2002. У яе складзе д-р гіст. навук, праф. С.Я.Сяльверстава (з 2007), канд. гіст. навук, дацэнты Г.М.Семянчук (з 2003 заг. археал. лабараторыі), С.А.Піваварчык (з 2008 заг. кафедры), І.А.Фёдараў (заг. кафедры ў 2001—08), старшыя выкладчыкі І.Д.Бельская, А.А.Дабрыян, выкладчык Ю.В.Юркавец (з 2004). Кафедра забяспечвае выкладанне вучэбных дысцыплін: археалогія, археалогія Беларусі, этналогія, этнаграфія Беларусі, гісторыя першабытнага мастацтва, спец. гіст. дысцыпліны, сацыяльна-культ. антрапалогія, методыка выкладання гісторыі, археаграфія, музеязнаўства, дакументазнаўства, ахова працы, спецкурсы; арганізоўвае правядзенне археал.-этнагр., педагагічнай і інфармацыйнай практык.

На кафедры шмат увагі надаецца навук. даследаванням і супрацоўніцтву з навуч. і навук. ўстановамі Беларусі і замежных краін. Рэалізуюцца дагаворы аб супрацоўніцтве з ІГ НАН Беларусі, Ін-там славяназнаўства РАН (Масква), Ін-там археалогіі і этналогіі Польскай АН (Варшава), Ін-там этналогіі і культ. антрапалогіі, ІГ Ягелонскага ун-та (абодва Кракаў), Падляскім музеем у Беластоку, ІГ Ун-та ў Беластоку, Ін-там археалогіі ун-та ў Лодзі, Трабскай базавай школай у в. Трабы Іўеўскага р-на. Выкладчыкі і студэнты ўдзельнічалі ў арганізацыі і правядзенні археал. даследаванняў у г. Ваўкавыск, г.п. Красносельскі Ваўкавыскага р-на, в. Турэйск Шчучынскага р-на, у г. Нясвіж, у Гродне — на месцах буд. работ на Савецкай пл., вул. Траецкая, рэканструкцыі пажарнай службы па вул. Замкавая, Каложскай царквы, у зоне будаўніцтва Гродзенскай ГЭС (сумесная экспедыцыя з ІГ НАН Беларусі), у стварэнні этнагр. музея ў в. Трабы. На працягу 2006—08 у рамках выканання сумеснага праекта «Ахова і вывучэнне археалагічнай спадчыны беларуска-польскага памежжа» з Падляскім музеем у Беластоку і ун-там у Лодзі была арганізавана сумесная экспедыцыя па даследаванні сядзібы Сапегаў у Дубне (Падляскае ваяводства). У 2008—09 выкладчыкі і студэнты кафедры ўдзельнічалі ў даследаваннях археал. помнікаў у зоне будаўніцтва аўтамагістралі ў Мазавецкім ваяводстве (разам з Ін-там археалогіі і этналогіі Польскай АН).

Кафедра — ініцыятар і арганізатар навук. канферэнцый: «90 гадоў Гродзенскай крэпасці» (2002), «Праблемы выкладання дысцыплін археолага-эінаграфічнага цыклу ў ВНУ» (2004, 2006), «Становішча археалагічных даследаванняў на беларуска-польскім памежжы ад ранняга сярэдневякоўя да новага часу» (сумесна з Падляскім музеем у Беластоку, 2006), «Рэгіянальныя адрозненні ў дэкоры і формах кафлі ад сярэдневякоўя да новага часу» (з Падляскім музеем у Беластоку і Ін-там археалогіі і этналогіі Польскай АН), «Этнаграфічнае вывучэнне беларуска-польска-ўкра-



*Кафедра археалогіі і этналогіі* ***Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта*** *імя Я.Купалы: у 1-м радзе ўнізе (злева направа) С.Я.Сяльверстава, Н.Г.Філіна; у 2-м радзе — А.А.Дабрыян, С.А.Піваварчык, І.А.Фёдараў, Г.М.Семянчук.*



*Гродзенскі Стары замак (на пярэднім плане рэшткі абарончай сцяны).*

інскага памежжа» (з Ін-там этналогіі і культ. антрапалогіі Ягелонскага ун-та; абедзве 2007), «Археалагічная спадчына Заходняй Беларусі і суседніх рэгіёнаў: праблемы вывучэння, захавання і выкарыстання» (з ІГ НАН Беларусі, 2008). Па выніках даследаванняў выдадзены зб-кі навук. матэрыялаў: «Становішча археалагічных даследаванняў на беларуска-польскім памежжы ад ранняга сярэдневякоўя да новага часу» (Беласток, 2006), «Рэзідэнцыя Сапегаў у Дубне» (Беласток, ч. 1—2, 2007—08), «Кафлі сярэдневякоўя і Новага часу. Рэгіяналізмы—Падабенства—Адрозненні» (Беласток, 2007). Пры кафедры створаны навучальныя музейныя экспазіцыі па археалогіі і этнаграфіі, працуюць 2 навук. студэнцкія гурткі.

*С.А.Піваварчык.*

**ГРО́ДЗЕНСКІ КНЯ́ЖАЦКІ ПАЛА́Ц**, помнік архітэктуры 12 ст. Размяшчаўся ў г. Гродна на тэр. *Гродзенскага Старога замка*, на паўд. рагу Гродзенскага дзяцінца. Даследаваў у 1932—33 Ю.Ядкоўскі. Палац быў 2-павярховы, меў драўляныя перакрыцці на бэльках. Сцены зроблены з плінфы памерамі 4—5 × 18—20 × 29,5—31 см у роўнаслаёвай тэхніцы, на тарцах цаглін ёсць знакі. Звонку ў сцены былі ўмураваны рады амаль неапрацаваных камянёў. Падмурак таўшч. 35—40 см складзены з аднаго рада камянёў і праслойкі бітай плінфы і вапны пад ім, знаходзіўся ў культ. пласце 11—12 ст. Пры раскопках выяўлена паўн. сцяна даўж. 9,7 м, выш. да 2 м, пасярэдзіне яе захаваўся дзвярны праём шыр. 1,6 м. Знойдзены паліваныя пліткі ад падлогі 12 ст. (у т.л. фігурныя), злüткі аплаўленага свінцу, шматлікія бытавыя рэчы. У к. 14 — пач. 15 ст. да палаца быў прыбудаваны ганак (на брусковай цэгле прасочаны некалькі метак). У 16 ст. пры ўзвядзенні Старога замка будынак быў разбураны. Ю.Ядкоўскі і інш. даследчыкі 1930-х г. лічылі знойдзеную пабудову рэшткамі княжацкага палаца, а М.М.Варонін — рэшткамі абарончай вежы. Даследаванні П.А.Рапапорта і А.А.Трусава ў 1981 пацвердзілі меркаванне Ю.Ядкоўскага. Яны выказалі таксама думку, што палац мог выконваць і абарончую функцыю ў к. 14 — пач. 16 ст., калі ўвайшоў у склад мураванага замка, пабудаванага вял. князем ВКЛ Вітаўтам, пра што сведчаць знаходкі ў памяшканнях палаца каменных гарматных ядраў.

*Літ.*: Р а п п о п о р т П.А. Русская архитектура X—XIII вв.: кат. памятников. Ленинград, 1982; Т р у с о в О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв.: архит.-археол. анализ. Минск, 1988.

*А.А.Трусаў.*

**ГРО́ДЗЕНСКІ СТАРЫ́ ЗА́МАК**, комплекс абарончых збудаванняў, які існаваў у 11—18 ст. у г. Гродна на высокім правым беразе р. Нёман пры ўпадзенні ў яе р. Гараднічанка. Першапачаткова меў выгляд земляных умацаванняў з частаколам і зрубамі-гароднямі. Унутры вала існавалі дубовыя каркасныя канструкцыі, аснова вала была з самага пачатку ўмацавана камянямі. У 2-й пал. 12 ст. ўзведзены мураваныя сцены з плінфы. У 2-й пал. 13 ст. з У узведзена круглая вежа — мураваны «стоўп». У выніку шматлікіх аблог крыжакамі ў к. 12 — пач. 14 ст. асобныя ўчасткі мураваных умацаванняў паступова былі разбураны і заменены драўлянымі. На дзяцінцы знаходзіліся драўляныя жылыя і гасп. пабудовы, мураваны *Гродзенскі княжацкі палац* і *Гродзенская Ніжняя царква*. На мяжы 13—14 ст. на гэтым месцы ўзвялі другі храм — *Гродзенскую Верхнюю царкву*. Пасля пажару ў 1398 сцены замка з плінфы заменены сценамі з валуноў і буйнапамернай брусковай цэглы. У плане замак набыў форму няправільнага трохвугольніка. Сцяна, звернутая да Нёмана, мела даўж. 120 м, сцяна з боку Гараднічанкі — 90 м, з боку горада складалася з 2 частак — 46 і 24 м. Таўшч. сцен 2,5—3 м. У Г.С.з. было 5 вежаў. Вежа-брама з турмой пад ёй мела пад'ёмны мост цераз сухі роў, які аддзяляў яе ад гар. пасада (Ніжняга замка). У верхняй частцы вежы знаходзіліся навісаючыя байніцы-абламы, за зубцамі — баявая пляцоўка. 2-я вежа стаяла на Пд ад 1-й, 3-я — на зах. баку гары, на мысе над Гараднічанкай, 4-я — на паўн.-ўсх. напрамку, з боку горада, 5-я — у заломе муроў з усх. боку, каля ўязной вежы. 5-я вежа была круглая ў плане, астатнія — квадратныя (каля 12 × 12 м). Паміж 4-й і 5-й вежамі знаходзіўся палац вял. князя ВКЛ Вітаўта, пабудаваны ў к. 14 — пач. 15 ст. Будынак (45 × 15 м) быў 2-павярховы, з тоўстымі сценамі. Пакоі ў ім размяшчаліся ў рад. У звернутай у бок горада сцяне вокны 2-га паверха мелі выгляд вузкіх байніц. Цэнтр. частка замкавага двара мела драўляную жылую забудову, якая захоўвала сваю планіроўку на працягу 12—17 ст. Невял. драўляныя дамы належылі рамеснікам і чэлядзі. Сярэднія памеры гродзенскіх жылых пабудоў 11—14 ст. складалі 12—16 м, шыр. вуліц — 2—3,2 м. Найб. інтэнсіўнае будаўніцтва на тэр. замка ішло ў 12 — пач. 13 ст. Забудова тут аднаўлялася кожныя 6—8 гадоў. У 1580 падчас узвядзення новага палаца караля Польшчы і вял. князя ВКЛ С.Баторыя вежу-браму і «стоўп» разбурылі. Пазней былі знесены або надбудаваны з дрэва астатнія вежы. Глыб. залягання падмуркаў палаца С.Баторыя — 3 м. На 1-м паверсе палаца знаходзіліся памяшканні са скляпеннямі, якія выкарыстоўваліся для ваенных і гасп. патрэб.

Другі паверх займалі каралеўскія пакоі — памяшканні з высокімі разнымі і ляпнымі, муравanymi альбо керамічнымі (з паліваных align разнакаляровых плітак) падлогамі, кафлянымі печамі і дэкаратыўнымі каменнымі парталамі. Сцены памяшканняў знутры былі аблямаваны паліраваным гіпсам. Каменны разны дэкор быў дапоўнены зграфітаваным роспісам з расліннымі міфалагічнымі матывамі. Да паўн. крыла палаца прымыкаў выцягнуты ўздоўж замкавай сцяны будынак з сенцамі пасярэдзіне. Далей знаходзіўся кухонны блок. Уздоўж зах. сцяны месціліся складскія памяшканні са скляпеннымі на арачных падмурках. Над імі знаходзіліся парадныя пакоі, якія пры дапамозе крытай галерэі злучаліся з каралеўскай лазняй. Усе збудаванні замкавага комплексу мелі атынкаваныя і пабеленыя сцены і дахі, пакрытыя пляскатай чырвонай дахоўкай. Некаторыя вучоныя лічаць, што палац збудаваў архіт. Скота з г. Парма (Італія). Другія даследчыкі называюць імя С.Гучы з г. Фларэнцыя (Італія). Замкавыя ўмацаванні былі канчаткова знішчаны ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67. У 1690-я г. будынкі былі аднаўлены канцлерам ВКЛ К.Пацам. У Паўн. вайну 1700—21 замак ізноў пацярпеў. Пасля ўзвядзення Новага замка ў сяр. 18 ст. Г.С.з. канчаткова згубіў характар умацаванай каралеўскай і велікакняжацкай рэзідэнцыі і быў перабудаваны саксонскімі архітэктарамі Пёпельманам і Кнобелем.

Археал. раскопкі замка праводзілі Ю.Ядкоўскі (1932—34), З.Дурчэўскі (1937—39), М.М. Воронін (1949), М.А.Ткачоў і Я.Г.Звяруга (1971), А.А.Трусаў (1977, 1981, 1985—88).

*Літ.*: Т к а ч о ў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII ст. Мінск, 1978; Т р у с а ў А.А., С о б а л ь В.Е., З д а н о в і ч Н.І. Стары замак у Гродне XI—XVIII стст.: гіст.-археал. нарыс. Мінск, 1993. *А.А.Трусаў.*

**ГРО́ДЗЕНСКІ ЦАРКО́ЎНА-АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ КАМІТЭ́Т**, Г р о д з е н с к і   а р х е а л а г і ч н ы   к а м і т э т, установа, якая збірала, вывучала, ахоўвала і папулярызавала пісьмовыя помнікі і помнікі матэрыяльнай культуры на тэр. Гродзенскай губ. ў 1904—15. Створаны 9.12.1904, статут зацверджаны ў 1905. К-т стварыў музей («сховішча старажытнасцей»), які з 1907 размяшчаўся ў памяшканні Барысаглебскага манастыра. Справаздачы пра дзейнасць к-та рэгулярна друкаваліся ў «Гродненских епархиальных ведомостях» і «Вестнике Виленского православного святодуховского братства». Спыніў існаванне ў сувязі з акупацыяй тэр. губерні войскамі Германіі ў 1-ю сусветную вайну.

*Літ.*: О р л о в с к и й Е. Гродненская старина. Ч.1. Гродно, 1910.

**ГРО́ДЗЕНСКІЯ МУРЫ́**, рэшткі мураваных сцен 12 ст. на тэрыторыі *Гродзенскага Старога замка.* Узведзены на грэбені стараж. вала, мелі абарончае і часткова дэкаратыўнае прызначэнне. У 1937 польскія археолагі выявілі ў паўн.-зах. частцы дзяцінца фр-т складзенай з плінфы сцяны даўж. каля 4,5 м, выш. каля 1,8 м. У 1949 яго абследаваў М.М.Воронін і выказаў меркаванне, што гэта рэшткі вуглавой абарончай вежы гродзенскага дзяцінца. У 1981 муры даследавалі П.А.Рапапорт і А.А.Трусаў, у 1985—86 А.А.Трусаў і М.А.Ткачоў, у 1988 А.А.Трусаў. Даўж. выяўленай часткі сцяны каля 12 м. У 1988 развал сцяны на паўн. схіле Замкавай гары прасочаны на працягу 20—22 м. Даўж. цаглянага муру ў гэтай частцы стараж. дзяцінца некалі раўнялася 42—45 м. Муроўка захавалася на выш. каля 0,6 м. Сярэдняя частка сцяны часткова разбурана будаўніцтвам гатычнага каземата 15 ст. (разбураны хутчэй за ўсё ў 16 ст., яго спаленая драўляная падлога ляжыць непасрэдна на развале стараж. муроўкі). Сцяна практычна не мае падмурка і збудавана на тонкай праслойцы буд. друзу. Тэхніка муроўкі роўнаслаёвая. Памеры плінфы 27—29 × 16,5—18 × 3,5—4,5 см. Яна добра абпалена, некаторыя цагліны плінфы маюць на тарцах выпуклыя знакі ў выглядзе літар і розных геам. фігур. У муроўцы выкарыстаны розныя тыпы лякальнай плінфы: трапецападобная, з паўкруглым канцом і інш. Плінфа пакладзена на вапнавай рошчыне з дамешкамі цамянкі, гарызантальныя швы паміж цаглінамі прыкладна роўныя па таўшчыні цаглінам. Таўшч. цаглянага муру 1,4—1,5 м. Захаваліся 2 скразныя круглыя адтуліны дыям. 15 см ад падоўжных драўляных сувязей, якія выкарыстоўваліся ў якасці арматуры. У час раскопак перад сцяной на схіле Замкавай гары выяўлены фр-т б. муру. Яго памеры і суадносіны з рэшткамі сцяны дазваляюць меркаваць, што выш. цаглянага муру была не менш за 5 м. Глыб. развалу сцяны на паўн. схіле дзяцінца 1,9—2 м ад сучаснай дзённай паверхні. Сама сцяна знішчана пажарам, верагодна, звязаным з ва-



*Гродзенскі Стары замак у 14 ст. Рэканструкцыя.*

еннымі дзеяннямі, пра што сведчыць знаходка шпоры 13—14 ст. у пласце пажару пад разваламі сцяны 12 ст.

Рэшткі яшчэ аднаго цаглянага муру 12 ст. выявілі ў 1986 А.А.Трусаў і М.А.Ткачоў ва ўсх. часткі дзяцінца каля палаца 16 ст. Сцяна складзена з плінфы розных памераў, у муроўцы выкарыстана трапецападобная цэгла (некаторыя цагліны маюць на тарцы знакі). Фармат плінфы прыблізна роўны 4 × 16 × 29 см. Даўж. выяўленага фр-та муроўкі 6 м, далейшы працяг сцяны ідзе на ўсх. профіль раскопу. Сцяна шыр. 1—1,3 м праходзіла па стараж. схіле Замкавай гары, захавалася на выш. да 1,6 м, не мае падмурка. Непасрэдна пад сцяной на глыб. каля 2,8 м ад сучаснай дзённай паверхні ідзе праслойка белага пяску таўшч. 0,2—0,3 м. Пад ёй выяўлены сляды моцнага пажару. Верагодна, пасля яго, калі былі знішчаны драўляныя ўмацаванні замка, і ўзводзілася мураваная сцяна з плінфы. У час будаўніцтва палаца 16 ст. гэтую сцяну часткова разбурылі і засыпалі тоўстым слоем зямлі.

*Літ.*: Трусов О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв.: архит.-археол. анализ. Минск, 1988. *А.А.Трусаў.*

**ГРО́ДНА** (летапісны Городна, Городня, Городень), горад, цэнтр Гродзенскай вобл., на р. Нёман.

Першае паселішча на тэр. сучаснага горада засн. ўсх. славянамі на мысе пры ўпадзенні ў Нёман р. Гараднічанка (Стары замак) у к. 10 — пач. 11 ст. У 11—12 ст. сфарміравалася тыповая структура сярэдневяковага горада: дзяцінец (Стары замак) — вакольны горад (Новы замак) — неўмацаваныя пасады ў раёне б. базыльянскага кляштара, Барысаглебскай царквы, сінагогі і вышэй па цячэнні Нёмана (цяпер вул. Падольная).

Пад 1116 упершыню ўпамінаецца гарадзенскі князь. Першая летапісная згадка пра горад адносіцца да 1127. У 12 ст. Гарадзенскае княства знаходзілася ў сферы палітычнага ўплыву Кіеўскай Русі, у 1-й пал. 13 ст. — Галіцка-Валынскага княства. Да к. 12 ст. тут сфарміравалася самабытная *Гродзенская архітэктурная школа*, якая вызначалася адметнымі кампазіцыйнымі прыёмамі і буд. тэхнікай, надзвычай эфектным дэкорам вонкавай паверхні сцен збудаванняў. З 1240-х г. горад у складзе ВКЛ. У часы войнаў з Тэўтонскім ордэнам (1283—1410) Г. было гал. стратэгічным пунктам абароны зах. мяжы ВКЛ. На мяжы 14—15 ст. па загаду вял. князя літ. Вітаўта на месцы драўляных умацаванняў дзяцінца быў узведзены мураваны гатычны замак. У 1391 горад атрымаў магдэбургскае права. На ўскрайку Г. з'явіўся новы гар. цэнтр — гандл. плошча з ратушай, вакол якой пачаў фарміравацца пасад, гал. вуліцы якога (напр., Віленская, Азёрская) адпавядалі кірункам гандл. шляхоў.

Археал. даследаванні ў Г. канцэнтраваліся гал. чынам на тэр. Старога замка, вакол Гродзенскай *Барысаглебскай царквы* 12 ст. і на падворку б. кляштара базыльянак. У пач. 20 ст. архіт.-археал. даследаванні, у т.л. раскопкі, на тэр. Барысаглебскай царквы праведзены расійскім архіт. П.Пакрышкіным. На Старым замку падчас раскопак 1931—33 Ю.Ядкоўскім выяўлены рэшткі драўлянай забудовы, багатая матэрыяльная культура 11—13 ст., некалькі мураваных пабудоў 12 ст.: княжацкі церам, Ніжняя царква 12 ст., фр-т мураванай сцяны ў сістэме драўляных умацаванняў. У 1937—39 раскопкі правёў З.Дурчэўскі, у 1949 — М.М.Воронін. У 1971 М.А.Ткачоў заклаў шурфоўку некаторых архіт. аб'ектаў на Старым замку. У 1971—73 Я.Г.Звяруга даследаваў Каложскае плато непадалёку ад Барысаглебскай царквы. У 1977, 1981, 1983—88 А.А.Трусаў праводзіў даследаванні на тэр. Старога замка і Каложскага манастыра. У 1992—93 ён раскапаў падмуркі гатычнага фарнага касцёла 16 ст. (т.зв. Фара Вітаўта). У 1980—81 І.М.Чарняўскі вёў даследаванні на падворку кляштара базыльянак, у 1983, 1986—88 вывучаў тэр. *гарадзенскіх пасадаў* і вакольнага горада (Новы замак). У 1985 Г.М.Сагановіч даследа-

*Чорнаглянцавая пасудзіна (17 ст.) і гаршчок (12 ст.) з **Гродна**.*









*Падсвечнікі і арнаментаваны рог (усе 12 ст.) з* ***Гродна***.

ваў кляштар св. Брыгіты. У 1989—90 раскопкі на тэр. пасадаў ажыццяўляў Р.Акінчыц.

Культ. пласт дзяцінца магутнасцю каля 8—10 м падзяляецца на 4 стратыграфічныя гарызонты. Верхні ўяўляе сабой нівеліраваную падсыпку з буйназярністага рачнога пяску з праслойкамі грунту, бітай цэглы і буд. смецця. Другі (30—40 см) уключае брукаваную вымастку з камянёў дыям. 30—40 см, пабеленую вапнай, і пясчаную падсыпку. Трэці (30—50 см) залягае пад пясчанай падушкай, тут выяўлены кераміка 16—18 ст., кавалкі дошак, бітая цэгла, валуны, попел і інш. Чацвёрты гарызонт магутнасцю да 7 м захоўвае драўляныя збудаванні, большую частку прылад працы, прадметы побыту, узбраення, кераміку 10—17 ст. Культ. пласт мае нязначнае агульнае паніжэнне да цэнтра дзяцінца. Вылучаецца магутны слой 12 ст. (таўшч. больш за 3 м), насычаны слядамі мураванага будаўніцтва на дзяцінцы (цэгла, плінфа са знакамі на тарцах, шліфаваныя валуны, керамічныя паліваныя пліткі падлогі і фасада, вапна, пясок і інш.). Іх аналіз паказвае, што на дзяцінцы з 1130-х г. пастаянна вялося будаўніцтва мураваных аб'ектаў: *Гродзенскай Ніжняй царквы*, *Гродзенскага княжацкага палаца*, каменна-плінфавых абарончых сцен і вежаў. Найб. масавыя знаходкі — керамічныя вырабы (больш за 3 тыс. фр-таў). Самыя раннія з іх датуюцца рубяжом н.э. і адносяцца да *штрыхаванай керамікі культуры*. Ёсць нешматлікія абломкі грубаляпнога посуду 6—8 ст. Раннеганчарная кераміка прадстаўлена венчыкамі і сценкамі гаршкоў 10 ст., падпраўленымі на крузе. Кераміка 11 ст. мае характэрнае дробнае рыфленне паверхні пасудзін і венчыкі з карнізікам. На донцах ёсць клеймы. Астатняя кераміка па структуры цеста і характары апрацоўкі падзяляецца на шэра-, чырвонагліняную, задымленую, глянцаваную і паліваную. Арнаментацыя пасудзін разнастайная: шматрадная грабеньчатая хваля, рыфленне трэскай, геам. ўзоры, сетка, зігзаг, наколы, насечкі, штампаваны арнамент. Асаблівасцю мясц. керамікі з'яўляецца ўпрыгожванне тулава гаршкоў накладным валікам, які аздабляўся штампаванымі ўзорамі ці косымі насечкамі ў выглядзе елачак. Сярод талерак 17—18 ст. ёсць глянцаваныя і чорнаглянцаваныя, з палівай зялёнага колеру. Міскі пакрыты палівай і ўпрыгожаны па борціку падглазурнай размалёўкай. Знойдзены таксама фр-ты амфар, тыглі 12 ст. трохвугольнай і гаршкападобнай формы са слядамі палівы. Сабрана больш за 2 тыс. фр-таў кафлі: гаршковая 15—16 ст. з круглым і квадратным вусцем; каробчатая к. 16 — 1-й пал. 17 ст.; галандская 2-й пал. 18 ст. з гладкай паверхняй, пакрытай светла-зялёнай палівай альбо размалёўкай. Сярод буд. матэрыялаў пераважае прамавугольная плінфа; знойдзены галаснікі 12 ст. У культ. адкладах 13—17 ст. сабрана вял. колькасць буйнапамернай цэглы. Выяўлена каля 90 фр-таў архіт.-дэкаратыўнай керамікі: пліткі падлогі і фасадныя (12 ст.), квадратныя паліваныя пліткі (16 ст.), фр-ты дахоўкі тыпу «бабровы хвост» (самая ранняя — 15 ст.), плоскай з круглаватай пяткай (к. 16 — 1-я пал. 17 ст.), хвалістай (18 ст.). Сярод знаходак: шыферныя праслíцы, гліняныя грузілы ад рыбацкіх сетак, тачыльныя брускі з пясчаніку, двухбаковыя грабяні, жорны дыскападобнай формы, кавалкі бурштыну, адыходы кастарэзнай вытворчасці, касцяныя накладкі, двухбаковыя грабяні, шкляныя вырабы — пацеркі, бранзалеты, абломкі імпартнай шкляной пасудзіны са слядамі пазалоты, аконнае шкло 16—17 ст., фр-ты бутэлек, штофаў, аптэчны посуд. Пра пашыранасць ювелірнага ліцця сведчаць знаходкі 12 ліцейных формачак з вапняку і шыферу, тыгляў-льячак, абломкаў літых алавяных упрыгажэнняў. Знойдзены унікальныя шахматныя фігуркі: ладдзя са светлага каменю з 4 воінамі са шчытамі на ёй і бронзавы вадаліў у выглядзе рыцара на кані. Пры раскопках Ніжняй царквы і яе наваколля знойдзены плоскія медныя пласціны (відавочна, рэшткі аздаблення алтарнай часткі храма) з гравіраванымі выявамі святых у медальёнах і абрамленнем у выглядзе арнаментальнай пляцёнкі, на якіх захаваліся сляды агнявога залачэння чырвоным золатам; абломкі зва-

ноў 12 ст. Знойдзена каля 2,7 тыс. фр-таў скураных дэталей абутку, паводле якіх можна аднавіць 4 віды абутку 11—16 ст.: поршні, башмакі, чаравікі і боты. Сярод скураных вырабаў — кашалёк, фр-т скуранай сумкі, ножны, пляцёны бізун з сырамятных раменьчыкаў. Выяўлена шмат прылад працы: падоўжная піла, сякера, кельма 15—16 ст., сашнік, скобля, сярпы, абломкі кос, некалькі дзесяткаў тронкавых нажоў, спружынныя і шарнірныя нажніцы, іголкі, шылы, бытавыя прадметы — крэсівы розных форм, цыліндрычныя замкі і іх дэталі, ключы, прабоі, цвікі. Знойдзены прадметы рыштунку конніка і каня (шпоры, абломкі псалій, стрэмені, падпружныя спражкі і інш.), зброя (бронзавая булава, арбалетныя балты і наканечнікі стрэл, суліцы, коп'і і ўтулкі ад іх, панцырныя пласцінкі). Выяўлены драўляныя вырабы: клёпкі, кадкі, бочкі, цэбры, маслабойкі, точаныя міскі, кубкі, рыдлёўкі, лыжка, калаўрот, верацяно і інш. Знойдзены высечаныя ў бярвёнах лесвіцы, берасцянка са знакам Рурыкавічаў на днішчы. Вывучаны 22 буд. ярусы; ускрыты жылыя гасп. пабудовы, 2 вулічныя маставыя, частаколавыя агароджы. Жылыя будынкі (памерамі ад 3,4 × 3,4 і да 5,9 × 5,4 м) мелі глінабітныя з уключэннем камянёў печы на драўляных платформах. Зрубы вязаліся «ў абло», ставіліся на розныя фундаментныя канструкцыі, мелі падлогі на лагах, якія шматразова перасціլаліся. У пластах 13 ст. зафіксаваны пабудовы з брусоў. Гасп. пабудовы (хлявы, свірны, куратнікі, клеці) розных памераў узведзены «ў чашку», «у храпку», «у шулу», «у замёт» і «ў абло»; існавалі рамачна-стоечныя канструкцыі. Вулічныя маставыя шыр. 1,8—2,05 м масцілі з плах і дошак на 2—3 лагах. Археал. матэрыялы сведчаць пра развіццё ворнага земляробства. Знойдзена зерне жыта, аўса, проса, грэчкі, пшаніцы, а таксама гарох, конскі боб. Аналіз касцей дзікай і свойскай жывёлы, птушак, рыб сведчыць, што ў горадзе трымалі буйную і дробную рагатую жывёлу, коней, свіней, сабак; палявалі на аленя, зубра, дзіка, казулю, лася, бабра, куніцу, выдру, барсука, зайца, мядзведзя, лісіцу, птушак, лавілі разнастайную рачную рыбу. У культ. напластаваннях 15—16 ст. шмат касцей дзікіх жывёл, што тлумачыцца пераўтварэннем замка ў рэзідэнцыю вял. князёў і каралёў, якія арганізоўвалі частыя прыёмы і паляванні для гасцей у навакольных пушчах.

*Літ.*: Воронин Н.Н. Древнее Гродно (по материалам археологических раскопок 1932—1949 гг.). М., 1954; Чернявский И.М. Пречистенская церковь 12 в. в Гродно // Древнерусское государство и славяне. Минск, 1983; Яго ж. Новый памятник гродненской архитектурной школы 12 в. // Древнерусское искусство. М., 1988; Чарняўскі І.М., Жаровіна Г.П. Нечаканае адкрыццё // ПГКБ. 1982. № 4; Здановіч Н., Краўцэвіч А. Старажытны цэнтр Гродна // Там жа. 1985. № 1; Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гродзенская вобласць. Мінск, 1986; Стары замак у Гродне 11—18 стст.: гіст.-археал. нарыс. Мінск, 1993; Акінчыц Р. Гліняныя формы — матрыцы гродзенскага рамесніка другой паловы 17 ст. // Краязнаўчыя запіскі. Гродна, 1993. Вып. 2; Краўцэвіч А., Трусаў А., Трусаў І. Вяртанне да людзей // Мастацтва. 1993. № 8; Трусаў А., Краўцэвіч А. Археалагічнае даследаванне Барысаглебскай царквы і манастыра ў Гродне // БГЧ. 1994. № 4; Краўцэвіч А.К. Археалагічныя даследаванні Гродна ў 1970—1990 гады // Краязнаўчыя запіскі. Гродна, 1995. Вып. 3; Яго ж. Новае даследаванне Старога замка ў Гродне // З глыбі вякоў. Наш край: гіст.-культурал. зб. Мінск, 1997. Вып. 2; Яго ж. Археалагічнае вывучэнне Гродна // Памяць: гіст.-дакум. хроніка Гродна. Мінск, 1999; Jodkowski J. Grodno wczesnośredniowieczne w świetle prac wykopaliskowych, dokonanych na Krolewskim Zamku Starym w Grodnie w latach 1932 i 1933 // Przegląd historyczno-wojskowy. Warszawa, 1934. T. 7. Z. 1; Яго ж. Świątynia warowna na Kołoży w Grodnie. Grodno, 1936; Durczewski Z. Stary zamek w Grodnie w świetle wykopalisk, dokonanych w latach 1937—1938. Grodno, 1939;

*А.К.Краўцэвіч.*

**«ГРО́ДНЕНСКИЕ ГУБЕ́РНСКИЕ ВЕ́ДОМОСТИ»**, афіцыйная газета, якую выдавала Гродзенскае губернскае ўпраўленне ў Гродне з 7.1.1838 да 31.7.1915 на рус. мове. Выходзіла з дадаткамі адзін, з 1891 два, з 1899 чатыры разы на тыдзень, у 1-й пал. 1900 штодзённа, з чэрв. 1900 два разы на тыдзень. Змяшчала пастановы і распараджэнні цэнтр. і мясц. улад і інш. афіцыйныя матэрыялы. Мела неафіцыйную частку, якая ў 1903—06 вылучана ў асобнае выданне пад той жа назвай і выходзіла як штотыднёвы дадатак да асн. выдання. Дадатак змяшчаў матэрыялы па гісторыі, этнаграфіі, археалогіі губерні і Паўн.-зах. краю, справаздачы пра дзейнасць губернскага статыстычнага к-та, інфармацыю пра збор археал. звестак для Маскоўскага археал. т-ва. Сярод публікацый матэрыялы пра помнікі стараж. Навагрудка (1846. № 35—36), Камянецкую вежу (1865. № 3; 1870. № 24), пра скопішча касцей мамантa, шарсцістага насарога і першабытнага быка, выяўленае ў мяст. Солы Гродзенскага пав. (1889. № 33), пра гарадзішчы каля в. Арэпічы Брэсцкага (1893. № 16) і Збуч Бельскага (1893. № 19) паветаў, групу археал. помнікаў каля в. Пыхаўць Гродзенскага пав. (1891. № 19), курганныя могільнікі ў Гродзенскім і Кобрынскім паветах (1891. № 55). Спробай стварэння археал. карты з'явіліся нарыс К.Міхайлоўскага пра помнікі Слонімскага пав. (1897. № 8) і нарыс з пералікам помнікаў Бельскага і Беластоцкага паветаў (1892. № 42). Аддзел археал. хронікі рэгулярна друкаваў справаздачы пра раскопкі, у т.л. працу Л.Саланевіча з падрабязным апісаннем стараж. замкаў, каменных вежаў, цэркваў Гродзеншчыны (1902. № 28, 31, 32, 46, 47, 49—54).

**ГРО́НАЎ**, археалагічныя помнікі — стаянкі каля в. Гронаў Чэрыкаўскага р-на Магілёўскай вобл.

Стаянка-1 за 1 км на У ад вёскі, паміж вёскамі Гронаў і Вепрын, на пясчаным узгорку левабярэжжа р. Сож, ва ўр. Строў. Адкрыў у 1974 В.П.Траццякоў. Даследавала ў 1975 А.Г.Калечыц (56 м$^2$). Культ. пласт 0,4 м. Знойдзена 195 апрацаваных крэменяў, сярод іх — аднапляцовачныя

нуклеусы, сякеры на масіўных асколках і з перахватам, цёслы, вуглавыя разцы, скоблі на адшчэпах, скрабкі, у т.л. канцавыя, нажападобныя пласціны з рэтушшу, наканечнікі стрэл і інш. З 267 фр-таў ляпных пасудзін 13 ад гаршкоў эпохі позняга неаліту і ранняга бронзавага веку. Гэтая танкасценная кераміка з унутранага і знешняга бакоў мае сляды расчосаў, зробленых зубчастым штампам. Арнаменты ў выглядзе разрэджаных гарызантальных радоў падвойных наколаў, уцісканняў з папярочнымі перамычкамі, адбіткаў грэбеня і гарызантальных лапчастых адбіткаў, якія часам чаргуюцца з адбіткамі грэбеня. У гліне ёсць дамешкі жарствы і раслінных рэшткаў. Фр-ты пасудзін сярэднябронзавага часу ўпрыгожаны адбіткамі тонкага перавітага шнура, якія ствараюць рамбічны арнамент. Знаходкі 198 фр-таў ляпных пасудзін сведчаць пра тое, што ў раннім жал. веку на месцы стаянкі існавала селішча зарубінецкай культуры.

С т а я н к а - 2 верхнедняпроўскай культуры за 1 км на У ад вёскі, на тэрасе левага берага р. Сож, за 0,3 км на ПдУ ад стаянкі-1, ва ўр. Курганне. Адкрыў у 1974 В.П.Траццякоў. Даследавала ў 1975 А.Г.Калечыц (140 м²). Культ. пласт да 1 м, што абумоўлена дэлювіяльным зносам культ. рэшткаў па схіле тэрасы. Знойдзена 1465 крэменяў, з іх 348 маюць дадатковую апрацоўку, і 2177 фр-таў ляпнога посуду. Сярод знаходак аднапляцовачныя нуклеусы, свярдзёлкі, скрэблы на круглаватых адшчэпах і краях пласцін, скоблі, сякеры, цёслы, праколкі, ромбападобныя і трохвугольныя наканечнікі стрэл (больш за ўсё скрэблаў, скобляў, вастрыёў і прылад, якімі секлі). Найб. колькасць складаў неалітычны посуд, які меў дамешкі пяску і раслінных рэшткаў у гліне і быў аздоблены адбіткамі грэбеня. Сярод інш. арнаментаў траплялiся ямачныя адбіткі, трохвугольныя наколы і інш. З дапамогай гэтых элементаў ствараліся даволі складаныя арнаментальныя сістэмы — гарызантальныя, дыяганальныя, косыя, трохвугольныя і інш. Часта посуд упрыгожвалі адбіткамі не аднаго, а двух розных элементаў. Уся кераміка акругладонная з прамымі і адагнутымі вонкі венчыкамі, пад якімі па перыметры наносіліся ямкі. Невял. колькасць адносіцца да ранняга і позняга бронзавага веку.

Стаянкі каменнага веку знойдзены таксама на ўсх. ускраіне вёскі і ва ўр. Града.

*Літ.*: К а л е ч и ц Е.Г. Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии. Минск, 1987.

*А.Г.Калечыц.*

**ГРУ́ЗІКІ**, гліняныя вырабы разнастайнай формы, найчасцей з адтулінай усярэдзіне, якія выкарыстоўваліся ў ткацкай справе і, магчыма, у культавых мэтах. Трапляюцца на помніках *мілаградскай культуры*. Г. выраблялі з пластычных гідраслюдзістых глін, у якія дадавалі жарству і шамот. Сярэдняя велічыня большасці Г. 2,5—3,5 см. Паводле формы бываюць ражковыя (крыжападобныя, 5- і 6-канцовыя), пасудападобныя (з круглаватым тулавам і донцам, з завостранай ніжняй часткай і грушападобныя), біканічныя (сіметрычныя, асіметрычныя і ўсечаныя), цыліндрычныя (з увагнутай сярэдзінай, з выгінам пасярэдзіне і пляскатыя), круглаватыя (шара- і эліпсападобныя), канічныя (конусападобныя і ўсечана-канічныя), шпулепадобныя. Даследчыкі лічаць, што Г. выкарыстоўваліся некалькімі спосабамі: для нацягвання нітак асновы ў вертыкальных ткацкіх станках; для прадзення з дапамогай верацёнаў, дзе яны выконвалі ролю махавічкоў; для нацягвання нітак у станках з гарызантальнай асновай і інш. Частка Г. упрыгожана ямачным, кропкавым і наразным арнаментам. У малюнках заўважаецца ўстойлівасць геам. узораў, якія ў некаторай ступені адлюстроўваюць светапогляд людзей таго часу. Сярод малюнкаў ёсць ідэаграмы сонца: абапал адтуліны выявы 1, 2 або 3 кругоў з уціснутых ямак, рысак, прарэзаных раўкоў; на некаторых Г. радыяльныя праменьчыкі разыходзяцца ад адтулін ці ад занальных кольцаў. Сімвалы агню — крыжы — наносілі вакол восі, крыжападобна размешчаныя рыскавыя ўцісканні мелі максімальнае пашырэнне, многія былі крыжападобнай формы. Заштрыхаваныя крыжы ў крузе або крыжы на заштрыхаваным полі, а таксама трохвугольнікі, ромбы даследчыкі часта разглядаюць як праяўленне культу ўрадлівасці. Арнаменты на Г. даюць падставу меркаваць, што насельніцтва мілаградскай культуры пакланялася сонцу, агню і ўрадлівасці.

*Літ.*: М е л ь н и к о в с к а я О.Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке. М., 1967; Л а ш а н к о ў М.І. Грузікі мілаградскай культуры з усходнепалескіх гарадзішчаў // Помнікі мастацкай культуры Беларусі: новыя дaслед.: зб. арт. Мінск, 1989; Я г о ж. Тыпалогія гліняных грузікаў з усходнепалескіх гарадзішчаў мілаградскай культуры // ВАНБ. 1989. № 5.

*М.І.Лашанкоў.*

**ГРУЗІ́ЛЫ**, вырабы для абцяжарвання рыбалоўных сетак і кручкоў. У Беларусі вядомы з позняга неаліту—ранняга бронзавага веку, дзе існавалі ў выглядзе каменьчыкаў са свідраванай адтулінай ці аплеценых лыкам (*Асавец*-2). У якасці Г. маглі выкарыстоўвацца кавалкі крамянёвых



*Грузілы 14—16 ст. з **Чачэрска**.*

канкрэцый, фалангі і астрагалы капытных жывёл. У жал. веку былі распаўсюджаны пляскатыя гліняныя Г. для стаўных сетак — круглай і авальнай формы з адтулінамі. Шмат іх знойдзена ў арэале *штрыхаванай керамікі культуры* (Кашчэлічы, Лабеншчына, Малышкі). Часам сустракаліся гітарападобныя Г. (Мікольцы). На сярэдневяковых помніках Г. знойдзены ў гарадах і на многіх вясковых паселішчах. Значная колькасць іх выяўлена ў Віцебску, Стрэшыне, Чачэрску, Лідскім замку. У 11—13 ст. найчасцей выкарыстоўваліся гліняныя Г. цыліндрычнай формы, бочкападобнай, радзей шарападобнай і інш. Даўж. Г. ў сярэднім складала 3—4 см, дыям. адтуліны менш за 1 см. У 14—18 ст. найб. папулярнай робіцца бочкападобная форма. На гар. паселішчах Г. ў гэты час дасягаюць даўж. 7—9 см, дыям. адтуліны пашыраецца да 2,5 см (Копысь, Мінск, Заслаўе). Для кручковых прылад і малых сетак прызначаліся невял. свінцовыя Г., вядомыя з 2-й пал. 10 ст. (Бірулі, Брэст, Тураў, Гродна). У 19 — пач. 20 ст. гліняныя Г. выраблялiся на ганчарным крузе, у 2-й пал. 20 ст. яны зніклі з рыбацкага ўжытку.

*І.А.Ляшкевіч.*

**ГРЫЎКО́ВІЧЫ**, археалагічныя помнікі — стаянка, паселішча і селішча каля в. Грыўковічы Пінскага р-на Брэсцкай вобл. Выявілі ў 1987 А.А.Егарэйчанка і А.В.Іоў.

С т а я н к а за 0,15 км на ПдЗ ад вёскі, на пясчаным пагорку (300 × 100 м), на правабярэжным поплаве р. Стыр. У 1987—88 даследаваў А.В. Іоў (248 м²). Магутнасць культ. пласта 0,4—1 м. На мацерыку раскапана авальнае ў плане згрувашчванне валуннага крэменю (0,34 × 0,4 м), верагодна, пакінутае ў запас. Знойдзена кераміка ранняга неаліту са слядамі шматлікіх раслінных дамешак без дэкору. На інш. фр-тах арнаменты ў выглядзе насечак, гарызантальных і нахіленых шэрагаў з бакавых наколаў, коса-сеткаватых кампазіцый у выглядзе косай сеткі і нахіленых шэрагаў з пракрэсленых ліній. Пад краямі венчыкаў сустракаюцца глыбокія наколы. Да перыяду ранняй бронзы адносяцца буйныя пукатыя гаршкі з высокімі прамымі венчыкамі. Найчасцей гэты посуд аздабляўся гарызантальнымі шэрагамі нахіленых адбіткаў лінейнага штампа і елачных узораў. Выяўлены прылады для вытворчасці крамянёвых вырабаў і з другаснай апрацоўкай, а таксама прадукты першаснай апрацоўкі, нажы, скрэблы, скрабкі, сякеры, цясла, наканечнікі стрэл і дроціка, разец, свярдзёлак, праколка, вострканечнікі і інш. Знойдзены рагавое цясла, касцяная грушападобная падвеска з прасвідраванай адтулінай, якія адносяцца да эпохі неаліту.

П а с е л і ш ч а за 0,7 км на ПдЗ ад вёскі. Магутнасць культ. пласта дасягае 0,8 м. У 1988 помнік абследавалі А.В.Іоў і М.М.Крывальцэвіч. У 1998—2000 даследаваў В.М.Сідаровіч (150 м²). Знойдзены посуд з адступаючымі наколамі, пракрэсленымі лініямі і грабеньчатымі адбіткамі, лейкападобныя кубкі і шарападобныя амфары позняга неаліту.

С е л і ш ч а на месцы стаянкі, памеры 170 × 80 м. У 1987—88 даследаваў А.В.Іоў. Знойдзены дужка цыліндрычнага навяснога замка, фр-т шклянога бранзалета, крыжык-«корсунчык», шкляныя пацеркі і інш. Датуецца 12—13 ст.

*Літ.*: І о ў А.В., К р ы в а л ь ц э в і ч М.М. Новыя паселішчы неалітычнага перыяду і эпохі бронзы ў нізоўях ракі Стыр // ГАЗ. Мінск, 1999. № 14.

*А.В.Іоў, В.М.Сідаровіч.*

**ГРЫЎНЯ ШЫЙНАЯ**, упрыгажэнне накшталт абруча з каляровых (медзь, бронза, серабро, білон, золата) і чорных (жалеза) металаў, якое насілі на шыі (па-стараславянску — грыве). Г.ш. адрозніваюцца па форме, памеру, дэталям афармлення. Характэрны для народаў розных краін свету з часоў неаліту і бронзавага веку. На тэр. Беларусі Г.ш. з'явіліся ў раннім жал. веку (*мілаградская культура*, *днепра-дзвінская культура*), найб. былі распаўсюджаны ў 9—13 ст. Значная колькасць Г.ш. знойдзена ў культ. пластах гарадоў, паселішчаў, курганных пахаваннях і скарбах стараж.-рус. часу.

*Літ.*: С е р г е е в а З.М. О прибалтийских шейных гривнах в древнерусских памятниках X—XIII вв. // КСИА. 1978. Вып. 155; Л и т в и н о в В.А., М а к у ш н и к о в О.А., Д р о б у ш е в с к и й А.И. Клады древнерусских шейных гривен из Белоруссии // СА. 1987. № 1.



*Бронзавая **грыўня шыйная** 6—7 ст. з гарадзішча Вежкі Дубровенскага р-на.*

**ГРЫ́ЧЫНА**, археалагічныя помнікі — курганныя могільнікі і селішчы каля в. Грычына Дзяржынскага р-на Мінскай вобл. Могільнікі абследаваў у 1930 А.Рынейскі, у 1976 Ю.А.Заяц. Селішчы выявіў у 1987 Ю.А.Заяц.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к - 1 на тэр. вёскі, на могілках. 18 насыпаў (з 21) выш. 0,5—2,5 м, дыям. 5—14 м. Пашкоджаны сучаснымі магіламі. Раскопкі не праводзіліся.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к - 2 за 1,5 км на У ад вёскі, 0,2 км злева ад палявой дарогі на в. Цімошкі, сярод поля. 7 насыпаў выш. 2—3,2 м, дыям. 10—19 м. 2 курганы моцна пашкоджаны. Раскопкі не праводзіліся.

К у р г а н н ы   м о г і л ь н і к - 3 на паўд.-ўсх. ускраіне вёскі, з правага боку ад дарогі на в. Марыпаль. 2 насыпы дыям. 10 і 17 м, выш. 1,6 і 3 м. Раскопкі не праводзіліся.

К у р г а н н ы   м о г і л ь н і к - 4 на паўд.-зах. ускраіне вёскі, за 0,3 км справа ад дарогі на в. Віцкаўшчына. Было 5 круглых (дыям. 6,5—12,5 м, выш. да 1,6 м) і 1 прадаўгаваты (21,5 × 9,5 × 2,2 м) насыпы. Раскопкі не праводзіліся. У пач. 1980-х г. могільнік знішчаны.

К у р г а н н ы   м о г і л ь н і к - 5 за 2 км на ПнЗ ад вёскі, 0,64 км справа ад дарогі на ст. Фаніпаль, у лесе, ва ўр. Лявонаўка. 3 пашкоджаныя круглыя насыпы дыям. 11—13,5 м, выш. да 2,5 м. Не раскапваліся, знішчаны ў 1980-я г.

К у р г а н н ы   м о г і л ь н і к - 6 за 1,7 км на ПнЗ ад вёскі, 0,75 км справа ад дарогі на ст. Фаніпаль, ва ўр. Пакацічы. 23 насыпы, якія ўтваралі 2 асобныя групы, за 36 м адна ад адной. У паўд. групе 12 насыпаў круглай, авальнай, чатырохвугольнай і прадаўгаватай (17 × 6,5 × 1,2 м) форм. Дыям. круглых курганоў 3,5—11,5 м, выш. 0,5—1,5 м, памеры авальных адпаведна ад 7,5 × 6,4 м да 13,6 × 11 м, выш. 1—2,2 м, чатырохвугольных — 14 × 11 × 1,3 м і 14,5 × 12 × 2,5 м. У к. 1970-х г. 7 насыпаў знішчаны, астатнія ў рознай ступені пашкоджаны. У 1986 Ю.А.Заяц даследаваў 3 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на мацерыку, у 2 выпадках — на попельнай пляме ад рытуальнага вогнішча, галавою на У і на З. Знойдзены фр-ты вырабленага на ганчарным крузе керамічнага посуду, пацеркі 14- і 8-гранныя прызматычныя, шкляныя паласатыя лімонападобныя і лімонкі. Датуецца 10 — 1-й пал. 11 ст.

С е л і ш ч а - 1 за 1,6 км на ПнЗ ад вёскі, 0,3 км на ПнУ ад могільніка-6. Значна пашкоджана меліярацыйнымі і сельскагасп. работамі. Раскопкі не праводзіліся. Знойдзены фр-ты керамічнага посуду 10—11 ст. і тачыльны брусок.

С е л і ш ч а - 2 у паўд. частцы вёскі. Пл. да 2 га. Раскопкі не праводзіліся. Сабраны керамічны матэрыял 16—18 ст.

*Літ.*: Р ы н е й с к і А. Археолёгічныя разьведкі на р. Пціч // Працы. Т. 3; З а я ц Ю.А. Работы в окрестностях Заславля и Дзержинска // АО 1977. М., 1978.

*Ю.А.Заяц.*

**ГРЭ́БЕНЬ**, археалагічны помнік — курганны могільнік *дрыгавічоў* 11—12 ст. на паўн.-ўсх. ускраіне в. Грэбень Пухавіцкага р-на Мінскай вобл., ва ўр. Курганы. Захаваліся 3 курганы выш. 2,5 м, дыям. 10 м (раней было 44 насыпы). Адкрыў і даследаваў іх у 19 ст. К.П.Тышкевіч. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. У адным кургане пахаванне парнае ў насыпе і яме глыб. каля 2 м, у другім — адзіночнае ў яме глыб. 1,4 м. У 3-м насыпе на глыб. 0,1 м знойдзены чэрап дзіцяці, глыбей — вуголле і рэшткі спаленых касцей, на глыб. 1 м — шкілет мужчыны. Знойдзены бронзавы пярсцёнак і шпілька ў драўляным футарале.

*Літ.*: Р ы н е й с к і А. Археолёгічныя разьведкі на р. Пціч // Працы. Т. 3.

*Ю.А.Заяц.*

**ГРЭ́БЕНЬ**, 1) прылада для расчэсвання валасоў, сколвання і ўпрыгожвання прычоскі. Выраблялiся з косці і дрэва. Касцяныя Г. былі двухбаковыя — з аднаго боку наразаліся вял., з другога — дробнымі зубцамі. Падраздзяляюцца на 2 групы: цэльныя (выш. 4—10 см, шыр. 3—7 см) і наборныя (выш. 4—5 см, даўж. 10—11 см). Цэльныя выраблялiся з адной пласціны; існавалі некалькіх тыпаў: прамавугольныя, са скошанымі і ўвагнутымі бакамі, трапецападобныя. Наборныя мелі некалькіх пласцін, злучаных вузкімі накладкамі, якія замацоўваліся меднымі, бронзавымі ці касцянымі штыфтамі. Па форме яны падзяляюцца на прамавугольныя, з авальнымі і ўвагнутымі бакамі. Выраблялiся такія Г. звычайна з рога лася або алене, але сустракаюцца экзэмпляры, зробленыя з касцяных пласцін. Найб. распаўсюджанне яны атрымалі ў 10—16 ст. Вял. калекцыі двухбаковых Г. выяўлены ў час археал. даследаванняў у Полацку (84 экз.), Маскаўцах (80), Ваўкавыску (59), Мінску (49), Віцебску (45), Навагрудку (25), Лукомлі (24), Друцку (21), Браславе (21) і інш. Іх характэрнай адметнасцю на тэр. Беларусі з'яўля-

*Касцяныя **грабяні** 11—13 ст.: 1 — Друцк; 2 — Маскаўцы; 3—4 — Лукомль; 5—7 — Полацк.*



ецца тое, што яны зрэдку ўпрыгожаны лінейным альбо цыркульным арнаментам. Напр., у Полацку знойдзены наборны Г. з падкладнымі бронзавымі пласцінкамі, якія прасвечваюцца праз крыжападобныя адтуліны (10 — пач. 11 ст.). У 13—15 ст. побач з касцянымі бытавалі і двухбаковыя цэльныя драўляныя (самшытавыя) Г. Па форме яны падзяляюцца на прамавугольныя, з увагнутымі і з выпуклымі бакамі; выш. 5—10 см, шыр. 6—9 см. Самшытавыя Г. больш дасканала арнаментаваны, чым касцяныя, у асн. цыркульна-акулярным дэкорам. Яны вядомы ў Брэсце (звыш 20 экз.), Віцебску (19), Мінску, Гродне і інш. населеных пунктах Беларусі. Знойдзены самшытавыя Г.: адзін з кірылаўскім алфавітам з абодвух бакоў у Брэсце (13 ст.), адзін з цыркульна-акулярным і праразным крыжападобным арнаментам (13 ст.) у Мінску, два з выявамі грыфонаў і барсаў (14 ст.) у Віцебску.

2) Прылада для расчэсвання льнянога валакна і воўны. Выраблялiся з дрэва і косці, аднабаковыя, з частымі зубцамі. Уяўлялі сабой вял. лапатападобны, доўгі і вузкі прадмет альбо з ручкай зверху. Знойдзены ў слаях 13 ст. Полацка (касцяны і драўляны), 14—15 ст. Слуцка (драўляны).

*Літ.*: Зваруга Я.Г. Рэчавы інвентар // Археалогія Беларусі. Мінск, 2000. Т. 3. Сярэдневяковы перыяд (IX—XIII стст.); Мядзведзева В.У. Касцяныя вырабы Маскавіцкага гарадзішча // МАБ. 2001. № 3; Я е ж. Касцяныя вырабы з сярэднявечных гарадоў (па матэрыялах раскопак М.А.Ткачова) // Castrum, irbis et bellum: зб. навук. прац. Баранавічы, 2002; Я е ж. Грэбні ў пахаваннях X—XII стст. на тэрыторыі Беларусі // ГАЗ. Мінск, 2002. № 17.

*В.У.Мядзведзева.*

**ГРЭНСК**, археалагічны помнік — стаянка фінальнага палеаліту каля в. Ворнаўка Кармянскага р-на Магілёўскай вобл. За 2 км на У ад вёскі, на ўсх. ускраіне астанца 1-й надпоймавай тэрасы правага берага р. Сож, ва ўр. Грэнск. Выш. 6—7 м над узроўнем вады. Выявіў у 1927 К.М.Палікарповіч, у 1959—61 У.Дз.Будзько даследаваў 90 $м^2$. Культ. пласт 1,9—2 м, знойдзена 708 прылад працы. У ніжнім пласце выяўлены рэшткі 3 вогнішчаў, вакол аднаго з іх знойдзена вял. колькасць расшчэпленага крэменю, драўнянага і касцянога вугалю. Рэчавы матэрыял верхняга пласта прадстаўлены лінзамі драўнянага вугалю і крамянёвымі вырабамі. Ніжні культ. пласт У.Дз.Будзько датаваў сярэднім дрыясам (12,3—11,8 тыс. гадоў таму назад), верхні — алеродскім часам




*Касцяныя наборныя **грабяні** 12—13 ст.: 1 — Маскаўцы; 2, 3, 6 — Полацк; 4, 5 — Віцебск.*

(11,8—10,8 тыс. гадоў таму назад). У 1972—81 В.Ф.Капыцін даследаваў 380 м$^2$. Культ. пласт 0,2—0,5 м. У выніку зроблены вывад пра памылковае вылучэнне 2 культ. пластоў. Знойдзены шматлікія адна- і двухпляцовачныя нуклеусы, адшчэпы, пласціны, мелкія лускі. Прылады працы прадстаўлены канцавымі, двайнымі, авальнымі і з «шыпам» скрабкамі, рэтушаванымі, сярэдзіннымі і на вугле зламанай нарыхтоўкі разцамі, праколкамі, вастрыямі, вырабамі з вы-




*Наканечнікі стрэл (1—6, 9—24) і трапецыі (7—8) з паселішча* ***Грэнск.***

емкай, сякучымі прыладамі. Прадметы ўзбраення вызначаюцца 2 асн. тыпамі наканечнікаў: тронкавымі і асіметрычнымі з бакавой выемкай. Адзінкавыя наканечнікі маюць плоскае падчэсванне чаранка з боку брушка. Ад назвы стаянкі Г. атрымала назву *грэнская культура*. Маюцца таксама матэрыялы *свідэрскай культуры* і *бутаўскай культуры*, эпох неаліту і бронзавага веку.

*Літ.*: Палікарповіч К.М. Досьледы культур каменнага і бронзавага перыодаў у Усходняй Беларусі // Працы. Т. 1; Будько В.Д. Памятники свидерско-гренской культуры на территории Белоруссии // МИА. 1966. № 126; Будько В.Д., Вознячук Л.Н. Палеолит Белоруссии и смежных территорий // Древности Белоруссии. Минск, 1969; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1. Минск, 1970; Копытин В.Ф. Поздний мезолит Посожья // Изыскания по мезолиту и неолиту СССР. Ленинград, 1983; Его ж. Памятники финального палеолита и мезолита Верхнего Поднепровья. Могилев, 1992; Его ж. Некоторые итоги изучения Гренской стоянки // ГАЗ. Мінск, 1994. № 5.

*А.У.Коласаў.*

**ГРЭ́НСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура фінальнага *палеаліту* і ранняга *мезаліту*. Назву атрымала ад стаянкі *Грэнск* (Гомельская вобл.) у басейне р. Сож. Вылучана У.Дз.Будзько ў 1960-я г. Помнікі Г.к. вядомы на тэр. Верхняга Падняпроўя — *Бароўка*, *Орша-1*, *Дальняе Ляда*, *Каромка*, *Магілёўская*, *Малое Зарэчча*, *Лудчыцы*; Пасожжа — *Хвойна*, *Гайкоўка*, *Грэнск*, *Журавель*, *Паклады-2*; на Друці — *Вірычаў*, *Вішанька*, *Чыгірынка*; у басейне р. Бярэзіна — *Гута-1*; на Лепельскім воз. Віцебскай вобл. — *Пясчаніца*. Комплексы з асіметрычнымі наканечнікамі стрэл (грэнскі тып) вядомы ў матэрыялах стаянак Волга-Окскага міжрэчча, басейнаў Дзясны, Прыпяці, Нёмана, Віслы і культур паўн. Еўропы. Помнікі Г.к. размешчаны на 1-й або 2-й надпоймавых тэрасах. У якасці сыравіны насельніцтвам Г.к. выкарыстоўваўся мясц. крэйдавы крэмень цёмна-шэрага колеру, паклады якога размяшчаліся непасрэдна каля паселішчаў. Сколванне нарыхтовак адбывалася з аднаго боку канкрэцыі да поўнай яе утылізацыі, калі нуклеусы прымалі сплюшчаны выгляд. Ядрышчы характарызуюцца аморфнасцю форм і шырокай плоскасцю сколвання (2—5 сколаў). Сярод нуклеусаў пераважаюць аднапляцовачныя ядрышчы (30—50%), пры невял. колькасці дзвюх- і трохпляцовачных форм. Контрфронт большасці ядрышчаў (80%) не аформлены і за-



Аўтар А.У. Коласаў

хоўвае жаўлачную скарынку. Ударныя пляцоўкі захоўваюць гладкую паверхню, але ў працэсе расшчаплення маглі падпраўляцца 2—3 папярочнымі сколамі ці поўнасцю пераафармляцца. Вугал сколвання нарыхтовак вагаецца ў межах 55—90°, у сярэднім — 80—85°. Асн. тыпам нарыхтоўкі з'яўляліся адшчэпы, радзей пласціністыя адшчэпы і пласціны, атрыманыя ў тэхніцы цвёрдага ўдару. У другаснай апрацоўцы шырока выкарыстоўваліся стромкае і паўстромкае рэтушаванне, тэхніка разцовага сколу, абіўка. Сярод прылад канцавыя, двайныя, акруглыя, «з шыпам» скрабкі; рэтушаваныя, на зломе нарыхтоўкі, двухгранныя і камбінаваныя разцы; вырабы з выемкай, вуглавыя і сярэдзінныя праколкі, вастрыі, пласцінкі са скошаным рэтушшу канцом і з прытупленым краем, сякучыя прылады, асобныя з якіх маюць перахват ці толькі падпраўленую папярочнымі сколамі лязовую частку. Культурнавызначальнымі для крамянёвых комплексаў Г.к. з'яўляюцца наканечнікі стрэл т.зв. «грэнскага тыпу»: асіметрычныя з супрацьлеглай бакавой выемкай і тронкавыя. Генезіс Г.к. не высветлены. На думку У.Дз.Будзько, фарміраванне культуры адбывалася на падставе культур касцёнкаўска-аўдзееўскай, елісеевіцкай, юдзінаўскай, ціманаўскай. Л.Л.Залізняк помнікі Г.к. аб'ядноўвае ў межах вылучанай ім краснасельскай культуры, паходжанне якой звязана з традыцыямі культуры ўсх. Лінгбі. У.П.Ксяндзоў паходжанне Г.к. разглядаў у кантэксце развіцця лінгбійскіх традыцый. Паводле В.Ф.Капыціна, насельніцтва Г.к. з'яўлялася нашчадкам мезінскіх культ. традыцый позняга *палеаліту*, вылучаюцца 2 генетычныя лініі: адна з іх звязана з Мезінам і прасочвалася ў комплексе *Бароўкі*, у другой — праяўляецца падабенства з матэрыяламі *Дабранёўкі* і *Каромкі*. А.Г.Калечыц лічыць неабходным звярнуць увагу на магчымасць пошукаў мясц. субстрату, прыкладам якога можа выступаць стаянка Падлужжа (*Бердыжская стаянка*). У 1960-я г. У.Дз. Будзько былі вылучаны 3 храналагічныя этапы: 1-ы — ранні дрыяс (13—12,7 тыс. гадоў таму назад), 2-і — не пазней бёлінгскага інтэрстадыялу (12—12,3 тыс. гадоў таму назад), 3-і прыходзіўся на алярод (11,8—10,8 тыс. гадоў таму назад). В.Ф.Капыцін падзяляў помнікі Г.к. на 2 храналагічныя групы: 1-я — стаянкі *Бароўка*, *Каромка* і *Хвойна* — датавалася фінальным *палеалітам* (12—10 тыс. гадоў таму назад), 2-я — Грэнск, Магілёўская, Лудчыца, Чыгірынка — ранні *мезалітам* (10—8 тыс. гадоў таму назад). А.Г.Калечыц, з улікам палеагеаграфічных дадзеных, прапанавала ніжнюю мяжу Г.к. лічыць больш старажытнай на 2—3 тысячагоддзі. Л.Л.Залізняк адносіў час фарміравання краснасельскай культуры да позняга дрыясу (10,8—10,3 тыс. гадоў таму назад), якая ў пач. прыбарэальнага часу, праз помнікі тыпу Бароўка, паклала пач. старажытнасцям іенеўскай і пясочнароўскай культур. У.П.Ксяндзоў вылучыў 3 храналагічныя этапы: 10,8—10,3 тыс. гадоў таму назад — стаянкі Аносава, Берасценава, Лудчыцы, Каромка; 10,3—8 тыс. гадоў таму назад — стаянкі Бароўка, Орша-1, Грэнск, Гута-1, Журавель, Пясчаніца і Хвойна; 8—7 тыс. гадоў таму назад — стаянкі Рэкорд, Рэчыца-2 і Чыжоўка. Польскі даследчык С.К.Казлоўскі пач. дзяснінскай (грэнскай) культуры вядзе ад 9-га тыс. да н.э. і да ранняга *галацэну*, калі яна трансфармавалася ў шэраг «постдзяснінскіх» культур. Па дадзеных К.Шымчака, дзяснінскія элементы на помніках паўн.-ўсх. Польшчы вядомы на працягу алярoду — барэальнага часу. Большасць даследчыкаў лічаць, што Г.к. — прамы генетычны продак насельніцтва іенеўскай культуры міжрэчча Волгі і Акі і пясочнароўскай Сярэдняй Дзясны. На аснове арэнсбургскіх і краснасельскіх (грэнскіх) традыцый у Скандынавіі сфарміравалася культ.-гіст. зона, у якую ўваходзіла культура Фосна і Комса.

*Літ.*: Будько В.Д. Памятники свидерско-гренской культуры на территории Белоруссии // МИА. 1966. № 126; Копытин В.Ф. Памятники финального палеолита и мезолита Верхнего Поднепровья. Могилев, 1992; Яго ж. У истоков гренской культуры. Боровка. Могилев, 2000; Калечиц Е.Г. Человек и среда обитания. Восточная Беларусь. Каменный век. Минск, 2003; Залізняк Л.Л. Фінальний палеоліт і мезоліт континентальної України. Культурний поділ та періодизація // Кам'яна доба України. Київ, 2005. Вип. 8; Ксензов В.П. Мезолит Северной и Центральной Беларуси // МАБ. 2006. № 13; Обуховский В.С. «Гренский след» в финальном палеолите междуречья Немана, Припяти и Вислы // Романовские чтения-3: сб. тр. Междунар. науч. конф. (Могилев, 23—24 нояб. 2006 г.). Могилев, 2007; Kozlowski J.K., Kozlowski S.K. Pradzieje Europy od XL do IV tysiaclecia p.n.e. Warszawa, 1975; Szymczak K. Epoka kamienia Polski północno-wschodniej na tle środkowoeuropejskim. Warszawa, 1995.

*А.У.Коласаў.*

**ГРЭ́НСКІ ТЫП** наканечнікаў стрэл і ўкладышаў, адна з культурнавызначальных катэгорый крамянёвага інвентару фінальнага палеаліту—ранняга мезаліту лясной паласы Усх. Еўропы і Скандынавіі — *грэнскай культуры*, *іенеўскай культуры*, *пясочнароўскай культуры*, Фосна і Комса і інш. Назву атрымаў па месцы знаходкі на стаянцы *Грэнск* у басейне р. Сож. Наканечнікі стрэл і ўкладышаў выкарыстоўваліся для паляўнічага ўзбраення. На асобных прадметах захаваліся сляды ад праколвання скуры. Г.т. археал. рэчаў характарызуецца наступнымі рысамі: адзін бок нарыхтоўкі поўнасцю рэтушаваны пад вуглом 70—90°, супрацьлеглы край у чаранковай частцы падкрэслены выемкай, што надае прадметам асіметрычную форму і клінападобнае сячэнне. Па тыпе нарыхтоўкі вылучаюцца наканечнікі на адшчэпах і пласцінах, па форме пяра — наканечнікі з прамым і дугападобным краем. Чаранковая частка Г.т. наканечнікаў магла фарміравацца на праксімальным і дыстальным канцах нарыхтоўкі. Аснова некаторых матэрыялаў спецыяльна зламана ці рэтушавана. У пач. мезаліту на аснове Г.т. наканечнікаў узнікла адна з форм геам. мікралітаў — высокая асіметрычная трапецыя ці вастрыё алтынаўскага тыпу, найб. характэрная для стаянак іенеўскай і пясочнароўскай культур.

*Літ.*: К о п ы т и н В.Ф. Памятники финального палеолита и мезолита Верхнего Поднепровья. Могилев, 1992; Я г о ж. У истоков гренской культуры. Боровка. Могилев, 2000; З а л і з н я к Л.Л. Фінальний палеоліт і мезоліт континентальної України. Культурний поділ та періодизація // Кам'яна доба України. Київ, 2005. Вип. 8.

*А.У.Коласаў.*







*Грэнскі тып наканечнікаў стрэл.*



**ГУ́ДАВІЦКАЕ СВЯЦІ́ЛІШЧА**, культавы язычніцкі помнік каля в. Гудавічы Чэрвеньскага р-на Мінскай вобл. За 0,2 км на У ад гэтай вёскі і 0,3 км на З ад в. Верхлес, на ўзгорку Святая Горка, на могілках. Помнік аналагічны свяцілішчам Паўн. Букавіны і смаленскіх *крывічоў* 8—12 ст. Пляцоўка памерамі 50 × 57 м, выш. 4—5 м. Па краях узгорак паніжаецца і ўтварае роў, вакол якога насыпаны вал выш. каля 1,2—1,5 м. Раней на пляцоўцы ляжаў камень-следавік, ад якога захавалася частка з паглыбленнем, што ўшаноўвалася насельніцтвам як «адбітак ступні Маці Божай». Побач з каменем-следавіком стаяць архаічны каменны крыж (выш. 0,6 м і шыр. 0,47 м), жал. і драўляныя крыжы, абвешаныя вышыванымі ручнікамі. Упершыню апісаў у 19 ст. А.К.Ельскі, даследаваў у 1985—86 Э.М.Зайкоўскі. У шурфе (9 $м^2$) у цэнтры пляцоўкі на глыб. 0,2—0,25 м выяўлены вуглістыя плямы і абпаленыя камяні, манета 1811. Ва ўсх. частцы вала на глыб. 0,8—1 м знойдзена вуголле і абломак ляпной керамікі. За 1 км на Пн ад Святой Горкі раней стаяў каменны ідал «Цар Давыд», які быў знішчаны ў 1930-я г.

*Літ.*: Б у б е н ь к о Т.С., З а й к о в с к и й Э.М., П о з д н я к о в В.С. Исследования Белорусской экспедиции // АО 1986. М., 1988.

*Э.М.Зайкоўскі.*

**ГУДО́К**, археалагічны помнік — селішча жалезнага веку і сярэдневякоўя, каля б. пас. Гудок Чачэрскага р-на Гомельскай вобл. На ПнЗ ад б. пасёлка, на надпоймавай тэрасе левага берага р. Покаць, ва ўр. Берагавы Борак (Пасека), на месцы стаянкі каменнага веку. Памеры 330 × 15—60 м. Кераміка 13—15 ст. сканцэнтравана пераважна ў паўн. частцы паселішча, жал. веку — у цэнтры. Адкрылі ў 1982 А.А.Макушнікаў і У.А. Літвінаў, даследаваў у 1984 А.А.Макушнікаў (2 раскопы пл. 84 $м^2$). Культ. пласт 0,2—0,4 м. У 1-м раскопе выяўлены рэшткі прамавугольнай у плане паўзямлянкі 3,4 × 3,9 м, заглыбленай у мацярык на 0,65 м. Уздоўж мацерыковых сценак захаваліся згарэлыя бярвёны дыям. да 0,2 м, пакладзеныя ў 2 вянкі. На падлозе расчышчана 5 слупавых ям дыям. 0,12—0,25 м каля сцен, 28 малых ямак дыям. 0,05—0,12 м і яма ад цэнтр. апорнага слупа дыям. 0,3 і глыб. 0,45 м. Каля паўд. сцяны, бліжэй да вугла, адкрыта зробленая на ўзроўні падлогі прамавугольная печ-каменка памерамі 1 × 0,9 м, якая захавалася на выш. 0,55 м. Каля паўн.-ўсх. вугла жытла прасочаны ўваход, на лініі зах. сценкі ўрэзана звонападобная яма. На падлозе і ў печы сабрана 209 фр-таў грубай ляпной керамікі з дамешкай жарствы ў гліне. Большасць фр-таў належыць кухонным гаршкам, знойдзены развал рабрыстай міскі, абломкі буйной пасудзіны з насечкай па венчыку, мініяцюрных пасудзін, глінянае прасліца. Жытло датуецца 2—3 ст. У 2-м раскопе выяўлены ганчарная кераміка, жал. нож, глінянае прасліца 13—15 ст.

*А.А.Макушнікаў.*

**ГУ́ЗІК**, дэталь адзення. Знаходкі гузікападобных прадметаў на тэр. Беларусі вядомы з ранняга жал. веку (7 ст. да н.э. — 4 ст. н.э.). Разнастайныя віды

Г. з косці, дрэва, металу, сланцу і інш. выяўлены на помніках 10—14 ст. Усе яны падзяляюцца на 3 асн. тыпы: стрыжнёвыя (з дробных касцей, фалангаў пальцаў жывёл, рога, дрэва); пляската-пукатыя з адной ці некалькімі скразнымі адтулінамі (пераважна з косці, мелі квадратную, круглую або шматпялёсткавую форму); шара- ці грушападобныя з пятлёй для прышывання (з металу, суцэльныя або пустацелыя, некаторыя імітуюць *бразготкі*). Металічныя Г. выраблялі штампоўкай або ліццём. Знойдзены ў курганных могільніках, пры раскопках стараж. сярэдневяковых гарадоў па ўсёй тэр. Беларусі.

*Літ.*: Бекцінееў Ш.І. Некаторыя элементы адзення насельніцтва на тэрыторыі Беларусі ў X—XIV стст. // ВАНБ. 1990. № 4.

**ГУ́НЫ** (грэч. Hunnoi, лац. Chunni, Hunni), старажытны народ, які прыйшоў у Еўропу з Азіі. Упершыню згаданы ў сувязі з апісаннем уцёкаў значнай часткі вестготаў на тэр. Рымскай імперыі ў 376—377 пасля таго, як Г. разграмілі остготаў. Перад гэтым Г. заваявалі аланаў, якія жылі на ПдУ ад Дона. Атаясамліванне Г. з унамі і інш. народамі, якія згадваюцца ў сувязі з падзеямі ў Еўропе ў 1—3 ст. н.э., большасць спецыялістаў лічаць вынікам сугучча назваў. Верагоднасць сувязі Г. з народам хунну (сюнну), які жыў у Цэнтр. Азіі і быў разгромлены кітайцамі, многія навукоўцы лічаць вельмі высокай, але бясспрэчных доказаў гэтаму няма. Існуюць гіпотэзы аб прыналежнасці Г. да вугорскіх і інш. народаў. Сумненняў не выклікае толькі іх манталоіднасць, вандроўны лад жыцця і сувязь з рэгіёнамі, блізкімі да Цэнтр. Азіі.

Скарыўшы шэраг народаў на Пд Усх. Еўропы, Г. ў к. 4 ст. сталі тут буйнейшай ваеннай і палітычнай сілай, адыграўшы вял. ролю ў пач. *Вялікага перасялення народаў*. У 370-я г. найб. моцнае аб'яднанне Г. узначальваў Баламбер, але большасць груп Г. дзейнічалі паасобку. Вядома, што ў аб'яднанне Алатэя і Сафрака разам з готамі і аланамі ўваходзілі Г., якія з'яўляліся адной з ударных сіл падчас разгрому рымскай арміі-1 каля Адрыянопаля ў 378; у якасці рымскіх федэратаў у 380 гэтыя Г. былі паселены на тэр. правінцыі Панонія. Інш. групоўкі Г. былі разбіты імператарам Феадосіем І у 379, прыцягваліся ім для барацьбы з узурпатарамі ў 388 і 394. У 395—398 атрады Г., якія, магчыма, кантралявалі Паўн. Каўказ, рабілі набегі ў Закаўказзе (дасягаючы Сірыі) і, верагодна, на Балканы. У пач. 5 ст. ў ніжнім Падунаўі наймацнейшым было аб'яднанне Г. на чале з Ульдзінам (Ульдзісам), якое з'яднала скіраў і шэраг інш. народаў. Атрады Г. у 408—409 нападалі на Усх. Рымскую імперыю, але беспаспяхова. Адначасова яны выкарыстоўваліся зах.-рымскім военачальнікам Стыліхонам для барацьбы з войскам Радагайса (Радагайста), якое, увабраўшы ў сябе атрады многіх плямён, уварвалася ў Італію ў 405—406, а таксама супраць вестготаў. Імператар Ганорый меў атрад асабістай гвардыі, набраны з Г. (знішчаны ў 409). Сярод правадыроў Г. таго часу вядомы Данат (каля 412, забіты пры дапамозе рымлян) і Харатон («першы сярод правадыроў»). Вядома, што паміж 415 і 421 атрады Г. здзейснілі вял. паход у межы персідскай імперыі Сасанідаў.

У 420-я г. пачалася кансалідацыя Г., на чале якіх сталі Руга (Руа) і Уптар (загінуў у 430 у паходзе супраць бургундаў). Паводле дагавору з Зах. Рымскай імперыяй Г. атрымалі пад свой кантроль землі ў Пaноніі ў 427 ці 433. Пасля смерці Ругі ў 433 яго палітыку працягвалі пляменнікі Блэда і Атыла (забіўшы брата, з 445 уладарыў адзін). У 435—438 атрады Г. удзельнічалі ў ваенных кампаніях рымлян супраць жыхароў Галіі — багаўдаў і вестготаў, якія кантралявалі ПдЗ гэтай правінцыі (у 439 гэтыя адносна невял. атрады былі разбіты). У 436 Г. Атылы разграмілі бургундаў (што знайшло адлюстраванне ў стараж.-германскіх эпасах, у т.л. пра Нібелунгаў). Спробы самастойнай палітыкі падначаленых Г. народаў падаўляліся (на чале акацыраў, якія жылі на ПнУ ад Чорнага мора і імкнуліся ўсталяваць адносіны з Усх. Рымскай імперыяй, быў пастаўлены сын Атылы). Пасля вынішчальных паходаў на Балканы ў 441—442 Атыла ў 443 заключыў з Усх. Рымскай імперыяй новую, яшчэ больш спрыяльную для Г. дамову (папярэдняя, заключаная ў 435, прадугледжвала павелічэнне выплат для Г. і выдачу «ўцекачоў» — тых, хто не скарыўся ўладзе правадыроў Г.). У 446 Г. пашырылі сваю зону ўплыву ў Пaноніі, а ў 447 аднавілі наступленне на Усх. Рымскую імперыю, што скончылася мірнай дамовай 448, па якой Г. павінны былі атрымаць пад сваю ўладу ўсё ніжняе Падунаўе (аднак імпе-



1



4



2



3



5

*Да арт.* ***Гуны.*** *Спражкі (1 — Керч, Украіна; 2, 3 — Тамань, Расія), накладка ў выглядзе птушкі (4 — Канцэшты, Румынія; каля 400 н.э.), абоймiца ножан мяча (5 — Брандэнбург, Германія; каля 500 н.э.). Золата, альмадзівы, гранаты, шкло.*

ратар Маркіян, які ўзышоў на трон у 450, адмовіўся выконваць умовы гэтага пагаднення). У 450 Г. ўмешваліся ва ўнутраныя канфлікты франкаў.

У далейшым асн. ўдары Г. былі скіраваны на Зах. Рымскую імперыю. У 451 Г. напалі на Галію, аднак у «бітве народаў» на Каталаўнскіх палях пацярпелі паражэнне і былі вымушаны адступіць. У 452 войскі Атылы рушылі ў Італію, разрабавалі Аквілею, Мілан і інш. гарады, падступілі да Рыма, але адмовіліся ад захопу горада і павярнулі назад. У 453 Атыла памёр, і супраць Г. паўсталі гепіды і многія падначаленыя народы. У бітве на р. Недао Г. і іх саюзнікі былі разбіты, пераемнік Атылы — яго старэйшы сын Элак — загінуў. Рэшткі Г. адступілі ў стэпы ніжняга Падунаўя і Паўн. Прычарнамор'я. У 456 остготы адбілі іх чарговы напад. У 465—466 уварванне Г. на чале з Хармідакам на Балканы таксама было спынена, а ў 466 Усх. Рымская імперыя адмовілася заключыць дамову з сынамі Атылы — Дынцыкам і Эрнакам. Паходы 467—469 скончыліся няўдачамі і смерцю Дынцыка. У 460-я г. ва Усх. Еўропе з'явіліся новыя групы качэўнікаў з Азіі, якія знішчылі або ўключылі ў свае ваенна-палітычныя аб'яднанні Г., акацыраў і інш. стэпавыя народы.

Структура грамадскай арганізацыі Г. выклікае шматлікія спрэчкі: частка даследчыкаў дапускае наяўнасць у Г. толькі ваенізаваных родавых адносін, якія дазвалялі племянной вярхушцы паразітаваць за кошт рабавання заваяваных народаў; іншыя прызнаюць развіццё сацыяльных і палітычных структур у Г. пад уплывам дзяржаў, з якімі яны кантактавалі.

*Да арт. Гуны. Мячы 4 ст. з Керчы (Украіна).*



Археал. помнікі Г. не ўтвараюць цэльнай карціны. Стэпавыя пахаванні к. 4 — пач. 5 ст. нешматлікія, але вельмі разнастайныя, многія з іх знойдзены выпадкова. Хаця Г. заставаліся вандроўным народам, пасяленні Г. альбо падпарадкаваных ім племянных аб'яднанняў, дзе канцэнтраваліся рамеснікі і інш. насельніцтва, занятае абслугоўваннем арміі і інш. структур, выяўлены на Доне. Верагодна, у якасці такіх пасяленняў выкарыстоўваліся паўзакінутыя антычныя гарады на Дунаі. Вядома, што стаўка Атылы (з драўляным палацам, упрыгожаным разьбой, і сядзібамі набліжаных асоб) размяшчалася ў Пацісі, але сляды яе не знойдзены. На перыяд улады Г. прыходзіцца шэраг багатых пахаванняў і знаходак у Пантыкапеі (сучасная Керч), на Паўн. Каўказе і інш. рэгіёнах, што тлумачыцца рознымі формамі ўключэння мясц. эліты ў дзейнасць Г.

Большая частка археал. знаходак, вядомых помнікаў гунскага часу мае еўрап. прататыпы. З культурай, прынесенай Г. з Азіі, звязваюць літыя катлы з грыбападобнымі ручкамі, дыядэмы і некаторыя інш. ўпрыгажэнні, залатыя абкладкі лукаў, драўляных скульптур і посуду, трохлопасцевыя рамбічныя стрэлы. У межах дзяржавы Г. на падставе многіх традыцый сфарміравалася інтэрнац. «мода» эліты, для якой паказальны шэраг тыпаў упрыгажэнняў у «паліхромным стылі гунскай эпохі» (у асн. залатая паверхня, усыпаная ўстаўкамі з чырвоных камянёў, найчасцей гранатаў). У многіх рэгіёнах гэтыя стылі зніклі следам за дзяржавай Г., але ў Паволжы, на Паўн. Каўказе і некаторых інш. месцах яны атрымалі развіццё і ў 2-й пал. 5—6 ст. (напр., помнікі кшталту Шыпава).

Дзяржава Г. у перыяд свайго росквіту займала тэр. ад Падунаўя да Паволжа і Паўн. Каўказа. Ім падпарадкоўваліся, захоўваючы ўнутраную аўтаномію, некаторыя германскія групоўкі, напр., гепіды і остготы. Саюзнікамі (альбо даннікамі) Г. былі *анты*. За межамі стэпаў і вядомых паводле пісьмовых крыніц месцаў прысутнасці Г. «гунскія» катлы знаходзілі ў Маравіі і Сілезіі, у Прыкам'і і ў раёне Сыктыўкара, што, верагодна, адлюстроўвае абсяг абласцей, якія кантралявалі Г. Як «гунскае» інтэрпрэтуюць багатае пахаванне ў Якушавіцах (паблізу Кракава). У шэраг шматлікіх правадыроў розных аб'яднанняў, якія існавалі ў час уладарання Атылы, верагодна, былі і ўраджэнцы лясной зоны Усх. Еўропы, але для вызначэння межаў і форм уплыву Г. наяўных крыніц недастаткова. Спробы звязаць з паходамі Г. ў лясныя зоны Еўропы знаходкі трохлопасцевых стрэл выглядаюць непераканаўча, паколькі не звязаны з інш. знаходкамі, а такі тып стрэл у далейшым быў шырока распаўсюджаны. Аднак не выключана, што элементы паяснай гарнітуры

познарымскага вайсковага стылю 2-й пал. 4 ст. — 1-й пал. 5 ст., знойдзеныя ў бел. Палессі (Востраў, Снядзін), адлюстроўваюць удзел мясц. славян у ваенных акцыях, звязаных з Г.

У візантыйскай гістарыяграфіі найменне «Г.» прымянялася і да інш. вандроўных народаў, нават да венграў. Вобраз бязлітасных дзікіх Г., разбуральнікаў антычнай культуры, быў распаўсюджаны ў сярэдневяковай хрысціянскай літаратуры, успрыняты пісьменнікамі і мастакамі (а пазней і кінематографістамі) новага і навейшага часу, выкарыстоўваўся ў прапагандысцкай палітычнай рыторыцы.

*Літ.*: Иностранцев К.А. Хунну и гунны. Ленинград, 1926; Артамонов М.И. История хазар. М., 1962; Сиротенко В.Т. История международных отношений в Европе во второй половине IV — начале VI в. Пермь, 1975; Хауссиг Г.В. К вопросу о происхождении гуннов // Византийский временник. М., 1977. Т. 38; Степи Евразии в эпоху средневековья // Археология СССР. М., 1981; Засецкая И.П. Культура кочевников южнорусских степей (конец IV — V вв.). Санкт-Петербург, 1994; Шувалов П.В. Немощь Аттилы // Чужое: опыт преодоления: очерки из истории культуры Средиземноморья. М., 1999; Черниенко Д.А. Гунны в Европе. Ижевск, 2003; Никифоров В.П., Худяков Ю.С. «Свистящие стрелы Маодуня» и «Марсов меч» Аттилы. М.; Санкт-Петербург, 2004; Острая Лука в древности. Замятнинский археологический комплекс. М., 2004; Острая Лука в древности. Замятнинский археологический комплекс. М., 2004; Thompson E.A. A History of Attila and the Huns. Oxford, 1948 (рус. пер.); Altheim F. Geschichte der Hunnen. Bd. 1—5. Berlin, 1959—62; Maenchen-Helfen O.J. Die Welt der Hunnen. Wien; Köln; Garz, 1978; Bona I. Das Hunnenreich. Stuttgart, 1991; Hunnen + Awaren. Eisenstadt, 1996; Anke B. Studien zur reiternomadischen Kultur des 4. bis 5. Jahrhundert. Wiesbaden, 1998; Tyszkiewicz L.A. Hunowie w Europie. Wrocław, 2004.

*І.А.Гаўрытухін.*

**ГУ́РКІ**, археалагічны помнік — курганны могільнік *дрыгавічоў* каля хутара Гуркі Брэсцкага р-на. На Пд ад хутара, за 0,2 км ад дарогі Відамля—Высокае, у бярозавым гаі. 171 курган выш. 0,4—1,7 м, дыям. 6—14 м (самы вял. па колькасці курганоў могільнік у Брэсцкай вобл.). Насыпы абкладзены каля асновы валунамі, здзірванелыя, парaслі дрэвамі і хмызняком. Рэчышчам перасохлай рэчкі могільнік падзелены на 2 часткі, большасць курганоў знаходзіцца на З ад рэчышча, ва ўсх. частцы насыпаў значна менш, але яны самыя вял. па памерах. Могільнік вядомы з 19 ст. Абследавалі ў 1937 К.Салевіч, у 1958 І.В.Біруля, у 1980, 1985 Т.М.Каробушкіна; у 1960 І.В.Біруля даследаваў 14 насыпаў, у 1986, 1990 Т.М.Каробушкіна — 11 курганоў, пахаванні выяўлены толькі ў 12 з 25 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З (8 курганоў) і на У (4), рукі выцягнуты ўздоўж тулава.

У курганах без пахаванняў сустракаліся вуглі, жалуды. У адным з насыпаў без пахавання выяўлены рэшткі згарэлай труны даўж. 2,7 м, шыр. 1 м, арыентаванай па восі З—У. У курганах знойдзены фр-ты рыфлёнага ганчарнага посуду з



*Да арт. Гуны. Цуглі з сярэбранымі наканечнікамі і дэкаратыўнымі зажымамі (серабро, золата, альмадзівы, гранаты) каля 400 н.э. (Керч, Украіна, некропаль на Шпітальнай вул.).*

адагнутымі венчыкамі, глінянае прасліца, сярэбраны віты пярсцёнак, цвікі, жал. нажы, у т.л. адзін з шырокай спінкай. У 5 курганах з пахаваннямі выяўлены попельна-вугальныя падсыпкі даўж. 1 м, шыр. 0,8 м, таўшч. 10—12 см. Такая падсыпка адсутнічала ў кургане № 18, дзе быў пахаваны мужчына ва ўзросце 25—30 гадоў, у скроневай і цемяннай частках яго чэрапа былі адтуліны, у левай руцэ нож. Нябожчык ляжаў галавой на У. У насыпе знойдзена шпора. Насып кургана меў абкладку з камянёў дыям. 5,7—5,9 м, у цэнтры знаходзілася каменная пліта памерамі 70 × 30 см. Асаблівасці пахавальнага абраду і інвентару даюць падставы меркаваць, што тут пахаваны воін (відаць, не мясц. паходжання). Могільнік датуецца 11—13 ст.

*Літ.*: Покровский Ф.В. Археологическая карта Гродненской губернии. Вильна, 1895; Кухаренко Ю.В. Средневековые памятники Полесья // САИ. 1961. Вып. Е1—57; Коробушкина Т.Н. Курганы Белорусского Побужья X—XIII вв. Минск, 1993.

*Т.М.Каробушкіна.*

*Да арт. Гуны. Бронзавыя катлы 5 ст.: 1 — з тэрыторыі Расіі (Сімбірская губерня); 2 — з Польшчы (г. Ендшашавіцы).*





*М.Ф.Гурын.*



*Н.М.Гурына.*



*Ф.Д.Гурэвіч.*

**ГУ́РЫ**, археалагічныя помнікі — селішча і курганны могільнік каля б. в. Гуры Вілейскага р-на Мінскай вобл.

Селішча за 0,3 км на ПдУ ад вёскі, на правым беразе р. Сэрвач. На мысападобным узвышшы, абмежаваным з Пн высокім берагам ракі, з У і З — забалочанай поймай. Пл. каля 0,7 га. Выявіў у 1955 А.Р.Мітрафанаў, у 1971 ва ўсх. частцы селішча ён правёў раскопкі (328 м²). Культ. пласт таўшч. 0,2—0,25 м. Даследаваны 2 прадаўгаватыя курганы, што знаходзіліся ў межах раскопу. Пад іх насыпамі выяўлены некрануты культ. пласт селішча таўшч. 0,3 м, а паміж імі — не больш за 0,15—0,2 м. Насыпы складаліся ў асн. з культ. напластаванняў селішча. Знойдзены жал. сярпы, нажы (серпападобныя для жніва і гасп.), спражкі, фібулы, бронзавыя кольцы, гліняныя праслiцы (частка з іх арнаментавана нарэзкамі і наколкамі). Кераміка штрыхаванай і банцараўскай культур. Датуецца 5—6 ст.

Курганны могільнік на паўд.-зах. ускраіне вёскі, на правым беразе р. Сэрвач. 19 круглых (дыям. 6—12 м, выш. 0,5—1,2 м) і 36 прадаўгаватых (памеры 7—9 × 12—17 м, выш. 0,6—1,5 м) курганоў. У аснове некаторых насыпаў прасочваюцца раўкі з перамычкамі і без іх. Некалькі насыпаў пашкоджаны. Могільнік выявілі ў 1930-я г. Г.Цэгак-Галубовіч і У.Галубовіч. У 1955—56, 1965, 1971—72 А.Р.Мітрафанаў раскапаў 16 прадаўгаватых курганоў (з іх 7 пустыя). Пахавальны абрад — трупаспаленне па-за межамі кургана. Рэшткі крэмацыі разам з рэчамі змешчаны ў выкапаных у мацерыку ямах і накрыты перавернутымі ўверх дном гаршкамі (3 курганы) або ссыпаны непасрэдна на гарызонце (5 насыпаў). У адным кургане 2 пахаванні (на гарызонце і ў насыпе). Пахавальны інвентар бедны, пераважна ўпрыгажэнні: бронзавыя спіралькі, бляшкі, шкляныя пацеркі і інш. Датуецца 8—9 ст.

*Літ.*: Митрофанов А.Г. Поселение и могильник в Гурках // Тез. докл. на секциях, посвящ. итогам полевых исследований 1971 г. М., 1972; Я г о ж. Железный век Средней Белоруссии (VII—VI вв. до н.э. — VIII в. н.э.). Минск, 1978. *Я.Г.Зверуга.*

**ГУ́РЫН** Міхаіл Фёдаравіч (н. 8.11.1941, в. Радунь Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл.), беларускі археолаг. Д-р гіст. навук (1991). Скончыў БДУ (1971). Узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі (за размініраванне ў час тэрміновай вайсковай службы). У 1976—2005 у ІГ НАН Беларусі. Даследаваў праблемы металургіі і кузневай апрацоўкі жалеза, ліцейнай справы ў Беларусі; сувязі бел. насельніцтва з краінамі Зах. Еўропы ў далёкай старажытнасці і ў сярэдневякоўі. Адзін з аўтараў «Археалогіі Беларусі» (т. 2, 1999) і «Гісторыі Беларусі» (т. 1, 2000).

*Тв.*: Древнее железо Белорусского Поднепровья (I тысячелетие н.э.). Минск, 1982; Мир: ист.-экон. очерк. Минск, 1985; Кузнечное ремесло Полоцкой земли IX—XIII вв. Минск, 1987.

**ГУ́РЫНА** Ніна Мікалаеўна (17.6.1909, г. Растоў Яраслаўскай вобл., Расія — 9.9.1990), расійскі археолаг. Д-р гіст. навук (1963). Скончыла Маскоўскі ун-т (1930). Працавала ў Кандалакшскім краязнаўчым музеі (Петразаводск, 1931—32), Эрмітажы (1935— 38), з 1936 у ІГ матэрыяльнай культуры АН СССР (Ленінград). Вывучала археал. помнікі Беларусі, у т.л. крэменездабыўныя шахты на р. Рось (у Ваўкавыскім р-не Гродзенскай вобл.). Распрацавала методыку пошуку і даследавання шахтаў, вызначыла іх датаванне (1640—1240 да н.э.) і прыналежнасць да культуры шнуравой керамікі. У к. 1950-х — пач. 1960-х г. даследавала звыш 50 помнікаў каменнага і бронзавага вякоў на Панямонні і Падзвінні. Вызначыла адносную храналогію археал. помнікаў, пераемнасць ранняга неаліту з папярэднім часам. Меркавала, што Бел. Панямонне, Літва і паўн.-ўсх. раёны Польшчы ў часы мезаліту і неаліту ўваходзілі ў адзіную культ. вобласць. Адзначыла асаблівасць мезалітычных прылад працы археал. помнікаў паўн.-зах. Беларусі і магчымасць існавання там нёманскай культуры.

*Тв.*: Древняя история северо-запада Европейской части СССР. М.; Ленинград, 1961; Из истории древних племен западных областей СССР. Ленинград, 1967; Древние кремнедобывающие шахты на территории СССР. Ленинград, 1976. *В.Л.Ліпніцкая.*

**ГУРЭ́ВІЧ** Фрыда Давыдаўна (1.1.1912, Рыга — 8.9.1988), расійскі археолаг. Канд. гіст. навук (1937). Скончыла Ленінградскі педагагічны ін-т імя А.І.Герцэна (1932). У 1937—58 працавала ў ІГ матэрыяльнай культуры АН СССР, з 1959 у Ленінградскім аддзяленні Ін-та археалогіі АН СССР. З 1949 вывучала археал. помнікі паўд.-ўсх. Прыбалтыкі, з 1955 — Верхняга Панямоння 1-га тыс. н.э. — 14 ст. Археал. матэрыялы, здабытыя Г., далі падставу сцвярджаць, што да апошніх стагоддзяў тысячагоддзя на тэр. Верхняга Панямоння жылі ўсх.-балцкія плямёны. У канцы тысячагоддзя тут з'явіліся ўсх. славяне, якія хутка абжылі яе і ў пач. 2-га тыс. заснавалі свае паселішчы: спачатку неўмацаваныя (10 ст.), а потым умацаваныя (пач. 11 ст.). У выніку шматгадовага комплекснага вывучэння гал. горада Верхняга Панямоння — Навагрудка (пасада, дзяцінца, вакольнага горада), а таксама грунтавых і курганных могільнікаў на тэр. горада і паблізу яго (1956—63, 1965—76, 1984—85) зрабіла каштоўныя вывады аб яго ўзнікненні і развіцці. Даказала, што на старонкі летапісаў Навагрудак трапіў больш чым на 2 стагоддзі пазней сапраўднага ўзнікнення. Па матэрыялах інш. даследчыкаў распрацавала пытанні паходжання, эканамічных, гандл. сувязей і інш. бакоў жыцця стараж. гарадоў Верхняга Панямоння.

*Тв.*: Древности Белорусского Понеманья. М.; Ленинград, 1962; Внешние связи древнерусских городов на территории Белоруссии в XII—XIII вв. // Древности Белоруссии. Минск, 1967; Древний Новогрудок: посад-окольный город. Ленинград, 1981; Древние города Белорусского Понеманья. Минск, 1982; Застройка Новогрудского детинца в XII—XIII вв. // КСИА. 1984. Вып. 179; О времени постройки церкви Бориса и Глеба в Новогрудке // Там жа. 1986. Вып. 187; О «кубках Яд-

вигиˮ // История и культура средневековой Руси. М., 1987.

*Літ.*: К и р п и ч н и к о в А.Н., М а л е в с к а я М.В. Памяти Фриды Давыдовны Гуревич // СА. 1990. № 2; В с е в и л о в Л.М. Список основных работ Ф.Д.Гуревич // Там жа. *Т.М.Каробушкіна.*

**ГУ́СКІ**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля б. в. Гускі Мядзельскага р-на Мінскай вобл. За 0,5 км на ПдЗ ад вёскі, на ўскраіне лесу. Мясц. назва Горкі. Захавалася 20 круглых (дыям. да 10 м, выш. да 1,2 м) і авальных (даўж. да 15 м, шыр. 7—8 м, выш. да 1,5 м) насыпаў. Многія значна пашкоджаны. Паводле звестак мясц. жыхароў, раней курганоў было значна больш. У 1895 Ф.В.Пакроўскі раскапаў 3 круглыя курганы, абкладзеныя камянямі. Пахавальны абрад — трупаспаленне на грунце (у 2 курганах па адным пахаванні, у адным — 2). Знойдзены 2 жал. сярпы, наканечнік кап'я, 3 бронзавыя спіральныя пярсцёнкі, некалькіх зліткаў бронзы. Могільнік належаў балцкім плямёнам. Датуецца 5—8 ст.

*Літ.*: П о к р о в с к и й Ф.В. К исследованию бассейна Вилии в археологическом отношении. М., 1899. *Я.Г.Зверуга.*

**ГУ́ТА**, археалагічныя помнікі — стаянкі і селішча каля в. Гута Бярэзінскага р-на Мінскай вобл.




*Крамянёвы інвентар стаянкі-1* ***Гута*** *Бярэзінскага р-на: наканечнік стралы (1), праколкі (2, 6), правёрткі (3—5, 7), выемчата-зубчастыя прылады (8—12), скрабкі (13—27), долатападобная прылада (28).*

С т а я н к а - 1 *грэнскай культуры* за 1 км на ПнЗ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна. Пл. 1500 $м^2$, выш. 3,5—4 м. Выявіў у 1982 і даследаваў 100 $м^2$ у 1990 У.П.Ксяндзоў. Культ. пласт 0,1—0,45 м. Знойдзены прылады працы з крэменю і адыходы іх вытворчасці ў колькасці 235 адз.: адшчэпы (148), пласціны і іх абломкі (17), нуклеусы (17), наканечнік стралы грэнскага тыпу, выкананы на масіўнай рабрыстай пласціне, асіметрычны, тронкавы і пласціна са скошаным рэтушшу канцом, праколкі (2), свердлы-правёрткі (4), выемчата-зубчастыя прылады (5), скрабкі (17), разцы (7), скоблі (5). Датуецца 8—7-м тыс. да н.э.

С т а я н к а - 2 эпохі неаліту і с е л і ш ч а ранняга жал. веку за 0,3—0,4 км на З ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна. Пл. 1000 $м^2$. Выявіў і даследаваў у 1982 У.П.Ксяндзоў. Культ. пласт 0,15 м. Знойдзены неалітычныя скрабкі з крэйдавага крэменю, нуклеусы, пласціны, адшчэпы, фр-ты гладкасценнай ляпной керамікі з дамешкай жарствы.

*Літ.*: К с я н д з о ў У.П. Помнікі каменнага веку ў сярэднім цячэнні ракі Бярэзіна // Помнікі культуры: новыя адкрыцці. Мінск, 1985; Я г о ж. Мезолит северной и центральной Беларуси // МАБ. 2006. № 13.

*І.М.Язэпенка.*

**ГУ́ТА**, археалагічны помнік — курганны могільнік радзімічаў каля в. Гута Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл. За 1 км на У ад вёскі, на беразе старыцы р. Сож. 14 курганоў выш. 0,8—1,2 м, дыям. 6—8 м. Даследавалі ў к. 19 ст. М.М.Філонаў, у 1910 Е.Р.Раманаў, у 1962 Г.Ф.Салаўёва. У 1976 абследаваў А.Р.Мітрафанаў. Пахавальныя абрады — трупаспаленне за межамі курганоў альбо трупапалажэнне на гарызонце (жаночыя — галавой на З, мужчынскія — на З і У). Знойдзены перапаленыя косці чалавека, каня, бронзавыя злішкі, рэшткі вудзільняў, пахаванне воіна, сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы, вітая грыўня, пацеркі, падвескі, жал. нажы, бранзалеты, шыферныя прасліцы, кераміка. Датуецца 10—11 ст.

*Літ.*: Л о н а ч е в с к и й А. Археологические находки в Гомельском уезде Могилевской губернии // Киевская старина. 1885. Т. 11; Р о м а н о в Е.Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии). Вильна, 1910; С о л о в ь е в а Г.Ф. Погребальные обряды // Древности железного века в междуречье Десны и Днепра. М., 1962.



**ДАВЫ́Д-ГАРАДО́К**, археалагічныя помнікі — бескурганныя могільнікі і селішча каля г. Давыд-Гарадок Столінскага р-на Брэсцкай вобл.

Бескурганны могільнік *зарубінецкай культуры* за 2 км на ПнУ ад горада, ва ўр. Леваноўшчына. Адкрыты ў 1978 у час распрацоўкі пясчанага кар'ера. Знойдзены 2 неглянцаваныя міскі (адна вастрарэберная на кальцавым паддоне, другая з плаўна выгнутым тулавам), 3 кубкі (2 з іх мелі чорнае глянцаванне), 3 гаршкі і жал. ўтулкавы наканечнік кап'я з полымепадобным пяром. У 1981 Г.М.Залашка даследаваў 100 м$^2$, выявіў 3 пахаванні. Пахавальны абрад — трупапаленне па-за межамі могільніка. Кальцыніраваныя косці змяшчаліся на дне магільных ям глыб. 0,5—0,6 м у спец. гліняных чорнаглянцаваных гаршках-урнах. Пахавальны інвентар адсутнічаў. У пахаванні № 3 ва урне побач з касцямі выяўлены фр-ты глянцаванай керамікі, у пахаванні № 2 гаршчок-урна меў у верхняй частцы дзяржанне, у пахаванні № 3 — два дзяржанні з процілеглых бакоў. Могільнік датуецца 1 ст. да н.э. — 1-й пал. 1 ст. н.э.

Бескурганны могільнік *мілаградскай культуры* за 0,3 км на ПнУ ад зарубінецкага могільніка. У сценцы кар'ера на глыб. 0,6 м знойдзены невял. гаршчок з адагнутым вонкі венчыкам. У раскопе пл. 24 м$^2$ на глыб. 0,3 м ад паверхні выяўлены контуры падоўжанай ямы, арыентаванай з З на У, у ніжняй частцы зафіксавана авальная пляма (0,35 × 25 м) попелу і кальцыніраваных касцей. На У ад яе знаходзіўся вял. кругападобны гаршчок. Пахаванне датуецца 6—4 ст. да н.э.

Селішча-1 зарубінецкай культуры за 1 км на ПдЗ ад Давыд-Гарадка, на тэрасе левага берага р. Гарынь. Пл. каля 5 га. Выявіў і даследаваў 200 м$^2$ у 1985 А.А.Егарэйчанка. Культ. пласт 0,3—0,8 м. На глыб. 0,2—0,25 м зафіксаваны рэшткі наземнага жытла слупавой канструкцыі, прамавугольнай у плане формы, памеры 4 × 3,6 м. У яго паўн. куце на глыб. 0,4—0,5 м ад паверхні расчышчаны рэшткі агнішча (1,2 × 0,8) у выглядзе абпаленай гліны, попелу і вугалёў. Унутры агнішча і па-за яго межамі знойдзена шмат фр-таў грубаляпнога посуду і касцей жывёл. За 1 м ад паўн.-зах. сцяны жытла знаходзілася гасп. яма дыям. 1,6 м, глыб. 0,2 м ад узроўню мацерыковай паверхні, унутры якой знойдзены абломкі грубаляпных зарубінецкіх пасудзін і косці жывёл. Сярод 1735 фр-таў глінянага посуду 6% складае ганчарная кераміка стараж.-рус. перыяду, 2 венчыкі ад гаршкоў мілаградскай культуры, астатнія фр-ты гаршкоў, місак, кубкаў, патэльняў, глянцаваных накрывак зарубінецкай культуры. Паводле спосабу вытворчасці вылучаюць 4 групы посуду: старанна загладжаныя, шышкаватыя, шурпатыя і глянцаваныя пасудзіны. На знешнім баку шэрага грубаляпных гаршкоў прыкметны вертыкальна размешчаныя кальцавыя баразёнкі або штрыхі, адзінкавыя экзэмпляры арнаментаваны косымі насечкамі па краі венчыка, а таксама пазногцевымі ўцісканнямі па тулаве. Глянцавы посуд (пераважна міскі) складае больш за 6% усіх керамічных абломкаў. Сярод інш. знаходак — 2 фр-ты жал. нажоў, кавалкі тыгляў. Датуецца к. 1-га тыс. да н.э. — 1-й пал. 1 ст. н.э.

Селішча-2 за 1,5 км на У ад горада на пясчанай дзюне памерамі 100 × 150 м. У 1986 абследавалі В.С.Вяргей і А.А.Егарэйчанка. Знойдзены фр-ты ляпной керамікі мілаградскай і зарубінецкай культур.

Селішча-3 познезарубінецкай культуры за 1,5 км на ПнУ ад горада, на правым беразе р. Гарынь, ва ўр. Хабішча. У 1989, 2005 Г.М.Бяліцкая даследавала 100 м$^2$. Выяўлены рэшткі свяцілішча ў выглядзе паглыблення падквадратнай формы памерамі 4,2 × 4,4 м. У яго цэнтры знаходзілася слупавая яма ад драўлянага ідала. У зах. частцы прасочваецца агнішча адкрытага тыпу. У запаўненні агнішча знойдзены фр-ты ляпнога посуду, крамянёвыя адшчэпы, упрыгожанні, косці жывёл, птушак і рыб. Сярод знаходак на селішчы фр-ты акруглабокіх і рабрыстых гаршкоў і місак, біканічныя праслiцы, падкавападобная фібула з выемчатымі эмалямі. Свяцілішча датуецца 2 — пач. 3-га ст.

*Літ.*: Залашко Г.М., Еременко В.Е. Новый зарубинецкий могильник в Полесье // СА. 1984. № 2; Егорейченко А.А. Исследования в Давид-Городке // АО 1985. М., 1987; Я г о ж. Зарубинецкое селище в Давид-Городке // Stratum plus. 2000. № 4.

*А.А.Егарэйчанка.*

**ДАВЫ́Д-ГАРАДО́К**, горад у Столінскім р-не Брэсцкай вобл., прыстань на правым беразе р. Гарынь за 10 км ад яе ўпадзення ў р. Прыпяць. За 35 км на ПнУ ад Століна, 39 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны (Украіна). Аўтадарогамі звязаны з Пінскам, Столінам, Туравам.

Паводле археал. даследаванняў, узнік у пач. 12 ст. (у летапісах таго часу не ўпамінаецца). Мяркуюць, што заснавальнікам Д.-Г. быў валынскі кн. Давыд Ігаравіч, які быў пазбаўлены Уладзімірскага княства ў 1100 і атрымаў замест яго Пагарынне. У 14—18 ст. на месцы б. дзяцінца існаваў *Давыд-Гарадоцкі замак*. У гіст. дакументах Д.-Г. упершыню ўпамінаецца ў 14 ст. ў складзе ВКЛ. У 1503 пад Д.-Г. былі разбіты татары. Паводле ўскосных звестак, горад меў магдэбургскае права. З 1565 у складзе Пінскага пав. Брэсцкага ваяводства. З 1579 цэнтр ардынацыі, з 1586 у Клецкай ардынацыі. У час антыфеад. вайны 1648—54 паўстаўшыя жыхары горада трымалі пад сваім кантролем Гарадоцкую воласць і частку Пінскага пав. У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 у 1655 разбураны і спалены; у 2-й пал. 17—18 ст. прыйшоў у эканамічны заняпад. З 1793 у складзе Расіі.

Гарадзішча стараж. Д.-Г. — у цэнтры сучаснага горада, узвышаецца на 3—5 м над наваколлем. Пляцоўка гарадзішча акруглай формы памерамі 100 × 110 м, па яе краях у асобных месцах узвышаюцца рэшткі земляных абарончых валоў (выш. да 2 м). З паўд. боку працякала р. Няпраўда (раней Чартарыя, Няволя; цяпер перасохла), з усх. — знаходзіўся балоцісты поплаў. У 1936—39 гарадзішча даследаваў Р.Якімовіч (ускрыта 1000 $м^2$), у 1967 — П.Ф.Лысенка (112 $м^2$). Культ. пласт да 3,5 м, добра захоўвае прадметы арганічнага і неарганічнага паходжання. Пры раскопках 1936—38 знойдзены рэшткі 12 пабудоў. У раскопе 1967 ускрыты 15 пабудоў, якія адносяцца да 6 буд. ярусаў (самы стараж. з іх — пач. 1160-х г.). Забудова мела высокую шчыльнасць, якая ўзрастала ў больш позні час. Планіроўка вызначалася высокай стабільнасцю. Жылыя і гасп. пабудовы наземныя, аднакамерныя, зрубавай канструкцыі. Большасць жылых пабудоў мела памеры 6 × 6 м, гасп. — 2,4 × 2,4 м; 2,5 × 2,9 м; жывёлу трымалі ў кашарах. Пры будаўніцтве бярвёны звязвалі ў зруб у просты вугал («абло з астаткам»), а злучальную чашку і пазы вырубалі з верхняга боку бервяна; падлогу рабілі з тоўстых колатых дошак, пакладзеных на лагі, урубленыя ў сцены. У 1937—38 ускрыта некалькі вулічных маставых 12 ст. Гал. вуліца ўяўляла сабой насціл з колатых плашак, пакладзеных на каркасную аснову з падоўжных і папярочных лаг, астатнія вуліцы больш простай канструкцыі. Забудова частаколамі падзелена на сядзібы. Выяўлены рэшткі царквы з 2 прамавугольных зрубаў, непадалёку ад яе — 23 пахаванні ў дубовых саркафагах.

Культ. пласт гарадзішча насычаны рэшткамі прадметаў штодзённага выкарыстання. З прылад працы знойдзены кавальскія абцугі і прабойнік, долата, разец-лажкар, бандарная пілка, сякера, нажніцы, нажы, шавецкія капылы, шылы, верацёны, сярпы, жорны, касцяныя іглы для вязання сетак; з прадметаў узбраення — наканечнік кап'я-суліцы, 4 наканечнікі стрэл, свінцовая булава; з жаночых упрыгажэнняў — віты бранзалет з меднага дроту, свінцовая манетападобная падвеска, медны пярсцёнак. Вырабы з косці нешматлікія (праколкі, утулкі, дзяржанні), ёсць фр-ты скуранога абутку. Шмат вырабаў з дрэва (клёпкі, донцы і нарыхтоўкі бандарнага посуду, верацёны, лыжкі), паплаўкоў для рыбалоўных сетак з кары. З каменных вырабаў — шыферныя праслíцы, брускі з пясчаніку, жорны; са шкляных — фр-ты каляровых бранзалетаў, блізкіх па форме і каляровай гаме да кіеўскіх. Найб. частая знаходка — фр-ты керамічнага посуду, вельмі блізкага да керамікі Турава і Пінска. Мяркуючы па знаходках, мясц. насельніцтва займалася земляробствам, жывёлагадоўляй (пераважала над паляваннем), рыбалоўствам; жалезаапрацоўкай, кастарэзным, гарбарна-шавецкім і ганчарным рамёствамі. Былі развіты апрацоўка дрэва, прадзенне, ткацтва.

*Літ.*: Л ы с е н к о П.Ф. Города Туровской земли. Минск, 1974; Я к и м о в и ч Ю.А. Зодчество Белоруссии XVI — середины XVII в.: справ. пособие. Минск, 1991; J a k i m o w i c z R. Dawidgródek. Pińsk, 1939.

*П.Ф.Лысенка.*

**ДАВЫ́Д-ГАРАДО́ЦКІ ЗА́МАК**. Існаваў у 14—18 ст. на р. Гарынь у Столінскім р-не Брэсцкай вобл. Узнік на месцы стараж. дзяцінца *Давыд-Гарадка*, на высокім правым беразе ракі, на асобным узгорку, які з З абгінала р. Гарынь, з Пд — р. Няпраўда (яна ж Чартарыя, Няволя), з У да яго прымыкала балоцістая нізінная лугавіна; з Пн Замкавую гару ад карэннага берага аддзяляў вузкі і даволі глыбокі роў, які цяпер заплыў. Помнік вывучалі ў 1937—39 Р.Якімовіч, у 1961 П.А.Рапапорт, у 1967 П.Ф.Лысенка. Лінія гар. умацаванняў Давыд-Гарадка базіравалася выключна на магутнасці замка, які атрымаў у спадчыну ад стараж. дзяцінца яго прыродныя і штучныя абарончыя якасці, значна ўдасканаленыя ў сярэдневякоўі. Замкавая гара ўзвышалася на 3—5 м над узроўнем вады ў Гарыні, мела амаль круглую пляцоўку ў плане дыям. 100—110 м. Яна была абведзена магутным земляным валам, насыпаным з рачнога пяску. Унутры насыпу ступеньчата размяшчаліся драўляныя перакладныя канструкцыі, якія падтрымлівалі зададзеную стромкасць схілаў, асабліва знешняга. Выш. гэтых сцен-эскарпаў унутры вала дасягала 1 м. Уцалелыя часткі б. вала маюць выш. каля 2 м і шыр. ў аснове да 10 м.

*М.А.Ткачоў.*

**ДАЙНО́ВА**, назва аднаго з заходнебалцкіх плямён, якое разам з паляксянамі і *яцвягамі* складала адзіны племянны саюз. На думку некаторых даследчыкаў, з к. 1-га тыс. да н.э. насялялі тэр. паміж р. Нёман і вярхоўямі р. Нараў. У 13 ст. землі Д. падвергліся нападам з боку Тэўтонскага ордэна.

Частка насельніцтва была гвалтоўна перaселена ў Прусію, частка мігрыравала на тэр. Польшчы, паўд.-зах. Літвы і зах. Беларусі. Асіміляваны славянамі і літоўцамі. Археал. помнікі Д. — *каменныя курганы*. На думку В.В.Сядова, ім належаць *каменныя могільнікі* ў міжрэччы Нёмана і вярхоўях р. Вілія (*Апонаўцы*, *Вензаўшчына*, *Клепачы*, *Маркіняты*, *Салапяцішкі*, *Пузелі* і інш.). Дайноўскае ўдзельнае княства ў складзе ВКЛ упамінаецца ў грамаце вял. князя літ. Міндоўга 1259. У 1270-я г. знаходзілася ва ўладанні вял. князя літ. Трайдзеня. Сляды пражывання Д. на землях Беларусі захаваліся ў шматлікіх тапонімах (Дзейнова, Дайнава, Дайноўка і інш.), якія лакалізаваны ў міжрэччы Віліі і верхняга Нёмана і ў раёнах гарадоў Валожын, Гродна, Слонім, гар. пасёлкаў Івянец, Радашковічы.

*Літ.:* С е д о в В.В. Ятвяжское племя Дейнова // КСИА. 1968. № 113. *І.У.Чаквін, Г.В.Штыхаў.*

**ДАКУ́ДАВА**, археалагічныя помнікі — стаянкі (5) каля вёсак Дакудава 1 і Дакудава 2 Лідскага р-на Гродзенскай вобл. Абследавалі ў 1962 М.М.Чарняўскі (стаянка-1), у 1998 В.Л.Лакіза (стаянкі-2—7), у 1998 В.М.Сідаровіч (стаянка-5).

С т а я н к а - 1 за 1 км на Пд ад вёскі, на правабярэжнай тэрасе р. Нёман. Памеры 500—700 × 800—1000 м. Культ. пласт 0,4—0,6 м, разворваецца. Знойдзены крамянёвыя вырабы фінальнага палеаліту, мезаліту, неаліту, у т.л. нуклеусы, трапецыі, разцы, скрабкі, трохвугольныя наканечнікі стрэл кола *шнуравой керамікі культуры*. У раннім сярэдневякоўі тут існавала селішча.

У 1998 В.Л.Лакіза абследаваў помнікі Дакудава-2—7. Ён жа правёў раскопкі ў 1998—99, 2004 Дакудава-3 і 5. У 1998 Дакудава-5 даследаваў шурфоўкай В.М.Сідаровіч. З ваколіц вёскі паходзяць і 2 каменныя свідраваныя сякеры клінападобнай формы.

С т а я н к а - 3 за 0,6—0,7 км на У ад моста цераз р. Нарва, паміж вёскамі Дакудава 1 і Дакудава 2, на краі пясчанага ўзвышша. На паверхні знойдзены крамянёвыя мезалітычныя вырабы. В.Л.Лакіза даследаваў 14 м$^2$. Культ. пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя скрабкі, яніславіцкае вастрыё. Аднасіцца да *яніславіцкай культуры* эпохі мезаліту.

С т а я н к а - 5 за 2,5—2,8 км на ПдУ ад моста цераз р. Нарва, паміж вёскамі Дакудава 1 і Дакудава 2, на дзюне правабярэжнай поймы р. Нёман. Пл. каля 6000 м$^2$, выш. да 2,6 м$^2$. Выявілі ў 1998 В.Л.Лакіза і М.М.Чарняўскі. У 1998—99, 2004 В.Л.Лакіза даследаваў 151 м$^2$, у 1998 В.М. Сідаровіч — 21 м$^2$. Культ. пласт 0,4—0,6 м$^2$. Выяўлена каля 20 разнастайных аб'ектаў, сярод іх рэшткі 2 пахаванняў кола культуры шнуравой керамікі з суправаджальным інвентаром. Знойдзены 2532 фр-ты керамікі і 2 цэлыя ляпныя гаршкі розных археал. культур: прыпяцка-нёманскай раннeнеалітычнай (276 адз.); нёманскай неалітычнай лысагорскага і дабраборскага тыпаў (639); культуры шарападобных амфар (25); кола культуры шнуравой керамікі тыпу Бершты—Русакова і падгорнаўскага тыпу; тшцінецкага культ. кола нёманскай і верхнянёманскай (русаковіцкай) груп (64); позняга перыяду бронзавага веку (26); жал. веку культуры штрыхаванай керамікі (27); эпохі сярэдневякоўя — кругавая кераміка 16 ст. (120). Сярод посуду дабраборскага тыпу нёманскай культуры вылучаецца пасудзіна буйных памераў з дыям. па венчыку каля 36 см, арнаментаваная пракрэсленымі лініямі, якія ўтвараюць сетку і спалучаюцца з акруглымі глыбокімі наколамі, а таксама з арнаментацыяй зрэзу венчыка. Упершыню на правабярэжжы р. Нёман знойдзена кераміка культуры шарападобных амфар: невял. памераў посуд светла-карычневага, цёмна-шэрага колеру з дамешкай жарствы. На паверхні сценак таўшч. каля 4—5 мм захоўваюцца сляды лёгкай штрыхоўкі. Венчыкі сплошчаныя ці злёгку прыкругленыя, шыйкі кароткія, высокія, лейкападобныя, з плаўным пераходам у тулава. Арнаментаваны посуд лінейным прамавугольным штампам, з якога ўтвараліся гарызантальныя рады з вертыкальных адбіткаў, зігзагі, рады з нахіленых адбіткаў.





*Кубак і гаршчок кола культуры шнуравой керамікі са стаянкі-5* ***Дакудава***.

Да керамікі тыпу Берашты—Русакова належаць шэра-карычневага колеру кубак з дамешкам жарствы, выразна заштрыхаванай знешняй і загладжанай унутранай паверхнямі, без арнаментацыі; светла-шэрага колеру пласкадонны гаршчок (з пахавання) з загладжанымі паверхнямі, упрыгожаны 3 гарызантальнымі радамі з разрэджаных адбіткаў падавальнага (кроплепадобнага) штампа. Таксама ўпершыню выяўлена кераміка падгорнаўскага тыпу, у т.л. венчык са зрэзаным унутр і арнаментаваным краем, з шурпаватымі на вобмацак ад зярнят жарствы паверхнямі і арнаментацыяй у выглядзе заштрыхаваных трохвугольнікаў у спалучэнні з гарызантальнымі пасамі лінейных адбіткаў. Значную цікавасць маюць і часткова адноўленыя верхнія часткі 2 пасудзін верхнянёманскай (русаковіцкай) групы тшцінецкага культ. кола: невял. памераў гаршчок цёмна-шэрага колеру, упрыгожаны гарызантальнымі паралельнымі радамі з адбіткаў ружанцовага штампа, і буйная цюльпанападобная пасудзіна цёмна-шэрага колеру, упрыгожаная 8 паралельнымі радамі з ружанцовых адбіткаў, якія ўнізе дапаўняюцца зігзагападобнымі матывамі, утворанымі тым жа ружанцовым штампам. Знойдзены таксама прадукты першаснага расшчаплення, у т.л. рэтушоры, адбойнікі, 41 нуклеус. Сярод 160 экз. з другаснай апрацоўкай — адшчэпы і пласціны з участкамі рэтушы, праколкі на пласцінах і на адшчэпах, прылады са скоблепадобнымі выемкамі, пракруткі, разцы, скрабкі-нажы і канцавыя, скрабковыя прылады на тоўстых масіўных адшчэпах ці фр-тах нуклеусаў, мініскрабкі ножа- і серпападобныя, а таксама рубячыя прылады, шліфаваныя сякеры прамавугольнага і авальнага сячэнняў, трохвугольныя і рамбічныя наканечнікі стрэл. Выяўлены абломкі 3 каменных свідраваных сякер, конусападобныя стрыжні ад сякер, цясла з прышліфаваным лязом, скол са свідраванай сякеры, шліфавальныя пліткі, адбойнікі, акруглыя і фігурныя валуны невял. памераў. Паселішча перыядычна існавала ў неаліце, бронзавым, раннім жал. вяках на працягу 5—1-га тыс. да н.э. і як сярэдневяковае селішча ў 16 ст.

С т а я н к а - 6 за 1,8—2 км на ПдУ ад моста цераз р. Нарва, на прыруславым вале правага берага р. Нёман, ва ўр. Ліпава. Выявіў у 1998 В.Л.Лакіза. Знойдзены крамянёвы трохвугольны наканечнік стралы кола культуры шнуравой керамікі.

С т а я н к а - 7 за 1,3—1,5 км на ПдУ ад моста цераз р. Нарва, на дзюне правабярэжнай поймы р. Нёман. Выявіў у 1998 В.Л.Лакіза. Культ. пласт таўшч. 0,2 м слаба насычаны знаходкамі, разворваецца. Сярод пад'ёмнага матэрыялу маецца пашкоджаны трохвугольны наканечнік стралы кола культуры шнуравой керамікі.

*Літ.*: Л а к і з а В.Л. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга бронзавага веку Беларускага Панямоння. Мінск, 2008. *В.Л.Лакіза.*

**ДАКУ́ЧЫНА**, археалагічны помнік — курганна-жальнічны могільнік каля в. Дакучына Крупскага р-на Мінскай вобл. За 0,5—0,6 км ад вёскі, на ўзвышшы ўсх. ускраіны сучасных могілак каля воз. Худавец. Выяўлены настаўнікам-краязнаўцам А.П.Аляхновічам у 1990-я г. Абследаваў у 2002 В.І.Шадыра, даследавалі ў 2005 В.І.Шадыра і Л.У.Дучыц. Захаваліся 15 курганоў, 6 жальнічных магіл. Выш. курганоў 0,5—0,8 м, дыям. 5— 8 м. Дыям. жальнічных магіл 4—7 м. Паміж сучаснымі і курганна-жальнічнымі могільнікамі знаходзяцца познасярэдневяковыя пахаванні з надмагіллямі ў выглядзе каменных пліт і крыжоў. У 2005 раскапаны 2 курганы і 2 жальнікі. У адным кургане



1



2



3

*Крамянёвыя сякеры (1, 2), каменная шліфавальная плітка (3) са стаянкі-5 Дакудава.*

пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З. Каля тазавых костак знойдзена бронзавая паясная спражка. У другім пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на ПдЗ. На чэрапе выяўлены 10 металічных бляшак са слядамі пазалоты ад галоўнога ўбора (паўсферычнай шапачкі). У адным жальніку адзіночнае мужчынскае пахаванне, у другім парнае (мужчына і жанчына) — трупапалажэнне галавой на ПдЗ. Каля жаночага шкілета знойдзены бронзавы віты і драцяны перагнуты пярсцёнкі, фр-т драцянога скроневага кольца, сярэбраная завушніца. Рэчы датуюцца 11—13 ст.

*Літ.*: Ш а д ы р а В.І. Таямніцы возера Сялява // БГЧ. 2006. № 2; Я г о ж. Беларускае Падзвінне (І тысячагоддзе н.э.). Мінск, 2006. *В.І.Шадыра.*

**ДАЛЕ́НГА-ХАДАКО́ЎСКІ** Зарыян Якаўлевіч (сапр. Ч а р н о ц к і Адам; 24.12.1784, б. маёнтак Падгайна каля в. Гайна Лагойскага р-на Мінскай вобл. — 17.11.1825), беларускі славяназнавец, адзін з пачынальнікаў бел., укр., рус. і польскай археалогіі, стараж. гісторыі, фальклярыстыкі, этнаграфіі і дыялекталогіі. Чл.-кар. варшаўскага Т-ва сяброў навук (1819), пецярбургскага Вольнага т-ва аматараў рас. славеснасці (1819), маскоўскага Т-ва гісторыі старажытнасцей расійскіх (1820). Скончыў Слуцкае павятовае вучылішча (1800). Працаваў у Мінску, у Варончы пад Навагрудкам, у 1814—18 у бібліятэцы Крамянецкага ліцэя; у мінскіх архівах вывучаў стараж. бел. акты і граматы. 14.12.1812 Віленскі ун-т упершыню выдаў яму Грамату (*адкрыты ліст*) на правядзенне археал. даследаванняў. Удзельнічаў у шматлікіх экспедыцыях і навук. падарожжах па Польшчы, зах. і паўн. Украіне, паўн. Расіі, Беларусі. Вывучаў гарадзішчы (сабраў звесткі больш як пра 1 тыс.), замчышчы і курганы ў ваколіцах Бабруйска, Брэста, Ваўкавыска, каля вёсак Дараговічы, Цэль, Старыя Дарогі, Цімкавічы Мінскай, Радамль Магілёўскай губ., Старое Сяло пад Віцебскам і інш. месцах. Замалёўваў помнікі археалогіі і знойдзеныя пры раскопках рэчы, збіраў матэрыялы па гіст. геаграфіі, дыялекталогіі, этнаграфіі, фальклоры, тапонімы, гідронімы; упершыню ў славяназнаўчай навуцы выкарыстаў гэтыя звесткі для комплекснага вывучэння старажытнасці ў спалучэнні з археал. даследаваннямі і падкрэсліў выключнае значэнне помнікаў археалогіі як важнай гіст. крыніцы у вывучэнні побыту і культуры продкаў. У «Праекце вучонага падарожжа па Расіі для вытлумачэння старажытнай славянскай гісторыі» (1820) і «Гістарычнай сістэме Хадакоўскага» (апубл. 1838) абгрунтаваў археал. тэорыю гарадзішчаў, прынцыпы збору фальклору і дыялектнай лексікі, упершыню ў славістыцы паказаў ролю тапанімікі для гіст. даследаванняў. Гарадзішчы лічыў выключна слав. з'явай і на падставе сваёй тэорыі і этнамоўных дадзеных спрабаваў устанавіць межы стараж. рассялення славян і лакалізацыю іх асобных плямён ад Урала і Камы да Эльбы і ад Адрыятыкі да Паўн. Дзвіны. Склаў карту стараж. рассялення славян, узняў пытанне аб прарадзіме славян і іх сувязей з балцкімі народамі. Не паспеў апублікаваць большасць сваіх прац. Некаторыя з іх пазней друкаваў М.П.Пагодзін.

*Тв.*: Донесения о первых успехах путешествия в России З.Доленги-Ходаковского. 1822; Пути сообщения в древней России // Русский исторический сборник. 1837. Т. 1, кн. 1.

*Літ.*: К о х а н о в с к и й Г.А. Открытый лист З.Доленги-Ходаковского // Белорусские древности. Минск, 1967; Я г о ж. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі XVI— XIX стст. Мінск, 1984; М а л а ш - А к с а м и т о в а Л.А. Доленга-Ходаковский (Адам Чарноцкий) и его наследие // Lud. Wrocław, 1967. Т. 51, cz. 1; А к с а м і т а ў А.С., М а л а ш Л.А. З душой славяніна: жыццё і дзейнасць З.Я.Даленгі-Хадакоў- скага. Мінск, 1991; А л е к с е е в Л.В. Археология и краеведение Беларуси в XVI — 30-е годы XX в. Минск, 1996; M a ś l a n k a J. Zorian Dołęga-Chodakowski. Wrocław etc., 1965. *Л.У.Дучыц.*



*З.Я.Даленга-Хадакоўскі.*

**ДА́ЛЬНЯЕ ЛЯ́ДА**, археалагічныя помнікі — стаянкі каменнага веку каля в. Дальняе Ляда Быхаўскага р-на Магілёўскай вобл.

С т а я н к а - 1 на ўсх. ускраіне вёскі, на 2-й надпоймавай тэрасе Дняпра. Выявіў у 1966 В.М. Мотуз, абследаваў у 1972 В.Ф.Капыцін. Культ. пласт 0,2 м. У агаленні правага берага ракі і траншэі ваеннага часу знойдзены расшчэплены крэмень, кароткія скрабкі, пласціны і адшчэпы, нуклеусы.

С т а я н к а - 2 *грэнскай культуры* ранняга мезаліту за 0,5 км на Пд ад вёскі, на 2-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Дняпро, выш. 12 м над узроўнем ракі. В.Ф.Капыцін адкрыў у 1972 і даследаваў 116 м$^2$ у 1973 і 1988. Культ. пласт 0,3—0,5 м. Знойдзена каля 6 тыс. прадметаў крамянёвага інвентару (нуклеусы, пласціны, адшчэпы, некаторыя з рэтушшу). Выяўлены рабочыя месцы па апрацоўцы крэменю (больш за 100 артэфактаў на 1 м$^2$), шмат прылад для апрацоўкі косці, скуры і дрэва: скрабкі канцавыя, разцы рэтушаваныя і двухгранныя, сякеркі з перахватам і авальныя, вырабы з выемкай, тронкавыя наканечнікі стрэл (некаторыя з рэтушшу па краі пяра), разнастайныя вастрыі, нажы. З'яўляецца стаянкай-майстэрняй першаснай апрацоўкі крамянёвай сыравіны.

*Літ.*: К о п ы т и н В.Ф. Мезолит Юго-Восточной Белоруссии // КСИА. 1977. Вып. 149; Я г о ж. Археологические памятники Быховского района Могилевской области. Могилев, 1995; Я г о ж. Свод памятников археологии чернобыльской зоны Могилевской области. Могилев, 1998. *В.Ф.Капыцін.*

**ДАМБАВЕ́ЦКІ** Аляксандр Станіслававіч (1840 — каля 1914), беларускі краязнавец, грамадскі дзеяч. Скончыў Кіеўскі ун-т. З 1870 камергер, ганаровы суддзя Лідскага пав. Служыў у Мін-ве ўнутраных спраў. З 1872 магілёўскі губернатар, з 1893 сенатар. Ініцыятар адкрыцця гісторыка-этнагр. музея ў Магілёве (1879), выдання калектыўнай працы «Вопыт апісання Магілёўскай губерні ў гістарычных, фізіка-геаграфічных, этнаграфіч-

ных, прамысловых, сельскагаспадарчых, лясных, вучэбных, медыцынскіх і статыстычных адносінах» (кн. 1—3, 1882—84). Садзейнічаў ахове і вывучэнню помнікаў старажытнасці; арганізоўваў археал. экспедыцыі па Магілёўшчыне, выстаўкі іх знаходак у Магілёве, Вільні, Маскве. Чл. падрыхтоўчага к-та *Археалагічнага з'езда дзевятага.* Спрыяў выданню «Дзённіка курганных раскопак...» М.В.Фурсава і С.Ю.Чалоўскага (1892), рабоце Е.Р.Раманава над *«Археалагічнай*




*Наканечнікі стрэл (1—4), разцы (5—18), скрабкі (19—22), пласціна са скошаным рэтушшу канцом (23), пласціна з рэтушшу (24), вастрыі (25—27), выраб з выемкай (28), нуклеусы (29—30) са стаянкі-2* ***Дальняе Ляда.***

*картай Магілёўскай губерні»*, археал. даследаванням У.З.Завітневіча, Д.Я.Самаквасава, М.В.Фурсава, С.Ю.Чалоўскага і інш.

*Літ.*: Каханоўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX ст. Мінск, 1984; Алексеев Л.В. Археология и краеведение Беларуси в XVI — 30-е годы XX в. Минск, 1996. *Л.У.Дучыц.*

**ДАНІЛЕ́ВІЧ** Васіль Яўхімавіч (1872, г. Курск, Расія — 16.11.1936), украінскі археолаг, гісторык. Скончыў Кіеўскі ун-т. З 1902 праф. Харкаўскага, з 1907 — Кіеўскага ун-таў. Садзейнічаў стварэнню Кіеўскага археал. музея. Працаваў у археал. экспедыцыях на Полаччыне, Падзвінні. У 1893 даследаваў неалітычную стаянку і майстэрню ва ўр. Залоззе каля в. Кісцяні на тэр. сучаснага Рагачоўскага р-на. Знаходкі перадаў у музей Кіеўскага ун-та. Праводзіў таксама раскопкі ў Харкаўскай вобл., на Крымскім паўвостраве, вывучаў скіфскія пахаванні. Аўтар прац па нумізматыцы, сфрагістыцы, фальклоры, этнаграфіі. У працах «Нарыс гісторыі Полацкай зямлі да канца XIV стагоддзя» (1896) і «Шляхі зносін Полацкай зямлі да канца XIV стагоддзя» (1898) паказаў гіст. ролю Полацкай зямлі, абгрунтаваў яе назву.

*Тв.*: Стоянка и мастерская каменного века в Могилевской губернии, исследованные летом 1893 года // Киевская старина. Киев, 1895. Т. 49.

*Літ.*: Козловская В.Я. Памяти профессора В.Е.Данилевича // СА. 1937. Т. 4. *Л.У.Дучыц.*

**ДАРАХІ́**, археалагічныя помнікі — стаянкі, селішчы і курганныя могільнікі каля в. Дарахі Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл.

Стаянкі (4) *паўночнабеларускай культуры* размешчаны на ПнУ ад вёскі, на воз. Сенніца. Абследавалі ў 1989 П.М.Драчоў, В.І.Жданові́ч, Ю.К.Кульпановіч, В.М.Лоскутаў, С.М.Сіманюкоў. Знойдзены фр-ты ляпных пасудзін, арнаментаваных ямачнымі ўцісканнямі, насечкамі, грабеньчатым штампам, косці жывёл.

Селішча-1 за 0,5 км на ПнЗ ад вёскі, на ўзвышшы правага берага воз. Сенніца. Мясц. назва Лысая Гара. У 1958 адкрыў краязнавец І.А.Вашчыла, у 1972—73 Г.В.Штыхаў даследаваў 104 м$^2$. Культ. пласт 0,3—0,6 м. Выяўлена некалькі ям ад слупоў. Знойдзены фр-ты ляпнога гладкасценнага посуду 3-й чв. 1-га тыс. *банцараўскай культуры* і фр-ты кругавых пасудзін стараж.-рус. часу.

Селішча-2 за 1,2 км на ПнЗ ад вёскі, на беразе воз. Сенніца, на ўзвышшы сярод балота. Пл. 2 га. У 1978 Г.В.Штыхаў даследаваў 40 м$^2$. Знойдзена 456 абломкаў ляпной керамікі 2-й і 3-й чв. 1-га тыс., глінянае прасліца, 2 жал. шылы, фр-т сярпа, жал. шлакі, на балоце каля селішча — жарнавы камень дыям. 38 см з паглыбленнем.

Селішча-3 за 1,5 км на ПнЗ ад вёскі, на беразе воз. Сенніца. Мясц. назва Чорная зямля. Пл. больш за 1 га. У 1972 абследаваў Г.В.Штыхаў. Культ. пласт 0,8 м. У шурфе знойдзена 60 абломкаў гаршкоў 11—13 ст., на раллі — фр-ты ляпной керамікі.

Могільнік-1 банцараўскай культуры 3-й чв. 1-га тыс. за паўд. ваколіцай вёскі. 12 курганоў падоўжаных памерамі 5 × 8 × 1 м і паўсферычных дыям. 7—11 м, выш. 0,5—1 м. Адзін курган доўгі памерамі 22 × 10 ×1,2 м. У 1970-я г. Г.В.Штыхаў даследаваў 9 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапаленне, ад 1 да 7 пахаванняў у ямках у верхняй частцы курганоў. Рэшткі крэмацыі былі змешчаны ў ляпныя урны, некаторыя з іх накрыты перавернутым гаршком. На розных узроўнях насыпаў прасочваюцца попельна-вугальныя праслойкі з перапаленымі косткамі жывёл. У 3 насыпах пахаванняў не выяўлена. Пахавальны інвентар — жал. спражка, цуглі.

Могільнік-2 крывічоў 8—9 ст. за 2 км на У ад вёскі, на беразе воз. Сенніца, ва ўр. Яўграфаў Хутар. 17 насыпаў памерамі 7—9 × 6—7 м, выш. 1,5—2,2 м. У 1970-я г. Г.В.Штыхаў даследаваў 3 курганы. Пахавальны абрад — трупапаленне па-за межамі могільніка. Рэшткі крэмацыі знаходзіліся на гарызонце ў ямах, накрытых перавернутым гаршком. Сярод перапаленых касцей знойдзены бронзавыя спіралькі, фр-ты скроневага кольца, 15 аплаўленых бляшак.

Могільнік-3 за 0,3 км на Пд ад могільніка-1. 5 курганоў: 4 круглыя дыям. 7—10 м, выш. да 0,8—1,4 м, 1 — падоўжаны памерамі 13,5 × 8 × 1,25 м. Могільнік поўнасцю даследаваны Г.В. Штыхавым у 1970-я г. Пахавальны абрад — трупапаленне. Пахавальны інвентар адсутнічаў. У 2 курганах пахаванняў не выяўлена.

Могільнік-4 банцараўскай культуры 3-й чв. 1-га тыс. за 0,5 км на Пд ад вёскі. 15 насыпаў

*Гліняныя гаршкі 6—7 ст. з курганнага могільніка Дарахі.*



дыям. 6—10 м, выш. 0,5—1,7 м. У 1970-я г. Г.В. Штыхаў даследаваў 5 курганоў: 4 — круглыя і 1 падоўжаны памерамі 14,2 × 8 × 1 м. Пахавальны абрад — трупаспаленне, пахаванні урнавыя і бязурнавыя ў ямах, на падсыпцы альбо на гарызонце. У падоўжаным кургане выяўлены 2 урнавыя і 6 бязурнавых пахаванняў. Знойдзены жал. шпора і спражка.

М о г і л ь н і к-5 крывічоў 2-й пал. 10—11 ст. за 2,5 км на У ад вёскі, ва ўр. Яўграфаў Хутар, каля паселішча-3. 63 насыпы дыям. 6—8 м, выш. 0,5—1 м. У 1970-я г. Г.В.Штыхаў даследаваў 10 курганоў. Пахавальныя абрады — трупаспаленне (больш раннія) і трупапалажэнне на гарызонце галавой на З, на месцы рытуальнага вогнішча. У некаторых выпадках у больш раннія насыпы з трупаспаленнем зроблены ўпускныя пахаванні з трупапалажэннем. Пахавальны інвентар — ліраподобная і прамавугольная спражкі, шкляныя пацеркі, жал. крэсіва, цуглі, касцяныя грэбень з футаралам, падкovападобная фібула, ляпны і кругавы посуд. Курганы насыпаны на месцы селішча 3-й чв. 1-га тыс.

М о г і л ь н і к-6 банцараўскай культуры 3-й чв. 1-га тыс. за 2 км на ПдУ ад вёскі, каля дарогі на в. Кайкі. 7 насыпаў дыям. 5,5—8 м, выш. 0,9—1,2 м. У 1970-я г. Г.В.Штыхаў даследаваў 4 курганы. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Пахаванні — урнавыя і бязурнавыя ў ямах, ад 1 да 4, былі размешчаны ў верхняй частцы насыпу.

М о г і л ь н і к-7 за 1,5 км ад вёскі, ва ўр. Зуевы ляды. 4 курганы дыям. 7—8 м, выш. 1 м. У 1970-я г. Г.В.Штыхаў даследаваў 1 насып. Пахавальны абрад — трупаспаленне па-за курганам. Пахаванне ў цэнтры насыпу ў ямцы памерамі 0,2 × 0,5 м, глыб. 0,3 м пад дзірванам.

М о г і л ь н і к-8 за 0,7 км на У ад вёскі. 4 курганы. У 1970-я г. Г.В.Штыхаў даследаваў падоўжаны курган памерамі 9 × 6,3 × 0,8 м. Пахаванне не знойдзена.

М о г і л ь н і к-9 за 1 км на Пд ад вёскі ўздоўж дарогі, ва ўр. Зуевы ляды. У 1970-я г. Г.В.Штыхаў даследаваў круглы курган дыям. 7,8 м, выш. 1,3 м, з раўком вакол яго. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Рэшткі крэмацыі знойдзены на глыб. 0,7 м у яме памерамі 0,7 × 0,5 м. У цэнтры кургана выяўлена яшчэ адна яма з попелам і вуголлем.

М о г і л ь н і к-10 за 1,2 км на Пд ад вёскі, побач з могільнікам-9. 3 курганы дыям. 8—9 м, выш. да 1 м. Раскопкі не праводзіліся.

М о г і л ь н і к-11 за 1 км на ПдУ ад вёскі, каля дарогі на в. Рудня. 3 курганы дыям. 7—8 м, выш. 1—2 м. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.*: Ш т ы х а ў Г.В. Крывічы. Мінск, 1992.

*Г.В.Штыхаў.*




*Крамянёвыя наканечнікі стрэл (1—7), праколкі (8—10), трапецыя (11), скрабкі (12—23, 27—29), нажы (24—26), долатападобныя прылады (30—33) са стаянкі-2 **Дарашэвічы**.*

**ДАРАШЭ́ВІЧЫ**, археалагічныя помнікі — стаянкі эпох мезаліту і неаліту каля в. Дарашэвічы Петрыкаўскага р-на Гомельскай вобл.

С т а я н к а-1 эпохі мезаліту за 1—1,5 км на З ад вёскі, на 2-й надпоймавай тэрасе р. Прыпяць. Выш. 10—12 м над узроўнем вады, даўж. 300 м. Адкрыў і даследаваў у 1962 і 1965 У.Ф.Ісаенка. Знойдзены 300 крэменяў са слядамі апрацоўкі, 59 крамянёвых прылад працы. Датуецца 7—6-м тыс. да н.э.

С т а я н к а-2 палескага варыянта *днепра-данецкай культуры* за 0,3 км на З ад вёскі, на 2-й надпоймавай тэрасе р. Прыпяць. Выш. над узроўнем вады 10—13 м, даўж. 150 м. Адкрыў і даследаваў у 1962 У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт 0,2 м. Выяўлены рэшткі абпаленых камянёў, якімі абкладаліся агнішчы, 200 камянёў са слядамі апрацоўкі, 74 крамянёвыя прылады працы і 310 фр-таў ляпнога глінянага посуду. Датуецца 3-м тыс. да н.э.

*Літ.*: И с а е н к о В.Ф. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976.

*У.Ф.Ісаенка.*

**ДАРЖЫ́**, археалагічныя помнікі — стаянка і крэменеапрацоўчая майстэрня *нёманскай культуры* эпохі неаліту каля в. Даржы Лідскага р-на Гро-

дзенскай вобл. Выявіў і даследаваў у 1962 М.М. Чарняўскі.

С т а я н к а за 1 км на Пн ад вёскі, на часткова развеянай дзюне «Боркава Гара», пасярод шырокага правабярэжнага поплаву р. Дзітва. Памеры 60 × 95 м. У цэнтр. і паўн.-зах. частках помніка прасочваецца шэры культ. пласт таўшч. да 0,6 м. У пласце, а таксама на дзюнах знойдзены крамянёвыя нажы, скрабкі на пласцінках і адшчэпах, нуклеусы, розначасовая кераміка.

К р э м е н е а п р а ц о ў ч а я   м а й с т э р н я на невял. павышэнні каля паўн.-зах. краю дзюны «Боркава Гара». Памеры 20 ×30 м. У культ. пласце таўшч. да 0,4 м знойдзена вял. колькасць крамянёвых сколаў і адшчэпаў з крэйдавай скарынкай, некалькі нуклеусаў і адшчэпаў з рэтушшу, фр-т керамікі нёманскай культуры (дубічайскага этапу). Крамянёвая сыравіна ў майстэрню паступала з крэйдавага адорвеня, размешчанага за 2 км на краі карэннага берага р. Дзітва.

*М.М.Чарняўскі.*

**ДАСПЕ́Х**, від засцерагальнага ўзбраення, прызначаны для аховы цела воіна. Д. выкарыстоўваліся на тэр. Беларусі на працягу ўсяго сярэдневяковага перыяду; падзяляліся на кольчатыя (кальчугі) і пласціністыя. Асобна вылучаюцца неметалічныя Д., якія, па сутнасці, з'яўляліся прыстасаванай для ваенных мэт вопраткай.

Пласціністыя Д. складаліся з адносна невял. па памеры пласцінак, падзяляліся на ламелярныя (у якіх пласцінкі злучаліся непасрэдна паміж сабой) і лускавыя (пласцінкі нашываліся ці наклёпваліся на аснову са скуры ці тканіны). Усе Д., у якіх пласцінкі мацаваліся да асновы, падзяляюцца на крытыя, што нітаваліся з унутранага боку асновы, і белыя — з вонкавага боку. У стараж.-рус. час пласціністыя Д. наз. «броні дощатые». Д. ламелярнага тыпу ўпершыню з'явіліся на тэр. Беларусі ў 7 ст. (гарадзішча Хотамель), шырока выкарыстоўваліся ў 11—14 ст. (пласцінкі ад іх знойдзены ў Полацку, Мінску, Навагрудку, Гомелі, Брэсце, Друцку, на гарадзішчах *Кульбачына*, *Гальшаны*). З 11 ст. пачалі выкарыстоўваць і лускавыя Д. (Заслаўе, Мінск, Навагрудак, гарадзішча *Пруднікі*). З 12 ст. ў Беларусі, верагодна, развіваліся наборныя сродкі абароны рук — наручы і наплечнікі (Мінск, Гродна, гарадзішча *Вішчын*). З сяр. 13 ст. вядомы трубкавыя наручы. У к. 13—14 ст. на тэр. Беларусі распаўсюджваліся крытыя Д. Найб. пашырэнне набылі крытыя пласціністыя Д. зах.-еўрап. паходжання, вядомыя як «платы». Пласцінка «платаў» знойдзена ля в. Студзёнка Барысаўскага р-на. Разам з тым на гарадзішчы Пруднікі выяўлена пласцінка крытага лускавога панцыра мангольскага тыпу (т.зв. хатангу-дэгель).

Побач з пласціністымі Д. на працягу 10—13 ст. шырока выкарыстоўваліся кальчугі, якія былі самым папулярным відам Д. гэтага часу.

У 14—16 ст. працягваюць ужывацца кольчатыя і пласціністыя Д., аднак некаторыя з іх (перш за ўсё ламелярныя) паступова выцясняюцца з баявога ўжытку. Д. на аснове развіваюцца ў 2 напрамках. У выніку памяншэння пласцін утвараюцца варыянты эластычнага Д., прадстаўленага ў 16 ст. 2 відамі — карацэна і бехцер. У карацэны пласцінкі размяшчаліся ў выглядзе лускі, у бехцера — вертыкальнымі шэрагамі, злучанымі паміж сабой кальчужнымі перамычкамі. Карацэны і бехцеры маглі быць як белымі, так і крытымі. Крытыя экзэмпляры, якія паходзяць ад папулярных у 14 ст. платаў, былі больш характэрны для зах.-еўрап. традыцыі і вядомы як брыгандыны. На пашырэнне белых карацэн і бехцераў моцнае ўздзеянне аказала ўсх. традыцыя.

Другім напрамкам развіцця Д. на аснове ў 14—15 ст. стала павелічэнне пласцін і ўтварэнне т.зв. «цэльнакаванага» Д. Найб. дасканаласці падобны Д. дасягнуў да к. 15 — пач. 16 ст. Аснову яго ў гэты час складала кіраса, што падзялялася на нагруднік і наспіннік («пляхі», ці «бляхі», пярэднія і заднія). Знізу да кірасы мацавалася спаднічка («шорца»). Ахова рук (мышкі, наручы) і ног (накаленкі) таксама складаліся з буйных пласцін. У камплекце да аховы рук ужываліся пласціністыя рукавіцы ці пальчаткі з адасобленымі пальцамі. Горла прыкрываў жал. каўнер («абойчык»), які часам мог бараніць і ніжнюю частку твара (барт). Д. дапаўняўся шлемамі розных тыпаў. У 16 ст. было вядома некалькі відаў пласціністых Д. («зброя бляхавая»). Капійнічы Д. пакрываў рыцара з ног да галавы. Стрэльнічы Д. уяўляў сабой аблегчаны паўдаспех і складаўся са шлема, кірасы, абойчыка і аховы рук ці нават толькі адных наплечнікаў. Паводле стылявога і канструкцыйнага рашэння ў к. 15—16 ст. выдзяляліся Д. гатычны (для якога былі характэрны спічастыя, завостраныя формы) і «максімільянаўскі» (з шарападобнай кірасай і аздабленнем у выглядзе вертыкальных жалабкоў-канелюраў). У 16 ст. распаўсюдзілася практыка вырабу багата ўпрыгожаных парадных Д. і гарнітураў, на аснове якіх можна было сабраць некалькі тыпаў баявых і турнірных Д. Найлепшым узорам такіх гарнітураў з'яўляецца гарнітур Мікалая Радзівіла Чорнага, выраблены каля 1550 нюрнбергскім майстрам Кунцам Лохнерам. На яго аснове збіраліся 2 баявыя і турнірныя Д. Па складанасці і багатым аздабленні гэты гарнітур не мае аналагаў у Еўропе.

З к. 15 ст. найб. шырока былі распаўсюджаны конскія Д., якія ўключалі нагалоўнік (т.зв. «рашкоф»), пакрыццё грудзей і крыжа каня. Элемент гатычнага конскага Д. канца 15 ст. выяўлены пасля разбору канструкцый Нясвіжскага замка, пашкоджаных пажарам 2004. Пашырана было таксама выкарыстанне аднаго «рашкофа», без інш. элементаў. Значная колькасць «рашкофаў» 16 ст. мелася ў зборах князёў Радзівілаў у Нясвіжы. Акрамя пласціністых Д. па-ранейшаму прымяняліся кальчугі (панцыры) альбо асобныя кальчужныя элементы (абойчыкі, шорцы, штаны), якія дапаўнялі пласціністыя Д. У сяр. 16 ст. ў ВКЛ панцыры былі найб. папулярным відам зас-

цэрагальнага ўзбраення. Вял. папулярнасцю, асабліва сярод небагатых воінаў і лёгкіх кавалерыстаў, карысталіся таксама тоўстыя прашываныя кафтаны — цегіляі. У асобных выпадках усе 3 віды Д. — «зброя бляхавая», панцыр і кафтан — маглі спалучацца.

У 16—18 ст., калі ўдасканаленая агнястрэльная зброя стала асн. сродкам вядзення баявых дзеянняў, Д. паступова выйшлі з ужытку. У кавалерыі да сяр. 19 ст. ўжываліся кірасы.

*Літ.*: Бохан Ю.М. Пласцінкавыя даспехі ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV—XVI ст. // ВАНБ. 1996. № 4; Я г о ж. Пласцінавы даспех у Вялікім Княстве Літоўскім у другой палове XIV — канцы XVI ст. // ГАЗ. Мінск, 1997. № 11; Я г о ж. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV — канцы XVI ст. Мінск, 2008; Кирпичников А.Н. Древнерусское оружие. Вып. 3. Доспех, комплекс боевых средств IX—XIII вв. // САИ. 1971. Вып. Е1—36; Я г о ж. Военное дело на Руси XIII—XV вв. Ленинград, 1976; Плавінскі М.А. Засцерагальнае ўзбраенне IX—XIII ст. на тэрыторыі Беларусі // ГАЗ. Мінск, 2001. № 16; Plavinsky M. To the Problem of Covered Armour in the Eastern Slavonic Area // The Marine Archaeology of the Baltic Sea Area. Huddinge, 2002. Vol. 4.

*Ю.М.Бохан, М.А.Плавінскі.*

**ДАЎГІ́НАЎСКАЯ КАМЕ́ННАЯ ВЫЯВА**, археалагічны помнік каля в. Даўгінава Вілейскага р-на Мінскай вобл. Знойдзена за 3 км на З ад вёскі, каля дарогі на Вілейку. Уяўляе сабой каменны крыж выш. 1,15 м, з перакрыжаваннем даўж. 1,07 м, вертыкальны стаяк шыр. 0,16—0,22 м. На ўзроўні перакрыжавання 2 выступы, унізе стаяка — выступ антрапаморфных абрысаў з круглай галавой і крыжападобна распасцёртымі рукамі. На тыльнай частцы каменя высечаны 4 васьміканцовыя крыжы. Магчыма, выява ўяўляе сабой язычніцкае бажаства, пазней пераробленае для сваіх патрэб і асвячонае хрысціянамі. Захоўваецца ў будынку Ін-та геалогіі НАН Беларусі ў Мінску.

*Літ.*: Звяруга Я.Г., Чарняўскі М.М. Каменная выява з-пад Даўгінава // Помнікі мастацкай культуры Беларусі: новыя даслед.: зб. арт. Мінск, 1989.

*М.М.Чарняўскі.*

**ДАХО́ЎКА**, керамічная плітка для пакрыцця дахаў пераважна мураваных будынкаў. З 19 ст. наз. таксама чарапіцай. Адзін з найб. даўгавечных і вогнетрывалых матэрыялаў, які ў сярэдневяковы выкарыстоўваўся ў дэкаратыўным аздабленні храмаў, палацаў і замкаў. На тэр. Беларусі Д. вядома з 14 ст. Спачатку яна была паўцыркульнай альбо жалабатай (14 — пач. 15 ст., гарады Навагрудак, Віцебск, Крэўскі і Лідскі замкі), потым пляскатай з трохвугольным мацавальным шыпам (15—16 ст., *Гродзенскі Стары замак*, Любчанскі замак) ці простай з паўкруглым канцом (15—17 ст.). У 17 — пач. 20 ст. часцей сустракаецца хвалістая, або галандская, Д. Схілы і вільчыкі стромкіх дахаў накрывалі спец. вільчыкавай Д., якую часам аздаблялі геам. арнаментам (Навагрудак). З к. 15 ст. і ў 16 ст. выкарыстоўвалася дэкаратыўная непаліваная і паліваная (зялёнага колеру) гатычная вільчыкавая Д. з доўгім (да 9 см) выступам накшталт птушынай галавы з раскрытай дзюбай і круглай адтулінай для вял. кованага цвіка, якім Д. прымацоўвалася да кроквы (Мірскі замак, Гродзенскі Стары замак). Вядома зялёная паліваная жалабатая Д. У 17—18 ст. існавала чорнаглян-




*Асноўныя тыпы дахоўкі 14—18 ст.: паўцыркульная (1—2, 4), «бабровы хвост» (3), плоская (5—7, 9—11), вільчыкавая (12—14), хвалістая (15—16).*

цаваная дэкаратыўная вільчыкавая Д. (Гродзенскі касцёл брыгітак) і непаліваная вільчыкавая з налепамі па шырокім краі (Мінская Петрапаўлаўская царква, Гродзенскі кляштар базыльянак). У гэты час, акрамя гладкай зялёнай і карычневай паліванай, выраблялі Д. з паверхняй у выглядзе рыбінай лускі (гарады Гродна, Мсціслаў). З к. 18 ст. да сяр. 19 ст. Д. звычайна выраблялі мясц. ганчары разам з кафляй і посудам. *А.А.Трусаў.*

**ДВАРЧА́НЫ**, археалагічны помнік — каменны могільнік к. 10 — 15 ст. каля в. Дварчаны Воранаўскага р-на Гродзенскай вобл. Знаходзіўся на Пд ад вёскі, на правым беразе р. Дварчанка, ва ўр. Карначыха. Даследавалі ў 1885—95 В.А.Шукевіч (22 пахаванні), Э.А.Вольтэр (26), у 1982 А.В. Квяткоўская, у 1984 Я.Г.Звяруга. У 1980-я г. могільнік заараны. Магілы размяшчаліся сіметрычна, па некалькі ў адным радзе, у напрамку з У на З. Пад каменнымі вымасткамі (выш. 0,35—0,7 м) або каменна-землянымі насыпамі ў чатырохвугольных падоўжаных ямах (глыб. 0,7—1,5 м) выяўлены трупапалажэнні галавой на ПдЗ, радзей — на З. На магіле, часцей з зах. боку, знаходзіўся валун прыроднай формы ці апрацаваны. Пад вымасткамі (у галаве пахаванняў) выяўлены кавалкі керамікі, у запаўненні магіл — вуглі. Нябожчыкаў пры пахаванні клалі на спіну, абстаўляючы дошкамі (імітацыя труны), якія мелі сляды моцнага агню. Разнастайны пахавальны інвентар прадстаўлены прыладамі працы (сякеры, нажы, крэсівы), упрыгажэннямі (сярэбраныя і бронзавыя пярсцёнкі, спражкі, скроневыя кольцы, медныя пласціны ад налобных павязак, бранзалеты, шкляныя пацеркі, крыжыкі, крыжападобная фібула з падвескай-лунніцай), дэнарыямі ВКЛ, жал. шпорамі і інш. Адзінкавыя пахаванні безынвентарныя, у некаторых знойдзены цэлыя гліняныя гаршкі. *А.В.Квяткоўская.*

**ДВОР-ГО́МЕЛЬ**, археалагічны помнік — селішча каля в. Двор-Гомель Полацкага р-на Віцебскай вобл. За 0,5 км на ПнЗ ад вёскі і 0,2 км на З ад шашы Мінск—Полацк. Пляцоўка выцягнута ўздоўж паўн. берага воз. Гомель на даўж. 400 м, пл. 2,4 га. Культ. пласт 0,5—1 м. Выяўлена Э.М.Зайкоўскім, у 1997 М.В.Клімаў даследаваў 48 м². Знойдзены фр-ты глінянага посуду 5 ст., у т.л. кераміка «з расчосамі», фр-ты ляпнога посуду 3-й чв. 1-га тыс. н.э. стараж.-рус. перыяду і 16—17 ст. Сярод металічных вырабаў вылучаецца жал. шпора сяр. 1-га тыс., рыбалоўны кручок, крэсіва. Пляцоўка паселішча разворваецца.

*Літ.*: К л і м а ў М.В. Тапаграфія і планіроўка вясковых паселішчаў у акрузе Полацка // МАБ. 2005. Вып. 9; Л о п а т и н Н.В., Ф у р а с ь е в А.Г. Северные рубежи раннеславянского мира в III—V веках н.э. М., 2007. *М.В.Клімаў.*

**ДВОР САЛАНЕ́ВІЧЫ**, археалагічныя помнікі — курганныя могільнікі каля в. Двор Саланевічы Полацкага р-на Віцебскай вобл.

М о г і л ь н і к-1 за 0,5 км на ПдЗ ад вёскі, на беразе воз. Нявіда. 6 курганоў выш. 0,8—1 м, дыям. 6—8 м. Выявіў у 1949 А.Р.Мітрафанаў. У 1974 і 1975 даследаваў 2 курганы Г.В.Штыхаў. Пахавальныя абрады — трупаспаленне і трупапалажэнне на гарызонце. У кургане з трупапалажэннем 3 пахаванні: ніжняе на мацерыку галавой на Пн, 2 другія над імі — галовамі на З. Адзін касцяк памерам 1,75 м. Пахавальных рэчаў не было. У насыпе кургана знойдзены кавалак ляпнога гаршка 5—7 ст. і некалькі фр-таў ганчарнай керамікі.

М о г і л ь н і к-2 за 1,5 км на Пд ад вёскі, на паўд. беразе воз. Вялікі Белянок. 17 курганоў выш. 0,5—1,5 м, дыям. 8—10 м. Выявіў у 1949 А.Р.Мітрафанаў. *Г.В.Штыхаў.*

**ДВО́РЫЦКАЯ СЛАБАДА́**, археалагічны помнік — селішча ў Мінску каля в. Дворыцкая Слабада, часткова ўключанай у тэр. горада. Размяшчалася ўздоўж левага (пл. 7,5 га) і правага (пл. каля 2 га) берагоў,у вярхоў'і р. Лошыца (мясц. назва — Ніжняя Няміга), паміж вуліцамі Слабадская і Ясеніна. Адкрыў у 1986 і даследаваў 1,015 га у 1990—91 Ю.А.Заяц. У 1986 абследаваў Г.В.Штыхаў. Культ. пласт 0,4—0,8 м. Выяўлены рэшткі звыш 100 жылых (з разваламі печаў-каменак), 2 гасп. і 9 вытворчых пабудоў. Знойдзены рэчы 11—13 ст.: жал. дэталі ворнай прылады, вёдзер, нажы, брытва, наканечнікі стрэл, цуглі, крэсівы, фібулы, скобы і цвікі, ключы, замок; упрыгажэнні з каляровых металаў і серабра, саксонскі дынарый; пацеркі шкляныя і сердалікавая, фр-т шклянога посуду; каменныя брускі, праслiцы і жорны, крэмені для высякання агню; керамічны посуд (гаршкі, патэльні), а таксама асобныя рэчы больш ранняга часу: жал. нож з валютападобнымі завіткамі, ляпны керамічны посуд, фр-т свідраванай каменнай сякеры. Помнік датуецца 10 — 1-й пал. 13 ст., аднак большасць матэрыялаў і пабудоў адносіцца да 2-й пал. 10 — 11 ст., перыяду росквіту паселішча. Матэрыялы знаходзяцца ў археал. навук.-музейнай экспазіцыі ІГ НАН Беларусі.

*Літ.*: З а я ц Ю.А. Эволюция системы расселения в Центральной Белоруссии в X—XVIII вв. (на примере Лошицкого микрорегиона) // Проблемы археологии и




*Пярсцёнак (1), бранзалет (2), крыжык (3), скроневае кольца (4), крыжападобная фібула з прывескай-лунніцай (5) з каляровых металаў з каменнага могільніка* ***Дварчаны***.

древней истории Верхнего Поднепровья и соседних территорий. Могилев, 2002. *Ю.А.Заяц.*

**ДВО́РЫШЧА**, археалагічны помнік — курганны могільнік у Мінску, каля паўн.-зах. ускраіны могілак б. в. Дворышча, паміж вуліцамі Бялецкага, Ясеніна, Рафіева і Громава. Налічваў 77 насыпаў, размешчаных 3 групамі. Захаваліся рэшткі 3 разбураных курганоў. Абследаваў у 1925 І.А.Сербаў, даследавалі ў 1977 Г.В.Штыхаў (4 курганы), у 1986 Ю.А.Заяц (4 курганы). Пахаванні адзіночныя і парныя. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на мацерыку (у 2 курганах на падсыпцы) галавою на З (у 2 выпадках на Пн). У адным кургане пахавальны абрад — крэмацыя. Знойдзены скроневыя пярсцёнкападобныя эсаканцовыя або з адваротным завітком на адным канцы скроневыя кольцы з каляровага металу, шкляныя, сердалікавыя і зярнёныя металічныя пацеркі, жал. крэсіва, нож, абручы і ручка ад вядра, бронзавыя ножны для нажа, сярэбраныя спражка і паясное кольца, выраблены на ганчарным крузе керамічны гаршчок з кляймом у выглядзе трызубца. Датуецца 10—11 ст. *Ю.А.Заяц.*

**ДВУХПО́ЛЛЕ**, археалагічны помнік — паселішча эпохі неаліту, ранняга бронзавага веку і *банцараўскай культуры* каля в. Двухполле Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл. На ПдУ ад вёскі, на краі 1-й надпоймавай тэрасы р. Аўсянка. Пл. каля 0,5 га. Культ. пласт 0,4—0,6 м. Выявіў у 1972 Г.В.Штыхаў, даследаваў у 1982 Э.М.Зайкоўскі. У шурфе (2 × 2 м) знойдзена кераміка *нарвенскай культуры*, ранняга і найб. позняга этапаў *паўночнабеларускай культуры.*

Кераміка апошняй культуры, з дамешкай жарствы і пяску ў гліне, яе паверхня посуду гладкая, арнаментавана грабеньчатымі ўзорамі, спалучэннямі рамбічнай сеткі і буйных круглых ямак, прамавугольнымі наколамі, насечкамі, скампанаванымі ў ялінкавыя ўзоры. Сустракаецца камбінаваны арнамент. Выяўлены крамянёвыя прылады працы: скрабкі на адшчэпах, скобля, 2 рэтушоры, пласцінка з рэтушаванай выемкай, свярдзёлак, загатоўка сякеры ці наканечніка дроціка, лістападобны наканечнік дзіды. У верхнім пласце трапляюцца фр-ты керамікі банцараўскай культуры. *Э.М.Зайкоўскі.*

**ДЗЕВАШЫ́ЧЫ**, археалагічныя помнікі — селішча і курганны могільнік каля в. Дзевашычы Бялыніцкага р-на Магілёўскай вобл.

С е л і ш ч а за 0,1 км на ПдУ ад вёскі, на правым беразе р. Аслік. Пл. каля 1,5 га. Адкрыў і абследаваў у 1975 Я.Р.Рыер. Культ. пласт 0,1 м. На паверхні і ў гумусе знойдзены рэшткі зробленай на ганчарным крузе керамікі 10—17 ст.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к за 0,1 км на У ад селішча. Вядомы з 1924. 34 насыпы выш. 0,5—3,5 м, дыям. 3—12 м. У 1975 Я.Р.Рыер даследаваў 1 курган. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў насыпе, галавой на З. Знойдзены фр-т зробленага на ганчарным крузе венчыка гаршка к. 10—11 ст. *Я.Р.Рыер.*

**ДЗЁДЗІЛАВІ́ЧЫ**, археалагічныя помнікі — гарадзішча позняй *штрыхаванай керамікі культуры* і паселішча *банцараўскай культуры* каля в. Дзэдзілавічы Барысаўскага р-на Мінскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а за 5,7 км на З ад вёскі, на левым беразе р. Цна, на вяршыні высокага (каля 42 м ад асновы) узвышша. Мясц. назва Замкавая гара. Авальная пляцоўка памерамі 42 × 28 м умацавана 2 валамі і 2 равамі. Першы вал праходзіць па схіле ўзгорка на 4 м ніжэй за край пляцоўкі, другі — на 2—3 м ніжэй першага. Выш. валаў 1—2 м, шыр. ў аснове 10 м. Глыб. равоў 1,5—2 м, шыр. да 10 м. Адкрыў і даследаваў 70 $м^2$ у 1962 А.Р.Мітрафанаў. Знойдзены абломкі рабрыстых слоікавых гаршкоў, гліняныя праслíцы, жал. сякерападобная прылада для апрацоўкі дрэва, посахападобная шпілька, рэшткі наземных жытлаў слупавой канструкцыі. Датуецца першымі стагоддзямі н.э.

П а с е л і ш ч а побач з гарадзішчам, на спусцістых схілах узгорка. Пл. 5—6 га. Адкрыў у 1962, даследаваў 4256 $м^2$ у 1962—66 А.Р.Мітрафанаў. Выяўлены рэшткі 54 пабудоў зрубавай і слупавой канструкцый, большасць з якіх была жыт-





*Пацеркі і гаршчок (усе 10—11 ст.) з курганнага могільніка **Дворышча**.*




*Наканечнікі стрэл (1—3, 5), свердзел-праколка (4), ножападобныя пласціны (6—7), нуклеусы (8—9), мікрапласціны з прытупленым краем (10—14), скрабкі (15—16) са стаянкі* ***Дзедня***.

ламі. Паўзямлянкі пл. 7,2—16,8 м$^2$ (сцены памерамі 2,8—4,3 × 2,6—3,9 м) урэзаны ў схіл узгорка. Унутры жытлаў, часцей у далёкім ад увахода куце, размяшчаліся печы-каменкі (круглыя дыям. 0,8—0,95 м або авальныя дыям. 1—1,1 × 0,9—0,95 м), цалкам захаваліся ў 3 жытлах. Печы складзены з камянёў цэглападобнай формы, памеры ад 8—10 да 40—45 см у папярочку. Скляпенне печы (выш. 27—40 см) мацавалася каменнымі клінамі, пярэдняя яго частка абапіралася на вял. камяні. Чарэнь печы яйцападобнай формы (даўж. 60—70 см, шыр. да 45 см) вузкай часткай звернута да яе вусця (шыр. 25—30 см, выш. 25—27 см). У 5 жытлах агнішча ў выглядзе вымасткі з дробных камянёў з вуголлем і попелам або пясчана-вугальны пласт таўшч. 15—20 см. Пабудовы без печаў меншых памераў (5—6 м$^2$) былі дапаможнымі памяшканнямі, унутры аднаго з іх выяўлена невял. яма, па краі якой ляжалі жорны. Знойдзены ляпныя гладкасценныя слабапрафіляваныя пасудзіны з амаль вертыкальным венчыкам, падоўжанай шыйкай, слабавыражаным плечуком і цюльпанападобныя пасудзіны з адагнутым венчыкам, падоўжанай шыйкай і апушчаным плечуком, міскі, міскападобныя гаршкі, патэльні, жал. абломак сякеры, серп і нож для жніва, бронзавыя трапецападобныя падвескі, званочак выш. 1 см і шыр. 1,6 см, пярсцёнкі, скроневае кольца, бранзалеты, гліняныя прасліцы, коп'і, шпоры і інш. Датуецца 5—8 ст.

*Літ.*: Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1. Минск, 1970; М и т р о ф а н о в А.Г. Железный век Средней Белоруссии (VII—VI вв. до н.э. — VIII в. н.э.). Минск, 1978. *А.А.Егарэйчанка.*

**ДЗЕ́ДНАВА**, археалагічны помнік — паселішча на паўднёва-заходняй ускраіне г. Бабруйск Магілёўскай вобл. На 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Бабруйка (правы прыток р. Бярэзіна). Выявіў у 1978 П.Ф.Лысенка, абследавала ў 1987 Н.М.Дубіцкая, даследавала ў 1996—99 А.У.Ільюцік (760 м$^2$). Памеры каля 100 × 300 м. Культ. слой 0,2—1,6 м. Выяўлены сляды аднаго жытла, 74 гасп. ямы, 2 адкрытыя ачагі, 19 грунтавых пахаванняў з рэшткамі трупаспалення. Жытло ў плане амаль квадратнай формы з закругленымі вугламі, памеры 3,1 ×3 м, заглыблена ў мацерыковы пясок на 0,4 м. На ўзроўні падлогі зафіксаваны сляды ямы для апорнага слупа і рэшткі ачага. Гасп. ямы ў асн. авальнай формы, над некаторымі пабудаваны лёгкія навісі, якія абапіраліся на слупы. Знойдзены рэчы перыяду жал. веку (к. 2—3 ст.): жал. фібулы (230—270), медная рымская манета Марка Аўрэлія (161—180), жал. чаранковы двухшыпны наканечнік стралы, нажы, сярпы, каса, вастрыі, фр-ты брытвы, грубаляпная кераміка (гладкасценная, з расчосамі, штрыхаваная і глянцаваная), біканічныя гліняныя прасліцы з вял. адтулінай. Матэрыялы 10—13 ст. (хутчэй за ўсё звязаны з курганамі дрыгавічоў, якія стаялі на месцы паселішча жал. веку): ганчарная кераміка, шыферныя прасліцы, шкляныя, бурштынавая і фаянсавая пацеркі, рэчы з жалеза і бронзы (фр-ты вітога бранзалета, пярсцёнкі, рыбалоўны кручок) і інш.

*Літ.*: П о б о л ь Л.Д. Археологические памятники Белоруссии. Железный век. Минск, 1983; И л ь ю т и к А.В. Селище Дедново на Березине // Старажытнасці Бабруйшчыны. Бабруйск, 1998. *А.У.Ільюцік.*

**ДЗЕ́ДНЯ**, археалагічныя помнікі — стаянка і курганны могільнік каля в. Дзедня Чавускага р-на Магілёўскай вобл.

С т а я н к а *бутаўскай культуры* на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Кашанка (левы прыток Проні), за 0,75 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўр. Гута. У 1991—93 В.Ф. Капыцін даследаваў 192 м$^2$, у 2006—07, 2009 А.У.Коласаў — 336 м$^2$. Культ. пласт 0,2—0,5 м. Знойдзена каля 6,5 тыс. крамя-

нёвых артэфактаў, з іх 787 адносіцца да вырабаў з другаснай апрацоўкай. У якасці сыравіны выкарыстоўваўся прывазны паўпразрысты крэмень цёмна-шэрага колеру. Загатоўкамі для прылад з'яўляліся рэгулярныя адціскныя пласціны, атрыманыя з аднапляцовачных нуклеусаў канічнай формы. Сярод прылад пераважаюць разцы на вугле зламанай нарыхтоўкі, пласціны-ўкладышы, мікрапласціны з прытупленым краем, трон-кавыя наканечнікі стрэл, асобныя з якіх падобныя да наканечнікаў тыпу Пулі, канцавыя скрабкі, праколкі і свердлы, вастрыі, вырабы з выемкай, сякучыя прылады. Вывучаны рэшткі паглыбленага ў мацярык жытла формы, набліжанай да авальнай, пл. 78 м². У межах аб'екта асн. частка крамянёвых артэфактаў канцэнтравалася ў лінзах попельнага пяску. Датуецца 2-й пал. 8-га тыс. да н.э. Наяўнасць фр-таў ляпной керамікі

*Археалагічныя знаходкі са стаянкі **Дзедня**: наканечнікі стрэл (1—4), мікрапласціны з прытупленым краем (5—10), пласціны (11—12), разцы (13—16), скрабкі (17—18), праколка і свердзел (19—20), нуклеусы (21—22).*



бронзавага і жал. вякоў, абломкаў ганчарнага посуду страж.-рус. часу сведчыць аб засяленні помніка ў больш позні час.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к на левым беразе р. Кашанка, за 1,2 км на Пд ад вёскі. Адкрыў і абследаваў у 1992 В.Ф.Капыцін. Захавалаіся 72 курганы выш. 0,5—3,2 м, дыям. 3,2 м і 6—12 м.

*Літ.*: К о п ы т и н В.Ф. Археологические памятники Чаусского района Могилевской области. Могилев, 1992; Я г о ж. Дедня — новый памятник мезолита в бассейне реки Проня // Гістарычныя лёсы Верхняга Падняпроўя: рэгіянальная навук. канф. Ч. 1 (Археалогія). Магілёў, 1995; К о л о с о в А.В. Мезолитическая стоянка Дедня // ААА. 2008. № 3. *А.У.Коласаў.*

**ДЗІСНА́**, горад у Міёрскім р-не Віцебскай вобл., на левым беразе р. Зах. Дзвіна пры ўпадзенні яе ў р. Дзісна. За 45 км на ПдУ ад г. Міёры.

Першапачатковае паселішча страж. Дз. знаходзілася на мысе правага берага Дзісны (цяпер штучная выспа ў вусці ракі). У 10—11 ст. полацкія крывічы заснавалі тут абарончы і гандл. пункт Полацкага княства Капец. Верагодна, на левым беразе Дзісны знаходзіўся гар. некропаль (знаходкі імпартных пацерак 10—11 ст.), але з 13 ст. гэта тэр. была паступова заселена. З пач. 14 ст. ў складзе ВКЛ. Да сяр. 16 ст. невял. паселішча, затым мястэчка. Археал. даследаванні ў горадзе праводзілі ў 1974 М.А.Ткачоў, у 1984—85 Э.М. Зайкоўскі (44 м$^2$), у 1987—88 В.Я.Зайцава (456 м$^2$). Выяўлены рэшткі гар. умацаванняў (бярвенне, цэгла-пальчатка), фр-ты гаршкоў 11 ст., 2-й пал. 13—14 ст.



*Кафля к. 16 — пач. 17 ст. з раскопак г. **Дзісна**.*

*Літ.*: Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии. Витебск, 1896; Д у ч и ц Л.В., З а й к о в с к и й Э.М.,

*Рэшткі мезалітычнага жытла стаянкі **Дзедня**.*

К с е н з о в В.П. Работы по берегам Западной Двины // АО 1984. М., 1986. *В.Я.Зайцава.*

**ДЗІЎНАЯ**, археалагічны помнік — гарадзішча полацкіх *крывічоў* каля в. Гарадзец (да 1994 Дзіўная) Шаркаўшчынскага р-на Віцебскай вобл. Побач з вёскай, на мысе правага берага р. Мнюта. Мясц. назва Гарадзец. Пляцоўка трохвугольная, пл. 1 га. Выш. пляцоўкі над узроўнем вады ў рацэ ў межань 20 м. З паўн. боку ўмацавана валам даўж. 100 м, выш. 5 м. З паўн.-ўсх. боку каля вала ўваход на гарадзішча, якое датуецца 8—11 ст. Выявіў у к. 19 ст. Ф.В.Пакроўскі, абследавалі ў 1938 Г.Цэгак-Галубовіч і У.Галубовіч, у 1949 — А.Р.Мітрафанаў, у 1972 — Я.Г.Звяруга. У 1973 і 1981 Г.В.Штыхаў даследаваў 52 $м^2$ у паўн.-ўсх. і 56 $м^2$ у паўн.-зах. частках гарадзішча. Культ. пласт 0,3—1,3 м. Знойдзены значная колькасць фр-таў ляпнога посуду (8—9 ст.), трапецападобная бронзавая падвеска, каменная форма для адліўкі жаночых упрыгажэнняў, жал. шлакі, пацерка-лімонка, 2 вял. скроневыя бранзалетападобныя кольцы, пласціны, бранзалет з арнаментам, ганчарны посуд (10—11 ст.), фр-ты арабскага сярэбранага дырхема Абасідаў, цэлая манета Саманідаў. У насыпе вала выяўлены 2 падсыпкі, рэшткі згарэлага бярвення, ляпная кераміка. Раскопкі пацвердзілі знаходжанне тут умацаванага паселішча (8—9 ст.), росквіт якога прыпадае на 10 — 1-ю пал. 11 ст. Шэраг больш позніх знаходак сведчыць, што ў 15—17 ст. на гарадзішчы размяшчалася феад. сядзіба. *Г.В.Штыхаў.*

**ДЗМІ́ТРАВІЧЫ**, археалагічныя помнікі мілаградскай і зарубінецкай культур — гарадзішча, курганныя могільнікі і селішча каля в. Дзмітравічы Бярэзінскага р-на Мінскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а за 0,4 км на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Брусята, ва ўр. Замак (Залоззе). Пляцоўка памерамі 45 × 45 м, выш. 7—8 м над поймай ракі. З боку поля гарадзішча ўмацавана 2 валамі выш. 1—3 м і равамі глыб. да 3,5 м і шыр. да 15 м, частка іх знішчана пры пракладцы дарогі. Трэці вонкавы вал мае выш. да 1 м, шыр. 6—7 м. Адкрылі і абследавалі ў 1929 І.Р.Калодкін і М.М.Канвісараў, абследавала ў 1979 Т.С.Бубенька, даследаваў 200 $м^2$ у 1987—89 Л.Д.Побаль. Культ. пласт 0,6—0,8 м. Выяўлены рэшткі жылых і гасп. пабудоў слупавой канструкцыі, каменныя вогнішчы, ямы-сховішчы. Знойдзены абломкі жал. наканечнікаў дзіды, сякер, нажы, сярпы, шылы, кольцы, пінцэт, керамічны глянцавы посуд (часткова штрыхаваны), гліняныя праслiцы розных форм і памераў (гладкія і арнаментаваныя матывы з язычніцкай сімволікай), грузікі, крыжападобныя падвескі, пацеркі, культавы посуд, каменныя брускі, зерняцёркі, абломкі каменных сякер, бронзавыя і сярэбраныя трапецападобныя падвескі, прылады бронзаліцейнай вытворчасці (гліняныя тыглі і льячкі).

К у р г а н н ы я  м о г і л ь н і к і на У ад гарадзішча, на месцы сучасных жывёлагадоўчых пабудоў, і за 0,1—0,15 км на ПнЗ ад гарадзішча, на левым беразе безыменнага ручая. Выяўлены ў 2-й пал. 19 ст. (апісальныя лісты Мінскага губернатарства). Пазней знішчаны пры забудове.

С е л і ш ч а на З ад гарадзішча, уздоўж берага ракі (даўж. 500—700 м). Абследаваў у 1987 Л.Д. Побаль. Знойдзены шлакі і абломкі посуду. *Л.Д.Побаль.*

**ДЗМІ́ТРАЎШЧЫНА**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Дзмітраўшчына Полацкага р-на Віцебскай вобл. Выявіў у 1992 С.В.Тарасаў. Могільнік налічваў 64 курганныя насыпы выш. ад 1 да 3,5 м і дыям. ад 6 да 10 м. Частка насыпаў была знішчана скарбашукальнікамі. Могільнік часткова даследавалі ў 1993 (4 курганныя насыпы) С.В.Тарасаў, Л.У.Дучыц і Г.М.Семянчук, у 1995 (4 насыпы) С.В.Тарасаў і М.В. Клімаў. Выяўлены курганы з пахаваннямі па абраду трупапалажэння на грунце. Засведчана традыцыя пакідання «дара памерламу». Выяўлены ўпрыгажэнні, побытавыя рэчы крывіцкага насельніцтва, ганчарны керамічны посуд. Помнік датуецца 11 ст.

*Літ.*: Т а р а с а ў С.В., Д у ч ы ц Л.У., С е м я н ч у к Г.М. Курганны могільнік каля в. Дзмітраўшчына Полацкага раёна // ГАЗ. Мінск, 1995. № 6; К л і м а ў М.В., Т а р а с а ў С.В. Новыя дадзеныя аб курганным могільніку каля в. Дзмітраўшчына // Там жа. Мінск, 1997. № 12. *М.В.Клімаў.*

**ДЗЯВІ́ЧКІ**, археалагічны помнік — гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры* каля в. Дзявічкі Полацкага р-на Віцебскай вобл. За 1 км на У ад вёскі, на стромкім і высокім (8—10 м ад асновы) узгорку, на карэнным левым беразе р. Палата. Умацавана валам і ровам. На Пн, ПнУ і ПнЗ ад гарадзішча знаходзілася шырокая і моцная забалочаная пойма ракі (цяпер асушана). Пляцоўка авальная, памерамі 40 × 28 м. Абследаваў у 1929 А.М.Ляўданскі, даследавалі ў 1954 А.Р.Мітрафанаў, у 1965 К.П.Шут. Ускрыта больш за 100 $м^2$. Культ. пласт у цэнтры пляцоўкі да 0,7 м, па краях 1,5—1,25 м. Знойдзены ляпная гладкасценная кераміка, вырабы з косці (долаты, вастрыі, шылы), каменю (сякера-клін, клінападобныя пласціны), жалеза (долатападобная прылада, нажы, шылы, серп), шлакі, шмат касцей свойскіх і дзікіх жывёл. Датуецца 3 ст. да н.э. — 2 ст. н.э.

*Літ.*: Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1. Минск, 1970. *А.А.Егарэйчанка.*

**«ДЗЯВО́ЧАЯ ГАРА́»**, Д з е в я ц і г а р а, этнаграфічна-археалагічныя помнікі ў выглядзе культавых узгоркаў, гор, курганоў, гарадзішчаў і інш., якія ўшаноўваліся з часоў язычніцтва.

Узгоркі з назвай тыпу «Дз.Г.» і інш. часта сустракаюцца на слав. землях — «Дз.Г.» каля Смаленска (Расія), у Трыполлі на р. Днярпо, Сахноўцы на р. Рось, на р. Лыбедзь (Украіна), «Дзевін» у Празе, Хебе, Мімоне, на р. Дыя (Чэхія), на р. Дунай (Славакія), у Балгарыі і інш. Паводле меркавання Б.А.Рыбакова, «Дз.Г.» маглі быць звязаны з культам жаночага бажаства, багіняй-дзевай, якая з'яўлялася папярэдніцай хрысціян-

скай багародзіцы Дзевы Марыі. Часта з такімі ўзгоркамі звязвалі вельмі стараж. рытуальныя традыцыі і паданні, якія генетычна паходзілі ад культу язычніцкай багіні кахання. Пры археал. даследаваннях некаторых помнікаў высветлена, што, напр., у цэнтры «Дз.Г.» ў Трыполлі знаходзіўся ахвярнік — печ пачатку н.э. з 9 паўсферычнымі секцыямі-паглыбленнямі. На думку Б.А. Рыбакова, лічба 9 у спалучэнні з жаночай назвай свяшчэннай гары можа быць звязана з 9 месяцамі цяжарнасці. На «Дз.Г.» ў Сахноўцы знойдзена скіфская залатая пласціна з выявай свята ў гонар нейкага жаночага бажаства. Ахвярнік пач. 10 ст. (час рэстаўрацыі язычніцтва, пасля разгрому Вялікамараўскага княства) з 9 ямамі выяўлены на гарадзішчы Паганскае ў Маравіі. Каля яго знаходзяцца 2 гары з назвай «Дзевін» і р. Дыя («багіня»). «Дз.Г.» ўшаноўваліся да 20 ст., пра што сведчыць, напр., традыцыя ўстаноўкі драўляных крыжоў на «Дз.Г.» ў Сахноўцы.

У Беларусі захавалася некалькі помнікаў з назвай «Дз.Г.». У 1-й пал. 19 ст. З.Я.Даленга-Хадакоўскі згадваў аднайменнае гарадзішча ў ваколіцах в. Любонічы (цяпер Кіраўскі р-н). У шэрагу выпадкаў помнікі з назвай «Дз.Г.» мелі блізкія па значэнні назвы — «Паненская Гара», «Мар'іна Горка». На ўскраіне Лагойска знаходзіцца гарадзішча «Паненская Гара», дзе выяўлена кераміка ранняга жал. веку. З гарой звязана паданне пра загінуўшую тут дзяўчыну, выкарыстанае потым В.Дуніным-Марцінкевічам у вершаванай аповесці «Вечарніцы» (1855). Пра «Мар'іну Горку» ў Пухавіцкім р-не захавалася паданне, што на ёй знаходзіўся культавы камень, якому пакланяліся язычнікі і наладжвалі тут трызны і гульні. Потым духоўнік асвяціў гэта месца святой вадой, пасля чаго гара раскалолася і камень праваліўся. Падобны помнік захаваўся паміж вёскамі Гудавічы і Верхлес Чэрвеньскага р-на (гл. *Гудавіцкае свяцілішча*). Пасля ўвядзення хрысціянства некаторыя ўзгоркі, звязаныя раней з культам багіні-дзевы, сталі прысвячацца Дзеве Марыі — Маці Божай. Найб. даследаваны падобныя помнікі ў *Мсціслаўе* і на тэр. Валожынскага р-на (гл. *Дубрава*). *Э.М.Зайкоўскі.*

**ДЗЯГЦЯ́НСКІ МАНЕ́ТНА-РЭ́ЧАВЫ СКАРБ.** Знойдзены на ўскраіне в. Дзягцяны Капыльскага р-на Мінскай вобл. ў 1957. Знаходзіўся на глыб. 0,6—0,7 м у круглым арнаментаваным гаршку з ручкай. Збярогся 21 фр-т сярэбраных ювелірных вырабаў з дробным зярненнем і сканню, а таксама 320 манет: дэнарыі Англіі (10), Венгрыі (3), Германскай імперыі (165), Даніі (1), Чэхіі (123), нявызначаныя (4), манеты-перайманні дэнарыяў Англіі (3) і Германіі (9), куфіцкія дырхемы Арабскага халіфата часоў дынастыі Абасідаў (фр-ты). Скарб ухаваны каля 1050. Па колькасці чэшскіх дэнарыяў не мае аналагаў на тэр. Усх. Еўропы. *В.Н.Рабцэвіч.*

**ДЗЯ́КАВІЧЫ**, курганныя могільнікі *дрыгавічоў* каля в. Дзякавічы Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл. За 2 км на ПдЗ ад вёскі, на паўн. беразе воз. Чырвонае, ва ўрочышчах Слупка, Казлоўка і Кухта. У к. 19 ст. налічваліся 72 курганы. У 1889 У.З.Завітневіч даследаваў 17 насыпаў, у 1929 А.М.Ляўданскі і С.А.Дубінскі — 5 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах (3 насыпы) і на гарызонце (у некаторых па 2 нябожчыкі) галавой на З у дамавінах. Знойдзены жал. цвікі, пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы, бронзавыя і алавяныя пярсцёнкі, бронзавыя завушніцы, шкляныя, сердалікавыя, зярнёныя металічныя пацеркі, паясныя кольцы, глінянае прасліца, ганчарныя гаршкі. Датуецца 11 ст.

**ДЗЯКО́ЎСКАЯ КУЛЬТУРА**, культура фіна-угорскіх плямён, якія ў 8—7 ст. да н.э. — 5 ст. н.э. жылі ў міжрэччы Волгі і Акі, у Верхнім Падзвінні, на Валдайскім узвышшы. Назву атрымала ад гарадзішча каля в. Дзякава (у межах Масквы), даследаванага У.І.Сізовым. Насельніцтва жыло патрыярхальнымі сем'ямі ў наземных жытлах і паўзямлянках на гарадзішчах і паселішчах. Займалася жывёлагадоўляй, лядным земляробствам, паляваннем і рыбалоўствам. У 7—6 ст. да н.э. гарадзішчы абараняліся частаколамі. Земляныя валы і равы з'явіліся не раней 5—6 ст. да н.э. На раннім этапе (8—4 ст. да н.э.) жылыя пабудовы адрозніваліся разнастайнасцю: доўгія наземныя дамы слупавой канструкцыі, круглыя паўзямлянкі, наземныя аднакамерныя дамы зрубавай канструкцыі. На познім этапе (2 ст. да н.э. — 5 ст. н.э.) былі распаўсюджаны аднакамерныя наземныя пабудовы. Кераміка слоікападобнай формы з тэкстыльнымі адбіткамі (адсюль інш. назва Дз.к. — тэкстыльнай керамікі культура). На больш позняй стадыі ўзрастала колькасць гладкасценных пасудзін. На паселішчах шмат знаходак грузікаў дзякоўскага тыпу. У 1-м тыс. да н.э. для Дз.к. характэрна дамінаванне разнастайных вырабаў з косці: праколак, тупікаў, долатаў, наканечнікаў стрэл, гарпуноў, падвесак, шпілек і інш. Жал. вырабы распаўсюдзіліся ў канцы тысячагоддзя. Адначасова пашыралася падсечнае земляробства. Разам з жалезаробчай вытворчасцю значную ролю мела апрацоўка каляровых металаў (шматлікія знаходкі тыгляў, льячак). Сярод бронзавых рэчаў пераважалі разнастайныя ўпрыгажэнні і дэталі адзення. Абмен ажыццяўляўся з больш развітымі плямёнамі з Пд. Сярод прывезеных вырабаў адзначаны шкляныя пацеркі, бронзавыя фібулы, паясная гарнітура. На тэр. паўн.-ўсх. Беларусі найб. даследаваныя помнікі Загорцы, Новы Болецк, Мямлі (усе ў Гарадоцкім р-не) і інш.

*Літ.*: Третьяков П.Н. Финно-угры, балты и славяне на Днепре и Волге. М.; Ленинград, 1966; Дьяковская культура. М., 1974. *А.А.Егарэйчанка.*

**ДЗЯМ'Я́НКІ**, археалагічныя помнікі — стаянкі, селішчы, бескурганны і курганны могільнікі каля в. Дзям'янкі Добрушскага р-на Гомельскай вобл.

Стаянка-1 ранняга этапу *верхнедняпроўскай культуры.* За 0,8 км на ПдУ ад вёскі, на пясчаным астанцы ў пойме правага берага р.

Іпуць, ва ўр. Стрэчава. Памеры 200 × 100 м. Выявіла ў 1977, даследавала ў 1978—80 А.Г.Калечыц, раскапана 184 $м^2$. Культ. пласт 0,2 м. Знойдзена каля 800 крамянёвых вырабаў і 16 фр-таў ляпнога посуду. Сярод крамянёвых знаходак пераважаюць адшчэпы, прызматычныя, пірамідальныя, шматпляцовачныя нуклеусы, адыходы крамянёвай вытворчасці; прылад працы — скрабкі, сякеры, вастрыі, архаічны пласціністы наканечнік стралы і інш. Фр-ты керамікі або неарнаментаваныя, або ўпрыгожаны ямачнымі ўцісканнямі і адбіткамі грэбеня. У гліне шматлікія дамешкі раслінных рэштак.

С т а я н к а - 2 развітога этапу верхнедняпроўскай культуры і *сярэдненяпроўскай культуры.* За 0,7 км на ПдУ ад вёскі, на пясчаных узвышшах правага берага р. Іпуць, ва ўр. Асавец. Памеры 100 × 40 м. Выявіла ў 1977, даследавала ў 1978—82 А.Г.Калечыц. Культ. пласт 0,2 м. На ўцалелых у перыферыйнай частцы астанцах на пл. 48 $м^2$ у раскопе, а таксама на паверхні раздзьмутых пяскоў знойдзена некалькі соцень апрацаваных крэменяў і рэшткі ляпнога посуду. Сярод крамянёвых знаходак адшчэпы, нуклеусы, рэтушоры і інш. адыходы вытворчасці, а таксама скрабкі, цёслы, сякеры, разцы, вастрыі, тронкавыя, ромбападобныя, трохвугольныя наканечнікі стрэл і коп'яў, нажы, сярпы, скрэблы, свярдзёлкі. Фр-ты керамікі ўпрыгожаны грабеньчатымі адбіткамі, ямачнымі, лапчастымі ўцісканнямі, адбіткамі шнура, лінейнага штампа, ружанцовым арнаментам, ёсць неарнаментаваныя кавалкі посуду. На стаянцы трапляюцца матэрыялы ранняга жал. веку.

С е л і ш ч а - 1 на месцы стаянкі каменнага веку за 2,5—3 км на У—ПнУ ад вёскі, 0,5 км на ПдЗ ад цагельнага завода, ва ўр. Селішча (Лісятнік, Балонне). Займае паўд. канец астанца тэрасы правага берага меліяраванай пратокі р. Ачоса — Рэчыца. Парушана каналам, сапсавана плантажным узворваннем. Памеры 250 × 50—80 м. Згадваецца Е.Р.Раманавым у пач. 20 ст., у 1975 абследавана А.Г.Калечыц, у 1990—91 А.А.Макушнікавым. Сабрана кераміка 12—18 ст., у т.л. невял. колькасці раннекругавая 9—10 ст., кавалкі гліэнай абмазкі, фр-ты жал. нажоў, дужка навяснога замка, гліняныя грузілы, шкляныя каралі, абломак шклянога бранзалета і інш.

С е л і ш ч а - 2 на месцы стаянак каменнага і бронзавага вякоў за 1,5 км на У—ПдУ ад вёскі, 0,5 км на ПдУ ад б. пас. Нізок, ва ўр. Асавец на астанцы тэрасы правага берага Іпуці. Памеры 160 × 70 м. Выяўлена ў 1975 А.Г.Калечыц, абследавана ў 1978, 1982, 1991 А.А.Макушнікавым. На паверхні прасочаны плямы не менш 4 пабудоў з керамікай 12—15 ст. Знойдзены жал. авальнае крэсіва, нажы, рыбалоўныя кручкі, спражка, адшчэп жорнаў, шыфернае прасліца, фр-ты шкляных бранзалетаў і інш.

С е л і ш ч а - 3 на ўсх. ускраіне б. пас. Нізок, на мысе пясчанай грывы, узвышанай над правабярэжнай поймай р. Іпуць на 2—3 м. У пад'ёмным матэрыяле і шурфах — апрацаваны крэмень, ляпная кераміка 3-й чв. 1-га тыс., кругавы посуд 12—13 ст., шкляныя каралі, фр-т жал. нажа і інш.

Б е с к у р г а н н ы м о г і л ь н і к за 2 км на У ад вёскі, на невысокай надпоймавай тэрасе воз. Рэчышча, у правабярэжжы р. Іпуць, ва ўр. Беразані (Бярозавая Града, Нізень). Адкрылі і абследавалі ў к. 19 ст. М.М.Філонаў і Е.Р.Раманаў. У 1962—63 Г.Ф.Салаўёва даследавала 3 пахаванні, якія знаходзіліся пад больш познімі курганамі. Пахавальны абрад — трупаспаленне па-за межамі могільніка, рэшткі крэмацыі змешчаны ў ямку або гліняную пасудзіну (урну). Знойдзены аплаўленыя бронзавыя зліткі, абломкі крыжападобнай падвескі, рэчы з эмаллю, жал. спражка, трохгранны тронкавы наканечнік стралы, цэлыя і фрагментаваныя ляпныя пасудзіны. Адносіцца да помнікаў тыпу *Абідні* і *Калочына.*

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к за 2 км на У ад вёскі, на месцы грунтавога могільніка. 159 насыпаў выш. 0,5—2 м, дыям. 6—12 м. Вядомы з к. 19 ст., калі М.М.Філонаў раскапаў некалькі курганоў з трупапалажэннем і знайшоў урны з косткамі. У 1962—63 Г.Ф.Салаўёва даследавала 31 курган. У большасці з іх пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце і ў ямах галовамі на З і У (мужчынскія пахаванні) і на З (жаночыя) з радзіміцкім інвентаром к. 10—12 ст. У 2 курганах — трупаспаленне па-за межамі могільніка, рэшткі крэмацыі змешчаны ў неглыбокую яму, урну на гарызонце або ў дамавіну 10 ст. Пад 3 пазнейшымі насыпамі — грунтавыя крэмацыі сяр.—3-й чв. 1-га тыс. У падкурганных пахаваннях выяўлена кругавая кераміка, шкляныя і каменныя каралі, сяміпрамянёвыя і драцяныя скроневыя кольцы, бранзалет, манеты-падвескі і інш.

*Літ.*: С о л о в ь е в а Г.Ф. Славянские курганы близ села Демьянки // СА. 1967. № 1; К а л е ч и ц Е.Г. Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии. Минск, 1987; М а к у ш н и к о в О.А. Разведки в Гомельском Посожье // АО 1980. М., 1981; Р о м а н о в Е.Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии). Вильна, 1910; С е д о в В.В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. М., 1970.

*А.Г.Калечыц, А.А.Макушнікаў.*

**ДЗЯНІСЕНКІ**, археалагічны помнік — курганны могільнік крывічоў каля в. Дзянісенкі Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобл. За 0,5 км на ПдУ ад вёскі, на беразе воз. Лісна. Складаецца з 2 частак: паўд. (29 курганоў) і паўн. (13). Курганы круглыя выш. 0,4—1 м, дыям. 5—12 м. У 1974 З.М. Сяргеева даследавала 9 насыпаў. Ва ўсіх даследаваных курганах зафіксавана перадмацерыковая попельная праслойка. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на мацерыку (у 4 курганах) і ў падкурганных ямах (у 5).

Сярод знаходак жал. ўтулкавы наканечнік кап'я з пяром рамбічнага сячэння і 3 нажы, падковападобная фібула са спіральнымі канцамі, галаўны вянок са спіралей і пласцін, бронзавыя крыжападобныя падвескі, паясныя кольцы, ліраподобная спражка, пярсцёнкі з бронзавага дроту,

шкляныя пацеркі. Посуд ляпны і кругавы. Дзве ляпныя пасудзіны выцягнутыя, у адной венчык прамы, у другой — злёгку адагнуты, адзін гаршчок арнаментаваны ўздоўж шыйкі. Ганчарная пасудзіна прысадзістая, тулава з круглаватымі бакамі, венчык рэзка адагнуты вонкі. У курганах з трупапалажэннем на мацерыку выяўлены знаходкі 10—11 ст., у курганах з трупапалажэннем у падкурганных ямах — 11—12 ст.

*Літ.*: Сергеева З.М. Денисенские курганы на Витебщине // КСИА. 1986. Вып. 187. *Л.У.Дучыц.*

**ДЗЯНІСКАВІЧЫ**, археалагічны помнік — курганны могільнік *радзімічаў* 11 ст. каля в. Дзяніскавічы Жлобінскага р-на Гомельскай вобл. На ПнЗ ад вёскі. Захаваўся 31 курган выш. да 2 м, дыям. 10—12 м. Вядомы з 1873, у 1975 У.У.Багамольнікаў даследаваў 4 насыпы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. У адным кургане знойдзены рэшткі касцей чалавека, фр-ты керамікі, крыжык, 2 ганчарныя гаршкі, пацеркі, лунніцы. У 2 курганах пахаваны жанчыны галавой на З, знойдзены пазалочаныя шкляныя бочкападобныя пацеркі, дробны бісер, металічныя прызматычныя пацеркі, біэліпсоідная падвеска. У мужчынскім пахаванні галавой на У рэчаў не выяўлена. Наяўнасць у 3 насыпах дадатковых пахаванняў пазнейшых часоў сведчыць аб паўторным выкарыстанні могільніка. *А.А.Макушнікаў.*

**ДЗЯРЖЫНСКІ (КОЙДАНАЎСКІ) ЗАМАК**, археалагічны помнік — замчышча ў г. Дзяржынск (да 1932 Койданава) Мінскай вобл. Размяшчаўся на паўн. ускраіне горада, на правым беразе р. Няцеча. Пабудаваны на ўзвышшы, на якім існавалі гарадзішчы *штрыхаванай керамікі культуры*, эпохі Кіеўскай Русі і двор перыяду ВКЛ. Мясц. назвы Гаштольдава гара і Кальвіншчына. Мураваны замак з палацам пабудаваны пры Мікалаі Радзівіле Рудым, калі Койданаўскае староства наз. графствам. Пра замак згадвае інвентар маёнтка Койданава ад 1588. Мураваныя сцены замка паўтаралі абрысы верхняй пляцоўкі ўзвышша і нагадвалі шматвугольнік; у іх лінію была ўключана жылая пабудова — палац. Абарончыя сцены падзялялі на ўчасткі-праслы 9 магутных цыліндрычных вежаў з канічнымі дахамі і брама. Кожная вежа ў 2 ярусы мела 6 байніц. Сцены і вежы былі крытыя дахоўкай, якую пазней, падчас заняпаду замка, паступова замянялі на гонт. Брама размяшчалася на адным з вуглоў абарончых сцен. Пагорак з замкам быў аточаны ровам з вадою. Цераз роў быў наладжаны мост. Пазней, пасля асушэння рова, замест моста зрабілі земляны насып. Каля 1564 быў пабудаваны мураваны кальвінскі збор з высокай вежай, на якой таксама меліся байніцы. Ад будынка адыходзілі скляпы. У 1921 вежа збора была разбурана. У 2-й пал. 20 ст. знешніх прыкмет замка не захавалася, а ў апошняй чв. стагоддзя гарадзішча ў значнай ступені скапана. Даследавалі ў 1886—87 У.З.Завітневіч, у 1928 А.М. Ляўданскі, у 1964 Э.М.Загарульскі, у 1976, 1979 і 1983 Ю.А.Заяц, у 1989 Г.М.Сагановіч. Знойдзены матэрыялы, якія адносяцца да перыяду існавання Дз.(К.)з., падмуркі з бальшамернай цэглы-пальчаткі і валуноў кальвінскага збора і замка. Э.М. Загарульскі, выкарыстаўшы метад электраразведкі, вызначыў месцы залягання падмуркаў замка і збора.

*Літ.*: Адзярыха М. Апісаньне Койданаўскага замку // Наш край. 1926. № 1. *Ю.А.Заяц.*

**ДЗЯСНІНСКАЯ КУЛЬТУРА**, археалагічная культура неалітычных плямён, якія ў 2-й пал. 4-га — 3-м тыс. да н.э. жылі ў басейне р. Дзясна і на У Пасожжа. Асн. заняткамі насельніцтва былі паляванне, рыбалоўства, збіральніцтва; ёсць падставы меркаваць, што на апошнім этапе развіцця культуры пачалася вытворчая гаспадарка (прымітыўныя жывёлагадоўля і земляробства). Паселішчы пл. 300—600 м² размяшчаліся на прыбярэжных тэрасах, узгорках, якія ўдаваліся ў даліны рэк. Насельніцтва жыло ў наземных або злёгку заглыбленых у зямлю жытлах прамавугольнай або авальнай формы пл. 10—20 м², што размяшчаліся па адной лініі за 5—10 м адно ад аднаго. Агнішчы адкрытага тыпу былі ў цэнтры жытлаў, у заглыбленнях падлогі. Побач з жытламі знаходзіліся гасп. ямы і рабочыя месцы майстроў па вырабе посуду і прылад працы. Плямёны Дз.к. выраблялі крамянёвыя грубаапрацаваныя сякеры, скрэблы, бакавыя і клінападобныя разцы, канцавыя скрабкі, вастрыі і інш., грубы гліняны вастрадонны посуд, аздоблены круглымі, авальнымі і ромбападобнымі ямкамі. З іх дапамогай скампанаваны паясы, рамбічныя і шахматныя кампазіцыі, якія маглі спалучацца з радкамі грабеньчатых адбіткаў. На познім этапе Дз.к. арнаментацыя ўскладнілася, трапляюцца адбіткі перавітай шнуром палачкі (т.зв. лапчасты арнамент), наколы пад вуглом, што з'явіліся вынікам уздзеяння суседніх плямён днепра-данецкай культуры і *верхнедняпроўскай культуры*. Моцнае падабенства мясц. мезалітычнага і неалітычнага комплексаў сведчыць пра іх генетычнае адзінства. Дз.к. вылучыў В.П.Левянок.

*Літ.*: Левенок В.П. Мезолит среднерусского днепровско-донского междуречья и его роль в сложении местной неолитической культуры // МИА. 1966. № 126; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1. Минск, 1970; Неприна В.И. Неолит ямочно-гребенчатой керамики на Украине. Киев, 1976. *А.Г.Калечыц.*

**ДЗЯЦІНЕЦ**, дзядзінец, 1) цэнтральная частка сядзібы, двор. 2) Цэнтр. частка стараж.-рус. горада, умацаваная драўляным тынам, равамі і валамі (пазней мураванымі сценамі і драўлянымі вежамі), цэнтр горада, дзе размяшчаліся адміністрацыйныя і культавыя пабудовы, жылі князь з дружынай, яго чэлядзь, гандляры, рамеснікі, духавенства. Найчасцей размяшчаўся на мысе пры сутоках рэк (у Мінску пры сутоках Нямігі і Свіслачы, у Полацку — Палаты і Зах. Дзвіны). Пл. 1—7 га (друцкага 1 га, віцебскага 2,5 га, мінскага 3 га, полацкага каля 7 га). У стараж. летапісах слова Д.з. сустракаецца з 1097 і ўжываецца да 14 ст., пазней замяняецца ў бел. гарадах ужо існаваўшым адначасова з ім словам «горад».

*Літ.*: Т и х о м и р о в М.Н. Древнерусские города. 2 изд. М., 1956; Р а п п о п о р т П.А. Очерки по истории русского военного зодчества X—XIII вв. // МИА. 1956. № 52.

**ДНЕ́ПРА-БУ́ГСКІ ВО́ДНЫ ГАНДЛЁВЫ ШЛЯХ**, водны шлях, па якім у 9—13 ст. ажыццяўляліся гандлёвыя і культ. сувязі стараж.-рус. зямель з Польшчай і Зах. Еўропай. У пісьмовых крыніцах не ўпамінаецца, аднак пра яго існаванне сведчаць шматлікія прывазныя рэчы, выяўленыя ў час раскопак стараж. гарадоў, а таксама грашовыя скарбы. Працягласць воднага шляху ад Кіева да зах. межаў Русі складала каля 700 км. З Дняпра ён ішоў па Прыпяці і яе прытоку Піне, потым па сушы да р. Валока (левы прыток Мухаўца) і адтуль цераз Мухавец да Зах. Буга. Выкарыстоўваліся і 2 інш. варыянты шляху: з Прыпяці да вярхоўяў Ясельды, далей волакам у р. Нараў (правы прыток Зах. Буга); з вярхоўяў Прыпяці волакам каля 10 км да Зах. Буга. Час навігацыі прыпадаў на красавік—лістапад. Зімой гандаль ажыццяўляўся па сухапутнай дарозе Кіеў—Перамышль. У 10 ст. па гэтым шляху ў Мазовію, Велікапольшчу і інш. рэгіёны Зах. Еўропы паступалі арабскія дырхемы. З сяр. 11 ст. двухбаковы абмен таварамі становіцца больш інтэнсіўным. З Зах. Еўропы на Русь вывозяцца зах.-еўрап. дынарыі, каляровыя металы, бурштын, прадметы раскошы, з Русі ў Польшчу і далей — футра, мёд, шкляныя бранзалеты, пацеркі і інш. Апошнім мытным пунктам на водным шляху быў пагранічны г. Драгічын-Надбужскі, дзе знойдзена шмат рус. таварных пломбаў. У 9—10 ст. на Прыпяці адрэзак шляху кантраляваўся дрыгавічамі, а ў Пабужжы — валынянамі і мазаўшанамі (акрамя вярхоўяў Нарава і Ясельды, дзе пераважалі ятвягі). У 2-й пал. 10 ст. большая частка Прыпяцкага Палесся, а ў сяр. 11 ст. ўсе землі, па якіх пралягаў шлях, трапілі пад уплыў кіеўскіх князёў. З 2-й пал. 12 ст. гарады Бярэсце і Драгічын-Надбужскі (зах. адрэзак шляху) увайшлі ў склад Уладзіміра-Валынскага княства.

*А.В.Іоў.*

**ДНЕ́ПРА-ДАНЕ́ЦКАЯ КУЛЬТУ́РА**, г р а б е н ь ч а т а - н а к о л ь ч а т а й к е р а м і к і к у л ь т у р а, археалагічная культура эпохі позняга мезаліту і неаліту (7-3-е тыс. да н.э.). Названа па месцы першых адкрыццяў у Падняпроўі і на Северскім Данцы. На З яе арэал абмежаваны рэкамі Случ і Гарынь, на У — нізоўямі Сажа і Дзясны, на Пд — дняпроўскім Надпарожжам і Данцом. Першыя помнікі Д.-д.к. выявілі ў 1927—33 А.В.Дабравольскі і М.Я.Рудзінскі, культуру вылучылі В.М.Даніленка ў 1956 і Дз.Я.Цялегін у 1957. У паўд.-ўсх. Беларусі яе вывучаў У.Ф.Ісаенка (1960—80). Вядома каля 250 помнікаў. Больш за 20 могільнікаў выяўлена на тэр. Украіны. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на спіне ў яме, касцякі пасыпаны вохрай. Пахаванні калектыўныя (ад 2 да 13 памерлых у магільнай яме). Пахавальны інвентар складаюць пранізкі з каменю, косці і ракавін, пласціны з іклоў кабана, падвескі з зубоў аленя, медныя вырабы (кольцы, пранізкі, падвескі, сякеры, нажы, наканечнікі дзід, булавы і інш.). Абсалютны ўзрост могільнікаў вагаецца ў межах ад 8020+90 ВР да 5100=40 ВР. Магчыма, што самыя раннія пахаванні адносяцца да мезалітычнай эпохі. На тэр. Украіны культура прайшла 3 этапы развіцця і знікла ў сяр. 3-га тыс. да н.э., у паўн. частцы свайго арэала (на тэр. Беларусі) яна праіснавала яшчэ каля 500 гадоў. Насельніцтва належала да позніх



*Ляпны посуд* ***днепра-данецкай культуры****. Рэканструкцыя.*



Аўтар І.М. Язэпенка

краманьёнцаў, паўн. еўрапеоідаў. Займалася паляваннем, рыбалоўствам, на позніх этапах — жывёлагадоўляй і земляробствам. Жытлы невял. наземныя альбо крыху паглыбленыя ў зямлю, авальныя ці правамугольныя, часам з абкладзеным камянямі агнішчам, з лёгкім дахам. Сярэднія памеры жытлаў 2,5 × 3 м, пл. 6—10 м$^2$. Асн. форма керамікі — прысадзісты шыракагорлы і вастрадонны гаршчок з прамым венчыкам, вертыкальнымі ці крыху зведзенымі сценкамі, якія павольна пераходзяць у высокую канічную донную частку. У месцы пераходу (найб. пашырэння) рабіўся круты перагіб, а донца часам было плоскім альбо шышкападобным. Край венчыка крыху адагнуты вонкі і пракрэслены шэрагам круглых глыбокіх наколаў, пад краем было патаўшчэнне — каўнерык. Посуд вырабляўся стужкавым спосабам з глінянага цеста, у якое дабаўлялі раслінны дамешак і жарству, пазней пясок і шамот. Дыям. гарлавін пасудзін 25—40 см, таўшч. сценак 0,7—1,2 см. Паверхня звонку добра загладжвалася, унутры захоўваліся грабеньчатыя расчосы. Посуд абпальваўся на вогнішчы. На познім этапе культуры ён складаўся з 6—8 тыпаў гаршкоў, сярод якіх сустракаюцца кубкі невял. памеру. Рэканструявана каля 30 сістэм арнаментацыі посуду, у т.л. трохпаясныя (зона венчыка, тулава і донца), суцэльна гарызантальныя (папярочныя стужкі), спалучэнне ў сістэме гарызантальных паясоў з нахіленымі і вертыкальнымі стужкамі, занальнымі (з трохвугольнымі, прамавугольнымі і рамбічнымі зонамі), кратападобнымі альбо ў выглядзе нахіленай сеткі. Арнамент выконваўся дробназубчастым штампам. На 4-м этапе з'явіліся прамавугольныя і шнуравыя адбіткі, абмалёўка зон інш. элементамі, спалучэнне розных матываў і адбіткаў. Крамянёвы інвентар разнастайны: пласціністыя і трохвугольныя наканечнікі стрэл, нізкія трапецыі, вузкія і шырокія нажы, кароткія сегментападобныя сярпы, канцавыя скрабкі, розныя праколкі, вастрыі, трапецападобныя сякеркі, вуглавыя разцы. Д.-д.к. характэрна наяўнасць мікралітаў і прылад плоскай апрацоўкі. Сярод касцяных вырабаў — цёслы, праколкі, падвескі з зубоў, пласціны для ўпрыгожвання вопраткі. На тэр. Беларусі даследаваны помнікі: *Слабодка* (Тур'я) і *Юравічы* Калінкавіцкага р-на, *Старыя Юрковічы*, *Азярное* і *Кузьмічы* Любанскага р-на, *Пхоў* (у межах г. Мазыр), групы помнікаў каля вёсак *Ломыш* і *Красна-селле* Хойніцкага, *Лучажэвічы* Мазырскага, *Знаменка* (б. Сляпцы) Жыткавіцкага р-наў, *Камарын*, *Прорва* (ваколіцы г. Рагачоў), *Васілевічы*, *Таўстыкі* Жлобінскага р-на, *Вялікія Бортнікі* Бабруйскага р-наў і інш.

*Літ.*: Т е л е г і н Д.Я. Дніпро-донецька культура: до історії населення епохи неоліту — раннього металу півдня Східної Европи. Київ, 1968; Я г о ж. Неолитические могильники мариупольского типа. Киев, 1991; Д а н и л е н к о В.Н. Неолит Украины: главы древней истории юго-восточной Европы. Киев, 1969; И с а е н к о В.Ф. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1978; Т е л е г и н Д.Я., Т и т о в а Е.Н. Поселения днепро-донецкой этнокультурной общности эпохи неолита. Киев, 1998. *У.Ф.Ісаенка, І.М.Язэпенка.*

**ДНЕ́ПРА-ДЗВІ́НСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура ўсходнябалцкіх плямён, якія ў 8 ст. да н.э. — 4—5 ст. н.э. жылі ў Верхнім Падняпроўі, Сярэднім Падзвінні і ў вярхоўях р. Вялікая. У межах Беларусі ўключала ў сябе тэр. амаль усёй Віцебскай і паўн. частку Магілёўскай абласцей. Асн. тыпам паселішчаў былі ўмацаваныя пасёлкі-гарадзішчы, якія размяшчаліся на ледавіковых астанцах-узгорках (узгоркавыя) і на мысах надпоймавых тэрас (мысавыя). На тэр. Беларусі вядома каля 200 гарадзішчаў. Іх форма (авальная, круглая, трохвугольная, прамавугольная) залежала ад канфігурацыі ўчастка і характару абарон-

чых збудаванняў. Пл. пляцовак, дзе размяшчаліся жылыя і гасп. пабудовы, складала ад 500 да 2500 м². Асн. жылымі пабудовамі былі наземныя збудаванні слупавой канструкцыі, якія размяшчаліся пераважна па краі пляцоўкі. У залежнасці ад асаблівасцей і змен, што назіраліся ў характары гарадзішчаў, матэрыяльнай культуры і сацыяльна-эканамічным жыцці насельніцтва, час іс-навання Д.-дз.к. на тэр. Беларусі падзяляецца на 3 храналагічныя перыяды. Р а н н і п е р ы я д (8—5 ст. да н.э.) насельніцтва будавала гарадзішчы на ўзвышаных месцах каля вады, на тэр. з узгоркава-азёрным ландшафтам, іх пляцоўкі не ўмацоўваліся, падсыпаліся толькі краі і рабіліся драўляныя агароджы. Сярод знаходак ранняга перыяду пераважаюць вырабы з каменю і косці (каменныя клінападобныя і свідраваныя сякеры, зерняцёркі, таўкачы, тачыльныя брускі і інш.), касцяныя і рагавыя прылады палявання, дэталі адзення і ўпрыгажэнні, нешматлікія бронзавыя ўпрыгажэнні. Кераміка — гладкасценны посуд у асн. слоікападобных форм з грубай шышкаватай паверхняй, арнаментаваны скразнымі адтулінамі, і слабапрафіляваны з ямкавымі ўцісканнямі ў верхняй частцы. У гліне пасудзін вял. дамешкі жарствы. У гаспадарцы пераважалі жывёлагадоўля, паляванне і рыбалоўства.

С я р э д н і п е р ы я д (4—1 ст. да н.э.) павялічваюцца памеры гарадзішчаў, ускладняюцца абарончыя збудаванні. Па краі пляцовак насыпаліся земляныя валы, узмоцненыя равамі. Падоўжаныя наземныя жытлы слупавой канструкцыі, падзеленыя на асобныя памяшканні з каменнымі агнішчамі ў цэнтры, размяшчаліся па перыметры пляцовак. Побач з каменнымі і касцянымі прыладамі працы распаўсюджваліся жал. вырабы. Па-ранейшаму вырабляўся ляпны гладкасценны слоікападобны слабапрафіляваны посуд з арнаментам пераважна ў выглядзе груп пракрэсленых косых ліній, ямачных уцісканняў і інш. Асн. заняткам насельніцтва стала жывёлагадоўля, развіваліся разнастайныя рамёствы.

П о з н і п е р ы я д (1—5 ст. н.э.) характарызуецца складанай і дасканалай сістэмай кальцавых валоў з драўлянымі сценамі і равоў вакол схілаў ніжэй пляцоўкі гарадзішчаў (у 2, 3 і больш ліній). Пл. пляцовак павялічылася ад 2 да 7 тыс. м², яны ператварыліся ў пасёлкі-крэпасці. Жытлы на познім этапе — невял. наземныя чатырохвугольныя пабудовы слупавой канструкцыі з каменнымі агнішчамі. Усюды пашырыліся жал. прылады працы і зброя, сярод іх сярпы з шырокім лязом і адагнутай спінкай, нажы для жніва, нажы прамыя і з гарбатай спінкай, шылы, іголкі, наканечнікі коп'яў і стрэл, шпількі, бранзалеты (гладкія, вітыя, з насечкамі), брытвы і інш. У слабапрафіляваных гаршкоў паявіліся падоўжаныя венчыкі; паверхня посуду шурпатая ад значных дамешкаў буйнога пяску ў гліне, афарбоўка керамікі ад светла-чырвонага да жаўтаватага адценняў. Трапляюцца гліняныя прасліцы і грузікі тыпу Дзякава. Вядучымі галінамі гаспадаркі сталі ляднае земляробства і жывёлагадоўля, а таксама разнастайныя рамёствы і заняткі, звязаныя з апрацоўкай каменю, косці, жалеза і бронзы, вырабам рэчаў з гліны, прадзеннем, ткацтвам, пляценнем.

Д.-дз.к. Бел. Падзвіння адрознівае ад аднакульт. вобласці Верхняга Падняпроўя (тэр. Смаленшчыны) шэраг адметных рыс: перавага слоікападобных форм посуду і арнаментаваных гаршкоў; працяглае выкарыстанне вырабаў з косці і каменю; наяўнасць вял. колькасці прадметаў, звязаных з уплывамі з тэр. Прыбалтыкі (касцяныя шпількі, жал. сякеры, сярпы, бранзалеты, шпількі, фібулы і інш.), а таксама спецыфічных вырабаў, характэрных толькі для тэр. паўн. Беларусі (сярпы з прамавугольнай спінкай, шпількі з вял. галоўкай, некаторыя ўпрыгажэнні з косці і інш.). Асаблівасць гэтай тэр. звязана таксама са значнай роляй жывёлагадоўлі ў гаспадарцы насельніцтва Д.-дз.к., са спецыфічнымі спосабамі ўзвядзення жылля (слупавая тэхніка будаўніцтва, канструкцыя агнішчаў), з адсутнасцю ўплыву з боку паўд. культур. Рэгіянальныя асаблівасці больш рэльефна выяўляюцца ў апошні перыяд іс-

*Прылады працы, упрыгажэнні і кераміка днепра-дзвінскай культуры.*





Аўтар Е.А. Шміт

навання Д.-дз.к. і на тэр. на З ад лініі воз. Сялява, на Пд да воз. Езярышча на Пн. Тэр. Віцебскага Падзвіння адносіцца да смаленскага варыянта культуры.

Паходжанне Д.-дз.к. звязана з асаблівасцямі развіцця карэннага насельніцтва басейна Зах. Дзвіны ў бронзавым веку. Старажытнасці гэтай культуры на тэр. Беларусі вывучалі А.М.Ляўданскі, С.А.Дубінскі, А.Дз.Каваленя, Л.В.Аляксееў, К.П.Шут, В.І.Шадыра, А.Р.Мітрафанаў, Ю.У.Каласоўскі і інш. У навук. зварот паняцце Д.-дз.к. як адзінага этнакульт. масіву ўвёў А.Р.Мітрафанаў.

*Літ.*: Ш а д ы р о В.И. Ранний железный век северной Белоруссии. Минск, 1985; Я г о ж. Беларускае Падзвінне (І тысячагоддзе н.э.). Мінск, 2006; Археалогія Беларусі. Т. 2. Мінск, 1999. *В.І.Шадыра.*

**ДНЕ́ПРА-ДЗЯСНІ́НСКАЯ КУЛЬТУ́РА** с о ж с к а я к у л ь т у р а, археалагічная культура эпохі *мезаліту* (8—5-е тыс. да н.э.). Першыя звесткі аб помніках Д.-дз.к. з'явіліся у 1920-я г. паводле даследаванняў М.Я.Рудзінскага і К.М.Палікарповіча ў басейнах рэк Дзясна і Сож. Арэал распаўсюджання помнікаў і характэрныя рысы культуры вылучаны У.П.Ксяндзовым у сяр. 1980-х г., першапачаткова ім выкарыстоўвалася інш. назва — верхнедняпроўская культура. Арэал культуры ўключае больш за 30 помнікаў на верхнім Дняпры, Бярэзіне, Сажы, Прыпяці, Дзясне і ў Падзвінні. На фоне суседніх мезалітычных культур лясной зоны Усх. Еўропы (бутаўскай, грэнскай, кундай, кудлаеўскай, яніславіцкай) днепра-дзяснінская вылучаецца шэрагам характэрных рыс крамянёвага інвентару, якія прасочваюцца на працягу ўсяго перыяду яе развіцця. Тэхніка расшчаплення крэменю засн. на падпрызматычным, пірамідальным, падканічным нуклеусе пры наяўнасці аморфных і сплошчаных форм з-за моцнай спрацаванасці. Нуклеусы адна- і двухпляцовачныя, аднабаковага зняцця, пляцоўкі гарызантальныя альбо злёгку скошаныя. У крамянёвым інвентары праяўляюцца як свідэрскія, так і лінгбійскія рысы. Аблічча дадзенай культуры вызначаюць наканечнікі стрэл. Найб. распаўсюджаны чаранковыя (тронкавыя) постсвідэрскія, або «хвалібогавіцкія». Асн. іх асаблівасць — рэзкае вылучэнне чаранка (тронкі) выемкамі па абодвух краях нарыхтоўкі, якія апрацаваны крутой альбо паўкрутой рэтушшу з боку спінкі альбо з брушка і плоскай рэтушшу з брушка. Другі тып постсвідэрскіх наканечнікаў прадстаўляюць івалісныя — лістападобнай формы наканечнікі, насад якіх толькі намячаўся рэтушшу па абодвух краях і апрацоўваўся плоскай рэтушшу з брушка. Менш распаўсюджаны чаранковыя (тронкавыя) сіметрычныя і чаранковыя (тронкавыя) асіметрычныя, а таксама наканечнікі з бакавой выемкай. Кожны тып наканечнікаў сустракаецца на помніках суседніх фінальнапалеалітычных і мезалітычных культур, што тлумачыцца агульнасцю іх паходжання, узаемаўплывам і аднолькавым ладам жыцця першабытных людзей. Пры ўзаемадзеянні насельніцтва 2 культ. традыцый — свідэрскай і лінгбійскай — утварылася новае этнакульт. адзінства — Д.-дз.к., чым і тлумачыцца наяўнасць у інвентары яе паселішчаў постсвідэрскіх, сіметрычных і асіметрычных наканечнікаў. Вылучаюцца 2 храналагічныя групы помнікаў. Найб. раннюю групу ўтвараюць паселішчы Баркалабава і Смячка Быхаўскага р-на, Каралёва Слабада Светлагорскага р-на, Шыхаў Жлобінскага р-на, Раска, Чыжаха Бярэзінскага р-на. Да 2-й храналагічнай групы належаць Берагавая Слабада Рэчыцкага р-на, Гарадзішча-2 Бярэзінскага р-на, Навабыхаў, Рдыца, Тайманава Быхаўскага р-на на Дняпры, Гарадок-4 Жлобінскага р-на, Краснаўка Светлагорскага р-на, Глівін Барысаўскага р-на на Бярэзіне, Кліны-2 Слаўгарадскага р-на, Горкі Чэрыкаўскага р-на на Сажы, Загорыны-1 Мазырскага р-на, Дарашэвічы Петрыкаўскага р-на на ніжняй Прыпяці, Гарадок Чашніцкага р-на ў Падзвінні. Насельніцтва Д.-дз.к. дало пач. верхнедняпроўскай неалітычнай культуры.

*Літ.*: К с е н з о в В.П. Поздний мезолит белорусского правобережья Днепра // СА. 1986. № 1; Я г о ж. Палеолит и мезолит Белорусского Поднепровья. Минск, 1988; Я г о ж. Мезолит северной и центральной Беларуси // МАБ. 2006. № 13. *І.М.Язэпенка.*

**ДНЯПРО́ЎСКІЯ РАННЕСЯРЭДНЕВЯКО́ВЫЯ СКА́РБЫ**, скарбы і звязаныя з імі металічныя знаходкі 2-й пал. 6 — 1-й пал. 8 ст., вядомыя ў асн.



Аўтар У.П. Ксяндзоў

у сярэднім Падняпроўі і на У ад яго, да вярхоўяў Северскага Данца, адзінкава ў больш паўн. раёнах, да верхняга Падняпроўя і сярэдняга цячэння Акі. У асобнае кола старажытнасцей вылучаны А.А.Спіцыным — як «старажытнасці антаў». Падраздзяляюцца на 2 асн. групы (больш дробны падзел спрэчны), часам іх называюць па адным з скарбаў (напр., тыпу Мартынаўскага, Гапонаўскага для 1-й, тыпу Пастырскага, Хар'еўскага — для 2-й групы). Для 1-й групы (больш за 20 скарбаў) паказальныя: галаўныя венчыкі, скроневыя кольцы з дроту са спіральным канцом; грыўні з замком-пятлёй ці без яго (некаторыя, магчыма, былі скроневымі кольцамі); фібулы — пальчатыя дняпроўскай падгрупы, раннія антрапазааморфныя, падвязныя шарнірныя з шырокай пласціны; падвескі — пласціністыя з прасаваным арнаментам, умбонападобныя, бесспіральныя («акулярападобныя»), званочкі; пранізкі; ланцужкі; адліваныя бранзалеты; лакальныя варыянты раменных гарнітураў геральдычнага стылю і з псеўдасpражкамі; антрапа- і зааморфныя фігуркі; шэраг вырабаў са свінцова-алавяністых сплаваў. Аналагічныя рэчы вядомы ад Дуная, Скандынавіі і Прыкам'я да Крыма і Паўн. Каўказа, вытокі шэрага дэталей убору звязаны з мясц. традыцыямі, культурамі ўсх.-германскага кола, Візантыі, балтаў і інш., аднак іх спалучэнне і шэраг тыпаў спецыфічныя толькі для Д.р.с. Адзначаецца лакальная своеасаблівасць некаторых скарбаў; сярод іх вылучаюцца таксама скарбы ювеліраў і сямейныя «скрыначкі». Знаходкі на паселішчах і арэал скарбаў сведчаць аб тым, што Д.р.с. 1-й групы звязаны з усх. групамі *пяньkоўскай культуры* і значнай часткай *калочынскай культуры* і з'яўляюцца для іх найб. познімі датуючымі рэчамі; у лесастэпе ёсць знаходкі, звязаныя пахавальнымі помнікамі з трупапалажэннямі, што тлумачыцца інтэграцыяй усх. германскіх і іранскіх элементаў у пяньkоўскую культуру. Верагодна, асн. зона Д.р.с. супадае з неадлюстраванай у пісьмовых крыніцах культ. супольнасцю, якая ўключала ўсх. частку *антаў* і шэраг іх суседзяў. Больш позняя рэчы 1-й групы датуюцца каля 2—3 чв. 7 ст., а масавае выпадане скарбаў (у межах сяр.—2-й пал. 7 ст.), верагодна, адлюстроўвае разгром аб'яднання, з якім звязаны Д.р.с. Па адной з версій, гэтыя падзеі звязваюць з моцным набегам качэўнікаў, па іншай — з экспансіяй носьбітаў традыцый *пражскай культуры*, што прывяло да фарміравання помнікаў тыпу Сахноўка і Валынцава, на базе якіх пазней склалася *роменская культура*. Для 2-й групы (не менш за 7 скарбаў) характэрны: «завушніцы» — з зоркападобнай (дунайскія, але ў асн. мясц. «пастырскія») ці прасаванай шарападобнай (з 2 палавінак) ніжняй часткай, ёсць са спіральным канцом, грыўні, у т.л. з седлападобным замком; пацеркі з 2 металічных паўсфер; дэрываты антрапазааморфных фібул; пласціністыя ўпрыгажэнні; ланцужкі; бранзалеты, часцей за ўсё полыя; раменныя гарнітуры немясц. паходжання. Большасць знаходак адлюстроўвае працяг дняпроўскіх традыцый і ўплыў імпульсаў з Падунаўя. Вытворчасць шэрага рэчаў звязана з Пастырскім гарадзішчам (дзе ёсць некалькі скарбаў), некаторыя знойдзены на помніках тыпу Сахноўка і Валынцава. Яны датуюцца ў межах к. 7 — 1-й пал. 8 ст., арэалы іх аналогій (акрамя адзінкавых імпартаў) значна вузейшыя ў параўнанні з рэчамі Д.р.с. Скарбы 1-й групы сканцэнтраваны ў лесастэпавай зоне. Выпадане скарбаў 2-й групы звязана з экспансіяй Хазарскага каганата, верагодна, з перыядам перамяшчэнняў яго насельніцтва ў 730-я г. Прапанаванае А.А.Спіцыным суаднясенне Д.р.с. з антамі не раздзяляецца большасцю сучасных даследчыкаў, хаця тэрмін «старажытнасці антаў» традыцыйна яшчэ выкарыстоўваецца. Аднясенне Б.А.*Рыбаковым* Д.р.с. да русаў, якіх ён лакалізаваў у сярэднім Падняпроўі, ніхто не падтрымлівае. Большасць даследчыкаў адносяць Д.р.с. да культур усх. груповак славян, хаця сувязей з традыцыямі ўсх.-слав. плямён к. 1-га тыс. не прасочваецца. У Беларусі, у т.л. ў Падняпроўі, прадстаўлены старажытнасці кола Д.р.с. 1-й



*Да арт. **Дняпроўскія раннесярэдневяковыя скарбы**. Рэканструкцыя функцый асобных прадметаў Гапонаўскага скарбу (паводле І.А.Гаўрытухіна і А.М.Абломскага).*



*Да арт.* ***Дняпроўскія раннесярэдневяковыя скарбы.*** *Рэканструкцыя паяснай гарнітуры Гапонаўскага скарбу (паводле І.А.Гаўрытухіна і А.М.Абломскага).*

групы, у прыватнасці звязаныя са знішчэннем гарадзішчаў *Нікадзімава, Вежкі.*

*Літ.*: К о р з у х и н а Г.Ф. Клады и случайные находки вещей круга «древностей антов» в среднем Поднепровье: кат. памятников // Материалы по археологии, истории и этнографии Таврии. Симферополь, 1996. Вып. 5; Гапоновский клад и его культурно-исторический контекст. М., 1996; П р и х о д н ю к О.М., П а д и н В.А., Т и х о н о в Н.Г. Трубчевский клад антского времени // Материалы I тыс. н.э. по археологии Украины и Венгрии. Киев, 1996; Приходнюк О.М., Хардаев В.М. Харивский клад // Archaeoslavica. Kraków, 1998. № 3; Восточная Европы в середине 1 тысячелетия н.э. М., 2007; P e k a r s k a j a L., K i d d D. Silberschatz von Martynovka (Ukraine) aus dem 6. und 7. Jahrhundert. Innsbruck, 1992. *І.А.Гаўрытухін.*

**ДО́БРУШ**, горад, цэнтр Добрушскага р-на Гомельскай вобл.

Археалагічныя помнікі — селішчы і курганныя могільнікі каля г. Добруш.

С е л і ш ч а - 1 за 4 км на ПнУ ад Добруша, на мысападобнай пляцоўцы на тэрасе (выш. 3—4 м) левага берага р. Іпуць, вышэй вусця меліраванага ручая. Пляцоўка памерамі 210 × 30—80 м. У шурфах культ. пласт таўшч. 0,5—0,6 м. Выяўлены матэрыял каменнага веку, раннекругавая (9— 10 ст.) і кругавая (10—13 ст.) кераміка.

С е л і ш ч а - 2 за 1,4 км на ПнУ ад горада, ва ўр. Селішча, на пясчанайградзе (выш. да 2,5 м) у забалочанай пойме, каля правага берага р. Іпуць. Існавала на месцы неалітычнай стаянкі. Пл. 400 × 10—80 м. У шурфах выяўлены пласт з керамікай 12—13 ст. Абодва селішчы абследаваў у 1991 А.А. Макушнікаў.

М о г і л ь н і к - 1 за 3 км на Пн ад Добруша, ва ўр. Баравое Балота, на тэрасе (выш. 2—3 м) левага берага Іпуці, уздоўж лясной дарогі. У к. 19 ст. М.М.Філонаў даследаваў 6 курганоў з трупапалажэннем. У жаночых пахаваннях знойдзены пацеркі, металічныя ўпрыгажэнні, шыферныя праслíцы. У 1976 могільнік абследавала В.М.Ляўко, у 1991 А.А.Макушнікаў. Захаваліся 44 курганы з 50.

М о г і л ь н і к - 2 за 1,2 км на ПнЗ ад Добруша, ва ўр. Ракітня, на тэрасе (выш. 2—3 м) левага берага перасохлага ручая (правага прытока Іпуці), уздоўж лясной дарогі. Вядомы з к. 19 ст., калі М.М.Філонаў даследаваў шэраг насыпаў (колькасць невядома), былі выяўлены трупапалажэнні, металічныя ўпрыгажэнні і інш. У 1976 могільнік абследавала В.М.Ляўко, у 1990—91 А.А.Макушнікаў. Налічваецца 24 курганы.

М о г і л ь н і к - 3 за 4 км на З ад Добруша, 4 км на ПдУ ад в. Заляддзе, ва ўр. Бярозкі, на спадзістай надпоймавай тэрасе (выш. 5—7 м) правага берага Іпуці. Е.Р.Раманаў адзначаў, што ў к. 19 ст. М.М.Філонаў даследаваў тут некалькі курганоў з пахаваннямі па абраду інгумацыі, знайшоў гліняныя гаршкі. Помнік абследаваны ў 1978 і 1991 А.А.Макушнікавым. Налічваецца каля 100 насыпаў.

К у р г а н ы былі вядомыя і ў самім Добрушы, на могілках. Паводле звестак 1873, іх налічвалася 30, па выніках абследавання, праведзенага ў 1910 Е.Р.Раманавым, — 52 (не захаваліся).

*Літ.*: Р о м а н о в Е.Р. Археологический очерк Гомельского уезда (Могилевской губернии). Вильна, 1910. *А.А.Макушнікаў.*

**ДО́БРЫ БОР**, археалагічныя помнікі — стаянкі каменнага і бронзавага вякоў каля в. Добры Бор Баранавіцкага р-на Брэсцкай вобл.

С т а я н к а-1 за 2,5 км на ПдУ ад вёскі, на дзюне Гарадок, што знаходзіцца на шырокім асушаным правабярэжным поплаве р. Шчара. Пл. 5500 м². Выявіў у 1951 А.Р.Мітрафанаў. У 1960 І.М.Цюрына даследавала 984 м². Культ. пласт 0,5—0,8 м. Выяўлены 12 агнішчаў круглай і авальнай формы, 5 ям, з іх 3 маюць прамавугольную форму і, магчыма, з'яўляліся паўзямлянкамі. Знойдзена каля 2 тыс. абломкаў ляпнога глінянага посуду і каля 900 крамянёвых прылад працы і нуклеусаў. Сярод крамянёвых вырабаў трохвугольныя наканечнікі стрэл, масіўныя лістападобныя наканечнікі коп'яў, нажы з гарбатай спінкай і серпападобныя, разнастайныя скрабкі, разцы, праколкі, цёслы, сякеры. Знойдзены таксама шліфаваныя каменныя сякеры з прасвідраванымі адтулінамі, шліфавальныя плíткі, адбойнікі. Сярод керамікі найб. абломкаў вастрадонных гаршкоў са шчыльнымі падштрыхаванымі сценкамі, арнаментаванымі наколамі, насечкамі, пракрэсленымі рысамі, адбіткамі штампа, якія

адносяцца да дабраборскага этапу нёманскай культуры позняга неаліту. Да бронзавага веку належаць абломкі пласкадонных гаршкоў з прафіляванымі сценкамі, арнаментаванымі наразнымі рысамі, шнуравымі адбіткамі, наколамі. Асн. колькасць знаходак адносіцца да 3-га — 1-й пал. 2-га тыс. да н. э.

Інш. стаянкі неаліту і бронзавага веку выяўлены на дзюнах поплаву ўздоўж абодвух берагоў Шчары, на Пд і ПдУ ад вёскі, на высокім пясчаным участку карэннага берага Шчары. Сляды мезалітычнага паселішча — на ўсх. ускраіне вёскі.

*Літ.*: Ч а р н я ў с к і М.М. Неаліт Беларускага Панямоння. Мінск, 1979. *М. М.Чарняўскі.*

**ДО́БРЫНЕВА**, археалагічныя помнікі — стаянкі эпох неаліту і мезаліту каля в. Добрынева Івацэвіцкага р-на Брэсцкай вобл.

С т а я н к а-1 за 0,5 км на ПдЗ ад вёскі, на правабярэжнай тэрасе р. Грыўда, якая пераходзіць ва ўзгорыстае плато. Выявіў і абследаваў у 1963—64 В.Р.Супрун, даследаваў у 1967 М.М.Чарняўскі. Выцягнута ўздоўж берага на 1 км, шыр. да 200 м. На непашкоджаных участках захаваўся культ. пласт да 0,4 м. Знойдзены разначасовы матэрыял: мезаліту — тронкавыя лістападобныя наканечнікі стрэл, ланцэтападобныя вастрыі, канцавыя скрабкі, разнастайныя разцы, трапецыі, адна- і двухпляцовачныя нуклеусы і інш.; ранняга неаліту — крамянёвыя вырабы і фр-ты архаічнай грабеньчатай керамікі; значна менш знаходак позняга неаліту і бронзавага веку, сярод якіх трохвугольныя наканечнікі стрэл і серыі крамянёвых сякер. На стаянцы паслядоўна жыло насельніцтва свідэрскай, яніславіцкай, нёманскай і шнуравой керамікі культур.

С т а я н к а-2 насупраць зах. ускраіны вёскі, на канцы валападобнага пясчанага павышэння, выцягнутага ўздоўж краю правабярэжнай тэрасы р. Грыўда. Выявіў у 1985 М.М.Чарняўскі. Пляцоўка памерамі 0,2 × 0,6 км. Культ. пласт да 0,3 м. Знойдзены прылады працы, сфармаваныя пераважна на пласцінках, у т.л. высокія канцавыя скрабкі мезалітычнага часу. *М.М.Чарняўскі.*



***Долатападобныя прылады** і прыклады іх выкарыстання для апрацоўкі дрэва, скуры і косці (рэканструкцыя).*

**ДО́БРЫНСКІ МАНЕ́ТНА-РЭ́ЧАВЫ СКАРБ.** Знойдзены каля в. Добрына Лёзненскага р-на Віцебскай вобл. ў 1962. Складаецца з сярэбранай *грыўні шыйнай* і куфіцкіх *дырхемаў* Арабскага халіфата. Ухаваны ў 1-й пал. 840-х г., зберагаецца ў Віцебскім абл. краязнаўчым музеі.

Г р ы ў н я (маса 200,8 г) у выглядзе 8-граннага ў сячэнні дроту (даўж. 68 см), арнаментаванага па 4 верхніх гранях чатырохпялёсткавымі разеткамі з рэльефнымі кропкамі ў цэнтры. На абодвух канцах дроту кубікападобныя галоўкі з усечанымі верхнімі вугламі, арнаментаванымі востравугольнымі фігурамі і разеткамі (на квадратных гранях), як на дроце. Грыўня, магчыма, паўн.-зах. паходжання (відавочна, з в-ава Готланд, Балтыйскае мора), тыпалагічна блізкая грыўням *Парэцкага манетна-рэчавага скарбу*.

Куфіцкіх дырхемаў 527, з іх 96 фрагментаваных. Прадстаўлены манеты дынастый Умаядаў (24) і Абасідаў (503), размеркаваны паводле манетных двароў і перыядаў праўлення халіфаў. Дынастыя Умаядаў: Хішам (724—743) — 14 манет, Ібрахім (744—745) — 3, Мерван II (745—750) — 7; манетныя двары аш-Шаш (1 манета) і Васіт (23). Дынастыя Абасідаў: ас-Сафах (750—754) — 14, ал-Мансур (754—775) — 99, ал-Махдзі (775—785) — 75, ал-Хадзі (785—786) — 1, ар-Рашыд (786—809) — 188, ал-Амін (809—813) — 19, ал-Мамуні (813—833) — 102, ал-Мутасім (833—842) — 4, ал-Васік (842—847) — 1; манетныя двары Мадынат ас-Салам (235), ар-Рэй (2), ал-Мухамедыя (81), Мадынат Самарканд (27), Самарканд (9), Мадынат Балх (30), ал-Басра (27), ал-Куфа (27), Мадынат Зерэндж (12), Аран (5), Мадынат Ісбахан (11), Арменія (5), Мадынат Нісабур (5), Маадэн аш-Шаш (5), нявыяўлены манетны двор (1). *В.Н.Рабцэвіч.*

**ДОЛАТАПАДО́БНЫЯ ПРЫЛА́ДЫ**, прылады працы першабытнага чалавека з крэменю для апрацоўкі дрэва, скуры, косці і рога. У спец. літаратуры вядомы пад назвай chisels celts (англійскай), pies ecailees (французскай), narzędzia dłutowate

(польскай). Вядомы з часоў сярэдняга палеаліту. Часцей за ўсё ў якасці Д.п. ужывалі нерэтушаваныя адшчэпы і фр-ты пласцін з прамым працоўным краем, з невял. вуглом завастрэння (20—30°). Верагодна, пры выкарыстанні Д.п. апраўлялі ў дзяржанні.

*Літ.:* С е м е н о в С.А., К о р о б к о в а Г.Ф. Технология древнейших производств: мезолит—энеолит. Ленинград, 1983; K o r o b k o w a G.F. Narzędzia w pradziejach. Podstawy badania funkcji metodą traseolodiczną. Toruń, 1999. *В.У.Ашэйчык, А.М.Вашанаў.*

**ДО́МЖАРЫЦЫ**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Домжарыцы Лепельскага р-на Віцебскай вобл. За 0,3 км на ПнЗ ад вёскі, абапал палявой дарогі. 180 курганоў (было больш за 200) выш. 0,3—1,5 м, дыям. 3—8 м. Могільнік раздзелены ярам (у паўн. частцы 29 насыпаў, у паўд. — 151), з З абмежаваны балотам. Даследавалі ў 1931 А.М.Ляўданскі (3 курганы), у 1975 В.Е. Собаль (2), у 1979 Г.В.Штыхаў (10). Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах (глыб. 0,4—0,7 м) галавой на З, у некаторых — на У або Пд. Узрост большасці пахаваных 30—45 гадоў. У 3 курганах знойдзены ляпныя і ганчарныя гаршкі, крывіцкія скроневыя кольцы, бронзавыя бранзалеты, шкляныя пацеркі. Датуецца 11 ст.

*Літ.:* Л я ў д а н с к і А.М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг. // Працы. Т. 3. *Г.В.Штыхаў.*

**ДО́МНІЦА**, печ для атрымання жалеза непасрэдна з жалезнай руды шляхам яе аднаўлення, пераўтварэння ў крыцы. Д. часта наз. сырадутнымі печамі, бо для атрымання тэмпературнага рэжыму ў іх падавалася непадагрэтае паветра. Сыравінай для Д. служылі балотная руда, драўняны вугаль і вапна ў якасці флюсу. Д. з'явіліся ў жал. веку. На тэр. Беларусі дзейнічалі з 1-га тыс. да н.э. Рэшткі Д. 1—7 ст. выяўлены ў Цэнтр. і Паўн. Беларусі на паселішчах *штрыхаванай керамікі культуры*, *днепра-дзвінскай культуры*, *банцараўскай культуры* [*Абрамава*, *Аздзяцічы*, Буракова (*Новы Болецк*), *Друцк*, *Кімія*, *Кублічы*, Кастрыца Лепельскага р-на, Лабэншчына Мінскага р-на, Свідна Лагойскага р-на, ва ўр. Цербахунь паблізу в. Канькі].

Д. з гарадзішча Кімія ўяўляла сабой глінабітнае збудаванне шахтавага тыпу. Яе дыям. да 0,9 м, выш. сценкі да 0,7 м. Д. на гарадзішчы Лабэншчына мела паўсферычную форму, дыям. каля 0,6 м, выш. да 0,4 м, таўшч. сценак 5—7 см. З-за значнай пашкоджанасці яна не паддаецца бясспрэчнай інтэрпрэтацыі. Мяркуецца, што ў перыяд жал. веку аб'ём Д. не перавышаў 0,15—0,2 м$^3$, у часы Кіеўскай Русі павялічыўся да 0,45 м$^3$. Верагодна, для падачы паветра ў печ выкарыстоўваліся мяхі, канструкцыя якіх невядома. Гліняныя трубкі (соплы) для надзімання паветра ў Д. мелі звычайна дыям. 5,5—6 см. Соплы выяўлены на развале Д. ў Друцку. Гл. таксама арт. *Горан*.

*Літ.:* К о л ч и н Б.А. Черная металлургия и металлообработка в древней Руси (Домонгольский период). М., 1953 (МИА. № 32); Г у р и н М.Ф. Древнее железо Белорусского Поднепровья (I тыс. н.э.). Минск, 1982; Древняя Русь: город, замок, село. М., 1985. *М.Ф.Гурын.*

**ДО́ЎГАЕ**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Доўгае Глыбоцкага р-на Віцебскай вобл. За 0,4 км на З ад вёскі. Мясц. назва помніка Валатоўкі або Французскія магілы. Захаваліся 24 насыпы выш. 0,8—1,7 м і дыям. 6—10 м. Раўкі не прасочваюцца. Побач размешчаны могільнік часоў позняга сярэдневякоўя з каменнымі надмагіллямі і каменнымі крыжамі. Адкрыў Ф.В.Пакроўскі (1893), абследавалі М.А.Ткачоў (1972) і Л.У.Дучыц (1981). У 1995 Л.У.Дучыц раскапала 7 насыпаў. Выяўлены 6 мужчынскіх безынвентарных пахаванняў і 1 жаночае з рэчамі. У апошнім на месцы шыі знаходзіліся 2 металічныя пазалочаныя гузікі з дротавымі дужкамі, на левай руцэ — паўтараабаротны пярсцёнак з «рубленага» дроту, каля пояса на шнурку з ільняных нітак металічны зажым, вял. мужчынскі пярсцёнак і падвеска-конік. Усе пахаванні былі ў ямах глыб. 0,7—1 м. У адным з мужчынскіх пахаванняў па перыметры пляцоўкі была абкладка з валуноў і на падэшве каля ямы зубы каня. Датуецца 11—12 ст.

*Літ.:* П о к р о в с к и й Ф.В. Археологическая карта Виленской губернии. М., 1893; Д у ч ы ц Л. Курганны могільнік Зябкі—Доўгае // ГАЗ. Мінск, 2001. № 16. *Л.У.Дучыц.*

**ДО́ЎНАР-ЗАПО́ЛЬСКІ** Мітрафан Віктаравіч (14.6.1867, г. Рэчыца Гомельскай вобл. — 30.9. 1934), беларускі гісторык, этнограф, археолаг, фалькларыст, літаратуразнавец, адзін з заснавальнікаў нац. гістарыяграфіі. Д-р гіст. навук (1905), праф. (1902). Скончыў Кіеўскі ун-т (1894). З 1898 працаваў у Маскоўскім архіве Мін-ва юстыцыі, супрацоўнічаў з Маскоўскім археал. т-вам. З 1901 выкладаў у Кіеўскім ун-це. У 1906 заснаваў прыватныя камерцыйныя курсы, ператвораныя ў 1907 у Кіеўскі камерцыйны ін-т (першая ў Расіі эканамічна-адукацыйная ўстанова), быў яго дырэктарам да 1917. З 1920 выкладаў у Харкаве, з 1922 — у Баку. З 1925 праф. БДУ, правадзейны чл. і старшыня гісторыка-археал. сек-




***Долатападобныя прылады**: 1 — бронзавы век, 2 — верхні палеаліт, 3 — эпоха мусцье, 4—5 — энеаліт.*



*А.І.Драбушэўскі.*

цыі Інбелкульта. З 1926 выкладаў у Маскве, правадзейны чл. ІГ АН СССР. Аўтар навук. прац па праблемах гісторыі, этнаграфіі, археалогіі, археаграфіі, фалькларыстыкі, эканомікі, літаратура- і крыніцазнаўства і інш. Супрацоўнічаў з У.З.Завітневічам, А.П.Сапуновым, А.К.Ельскім, Е.Р.Раманавым і інш. У 1926 удзельнічаў у раскопках гарадзішча *Банцараўшчына*. Даследаваў межы рассялення крывічоў і дрыгавічоў. Аўтар працы «Нарыс гісторыі Крывіцкай і Дрыгавіцкай зямляў да канца XII ст.» (1891), публікацыі «Археалагічнае вывучэнне Мінскай губерні» (1892), кн. «Асновы дзяржаўнасці Беларусі» (1919).

*Літ.*: Древности: тр. Имп. Моск. археол. о-ва. Т.1. М., 1901; Д а ў г я л а З.І. Літаратурныя працы доктара рускай гісторыі М.В.Доўнара-Запольскага ў храналагічным парадку за 45 год (1883—1928) // Зап. аддз. гуманіт. навук БАН. Мінск, 1929. Кн. 8. Працы класа гісторыі, т. 3; Доўнар-Запольскі М.В.: бібліягр. паказ. Мінск, 2001. *Л.У.Дучыц.*

**ДРАБУШЭЎСКІ** Аляксандр Іванавіч (н. 7.2.1961, г. Плунге, Літва), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1998). Скончыў Гомельскі ун-т імя Ф.Скарыны (1989). З 1990 заг. аддзела археалогіі Гомельскага абл. краязнаўчага музея, з 2002 заг. цэнтра Веткаўскага музея нар. творчасці. Даследаваў помнікі ранняга жал. веку і 1-га тыс. н.э. на тэр. Гомельскага Падняпроўя. У 1979, 1982 вёў раскопкі на гарадзішчы Шапатовічы (Чачэрскі р-н), у 1985—86 на Юркавіцкім бескурганным могільніку (Веткаўскі р-н, у 1988—93 на гарадзішчы Уваравічы (Буда-Кашалёўскі р-н), у 1994—95 на паселішчы Праскурні (Жлобінскі р-н) і інш. помніках Гомельскай вобл. Д. ўпершыню атрымаў дадзеныя аб пахавальным абрадзе насельніцтва Ніжняга Пасожжа на мяжы н. э., вызначыў наяўнасць тут ворнага земляробства ўжо ў к. 1-га тыс. да н.э., значна пашырыў і ўдакладніў дадзеныя аб своеасаблівай чачэрскай групе (тыпу Кісцяні—Чачэрск) верхнедняпроўскага варыянта зарубінецкай культуры.

*Тв.*: Клады древнерусских шейных гривен из Белоруссии (разам з У.А.Літвінавым і А.А.Макушнікавым) // СА. 1987. № 1; Шепотовичское городище эпохи раннего железа (разам з М.І.Лашанковым) // ГАЗ. Мінск, 1995. № 6; Погребальные памятники рубежа н.э. Нижнего Посожья // Там жа. Мінск, 1996. № 9; Чечерская группа верхнеднепровского варианта зарубинецкой культуры // Краеведческие записки. Гомель, 2000; Латенский импорт в Беларуси (ранний период) // ГАЗ. Мінск, 2002. № 17; Домостроительство и планировка поселений Нижнего Посожья на рубеже н.э. // Славянский мир Полесья. Гомель, 2004; Поселения Нижнего Посожья и смежных приднепровских районов в эпоху раннего железа // Навуковыя запіскі Веткаўскага музея народнай творчасці. Гомель, 2004; Кароткі нарыс этнакультурнай гісторыі Верхняга Падняпроўя // Арнаменты Падняпроўя. Мінск, 2004; Связи населения Нижнего Посожья и Подесенья в раннем железном веке // Брянские древности. Брянск, 2006. Вып. 4; Городища эпохи раннего железа Восточной Беларуси и Брянщины (типологическое соотношение) // Российско-Белорусско-Украинское пограничье: проблемы формирования единого социокультурного пространства — история и перспективы. Брянск, 2008.

**ДРАГУ́Н** Юрый Іосіфавіч (14.5.1926, Мінск — 18.12.2001), беларускі гісторык, археолаг. Канд. гіст. навук (1971). Скончыў БДУ (1960). З 1960 у ІГ АН Беларусі, з 1962 у БДУ. Даследаваў дзяцінец стараж. Оршы (1965—68; выявіў планіроўку і забудову, вызначыў дату ўзнікнення Оршы як горада, вывучаў яго матэрыяльную культуру), раннеслав. гарадзішчы і селішчы, курганныя пахаванні 11—13 ст. на Міншчыне.

*Тв.*: Орша: ист.-экон. очерк. 2 изд. Минск, 1967 (у сааўт.); Да пытання аб летапісным Одрэску // Весн. БДУ. Сер. 3. 1977. № 1; У истоков белорусской советской историографии // Академик В.И.Пичета: страницы жизни. Минск, 1981. *Л.У.Дучыц.*

**ДРАЗДО́ВІЧ** Язэп Нарцызавіч (13.10.1888, б. засценак Пунькі, Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл. — 15.8.1954), беларускі археолаг, мастак, пісьменнік, скульптар, фалькларыст, этнограф, адзін з заснавальнікаў нац. гіст. жывапісу. Скончыў Віленскую школу рысавання (1908). У 1920—30-я г. праводзіў археал. даследаванні ў г.п. Свір Мядзельскага р-на, пазней на радзіме, у г. Заслаўе Мінскага р-на і яго ваколіцах. У к. 1930-х г. вёў археал. разведку ў Дзісенскім пав. У ненадрукаванай працы «Дзісенская дагістарычная старына» апісаў 30 археал. помнікаў — гарадзішчаў, курганоў, паселішчаў, прывёў паданні, звязаныя з імі. Паводле яго запісаў выяўлена некалькі дзесяткаў гарадзішчаў і курганоў, у т.л. каля населеных пунктаў Багушэвічы, Галубічы, Гараватня, Задвор'е, Залессе, Зароўе, Зябкі, Крукаўшчына, Ластаўкі, Падавуты, Псуя, Свіла, Хвашчова (Глыбоцкі р-н), Сквірцы, Язна (Міёрскі р-н), Гарадзец, Пашкі, Сталіца (Шаркаўшчынскі р-н). Адкрыў некалькі стаянак і селішчаў каменнага і бронзавага вякоў, знайшоў шмат каменных крыжоў, сабраў калекцыю каменных сякер. Стараж. курганы лічыў пахаваннямі язычнікаў. Выявіў некалькі могільнікаў са старaслав. надпісамі на плітах і рэшткі мураваных падзямелляў. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў фондах Дзярж. музея Беларусі. Аўтар шматлікіх жывапісных і графічных работ на гіст. тэмы. У Мінску помнік Д. Яго імем названы Германавіцкі музей мастацтва і этнаграфіі (Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобл.).

**ДРАЗДЫ**, археалагічныя помнікі — стаянкі і селішча каменнага і бронзавага вякоў каля в. Дразды Стаўбцоўскага р-на Мінскай вобл., на левым беразе р. Нёман. каля в. Дразды Стаўбцоўскага р-на Мінскай вобл. Стаянкі-1 і 2 выявіў Л.Д.Побаль у к. 1950-х г. Стаянкі-3—5 і селішча выявіў і даследаваў М.М.Чарняўскі ў 2003.

С т а я н к а - 1 каменнага веку за 0,5 км на Пн ад вёскі, на прыбярэжным краі невял. сасняку на паўд. выступе нізкай надпоймавай тэрасы Нёмана.

С т а я н к а - 2 каменнага веку на паўн. выступе надпоймавай тэрасы Нёмана.

С т а я н к а - 3 за 1 км на У ад вёскі, на паўн.-зах. выступе ўзвышша. Пляцоўка памерамі

40 × 60 м. Даследавана 10 м$^2$. Знойдзены крамянёвыя вырабы і кераміка неаліту і бронзавага веку. На месцы стаянкі ў жал. веку і ў сярэднія вякі знаходзілася селішча.

С т а я н к а - 4 неаліту на паўн. краі ўзвышша.

С т а я н к а - 5 на паўд.-ўсх. краі ўзвышша. Даследавана 8 м$^2$. Знойдзены матэрыялы эпохі неаліту.

С е л і ш ч а каля зах. краю ўзвышша, на невял. дзюне. Знойдзена кераміка *банцараўскай культуры* і эпохі Кіеўскай Русі.

*Літ.*: Ч а р н я ў с к і М.М. Археалагічныя даследаванні ў Паўночна-Заходняй Беларусі ў 2003 г. // ГАЗ. Мінск, 2004. № 19. *М.М.Чарняўскі.*

**ДРАНУ́ХА**, археалагічныя помнікі — стаянкі каля в. Дрануха Чавускага р-на Магілёўскай вобл.

С т а я н к а - 1 каменнага веку на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Проня, за 1 км на ПнЗ ад вёскі. Адкрыў і абследаваў у 1991 В.Ф.Капыцін. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, пласціны, адна- і двухпляцовачныя нуклеусы, канцавыя скрабкі, разец на зломе загатоўкі.

С т а я н к а - 2 каменнага веку на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Проня, за 0,5 км ніжэй моста шашы Чавусы—Чэрыкаў, 0,4 км на ПдЗ ад стаянкі-1. Адкрыў і абследаваў у 1991 В.Ф.Капыцін. Знойдзены шматлікія адшчэпы, пласціны і нуклеусы.

С т а я н к а - 3 *верхнедняпроўскай культуры* позняга неаліту і селішча эпохі Стараж. Русі на астанцы 1-й надпоймавай тэрасы правага берага р. Проня, за 0,2 км на ПдЗ ад стаянкі-2. У 1991—92 В.Ф.Капыцін адкрыў і даследаваў 108 м$^2$. Культ. пласт 0,2—0,4 м. Знойдзена 737 артэфактаў, у т.л. 70 вырабаў з другаснай апрацоўкай, прадукты расшчаплення крэменю (адшчэпы, пласціны, нуклеусы) і прылады працы: скрабкі, разцы, вырабы з выемкай, вастрыі і праколкі, тронкавыя і ромбападобныя наканечнікі стрэл, трапецыі; адзінкавыя фр-ты ляпной керамікі з ямкамі і адбіткамі грэбеню.

С т а я н к а-4 каменнага веку на мысе 1-й надпоймавай тэрасы ў сутоках Проні і Басі, за 2 км на Пн ад чыг. моста. Адкрыў і абследаваў у 1991 В.Ф.Капыцін. Знойдзены адшчэпы, пласціны, мелкія лускавіны.

*Літ.*: К о п ы т и н В.Ф. Археологические памятники Чаусского района Могилевской области. Могилев, 1992; Я г о ж. Раскопки стоянки эпохи неолита у д. Дрануха Чаусского района // Прыдняпроўе: паведамл. навук. абл. краязн. канф. 28 кастр. 1992 г. Магілёў, 1993. *А.У.Коласаў.*

**ДРАЎЛЯ́НЕ**, племяннoe аб'яднанне ўсходніх славян у 8—10 ст., якое жыло на правабярэжжы Прыпяці, у міжрэччах Гарыні, Случы, Цецерава, Дняпра. Назва паходзіць ад лясной мясцовасці. Паводле археал. даследаванняў на У межавалі з *палянамі*, на З па Случы з *валынянамі* і *бужанамі*, на Пн з *дрыгавічамі*, ад якіх былі аддзелены балотамі шыр. 50—60 км уздоўж правага берага Прыпяці. Самыя стараж. помнікі Д. — курганныя могільнікі з трупаспаленнем і урнамі пражска-карчацкага тыпу ў верхняй частцы насыпу ці на гарызонце, па 1—3 пахаванні ў кургане, пазней — па адным. З к. 10 ст. адначасова з трупаспаленнем з'яўляюцца курганы з трупапалажэннем на гарызонце, у насыпе альбо яме, часта ў драўлянай труне ці калодзе, галавой на З. Пахавальны інвентар — пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы, шкляныя і сердалікавыя пацеркі, лунніцы, бразготкі, бронзавыя гузікі, жал. нажы, крэсівы, тачыльныя брускі, жал. абручы і дужкі ад драўляных вядзёр. Займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, ганчарствам, ткацтвам, апрацоўкай жалеза. Жылі ў паўзямлянках. Гал. гарады: Уручый (Оўруч), Гарадок; у Іскорасцені жылі князь і старэйшыны з мясц. знаці. На тэр. арэала Д. выяўлена 20 гарадзішчаў. У 9—10 ст. мелі сваё княжанне. У 883 кіеўскі кн. Алег прымусіў Д. плаціць даніну, у пач. 10 ст. ўдзельнічалі ў паходзе на Візантыю. На думку некаторых даследчыкаў, Д. ў 10 ст. ўзначальвалі племянны саюз, у які ўваходзілі дрыгавічы і валыняне. Пасля смерці Алега хацелі адасобіцца, перасталі плаціць даніну, забілі кіеўскага кн. Ігара. Яго жонка княгіня Вольга спаліла гарады Д. і вынішчыла іх знаць. Тэр. Д. была далучана да Кіеўскай дзяржавы і стала ўдзельным княствам з цэнтрам у г. Уручый. Апошні раз упамінаюцца пад 1136, калі кіеўскі кн. Яраполк падараваў частку іх зямель Дзесяціннай царкве ў Кіеве.

*Літ.*: С е д о в В.В. Восточные славяне в VI—XIII вв. М., 1982; М и л ю т е н к о Н.И. Туровское княжество и древлянская земля в составе Киевской Руси в X—XI вв. // Историко-археологический семинар «Чернигов и его округа в IX—XIII вв.». Чернигов, 1990. *Г.В.Штыхаў.*

**ДРО́ЗДАВА**, археалагічныя помнікі — курганныя могільнікі *крывічоў* каля в. Дроздава Талачынскага р-на Віцебскай вобл.

М о г і л ь н і к - 1 за 0,4 км на Пн ад вёскі, злева ад дарогі на в. Скавышкі. Захаваліся 2 курганы дыям. 6 м, выш. 1,5 м. У 1970 даследавала 5 курганоў З.М.Сяргеева. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў дамавіне (устаноўлена па знаходках у кожным пахаванні жал. цвікоў і іх фр-таў). У жаночых пахаваннях знойдзена 39 цыліндрычных і бочачкападобных залачоных шкляных пацерак, пярсцёнкі (2 сярэбраныя пласціністыя з арнаментам і 1 драцяны з патоўшчанай сярэдзінай і звужанымі заходзячымі канцамі). Датуецца 11 ст.

М о г і л ь н і к - 2 за 0,5 км на Пн ад могільніка-1, у лесе. Складаецца з 2 груп курганоў (у 1-й — 13 насыпаў, у 2-й — 24), размешчаных на адлегласці 50 м адна ад адной. Усе насыпы круглаватыя, дыям. 7—9 м, выш. 1,7—1,8 м. Адкрыў у 1925 Д.З.Васілеўскі, абследавалі ў 1959 Л.В.Аляксееў, у 1972 А.Р.Мітрафанаў, у 1987 групу з 13 курганоў поўнасцю даследавала В.М.Ляўко. Пахавальныя абрады — трупаспаленне, трупапалажэнне галавой на З і пераходны (частковае спаленне трупаў на гарызонце ці ў насыпе). Цела нябожчыка спальвалі на месцы ў цэнтры або на краі

насыпу. У 2 курганах зафіксавана ўпушчанае ў насып дадатковае трупаспаленне і парнае трупапалажэнне мужчыны і жанчыны на гарызонце, у адным — трупаспаленне ў драўлянай скрыні. Знойдзены фр-ты ганчарных гаршкоў з лінейным або хвалістым арнаментам, прамым або адагнутым вонкі венчыкам, дужка і 3 абручы ад драўлянага вядра, нажы з драўлянымі тронкамі. У ліку жаночых упрыгажэнняў розныя па форме і матэрыяле пацеркі (шкляныя, чорныя каралавыя, сердалікавыя, залачоныя, з пясчаніку). Адна пацерка з бірузовага фаянсу датуецца 3-м тыс. да н.э. Знойдзены сярэбраныя падковападобная фібула, пласціністы пярсцёнак з разеткай, скроневыя кольцы рознай велічыні, бронзавыя фібула, віты бранзалет з завязанымі канцамі, пярсцёнкі, скроневыя кольцы, жал. падковападобная фібула. У 2 курганах вылучаюцца аднаасобныя мужчынскія пахаванні (трупапалажэнне) на падсыпцы з рэчамі. У адным з іх нож, сякера, крэсіва з крэменем, у другім — набор вагавых гірак. Нябожчыкі прысыпаны зямлёй, на якой быў разведзены касцёр, на вогнішчы ў адным пахаванні знойдзены ключ, 2 жал. спражкі, 2 крэсівы, бронзавы рыбалоўны кручок, у другім — вагавыя шалі. Пасля трызны курганы былі дасыпаны. Курган № 1 можна звязваць з пахаваннем ратайнага старосты, № 2 — з пахаваннем воіна-гандляра. Адзін з курганоў могільніка пахаванняў не ўтрымліваў, у яго разрэзе прасочваецца да 6—8 тонкіх попельна-вугальных праслоек, што дае падставу аднесці яго да месца праўдзення рытуальных пахавальных або памінальных язычніцкіх абрадаў. Датуецца могільнік 2-й пал. 10 — 1-й пал. 11 ст.



*Упрыгажэнні крывічоў з курганнага могільніка Дроздава.*

*Літ.*: Алексеев Л.В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины: (материалы к археол. карте Витебской обл. БССР) // Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959; Васілеўскі Д. З матэрыялаў да археалагічнай карты Аршанскай акругі // Наш край. 1926. № 6—7; Левко О.Н. Дроздовский курганный могильник // Историко-археологический семинар «Чернигов и его округа в IX—XIII вв.»: тез. докл. Чернигов, 1988; Ее ж. Средневековые погребальные памятники Оршанского Поднепровья // Час, помнікі, людзі. Памяці рэпрасаваных археолагаў: тэз. дакл. Міжнар. канф. Мінск, 1993.

*В.М.Ляўко.*

**ДРО́ЦІК**, дрэўкавая зброя з адносна невялікім і лёгкім наканечнікам і кароткім дрэўкам, даўж. якога звычайна дасягала 1—1,2 м. Д. выкарыстоўваліся як зброя бліжняга бою для нанясення колючых удараў у рукапашным баі і для паражэння праціўніка на блізкай адлегласці шляхам кідання. Актыўна выкарыстоўваліся на паляванні. У Беларусі Д. вядомы з каменнага веку, вырабляліся з крэменю і косткі. Выкарыстанне касцяных Д. працягвалася да ранняга жал. веку, па форме былі блізкімі да коп'яў і стрэл, што выклікае цяжкасці ў іх вылучэнні. Найб. папулярнай формай жал. наканечнікаў Д. у Беларусі ў жал. веку былі ўтулкавыя з 2 шыпамі, у стараж.-рус. час выкарыстоўваліся чаранковыя і ўтулкавыя жал. Д. (вядома каля 60). Чаранковыя Д. мелі пяро ромбападобнай, падоўжана-ромбападобнай, трохвугольнай формы з 2 шыпамі (ангон), нажападобнай формы, утулкавыя — мелі пяро лаўра- і ромбападобнай формы. У 14—16 ст. Д. вядомы пад назвамі «суліца» і «ошчап», ужываліся ў кавалерыі і пяхоце. Нягледзячы на перавагу ў гэты час утулкавых наканечнікаў, бытавалі і чаранковыя Д. невял. памераў.

*Літ.*: Кирпичников А.Н. Древнерусское оружие. Вып. 2. Копья, сулицы, боевые топоры, булавы и кистени IX—XIII вв. // САИ. 1966. Вып. Е1—36; Шадыро В.И. Ранний железный век северной Белоруссии. Минск, 1985; Археалогія Беларусі, Т. 1—2. Мінск, 1997—99; Плавинский Н.А. Одношипные черешковые дротики с территории Беларуси // Археология и история Пскова и Псковской земли: материалы науч. семинаров за 2001—2002 гг. Псков, 2003; Егорейченко А.А. Культуры штрихованной керамики. Минск, 2006; Бохан Ю.М. Вайсковая справа ў Вя-

лікім княстве Літоўскім у другой палове XIV — канцы XVI ст. Мінск, 2008. *Ю.М.Бохан, М.А.Плавінскі.*

**ДРУГІ́ УСЕБЕЛАРУ́СКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ З'ЕЗД.** Адбыўся 10—13.2.1927 у Мінску. Прысутнічала 187 дэлегатаў ад 240 краязнаўчых арганізацый (12 акруговых, 98 раённых т-ваў, 130 гурткоў), якія аб'ядноўвалі больш за 9 тыс. чл. Адбыліся 2 пленарныя пасяджэнні, працавалі секцыі: прыродна-геаграфічная, культ.-гіст., школьна-краязнаўчая, яўрэйская. З'езд заслухаў справаздачны даклад Цэнтр. бюро краязнаўства (ЦБК, А.З.Казак), адзначыў пашырэнне краязнаўчага руху — заснаванне шэрага мясц. музеяў і бібліятэк, з'яўленне краязнаўчых вопісаў некаторых раёнаў; абмеркаваў пытанні вывучэння асобных раёнаў, развіцця саматужнай прамысловасці і хатніх рамёстваў, складання раённых археал. карт, правядзення метэаралагічных і феналагічных назіранняў, батанічных доследаў, збірання вуснай нар. творчасці і слоўнікавага матэрыялу, арганізацыі школьнага краязнаўства, практычнай і метадычнай падрыхтоўкі краязнаўцаў. Была зацверджана арганізацыйная структура краязнаўства рэспублікі, у т.л. вызначана пярвічная адзінка — гурток, мэтай якога было ўсебаковае вывучэнне адносна невял. тэр. раёна або горада; працу гурткоў аб'ядноўвалі раённыя і акруговыя т-вы; узначальвала, накіроўвала і каардынавала краязнаўчую работу ў рэспубліканскім маштабе ЦБК пры Інбелкульце, якое распрацоўвала інструкцыі, праграмы, метадычныя дапаможнікі, апрацоўвала дасланыя краязнаўцамі матэрыялы, выдавала час. «Наш край». Асн. даклады з'езда надрукаваны ў зб. «Працы Другога Усебеларускага краязнаўчага з'езда» (1927). *В.С.Вяргей.*

**ДРУ́ЖБА**, С к а р б і ч ы, археалагічныя помнікі — паселішчы і курганныя могільнікі каля в. Дружба Брэсцкага р-на.

П а с е л і ш ч а - 1 за 0,2 км на Пн ад вёскі, справа ад дарогі ў в. Несвіло, на надпоймавым узвышшы левага берага р. Лясная. Памеры 150 × 80 м. Адкрыла і абследавала ў 1966 І.П.Русанава, абследавала ў 1980, 1985 Т.М.Каробушкіна. На мацерыку выяўлены цёмныя плямы рэшткаў 6 жытлаў, размешчаны групамі за 5—10 м адна ад адной. Культ. пласт таўшч. 0,3—0,35 м, разворваецца. Знойдзены кавалкі ляпных гаршкоў, арнаментаваных ямкамі, нанесенымі палачкай, абломкі танкасценнай глянцаванай ляпной міскі 4—2 ст. да н.э., а таксама ганчарны посуд сярэдневякоўя (9—10 ст.).

П а с е л і ш ч а - 2 на Пн ад паселішча-1, за ручаём. Памеры 140 × 35—40 м. Адкрыла і даследавала 360 м² у 1966 І.П.Русанава. Культ. пласт 0,3—0,8 м. Выяўлена 7 пабудоў, размешчаных групамі за 5—10 м адна ад адной. Жылыя пабудовы мелі глінабітныя печы і падлогі. Адна з гасп. пабудоў невял. па памерах, запоўнена вуголлем і шкляным шлакам. Знойдзена шмат керамікі 9—10 ст., вырабаў з жалеза (серп, рыбалоўнае грузіла, нажы, шылы, крэсівы, цуглі, цвікі), свінцовае грузіла, шкляныя пацеркі. У больш ніжнім пласце выяўлена кераміка 4—2 ст. да н.э. паморскай культуры. У 1980, 1985 яго абследавала Т.М.Каробушкіна. Культ. пласт захаваўся толькі ў паўд. частцы. Выяўлены рэшткі 2 спаленых наземных драўляных пабудоў (памеры 115× 95 і 90 ×70 см), размешчаных на адлегласці 70 см адна ад адной. Знойдзена ганчарная кераміка 4—2 ст. да н.э., з адагнутым венчыкам, упрыгожаная лінейным і хвалістым арнаментам. Пасля 10 ст. паселішча пакінута ўсх. славянамі.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к на паўд. ускраіне вёскі. У к. 19 ст. К.Ягнін сабраў на ім ганчарную кераміку, рэчы з жалеза, бронзавы пярсцёнак, шкляныя пацеркі. У тыя часы помнік быў разбураны. У 1959 абследаваў Ю.У.Кухарэнка. Знойдзены абломкі ганчарнага посуду, чалавечыя косці, па якіх можна меркаваць, што пахавальны абрад — трупапалажэнне.

*Літ.*: Р у с а н о в а И.П. Славянские древности VI—IX вв. между Днепром и Западным Бугом // САИ. 1973. Вып. Е1—25. *Т.М.Каробушкіна.*

**ДРУ́ЖБА**, археалагічныя помнікі — селішча і курганны могільнік у Мінску, каля б. в. Дружба (ранейшая назва Рылаўшчына).

С е л і ш ч а на правым беразе р. Лошыца, абапал праспекта Дзяржынскага і вул. Касманаўтаў. Пл. каля 3 га. Выявіў у 1986 С.Л.Захараў, у 1986—87 Ю.А.Заяц даследаваў 1119 м². Культ. пласт 0,5—0,7 м. Выяўлены рэшткі 16 наземных зрубавых пабудоў з падпольнымі і прыпечнымі ямамі, развалы каменных глінабітных печаў,




***Дроцікі** старажытнарускага часу з курганных могільнікаў Заслаўе (1, 4), Клецк (2), Турэйск (3), гарадзішча Вішчын (5).*

*Гарадзішча старажытнага **Друцка**.*



рэшткі 2 плавільных печаў і шлакі ад вытворчасці жалеза. Знойдзены фр-ты керамічнага посуду, у т.л. амфара 10 — 1-й пал. 13 ст., жал. нажы, цвікі, цуглі, крэсіва, падковападобная фібула, кольца ад дзвярэй, спражка, шыла, іголка, ключ, наканечнік суліцы, бронзавыя пярсцёнкі, бранзалет, завушніца, хрусталёвая пацерка, шыферныя праслíцы, тачыльныя брускі, абрэзак рога лася. Сярод ганчарных клеймаў — выявы трызубца. У верхняй частцы культ. пласта знойдзены фр-ты керамічнага посуду 16—17 ст. Большая частка помніка знішчана пры будаўніцтве мікрараёна ў г. Мінск. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Музеі стараж.-бел. культуры пры Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору і ў ІГ НАН Беларусі.

Курганны могільнік дрыгавічоў 10—11 ст. за 0,2 км на ПнУ ад б. вёскі. Даследаваў у 1925 І.А.Сербаў. 10 круглых насыпаў дыям. 5,5—14 м, выш. 1—4,4 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на падсыпцы галавой на З. Пахаванні адзіночныя і парныя, у адным кургане — трайное. У некаторых курганах у галавах і ў нагах асн. (цэнтр.) пахавання — плямы попелу і вугалля ад рытуальных вогнішчаў. У 2 курганах пахаванні ў мацерыковых ямах глыб. да 0,5 м, дно якіх прысыпана тонкім пластом белага пяску. У жаночых пахаваннях выяўлены рэшткі дамавін. Пахавальны інвентар: скроневыя кольцы, жал. шыйная грыўня, пацеркі (сердалікавыя васьмігранныя і біпірамідальныя, золаташкляныя і сярэбраныя зярнёныя), пярсцёнкі з бронзавага дроту, спражка, жал. вушка і абручы ад драўлянага вядра, сякера, касцяны грэбень у футарале, керамічныя, зробленыя на ганчарным крузе гаршкі. Некаторыя пахаванні без інвентару. У большасці курганоў паблізу да іх вяршыні выяўлены вогнішчы ад памінальнай трызны, у якіх знойдзены косці свойскай жывёлы, птушак, рыб, фр-ты керамічнага і шклянога посуду.

*Літ.*: Сербаў І. Археалагічныя раскопкі ў ваколіцах Менску ў 1925 г. (Пятроўшчына і Рылаўшчына). Мінск, 1927; Заяц Ю.А. Паселішча X—XIII стст. каля в. Дружба (Рылаўшчына) // ГАЗ. Мінск, 1994. № 3.

*Ю.А.Заяц.*

*Касцяныя грабяні, шахматы, накладка з раскопак **Друцка**.*



**ДРУЦК** (летапісны Друтьск, Дрьтеск, Дрьютск), старажытны горад Полацкай зямлі каля в. Друцк Талачынскага р-на Віцебскай вобл., на высокім правым беразе р. Друць. Паводле запісу ў Друцкім евангеллі 14 ст. існаваў ужо ў к. 10 ст. З 1130-х г. цэнтр Друцкага ўдзельнага княства. Горад меў *дзяцінец* (пл. каля 1 га), умацаваны валам (выш. 10 м) і ровам (глыб. 12 м на Пд і 6 м на З). З Пн да дзяцінца прымыкаў вакольны горад (пл. 1,3 га), умацаваны валам выш. 7 м і глыбокім ровам. На абодвух валах знаходзіліся вежы і сцены-гародні. Унутры ўмацаваных частак горада жылі князь і яго дружына, а таксама царкоўныя служыцелі, магчыма, прадстаўнікі баярства. Да ўмацаванага горада прымыкаў неўмацаваны пасад, па плошчы большы за дзяцінец і вакольны горад у некалькі разоў, дзе жылі гараджане, у т.л. рамеснікі і гандляры. У 1116 Д. разбураны войскамі паўд.-рус. князёў. Забудову дзяцінца Д. 12—13 ст. утваралі малыя сядзібы, агароджаныя парканамі, якія складаліся з жытла і 1—2

гасп. пабудоў і шчыльна прымыкалі адна да другой па перыметры пляцоўкі. Драўляныя жытлы пл. каля 16 м² былі зрублены «ў абло», ацяпляліся глінабітнымі печкамі-каменкамі. Вузкія вуліцы, мошчаныя бярвеннем, знойдзены ў цэнтр. частцы гарадзішча. Як сведчаць знаходкі гасп. інвентару, насельніцтва займалася прадзівам, ткацтвам, кравецтвам, шавецтвам, ювелірнай, кастарэзнай, цяслярнай, слясарна-кавальскай справай. Найб. росквіт Д. прыпадае на 1130—40-я г. З 13 ст. Д. разам з інш. гарадамі Полаччыны ў складзе ВКЛ. З 14 ст. тут існаваў *Друцкі замак.* У 15—16 ст. Друцкае княства падзялілася на некалькі больш дробных удзелаў, якія належалі асобным адгалінаванням князёў Друцкіх, а таксама князёў Адзінцэвічаў. Засн. ў 16 ст. новы прамы шлях з Вільні ў Маскву праз Талачын пачаў і паскорыў заняпад Д.

Першыя археал. даследаванні Д. праводзіў у 1930 А.Дз.Каваленя, у 1956—62, 1965, 1967 дзядзінец горада даследаваў Л.В.Аляксееў. У 1999—2000, 2008—09 дзядзінец, вакольны горад і пасад даследавала В.М.Ляўко. Выяўлены рэшткі пабудоў 11—12 ст., знойдзены фр-ты ляпной керамікі 1-га тыс., рэчы хатняга ўжытку (замкі, ключы, крэсівы, грабяні, ручныя жорны і касцяныя порхліцы да іх, гліняныя пасудзіны), прылады працы рамеснікаў (тыглі, ліцейныя формы для ювелірных вырабаў, шылы, шыферныя праслiцы, з іх 2 з надпісамі «кьняжинъ» і «лила», іголкі), рэчы ваеннага ўжытку (утулкавыя двухшыпныя, бранябойныя веслападобныя і арбалетныя наканечнікі стрэл 3—14 ст., фр-ты кальчугі, калчана, наверша мяча, кап'ё, кісцяні, арнаментаваныя пласціны ад панцыра), рыштунку конніка (шпоры, страмёны, цуглі, спражкі і кручкі для замацавання шпор), ювелірныя вырабы (шахматныя фігуркі, шкляныя, сярэбраны са сканню і бронзавы віты бранзалеты, бронзавыя і сярэбраны віты пярсцёнкі, пацеркі-лімонкі і залатыя шпількі, падвескі, сярэбраныя нашыўныя бляшкі), прадметы хрысціянскага культу (крыжы-энкалпіёны, нацельныя крыжыкі, 2 змеевікі, рэшткі бронзавай царкоўнай люстры і інш.), а таксама паліваныя керамічныя пліткі, пісалы, бронзавыя засцежкі для кніг.

*Літ.*: А л е к с е е в Л.В. Полоцкая земля в IX—XIII вв.: (очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966; Ш т ы х о в Г.В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). Минск, 1978; Л е в к о О.Н. О датировке начального и финального этапов развития средневекового Друцкого комплекса // IV Міжнар. канф. «Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі», 23—24 кастр. 2002 г. Полацк, 2002. *В.М.Ляўко.*

**ДРЎЦКІ ПАСА́Д**, археалагічны помнік каля в. Друцк Талачынскага р-на Віцебскай вобл. Прымыкаў да ўмацаванага стараж. Друцка, па плошчы быў большы, чым *Друцкі дзяцінец і вакольны горад.* У 1999—2000 і 2008—09 даследавала В.М. Ляўко. Выяўлена пасяленне з рэшткамі кузні, каменных ачагоў і мноствам прадметаў матэрыяльнай культуры 11—17 ст. (манеты, кулі, бытавая кераміка і інш.). Знойдзены 2 кляймы ў выглядзе трохзубца кіеўскага кн. Уладзіміра Святаславіча к. 10 ст., амфаркі кіеўскага тыпу, белагліняная паліваная кераміка, усх. карчагі і амфары з Крыму, золата- і сярэбрашкляныя пацеркі, камень-устаўка з горнага крышталю, лірападобная арнаментаваная спражка, упрыгажэнні з каляровых металаў. Выяўлены пабудовы 14—17 ст., якія сведчаць аб існаванні на тэр. стараж. пасада мястэчка, што прымыкала да замка, утворанага на месцы дзяцінца (гарадзішча) і вакольнага горада. Некаторыя рэчы (металічны каганец, керамічныя вырабы) указваюць на магчымую прысутнасць на пасадзе некаторы час татараў ці калмыкаў.

*Літ.*: Друцк старажытны. Мінск, 2000; Л е в к о О.Н. Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси (формирование и развитие). Минск, 2004. *В.М.Ляўко.*

**ДРЎЦКІЯ ДЗЯЦІ́НЕЦ І ВАКО́ЛЬНЫ ГО́РАД** (замак), археалагічныя помнікі каля в. Друцк Талачынскага р-на Віцебскай вобл. Утрымліваюць культ. напластаванні стараж. горада 11—13 ст., больш раннія слаі 1-га тыс., а таксама слой, які адпавядае часу існавання на гэтым месцы замка 14—16 ст. Тэр. абнесена землянымі валамі выш. 7—10 м і аддзелена ад пасада штучным ровам. Відавочна, што ў старажытнасці паміж дзяцінцам і вакольным горадам быў пракапаны роў ці знаходзілася западзіна, якая таксама запаўнялася вадой з Друці, як і штучны роў вакол іх. Паміж 2 умацаванымі аб'ектамі ў 1999 В.М.Ляўко даследавала 48 м². Культ. напластаванні ўтварыліся пры ўзвядзенні вала гарадзішча, падсыпках і пабудове розных драўляных канструкцый паміж гарадзішчам і вакольным горадам да к. 16 ст. Дадзеныя аб'екты займаюць паўн.-ўсх. ўскраіну вёскі ўздоўж выгіну Друці на правым яе беразе. З ПдУ і З яны аддзелены ровам ад сучасных вуліц Цэнтральная і Школьная.

Пляцоўка д з я ц і н ц а (гарадзішча) памерамі 140 × 80 м знаходзіцца на выш. 22 м над узроўнем ракі, мае форму няправільнай трапецыі, па перыметры абкружана валам, які на З дасягае



*Шкляныя бранзалеты з **Друцка**.*

выш. 10 м. З боку ракі вал перарываецца глыбокай прамывінай, што ўтварылася на месцы абуранага падземнага спуску да вады. Уезд на гарадзішча размешчаны з боку вакольнага горада. У паўд. частцы пляцоўкі гарадзішча ёсць варонкападобная яма (магчыма, ад калодзежа), а ў паўн.-ўсх. — невял. курганападобнае ўзвышша (калектыўнае пахаванне). Л.В.Аляксееў даследаваў дзяцінец пл. каля 1800 $м^2$ у 1956—62, 1965 і 1967. У зах. частцы пляцоўкі выяўлены 2 вял. пабудовы, якія археолаг лічыць княжацкім домам. Тут знойдзены пярсцёнак і шыфернае прасліца з выявамі княжацкага знака, на другім баку зроблены надпіс «княжинъ», фр-т сярэбранага састаўнога бранзалета і інш. У 1999 тэр. дзяцінца (100 $м^2$) даследавала В.М.Ляўко. Магутнасць культ. напластаванняў 1,5—2,2 м. Выяўлены гасп. пабудовы княжацкага двара з рэшткамі зерня, жаронамі, а таксама прыбіральня з дубовым сядзеннем. Тут жа зафіксаваны сметнік з глазураванай пліткай падлогі, сярэбраныя нашыўкі на адзенне з выявамі грыфонаў, фр-т залатога пярсцёнка з устаўкай. Ад княжацкага двара ішла вуліца да цэнтра пляцоўкі, дзе была размешчана плошча з храмам. Знойдзены фр-ты званоў, крыжы і глазураваная плітка падлогі драўлянай царквы Прасвятой Багародзіцы. Усх. частку пляцоўкі ўздоўж ракі займалі дамы чэлядзі і княжацкіх майстроў. Тут знойдзены розныя вырабы 12—13 ст. Частка рэчаў з дзяцінца датуецца к. 10—11 ст.

В а к о л ь н ы  г о р а д знаходзіцца на Пн ад дзяцінца. Яго пляцоўка мела памеры 170 × 100 м і была абнесена дугападобным валам, які на З дасягаў выш. 7 м. Паверхня пляцоўкі з ПнЗ на ПдУ паніжалася да 10 м. Верхняя кропка 25 м, ніжняя — 15 м над узроўнем ракі. Даследавала ў 1999 В.М.Ляўко. Магутнасць культ. напластаванняў 1,8—2,5 м. Знойдзены ляпная кераміка з пояском пад вянком 3-й чв. 1-га тыс., ляпны посуд 1-й пал. 1-га тыс., глінянае біканічнае прасліца з вял. адтулінай, матэрыялы 10 ст. (ключы ранніх форм, бронзавы пінцэт, керамічны посуд з карнізікам). Выяўлены рэшткі пабудовы з глазураванымі пліткамі падлогі 12—13 ст., а таксама ямы ад пабудоў з клецямі 15—16 ст. Тут знойдзены сірыйскае шкло, распісанае эмалямі і золатам, устаўкі ў пярсцёнкі, мноства шкляных бранзалетаў, у т.л. ўсх. паходжання, белагліняны посуд, фр-ты амфар і інш. Познія пабудовы, а таксама знаходкі паміж умацаванымі аб'ектамі (цуглі з псаліямі, зброя, посуд) сведчаць аб тым, што да к. 16 ст. два ўмацаваныя паселішчы выкарыстоўваліся ў якасці абарончага замка.

*Літ.*: А л е к с е е в Л.В. Западные земли домонгольской Руси: очерки истории, археологии, культуры. Кн. 1. М., 2006; Гл. таксама да арт. *Друцкі пасад*.

*В.М.Ляўко.*

**ДРУ́ЦКІЯ МО́ГІЛЬНІКІ**, археалагічныя помнікі — могільнікі каля в. Друцк Талачынскага р-на Віцебскай вобл.



*Каменнае надмагілле ў **Друцкім могільніку**.*

М о г і л ь н і к - 1 на левым беразе р. Друць, насупраць гарадзішча, якое займае паўн. ўскраіну сучаснай вёскі. У 1873 налічвалася 48 курганных насыпаў. У 1960-х г. даследавалі Л.В.Аляксееў і З.М.Сяргеева. Раскапаны 3 курганы, з якіх адзін пусты, а ў 2 выяўлены пахаванні па абраду крэмацыі ў гаршках, пастаўленых на падсыпцы ў драўляным зрубе. Датуецца 10—11 ст.

М о г і л ь н і к - 2 на паўн.-зах. ускраіне в. Сінчукі. 2 курганныя насыпы паўсферычнай формы. У 2007 даследавала В.М.Ляўко. Адзін курган выш. 2 м і дыям. 7—8 м, другі адпаведна 2 м і 6 м. Датуецца 11—12 ст.

М о г і л ь н і к - 3 на правым беразе Друці ў напрамку в. Дубавое. У 1930-я г. налічвалася 20 насыпаў. У 2009 абследавалі В.М.Ляўко і П.М. Кенька. 2 курганы знаходзяцца ў полі і 1 — у лесе. Выш. больш за 2 м пры дыям. каля 12—14 м.

М о г і л ь н і к - 4 на Пн ад *Друцкага дзяцінца і вакольнага горада*. Выяўлены ў 2008 В.М. Ляўко і П.М.Кенькай. 2 курганы выш. 0,7 м, дыям. каля 3 м. Знойдзены жал. нож, фр-ты костак. Трэці курган памерамі 18 × 6 м і выш. каля 2 м. У насыпе кургана на гарызонце выяўлены 38 пахаванняў, арыентаваных галавой на З. Шылавідныя наканечнікі стрэл, знойдзеныя ў 2 памерлых, сведчаць аб іх гвалтоўнай смерці. 2 пахаванні знаходзіліся пад надмагіллямі з пліт, пакладзеных на бакавыя апоры. Адна з іх была добра апрацавана (закругленыя канцы, а пасярэдзіне падоўжны выступ) і нагадвала шчыт. Таўшч. пліт дасягала 6—7 см. Усе пахаванні адначасовыя і ўтвараюць калектыўную магілу. На некалькіх касцяках знойдзены кавалкі каўнераў і тканін з залатым шыццём візантыйскага ўзору, а таксама грушападобныя гузікі з пазалотай, сярод якіх адзін з серабра. Побач з некаторымі нябожчыкамі выяўлены кавалкі гаршкоў. Датуецца 12 — пач. 13 ст.

*Літ.*: К а в а л е н я А.З. Археалёгічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукамкі // Працы. Т. 3; А л е к с е е в Л.В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины: (материалы к археол. карте Витебской обл. БССР) // Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959; Я г о ж. Полоцкая земля в IX—XIII вв.: (очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966; Я г о ж. Западные земли домонгольской Руси: очерки истории, археологии, культуры. Кн. 1. М., 2006; Ш т ы х о в Г.В. Археологическая карта Белоруссии. Вып. 2. Памятники железного века и эпохи феодализма. Минск, 1971. *В.М.Ляўко.*

**ДРУ́ЦКІЯ СЕ́ЛІШЧЫ**, археалагічныя помнікі ў раёне *Друцкага гарадзішча і вакольнага горада*, каля в. Друцк Талачынскага р-на Віцебскай вобл. Выяўлены ў 2008—09 В.М.Ляўко і П.М.Кенькам. Знойдзены ляпная кераміка 2-й пал. 1-га тыс., вырабы з каляровага металу (бранзалет з пашыранымі канцамі, накладка на адзенне, фр-т шыйнай грыўні і інш.), сляды бронзаліцейнага рамяства. Паводле Л.Д.Побаля, вядома аб 2 селішчах. Адно з іх лакалізуецца на левым беразе Друці прыкладна на адлегласці 0,1 км ад паўд. ускраіны вёскі, ва ўр. Выган. Утрымлівае матэрыялы 3—8 ст. Другое было размешчана на Пн ад вёскі і ўтрымлівала матэрыялы 3-й чв. 1-га тыс. і эпохі Кіеўскай Русі. Дадзеныя па другім селішчы пацвярджаюцца знаходкамі падчас даследавання, праведзенага ў 2009 В.М.Ляўко. Гэтыя селішчы звязаны таксама з фарміраваннем на месцы будучых дзяцінца і вакольнага горада племяннога цэнтра ў 1-м тыс. Раскопкамі В.М.Ляўко ў 1999 на тэр. вакольнага горада выяўлены культ. пласт пасялення племяннОЙ эпохі. Магутнасць слоя, які ўтрымліваў матэрыялы 7—9 і пач. 10 ст., складала ўсяго 0,2 м, але ён быў прасочаны на ўсёй плошчы раскопу (132 м$^2$). На тэр. гарадзішча падчас раскопак Л.В.Аляксеева ў 1960-х г. выяўлены арбалетная фібула, датуемая 4—5 ст., і фр-ты ляпной керамікі.

*Літ.*: А л е к с е е в Л.В. Полоцкая земля в IX—XII вв.: (очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966; П о б о л ь Л.Д. Археологические памятники Белоруссии: железный век. Минск, 1983; Друцк старажытны. Мінск, 2000. *В.М.Ляўко.*

**ДРУ́Я**, пасёлак (у 1940—2005 гар. пасёлак) у Браслаўскім р-не Віцебскай вобл., пры ўпадзенні р. Друйка ў Зах. Дзвіну. За 30 км на ПнУ ад Браслава. Упершыню згадваецца ў «Хроніцы польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі» М.Стрыйкоўскага пад 1386, калі ў час міжусобнай барацьбы Д. захапіў Андрэй Полацкі. У 14 ст. пабудаваны Друйскі замак. Да к. 15 ст. належала ваеннаслужылым людзям Полацкага замка як абарончы і гандл. пункт на мяжы княства. З 1506 горад ва ўласнасці князёў Масальскіх, з 1611 — Сапегаў. У 1620 горад атрымаў магдэбургскае права і герб. З 1793 у складзе Расійскай імперыі, заштатны горад Дзісенскага пав. Мінскай, з 1843 — Віленскай губ.

Першыя археал. даследаванні ў к. 1920-х г. праводзіў краязнавец Я.Альхімовіч, у 1976—86 абследавала Л.У.Дучыц, у 1986—88 В.Я.Зайцава даследавала больш за 400 м$^2$. Культ. пласт таўшч. 1,2—1,5 м, у ямах да 2,4 м. Знойдзены рэчы 10—11 ст. (наканечнік стралы, нож з асіметрычнымі выступамі каля дзяржання, фр-ты ганчарнай керамікі). У ліку матэрыялаў 12—15 ст. ключ ад навяснога замка, касцяны грабеньчык, фр-ты оўруцкага шыфернага прасліца і непаліраванага глінянага посуду. Выяўлены пласт з рэшткамі пажарышча пач. 16 ст., знаходкі замкавага побыту: імпартныя паліхромныя і зялёнапаліваныя кафлі, у т.л. паўцыркульная кафля з выявай Маці Божай з дзіцем, фр-т кафлі з выявай аднагаловага арла ў геральдычным абрамленні, тулава якога ахоплівае лац. літара «R» у люстраваным адбітку (аналагічныя знаходкі выяўлены ў Віленскім і Вавельскім каралеўскіх замках), сталовы посуд (кубачкі і куфлі рэдкіх форм, збаны, талеркі з размаляваным арнаментам), фр-т металічнага наканечніка ножнаў шаблі. Выяўлены рэшткі майстэрні па вырабе кафлі, фр-ты ганчарнага горна, тэракотавых штампаў і кафляў, аздобленых рэльефам горна, тэракотавых штампаў і кафлі, аздобленай рэльефным рознасюжэтным дэкорам, пакрытых зялёнай і рудой палівай, некаторыя раз-

*Залатое скроневае кольца **дрыгавічоў** 12 ст. з Полацка.*



малявaны эмалямі па рэльефе. Археал. даследаванні даюць магчымасць меркаваць, што ў пач. 16 ст. ў Д. існавалі замак і мястэчка, якое паступова стала горадам і разраслося цераз рэкі Друя (Задруя) і Зах. Дзвіна (Прыдруя, цяпер Піедруя ў Латвіі). У 1618 на У ад старой Д. засн. новы цэнтр уладанняў Я.С.Сапегі — Сапежын (пазней злучыўся з Д.) з ратушай, гасціным дваром, культавымі пабудовамі, умацаваны валам. Далей на У быў размешчаны замак уладальнікаў, побач з ім — кляштар бернардзінцаў. *В.Я.Зайцава.*

**ДРЫГАВІЧЫ**, адно з усходнеславянскіх племянных аб'яднанняў. Назву атрымалі, верагодна, ад слова «дрыгва» — балота (характэрная рыса населенай імі мясцовасці). Паводле археал. матэрыялаў усх. мяжа рассялення Д. праходзіла па Дняпры, зах. — па левабярэжжы Зах. Буга, паўд. — прыкладна па сучаснай дзярж. мяжы Беларусі да р. Гарынь і на З ад Гарыні па лініі Роўна—Луцк, паўн. — на Пн ад Гродна, Навагрудка, Мінска, Лагойска, Барысава. На правабярэжжы р. Прыпяць Д. генетычна звязваюцца з папярэднімі культурамі — лука-райкавецкай (8—9 ст.) і Карчак (6—7 ст.). Упершыню названы ў недатаванай частцы «Аповесці мінулых гадоў» у сувязі з падзеямі на ўсх.-слав. землях, што папярэднічаюць 9 ст.; упамінаюцца візантыйскім імператарам Канстанцінам VII Багранародным (948), у стараж.-рус. летапісах (1149). Племянным цэнтрам Д. быў г. Тураў. У склад Вял. княства Кіеўскага Д. ўвайшлі ў сяр. 10 ст. У к. 10 ст. вылучыліся ў самастойнае Тураўскае княства. На тэр. рассялення Д. захаваліся гарадзішчы, паселішчы, курганныя могільнікі. Самыя стараж. курганныя пахаванні Д. з трупаспаленнямі вядомы на Прыпяці, Бярэзіне, правабярэжжы Дняпра, у вярхоўях рэк Случ і Арэса. З 10 ст. распаўсюджваюцца трупапалажэнні на гарызонце або ў падкурганнай яме. Зрэдку сустракаюцца ўнутрыкурганныя зрубавыя пабудовы, перакрытыя дахам. Пахавальны інвентар адносна бедны: ганчарныя гаршкі, спражкі, крэсівы, сякеры, нажы, дзіды. Этнавызначальнымі знаходкамі з'яўляюцца буйназярнёныя пацеркі ў жаночых пахаваннях. Д. займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, рамёствамі, гандлем, паляваннем, рыбалоўствам. Пра высокі ўзровень культуры Д. сведчаць знаходкі Тураўскага евангелля, азбукі, пісьмовых прылад, творчая спадчына Кірылы Тураўскага. Раннія Д. былі язычнікамі. У вакольным горадзе стараж. Турава выяўлена язычніцкае свяцілішча-капішча. Хрысціянізацыя Д. адбылася ў 10—11 ст. У 992 была засн. Тураўская епархія. На тэр. рассялення Д. вядомы гарады Тураў (980), Брэст (1019), Мінск (1067), Пінск (1097), Чартарыйск (1100), Слуцк (1119), Давыд-Гарадок (пач. 12 ст.), Навагрудак (12 ст.), Гародня, Клецк (абодва 1127), Рагачоў, Драгічын (абодва 1142), Брагін (1147), Мазыр (1155), Слонім (1252), Ваўкавыск, Здзітаў (абодва 1252), Турыйск (1253), Мельнік (1260), Капыль (1274), Камянец (1276), Кобрын (1287) і інш.

*Пахавальны інвентар **дрыгавічоў** з курганных могільнікаў Анусіна, Ізбішча, Пашкавічы.*



Археал. даследаванні праводзіліся на гарадзішчах стараж. Турава, Брэста, Пінска, Давыд-Гарадка, Слуцка, Клецка, Капыля, Мазыра, Рагачова, Драгічына. На аснове матэрыялаў створаны археал. музеі «Бярэсце» (Брэст) і «Старажытны Тураў» (г. Тураў Гомельскай вобл.).

*Літ.*: Успенская А.В. Курганы Южной Белоруссии X—XIII вв. // Тр. ГИМ. 1953. Вып. 22; Седов В.В. Восточные славяне в VI—XIII вв. М., 1982; Лысенко П.Ф. Дреговичи. Минск, 1993. *П.Ф.Лысенка.*

**ДРЫСВЯ́ТЫ**, археалагічныя помнікі — шматслойнае гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры* (2—1 ст. да н.э.), эпох Кіеўскай Русі і ВКЛ і селішча 11—13 ст. на зах. частцы в-ава Замак на воз. Дрысвяты Браслаўскага р-на Віцебскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а (пл. каля 1 га) умацавана валам. У 1955—56 абследаваў Л.В.Аляксееў. У 1970, 1976 і 1980 даследаваў М.А.Ткачоў. Ускрыта 700 $м^2$. Прарэзка вала ў паўд. частцы гарадзішча сведчыць, што першапачаткова ён быў насыпаны з пяску па краі пагорка. Знешні схіл вала, які быў бліжэй да вяршыні, меў пласт з гліны. Пад насыпам вала знойдзена кераміка днепра-дзвінскай культуры. У даслав. час вал двойчы быў падсыпаны і дасягаў выш. больш за 2 м. У 10—16 ст. ён яшчэ 4 разы падсыпаўся жвірам, пяском і часткова глінай, меў дубовыя сцены, якія неаднойчы га-




*Металічныя вырабы 10—13 ст. з Дрысвят: бронзавая пласцінка-накладка (1), падвеска (2), бронзавае люстэрка (3), фібулы з макападобнымі галоўкамі (4—5), спражкі (6, 17, 21), змеегаловыя бранзалеты (8—11), пласцiністыя бранзалеты (13, 14, 16), бранзалет з круглага дроту (15), кольцы (7, 12, 19), фібулы-зашпількі (18, 20).*

рэлі. Апошняя падсыпка зроблена з культ. пласта гарадзішча і датуецца керамікай 14—16 ст. Культ. пласт (0,4—1,4 м) стратыграфічна падзяляецца на 2 слаі: верхні таўшч. 15—25 см (14—17 ст.) і ніжні таўшч. 0,6—1 м (10—13 ст.). У прывальнай паўн.-ўсх. частцы гарадзішча таўшч. напластаванняў дасягае 2 м. Мацярык уяўляе сабой тлустую гліну з украпінамі жвіровых лінзаў. У передмацерыку і на мацерыку знойдзены нешматлікія абломкі ляпной керамікі днепра-дзвінскай культуры, сляды агнішчаў, рэшткі каменных сякер. Прадметы арганічнага паходжання ў культ. пласце захаваліся дрэнна. Ад пабудоў 10—13 ст. уцалелі печкі-каменкі, падпольныя ямы, дробныя вуглістыя і гліняныя праслойкі, якія дазваляюць прыблізна вызначыць памеры драўляных дамоў (ад 3,8 × 3,2 да 4,2 × 4,2 м). Яны размяшчаліся ўздоўж вала і кучна па ўсёй пляцоўцы гарадзішча. Прасочаны сляды гасп. пабудовы 16 ст., якая стаяла на падмурку з камянёў. Тут жа знойдзены прабоі з вял. жал. кольцамі ад дзвярэй пабудовы ці канавязі. Кераміка 10—13 ст. прадстаўлена абломкамі гаршкоў, арнаментаваных шматраднымі пазногцевымі ўціскannямі, частым і дробным рыфленнем, з клеймамі на днішчах у выглядзе ўпісаных канцэнтрычных кругоў і салярных знакаў. Знойдзены накрыўкі, міскі, збаны, рэшткі амфар з Прычарнамор'я. Кераміка 14—17 ст. больш аднастайная (паліваныя і непаліваныя гаршкі, макотры, міскі). Выяўлена невял. колькасць кафлі: тэракотавая і паліваная, паліхромная, гаршковая (16 ст.), карнізная (17 ст.). Сярод металічных прадметаў пераважаюць нажы 12—13 ст. і пазнейшых часоў, ёсць наканечнікі тронкавых і ўтулкавых стрэл 11—16 ст., коп'яў, дроцікаў і суліц, бронзавыя і жал. ключы ад розных тыпаў замкоў і дэталі апошніх, адна- і двухлязовыя крэсівы 11—16 ст., шпоры 11—13 ст., абломкі стрэмя, цуглі, падковы і ледаходны шып для падкоўвання каня, дэталь пласціністага даспеха 16 ст., шмат цвікоў, скобаў розных памераў, дзвярных кручкоў і інш. жал. вырабаў. Знойдзена гарматнае ядро з белага каменю. Жаночыя ўпрыгажэнні прадстаўлены тыпова балцкімі падвескамі і фібуламі з макападобнымі галоўкамі, спражкамі-сактамі, змеегаловымі арнаментаванымі і пласціністымі бранзалетамі 11—13 ст., шклянымі пацеркамі, у т.л. залачонымі бочачкападобнымі біканічнай формы 12 ст., абломкам шклянога бранзалета і інш. Знойдзены каменны крыжык-«корсунчык», 2 крыжы-энкалпіёны 12—13 ст., манетападобная падвеска з выявай св. Юрыя, які забівае змея, кавалкі бурштыну-сырцу, шмат гліняных (10 ст.) і шыферных (11—13 ст.) прасліц. Пра ювелірную вытворчасць на гарадзішчы сведчаць пінцэт і ювелірныя цісочкі, напільнік-надфіль, кавалкі ліставой медзі. Прадукцыя кастарэзаў прадстаўлена тронкамі нажоў, пласцінкай-накладкай ад лука, мініяцюрнай арнаментаванай лыжачкай для прычасця, праколкамі,аднабаковымі арнаментаванымі (11 ст.) і двухбаковымі (12—14 ст.) грабянямі, канькамі, ігральнымі касцямі і інш. Выяўлены бандарны інструмент — лыжкарэз, стамескі, а таксама зубілы, абломкі дробназубчастай пілкі, сярпоў, кос, манеты (грошы) ВКЛ 16 ст. Знойдзены косці свойскай і дзікай жывёлы, рыбацкія гліняныя грузілы ад сетак, луска і косці рыбы. У 14—17 ст. у гарадзішчы існаваў *Дрысвяцкі замак*.

*Ганчарныя клеймы на посудзе 11—13 ст. з **Дрысвят**.*



С е л і ш ч а ўшчыльную прымыкае да гарадзішча з Пн і ПнУ. Даследавалі ў 1976 М.А.Ткачоў і Л.У.Дучыц, у 1991 Г.М.Семянчук. Ускрыта 250 м$^2$. Стратыграфія культ. напластаванняў гарадзішча і селішча аналагічная. Культ. пласт 0,4—1,2 м. Знойдзены ляпная кераміка апошняй чв. 1-га тыс. і 10—18 ст., фр-т амфары з чырвонай гліны, шыферныя і гліняныя праслiцы, тачыльныя брускі, каменная сякера, фр-т тыгля. Шмат вырабаў з жалеза (нажы, ключы, цвікі, цуглі, конская падкова, рыбалоўныя кручкі, 3 дзіды, піка, дроцік, 4 тронкавыя і 1 утулкавы наканечнікі стрэл), бронзы (бранзалеты, ліраподобная спражка, фібула з макападобнымі галоўкамі, паўтара-

абаротны пярсцёнак), косці і рога (93 грабеньчыкі, праколкі, гузік, многа касцей са слядамі апрацоўкі). Унікальная знаходка — шыфернае фіялетавае авальнае прасліца 11—12 ст. з кірылічным надпісам. Выяўлена 6 развалаў печак-каменак. Матэрыялы, звязаныя з мястэчкам Д. 15—18 ст., прадстаўлены кафляй і ганчарнай керамікай. Жыццё на селішчы існавала ў 9—17 ст. Найб. інтэнсіўна яно праходзіла ў 11—13 ст., калі селішча з'яўлялася пасадам умацаванага Дрысвяцкага замка, размешчанага на гарадзішчы.

*М.А.Ткачоў, Г.М.Семянчук.*

**ДРЫСВЯ́ЦКІ ЗА́МАК**. Існаваў у 14—17 ст. на в-аве Замак на воз. Дрысвяты ў Браслаўскім р-не Віцебскай вобл. Замак узведзены на гарадзішчы *Дрысвяты*. Археал. даследаванні праводзілі ў 1955—56 Л.В.Аляксееў, у 1970, 1976 і 1980 М.А. Ткачоў. Пляцоўка замка (75 × 50 м) мае авальную форму з крыху звужанай паўд. часткай, узвышаецца на 6—7 м над паверхняй возера і абкружана кальцавым валам. З паўн. і ўсх. бакоў поля выш. каля 5 м, з боку возера — 1—1,5 м. Ядро вала насыпана з пяску са слоем глінянага ўзмацнення на рубяжы н.э. На працягу 10—16 ст. вал 4 разы падсыпаўся з выбрукоўкай унутранага схілу камянямі. У к. 14 — пач. 15 ст. на востраве стаяў двор вял. князя ВКЛ Вітаўта, у к. 15 — пач. 16 ст. — вял. князя ВКЛ і караля Польшчы Аляксандра Ягелончыка. Пад аховай замка на востраве знаходзіліся двор і мястэчка з рынкам і 3 вуліцамі. Сувязь з берагам ажыццяўлялася па 2 мастах. Паводле апісання 1662, замак меў 3 вежы, але ўжо трухлявыя. У 2-й пал. 17 ст. зусім перастаў існаваць, а жыхары паселішча пасля пажару перабраліся з вострава на ўсх. бераг возера.

*Літ.*: Акты Виленской археографической комиссии. Т. 33. Вильна, 1908; А л е к с е е в Л.В. Полоцкая земля в IX—XIII вв.: (очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966.

*М.А.Ткачоў.*

**ДРЭ́ЎКАВАЯ ЗБРО́Я**, зброя блізкага бою. Складаецца з дрэўка, звычайна дастаткова доўгага, і наканечніка, прызначанага найперш для колючага, але часам і для сякучага ўдару. Д.з. магла выкарыстоўвацца як у блізкім рукапашным баі (дзіды, пікі і інш.), так і для паражэння праціўніка на блізкай адлегласці шляхам кідання (дроцікі). На тэр. Беларусі Д.з. (дзіды і дроцікі) выкарыстоўвалася пачынаючы з палеаліту. Да позняга сярэдневякоўя ўжывалася ў баявых і паляўнічых мэтах. У 2-й пал. 10 ст. на тэр. Беларусі з'яўляецца піка — спецыялізаваны тып дзіды, прызначаны адмыслова для прабівання даспехаў праціўніка. На працягу 10—13 ст. у Беларусі былі найб. пашыраны дзіды з пяром падоўжанай трохвугольнай формы, шырокае распаўсюджанне набылі дроцікі. Дзіды і дроцікі (суліцы) выкарыстоўваліся як пешымі воінамі, так і вершнікамі. У 14—16 ст. Д.з. найб. пашыраны від зброі блізкага бою кавалерыі і пяхоты. У кавалерыі прымяняліся дзіды, прыстасаваныя выключна для колючых ударaў. Цяжкая кавалерыя выкарыстоўвала





Прасліца з кірылічным надпісам з Дрысвят.

пераважна дзіды з доўгім і тоўстым дрэўкам — «дрэвы», прыстасаваныя для тараннага ўдару «з-пад пахі» пры поўным разгоне каня. Універсальны характар мелі рагаціны (влочні, шэфеліны) з больш кароткім дрэўкам, прызначаныя для прасцейшых фехтавальных прыёмаў. Пераважна для кідання, але таксама і для рукапашнага бою выкарыстоўваліся суліцы (вошчапы). Пехацінцы маглі выкарыстоўваць як колючую, так і колюча-сякучую Д.з. Да першай належалі як універсальныя (рагаціны, вошчапы), так і спецыялізаваныя (пікі, спісы) дзіды. З 15 ст. распаўсюдзіліся розныя ўзоры колюча-сякучай Д.з. Найб. пашыраным відам была алебарда — сякера на доўгім дрэўку, скамбінаваная з кап'ём і круком. Узор ранняй алебарды 2-й пал. 15 ст. захоўваецца ў зборы Віцебскага абл. краязнаўчага музея. Алебарды 16 ст. выяўлены ў Гродне і Пінску. З 16 ст. вядома выкарыстанне «партызаны» (пратазана) — Д.з. ў выглядзе дзіды з вял. мечападобным наканечнікам. Пехацінцы, узброеныя Д.з. (капійнікі), змагаліся наперадзе шыхта і забяспечваліся пласціністымі даспехамі. У 16 ст. мела месца спарадычнае выкарыстанне такой нетыповай Д.з., як косы, прычым некаторыя, напэўна, ужо выраблялiся як спецыялізаваная зброя. «Кос ледских 18» пералічана ў «рэестры паспалітых рэчаў скарбных» за 1510. Верагодна, гаворка ідзе пра т.зв. «баявыя косы» альбо «гізармы», якія нагадвалі звычайную касу, насаджаную на дрэўка вертыкальна і забяспечаную на тыльнай частцы таксама вертыкальным шылападобным шыпам.

*Ю.М.Бохан, М.А.Плавінскі.*

**ДУ́БАЙ**, археалагічныя помнікі — курганныя могільнікі *мілаградскай культуры* (6—5 ст. да н.э.) каля в. Дубай Столінскага р-на Брэсцкай вобл.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к - 1 (60 насыпаў) за 1 км на Пн ад вёскі, на пясчаным узвышшы сярод забалочаных лугоў, ва ўр. Задубенне. Курганы паўсферычныя, расплывістыя, выш. 0,2—1,5 м, дыям. 2—22 м. У 1955—56 Ю.У.Кухарэнка даследаваў 13 курганоў. Насыпы двухслаёвыя: гліна або суглінак знізу, пясок зверху. У большасці курганоў пахаванні на гарызонце, у 3 — у невял. (глыб. 0,3—0,8 м) прамавугольных (0,8—2×2—4 м) падкурганных ямах. Курганы большай групы падзяляюцца на пахаванні без дапаможных канструкцыйных элементаў (3) або з

папярэднім абпальваннем пляцоўкі (1), на круглай або авальнай падсыпцы дыям. 2—3 м (4), у драўляных зрубах на падсыпцы (2). У пахаваннях на гарызонце нябожчык арыентаваны галавой на ПдУ, пакладзены на падсыпку з рачнога пяску, у некаторых з папярэднім абпалам пляцоўкі або з падсыпкай з попелу і драўнянага вугалю пад пяском. У ямах нябожчык арыентаваны ў напрамку ПнЗ—ПдУ, у зрубах — ПнУ—ПдЗ. Адно зрубавае пахаванне складалася са слупоў дыям. 0,25—0,4 м, убітых па вуглах прамавугольніка 4 ×3 м на глыб. 0,2 м, вакол якіх па контуры пакладзены абпаленыя бярвёны. У зрубе 3 пахаванні. Знойдзены гліняныя яйцападобныя і 2 грушападобныя ляпныя гаршкі (у большасці курганоў па адным, у некаторых па 2—3 гаршкі). У 5 насыпах выяўлены жал. наканечнікі коп'яў, у астатніх — залатая цвікападобная завушніца, жал. нож. Датуецца 7—6 ст. да н.э.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к - 2 (20 насыпаў) за 1 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўр. Вавулін. Даследаванні не праводзіліся.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к - 3 (больш за 20 насыпаў) за 3 км на У ад вёскі. У 1981 даследаваў 1 курган (выш. 1,5 м, дыям. 12 м) Г.М.Залашка. Знойдзены невял. гаршчок без прыкмет пахавання.

*Літ.*: К у х а р е н к о Ю.В. Памятники железного века на территории Полесья // САИ. 1961. Вып. Д1—29; З а л а ш к о Г.М. Изучение древностей в бассейнах Горыни и Ствиги // АО 1981. М., 1983.

*А.А.Егарэйчанка.*

**ДУБІ́НСКІ** Сяргей Антонавіч (25.10.1884, в. Наройкі Бельскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляскага ваяв., Польшча — 27.8.1937), беларускі археолаг. Вучыўся ў Юр'еўскім (Тартускім, Эстонія) ун-це (1905—08), скончыў Пецярбургскі ун-т (1914). Працаваў настаўнікам, у т.л. з 1915 у эвакуацыі ў г. Белебей Уфімскай губ. (Расія), з 1921 у Мінску. З 1925 чл. гісторыка-археал. камісіі, з 1928 супрацоўнік Археал. камісіі Інбелкульта, у 1929—31 у ІГ АН БССР. З 1934 у Акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры (Ленінград). Праводзіў раскопкі курганных могільнікаў на тэр. Бельскага пав.; даследаваў гарадзішчы і курганныя могільнікі каля Віцебска, Полацка, Рагачова, Мазыра і інш. У 1926—28 вывучаў гарадзішчы *Банцараўшчына* (звыш 200 м$^2$), *Чаркасова*, Германы (каля г. Орша). Атрыманыя матэрыялы значна пашырылі звесткі пра ўмацаваныя паселішчы культуры штрыхаванай керамікі, садзейнічалі вызначэнню ўсх. мяжы іх распаўсюджвання, пра гасп. дзейнасць насельніцтва Беларусі ў эпоху жалеза, паклалі пачатак вывучэнню вылучанай пазней *банцараўскай культуры.* У 1927 склаў археал. карту Магілёўшчыны (не захавалася). Склаў і выдаў першую «Бібліяграфію па археалогіі Беларусі і сумежных краін» (1933), у якой назваў звыш 4 тыс. кніг, часопісных і газетных артыкулаў па археалогіі, нумізматыцы, сфрагістыцы, стараж. дойлідстве, надрукаваных з пач. 19 ст. да 1932. У 1937 беспадстаўна рэпрэсіраваны, расстраляны, рэабілітаваны ў 1956.

*Тв.*: Раскопкі Банцараўскага гарадзішча каля Менску ў 1926 г. // ГАЗ. Мінск, 1927. № 1; Доследы культур жалезнага перыяду па Віцебшчыне, Магілёўшчыне і Міншчыне // Працы. Т. 1; Чаркасоўскае гарадзішча пад Оршай; Гарадзішча каля в. Германоў Аршанскай акругі; Доследы культур жалезнага перыяду на БССР у 1929 г. // Там жа. Т. 2.

*Літ.*: К а р о б у ш к і н а Т.М. Археолаг С.А.Дубінскі // ПГКБ. 1986. № 4; В я р г е й В.С. Археалагічная навука ў Беларускай ССР 1919—1941 гг. Мінск, 1992.

*В.С.Вяргей.*

**ДУБІ́ЦКАЯ** Наталля Мікалаеўна (5.8.1957, Мінск), беларускі археолаг. Скончыла БДУ (1980). Канд. гіст. навук (2000). З 1983 у ІГ НАН Беларусі. Даследуе помнікі жал. веку і ранняга сярэдневякоўя на тэр. Беларусі, тэхналогію стараж. керамічнай вытворчасці.

*Тв.*: Керамическое производство Белорусского Поднепровья в VIII в. до н.э. — V в. н.э. Минск, 2002; Производство керамической посуды населением Припятского Полесья в эпоху железа и раннего средневековья. Минск, 2007; Раскопки городища в д. Отрубы Жлобинского района Гомельской области в 2002 г. // МАБ. 2005. Вып. 9.

**ДУБО́ВЫ ЛОГ**, археалагічныя помнікі — паселішчы каменнага і бронзавага вякоў каля в. Дубовы Лог Добрушскага р-на Гомельскай вобл.

П а с е л і ш ч а-1 ранняга этапу *верхнедняпроўскай культуры.* За 2,5 км на Пд ад вёскі, на пясчаным узвышшы правага берага р. Іпуць, ва ўр. Мішурова Грыва. Памеры 150 × 15 м. Адкрыла ў 1979 і даследавала ў 1980—83 А.Г.Калечыц, раскапана 168 м$^2$. Культ. пласт да 0,35 м. Знойдзены рэшткі 2 жытлаў: адно з іх уяўляе сабой круглую (дыям. 2,2 м) чашападобную ў профілі яму з нероўнай падлогай глыб. 0,4 м ад стараж. паверхні са слядамі агнішча; другое (ускрыта часткова) — круглая яма дыям. 3 м, глыб. 0,6 м. Каля першага жытла выяўлена адкрытае агнішча дыям. 1,2 м і вогнішча дыям. 0,8 м. Знойдзена каля 8 тыс. апрацаваных крэменяў, 279 з іх маюць паўторную апрацоўку, 480 фр-таў ляпнога посуду. Сярод прылад працы пераважаюць мысавыя, канцавыя, клювападобныя скрабкі з адшчэпаў і вельмі рэдка з пласцін, грубыя скрэблы і скоблі, прылады, якімі секлі, маленькія і вял. сякеры, у якасці якіх часта выкарыстоўвалі спрацаваныя да канца нуклеусы, а таксама сякеры з перахватам, прылады тыпу «пік», разцы, вастрыі, свярдзёлкі, трапецыі, ромбападобныя і тронкавыя асіметрычныя пласціністыя наканечнікі стрэл, фр-ты 2 наканечнікаў коп'яў. Кераміка — таўстасценныя вастрадонныя пасудзіны, насычаныя дамешкамі раслінных рэштказ у гліне. Большая частка іх неарнаментаваная. Нешматлікія фр-ты арнаментаваны адбіткамі грэбеня і ямачнымі наколамі. Трапляюцца матэрыялы эпохі развітога неаліту і *сярэднедняпроўскай культуры* ранняга бронзавага веку.

П а с е л і ш ч а-2 ранняга этапу верхнедняпроўскай культуры. За 2,6 км на ПдЗ ад вёскі, на

ўзвышшы сярод поймы правага берага р. Іпуць, ва ўр. Фядоткіна Грыва. Памеры 200 × 30 м. Адкрыла ў 1979 і даследавала ў 1983 А.Г.Калечыц, раскапана 424 $м^2$. Культ. слой да 0,5 м. Знойдзена больш за 10 тыс. крамянёвых вырабаў, 2,3% з іх маюць паўторную апрацоўку, якая праводзілася на паселішчы. Сярод знаходак пераважаюць адна- і шматпляцовачныя нуклеусы, скрабкі на адшчэпах і пласцінах, трапляюцца невял. сякеры, грубыя цёслы, свярдзёлкі, разцы, вастрыі на пласцінах і адшчэпах, наканечнікі стрэл, зробленыя на пласцінах. Посуд захаваўся вельмі дрэнна, на асобных фр-тах арнаменту ці наогул няма альбо ён складаецца з адбіткаў буйнога грэбеня, ямачных адбіткаў, кропкавых наколаў, сеткі і інш.

П а с е л і ш ч а - 3 эпохі неаліту і бронзавага веку. За 3 км на ПдЗ ад вёскі, на ўзвышшы правага берага р. Іпуць, ва ўр. Цітаў Бугор. Адкрыла ў 1978 і даследавала ў 1981—83 А.Г.Калечыц, раскапана 612 $м^2$. Культ. слой да 0,6 м. Знойдзены 7735 крамянёвых вырабаў і 4144 фр-ты посуду. Выяўлены рэшткі агнішча адкрытага тыпу ў яме дыям. 1 м, глыб. 0,6 м. Сярод знаходак каля 400 нуклеусаў, шмат адшчэпаў, пласцін і інш. адыходаў вытворчасці, што сведчыць пра апрацоўку крэменю на паселішчы. З прылад працы пераважаюць скрабкі на круглых адшчэпах, цёслы, сякеры, долаты, прылады тыпу «пік», астатніх відаў прылад няшмат. Блізкасць да помнікаў *днепра-данецкай культуры* істотна паўплывала на арнаментацыю пасудзін: амаль 7% фр-таў керамікі ўпрыгожаны наколамі, нанесенымі спосабам «адступаючай лапатачкі». Астатнія знаходкі ўпрыгожаны адбіткамі грэбеня, рознымі ямачнымі ўцісканнямі, адбіткамі лапчастага штампа, нарэзкамі, насечкамі, кропкавымі наколамі і інш. Значная частка керамікі неарнаментаваная. Паводле саставу гліны частка знаходак адносіцца да ранняга этапу верхнедняпроўскай культуры.

П а с е л і ш ч а - 4 эпохі неаліту і бронзавага веку. На пясчаным узвышшы правага берага р. Іпуць, ва ўр. Паповічава Грыва. Выявіла і даследавала ў 1978 А.Г.Калечыц. Культ. пласт 0,1 м выяўлены пад невял. пластом торфу. Знойдзены прылады працы з крэменю, адыходы вытворчасці, фр-ты ляпнога посуду, неарнаментаванага або ўпрыгожанага адбіткамі грэбеня. Цікавая знаходка — крамянёвая сякера, зашліфаваная ў рабочай частцы. Сярод знаходак матэрыялы верхне- і сярэднедняпроўскай культур.

П а с е л і ш ч а - 5 верхнедняпроўскай культуры. За 3 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўр. Падлужжа, на задзернаванай дзюне памерамі 100 × 15 м, размешчанай каля старыцы р. Іпуць, на правым яе беразе. Адкрыла ў 1979, даследавала ў 1979 і 1981 А.Г.Калечыц, раскапана 192 $м^2$. Культ. пласт 0,5 м. Знойдзена 8086 крамянёвых вырабаў і 4339 фр-таў ляпных пасудзін, выяўлены рэшткі 2 агнішчаў і месца абпальвання глінянага посуду ў выглядзе вялізнай ямы даўж. 8 м, шыр. 2 м, глыб. 0,5 м. Сярод знаходак шмат- і аднапляцовачныя нуклеусы, пласціны, у т.л. з рэтушшу, адшчэпы і інш. адыходы вытворчасці. Сярод прылад працы — скрабкі, зробленыя з адшчэпаў, скрэблы, сякеры, цёслы, долаты, прылады тыпу «пік», вуглавыя і нуклеусападобныя разцы, міндалепадобныя вырабы з двухбаковай апрацоўкай паверхні, нажы, ромбападобныя, трохвугольныя, лістападобныя, пласціністыя наканечнікі стрэл, скоблі, свярдзёлкі, вастрыі, некалькі сярпоў і інш. Кераміка — вастрадонныя, прамасценныя, ледзь пашыраныя ўверсе гаршкі. Венчыкі пасудзін прамыя або злёгку адагнутыя звонку, зрэдку па краі зроблены несапраўдны валік. Неалітычны посуд упрыгожаны адбіткамі грабеньчатага штампа, ямачнымі ўцісканнямі, лапчастымі адбіткамі. Частка фр-таў неарнаментаваная. Частка керамікі належыць сярэднедняпроўскай, сосніцкай і шматвалікавай кераміцы культурам.

За 2 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчах Высокая Грыва і Яблачкіна Грыва і на краі тарфянога масіву выяўлены яшчэ 3 паселішчы каменнага веку.

*Літ.*: К а л е ч и ц Е.Г. Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии. Минск, 1987.

*А.Г.Калечыц.*

**ДУ́БРАВА**, этнаграфічна-археалагічны помнік тыпу «*Дзявочая Гара*» ў Валожынскім р-не Мінскай вобл. За 0,5 км на З ад в. Дубрава Маладзечанскага р-на Мінскай вобл. Адзін з самых высокіх пунктаў гэтай мясцовасці, паблізу водападзелу Зах. Бярэзіны і Свіслачы. Амаль уся парасла лесам. Абследаваў і правёў раскопкі ў 1987—90 Э.М.Зайкоўскі. У найб. высокай паўн.-ўсх. частцы размешчана больш за 20 курганоў (выш. 0,5—1,5 м, дыям. 6—12 м) і вял. яма. Раскапаны 8 курганоў, з іх 6 у асн. групе. Два вял. курганы — каля зах. краю пляцоўкі, складзены з камянёў, перасыпаных зямлёй, астатнія насыпаны з зямлі і ўнізе абкладзены вянком з камянёў. Пахаванні размешчаны ў асн. у падкурганных ямах, арыентаваны галавой на З (з некаторымі адхіленнямі). Сярод знаходак — сярэбранае скроневае кольца, канцы якога заходзяць адзін за адзін, абломкі ганчарнага посуду, пярсцёнак і шкляныя пазалочаныя пацеркі 2-й пал. 11 ст. Частка магіл без інвентару. Культ. пласт не выяўлены.

Упершыню звесткі пра «Дзявочую Гару» апублікаваны ў «Геаграфічным слоўніку Каралеўства Польскага і іншых славянскіх краін» (т. 2, 1881). У ім прыведзена мясц. паданне, паводле якога на гары закапана жывая дзяўчына і разам з ёй 2 хлопцы, што загінулі ў час спаборніцтва за права стаць яе мужам. Там жа ляжаў вялізны камень, дзе нібыта сядзела дзяўчына, назіраючы за барацьбой (лічыцца, што выяўленая вял. яма засталася ад таго каменя). Мяркуюць, што «Дзявочая Гара» была сімвалам культу язычніцкай багіні кахання і ўрадлівасці.

*Літ.*: П о б о л ь Л.Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археол. памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н.э. по начало II в. н.э.). Минск, 1974.

*Э.М.Зайкоўскі.*

**ДУ́БРАЎКІ**, археалагічныя помнікі — курганны могільнік і каменныя крыжы каля в. Дубраўкі Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к за 2 км на З ад вёскі, каля воз. Беленькае, побач з сучаснымі могілкамі. Захавалася 20 курганоў выш. 0,5 м, дыям. 5—9 м. Некаторыя, верагодна, тыпу *жальнікаў*. У 1901 даследаваў 3 курганы Л.Ю.Лазарэвіч-Шапялевіч, у 1972 абследаваў Г.В.Штыхаў. Пахавальныя абрады — трупапалажэнне (2 курганы) і трупаспаленне. У адным пахаванні знойдзены нож і кольца, у другім — шкілет чалавека і ляпны гаршчок. Паводле Л.Ю.Лазарэвіча-Шапялевіча, курганы належалі ўсх. славянам.

К а м е н н ы я  к р ы ж ы за 2 км ад вёскі, на могілках 16—19 ст., каля курганнага могільніка. Захавалася 5 крыжоў на магілах, абкладзеных камянямі. Выш. крыжоў 0,5—1,2 м. Некаторыя з іх датуюцца 14—17 ст.

*Літ.*: Л а з а р е в и ч - Ш е п е л е в и ч Л.Ю. Извлечение из отчета об исследованиях и раскопках, произведенных в 1901 г. в Витебской губернии // Изв. Имп. археологической комиссии. Санкт-Петербург, 1904. Вып. 6. *Г.В.Штыхаў.*

**ДУБРО́ВА**, археалагічныя помнікі — селішчы і курганныя могільнікі каля в. Дубрава Мінскага р-на.

С е л і ш ч а - 1 за 0,2—0,3 км на У ад вёскі, абапал дарогі на в. Ісłач і вадасховішча на р. Пціч. Пл. каля 2—2,5 га. Адкрыў у 1989 і абследаваў у 1989 і 2006 Ю.А.Заяц. Сабраны фр-ты кругавога керамічнага посуду 10—11 ст.

С е л і ш ч а - 2 на правым беразе Пцічы, на паўд.-зах. ускраіне вёскі. Пл. 1,5—2 га. Знайшоў і абследаваў у 2006 Ю.А.Заяц. Сабраны фр-ты керамічнага посуду 10—12 і 15—17 ст., тачыльныя камень і брусок.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к - 1 за 0,2 км на Пн ад вёскі, у лесе. 35 насыпаў круглай і авальнай формы дыям. 4—12, выш. 0,6—2 м. Адкрыў у 1986 і даследаваў 5 насыпаў у 1989 Ю.А.Заяц. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на мацерыку галавой на З. Адно пахаванне часткова спалена. Пахавальны інвентар: бронзавыя пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы, жал. нож і ножны, шкляныя і сердалікавыя пацеркі, кругавы керамічны посуд 11 ст. У 2 насыпах, на перыферыі пахавальных пляцовак у неглыбокіх мацерыковых ямах круглай і авальнай формы выяўлены рэшткі пахаванняў па абраду крэмацыі. У адным з іх знойдзены фр-ты выробленых на крузе гаршкоў 10 ст. Не выключана, што курганы насыпаны на месцы больш ранняга бескурганнага могільніка.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к - 2 за 0,3 км на ПнЗ ад вёскі, на ўскраіне лесу, на ўзвышшы. Налічваў 6 насыпаў. Не захаваўся.

*Літ.*: З а я ц Ю.А. Археологические памятники Менской земли (курганные могильники и селища) в верхнем течении рек Птичь и Свислочь // МАБ. 2006. № 11; Я г о ж. О результатах археологических разведок 2006 г. на территории Минского района в верховьях реки Птичь // ГАЗ. Мінск, 2007. Вып. 23. *Ю.А.Заяц.*

**ДУБРО́ВЕНСКІ ЗА́МАК**. Існаваў у 16—18 ст. у г. Дуброўна Віцебскай вобл., каля сутокаў рэк Дуброўна (пазней Дубровенка, Дубровіца) і Дняпро. Займаў мысавую частку левага берага Дняпра. Меў прамавугольную форму (каля 125 × 45 м). Пляцоўка замчышча была абкружана земляным валам (у наш час ссунуты на схілы) і ўзвышалася над паверхняй вады на 8—8,5 м.

Даследавала ў 1996—97 В.М.Ляўко (400 м$^2$). Магутнасць культ. пласта дасягала 1—1,5 м. У паўн.-зах. частцы замчышча ніжні культ. пласт падзяляецца на 2 гарызонты, ніжні з якіх утрымлівае матэрыялы 14 ст. (кераміка з клеймамі на донцы, ключ ранняга тыпу, кафля). На інш. участках раскопак гэты пласт адсутнічае, што дае падставу меркаваць аб засяленні тэр. замчышча спачатку толькі ў яго паўн.-зах. частцы пры злучэнні Дубровенкі з Дняпром. У пласце 15—16 ст. знойдзены гаршковая кафля з высокім цыліндрычным тулавам (выш. 28 см) і прамавугольным вусцем, кавалак абрамлення пячнога праёма. Побач выяўлены пячныя кафлі з закругленым вусцем, якія мелі выш. 15—18 см. Прарэзка паўн. схілу паказала, што да насыпкі валу тут мелася агароджа з апорнымі слупамі дыям. 0,2—0,25 м. Да гэтага ж перыяду адносіцца і існаванне вежы. Яе падножжа (5,4 × 5,4 м), выяўленае ў мацерыку на глыб. 0,8 м, выканана ў выглядзе драўлянай краты ў 4 слаі з бярвён дыям. каля 0,15 см. У паўн.-ўсх. куце памяшкання знойдзены апечак, складзены з цэглы, датуецца 12 ст. Тут жа выяўлены кафлі гаршковая з закругленым вусцем і пласцiністая з паліхромнымі гербавымі выявамі. У пабудове знойдзены фр-т ножан, наканечнік стралы, брытва, якія адносяцца да 16—17 ст. Выяўлены рэшткі жылых і гасп. памяшканняў. Яны мелі фундаменты з камення насухую, а таксама з чырвонай абпаленай гліны выш. 0,8 м, шыр. 0,7 м. Гліняны фундамент падмацоўваўся ў асобных месцах камянямі. Дробныя камяні выяўлены на ўзроўні залягання падлогі адной з пабудоў. Знойдзены, верагодна, падклет, які быў заглыблены ў мацярык на 1,2 м ніжэй асн. пабудовы. Яго сцены і столь былі абшыты бярвёнамі. Сцены падпіраліся слупамі дыям. да 0,3 м і былі заглыблены на 0,2 м адносна ўзроўню падлогі падклета. Слупы-апоры стаялі на роўнай адлегласці ў цэнтр. частцы памяшкання, якое мела памеры 6,2 × 6,3 м. У ім знойдзена вял. колькасць фр-таў шкляных бутляў з дыям. дна да 30 см, фр-ты штофаў, кварт, шкляніц і інш. посуду імпартнага паходжання, а таксама фр-ты вял. тарнага глінянага посуду. У наземнай частцы памяшкання знойдзены развал печы з кафляй. Такія ж развалы печаў з драўлянымі апечкамі выяўлены і на інш. участках замчышча. Кафлі маюць раслінны арнамент, упрыгожаны сюжэтамі палявання, выявамі птушак, рыбы, рака, авечкі і інш.

Пабудовы 18 ст. былі каменна-цаглянымі і драўлянымі. Знойдзены рэшткі каменных фундаментаў на вапне, а таксама цэглы-пальчаткі.

Канструкцыі, што адносяцца да абарончых умацаванняў, датуюцца 16—17 ст. Яны згарэлі і захаваліся ў выглядзе моцнай попельна-вугальнай праслойкі. Рэшткі матэрыяльнай культуры прадстаўлены характэрнымі для замкаў 16—17 ст. рэчамі як імпартнага паходжання, так і мясц. вытворчасці. Гэта складныя нажы і футаралы да іх з інкрустацыяй з каляровых металаў, люлькі, шкляны посуд, асобныя вырабы з бронзы, касцяны гузік з пагруднай выявай чалавека, двузубыя відэльцы і інш.

*Літ.*: Левко О.Н. Археологическое изучение Дубровенского замка // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі. Полацк, 1998; Я е ж. Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси. Минск, 2004. *В.М.Ляўко.*

**ДУБРО́ЎНА**, горад, цэнтр Дубровенскага р-на Віцебскай вобл., на р. Дняпро, пры ўпадзенні ў яго рэк Дубровенка і Свінка. За 92 км на ПдУ ад Віцебска.

За 0,1 км ад упадзення р. Дубровенка ў Дняпро, на правым яе беразе, на ўзгорку за сучасным будынкам райвыканкома знаходзяцца рэшткі стараж. гарадзішча жал. веку. Магутнасць культ. пласта да 0,8 м. У 1989 даследаваў П.А.Русаў. Абследавала ў 1997 В.М.Ляўко. Пляцоўка узвышаецца над поймай на 5—8 м. Другое паселішча (замак) — пры ўпадзенні р. Дубровенка ў Дняпро. Абследавалі ў 1930 І.А.Сербаў, у 1972 У.Ф.Ісаенка. У гарадзішчы знойдзены керамічны посуд і кафля 16—17 ст. Паселішча датуецца 14—15 ст.

З пач. 16 ст. Д. вядома як горад Аршанскага пав. Віцебскага ваяводства ВКЛ. Умацаваную частку горада даследавала В.М.Ляўко ў 1997, 2001 і 2005. Культ. пласт 1,1—2 м. Выяўлены рэшткі драўляных пабудоў 16—17 ст., а таксама каменных збудаванняў 18 ст. і рэчавы матэрыял.

*Літ.*: Сербаў І.А. Археалагічныя помнікі Дубровенскага раёна Аршанскай акругі // Працы. Т. 2; Древности железного века в междуречье Десны и Днепра // САИ. 1962. Вып. Д 1—12; Левко О.Н. Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси. Минск, 2004. *В.М.Ляўко.*

**ДУБЫ́**, археалагічны помнік — стаянка ***нёманскай культуры*** каля б. в. Дубы Пінскага р-на Брэсцкай вобл. За 2 км на ПнУ ад вёскі, на ўзвышэнні (3—5 м) у пойме рэк Бобрык і Вісліца. Рассечана гідрамеліярацыйным каналам (15 м). У сценцы канала выяўлена паўзямлянкачнае жытло даўж. 3,7 м. Помнік выявіў у 1967 і даследаваў у 1988 У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт да 1 м. Ускрыта пл. 120 $м^2$. Сярод знаходак больш за 500 крамянёвых прылад працы (наканечнікі стрэл, праколкі, вастрыі, нажы, скрабкі, скоблі, сякеры, цёслы, каменныя сякеры, сярпы, цёрачнікі), а таксама фр-ты вастрадонных пасудзін. Часткова захаваўся касцявы матэрыял. Датуецца 5—3-м тыс. да н.э. *У.Ф.Ісаенка.*

**ДУ́ДАЎКА**, археалагічныя помнікі — курганны могільнік і селішча каля б. в. Дудаўка Мінскага р-на.

Курганны могільнік за 0,5 км на ПдУ ад вёскі, на левым беразе р. Пціч. Было 7 паўсферычных насыпаў выш. 1—2,2 м, дыям. 7—10 м. У 1979 В.А.Карпека даследаваў 5 курганоў, у 1986 Ю.А.Заяц — 1 курган. У 3 насыпах пахавальны абрад трупапалажэнне галавой на З, 2 курганы без слядоў пахавання. Інвентар: сярэбраны пярсцёнак з разамкнутымі канцамі, жал. абручы и дужка ад вядра, 2 сякеры, нож, зробленыя на ганчарным крузе гаршчок і фр-ты гаршкоў, у т.л. донцы з кляймом у выглядзе крыжа. У насыпах знойдзена ляпная кераміка 3-й чв. 1-га тыс., верагодна, з селішча, што існавала непадалёку. Датуецца могільнік 2-й пал. 10—11 ст.

Селішча за 0,4 км на З ад могільніка, на схіле правага берага р. Пціч. Пл. 1,5 га, культ. пласт да 0,4 м. Адкрыў і даследаваў у 1991 Ю.А.Заяц. Знойдзены развал печы-каменкі і фр-ты вырабленых на ганчарным крузе гаршкоў. Датуецца 2-й пал. 10—12 ст.

*Літ.*: Заяц Ю.А. Археологические памятники Менской земли (курганные могильники и селища) в верхнем течении рек Птичь и Свислочь // МАБ. 2006. № 11. *Ю.А.Заяц.*



*Дз.У.Дук.*

**ДУК** Дзяніс Уладзіміравіч (н. 29.5.1977, г. Наваполацк), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (2004), дацэнт (2006). Скончыў Полацкі дзярж. ун-т (1999), дзе і працуе (з 2005 заг. кафедры айчыннай і ўсеагульнай гісторыі). Вывучае археалогію і гісторыю Полацка і Полацкай зямлі ў 9—18 ст., праводзіць археал. раскопкі ў Полацку і яго наваколлі. Аўтар манаграфіі «Полацк XVI—XVIII стагоддзяў: нарысы тапаграфіі, гісторыі матэрыяльнай культуры і арганізацыі жыццёвай прасторы насельніцтва беларускага горада» (2007), вучэбна-метадычных дапаможнікаў «Гісторыя Полацка: па матэрыялах археалагічных даследаванняў» (2006), «Археалогія» (2009).

*Тв.*: Станаўленне Полацка ў IX—XIII стст. // БГЧ. 2007. № 11; Полацкая касцярэзная майстэрня XV — першай паловы XVI стст. // ААА. 2007. № 2; Археалагічныя раскопкі на грунтовым могільніку Турджэц 2 Полацкага раёна // МАБ. 2008. Вып. 15; Шляхі пранікнення і распаўсюджвання культурна-стылістычных накірункаў у матэрыяльнай культуры насельніцтва Полацка ад пачатку XVI да XVII ст. // Podróżnicy. Fundatorzy. Święci. Poznań. 2008; Полацк у сістэме станаўлення і развіцця сацыятапаграфічнай структуры старажытнарускіх гарадоў IX—XIII стст. // ГАЗ. Мінск, 2008. Вып. 24; Полацкі пасад IX—XVII стагоддзяў: гісторыка-параўнаўчая характарыстыка // Вестн. Полоцкого гос. ун-та. Сер. А. Гуманит. науки. 2009. № 1.

**ДУЛЕ́БЫ**, археалагічныя помнікі — гарадзішча, селішча, курганныя могільнікі каля в. Дулебы Бярэзінскага р-на Мінскай вобл. Вядомы з к. 19 — пач. 20 ст.

Гарадзішча размяшчалася за 1 км на Пн ад вёскі, ва ўр. Гарадок, на полі, уздоўж левага берага р. Дулебка. Культ. пласт дасягаў 1 м. Даследаванні не праводзіліся. У 1970-я г. знішчана пры будаўніцтве дарогі ў в. Мачаск.

Селішча размяшчалася амаль насупраць гарадзішча, на правым беразе р. Дулебка. Знішчана адначасова з гарадзішчам.



*Л.У.Дучыц.*

На месцы гарадзішча і селішча знойдзены рэчы к. 10—16 ст.: пярсцёнкі, прывескі, спражкі, накладкі, свінцовыя пломбы і пячаткі, фібулы, крыжы-цельнікі і інш.

Курганны могільнік-1 за 1 км на У ад вёскі, злева ад дарогі Дулебы—Баравіца, ва ўр. Баравіца. Налічвалася каля 100 курганоў выш. 0,8—2,5 м (адзін да 3,5 м), дыям. 10—20 м. Вакол вял. курганоў прасочваюцца раўкі. Раскопкі не праводзіліся.

Курганны могільнік-2 за 2 км на Пн ад вёскі, 1 км ад гарадзішча, абапал дарогі Дулебы—Мачаск. Частка курганоў знішчана адначасова з гарадзішчам і селішчам. Захавалася 86 насыпаў выш. 1—2,3 м, дыям. 10—12 м. З зах. боку курганоў размяшчаліся вял. каменныя крыжы. Мяркуецца, што менавіта на гэтым могільніку Г.Х.Татур у 1888 даследаваў некалькі дзесяткаў курганоў. Былі знойдзены сердалікавыя, шкляныя, бронзавыя пацеркі, крыжы-цельнікі ў складзе маніста і інш.

Курганныя могільнікі абследавалі ў 1979 Т.С.Бубенька, у 1987 Л.Д.Побаль.

*Т.С.Бубенька, В.І.Кошман.*

**ДУЛЕ́БЫ**, аб'яднанне славянскіх плямён, якое ў 6—9 ст. размяшчалася на Валыні, сярэднім Дунаі, у Чэхіі і інш. месцах. У 1-й пал. 7 ст. вялі працяглую барацьбу з аварамі; у пач. 10 ст. ўпамінаюцца ў летапісах сярод інш. плямён як удзельнікі паходу кіеўскага кн. Алега на Царград. У арабскіх крыніцах падаюцца звесткі пра цароў Д. — Вандж-Славу і Маджаку. У выніку распаду аб'яднання Д. вылучыліся новыя саюзы плямён: *драўляне*, *валыняне*, *дрыгавічы*, якія ўвайшлі затым у склад Кіеўскай Русі. Археал. помнікамі Д. з'яўляюцца паселішчы і могільнікі з керамікай лука-райкавецкай культуры. В.В.Сядоў лічыў, што ім належала гарадзішча і паселішча Хотамель Столінскага р-на. На думку В.В.Ключэўскага, Д. былі першым вял. аб'яднаннем, якое заклала аснову ўсх.-слав. дзяржаўнасці. На тэр. Беларусі, на думку М.І.Ермаловіча, Д., магчыма, перасяліліся з Пд альбо ПдЗ. Дайшоўшы да вусця Бярэзіны, адна іх частка пайшла ўверх па рацэ і асела ў сярэднім яе цячэнні і на р. Ольса (левы прыток Бярэзіны, цячэ па тэр. сучасных Бярэзінскага, Клічаўскага і Кіраўскага р-наў). Пра гэта сведчаць мясц. гідронім Дулебка, тапонімы Дулебня (Клічаўскі р-н) і Дулебы (Бярэзінскі р-н), антрапонім Дулеба. Другая частка Д. перайшла Дняпро і асела ў Пасожжы (р. Дулепа).

*Літ.*: Третьяков П.Н. Восточнославянские племена. 2 изд. М., 1953; Седов В.В. Восточные славяне в VI—XIII вв. М., 1982; Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: полацкі і новагародскі перыяды. Мінск, 1990.

*Г.В.Штыхаў.*

**ДУРЧЭ́ЎСКІ** (Durczewski) Здзіслаў (3.7.1908, мяст. Длонь Пазнанскага ваяводства, Польшча — 5.8.1944), польскі археолаг. Д-р гіст. навук (1936). З 1932 у Археал. музеі ў Варшаве. У 1937—39 узначальваў археал. даследаванні ў Гродне: на Замкавай гары, дзяцінца на З ад Ніжняй царквы. На пл. 240—300 м$^2$ выявіў культ. пласт 4,65 м, вывучыў частку драўлянай забудовы дзяцінца 12—15 ст. з рэшткамі 23 пабудоў і шматлікімі археал. знаходкамі (каля 9 тыс.). У кастрычніку 1939 — снежні 1940 працаваў у Вільні, потым у Варшаве, дзе загінуў у час Варшаўскага паўстання. У гады Вял. Айч. вайны калекцыя знаходак у Гродне разрабавана, дакументацыя загінула. Часткова запісы пра вынікі раскопак Д. апублікаваў М.Варонін у сваёй манаграфіі «Старажытнае Гродна» (1954).

*А.А.Трусаў.*

**ДУ́ЧЫЦ** Людміла Уладзіміраўна (н. 12.12.1950, Мінск), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1982). Скончыла БДУ (1975). У 1974—2006 у ІГ НАН Беларусі. Даследуе гісторыю паўн.-зах. зямель Полацкага княства, культавыя камяні, каменныя крыжы, археал. мікратапаніміку, этнічную сітуацыю на тэр. Беларусі ў к. 1-га — пач. 2-га тыс. н.э., зараджэнне бел. этнасу, стараж. касцюм, пытанні этнапсіхалогіі. Праводзіла раскопкі на гарадзішчах Маскаўцы і Рацюнкі на Браслаўшчыне, гідраархеал. даследаванні ў Падзвінні, раскапала больш за 300 курганоў на Пн Беларусі. Адзін з аўтараў «Археалогіі Беларусі» (т. 4, 2001).

*Тв.*: Браслаўскае Паазер'е ў IX—XIV стст. Мінск, 1991; Археалагічныя помнікі ў назвах, вераваннях і паданнях. Мінск, 1993; Касцюм жыхароў Беларусі X—XIII ст. (паводле археалагічных звестак). 3 выд. Мінск, 2005.

**ДЫПІ́НТА** (італьян. dipinto намаляванае), надпіс, зроблены пэндзлем па тынкоўцы. Часцей за ўсё сустракаецца ў якасці надпісаў-паясненняў ва фрэскавым жывапісе. У Беларусі надпісы-Д. знойдзены ў квартале ювеліраў у Навагрудку. Разам з унікальнымі для жылой пабудовы фрэскамі чорнай фарбай на белы фон былі нанесены вял. (выш. да 5 см) і малыя (выш. да 3 см) літары С, О, Е, К, Л, Ь.

*Літ.*: Гуревич Ф.Д. Древний Новогрудок: посад — окольный город. Ленинград, 1981. *І.Л.Калечыц.*

**ДЫРХЕ́М** (ад грэч. драхма), назва сярэбраных манет мусульманскага Усходу. 1) Манета Арабскага халіфата. Упершыню Д. эмітаваны паміж 692 і 696. У сучаснай нумізматыцы Д. наз. куфіцкім (па найменні арнаментальнага пісьма, што ўзнікла ў к. 7 ст. ў г. Ал-Куфа і якім выконваліся легенды на аверсе і рэверсе манет халіфата). З пач. 9 ст. Д. сістэматычна з'яўляўся на Русі і стаў асн. сродкам грашовага абарачэння да к. 980-х г. Стараж.-рус. грашовая сістэма склалася з цэлых (куна, нагата) і фрагментаваных (разана, вевярыца) экзэмпляраў Д., пра што сведчаць скарбы 9—10 ст. (гл. *Добрынскі манетна-рэчавы скарб*, *Казьянкаўскі манетны скарб* і інш.). Стараж.-рус. абарачэнне куфіцкага Д. працягвалася (за кошт паступленняў у 9—10 ст. разам з зах.-еўрап. дынарыямі) да 12 ст. (гл. *Гараўлянскія манетна-рэчавыя скарбы*, *Дзягцянскі манетна-рэчавы скарб* і інш.). 2) Манета Залатой Арды, якая мела абмежаванае

абарачэнне на Пд Беларусі (тэр. Брэсцкай і Гомельскай абласцей). *І.Ф.Масько.*

**ДЫЯГНАСТЫ́ЧНЫЯ ПРЫКМЕ́ТЫ**, сукупнасць марфалагічных і марфаметрычных асаблівасцей будовы касцей, уласцівых толькі пэўнаму віду жывёл: форма косці, вырасты і гузаватасць яе паверхні, адтуліны, даўжыня і шырыня дыяфіза і эпіфіза і іх суадносіны. Д.п. з'яўляюцца асновай астэалагічнага даследавання касцявых рэшткаў. Выяўленне Д.п. на касцях з археал. помнікаў ускладняе іх фрагментацыя, пашкоджанні пры кухоннай апрацоўцы і інш. У блізкіх відаў выяўленне Д.п. часта ўскладнена, асабліва ў выпадках аналізу касцявых рэшткаў маладых жывёл, у якіх яны не выражаны або выражаны слаба (напр., каза, авечка). Даследаванне астэалагічнага матэрыялу з археал. раскопак дае магчымасць у шэрагу выпадкаў вызначыць пароды жывёл, іх узрост, масу, выкарыстанне ў гаспадарцы, што з'яўляецца крыніцай для вывучэння стараж. палявання і жывёлагадоўлі. *Н.П.Александровіч.*

**ДЫЯДЭ́МА** (грэч. diadēma), галаўная павязка, вянец. Вядома ў стараж.-грэч. жрацоў. У сярэднявякоўі была сімвалам царскай улады. Пазней вядома як жаночае ўпрыгажэнне ў выглядзе налобнай павязкі з тканіны альбо металічнага абруча з аздобай, расшыранага ў сярэдняй частцы. На тэр. Расіі і Украіны Д. сустракаюцца ў пахаваннях заможных скіфаў і сарматаў. На тэр. Беларусі ў могільніку сярэднедняпроўскай культуры (22—14 ст. да н.э.) *Рудня-Шлягіна* знойдзены 2 упрыгажэнні накшталт Д., якія ўяўляюць сабой плескатыя медныя пласціны, сагнутыя ў выглядзе абруча з завужанымі замкнутымі канцамі.

*Літ.*: Артеменко И.И. Племена Верхнего и Среднего Поднепровья в эпоху бронзы. М., 1967.

**ДЭ́БЕЦ** Георгій Францавіч (7.12.1905, г. Томск, Расія — 19.1.1969), расійскі антраполаг. Д-р біялагічных навук (1941), праф. (1944). З 1927 у Ін-це антрапалогіі пры Маскоўскім дзярж. ун-це, з 1945 у Ін-це этнаграфіі АН СССР. Даследаваў пытанні расазнаўства, этнічнай антрапалогіі і антрапалагічнага складу народаў СССР і Афганістана, палеаантрапалогіі, антрапагенезу. Сабраў і даследаваў у этнагенетычным плане матэрыял пра стараж. насельніцтва на тэр. СССР. Упершыню даследаваў краніялагічны матэрыял па насельніцтве Беларусі 10—13 ст. Распрацоўваў методыку антрапалагічных даследаванняў.

*Тв.*: Чарапы Люцынскага могільніка і старажытных славян Беларусі... // Працы. Т. 3; Палеоантропология СССР. М.; Ленинград, 1948.

**ДЭНДРАХРАНАЛО́ГІЯ** (грэч. dendron дрэва + chronos час + logos навука), навука, якая займаецца датаваннем і вывучэннем гадавых кольцаў дрэвавідных раслін. Гадавое кольца большасці дрэвавідных раслін змяшчае слой танкасценных клетак (т.зв. ранняя драўніна), якая фарміруецца ў 1-й пал. вегетацыйнага перыяду, і таўстасценных (позняя драўніна), якая фарміруецца ў канцы вегетацыйнага перыяду. Святлейшая ранняя драўніна бягучага года выразна адрозніваецца ад цёмнай позняй драўніны мінулага года. Шырыня гадавых кольцаў залежыць як ад знешніх (клімат, пажары, забруджванне паветра і глебы, змяненне гідралагічнага рэжыму, высечак і інш.), так і ўнутраных (парода, узрост, плоданашэнне і інш.) фактараў. Знешнія абумоўліваюць высокую сінхроннасць у прыросце гадавых кольцаў розных дрэў адной пароды, якія растуць у адным рэгіёне і падобных глебавых умовах. Гэта сінхроннасць тым вышэй, чым горш умовы для росту раслін (балота, пясчаныя дзюны, лесатундра, мяжа лесу ў гарах і інш.). Паслядоўна вымераныя гадавыя кольцы аднаго дрэва ўяўляюць сабой серыю, а ўсярэдненыя серыі гадавых кольцаў з аднаго месцазнаходжання — дэндрахраналагічную шкалу. Працяглыя серыі гадавых кольцаў (больш за 50 гадоў), як правіла, маюць толькі адно становішча ў дэндрахраналагічнай шкале з рэгіёна паходжання драўніны. Гэта дазваляе выкарыстоўваць серыі гадавых кольцаў здабытых з гіст. будынкаў і драўляных вырабаў для пабудовы і працягу дэндрахраналагічных шкал у мінулае (т.зв. тэхніка скрыжаванага датавання). Шкала лічыцца абсалютнай, калі яна прывязана да канкрэтнага года, альбо плаваючай, калі яна не прывязана да абсалютнай даты.

Асн. накірункі Д.: дэндраархеалогія — вызначэнне перыяду, калі дрэва было высечана, транспарціравана, апрацавана і выкарыстана для будоўлі, а таксама месца паходжання гэтай драўніны; дэндраэкалогія, якая ўключае дэндракліматалогію (старэйшы і найб. распаўсюджаны накірунак) — вывучэнне ўздзеяння кліматычных умоў на рост дрэў у мінулым, сучасным і будучым, палеакліматычныя рэканструкцыі; дэндрагеамарфалогію — вывучэнне дынамікі геамарфалагічных працэсаў, глебаўтварэння, перасоўвання ледавікоў, аналіз лавін і інш.; дэндрагідралогію — вывучэнне змен ва ўзроўні рэк, азёр, гісторыі забалочванняў; інш. накірункі, якія вывучаюць экалагічныя праблемы (пажары, дынаміка лясоў, уплыў чалавека на прыродныя працэсы і інш.). Дэндрахраналагічны метад быў распрацаваны ў пач. 20 ст. астраномам А.Е.Дугласам, які заснаваў першую лабараторыю вывучэння гадавых кольцаў у штаце Арызона, ЗША. Яго ідэя была ў тым, што сонечная актыўнасць уплывае на ваганне клімату і гэта адлюстроўваецца ў прыросце гадавых кольцаў. Выкарыстоўваючы гэты метад, магчыма ўстанавіць год утварэння кожнага кольца і рэканструяваць кліматычныя ўмовы. У апошнія гады дасягнуты значныя поспехі ў пабудове абсалютных дэндрахраналагічных шкал на сотні і тысячы гадоў у мінулае: Еўропа (па сасне) — больш за 11 тыс. гадоў, Еўропа (па дубе) — больш за 8 тыс. гадоў, ЗША (па сасне) — каля 9 тыс. гадоў. Ва Усх. Еўропе найб. працяглая шкала (каля 1200 гадоў) зроблена па сасне і елцы ў лабараторыі Д. Ін-та археалогіі РАН з выкарыстаннем драўніны з раскопак Ноўгарада. Асн. ра-

бота была выканана пад кіраўніцтвам Б.А.Колчына. Выкарыстоўваючы наўгародскую шкалу ў 1960—80-я г. былі датаваны некаторыя ўзоры драўніны з раскопак Брэста (11—15 ст.), Полацка (12 ст.), Мсціслава (12—14 ст.), Віцебска і Слуцка. Спробы дэндрахраналагічнага датавання дрэва ў Беларусі былі зроблены Г.В.Штыхавым, Э.М.Загарульскім і П.А.Русавым. У апошнія гады асн. сфера выкарыстання дэндрахраналагічнага метаду ў Беларусі — гэта разнастайныя накірункі дэндраэкалогіі. Даследаванні праводзяцца ў Ін-це эксперыментальнай батанікі і Ін-це лесу НАН Беларусі, БДУ і Полацкім ун-це. У 2007 у Ін-це эксперыментальнай батанікі распачата фарміраванне дэндрахраналагічнага банка, а з 2008 вядзецца збор дэндрахраналагічнага матэрыялу з археал. і гіст. драўніны з мэтай пабудовы працяглых дэндрахраналагічных шкал. У 2009 датаваны некаторыя ўзоры драўніны з раскопак Мінска (19 ст.), Віцебска (16—17 ст.), а таксама з вежаў Нясвіжскага замка (18 ст.).

*Літ.*: Ш т ы х о в Г.В. Древний Полоцк IX—XIII вв. Минск, 1975; К о л ч и н Б.А., Ч е р н ы х Н.Б. Дендрохронология Восточной Европы. М., 1977; З а г о р у л ь с к и й Э.М. Возникновение Минска. Минск, 1982; Л ы с е н к о П.Ф. Берестье. Минск, 1985; Т а р а с а ў С.В. Полацк IX—XVII стст.: гісторыя і тапаграфія. Мінск, 1998; F r i t t s H. Tree rings and climate. London, 1976; K a e n n e l M., S c h w e i n g r u b e r F.H. Multilingual Glossary of Dendrochronology. Berne; Stuttgart; Vienna, 1995.

*М.В.Ярмохін.*



**ЕГАРЭ́ЙЧАНКА** Аляксандр Андрэевіч (н. 23.4. 1955, г. Канатоп Сумскай вобл., Украіна), беларускі археолаг. Скончыў БДУ (1977). Д-р гіст. навук (2008). У 1980—87 у ІГ АН Беларусі, з 1988 у БДУ (з 1997 заг. кафедры). Даследуе археал. помнікі эпохі позняй бронзы і жал. веку на тэр. Беларусі і сумежных рэгіёнаў. Адзін з аўтараў «Археалогіі Беларусі» (т. 2, 1999).

*Тв.*: Типология городищ Белорусского Полесья в раннем железном веке // КСИА. 1980. Вып. 162; К истории населения Белоруссии в раннем железном веке // СА. 1982. № 1; Аб характары земляробства і земляробных прылад працы ў насельніцтва Беларускага Палесся ў раннім жалезным веку // ВАНБ. 1983. № 3; Иваньское городище // Древнерусское государство и славяне. Минск, 1983; Племена культуры штрихованной керамики и славянский мир (к вопросу об этнической принадлежности носителей культуры) // Тр. V Междунар. конгр. археологов-славистов. Киев, 1988. Т. 4; Древнейшие городища Белорусского Полесья (VII—VI вв. до н.э. — II в. н.э.). Минск, 1996; Культуры штрихованной керамики. Минск, 2006. *А.А.Ваганава.*



*А.А.Егарэйчанка.*

**ЕЗЯРЫ́ШЧАНСКІ ЗА́МАК**, комплекс драўляна-земляных умацаванняў 14—17 ст. каля г.п. Езярышча Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл. За 3 км ад пасёлка, на востраве воз. Езярышча, каля в. Мястэчка. Пляцоўка чатырохвугольнай формы, памер 100 × 120 м. З усх. і паўн. бакоў захаваліся валы выш. 2—4 м, выразна бачны месцы, дзе стаялі 3 вежы дыям. каля 15 м, выш. насыпаў каля 7 м. З Пн прасочваецца роў, які аддзяляў замак ад астатняй тэр. вострава. У час паводкі нізкая частка залівалася вадой, і замак ператвараўся ў астраўную крэпасць. Паводле польскага храніста Р.Гейдэнштэйна, у 16 ст. Е.з. меў значныя ўмацаванні і разам з Полацкім замкам панаваў над «усім краем». У Лівонскую вайну 1558—83 узяты рус. войскамі (1565) і спалены, потым адбудаваны. У 1579 знішчаны войскамі караля С.Баторыя ў час штурму, пазней адноўлены. У пач. 17 ст. ў час пажару ўмацаванні замка згарэлі, адбудаваны езярышчанскім старостам К.Сакалінскім. У жніўні 1654 заняты рус. войскамі на чале з ваяводам С.Стрэшневым.

Замчышча абследаваў у 1950 Л.В.Аляксееў. У 1971 Г.В.Штыхаў зрабіў план замчышча і правёў шурфоўку (2 × 2 м). У 1979 В.М.Ляўко правяла раскопкі на пл. 100 $м^2$ і прарэзку паўд. вежы з валам. Даследаванне паказала, што выш. насыпу ад цэнтра да асновы 6 м, радыус — 12 м, ядро пачатковага вала са шчыльнай ярка-чырвонай гліны, выш. 1,5 м. Вал і насып пад аснаваннем вежы раздзяляліся ровам глыб. 0,8—1 м. На пляцоўцы, што была асновай вежы, выяўлены фр-т (каля 1 м) з сумесі гліны, пяску, гравію і дробнага камення. Вышэй яго залягала праслойка цьмянай афарбоўкі з вуглаллем і попелам. Над ёй зафіксаваны рэшткі драўляных канструкцый, перакрытых культ. пластом каля 1 м, дзе быў больш позні падмурак вежы, складзены з 2 ярусаў буйных валуноў. Знойдзеная кераміка сведчыць, што пабудова і аднаўленне вежы адносіцца да 14—15 ст. Гэта пацвярджаецца пісьмовымі крыніцамі, паводле якіх у 14 ст. існавала Азярышчанская воласць з цэнтрам у Азярышчы (цяпер Езярышча). Замак, верагодна, быў пабудаваны для абароны насельніцтва парубежнай воласці. У раскопе на паўд. ускраіне гарадзішча каля вала культ. пласт мае таўшч. 0,15—0,4 м. У мацерыку выяўлена шмат ям, запоўненых попелам і шлакам. Большасць керамікі адносіцца да 14—15 ст., блізкая паводле формы і арнаменту да матэрыялаў з Арэшка і Пскова, датаваных тым жа часам. Адзінкавыя знаходкі 16—17 ст. (паліваная кераміка, кафля) сведчаць, што ў гэты перыяд замак выкарыстоўваўся насельніцтвам як сховішча падчас ваенных дзеянняў. Частка керамікі адносіцца да 3-й чв. 1-га тыс. і да 8—10 ст., што пацвярджае існаванне тут паселішча яшчэ да пабудовы замка.

*Літ.*: Брэжго Б. Замкі Віцебшчыны. Вільня, 1933; Левко О.Н. Феодальные памятники Северо-Восточной Белоруссии // АО 1980. М., 1981; Я е ж. Замак Езярышча // Помнікі мастацкай культуры Беларусі: новыя даслед.: зб. арт. Мінск, 1989. *В.М.Ляўко.*

**ЕЛІСЕ́ЕВІЧЫ**, археалагічны помнік — верхнепалеалітычная стаянка ў в. Елісеевічы Бранскай вобл. (Расія). За 50—70 м на У ад вёскі, на правым беразе р. Судасць (правы прыток р. Дзясна). Ад-

крыў у 1930 і даследаваў у 1935, 1936, 1946, 1948 К.М.Палікарповіч, даследавалі ў 1936 Ф.М.Заварняеў, В.П.Левянок, у 1946 М.В.Ваяводскі, у 1963—68 У.Дз.Будзько, у 1970—80-я г. Л.В.Грэхава. Усяго ўскрыта 694 м$^2$, даследавана 5 буйных ям дыям. каля 2 м з косткамі маманта (1960—70-я г., у 1963 адну з іх даследаваў У.Дз.Будзько), 2 згрувашчанні чарапоў (1935 і 1936), вял. зольнік (1935 і 1948), пахаванне дзіцяці (1936), 2 канструкцыі з вертыкальна стаячых лапатак маманта. У ніжнім гарызонце выяўлены рэшткі паўзямлянaчных жытлаў авальнай формы, заглыбленых у зямлю на 0,5—0,6 м, зробленых з розных касцей маманта. Крамянёвыя прылады прадстаўлены разцамі розных тыпаў, скрабкамі, праколкамі, вастрыямі, пласцінамі, наканечнікамі стрэл. Шматлікія прылады з касцей паўн. аленя, пясца, ваўка, лісіцы, бурага мядзведзя, маманта (усяго каля 100 экз.), сярод якіх пранізкі, наканечнікі дзід, землечарпалкі, дзяржанні, іголкі, шылы, прылада ў форме грабеньчыка з кораня зуба маманта, з яго біўня (108 экз.), у т.л. кіркападобныя матыкі, кінжалы, масіўныя матыжкі з укарочанымі канцамі, скрабкі, кліны, «лыжачкі», нажы, «калатушка». Знойдзены апрацаваныя і масіўныя адшчэпы, стрыжападобныя і пласціністыя сколы, папярочна вычлененыя кавалкі біўня, нарыхтоўкі, «шуфля», падвоеныя вастры, гузікі-нашыўкі. Асаблівую цікавасць уяўляюць касцяныя арнаментаваныя пласціны, выявы рыб, галоўкі жывёл і качак, фігуркі маманта і жаночыя статуэткі, упрыгажэнні (амулеты, падвескі з прасвідраваных для падвешвання зубоў дробнай жывёлы, марскіх ракавін і прэснаводных малюскаў). Культ. пласт верхняга гарызонта 2,5 м. Датуюцца: ніжні гарызонт 20—18-м тыс. да н.э., верхні — 13—10-м тыс. да н.э. У рамках сярэднядняпроўскай этнакульт. агульнасці з'яўляецца асобным помнікам, каменны і касцявы інвентар якога не мае прамых аналогій ні ў Падняпроўі, ні за яго межамі.



*Да арт. **Елісеевічы**. Касцяныя пранізка і грэбень з кораня зуба маманта.*

*Літ.*: Б у д ь к о В.Д. Елисеевичское верхнепалеолитическое поселение // ДАНБ. 1965. Т. 9, № 10; Я г о ж. Верхний палеолит Северо-Запада Русской равнины // Доклады и сообщения археологов СССР. М., 1966; П о л и к а р п о в и ч К.М. Палеолит Верхнего Поднепровья. Минск, 1968; Б у д ь к о В.Д., В о з н я ч у к Л.Н. Палеолит Белоруссии и смежных территорий // Древности Белорусии. Минск, 1969.

*У.Дз.Будзько, А.А.Разлуцкая.*

**ЁЛЬСКІ** Аляксандр Карлавіч (16.6.1834, в. Дудзічы Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. — 10.9. 1916), беларускі краязнавец, гісторык, літаратар, этнограф, публіцыст. Скончыў Мінскую гімназію (1852). Чл. Акадэміі ведаў у Кракаве (1892). Даследаваў гісторыю, этнаграфію, фальклор, мову і літаратуру Беларусі. У «Геаграфічным слоўніку Каралеўства Польскага і іншых славянскіх краін» апісаў мясцовасці амаль усіх бел. паветаў, дзе называў мясц. гарадзішчы, курганы, замчышчы, земляныя валы. У сваім маёнтку Замосце (Ігуменскі пав.) арганізаваў у 1864 прыватны краязнаўчы музей, у фондах якога было каля 7 тыс. кніг, 20 тыс. рукапісаў, больш за 1 тыс. гравюр, калекцыя жывапісных палотнаў, зборы манет, медалёў, прадметаў археал. знаходак (большасць экспанатаў загінула, некаторыя трапілі ў музей і архівы Вільнюса, Мінска і Польшчы).

*Літ.*: М а л ь д з і с А.І. Падарожжа ў XIX стагоддзе: з гісторыі бел. літ., мастацтва і культуры: навук.-папул. нарысы. Мінск, 1969; М а р х е л ь У.І. Крыніцы памяці: старонкі бел.-пол. літ. сумежжа. Мінск, 1990.

**«ЕПАРХИА́ЛЬНЫЕ ВЕ́ДОМОСТИ»**, назва часопісаў, афіцыйных органаў епархій. Выдаваліся ў Расіі ў 2-й пал. 19 ст. — 1917. Мелі 2 часткі: афіцыйную, дзе друкаваліся ўрадавыя пастановы, указы і распараджэнні сінода, царкоўная хроніка, і неафіцыйную, дзе змяшчаліся матэрыялы па археалогіі, этнаграфіі, краязнаўстве, літаратуры, бібліяграфіі, гісторыі царквы. У бел. епархіях выдаваліся «Гродненские епархиальные ведомости» (1901—15, Гродна), «Литовские епархиальные ведомости» (1863—1916, Вільня, Масква), «Минские епархиальные ведомости» (1869—1917, Мінск, у 1915 — Разань), «Могилёвские епархиальные ведомости» (1883—1917, Магілёў), «Полоцкие епархиальные ведомости» (1874—1917, Віцебск). Сярод публікацый у «Л и т о в с к и х е п а р х и а л ь н ы х в е д о м о с т я х»: справаздача пра даследаванні М.Авенарыуса на Замкавай гары ў Драгічыне-Надбужскім (1896. № 50), падрабязнае апісанне курганоў, гарадзішчаў, Барысавых камянёў у Дзісенскім і Віленскім пав. (1896. № 30). У «П о л о ц к и х е п а р х и а л ь н ы х в е д о м о с т я х» змешчаны артыкулы Дз.Даўгялы і М.Нікіфароўскага аб прадметах старажытнасці, якія захоўваліся ў Віцебскім епархіяльным царкоўна-археал. сховішчы (1897. № 23—24; 1898. № 1, 10—12, 15—16; 1899. № 22), матэрыялы Е.Раманава, А.Сапунова і К.Гаворскага пра адкрыццё *Віцебскага царкоўна-археалагічнага музея* (1893. № 9). У «М о -

гілёвских епархиальных ведомостях» змешчаны праца Е.Раманава пра археал. помнікі Магілёўскай губ. (1892. № 8), паведамленне пра адкрыццё Магілёўскага царкоўна-археал. музея (1904. № 30). У дадатку да «Минских епархиальных ведомостей» (вып. 1—9, 1878 і 1879) апублікаваны сістэматызаваныя па паветах звесткі, якія сталі першай археал. картай помнікаў Мінскай губ., аб гарадзішчах, курганных і бескурганных могільніках, каменных крыжах з надпісамі, сярэдневяковых крэпасцях, культавых і інш. пабудовах, падрабязная інфармацыя пра стварэнне Мінскага царкоўнага гісторыка-археал. к-та і музея пры ім (1908. № 4, 6—7), надрукаваны статут к-та (1908. № 3).



**ЖАЛÉЗА** (лац. ferrum), хімічны элемент, метал. Метэарытнае Ж., з высокім утрыманнем нікеля, сустракаецца рэдка. У старажытнасці высока цанілася з-за магічных уласцівасцей, якія прыпісваліся яму ў сувязі з нябесным паходжаннем. Тэхніка плаўлення Ж. цяжэй, чым апрацоўка медзі або волава, паколькі першая плаўка дае толькі шлакаваную балванку *(крыцу)*. Распаленую да чырвонага крыцу падвяргалі каванню для абагачэння вугляродам, у выніку атрымлівалі сталь. Чыстае Ж. вельмі мяккае для функцыянальнага выкарыстоўвання. Пасля таго як тэхналогія была асвоена, яна хутка выцесніла металургію медзі, таму што жал. руды сустракаюцца часцей, чым медныя або алавяныя, а ўласцівасці металу значна вышэй. Асн. метадамі апрацоўкі Ж. з'яўляюцца коўка (прыданне распаленай балванцы формы ўдарамі молата) і ліццё.

Тэхналогія атрымання Ж. была асвоена пасля 1500 да н.э. хетамі. Адзінкавыя жал. рэчы ў Еўропе датуюцца к. 2-га тыс. да н.э., але вытворчасць Ж. ўпершыню атрымлівае развіццё ў Грэцыі і на Эгейскіх астравах каля 1000 да н.э. У паўд. Італію паняцце аб чорнай металургіі было прынесена грэч. каланістам каля 800 да н.э. Ва ўмеранай зоне Еўропы, Усх. Альпах і прылеглых абласцях яно з'явілася каля 640 да н.э. Але яшчэ параўнальна доўга Ж. мела абмежаванае значэнне ў эканоміцы еўрап. плямён, і яшчэ за 500 да н.э. жал. рэчы заставаліся рэдкімі.

Найб. значэнне ў распаўсюджванні паняцце аб чорнай металургіі сыгралі кельты, але і яны не зрабілі выкарыстанне Ж. ўсеагульным. Саперніцтва бронзы з Ж. у Скандынавіі захоўваецца да мяжы н.э., на Брытанскіх астравах — нават да 5 ст. Рымскі гісторык Тацыт у свой час адзначаў, што Ж. было рэдкім металам у стараж. германцаў, а візантыйскі Феафілакт Сімаката згадваў у працах пра выкарыстанне Ж. стараж. славянамі. На Пд Беларусі вытворчасць Ж. з балотнай руды была асвоена ў сяр. 1-га тыс. да н.э. насельніцтвам *мілаградскай культуры*, з пач. 1-га тыс. н.э. — у насельніцтва днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур. Шырокае распаўсюджанне высакаякасных жал. вырабаў звязана з развіццём рамеснай вытворчасці ў стараж.-рус. час 11—13 ст.

**ЖАЛÉЗНЫ ВЕК**, апошняя (пасля каменнага і бронзавага вякоў) археалагічная эпоха ў гісторыі чалавецтва, якая характарызуецца з'яўленнем і шырокім распаўсюджваннем металургіі жалеза і вырабаў з яго прылад працы і зброі. Самая кароткая археал. эпоха: ад 9—7 ст. да н.э. да ўзнікнення ў розных плямён ранняkласавых утварэнняў.У Еўропе Ж.в. падраздзяляецца на 3 перыяды: гальштацкі (900—400 да н.э.), латэнскі (400 да н.э. — 15 н.э.), рымскі (15—350), які змяняе эпоха «вялікага перасялення народаў» (350—450), што завяршылася стварэннем першых дзярж. аб'яднанняў ранняга сярэдневякоўя.

Найб. раннія вырабы з метэарытнага жалеза (упрыгажэнні) знойдзены ў Егіпце ў пахаваннях, якія датуюцца 4-м тыс. да н.э. Шырокае распаўсюджанне жал. рэчаў пачалося ў к. 2-га тыс. да н.э. пасля адкрыцця ў 15 ст. да н.э. хетамі або падпарадкаванымі ім плямёнамі сырадутнага працэсу. У спец. печах-домніцах пры тэмпературы 1100—1350 °С з жал. руды аднаўлялася жалеза, зерні якога спякаліся, утвараючы на дне печы порысты цестападобны кавалак (*крыцу*). Пасля завяршэння працэсу печ ламалі, даставалі крыцу і некалькі разоў пракоўвалі яе для ўшчыльнення масы. Услед за хетамі металургіяй жалеза пачалі займацца плямёны, што жылі на тэр. Палесціны, Сірыі, Індыі, Егіпта. У Зах. Еўропе вытворчасць жалеза пачалася каля 1-га тыс. да н.э. ў Грэцыі і на Эгейскіх астравах. Далей на Пн яна пашырылася не раней 8—7 ст. да н.э. З'яўленне і шырокае выкарыстанне жал. прылад працы спрыяла рэзкаму росту прадукцыйных сіл, павелічэнню прыбавачнага прадукту, эксплуатацыі чалавека чалавекам. Гэта прывяло да распаду патрыярхальна-радавых адносін, фарміравання класавага грамадства і дзяржавы.

На тэр. б. СССР першыя жал. вырабы адзначаны ў Закаўказзі (Самтаўрскі могільнік) і на Пд еўрап. часткі (зрубавая культура), якія датуюцца к. 2-га тыс. да н.э. Шырокае паскарэнне металургіі пачынаецца з 2-й чв. 1-га тыс. да н.э. і звязана

са *скіфамі*, ад якіх плямёны, што жылі на Пд Беларусі, навучыліся атрымліваць жалеза.

На тэр. Беларусі Ж.в. пачаўся ў к. 7—6 ст. да н.э. і працягваўся да 5 ст. н.э. Жалеза тут выплаўлялі з балотнай руды ў невял. паўшарападобных печах-домніцах, якія знойдзены пры раскопках гарадзішчаў *Лабеншчына*, *Канькі*, Свідна (Лагойскі р-н) і інш. У жалезаробных майстэрнях жалеза здабывалі і выраблялі з яго рэчы і зброю. Найб. раннія знаходкі вырабаў з жалеза адносяцца да *мілаградскай культуры*, арэал якой уключаў б. частку Палесся, Сярэдняе і Верхняе Падняпроўе, а таксама да плямён *падклошавых пахаванняў*, што насялялі цэнтр. раёны сучаснай Польшчы, басейны Зах. Буга і верхняй Прыпяці. На тэр. цэнтр. і паўн. Беларусі жал. вырабы паявіліся ў сяр. 1-га тыс. да н.э. і належалі плямёнам *днепра-дзвінскай культуры*, што насялялі паўн. Беларусь, Смаленскую і Пскоўскую вобласці Расіі. Росквіт чорнай металургіі і шырокае ўкараненне жал. прылад працы ў плямён днепра-дзвінскай культуры і культуры позняй штрыхаванай керамікі, якія займалі тэр. цэнтр. і паўн.-зах. Беларусі і ўсх. Літвы, адносяцца да к. 1-га тыс. да н.э. — першых стагоддзяў н.э. У 3—2 ст. да н.э. — 2—5 ст. н.э. на тэр. пашырэння мілаградскай культуры і ва ўсх. частцы арэала культуры падклошавых пахаванняў рассяляліся плямёны *зарубінецкай культуры*. Этнічныя характарыстыкі плямён эпохі ранняга Ж.в. дакладна не вызначаны. Носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай можна аднесці да *балтаў*. Этнічная прыналежнасць мілаградскіх, падклошавых і зарубінецкіх плямён з'яўляецца дыскусійнай. Адны даследчыкі лічаць іх ранні мі славянамі, другія — балтамі. У к. 2 ст. на тэр. бел. Падняпроўя і прылеглых да яго раёнаў паявіліся помнікі кіеўскай культуры, верхняя храналагічная мяжа якіх — сяр. 5 ст. Лічыцца, што асн. кампанентам пры фарміраванні новай культуры быў зарубінецкі субстрат. У зах. Палессі Ж.в. завершаны старажытнасцямі *вельбарскай культуры* (2—4 ст.), найб. яркімі помнікамі якой у Беларусі з'яўляюцца могільнік Брэст—Трышын і *Пятровічы*. На думку сучасных даследчыкаў, гэтая культура належыць вядомым па пісьмовых крыніцах германскім плямёнам *готаў*.

Археал. дадзеныя сведчаць, што плямёны Ж.в. на тэр. Беларусі знаходзіліся на стадыі развітога патрыярхату. Асн. адзінкай грамадства была вял. патрыярхальная сям'я, якая аб'ядноўвала 3—4 пакаленні бліжэйшых суродзічаў. Некалькі сем'яў стваралі род, які валодаў пэўнай тэр. з паселішчамі, участкамі зямлі, якую апрацоўвалі, і пашай для жывёлы. Разлажэнне першабытнаабшчынных адносін, сутыкненні паміж плямёнамі адбіліся на характары паселішчаў гэтага перыяду. Для вял. патрыярхальнай сям'і ўзводзілася *гарадзішча*, якое мела абарончую сістэму валоў і равоў. На Пд Беларусі жыццё на гарадзішчах, размешчаных у цяжкадаступных месцах, працягвалася да першых стагоддзяў н.э., на Пн — амаль да сяр. 1-га тыс. У далейшым асн. формай паселішчаў стала неўмацаванае *селішча*. У эпоху Ж.в. больш інтэнсіўным становіцца міжплямянны абмен. У 7—3 ст. да н.э. пераважалі сувязі з скіфскім мірам. Практычна ўсе прылады працы і большая частка зброі, а таксама ўпрыгажэнні (шпількі з цвікападобным і посахападобным навершам, завушніцы з грыбападобнай шляпкай) у мілаградскай культуры знаходзяць аналаг сярод скіфскіх старажытнасцей. У днепра-дзвінскай культуры найбольш раннія жал. сякеры таксама падобныя да скіфскіх. Пасля разгрому скіфаў сарматамі адбываецца пераарыентацыя ў гандл. сувязях. На першы план выходзяць кантакты з латэнізаванымі культурамі Цэнтр. Еўропы. Да іх ліку адносіцца і зарубінецкая культура, у арэал якой уваходзіла большая частка Паўд. Беларусі. У ёй шырокае распаўсюджанне атрымалі фібулы сярэдне- і позналатэнскай схемы, бранзалеты і глянцаваная кераміка, якая мела вытокі ў кельцкіх плямён. У першых стагоддзях н.э. плямёны тэр. Беларусі ўстанавілі кантакты з носьбітамі правінцыяльнарымскіх культур Пд і З (чарняхоўскай, пшэворскай, вельбарскай) і заходнябалцкіх курганоў. Сярод імпартных вырабаў у бел. арэале адзначаны фібулы, дэталі паяснога набору (спражкі, наканечнікі пояса), пацеркі, адзінкавыя рымскія манеты, скарбы.

*Літ.*: Кухаренко Ю.В. Зарубинецкая культура // САИ. 1964. Вып. Д1—19; Яго ж. Могильник Брест—Тришин. М., 1980; Мельниковская О.Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке. М., 1967; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1. Минск, 1970; Поболь Л.Д. Славянские древности Белоруссии: (ранний этап зарубинецкой культуры). Минск, 1971; Яго ж. Славянские древности Белоруссии: (могильники раннего этапа зарубинецкой культуры). Минск, 1973; Яго ж. Славянские древности Белоруссии: (свод археол. памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н.э. по начало II в. н.э.). Минск, 1974; Монгайт А.Л. Археология Западной Европы: бронзовый и железный века. М., 1974; Граков Б.Н. Ранний железный век: (культуры Западной и Юго-Восточной Европы). М., 1977; Загорульский Э.М. Древняя история Белоруссии: очерки этнич. истории и материальной культуры (до IX в.). Минск, 1977; Белорусская археология: достижения археологов за годы Сов. власти. Минск, 1987; Митрофанов А.Г. Железный век Средней Белоруссии (VII—VI вв. до н.э. — VIII в. н.э.). Минск, 1978; Седов В.В. Восточные славяне в VI—XIII вв. М., 1982; Шадыро В.И. Ранний железный век северной Белоруссии. Минск, 1985; Егорейченко А.А. Культуры штрихованной керамики. Минск, 2006.

*А.А.Егарэйчанка.*

**ЖА́ЛЬНІКІ**, магілы 13—18 ст., абазначаныя абкладкай круглаватай, авальнай ці чатырохвугольнай формы з камянёў, 1—2 валунамі ў галавах і ў нагах, каменнымі крыжамі або пакрытыя валунамі. Сярод мясц. насельніцтва вядомы як Паганскія могілкі, Халернік, Могліцы, Галодны могільнік. На камянях і каменных крыжах часта высечаны знакі (простыя крыжыкі, крыжыкі на розных падстаўках ці пакрытыя дугой, краты,

стрэлачкі, свастыкі і інш.). Пахаванні звычайна без інвентару, размешчаны шчыльна, галавой на З. У некаторых месцах (Бягомльшчына, Глыбоччына) традыцыя ставіць валуны ў галавах і ў нагах і абкладаць магілы камянямі захавалася да нашых дзён. Ж. распаўсюджаны ў асн. на Пн Беларусі, Пскоўшчыне, ва Усх. Латвіі. Ж. з каменнымі крыжамі ёсць каля вёсак Бабруйшчына і Перавоз Глыбоцкага, Слабада Докшыцкага, Новае Сяло Сенненскага р-наў. *Л.У.Дучыц.*

**ЖАРСТВА́**, адзін з відаў спецыяльных штучных дамешак, які выкарыстоўваўся ў стараж. ганчарстве. Прысутнасць Ж. ў складзе чарапкоў неалітычнага посуду сустракаецца на тэр. Беларусі з 3-га тыс. да н.э. Ж. — найб. падыходзячая спец. дамешка для пластычных азёрна-алювіяльных глін пераважна гідраслюдзістага мінеральнага складу. Такія легкаплаўкія гліны былі запатрабаваны ў стараж. ганчарстве з прычыны шырокага распаўсюджання абпалу посуду ў вогнішчах, для якога характэрны невысокія тэмпературы. Ва ўмовах ручной фармоўкі посуду Ж. выконвала ролю «жорсткага» каркасу, які дазваляў лепш захоўваць форму пасудзін пры сушцы і абпале. У 4—3-м тыс. да н.э. Ж. становіцца вядучай штучнай дамешкай у ганчарстве плямён жал. веку лясной паласы Усх. Еўропы. У якасці сыравіны для атрымання Ж., як правіла, выкарыстоўвалі звычайны біятытавы граніт, які лёгка можна здрабніць, што вельмі важна для стараж. тэхналогій. Радзей выкарыстоўваліся інш. гранітныя пароды, а таксама пясчанікі. У залежнасці ад пластычнасці гліністай пароды і прысутнасці ў фармовачнай масе інш. спец. дамешак на долю Ж. прыходзілася ад 5 да 15%. Яе здрабнялі да рознай памернасці. Часам некаторыя зярняты Ж. дасягалі 6—7 мм. Для глянцаванага і танкасценнага посуду прымянялі толькі дробную Ж., не буйней за 1,5—2 мм.

*Літ.*: Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1. Минск, 1970; Милюченков С.А. Белорусское народное гончарство. Минск, 1984. *Н.М.Дубіцкая.*

**ЖО́РНЫ**, прылада працы для ручнога памолу зерня. Складаліся з 2 каменных дыскаў дыям. 35—50 см, таўшч. 4—10 см, са скразной адтулінай у цэнтры верхняга каменя, куды засыпалася зерне. Каб мука лепш сыпалася, паверхню ніжняга каменя рабілі трохі выпуклай, а верхняга — увагнутай. Ніжні дыск меў адтуліну або паглыбленне для металічнага шпяня, ляжаў нерухома на стале або на спец. прыстасаванні. Верхні камень падвешваўся пры дапамозе металічнай або драўлянай порхліцы і прыводзіўся ў вярчальны рух штокам-палкай, ніжні канец якой замацоўваўся ў спец. адтуліне на верхнім камені. Верхні канец штока-палкі часам замацоўвалі ў столі або ў брусе гасп. пабудовы, дзе стаялі Ж. На Ж. атрымлівалі муку featurerознага памолу. Дыскі або паставы для Ж. рабілі з граніту, буйназярністага пясчаніку, вапняку, ракушачніку, сланцу і інш. У лясной паласе Усх. Еўропы Ж. паявіліся ў 8—9 ст., у пач. 2-га тыс. яны пашырыліся не толькі ў сельскай мясцовасці, але і ў горадзе, дзе разам з рамёствамі развівалася земляробства. Пры раскопках сельскіх паселішчаў і гарадоў найчасцей знаходзяць асобныя дэталі Ж. (паставы, металічныя і драўляныя порхліцы і інш.), драўляныя дэталі Ж. трапляюцца толькі на тых помніках, дзе захавалася дрэва (Брэст, Мінск). Каменныя паставы знойдзены ў Ваўкавыску (21), Мінску (19), Лукомлі (17), Навагрудку (10), Тураве (6), Брэсце (8). Пры археал. раскопках выяўлена 5 поўных камплектаў Ж. (Мінск, Навагрудак, Маскаўцы — 12 ст.; Брэст, Рацюнкі — 13 ст.). Майстэрняў па вырабе Ж. на тэр. Беларусі не выяўлена, але можна сцвярджаць, што яны выраблялісяя мясц. майстрамі — жарнасекамі. Вядомы таксама сланцавы пастаў з Турава [прывезены з г. Оўруч (Украіна), дзе размешчаны радовішчы сланцу]. Ж. выкарыстоўваліся да сяр. 20 ст.

*Літ.*: Довженок В.Й. Землеробство древньої Русі. До середини XIII ст. Київ, 1961; Минасян Р.С. Классификация ручного жернового постава: (по материалам Восточной Европы I тыс. н.э.) // СА. 1978. № 3; Коробушкина Т.Н. Земледелие на территории Белоруссии в X—XIII вв. Минск, 1979.

*Л.У.Калядзінскі, Т.М.Каробушкіна.*



***Жорны** 11—13 ст.*

**ЖУЖЛЯ́НКА**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і селішчы каля в. Смык Асіповіцкага р-на Магілёўскай вобл., у сутоках рэк Жужлянка і Свіслач.

Гарадзішча за 2 км на ПнЗ ад вёскі, на мысе, утвораным р. Свіслач і яе прытокам Жужлянкай. Пляцоўка трохвугольнай формы, памеры 100 ×130 м. З боку поля ўмацавана 2 валамі (выш. ўнутранага 4 м, вонкавага — 2 м) і 2 равамі. Абследаваў у 1925 А.Немцаў, даследавалі ў 1926 С.С.Шутаў і М.М.Улашчык, у 1958—63 Л.Д.Побаль, Э.М.Загарульскі і Ю.І.Драгун (ускрыў культ. пласт пл. 140 м$^2$). У ніжнім гарызонце знойдзены рэшткі ляпнога посуду культуры

штрыхаванай керамікі ранняга жал. веку (3—4 ст.), у сярэднім — рэшткі керамікі культуры тыпу *Карчак* (6—7 ст.), верхні пласт належаў да эпохі Кіеўскай Русі (10—11 ст.).

С е л і ш ч а-1 за 2 км на ПнЗ ад вёскі, на левым беразе р. Жужлянка, на Пд ад гарадзішча. Пл. каля 1 га. Абследавалі ў 1926 С.С.Шутаў і М.М.Улашчык, даследавалі ў 1958—63 Э.М.Загарульскі, Л.Д.Побаль, Ю.І.Драгун. Сабрана ганчарная кераміка 10—11 ст. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.

С е л і ш ч а-2 на У ад гарадзішча, за валам. Адкрылі ў 1926 С.С.Шутаў і М.М.Улашчык, даследаваў у 1963—64 Ю.І.Драгун. Культ. пласт 0,4—0,8 м прасочаны на пл. каля 1,5 га у паўн. частцы. У 2 раскопах агульнай пл. 244 м² выяўлены 2 гарызонты. У ніжнім знойдзены гліняныя прасліцы і фр-ты раннеслав. гаршкоў культуры тыпу Карчак, у верхнім — шкляныя пацеркі, бісер, ганчарная кераміка эпохі Кіеўскай Русі.

*Літ.*: Ш у т а ў С.С., У л а ш ч ы к М.М. Археалагічныя разведкі на ніжняй Свіслачы ўлетку 1926 г. // Працы. Т. 2; Н е м ц а ў А. Помнікі старасветчыны ў Асіповіцкім раёне // Асіповіцкі раён Бабруйскай акругі. Мінск, 1928. Вып. 2; Д р а г у н Ю.И. Раннеславянское поселение в нижнем течении р. Свислочь // Белорусские древности. Минск, 1967.

**ЖУ́КАВА**, археалагічны помнік — гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры* каля в. Жукава Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл. За 0,5 км на ПнЗ ад вёскі, на гары. Пляцоўка авальная, памер 70 × 45 м, умацавана валам і ровам. Вядома з к. 19 ст. У 1951 абследаваў Л.В.Аляксееў, у 1955 В.Н.Кузняцоў даследаваў 150 м². Культ. пласт месцамі больш за 1 м. Знойдзены фр-т жал. сярпа, посахападобная шпілька, шпора з кручкамі, бранзалет, касцяная праколка, 2 фр-ты гліняных праслiц. Керамічны посуд прадстаўлены фр-тамі ляпных гаршкоў слабапрафіляванай і слоікападобнай формы, у т.л. са штрыхаванай паверхняй (53%) і з зашчыпамі па краі венчыка. Комплекс знаходак датуецца пач. — 1-й чв. 1-га тыс. н.э.

*Літ.*: А л е к с е е в Л.В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины: (материалы к археол. карте Витебской обл. БССР) // Труды Прибалтийской экспедиции. М., 1959. Т. 1; К о л о с о в с к и й Ю.В., Ш а р к о в с к а я Н.Ю. Керамический и вещевой комплексы городища Жуково-2: (по материалам раскопок В.Н.Кузнецова в 1955 г.) // МАБ. 2003. № 8.

*Ю.У.Каласоўскі.*

**ЖУКАВЕ́Ц**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Жукавец Бярэзінскага р-на Мінскай вобл. За 2 км на ПдУ ад вёскі, на левым беразе р. Бярэзіна. У 1931 А.М.Ляўданскі даследаваў 3 насыпы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў грунтавых ямах галавой на З. Касцякі абкладзены плашкамі і дошкамі. Выяўлены рэшткі жаночага галаўнога ўбору: венчыкі з тонкай тканінай і бронзавымі залачонымі бляшкамі. Паводле абраду пахавання курганы блізкія да абкладзеных камянямі магіл 13—14 ст. Пуцілкавічы і Хаўхоліца.

**ЖУРАВЕ́ЛЬ**, археалагічныя помнікі — стаянка і курганны могільнік каля в. Журавель Чэрыкаўскага р-на Магілёўскай вобл.

С т а я н к а *грэнскай культуры* фінальнага палеаліту за 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Сож, ва ўр. Мел. Выявіў у 1928 і даследаваў 12 м² у 1934 К.М.Палікарповіч, у 1972—73 В.Ф.Капыцін даследаваў 130 м². Культ. пласт 0,5—0,6 м. Выяўлены конусападобнае ў сячэнні агнішча памерам 0,3 × 0,4 м і майстэрня па першаснай апрацоўцы крэменю. Знойдзена 6247 артэфактаў, у т.л. 293 прылады працы: тронкавыя наканечнікі стрэл, рэтушныя і двухгранныя разцы, канцавыя, паўкруглыя і двайныя скрабкі, вастрыі, праколкі, пласціны-ўкладышы, сякеркі з перахватам, вырабы з выемкамі, пласціны з апрацаваным рэтушшу краем і інш.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к за 2,5 км на ПдЗ ад вёскі, 1 км на ПдЗ ад стаянкі, на правым беразе р. Сож, паміж урочышчамі Мел і Чорны Бераг. 43 насыпы выш. 1—3 м, дыям. 6—8 м. Вядомы з 1873, абследавала ў 1977 А.Г.Калечыц.

*Літ.*: П о л и к а р п о в и ч К.М. Стоянки среднего Посожья // МАБ. 1957. Т. 1; К о п ы т и н В.Ф. Мезолит Юго-Восточной Белоруссии // КСИА. 1977. Вып. 149; Я г о ж. Поздний мезолит Посожья // Изыскания по мезолиту и неолиту СССР. Ленинград, 1983; Я г о ж. К характеристике мезолита Верхнего Поднепровья (по материалам стоянки Журавель) // Палеолит и неолит. Ленинград, 1986; Я г о ж. Археологические памятники Чериковского района Могилевской облас-




*Ляпны посуд (1—3), шкляныя пацеркі (4), фібула (5), наканечнік дзіды (6), нажы (7—8) з селішча-2* ***Жужлянка.***

ти. Могилев, 1994; Я г о ж. Свод памятников археологии чернобыльской зоны Могилевской области. Могилев, 1998.

*А.У.Коласаў.*

**ЖЫВЁЛАГАДО́ЎЛЯ** а р х а і ч н а я, працэс развядзення жывёлы чалавекам у стараж. часы для задавальнення сваіх патрэб; наступны этап пасля прыручэння і даместыкацыі. У археалогіі крыніцамі для вывучэння дапісьменнай гісторы Ж. з'яўляюцца касцявыя рэшткі жывёл, прадметы матэрыяльнай культуры і сляды пабудоў, якія звязаны з утрыманнем жывёл, прылады для нарыхтоўкі кармоў; скульптуры і інш. выявы аб'ектаў Ж., адпаведныя сюжэты на маст. вырабах і г.д. Касцявыя рэшткі дазваляюць рабіць больш абгрунтаваныя і доказныя высновы, чым рэчавы матэрыял. Цяпер лічыцца даказаным існаванне



*Наканечнікі стрэл (1—7), праколкі (8—9), пласціны са скошаным рэтушшу канцом (10—13), скрабкі (14—16), разцы (17—22), сякучыя прылады (23—24) са стаянкі **Журавель**.*

цэнтраў узнікнення Ж. ў Пярэдняй Азіі, Усх. Гімалаях, Андах і, магчыма, на ПдУ Афрыкі. Самыя раннія звесткі аб даместыкацыі дзікага быка адзначаны ў Пярэдняй Азіі. Паводле археал. звестак там жа з 7-га тыс. да н.э. прыручаны дробны рагаты скот — козы і авечкі (ранненеалітычны комплекс Тэпе Гуран), наяўнасць хатніх кароў у дакерамічным неаліце адзначана на паселішчы Хаджылар (Цэнтр. Турцыя), хатніх свіней — на неалітычным паселішчы Джармо. Існуюць археал. звесткі аб узнікненні Ж. на Балканах і в-аве Крыт у 8—6-м тыс. да н.э. У 6-м тыс. да н.э. вытворчая гаспадарка распаўсюдзілася носьбітамі культур каранова І (Балгарыя), крыш (Румынія), кёраш (Венгрыя), у 7-м — пач. 5-га тыс. да н.э. — плямёнамі культуры керамікі імпрэса ўздоўж паўн. узбярэжжаў Адрыятычнага і Міжземнага мораў. У 6-м — пач. 5-га тыс. да н.э. плямёнамі лінейна-стужкавай керамікі Ж. прасунулася ў Цэнтр. Еўропу. Раннія этапы развіцця Ж. на Пд Усх. Еўропы вядомы па матэрыялах помнікаў буга-дністроўскай (2-я пал. 7-га — 1-я пал. 5-га тыс. да н.э.) і днепра-данецкай (на тэр. Беларусі датуюцца 4—3-м тыс. да н.э.) культур. Шырокае і хуткае распаўсюджванне Ж. на Пн (да раёнаў Усх. Прыбалтыкі) звязана пазней з колам культур шнуравой керамікі. Але ў жыццезабеспячэнні чалавека да ранняга жал. веку дамінавалі паляванне, рыбалоўства і збіральніцтва. Прычым лічыцца, што роля палявання ў мясным харчаванні была галоўнай і ў сярэдневякоўі, што асабліва яскрава бачна на матэрыялах даследавання стараж. замкаў. У Беларусі самыя раннія звесткі аб Ж. па знаходках касцявых рэшткаў хатніх жывёл зафіксаваны ў культ. пластах паселішчаў прыпяцка-нёманскай (*Старыя Войкавічы* Баранавіцкага р-на — авечка, конь, пазней свіння), нёманскай (*Камень* Пінскага р-на — бык хатні, свіння, конь) культур. В.В.Шчаглова выказала думку аб магчымай даместыкацыі тура ў Падзвінні ў неаліце. У гэты час Ж. хутка пашыралася ў плямён, што жылі на Пд Беларусі — у басейнах рэк Прыпяць і Сож. На ўсіх помніках неаліту знойдзены косці хатніх жывёл старога ўзросту, што сведчыць аб валоданні насельніцтва навыкамі зімовага ўтрымання і нарыхтоўкі кармоў. У крамянёвым інвентары стаянкі Старыя Войкавічы трасолаг Г.М. Паплеўка (Санкт-Пецярбург) вызначыла значную серыю пласцін, якія маглі служыць лёзамі доўгіх укладышавых прылад кшталту кос. Косці хатніх жывёл служылі сыравінай для вырабу побытавых рэчаў; у Падзвінні і на Палессі з зубоў свіней, коней і кароў рабілі падвескі-амулеты. Ва ўсіх рэгіёнах знойдзены рэшткі сабак; высветлена, што насельніцтва Падзвіння з неаліту мела сабак, падобных да лаек. Значную ролю ў гаспадарцы Ж. набыла і адцясніла паляванне ў сістэме гасп. заняткаў толькі на мяжы бронзавага і ранняга жал. вякоў. У гэты час найб. пашырана была буйная рагатая жывёла, свінні і коні, а ў паўн.-зах. і паўн. рэгіёнах — свінні і авечкі; козы часцей сустракаюцца на помніках Пд і У Беларусі. У сярэдневякоўі Ж. склала аснову гаспадаркі. Гал. месца займала развядзенне буйной рагатай жывёлы мясц. парод. Конегадоўля найб. развівалася на ПнУ. На ПдЗ і ў цэнтр. частцы Беларусі асн. цяглавай сілай былі валы. Усюды гадавалі свіней і авечак, развядзенне коз было больш характэрна для гар. гаспадарак. На працягу ўсяго сярэдневякоўя структура і характар Ж. амаль не змяняліся, яно мела пераважна мясны і мясамалочны кірункі.

*Літ.*: Исаенко В.Ф. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976; Шнирельман В.А. Происхождение скотоводства. М., 1980; Щеглова В.В. Роль охоты в снабжении мясом населения на территории Беларуси в X—XIV вв. // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі. Мінск, 1993; Bökönyi Ch. History of domestic mammals in Central and Eastern Europe. Budapest, 1974.

*Н.П.Александровіч, А.А.Разлуцкая.*

**ЖЫ́ЛІЧЫ**, археалагічныя помнікі — стаянкі і паселішчы каля в. Жылічы Гродзенскага р-на.

У 1930-я г. выяўлены 3 стаянкі. Сабраныя на іх Ірэнай і Людвігам Савіцкімі, Ф.Кацінскім у 1935 і 1937 шматлікія крамянёвыя знаходкі захоўваюцца ў Дзярж. археал. музеі ў Варшаве. У 2003 у час абследавання зоны будаўніцтва Гродзенскай ГЭС на ніжніх узроўнях тэрасы было выяўлена яшчэ 5 шматкульт. помнікаў.

Паселішча-1 за 0,9—1 км на Пн ад вёскі, на выступе ніжняй надпоймавай левабярэжнай тэрасы р. Нёман, з абодвух бакоў разрэзанай ярамі. Пл. 300 × 70 м. У 2003 даследаваны 641 $м^2$ (11 шурфаў і 4 раскопы па ўсім перыметры помніка). Культ. пласт 0,1—1 м. Зафіксавана некалькі аб'ектаў, западзіны і паглыбленні ў мацерыку. Знойдзена каля 10 тыс. артэфактаў: крамянёвыя і каменныя вырабы, фр-ты керамікі. Частка крамянёвых знаходак мае аналогіі з матэрыяламі з крэменездабыўных шахтаў каля в. Рыбнікі на Бела-



*Крамянёвыя нуклеус і сякера з паселішчаў-2А і 5 **Жылічы**.*

сточчыне (Польшча), якія датуюцца сярэднім і познім бронзавым векам. Вылучаецца некалькі этапаў у засяленні помніка: фінальны палеаліт (*свідэрская культура*), ранні мезаліт (*кунда культура*), позні мезаліт (*яніславіцкая культура*), неаліт (*нёманская культура*), позні неаліт (*шарападобных амфар культура* і кола культуры шнуравой керамікі), бронзавы век (*тшцінецкая культура*).

У 2008 В.Л.Лакіза лакалізаваў і даследаваў яшчэ 2 пункты: паселішча-1А пл. 24 м$^2$ (верагодна, частка Жылічы-3) і паселішча-2А пл. 102 м$^2$ (верагодна, частка Жылічы-2), а таксама правёў розныя па маштабе раскопкі на паселішчы-2 (41 м$^2$), паселішчы-3 (36 м$^2$), паселішчы-4 (64 м$^2$), паселішчы-5 (112 м$^2$).

П а с е л і ш ч а - 1 А за 0,7—0,9 км на Пн ад вёскі, 0,1 км на Пд і ПдЗ ад паселішча-1, на краі верхняй левабярэжнай тэрасы р. Нёман. На паверхні знойдзены крамянёвыя артэфакты. Даследавана 24 м$^2$. Культ. пласт 0,35—0,45 м. Знойдзена 87 артэфактаў, у т.л. 85 крамянёвых знаходак са светла-шэрага, цёмна-шэрага балтыйскага крэменю (абломкі, адшчэпы, пласціны, 5 вырабаў з другаснай апрацоўкай) і 2 дробныя фр-ты ганчарных сценак без арнаментацыі. Датуецца фінальным палеалітам (*валкушанская культура* і *свідэрская культура*).

П а с е л і ш ч а - 2 за 0,5 км на Пн ад в. Жылічы, 0,2 км на Пд ад вусця яра пры верхнім краі паселішча-1, на выступе ніжняй тэрасы. Пл. 40—50 × 20—30 м, выш. 6—7 м. У 2003, 2008 даследаваны 41 м$^2$ (2 раскопы і шурфы). Выяўлена крэменеапрацоўчая майстэрня мезалітычнага часу. Знойдзена 1319 артэфактаў, у т.л. 98 фр-таў керамікі познанеалітычнага і раннябронзавага часу. Сярод крамянёвых знаходак пераважаюць прадукты першаснага расшчаплення: абломкі, луска, адшчэпы, пласціны, абпаленыя фр-ты крэменю, а таксама скрабкі і скрэблападобныя прылады (9 адз.), разцы (6), наканечнікі стрэл (лістападобны чаранковы і трохвугольны з увагнутай падставай), вастрыі і рэтушаваныя мікрапласціны (2), наканечнік дзіды, трапецыя, нож, скоблі, праколкі (2), рубячая прылада, нуклеусы (19) і іх фр-ты. Знойдзены фр-ты жал. нажа і кругавой керамікі. Помнік засяляўся неаднаразова на працягу мезаліту (культуры кунда, каморніцкая і яніславіцкая), неаліту (кола культуры шнуравой керамікі) і ў сярэдневякоўі.

П а с е л і ш ч а - 2 А за 0,4—0,5 км на Пн ад вёскі, 0,5—0,1 км на Пд ад паселішча-2, на краі верхняй левабярэжнай тэрасы р. Нёман. На паверхні сустракаецца вял. колькасць крамянёвых вырабаў (звыш 200) і фр-таў керамікі. Даследавана 102 м$^2$. Культ. пласт 0,5—1,8 м. Зафіксавана 20 аб'ектаў, сярод якіх пераважаюць рэшткі слупоў ад гасп. пабудоў, буйных гасп. ям, вогнішчаў (альбо печаў) эпохі сярэдневякоўя, і крэменеапрацоўчая майстэрня, дзе знойдзена каля 200 крамянёвых прылад і 2 фінальнапалеалітычныя нук-



*Агульны выгляд раскопу паселішча-2А* ***Жылічы.***

леусы. Пры раскопе выяўлена 768 фр-таў керамікі, 1067 крамянёвых і 4 фр-ты жал. вырабаў, фр-т упрыгажэння з каляровага металу, косткі і інш. Частка керамікі ўпрыгожана характэрным для сярэдневякоўя пракрэсленым і хвалістым арнаментам. Сярод крамянёвых знаходак — 15 нуклеусаў, 53 вырабы з другаснай апрацоўкай: рэтушаваныя пласціны (23) і адшчэпы (8), ножападобныя прылады на пласцінах (5), скрабкі (10), скрэбла, праколкі (2), разцы (2), скобля і вастрыё. Помнік датуецца фінальным палеалітам (кола культур з чаранковымі наканечнікамі стрэл, валкушанская, свідэрская), мезалітам (культура кунда), познім сярэдневякоўем.

Паселішча-5 за 0,3 км на ПдУ ад вёскі, ніжэй вусця паўд. яра, на ніжняй левабярэжнай тэрасе р. Нёман. Пляцоўка памерамі 140 × 25—30 м, выш. 3,5—4 м. У цэнтр. частцы былі закладзены 2 раскопы пл. 112 м$^2$. Знойдзены 1463 артэфакты, звыш 99% з якіх крамянёвыя вырабы першаснай і другаснай апрацоўкі: 31 нуклеус, 45 прылад працы, 2 фр-ты керамікі і інш. Помнік датуецца мезалітам, неалітам і раннім этапам бронзавага веку.

*Літ.*: Раскопкі паселішча Жылічы 1 // ГАЗ. Мінск, 2004. № 19; Obuchowski W. Zabytki krzemienne i kamienne od paleolitu do wczesnej epoki żelaza z terenów Białorusi w zbiórach Państwowego Muzeum Archeologicznego w Warszawie. Warszawa, 2003. *В.Л.Лакіза.*

**ЖЫРО́ВІЦКІ МАНАСТЫ́Р**, помнік культавай архітэктуры ў в. Жыровічы Слонімскага р-на Гродзенскай вобл. Паводле легендарных звестак, засн. ў 1470 на месцы з'яўлення цудатворнага вобраза Маці Божай. У пач. 17 ст. манастыр перайшоў да уніятаў. Цяпер дзейнічае як праваслаўны мужчынскі манастыр, тут жа размешчана Мінская духоўная семінарыя. Паводле архіўных крыніц, першым мураваным будынкам была вежа, якая пазней уключана ў будынак усх. часткі брацкага корпуса. У 1613 засн. мураваны Успенскі сабор. На працягу 16—18 ст. у манастыры праводзіліся рамонтна-буд. работы. Узведзены брацкі корпус, Богаяўленская і Крыжаўзвіжанская цэрквы, на Пн ад Успенскага сабора пабудаваны новы вял. корпус. У 1999—2001 у сувязі з праектнымі работамі на тэр. Ж.м. былі ажыццёўлены абмежаваныя археал. даследаванні. Устаноўлена, што ў пач. 20 ст. ўзровень дзённай паверхні пры будынках быў значна ніжэйшы за сучасны. Паміж Успенскім саборам і семінарыяй выяўлена праезная арка з вуліцы ў двор, засыпаная ў 20 ст. Знойдзены рэшткі галерэі, што злучала будынкі семінарыі і трапезнай. На тэр. семінарыі (вял. корпус) выяўлены культ. пласт 17—18 ст. Падмуркі часткі флігеля, якія выходзяць на вуліцу, датуюцца 17 ст. Заўважана, што культ. адкладанні пры сценах флігеля больш магутныя і багатыя на знаходкі. У 2001 быў выяўлены і датаваны слой першапачатковага паселішча 15—16 ст., акрэслены яго межы, вывучаны характар падмуркаў і ўстаноўлена храналогія ўзвядзення будынкаў Успенскага сабора (17 ст.), трапезнай (2-я пал. 17 ст.), зах. сцяны брацкага корпуса (2-я пал. 17 ст.), якая першапачаткова служыла агароджай. Асн. частка брацкага корпуса збудавана не раней за 18 ст. Выяўлены рэшткі мураваных агароджаў, якія ўжо не існуюць. У 2006—07 праведзены маштабныя земляныя работы па перапланіроўцы двара на тэр. манастыра і семінарыі. У двары семінарыі выяўлены рэшткі 2 будынкаў. Адсутнасць знаходак можна інтэрпрэтаваць як гасп., аднак датаваць іх немагчыма. Паміж Успенскім саборам і брацкім корпусам адкрыты фр-т падмурка будынка, усх. сцяна якога адным канцом заходзіць пад сцяну брацкага корпуса, другім утварае кут і паварочвае ў бок Успенскага сабора. Паводле тэхнікі муроўкі, памерах і якасці цэглы, археал. знаходак адкрыты будынак датуецца 2-й пал. 17 ст. Па плану манастыра арыентацыя будынка, Успенскага сабора і Яўленскай царквы аднолькавая. Гэта азначае, што ў 2-й пал. 17 ст. на тэр. Ж.м. маштабныя буд. працы ажыццяўляліся паводле адзінага плана. Менавіта тады і пачала фармавацца структура Ж.м. як адзінага архіт. ансамбля.

*Літ.*: Ганецкая І.У. Археалагічныя даследаванні на тэрыторыі Жыровіцкага манастыра // МАБ. 2002. № 5. *І.У.Ганецкая.*

**ЖЫТЛО́**, жылл, збудаванні, прызначаныя для арганізацыі побыту чалавека і засцярогі ад неспрыяльнага ўздзеяння прыродных фактараў. На тэр. СНД вядомы з часоў сярэдняга палеаліту. Першапачаткова для Ж. чалавек выкарыстоўваў натуральныя прыродныя сховішчы — пячоры, якія былі прыстанішчам, аховай ад драпежных жывёл і надакучлівых насякомых, абаранялі агонь ад ветру і дажджу. Найб. раннія штучныя Ж. — ветравыя заслоны, павеці і выкапаныя ў зямлі ямы. Ветравыя заслоны — часовыя ўкрыцці





***Жытлы** эпохі мезаліту (рэканструкцыя).*

для чалавека і агню, будавалі з драўляных жэрдак і галінак і, магчыма, з каменных пліт. У мясцовасцях з халодным кліматам сховішчам служылі ямы, якія накрывалі жэрдкамі, галінкамі, скурамі жывёл, зямлёй. З гэтых прымітыўных форм развіваліся наступныя стадыі Ж. — наземнага і заглыбленага ў зямлю. Выразныя рэшткі стараж. Ж. мусцьерскага часу (датуецца каля 44 тыс. г. таму назад) выяўлены на стаянцы Моладава-1 Чарнавіцкай вобл. (Украіна): авальная выкладка пл. да 40 м$^2$ спецыяльна падабраных буйных касцей мамантa са слядамі 15 вогнішчаў. Дах рабілі з драўляных слупоў і жэрдак і накрывалі шкурамі жывёл. У верхнім (познім) палеаліце (40—12 тыс. г. таму назад) наземныя і паглыбленыя ў зямлю Ж. мелі закругленую і падоўжана-авальную форму. Іх узводзілі з драўляных слупоў, жэрдак, галінак, шкур і буйных касцей дзікіх жывёл (мамантa, шарсцістага насарога і інш.). Вакол Ж. часта размяшчаліся ямы-кладоўкі, у цэнтры некаторых з іх выяўлены сляды ад вогнішчаў. На тэр. Беларусі рэшткі такіх паўзямлянoчных Ж., складзеных з буйных, плоскіх і трубчастых касцей маманта, знойдзены на Бердыжскім паселішчы Чачэрскага р-на (гл. *Бердыж*). У эпоху мезаліту (9—5-е тыс. да н.э.) Ж. былі наземныя *(Стасеўка* Бабруйскага р-на) або заглыбленыя ў зямлю (*Новыя Грамыкі* Веткаўскага, *Берасценава* Аршанскага, *Берагавая Слабада* Рэчыцкага, *Лудчыцы* Быхаўскага р-наў і інш.). Яны мелі закругленую, авальную або 8-падобную форму, пл. 4—16 м$^2$. На падлозе некаторых Ж. выяўлены рэшткі вогнішчаў і ямкі дыям. 0,2 м ад драўляных слупоў, што падтрымлівалі дах. На стаянцы Берагавая Слабада вакол Ж. размяшчаліся гасп. ямы дыям. 0,5—2 м, у якіх знойдзены крамянёвыя наканечнікі стрэл, разцы, скрабкі, нуклеусы, пласціны і адшчэпы. У эпоху неаліту (5-е — к. 3-га тыс. да н.э.) на тэр. паўд.-ўсх. Беларусі плямёны



***Жытло** зарубінецкай культуры з селішча-2 Хотамель. Рэканструкцыя Г.М.Бяліцкай.*

*верхнедняпроўскай культуры* будавалі паўзямлянoчныя Ж., заглыбленыя ў зямлю на 0,2—0,8 м, круглай формы (на раннім этапе дыям. 2,2—3 м, пл. 4 м$^2$, на познім — адпаведна 2,5—3,8 м і 12 м$^2$) і авальнай памерамі 3,5 × 3 м, з няроўнымі падлогамі. У паглыбленнях размяшчаліся адкрытыя агнішчы. На познім этапе неаліту ва ўсіх Ж. у падлозе былі ямы (дыям. 0,5 м, глыб. да 0,6 м), якія маглі застацца ад слупоў, што падтрымлівалі дах або мелі гасп. ці рытуальнае прызначэнне. На адлегласці да 10 м ад Ж. размяшчаліся гасп. ямы і агнішчы, а таксама месцы апрацоўкі крэменю ці вырабу керамічнага посуду. Плямёны *днепра-данецкай культуры,* што жылі ў басейнах рэк Прыпяць, Случ, Гарынь і Бярэзіна, будавалі наземныя або крыху заглыбленыя ў мацярык Ж. пл. 10—50 м$^2$. Першапачаткова яны мелі авальную форму, памеры 3—4 × 3 м, пазней — прамавугольную, памеры ад 3 × 2 да 8 × 7 м. Пасярэдзіне Ж. размяшчаліся адкрытыя агнішчы. У Бел. Панямонні выразных слядоў неалітычных Ж. не выяўлена. Мяркуюць, што яны былі наземныя, найчасцей чатырохвугольнай формы, зробленыя з жэрдак і невял. вертыкальна замацаваных у зямлі слупоў. Круглаватыя або авальныя Ж., аснову якіх складаў каркас з жэрдак, былі вядомы практычна на працягу ўсяго неаліту плямёнам *нарвенскай культуры* і *тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі культуры*, што жылі на тэр. паўн. Беларусі. На стаянцы *Асавец* Бешанковіцкага р-на выяўлены і даследаваны Ж. канца неаліту — доўгія амаль прамавугольнай формы пабудовы. Аснову іх складаў 2-схільны дах, які трымаўся на шэрагу слупоў з расохамі і кладдзю. Унутры іх на памостах з пяску і кары знаходзіліся вял. адкрытыя агнішчы. Такія ж агнішчы часам былі па-за межамі Ж.

У познім неаліце і ў пачатковы перыяд бронзавага веку на тэр. паўд.-ўсх. і ўсх. Беларусі вядомы Ж. насельніцтва *сярэднедняпроўскай культуры* (сяр. 3-га — пач. 2-га тыс. да н.э.). Сляды іх наземных пабудоў выявіў І.І.Арцёменка на паселішчы *Ксяндзова Гара* Быхаўскага р-на, на пойменным узвышшы (выш. да 4,5 м над поймай) р. Дняпро. Знойдзены сляды будынкаў слупавой канструкцыі з адкрытымі, заглыбленымі ў зямлю ачагамі. На месцы аднаго з Ж. захавалася 14 ям ад слупоў, дыям. каля 0,2—0,3 м, якія ўкопвалі на глыб. 0,3 м. Выяўлены 3 ачажныя ямы і 3 агнішчы, складзеныя з камянёў; у адным з іх былі рэшткі пласкадоннай пасудзіны. Побач з ачажнай ямай знаходзілася пляцоўка дыям. каля 0,8 м, выкладзеная камянямі. Ямы і агнішчы складалі адзіны жылы комплекс наземнай слупавой канструкцыі, але дакладна вызначыць планіроўку Ж. немагчыма. Рэшткі яшчэ аднаго невял. Ж. слупавой канструкцыі той жа культуры І.І.Арцёменка знайшоў каля в. *Лучын* Рагачоўскага р-на, ва ўр. Завалле. У цэнтры паселішча знаходзілася яма агнішча, а вакол яе на пляцоўцы памерам 3,75 × 3 м знойдзена вял. згрувашчванне попелу і вуголля, абгарэлая драўнінная кара, якая, на думку даследчыка, магла быць рэшткамі

абрынутай страхі. Пад імі выяўлены фр-ты керамікі сярэднедняпроўскай культуры. Побач з агнішчам захаваліся сляды 8 згарэлых слупоў, дыям. якіх была прыблізна 1,8—2,2 м. Дыям. ям ад слупоў 0,25—0,3 м. Слупы ўкопвалі на глыб. да 0,3—0,8 м. Форма і памеры Ж. не ўстаноўлены. На паселішчы *Азярное*-1 Любанскага р-на М.М.Крывальцэвіч выявіў сляды наземнай слупавой пабудовы (верагодна, Ж.) прамавугольнай формы, даўж. адной са сцен якой дасягала 8 м. Іншы тып Ж. сярэднедняпроўскай культуры адкрыла А.Г. Калечыц на паселішчы *Струмень*-6 Кармянскага р-на, ва ўр. Лоша. Тры Ж. размяшчаліся на самай узвышанай частцы пясчанага пойменнага пагорка выш. каля 4 м. Пабудовы прамавугольнай формы, памерамі ад 3,25 × 3,5 да 4 × 5,2 м, заглыбляліся ў зямлю да 0,6 м. У іх межах заўважаны сляды апорных слупоў, ачажныя ямы ў цэнтры альбо каля сцяны. Побач з Ж. на тым жа ўзвышшы знаходзіліся 3 грунтавыя пахаванні, здзейсненыя па абраду крэмацыі. Рэшткі спаленага Ж. *тшцінецкай культуры* знойдзены М.М.Крывальцэвічам на паселішчы *Абакумы*-1 Лоеўскага р-на, у вусці р. Сож. Магчыма, сцены пабудовы (даўж. ад 4,2 да 6 м) мелі зрубавую канструкцыю. Звонку ніжні гарызонт зруба, напэўна, прысыпаўся пяском. Ва ўсх. куце Ж. захаваліся сляды адкрытага агнішча, у межах якога, а таксама на інш. участках падлогі, выяўлена вял. колькасць фр-таў тшцінецкага посуду. Пабудова была жылою каля 1400—1300 да н.э. Ж. сярэдняга і позняга бронзавага веку на тэр. Беларусі пакуль не знойдзены.

У жал. веку (к. 7—6 ст. да н.э. — 8—9 ст. н.э.), у сувязі з распадам патрыярхальна-радавых адносін і ўсталяваннем манагамных сем'яў, на тэр. паўд. Беларусі ў плямён *мілаградскай культуры* былі пашыраны аднакамерныя Ж. Спачатку гэта былі паўзямлянкі слупавой канструкцыі, заглыбленыя ў зямлю на 0,25—0,6 м, пл. да 50 м$^2$ (*Мілаград* Рэчыцкага, *Мохаў* Лоеўскага, *Рамель* Столінскага р-наў), пазней — наземныя або злёгку заглыбленыя ў зямлю пабудовы пл. 12—16 м$^2$, найчасцей прамавугольнай формы, са слупамі ў цэнтры, якія служылі апорамі перакрыцця. Плямёны *паморскай культуры* жылі ў паўзямлянках або ў наземных Ж. зрубавай канструкцыі з агнішчамі ўнутры. У селішчы Кусічы каля в. *Агароднікі* Камянецкага р-на выяўлены рэшткі наземнага Ж. слупавой канструкцыі памерам 4,5 × 4 м, з 2 агнішчамі ўнутры, сценкі якога каля асновы былі абкладзены камянямі. Для ранняга этапу *зарубінецкай культуры* характэрны паўзямлянкі няправільнай прамавугольнай формы, заглыбленыя ў зямлю на 0,4—1 м, са злёгку нахіленымі сценамі і роўнай пясчанай падлогай. Каля Ж. звычайна размяшчаліся круглыя ці авальныя ямы-паграбы для запасаў ежы. На познім этапе будавалі квадратныя або прамавугольныя наземныя Ж. і паўзямлянкі, заглыбленыя ў зямлю на 0,4—1 м, пл. 10—25 м$^2$, з каменнымі агнішчамі (*Чаплін* Лоеўскага р-на). У плямён *днепра-дзвінскай культуры* і *штрыхаванай керамікі культуры*, што насялялі Верхняе Падняпроўе, Верхняе і Сярэдняе Панямонне і Падзвінне, працэс распаду вял. патрыярхальных сем'яў адбываўся больш павольна, таму ў іх пераважалі шматкамерныя наземныя Ж. слупавой ці зрубавай канструкцыі, з глінянай абмазкай сцен. На раннім этапе (7 ст. да н.э. — 1 ст. н.э.) Ж. размяшчаліся па знешнім перыметры гарадзішча і ўяўлялі сабой доўгія шматкамерныя пабудовы слупавой канструкцыі пад агульным дахам, падзеленыя на некалькі (3—6) жылых памяшканняў. У цэнтры такіх Ж. або каля процілеглай ад уваход сцяны размяшчаліся адкрытыя агнішчы круглай, авальнай ці падковападобнай формы, з пласта пяску, абкладзеныя па краях камянямі або валікам гліны (*Збаравічы*, *Лабеншчына* Мінскага, *Кублічы* Ушацкага, *Язна* Міёрскага р-наў). З 2 ст. паявіліся аднакамерныя Ж. памерамі 3—4 × 4—5 м, па ўсёй тэр. гарадзішча (*Новы Болецк* Гарадоцкага, *Паддубнікі* Міёрскага р-наў). Плямёны *пражскай культуры* размяшчалі Ж. найчасцей групамі або бессістэмна. Яны мелі квадратную або прамавугольную форму, даўж. сцен ад 2,5—3 да 4—5 м), былі слупавой канструкцыі, заглыблены ў зямлю ад 0,2—0,3 да 1—1,2 м. Падлога земляная, часам абмазаная глінай або вымашчаная дошкамі. Унутры Ж., у куце, далейшым ад уваход, ставілі печку-каменку або глінабітную печ. У 8—9 ст. плошча Ж. павялічылася, паявіліся паўзямлянкі зрубавай канструкцыі (*Хотамель* Столінскага р-на). Плямёны *банцараўскай культуры* (6—8 ст., паўн. і цэнтр. Беларусь) будавалі паўзямлянкі зрубавай канструкцыі, заглыбленыя ў зямлю на 0,2—0,8 м, і наземныя Ж. слупавой канструкцыі, з адкрытымі агнішчамі круглай або авальнай формы, якія размяшчаліся бліжэй да цэнтра, або печамі-каменкамі ў далёкім ад уваход куце. Пл. такіх Ж. складала ад 7—9 да 18—20 м$^2$, падлога звычайна земляная, зрэдку драўляная. У плямён *кіеўскай культуры* (2—5 ст., усх. Гомельшчына і паўд. Магілёўшчына) існавалі 2 тыпы Ж.: наземныя пабудовы з адкрытымі агнішчамі і прамавугольныя паўзямлянкі слупавой ці зрубавай канструкцыі, заглыбленыя ў зямлю на 0,4—1,2 м, пл. 8—24 м$^2$. У гасп. комплекс уваходзілі асобна збудаваныя агнішчы і ямы-паграбы (*Адаменка*, *Новы Быхаў*, *Тайманава* Быхаўскага р-на). Плямёны *калочынскай культуры* (5—7 ст., паўд. Беларусь) будавалі аднакамерныя чатырохвугольныя паўзямлянкі зрубавай або слупавой канструкцыі, часта з цэнтр. апорным слупом, з адкрытымі агнішчамі, часам з печамі-каменкамі (*Калочын*, *Шчаткава* Бабруйскага, *Нісімкавічы* Чачэрскага р-наў).

У апошняй чв. 1-га тыс. ва ўсх. славян, у т.л. на тэр. Беларусі, адбылося аддзяленне рамяства ад сельскай гаспадаркі, пачаўся хуткі рост гарадоў. У культ. пласце даследаваных гарадоў Брэст, Віцебск, Мінск, Полацк, Гродна, Слуцк, Слонім і інш. выяўлены рэшткі стараж. драўлянай забудовы, каля палавіны з яе адносяцца да Ж. Асн. тып Ж. гарадоў 9—13 ст. — драўлянае наземнае аднакамернае збудаванне зрубавай канструкцыі. У Навагрудку, Ваўкавыску, Гомелі і Мінску выяўлены паўзямлянкі зрубавай або слупавой канструкцыі, заглыбленыя ў зямлю да 1 м, памерамі

3,4 × 3,4 м. Даследчыкі лічаць, што гэты тып Ж. занесены на тэр. Беларусі перасяленцамі з паўд. раёнаў (магчыма, з Валыні). Найчасцей Ж. ўзводзілі з хваёвых (зрэдку яловых) бярвён таўшч. ад 16 да 22 см у залежнасці ад асаблівасцей клімату. Сцены пабудоў былі даўж. 3,6—6 м (зрэдку 7—8 м), шыр. 3,8—4,2 м. Зрубы складаліся з 11—12 вянкоў, якія клалі адзін на адзін. Бярвёны зверху мелі паз на шчыльнасць мацавання, у які для ўцяплення сцен закладалі балотны мох. Да 17 ст. панавала тэхніка рубкі «ў чашку» (ці «ў абло»), якая высякалася зверху. Астаткі вуглоў абсякалі на даўжыню, роўную таўшчыні сцяны, што прадухіляла прамярзанне вуглоў. Звычайна Ж. будавалі на фундаментах — падкладках з абрубкаў бярвён пад вуглы або сцены зруба; часцей Ж. ўзводзілі на рэштках папярэдніх пабудоў. Усе Ж. 12—13 ст. у гарадах мелі дашчаную падлогу на пераводзінах, якія ўсякалі ў сцены зруба на выш. 2—3-га вянка. Печы былі глінабітныя, на слупавых апечках, у багатых гараджан — печы з комінамі; вокны — невял. праёмы вышынёй у адно бервяно, часам яны застаўляліся рухомай дошчачкай. Дах гар. пабудоў звычайна быў 2-схільны, звужаўся ўгару, утвараючы трохвугольны шчыт («закот»). Звычайна пл. Ж. ў 12—13 ст. складала 9—25 $м^2$. Спецыфічныя рысы домабудаўніцтва ўласцівы Навагрудку, дзе выяўлены двухкамерныя Ж. пл. 70—75 $м^2$ і 120 $м^2$, са шклянымі шыбамі дыскападобнай формы. Сцены некаторых Ж. былі атынкаваныя, а ў асобных выпадках размаляваныя фрэскамі. У 14—16 ст. Ж. мелі большую плошчу; часам у іх рабілі падклецце. Столь у Ж. 16 ст. звычайна была скляпеністая, дах найчасцей пакрывалі гонтай, зрэдку — керамічнай дахоўкай, якая была ўласціва для мураванага будаўніцтва. З 2-й пал. 14 ст. вядомы 2-паверховыя драўляныя Ж., са знешняга боку якіх былі крытыя галерэі рамачна-каркаснай канструкцыі. Рэшткі іх выяўлены ў Віцебску і Мінску. У 17 ст. таксама пераважалі аднакамерныя зрубавыя пабудовы пл. да 30—45 $м^2$. Часам пад аснаваннем рабілі гідраізаляцыйную падушку з гліны або жвіру. У 17—18 ст. трапляюцца каменныя падмуркі, якія зрэдку былі вядомы і ў вёсках. Цагляныя печы аздаблялі тэракотавай, паліванай, паліхромнай, каробчатай кафляй. У сценах Ж. рабілі чатырохвугольныя вокны са шклянымі шыбамі. З 14—15 ст. ролю Ж. выконвалі палацы і замкі. З 2-й пал. 16 ст. функцыя Ж. стала для замкаў асноўнай.

*Літ.*: Митрофанов А.Г., Тарасенко В.Р. Типы жилищ на территории БССР эпохи раннего железа и раннего средневековья // Вопросы этнографии Белоруссии. Минск, 1964; Артеменко И.И. Племена Верхнего и Среднего Поднепровья в эпоху бронзы. М., 1967; Лысенко П.Ф. Города Туровской земли. Минск, 1974; Калечиц Е.Г. Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии. Минск, 1987; Археалогія Беларусі. Т. 1—4. Мінск, 1997—2001; Крывальцэвіч М.М. Азярное 1 — паселішча эпохі бронзы на поўначы Палесся. Мінск, 1999; Яго ж. Супольнасці Беларускага Палесся і лесастэпаў-стэпаў у эпоху бронзы: праблемы культурных сувязяў // Od neolityzacji do początków epoki brązu. Przemiany kulturowe w międzyrzeczu Odry i Dniepru między VI i II tys. Przed Chr. // Archaeologia Bimaris. Dyskusje. Poznań, 2001, T. 2.

*А.Г.Калечыц, Л.У.Калядзінскі, М.М.Крывальцэвіч, М.М.Чарняўскі.*

**ЖЭЛЯДЗЬ**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Жукойні Жалядскія Астравецкага р-на Гродзенскай вобл. За 2 км на ПнУ ад вёскі, на беразе р. Струна. У 1895 Ф.В.Пакроўскі даследаваў 12 моцна пашкоджаных насыпаў. Некаторыя з іх мелі каля падэшвы каменныя вянкі. Пахавальны абрад — трупаспаленне па-за межамі пахавання. Рэшткі крэмацыі ў большасці насыпаў змяшчаліся на ўзроўні стараж. гарызонту глебы, у 3 выпадках — на грунце. Пад пахаваннямі былі падсцілкі з белага пяску, вугалля ці вуглістa-чорнай зямлі. У 2 насыпах выяўлены каменныя канструкцыі (у выглядзе чашы і ў форме кольца), у адным — 2 абгарэлыя бервяны, што ляжалі паралельна на адлегласці 1 м. Пахавальны інвентар: бронзавыя і жал. арбалетападобныя фібулы, жал. спражкі (круглыя і авальныя), сярэбранае і бронзавыя кольцы, жал. наканечнік дзіды, злiткі бронзы і шклопадобнай масы (верагодна, пацерак). Могільнік належаў балцкаму насельніцтву. Датуецца 5—7 ст. *Я.Г.Зверуга.*

**ЖЭМА́ЙТЫ**, жамайты, балцкае племя, пазней саюз плямён, стараж. насельніцтва правабярэжжа ніжняга Нёмана, вярхоўяў рэк Мінія, Юра, Дубіса, Вянта, Шушва. Уваходзілі ў групу т.зв. лета-літ. плямён. Этымалогія назвы «Ж.» звязваецца з аднайменнай гісторыка-геаграфічнай і этнагр. вобл. на тэр. сучаснай Літвы — Жэмайціяй і ўзыходзіць да балцкіх слоў zemas, zemutinis (ніжні, нізкі, нізкае месца). З'яўленне этнаспецыфічных археал. старажытнасцей Ж. даследчыкі П.Кулікаўскас, Р.Кулікаўскене, А.Таўтавічус, В.В.Сядоў адносяць да 2-й пал. 1-га — пач. 2-га тыс. н.э. Тыповыя для Ж. грунтавыя могільнікі мелі характэрны інвентар (сякеры, мячы, пацеркі, грыўні, амулеты, бранзалеты). Нябожчыкаў клалі галавой на ПдЗ (жанчыны) і ПнУ (мужчыны). Пераважаў язычніцкі абрад трупапалажэння, які ў 9—11 ст. чаргаваўся з трупаспаленнем. Характэрныя паселішчы — селішчы, радзей гарадзішчы. Асн. гасп. заняткі: жывёлагадоўля, паляванне, збіральніцтва. З 13 ст. землі Ж. намінальна ўваходзілі ў склад ВКЛ у якасці асобнага княства, аднак палітычна залежалі ад Тэўтонскага ордэна. У пач. 15 ст. Ж. вызваліліся з-пад улады тэўтонаў і фактычна ўвайшлі ў ВКЛ. Мелі асобнае Жэмацкае (Жмудскае) княства, пазней староства з цэнтрам у г. Кедайняй, з 16 ст. — Расейняй. З пач. 15 да сяр. 16 ст. былі паступова хрысціянізаваны літ., польскімі і бел. каталіцкімі місіянерамі. Разам з *аўкштайтамі* і некаторымі інш. групамі зах. і ўсх. балтаў Ж. склалі літ. народнасць (потым нацыю), у межах якой доўгі час захоўвалі свае этнагр. асаблівасці, дыялект, асобную зямляцкую самасвядомасць. Адзінкавыя археал. знаходкі, якія характэрны для побыту Ж., выяўлены на тэр. Бел. Панямоння. *І.У.Чаквін.*



**ЗА́БАР'Е**, археалагічныя помнікі — курганныя могільнікі каля в. Забар'е Вілейскага р-на Мінскай вобл.

Курганны могільнік-1 за 1,5 км на Пн ад вёскі, злева ад дарогі ў в. Карпавічы, у лесе, ва ўр. Курганы. 97 насыпаў дыям. 4—10 м, выш. 0,5—1,3 м. Каля некаторых прасочваюцца апоўзлыя раўкі ці авальныя ў плане ямы. Амаль чацвёртая частка курганоў пашкоджана. У 1892 Ф.В.Пакроўскі даследаваў 4 курганы. У адным была толькі праслойка вугалю на ўзроўні гарызонта, у двух — праслойкі вугалю (у адным з дробнымі перапаленымі касцямі) і на гарызонце, і ў насыпе. Пад насыпам кургана з перапаленымі касцямі — яма дыям. каля 0,4 м, глыб. каля 0,5 м, запоўненая раздробленымі касцямі каня, якія былі накрыты пераверненутым гаршком, побач з ім — жал. спражка. Сярод касцей трапляліся маленькія бронзавыя злiткі. У 4-м кургане пахаванне па абраду трупапалажэння на гарызонце галавой на ПнЗ. На лобнай косці — дробнае бронзавае кольца, каля правага бядра — фр-т керамікі.

Курганны могільнік-2 за 1,1 км на З ад могільніка-1, у лесе. 12 насыпаў дыям. 6—10 м, выш. 0,5—0,9 м. Выявіў і абследаваў у 1985 Я.Г.Звяруга.

*Літ.*: Покровский Ф.В. Археологическая прогулка в окрестностях Радошкович // Покровский Ф.В. Археологические экскурсии по Виленской губернии. Вильна, 1893. *Я.Г.Звяруга.*

**ЗАБАРО́ЛА**, элемент абарончых збудаванняў горада, замка, крэпасці ў выглядзе напалавіну адкрытай баявой пляцоўкі з бруствeрам, што размяшчалася паверх клецяў-гародняў абарончай сцяны альбо па перыметры брамы. З. рабіліся з бярвён і дошак. Прызначаліся для размяшчэння абаронцаў і перамяшчэння іх уздоўж сцен, дазвалялі весці франтальны абстрэл подступаў да ўмацаванняў, а таксама ліць на нападаючых кіпень, кідаць камяні і г.д. Мелі дахавае пакрыццё. Каб аблегчыць штурм умацаванага пасялення, ворагі намагаліся перш-наперш разбурыць або падпаліць З., апошнія цярпелі і ад звычайных пажараў, якія не былі рэдкія ў драўляных гарадах і замках. Таму З. як аб'ект археал. вывучэння амаль не захаваліся і больш вядомы па іканаграфічных крыніцах. Некаторыя даследчыкі мяркуюць, што абгарэлыя дубовыя брусы і сасновыя дошкі, якія ў 1971 былі знойдзены М.А.Ткачовым і Я.Г.Звяругам на паўд. схіле Старога замка ў Гродне, з'яўляюцца рэшткамі З.

*Літ.*: Трусаў А.А., Собаль В.Е., Здановіч Н.І. Стары замак у Гродне XI—XVIII ст.: гісторыка-археал. нарыс. Мінск, 1993; Заяц Ю.А. Новае даследванне па археалогіі Старога замка ў Гародне. Рэцэнзія на кнігу: Трусаў А.А., Собаль В.Е., Здановіч Н.І. Стары замак у Гродне XI—XVIII стст.: гісторыка-археал. нарыс. Мінск, 1993 // Крыўя. 1996. № 1. *Ю.А.Заяц.*

**ЗАБО́Р'Е**, археалагічныя помнікі — курганныя могільнікі крывічоў каля в. Забор'е Глыбоцкага р-на Віцебскай вобл.

Курганны могільнік-1 за 0,8 км на ПнЗ ад вёскі. 40 курганоў выш. 0,8—3,2 м, дыям. 5—12 м. У 1974 Г.В.Штыхаў даследаваў 1 курган. У 1981 абследавала Л.У.Дучыц. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З. Знойдзены жал. нож, віты бронзавы бранзалет з завязанымі канцамі, ганчарны гаршчок.

Курганны могільнік-2 за 1 км на ПнЗ ад вёскі, злева ад дарогі ў в. Юзухава, ва ўр. Зялёнка. 28 курганоў выш. 0,8—3,2 м, дыям. 5—12 м. Абследаваў у 1972 М.А.Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся. Помнікі датуюцца 10 ст.

*Літ.*: Штыхов Г.В. Работы Полоцко-Витебского отряда // АО 1974. М., 1975. *М.А.Ткачоў.*

**ЗАВІТНЕ́ВІЧ** Уладзімір Зянонавіч (14.4.1853, в. Ліцвяны Уздзенскага р-на Мінскай вобл. — сакавік 1927), беларускі археолаг, гісторык, педагог. Д-р царкоўнай гісторыі (1897), праф. (1904). Скончыў Мінскую духоўную семінарыю (1875), Пецярбургскую духоўную акадэмію (1879). З 1884 выкладаў у Кіеўскай духоўнай акадэміі, у Кіеўскім ін-це шляхетных дзяўчат і на заснаваных ім вячэрніх жаночых курсах. Чл. гіст. т-ва Нестара-летапісца, т-ва гісторыі і старажытнасцей Расіі пры Маскоўскім ун-це, Маскоўскіх археал. і царкоўна-археал. т-ваў, камісіі па зборы старaж. актаў і інш. Аўтар навук. прац па выніках археал. раскопак, праблемах увядзення хрысціянства на Русі, гісторыі і зместу славянафільства, гісторыі «смутных часоў» і інш. У 1885—92 з

мэтай удакладнення летапісных паведамленняў аб рассяленні *дрыгавічоў* правёў раскопкі ў 82 курганных могільніках у басейнах рэк Прыпяць, Дняпро, Бярэзіна, Нёман, дзе даследаваў каля 700 курганоў (пахаванняў). Атрымаў важныя звесткі для характарыстыкі асаблівасцей пахавальнага абраду, матэрыяльнай і духоўнай культуры дрыгавічоў. Падрабязна апісаў знешні выгляд курганных могільнікаў і асобных курганоў, адзначыў залежнасць колькасці курганоў у курганных могільніках ад памераў паселішчаў, зафіксаваў падзел могільнікаў на групы. На падставе распаўсюджання аднолькавых назваў рэк (Бярэзіна Дняпроўская і Нёманская, Свіслач і Ісляч, Ольса і Альшанка) выказаў свае меркаванні наконт шляхоў рассялення славян (Дняпро—Бярэзіна Дняпроўская—Свіслач—верхні Нёман—Ісляч). Звярнуў увагу на частую сустракаемасць у пахаваннях буйных ажурных зярнёных бочкападобных металічных пацерак, якія аднёс да этнічна вызначальнай прыкметы дрыгавічоў. Згодна з назіраннямі З., паўд. мяжа іх рассялення праходзіла па правабярэжжы р. Прыпяць, усх. — па р. Дняпро і водападзеле Бярэзіны і Друці, паўн. — ад вярхоўяў р. Друць у накірунку Барысаў—Заслаўе (фактычна па мяжы Тураўскага і Полацкага княстваў), зах. — па вярхоўях р. Шчара да Пінска. Матэрыял і справаздачы раскопак захоўваюцца ў архіве Санкт-Пецярбургскага аддзялення Ін-та археалогіі РАН (б. архіў Імператарскай археал. камісіі) і ў Саратаўскім музеі.

*Тв.*: Область дреговичей как предмет археологического исследования // Тр. Киевской духовной академии. Киев, 1886. Т. 2, кн. 8; Археологические раскопки в системе рек Немана и Березины // Чтения в историческом обществе Нестора-летописца. М., 1888. Кн. 2; Из археологической экскурсии в Припятское Полесье // Там жа. Киев, 1890. Кн. 4; Вторая археологическая экскурсия в Припятское Полесье // Там жа. Киев, 1892. Кн. 6; К вопросу о выработке критерия для классификации курганов по типам. Киев, 1890; О курганах Минской губернии // Календарь Северо-Западного края на 1890 г. М., 1890; Археологические разыскания в бассейне р. Березины // Отчет археологической комиссии за 1892 г. М., 1894; Формы погребального обряда в могильных курганах Минской губернии // Тр. IX Археол. съезда в Вильне в 1893 г. М., 1895. Т. 1; Археологическая поездка по Черниговской и Минской губерниям // Древности: тр. Московского археол. о-ва. М., 1897. Т. 15, вып. 2.

*Літ.*: Киселев В.Н. Исследователь внимательный и трудолюбивый: о жизни и деятельности историка и богослова, профессора В.З.Завитневича. Минск, 2007.

*В.І.Кошман.*




*Нуклеусы з паселішча **Завоссе 1**.*

**ЗАВІ́ША** Ян Казімір (Іван Фадзеевіч; 1820, б. маёнтак Кухцічы, цяпер пас. Первамайск Уздзенскага р-на Мінскай вобл. — 1887), беларускі і польскі археолаг. Скончыў Мінскую гімназію. З 1868 падарожнічаў з мэтай фіксацыі помнікаў археалогіі, праводзіў раскопкі. Даследаваў земляны вал, гарадзішча і курганы каля в. Чурылава, гарадзішчы каля в. Кухцічы (1868—69, Уздзенскі р-н), ва ўр. Мерачоўшчына каля в. Косава (1871—72, Івацэвіцкі р-н), гарадзішча і каменныя магілы каля воз. Свіцязь. У 1870-я г. выявіў і апісаў стаянкі каменнага веку каля в. Валеўка (Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл.). На Міжнар. кангрэсах археолагаў у Венецыі (1871) і Будапешце (1876) выступаў з дакладамі па праблемах вывучэння каменнага веку. На пасяджэнні аддзела археалогіі ў Кракаўскай АН (1878) прапанаваў выданне навук. прац пра старажытнасці Польшчы і Беларусі.

*Літ.*: Алексеев Л.В. Белорусская археология и историческое краеведение во второй половине XIX — начале XX в. // СА. 1968. №3.

**ЗАВО́ЗЕРЦЫ**, археалагічны помнік — стаянка эпохі мезаліту каля в. Завозерцы Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл. На пясчаным павышэнні паўн.-усх. берага воз. Рыжае. Выявіў і абследаваў у 1984 М.М.Чарняўскі. Памеры 40 × 80 м. Культ. пласт да 0,5 м. Знойдзены крамянёвыя вырабы: мікраліты, скрабкі, рэтушаваныя адшчэпы і пласціны, нуклеусы, ганчарная кераміка позняга сярэдневякоўя. Датуецца 7—6-м тыс. да н.э.

*М.М.Чарняўскі.*

**ЗАВО́ССЕ 1**, археалагічны помнік — тарфянікавае паселішча прыпяцка-нёманскай, нёманскай

культур неаліту з элементамі кола культур шнуравой керамікі і адзінкавымі знаходкамі ранняга перыяду эпохі бронзы каля в. Завоссе Баранавіцкага р-на Брэсцкай вобл. За 1,5 км на ПнЗ ад вёскі, на авальным узвышшы паўн.-ўсх. краю тарфяніку, што ўтварыўся вакол Калдычэўскага воз. Адкрылі і даследавалі ў 2002 М.М.Чарняўскі, В.Л.Лакіза і В.С.Абухоўскі падчас разведкі на торфавыпрацоўцы Карыціна з бакоў мемарыяльнай сядзібы А.Міцкевіча, у 2005 — А.А.Разлуцкая (24 м$^2$). Культ. пласт 0,3—0,9 м, пашкоджаны з паўн. і ўсх. бакоў меліярацыйнымі канавамі, з З разбураецца прамысловай здабычай торфу. Знойдзены вырабы з мясц. крэменю (большая колькасць), крамянёвыя прылады працы (2 ланцэтападобныя вастрыі, трапецыя, праколкі, свердлы, нажы і ножападобныя пласціны, разцы, скрабкі, скобля, масіўныя скрэблы, цясла, 3 невял. клінападобныя сякеры авальнага сячэння); нуклеусы адна-, двух- і шматпляцовачныя, у большасці сустрэчнага зняцця, пірамідальнай, няправільнай прызматычнай форм. Выяўлены фр-ты ляпной неалітычнай керамікі, у асн. прыпяцка-нёманскай культуры ранняга і сярэдняга неаліту, прысутнічаюць і позняга этапу гэтай культуры. Сабрана астэалагічная калекцыя з рэшткаў костак і рагоў жывёл, пераважна дзікіх.

*Літ.*: Чернявский М.М. Ранненеолитическая культура Восточного Понеманья // Человек. Адаптация. Культура. М., 2008.

*А.А.Разлуцкая.*



*Крамянёвыя сякеры з паселішча Завоссе 1.*

**ЗАВУ́ЖАЛЬ**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і курганны могільнік каля в. Завужаль Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл.

Гарадзішча *мілаградскай культуры*, *зарубінецкай культуры* і эпохі Кіеўскай Русі. На паўд. ускраіне вёскі, на беразе Дняпра, побач з могілкамі. Выш. пляцоўкі над наваколлем каля 15 м. Мясц. назва Гарадок. Пляцоўка квадратная, памерамі 75 × 75 м. Умацавана з З і У ярамі, з боку поля валам выш. 1,5—3 м, даўж. каля 100 м. Вядома з к. 19 ст. Абследавалі ў 1958 В.М.Мельнікоўская, у 1964 Л.Д.Побаль, у 1976 Г.В.Штыхаў. Культ. пласт 0,3—0,4 м. Выяўлены фр-ты ляпнога посуду і ганчарная кераміка (у верхняй частцы пласта).

Курганны могільнік за 1 км на ПдЗ ад гарадзішча. Было 70 насыпаў. У 1890 У.З.Завітневіч даследаваў 16 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З. У 3 насыпах выяўлены агнішчы на мацерыку, у 2 — кенатафы. Знойдзены шкляныя, сердалікавыя, хрустальныя пацеркі, 3 падвескі 10 ст. Датуецца 10—11 ст.

*Літ.*: Завитневич В.З. Вторая археологическая экскурсия в Припятское Полесье. Киев, 1892; Равдина Т.В. Погребения X—XIII вв. с монетами на территории Древней Руси: кат. М., 1988.

*Г.В.Штыхаў.*

**ЗАВУШНІ́ЦЫ**, жаночае, радзей мужчынскае ўпрыгажэнне, якое носяць у праколатых мочках вушэй. Вядомы з бронзавага веку. У пач. 2-га тыс. замест З. часта насілі пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы (іншы раз з нанізанымі пацеркамі). Вядомы З. з курганных могільнікаў, гарадзішчаў стараж.-рус. часоў. У летапісах згадваюцца З. кіеўскага кн. Святаслава, упрыгожаныя рубінам і жэмчугам. У Гродне знойдзены залатыя З. 11—12 ст. З 16 ст. былі распаўсюджаны З. даўж. 3,5—6,5 см у форме пытальніка з каменнымі, бронзавымі, бурштынавымі і шклянымі пацеркамі зялёнага, жоўтага, чырвонага, сіняга колераў. Каб замацаваць пацеркі, стрыжань абвівалі дротам, кончык якога завязвалі пятлёй (Навагрудак, Гарадоцкі р-н і інш.).



***Завушніцы*** *11—12 ст. з Гродна.*



*Э.М.Загарульскі.*

*Літ.*: Седова М.В. Ювелирные изделия древнего Новгорода (X—XV вв.). М., 1981. *Л.У.Дучыц.*

**ЗАГАВА́ЛІНА**, археалагічны помнік — гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры* і *банцараўскай культуры* каля в. Загаваліна Ушацкага р-на Віцебскай вобл. За 1 км на З ад вёскі, на высокім узгорку. Пляцоўка авальная, памерамі 40 × 30 м, схілы стромкія. Вядома з 1873. Даследаваў у 1966 К.П.Шут (ускрыта 200 $м^2$). Культ. пласт у цэнтры пляцоўкі 0,2—0,3 м, па краях 1—1,2 м. Мае 2 гарызонты. У ніжнім выяўлены сляды наземнага жытла слупавой канструкцыі з каменнымі агнішчамі, знойдзены абломкі печаў-домніц і шлакі, жал. сярпы, нажы, шылы, іголкі, дроцік, бронзавыя спіралькі, бляшкі, касцяныя праколкі, каменныя паліраваныя сякеры, таўкачы, слабапрафіляваныя гаршкі і пасудзіны слоікападобнай формы, упрыгожаныя ямкавымі паглыбленнямі, скразнымі адтулінамі ніжэй краю венчыка, наразнымі лініямі і насечкамі па верхняй частцы пасудзін. У верхнім гарызонце знойдзены абломкі гладкасценных пасудзін. Ніжні гарызонт адносіцца да днепра-дзвінскай культуры, верхні — да банцараўскай.

*Літ.*: Шут К.П. Городище Заговалино Ушачского района // Вопросы истории. Мінск, 1969; Зайкоўскі Э.М. Першабытныя помнікі Паўночнай Беларусі. Мінск, 1990. *А.А.Егарэйчанка.*

**ЗАГАРТО́ЎКА**, від тэрмічнай апрацоўкі металу, які заключаецца ў награванні прадмета, потым хуткім яго ахаладжэнні. З. сталі, напр., утварае ў яе структуры мартэнсіт, які надае металу высокую цвёрдасць. Выкарыстоўваецца са стараж. часоў. На тэр. Беларусі З. практыкавалі майстры 3—5 ст., шырока выкарыстоўвалі кавалі эпохі Кіеўскай Русі і ВКЛ для апрацоўкі стальных і камбінаваных жал.-стальных прылад працы, зброі і гасп. вырабаў.

*Літ.*: Колчин Б.А. Черная металлургия и металлообработка в древней Руси (Домонгольский период). М., 1953 (МИА. № 32); Гурин М.Ф. Древнее железо Белорусского Поднепровья (I тысячелетие н.э.). Минск, 1982; Його ж. Кузнечное ремесло Полоцкой земли IX—XIII вв. М., 1987.

**ЗАГАРУ́ЛЬСКІ** Эдуард Міхайлавіч (н. 18.12.1928, г. Тула, Расія), беларускі археолаг, гісторык. Д-р гіст. навук (1984), праф. (1986). Заслужаны работнік адукацыі Беларусі (1996). Скончыў Маскоўскі ун-т (1953). З 1954 у ІГ АН БССР. З 1962 у БДУ, у т.л. з 1973 заг. кафедры, у 1986—91 дэкан гіст. ф-та. Вывучае гісторыю раннефеад. гарадоў (11—13 ст.), этнічную гісторыю Беларусі і праблемы паходжання і рассялення славян. Даследаваў стараж. Мінск, Рагачоў, Заслаўе, *Вішчын*, *Кісцяні*, *Копысь*, *Свіслач*, *Стрэшын* і інш., курганныя могільнікі і замкі. У час раскопак Мінска (1958—61) вызначыў агульную планіроўку горада 11—13 ст., даследаваў яго абарончыя ўмацаванні і забудову, зрабіў рэканструкцыю ўсх. часткі замчышча. Пры раскопках гарадзішча Вішчын даследаваў сістэму абарончых збудаванняў замка і жылых пабудоў, выявіў унікальны скарб залатых і сярэбраных упрыгажэнняў і сярэбраных грыўняў 2-й пал. 12 — пал. 13 ст. (гл. *Вішчынскі грашова-рэчавы скарб*). У шэрагу навук. работ прапанаваў і абгрунтаваў новую канцэпцыю пра час і месца ўзнікнення славян. Адзін з аўтараў «Гісторыі Беларускай ССР» (1961), «Гісторыі Беларускай ССР» (т. 1, 1972), «Гісторыі БССР» (ч. 1, 1981), «Гісторыі сялянства Беларусі» (т. 1, 1997), падручнікаў «Гістарычнае краязнаўства Беларусі» (1980), «Гісторыя БССР» (1989), «Гісторыя Беларусі» для 4-га (2001), 5-га (1998) і 6-га (1999) класаў і інш.

*Тв.*: Древний Минск. Минск, 1963; Археология Белоруссии. Минск, 1965; Древняя история Белоруссии: очерки этнич. истории и материальной культуры (до IX в.). Минск, 1977; Возникновение Минска. Минск, 1982; Генеалогия полоцких князей Изяславичей. Минск, 1994; Начало формирования населения Белоруссии. Минск, 1996; Заходняя Русь IX—XIII стст. Мінск, 1998; История Белоруссии в кратком изложении. Минск, 2002; Вищинский замок XII—XIII вв. Минск, 2004. *А.А.Егарэйчанка.*

**ЗАГО́Р'Е**, археалагічны помнік — паселішча каменнага і бронзавага вякоў каля в. Загор'е Чачэрскага р-на Гомельскай вобл. За 3 км на ПнЗ ад вёскі, на надпоймавай тэрасе левага берага р. Сож, ва ўр. Жавынец. Выявіў у 1927 К.М.Палікарповіч. Даследавала ў 1978 А.Г.Калечыц (130 $м^2$). Культ. пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя скрабкі, праколкі, пласціністыя наканечнікі стрэл, трапецападобныя прылады, нуклеусы, адыходы крамянёвай вытворчасці, фр-ты глінянага ляпнога посуду, упрыгожанага адбіткамі крэменя, ямачнымі і лапчастымі адбіткамі, нарэзкамі і інш.

*Літ.*: Калечиц Е.Г. Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии. Минск, 1987. *А.Г.Калечыц.*

**ЗАГО́РЫНЫ**, археалагічныя помнікі — паселішча і гарадзішча каля в. Загорыны Мазырскага р-на Гомельскай вобл.

Паселішча за 0,3 км на ПдУ ад вёскі, каля схілу карэннага берага, на паверхні 1-й надпоймавай тэрасы р. Прыпяць. Даўж. уздоўж берага 300 м, шыр. 120 м, выш. над поймай ракі 4 м. Выявіў і даследаваў у 1962 У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт складаецца з верхняга і ніжняга гарызонтаў. У ніжнім гарызонце (0,3 м), які залягаў пад гумусавым пластом глебы, знойдзены 57 крамянёвых прылад працы і зброі (мікраліты, скрабкі, нажы, наканечнікі стрэл), 30 фр-таў ляпнога вастрадоннага посуду. Адносіцца да позняга мезаліту і ранняга неаліту (7—4-е тыс. да н.э.). У верхнім гарызонце (0,2 м), які залягаў у гумусаваным пласце, знойдзены крамянёвыя прылады працы і рэшткі ляпнога посуду (400 расшчэпленых крэменяў і абломкі ад 9—11 ляпных гаршкоў). Адносіцца да позняга неаліту і бронзавага веку (к. 3-га — 2-е тыс. да н.э.). Сустракаюцца рэшткі могільніка культуры шнуравой керамікі.

Г а р а д з і ш ч а эпохі Кіеўскай Русі за 0,6 км на З ад вёскі, на высокім беразе р. Прыпяць. Памеры пляцоўкі 75 × 75 м. Паўд. яе частка на 2 м вышэй за паўночную. З ПнУ гарадзішча — абрыў выш. 25—30 м да старыцы ракі, з боку поля — дугападобны роў глыб. 2 м, шыр. 15 м і вал выш. 2—4 м, шыр. 10 м. Абследаваў у 1976 У.Ф.Ісаенка. У агаленнях прасочаны культ. пласт да 1 м. Знойдзены рэшткі касцей чалавека, посуду 12—13 ст.

*Літ.*: И с а е н к о В.Ф. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976.

*У.Ф.Ісаенка.*

**ЗАДВО́Р'Е**, археалагічны помнік — стаянка позняга этапу бронзавага веку каля в. Задвор'е Ляхавіцкага р-на Брэсцкай вобл. За 1 км на ПнУ ад вёскі, 0,15 км на У ад дарогі на Ляхавічы, на валападобным павышэнні выступу тэрасы, на месцы, дзе раней р. Ведзьма ўпадала ў р. Шчара. Даўж. стаянкі 170 м, шыр. да 20 м. Культ. пласт да 0,5 м (цяпер падтапляецца вадасховішчам). Знойдзены крамянёвыя вырабы, у т.л. нажы і сякеры, фр-ты пласкадоннага ляпнога посуду з заштрыхаванай паверхняй.

*М.М.Чарняўскі.*

**ЗАДЗЕ́ЎСКАЕ**, археалагічны помнік — паселішча сярэдняга і позняга неаліту на паўд. ускраіне г. Паставы Віцебскай вобл., на 1-й надпоймавай тэрасе паўн. берага воз. Задзеўскае. Памеры 50—70 × 20 м. У 1980 Э.М.Зайкоўскі даследаваў 112 м$^2$. Культ. пласт 0,4 м. Выяўлены крамянёвыя прылады працы: бакавыя, канцавыя і камбінаваныя скрабкі, скоблі, праколка на пласціністым адшчэпе, 2 нажы і 13 ножападобных пласцін, абломкі тронкавых наканечнікаў стрэл і лязо шліхтаванай сякеры, 13 нуклеусаў. Кераміка падзяляецца на 3 асн. групы: фр-ты посуду культуры грабеньчата-ямкавай керамікі, арнаментаванага шырокімі канічнымі ямкамі і адбіткамі накручанага на палачку шнура («вусеневы» арнамент), у цесце дамешкі буйназярністага пяску ці жарствы; фр-ты керамікі *нарвенскай культуры*, арнаментаванай дробнымі ямкамі, наколамі, адбіткамі грабеньчатага штампа, перакрыжаванымі лініямі і паскамі з насечак, у цесце дамешкі тоўчаных ракавін; фр-ты посуду *шнуравой керамікі культуры*, арнаментаванага гарызантальнымі адбіткамі шнура або без арнаменту, у цесце дамешкі тоўчаных ракавін. Выяўлена і т.зв. гібрыдная кераміка: цеста такое ж, як і ў нарвенскай, але з арнаментам культуры грабеньчата-ямкавай керамікі. Характар керамікі ўсіх груп блізкі да керамікі з паселішча *Скема* ў Мядзельскім р-не. Выяўлены нешматлікія фр-ты раннесярэдневяковай ганчарнай керамікі, жал. нож і сякера. Паселішча датуецца 2-й пал. 3-га — пач. 2-га тыс. да н.э.

*Э.М.Зайкоўскі.*

**ЗАДРУ́ЦЦЕ**, археалагічныя помнікі дрыгавічоў — гарадзішча і курганны могільнік каля б. в. Задруцце Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а на паўд. ускраіне б. вёскі, на правым беразе Дняпра. Пляцоўка роўная, памеры 83 × 45 м. Усх. схіл стромкі, выш. 17—18 м, з інш. бакоў умацавана валам (дрэнна захаваўся) выш. 1—3 м, шыр. ад 8 да 15 м. Абследавалі ў 1930—31 А.М.Ляўданскі, у 1958 В.М.Мельнікоўская, у 1976 А.Р.Мітрафанаў.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к за 0,1 км на Пн ад гарадзішча. 40 насыпаў, захаваліся 3 дыям. 3,5—5 м, выш. 0,5—0,7 м. Даследаваў 6 курганоў у 1931 А.М.Ляўданскі, абследаваў у 1976 А.Р.Мітрафанаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне, пераважна галавой на З. Знойдзены рэшткі дамавін, жал. цвікі, ганчарны посуд, пацеркі (шкляныя, бронзавыя, філігранныя сердалікавыя), бронзавыя пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы. Датуецца 10—11 ст.

*Літ.*: Л я ў д а н с к і А.М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг. // Працы. Т. 3.

**ЗАЗО́НЫ**, археалагічныя помнікі — гарадзішча культур штрыхаванай керамікі і селішча 4—10 ст. каля в. Зазоны Браслаўскага р-на Віцебскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а на паўд. ускраіне вёскі, на вяршыні халма-астанца, на выш. 10—12 м над узроўнем навакольнай мясцовасці. Пляцоўка няправільнай авальнай формы, памерамі 40 × 50 м, без штучных умацаванняў на паверхні. Вядома з к. 19 ст. Даследаваў у 1995— 2000 А.А.Егарэйчанка (434 м$^2$). Культ. пласт 0,5—1,1 м. Знойдзены 4 глінабітныя ачагі памерамі 0,75—1 × 0,75— 1,4 м, выцягнутыя ланцугом у цэнтр. частцы пляцоўкі з ПнЗ на ПдУ і абкладзеныя падковападобным ці кальцавым гліняным валікам шыр. да 10 см. У раскопе пераважалі фр-ты слабапрафіляванага посуду культуры ранняй, радзей — рабрыстыя гаршкі культуры позняй штрыхаванай керамікі. Выяўлены абломкі ляпнога посуду сяр. — 2-й пал. 1-га тыс.; вырабы з косці (праколкі, тупікі, качадыкі, долаты, наканечнікі коп'яў і стрэл, гарпуны, дзяржанні, амулеты), з каменю (клінавідныя тапары, тачыльныя прылады), адзінкавыя жал. вырабы (абломкі тапароў, шылы, нажы, наканечнік кап'я). Сярод рэдкіх знаходак — бронзавы наканечнік пояса 2—3 ст. з крыжападобным заглыбленнем, шматгранная вагавая гірка 9—10 ст. Помнік датуецца к. 2-га тыс. да н.э. — 10 ст.



*Гарадзішча* ***Зазоны.***

С е л і ш ч а з паўд. і зах. бакоў падножжа халма. Адкрыў і даследаваў у 1995—2000 А.А.Егарэйчанка (312 $м^2$). Культ. пласт 0,7—0,8 м. Развал глінабітнай печы ў выглядзе авальнай плямы абпаленай гліны памерамі 1,6 × 1,9 м. Выяўлены абломкі ляпной гладкасценнай, радзей шурпатай і аблітай керамікі слоікавай і прафіляванай форм, характэрнай для балцкіх плямён 4—7 ст. і раннеслав. 8 — пач. 10 ст. Знойдзены жал. вырабы (шылы, нажы, сярпы, абломкі тапароў, шпора), упрыгажэнні з каляровых металаў (бранзалет з расшыранымі канцамі 5—6 ст., трапецападобныя падвескі, умбонавідная бляшка), тыповыя для смаленскіх доўгіх курганоў і інш. Помнік датуецца к. 4 — пач. 10 ст.

*Літ.*: Е г о р е й ч е н к о А.А. Культуры штрихованной керамики. Минск, 1996; Я г о ж. Городище и селище Зазоны // Браслаўскія чытанні. Браслаў, 1997.

*А.А.Егарэйчанка.*

**ЗАЙКО́ЎСКІ** Эдвард Міхайлавіч (н. 18.11.1952, в. Дубашы Валожынскага р-на Мінскай вобл.), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1985). Скончыў БДУ (1975). З 1980 у ІГ НАН Беларусі. Даследуе помнікі неаліту і бронзавага веку, язычніцкія вераванні і першабытнае мастацтва на тэр. Беларусі, гісторыю дахрысціянскай духоўнай культуры. Адзін з аўтараў «Гісторыі Беларусі» (т. 1, 2000). Аўтар артыкулаў пра неаліт і эпоху бронзы Бел. Падзвіння, язычніцкія свяцілішчы, па гісторыі мастацтва (пра вытокі арнаменту і музыкі), навук.-папулярных прац.

*Тв.*: Першабытныя помнікі Паўночнай Беларусі. Мінск, 1990; Даследаванне культавага комплексу Ашмянец // ГАЗ. Мінск, 2002. № 17; Пахаванні з драўлянымі вёдрамі // Там жа. Мінск, 2005. № 20; Адрозненні ў пахавальным інвентары раннесярэднявечных славянскіх курганоў на тэрыторыі Беларусі: этнагенетычны і светапоглядны аспекты // Там жа. Мінск, 2006. № 21; Балто-славянские контакты в центральной и восточной Беларуси в средневековье (по данным археологии и письменных источников) // Acta Bałtico-Slavica. 2006. № 30.

**ЗАКО́Н РЭСПУ́БЛІКІ БЕЛАРУ́СЬ «АБ АХО́ВЕ ГІСТО́РЫКА-КУЛЬТУ́РНАЙ СПА́ДЧЫНЫ РЭСПУ́БЛІКІ БЕЛАРУ́СЬ»**. Прыняты Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь 13.11.1992 на падставе «Закона Беларускай ССР аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры» (14.7. 1978). У Закон унесены змяненні 22.3.1995, 7.7.1998, 14.5.2001, 24.7.2002. Новы Закон уступіў у сілу 9.1.2006. Змяшчае прынцыпы і асн. накірункі дзярж. палітыкі ў сферы аховы гісторыка-культ. спадчыны, якую вызначае Нац. сход Рэспублікі Беларусь і ажыццяўляе СМ праз Мін-ва культуры Рэспублікі Беларусь, яго прадстаўнікоў у мясц. органах. Закон дае вызначэнне гісторыка-культ. спадчыне, юрыдычна замацоўвае арганізацыю і забеспячэнне яе захаванасці, належнага ўтрымання, адпаведнага рацыянальнага выкарыстання, аднаўлення і папулярызацыі; аб'яўляе яе ўсеагульным нар. здабыткам, састаўной часткай сусветнай цывілізацыі. У ім пералічаны віды нематэрыяльных каштоўнасцей і матэрыяльных аб'ектаў (помнікі архітэктуры, гісторыі, горадабудаўніцтва, археалогіі, мастацтва і г.д.), якія падлягаюць уключэнню ў Дзярж. спіс гісторыка-культ. каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь (зацверджаны пастановамі СМ 14.5.2007, 3.9.2008, 19.8.2009), а таксама крытэрыі іх адбору і надання адпаведнага статусу. Кантроль за выкананнем патрабаванняў Закона ўскладзены на Мін-ва культуры Рэспублікі Беларусь і органы мясц. кіравання. Прадугледжаны неабходныя меры і ўмовы правядзення работ у зоне размяшчэння гісторыка-культ. каштоўнасцей, якія забяспечваюць іх захаванасць. Асобы, вінаватыя ў парушэнні Закона, пашкоджанні або знішчэнні гісторыка-культ. каштоўнасцей, прыцягваюцца да крымінальнай або адміністрацыйнай адказнасці.

**ЗАЛАТАМІНО́**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і селішча *калочынскай культуры* каля в. Залатаміно Кармянскага р-на Гомельскай вобл. За 1 км на ПнЗ ад вёскі, на беразе р. Аўсянка (прыток Сажа). Датуюцца 6—8 ст.

Г а р а д з і ш ч а. Мясц. назва Гарадок. На высокім роўным участку берагавой тэрасы. Выш. над поймай 6—7 м. Пляцоўка авальная, выцягнутая з ПнЗ на ПдУ, пл. 228 $м^2$. Умацавана 2 валамі (выш. ўнутранага 0,5—1 м, знешняга — 2 м) і ровам. У 1981, 1983 С.Я.Рассадзін даследаваў 196 $м^2$. Культ. пласт 0,2 м. Знойдзены абпаленыя камяні, магчыма, ад разбураных вогнішчаў. У цэнтры пляцоўкі яма званападобнай формы (1 × 1,15 × 1 × 25 м), дзе выяўлены рэшткі 2 вял. грубаляпных гаршкоў з дамешкамі жарствы ў гліне. Невял. памеры пляцоўкі, адсутнасць рэштак жылых і гасп. пабудоў даюць падставу меркаваць, што гарадзішча не было месцам пастаяннага жыхарства, а з'яўлялася гарадзішчам-сховішчам.

С е л і ш ч а за 0,1 км ад гарадзішча. Пл. каля 1 га. Культ. пласт 0,5 м. Знойдзены тыповыя для паселішчаў калочынскай культуры металургічныя шлакі, фр-ты керамікі, якая не адрознівалася ад знойдзенай на гарадзішчы. *С.Я.Рассадзін.*

**ЗАЛЕ́СКАЯ СЯДЗІ́БА**, драўляная сядзіба 17 ст. Размешчана за 1 км на З ад в. Залессе Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл., недалёка ад аўтадарогі Мінск—Вільнюс. Пасля 1725 набыта Агінскімі. Кампазіцыйным цэнтрам сядзібы з'яўляўся драўляны палац. З аднаго боку палаца быў гасп. двор, па перыметры якога размяшчаліся стайня, карэтная, хлявы, ляднік, кухня. Двор быў абнесены агароджай з 2-павярховай брамай. З другога боку палаца размяшчаўся шпалерны сад (рэгулярны парк). У пач. 19 ст. Міхал Клеафас Агінскі, кампазітар і дзярж. дзеяч, перабудаваў палац, але агульная планіроўка не змянілася.

Будынак прамавугольны ў плане з 4 алькежамі па вуглах, накрытымі шлемападобнымі дахамі, з мезанінам у цэнтр. частцы, меў гонтавы вальмавы дах складанай канфігурацыі. Гал. ўваход

аформлены 4-калонным порцікам. Сіметрычны яму ўваход з паркавага фасада выходзіў на галерэю.

У 1989 на месцы драўлянага палаца праведзены археал. даследаванні, поўнасцю ўскрыты падмуркі, складзеныя з вял. камянёў і цэглы-пальчаткі. Недалёка ад яго выяўлены рэшткі пабудовы, якая згарэла прыблізна ў 1-й пал. 17 ст. У магутным слоі вугалю знойдзены кавалкі гаршковай кафлі пач. 17 ст., паліванага і моранага посуду і інш. *Л.У.Іванова, В.Р.Кукуня, А.В.Квяткоўская.*

**ЗАЛЕ́ССЕ**, археалагічныя помнікі — паселішчы каля в. Залессе Чачэрскага р-на Гомельскай вобл.

П а с е л і ш ч а - 1 *верхнедняпроўскай культуры* за 0,5 км на ПнЗ ад вёскі, ва ўр. Востраў, паміж азёрамі Казённае і Уступ. Памеры 20 × 15 м. Выявіў у 1926 К.М.Палікарповіч. У 1964 даследаваў 64 м² І.І.Арцёменка. У 1976 абследавала А.Г. Калечыц. Культ. пласт 0,1—0,15 м, залягае непасрэдна пад дзёрнам. Знойдзены фр-ты таўстасценных вастрадонных гаршкоў з ямачна-грабеньчатым арнаментам, крамянёвыя прылады працы (скрэблы, ножа- і сякерападобныя пласцінкі). Датуецца 3-м тыс. да н.э.

П а с е л і ш ч а - 2 эпохі неаліту і бронзавага веку за 2 км на Пн ад вёскі, на паўн.-ўсх. беразе воз. Асухі, ва ўр. Карэнік. Выявіў у 1926 К.М.Палікарповіч. Абследавалі ў 1965 І.І.Арцёменка, у 1978 А.Г.Калечыц. Культ. пласт 0,15 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, фр-ты ляпной керамікі.

*Літ.:* К а л е ч и ц Е.Г. Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии. Минск, 1987.

*А.Г.Калечыц.*

**ЗАЛЬВЯ́НЫ**, археалагічныя помнікі — стаянкі эпохі мезаліту каля б. в. Зальвяны (цяпер у межах г. Масты) Мастоўскага р-на Гродзенскай вобл.

С т а я н к а - 1 на мысе тэрасы р. Зальвянка. Выявіў у 1958 Л.С.Клейн. Культ. пласт цёмнашэрага колеру. Знойдзены мезалітычныя рэтушныя разцы на пласцінах, канцавыя скрабкі, ганчарная кераміка позняга сярэдневякоўя і інш.

С т а я н к а - 2 за 0,8 км на З ад б. вёскі, на ПнЗ ад дарогі Масты—Кульшычы, на пясчаным павышэнні высокай левабярэжнай тэрасы р. Нёман. Выявіў у 1986 М.М.Чарняўскі. Знойдзены матэрыялы эпохі мезаліту. *М.М.Чарняўскі.*

**ЗА́МАК**, умацаваная сеньёральная рэзідэнцыя, сядзіба феадала. У 14—18 ст. на тэр. ВКЛ З. называліся таксама ўмацаваныя часткі гарадоў, якія развіліся з дзяцінцаў і вакольных гарадоў папярэдняга перыяду. Паводле буд. матэрыялу З. падзяляюцца на драўляныя і мураваныя.

У Беларусі З. пачынаюць будавацца з 12 ст. У 12—13 ст. яны былі пераважна драўляныя. У познім сярэдневякоўі працягвалі існаваць і ўзводзіліся новыя драўляныя З. (Езярышчанскі, Радашковіцкі, Дубровенскі, Шклоўскі і інш.). Вывучалі Э.М.Загарульскі, В.М.Ляўко. З 14 ст. з'яўляюцца мураваныя замкі. Раннія мураваныя замкі (Лідскі, Крэўскі) належаць да тыпу кастэляў (умацаваных лагераў, фартэцый), хоць пэўны час яны з'яўляліся сеньёральнымі рэзідэнцыямі. У плане яны нагадвалі чатырохвугольнік, па 2 супрацьлеглых вуглах якога ўзвышаліся вежы. Вывучалі М.А.Ткачоў, А.А.Трусаў, А.К.Краўцэвіч, І.М.Чарняўскі.

З 15 ст. распаўсюджваецца новы тып З. — канвентхаўз (канвентскі дом), асн. прыкметай якога было ўключэнне жылля ўладальніка (палаца) у лінію абарончых сцен (замкі ў гарадах Гродна, Мядзел, г.п. Любча Навагрудскага р-на, у в. Смаляны Аршанскага р-на і інш.). Вывучалі Ю.Ядкоўскі, З.Дурчэўскі, М.М.Варонін, М.А.Ткачоў, А.А.Трусаў, А.К.Краўцэвіч, І.М.Чарняўскі, Э.М. Загарульскі, Г.М.Сагановіч, Ю.А.Заяц. Мураваныя замкі ў Міры і Любчы даследавалі Ю.Ядкоўскі, М.А.Ткачоў, А.К.Краўцэвіч, А.А.Трусаў і І.М.Чарняўскі.

З к. 16 ст. распаўсюджваюцца замкі з бастыённымі ўмацаваннямі, спачатку мураванымі (г. Нясвіж), а потым землянымі з мураванымі брамамі (гарады Высокае, Заслаўе, Івацэвічы і інш.). Вывучалі І.У.Ганецкая, Ю.А.Заяц, А.А.Мяцельскі, М.А.Ткачоў, А.А.Трусаў). У бастыённых замках выкарыстоўваліся пэўныя сістэмы фартыфікацыі або спалучаліся элементы розных сістэм. Асн. цяжар абароны ў гэтых З. прыходзіўся на знешні абвод, а жылыя памяшканні, палацы выконвалі ролю прэстыжнай рэзідэнцыі феадала-магната.

Пры раскопках замкаў знойдзены рэшткі разбураных у розныя часы элементаў фартыфікацыі і забудовы палігона (пляцоўкі), якія дазваляюць прасачыць буд. гісторыю З. і дапамагаюць праектаваць іх рэстаўрацыю. Выяўлены прадметы матэрыяльнай культуры: буд. матэрыял і кафля, керамічны і шкляны посуд, скабяныя вырабы і металічная фурнітура, упрыгажэнні, узбраенне.

Гарады часта мелі некалькі З. У выпадках, калі іх было два, яны звычайна наз. Горні (Верхні) і Дольны (Ніжні). Умацаванні такіх З. былі ў большасці сваёй знішчаны пры пашырэнні забудовы і перапланіроўцы гарадоў. Гар. З. Беларусі вывучалі ў Браславе М.А.Ткачоў; у Віцебску М.А.Ткачоў, В.М.Ляўко, Т.С.Бубенька, Л.В.Калядзінскі; у Дзісне і Друі В.Я.Зайцава; у Клецку В.С.Пазднякоў; у Крычаве М.А.Ткачоў, А.А.Мяцельскі; у Магілёве М.А.Ткачоў, І.А.Марзалюк; у Мазыры А.А.Трусаў, Т.С.Бубенька; у Мінску В.Р.Тарасенка; у Навагрудку Ф.Д.Гурэвіч, М.У.Малеўская, М.А.Ткачоў; у Оршы Ю.І.Драгун, В.М.Ляўко; у Полацку В.А.Булкін, С.В.Тарасаў, Д.У.Дук; у Рагачове М.М.Шчакаціхін, Э.М.Загарульскі, Ю.А. Заяц.

*Літ.*: Т к а ч о ў М.А. Замкі Беларусі (XIII—XVII ст.). Мінск, 1977; Ч а н т у р и я В.И. История архитектуры Белоруссии. 2 изд. Минск, 1977; Я г о ж. Памятники архитектуры и градостроительства Белоруссии. Минск, 1986; З а я ц Ю.А. Замкі // Археалогія Беларусі. Мінск, 2001. Т.4.

*Ю.А.Заяц.*

**ЗАМАСЦЯ́НЫ**, археалагічныя помнікі — селішчы каля в. Замасцяны Ваўкавыскага р-на Гродзенскай вобл.

С е л і ш ч а - 1 на ўсх. і паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, на левым беразе р. Рось. Выявіла ў 1958 Ф.Д.Гурэвіч. Абследавалі ў 1984 Я.Г.Звяруга, у 1988 В.У.Шаблюк. У культ. пласце таўшч. 0,4—0,5 м выяўлены фр-ты стараж.-рус. керамікі. Найб. колькасць знаходак адносіцца да 16—18 ст.: гліняны посуд, кафля, курыльная люлька. Паводле картаграфічных даных, у к. 18 ст. на гэтым месцы знаходзіўся двор феадала.

С е л і ш ч а - 2 за 0,15 км на З ад вёскі. Сярод знаходак кераміка позняга сярэдневякоўя, косці жывёл, каваныя цвікі, рыжскі солід шведскага караля Густава II Адольфа 1-й пал. 17 ст.

*В.У.Шаблюк.*

**ЗАМО́К**, прыстасаванне для замыкання дзвярэй, куфраў, шафаў, ланцугоў і інш. У дзяржавах Стараж. Усходу вядомы з 2-га тыс. да н.э. На тэр. Беларусі ва ўжытку з 10—11 ст. Падзяляліся на навясныя (здымныя) і нерухомыя (унутраныя). Асновай канструкцыі жал. навясных З. да 16 ст. быў спружынны механізм, П-падобная дужка-скаба і корпус, які складаўся з вял. і малога цыліндраў. Пры дапамозе ключа, які ўводзіўся ў корпус, спружыны сціскаліся і дужка магла рухацца ўверх. Паводле формы корпуса, ключа і ключавой адтуліны цыліндрычныя З. падзяляліся на шматлікія тыпы, у т.л. індывідуальныя з асабліва складанай канструкцыяй. Унутраныя З. таксама мелі падобную канструкцыю: цыпелем ключа ўціскалася спружына, і засаўка перасоўвалася. У 16 ст. на тэр. Беларусі паявіліся навясныя З. новай канструкцыі з круглым, прамавугольным альбо трохвугольным корпусам і дужкай на шарніры, якая свабодна адкідвалася. Іх механізм быў значна прасцейшы за папярэдні — свабодны канец дужкі заціскаўся пласцінкай-засаўкай, якую адсоўвалі паваротам ключа. З 17 ст. вядомы вінтавыя З. (аснова канструкцыі — гарызантальны цыліндр, у якім трубка з разьбой унутры і спіралепадобнай спружынай звонку) і З. т.зв. «шведскага» тыпу (у вертыкальным цыліндры корпуса была шпуля, якая замыкала дужку сваім рабром).



*Замкі 17 ст. з Мінскага замчышча.*

*Літ.*: К о л ч и н Б.А. Железообрабатывающее ремесло Новгорода Великого // МИА. 1959. № 65; С а г а н о в и ч Г.Н. Результаты изучения некоторых категорий продукции кузнечного ремесла Белоруссии XIV—XVIII вв. // Древнее производство, ремесло и торговля по археологическим данным: тез. докл. IV конф. молодых ученых Ин-та археологии АН СССР. М., 1988.

*Г.М.Сагановіч.*

**ЗАМО́ШША**, археалагічны помнік — стаянка *кундскай культуры* ранняга мезаліту каля в. Замошша Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобл. За 2,5 км на ПнЗ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Зах. Дзвіна. Выш. 11,5 м. Адкрыў і даследаваў 732 $м^2$ у 1983—85 У.П.Ксяндзоў. Культ. пласт разбураны ворывам, другасным засяленнем тэр. помніка ў сярэднія вякі. Культ. рэшткі эпохі мезаліту сустракаюцца на глыб. 0,35—0,55 м ад сучаснай паверхні. Сабрана 7506 вырабаў з крэйдавага крэменю цёмна-шэрага, карычневага ці чорнага колераў, з якіх 5245 адшчэпаў, 992 пласціны, 73 нуклеусы. З 970 прылад працы — 31 адз. наканечнікаў стрэл. З іх 1-ы тып утвараюць наканечнікі, чаранок якіх вылучаны з боку спінкі выемкамі па абодвух краях крутой рэтушшу і апрацаваны плоскай рэтушшу з брушка. Вастрыё натуральнае альбо апрацавана плоскай рэтушшу, ці паўкрутой па адным ці абодвух краях. Да 2-га тыпу адносяцца наканечнікі, чаранок якіх вылучаны толькі выемкамі з боку брушка паўкрутой рэтушшу. Трэці тып складаюць кундскія наканечнікі з вылучаным сустрэчнай паўкрутой рэтушшу чаранком. Вастрыё натуральнае, апрацавана плоскай рэтушшу з брушка, паўкрутой аднабаковай альбо сустрэчнай па абодвух краях. Чаранок востры, праколкападобны. Знойдзены наканечнік з выемкай ля чаранка і плоскай рэтушшу на брушку пяра. У адзінкавых экземплярах маюцца прылада з папярочным лязом і наканечнік, чаранок і вастрыё якога афармлены вузкімі разцовымі сколамі. Знойдзены шматлікія і разнастайныя ўкладышавыя прылады (366 экз.). Выразнымі серыямі на помніку прадстаўлены скрабкі — 153 экз., сярод якіх пераважаюць канцавыя, але сустракаюцца і вырабы з авальным рабочым краем, мікраскрабкі і бакавыя, скрэблы — 14 экз. Разцы — 56 экз. на вугле зламанай пласцінкі. Сярод інш. прылад — ланцэтападобныя вастрыі (7), праколкі (17), свердлы-правёрткі (10), скоблі (106), рэтушоры (25).

*Літ.*: К с е н з о в В.П. Мезолит северной и центральной Беларуси // МАБ. 2006. № 13. *І.М.Язэпенка.*

**ЗАМО́ШША**, археалагічны помнік — гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры*, за 0,3 км на ПдЗ ад в. Замошша Полацкага р-на Віцебскай вобл., на ўзгорку выш. да 14 м, сярод забалочанай мясцовасці. Пляцоўка памерамі 53 × 37 м, уздоўж якой вал выш. да 2 м. У 1949 абследаваў А.Р.Мітрафанаў, у 1977 Г.В.Штыхаў даследаваў 16 $м^2$, у 1977—80 В.І.Шадыра — 500 $м^2$. Культ. пласт

0,5—2,5 м. У ніжнім гарызонце пласта выяўлены рэшткі агнішчаў, круглыя ямы дыям. 2,5—3 м і глыб. 0,6—1 м, запоўненыя вугалем, касцямі жывёл, абломкамі посуду, разнастайнымі вырабамі з каменю, косці, абпаленымі камянямі. Яны звязаны з рэшткамі жытлаў-зямлянак, якія рэканструююцца ў выглядзе будана з канічным дахам. Гэта найб. ранні тып канструкцыі жытлаў, выяўленых на гарадзішчах Беларусі. Сярод каменных прылад — клінападобныя і свідраваныя сякеры, зерняцёркі, цёрачнікі, таўкачы, прасліцы. Знаходкі з косці (больш за 200) прадстаўлены прыладамі працы (долаты, прасліцы, шылы, праколкі, іголкі), зброяй (наканечнікі дзідаў, дроцікаў, стрэл, ручкі кінжалаў, баявых нажоў), упрыгажэннямі (шпількі, падвескі, амулеты) і інш. Сярод знаходак — касцяныя шпількі з вытанчанай формай галоўкі, якія з'яўляюцца спецыфічнымі прадметамі ўбрання стараж. балтаў, маюць шматлікія аналагі ў Прыбалтыцы; датуюцца — 8—7 ст. да н.э. У верхніх пластах знойдзены фр-ты жал. вузкалязовых сякер, сярпы з прамавугольнай спінкай, характэрныя толькі для гарадзішчаў Бел. Падзвіння, сярпы латгальскага тыпу, шылы. Сабраны абломкі глінянага посуду слоікападобных і слабапрафіляваных форм. Для слоікападобных гаршкоў характэрны адтуліны на венчыку. Слабапрафіляваныя пасудзіны арнаментаваны пракрэсленымі лініямі ці скразнымі адтулінамі. Зрэдку сустракаецца штрыхаваная кераміка.

*Літ.*: Шадыра В.І. Гарадзішча Замошша // ПГКБ. 1980. № 2; Я г о ж. Ранний железный век Северной Белоруссии. Минск, 1985; Я г о ж. Беларускае Падзвінне (I тысячагоддзе н.э.). Мінск, 2006.

*В.І.Шадыра.*

**ЗАМО́ШША**, археалагічны помнік — курганны могільнік 10 — пач. 11 ст. каля в. Замошша Талачынскага р-на Віцебскай вобл. За 0,4 км на Пд ад вёскі. 13 моцна абараных насыпаў паўсферычнай формы, выш. 1,5—2 м, дыям. 5—15 м. Абследавалі ў 1967 Г.В.Штыхаў, у 1972 А.Р.Мітрафанаў. У 1972 З.М.Сяргеева раскапала 3 курганы на знос з захаваннем броўкі шыр. 1 м. Пахавальныя абрады — трупапалажэнне і трупаспаленне. Знойдзены абломак масіўнага жал. прадмета, цэлае гліняныя вядзерца з вушкам і лінейным арнаментам, фр-т жал. нажа з шырокай спінкай, бронзавыя літыя накладкі на пояс з раслінным арнаментам, кераміка, косці чалавека, каня, дробных жывёл. Аналагі маюцца ў Люцынскім могільніку (10—11 ст.; цяпер Латвія) і Гняздоўскіх курганах (10 ст.; Расія).

*Літ.*: Штыхов Г.В. Археологическая карта Белоруссии. Вып. 2. Памятники железного века и эпохи феодализма. Минск, 1971. *В.М.Ляўко.*

**ЗА́МЧЫШЧА**, месца з рэшткамі разнастайных сярэдневяковых умацаванняў, якія ўключалі комплекс абарончых і жылых пабудоў на тэр. дзяцінца (земляныя валы са сценамі, вежамі, равы і інш. элементы абароны). На тэр. Беларусі З. наз. рэшткі ўмацаваных паселішчаў розных часоў, якія ўключалі гарадзішчы, гар. цытадэлі, каралеўскія і прыватнаўласніцкія замкі. На даследаваных З. (гарады Ваўкавыск, Мінск, Навагрудак, Полацк і інш.) выяўлены драўляныя і мураваныя фартыфікацыйныя збудаванні, прадметы матэрыяльнай культуры (зброя, посуд, буд. і ваенны рыштунак, архіт.-дэкаратыўная кераміка).

**ЗАМЯ́ТНІН** Сяргей Мікалаевіч (21.4.1899, г. Паўлаўск Варонежскай вобл., Расія — 5.11.1958), расійскі археолаг. Скончыў Маскоўскі археал. ін-т (1920). З 1915 у варонежскіх музеі і ун-це. З 1924 у Ленінградзе, працаваў у Дзярж. акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры, ІГ матэрыяльнай культуры, Музеі антрапалогіі і этнаграфіі. У выніку раскопак у Касцёнках (цяпер Варонежская вобл., 1922) адкрыў першыя на тэр. СССР помнікі шэльскай і ашэльскай эпох, верхнепалеалітычную стаянку Гагарына на Доне, даследаваў інш. помнікі каменнага веку (Ільская, Валгаградская стаянкі, грот Сасруко). Зрабіў перыядызацыю палеаліту Каўказа. У Беларусі даследаваў (1927) адну з найб. стараж. верхнепалеалітычную стаянку *Бердыж*, устанавіў яе храналагічную блізкасць да помнікаў Касцёнкі-1 на Доне, Вілендорф (Аўстрыя), Дольні-Вестаніцы (Чэхія). Праўдзейны чл. Міжнар. антрапалагічнага ін-та ў Парыжы (1927), ганаровы чл. Каралеўскага ан-



*Крамянёвы інвентар са стаянкі **Замошша** Верхнядзвінскага р-на.*

трапалагічнага ін-та Вялікабрытаніі і Ірландыі (1943).

*Тв.*: Раскопкі Бердыжскай палеалітычнай стаянкі ў 1927 г. Мінск, 1930.

**ЗАПАВЕ́ДНІК ГІСТО́РЫКА-КУЛЬТУ́РНЫ**, пэўны ўчастак тэрыторыі з помнікамі гісторыі, культуры і археалогіі, дзе ўстаноўлены запаведны рэжым. Ствараецца дзяржавай для аховы, вывучэння, захавання помнікаў і прапаганды ведаў пра іх. Можа ўключаць музей. Мае асаблівы юрыдычны статус. На тэр. Беларусі дзейнічаюць *Заслаўскі гісторыка-культурны музей-запаведнік* і *Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік*. *Дз.В.Кашавар.*

**«ЗАПІ́СКІ АДДЗЕ́ЛА ГУМАНІТА́РНЫХ НАВУ́К»**, серыйнае навуковае выданне Інстытута беларускай культуры (кн. 1—6) і АН БССР (кн. 7—13). Выдаваліся ў 1927—30 у Мінску на бел. мове. Змяшчалі матэрыялы па гісторыі, археалогіі, філалогіі, мастацтвазнаўстве, этнаграфіі, тэзісы дакладаў, нататкі, хронікі археал. і этнагр. экспедыцый. Матэрыялы па археалогіі Беларусі змешчаны ў кн. 5 «*Працы кафедры археалогіі*» (1928), кн. 11 «*Працы археалагічнай камісіі*» (1930).

**«ЗАПІ́СКІ БЕЛАРУ́СКАЙ АКАДЭ́МІІ НАВУ́К»**, выданне Акадэміі навук БССР. Выходзіла ў 1933—37 (кн. 1—7) у Мінску на бел. мове. Друкаваліся матэрыялы па розных галінах навукі. У кн. 5 (1936) змешчаны арт. А.М.Ляўданскага і К.М.Палікарповіча «Археалагічныя доследы ў БССР у 1933—34 гг.», у якім аналізуюцца археал. даследаванні секцыі археалогіі ІГ АН Беларусі ўздоўж Зах. Дзвіны ад вытокаў да мяжы з Латвіяй. На думку аўтараў, шлях «з варагаў у грэкі» праходзіў цераз верхняе Дняпро, рэкі Касспля, Зах. Дзвіна, Усвятволак, Ловаць, воз. Ільмень. Пададзены вынікі даследаванняў гарадзішчаў каля б. в. Цербахунь Віцебскага р-на, дзе выяўлена печ-домніца, і гарадзішчаў Дзявічкі, Сцяпанавічы, Новы Болецк з рэшткамі аналагічных печаў. На падставе прадастаўленых матэрыялаў аўтары прыйшлі да вываду, што эпоха патрыярхальнага грамадства звязана з развіццём матычнага, ляднага земляробства, шырокім выкарыстаннем у якасці цяглавай сілы свойскай жывёлы. *Г.В.Штыхаў.*

**«ЗАПИ́СКИ ИМПЕРА́ТОРСКОГО АРХЕОЛОГИ́ЧЕСКОГО О́БЩЕСТВА»**, перыядычнае ілюстраванае выданне, якое выходзіла ў 1886—1901 (12 тамоў) у Санкт-Пецярбургу на рус. мове. Друкавала пратаколы пасяджэнняў Рус. археал. т-ва, спісы рус. і іншаземных яго членаў, рус. і замежную бібліяграфію, геаграфічныя і імянныя паказальнікі. У ім публікаваліся працы аддзялення рус. і слав. археалогіі, аддзялення стараж.-класічнай, візантыйскай і зах.-еўрап. археалогіі, у т.л. звесткі пра даследаванні курганоў У.Б.Антановічам, М.Я.Брандэнбургам, У.З.Завітневічам, Т.Нарбутам, Е.Р.Раманавым, У.І.Сізовым, М.М. Турбіным, К.П.Тышкевічам, А.С.Уваравым, М.В. Фурсавым, С.Ю.Чалоўскім у Магілёўскай губ., К.А.Гаворскім, М.Ф.Кусцінскім, Е.Р.Раманавым, А.М.Семянтоўскім у Віцебскай губ., Э.А.Вольтэрам і В.А.Шукевічам на Гродзеншчыне, пра радзіміцкія курганы ў Навазыбкаўскім і Суражскім пав., жальнікі Беларусі ў работах А.А.Спіцына, вынікі даследаванняў кургана ў Хізаве на Гомельшчыне.

**«ЗАПИ́СКИ СЕ́ВЕРО-ЗА́ПАДНОГО ОТДЕ́ЛА РУ́ССКОГО ГЕОГРАФИ́ЧЕСКОГО О́БЩЕСТВА»**, часопіс, орган Паўночна-Заходняга аддзела Рускага геаграфічнага таварыства. Выдаваўся ў 1910—14 у Вільні на рус. мове. Выйшлі 4 кнігі. Рэдактар Дз.І.Даўгяла. Асвятляў дзейнасць аддзела, змяшчаў матэрыялы па геаграфіі, этнаграфіі, фальклоры, геалогіі, археалогіі, гісторыі і інш., друкаваў рэцэнзіі і агляды л-ры. Найб. значныя публікацыі: «Напаўпрыказкі і напаўпрымаўкі, якія ўжываюцца ў Віцебскай Беларусі» М.Я.Нікіфароўскага (кн. 1—4); «Сялянскае вяселле ў Віцебскай Беларусі» В.В.Іванова (кн. 3); «Паездка па Палессі летам 1912 г.» І.А.Сербава (кн. 4); «Жніўныя песні ў Барысаўскім павеце (Мінскай губерні)» М.Я.Белацаркаўца (кн. 3); «Сялянскае вяселле ў Паўднёвым Палессі» Б.Сцепанца (Ф.А. Кудрынскага, кн. 1); «Да гісторыі Паўночна-Заходняга аддзела» Дз.І.Даўгялы (кн. 1—2); «Старажытныя рускія прыказкі» (кн. 1, 3), «Па Гродзенскім Палессі» (кн. 2), «Знешні побыт быхаўскага беларуса» (кн. 2), «Альбом мастака Д.М.Струкава як вынік экспедыцыі па Паўночна-Заходнім краі ў 1864 г.» (кн. 3) Е.Р.Раманава, «Масонскія ложы ў Літве» (кн. 2) і «Нарысы з гісторыі масонства ў Літве» (кн. 4) С.Ф.Дабранскага. *Г.А.Пятроўская.*

**ЗАПРУ́ДДЗЕ**, археалагічны помнік — гарадзішча каля в. Запруддзе Глыбоцкага р-на Віцебскай вобл. За 1 км на ПнЗ ад вёскі, у цэнтры высокай грады, што цягнецца ўздоўж берага Сетаўскага воз. Мясц. назва — Маяк. Пляцоўка авальнай формы, памерамі 67 × 55 м, выш. 12—15 м, пашкоджана акопамі часоў 1-й сусветнай вайны. У 1997—98 А.М.Мядзведзеў даследаваў 64 м$^2$. Выяўлена паглыбленая ў зямлю жылая пабудова прамавугольнай (4,5 × 4,5 м) формы з выступам. Мае слупавую частакольную канструкцыю сцен з цэнтр. апорным слупам. Знойдзены вырабы (68 адз.): з каменя (2 клінападобныя сякеры), косці (наканечнікі стрэл і дроцікаў, дзіды, муфта, долаты, праколкі, нарыхтоўка для сякеры), гліны (праселкі), бронзы (вісочнае кольца) і жалеза (вузкалязовая сякера, дзіда, серп, кручок). Ляпны керамічны посуд (1180 фр-таў) паводле спосабу апрацоўкі знешняй паверхні падзяляецца на 4 тыпы: гладкасценны (пераважае), гладкасценны «бугрысты», штрыхаваны, шурпаты. Па формах пераважаюць гаршкі бляшаначнай і прафіляванай форм. Помнік датуецца к. 1-га тыс. да н.э. — 3—4 ст. н.э., належыць да *днепра-дзвінскай культуры*. *А.М.Мядзведзеў.*

**ЗАРО́НАВА**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і селішча каля в. Заронава Віцебскага р-на. За 3 км на У ад вёскі, на гары выш. 18 м у выгіне р. Утва. Пляцоўка г а р а д з і ш ч а 60 × 30 м, па краі быў вал, з паўн. боку на схіле — 2 валы і равы. Гарадзішча амаль поўнасцю знішчана ў 1960-я г. пры распрацоўцы гравійнага кар'ера. У 1964 К.П.Шут даследаваў 24 м$^2$. Гарадзішча двухслаёвае. Знойдзена ляпная кераміка днепра-дзвінскай культуры, абломкі посуду з тэкстыльным арнаментам 2-й пал. 1-га тыс. да н.э. і невялікая колькасць арнаментаванай расчосам керамікі кіеўскай культуры 4 ст.

З Пд і У да гарадзішча прымыкае с е л і ш ч а. Яго пл. каля 1 га. Выяўлена ляпная кераміка банцараўскай культуры.

*Літ.*: Ш т ы х о в Г.В. Археологическая карта Белоруссии. Вып. 2. Памятники железного века и эпохи феодализма. Минск, 1971; П о б о л ь Л.Д. Археологические памятники Белоруссии. Железный век. Минск, 1983.

*Г.В.Штыхаў.*

**ЗАРУБІНЕ́ЦКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура плямён, якія ў раннім жал. веку жылі ў Сярэднім і Верхнім Падняпроўі, Прыпяцкім Палессі. Назва ад могільніка каля с. Зарубінцы на Кіеўшчыне, адкрытага ў 1899. Насельніцтва З.к.




*Посуд і рэчы з пахавальных комплексаў* ***зарубінецкай культуры*** *ў Прыпяцкім Палессі і Верхнім Падняпроўі. А: 1—5, 10—14, 17—20 — Велямічы-1; 6—9 — Вароніна; 15—16 — Велямічы-2; 21—26 — Сямурадцы. Б: 1—25 — Чаплін.*

займалася земляробствам і жывёлагадоўляй. Глебу апрацоўвалі драўлянымі раламі. Асн. збожжавай культурай было проса, сеялі пшаніцу, ячмень, гарох. Статак складваўся з буйной рагатай жывёлы, свіней, коней і дробнай рагатай жывёлы. Палявалі на лася, зубра, дзіка, мядзведзя, казулю, займаліся рыбалоўствам. Шырока распаўсюджаны былі каляровая металургія і метала-

*Да арт. **Зарубінецкая культура**. Планы: 1 — гарадзішча Чаплін (паводле Л.Д.Побаля); 2 — паселішчаў-1, 2 і могільнікаў каля в. Велямічы (паводле Ю.У.Кухарэнкі); 3 — даследаванай часткі могільніка Велямічы-2; 4 — пахавання 60 з могільніка Велямічы-1; 5 — даследаванай часткі селішча Хотамель-2; 6 — рэканструкцыя жытла на селішчы Хотамель-2 (паводле Г.М.Бяліцкай).*


















апрацоўка, кавальства, пра што сведчаць прылады працы — тыглі, льячкі, ліцейныя формы, злíткі бронзы. Дастаткова высокага ўзроўню развіцця дасягнула керамічная вытворчасць. З хатніх рамёстваў былі пашыраны ткацтва, дрэваапрацоўка, кастарэзная і гарбарная справы. Насельніцтва З.к. мела племянную арганізацыю грамадства, аснову якога складала малая сям'я. Існавалі сувязі з латэнскім і антычным светам, што знайшло адлюстраванне ў шматлікіх рэчах (фібулы, бранзалеты, пацеркі і інш.), тэхналогіях, тэндэнцыях моды. На фінальнай стадыі развіцця культуры ў Верхнім Падняпроўі, Прыпяцкім Палессі пашырыліся кантакты з паўн. суседзямі, з'явіўся посуд з крыху штрыхаванай паверхняй і хаатычнымі расчосамі грабеньчыкам. З 1 ст. адбыўся адток часткі зарубінецкага насельніцтва на З (Падляссе), ПдЗ (Валынь), Пн (Панямонне), у вярхоўі р. Дняпро. З сяр. 1 ст. З.к. ў класічным варыянце перастала існаваць. Мяркуюць, паходжанне З.к. звязана з прытокам пэўных груп насельніцтва з ПдЗ. Этнічная прыналежнасць застаецца няяснай. З.к звязваюць з бастарнамі, балтамі альбо праславянамі.

На падставе асаблівасцей домабудаўніцтва, пахавальнага абраду і керамічнага комплексу вылучаюць 3 варыянты З.к.: верхнедняпроўскі і палескі — на тэр. Беларусі, сярэднедняпроўскі — на тэр. Украіны. Верхнедняпроўскі варыянт прадстаўлены 2 групамі помнікаў — *Чаплін—Гарошкаў*, *Кісцяні—Чачэрск*. У Верхнім Падняпроўі насельніцтва З.к. пражывала на гарадзішчах і селішчах, карысталася ўмацаванымі паселішчамі, узведзенымі ў папярэдні перыяд плямёнамі мілаградскай культуры. Найб. даследаваны ў гэтым рэгіёне археал. комплекс каля в. Чаплін Лоеўскага р-на на р. Дняпро. Асн. тыпам жылой пабудовы ў Верхнім Падняпроўі з'яўляліся наземныя ці са злёгку апушчанай у зямлю асновай аднакамерныя жытлы слупавой канструкцыі, прамавугольныя альбо квадратныя ў плане пл. 9—22 $м^2$; ацяпляліся адкрытымі альбо выкладзенымі з камення агнішчамі. У Прыпяцкім Палессі гал. тыпам паселішчаў з'яўляліся неўмацаваныя селішчы (пл. некаторых з іх перавышала 3 га) па берагах рэк, ручаёў і азёр, на выш. 2—4 м над узроўнем вады. Яны забудоўваліся паўзямлянкачнымі жытламі са зрубавай канструкцыяй сцен (*Велямічы*, *Рамель*, *Струга*-1, *Хотамель*-2) альбо слупавой (*Давыд-Гарадок*-4, Хотамель-2), няправільнай прамавугольнай альбо амаль квадратнай формы пл. 14—24 $м^2$; ацяпляліся глінабітнымі печамі альбо агнішчамі. У Сярэднім Падняпроўі на гарадзішчах і селішчах дамінавалі няправільнай прамавугольнай у плане формы пабудовы з заглыбленай падлогай і плятнёва-каркаснай канструкцыяй сцен, якія ацяпляліся агнішчамі. Зафіксаваны збудаванні пл. 4—8 $м^2$ без ацяпляльнай сістэмы (*Рубель*); гасп. пабудовы ў выглядзе ям-сховішчаў, прыстасаванне для абпалу керамічнага посуду, культавая пляцоўка з чэрапам каня, сківіцамі і інш. косткамі жывёл, фр-тамі посуду, упрыгажэннямі, побытавымі рэчамі (Хотамель-2). Могільнікі Верхняга Падняпроўя даследаваліся каля вёсак Чаплін, Юркавічы, Гарошкаў; Сярэдняга Падняпроўя — Пірагова, Карчаватае, Дзедаў Шпіль; Палесся — Атвержычы, Варані, Велямічы, Пагост, Рамель, Сямурадцы. Яны размяшчаліся паблізу паселішчаў з напольнага боку. Асн. абрад — трупаспаленне па-за межамі магіл. Пахаванні чарапоў вядомы на могільніках Велямічы-2, Карчаватае, трупапалажэнні



Аўтар Г.М. Бяліцкая

выяўлены толькі на могільніках Сярэдняга Падняпроўя (Пірагова, Карчаватае, Дзедаў Шпіль). Зрэдку сустракаліся *кенатафы*. Пахаванні адбываліся ў круглых, авальных альбо няправільнай прамавугольнай формы ямах глыб. 0,2—1,2 м ад сучаснай паверхні. Арыентацыя падоўжаных ям звычайна звязана з напрамкам рэчышча ракі: у Палессі і Верхнім Падняпроўі — паралельна яму, у Сярэднім Падняпроўі — перпендыкулярна. Вылучаюцца пахаванні некалькіх тыпаў: чыстыя ямныя (крэміраваныя косткі без рэштак пахавальнага вогнішча на дне ямы), урнавыя (рэшткі крэмацыі ў посудзе на дне ямы), змешаныя (частка крэміраваных костак у посудзе, астатнія — побач на дне ямы), перамешаныя з косткамі, рэштакамі пахавальнага вогнішча (вуголлем і попелам). Пахавальны інвентар — часцей за ўсё гаршкі, міскі і кубкі, радзей — дэталі касцюма, упрыгажэнні, прылады працы, зброя. Матэрыяльная і духоўная культура зарубінецкага насельніцтва мела характар *латэнскай культуры*. Гэта прасочваецца ў формах фібул, у некаторых тыпах жал. прылад працы і ўзбраення (сякер, сярпоў, навершаў дзід і дроцікаў), асобных прыёмах афармлення гліняннага посуду, звычаях змяшчаць у пахаванні ўпрыгажэнні і зброю. Усе знойдзеныя на паселішчах і могільніках З.к. пасудзіны — ляпныя. Для прыгатавання фармовачнай масы выкарыстоўвалі пластычныя пароды гліны, жарстве, шамот, здрабнёную руду, пясок. Посуд фармавалі ўручную тэхнікай спіральна-жгутавага налепу. Для глянцаванага посуду, на апошняй стадыі фармоўкі, прымянялі паваротную падстаўку (прататып ганчарнага кола). Па тэхніцы апрацоўкі вонкавай паверхні ўсю зарубінецкую кераміку ўмоўна падзяляюць на 3 групы. Самую шматлікую з іх (характэрна для паселішчаў) складаюць грубаляпныя пасудзіны з гладкасценнай паверхняй, якія прызначаліся для прыгатавання ежы і захавання прадуктаў. Другую групу ўтварае посуд з глянцаванай паверхняй, які звычайна змяшчалі ў магілы ў якасці урнаў ці пахавальнага інвентару, а на паселішчах ужывалі ў якасці сталовага посуду. Часам сустракаюцца пасудзіны са спецыяльна апрацаванай храпаватай паверхняй, якія выкарыстоўвалі для захавання прадуктаў харчавання. Невял. колькасць посуду арнаментавана ямкамі, насечкамі, пазногцевымі ўціскannямі, з занальнымі расчосамі грабеньчыкам, праглянцаванымі пасамі, наляпнымі валікамі, шышкамі, падкоўкамі. Глянцаваны і грубаляпны посуд адрозніваецца паміж сабой складам фармовачнай масы і арнаментацыяй. У керамічным комплексе прысутнічаюць гаршкі, карчагі, збаны, міскі, кубкі, кілішкі, патэльні, дыскі-накрыўкі. На помніках З.к. знойдзены прасліцы з гліны, грузілы праснакападобнай альбо канічнай формы, жал. прылады працы — вузкалязовыя сякеры-кельты з прамавугольнай утулкай у абушковай частцы, сярпы, нажы, шылы, іголкі, кручкі




*Да арт.* ***Зарубінецкая культура.*** *Посуд і рэчы з позназарубінецкіх помнікаў: 1 — Чачэрск; 2, 7—11; 16—20 — Курадава; 3 — Атвержычы; 4 — Чырвонае Сяло; 5, 6, 12—15 — Давыд-Гарадок-3.*

для лоўлі рыбы, аднашыпавыя восці, наканечнікі рала; рыштунак конніка, цуглі з псаліямі і інш. У шэрагу пахаванняў — прадметы ўзбраення: невял. жал. навершы дзід розных форм. Характэрны атрыбут адзення насельніцтва З.к. — бронзавыя і жал. фібулы сярэдне- і позналатэнскай схемы; фібулы т.зв. зарубінецкага тыпу з трохвугольным шчытком сталі этнагр. прыналежнасцю. Сярод прадметаў асабістага ўбору і ўпрыгажэнняў — бронзавыя (радзей жал.) шпількі (з кола-, цвіка- і посахападобнай формамі галоўкі — агульныя тыпы для ўсіх рэгіёнаў культуры), бранзалеты, кольцы, падвескі (характэрныя — трапецападобныя з адтулінай для падвешвання ў верхняй частцы), паясныя спражкі і кручкі-скрэпы, пацеркі. У Атвержычах знойдзены фр-т скуранога пояса з кручком у выглядзе жал. пласціны, пакрытай бронзавым арнаментальным лістом. Падобныя вырабы вядомы ў ясторфскай культуры, а арнаментальны матыў — увагнутыя падкоўкі — распаўсюджаны сярод кельцкіх і ілірыйскіх старажытнасцей 2—1 ст. да н.э.

Позназарубінецкія групы помнікаў фарміраваліся ў перыяд крызісу З.к., фінал якой прыпадае на 40—70-я г. Пра пачатак іх фарміравання сведчаць знаходкі зарубінецкіх фібул на помніках Грынявічы-Вельке (Падляскае ваяводства, Польшча), Чырвонае Сяло, Падрось (Гродзенская вобл.) і Бытча, адначасова пазначаючы паўн. рубеж новай культ.-храналагічнай з'явы. З пач. 1 ст. адбываліся міграцыі насельніцтва палескага варыянта З.к. ў паўд. і зах. напрамках, на тэр. Валыні і Падляссе. Позназарубінецкія групы ўтвараюць агульны культ. гарызонт, спалучаны ў залежнасці ад тэр. распаўсюджання з традыцыямі штрыхаванай керамікі, юхнаўскай, сармацкай, пшэворскай культур. У апошняй чв. 2 ст. міграцыя носьбітаў вельбарскай культуры раздзяліла бугска-нёманскую і прыпяцкую групоўкі позназарубінецкага насельніцтва, перашкаджаючы іх тэрытарыяльнаму аб'яднанню. Верхняя дата бытавання позназарубінецкай групы помнікаў абмежавана к. 2 — сяр. 3 ст. і звязана з пачаткам функцыяніравання кіеўскай і чарняхоўскай культур. Вылучаюць групы помнікаў: тыпу Люцеж у Сярэднім Падняпроўі, тыпу Грыні ў Верхнім і Сярэднім Падняпроўі, тыпу Почап у парэччы Дзясны, тыпу Картамышава-2, Цецераўка-2 у лесастэпавай зоне Дняпроўскага Левабярэжжа, тыпу Рахны ў вярхоўях Паўд. Буга, тыпу Курадава ў Прыпяцкім Палессі, тыпу Радасць—Грынявічы-Вельке, Падрось у міжрэччы Зах. Буга і Нёмана. У культ. і храналагічным плане да іх далучаецца зубрыцкая (валына-падольская) група помнікаў. З вынікаў даследавання помнікаў позназарубінецкага гарызонта становіцца зразумелым, што яны не з'яўляюцца непасрэдным працягам развіцця З.к., а сталі новай культ.-гіст. агульнасцю. Даследаваны паселішчы, могільнікі (Рахны, Радасць) і асобныя пахаванні (Грынявічы-Вельке, Чырвонае Сяло), якія размяшчаліся па краях 1-й надпоймавай тэрасы альбо на ўзвышшах сярод поймы. Асн. тып жытла — прамавугольныя ў плане паўзямлянкі глыб. 0,2—1 м ад сучаснай паверхні са зрубавай, слупавой альбо плятнёва-каркаснай канструкцыяй сцен. Паўзямлянкі з цэнтр. апорным слупом дамінавалі на селішчах почапскай групы, сустракаюцца таксама на помніках тыпу Грыні, Люцеж, Картамышава-2. Ацяпляліся жытлы адкрытымі агнішчамі, якія часцей знаходзіліся на падлозе, радзей — у ямцы. Частка агнішчаў мела чарэнь, падмазаны глінай альбо выкладзены з камянёў і фр-таў посуду, замазаных глінаю. На тэр. Беларусі, у нізоўях р. Гарынь, на паселішчы Хотамель-2 даследаваны рэшткі паўзямляначнага жытла глыб. 0,8 м ад сучаснай паверхні. Каля паўд. сцяны зафіксаваны развал глінабітнай печы з уключэннямі абломкаў керамікі. Выяўлены ямы-паграбы дыям. 1—1,8 м і глыб. 0,2—1 м. На паселішчы Люцеж даследавана 15 металургічных горнаў для атрымання жалеза. Падобныя аб'екты зафіксаваны на паселішчах Баброва і Багданаўка. Вядомы таксама ямы для выпальвання драўнянага вугалю, якія прымяняўся ў сырадутным працэсе здабычы жалеза. На селішчы Давыд-Гарадок-4 (Прыпяцкае Палессе) даследаваны сакральны аб'ект у выглядзе ямы амаль квадратнай у плане формы памерамі 4,2 × 4,4 м і глыб. каля 1 м, арыентаваны сценамі па баках свету, з вугламі акруглай формы. У катлаване прасочаны 5 акруглых ям дыям. 0,3—0,95 м. У запаўненні выяўлены сляды рытуальных вогнішчаў і ахвярапрынашэнняў (абломкі ляпнога посуду, плазаватыя прасліцы біканічнай формы з шырокімі адтулінамі, фр-ты жал. нажоў, посахападобная шпілька з жалеза, фр-т грабеньчатай і падковападобная фібулы). Комплекс каля Давыд-Гарадка датуецца 2-й пал. 1 — 2 ст. Пахавальныя помнікі вядомы значна менш, чым селішчы. На могільніку Рахны даследаваны 12 ямных пахаванняў, выкананых па абраду трупаспалення па-за межамі могільніка. Рэшткі крэмацый змяшчаліся ў авальныя (1 × 1,5—2 м) альбо круглыя (1,9 м) ямы глыб. 0,2—0,4 м. Косткі ссыпаны ў выглядзе ад 1 да 4 скопішчаў у магіле. У некаторых ямах кожнаму скопішчу крэміраваных рэшткаў нябожчыка адпавядаў асобны пахавальны інвентар, што дазваляе разглядаць іх у якасці калектыўных магіл. На грунтаовым могільніку Радасць адкрыта 19 ямных пахаванняў з невял. колькасцю крэміраваных костак з рэшткамі пахавальнага вогнішча. У запаўненнях знойдзены фр-ты пасудзін, побытавыя рэчы, упрыгажэнні. Па адным трупаспаленні даследавана ў люцежскай групе позназарубінецкіх помнікаў каля вёсак Бортнічы і Жукін у парэччы Дняпра і Дзясны адпаведна. У складзе пахавальнага інвентару ў Бортнічах выяўлена «венедская» фібула, у Жукіне — дыадэма, каралі з падвескамі, 2 бранзалеты. Асобныя пахаванні 1—2 ст. позназарубінецкага тыпу адзначаны на тэр. Бугска-Нёманскага міжрэчча каля населеных пунктаў Грынявічы-Вельке, Чырвонае Сяло і Падрось. Пахаванні здзяйсняліся па абраду трупаспалення, косткі

змяшчаліся ў яму з рэшткамі пахавальнага вогнішча. У 2 з іх знойдзены пахавальны інвентар — 2 бронзавыя фібулы зарубінецкага тыпу, шкляная пацерка, фр-ты посуду. Вырабы з гліны прадстаўлены гаршкамі, міскамі, кубкамі, дыскамі-накрыўкамі, патэльнямі, прасліцамі і грузікамі. Па спосабе апрацоўкі паверхні позназарубінецкі посуд падзяляецца на 4 групы — гладкасценны, храпаваты, з расчосамі і падштрыхоўкай, глянцаваны. У складзе ганчарнай масы прысутнічаюць дамешкі шамоту і жарствы. У кожнай з груп керамічнага комплексу позназарубінецкага гарызонта назіраецца спецыфічнасць тэхналагічных, марфалагічных і функцыянальных характарыстык. Пасудзіны з расчосамі і падштрыхоўкай былі найб. распаўсюджаны на помніках тыпу Грыні, Курадава, Радасць і толькі ў адзінкавых экзэмплярах адзначаны ў комплексах груп тыпу Почап, Люцеж, Картамышава-2. Зафіксаваны формы гаршкоў, характэрныя толькі для аднаго тыпу позназарубінецкіх помнікаў і невядомыя ў інш. групах. У цэлым на помніках прадстаўлены гаршкі акруглабокіх, біканічных, рабрыстых, цюльпана-, зрэдку слоікападобных форм. Міскі акруглабокія, гаршкападобныя, рабрыстыя, з прамым альбо s-падобным верхам. Посуд аздаблялі па вянцы насечкамі, пальцавымі ўцісканнямі, наляпнымі валікамі па тулаве. Прасліцы высокія і нізкія біканічныя, сферычныя, канічныя, плазаватыя, вытачаныя са сценак посуду з адтулінай значнага дыяметра. З побытавых рэчаў, прылад працы — нажы (у т.л. жніўныя), сякеры, зубілы, прабойнікі, рыбалоўныя кручкі, каменныя тачыльныя бруські і інш. З аздабленняў і дэталей касцюма — фібулы, шпількі, бранзалеты, кольцы, падвескі, бляшкі-накладкі, пранізкі, шкляныя і каменныя пацеркі і інш.

*Літ.*: К у х а р е н к о Ю.В. Зарубинецкая культура. М., 1964; К а с п а р о в а К.В. Роль юго-западных связей в процессе формирования зарубинецкой культуры // СА. 1981. № 2; Я е ж. Зарубинецкая культура в хронологической системе культур эпохи Латена // АСГЭ. Ленинград, 1984. Вып. 25; П о б о л ь Л.Д. Археологические памятники Белоруссии. Железный век. Минск, 1983; О б л о м с к и й А.М. Позднезарубинецкие памятники // Славяне и их соседи в конце I тыс. до н.э. — первой половине I тысячелетия н.э. М., 1993; Е г а р э й ч а н к а А.А. Зарубінецкая культура // Археалогія Беларусі. Мінск, 1999. Т. 2. Жалезны век і ранняе сярэднявечча; П а ч к о в а С.П. Зарубинецкая культура и латенизированные культуры Европы. Киев, 2006; Б я л і ц к а я Г.М. Археалагічны помнік постзарубінецкага часу каля Давыд-Гарадка // ГАЗ. Мінск, 2006. № 21.

*Г.М.Бяліцкая.*

**ЗАРЭ́ЧЧА**, археалагічныя помнікі — паселішчы неаліту і бронзавага веку каля б. в. Лубянае Бялыніцкага р-на Магілёўскай вобл., недалёка ад б. в. Зарэчча.

П а с е л і ш ч а - 1 за 1,5 км на З ад б. в. Лубянае, на надпоймавай тэрасе левага берага р. Друць. У 1986 адкрыў і даследаваў 36 м$^2$ Э.М.Зайкоўскі. Памеры 400 × 100 м. Культ. пласт 0,24—0,4 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы (скрабкі на пласцінах і пласціністых адшчэпах, скрэблы і скоблі, адціскальнікі, рэтушоры, праколкі, сякера і інш.), наканечнікі стрэл разнастайнай формы з рэтушшу, нуклеусы. Кераміка прадстаўлена 5 відамі: гладкасценная (дыям. 28—32 см) з дамешкамі жарствы, з загнутым унутр венчыкам, арнаментаваная грабеньчатымі і тычковымі адбіткамі, пракрэсленымі рысамі; з дамешкамі буйной жарствы і арганічнымі дабаўкамі (дыям. 36 см), прамым венчыкам, аздобленая грабеньчатым, тычковым і ямачным арнаментам; порыстая гладкасценная з арганічнымі дамешкамі, аздобленая насечкамі, грабеньчатым і тычковым арнаментам; гладкасценная ранняга этапу *паўночнабеларускай культуры* (дыям. 16—30 см) з шчыльнага цеста са слядамі арганічных дамешкаў і тоўчаных ракавін, прамым альбо крыху адагнутым венчыкам, аздобленая насечкамі ў выглядзе гарызантальнай ялінкі, тычковым або пракрэсленым арнаментам ці іх спалучэннем; кераміка позняга этапу паўн.-бел. культуры з дамешкамі дробнай жарствы альбо пяску ў цесце, адагнутым венчыкам, аздобленая рознымі варыянтамі грабеньчатага і тычковым арнаментам.

П а с е л і ш ч а - 2 за 0,1 км ад паселішча-1, аддзелена ад яго забалочаным логам. Даўж. 0,2 км. Культ. пласт 0,4—0,5 м. Адкрыў у 1982 Э.М.Зайкоўскі.

П а с е л і ш ч а - 3 на Пд ад паселішча-2, ад якога адмежавана забалочаным логам. Адкрыў у к. 1920-х г. А.Дз.Каваленя. Культ. пласт каля 0,4 м. Выяўлена неалітычная кераміка, арнаментаваная адбіткамі грабеньчатага штампа і ямкамі, фр-т порыстай неарнаментаванай керамікі, кавалкі крэменю са слядамі апрацоўкі.

*Літ.*: З а й к о в с к и й Э.М. Исследования в Северной Белоруссии // АО 1982. М., 1984.

*Э.М.Зайкоўскі.*

**ЗА́СВІР**, археалагічныя помнікі — селішча і курганны могільнік каля в. Засвір Мядзельскага р-на Мінскай вобл. Вядомы з к. 19 ст.

С е л і ш ч а за 0,3 км ад воз. Свір, на невысокім узвышшы, на беразе ручая. Мае даўж. 0,3—0,4 км. У 1970-я г. Я.Г.Звяруга даследаваў 1180 м$^2$. Культ. пласт 0,3—1,2 м. Выяўлены рэшткі 5 печаў-каменак і 6 вогнішчаў ад наземных жытлаў са зрубавай канструкцыяй сцен. Знойдзены абломкі свідраваных каменных і клінападобных сякер, тачыльныя камяні, касцяны наканечнік стралы, гліняныя фр-ты сопел ад жалезаплавільных печаў, тыгляў, прасліцы, жал. нажы, шылы, рыбалоўныя кручкі, посахападобная шпілька, разец-лажкар, вузкалязовыя сякеры, цуглі, бронзавыя пінцэты, трапецападобная падвеска, спіральны пярсцёнак, пранізка, фр-т шыйнай вітой грыўні. Ляпная кераміка па спосабе апрацоўкі знешняй паверхні падзяляецца на шурпатую (аблітую), гладкасценную і штрыхаваную; фр-ты кругавога посуду адзінкавыя. На пляцоўцы селішча знойдзена вял. колькасць жал. шлаку і крыц. Гэта сведчыць аб знаходжанні тут вял. цэнтра па выплаўцы і апрацоўцы жалеза.

Жыццё на селішчы пачалося ў 1-м тыс. да н.э. (*штрыхаванай керамікі культура*), але яго росквіт прыпадае на 5—12 ст. (*усходнелітоўскіх курганоў культура*).

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к за 1 км на Пд ад вёскі, у лесе. Мясц. назва Капцы. У к. 19 ст. могільнік налічваў больш за 200 курганоў, цяпер засталося 96 паўсферычных насыпаў дыям. 4—15 м, выш. 0,4—1,5 м (пераважаюць дыям. 7—10 м, выш. 0,6—1 м). У 1895 Ф.В.Пакроўскі даследаваў 20 курганоў, у 1934 К.Салевіч — 21 курган, у 1976 Я.Г. Звяруга — 11 курганоў. Пахавальны абрад — трупаспаленне, рэшткі крэмацыі знаходзіліся пераважна на гарызонце. Колькасць пахаванняў у кургане — ад 1 да 6. Інвентар — прадметы ўзбраення і рыштункі вершніка і баявога каня (сякеры, наканечнікі дзідаў, умбоны шчытоў, шпоры, спражкі, страмёны, цуглі), прылады працы (сярпы, нажы, шылы, іголкі, гліняныя прасліцы), упрыгажэнні (грыўні, бранзалеты, фібулы, пярсцёнкі, падвескі, пацеркі, званочкі), ляпны і кругавы (пераважае) керамічны посуд. Датуецца 5—12 ст., належыць да культуры ўсх.-літ. курганоў.

*Літ.*: З в я р у г а Я.Г., М я д з в е д з е ў А.М. Паселішча на беразе возера Свір // ГАЗ. Мінск, 1994. № 3; З в я р у г а Я.Г. Беларускае Павілле ў жалезным веку і раннім сярэдневякоўі // МАБ. 2005. Вып. 10.

*Я.Г.Звяруга, А.М.Мядзведзеў.*

**ЗА́СКАРКІ**, археалагічныя помнікі — селішча, стаянка, курганныя могільнікі і сакральны цэнтр каля в. Заскаркі Полацкага р-на Віцебскай вобл.

С е л і ш ч а на тэр. вёскі, на правым беразе р. Ушача. Выяўлена М.В.Клімавым у 1997. Пл. 0,84 га. Культ. пласт 0,45 м. Знойдзены фр-ты керамічнага посуду 16—17 ст.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к - 1 каля вёскі, на беразе воз. Варанец. Выяўлены Г.В.Штыхавым. Могільнік налічваў 23 курганы, захаваўся 1.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к - 2 за 2 км на ПдЗ ад вёскі, злева ад шашы Заскаркі—Дзмітраўшчына, у пералеску. 3 курганы. Выяўлены М.В.Клімавым і С.М.Глушковым у 1995. Даследаваны 1 курган: у плане паўсферычны, дыям. 8 м, выш. 1 м. Пахавальны абрад — трупаспаленне. У насыпе зафіксаваны асобныя попельна-вугальныя плямы і кальцыніраваныя косткі. Датуючыя матэрыялы адсутнічаюць.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к - 3 за 0,5 км на ПнЗ ад могільніка-2, на 1-й надпоймавай тэрасе воз. Варанец. Выяўлены М.В.Клімавым і С.М.Глушковым у 1995. Мае 2 курганы, з іх даследаваны 1. Курган у плане паўсферычны, дыям. 9 м, выш. 1,6 м, з невял. равамі з паўн.-зах. і паўд.-ўсх. бакоў. Абрад пахавання не вызначаецца. Сярод попельна-вугальных праслоек у насыпе знойдзены шліфавальная пліта, каменьцёрачнік, костка каровы, спаленая калода. Размяшчэнне элементаў пахавальнай абраднасці арыентавана па бакам свету і носіць рытуальны характар. Датуючыя матэрыялы адсутнічаюць.

С т а я н к а знаходзіцца на тэр. могільніка-3. Выяўлена пры даследаванні кургана. Вызначаецца па знаходках фр-таў керамікі, крамянёвых пласцін і адшчэпаў. Датуецца перыядамі неаліту і бронзавага веку.

С а к р а л ь н ы  ц э н т р за 50 м на Пд ад мысавай часткі паўн. берага воз. Варанец, 2,2 км на ПдЗ ад вёскі. Выяўлены ў 1996 М.В.Клімавым і І.Л.Ушавым. Пл. 300 м$^2$. У 1996—97 М.В.Клімаў даследаваў 35 м$^2$. У культ. пласце глыб. 0,5—0,8 м зафіксаваны асобныя гліняныя абпаленыя праслойкі з вуголлем, абпаленыя косткі жывёл і чалавека, знойдзены фр-ты ляпнога (3-я чв. 1-га тыс.) і кругавога посуду (11—16 ст.), асялок, уключына-штыр, шмат дробных абпаленых камянёў. Выяўлены 4 ямы. У яме № 1 знойдзены фаланга і частка сківіцы чалавека. У яме № 4 памерамі 1,3 × 2,35 м на глыб. 0,6—0,65 м зафіксавана рытуальнае пахаванне астанкаў людзей: выкладка па коле з адмыслова пашкоджаных костак мужчынскага і жаночага шкілетаў. Па колькасці косткі не ўтваралі поўнага анатамічнага складу 2 асоб.

*Літ.*: К л і м а ў М. Сярэднявечны культавы помнік Заскаркі ў ваколіцы г. Полацка // ГАЗ. Мінск, 2002. № 17; Я г о ж. Даследаванне курганоў каля в. Заскаркі на Полаччыне ў сувязі з праблемай дакладнай фіксацыі некаторых элементаў пахавальнай абраднасці // МАБ. 2003. № 6.

*М.В.Клімаў.*

**ЗАСЛА́ЎЕ**, горад у Мінскім р-не, на р. Свіслач, каля Заслаўскага вадасховішча. За 22 км на ПнЗ ад Мінска, чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск—Маладзечна.

У летапісах З. згадваецца з 1127 (Ізяслаўль, Жеславль, Жаславль), аднак існаваў задоўга да гэтага ўпамінання (прыкладна з 985), аб чым сведчыць летапіснае паданне, якое апавядае пра драматычныя падзеі 10 ст., звязанныя з Рагнедай і яе сынам Ізяславам, і называе заснавальнікам горада вял. князя кіеўскага Уладзіміра Святаславіча. Верагодна, з пач. 12 ст. горад быў цэнтрам Ізяслаўскага ўдзельнага княства Полацкай зямлі. У сяр. 12 ст. горад і княства сталі аб'ектам барацьбы паміж полацкім і мінскім князямі. Верагодна, у к. 13 ст. З. ўвайшло ў склад ВКЛ. З 1345 З. — прыватнаўласніцкі горад. Першым яго ўладальнікам быў вял. князь літ. Яўнут Гедзімінавіч, нашчадкі якога зваліся князямі Заслаўскімі. У 1433 горад спалены войскамі вял. князя літ. Свідрыгайлы. З 1539 З. належала адной з галін роду Глябовічаў. З 1569 у складзе Мінскага павета. З 1678 горадам валодалі Сапегі, з 1753 — Пшаздзецкія. У 2-й пал. 17—18 ст. горад прыйшоў у заняпад і паступова ператварыўся ў невял. мястэчка. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) З. ў складзе Расійскай імперыі. Стараж. часткі горада, археал. і архіт. помнікі ўключаны ў *Заслаўскі дзяржаўны гісторыка-культурны запаведнік*.

На падставе археал. даследаванняў і аналізу пісьмовых і картаграфічных крыніц высветлена, што ў 10 ст. на правым беразе Свіслачы (у межах сучасных вул. Замкавай, Савецкай, Паштовай і Вялікай) існавала неўмацаванае паселішча пл.

каля 3—3,5 га, населенае пераважна *крывічамі*. У сяр. 10 ст. на процілеглым (левым) беразе Свіслачы засн. пагост — неўмацаваны велікакняжацкі адміністрацыйна-гасп. пункт. Каля 985 на правым беразе Свіслачы за 1 км на ПдЗ ад існуючых паселішчаў было засн. ўмацаванае *Заслаўскае гарадзішча «Замэчак»*. Да к. 11 ст. тэр. неўмацаванага паселішча павялічылася да 8—9,5 га. У тыя часы горад меў т.зв. разгрупаваную планіровачную структуру, пры якой ваенна-адміністрацыйны цэнтр быў аддалены ад пасада. Дарогі, якія злучалі дзяцінец з пасадам і пасяленні з могільнікамі (гл. *Заслаўскія курганныя могільнікі*) і свяцілішчам, сталі асновай сярэдневяковай вулічнай сеткі, якая па прычыне складанага рэльефу аказалася вельмі ўстойлівай. У к. 11 ст. на тэр. правабярэжнага паселішча ўзведзены новы дзяцінец (пл. каля 1,3 га), пасля чаго «Замэчак» быў пакінуты насельніцтвам. З. набыло тыповую для тагачасных усх.-слав. гарадоў планіровачную структуру: дзяцінец і пасад. У 12 — 1-й пал. 13 ст. тэр. горада павялічылася да 12—12,5 га. На яго паўд. ускраіне знаходзіліся хрысціянскія могілкі. У 2-й пал. 12 ст. горад быў спалены, пачаўся яго заняпад, насельніцтва сканцэнтравалася ў дзяцінцы. З к. 15 — пач. 16 ст. пачынаецца новы перыяд росквіту горада, яго тэр. пашыраецца і забудоўваецца больш шчыльна, што сведчыць пра павелічэнне колькасці насельніцтва. У 16 ст. б. дзяцінец стаў уладальніцкім замкам (гл. *Заслаўскі замак*). Цэнтрам планіровачнай структуры горада з'яўлялася рыначная плошча. На пач. 17 ст. непадалёку ад яе пабудаваны драўляныя уніяцкая Спаса-Праабражэнская царква (1619) і касцёл Дзевы Марыі (1625, у 1774—79 на яго месцы ўзведзены мураваны). У 1676 засн. дамініканскі кляштар, да якога перайшлі касцёл Міхаіла Архангела (б. кальвінскі збор) і замак. У 17 ст. пабудаваны маёнтак З. (загарадная рэзідэнцыя ўладальнікаў горада). Перабудаваны ў 18 ст., ён складаўся з палацава-паркавага (палац, флігелі, верхні і ніжні паркі са ставамі) і гасп. комплексаў (фальварак), аддзеленых адзін ад аднаго дарогай на Ракаў (цяпер вул. Савецкая на ўчастку ад чыгункі да р. Княгінька). У к. 18 — пач. 19 ст. ў З. пабудавана драўляная Свята-Мікалаеўская царква.



*Бронзавыя паясны кручок (злева) і булава канца 10 — 1-й пал. 11 ст. з **Заслаўя**.*

Археал. даследванні З. і наваколля праводзілі ў 19 ст. К.П.Тышкевіч, Р.Г.Ігнацьеў, у 1926 А.Дз. Каваленя, у 1957, 1962, 1965 Э.М.Загарульскі, у 1967—68 Г.В.Штыхаў, у 1978—83, 1991, 1994 Ю.А. Заяц, у 1978 А.А.Трусаў. Даследавана 5495 м$^2$, у т.л. 2564 м$^2$ на тэр. пасада.

У культ. пластах выяўлены рэшткі жылых і гасп. пабудоў, драўляныя насцілы, частаколы 12—17 ст. Знойдзены вырабы з чорных і каляровых металаў, дрэва, рога і косці, скуры, каменю, бурштыну, гліны, манеты розных стагоддзяў і дзяржаў. З 15 ст. ў горадзе пачалася вытворчасць кафлі. У познім сярэдневякоўі выраблялася папера, мелася друкарня. На ўскраіне З. знаходзіцца *Заслаўскі бескурганны могільнік*.

*Літ.*: З а я ц Ю.А. Заславль X—XVIII веков: (ист.-археол. очерк). Минск, 1987; Я г о ж. Заславль в эпоху феодализма. Минск, 1995; Я г о ж. Основные итоги археологического изучения Заславля // Заслаўскія чытанні. Заслаўе, 1997. *Ю.А.Заяц.*

**ЗАСЛА́ЎСКАЕ ГАРАДЗІ́ШЧА «ЗАМЭ́ЧАК»**, археалагічны помнік к. 10—11 ст. ў г. Заслаўе Мінскага р-на. Знаходзіцца на паўд.-зах. ускраіне горада паміж вуліцамі Кірава і Мінскай, на ўзгорку, які на 24 м узвышаецца над балоцістым поплавам р. Чарніца, займае вяршыню і паўн.-ўсх. схіл узгорка. Пляцоўка круглая, пл. 0,38 га. У гады Вял. Айч. вайны гарадзішча значна пашкоджана. Умацавана кальцавым валам выш. да 3 м, з шыр. падэшвы 13 м (схіл з боку поля 35—40°, з боку пляцоўкі 30°) і ровам шыр. 11 і глыб. 3,5 м. Роў вадою не запаўняўся. На пляцоўцы ўздоўж вала ў некаторых месцах выяўлены каменныя вымасткі шыр. 1—1,5 м. На схіле вала існаваў нахілены частакол з бярвён дыям. да 15 см. На грэбені вала, верагодна, былі зрубавыя драўляныя абарончыя сцены. Праезд на пляцоўку (шыр. 4,5 м) размяшчаўся з амаль непрыступнага паўн.-ўсх. боку. Абследавалі ў 19 — пач. 20 ст. К.П.Тышкевіч, Р.Г.Ігнацьеў і Я.І.Альбоўскі. Даследавалі ў 1926 А.М. Ляўданскі, у 1962 Э.М.Загарульскі, у 1967 і 1970 Г.В.Штыхаў у 1978—79, 1981 і 1988 Ю.А.Заяц. Вывучана пл. ў 1240 м$^2$, зроблена прарэзка вала і рова. Культ. пласт 0,3—0,75 м. Знойдзены вырабы з чорных і каляровых металаў, шкла, каменю, сляды вытворчасці або апрацоўкі жалеза, керамічны посуд 10—11 ст., а таксама матэрыялы 16—18 ст. Вывучана ўнутраная планіроўка гарадзішча 10—11 ст. У паўд. частцы пляцоўкі жылыя пабудовы размяшчаліся ўздоўж вала ў 2 рады, у паўн. частцы, дзе пляцоўка рэзка паніжалася, — у 1 рад уздоўж мяжы паніжэння. Дамы былі наземныя, зрубавыя, некаторыя з іх 2-камерныя. Захаваліся развалы печаў (глінабітных і каменак), падпольныя і прыпечныя ямы. У час паўторнага засялення гарадзішча ў 6—8 ст. выкарыстоўвала-

ся пераважна яго паўн.-ўсх. частка. Умацаванні ўзведзены ў 2-й пал. — к. 10 ст. Гэта дазваляе лічыць гарадзішча рэшткамі стараж. Ізяслаўля, пабудаванага ў 980-я г. вял. кіеўскім кн. Уладзімірам Святаславічам для Рагнеды і Ізяслава. Адыгрываў ролю парубежнай крэпасці, адм. і ваеннага цэнтра акругі, на аснове якой утварылася Ізяслаўскае княства. У к. 11 ст. гарадзішча пакінута насельніцтвам, відаць, у сувязі з пабудовай новага ўмацаванага цэнтра на беразе Свіслачы (гл. *Заслаўе* і *Заслаўскі замак*).

*Літ.*: З а я ц Ю.А. Гарадзішча Замэчак у Заслаўі // ВАНБ. 1983. № 3; Я г о ж. Заславль в эпоху феодализма. Минск, 1995. *Ю.А.Заяц.*

**ЗАСЛА́ЎСКІ БЕСКУРГА́ННЫ МО́ГІЛЬНІК**, археалагічны помнік *банцараўскай культуры* ў г. Заслаўе Мінскага р-на. Размешчаны на паўд.-ўсх. ускраіне горада паміж вуліцамі Мінскай і Кірава, на вяршыні пагорка. Выявіў і даследаваў у 1979 Ю.А.Заяц. Пахавальны абрад — крэмацыя па-за межамі могільніка. Рэшткі крэмацыі змяшчалі ў невял. ямках дыям. да 0,3 м і глыб. да 0,2 м. Пахавальны інвентар: фр-ты ўпрыгажэнняў, у т.л. бронзавыя спіральныя пранізкі, гліняные біканічнае прасліца. Знойдзены фр-ты ляпных гаршкоў, якія, магчыма, выкарыстоўваліся ў якасці урнаў.

*Літ.*: Гл. да арт. *Заслаўскае гарадзішча «Замэчак»*. *Ю.А.Заяц.*

**ЗАСЛА́ЎСКІ ДЗЯРЖА́ЎНЫ ГІСТО́РЫКА-КУЛЬТУ́РНЫ ЗАПАВЕ́ДНІК**. Створаны ў г. Заслаўе Мінскага р-на ў 1986 на базе гісторыка-археал. запаведніка (створаны ў 1967). У фондах запаведніка захоўваюцца археал. калекцыі з раскопак Заслаўя, Пячкоўскага гарадка (Гарадоцкага замка). Усяго 3878 адз. (2009).

Уключае ў сябе шэраг розначасовых археал. і архіт. помнікаў з іх ахоўнымі зонамі: *Заслаўскае гарадзішча «Замэчак»*, *Заслаўскі замак* з кальвінскім зборам (з 1865 Спаса-Праабражэнская царква), курганныя могільнікі, касцёл Раства Багародзіцы, палацава-паркавы комплекс Пшаздзецкіх, стараж. частку горада пл. 1113 га, якія аб'яднаны паміж сабой гістарычна, тэматычна і функцыянальна. З 1992 працуе музейна-выставачны комплекс, у якім ладзяцца пераважна часовыя выстаўкі. Адкрыты музейна-этнагр. комплексы.

*Ю.А.Заяц, А.К.Рак.*

**ЗАСЛА́ЎСКІ ЗА́МАК**, комплекс абарончых і архітэктурных збудаванняў 11—18 ст. у г. Заслаўе Мінскага р-на. Размяшчаўся на правым беразе р. Свіслач, на паўн. ускраіне старой часткі горада (паміж сучаснымі вуліцамі Паштовай і Рабочай), у месцы, дзе рака цячэ па балоцістай нізіне, максімальна набліжаючыся да ўзвышша, на якім знаходзіцца горад. Сярод мясц. насельніцтва вядомы пад назвай Вал. Замкавы палігон мае форму няправільнага чатырохвугольніка (даўж. бакоў 188, 166, 90 і 60 м), пл. каля 1,5 га. Першапачатковыя ўмацаванні ўзведзены на рубяжы 11—12 ст. на месцы неўмацаванага паселішча 10—11 ст. Валы выш. 3,2—3,5 м насыпаны з пяску, схілы іх былі ўмацаваны пластом гліны і каменнем. На асобных участках вал умацоўваўся ўнутранымі драўлянымі канструкцыямі. У плане першапачатковыя ўмацаванні нагадвалі трапецыю з вуз-



*Заслаўскае гарадзішча «Замэчак» (рэканструкцыя Ю.А.Зайца).*

кай вяршыняй, пл. пляцоўкі была 1,2 га. На падставе стратыграфічнага вывучэння абарончых збудаванняў вылучаны 4 перыяды іх будаўніцтва і перабудоў: у 2-й пал. 13 ст., у 14 ст., у к. 16 ст. і пач. 17 ст.; зафіксаваны таксама сляды аднаўленчых работ пасля нападаў на горад і замак у 1127 і 1434. У выніку перабудоў выш. вала ў к. 16 ст. дасягнула 8— 9,5 м. Найб. кардынальныя змены адбыліся ў фартыфікацыі замка ў к. 16 альбо на мяжы 16—17 ст. Змянілася траса паўн. вала, што дазволіла павялічыць пл. палігона да 1,5 га. На рагах і ўздоўж доўгіх бакоў вала былі насыпаны бастыёны, а ў месцах праезду і выхаду да ракі пабудаваны мураваныя брамы. Брама гал. (паўд.) праезду мела памеры 24,7 × 22,8 м. Праём праезду шыр. 7 м падзяляў яе 1-ы паверх на 2 часткі, у кожнай з якіх мелася па 3 памяшканні. Фундаменты брамы заглыблены ў зямлю на 1,1 м; ніжняя частка сцен выканана ў тэхніцы мяшанай муроўкі з цэглы-пальчаткі і камянёў, верхняя — у тэхніцы рэнесансавай муроўкі. Таўшч. фасаднай сцяны 2,4 м, бакавых сцен 1,2—1,3 м. Была накрыта плоскай дахоўкай. Уздоўж зах. сцяны выяўлены падземны тунель шыр. 0,8 м, выш. 0,8 м са стральчатым скляпеннем. Сцены і падлога тунеля з цэглы, уваход — прамавугольны люк памерамі 2,1 × 1 м, абмураваны цэглай. У паўн. напрамку тунель завяршаўся глухой сцяной, з Пд, з боку рова, быў перакрыты наглуха ўмураванымі жал. кратамі; верагодна, быў звязаны з брамай і выконваў ролю дрэнажнай сістэмы. Пасля 1650 брама была пашкоджана пажарам. Час яе разбурэння не вызначаны, але ў к. 17 ст. на яе месцы ўжо стаяла драўляная брама, таксама 2-павярховая. У 19 ст. ў паўд. праездзе была пабудавана невял. мураваная брама з варотамі і форткай; да яе прымыкалі мураваныя сцены, якія перакрывалі разрыў у курціне. Брама належала дамініканскаму кляштару. У к. 16 — пач. 17 ст. на пляцоўцы замка былі пабудаваны мураваныя пратэстанцкі (кальвінскі) збор і, верагодна, палац Глябовічаў, якія ў той час валодалі замкам і горадам. Мяркуемы палац размяшчаўся на восі абодвух праездаў, што характэрна для бастыённых замкаў. Ад горада замак аддзяляўся шырокім ровам. З к. 16 ст. тэр. вакол замка была заліта вадою штучнага возера, якое ўтваралі плаціны на рэках Свіслач і Чарніца. Гэта пераўтварала замак ва ўмацаванне астраўнога тыпу. З горадам яго злучаў мост, апошні пралёт якога, відаць, быў пад'ёмным. Мост і падыходы да брамы фланкіраваліся агнём з паўд.-ўсх. і дадатковага бастыёнаў. Замкавыя ўмацаванні не належаць да канкрэтнай бастыённай сістэмы, а ўключаюць элементы некалькіх сістэм, што характэрна для замкаў, дзе бастыёны спалучаліся з больш раннімі ўмацаваннямі. Замкавы палігон уключаў 3 пляцоўкі рознай вышыні. Перапад вышынь паміж цэнтр. (ніжняй) і крайнімі (зах. і ўсх.) пляцоўкамі ў 12 ст. дасягаў 8 м. Культ. пласт з верхніх пляцовак перыядычна знімаўся і выкарыстоўваўся для дабудовы валоў і падсыпкі цэнтр. часткі палігона. У выніку розніца ва ўзроўні пляцовак да к. 17 ст. зменшылася да 4,5—6,8 м. У цэнтр. часткі палігона магутнасць культ. пласта дасягае 5,5—6 м. Ён утрымлівае матэрыялы 10—18 ст. Выяўлены рэшткі драўляных зрубавых пабудоў 12—17 ст. (захаваліся на 2—7 вянкоў), дваровых насцілаў і агароджаў, вулічная маставая, фундаменты і развалы кафляных печаў, сляды пажараў у выглядзе гарэлага дрэва і вуглёў. Знойдзены разнастайныя рэчы, якія характарызуюць заняткі і побыт насельніцтва ўмацаванага паселішча: жал. наканечнікі коп'яў і стрэл, страмёны і шпоры, прылады працы рамеснікаў, керамічны і шкляны посуд, разнастайныя вырабы з жалеза, каляровых металаў, рога і косці, скуры, шкла, каменю, манеты, у т.л. залатыя турэцкія алтуны і карынтыйскі дукат 2-й пал. 16 ст.

На падставе комплекснага вывучэння З.з. можна лічыць, што ў 12—13 ст. гэта ўмацаванае паселішча было дзяцінцам летапіснага Ізяслаўля, на адной з верхніх яго пляцовак знаходзіўся княжацкі двор. У 14—15 ст. умацаванні выконвалі ролю гар. дзярж., з 16 ст. — уладальніцкага замка, дзе размяшчалася рэзідэнцыя ўладальнікаў горада. У 1676 зах. частка замка перададзена заслаўскаму кляштару дамініканцаў, які фундавалі ўладальнікі Заслаўя Крысціна Барбара Глябовіч і яе муж Казімір Ян Сапега. У 18 ст. замак страціў ваеннае значэнне, рэзідэнцыя была канчаткова перанесена ў загарадную сядзібу. З.з. цалкам належаў дамініканскаму кляштару.

Археал. даследаванні З.з. праводзілі ў сяр. 19 ст. К.П.Тышкевіч, у 1921 В.П.Сушчынскі, у 1927 А.М.Ляўданскі, у 1965 Э.М.Загарульскі, у 1967—68, 1970—71 Г.В.Штыхаў, у 1972 С.А.Адамовіч і У.І.Гілеп, у 1980—83, 1990, 1991, 1994 і 1996 Ю.А.Заяц. Помнікі манументальнага дойлідства на тэр. замка даследавалі Г.В.Штыхаў, А.А.Трусаў, Ю.А.Заяц. Раскопкамі вывучана пл. 1956 м$^2$.

*Літ.*: З а я ц Ю.А. Заславль в эпоху феодализма. Мінск, 1995; Я г о ж. Новые археологические исследования Заславля // Заслаўскія чытанні 1995 г. Заслаўе, 1997; Я г о ж. Замкі // Археалогія Беларусі: Мінск, 2001. Т.4.

*Ю.А.Заяц.*

**ЗАСЛА́ЎСКІЯ КУРГА́ННЫЯ МО́ГІЛЬНІКІ І КУРГАНЫ́**, група археалагічных помнікаў на тэрыторыі г. Заслаўе Мінскага р-на і ў яго ваколіцах. Захаваліся дадзеныя па 10 курганных могільніках і 3 адзінкавых курганах, усяго 368 насыпаў. Значная колькасць курганоў знішчана яшчэ да пач. ўліку і пашпартызацыі помнікаў. Мяркуецца, што спачатку тут было 800— 1000 насыпаў. Даследавалі ў 1878 Р.Г.Ігнацьеў, у 1880-я г. М.М.Турбін, у 1921 В.П.Сушчынскі і І.П.Поляк, у 1926 і 1928 А.М.Ляўданскі, С.А.Дубінскі, П.В. Харламповіч і А.Дз.Каваленя; у 1957 і 1965 Э.М.Загарульскі, у 1960, 1967 і 1971 Г.В.Штыхаў, у 1977—80, 1982 Ю.А.Заяц. Ёсць звесткі пра раскопкі 142 курганоў. Захаваліся рэшткі 5 курганных груп і 2 асобныя курганы (усяго 40); большасць з іх у значнай ступені пашкоджана.

Курганны могільнік-1 за 0,25 км на ПдУ ад *Заслаўскага гарадзішча «Замэчак»*, на вяршыні і схіле ўзвышша. Раней было 28 курганоў. Захавалася 8 круглых насыпаў выш. да 2, дыям. да 14 м і 1 прадаўгаваты памерамі 14 × 10,5 × 1,8 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З на гарызонце, на месцы рытуальнага вогнішча. У прадаўгаватым і адным з круглых курганоў выяўлены двайныя пахаванні (у прадаўгаватым насыпе ў драўлянай агароджы). Пахавальны інвентар: жал. наканечнік кап'я, сякеры, нажы, крэсіва, бронзавыя ўпрыгажэнні, шкляныя і сердалікавыя пацеркі, выраблены на крузе гліняны посуд. Датуецца к. 10—11 ст.

Курганны могільнік-2 у паўд. частцы горада, паміж краем могілак і стадыёнам, у напрамку р. Чарніца. У 1926 было 122, захавалася 7 курганоў. Самыя вялікія выш. 2, дыям. 10,5, меншыя адпаведна 0,6—0,8 і 5—6 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў насыпе, падкурганных ямах і на гарызонце (часта на месцы рытуальнага вогнішча), часам пад шкілетамі выяўлены рэштко драўніны. Арыентацыя нябожчыкаў галавамі на З, У і Пн. Адзінкавыя пахаванні зроблены па абраду крэмацыі; у адным насыпе рэшткі крэмацыі змешчаны ў гліняным гаршку. У мужчынскіх пахаваннях знойдзены жал. коп'і і сякеры, нажы, крэсівы, бронзавыя ўпрыгажэнні і дэталі касцюма, сярэбраны дырхем і ляпны керамічны посуд; у жаночых — каралі са шкляных і сердалікавых пацерак, жал. і бронзавыя шыйныя грыўні, бранзалеты, прывескі, пярсцёнкі, скроневыя кольцы (бранзалетападобныя з завязанымі канцамі), гліняныя гаршкі. Могільнік датуецца 10 — 1-й пал. 11 ст. Большасць пахаванняў належаць крывічам.

Курганны могільнік-3 за 0,15 км на У ад могільніка-2, на правым беразе р. Свіслач. У 1926 было 86 курганоў. Частка курганоў раскапана, астатнія знішчаны буд. і сельскагасп. работамі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце (на месцы рытуальнага вогнішча). У адным з курганоў выяўлены 2 пахаванні па абраду трупапалажэння і крэмацыі. У мужчынскіх пахаваннях былі жал. коп'і, сякеры, бронзавыя фібулы, у жаночых — крывіцкія бранзалетападобныя кольцы з завязанымі канцамі, бронзавыя шыйныя грыўні, шкляныя пацеркі. Могільнік датуецца 10 — 1-й пал. 11 ст. Нязначная адлегласць ад могільніка-2, агульныя рысы пахавальнага абраду, ідэнтычнасць этнавызначальнага інвентару дазваляюць лічыць абодва могільнікі рэшткамі аднаго вял. курганнага крывічоў.

Курганны могільнік-4 на паўд.-зах. ускраіне горада, злева ад аўтадарогі Мінск—Вільнюс. Было 33 курганы. Захавалася 14 круглых насыпаў выш. 0,5—2, дыям. 4—12 м, 1 насып прадаўгаваты, памерамі 13,5 × 6 × 0,5 м. Вакол большасці курганоў прасочваюцца кальцавыя і дугападобныя раўкі са слядамі вогнішчаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З (у адным выпадку на Пд), на месцы рытуальнага вогнішча альбо на падсыпцы. Выяўлены двайныя і трайныя пахаванні ў адным насыпе. Пахавальны інвентар: упрыгажэнні з каляровых металаў, шкла, сердаліку, рэшткі драўляных вёдзер, ганчарны посуд. Сярод жан. упрыгажэнняў скроневыя пярсцёнкападобныя кольцы 3 тыпаў і дрыгавіцкія пацеркі. Знойдзена невял. паліваная чашка 10 ст., выробленая ў Персіі на ўзор кітайскага шклянога посуду. Могільнік датуецца к. 10—11 ст.

Курганны могільнік-5 знаходзіўся насупраць замка, на левым беразе канала Вілейска-Мінскай воднай сістэмы. Было 23 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З (у адным на У), на месцы рытуальнага вогнішча ці ў падкурганнай яме, дзе знойдзены жал. каваныя цвікі. У 2 курганах двайныя пахаванні. Пахавальны інвентар: упрыгажэнні з каляровых металаў, у т.л. пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы 3 тыпаў, і шкла, прадметы побыту з жалеза, косці, керамічны посуд, выраблены на ганчарным крузе. Могільнік датуецца 11 (ці к. 10) — 1-й трэццю 12 ст.

Курганны могільнік-6 знаходзіўся за 1 км на ПнУ ад замка, абапал аўтамагістралі Мінск—Маладзечна. У 1926 былі 44 круглыя і авальныя насыпы выш. да 2 і дыям. да 17 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З (радзей на У) на гарызонце ці на падсыпцы, часта на месцы рытуальнага вогнішча. Пахавальны інвентар: жал. сякеры, нажы, крэсіва, рамесніцкія інструменты, рэшткі драўляных вёдзер, упрыгажэнні з каляровых металаў (у т.л. пярсцёнкапа-



*Да арт.* ***Заслаўскія курганныя могільнікі і курганы.*** *Шкляныя пацеркі 11 ст. з курганных могільнікаў.*

добныя скроневыя кольцы і дрыгавіцкія несапраўдназярнёныя пацеркі), шкла і бурштыну, керамічны посуд. Знойдзены сярэбраныя дынарыі венгерскага караля Іштвана І Святога і германскіх каралёў Атона І і Адэльгейды, часткі 2 гаршкоў з клеймамі ў выглядзе двухзубца (знак Рурыкавічаў). Датуецца 2-й пал. 10 — пач. 12 ст.

Курганны могільнік-7 за 1,5 км на ПнЗ ад гарадзішча «Замэчак», у лесе, каля вытокаў р. Чарніца. 10 круглых у плане насыпаў выш. 0,5—1,7, дыям. 5—10 м. Каля асновы асобных курганоў з трох бакоў выяўлены ямы ў форме паўмесяца, да палавіны запоўненыя попелам ад рытуальнага вогнішча. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З і Пн, на месцы рытуалу. Пахавальны інвентар: бронзавыя наверша булавы, крук для падвешвання зброі, пярсцёнак, жал. нажы, крэсіва, крэмень, тачыльны брусок, касцяны грэбень. Датуецца 2-й пал. 10—11 ст.

Курганны могільнік-8 за 1 км на У ад гарадзішча «Замэчак», у лесе. Было 7 насыпаў выш. 0,5—1,2, дыям. 3,5—8,5 м. Каля асновы асобных насыпаў засталіся сляды кальцавых раўкоў. Раскопкі могільніка не праводзіліся.

Курганны могільнік-9 за 1,5 км на Пд ад гарадзішча «Замэчак», у лесе. 6 круглых насыпаў выш. 0,4—1,2, дыям. 4—8 м і 1 прадаўгаваты памерамі 9 × 6, 6 × 1,3 м. Каля аднаго кургана выяўлены ямы ў форме паўмесяца з попелам ад рытуальнага вогнішча ў запаўненні. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З і Пд, на месцы рытуалу. У адным круглым насыпе выяўлена двайное пахаванне, у прадаўгаватым — упускное. Усе пахаванні жаночыя. Пахавальны інвентар: сярэбраныя і бронзавыя ўпрыгажэнні, у т.л. скроневыя кольцы рэдкіх тыпаў; шкляныя, сердалікавыя і хрустальныя пацеркі, керамічны посуд. Датуецца 2-й пал. 10 — 11 ст.

Курганны могільнік-10 за 2 км на Пд ад гарадзішча «Замэчак», у вярхоўі р. Чарніца. На правабярэжжы 3 круглыя і 1 прадаўгаваты курган, усе пашкоджаныя. Выш. круглых насыпаў 0,9—1,5, дыям. 6—11 м. Памеры прадаўгаватага 11,65 × 7,65 × 1,35 м, уздоўж яго выяўлены раўкі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце, на месцы рытуальнага вогнішча. У прадаўгаватым кургане асн. пахаванне арыентавана па падоўжнай восі насыпу, другое, упускное, — па папярочнай. Пахавальны інвентар: упрыгажэнні з каляровых металаў (бранзалет, пярсцёнак, скроневыя кольцы пярсцёнкападобныя 2 тыпаў), шкляныя пацеркі, рэшткі драўляных вёдзер, ганчарны гаршчок. Датуецца 2-й пал. 10 — 1-й пал. 11 ст.

Курган-1 за 1,6 км на ПдУ ад гарадзішча «Замэчак», на правабярэжжы р. Чарніца. Авальны, памеры 10,5 × 9,5 × 1,3 м.

Курган-2 знаходзіўся на паўд. ускраіне старых могілак. Круглы, дыям. 8, выш. 1,1 м.

Курган-3 за 2,3 км на Пд ад гарадзішча «Замэчак», паміж лясной дарогай на в. Крыжоўка і лініяй чыгункі. Круглы, дыям. 5,5, выш. 0,6 м.

*Літ.*: Заяц Ю.А. Курганный могильник Изяславля // Древнерусское государство и славяне. Минск, 1983; Его ж. Заславль в эпоху феодализма. Минск, 1995. *Ю.А.Заяц.*

**ЗАТО́НЫ 1**, археалагічныя помнікі — гарадзішча, стаянкі і селішчы каля в. Затоны 1 Дрыбінскага р-на Магілёўскай вобл.

Гарадзішча-сховішча 3-й чв. 1-га тыс. н.э. за 1 км на З ад вёскі, на левым беразе р. Проня, на мысе, утвораным 2 ручаямі. Пляцоўка авальная, памеры 18 × 21 м, выцягнута з ПнУ на ПдЗ, парасла дрэвамі і хмызняком. Выш. над поймай 5—6 м. Па перыметры ўмацавана кальцавым валам выш. 1—4,5 м, шыр. да 12—15 м, з боку поля — дадатковым падковападобным валам выш. 3 м, шыр. 10 м. Паміж валамі роў шыр. да 10 м. У мысавай частцы 2 дадатковыя валы. Выявіў і абследаваў у 1985—86 і даследаваў у 1999 А.А.Седзін. Культ. пласт 0,35—0,6 м. Знойдзены фр-ты ляпнога керамічнага посуду, адшчэпы з крэменю. У мацерыку 2 ямы глыб. 0,4 і 0,5 м.

Селішча-1 3-й чв. 1-га тыс. н.э. за 0,1 км на Пд ад гарадзішча, на краі тэрасы левага берага р. Проня. Паверхня некалькі нахілена на ПнЗ. Выявіў і абследаваў у 1990 В.Ф.Капыцін, абследаваў у 1999 А.А.Седзін. Культ. пласт 0,2—0,4 м. Знойдзены фр-ты ляпнога керамічнага посуду.

Селішча-2 3-й чв. 1-га тыс. н.э. за 0,2 км на ПнЗ ад гарадзішча, на краі выгібу тэрасы левага берага р. Проня. Выявіў і абследаваў у 1999 А.А.Седзін. Знойдзены фр-ты ляпнога керамічнага посуду.

Стаянка-1 каменнага веку за 0,15 км на Пд ад гарадзішча, на краі тэрасы левага берага р. Проня. Выявіў у 1987 і даследаваў у 1990 В.Ф.Капыцін. Знойдзены пласціны, адшчэпы, канцавыя скрабкі, вастрыі з крэменю.

Стаянка-2 каменнага веку, на месцы селішча-2. Выявіў і абследаваў у 1999 А.А.Седзін. Знойдзены скрабок, пласціны, адшчэпы з крэменю.

Стаянка-3 каменнага веку за 0,5 км на ПдУ ад гарадзішча, на краі тэрасы левага берага р. Проня. Выявіў і абследаваў у 1999 А.А.Седзін. Знойдзены пласціны і адшчэпы з крэменю.

*Літ.*: Седин А.А. Работы в Могилевской области // АО 1985 г. М., 1987; Копытин В.Ф. Археологические памятники Дрибинского района Могилевской области. Могилев, 1994. *А.А.Седзін.*

**ЗАХА́РНІЧЫ**, археалагічны помнік — курганны могільнік полацкіх *крывічоў* каля в. Захарнічы Полацкага р-на Віцебскай вобл. За 2 км на ПнУ ад вёскі, у лесе. 14 курганоў выш. 1—1,5 м (адзін з іх 3 м), дыям. 6—8 м. Выявіў і даследаваў 5 курганоў у 1969 Г.В.Штыхаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне: на грунце палілі рытуальны (ачышчальны) агонь, потым пасярэдзіне вогнішча выкопвалі яму глыб. 0,3—0,5 м, у якую апускалі труну з нябожчыкам галавой на З. Над пахаван-

нем насыпалі курган. Знойдзены бронзавыя спражкі, паясныя кольцы, сярэбраныя пярсцёнкі, жал. нож, падкovападобная фібула, шмат шкляных пацерак. Датуецца 11 ст.

*Літ.*: Ш т ы х а ў Г.В. Вывучэнне курганоў Полацкай зямлі (X — пачатку XII ст.) // Беларускія старажытнасці. Мінск, 1972. *Г.В.Штыхаў.*

**ЗАХОДНЯБА́ЛЦКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура заходніх балтаў (1—5 ст. н.э.), якая сфарміравалася на аснове *заходнябалцкіх курганоў культуры.* Старажытнасці З.к. распаўсюджаны на тэр. сучаснай Калінінградскай вобл. Расіі, у зах. Літве, паўн.-ўсх. Польшчы, частцы зах. Беларусі. Пачалі вывучацца нямецкімі археолагамі ў 19 ст., актыўна вывучаюцца ў Расіі (В.І.Кулакоў, К.Скварцоў), Польшчы (Е.Антаневіч, Е.Акуліч, Я.Ясканіс, М.Качынскі, В.Навакоўскі, А.Бітнер-Урублеўская), Літве (П.Кулікаўскас, М.Міхельбертас), Беларусі (В.Шукевіч, А.М.Мядзеведзеў). Асн. абагульняючыя працы выйшлі ў пач. 1970-х г. (Е.Акуліч, Я.Ясканіс). Для З.к. характэрны грунтавыя і курганныя (для судаўскай і занёманскай груп) пахаванні, якія выконваліся па абрадах трупапалажэння (1—2 ст. для самбійскай, 3—4 ст. для судаўскай груп) і трупаспалення. Для магіл часта выкарыстоўвалі каменныя канструкцыі (абставы, скрыні, абкладкі). У пахавальны інвентар уваходзілі ўпрыгажэнні, узбраенне, прылады працы. Існавала традыцыя пахавання побач з памерлымі коней. Існуюць і «княжацкія» пахаванні — багатыя мужчын з конямі (2 курганы ў могільніку Швайцарыя ў сувалкаўскай групе). У складзе З.к. вылучаюцца 8 лакальных груп (часам некаторыя даследчыкі адносяць іх да асобных культур): 1 — зах.-літоўская, 2 — самбійская (ці культура Далькай-Каўрова па В.І.Кулакову і В.Навакоўскаму), 3 — зах.-мазурская (мрангаўская, ці багачоўская, культура па В.Навакоўскаму), 4 — усх.-мазурская (венгажэўская), 5 — сувалкаўская (ці судаўская), 6 — эльска-аўгустоўская, 7 — занёманская (па М.Міхельбертасу), 8 — тыпу Нача (па А.М.Мядзведзеву). Асобныя групы З.к. можна суаднесці з рознымі народнасцямі ці плямёнамі. Так, зах.-літоўская звязана з куршамі, самбійская — з прусамі, зах.-мазурская — з галіндамі, усх.-мазурская — з судзінамі, сувалкаўская, занёманская і тыпу Нача — з яцвягамі. Гэта насельніцтва вядома па пісьмовых крыніцах з 1—2 ст. (Пталамей) — айсціі (эсты; Самбія), карэоты (для куршаў зах. Літвы), галінды і судзіны. На тэр. Беларусі распаўсюджаны помнікі тыпу Нача (урочышчы Плітніца, Рудня, Зубішкі, Чапялуны, раскопкі В.Шукевіча ў к. 19 — пач. 20 ст.). Яны прадстаўлены грунтавымі могільнікамі з пахаваннямі ў каменных скрынях, дзе змяшчаліся рэшткі спаленняў (косткі і попел), кераміка. З.к. пасля 5 стагоддзяў існавання змянілася інш. культурамі (пруская, ольштынская, культура каменных курганоў), якія былі звязаны з раннесярэдневяковымі народнасцямі гэтых мясцін.



Аўтар А.М. Мядзведзеў

*Літ.*: М я д з в е д з е ў А.М. Пахавальныя помнікі тыпу Начы ў I—V стст. н.э. (па даследаваннях В.А.Шукевіча) // Славутыя людзі Воранаўшчыны. Гродна; Нача, 1994; O k u l i c z J. Pradzije ziem pruskim od poznego paleolitu do VII w. n.e. Wrocław, 1973; M i c h e l b e r t a s M. Senasis geležies amžius Lietuvoje. Vilnius. 1986; N o w a k o w s k i W. Das Samland in der römischen Kaiserzeit und seine Verbindungen mit dem römischen Reich und der Barbarischen Welt. Marburg; Warszawa, 1996. *А.М.Мядзведзеў.*

**ЗАХОДНЯБА́ЛЦКІХ КУРГАНО́Ў КУЛЬТУ́РА** (тыпу Нача), археалагічная культура, якая атрымала назву ад характэрнага тыпу пахавальных помнікаў, распаўсюджаных з сяр. 1-га тыс. да н.э. на тэрыторыях сучаснай Калінінградскай вобл. Расіі, Зах. Літвы, паўн.-ўсх. Польшчы, частцы зах. Беларусі. Старажытнасці З.к.к. пачалі даследавацца нямецкімі археолагамі ў 19 ст. Помнікі гэтай культуры актыўна вывучаюцца ў Польшчы (Л.Акуліч, Е.Акуліч, Я.Ясканіс, М.Хофман), Літве (П.Кулікаўскас, Е.Грыгалавічэне), Беларусі (В.А.Шукевіч, А.М.Мядзведзеў). Асн. абагульняючыя працы па З.к.к. выйшлі ў пач. 1970-х г. (Л.Акуліч, Е.Акуліч). Для З.к.к. характэрны каменныя курганныя і грунтавыя (для ўсх. груп, у т.л. і помнікаў тыпу Нача) могільнікі, пахаванні ў якіх выконваліся па абрадзе трупаспалення. Акрамя каменных венцаў і абкладак курганоў для пахаванняў часта выкарыстоўвалі дадатковыя канструкцыі (абставы, скрыні, абкладкі). У пахавальны інвентар уваходзілі ўпрыгажэнні, узбраенне, прылады працы, кераміка. Паселішчы



Аўтар А.М. Мядзведзеў

(свайныя на берагах Мазурскіх азёр) вывучаны толькі ў паўн.-ўсх. Польшчы. У складзе З.к.к. выдзяляюцца 6 лакальных груп: 1 — зах.-літ. (ці тыпу Эглішкяй), 2 — самбійская, 3 — зах.-мазурская, 4 — усх.-мазурская, 5 — тыпу Нача, 6 — паўн.-мазавецкая. Для зах.-мазурскай групы характэрны сувязі з паморскай культурай (наяўнасць каменных скрынь і асабовых урнаў на могільніках). Матэрыяльная культура ўсх. груп (усх.-мазурская і тыпу Нача) адрозніваецца ад іншых шырокім выкарыстаннем у побыце вырабаў з каменя, косці. На тэр. Беларусі да З.к.к. адносяцца помнікі тыпу Нача. Каля в. Нача Воранаўскага р-на Гродзенскай вобл., ва ўр. Ланкішкі, В.А.Шукевіч даследаваў пл. 3600 м$^2$, выявіў 81 пахаванне, 7 вогнішчаў. Паводле спосабу захавання рэштkaў трупаспалення выдзяляюцца 3 варыянты ямных пахаванняў (ямныя, ямныя з абкладкай камянямі і ямныя ў каменных скрынях). Інвентар прадстаўлены асобнымі гаршкамі, а таксама прыладамі працы з каменя (сякеры, крамянёвыя вырабы). Аналогіі гэтаму могільніку ёсць у Літве — у Занямонні (гарадзішча Павейснінкай, 27 пахаванняў); могільнік Станайчай, 7 пахаванняў, і ва ўсх. Літве (асобныя пахаванні ў Раўдоненай, Антальге, Малейкяй, Сцяпонаве, Кернаве). З.к.к. існавала ў 5—1 ст. да н.э., на яе старажытнасцях склалася *заходнябалцкая культура* (продкі прусаў, куршаў, галіндаў, судзінаў, яцвягаў).

*Літ.*: Григалавичене Э.А., Меркявичюс В.А. Древнейшие металлические изделия в Литве (2—1 тысячелетие до н.э.). Вильнюс, 1980; Мядзведзеў А.М. Помнікі накшталт Начы ў Панямонні (да пытання пра культуру заходніх балтаў у другой палове I тыс. да н.э.) // Гародзенскія запісы. Старонкі гісторыі і культуры. Гародня, 1996. Вып. 2; Okulicz Ł. Kultura kurchanów zachodniobałtyjskich we wczesnej epoce żelaza. Wrocław, 1970; Okulicz J. Pradzije ziem pruskim od późnego paleolitu do VII w. n.e. Wrocław, 1973; Hoffmann M.J. Kultura i osadnictwo południowo-wschodniej strefy nadbałtyskiej w I tysiącleciu p.n.e. Ołsztyn, 2000.

*А.М.Мядзведзеў.*

**ЗАЦЭ́ННЕ**, археалагічны помнік — стаянка эпох неаліту і бронзы каля в. Зацэнне Лагойскага р-на Мінскай вобл. За 2 км на З ад вёскі, каля моста цераз р. Цна, на шашы Плешчаніцы—Барысаў, за 1 км ад в. Ліпкі, абапал канала, якім выпрамлена рэчышча Цны. У старажытнасці паселішча размяшчалася на невял. выступе карэннага берага возера каля вытоку з яго ракі, цяпер гэта асушаны тарфянік. Даўж. з Пн на Пд 120 м, шыр. 50 м. Выявіў у 1966 С.Шубара, даследавалі ў 1966, 1967, 1988 М.М.Чарняўскі (ускрыта 80 м$^2$), у 1990—91 І.М.Язэпенка (48 м$^2$). У зах. прырэчнай частцы стаянкі пад пластом торфу таўшч. больш як 1 м выяўлены праслойкі пяску, торфу і раслінных рэштkaў. Непасрэдна над мацерыком з буйназярністага азёрнага пяску залягаюць знаходкі ранненеалітычнага часу, блізкія да нарвенскай і часткова прыпяцка-нёманскай культур: крамянёвыя лістападобныя наканечнікі стрэл, вастрыі са скошаным канцом, мікраліты-ўкладышы, разнастайныя скрабкі і нажы, касцяныя біканічныя наканечнікі стрэл, праколкі, кінжалы, шматзубы гарпун, матыкі з прасвідраванымі адтулінамі. Некаторыя касцяныя знаходкі арнаментаваныя. Знойдзены фр-ты вастрадонных гаршкоў з дамешкамі ў сценках раслінных рэштkaў і тоўчаных ракавін, з грабеньчатымі расчосамі паверхняў. Посуд аздоблены грабеньчатымі адбіткамі, насечкамі, наколамі, у большасці меў пад краем венчыка шэраг глыбокіх ямак. Пры пракладцы канала выяўлены абломак чоўна-даўбёнкі неалітычнага часу. У больш позніх адкладах культ. пласта нешматлікія знаходкі *ўсвяцкай культуры* сярэдненеалітычнага часу. У верхнім пласце адкладаў знойдзена кераміка сосніцкага тыпу. Паўд.-ўсх. край помніка займаюць рэшткі селішча 17—19 ст.

*Літ.*: Чарняўскі М.М. Тарфяніковая стаянка Зацэнне // З глыбі вякоў. Наш край: гіст.-культуралаг. зб. Мінск, 1996. [Вып. 1].

*М.М.Чарняўскі.*

**ЗАШЧЫ́РЫНА**, курганны могільнік крывічоў 1-й пал. 11 ст. каля в. Зашчырына Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобл. Знаходзіцца ў 0,2 км на У ад вёскі, побач з могілкамі. 46 насыпаў круглай і чатырохвугольна-круглаватай форм, выш. 0,3—1,5 м, дыям. 5—10 м. Каля асновы насыпаў прасочваюцца кальцавыя і авальныя раўкі. Адкрыў Л.В.Аляксееў (1955), даследавала 6 насыпаў З.М.Сяргеева (1975). Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З і ПдЗ. Знойдзены нож, крэсіва, бронзавыя спіральныя і пласціністыя пярсцёнкі, шкляныя пацеркі, бронзавыя вітыя бранзалеты з завязанымі канцамі, фр-ты ляпнога і ганчарнага посуду. Наяўнасць балцкіх элементаў сведчыць аб прысутнасці стараж. балцкага насельніцтва. *Л.У.Дучыц.*

**ЗАЯ́МНАЕ**, археалагічныя помнікі — стаянкі каля в. Заямнае Стаўбцоўскага р-на Мінскай вобл.

Стаянка-1 за 0,9 км на ПдЗ ад ускраіны вёскі, на вял. дзюне каля ўсх. правабярэжнай старыцы Нёмана. Даўж. дзюны з ПнЗ на ПдУ 350 м. Выявіў у 1977 А.М.Гутоўскі, абследавалі ў 1981, 2005 М.М.Чарняўскі, у 1995 В.Л.Лакіза. Культ. пласт да 0,6 м. У ім і на агаленні сабрана вял. колькасць крамянёвых вырабаў: лістападобныя і трохвугольныя наканечнікі стрэл, ланцэтападобныя вастрыі, геам. мікраліты, сякеры і інш. У невял. колькасці знойдзена кераміка з раслiннымі дамешкамі, абломкі абпаленага посуду з адбіткамі шнура і лінейнага штампа. Дзюна была заселена ад мезаліту да бронзавага веку.

Стаянка-2 за 1,1 км на ПдЗ ад ускраіны вёскі, каля паўд.-зах. берага старыцы Нёмана, на цэнтр. і паўд.-ўсх. частках дзюны даўж. 130 м. Выявіў у 2005 М.М.Чарняўскі. Культ. пласт таўшч. да 0,4 м утрымлівае неалітычныя матэрыялы.

Стаянка-3 за 1,4 км на ПдЗ ад ускраіны вёскі, каля левага берага канала, якім выпрамлена р. Краснапёрка (Ліпаўка), на дзюне даўж. каля 200 м. Выяўлена ў 1995 В.Л.Лакізам (ускрыў 5 м$^2$) і

М.М.Чарняўскім. Стаянка займае пляцоўку памерамі 40 × 100 м, таўшч. культ. пласта да 0,5 м. Большасць знаходак адносіцца да неалітычнай *нёманскай культуры*.

С т а я н к а - 4 за 1,6 км на ПдЗ ад ускраіны вёскі, паміж правым берагам Нёмана і старыцай з вусцем Краснапёркі (Ліпаўкі), на вышэйшай частцы дзюны даўж. каля 150 м. Адносіцца да нёманскай культуры і *шнуравой керамікі культуры*. Выявілі ў 1995 В.Л.Лакіза і М.М.Чарняўскі.

С т а я н к а - 5 за 2 км на З ад вёскі і 0,6 км на У ад моста цераз Нёман, на зах. частцы бугрыстай дзюны. Выяўлена ў 2005 М.М.Чарняўскім. Культ. пласт таўшч. да 0,5 м утрымлівае крамянёвыя вырабы і кераміку ўсіх этапаў неаліту, ляпную кераміку больш позняга часу. У сярэднія вякі тут знаходзілася селішча. *М.М.Чарняўскі.*

**ЗА́ЯЦ** Юрый Афанасьевіч (н. 12.1.1951, г. Ліда Гродзенскай вобл.), беларускі археолаг і гісторык. Канд. гіст. навук (1989), дацэнт (2009). Ганаровы грамадзянін г. Заслаўе Мінскага р-на (1996). Скончыў Мінскі педагагічны ін-т (1977). З 1977 навук. супрацоўнік Дзярж. музея БССР, з 1978 — Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. З 1979 у ІГ АН БССР (цяпер НАН Беларусі). Выкладае гісторыю і археалогію Беларусі ў шэрагу ВНУ Мінска. Вывучае праблемы археалогіі горада і вёскі, пахавальныя помнікі цэнтр. Беларусі перыяду сярэдневякоўя, крыніцазнаўства гісторыі Беларусі 10—13 ст., станаўленне дзяржаўнасці і распаўсюджанне хрысціянства. Даследаваў археал. помнікі на тэр. Мінска, Заслаўя, Асіповіцкага, Барысаўскага, Дзяржынскага, Лепельскага і Мінскага р-наў.

*Тв.*: Заславль X—XVIII вв.: историко-археол. очерк. Минск, 1987; Заслаўская кафля. Мінск, 1990; Заславль в эпоху феодализма. Минск, 1995; Оборонительные сооружения Менска XI—XIII вв. Минск, 1996; История белорусских земель X — первой половины XIII в. в отображении летописей и хроник Великого княжества Литовского // ГАЗ. Мінск, 1997. № 12; Археалогія Беларусі. Т. 4. Помнікі XIV—XVIII стст. Мінск, 2001.

*Літ.*: Заяц Ю.А. // Пяткевіч А. Людзі культуры з Гродзеншчыны. Гродна, 2000. *В.М.Марціновіч.*



*Ю.А.Заяц.*

**ЗБА́РАВІЧЫ**, археалагічны помнік — гарадзішча *штрыхаванай керамікі культуры* каля в. Збаравічы Мінскага р-на. За 0,5 км на ПнУ ад вёскі, на ўзгорку, на левым беразе р. Гуйка. Пляцоўка авальная, памеры 65 × 33 м, была ўмацавана драўлянай сцяной, пазней па краі пляцоўкі валам выш. 0,3—0,4 м. Адкрыў у 1912 А.К.Снітка, даследаваў 868 $м^2$ у 1951, 1952, 1958 А.Р.Мітрафанаў. Культ. пласт у цэнтры пляцоўкі 0,3 м, уздоўж паўн.-зах. краю 0,8—0,9 м, каля паўд.-ўсх. — 0,6—0,7 м. Выяўлены рэшткі 2 шматкамерных жытлаў слупавой канструкцыі, падзеленых на 5 памяшканняў па 20—25 $м^2$ кожнае. Пакрыццё, верагодна, было 1-схільнае; адзін канец крокваў апіраўся на слупы, другі ўмацоўваўся ў насыпе землянога вала. У 4 памяшканнях выяўлены авальныя (0,9 × 1,3 м) і круглыя (дыям. 0,7—0,8 м) агнішчы з пласта пяску, абкладзенага валікам гліны з умазанымі камянямі. У паўд.-ўсх. частцы пляцоўкі выяўлена гасп. пабудова з 4 памяшканняў па 14—17 $м^2$ кожнае. На пляцоўцы і ўнутры жытлаў было больш як 20 ям-пограбоў авальнай (памеры 1,2—2,3 × 0,6—2 м, глыб. 0,3—1,1 м) і круглай (дыям. 1—1,2 м) форм. Знойдзены абвугленае зерне пшаніцы, фр-ты рабрыстых гаршкоў і слоікападобных пасудзін, упрыгожаных зашчыпамі па рабры і наразнымі лініямі паміж верхнім краем і рабром пасудзіны, акуляра- і трапецападобная падвескі, кіепадобная шпілька, бронзавыя ўпрыгажэнні, гліняныя прасліцы, грузікі дзякоўскага тыпу, жал. сярпы, шылы. Датуецца 1—4 ст. н.э.

*Літ.*: Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1. Минск, 1970; М и т р о ф а н о в А.Г. Железный век Средней Белоруссии (VII—VI вв. до н.э. — VIII в н.э.). Минск, 1978.

**ЗБАРО́Ў**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і курганны могільнік каля в. Збароў Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а за 1 км на ПдУ ад вёскі, на левым беразе Дняпра. Пляцоўка ўзвышаецца над узроўнем поплаву на 17—18 м. З зах., паўд.-зах. і часткова з паўд. бакоў умацавана валам выш. 2—3 м, шыр. 10—15 м і ровам глыб. 2,5—3 м, шыр. 10—15 м. Вядома з 1873. Абследавалі ў 1931 А.М. Ляўданскі, у 1976 А.Р.Мітрафанаў. У 1967—68 даследавала Г.Ф.Салаўёва (473 $м^2$), у 1998 — А.І.Драбушэўскі (60 $м^2$). Культ. пласт каля вала 1,6 м, у цэнтры пляцоўкі 0,5—0,6 м. Выяўлены матэрыялы 3 перыядаў: бронзавага веку, эпохі ранняга жал. веку і стараж.-рус. часу. Знойдзены рэшткі паўзямлянчнага жытла і наземнай пабудовы зрубавай канструкцыі мілаградскай культуры, 3 гасп. ямы круглай формы. Больш за 60% знойдзенай грубаляпной керамікі ранняга жал. веку маюць штрыхаваную паверхню. У культ. гарызонце эпохі Кіеўскай Русі вылучаны рэшткі ніжняга вянка наземнага жытла (памеры 3,25 × 1,3 м) з глінабітнай печчу, сляды сцен 2-камернай пабудовы (даўж. 3,4 × 5,1 м) і 2 гасп. ямы. Знойдзены фр-ты ганчарных пасудзін з лінейным і хвалістым арнаментам 12—13 ст., ліцейная форма, кавалкі бронзавых і шкляных бранзале-



*Гарадзішча Збароў.*

таў, абломак бронзавай зах.-еўрап. чашы з выгравіраванай выявай жанчыны і надпісам на лац. мове, шыфернае прасліца, бронзавы энкалпіён, жал. дроцік, наканечнік стралы са знакам, фр-ты шкляной пасудзіны. На думку Г.Ф.Салаўёвай, у 12 ст. гарадзішча было рэзідэнцыяй рагачоўскіх князёў.

Курганны могільнік за 2,5 км на У ад вёскі, у лесе, на левым беразе Дняпра. 5 курганоў выш. 1,1—2,5 м, дыям. 5—11 м. Адкрыў і абследаваў у 1976 А.Р.Мітрафанаў.

*Літ.*: Ляўданскі А.М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—31 гг. // Працы. Т. 3; Соловьёва Г.Ф. Раскопки славянских памятников 11—12 вв. в Гомельской области // АО 1968. М., 1969. *А.І.Драбушэўскі.*

**ЗБАРО́ЎСКІЯ КАРА́ЛІ**, комплекс археалагічных знаходак 11 ст., выяўлены ў 1968 падчас земляных работ каля в. Збароў Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл. Складаецца з 14 пацерак (4 шматгранныя пляскатыя з кварцу, 2 шарападобныя і 7 біпірамідальных сердалікавых, 1 сярэбраная зярнёная «дрыгавіцкая»), 6 сярэбраных брактэатных падвесак (2 — з сямі-, 3 — з васьміпялёсткавай разеткай у цэнтры і кропкавым арнаментам па краі; 1 — са складаным раслінным арнаментам, дыям. 40 мм, вушкі для падвешвання зроблены з меднай палоскі шыр. 3—5 мм і прымацаваны меднымі цвікамі), 1 дырхем-падвеска (Саманіды, Нух І ібн Наср, 943— 954) вельмі дрэннай захаванасці (дата і месца чаканкі не вызначаюцца). Пацеркі і падвескі, падобныя да збароўскіх, трапляліся ў раскопках стараж.-рус. курга081. Каралі спачатку зберагаліся ў мясц. школе. У 1980 былі перададзены ў музей гісторыі БДУ. Цяпер захоўваюцца ў лабараторыі музейнай справы гіст. ф-та БДУ.

*Да арт.* ***Збароўскія каралі****. Пацеркі і падвескі са скарбаў.*



Некаторыя рэчы са складу караляў (дырхем-падвеска, брактэатная падвеска з пялёсткавым арнаментам, некалькі пацерак) перададзены ў Рагачоўскі раённы краязнаўчы музей. *А.М.Плавінскі.*

**ЗБЛЯ́НЫ**, археалагічныя помнікі — стаянкі каля в. Зблянны Лідскага р-на Гродзенскай вобл. Выявіў у 1962 Ф.Ф.Барташэвіч.

Стаянка-1 за 0,5 км на ПнУ ад вёскі, на краі правабярэжнай тэрасы р. Нёман. Даўж. 800 м, шыр. 70—80 м. Культ. пласт 0,2—0,3 м, захаваўся часткова. Знойдзены лістападобныя наканечнікі стрэл, разнастайныя скрабкі і разцы, рэжучыя і сякучыя прылады, нуклеусы, у т.л. двухпляцовачныя прызматычныя. Большасць знаходак адносіцца да *свідэрскай культуры.* Датуецца канцом палеаліту і раннім мезалітам (10—7-е тыс. да н.э.).

Стаянка-2 за 1 км на ПнУ ад вёскі, 0,1 км ад стаянкі-1, на месцы б. хутара Хмялінскі. Даўж. 500 м, шыр. да 70 м. Знаходкі блізкія да матэрыялаў стаянкі-1. *М.М.Чарняўскі.*

**«ЗБОР ПО́МНІКАЎ ГІСТО́РЫІ І КУЛЬТУ́РЫ БЕЛАРУ́СІ»**, шматтомнае выданне. Падрыхтавана Сектарам збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, Аддзелам археалогіі ІГ АН БССР і выдавецтвам «Беларуская Энцыклапедыя імя П.Броўкі». Выдадзены ў 1984—88 у Мінску на бел. мове ў 7 тамах (8 кнігах). Уключае звыш за 14 тыс. артыкулаў пра нерухомыя існуючыя помнікі гісторыі, археалогіі, архітэктуры, манументальнага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, што ўзяты ці павінны быць узяты пад ахову дзяржавы. Кожнай вобласці і г. Мінск прысвечаны асобны том, у т.л. Мінскай вобл. — 2 кнігі). У пач. кожнага тома даецца гіст. нарыс. Матэрыялы размешчаны па раёнах у алфавітным парадку. У артыкулах пра кожны помнік дадзена яго характарыстыка як гіст. і маст. каштоўнасці; пра адміністрацыйныя цэнтры і буйныя населеныя пункты маюцца гіст. звесткі з часоў першага ўпамінання. Сярод помнікаў гісторыі памятныя мясціны, помнікі, звязаныя з дзярж. будаўніцтвам, падзеямі класавай барацьбы, барацьбы за незалежнасць, з абаронай айчыны, развіццём культуры, навукі, мастацтва. Артыкулы пра помнікі археалогіі (стаянкі, паселішчы, гарадзішчы, селішчы, могільнікі, рытуальныя збудаванні) уключаюць інфармацыю пра іх месцазнаходжанне, памеры, час выяўлення і раскопак, даследчыкаў, знаходкі, датаванне помніка, даецца бібліяграфія. У артыкулах пра знакамітых землякоў (пададзены па месцы нараджэння дзеяча ці здзяйснення гераічнага ўчынку, у артыкулах пра месца яго пахавання, помнік або мемарыяльную дошку, устаноўленую ў яго гонар) змешчаны біяграфія, характарыстыка творчасці, бібліяграфія. У выданні звыш 7 тыс. ілюстрацый, схем, карт. Кожны том мае імянны, геаграфічны і храналагічны паказальнікі. Дзярж. прэмія БССР 1990. Выдаваўся як сас-

таўная частка шматтомнага выдання «Свод памятников истории и культуры народов СССР». У 1990 выпушчаны дапрацаваны і дапоўнены том па Брэсцкай вобл. (на рус. мове). Выданне спынена з-за распаду СССР. З'яўляецца унікальнай гіст. крыніцай. *С.П.Самуэль.*

**ЗБОРСК**, археалагічныя помнікі — гарадзішчы і курганныя могільнікі каля в. Зборск Асіповіцкага р-на Магілёўскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а - 1 у вёсцы, на стрэлцы мыса, утворанага левым берагам р. Свіслач і безназоўным ручаём. Курганападобны вал выш. 2 м, дыям. каля 15 м дзеліць пляцоўку на 2 часткі. Вял. пляцоўка амаль круглая, дыям. 58—60 м, малая даўж. 27 м, шыр. 18—20 м. З усх. і паўд.-зах. бакоў захаваліся валы выш. 1,8—2 м, шыр. 16—18 м. Абследавалі ў 1925 А.Немцаў, у 1965 Л.Д.Побаль, у 1978 А.Р.Мітрафанаў. Культ. пласт 0,4—0,5 м. Знойдзена ляпная кераміка *мілаградскай культуры, зарубінецкай культуры* і *штрыхаванай керамікі культуры.* У верхнім гарызонце выяўлена ганчарная кераміка эпохі Кіеўскай Русі. У цэнтры вял. пляцоўкі выяўлены рэшткі фундамента драўлянай царквы.

Г а р а д з і ш ч а - 2 за 2 км на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Свіслач, ва ўр. Ранняя Рэчка. Пляцоўка авальная, памеры 145—150 × 120 м. Валы выш. да 1 м і равы захаваліся часткова. Абследавалі ў 1925 А.Немцаў, у 1955 Л.Д.Побаль, у 1978 А.Р.Мітрафанаў. Культ. пласт 0,3—0,4 м, прасочаны на ўсёй пляцоўцы. Знойдзена ляпная кераміка ранняга жал. веку, аналагічная кераміцы гарадзішча-1, фр-ты ганчарнага посуду эпохі Кіеўскай Русі.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к - 1 за 0,9 км на ПнЗ ад вёскі. 6 насыпаў дыям. 6—11 м, выш. 0,5—2,5 м. Абследавалі ў 1925 А.Немцаў, у 1978 А.Р.Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к - 2 за 0,2 км на ПдУ ад вёскі. 6 насыпаў дыям. 5—8 м, выш. 0,5—1,3 м. Абследавалі ў 1925 А.Немцаў, у 1926 С.С.Шутаў і М.М.Улашчык, у 1978 А.Р.Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.*: Ш у т а ў С.С., У л а ш ч ы к М.М. Археалагічныя разведкі на ніжняй Свіслачы ўлетку 1926 г. // Працы. Т. 2; Н е м ц а ў А. Помнікі старасветчыны ў Асіповіцкім р-не // Асіповіцкі раён Бабруйскай акругі. Мінск, 1928. Вып. 2.

**ЗБО́ЧНА**, археалагічны помнік — гарадзішча каля в. Збочна Слонімскага р-на Гродзенскай вобл. На беразе р. Окаўка, ва ўр. Гарадзішча. З трох бакоў абкружана забалочаным поплавам ракі. Пляцоўка мае круглаватую форму, умацавана 2 лініямі валоў. Вонкавы вал мае выш. 2,5—3 м (з Пн частка вала адсутнічае). Унутраны вал на адлегласці 10—25 м ад знешняга, насыпаны на краі круглай пляцоўкі дыям. 60 м. У вонкавым і ўнутраным валах ёсць уезд з ПдЗ, ва ўнутраным таксама і з ПдУ. Адкрыў у 1893 Я.М.Міхайлоўскі. Гарадзішча шматразова даследавалася. Культ. пласт таўшч. 0,4—0,7 м. Знойдзены фр-ты ганчарнай керамікі 12—13 ст., металічныя вырабы, рэшткі цэглы, косці жывёл, пячатка к. 16 ст.

*Літ.*: М и х а й л о в с к и й Е. Археологические очерки Слонимского уезда Гродненской губернии. Вильна, 1893; Г у р е в и ч Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Ленинград, 1962.

*С.А.Піваварчык.*

**ЗБРО́Я**, сукупнасць матэрыяльных сродкаў, прызначаных да вядзення бою, забеспячэння паражэння праціўніка і магчымасці абароны ад паражэння ворагам. З найб. стараж. часоў З. выкарыстоўвалася ў прамысловых (паляўнічая З.) і баявых мэтах. Уся З. падзяляецца на засцерагальнае і *наступальнае ўзбраенне*, якое ў сваю чаргу падзяляецца на З. бліжняга і З. *далёкага бою.* Займала значнае месца ў матэрыяльнай культуры народаў старажытнасці і сярэдневяковага перыяду. У развіцці наступальнага і засцерагальнага ўзбраення ўвасабляліся ўсе самыя перадавыя тэхнічныя дасягненні эпохі, бо ад якасці і дасканаласці сродкаў нападу і абароны залежала не толькі жыццё асобна ўзятага воіна, але і лёс цэлага народа. Вывучэнне З. дазваляе вызначыць ступень развіцця рамяства ў пэўным рэгіёне і яго тэхналагічны ўзровень. *М.А.Плавінскі.*

**ЗВА́РКА**, спосаб нераздымнага злучэння цвёрдых металічных цел. У старажытнасці і сярэдневякоўі пры апрацоўцы жалеза З. ажыццяўлялася шляхам награвання ў горне і пластычнай дэфармацыі загатовак пад молатам (кавальская, або горнавая, З.). На тэр. Беларусі майстры мілаградскай, зарубінецкай і інш. культур выкарыстоўвалі З. пры вырабе наканечнікаў коп'яў і сякер-кельтаў, для злучэння кавалкаў жалеза ў розныя загатоўкі пры вырабе прылад працы і зброі. Кавалі 6—8 ст. карысталіся З. пры пакетаванні сыравіны для атрымання якасных загатовак інструментаў. У эпоху Кіеўскай Русі З. выкарыстоўвалі для злучэння жалеза і сталі (3-палоснае пакетаванне, наварка стальной рабочай часткі на жал. аснову ляза), у вытворчасці нажоў, сякер, сярпоў і інш. прылад працы. Выкарыстанне спец. флюсаў пры З. дазваляла атрымліваць зварныя швы, устойлівыя да карозіі.

*Літ.*: К о л ч и н Б.А. Черная металлургия и металлообработка в древней Руси (Домонгольский период). М., 1953 (МИА. № 32); Г у р и н М.Ф. Кузнечное ремесло Полоцкой земли IX— XIII вв. М., 1987.

*М.Ф.Гурин.*

**ЗВЯЗДА́**, археалагічныя помнікі — гарадзішча, курган і курганныя могільнікі каля в. Звязда Лепельскага р-на Віцебскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а *штрыхаванай керамікі культуры* за 1,5 км на ПнУ ад вёскі, у лесе, ва ўр. Піўніца, на мысе выш. да 3 м, сярод забалочанага поплаву азёр Тэкліц і Луконец. Вядома пад назвай Аўгустова. Пляцоўка амаль круглая, памеры 35 × 30 м, зрытая акопамі. Вядома з к. 19 ст. Адносіцца да паселішчаў пераходнага перыяду — ад неўмацаваных паселішчаў да ўмацаваных гарадзішчаў. Абследаваў у 1931 А.М.Ляўданскі. Дасле-



*Я.Г.Звяруга.*

даваў 24 м² у 1953 А.Р.Мітрафанаў. Абследаваў у 1981 Ю.А.Заяц. Культ. пласт да 1 м. Знойдзены абломкі штрыхаванай керамікі (аналагічнай кераміцы *днепра-дзвінскай культуры*), жал. сякера, дроцік з шыпамі, серп, рыбалоўныя кручкі, шлак, гліняныя праслiцы, касцяная праколка, косцi свойскіх і дзікіх жывёл. Датуецца 4—1 ст. да н.э.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к - 1 на паўд.-зах. ускраіне вёскі, на беразе воз. Тэкліц. Паўд.-ўсх. частка могільніка занята гасп. пабудовамі, часткова альбо поўнасцю разбурана каля 10 насыпаў. Пл. астатняй часткі могільніка 0,5—0,6 га. Захавалася 195 курганоў дыям. 5—13 м, выш. 0,5—3 м, некаторыя падоўжаныя. У 1931 абследаваў А.М.Ляўданскі, у 1972 А.Р.Мітрафанаў, у 1982 Ю.А.Заяц.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к - 2 за 0,7 км на Пн ад вёскі, каля дарогі, што вядзе ва ўр. Піўніца і да гарадзішча Аўгустова. 4 падоўжаныя насыпы памерамі ад 10 × 6 да 12 × 6,5 м. Выявіў і абследаваў у 1981 Ю.А.Заяц. У 2001—03 А.В.Вайцяховіч даследаваў 13 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на высокай падсыпцы, на гарызонце, у падкурганных ямах. У некаторых пахаваннях сустракаліся рэшткі ахвярнай спаленай жывёлы. Суправаджальны інвентар: скроневыя кольцы з каляровых металаў (бранзалетападобныя, пярсцёнкападобныя з зярнёнымі, вузлавымі і філіграннымі пацеркамі), шкляныя пацеркі, спіральная шыйная грыўня, пласціністы і плецены пярсцёнкі, вітыя і бранзалет-змеегаловік, паясная спражка, гузікі, нажы, ляпны і кругавы посуд. Помнік датуецца к. 10 — сяр. 12 ст.

К у р г а н за 0,5 км ад вёскі, каля дарогі, што вядзе ва ўр. Піўніца. Насып падоўжанай формы, памерамі 10,5 × 6,5 м, выш. 1,4 м. Выявіў і абследаваў у 1981 Ю.А.Заяц.

*Літ.*: Л я ў д а н с к і А.М. Кароткія паведамленні аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг. // Працы. Т. 3; А л е к с е е в Л.В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины: (материалы к археол. карте Витебской обл. БССР) // Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959; М и т р о ф а н о в А.Г. Августовское городище // Тез. докл. к конф. по археологии Белоруссии. Минск, 1969.

*А.В.Вайцяховіч, В.Т.Шадыра.*

**ЗВЯРУ́ГА** Яраслаў Генрыхавіч (н. 4.9.1928, г. Мядзел Мінскай вобл.), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1972). Скончыў БДУ (1953). У 1966—2003 у ІГ НАН Беларусі. Даследаваў стараж. гарады Ваўкавыск, Гродна, Здзітаў (Бярозаўскі р-н), Ліда, Слонім, Турыйск (Шчучынскі р-н), гарадзішчы і паселішчы *Гальшаны, Гарадок* (Маладзечанскі р-н), *Гарані, Засвір, Мікольцы, Свір, Хведзевічы,* курганныя могільнікі *Вайшкуны, Засвір, Камена* (Вілейскі р-н), *Касаўшчына.* Пры раскопках Ваўкавыска (1965—71) даследаваў абарончыя збудаванні, наземныя і паўзямляначныя жытлы 11—13 ст., рэшткі храма 12 ст., даказаў існаванне горада на 250 гадоў раней за яго першае ўпамінанне ў пісьмовых крыніцах. На раскопках у Слоніме і Гродне выявіў жылыя і гасп. пабудовы гараджан. Адзін з аўтараў «Нарысаў па археалогіі Беларусі» (ч. 2, 1972).

*Тв.*: Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2. Минск, 1972 (у сааўт.); Древний Волковыск (X—XV вв.). Минск, 1975; Киев и западные земли Руси в IX—XIII вв. Минск, 1982 (у сааўт.); Белорусская археология (достижения археологов за годы Советской власти). Минск, 1987 (у сааўт.); Гісторыя Беларусі: Т. 1. Мінск, 2000 (у сааўт.); Беларускае Павілле ў жалезным веку і раннім сярэдневякоўі. Мінск, 2005; Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. Минск, 1989; Оружие древнего Волковыска // Белорусские древности. Минск, 1967; Культурные взаимосвязи славян и балтов в средневековье // Славянская культура и мировой культурный процесс. Минск, 1982; Рыбалоўныя прылады з Гарадзішча Гарані // ГАЗ. Мінск, 2005. № 20.

**ЗВЯРЫ́НЫ СТЫЛЬ**, умоўная назва шырока распаўсюджаных у старажытным мастацтве стылізаваных выяў асобных жывёл, частак іх цела альбо кампазіцый з некалькіх жывёл. Вядомы з бронзавага, пашыраны ў жал. веку. Найб. развіты ў скіфа-сармацкім мастацтве паўн. Прычарнамор'я. У мастацтве славян выявы звяроў адлюстроўвалі язычніцкія вераванні, магічныя ўяўленні. З пашырэннем хрысціянства на Захадзе і мусульманства на Усходзе З.с. страціў сваё прызначэнне, але працягваў існаваць у прыкладным мастацтве сярэдневякоўя. Вядомы *вадалеі*, змеевікі, ювелірныя вырабы (бранзалеты, пярсцёнкі), застаўкі рукапісных кніг, касцяныя і каменныя вырабы з выявамі розных звяроў, птушак, фантастычных істот. На археал. раскопках знай-

*Кругавы гаршчок, скроневыя вісочныя кольцы і пярсцёнак з могільніка-2 Звязда.*



дзены касцяныя пласціны з выявамі дракона (Ваўкавыск, Полацк), вырабы з выявамі фантастычных істот і птушак (Лукомль, Мсціслаў, Тураў), колты з выявамі пар фантастычных птушак — сімвал сямейнага шчасця (*Вішчын*, Мінск).

*Літ.*: Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2. Минск, 1972. *Г.В.Штыхаў.*

**ЗДЗІ́ТАЎ**, старажытны горад, які ўпершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1252. Пытанне пра яго месцазнаходжанне застаецца нявырашаным. Сярод даследчыкаў існуе меркаванне, што ён размяшчаўся за 4 км на Пд ад в. Здзітава Бярозаўскага р-на Брэсцкай вобл., каля б. в. Старамлыны. Тут на правым беразе р. Ясельда захаваліся рэшткі гарадзішча 11—13 ст., якое займае ізаляваны ўзгорак пл. больш за 1 га у нізіннай, месцамі забалочанай пойме ракі. З усх. і зах. бакоў да яго прымыкае стараж. селішча пл. каля 3 га. У 1970 гарадзішча абследаваў М.А.Ткачоў, у 1971 даследаваў Я.Г.Звяруга (220 $м^2$). Культ. пласт да 1,5 м. Знойдзены разнастайныя жал. наканечнікі стрэл, ключы, крэсівы, фібулы, спражкі, рыбалоўныя кручкі, фр-ты сярпоў і кос, гліняныя праслiцы, грузілы для сетак, каменныя пацеркі, тачыльныя брускі, інш. гасп. і бытавы інвентар. Кераміка ганчарная, нярэдка багата арнаментаваная. Матэрыяльная культура гарадзішча блізкая да гарадоў Тураўскай зямлі і Бел. Панямоння.

*Літ.*: Ткачев М.А. Исследования памятников оборонительного зодчества Белоруссии // АО 1970. М., 1971. *Я.Г.Звяруга.*

**ЗЕМЛЯРО́БСТВА** архаічнае. Упершыню З. пачалі займацца плямёны, якія ў 7—6-м тыс. да н.э. жылі паблізу ад цэнтраў паходжання продкаў культ. раслін (дзікія продкі пшаніцы вядомы ў Малой Азіі і Закаўказзі, проса — у Сярэдняй Азіі). Першыя земляробчыя культуры ўзніклі ў 7-м тыс. да н.э. ў Малой Азіі і на Блізкім Усходзе, праз 1—2 тыс. гадоў — у Месапатаміі, Егіпце і даліне Інда. У 6—5-м тыс. да н.э. З. стала пашырацца на Балканскім паўвостраве (культура каранова-старчава-крыш-кёраш), басейне Дуная (буга-днястроўская культура, культура боян), пазней — на лёсавых глебах у вярхоўях Віслы і на Валыні (*лінейна-стужкавай керамікі культура*). Акрамя пшаніцы тут вырошчвалі ячмень, магчыма, проса, сачавіцу. У 4-м тыс. да н.э. З. займаліся плямёны *трыпольскай культуры*, якія дасягнулі паўд. раёнаў Палесся і Сярэдняга Падняпроўя. У 3-м тыс. да н.э. на тэр. зах. Беларусі ад паўд. Прыбалтыкі да вусцяў Прыпяці распаўсюдзіліся ўплывы плямён *лейкападобных кубкаў культуры*, а з ПдУ — *трыпольскай культуры* і *ямнай культуры*. На скрыжаванні гэтых уплываў адбыўся першы архаічны падзел плямён лясной і лесастэпавай паласы на першабытных земляробаў-жывёлаводаў і тых, што захоўвалі традыцыйную гаспадарку прысвойвання, г.зн. займаліся рыбалоўствам, паляваннем і збіральніцтвам. Мяжа паміж імі перасягнула паўд.-зах. рэгіён тэр. Беларусі, напэўна, у пач. і сяр. 4-га тыс. да н.э., а крыху пазней землі на ПдУ, дзе жылі плямёны *днепра-данецкай культуры*, якія дзякуючы цесным кантактам з плямёнамі трыпольскай культуры Сярэдняга Падняпроўя авалодалі навыкамі З. — сеялі пшаніцу, ячмень, проса і інш. Пераход да вытворчых форм гаспадаркі спрыяў павышэнню спосабаў атрымання ежы, яна стала больш разнастайнай. Менавіта з той пары ў насельніцтва паявіўся прыбавачны прадукт, што вяло да пашырэння абмену і сувязей, забяспечыла чалавеку неабходны вольны час для авалодання новым спосабам гаспадарання. Пра заняткі З. сведчаць раслінныя дамешкі з зернем ячменю і пшаніцы ў гліну пры вырабе керамічнага посуду ў плямён днепра-данецкай і трыпольскай культур, знаходкі ў пластах гэтых культур пылку культ. раслін і пустазелля, што суправаджае іх. Знаходкі матэрыялаў прывазных земляробчых культур, абпаленых зярнят, зерняцёрак, крамянёвых матык, сярпоў, гліняных фігурак валоў (часам нават з ралам), касцей свойскіх жывёл і інш. на Пд Беларусі і суседніх тэр. (стаянка *Камень*) сведчаць, што ў 3-м тыс. да н.э. тут адбылася т.зв. «*неалітычная рэвалюцыя*». Ускладненне арнаментацыі на кераміцы позняга неаліту адлюстроўвае ідэалагічныя ўяўленні земляроба. З. пашыралася з ПдЗ на ПнУ і ўверх па Дняпры. Гэты працэс расцягнуўся на 2 тысячагоддзі. Канчаткова З. на ўсёй тэр. Беларусі ўсталёўвалася ў бронзавым веку, у пач. 2-га тыс. да н.э., калі з З, Пд, ПдУ на тэр. Беларусі пранікалі плямёны *шнуравой керамікі культуры*, *сярэднедняпроўскай культуры* і інш., якія ўплывалі на мясц. насельніцтва нёманскай, нарвенскай і інш. культур. Спачатку для сяўбы рыхтавалі невял. ўчасткі зямлі пераважна ў поймах рэк. Іх апрацоўвалі каменнымі і рагавымі *матыкамі*, што трапляюцца ў выглядзе пад'ёмнага матэрыялу або пры раскопках паселішчаў і могільнікаў бронзавага веку. Па меры развіцця З. сталі паяўляцца вял. палі, якія ўтвараліся ў выніку падсечкі значных участкаў лесу і яго спальвання. Так узнікла больш прагрэсіўнае на той час падсечна-агнявое, або ляднае, З. Дрэвы высякаліся каменнымі шліфаванымі сякерамі, збожжа жалі крамянёвымі *сярпамі*, перацiралі на ручных каменных *зерняцёрках*. Бронзавыя сярпы пакуль невядомы. Ляднае З. з яго прымітыўнай матыкай не магло даць шмат прадуктаў. З паяўленнем жалеза (7—6 ст. да н.э.) З. ўзнялося на больш высокую ступень развіцця. Металічныя прылады працы значна пераўзыходзілі каменныя ў прадукцыйнасці і былі больш зручныя. Для жніва выкарыстоўвалі сярпы і нажы. Тагачасныя сярпы былі невял. (даўж. ляза 8—18 см), мелі слабавыгнутую спінку, прамое лязо і дзяржанне. Такія сярпы знойдзены на гарадзішчах і селішчах *Адаменка* Быхаўскага, Буракова Гарадоцкага, *Вязынка* Маладзечанскага, *Гарадзішча* Мядзельскага, *Дзедзілавічы* Барысаўскага, *Кастрыца* Лепельскага, *Лабеншчына* (36 адз.) Мінскага р-наў і інш. Скарб земляробчых прылад, сярод якіх былі 3 сярпы,

знойдзены на гарадзішчы *Гарошкаў* Рэчыцкага р-на. На працягу ўсяго жал. веку пануючай формай З. была лядная сістэма, хоць у гэты час ва Усх. Еўропе, у т.л. на тэр. Беларусі, паявілася ворнае З. Пра гэта сведчаць знаходкі драўляных ралаў (крывадышальнае дубовае рала з поласам знойдзена ў тарфяніку каля в. Капланавічы Клецкага р-на). Металічныя наральнікі пашыраліся ў 2-й пал. 1-га тыс. У якасці цяглавай жывёлы пры апрацоўцы зямлі ралам выкарыстоўваліся валы або быкі. Паводле даследаванняў на гарадзішчы і селішчы *Банцараўшчына* Мінскага р-на ў 4 ст. да н.э. — 3 ст. н.э. і ў 6—8 ст. тут вырошчвалі пшаніцу, проса, гарох, віку, конскія (палявыя) бабы. Абпаленае зерне пшаніцы (к. 1-га тыс. да н.э.— пач. 1-га тыс. н.э.) знойдзена на гарадзішчы *Збаравічы* Мінскага р-на. Паводле палеабатанічных дадзеных гэтая культура займала 1-е месца ва Усх. Еўропе ў жал. веку сярод інш. злакавых культур, 2-е месца — ячмень. Відаць, такое ж становішча з гэтымі культурамі было на той час і на ўсёй тэр. Беларусі. Збожжа на муку перацiралі пры дапамозе зерняцёрак, якія часта трапляюцца пры раскопках помнікаў жал. веку (*Звязда* Лепельскага, *Малышкі* Вілейскага, *Кімія* Барысаўскага р-наў, Вязынка, Збаравічы і інш.). Драўляныя *ралы* для апрацоўкі зямлі выкарыстоўвалі на працягу многіх стагоддзяў. У 8—9 ст. пачалі ўжываць больш дасканалыя ралы з металічным наральнікам і чарэслам, якія падразалі верхні пласт зямлі (знойдзены на селішчах каля в. *Хотамель* Столінскага і *Дворыцкая Слабада* Мінскага р-наў). Дубовае прамадышальнае рала 13 ст. знойдзена ў Брэсце (адзіная знаходка ва Усх. Еўропе), металічныя наральнікі 11—13 ст. — у Брэсце, Клецку, Мазыры, Навагрудку, Гродне, гарадзішчы *Збароў* Рагачоўскага р-на і інш. З 10—11 ст. асн. прыладай З. стала двухзубая драўляная *саха* з металічнымі сашнікамі. Сашнікі знойдзены пры раскопках у Ваўкавыску, Гродне, Лагойску, Лукомлі, Мінску, Оршы, Пінску, Чачэрску і інш. Драўляныя часткі сахі захоўваюцца ў зямлі вельмі дрэнна, таму на тэр. Усх. Еўропы зафіксаваны толькі 2 выпадкі такіх знаходак, у т.л. ў Віцебску, дзе ў 1982 выяўлена частка сахі (расоха) к. 13 ст. Паводле канструкцыйных асаблівасцей яна павінна была мець перакладную паліцу, асіметрычныя сашнікі з развітай трубіцай, злёгку выгнутай завостранай рабочай часткай і бакавымі гранямі. Акрамя вупражных ворных прылад выкарыстоўваліся ручныя прылады для рыхлення — жал. матыкі, драўляныя рыдлёўкі з жал. акоўкамі. Самай пашыранай і амаль адзінай прыладай уборкі ўраджаю быў серп. У 10—13 ст. ён меў доўгае, часта з насечкамі лязо (25—30 см) і мала адрозніваўся ад сярпоў, якімі ў Беларусі карысталіся да



*Да арт.* ***Земляробства****. Крамянёвыя сярпы.*

В.І.Шадыра). У 2006 усе археал. аддзелы і аддзел гісторыі Беларусі сярэдніх вякоў і пач. новага часу былі аб'яднаны ў Цэнтр гісторыі даіндустрыяльнага грамадства (заг. В.М.Ляўко), які з'яўляецца структурнай адзінкай ін-та. Тры археал. аддзелы на аснове ўжывання новых методык класіфікацыі матэрыялаў праводзяць культ. ідэнтыфікацыю малавывучаных археал. комплексаў каменнага, бронзавага, жал. вякоў. З дапамогай навук. метадаў распрацоўваецца храналогія і перыядызацыя культур, выяўляюцца прычыны і механізмы змяняльнасці асн. з'яў першабытнай эпохі. Па матэрыялах раскопак гарадоў, сельскіх паселішчаў, могільнікаў даследуецца спецыфіка ўзнікнення і характар узаемасувязі археал. аб'ектаў на розных этапах іх развіцця. Прасочваецца дынаміка пераўтварэнняў у сістэме рассялення, сацыяльнай тапаграфіі, планіроўцы забудовы, манументальным дойлідстве, фартыфікацыі, рамястве і гандлі паселішчаў і рэгіёнаў. Выяўляюцца змены ў сферы духоўнай культуры і побыту насельніцтва. Даследаваныя матэрыялы склалі аснову навук. археал. фонду І.г. НАН Беларусі. Рыхтуюцца да выдання каталогі рэчавых комплексаў асобных помнікаў, культур і эпох. Навук. распрацоўкі адлюстраваны ў калектыўных працах, манаграфіях, вучэбных дапаможніках па археалогіі Беларусі. З 2006 пры І.г. НАН Беларусі дзейнічае Археал. навук.-музейная экспазіцыя, створаная на падставе пастановы Бюро Прэзідыума НАН Беларусі. Структурна экспазіцыя складаецца з 4 частак (секцый). У 1-й прадстаўлена кароткая гісторыя станаўлення археал. навукі ў Беларусі. Астатнія секцыі прысвечаны асобным храналагічным перыядам, якія вывучае археалогія (2-я секцыя асвячае першабытнаабшчынны перыяд, 3-я — эпоху ранняга і класічнага сярэдневякоўя, 4-я — эпоху позняга сярэдневякоўя і ранняга новага часу).

**ІНСТЫТУ́Т ГІСТО́РЫІ МАТЭРЫЯ́ЛЬНАЙ КУЛЬТУ́РЫ** (ІГМК) Расійскай акадэміі навук. У 1945 створана ленінградскае аддзяленне ІГМК АН СССР, перайменаванага ў 1959 у Ін-т археалогіі АН СССР. З 1959 ленінградскае аддзяленне Ін-та археалогіі АН СССР, з 1991 ІГМК РАН. Яго супрацоўнікі актыўна ўдзельнічалі ў вывучэнні старажытнасцей на тэр. Беларусі.

У 1957 Н.М.Гурына выявіла ў Панямонні 61 стаянку ад верхняга палеаліту да бронзавага веку, пры раскопках некаторых з іх у 1960—61 устанавіла, што большасць з даследаваных помнікаў адносяцца да *свідэрскай культуры*. З 1961 яна пачала сістэматычнае даследаванне Краснасельскіх шахтаў па здабычы крэменю эпохі неаліту і бронзавага веку ў Ваўкавыскім р-не (выяўлена больш за 500, даследавана каля 150 шахтаў). Ёю выяўлены сляды мацаванняў у шахтах (у выглядзе ям ад драўляных слупоў), прылады працы шахцёраў (кайлы з рагоў аленяў, невял. кінжалападобныя прылады і загатоўкі сякер). У 1955—57 у складзе Славяна-літ. атрада Прыбалтыйскай экспедыцыі Ф.Д.Гурэвіч правяла разведвальныя работы ў левабярэжжы і правабярэжжы Нёмана з мэтай пошукаў помнікаў 1-га тыс. н.э., высвятлення іх суадносін са стараж.-рус. помнікамі 11—13 ст., а таксама з мэтай вызначэння межаў слав. і балцкіх помнікаў і спецыфікі ўсх.-слав. культуры на гэтай тэрыторыі. Яна выявіла і абследавала некалькі дзесяткаў помнікаў і падзяліла іх на 3 храналагічныя групы: паселішчы са штрыхаванай і шурпатай керамікай (3—6 ст.); паселішчы з ляпной гладкасценнай керамікай (7—9 ст.) і доўгія і падоўжаныя курганы, што паявіліся ў 6 ст. і бытавалі да 10—11 ст.; паселішчы з ганчарнай керамікай і курганы з пахавальнымі абрадамі трупаспалення і трупапалажэння (10—13 ст.). У 1957—85 Ф.Д.Гурэвіч праводзіла планамерныя раскопкі стараж. Навагрудка (у 1957—67 на тэр. вакольнага горада — т.зв. Малога замка, раскапана 2000 м$^2$, у 1968—85 на тэр. дзяцінца — Замкавай гары, раскапана 400 м$^2$). Даследавана некалькі дзесяткаў жылых і гасп. пабудоў, у т.л. дамы багатых жыхароў Навагрудка, вызначаны асн. этапы яго развіцця, устаноўлены стараж.-рус. характар культуры горада, канстатавана наяўнасць высокаразвітога рамяства і гандл. сувязей з Прыбалтыкай, гарадамі Зах. Еўропы і краінамі Блізкага Усходу. М.К.Каргер даследаваў помнікі стараж.-рус. дойлідства на тэр. Беларусі. У 1962—63 ён вывучаў *Тураўскую царкву* 12 ст., высветліў архіт.-мастацкія і буд.-тэхнічныя асаблівасці храма, што дазволіла даследчыку выказаць думку пра існаванне асобай тураўскай архіт. школы. У 1965 М.К.Каргер праводзіў раскопкі *Навагрудскай Барысаглебскай царквы* 12 ст., выявіў чатырохслупавы трохапсідны стараж.-рус. храм з галерэяй сярэдзіны 2-й пал. 12 ст. У 1961—62, 1964, 1966—67 ён даследаваў храм-пахавальню і храм на дзяцінцы ў Полацку, *Полацкі Сафійскі сабор*, *Ваўкавыскі храм*. У 1968 праводзіў раскопкі рэшткаў узрванай у 1961 *Віцебскай царквы Звеставання*, даследаваў ацалелыя ніжнія часткі сцен, асн. канструкцыі падмуркаў, стараж. прытворы з паўн. і паўд. бакоў, выявіў фр-ты фрэскавага жывапісу. П.А.Рапапорт вывучаў стараж.-рус. дойлідства (у т.л. абарончае) і буд. тэхніку на тэр. Беларусі. У 1957—63 ён даследаваў абарончыя збудаванні на тэр. стараж. Тураўскай, Пінскай і Полацкай зямель, а таксама ў гарадах Верхняга Панямоння, абследаваў некалькі дзесяткаў гарадзішчаў, зрабіў іх класіфікацыю па тыпах і размяшчэнні на мясцовасці, правёў археал. раскопкі абарончых збудаванняў, у т.л. стараж. Ваўкавыска, Навагрудка, гарадзішча Турэцкая гара каля Слоніма і інш. У 1959 П.А.Рапапорт даследаваў храм у Ваўкавыску, у 1967—77 — княжацкі палац і цэрквы на Ніжнім замку і на рове ў Полацку, Вял. сабор *Бельчыцкіх храмаў*, царкву Звеставання ў Віцебску і інш. Вал.А.Булкін на чале Полацкага атрада Архіт.-археал. экспедыцыі ў 1975—80 працягваў пачатыя М.К.Каргерам даследаванні Полацкага Сафійскага сабора, разам з П.А.Рапапортам і Г.М.Штэндарам —

царквы на Ніжнім замку, храма-пахавальні Полацкага Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра, а таксама падмуркі Пятніцкай царквы Бельчыцкіх храмаў. На Верхнім замку Вал.А.Булкін адкрыў рэштці абарончага вала і рова, насцілы з тоўстых бярвён і брукаваныя маставыя, у в. Экімань — сляды плінфаробнай майстэрні, верагодна, аднаго з полацкіх цэнтраў вытворчасці цэглы. М.У.Малеўская працяглы час узначальвала вял. ўчастак работ у час археал. даследаванняў стараж. Навагрудка. У 1973—74 на чале Архіт. атрада Навагрудскай экспедыцыі працягвала вывучэнне выяўленых у 1968—72 культавых пабудоў на дзяцінцы стараж. горада, у т.л. храма 14 ст. У 1977 даследавала манументальную грамадзянскую пабудову 2-й пал. 14 ст. (гл. *Навагрудскі палац*). Значную ўвагу надавала вывучэнню рамяства жыхароў стараж. Навагрудка. К.В.Паўлава некалькі гадоў удзельнічала ў раскопках Навагрудка. У 1963—72 на чале Курганнага атрада Навагрудскай экспедыцыі даследавала могільнікі каля вёсак Батароўка, Брацянка, *Гарадзілаўка*, *Мольнічы*, *Суляцічы*, *Сялец* і інш. (раскапана каля 80 насыпаў), выявіла 2 храналагічныя групы могільнікаў, што адпавядалі 2 розным патокам славян у раёны Верхняга Панямоння, вызначыла этнічны склад насельніцтва, якому належалі гэтыя могільнікі і якое прыняло непасрэдны ўдзел у фарміраванні бел. народнасці.

**ІО́Ў** Алег Вільгельмавіч (н. 14.12.1957, в. Бронная Гара Бярозаўскага р-на Брэсцкай вобл.), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1991). Скончыў БДУ (1984). У 1979—94 і з 1995 у ІГ НАН Беларусі. У 1994—95 у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя П.Броўкі». Вывучае гісторыю Бел. Палесся 9—13 ст., гандл. і культ. кантакты насельніцтва парэчча Прыпяці і Пабужжа ў 9—13 ст. Праводзіў археал. раскопкі на гарадзішчах і селішчах Камянец, Франопаль, Піліпавічы, Чарнаўчыцы (Брэсцкі р-н), Жабер (Драгічынскі р-н), Гарадзішча, Грыўковічы (Пінскі р-н), Снядзін (Петрыкаўскі р-н), Юравічы (Калінкавіцкі р-н). Адзін з аўтараў «Гісторыі Беларусі» (т. 1, 2000), «Археалогіі Беларусі» (т. 4, 2001).

*Тв.*: Новые находки предметов христианского культа в Припятском Полесье // Археал. зб. Мінск, 2006. Вып. 1.

*В.У.Мядзведзева.*

**ІРВЯНІ́ЦА**, археалагічны помнік — гарадзішча каля в. Ірвяніца Дубровенскага р-на Віцебскай вобл. Размешчана насупраць вёскі на правым карэнным беразе р. Ірвяніца. Пляцоўка авальная, памерамі 44 × 27 м, з усх. напольнага боку ўмацавана валам выш. 1,5—1,8 м і ровам шыр. 2,5—3 м, глыб. 1,5 м. Абследаваў у 1972 У.Ф.Ісаенка, даследаваў 92 м$^2$ у 1998 Ю.У.Каласоўскі. Культ. пласт 0,6—2,4 м. На ўсх. частцы пляцоўкі выяўлены абпаленыя рэшткі драўлянай пабудовы, ямы ад слупоў і каменныя вымасткі. Знойдзены жал. серп, невял. колькасць фр-таў ляпной слабапрафіляванай керамікі калочынскай культуры 5—7 ст.

*Ю.У.Каласоўскі.*

**ІСА́ЕНКА** Уладзімір Фёдаравіч (н. 15.12.1928, г. Горкі Магілёўскай вобл.), беларускі археолаг, гісторык, краязнавец. Канд. гіст. навук (1973). Скончыў Гомельскі педагагічны ін-т (1951). Працаваў настаўнікам, дырэктарам Юравіцкай школы Калінкавіцкага р-на, разгарнуў краязнаўчую работу, стварыў мясц. музей. У 1964—92 у ІГ НАН Беларусі, у т.л. з 1974 старшы навук. супрацоўнік. У 1997—2003 — гал. археолаг пошукавага батальёна Мін-ва абароны Рэспублікі Беларусь. Вывучае гісторыю першабытнага грамадства. У басейне р. Прыпяць выявіў больш за 400 помнікаў каменнага і бронзавага вякоў (да таго было вядома 80), з іх 50 на ўкр. Палессі. Даследаваў 14 стаянак, найб. вял. з іх — неалітычныя помнікі каля в. Камень Пінскага р-на (вывучыў культ. пласт на пл. 11 тыс. м$^2$) і в. Юравічы (1,2 тыс. м$^2$). Вывучае неалітычныя культуры Палесся (нёманскую і днепра-данецкую). Распрацоўвае праблемы археалогіі першабытнасці (тыпалогія прылад, вывучэнне стратыграфіі і тапаграфіі помнікаў, марфалогія і арнаментацыя ляпнога посуду, праблемы этнагенезу стараж. насельніцтва і інш.). Першым абагульніў звесткі аб мезаліце Беларусі (1970). Адзін з аўтараў і рэдактараў прац «Нарысы па археалогіі Беларусі» (ч. 1, 1970), «Гісторыя БССР» (т. 1, 1972), «Нарысы гісторыі Беларусі» (ч. 1, 1994), «Беларуская археалогія. Дасягненні...» (1987); кніг серыі «Памяць» па Мінску і 7 раёнах Беларусі; дапаможнікаў «Археалагічны пошук», «Пошук паўшых абаронцаў Айчыны», краязнаўчых даведнікаў па Мінску. Аўтар картаграфічных работ па археал. культурах, каменным, бронзавым вяках Беларусі, этнакульт. карт («Лексічны атлас Беларусі», т. 1, 1994), этнічнай прыналежнасці плямён паводле гідраніміі Беларусі, па каменным веку («Вялікі гістарычны атлас», т. 1, 2008), а таксама па асобных баявых дзеяннях на тэр. Беларусі ў Вял. Айч. вайну і інш.

*Тв.*: Мезолит Восточного Полесья // Вопросы истории и археологии. Минск, 1966; Мезолит и неолит Припятского Полесья // Древности Белоруссии. Минск, 1966; Археологическая карта Белоруссии. Вып. 1. Памятники каменного века. Минск, 1968; Неолитическое поселение Камень в верховьях Припяти // Вопросы истории. Минск, 1969; Каменный век Белоруссии в свете нового исследования Полесья // Древности Белоруссии. Минск, 1969; Неолитическая керамика Полесья // Беларускія старажытнасці. Мінск, 1972; Археологическая карта Белоруссии. Вып. 3. Памятники бронзового века. Минск, 1976; Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976; Основные типы кремневых орудий южной Белоруссии // Орудия каменного века. Киев, 1978; Хронология неолита Полесья // КСИА, 1978. Вып. 151; Кремневые серпы Полесья // ГАЗ. Мінск, 1994. № 5; Кераміка «шнуравога» і «тшцінецкага» гарызонтаў паселішча Камень 2 (Зах. Палессе) // Там жа. Мінск, 2003. № 18.

*А.Г.Калечыц.*



*А.В.Іоў.*



**КАВАЛЕ́НЯ** Аляксандр Дзмітрыевіч (5.3.1895, в. Кашніцы Гродзенскага пав. — 27.8.1937), беларускі археолаг. Скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю (1915). У лютым 1917 мабілізаваны ў расійскую армію, у 1918—21 у Чырвонай Арміі. Пасля дэмабілізацыі працаваў настаўнікам у в. Гайна Лагойскага р-на Мінскай вобл. У 1923—29 вучыўся ў БДУ. Яго прафесійнае станаўленне як археолага адбылося ў шэрагах краязнаўчага т-ва БДУ, якое ў 1926—28 арганізавала 4 археал. экспедыцыі: на Тураўшчыну, у басейн р. Свіслач, у Дубровенскі і Ушацкі р-ны Віцебшчыны. У тыя ж гады супрацоўнічаў з археал. ўстановамі Інбелкульта, потым — Бел. акадэміі навук, удзельнічаў у даследаваннях стараж. Мінска, Банцараўскага гарадзішча, курганоў у Заслаўі, Бердыжскай палеалітычнай стаянкі. З 1932 навук. супрацоўнік ІГАН БССР. У 1933—34 выконваў планавую тэму па складанні карты археал. помнікаў паўд. часткі Беларусі да Мінска. У 1935—36 сумесна з А.М. Ляўданскім вывучаў гісторыю насельніцтва басейнаў рэк Зах. Дзвіна і Ловаць у жал. веку, удзельнічаў у падрыхтоўцы абагульняючай працы «Нарысы па гісторыі патрыярхальна-родавага грамадства ў Беларусі», якая засталася неапублікаванай. Палявыя працы і публікацыі з удзелам К. паклалі пачатак вывучэнню мілаградскай, зарубінецкай і пражскай культур у Беларусі, а таксама стараж. Турава. У 1937 на падставе неабгрунтаваных абвінавачанняў рэпрэсіраваны, растраляны. Рэабілітаваны ў 1958.

*Тв.*: Археалагічныя разведкі ў Магілёўскай, Бабруйскай і Мінскай акругах // Працы. Т. 2; Матэрыялы з дагісторыі Тураўшчыны // Там жа. Т. 2 (у сааўт.); Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі // Там жа. Т. 3.

*Літ.*: В я р г е й В. Археалагічная навука ў Беларускай ССР 1919—41. Мінск, 1992; Я е ж. А.Д.Каваленя і даследаванні Палесся эпохі жалеза і ранняга сярэднявечча // ГАЗ. Мінск, 2006. № 21; Ш а д ы р а В., К у ш н і р А. Археалагічныя росшукі А.Зм.Кавалені ў басейне Зах. Дзвіны і сучасны стан даследаванняў // Там жа; Р а с с а д з і н С.Я. Каваленя А.Д. «Дневник за 1936 г. р. Сож» як навуковая крыніца // Там жа. *В.С.Вяргей.*



*Крамянёвыя вырабы з ніжняга гарызонта стаянкі-4* ***Кавальцы.***

**КАВА́ЛЬСТВА**, ручная апрацоўка чорнага металу і вытворчасць металічных вырабаў гарачым ці халодным каваннем. Найб. стараж. від рамяства, які першым адасобіўся ад сельскай гаспадаркі ў самастойную форму вытворчасці. Гл. ў арт. *Апрацоўка жалеза.*

**КАВАЛЬЦЫ́**, археалагічныя помнікі — стаянкі (2), паселішчы (3), крэменеапрацоўчая майстэрня каля б. в. Кавальцы (зараз Славічы) Гродзен-

скага р-на. Размешчаны на левабярэжжы р. Нёман. Першыя з іх на верхняй тэрасе пры вусці р. Горніца выявілі ў 1920—30-я г. І. і Л. Савіцкія, абследавалі ў 2-й пал. 1950-х г. Ф.Д.Гурэвіч, Л.С.Клейн, Н.М.Гурына, у 1970 геолагі Г.Гарэцкі і А.Зімянкоў. Даследавалі стаянкі-1 і 4 В.С.Абухоўскі (1999, 2000, 2004—07) і В.Л.Лакіза (1999, 2000, 2005—09). У 2003 у час абследавання зоны будаўніцтва Гродзенскай ГЭС былі выяўлены паселішчы (усе помнікі на ніжняй тэрасе атрымалі дадатак — ГЭС). У 2008 пад агульным навук. кіраўніцтвам В.Л.Лакізы пры ўдзеле І.М.Язэпенкі, А.М.Плавінскага, М.А.Плавінскага, А.Ю.Ткачова даследаваны паселішча-5 (1-ГЭС), паселішча-3 (2-ГЭС), у 2009 — паселішча-4 (ГЭС, 158 м$^2$).

С т а я н к а - 2 за 1 км на ПдУ ад вёскі, на валападобным пясчаным краі 18-метровай левабярэжнай тэрасы р. Нёман. Даўж. ўздоўж краю тэрасы каля 0,3 км, шыр. 50—60 м. Выявіў у 1975 і ў 1982 даследаваў М.М.Чарняўскі (24 м$^2$). Культ. пласт да 0,3 м. У раскопе, а таксама на пераараной паверхні сабрана калекцыя крамянёвых масіўных вырабаў — лістападобныя наканечнікі, тоўстыя канцавыя скрабкі, вял. бакавыя разцы на пласцінах, пласціны і адшчэпы, аднапляцовачныя нуклеусы. Датуецца 11—9-м тыс. да н.э.

С т а я н к а - 4 за 0,5 км на Пд ад вёскі, на мысе тэрасы выш. да 18—20 м, паміж левымі берагамі рэк Нёман і Горніца. Вылучаны 2 культ. гарызонты, якія раздзелены «чыстым» пясчаным прапласткам. У 2004—07 комплексна вывучаў стаянку В.С.Абухоўскі (245 м$^2$ верхняга і 198 м$^2$ ніжняга гарызонтаў), завершылі ў 2008 і 2009 В.М.Сідаровіч і Т.А.Астраўскас (62 м$^2$ верхняга і 109 м$^2$ ніжняга гарызонтаў). Большасць знаходак з верхняга культ. гарызонта складаюць фінальнапалеалітычныя матэрыялы (9500—8500 да н.э.), якія належаць да кола культур з чаранковымі наканечнікамі: аднапляцовачныя нуклеусы, чаранковыя наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі, разцы і перфаратары. Артэфакты пазнейшых часоў нешматлікія, сярод іх мезалітычныя крамянёвыя вырабы (культуры кунда, яніславіцкая), крамянёвыя наканечнікі стрэл і фр-ты керамікі позняга неаліту (кола культуры шнуравой керамікі), бронзавага і ранняга жал. вякоў (лужыцкая культура). У ніжнім культ. гарызонце (пач. 14-га — сяр. 10-га тыс. да н.э.) знойдзены крамянёвыя артэфакты (нуклеусы, чаранковыя наканечнікі, канцавыя скрабкі, разцы, перфаратары) і астэалагічныя матэрыялы (косткі маманта, паўн. каня і сусліка).

П а с е л і ш ч а - 3 (ГЭС) на Пд ад вёскі, на ніжняй левабярэжнай тэрасе р. Нёман. Памеры пляцоўкі каля 30 × 80 м. Даследаваў В.Л.Лакіза ў 2005, 2006 і 2008 (усяго 384 м$^2$). Культ. пласт да 0,5—0,9 м. У 6 раскопах зафіксаваны 13 ям, разнастайных па памерах, глыбіні і прызначэнні. У запаўненні адной з іх, акруглай у плане, выяўлены 92 знаходкі, у т.л. развал ляпнога посуду культуры штрыхаванай керамікі. Усяго каля 5 тыс. артэфактаў, сярод якіх крамянёвыя адбойнікі і рэтушоры, нуклеусы, адшчэпы і пласціны, сколы ажыўлення пляцоўкі нуклеусаў, прылады працы, вастрыі, трапецыі, разцы, праколкі, пракруткі, прылады са скоблепадобнымі выемкамі, скрабкі і скрэблы, нажападобныя прылады на пласцінах, наканечнікі стрэл, фр-ты ляпной і ганчарнай керамікі, жал. вырабы (нажы, наканечнік стралы), медная манета 17 ст., косткі. Большасць керамікі ад ляпнога посуду з мінеральнымі дамешкамі, некаторыя са слядамі лёгкай штрыхоўкі; арнаментаваныя абломкі посуду лысагорскага і дабраборскага тыпаў нёманскай культуры (знойдзены на гэтай тэр. ўпершыню), культуры шнуравой керамікі, некаторыя — культуры шарападобных амфар. Ганчарная кераміка датуецца 16—18 ст.

П а с е л і ш ч а - 3 (2-ГЭС) на Пд ад вёскі, на ПдУ ад вусця р. Горніца, уверх па цячэнні р. Нёман, на 2-й левабярэжнай тэрасе. Памеры

*Стратыграфія стаянкі-4 **Кавальцы**.*



пляцоўкі каля 800 × 40 м. Закладзены 4 раскопы агульнай пл. 208 м². Адзначаны сляды рознaчасовых аб'ектаў (у т.л. сляды спаленай пабудовы), большасць якіх адносіцца да сярэдневяковага перыяду. Агульная колькасць знаходак — каля 6,8 тыс. адз. Сярод іх крамянёвыя вырабы (пераважна артэфакты нулявога цыклу), абломкі ляпнога і ганчарнага посуду; фр-ты абпаленай гліны, косткі жывёл, рэшткі каменных вырабаў са слядамі шліфавання, прылады з жалеза (абломкі нажоў, вастрый, спражка, цвікі і інш.) і каляровых металаў (зашпілька-кручок, штампаваная накладка зоркападобнай формы і інш.). Знойдзена манета — абол 154[6], які чаканіўся ў Вільні ў часы княжання Жыгімонта II Аўгуста [1544—72]. Мяркуючы па колькасці керамікі і інш. масавых знаходак, найб. актыўна паселішча выкарыстоўвалася насельніцтвам ВКЛ у 16—17 ст. Шмат знаходак звязана таксама з 10 — пач. 11 ст.

П а с е л і ш ч а - 5 (1-ГЭС) за 0,3—0,4 км на Пн ад вусця р. Горніца, на нешырокай 1-й тэрасе выш. да 4—5 м левага берага р. Нёман. Выявіў М.М.Чарняўскі. Памеры пляцоўкі каля 350 × 40 м. Абследавалі ў 1999 В.Л.Лакіза і В.С.Абухоўскі, даследавана ў 2008 (440 м²). Было населена носьбітамі яніславіцкай культуры, аб чым сведчаць знаходкі мікралітаў (вастрыі, трохкутнікі і інш.) і характэрных нуклеусаў. Існавала ад мезаліту да жал. веку. Найб. інтэнсіўнасць жыцця на помніку прыпадае на позні неаліт—бронзавы век, аб чым сведчаць шматлікія знаходкі крамянёвых вырабаў, у т.л. сякерка культуры шарападобных амфар, рэжучыя прылады, фр-ты керамікі і інш. Наступны этап актывізацыі жыцця-



*Крамянёвыя вырабы і керамічны посуд з паселішча-3* ***Кавальцы.***

дзейнасці звязаны з 1-й пал. 1-га тыс. н.э., пра што сведчыць выразная група фр-таў керамікі з расчосамі. У пазнейшыя часы гэты ўчастак тэрасы не быў не заселены.

Крэменеапрацоўчая майстэрня за 0,5 км на Пд ад вёскі, на мысе, утвораным краем тэрасы і правым берагам р. Горніца. Выявіў у 1970 Г.І.Гарэцкі. Памеры 100 × 300 м. На разаранай паверхні знойдзена вял. колькасць расшчэпленага крэменю і масіўных аднапляцовачных нуклеусаў. Невял. частка крэменяў мае рэтуш. Майстэрня датуецца тым жа часам, што і стаянка-2. *В.С.Абухоўскі, М.М.Крывальцэвіч, В.Л.Лакіза, В.М.Сідаровіч.*

**КАЖА́Н-ГАРАДО́К**, археалагічныя помнікі — паселішча і гарадзішчы *пражскай культуры* каля в. Кажан-Гарадок Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.

Паселішча за 2 км на ПдУ ад вёскі, ва ўр. Гарбарава Гара. Даследаваў у 1981 М.Ф.Гурын. Культ. пласт да 0,7 м. Выяўлены рэшткі паўзямлянячнага жытла (памеры 4 × 3,8 м), заглыбленага ў зямлю на 1,3 м, з падпаленымі ніжнімі драўлянымі канструкцыямі. У паўн.-ўсх. куце жытла развал печы з камянёў і кавалкаў балотнай жал. руды. Знойдзена каля тысячы фр-таў неарнаментаванага ляпнога посуду, сярод якіх 3 венчыкі з налепленым валікам на шыйцы, упрыгожаным вертыкальна-прамавугольным штампам, невял. шклянка выш. каля 6 см, дыям. венчыка 8 см. Значная частка посуду з дамешкамі буйной жарствы ў гліне. Сярод знаходак т.зв. «хлябцы», зробленыя з гліны з далейшым абпалам (дыям. 75—82 мм, таўшч. 23—50 мм), 4 біканічныя грузікі-праслiцы (выш. 20—26 мм, дыям. 25—30 мм), 2 з якіх арнаментаваны кропкавымі ўціскannямі. Выяўлены таксама вырабы з жалеза і крэменю. Датуецца 6—7 ст.

Гарадзішча-1 на ўсх. ускраіне вёскі, справа ад дарогі на в. Лахва, у лесе. Пляцоўка памерамі 75 × 65 м на невял. узвышшы, умацавана валам выш. каля 3,5 м. Абследаваў у 1980 М.Ф.Гурын. Культ. пласт 0,3 м.

Гарадзішча-2 за 0,8 км на У ад вёскі, справа ад дарогі на в. Лахва, у лесе. Пляцоўка памерамі 75 × 55 м умацавана валам выш. каля 3 м. Абследаваў у 1980 М.Ф.Гурын. Культ. пласт каля 0,4 м.

*Літ.*: Гурин М.Ф. Раскопки городища у д. Кожан-Городок // АО 1981. М., 1983. *М.Ф.Гурын.*

**КАЗАЗА́ЕЎКА**, археалагічныя помнікі — курганныя могільнікі каля в. Казазаеўка Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл.

Могільнік-1 за 2 км ад вёскі. 12 насыпаў. 7 курганоў даследаваў у 1890 У.З.Завітневіч. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах глыб. 0,7 м. Сцены адной ямы абмазаны глінай. У 3 курганах па 2 пахаванні.

Могільнік-2 за 0,5 км на З ад могільніка-1, над воз. Вышняя Рэчка, ва ўр. Дзівін Луг. Абследаванне і раскопкі не праводзіліся.

Могільнік-3 за 3 км ад вёскі. 72 насыпы. У 1890 У.З.Завітневіч даследаваў 15 курганоў. У 9 з іх пахавальны абрад — трупаспаленне на гарызонце, у некаторых перапаленыя косці знаходзіліся ў верхняй частцы насыпу. Выяўлены рэшткі посуду, каменная пацерка. У 2 курганах пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З і У у ямах глыб. 0,9 м, у 4 курганах — трупапалажэнне галавой на З на гарызонце. Знойдзены пярсцёнкападобнае скроневае кольца, кольца з надзетай на яго пацеркай, гаршчок, жаночае ўпрыгажэнне з пацерак (каралі).

*Літ.*: Завитневич В.З. Вторая археологическая экскурсия в Припятское Полесье. Киев, 1892. *Г.В.Штыхаў.*

**КАЗІНО́ВА**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і селішча каля в. Казінова Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл.

Гарадзішча за 1 км на З ад вёскі, на мысе каля лукі р. Усыса. Абследаваў Л.В.Аляксееў у 1951. Пляцоўка авальная, першапачаткова мела памеры 46,7—60 × 26 м, значна пашкоджана кар'ерам. З Пд на спадзістым схіле прасочваюцца рэшткі вала і 2 равы глыб. 0,4 м. У 1964 К.П.Шут даследаваў 56 м$^2$. Культ. пласт 0,3—0,6 м. Знойдзены жал. ўтулкавы наканечнік кап'я, нож з гарбатай спінкай, гліняныя біканічныя праслiцы і фр-ты ляпнога посуду днепра-дзвінскай культуры к. 1-га тыс. да н.э. і арнаментаваныя расчосамі кіеўскай культуры 3—4 ст., жал. двушыпны чарашковы наканечнік стралы 12—13 ст. У 1990 В.М.Ляўко даследавала 46 м$^2$ у паўн.-зах. частцы пляцоўкі. Культ. пласт 1,8 м. Выяўлена каменная вымастка. Знойдзена ляпная кераміка днепра-дзвінскай культуры, праколка з косці і амулет з зуба жывёлы.

Селішча побач з гарадзішчам. Адкрыў у 1973 Г.В.Штыхаў. Пл. каля 2 га. У падножжа гарадзішча выяўлены рэшткі вала і рова. У 1975 ён жа даследаваў 40 м$^2$. Выяўлена агнішча памерамі 1 × 1 м з каменнай абкладкай. Знойдзены фр-ты ляпной гладкасценнай і арнаментаванай расчосамі керамікі (у т.л. 90 фр-таў у запаўненні агнішча), жал. пласцінiстае крэсіва, гліняная біканічная праслiца.

*Літ.*: Шут К.П. Памятники раннего железного века на севере Белоруссии // Древности Белоруссии. Минск, 1966; Колосовский Ю.В., Штыхов Г.В. Археологический комплекс около д. Казиново Городокского района Витебской области // МАБ. 2005. Вып. 9. *Ю.У.Каласоўскі, Г.В.Штыхаў.*

**КАЗІ́НЫ РОГ**, археалагічныя помнікі каля б. пас. Казіны Рог у Буда-Кашалёўскім р-не Гомельскай вобл. Паводле апытанняў жыхароў навакольных вёсак, уздоўж грунтавой дарогі на зах. ускраіне пасёлка існавала група разбураных курганоў. Пры абследаванні ў 2008 на Пд ад б. пасёлка на пакатым схіле надпоймавай тэрасы перасохлага ручая на ўчастку 100 × 50 м выяўлены рэшткі селішча, сабраны фр-ты страж.-рус. кругавой керамікі. У 1960-я г. і ў 1980 каля вёскі выяўлены

скарбы страраж.-рус. упрыгажэнняў. Са скарбаў 1960-х г. захавалася вітая шэйная грыўня вагой 236,4 г. Яна выраблена з 3 падвойных жгутоў білонавага дроту, перавітых сканню. Мела пласціністыя наканечнікі, завяршэнні якіх не захаваліся. У скарбе 1980 выяўлена 7 вітых шэйных грыўняў з белага металу вагой 200—342 г, аздобленых сканню. Наканечнікі іх пласціністыя (у адным выпадку — у выглядзе кручкоў), арнаментаваны адбіткамі пуансона, прамымі, ламанымі лініямі, дробнымі ромбікамі, адбіткамі мнагазубчатага штампа. Вырабы характэрны для стараж.-рус. культуры 11—13 ст., але сустракаюцца выключна рэдка. Яны былі ўласцівы княжацка-баярскім уборам. Наяўнасць скарбаў каля невял. вёскі можа тлумачыцца тым, што дзесьці побач знаходзілася месца скрыжавання старых сухапутных шляхоў Чачэрск—Стрэшын і Гомель—Жлобін. *А.А.Макушнікаў.*

**КАЗЛОЎЦЫ**, археалагічны помнік — могільнік 10—11 ст. паміж вёскамі Казлоўцы і Шніткі Міёрскага р-на Віцебскай вобл. На правым беразе р. Дзісна. Выявілі ў 1987 П.М.Ціхановіч і В.А.Ермалёнак. Даследавалі ў 1988—90 Л.У.Дучыц і Г.М. Семянчук. Знойдзены наканечнікі коп'яў, нажы, шырокасярэдзінныя пярсцёнкі, вітыя бранзалеты з завязанымі канцамі, бранзалеты са стылізаванымі заамфорфнымі галоўкамі, бронзавыя скроневыя кольцы, пярсцёнкападобныя сярэбраныя скроневыя кольцы з 3 полымі гранёнымі пацеркамі, падвескі ў выглядзе дырхемаў, грушападобныя званочкі з крыжападобнай прорззю, шыйныя грыўні, шкляныя пацеркі і інш. Пахавальныя абрады — трупаспаленне і трупапалажэнне. Рытуальныя ямы памерамі 1 × 3 м, глыб. 0,7—1,8 м, запоўнены вуглем, перамешаным з зямлёй. У 7 магілах (3 жаночыя, 2 мужчынскія, 2 дзіцячыя) нябожчыкі размешчаны галавой на З, У, ПнУ. Мужчынскія пахаванні без інвентару, толькі ў адным быў нож. У жаночых пахаваннях знойдзены сярэбраныя і медныя бранзалетападобныя скроневыя кольцы, каралі са шкляных пацерак і грушападобных званочкаў з насечкамі і крыжападобнай прорззю, жоўты і блакітны бісер, жал. грыўня, вітыя з завязанымі канцамі са стылізаванымі заамфорфнымі галоўкамі бранзалеты, шырокасярэдзінныя пярсцёнкі, нажы, ляпныя і ганчарныя гаршкі. *Л.У.Дучыц, Г.М.Семянчук.*




*Шыйныя грыўні 11—13 ст. з* ***Казярожскіх рэчавых скарбаў****.*

**КАЗЬЯ́НКАЎСКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ**. Знойдзены ў в. Казьянкі Полацкага р-на Віцебскай вобл. ў 1973. У бяросце было завернута 7588 куфіцкіх *дырхемаў* Арабскага халіфата агульнай масай каля 20 кг. Пераважна манеты эміраў Саманідаў (манетныя двары Андэраба, Балх, Самарканд, аш-Шаш і інш.), а таксама манеты халіфаў Абасідаў (манетныя двары Бердао, Васіт, Нісабур і інш.), эміраў Сафарыдаў (манетны двор Фарыс), волжскай Балгарыі (манетны двор Булгар), шмат манет-перайманняў дырхемаў Абасідаў і Саманідаў. Скарб ухаваны ў 940-я г.

**КАЗЯРО́ЖСКІЯ РЭ́ЧАВЫЯ СКА́РБЫ**, два скарбы шыйных грыўняў, знойдзеныя каля пас. Козі Рог Буда-Кашалёўскага р-на Гомельскай вобл. Ухаваны ў к. 11 — пач. 13 ст. Выраблены ў стараж.-рус. гар. ювелірнай майстэрні.

П е р ш ы с к а р б знойдзены ў 1960-я г. Зберагалася адна вітая грыўня (маса 234,4 г), зробленая з 3 падвоеных жгутоў білоннага дроту, перавітых 3 суканымі ніткамі. Канцы пласціністыя, замкі не зберагліся.

Д р у г і с к а р б знойдзены ў 1980. Складаецца з 7 вітых грыўняў, 6 з якіх зроблены аналагічна грыўні з першага скарбу (маса ад 200,3 да 341,5 г), адна — з 5 падвойных жгутоў білоннага дроту, перавітых 2 суканымі ніткамі, а ўвесь выраб — яшчэ 5 ніткамі (323 г). У грыўнях арнаментаваныя пласціністыя канцы ў выглядзе спіральных петляў і 2 кручкоў, якія арнаментаваны адбіткам пуансона, прамымі, ламанымі лініямі і дробнымі ромбікамі, лініямі і дробнымі трохвугольнікамі, лініямі і адбіткамі дробназубчастага штампа, ламанай лініяй, дробнымі ромбікамі і крыжападобнай фігурай. Зберагаюцца ў Гомельскім абл. краязнаўчым музеі.


*Літ.*: Л и т в и н о в В.А., М а к у ш н и к о в О.А., Д р о б у ш е в с к и й А.И. Клады древнерусских шейных гривен из Белоруссии // СА. 1987. № 1.


*А.А.Макушнікаў.*

**КАКО́РЫЦА**, археалагічныя помнікі — стаянкі каля в. Какорыца Драгічынскага р-на Брэсцкай вобл. Выявіў і даследаваў у 1963, 1968 і 1985 У.Ф.Ісаенка.

С т а я н к а-1 *нёманскай культуры* (3-е тыс. да н.э.). За 2 км на Пн ад вёскі, на паўд. беразе воз. Спораўскае, на тэрасе выш. 2 м над узроўнем вады. Даўж. каля 200 м. Культ. пласт 0,4 м. Выяўлена некалькі соцень апрацаваных крэменяў, у т.л. 70 прылад працы, рэшткі агнішчаў.

С т а я н к а-2 ранняга перыяду нёманскай культуры (4-е тыс. да н.э.). Размешчана на Пд ад вытоку р. Ясельда з воз. Спораўскае, на пагорку выш. 3—4 м. Даўж. 120 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, абломкі глінянага ляпнога посуду, рэшткі агнішчаў.

*Літ.*: И с а е н к о В.Ф. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976. *У.Ф.Ісаенка.*

**КАЛАГЕ́НАВЫ МЕ́ТАД**, адзін з метадаў абсалютнай геахраналогіі, які заключаецца ў вызначэнні абсалютнага ўзросту касцей выкапнёвых жывёл па ўтрыманні ў іх калагену (фібрылярнага бялку групы склерапратэінаў), выкарыстоўваецца ў геалогіі і археалогіі. К.м. (метад пракальвання) засн. на вызначэнні суадносін немінеральнай і мінеральнай (арганічнай і неарганічнай) частак касцей. Пры гэтым узрост выкапнёвых рэшткаў залежыць ад колькасці арганічных кампанентаў косці, гал. чынам. калагену, які з цягам часу разбураецца. К.м. выкарыстоўваецца і ў Беларусі. П.Ф.Каліноўскі даследаваў больш за 70 касцявых рэшткаў з розных месцаў на тэр. Беларусі, у т.л. з *Бердыжскай стаянкі*, Смаргоні і інш., пацвердзіў прыдатнасць К.м. для вызначэння адноснага геалагічнага ўзросту і пэўную адпаведнасць вынікаў, атрыманых, напр., метадам 14 С (гл. *Радыевугляродны метад геахраналогіі*).

*Літ.*: П и д о п л и ч к о И.Г. Новый метод определения геологического возраста ископаемых костей четвертичной системы. Киев, 1952; К а л и н о в с к и й П.Ф. Результаты анализа ископаемых остатков млекопитающих из местонахождений на территории БССР // Вопросы геологии, геохимии и геофизики земной коры Белоруссии: материалы I науч. конф. молодых ученых. Минск, 1975. *А.Г.Калечыц.*

**КАЛАСО́ЎСКІ** Юрый Уладзіміравіч (н. 20.10. 1960, г. Унеча Бранскай вобл., Расія), беларускі археолаг. Скончыў Горкаўскі ун-т (1982). З 1984 у ІГ НАН Беларусі, з 2008 у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя П.Броўкі». Вывучае помнікі жал. веку і ранняга сярэдневякоўя Верхняга Падняпроўя: помнікі кіеўскай культуры 3—5 ст. тыпу Гарадка—Заазер'я ў Віцебскім Паддзвінні, тыпу Абідні ў Верхнім Падняпроўі і калочынскай культуры 5—7 ст., тыпу Кісялі—Вежкі ў Аршанска-Магілёўскім Падняпроўі. Удзельнік шэрага сумесных бел.-расійскіх навук. праектаў па археалогіі ранніх славян. Даследаваў археал. комплекс Вежкі, гарадзішчы Германы, Ірвяніца, Панізоўе, Чырына ў Дубровенскім р-не Віцебскай вобл., гарадзішча Кімбараўка і дзяцінец Гара Камунараў у Мазыры, археал. помнікі ў гарадах Віцебск, Мінск. Выявіў і абследаваў помнікі кіеўскай культуры ў Аршанскім Падняпроўі (з А.С.Курапаткіным).

*Тв.*: Штрихованная керамика на северо-востоке Беларуси (по материалам городищ Оршанского Поднепровья) // Гістарычныя лёсы Верхняга Падняпроўя. Магілёў, 1989. Ч. 1; Плямёны калочынскай культуры // Гісторыя Беларусі. Мінск, 2000. Т. 1; Памятники киевской культуры в Оршанском Поднепровье (разам з А.С.Курапаткіным) // Раннеславянский мир. М., 2002. Вып. 4. Верхнее Поднепровье и Подвинье в III—V вв. н.э.; Раскопки городища у д. Кисели (Дымокуры) Толочинского р-на и у д. Черкасово Оршанского р-на Витебской области (у сааўт.) // МАБ. 2003. № 8.

*В.А.Кавальчук.*

**КАЛАСЫ́**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Каласы Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл. За 1 км на ПнЗ ад вёскі, на правым беразе р. Друць. Захавалася 85 насыпаў выш. 0,5—3,5 м, дыям. 5,12 м. Адкрылі і даследавалі ў 1892 М.В.Фурсаў і С.Ю.Чалоўскі. У 1929 даследаваў А.Дз.Каваленя (4 насыпы). Пахавальны абрад — трупапалажэнні, арыентаваныя галавой на ПнУ, З і У. Пахавальны інвентар — сярэбраныя і медныя драцяныя бранзалеты, сярэбраны пярсцёнак, сердалікавая пацерка, ганчарны посуд. У 1982 даследавалі 14 насыпаў А.М.Плавінскі і В.Н.Рабцэвіч. У 13 курганах пахавальны абрад — трупапалажэнне (9 — на гарызонце на попельным пласце, 4 — у ямах), у адным кургане пахаванне не знойдзена. 11 нябожчыкаў арыентаваны галавой на З з невял. адхіленнямі, 4 — галовамі на У. Нябожчыкі ляжалі на спінах, рукі выцягнуты ўздоўж цела (8 выпадкаў) або складзены на грудзях (2) ці на поясе (1). У 5 курганах пахаваны



*Шыйныя грыўні з Казярожскіх рэчавых скарбаў.*



*А.Г.Калечыц.*

мужчыны, у 4 — жанчыны, 3 пахаванні парныя (двойчы мужчына з жанчынай і адзін раз жанчына і дзяўчынка). Нябожчыкі былі абкладзены плахамі. У насыпах добра прасочваліся рэшткі кругавых ачышчальных вогнішчаў. Мужчынскія пахаванні і пахаванні ў ямах інвентару не мелі. У жаночых знойдзены разнастайныя ўпрыгажэнні: сярэбраныя скроневыя кольцы (пярсцёнкападобныя, бранзалетападобныя з S-падобным завітком, зярнёныя трохпацеркавыя), шыракарогія лунніцы, вітыя і плоскія пярсцёнкі, трохдротавая шыйная грыўня, фібулы, разнастайныя пацеркі (сярэбраныя зярнёныя дрыгавіцкія, сердалікавыя біпірамідальныя і шарападобныя, бурштынавыя, золата- і сярэбранашкляныя бачонкападобныя, бісер). У 7 курганах знойдзены рэшткі ганчарнага посуду. Пад насыпам аднаго з кургаоў пад слоем пахаванай глебы выяўлена пахаванне 6—7 ст. па абраду трупаспалення (рэшткі крэмацыі былі змешчаны ў невял. ляпным гаршку і накрыты перавернутай ляпной пасудзінай слоікападобнай формы), пакінутае папярэднікамі дрыгавічоў. Датуецца 11—12 ст.

Матэрыялы захоўваюцца ў вучэбнай лабараторыі музеязнаўства гіст. ф-та Белдзяржуніверсітэта.

*Літ.*: К а в а л е н я А.Дз. Археалагічныя разведкі ў Магілёўскай, Бабруйскай і Мінскай акругах // Працы. Т. 2; П л а в и н с к и й А.Н. Курганный могильник у д. Колосы // АО 1982. М., 1984; Я г о ж. Раскопки курганов у д. Колосы // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988.

*А.М.Плавінскі.*

**КАЛЕ́ЧЫЦ** Алена Генадзеўна (н. 12.3.1940, г. Нальчык, Кабардзіна-Балкарыя, Расія), беларускі археолаг, палеагеограф. Д-р гіст. навук (1995), праф. (2008). Канд. геаграфічных навук (1972). Скончыла БДУ (1964). З 1970 у ІГ НАН Беларусі, у т.л. ў 2001—07 заг. аддзела. Вывучае археалогію палеаліту, мезаліту, неаліту, бронзавага веку, палеаэкалогію і палеагеаграфію. Даследавала помнікі каменнага і бронзавага вякоў на тэр. Усх. і Зах. Беларусі, у т.л. палеалітычныя *Бердыжская стаянка* Чачэрскага і стаянка *Юравічы* Калінкавіцкага р-наў. Распрацоўвае канцэпцыю першапачатковага засялення тэр. Беларусі. Да 1986 на помніках мезаліту Пасожжа ўскрыла 1440 м$^2$, на 18 паселішчах неаліту 5600 м$^2$; усяго больш за 250 паселішчаў, частка з якіх была выяўлена ўпершыню. Пры даследаванні мезалітычнай сожскай культуры (*Новыя Грамыкі* і *Глыбаўка* Веткаўскага р-на) знайшла і даследавала паўзямлянячныя жытлы гэтай пары, што з'явілася доказнай базай для характарыстыкі сацыяльнай структуры першабытнага грамадства. Даследавала помнікі верхнедняпроўскай неалітычнай культуры (*Струмень* Кармянскага і *Дубовы Лог* Добрушскага р-наў). Пасля 1986 на тэр. Зах. Палесся на пл. каля 10 тыс. м$^2$ даследавала стараж. помнікі Моталышчыны. Абагульніла дадзеныя па фінальным палеаліце Беларусі. Удзельнічала ў стварэнні «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» і кніг серыі «Памяць». Адзін з аўтараў «Археалогіі Беларусі» (т. 1, 1997). Складальнік карт па каменным веку ў «Вялікім гістарычным атласе» (т. 1, 2008).

*Тв.*: Первоначальное заселение территории Белоруссии. Минск, 1984; Река Сож. Минск, 1986 (у сааўт.); Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии. Минск, 1987; Человек и среда обитания на этапе заселения Восточной Беларуси // ГАЗ. Мінск, 1996. № 9; Старажытная Янаўшчына. Брэст, 2001; Пераход да вытворчай гаспадаркі на тэрыторы Беларусі (шляхі і час) // Ад неалітызацыі да пачатку эпохі бронзы. Культурныя змены ў міжрэччы Одры і Дняпра паміж VI і II тыс. да н.э. Познань, 2001; Человек и среда обитания Восточной Беларуси. Каменный век. Минск, 2003; Голоцен Беларуси. Минск, 2004 (у сааўт.); Першыя людзі на зямлі Беларусі. 2 выд. Мінск, 2007; Юровичская позднепалеолитическая стоянка на р. Припять в свете новых данных // Человек. Адаптация. Культура. М., 2008.

*І.Л.Калечыц.*

**КАЛІ́НАЎКА**, археалагічныя помнікі — селішча і курганны могільнік каля в. Калінаўка Гомельскага р-на.

С е л і ш ч а. Знаходзілася на тэрасе правага берага р. Уза, на ПнУ ад вёскі. Існавала ў 5—7, к. 10—15 ст. Адкрыў у 1981 А.А.Макушнікаў, абследавалі ў 1984 А.І.Драбушэўскі і В.А.Літвінаў. Прасочаны культ. пласт таўшч. да 0,3 м, рэшткі заглыбленай у мацерыковы пласт жылой пабудовы. Выяўлены ляпная і кругавая кераміка, гліняныя праслыцы і інш. Разбурана кар'ерамі.

М о г і л ь н і к. Знаходзіўся на тэрасе правага берага р. Уза, на ПнУ ад сучаснай вёскі і селішча, ва ўр. Сіянск (Асіянск), выкарыстоўваўся ў к. 10—11 ст. Паводле звестак 1873, тут налічвалася 85 курганоў, Е.Р.Раманаў у 1910 адзначыў 16 насыпаў, частку з якіх даследаваў мясц. памешчык Гершнер; былі выяўлены інгумацыі на гарызонце, медныя прадметы. У 1977 У.У.Багамольнікаў зафіксаваў 25 курганоў і даследаваў 7 з іх. У 2 курганах пахаванні не выяўлены, у 4 адзначаны інгумацыі на гарызонце. Знойдзены бронзавыя пацеркі (цыліндрычная малінападобная і эліпсоідная з імітацыяй зерня) і інш. На месцы разбуранага кургана знойдзены жал. наканечнік стралы. У 1983 могільнік знішчаны ў выніку сельскагаспадарчых работ.

*Літ.*: Р о м а н о в Е.Р. Археологический очерк Гомельского уезда // Зап. Северо-западного отдела Имп. русского археол. о-ва. Вильна, 1910. Кн. 1.

*А.А.Макушнікаў.*

**КАЛІ́НІНА**, археалагічны помнік — паселішча *верхнедняпроўскай культуры*, *сярэднедняпроўскай культуры*, *сосніцкай культуры* і ранняга жал. веку каля пас. Калініна Гомельскага р-на. За 0,3 км на ПдУ ад пасёлка, на вял. пясчаным астанцы сярод поймы правага берага р. Сож, ва ўр. Чурылава. Выявіла і абследавала ў 1975 А.Г.Калечыц. Частка помніка разбурана кар'ерам. Культ. пласт 0,1—0,2 м. Знойдзена больш за 100 скрабкоў, сякеры, цёслы, разцы, вастрыі, праколкі, свярдзёлкі, скоблі, наканечнікі стрэл і коп'яў, рэтушоры, ад-

шчэпы, пласціны, нуклеусы, запасы сыравіны, адыходы крамянёвай вытворчасці і інш.

*А.Г.Калечыц.*

**КАЛО́ЧЫН**, археалагічныя помнікі — гарадзішчы і селішча каля в. Калочын Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а-1 *калочынскай культуры* за 0,5 км на Пн ад вёскі, на мысе правага берага Дняпра. Пляцоўка памерамі 42 × 36 м умацавана 2 падковападобнымі валамі: унутраны выш. 3,5 м і знешні выш. 1,1 м. Даследавалі ў 1951 Ю.У.Кухарэнка, у 1955 В.М.Мельнікоўская, у 1955—60 Э.А.Сымановіч. Агульная пл. раскопаў 1332 м$^2$. Выяўлены рэшткі масіўнай драўлянай агароджы, якая акаймоўвала пляцоўку па перыметры. Да яе прымыкалі драўляныя пабудовы. Знойдзены фр-ты біканічных гаршкоў з валікам, гліняных пасудзін з рэшткамі абгарэлага проса і сачавіцы, жал. сярпы, нажы, шылы, долата, гліняныя праслічцы, каменная зерняцёрка, бронзавыя і касцяныя вырабы. Трапляюцца і больш раннія матэрыялы мілаградскай і зарубінецкай культур. З'яўлялася гарадзішчам-сховішчам на выпадак ваеннай небяспекі.

Г а р а д з і ш ч а-2 *мілаградскай культуры* за 0,5 км на Пд ад вёскі, на мысе правага берага Дняпра, ва ўр. Гарадок. Пляцоўка прамавугольная, памерамі 50 × 25 м, умацавана з боку поля 2 валамі: унутраны выш. каля 3,5 м, шыр. ў аснове 12 м, і знешні выш. каля 2 м і шыр. каля 10 м. Роў паміж імі шыр. 3—3,5 м і глыб. 1 м. Агульная пл. гарадзішча каля 4 тыс. м$^2$. Адкрылі ў 1951 Ю.У.Кухарэнка і В.М.Мельнікоўская, даследавала ў 1955 і 1961 В.М.Мельнікоўская, абследаваў у 1964 Л.Д.Побаль. Агульная пл. раскопаў 72 м$^2$. Культ. пласт 0,2—0,4 м. Выяўлены вял. колькасць камянёў, рэшткі ляпнога глінянага посуду, асобныя фр-ты якога пакрыты штрыхамі, глінянае прасліца біканічнай формы, бронзавы наканечнік стралы скіфскага тыпу, посахападобная шпілька і інш.

С е л і ш ч а калочынскай культуры побач з гарадзішчам-1. Пл. каля 1 га. Даследаваў у 1955—60 Э.А.Сымановіч, абследавалі ў 1955 В.М.Мельнікоўская і ў 1964 Л.Д.Побаль. Выяўлены 2 паўзямлянычныя жытлы, адно з іх прамавугольнай формы, памерам 3,8 × 3,8 м, заглыбленае ў зямлю на 0,35 м. У цэнтры быў апорны слуп, які падтрымліваў перакрыцце. У сярэдняй частцы жытла размяшчалася адкрытае агнішча. Пабудова мела слупавую канструкцыю сцен. Знойдзены фр-ты керамікі 3-й чв. 1-га тыс. н.э.

*М.І.Лашанкоў, Г.В.Штыхаў.*

**КАЛО́ЧЫНСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура, носьбіты якой у 5—7 ст. насялялі большую частку басейнаў рэк Дзясна, Сейм, вярхоўі рэк Сула і Псёл, Гомельскае, Магілёўскае і Аршанскае Падняпроўе. Асобныя помнікі калочынскай традыцыі выяўляюцца і ў нізоўях Прыпяці. Названа па комплексе помнікаў каля в. Калочын Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл., якія даследаваў Э.А.Сымановіч у 1955—60. Насельніцтва займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, ляснымі, рачнымі і хатнімі промысламі, апрацоўкай чорнага і каляровага металаў. Асн. тыпам пасяленняў служылі невял. селішчы пл. 0,5—1,5 га, размешчаныя на невысокіх рачных тэрасах і поймавых узвышшах. Многія селішчы існавалі даволі кароткі тэрмін, што, відавочна, было звязана са значнай удзельнай вагой падсечнага земляробства. Гарадзішчы (*Вежкі*, Калочын, *Нікадзімава*, прата-Гомель і інш.) выконвалі функцыі абшчынна-племянных цэнтраў (адміністрацыйныя, ваенныя, культ. і інш.), служылі месцам размяшчэння правадыроў, іх дружын, рамеснікаў. У Бел. Падняпроўі адкрыта група гарадзішчаў-свяцілішчаў, акруглых у плане, невялікага дыям. (звычайна каля 20—40 м), адсутнасць заўважнага культ. слоя. Найб. поўна даследаваны свяцілішчы *Залатаміно* ў Кармянскім р-не (1983, С.Я.Рассадзін) і *Гарадок-Стаўбун* у Веткаўскім р-не (1998—2003, М.І.Бруевіч). Жытлы — аднакамерныя чатырохвугольныя ў плане пабудовы з заглыбленым у мацярык аснаваннем. Канструкцыя сцен — зрубавая і слупавая. Для




***Класіфікацыя керамікі калочынскай культуры** Гомельскага Падняпроўя (паводле А.А.Макушнікава): А — гаршкі і карчагі; Б — міскападобныя пасудзіны; В — патэльні і дыскі.*

абагрэву служылі ачагі (па цэнтры, у куце, уздоўж сцяны), печкі-каменкі (у куце), печкі-каміны (з вонкавага боку сцяны). Жытло з каменкамі знойдзена ў *Тайманаве*, *Гомелі*, *Шчаткаве*, *Нісімкавічах* і інш., з камінамі — у Вежках. Характэрнай рысай жылых пабудоў з ачагамі з'яўляецца наяўнасць цэнтр. апорных слупоў. Пахавальны абрад — трупаспаленне па-за межамі месца пахавання. Пахаванні бескурганныя (Тайманава, *Новы Быхаў*) і падкурганныя (*Вароніна*, *Колас*). У кургане каля в. Колас Жлобінскага р-на (1974, даследаваў У.У.Багамольнікаў) адкрыта згарэлая кальцавая агароджа са слупоў, якія абмяжоўваюць месца пахавання. Калочынская кераміка — грубая ляпная, рэдка — з прыкметамі глянцавання. Звычайна пазбаўлена арнаменту (зрэдку сустракаюцца насечкі і ўціскання ў верхняй частцы пасудзіны). Набор прадстаўлены гаршкамі, карчагамі, місамі, патэльнямі. Пераважаюць гаршкі слоіка-, цюльпанападобнай, рабрыстай формы, зрэдку цыліндраканічныя. Патэльні маюць форму дыскаў, часам з невысокім борцікам. У рэчавым комплексе жал. нажы, шылы, сякеры, долаты, косы, сярпы, наканечнікі дзідаў і стрэл, гліняныя ўсечана-біканічныя праслíцы, каменныя асялкі, зерняцёркі, бронзавыя бранзалеты, паясныя наборы і пальчатыя фібулы «антаўскага» тыпу, падвескі, шкляныя пацеркі і інш. Этнічная прыналежнасць К.к. канчаткова не вызначана. Шэраг даследчыкаў адносіць яе да балтаў (В.В.Сядоў, А.Р.Мітрафанаў, І.П.Русанава, В.Б.Перхаўка, А.М.Мядзведзеў, В.І.Шадыра і інш.) ці славяна-балтаў (П.М.Траццякоў, Э.А.Сымановіч, Я.А.Гаруноў, Л.Д.Побаль, В.М.Ляўко, А.М.Абломскі, А.І.Гаўрытухін, Ю.У.Каласоўскі, М.У.Лапацін, Р.В.Церпілоўскі і інш.). К.к. генетычна звязана з мясц. кіеўскай культурай (2—5 ст.), з якой яе аб'ядноўвае мадэль гасп. развіцця, асн. формы керамікі, тыпы жылых пабудоў, асаблівасці пахавальнага абраду і інш. К.к. ў сваіх матэрыяльных праявах мае шмат агульнага з раннеслав. *пражскай культурай* (пражска-карчацкай), *пянькоўскай культурай*, таксама з *банцараўскай культурай*.




*Літ.*: Сымоновіч Э.А. Городище Колочин 1 на Гомельщине. // МИА. 1963. № 108; Горюнов Е.А. Ранние этапы истории славян Днепровского Левобережья. Ленинград, 1981; Третьяков П.Н. По следам древних славянских племен. Ленинград, 1982; Седов В.В. Происхождение и ранняя история славян. М., 1979; Макушнікаў А.А. Калочынская культура // Археалогія Беларусі. Мінск, 1999. Т. 2; Ягож. Раннесредневековая керамика городища Колочин I на Гомельщине // МАБ. 2003. №8; Ягож. Кераміка паўднёвай часткі Дняпроўска-Сожскага міжрэчча V—VII (VIII) стст. н. э. // ВАНБ. 1985. № 6; Гаврітухин И.О., Лопатин Н.В., Обломский А.М. Новые результаты изучения раннеславянских древностей лесного Поднепровья и Верхнего Подвинья (тезисы к концепции славянского этногенеза) // Славянский мир Полесья в древности и средневековье: материалы Междунар. историко-археол. конф. (19—20 окт. 2004 г.). Гомель, 2004; Рассадзін С.Я. Гарадзішча-сховішча Залатаміно ў Беларускім Пасожжы // ВАНБ. 1985. № 2. *А.А.Макушнікаў.*

**КАЛЧА́Н**, футарал для захавання і нашэння стрэл. Рабіўся з дрэва, бяросты і скуры, мог узмацняцца і ўпрыгожвацца касцянымі дэталямі і накладкамі. На тэр. Беларусі выкарыстанне К. фіксуецца з жал. веку. Касцяныя донцы К. выяўлены на гарадзішчы Рацюнкі (культура штрыхаванай керамікі). У 8—14 ст. на тэр. Усх. Еўропы выкарыстоўваліся К. 2 асн. тыпаў: берасцяныя цыліндрычныя з касцянымі петлямі для падвешвання і скураныя паўкруглыя ў сячэнні з жал. акоўкамі і петлямі для падвешвання. Абодва тыпы К. мелі драўлянае донца. Стараж.-рус. К. змяшчалі каля 20 стрэл.

Касцяныя петлі К. выяўлены ў культ. слаях Ваўкавыска, Гродна, Лукомля, Мінска, Навагрудка, Свіслачы. На гарадзішчы Свіслач знойдзены жал. кручок для падвешвання мангольскага К., страчаны захопнікамі падчас разбурэння Свіслацкага замку ў сяр. 13 ст. У Брэсце, Ваўкавыску, Друцку, Лукомлі, Мінску, Мсціславе выяўлены багата арнаментаваныя высокамаст. накладкі на К. У 16 ст. ў ВКЛ распаўсюджваецца сагайдак — камплект з К. са стрэламі і лука ў налуччы.

*Літ.*: Алексеев Л.В. Художественное ремесло косторезов из древних городов Белоруссии // СА. 1962. № 4; Медведев А.Ф. Ручное метательное оружие. Лук и стрелы, самострел VIII—XIV вв. М., 1966; Егорейченко А.А. Культуры штрихованной керамики. Минск, 2006; Бохан Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV — канцы XVI ст. Мінск, 2008. *М.А.Плавінскі.*

**КАЛЬЧУ́ГА**, від засцерагальнага ўзбраення. Уяўляе сабой сплеценую з металічных кольцаў кашулю. К. выкарыстоўваліся кельтамі, якія прынеслі іх у Італію, Грэцыю і Малую Азію. Кольцы К. выраблялся са спіральна навітага дроту. Звычайна адно кольца злучалася з 4 суседнімі. Дзякуючы сваім высокім засцерагальным якасцям і пластычнасці К. была самым папулярным сродкам аховы воіна ў Еўропе эпохі ранняга і высокага сярэдневякоўя. Стараж.-рус. назва К. — *браня* паходзіць ад стараж.-верхненямецкага bru-

nja (ням. Brünne). Шырокае распаўсюджанне К. ў Беларусі фіксуецца з 10 ст. Хаця ніводнай цэлай К. 10—13 ст. не знойдзена, фр-ты кальчужнага пляцення выяўлены падчас раскопак у курганных могільніках Экімань, у Брэсце, Ваўкавыску, Гомелі, Гродна, Заслаўі, Мінску, Мсціславе, Навагрудку, Полацку, Рагачове, Слуцку, на гарадзішчах *Вішчын*, *Рацюнкі*. К. гэтага часу мела розную даўжыню (магла дасягаць каленяў) і даўжыню рукавоў (ад перадплечча да кісці). У 12—13 ст. выкарыстоўваліся К. з каптурамі ці асобныя кальчужныя каптуры. Акрамя таго, з















*Касцяныя донцы **калчанаў** жалезнага веку з гарадзішча Рацюнкі (A), рэканструкцыі ўсходнееўрапейскіх калчанаў 8—14 ст. (B), касцяныя петлі і жалезны кручок для падвешвання калчана з гарадзішча Свіслач (C), арнаментаваныя накладкі на калчан (D): Ваўкавыск (1), Лукомль (2), Мінск (3).*



*Л.У.Калядзінскі.*

кальчужнага палатна выраблялісе барміцы для шлемаў (Гродна, Слонім). У часы ВКЛ К. фігуравала пад назвай панцыр (ням. Panzer), радзей — пад лац. тэрмінам lorica. Тэрмін «К.» з'явіўся толькі ў 16 ст. У часы позняга сярэдневякоўя К. мела выгляд кашулі з кароткімі ці доўгімі рукавамі, часам з каптуром і кальчужнымі нагавіцамі. К. адрозніваліся таксама памерамі кольцаў, сячэннем дроту, з якога яны выраблялісе (круглае ці пляскатае). Канцы кольцаў злучаліся пры дапамозе клёпак, шыпа на адным з канцоў ці не змацоўваліся зусім. З пашырэннем у к. 14 ст. «зброі бляхавай» поўны даспех з кольцаў губляе сваё значэнне, аднак кальчужныя кашулі і асобныя ўзмацняльныя элементы, выраблены з кальчужнага пляцення (спаднічкі, штонікі, каўняры-абойчыкі, рукавы і інш.), шырока выкарыстоўваліся і надалей. К. валодала ідэальнай эластычнасцю і, у спалучэнні з дастатковай трываласцю, была найб. прыстасаваная для патрэб лёгкаўзброеных воінаў, якім патрабавалася максімальная свабода рухаў. У той жа час, дзякуючы сваёй эластычнасці, К. слаба баранілі ад дробячых удараў зброі праціўніка. Таму пад К. маглі апранацца тоўстыя набіваныя курткі. Ужываліся і спец. скураныя ці тэкстыльныя курткі альбо кашулі, якія прадухілялі выціранне К. звычайнай вопраткі. З эстэтычнымі мэтамі К. маглі пакрывацца дарагой тканінай.

*Літ.*: К и р п и ч н и к о в А.Н. Древнерусское оружие. Вып. 3. Доспех, комплекс боевых средств IX—XIII вв. Ленинград, 1971; П л а в і н с к і М.А. Засцерагальнае ўзбраенне IX—XIII стст. на тэрыторыі Беларусі // ГАЗ. Мінск, 2001. № 16; Б о х а н Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV — канцы XVI ст. Мінск, 2008.

*Ю.М.Бохан, М.А.Плавінскі.*

**КАЛЯДЗІ́НСКІ** Леанід Уладзіміравіч (н. 17.2. 1952, Мінск), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1991), дацэнт (1995). Скончыў БДУ (1977). З 1974 у ІГ НАН Беларусі, адначасова ў 1985—86, 1991—93 выкладаў у Бел. педагагічным ун-це (БПУ), Бел. акадэміі мастацтваў і Мінскім ун-це культуры. З 1995 у БДПУ імя М.Танка. Праводзіў археал. раскопкі ў Віцебску (Верхні замак), Слуцку і Слуцкім р-не (Васілінкі), Капылі, прымаў удзел у раскопках Тайманава, Бярэсця, замка Нясвіж, Наднёмання Уздзенскага р-на, у Мінску (Верхні горад, Лошыца, Няміга, Сухарава, гарадзішча Барсукі), паселішча Снядзін, прымаў удзел у раскопках могільніка Курапаты. Абследаваў Віцебскі, Карэліцкі, Чавускі і Уздзенскі р-ны для збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Вывучае матэрыяльную культуру 10—18 ст. гарадоў Беларусі.

*Тв.*: Матэрыяльная культура гарадоў Беларусі ў X—XVII стст. (генезіс і станаўленне) // Тр. VI Междунар. конгресса славянской археологии. М., 1997. Т. 2. Славянский средневековый город; Аксиомы, теоремы и софизмы в интерпретации становления Верхнего замка Витебска // Castrum, urbis et bellum: зб. навук. прац. Баранавічы, 2002; Деревянные сооружения в городах Беларуси XIV—XVII вв. по археологическим данным // Civitas castrum ad Mare Baltikum Baltigas arheologiagas un vēstures problēmas loceklim prof Dr. habil. hist. Adrium Cuunem 65 gadu dzīves. Riga, 2002; Археология Беларуси в годы Великой Отечественной войны (1941—1945) // Великая Победа: героизм и подвиг народов: материалы междунар. науч. конф. (Минск, 28—29 апр. 2005 г.). Минск, 2006. Т. 2 (разам з Т.Ю.Калядзінскай); Ботанические материалы из раскопок Верхнего замка Витебска как исторический источник по виталитивной культуре Белорусского средневекового города // Ботаника (исследования): сб. науч. тр. Минск, 2008. Вып. 35; Tradycje wschodniosłowiańskie i zachodnioeuropejskie innowacje w kulturze materialnej miast Białorusi X—XVII w. // Miasto i Kultura ludowa w dzjjach Białorusi Litwy Polski i Ukrainy. Kraków, 1996.

*Т.С.Бубенька.*

**КАМАРО́ВІЧЫ**, археалагічны помнік — курганны могільнік дрыгавічоў каля в. Камаровічы Петрыкаўскага р-на Гомельскай вобл. За 4 км на Пн ад вёскі. У 19 ст. зафіксавана 57 насыпаў. У 1889 даследаваў У.З.Завітневіч. Раскапаны 25 курганоў. У 22 пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце, у 3 — у падкурганных ямах галавой на З. Знойдзены шыферныя праслiцы, сердалікавыя прызматычныя і біпірамідальныя пацеркі, крышталёвыя шарападобныя і шкляныя біканічныя і цыліндрычныя пацеркі, металічныя скроневыя кольцы, пярсцёнкі і інш. рэчы. Захавалася 5 курганоў. Датуецца 10—12 ст.

*Літ.*: З а в и т н е в и ч В.З. Из археологической экскурсии в Припятское Полесье // Чтения в Историческом обществе Нестора-летописца. Киев, 1890. Кн. 4.

*А.В.Іоў.*

**КАМАРО́ЎСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура сярэдзіны бронзавага веку (15—12 ст. да н.э.) плямён, што жылі на тэр. Зах. Украіны, у вярхоўях рэк Днестр, Паўд. Буг, Стыр, Гарынь. Назву атрымала ад могільніка каля с. Камарова Івана-Франкоўскай вобл. (Украіна). Насельніцтва займалася земляробствам і жывёлагадоўляй, жыло на селішчах у зямлянках і паўзямлянках, карысталася крамянёвымі прыладамі працы і зброяй, керамічным посудам, бронзавымі і залатымі ўпрыгажэннямі. Нябожчыкаў хавалі ў каменных скрынях або спальвалі. Пахаванні ў групавых магілах, часам у курганах. К.к. склалася на аснове адной з груп шнуравой керамікі культур, блізкая да *тшцінецкай культуры* і *сосніцкай культуры.* На думку многіх даследчыкаў, у тшцінецка-камароўскай этнакульт. вобласці (тэр. Польшчы, Пд Беларусі і Пн Украіны да Прыкарпацця) адбывалася фарміраванне продкаў славян.

*Літ.*: Нариси стародавньої історії Української РСР. Київ, 1959.

*У.Ф.Ісаенка.*

**КАМА́РЫН**, археалагічныя помнікі — паселішчы (4) каля г. Рагачоў Гомельскай вобл.

П а с е л і ш ч а-1 неаліту і бронзавага веку за 2—2,5 км на У ад горада, у левабярэжжы р. Дняпро, на паўн.-ўсх. беразе воз. Вял. Камарына (Камарын). Выявіў У.Ф.Ісаенка, абследавалі ў 1993—2007 І.М.Язэпенка, М.М.Крывальцэвіч. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, адшчэпы, пласціны, невял. колькасць неалітычнай керамікі і керамікі ранняга перыяду бронзавага веку.

П а с е л і ш ч а-2 эпохі неаліту і бронзавага веку за 2—2,5 км на У ад горада, на паўн. беразе воз. Вял. Камарына. Выявіў А.М.Рыкуноў, у 1993—94 І.М.Язэпенка і М.М.Крывальцэвіч даследавалі 117 $м^2$. Знойдзены крамянёвыя разцы, скрабкі, сякеры, наканечнікі стрэл, адшчэпы, пласціны, сколы, 75 фр-таў керамікі ранняга перыяду бронзавага веку, неалітычнай керамікі (каля 2 тыс. фр-таў), упрыгожанай грабеньчатымі адбіткамі, наколамі, лапчастым штампам.

У 1998—99 М.М.Крывальцэвіч даследаваў курган сярэднедняпроўскай культуры. Курган размяшчаўся на пагорку грады і перакрываў культ. пласт паселішча неалітычнага перыяду. Насып выцягнуты з Пн на Пд больш чым на 20 м, шыр. 17 м, выш. 0,7 м. У насыпе знойдзена вял. колькасць артэфактаў сярэдневяковага перыяду, жал. веку, тшцінецкага культ. кола эпохі бронзы. На ўзроўні гарызонта выяўлены рэшткі кругавога раўка дыям. больш за 10 м, шыр. 0,4—0,9 м, глыб. да 0,4 м. Сляды пахаванняў выяўлены ў цэнтр. частцы кургана на стараж. дзённай паверхні. Комплекс пахавання № 1 складаўся з фр-таў перапаленых костак, вугольчыкаў, керамічнага посуду з крамянёвым сколам унутры, каменнай свідраванай сякеры, 3 крамянёвых наканечнікаў стрэл. Памеры пахавання 1,7 × 0,9 м, арыентавана па лініі ПнЗ—ПдУ. Комплекс пахавання № 2 складаўся з 3 керамічных пасудзін, каменнай свідраванай сякеры, 2 крамянёвых шліфаваных сякер, крамянёвых наканечнікаў стрэл (8 экз.), крамянёвых шырокіх сколаў (6 экз.), нажоў (2










*Да арт.* ***Камарын****: 1 — пахавальная пасудзіна (рэканструкцыя); 2—4 — крамянёвыя наканечнікі стрэл; 5 — пяціпрамянёвы скол; 6 — шасціпрамянёвая шліфаваная сякера; 7 — каменная свідраваная сякера з пахавання 1 кургана каля воз. Вялікае Камарына.*

экз.), скрабкоў (2 экз.), пласцін (3 экз.). Пахаванне памерамі 1,1×0,6 м было арыентавана ў кірунку У—З. Курган датуецца 2500/2400—2200 да н.э.

П а с е л і ш ч а-5 неаліту і бронзавага веку за 0,6 км на ПдУ ад моста цераз р. Дняпро і 0,25—0,3 км на Пд ад шашы Рагачоў—Слаўгарад, на выцягнутым з Пд на Пн узвышшы, выш. 0,7—1,2 м. Пл. 170 × 40 м. Выявіў у 1997 А.М.Рыкуноў. У 1998, 2005—07 І.М.Язэпенка даследаваў 177 м$^2$. Культ. пласт 0,3—0,68 м. Сярод крамянёвых вырабаў вылучаюцца прылады працы: наканечнікі стрэл трохвугольнай формы, скрабкі канцавыя і бакавыя, сякеры, нажы, звыш 4 тыс. абломкаў неалітычнай керамікі, арнаментаванай грабеньчатымі адбіткамі, лапчастым штампам, насечкамі, разрэджанымі наколамі і лінейным штампам.

П а с е л і ш ч а-5А *днепра-данецкай культуры* эпохі неаліту, *сярэднедняпроўскай культуры* бронзавага веку за 0,12 км на Пд ад паселішча-5.




*Да арт.* ***Камарын****: 1—2 — крамянёвыя шліфаваныя сякеры; 3 — каменная свідраваная сякера; 4—6 — пахавальны посуд (рэканструкцыя) з пахавання 2 кургана каля воз. Вялікае Камарына.*

Займае ўзвышша, выцягнутае з Пн на Пд, памерам 75 × 50 м. Выявіў І.М.Язэпенка ў 2007, А.А.Разлуцкая ў 2008 даследавала 27 м². Знойдзена 2471 артэфакт, у т.л. крэмень шэры і стракаты валунны крапчасты, нуклеусы (у асн. двух- і шматпляцовачныя), 347 крамянёвых вырабаў, 58 прылад працы і ўзбраення, у т.л. 5 наканечнікаў стрэл трохвугольнай формы, укладышы, скрабкі, скрэблы, цясла-сякерка, праколкі, свердлы, 1772 фр-ты ляпной неалітычнай керамікі з занальнай арнаментацыяй у выглядзе адбіткаў грабеньчатых, лапчастых штампаў, насечак і 22 фр-ты керамікі сярэднедняпроўскай культуры ранняга бронзавага веку з ружанцавым арнаментам. Упершыню для мікрарэгіёна Рагачоў— Лучын атрыманы прадстаўнічы комплекс рэшткаў паляўнічай фауны (зайца, рачнога бабра, куніцы, лісіцы, дзіка, казулі звычайнай, аленя высакароднага, лася).

*Літ.*: И с а е н к о В.Ф. Археологическая карта Белоруссии. Вып. 3. Минск, 1976; К р ы в а л ь ц э в і ч М.М. Курган сярэднедняпроўскай культуры на возеры Камарын каля Рагачова // ГАЗ. Мінск, 2004. № 19.

*І.М.Язэпенка, А.А.Разлуцкая, М.М.Крывальцэвіч.*

**КА́МЕНА**, археалагічныя помнікі — курганныя могільнікі каля в. Камена Вілейскага р-на Мінскай вобл.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к-1 за 2,5 км на У ад вёскі, на правым беразе р. Вілія, справа ад дарогі на в. Пагост. Захавалася 47 насыпаў дыям.




*Да арт. **Камарын**: 1—3 — крамянёвыя вырабы з пахавання 2; 4 — «старашнуравы» кубак з культурнага пласта неалітычнага паселішча (варыянт рэканструкцыі); 5 — каменная шліфаваная сякера з культурнага пласта неалітычнага паселішча; 6 — каменная свідраваная сякера з насыпу кургана каля воз. Вялікае Камарына.*

6—14 м, выш. 0,7—2,3 м. Каля большасці курганоў кругавыя раўкі. Значная частка насыпаў пашкоджана больш познімі пахаваннямі. У 1974 Я.Г.Звяруга даследаваў 4 курганы. У 2 выяўлены пахаванні па абраду трупаспалення на гарызонце, у 2 — трупапалажэння на падсыпцы. Пахавальны інвентар: ганчарныя гаршкі без арнаменту, жал. наканечнікі кап'я з масіўнай утулкай і пяром прадаўгавата-яйцападобнай формы. Датуецца 10—11 ст.

К у р г а н н ы   м о г і л ь н і к-2 на паўн.-зах. ускраіне вёскі, справа ад дарогі на в. Сцешыцы. 70 насыпаў дыям. 3,5—6 м, выш. 0,4—1 м. Раўкі вакол насыпаў адсутнічаюць. Месцамі на схілах ляжаць камяні. У 1974 Я.Г.Звяруга даследаваў 6 курганоў. Памерлыя знаходзіліся ў ямах глыб. 0,4—0,8 м, галавой на З. У 4 пахаваннях выяўлены рэшткі дамавін альбо дашчаных абкладак. Каля касцякоў і над імі ляжалі вял. камяні. У 2 выпадках яны перакрывалі магільныя ямы над галавамі і нагамі нябожчыкаў. Пахавальны інвентар: 2 бронзавыя рубчастыя пярсцёнкі, 2 скроневыя кольцы з меднага дроту і надзетых на яго пустых унутры шарыкаў, больш за 10 квадратных і трохвугольных медных пласцінак ад налобных павязак. Датуецца 13—14 ст.

*Літ.*: З в е р у г о Я.Г. Исследование в Верхнем Понеманье // АО 1974. М., 1975. *Я.Г.Звяруга.*

**КА́МЕНКА**, археалагічныя помнікі — гарадзішча, селішча і курганны могільнік каля в. Каменка Дзяржынскага р-на Мінскай вобл..

Г а р а д з і ш ч а ранняга жал. веку і эпохі Кіеўскай Русі. За 0,4—0,5 км на ПдЗ ад вёскі, на ўзвышшы левага берага ручая, прытока р. Уса. Мясц. назва — Замак. Пляцоўка па форме блізкая да круга 27 × 29 м, з З і У абмежавана ярамі, з боку ручая размытая. Утвораны размывам яр дзеліць пляцоўку на 2 мысападобныя часткі. З боку поля ўмацавана падкowападобным валам выш. 3—4,5 м, шыр. асновы каля 12 м), пашкоджаным глыбокімі ямамі. Частка пляцоўкі, схілы і ўмацаванні гарадзішча параслі дрэвамі і кустамі. Адкрыў і даследаваў у 1928 А.М.Ляўданскі, у 1961 даследаваў А.Р.Мітрафанаў. У 1978 абследаваў Ю.А.Заяц. Знойдзены каменныя вымасткі, рэшткі адной з камер доўгага жытла, шлакі, каменная зерняцёрка, гліняныя праслíцы, ляпны і выраблены на крузе гліняны посуд.

С е л і ш ч а. Побач з гарадзішчам. Пл. каля 2,5 га. Падзелена ярам на 2 часткі. Адкрыў і абследаваў у 1928 А.М.Ляўданскі, абследавалі ў 1971



*Крэменеапрацоўчая майстэрня стаянкі **Каменка** Крычаўскага р-на.*

Л.Д.Побаль, у 1976 і 1980 Ю.А.Заяц. Сабрана вырабленая на ганчарным крузе кераміка эпохі Кіеўскай Русі.

К у р г а н н ы   м о г і л ь н і к эпохі Кіеўскай Русі. На краі селішча, за 0,15 км злева ад дарогі з Каменкі на в. Александрова. У 1928 было 7 насыпаў, захаваўся 1 авальны памер 10 × 8, выш. 2 м. Некалькі насыпаў у 1928 раскапаў А.М.Ляўданскі. Пахавальны абрад — трупаспаленне ў насыпе.

*Літ.*: Д у б і н с к і С.А. Доследы культур жалезнага перыяду на Віцебшчыне, Магілёўшчыне і Міншчыне // Працы. Мінск, 1928. Т.1. *Ю.А.Заяц.*

**КА́МЕНКА**, археалагічны помнік — стаянка эпохі мезаліту каля в. Каменка Крычаўскага р-на Магілёўскай вобл. За 2 км на ПдЗ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Сож. Выявіў у 1998 В.Ф.Капыцін, абследаваў у 2004—05 і даследаваў 138 м$^2$ у 2009 А.У.Коласаў. Культ. пласт залягае пад дзірваном на глыб. 0,3—0,5 м. Знойдзена каля 5,5 тыс. крамянёвых артэфактаў. У якасці сыравіны выкарыстоўваўся мясц. крэмень цёмна-шэрага колеру з мелавымі ўкрапінамі. Загатоўкамі для прылад з'яўляліся пласціны і адшчэпы, атрыманыя з адна- і двухпляцовачных нуклеусаў. Сярод прылад — канцавыя і двайныя скрабкі, рэтушаваныя, 2-гранныя і на зломе нарыхтоўкі разцы, вырабы з выемкай, пласціны-ўкладышы, мікрапласціны з прытупленым краем, нажы, праколкі і вастрыі, прылады сякучага назначэння, фр-т тронкавага наканечніка стралы, сустракаюцца адзінкавыя фр-ты керамічнага посуду *верхнедняпроўскай культуры* эпохі неаліту. На глыб. 0,38—0,44 м выяўлены рэшткі ачага формы, блізкай да авальнай памерам 1,2 × 0,75 м і магутнасцю запаўнення да 0,56 м, абкладзенага камянямі. За 1,5 м на Пд часткова ўскрыты рэшткі паглыбленага на 0,95 м у мацярык збудавання авальнай формы, пл. каля 10 м$^2$. З паўд.-зах. боку прасочваліся рэшткі прыбудовы, верагодна, тамбура ці калідора памерамі 1,8× 1,2 × 0,3 м. У межах аб'екта назіралася значная канцэнтрацыя крамянёвых знаходак, у цэнтры, бліжэй да «выхаду» — украпіны вугольчыкаў, магчыма, рэшткі ачага. Склад знаходак (шмат-



*Расчыстка вогнішча стаянкі* ***Каменка*** *Крычаўскага р-на.*

лікія нуклеусы, адшчэпы, пласціны, адзінкавыя прылады працы) дае магчымасць разглядаць збудаванне як рэшткі майстэрні па апрацоўцы крэменю. Помнік датуецца 9—7-м тыс. да н.э.

*Літ.*: Копытин В.Ф. Археологические памятники Кричевского района Могилевской области. Могилев, 1999. *А.У.Коласаў.*

**КА́МЕНКА**, археалагічныя помнікі — гарадзішча, селішча, курганныя могільнікі каля в. Каменка Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл., вядомыя з 1873.

Гарадзішча *мілаградскай культуры* за 1,5 км на ПнУ ад вёскі, ва ўр. Гарадок, на карэнным левым беразе р. Ржаўка. Пляцоўка роўная, паўавальная, памеры 40 × 30 м, з боку поля ўмацавана падковападобным валам выш. 0,5—1,1 м. З паўн. боку абмежавана ярам глыб. 1 м, з паўд. — ровам глыб. 0,5—0,6 м і вонкавым валам выш. 0,5—0,6 м. Абследавалі ў 1930 А.М.Ляўданскі, у 1966 Л.Д.Побаль, у 1976 А.Р.Мітрафанаў. Культ. пласт у цэнтры пляцоўкі 0,2—0,3 м, каля вала 0,6—0,7 м. Знойдзены фр-ты ляпнога посуду. Датуецца 6 ст. да н.э. — 1 ст. н.э.

Селішча мілаградскай культуры на У і Пд ад гарадзішча. Абследавалі ў 1930 А.М.Ляўданскі, у 1966 Л.Д.Побаль, у 1976 А.Р.Мітрафанаў. Знойдзены фр-ты керамічнага посуду. Датуецца 6 ст. да н.э. — 1 ст. н.э.

Курганны могільнік-1 радзімічаў за 1,4 км на ПнУ ад вёскі. 102 насыпы дыям. 5—13 м, выш. 0,5—2,5 м (у цэнтры могільніка ёсць курганы выш. 3,5 м, дыям. 14—15 м). Каля асноў кургаНоў прасочваюцца раўкі. Даследаваў 3 насыпы ў 1930 А.М.Ляўданскі, абследаваў у 1976 А.Р.Мітрафанаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З. У 2 курганах пахаванні мужчын (адно на гарызонце, другое ў магільнай яме). Знойдзены ганчарны посуд, бронзавыя спражкі, паясныя кольцы, жал. крэсівы і нож. Датуецца 11—12 ст.

Курганны могільнік-2 радзімічаў за 0,2—0,3 км на Пд і ПдУ ад вёскі. 97 насыпаў дыям. 5—14 м, выш. 0,5—3,5 м. У паўд. частцы могільніка 12 насыпаў дыям. 16—24 м, выш. 3,5—6 м. Даследаваў 3 курганы ў 1930 А.М. Ляўданскі, абследаваў у 1976 А.Р.Мітрафанаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце ў дамавіне. Знойдзены пярсцёнкападобныя бронзавыя скроневыя кольцы, пярсцёнкі, шкляныя пацеркі, фр-ты ганчарнай керамікі. Датуецца 11—12 ст.

*Літ.*: Ляўданскі А.М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг. // Працы. Т. 3.

**КАМЕ́ННЫ ВЕК**, самы старажытны і найбольш працяглы і складаны перыяд у гісторыі чалавецтва, які працягваўся 2,5—3 млн. гадоў.

У гэты перыяд асн. сыравінай для вырабу прылад працы і зброі былі камень, косткі, рог і дрэва. Але толькі камень здольны захоўвацца доўга. Таму абсалютная большасць знаходак, якія датуюцца К.в. і з якімі маюць справу археолагі, зроблена з каменю, што і стала падставай для назвы гэтай гіст. эпохі.

Перыяд К.в. падзяляецца на 3 этапы: палеаліт (старажытны К.в.), мезаліт (сярэдні К.в.) і неаліт (новы К.в.). Найб. працяглы і старажытнейшы з іх — палеаліт. Яго пачатак супадае з ледавіковым перыядам (плейстацэнам). З-за супадзення з часам узнікнення чалавечага грамадства плейстацэн яшчэ наз. антрапагенам. Палеаліт падзяляецца на ніжні альбо ранні (алдувайская, ашэльская культ.-гіст. эпохі), сярэдні (мусцьерская эпоха) і верхні (позні). У раннім палеаліце (эаплейстацэн — пач. позняга плейстацэну) жылі архантрапы і палеаантрапы, у познім — неаантрапы. Еўропа не была прарадзімай чалавека. Людзі сучаснага анатамічнага тыпу сфарміраваліся ў Афрыцы перад канцом сярэдняга плейстацэну. Знаходкі прадстаўнікоў Homo erectus у Закаўказзі (месцазнаходжанне Дманісі), узрост якіх каля 1,8 млн. гадоў, дазволілі меркаваць, што пранікненне на тэр. Усх. Еўропы адбылося ўжо ў раннім палеаліце (пач. эаплейстацэну). Доўгі час людзі заставаліся ў межах Каўказска-Альпійскага горнага пояса, 400—300 тыс. гадоў таму яны выйшлі за межы Каўказскіх гор і пачалі асвойваць прасторы Еўразіі. Стаянкі 2-й пал. перыяду ашэльскай эпохі знойдзены ў многіх месцах Старога Свету, у т.л. каля в. Маўэр за 10 км ад г. Гейдельберг (Германія), Вертэшсёлёш (Венгрыя), на Каўказе, у Малдове, Прыдняпроўі, Сярэдняй Азіі, больш чым у 30 пунктах Рус. раўніны (у даліне Дняпра, Прыазоўі, на Сярэдняй Волзе, паблізу ад Жытоміра і інш.). Па альпійскай шкале гэтыя падзеі адбываліся ў раннім і сярэднім плейстацэне (гюнц-міндэльскае міжледавікоўе — пач. рыс-вюрма).

Да канца сярэдняга плейстацэну і 1-й пал. неаплейстацэну (канец рыса — 1-я пал. вюрма — прыкладна 200—40 тыс. г. да н.э.) адносіцца эвалюцыя і рассяленне далёка на Пн палеаантрапаў (неандэртальцаў і неандэрталоідных форм). У асвоенай неандэртальцамі Еўропе Homo sapiens з'явіліся 35—40 тыс. г. таму назад і за 10 тыс. г. засялілі амаль увесь кантынент і пранікл і ў паўн. раёны Азіі. Эпізадычная каланізацыя паўн. шырот (да 50° паўн. шыраты), адбывалася на працягу цёплых перыядаў яшчэ ў 700—600 тыс. г. да н.э. У далейшым чалавек заняў высокашыротныя барэальныя прасторы да 62—64° паўн. шыраты (сучасныя Фінляндыя, Урал, Сібір), у эпоху позняга палеаліту ён прасунуўся ў арктычныя шыроты. Прыроднае асяроддзе ўсіх міжледавіковых эпох плейстацэну было прыдатным для пранікнення і жыцця на зямлі Беларусі прадстаўнікоў любога звяна роду Homo. Але ў сувязі з вял. глыбінёй залягання напластаванняў ніжняга плейстацэну пошукі слядоў насельніцтва дамусцьерскага перыяду на тэр. Беларусі практычна бесперспектыўныя.

У познім палеаліце (40—10,3 тыс. г. таму) з'явіўся чалавек сучаснага фізічнага тыпу — неаантрап (Homo sapiens чалавек разумны). Людзі

жылі ва ўмовах суровага клімату ў лесастэпах, што ўтварыліся ў перыгляцыяльнай (прыледавіковай) зоне. Будавалі жытлы з костак, жэрдак, пакрытых скурамі жывёл. Значныя зрухі адбыліся ў тэхналогіі апрацоўкі каменю. Асартымент прылад працы моцна пашырыўся. Чалавек навучыўся здымаць з прызматычных нуклеусаў пласціны — нарыхтоўкі для вырабу нажоў, разцоў, скрабкоў, свердлаў, наканечнікаў стрэл і інш. Высокага ўзроўню дасягнула апрацоўка косці і рога. Шырока выкарыстоўвалі рэбры і іклы мамантa. З іх рабілі розныя прыстасаванні для апрацоўкі глебы, пашыву вопраткі, забою і раздзелкі туш жывёл, вытворчасці ўпрыгажэнняў. Пачало развівацца рэалістычнае мастацтва (выявы тагачасных жывёл, паляўнічых эпізодаў). Паляванне вялося не толькі на статкавых жывёл (мамантa, паўн. аленя), але і на першабытнага быка, валасатага насарога, дзікага каня, пясца і інш. прадстаўнікоў комплексу фауны верхняга палеаліту. У палеаліце быў прыручаны сабака.

Моцнае пахаладанне ў нававалдайскую стадыю абледзянення (неавюрм; 16—15-е тыс. да н.э.), верагодна, прымусіла чалавека адступіць на Пд. Шматлікія паселішчы чалавека зноў з'явіліся напрыканцы палеаліту ў перыяд т.зв. фінальнага палеаліту (12—10-е тыс. да н.э.). Матэрыяльныя рэшткі існавання чалавека гатага часу знойдзены на тэр. ўсёй краіны прыкладна ў 300 пунктах. Яны звязаны з хвалямі мігрантаў (насельніцтва культур лінгбі, гамбургскай, валкушанскай, свідэрскай і, магчыма, аўтахтоннай грэнскай), якія вандравалі ўслед за паўн. аленямі.

З завяршэннем плейстацэну (каля 10,3 тыс. г. таму) і пач. сучаснага геалагічнага перыяду — галацэну, часам узнаўлення лясной зоны і распаўсюджаннем прадстаўнікоў багатага відамі жывёльнага свету, у Еўропе супадае пераход да мезаліту. У мезаліце (9—5-е тыс. да н.э.) адбыліся новыя зрухі ў тэхналогіі выпрацоўкі прылад працы і зброі. Калектыўнае паляванне на буйных статкавых жывёл у адкрытых ландшафтах змянілася індывідуальным на звяроў і птушак ва ўмовах закрытых ландшафтаў. Палявалі як на буйнога (тур, зубр, лось, алень, дзік), так і на дробнага (бабёр, заяц, ліса) звера. Узрасла роля рыбалоўства, працягвалі таксама займацца збіральніцтвам ядомых рэштак раслiннага паходжання. Пашырылася вытворчасць мікралітаў (трапецый, вастрый, пласцін-укладышаў, сегментаў і інш.), якія замацоўвалі ў расшчэпленай косці ці дрэве. З іх складаліся лёзы прылад. Гэта дазволіла чалавеку асвойваць новыя тэр., у т.л. тыя, на якіх амаль не было звыклай для вырабу прылад і зброі сыравіны. Пры гэтым штодзённыя патрэбы гаспадарання не маглі абысціся без ужывання даволі масіўных сякер, цёслаў, долатаў і інш. прыстасаванняў. Тагачаснае насельніцтва вельмі шырока ўжывала вырабы з косці, рога і дрэва, але ва ўмовах пясчаных глебаў Беларусі арганіка захоўваецца дрэнна, таму можна толькі меркаваць пра іх выгляд, прызначэнне і тэхналогіі вырабу. У эпоху мезаліту шырока выкарыстоўвалі лук са стрэламі, памеры якіх сталі непараўнаўча меншымі, для заняткаў рыбалоўствам пачалі выкарыстоўваць драўляныя чаўны-даўбёнкі. Гэтую эпоху прадстаўляюць рэшткі паселішчаў, пакінутыя стваральнікамі каморніцкай (на крайнім ПдЗ краіны), пясочнароўскай (адзінкавыя вырабы знойдзены на помніках паўд.-ўсх. Беларусі), кундскай (пераважна на Пн і ПнЗ, у т.л. помнікі *Крумплева*, *Замошша* і інш.) культур. На тэр. ўсёй Зах. Беларусі і на Пд краіны знойдзены шматлікія помнікі кудлаеўскай (*Кажан-Гарадок*, Рэчыца-2, Аўрамаў Бугор і шмат інш.), яніславіцкай, бутаўскай (Верхняе Падняпроўе, помнікі Дзедня, Крынічная і інш.) культур.

Неаліт — заключная эпоха К.в., якая ў Паўд. і Цэнтр. Еўропе (6—3-е тыс. да н.э.) найперш вызначаецца пашырэннем вытворчых форм гаспадарання — земляробства і жывёлагадоўлі, якія ў рознай ступені дапаўнялі формы прысвойвання — паляванне, рыбалоўства і збіральніцтва. Земляробства на лясістых тэр. патрабавала вял. колькасці сякер. Для іх вырабу быў неабходны высакаякасны крэмень, які пачалі здабываць шахтавым спосабам. У неаліце з'яўляецца гліняны посуд — кераміка, каменныя шліфаваныя і свідраваныя сякеры, матыкі і булавы, крамянёвыя сярпы. Істотнае павелічэнне крыніц харчавання і яго большая разнастайнасць, удасканаленне прылад працы і паляўнічай зброі прывялі да значнага прыросту насельніцтва, да яго экспансіі на менш абжытыя тэрыторыі. У гэты час узнікалі доўгатэрміновыя паселішчы з пастаяннай забудовай, умацоўваліся міжплемянныя сувязі, выражаныя найперш у абмене матэрыяламі, рэчамі і культ. дасягненнямі, развіваліся і ўскладняліся сацыяльныя адносіны, штодзённы побыт і хатнія заняткі, формы і праявы духоўнай культуры.

У Еўропе неалітызацыя пачалася на Пд Балканскага паўвострава, калі сюды каля 8 тысячагоддзяў назад пранiклі з Блізкага Усходу групы земляробаў і жывёлаводаў. Мігранты прынеслі ў мясц. познамезалітычнае асяроддзе ўмельства гадаваць свойскіх жывёл, вырошчваць пшаніцу і ячмень, вырабляць гліняны абпалены посуд з маляванымі арнаментамі. Некалькі пазней на З Грэцыі пачалі вырабляць кераміку са штампаванымі арнаментамі. Гэтыя 2 традыцыі (штампаваная і маляваная кераміка) разам з вытворчымі формамі гаспадарання пачалі распаўсюджвацца на суседнія тэрыторыі. Першая пачала пранікненне на З па паўн. Міжземнамор'і ў бок Атлантычнага акіяна, другая — на Пн і ПнЗ, у Падунаўе. Такім чынам, у ранненеалітычны час у Еўропе сфарміраваліся 2 правінцыі культур — міжземнаморская і балканска-дунайская. З апошняй правінцыяй у значнай ступені звязана неалітызацыя Цэнтр. Еўропы і паўн. Прычарнамор'я. Шляхам як непасрэдных міграцый, так і акультурацыі мезалітычных аўтахтонаў на сярэднім і ніжнім Падунаўі фарміруецца некалькі ар-

хеал. культур з маляванай керамікай. У сяр. 5-га тыс. да н.э. на іх паўн. перыферыі ў выніку адаптацыі да мясц. асяроддзя складваецца культура лінейна-стужкавай керамікі. Яе носьбіты, пранікаючы праз Карпаты на Пн і ПнУ, прынеслі неалітычную культ.-гасп. мадэль у Цэнтр. і часткова Усх. Еўропу. Пазней тут утвараецца як сінтэз наддунайскіх традыцый і мясц. мезаліту культура лейкападобных кубкаў, якую шэраг даследчыкаў адносіць ужо да медна-каменнага веку — энеаліту; уплывы яе пранікалі і на ПнЗ Беларусі.

Распаўсюджванне неалітычных форм гаспадаркі ва Усх. Еўропу адбывалася праз ніжняе Падунаўе (на тэр. Украіны), праз Каўказ і Сярэднюю Азію. Паступова знаёмячыся з земляробствам і жывёлагадоўляй, насельніцтва Усх. Еўропы, асабліва яе лясной зоны, доўга захоўвала мясцовыя гасп.-культ. асаблівасці, засн. на паляванні, рыбалоўстве і збіральніцтве. Працягвалася і традыцыя апрацоўкі крэменю, костак і рога. Керамічная вытворчасць большасці неалітычных супольнасцей лясной зоны ўяўляецца таксама ўласным вынаходніцтвам. Тут выкарыстоўваўся выключна вастрадонны і, радзей, кругладонны посуд, аздоблены штампаванымі арнаментамі з грабеньчатых адбіткаў, наколаў і ямак. І толькі ў сярэднім неаліце ў лясной зоне Усх. Еўропы назіраецца прыкметнае пашырэнне вытворчай гаспадаркі. У познім неаліце тут з'явіліся шліфаваныя каменныя вырабы. Аднак на У Прыбалтыкі шліфаванне было вядома яшчэ ў мезаліце. Такім чынам, у неаліце на тэр. Еўропы існавалі 2 гасп.-культ. мегазоны — паўд.-зах. з неалітычнымі культурамі, у якіх дамінавала вытворчая гаспадарка, і паўн.-ўсх. з перавагай прысвойваючай гаспадаркі. Паміж імі ад Паўд. Прыбалтыкі праз Цэнтр. Украіну і на паўн. Прыкаспій пралягала шырокая паласа кантактаў і ўплываў. Мегазоны ў значнай ступені адрозніваліся дамінацыяй розных форм гаспадарання, традыцыямі вытворчасці прылад працы і керамікі, жытлабудаўніцтвам, вераваннямі, пахавальнай абраднасцю.

Неаліт у Беларусі (4-е — пач. 2-га тыс. да н.э.) таксама меў свае асаблівасці. Ва ўмовах максімальна спрыяльнага клімату атлантычнага перыяду мясц. ранненеалітычнае насельніцтва цалкам задавальняла свае запатрабаванні, эксплуатуючы навакольнае асяроддзе традыцыйнымі спосабамі. Таму земляробства і жывёлагадоўля тут распаўсюджваліся павольна і паступова і праз усю эпоху толькі дапаўнялі паляванне, рыбалоўства і збіральніцтва. У неаліце на тэр. Беларусі дамінавалі крамянёвыя вырабы, выкананыя ў традыцыйных тэхніках апрацоўкі каменя. Толькі ў познім неаліце пачынаюць распаўсюджвацца шліфоўка і свідраванне. Камень дапаўняўся косткай, рогам і дрэвам.

Пачатак неаліту на тэр. Беларусі характарызуецца найперш з'яўленнем глінянага абпаленага посуду — керамікі. Тыпы керамікі і яе арнаменты сталі асн. падставай для выдзялення шэрагу неалітычных археал. культур.

*Літ.*: Археалогія Беларусі. Т. 1. Мінск, 1997; Исаенко В.Ф. Мезолит Припятского Полесья // КСИА. 1977. Вып. 149; Будько В.Д., Вознячук Л.Н. Палеолит Белоруссии и смежных территорий: итоги исследований за годы сов. власти // Древности Белоруссии. Минск, 1969; Будько В.Д. Памятники свидерско-гренской культуры на территории Белоруссии // МИА. 1966. № 126; Калечиц Е.Г. Первоначальное заселение территории Белоруссии. Минск, 1984; Яе ж. Человек и среда обитания. Восточная Беларусь. Каменный век. Минск, 2003; Колосов А.В. Финальный палеолит и мезолит Белорусского Посожья // Русский сб. Брянск, 2008. Вып. 4; Копытин В.Ф. Каменный век на территории Белоруссии. Минск, 1990; Яго ж. Памятники финального палеолита и мезолита Верхнего Поднепровья. Могилев, 1992; Ксензов В.П. Мезолит Северной и Центральной Беларуси // МАБ. 2006. № 13; Зубов А.А., Васильев С.В. Первоначальное заселение Европы по данным антропологии // Доисторический человек: биологические и социальные аспекты. М., 2006; Obuchowski W. Materiały paleolityczne I mezolityczne z zachodniej Białorusi. Światowit. Vol. 16. Warszawa, 2009. *А.Г.Калечыц, М.М.Чарняўскі.*

**КАМЕ́ННЫЯ БА́БЫ**, выявы чалавечых фігур, звязаныя з культам продкаў. Сустракаюцца ў стэпавай паласе Еўропы і Азіі ад Прыкарпацця да Манголіі. Выраблены ў тэхніцы рэльефу, барэльефу, скульптуры, выш. 1—4 м. Вядомы К.б. бронзавага веку (2-е тыс. да н.э.), скіфа-сармацкага часу ў Прычарнамор'і, К.б. 4—9 ст., пакінутыя цюркамоўнымі народамі Азіі (Алтай, Казахстан, Манголія, Тыва, Хакасія), К.б. ўсх. стэпаў ранняга сярэднявякоўя.

На тэр. Беларусі вядома каля 10 К.б., якія завезены для ўпрыгажэння паркаў. Паводле звестак Е.Р.Раманава, у ліку першых К.б. завезена каля 1787 у Прапойск (цяпер Слаўгарад Магілёўскай вобл.) для палаца кн. Галіцына. Дзве К.б. былі пастаўлены ў Гомелі каля палаца кн. Паскевіча, 2 знаходзіліся ў маёнтках Дзедзілава пад Оршай і Крынкі пад Віцебскам (вядомы па фотаздымках). Некалькі К.б. было ў маёнтку Дабраўляны на Смаргоншчыне. Ва ўсіх фігур рукі складзены на жываце, у руках цыліндрычны кубачак. Мяркуюць, што К.б. завезены ў Беларусь з Прыазоўя, датуюцца 11—13 ст.

*Літ.*: Мялешка М. Камень у вераваннях і паданнях беларуса. Мінск, 1929; Федоров-Давыдов Г.А. Кочевники Восточной Европы под властью золотоордынских ханов: археол. памятники. М., 1966; Плетнева С.А. Половецкие каменные изваяния. М., 1974 (САИ. Е4—2). *Л.У.Дучыц, С.Я.Рассадзін.*

**КАМЕ́ННЫЯ КРЫЖЫ́**, манументальныя прадметы культу хрысціянскай рэлігіі, зробленыя з валуноў, помнікі гісторыі, эпіграфікі, мастацтва і духоўнай культуры. Сустракаюцца амаль па ўсёй тэр. Еўропы і Беларусі. Іх ставілі на месцах б. язычніцкіх капішчаў, пры пабудове храмаў (в. Дрысвяты Браслаўскага р-на), на месцах памятных падзей і бітваў (в. Сокарава Бешанковіцкага р-на), на перакрыжаваннях сухапутных і водных шляхоў (наваколле г. Віцебск, вёскі Пляцы Сенненскага, Бераснёўка Докшыцкага р-наў), на могілках (вёскі Экімань Полацкага, Вільча Жытка-

віцкага, Заазер'е Бялыніцкага р-наў), а таксама на курганах і каля гарадзішчаў.

Многія К.к. знешне нагадваюць ідалаў (вёскі Даўгінава Вілейскага, Грабаўцы і Залуззе Жабінкаўскага, Буцькі Пружанскага р-наў). На некаторых крыжах высечаны знакі (в. Заполле Бялыніцкага р-на), даты (вёскі Вендараж Магілёўскага, Купяцічы Пінскага р-наў), надпісы (г. Валожын, в. Рудня Гарадоцкага р-на), малюнкі (в. Вітунічы Докшыцкага р-на), барэльефы (вёскі Стража Кіраўскага, Даўгінава Вілейскага р-наў).

У наш час крыжы ўпрыгожваюць фартушкамі, хусткамі, стужкамі, ім ахвяруюць грошы, кветкі, садавіну (на Барыса-Глебаўскіх могілках у г. Тураў, у вёсках Палачаны Маладзечанскага, Данілевічы і Баравое Лельчыцкага р-наў). У народзе многія К.к. маюць адметныя назвы: Святы камень ці Каменная дзяўчынка (в. Данілевічы Лельчыцкага р-на), Крыж-Баба або Кацярынінскі крыж (в. Галошава Талачынскага р-на), Божы крэст або Каменна Божа Мацер (в. Пагост Жыткавіцкага р-на), Каралеўскі камень (в. Вітунічы Докшыцкага р-на) і інш.

*Літ.*: К а й г о р о д о в Н.Н. Екиманские древности: (из поездки по Витебской Белоруссии): археол. заметки). Санкт-Петербург, 1912; Т а р а н о в і ч В.П. Старасветчына Мазыршчыны ў матэрыяльных помніках // Наш край. 1928. № 8—9; С а с к е в и ч Н.А. Легенда о каменном кресте // Полесье и этногенез славян. Предварительные материалы и тезисы конференции. М., 1983; Л я ў к о ў Э.А. Маўклівыя сведкі мінуўшчыны. Мінск, 1992; Д у ч ы ц Л. Каменныя крыжы // З глыбі вякоў. Наш край. Мінск, 1997. № 2; Л о б а ч е в с к а я О.А. Женские антропоморфные кресты на Беларуси: современные наблюдения и гипотезы // Палявая фальклярыстыка і этналогія: даследаванне лакальных культур Беларусі. Мінск, 2008. *Дучыц Л.У.*

**КАМЕ́ННЫЯ КУРГАНЫ́**, збудаванні, складзеныя цалкам з камянёў ці ўзведзеныя з камянёў і зямлі. Найчасцей гэта невысокія (рэдка больш за 0,5—0,8 м) плоскія насыпы дыям. ад 6 да 18—20 м. Пашыраны ў Верхнім і Сярэднім Панямонні, сярэднім цячэнні р. Зах. Буг. Даследавалі ў к. 19 — пач. 20 ст. М.П.Авенарыус, Э.А.Вольтэр, В.А. Шукевіч, М.Я.Янчук, С.Крукоўскі, у сяр. і 2-й пал. 20 ст. — У.Антаневіч, І.В.Біруля, Я.Ясканіс, В.В.Сядоў, Т.М.Каробушкіна, Я.Г.Звяруга і інш. Большасць сучасных даследчыкаў лічыць К.к. пахавальнымі помнікамі зах.-балцкіх (яцвяжскіх) плямён 1-га — пач. 2-га тыс. У найб. ранніх К.к. пахавальны абрад — трупапалажэнне. У 3—4 ст. побач з трупапалажэннямі сустракаюцца трупаспаленні. На мяжы 4—5 ст. абрад трупаспалення стаў пануючым. У пач. 2-га тыс. гэты абрад зноў замяніўся трупапалажэннямі. У ранніх і позніх курганах з трупапалажэннямі было звычайна адно, у выключных выпадках 2 і больш пахаванняў. Курганы з трупаспаленнямі нярэдка змяшчалі 2—3 і нават больш за 10 пахаванняў (т.зв. «сямейныя курганы»). У курганах 2—4 ст. пахавальны інвентар разнастайны. У мужчынскіх пахаваннях прадметы ўзбраення, рыштунку конніка і баявога каня (наканечнікі коп'яў, шпоры, цуглі), у жаночых — упрыгажэнні (шыйныя грыўні, бранзалеты, пацеркі) і дробныя прылады працы (іголкі, прасліцы). У курганах 5—10 ст. з трупаспаленнямі інвентар значна бяднейшы. У позніх жаночых трупапалажэннях сустракаюцца пярсцёнкападобныя і трохпацеркавыя скроневыя кольцы, бляшкі ад налобных павязак, бранзалеты, пярсцёнкі, у мужчынскіх — наканечнікі коп'яў, крэсівы, спражкі. У курганах 11—13 ст. сустракаюцца рэчы балцкіх і слав. тыпаў, што сведчыць пра славянізацыю балцкіх плямён. На тэр. Беларусі К.к. вядомы каля вёсак Каўпакі, Ясудава Гродзенскага, Падрось Ваўкавыскага, Кашалі Зэльвенскага, Войская, Ратайчыцы, Свішчова, Трасцяніца Камянецкага р-наў і інш.

*Літ.*: З в е р у г о Я.Г. Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. Минск, 1989. *Я.Г.Звяруга.*

**КАМЕ́ННЫЯ МО́ГІЛЬНІКІ**, пахавальныя помнікі канца 10—17 ст., якія вызначаюцца наяўнас-



***Каменны крыж*** *каля в. Новае Жыццё Крупскага р-на.*

цю каменных вымастак над магіламі. Вылучаны ў асобны тып старажытнасцей бел. Панямоння. У Беларусі іх вывучалі ў 1884—95 В.А.Шукевіч і Э.А.Вольтэр (у 10 могільніках ускрыта каля 200 пахаванняў), якія вылучылі 2 тыпы пахаванняў — *каменныя курганы* і каменныя магілы. Аднак паслядоўнае іх размежаванне на аснове розніцы ў канструкцыях каменных вымастак, пахавальным абрадзе і інвентары не праведзена. Рэчы з даследаваных імі могільнікаў у асн. страчаны. У 1930-я г. А.Дз.Каваленя вывучаў адзінкавыя пахаванні ў К.м. Віцебскай і Мінскай абласцей па рэках Бярэзіна і Вілія. У 1936 Я.Фіцтке даследаваў могільнік каля в. Падрось Ваўкавыскага р-на.

Асн. колькасць К.м. знаходзіцца на тэр. Гродзенскай вобл., адзінкавыя помнікі вядомы ў Брэсцкай, Віцебскай і Мінскай абласцях, на ПдУ Літвы. Адзначаны адзінкавыя могілкі і групы могільнікаў па 2—3 і больш, размешчаных па берагах рэк на невял. узвышшах з сухім пясчаным грунтам. Магілы знаходзяцца на пагорках і іх схілах, не дасягаючы падножжа. Найчасцей у К.м. налічваецца па 60—80 пахаванняў, толькі ў могільніках *Вензаўшчына* Шчучынскага, *Клепачы* Слонімскага і *Куклі* Воранаўскага р-наў колькасць магіл дасягае 180—200. Пахаванні цягнуцца радамі ў напрамку Пн—Пд (мерыдыянальная сістэма), на могільніку каля в. Клепачы больш стараж. пахаванні знаходзіліся ў цэнтры (радыяльная сістэма). Размяшчэнне магіл групамі па 2—5 і выпадкі падзахаванняў сведчаць пра сямейны прынцып пахаванняў. Магілы ў групах заўсёды зрушаны ў адносінах адна да адной (паводле нар. павер'я, пашыранага і цяпер сярод жыхароў Шчучынскага і Мастоўскага р-наў, «калі нябожчыкаў-сваякоў хаваць роўнымі радамі, роўнымі радамі паляжа ўвесь род»).

Магілы абкладалі камянямі розных памераў у адзін, зрэдку ў два слоі. У к. 10 — пач. 13 ст. рабілі вымасткі — брукоўкі круглай, авальнай ці прамавугольнай формы (1,9 × 1,8 × 0,2 м, 3,2 × 1,3 × 0,3 м). У сяр. 12 — пач. 13 ст. ў галаве пахаванняў пачалі ставіць вял. камяні акруглай ці няправільнай трохвугольнай формы без слядоў штучнай апрацоўкі. У к. 13 — пач. 14 ст. ў нагах пахаванняў зрэдку ставілі камяні адвольнай формы, з к. 14 — пач. 16 ст. — спецыяльна падабраныя ці расколатыя палавінкі невял. камянёў. У 14—17 ст. шырыня вымастак зменшылася, з захаваннем авальнай формы (Навасёлкі Ваўкавыскага р-на) пашырыліся прамавугольныя вымасткі з невял. камянёў, пакладзеных у 2—3 паралельныя радкі; у галаве і нагах ставілі большыя камяні. У пач. 15 ст. на камянях у галаве пахаванняў пачалі выбіваць крыжы (Клепачы), у к. 16—17 ст. распаўсюджаны крыжы рознай формы, зрэдку ў спалучэнні з салярнымі знакамі (*Мінеўшчына* Ваўкавыскага р-на). Вымасткі часта парушаны.

У к. 10—14 ст. пахавальны абрад — трупапалажэнне ў чатырохвугольнай яме з закругленымі вугламі і звужанай доннай часткай (даўж. 1,8—2 м, шыр. 0,5— 0,8 м, глыб. 0,5—1,3 м). Нябожчыка абстаўлялі з усіх бакоў дошкамі (шыр. 10—12 см, таўшч. 1,5 см), якія часам мацавалі драўлянымі цвікамі; зрэдку хавалі без дамавіны. Нябожчык ляжаў заўсёды на спіне ў выцягнутым стане (на баку адзначаны толькі падзахаванні), арыентаваны мерыдыянальна, што характэрна для стараж. фіна-угорскага насельніцтва. У магілу клалі рэчы памерлага: у мужчынскія пахаванні — прылады працы, зброю і інш., у жаночыя — упрыгажэнні, рытуальныя прадметы, амулеты (зубы мядзведзя ці дзіка), сімвалічныя ключы (па сведчанні літ. археолагаў, іх клалі гаспадыням ці эканомкам). Дзяўчынак да 5—6 гадоў, хлопчыкаў да 12 гадоў хавалі без інвентару.

У некаторых пахаваннях на дне магільных ям па-за дамавінай знойдзены невял. камяні (Вензаўшчына, Куклі) — звычай, зафіксаваны ў К.м. Мазовіі і Падляшша і не характэрны для бел. Панямоння; невял. (дыям. 10—15 см) вогнішчы каля плячэй, тазавых костак, на ўзроўні каленяў або вугалі (шыр. слоя 1,5—2 см, таўшч. 0,08—0,15 м) вакол труны над усім шкілетам, не даходзячы да чэрапа; толькі над чэрапам і нагамі, але ніколі не дасягалі касцей як сімвалічная праява абраду трупаспалення. Гэтыя асаблівасці К.м. захоўваліся амаль да сяр. 16 ст. (*Навасёлкі* Зэльвенскага р-на). Кавалкі керамічнага посуду пад каменнымі вымасткамі — рэшткі *трызны* (гаршчок — сімвал жыцця — разбівалі ў знак таго, што чалавек памёр), каменныя вымасткі — сведчанне пакланення Перуну.

З часу ўваходжання бел. Панямоння ў ВКЛ і афіцыйнага прыняцця хрысціянства ў пахавальным абрадзе з'явіліся новыя элементы — выбітыя крыжы на камянях у галаве пахаванняў, каменныя крыжы, устаноўленыя замест вял. камянёў (б.в. Асецішча Барысаўскага р-на). З сяр. 16 ст. дошкі дамавіны пачалі мацаваць жал. цвікамі (адлюстраванне біблейскай легенды пра распяцце Хрыста), зменшылася колькасць пахавальнага інвентару. У к. 16 ст. рэчы зрэдку клалі не ў магілы, а пад каменныя вымасткі (Мінеўшчына Ваўкавыскага р-на). Да пач. 17 ст. пахавальны рытуал спрасціўся, інвентар і вуглі пачалі знікаць з магіл, аднак звычай паліць галінкі і біць посуд на магіле, будаваць каменныя вымасткі існаваў да 1-й пал. 19 ст., у некаторых месцах (Ушацкі р-н) да пач. 20 ст. Устойлівасць і пераемнасць пахавальных традыцый сведчаць аб этнічным адзінстве насельніцтва бел. Панямоння. Аналагі падобных абрадаў і інвентару трапляюцца ў прыбалтыйскім гісторыка-культ. рэгіёне, што дазваляе суаднесці насельніцтва бел. Панямоння з адным з балцкіх плямён — яцвягамі. Пацвярджэнне таму ёсць у старaж.-рус. летапісах. Мясц. назвы К.м. — «татарскія магілы», «шведскія магілы», «паганскія магілы», «баярскія магілы» і інш. Паданні пра паходжанне К.м. падзяляюцца на пераказы біблейскіх сюжэтаў (Клепачы, *Навасёлкі* Ваўкавыскага р-на) і нар. ўспаміны аб нашэсці татар, войнах з крыжакамі і шведамі, эпідэміях і г.д.

*А.В.Квяткоўская.*

**КА́МЕНЬ**, археалагічныя помнікі — стаянкі каля в. Камень Пінскага р-на Брэсцкай вобл.

С т а я н к а-1 эпохі мезаліту (8—5-е тыс. да н.э.). На паўд. ускраіне вёскі, на пясчаных пагорках. Даўж. да 100 м. Выявіў і даследаваў у 1966 У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт часткова пашкоджаны кар'ерам і эрозіяй. Сярод знаходак больш за 150 крамянёвых прылад працы.

С т а я н к а-2 эпохі неаліту і бронзавага веку (5—2-е тыс. да н.э.). За 2 км на ПдУ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Бобрык, ва ўр. Ратне. Выш. над узроўнем ракі 2,5 м. Памеры 200 × 60 м. Даследаваў у 1967—80 У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт таўшч. 0,6 м падзяляецца на 2, месцамі на 3 гарызонты. Дзякуючы высокаму ўзроўню грунтавых вод і вапнаваму складу глебы, захаваліся вырабы з рога і косці. Ускрыта 8500 м . Выяўлены рэшткі наземных жытлаў, агнішчаў, абкладзеных камянямі, сабрана больш за 4 тыс. касцей, якія належалі, відаць, не менш як 200 жывёлінам: дзіку — 30%, ласю — 10%, каню, туру, аленю высакароднаму — да 7%, мядзведзю, бабру, казулі, быку свойскаму — 20%, свінні — 7%. У ніжнім гарызонце разам з ранненеалітычнымі знаходкамі трапляюцца косці быка, гэта першыя звесткі пра свойскую жывёлу на тэр. Беларусі. Па колькасці знаходак стаянка займае выключнае становішча на Палессі: каля 40 тыс. апрацаваных крэменяў (у т.л. 8 тыс. прылад працы), 20 тыс. фр-таў, 250—300 гаршкоў, сярод якіх гаршкі нёманскай і тшцінецкай культур. З прылад працы ёсць грубаапрацаваныя сякеры і цёслы, долаты, скрэблы, скрабкі, скоблі, праколкі, трохвугольныя наканечнікі стрэл і коп'яў, нажы і інш. Прылады працы, зробленыя з рагоў і касцей жывёлы (70 экз. — сякеры, цёслы, долаты, клінкі і інш.), да раскопак стаянкі былі вядомы на Палессі толькі па выпадковых знаходках.

С т а я н к а-3 эпохі неаліту і бронзавага веку (4—2-е тыс. да н.э.). За 2,5 км на ПдУ ад вёскі, паблізу б. хутара М.Шаламіцкага. Займае зах. схіл пясчанага ўзгорка выш. 5—7 м на левым беразе р. Бобрык. Даўж. 90 м. Даследаваў у 1967—80 У.Ф. Ісаенка. Пры раскопках знойдзены 700 апрацаваных крэменяў, 192 прылады працы (трохвугольныя наканечнікі стрэл, крамянёвыя серп, клін, абломак матыкі бел.-літ. тыпу, плітка для шліфавання і інш.), абломкі 15—20 ляпных гаршкоў.

С т а я н к а-4 макралітычнай і нёманскай культур (9—4-е тыс. да н.э.). За 2,5 км на ПдУ ад вёскі, на паўн.-зах. схіле ўзгорка, каля б. хутара М.Шаламіцкага. Даўж. 200 м. Даследаваў у 1967—71 У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт 0,2 м. Знойдзена 1000 апрацаваных крэменяў, у т.л. 200 прылад працы (пласціністыя наканечнікі стрэл, скрабкі, разцы, нажы і інш.), абломкі 10 ляпных пасудзін.

С т а я н к а-6 нёманскай і шнуравой керамікі культур (5—2-е тыс. да н.э.). За 1 км на ПдУ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе р. Бобрык, ва ўр. Беляне. Выш. 2,5—4 м над узроўнем ракі. Выявіў у 1967 У.Ф.Ісаенка. У 1981—83 і 1986—87 ім праведзены раскопкі на пл. 1950 м$^2$. Культ. пласт 1—1,2 м, у ім прасочваюцца 3 культ. гарызонты. Знойдзена больш за 1700 прылад працы з крэменю (наканечнікі стрэл розных тыпаў, скрабкі, скоблі, скрэблападобныя вырабы, вастрыі, праколкі, устаўкі састаўных прылад, сякеры, цяслападобныя прылады для сячэння, адбойнікі, рэтушоры), каменныя шліфавальныя пліткі і цёрачнікі. Кераміка багата арнаментавана, прадстаўлена абломкамі некалькіх дзесяткаў вастрадонных пасудзін *нёманскай культуры* розных этапаў неаліту, пачынаючы з самага ранняга. Маюцца абломкі пасудзін і вырабы культуры шнуравой керамікі. Знаходкі канцэнтраваліся вакол некалькіх агнішчаў, абкладзеных камянямі. Часткова захаваліся косці жывёл і касцяныя вырабы. Пазней на месцы стаянкі было селішча 6—8 ст. У паўн. частцы раскопу выяўлена прамавугольнае паўзямлянкачнае жытло (4,4 × 3,2 м) з агнішчам, выкладзеным камянямі, з заглыбленнем у мацярык да 0,6 м. У другім жытле (3 × 2,5 м) знойдзены рэшткі агнішча з паглыбленнем на 0,3 м. Паміж жытламі — гасп. яма (1,8 × 1,1 м) з заглыбленнем да 1,2 м з сярпом на дне. Сярод знаходак пазнейшага часу — развалы некалькіх ляпных пасудзін, жал. нажы, акоўкі, наканечнік стралы з шыпамі, крэсіва — прадметы, характэрныя для культуры ранніх славян.

С т а я н к а-8 эпохі неаліту і бронзавага веку (5—2-е тыс. да н.э.). На З ад вёскі і р. Бобрык, на дне пратокі Вісліцы, на глыб. больш за 1 м. Даўж. да 150 м. У час раскопак, праведзеных у 1977—78 У.Ф.Ісаенкам, ускрыта 400 м. Культ. пласт 0,3—0,5 м. Знойдзены рэшткі агнішчаў, косці жывёл, вырабы з косці, рога і крэменю, шліфаваныя пліткі і абломкі посуду, іглападобныя наканечнікі дроцікаў, рыбалоўныя кручкі чатырох тыпаў, сякеры, нажы з расшчэпленых іклоў дзіка, унікальны сэрцападобны амулет, праколкі, кінжалы і інш., некалькі вырабаў з медзі і бронзы. На стаянцы сабрана найб. для Палесся калекцыя касцяных і рогавых вырабаў — 120 экз.

*Літ.*: И с а е н к о В.Ф. Неолитическое поселение Камень в верховьях Припяти // Вопросы истории. Минск, 1969; Я г о ж. Некоторые черты неолитической эпохи Полесья // АО 1969. М. 1970; Я г о ж. Неолит Припятского Полесья. Минск, 1976; Я г о ж. Изучение Полесья // АО 1978. М., 1979. *У.Ф.Ісаенка.*

**КАМО́РНІЦКАЯ КУЛЬТУ́РА**, н а р в е н с к і ц ы к л, археалагічная культура перыяду ранняга мезаліту на тэр. Польшчы і Зах. Беларусі (9—7-е тыс. да н.э.). Назва ад в. Каморніца (Польшча). Для К.к. характэрны прылады працы з пласцінкападобных адшчэпаў, пры апрацоўцы якіх выкарыстоўвалася мікралітычная тэхналогія (восі прылад звычайна не супадаюць з восямі нарыхтовак). На помніках К.к. найчасцей выяўляюцца вастрыі, апрацаваныя сустрэчнай рэтушшу, і паўвастрыі з дугападобным краем (тыпу Каморніца), «тупаспіннікі» (мікраграветы) з прамым краем (тыпу Ставінога або Кудлаеўка), выгнутыя ланцэтападобныя вастрыі, сегменты і падобныя да іх прылады разнастайнай шырыні з тупым вуг-

лом у аснове, трохвугольнікі, кароткія і акруглыя скрабкі, вуглавыя і папярочныя разцы і інш. Культура вылучана і даследавалася ў 1965—75 польскімі археолагамі Р.Шыльдам, М.Марчакам, Г.Венцкоўскай, С.Казлоўскім. Асобныя вырабы і комплексы рэчаў, якія нагадваюць каморніцкія, сустракаюцца ў Панямонні, на ПдУ Беларусі (б.в. Белая Сарока, Нараўлянскі р-н), у складзе *рудавостраўскай культуры* Паўн. Украіны.

*У.Ф.Ісаенка.*

**КАМЯНЕ́Ц**, горад, цэнтр Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. За 39 км на Пн ад Брэста, на р. Лясная (прыток Зах. Буга). Паводле Іпацьеўскага летапісу, засн. валынскім кн. Уладзімірам Васількавічам у 1276 як фарпост на паўн.-зах. мяжы княства. У 1997—2003 даследаваў 176 м$^2$ А.В.Іоў.

Лакалізаваны стараж. замак (13 ст.) блізкай да круга формы памерамі прыкладна 40 × 40 м, які знаходзіўся на З ад *Камянецкай вежы*. Зроблена спроба рэканструкцыі сістэмы абарончых збудаванняў, якая ўяўляла сабой 2 адасобленыя высспы, абнесеныя рвом і валам. На зах. высспе размяшчаўся першапачатковы замак, на ўсх. — вежа. Гэта былі 2 адасобленыя абарончыя адзінкі, якія, хутчэй за ўсё, звязваліся драўляным мастком. На сучаснай вул. Піўненкі быў лакалізаваны могільнік 17—18 ст. і прасочаны падмуркі капліц гэтага перыяду.

*А.В.Іоў.*

**КАМЯНЕ́ЦКАЯ ВЕ́ЖА**, «Б е л а я  в е ж а», К а м я н е ц к і  с т о ў п, помнік абарончага дойлідства канца 13 ст. ў г. Камянец Брэсцкай вобл. Размешчана на левабярэжнай тэрасе р. Лясная. Паводле Іпацьеўкага летапісу, пабудавана ў 1276—88 па загаду валынскага кн. Уладзіміра Васількавіча. К.в. з'яўлялася апошнім абарончым рубяжом сістэмы ўмацаванняў стараж. Камянца, была абкружана кальцавым валам і ровам, а з гар. замкам звязвалася драўляным мостам. Выш. 5-яруснай вежы 30 м, таўшч. сцен 2,5 м, вонкавы дыям. 13,6 м. Стаіць на магутным каменным падмурку выш. каля 2,3 м, дыям. 16 м. Вежа змуравана з брусковай цэглы памерамі 26,5 × 13,5 × 8 см з характэрнымі падоўжанымі паласамі ў ніжняй частцы. Муроўка «балтыйская». Звонку на сценах захавалася вял. колькасць прамавугольных гнёздаў ад рыштаванняў. Апрача таго, унутры зберагліся гнёзды і ад драўляных бэлек — перакрыццяў 5 ярусаў. Сцены прарэзаны байніцамі, паміж якімі на вонкавай паверхні сцяны размешчаны 4 плоскія нішы з паўцыркульным завяршэннем. Над 5-м ярусам захаваліся рэшткі цаглянага купальнага скляпення з патоўшчанымі рэбрамі, якія заканчваюцца ўнізе невял. кранштэйнамі з вузкім паяском. Гэта скляпенне пабудавана адначасова з вежай. З 5-га яруса пачынаецца цагляная лесвіца-ход, што вядзе наверх да баявой пляцоўкі. Лесвіца праходзіць праз тоўшчу сцяны і асвятляецца 2 вузкімі акенцамі. Пляцоўка абкружана 14 зубцамі, якія маюць скразную адтуліну, роўную па форме і велічыні лажку цагліны. У 2 зубцах зроблены вузкія вокнападобныя праёмы. Завяршэнне вежы абкружана зубчастай стужкай пярэбрыка. З 1960 у К.в. знаходзіцца філіял Брэсцкага абл. краязнаўчага музея.



*Камянецкая вежа і замак. Рэканструкцыя А.В.Іова.*



*Бронзавыя дэталі пояса з* ***Камянецкага грунтавога могільніка.***

*Літ.*: Т к а ч о ў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мінск, 1978; Я г о ж. Замки Белоруссии. Минск, 1987.

*В.А.Іоў, М.А.Ткачоў.*

**КАМЯНЕ́ЦКІ ГРУНТАВЫ́ МО́ГІЛЬНІК**, археалагічны помнік каля г. Камянец Брэсцкай вобл. Знаходзіцца на правым беразе р. Лясная, на ПнЗ ад Камянецкай вежы, на ўзвышшы пад мясц. назвай «Манастыр». У 1998—2004 даследаваў А.А. Башкоў (104 м$^2$). Культ. пласт 0,2—0,7 м. На мацерыку зафіксавана 12 ям глыб. 7—50 см (без уліку магільных). Адна з іх на месцы вогнішча, другая — слупавая, правільнай цыліндрычнай формы (дыям. 43 см, заглыблена ў мацярык на 49 см). Прызначэнне астатніх ям не вызначана. Знойдзены матэрыялы позняга бронзавага веку: крамянёвы наканечнік стралы, крамянёвая пласціна з рэтушшу, фр-т ганчарнай керамікі. Зафіксавана 11 цэлых, 11 пашкоджаных дарослых і 5 дзіцячых пахаванняў. Арыентацыя рэштказ памерлых пераважна зах., у некаторых выпадках з невял. адхіленнем на ПдЗ. Адно пахаванне арыентавана на ПнЗ. У 2 пахаваннях знойдзены суправаджальны інвентар — 11 фр-таў бронзавых дэкаратыўных дэталей на пас, 2 касцяныя гузікі. Выяўлены 2 пахаванні ў трунах — мужчыны і жанчыны, арыентаваныя на ПдЗ; у іх галавах на глыб. 15 см прасочаны развалы 2 ганчарных гаршкоў, пастаўленых уверх донцам. Апроч гэтага, у культ. пласце помніка знойдзены: керамічны гаршчок 14—15 ст., 12 цвікоў, 2 фр-ты сярэдневяковых нажоў, керамічнае прасліца, асялок, свінцовая куля ад гладкаствольнай стрэльбы, шэлег 2-й пал. 17 ст. Практычная адсутнасць пахавальнага інвентару, арыентацыя, палажэнне і ўзроўні залягання рэштказ памерлых сведчаць пра неаднадчасовасць пахаванняў і іх хрысціянскі абрад.

*Літ.*: Даследаванні грунтовага могільніка ў ваколіцах Камянца ў 1998—2002 гг. // ГАЗ. Мінск, 2003. № 18; Даследаванне грунтовага могільніка XIV ст. каля г. Камянца //Там жа. Мінск, 2005. № 20; Археалагічныя даследаванні Камянца і ваколіц у 1997—2004 гг. // Камянецкія чытанні: матэрыялы рэсп. навук.-практ. канф. (Камянец, 4 вер. 2005 г.). Мінск, 2006.

*А.А.Башкоў.*

**КАМЯНІ́ З ШТУ́ЧНЫМІ ПАГЛЫБЛЕ́ННЯМІ**, культавыя валуны з высечанымі паглыбленнямі розных форм і памераў. Сустракаюцца па ўсёй тэр. Еўропы, у т.л. ў Беларусі.

Камень з 5 паглыбленнямі авальнай у плане формы знаходзіцца каля в. Крамянец Лагойскага р-на (Святы камень, Богаў камень, Цудатворны камень, Дажбогаў камень). Вядомы валуны з выемкамі чашападобнай і вёдрападобнай формы. Два з іх знаходзяцца ў г. Бабруйск. Некалькі валуноў выяўлены падчас археал. раскопак (гарады Заслаўе, Полацк) і пры земляных работах (вёскі Унтальянка Барысаўскага, Лебедзева Маладзечанскага р-наў, у ваколіцах г. Навагрудак). Ёсць валуны, высечаныя ў выглядзе цыліндра ці жорнаў, з паглыбленнямі. Сустракаюцца ў старых касцёлах і капліцах або на месцах былых храмаў, дзе выкарыстоўваліся ў якасці вадзяніцы, ці кропельніцы (вёскі Дубатоўка Смаргонскага, Шклянцы Докшыцкага, Волма Смалявіцкага, Васілішкі Шчучынскага р-наў і інш.). Вядомы сакральныя камяні з выемкамі невыразных форм: в. Каптаруны Пастаўскага р-на (Святы камень), в. Кудзінавічы Капыльскага р-на (Святы камень, След Хрыста, След Божай Маці), вёскі Дуброўка, Стаўрова Браслаўскага р-на (Каменная Дубіца, Доўбіца, Камянуха).

Шырока распаўсюджаны камяні, на якіх выбіта ад адной да некалькіх дзесяткаў ямак (лунак) дыям. 3—7 см і глыб. 0,5—7 см. Ямкі выбівалі камянямі малых памераў, а пасля шліфавалі драс-



*Гаршчок з пахавання* ***Камянецкага грунтавога могільніка.***

вой. Камяні з ямкамі найбольш распаўсюджаны ў Паўн. і Сярэдняй Еўропе. На тэр. Беларусі іх улічана каля 100 і большасць была адкрыта ў 1990-я г. археолагам Э.М.Зайкоўскім, геолагамі В.Ф.Вінакуравым, А.К.Карабанавым і Э.А.Ляўковым, краязнаўцамі А.П.Зайцавым і К.С.Шыдлоўскім.

Многія даследчыкі лічаць, што такія камяні звязаны з культам продкаў і ў эпоху неаліту і бронзы каля іх закопвалі рэшткі трупаспаленняў, а ў памяць аб памерлым выбівалі лунку. Валуны з некалькімі ямкамі зафіксаваны каля вёсак Сіпавічы і Лайбуны Браслаўскага, Васілішкі Шчучынскага, Літоўка Навагрудскага, Доўнары і Урцішкі Іўеўскага р-наў і інш. Ямкі (лункі) зрэдку сустракаюцца на камянях-следавіках (вёскі Канюхі Бераставіцкага і Струбніца Мастоўскага р-наў) і камянях з рознымі знакамі.

Э.М.Зайкоўскім праведзены археал. раскопкі каля камянёў у вёсках Вялікія Карэйвішкі Астравецкага, Канстанполле Вілейскага, Вялец Глыбоцкага, Пашавічы Браслаўскага р-наў і інш. Каля некаторых валуноў выяўлены вуголлі і фр-ты ляпнога і ганчарнага посуду.

*Літ.*: Киркор А.Г. Этнографический взгляд на Виленскую губернию // Этногр. сб. импер. Русского геогр. об-ва. М., 1858. Вып. 3; Мялешка М. Камень у вераваннях і паданнях беларусаў. Мінск, 1929; Ляўкоў Э.А. Маўклівыя сведкі мінуўшчыны. Мінск, 1992. Зайкоўскі Э.М. Месца Вялеса ў дахрысціянскім светапоглядзе насельніцтва Беларусі. Мінск, 1998; Культавыя валуны са штучнымі паглыбленнямі на Беларусі // ГАЗ. Мінск, 2003. № 18; Камяні-гойбіты // Там жа. Мінск, 2005. № 20; Камяні-«краўцы» і камяні-«шаўцы» // Палявая фалькларыстыка і этналогія: даследаванні лакальных культур Беларусі. Мінск, 2008.

*В.Ф.Вінакураў, Л.У.Дучыц, Э.М.Зайкоўскі, А.К.Карабанаў.*



***Камень з штучным паглыбленнем** ля Мікольскай царквы ў в. Чарнякава Бярозаўскага р-на.*

**КАМЯНІ́ СА ЗНА́КАМІ**, помнікі археалогіі і палеаграфіі, звязаныя са стараж. культамі і размежаваннем зямель. Уяўляюць сабой валуны, на якія нанесены разнастайныя па форме і памерах крыжы, крыжы ў спалучэнні з літарамі і надпісамі (напр., *Барысавы камяні*), манаграмамі, стрэлачкамі, падковамі, малюнкамі. Найб. распаўсюджаны камяні з выявай аднаго крыжа: каля вёсак Алексінічы Сенненскага, Збляны Лідскага р-на, б.в. Завоссе Навагрудскага, Крываль Любанскага, Лучыцы Петрыкаўскага, Грабаўцы Жабінкаўскага р-наў і інш. Камяні з выявай 2—3 крыжоў вядомы каля вёсак Шайцерава Верхнядзвінскага, Талькунцы Воранаўскага р-наў. Прыблізна 10 камянёў, на якіх высечаны крыжы ў спалучэнні з літарамі, выяўлены каля вёсак Камень Вілейскага, Краснікі Докшыцкага, Хвінявічы і Явар Дзятлаўскага, Геранёны Іўеўскага, Стайкі Лагойскага р-наў. Вядома 7 камянёў з высечанай на іх падковай: каля вёсак Мачаны Лагойскага, Кадарашкі Шаркаўшчынскага, Камянполле Міёрскага, Шавуры Браслаўскага, Сёмкаў Гарадок Мінскага, Юхавічы Расонскага, Вялічкаўцы Ушацкага р-наў. Камяні з высечанымі на іх малюнкамі вядомы каля вёсак Ліпск Докшыцкага і Шайбакі Шчучынскага р-наў. На першым выява чалавека, на другім — галоў чалавека і каня, лука і стралы, а таксама краты.

*Літ.*: Мялешка М. Камень у вераваннях і паданнях беларусаў. Мінск, 1929; Формозов А.А. Очерки по первобытному искусству. М., 1969 (МИА. № 165).

*Л.У.Дучыц, Э.А.Ляўкоў.*

**КАМЯНІ́ «ЧО́РТАВЫ»**, археалагічныя помнікі культавага прызначэння, валуны, з якімі звязаны паданні пра чорта (хтанічнае бажаство, апякун жывёлы). Вядомы на тэр. Беларусі, Латвіі і Літвы. Маюць вял. памеры і знаходзяцца, як правіла, у балоцістых мясцінах. Пры археал. раскопках, праведзеных Э.М.Зайкоўскім каля Чортавага каменя ў в. Кемяны Ашмянскага р-на, знойдзены штрыхаваная і «аблітая» кераміка, металічныя рэчы сярэдзіны і 2-й пал. 1-га тыс. н.э.

Занатаваны нар. назвы валуноў: Чортаў камень, Чортаў мост, Чортаў перавоз, Чортава грэбля, Чортавы жорны, Чортаў млын, Чортаў след, Чортаў ступень, Чортавы дучкі і інш.

Згодна з паданнем, чорт нёс камень і хацеў падперці ім дзверы храма, але праспяваў певень, і чорт выпусціў валун (вёскі Ратынцы і Камень Валожынскага, Асташын Карэліцкага р-наў). Ёсць павер'і пра здзек чарцей з людзей, якія праходзяць каля каменя (вёскі Раманішкі Пастаўскага, Мачулішча Крупскага, Наўгароды Міёрскага, Горкі Шумілінскага р-наў), пра тое, што на камені чэрці таньчаць альбо граюць на скрыпцы (вёскі Войневічы Смаргонскага, Вялец Глыбоцкага р-наў).

Сустракаюцца камяні-следавікі (вёскі Гальшаны Ашмянскага, Дзераўная Лагойскага, Булавішкі—Якубянцы Браслаўскага р-наў). На камені каля в. Сянежыцы Навагрудскага р-на 2 сляды. Адзін лічыцца выявай пальцаў, а другі — выявай пяткі. Пальцы нібыта пакінула Багародзіца, а пятку — чорт, які гнаўся за ёй. Шэраг Чортавых камянёў атаясамліваецца з чарцямі-краўцамі (вёскі Вароніна Сенненскага, Шкленікова Мядзельскага р-наў) і чарцямі-шаўцамі (вёскі Ратынцы Валожынскага, Сяменчыцы Стаўбцоўскага р-наў).

*Літ.*: Камяні-следавікі Беларусі // ГАЗ. Мінск, 1996. № 9; Чортавы камяні // Мінск, 1997. № 11; З а й к о ў с к і Э.М. Месца Вялеса ў дахрысціянскім светапоглядзе насельніцтва Беларусі. Мінск, 1998; Камяні-«краўцы» і камяні-«шаўцы» // Палявая фалькларыстыка і этналогія: даследаванні лакальных культур Беларусі. Мінск, 2008. *В.Ф.Вінакураў, Л.У.Дучыц, Э.М.Зайкоўскі, А.К.Карабанаў.*

**КАМЯНІ́-КРАЎЦЫ**, к а м я н і - ш а ў ц ы, археалагічныя помнікі культавага прызначэння, валуны, якія, паводле паданняў, самі шылі адзенне (краўцы) ці абутак (шаўцы) або з'яўляліся хатай краўца ці шаўца. На тэр. Беларусі сабрана інфармацыя пра 12 К.-к. Два з іх маюць назвы Сцяпан (вёскі Баяры—Краснікі Докшыцкага, Высокі Гарадзец Талачынскага р-наў), 2 — Чортаў камень (вёскі Вароніна Сенненскага, Шкленікова Мядзельскага р-наў), 1 — Змееў камень (в. Гогалеўка Чашніцкага р-на), іншыя наз. Кравец ці Кравецкі камень (вёскі Янаўшчына Крупскага, Кнышэвічы—Чэрнін Светлагорскага р-наў і інш.).

На тэр. Беларусі зарэгістравана 9 К.-к. Чатыры з іх наз. Чортаў камень (вёскі Задвор'е і Семенчыцы Стаўбцоўскага, Камень і Ратынцы Валожынскага р-наў), 1 — Гомсінкамень (в. Куранец Вілейскага р-на), астатнія — Шавец (вёскі Палікшты Валожынскага, Вялічкі Пастаўскага р-наў і інш.).

*Літ.*: К и р к о р А.Г. Этнографический взгляд на Виленскую губернию // Этногр. сб. имп. Русского геогр. о-ва. М., 1858. Вып. 3; М я л е ш к а М. Камень у вераваннях і паданнях беларусаў // Зап. аддз. гуманіт. навук. Менск, 1928. Т.1, кн. 7. Працы катэдры этнаграфіі; З а й к о ў с к і Э.М. Месца Вялеса ў дахрысціянскім светапоглядзе насельніцтва Беларусі. Мінск, 1998; Камяні-«краўцы» і камяні-«шаўцы» // Палявая фалькларыстыка і этналогія: даследаванні лакальных культур Беларусі. Мінск, 2008. *В.Ф.Вінакураў, Л.У.Дучыц, Э.М.Зайкоўскі, А.К.Карабанаў.*

**КАМЯНЮ́КІ**, археалагічныя помнікі — паселішчы і стаянкі каля в. Камянюкі Камянецкага р-на Брэсцкай вобл.

П а с е л і ш ч а-1 за 0,7 км на У ад моста цераз р. Лясная Правая, за паўн.-ўсх. ускраінай вёскі, на пясчаным акруглым узвышшы пасярэдзіне левабярэжнай поймы ракі. Дыям. каля 45 м, выш. 0,85—1,2 м. Выявілі ў 1991 В.С.Вяргей і М.М. Крывальцэвіч. Абследавалі ў 2007 В.Г.Белявец, А.Г.Калечыц і В.Л.Лакіза; В.Г.Белявец даследаваў 20 м$^2$. Культ. пласт 0,35—0,45 м. Выяўлены аб'ект у выглядзе вузкага раўка (шыр. 0,5 м, глыб. 0,15—0,2 м) са слядамі слупавой ямы на дне. Знойдзена 312 артэфактаў, у т.л. посуд прыпяцка-нёманскай і нёманскай неалітычных культур, крамянёвыя мікрапласціна, 2 нуклеусы, скрабок,



***Камень «чортаў»** з ахвярай каля в. Сверынава Стаўбцоўскага р-на.*

адшчэпы з участкамі рэтушы, кругавая кераміка новага і навейшага часу. Помнік вызначаны як гарадзішча-сховішча жал. веку мілаградскай культуры.

П а с е л і ш ч а-2 за 50—100 м на ПнУ ад паселішча-1, на паўн. ускраіне вёскі, на пясчаным узвышшы ў 2,5—3 м ад узроўню вады, ва ўр. Горы. Абследавалі ў 2007 В.Г.Белявец, А.Г.Калечыц і В.Л.Лакіза. У 2007—08 А.Г.Калечыц даследавала 110 м . Культ. пласт 0,6—1,1 м. Знойдзена больш за 25 тыс. крамянёвых знаходак, каля 1200 фр-таў ляпной і кругавой керамікі, косткі. Сярод крамянёвых артэфактаў нуклеусы (звыш 200) розных тыпаў, разцы (65), скрабкі (98), скоблі (18), праколкі, вастрыі (32), рубячыя прылады (25), мікраліты (79), наканечнікі стрэл (9), скрэблы (2), некалькі камбінаваных прылад працы. Матэрыялы адносяцца да культур лінгбі, каморніцкай, яніслаўіцкай, прыпяцка-нёманскай, нёманскай, кола культуры шнуравой керамікі. Паселішча адносіцца да фінальнага палеаліту, мезаліту, неаліту і ранняга бронзавага веку.

П а с е л і ш ч а-4 за 0,7 км на У ад паселішча-2, на дзюне пасярэдзіне левабярэжнай поймы р. Лясная Правая, ва ўр. Сосны. Абследаваў у 2007 В.Г.Белявец. Дзюна акруглай формы, дыям. 20—25 м, выш. да 1 м. Культ. пласт 0,7 м. Знойдзена 88 артэфактаў: 12 дробных фр-таў кругавога посуду 19—20 ст., 3 фр-ты ляпнога неалітычнага посуду з арганічнымі дамешкамі ў цеста, крамянёвыя нуклеусы, адшчэпы, пласціны, пракрутка і праколка. Помнік датуецца мезалітам і неалітам (прыпяцка-нёманская культура).

П а с е л і ш ч а-6 за 0,4—0,5 км на ПнЗ ад вёскі, на краі правабярэжнай тэрасы р. Лясная Правая, у лесе, ва ўр. Студэнцкая Гара. Пляцоўка памерамі 80—90 × 110—120 м. Выявіў і ў 2007—08 даследаваў 65 $м^2$ В.Л.Лакіза. Культ. пласт 0,5—0,7 м. Знойдзена каля 800 артэфактаў, пераважную колькасць якіх складае ляпная кераміка (каля 250 фр-таў), упрыгожаная паралельнымі радамі пракрэсленых ліній і шнуравымі адбіткамі, з мінеральнымі дамешкамі жарствы і гладкімі паверхнямі кола культуры шнуравой керамікі. Сярод крамянёвых прылад (каля 450) 11 нуклеусаў, 17 вырабаў з другаснай апрацоўкай: скрабкі, нажы, пракрутка, пласціны і адшчэпы з участкамі рэтушы; у ліку выпадковых знаходак — 2 свідраваныя каменныя сякеры.

С т а я н к а-8 за 0,1—0,15 км ад фермы на краі надпоймавай правабярэжнай тэрасы р. Лясная Правая, на паўд.-ўсх. ускраіне вёскі. Выявілі і абследавалі ў 2007 В.Л.Лакіза, В.Г.Белявец, А.Г. Калечыц. Знойдзены 5 крамянёвых адшчэпаў, 3 фр-ты пласцін і фр-т кругавой керамікі. У 2008 В.Л.Лакіза даследаваў помнік шурфоўкай (3 $м^2$). Культ. пласт 0,45—0,5 м. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, пласціны, нуклеус, срабок, пласціна з рэтушаванай выемкай. Помнік датуецца каменным векам (мезалітам).

С т а я н к а-9 за 0,1—0,15 км на ПдУ ад паселішча-8, на паўд.-ўсх. ускраіне вёскі, на правабярэжнай тэрасе р. Лясная Правая. Выявілі і абследавалі ў 2007 В.Л.Лакіза, В.Г.Белявец, А.Г.Калечыц. У агаленні культ. пласта знойдзены адшчэпы (42 адз.), у т.л. з рэтушшу (1), пласціны (39), у т.л. з рэтушшу (4), рэтушор, вастрыё (яніслаўіцкі трохвугольнік), разец, праколка, скрэбла, скрабкі (4), 2 фр-ты ляпной і 8 — кругавой керамікі, нуклеусы (14) і іх фр-ты. У 2008 В.Л.Лакіза даследаваў 6 $м^2$. Культ. пласт 0,5—0,65 м. Знойдзены 302 артэфакты: адшчэпы, пласціны, 14 нуклеусаў, сколы ажыўлення пляцовак нуклеусаў, рэтушор, рэтушор-пракрутка, 6 скрабкоў, 2 скоблі, 2 праколкі, 5 адшчэпаў і 6 пласцін з участкамі рэтушы, мікрапласцінка, мікраліт (кудлаеўскі трохвугольнік), фр-т рубячай і камбінаваная прылады, нарыхтоўка наканечніка стралы, чаранковы фінальнапалеалітычны наканечнік стралы (культура лінгбі), 5 фр-таў ляпной неалітычнай керамікі. Матэрыялы адносяцца да культур лінгбі, кудлаеўскай, яніслаўіцкай, нёманскай, кола культур шнуравой керамікі.

*Літ.*: Белавежская пушча: вытокі запаведнасці, гісторыя і сучаснасць. Мінск, 2009. *В.Л.Лакіза.*

**КАНВЕНТХА́ЎЗ**, к а н в е н ц к і д о м, тып замкаў, для якіх уласціва ўключэнне жылога будынка (палаца) у лінію абарончых сцен, што, маючы розную канфігурацыю, утвараюць замкнёную ўнутраную прастору. Як тып замкаў К. распаўсюджваецца з к. 14—15 ст. На тэр. Беларусі да К. належаць Стары замак у Гродне, Койданаўскі, Любчанскі, Мядзельскі, Смалянскі замкі (гл. *Абарончыя збудаванні*, *Замкі*). *Ю.А.Заяц.*

**КАНГРЭ́СЫ МУ́СА**, М і ж н а р о д н ы я к а н г р э с ы с л а в я н с к а й а р х е а л о г і і. У 1965 на 1-м міжнар. кангрэсе слав. археалогіі ў Варшаве была створана Міжнар. унія слав. археалогіі (МУСА) з мэтай каардынацыі дзейнасці даследчыкаў слав. старажытнасцей, вывучэння гісторыі і культуры славян з глыбокай старажытнасці да эпохі развітога сярэдневякоўя. Гал. навук. мерапрыемствам уніі з'яўляюцца міжнар. кангрэсы, якія праводзіліся ў Берліне (1970), Браціславе (1975), Сафіі (1980), Кіеве (1985), Ноўгарадзе (1996). З-за палітычных і эканамічных абставін рэгулярнасць правядзення кангрэсаў парушылася.

Кожны з кангрэсаў меў гал. тэму («Славянскі сярэдневяковы горад», «Старажытныя славяне») альбо некалькі тэм («Еўрапейскі сярэдневяковы горад», «Славяне і іх суседзі ў раннім сярэдневякоўі», «Славяне ў латэнскі і рымскі час»). У працы апошняга 6-га кангрэса (Ноўгарад) прынялі ўдзел больш за 300 навукоўцаў з 23 краін.

Беларусь з'яўлялася чл. МУСА, мела сваіх прадстаўнікоў у кіруючых і арганізацыйных органах уніі. Бел. археолагі ўдзельнічалі у працы кангрэсаў МУСА, найбольш прадстаўнічыя бел. дэлегацыі былі на 5-м (кіеўскім) і 6-м (наўгародскім) кангрэсах.

*Літ.*: Р ы б а к о в Б.А. Выступление президента Международной унии Славянской археологии и Кон-

гресса академика Б.А. Рыбакова // Тр. V Междунар. конгресса славянской археологии. М., 1987. Т.1, вып. 1; Тэзісы дакладаў і паведамленняў беларускай дэлегацыі на VI Міжнародным кангрэсе славянскай археалогіі. Ноўгарад, 26—31 верасня 1996 г. Мінск, 1996.

**КАНІБАЛІ́ЗМ** (франц. cannibalisme ад іспан. canibal людаед), л ю д а е д с т в а, а н т р а п а ф а г і я, паяданне людзьмі чалавечага мяса. У глыбокай старажытнасці К. быў пашыраны ў многіх плямён і народаў. Ён узнік на раннім этапе каменнага веку ў выніку недахопу ежы. На тэр. Еўропы факты К. ўстаноўлены на Крапінскай палеалітычнай стаянцы неандэртальскага чалавека (Харватыя). Наяўнасць К. ў эпоху позняга неаліту ў Еўропе і Азіі многія археолагі прызнаюць несумненным. Пра яго існаванне сведчаць матэрыялы даследаванняў першабытных паселішчаў на тэр. паўн. Беларусі. Знікненню К. садзейнічала прыручэнне жывёл і развіццё жывёлагадоўлі. Людаедства доўгі час існавала толькі ў сувязі з рэлігійна-магічнымі звычаямі. Вядомы факты К., выкліканыя працяглым голадам, які ўзнікаў у розных народаў, у розныя часы.

*Н.П.Александровіч.*

**КАНКАЛО́ВІЧЫ**, археалагічны помнік — стаянка эпох мезаліту і неаліту каля в. Канкаловічы Стаўбцоўскага р-на Мінскай вобл. За 0,4 км на ПнЗ ад вёскі, на зах. краі пясчанага павышэння ўздоўж правабярэжнай тэрасы Нёмана, над затарфаваным поплавам. Даўж. з Пн на Пд 140 м, шыр. 30—40 м. Даследаваў у 1981 М.М.Чарняўскі. Ускрыта 44 м$^2$. Культ. пласт таўшч. да 0,3 м, невыразна акрэслены. Знойдзены лістападобныя наканечнікі стрэл, геам. мікраліты, скрабкі, нажы, разцы, фр-ты керамікі канца неаліту. Датуецца 7—5-м тыс. і 2-й пал. 3-га тыс. да н.э.

*М.М.Чарняўскі.*

**КАНСЕРВА́ЦЫЯ** (ад лац. conservo захоўваю) у а р х е а л о г і і, комплекс мерапрыемстваў па захаванні формы і памераў, натуральнага колеру, тэкстуры і фактуры матэрыялаў, а таксама павелічэнні трываласці археал. знаходак ад розных уздзеянняў; абавязковая частка археал. даследавання.

К. палявая (аператыўная) праводзіцца ў палявой рэстаўрацыйнай лабараторыі адразу пасля таго, як прадмет знойдзены, каб прадухіліць яго разбурэнне пры ўзаемадзеянні з навакольным асяроддзем. Знойдзены прадмет размяшчаюць ва ўмовах, якія аднаўляюць асяроддзе яго існавання ў культ. пласце. Такая апрацоўка выкарыстоўваецца як часовая мера захавання, таму асн. патрабаваннем да сродкаў К. з'яўляецца зваротнасць (магчымасць правесці рэкансервацыю). К. ў стацыянарнай лабараторыі забяспечвае магчымасць прафесійнай рэстаўрацыі.

К. лабараторная (доўгачасовая) — апрацоўка прадметаў і аб'ектаў пэўным метадам, якая праводзіцца з улікам іх стану, ступені разбуранасці, умоў далейшай эксплуатацыі. Заклікана ўмацаваць і стабілізаваць іх формы і памеры без змянення колеру, тэкстуры і фактуры матэрыялу. Лабараторная К. звязана з глыбокім пранікненнем кансерванту ў структуру матэрыялу, які апрацоўваюць, таму неабходна праяўляць максімальную асцярожнасць пры выбары сродкаў К., праводзіць яе з улікам сучаснага тэхнічнага ўзроўню і ў адпаведнасці з навук. патрабаваннямі. Захаванасць археал. рэчаў з арганічных матэрыялаў (косці, скуры, драўніны і тканін) звычайна бывае нездавальняючай. Для іх умацавання выкарыстоўваюць рэчывы як з прыродных, так і з сінтэтычных матэрыялаў. Гл. таксама *Кансервацыя драўніны.*

*С.Ю.Казанская.*

**КАНСЕРВА́ЦЫЯ ДРАЎНІ́НЫ**, комплекс мерапрыемстваў па кансервацыі археал. прадметаў з дрэва. У культ. пласце дрэва захоўваецца пры ўмове павышанай вільготнасці альбо сухасці. На тэр. Беларусі сустракаюцца, як правіла, вільготныя культ. пласты (мяккія пароды дрэва: ліпа, асіна і інш.). Драўляныя рэчы і аб'екты, адабраныя з вільготнага культ. пласта, пачынаюць хутка ўсыхаць. Пры гэтым паверхневыя слаі драўніны памяншаюцца ў аб'ёме хутчэй, чым унутраныя, што прыводзіць да дэфармацыі драўніны і разбурэння яе паверхні. Акрамя таго, прадметы ў пэўнай меры змяншаюцца ў аб'ёме (мяккія пароды драўніны ўсыхаюць больш, рэчы з самшыту, ядлоўцу і некаторых інш. парод амаль не ўсыхаюць). У палявых умовах знаходкі з вільготнага культ. пласта можна змясціць у ёмістасць з вадой, а для транспарціроўкі і далейшага захавання — абгарнуць марляй, намочанай у слабым растворы антысептыку (напр., фармалін альбо пентахлорфеналят натрыю), і запаяць у поліэтыленавыя пакеты. Прынцып К.д., насычанай вадой, засн. на замяшчэнні вады кансервавальным саставам з наступным яго зацвярдзеннем у структуры аслабленых клетачных сценак драўніны. Пры лабараторнай кансервацыі сярод шматлікіх кансервантаў найб. распаўсюджаны водараствaральны воск — поліэтыленгліколь, які добра стабілізуе форму і памеры прадмету. Аднак спосабы апрацоўкі гэтым прэпаратам патрабуюць шмат часу, пасля апрацоўкі фр-ты вырабаў набываюць цёмны колер, горш склейваюцца, часта павышаецца гіграскапічнасць рэчаў і аб'ектаў. Выкарыстоўваюць і метад кансервацыі вільготнай драўніны шляхам вымарожвання ў вакууме. Масавы матэрыял можна апрацаваць цыклічнай папераменнай апрацоўкай у 2 ваннах — гарачай, дзе ёсць раствор цукру і інш. дабаўкі, і халоднай з дабаўкамі феноласпіртоў. У залежнасці ад памераў і ступені разбурэння 5—7-разовая апрацоўка забяспечвае павелічэнне трываласці, стабілізацыю форм і памераў з захаваннем натуральнага колеру, тэкстуры і фактуры матэрыялу. Закансерваваныя такім чынам фр-ты вырабаў лёгка склейваюцца і таніруюцца, не патрабуюць асаблівых рэжымаў захавання. Недахопам гэтага спосабу з'яўляецца яго незваротнасць. Для хімічнай апра-

цоўкі драўляных аб'ектаў з мэтай захавання іх ад вогнебіяразбурэння выкарыстоўваюць антысептычныя і антыпірэнныя сродкі: растворы (у вадзе і арганічных растваральніках) буракcу, борнай кіслаты, пентахлорфеналяту, натрыю, хлорыстага цынку, фторыстага натрыю, біхрамату натрыю альбо калію, сульфату амонію, дыамонію фасфату. Некаторыя з іх фарбуюць драўніну ў ненатуральны колер. Пры павярховай апрацоўцы аб'ектаў растворы можна ўвесці пэндзлем, апырскваннем і інш. Глыбіннае ўвядзенне прэпаратаў робіцца апрацоўкай у аўтаклавах і ваннах з выкарыстаннем ціску, вакууму і гарача-халодных ваннаў, якія інтэнсіфікуюць працэс. Апрацоўка сухога матэрыялу, які страціў сваю трываласць, праводзіцца непасрэдна ў культ. пласце па меры расчысткі аб'екта шляхам прамочвання яго сінтэтычнай смалой у арганічным растваральніку, які не выклікае набухання (напр., раствор полібутылметакрылату ў ацэтоне) ці залівання расплаўленым парафінам. Драўніну, што захавала дадатковую трываласць, можна апрацоўваць воднымі альбо спіртавымі растворамі мачавіна-фармальдэгідных, меламінафармальдэгідных і інш. смол, якія не мяняюць колеру аб'екта, а потым абязводжваць, карыстаючыся мяккімі рэжымамі сушэння. На тэр. Беларусі К.д. праводзілася ў Брэсце (з 1971, упершыню ў СССР у палявых умовах), пры апрацоўцы шматлікіх археал. знаходак у Мінску, Брэсце, Віцебску і інш.

*Літ.*: Герасимова Н.Г., Никитина К.Ф. Консервация мокрого археологического дерева полиэтиленгликолями // Художеств. наследие. 1975. № 2; Горшинт С.Н. Консервирование древесины. М., 1977; Новые методы исследования, консервации и реставрации художественных произведений: тез. докл. всесоюз. семинара. Ленинград, 1985. *С.Ю.Казанская.*




*Канькі: 1—2 — Дрысвяты; 3—4 — Полацк.*

«**КАНЬКІ**» ў археалогіі, умоўная назва прадметаў з трубчастых (пясных і плюснявых) касцей буйной рагатай жывёлы і каня (у асн. метакарпальных, метатарсальных або лучавых). Адзін з канцоў счэсвалі, у выніку чаго ўтвараўся выгін ніжняй пляцоўкі, што надавала костцы форму саннага полазу або канька. Даўж. звычайна ад 15 да 25 см. Наконт выкарыстання «К.» у навукоўцаў не існуе адзінай думкі. Некаторыя даследчыкі лічаць, што яны прызначаліся выключна для катання па лёдзе, другія — што дадзеныя вырабы маглі таксама ўжывацца поруч з лыжамі для перамяшчэння па стылым снезе (насту) падчас зімовага палявання. Прывязвалі да нагі праз адтуліны спераду і ззаду «К.» пры дапамозе вяровак або раменьчыкаў. Паводле сярэдневяковых гравюр па лёдзе на такіх «К.» каталіся, адштурхоўваючыся 2 палкамі кшталту сучасных лыжных. Адсутнасць у некаторых «К.» адтулін для прывязвання да нагі, а таксама прыкмет зношанасці ад трэння аб лёд дае некаторым даследчыкам падставу аднесці гэтыя прылады да прадметаў апрацоўкі скуры або тканіны (т.зв. гладзільнікаў). Такія вырабы знаходзяць пры археал. даследаваннях на помніках з 1-га тыс. да н.э.: Ноўгарад, Пскоў, Саркел—Белая Вежа (Расія), Кіеў (Украіна), Беласток, Шчэцін (Польшча), Ольдэнбург (Германія) і інш. На тэр. Беларусі сустракаюцца ў слаях 9—16 ст. і з'яўляюцца дастаткова рэдкай знаходкай. Вядомы з археал. матэрыялаў Полацка (7), Дрысвят, Віцебска, Брэста (па 2 экз.).

*Літ.*: Семенов С.А. О назначении «коньков» и костей с нарезками из Саркела—Белой Вежи // МИА. 1959. № 75; Флерова В.Е. Домашние промыслы в Саркеле—Белой Веже (по материалам коллекции костяных изделий) // Культуры Евразийских степей второй половины I тысячелетия н.э.: материалы Междунар. археол. конф., Самара, 14—17 нояб. 1995 г. Самара, 1996; Мядзведзева В.У. Касцяныя вырабы з сярэднявечных гарадоў (па матэрыялах раскопак М.А. Ткачова) // Castrum, urbis et bellum: зб. навук. прац. Баранавічы, 2002; Struve K.W. Starigard—Oldenburg. Geschichte und archaologische Erforschung der slawischen Furstenburg in Wagrien // Sonderdruck aus 750 jahre stadtrecht. Oldenburg in Holstein, 1985. *В.У.Мядзведзева.*

**КАНЬКІ**, археалагічны помнік — гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры* каля в. Канькі Віцебскага р-на. За 0,5 км на ПдУ ад вёскі, ва ўр. Цербахунь. Займае выспу правага берага р. Зах. Дзвіна. Пляцоўка памерамі 40 × 60 м, пaўд. частка размыта ракой. Умацавана равамі глыб. 1,5 і 2 м і 3 кальцавымі валамі: адзін — вакол пляцоўкі, другі і трэці — на схіле, выш. іх адпаведна 3,5, 2 і 1,5 м. Пляцоўка занята могілкамі. Даследавалі ў 1934 А.М.Ляўданскі і К.М.Палікарповіч, у 1951 Л.В.Аляксееў. Абследаваў у 1981 Л.У.Калядзінскі. Культ. пласт 0,6—0,8 м. Знойдзены амаль цэлая печ-домніца і фр-ты ляпной гладкасценнай керамікі.

*Літ.*: Ляўданскі А.М., Палікарповіч К.М. Археалагічныя доследы ў БССР 1933—34 гг. // Зап. БАН. Мінск, 1936. Кн. 5; Алексеев Л.В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении




*Касцяныя капавушкі 11—12 ст.: 1 — Навагрудак, 2 — Заслаўе, 3 — Пінск, 4 — Мінск, 5 — Ваўкавыск.*



*Касцяная **капавушка** 11—12 ст., знойдзеная пры раскопках Мінска ў 2007.*

Западной Двины: (материалы к археол. карте Витебской обл. БССР) // Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.

**«КАНЬКІ́» ПЛО́СКІЯ**, збіральная назва металічных заамορфных падвесак, якія выконвалі ролю *амулетаў*. Уяўляюць сабой пласцінчатыя выявы жывёл, звычайна ўпрыгожаныя кружковай (салярнай) арнаментацыяй, на стыку задзёртага хваста і шыі — адтуліна для падвешвання. Выраблялі з бронзы, зрэдку з серабра. Датуюцца 11—13 ст. Нягледзячы на назву, падабенства з выявамі коней умоўнае, некаторыя даследчыкі лічаць, што такія фігуркі выраблялі і ў выглядзе рысей, сабак і да т.п. Сустракаюцца на паселішчах, у курганных пахаваннях (у асн. жанчын). На ўсх.-слав. тэрыторыі найб. часта сустракаюцца ў вярхоўях рэк Дняпро, Зах. Дзвіна — на Смаленскай, Полацкай землях. Асобныя знаходкі адзначаны на Пн Скандынавіі, на сучаснай Беласточчыне, на Пн Украіны. Паводле меркавання Б.А.Рыбакова, асн. цэнтры вытворчасці К.п. знахозіліся на Смаленшчыне, а таксама ў нізоўях р. Зах. Дзвіна (верагодна, на гарадзішчы *Даўгмале*). «Канькі», як і амулеты-лыжкі, былі характэрнай асаблівасцю полацка-смаленскіх крывічоў, ад іх распаўсюджваліся да паўд. ўзбярэжжа Ладажскага і паўн.-ўсх. берага Чудскога азёраў, у асяроддзе фіна-угорскіх плямён. Як і інш. амулеты, К.п. зніклі па меры распаўсюджвання хрысціянства.

*Літ.*: С е д о в В.В. Амулеты-коньки из древнерусских курганов // Славяне и Русь. М., 1968; Р ы б и н и н Е.А. Зооморфные украшения древней Руси X—XIV вв. САИ. 1981. Вып. Е 1—60; Я г о ж. Языческие привески-амулеты древней Руси // Древности славян и Руси. М., 1988; Г о л у б е в а А.А. Амулеты // Древняя Русь. Быт и культура. Археология. М., 1997.

*Э.М.Зайкоўскі.*

**КАПАВУ́ШКІ**, п а з н о г ц е ч ы с т к і, прадметы туалету, рэчы асабістай гігіены людзей заможнага саслоўя. Выкарыстоўваліся для чысткі вушэй і пазногцяў. Уяўлялі сабой звычайна невял. палачку, даўж. 6—10 см, круглую ў сячэнні. Знізу мелася маленькае вузкае паглыбленне ў выглядзе лапатачкі, верхняя частка заўсёды была ўпрыгожана аздабленнем абстрактнай формы альбо рабілася ў выглядзе грэбеня пеўня (Заслаўе, Мінск, Друцк, Пінск), галавы птушкі (Полацк, Ваўкавыск), постаці сабачкі (Тураў, Навагрудак, Менка) і інш. Выраблялiся ў асн. з косці (часцей з рога лася ці аленя), але трапляюцца і бронзавыя. Уся сярэдняя частка звычайна ўпрыгожвалася разьбой ці геам. арнаментам. Часта зверху рабілася невялікая адтуліна, якая служыла для прымацавання рэчы на шнурку або стужцы да пояса. На тэр. Беларусі знойдзены 23 К. Датуюцца 10—15 ст. Самая ранняя знойдзена ў Друцку (10—11 ст.).

*Літ.*: Канакоў П., Нікалаеў М. Паспрабуем прачытаць «ілюмінацыю» // Мастацтва Беларусі. 1988. № 7; Мядзведзева В.У. Капавушкі X—XV стст. з тэрыторыі Беларусі // ГАЗ. Мінск, 2007. Вып. 23. *В.У.Мядзведзева.*

**КАПАТКЕ́ВІЧЫ**, археалагічныя помнікі — курганныя могільнікі *дрыгавічоў* каля г.п. Капаткевічы Петрыкаўскага р-на Гомельскай вобл.

Могільнік-1 за 2 км на З ад гар. пасёлка, на беразе р. Пціч, ва ўр. Гальца. 15 курганоў. У 1889 У.З.Завітневіч раскапаў 5 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавою на З. У адным пахаванні знойдзена буйная бронзавая пацерка дрыгавіцкага тыпу. Астатнія без інвентару.

Могільнік-2 за 3 км на ПнЗ ад гар. пасёлка, ва ўр. Балотца. 5 курганоў выш. 0,85 м, дыям. 8—9 м. У 1889 У.З.Завітневіч даследаваў 2 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавою на З. Знойдзены фр-ты керамічнага посуду, які выраблены на ганчарным крузе.

*Літ.*: Завитневич В.З. Из археологической экскурсии в Припятское Полесье. Киев, 1890; Лысенко П.Ф. Дреговичи. Минск, 1991. *Ю.А.Заяц.*

**КАП'Ё**, дрэўкавая колючая зброя з доўгім (роўным росту чалавека і большым за яго) дрэўкам і ўтулкавым ці чаранковым наканечнікам. К. выкарыстоўвалася як баявая і паляўнічая зброя.

*Коп'і эпохі неаліту і бронзавага веку па месцах знаходкі: 1 — Бярэшча-1; 2, 3, 6, 7 — Асавец-2; 4 — Камень-8; 5 — Лоша-1; 8 — Страліца.*




Першыя К. ўяўлялі сабой простыя дрэўкі з завостранымі канцамі, якія маглі быць абпаленымі на агні для большай трываласці. Найб. раннія з іх выяўлены ў сярэднім ашэлі (350—100 тыс. г. назад). У сяр. палеаліце (мусцье — 40 000—12 000 тыс. г. назад) з'яўляюцца крамянёвыя лістападобныя наканечнікі розных тыпаў. Першыя касцяныя наканечнікі зафіксаваны ў познім палеаліце (арэньяцкія індустрыі). Драўляныя, крамянёвыя і касцяныя наканечнікі К. выкарыстоўваліся да позняга бронзавага веку.

На тэр. Беларусі вядомы знаходкі крамянёвых, касцяных, бронзавых і медных наканечнікаў К., якія датуюцца мезалітам—бронзавым векам. Самымі ранімі наканечнікамі К. лічацца крамянёвыя вырабы з бакавой выемкай з Бердыжскай верхнепалеалітычнай стаянкі. Мезалітычныя К. прадстаўлены касцянымі вырабамі, знойдзенымі на кар'еры на р. Вілія каля г. Смаргонь і на паселішчы *Азярное*-2Б (Любанскі р-н). Большасць смаргонскіх прыладаў змайстравана са шчапаных трубчастых костак буйных рагатых жывёл і мае т.зв. «пешнепадобны» выгляд. Некаторыя афармлены на трубчастых нешчапаных костках і з'яўляюцца першымі ўтулкавымі наканечнікамі. Вырабы з *Азярнога*-2Б — верацёнападобныя, выцягнутыя злёгку прыплюснутыя прылады з 1—2 пазамі для мацавання крамянёвых мікралітаў. Да ранняга неаліту адносіцца фр-т выцягнутага сплюснута-рамбаватага ў сячэнні касцянога наканечніка К. з паселішча *Бярэшча*-1 (Лепельскі р-н, *нарвенская культура*). У неаліце і 1-й пал. бронзавага веку на тэр. Беларусі выкарыстоўваліся крамянёвыя лістападобныя наканечнікі К. з нязначнымі марфалагічнымі адрозненнямі. Радзей сустракаліся падрамбічныя з пазначаным чаранком. Паралельна з крамянёвымі выкарыстоўваліся касцяныя вырабы — з масіўных шчапаных трубчастых костак (*нёманская культура* на Палессі) і больш выцягнутых верацёнападобных падпрамавугольнага або падавальнага сячэння (*усвяцкая культура* і *паўночнабеларуская культура*). У бронзавым веку зноў пачынаюць выкарыстоўвацца ўтулкавыя наканечнікі з нешчапаных трубчастых костак (паўн.-бел. культура). Гэтая традыцыя праіснавала да жал. веку. Зафіксаваны выпадкі перараблівання ў невял. наканечнікі К. (дроцікаў) пашкоджаных касцяных наканечнікаў гарпуноў (Асавец-2, паўн.-бел. культура).

Раннія металічныя (медныя) наканечнікі К. выяўлены ў пахаваннях *сярэднедняпроўскай культуры* (Стрэліца, Ходасавічы, к. 3-га — пач. 2-га тыс. да н.э.). У сярэднім і познім бронзавым веку ў паўд. Беларусі выкарыстоўваліся характэрныя для стэпавых культур бронзавыя наканечнікі К. У раннім жал. веку ў *днепра-дзвінскай культуры* і *штрыхаванай керамікі культуры* прымяняліся касцяныя ўтулкавыя і чаранковыя К. Першыя жал. наканечнікі К. на Беларусі з'явіліся ў носьбітаў *мілаградскай культуры* ў сяр. 7—6 ст. да н.э. Яны былі ўтулкавыя і мелі пяро лістападобнай

формы (курганны могільнік *Дубай* Столінскага р-на). На Пн Беларусі — у насельніцтва днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур жал. ўтулкавыя К. з'явіліся ў першых стагоддзях н.э. Шырокі асартымент наканечнікаў К. з пяром ромбападобнай, лаўра-, вербалістай і інш. форм выяўлены ў пахаваннях *усходнелітоўскіх курганоў культуры* 4—8 ст.

У стараж.-рус. час у Беларусі выкарыстоўваліся ўтулкавыя жал. К. (вядома каля 100 знаходак). Чаранковыя сустракаліся надзвычай рэдка (наканечнік з пяром падоўжана-трохвугольнай формы з курганнага могільніка *Бірулі*). Утулкавыя мелі пяро ланцэта-, ромбападобнай, падоўжана-трохвугольнай, падоўжана-яйкападобнай, лаўралістай, нажападобнай форм. У 2-й пал. 10 ст. з'яўляюцца пікі — наканечнікі К. з пяром у выглядзе вузкага стрыжня чатырохграннага ці рамбічнага сячэння і ўтулкай канічнай формы. Асобныя наканечнікі К. мелі ўтулкі, пакрытыя арнаментацыяй, выкананай каштоўнымі і каляровымі металамі (курганны могільнік «Праклятае поле» каля Лукомля, ур. Мышкава Гара ў Ваўкавыску, Мінск). У 14—18 ст. вядома некалькі мадыфікацый К. Цяжкія кавалерыйскія К. («дрэвы») прызначаліся для тараннага ўдару «з-пад пахі», сіла ўдару залежала ад разгону каня. Вызначаліся невял. пяром, блізкім у сячэнні да квадратам ці ромба, і масіўнай утулкай для мацавання на тоўстым і доўгім (да 4 м і больш.) дрэўку. Выдзяляліся гусарскія «дрэвы», дрэўка якіх рабілася пустацелым для змяншэння вагі, таксама лёгкія пікі, альбо дзіды. Універсальным відам К. былі рагаціны, ці «влочні», з масіўным пляскатым наканечнікам і кароткім (да 2 м) дрэўкам. Яны ўжываліся ў кавалерыі, пяхоце і на паляванні. Варыянтам рагаціны былі больш лёгкія ошчапы, ці суліцы, прызначаныя для кідання. Наканечнікі суліц былі ўтулкавыя і чаранковыя.

*Літ.*: К и р п и ч н и к о в А.Н. Древнерусское оружие. Вып. 2. Копья, сулицы, боевые топоры, булавы и кистени IX—XIII вв. // САИ. 1966. Вып. Е1—36; Ш а д ы р о В.И. Ранний железный век северной Белоруссии. Минск, 1985; К р ы в а л ь ц э в і ч М.М. Касцяныя і рагавыя вырабы каменнага веку з возера Вячэра // З глыбі вякоў. Наш край: гіст.-культуралаг. зб. Мінск, 1996. [Вып. 1]; Археалогія Беларусі. Т. 1. Каменны і бронзавы вякі. Мінск, 1997; Тое ж. Т. 2. Жалезны век і ранняе сярэднявечча. Мінск, 1999; Е г о р е й ч е н к о А.А. Культуры Штрихованной керамики. Мінск, 2006; П л а в і н с к і М.А. Ланцэтападобныя наканечнікі коп'яў на тэрыторыі Беларусі: храналогія і тапаграфія знаходак // МАБ. 2007. Вып. 14; Ч а р н я ў с к і Макс.М. Касцяныя і рагавыя вырабы на паселішчах Крывінскага тарфяніку (неаліт—бронзавы век). Мінск, 2007; Б о х а н Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV — канцы XVI ст. Мінск, 2008.

*Ю.М.Бохан, М.А.Плавінскі, Макс.М.Чарняўскі.*

**КАПЛА́НЦЫ**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і селішча каля в. Капланцы Бярэзінскага р-на Мінскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а жал. веку і ранняга феадалізму за 0,5 км на ПдУ ад вёскі, ва ўр. Гарадок. Помнік займае мыс левага берага р. Клява пры ўпадзенні ручая. Выш. над поймай 10—12 м. Памеры пляцоўкі каля 41 × 48 м. З зах. напольнага боку па краі гарадзішча праходзіць дугападобны вал выш. да 1,9 м і напаўзасыпаны роў глыб. 0,3—0,5 м, шыр. 3—4 м ля аснавання гарадзішча. Абследавалі ў 1930 А.М.Ляўданскі, у 1979 і 1985 Т.С.Бубенька, у 1988 Л.Д.Побаль. У 1999—2004 даследаваў 240 м² ВІ.Кошман. Культ. пласт 0,6—1,1 м. Выяўлены фр-ты ляпнога і ганчарнага посуду мілаградскай і зарубінецкай культур, фр-т падковападобнай фібулы і жал. шыла, ляпная кераміка днепра-дзвінскай, штрыхаванай керамікі і банцараўскай культур, фр-ты льячак, посахападобная шпілька, іголка, знаходкі 11—13 ст. (ганчарны посуд, нажы, ключы, замкі, наканечнікі




*Коп'і старажытнарускага часу па месцах знаходкі: гарадзішча Кульбачына (1), курганны могільнік Заслаўскі (2, 3, 5), курганны могільнік «Праклятае поле» (Лукомль) (4), г. Гродна (6), в. Опса Браслаўскага раёна (7), г. Ваўкавыск (8), гарадзішча Вішчын (9).*




*Абразок св. Матфея з перагародчатай эмаллю з гарадзішча* ***Капланцы.***

стрэл, шпоры, свінцовая пломба, абразок св. Матфея ў тэхніцы перагародчатай эмалі, буйназярністая ажурная пацерка, фр-ты медных катлоў, шкляных бранзалетаў і амфар, асялкі, шыферныя праслiцы i iнш.).

С е л і ш ч а жал. веку і эпохі сярэдневякоўя з зах. (напольнага) боку гарадзішча, на карэнным высокім беразе р. Клява. Абмяжоўваецца натуральнымі перашкодамі: з Пн — ракой, з У і Пд — глыбокім ярам. Памеры каля 250 × 200 м. У 1999, 2004—06 даследаваў 156 м$^2$ В.І.Кошман. Культ. пласт 0,4—0,6 м. Знойдзены фр-ты ляпной керамікі жал. веку, ганчарная кераміка 12—13 ст., фр-т меднага катла, фр-ты шкляных бранзалетаў, шыфернае прасліца, элементы замкоў, нажы, шлак, гліняная абмазка і інш. *В.І.Кошман.*

**КАПЫ́ЛЬ**, горад, цэнтр Капыльскага р-на Мінскай вобл., на р. Мажа. За 120 км на ПдЗ ад Мінска. У летапісах згадваецца з 1274. З 1320-х г. у складзе ВКЛ. З 1395 цэнтр Капыльскага княства. У горадзе захаваліся археал. помнікі — дзяцінец, вакольны горад, некропаль, прадгароддзе, мястэчка, сельская акруга, паселішча каменнага веку.

Д з я ц і н е ц пад назвай Замкавая гара на ледавіковым астанцы на беразе р. Каменка, прыток р. Мажа ў цэнтры горада. Пляцоўка гарадзішча чашападобнай формы, плаўна паніжаецца да цэнтра і злёгку нахілена ў зах. бок. Пл. 0,3—0,35 га, шчыльна пакрыта дзірванам. На паўн.-зах. і паўд.-ўсх. краі пляцоўкі 2 ямы штучнага паходжання, у плане блізкія да прамавугольніка. Абследавалі ў 1912 І.А.Сербаў, у 1961 П.Ф.Лысенка, у 1979 і 1985 М.Ф.Гурын, у 1996—99 і 2005 даследаваў Л.У.Калядзінскі. Быў закладзены раскоп памерам 548 м$^2$ (пляцоўка, вал і абарончы роў вакол гарадзішча). Культ. пласт 0,8—1,2 м. Раскопкамі ўскрыты рэшткі жытлаў 12—17 ст., надземныя і заглыбленыя ў грунт, з печышчамі. Матэрыяльная культура тыповая для большасці гарадоў Беларусі гэтага часу. Знойдзены залатая падвеска, сярэбраны крыжык, латунны пярсцёнак са шчытком, сердалікавыя і шкляныя пацеркі, бронзавыя і шкляныя бранзалеты, каменная шашка для гульні, пісала, абойміца на ножны мяча і яго скрыжаванне, ланцэтападобны наканечнік кап'я, наканечнік пікі 11—13 ст., фр-т бердыша 16 ст., арбалетны болт 15—16 ст. Абарончы вал дзяцінца шыр. 16—18 м, выш. 2,5—3 м. Роў шыр. 20 м, глыб. 3 м. Даўж. перашкоды для дзяцінца складала 21 м, з улікам выш. вастракола 23—24 м. У 14—18 ст. на месцы дзяцінца існаваў Горні замак.

В а к о л ь н ы г о р а д на У ад гарадзішча, ахоплівае яго паўкальцом і займае пл. 1,5—2 га. Аддзяляецца ад гарадзішча ровам. Часткова захаваліся вал і роў вакольнага горада. У 1997—99, 2007 даследаваў Л.У.Калядзінскі. Быў закладзены раскоп памерам 127 м$^2$. Культ. пласт 0,4—1 м. Знойдзены матэрыялы ранняга жал. веку (фр-ты посуду, праслiцы культуры штрыхаванай керамікі), 9—11 ст. (ляпная кераміка, жал. падковападобныя і рамбічныя ў сячэнні фібулы, шкляныя пацеркі, шыферныя прасліцы, фр-ты амфары). У зах. частцы вакольнага горада раскопкамі 2007 выяўлены рэшткі жытла 11 ст., заглыбленае ў грунт на 30—40 см. Захаваліся рэшткі печы-каменкі, 758 фр-таў керамікі пераважна 11 ст. Умацаванні вакольнага горада былі ўзведзены ў 12 ст., іх агульная даўж. 7,5—8 м. Роў, выкапаны з напольнага боку вала, меў шыр. каля 11 м, глыб. да 3 м. Вал вакольнага горада мае шыр. ў асnаванні 14 м і захаваўся на выш. больш за 2,5 м. У 17—18 ст. на месцы вакольнага горада існаваў Дольні замак.

Н е к р о п а л ь 10—11 ст. размешчаны амаль у цэнтры сучаснага К., на Пд і ПдЗ ад вакольнага горада на тэр. праваслаўных, каталіцкіх і яўрэйскіх могілак 19—20 ст. Захавалася 13 насыпаў на тэр. праваслаўных могілак і 5 насыпаў на тэр. яўрэйскіх. Выш. курганоў 0,5—2,8, дыям. у аснаванні да 12 м. Помнік вядомы з к. 19 ст. Абследавалі ў 1961 В.В.Сядоў і П.Ф.Лысенка, у 1979 М.Ф.Гурын, у 1996 Л.У.Калядзінскі. Даследаваў у сяр. 20 ст. Б.К.Багдановіч. Раскопкамі выяўлены пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены 3 скопішчы абпаленых костак і фр-т глінянага посуду. Адзін з курганоў гэтай групы даследавалі ў 1961 В.В.Сядоў і П.Ф.Лысенка. Выяўлена пахаванне па абраду крэмацыі і інгумацыі ў адным і тым жа насыпе. Пахавальны інвентар: фр-ты ляпнога і раннеганчарнага посуду (1 пасудзіна цэлая, датуецца 11 ст.), шыфернае прасліца, паставая пацерка і жал. выраб. У 1996—97 і 1999 даследаваў Л.У.Калядзінскі. Раскапаны 3 насыпы (2 на праваслаўных могілках і 1 на яўрэйскіх). Пахавальны абрад — трупаспаленне. Пахавальны інвентар: фр-ты ляпнога і раннеганчарнага посуду, бронзавай падковападобнай фібулы, жал. падковападобная фібула, бронзавая падвеска з 3 нанізанымі на дрот калечкамі), фр-т берасцянага посуду, жал. выраб (верагодна, ножык).

П р а д г а р о д д з е і м я с т э ч к а размешчаны на З ад гарадзішча, на правым беразе р. Каменка. Абследавалі ў 1979 В.М.Малюковіч, у 1986 А.К.Краўцэвіч, у 1996—2007 Л.У.Калядзін-

скі. Культ. пласт 0,4—1,4 м. Знойдзены фр-ты посуду і кафлі 17—18 ст., сустракаецца кераміка 11—13 ст. У 1998 Л.У.Калядзінскі даследаваў падмурак касцёла св. Роха сяр. 19 ст. Глыб. каля 2 м.

Сельская акруга 10—11 ст. прадстаўлена курганнымі могільнікамі, якія размешчаны за гар. мяжой сучаснага К. Адзін з іх знаходзіцца ўздоўж шашы К.—Грозава, ва ўр. Дубы. Помнік вядомы з пач. 20 ст. Абследавалі ў 1961 В.В.Сядоў, у 1980 і 1983 М.Ф.Гурын. На час іх абследавання могільнік налічваў ад 26 (па падліках М.Ф.Гурына) да 40 (па падліках В.В.Сядова) насыпаў. У 1996 яго абследаваў Л.У.Калядзінскі, які налічыў 14 насыпаў. Астатнія курганы былі знівеліраваны ў час добраўпарадкавання шашы К.—Грозава. Выш. курганоў 0,5—2 м, дыям. 5—15 м. У 1998 адзін з курганоў гэтай групы даследаваў Л.У.Калядзінскі. Знойдзены рэшткі пахавання па абраду трупапалажэння. Інгумацыя ў насыпе кургана ўласціва для дрыгавіцкага насельніцтва ў к. 10 — пач. 11 ст. Помнік датуецца 11 ст.

Курганны могільнік па правым беразе р. Каменка, за 1 км на Пн ад гарадзішча, ва ўр. Грабавы Гай. У 1996, 1998 абследаваў Л.У.Калядзінскі. Помнік налічвае 2 насыпы выш. 1,5—2 м, дыям. 8—10 м. Раскопкі не праводзіліся.

Курганная група, якая, на думку Ф.К.Абрамчыка, налічвае каля 20 насыпаў, знаходзіцца на выездзе з горада, у бок в. Якубавічы. У 1981 абследаваў У.М.Малюковіч. У адным кургане выяўлена пахаванне па абраду трупаспалення. Датуецца 10 ст.

Паселішча каменнага веку — археал. помнік эпохі неаліту і ранняй бронзы. На




*Рэчы 11—13 ст. з раскопак дзяцінца і вакольнага горада **Капыля**.*



*В.Ф.Капыцін.*

тэр. сучаснага К., на левабярэжжы р. Каменка (прыток р. Мажа). На пач. 20 ст. знойдзены прылады з рога і каменныя сякеры. У 1982 абследаваў У.М.Малюковіч, выявіў неалітычны скрабок. У 1997 абследаваў Л.У.Калядзінскі. Знойдзена ножападобнае крамянёвае прасліца.

*Літ.*: Россия: полное географическое описание нашего отечества. Т. 9. Верхнее Поднепровье и Белоруссия. Санкт-Петербург, 1905; Л ы с е н к о П.Ф. Города Туровской земли. Минск, 1974; К а л я д з і н с к і Л. Даследуецца Капыль // БГЧ. 1996. № 4; Я г о ж. Капыль, Клецк і Слуцк: новыя старонкі старажытнага летапісу // Гісторыя Беларусі: новае ў даследаванні і выкладанні: матэрыялы Рэсп. навук.-практ. канф., Мінск, 1999. Ч. 2; Я г о ж. Пра паходжанне назвы Капыль // МАБ. 2001. № 3; Я г о ж. Капыльскі замак у рэчышчы трансеўрапейскіх этнакультурных і гандлёвых плыняў X—XVII стст. // Европа: актуальные проблемы этнокультуры: материалы Междунар. науч.-теорет. конф. Минск, 2007; Я г о ж. Вынікі археалагічнага даследавання абарончага рова ля замкавай гары ў Капылі // ГАЗ. Мінск, 2006. № 21; Я г о ж. Капыль 2007: вынікі палявых даследаванняў // Там жа. Мінск, 2009. Вып. 24; Я г о ж. Археологические источники о раннем, долетописном периоде истории Копыля (IX—XIII вв.) // Гістарыяграфія і крыніцы па гісторыі градоў і працэсаў урбанізацыі ў Беларусі: матэрыялы міжнар. навук.-практ. канф. Гродна, 2009. *Л.У.Калядзінскі.*

**КАПЫСІ́ЦА**, археалагічны помнік — курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі каля в. Капысіца Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл. За 0,2 км на Пн ад вёскі, на полі: 6 курганоў дыям. 6—7 м, выш. 3—4 м. Вядомы з 1873. Абследавалі ў 1968 Г.В.Штыхаў, у 1969 А.А.Выржыкоўскі, у 1977 В.Ф.Капыцін, у 1978 і 1983 В.М.Ляўко. Раскапаны 2 насыпы. У адным выяўлены пахаванні па абраду трупапалажэння галавой на З (7 шкілетаў: адзін мужчынскі і 6 дзіцячых). Ніжэй пахаванняў адзначана праслойка попелу і вуголля. *В.М.Ляўко.*

**КАПЫ́ЦІН** Вячаслаў Фёдаравіч (1.1.1942, в. Трылесіна Дрыбінскага р-на Магілёўскай вобл. — 23.8.2002), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1978), дацэнт (1984). Скончыў Магілёўскі педагагічны ін-т (1969). З 1969 асістэнт, старшы выкладчык, з 1978 заг. кафедры ўсеагульнай гісторыі і культуры, з 1999 заг. кафедры археалогіі і спец. гіст. дысцыплін Магілёўскага Дзярж. ун-та імя А.А.Куляшова. Даследаваў помнікі фінальнага палеаліту і мезаліту Верхняга Падняпроўя і Пасожжа: *Баркалабава*, *Бароўка*, *Горкі*, *Грэнск*, *Дальняе Ляда*, *Журавель*, *Каромка*, *Лудчыцы*, *Магілёўская*, *Новы Быхаў*, *Нираж*, *Хвойна*, *Янава* і інш. Вылучыў *сожскую культуру* эпохі мезаліту. З 1970 праводзіў даследаванні розначасовых помнікаў з мэтай стварэння археал. карты Магілёўскай вобл.

*Тв.*: Поздний мезолит Посожья // Изыскания по мезолиту и неолиту СССР. Ленинград, 1983; Каменный век на территории Белоруссии. Минск, 1990; Памятники финального палеолита и мезолита Верхнего Поднепровья. Могилев, 1992; Свод памятников археологии чернобыльской зоны Могилевской области. Могилев, 1998; У истоков гренской культуры. Боровка. Могилев, 2000. *А.У.Коласаў.*

**КАРАБА́НАВІЧЫ**, археалагічны помнік — гарадзішча каля в. Карабанавічы Дубровенскага р-на Віцебскай вобл. За 0,3 км на З ад вёскі, на мысе каля ўпадзення ручая ў р. Дубровенка (Задубровенка). Пляцоўка помніка памерамі 70 × 40 м, выцягнута з Пд на Пн. З паўд. боку гарадзішча адрэзана ад берагавога плато 3 валамі выш. 1,5—3 м і 3 равамі глыб. да 1 м і шыр. да 6 м. Культ. пласт магутнасцю 0,6—1,2 м. Абследаваў у 1928 І.А.Сербаў. Даследаваў 248 м² у 1994—95 А.А.Мяцельскі. Археал. матэрыялы сведчаць, што помнік быў населены ў эпоху ранняга жал. веку (*днепра-дзвінская культура*) і эпоху Кіеўскай Русі. Знойдзены фр-ты гаршкоў, якія адносяцца да днепра-дзвінскай археал. культуры (1-я пал. 1-га тыс.), касцяныя наканечнікі стрэл, праколкі, грузікі дзякаўскага тыпу, жал. сярпы, серпавідны нож, брытва, бронзавыя спіралькі, падвеска, бляшка, бранзалеты, жал. шпількі. Выяўлены паглыбленыя ў мацярык рэшткі 3 пабудоў, якія мелі сцены слупавой канструкцыі. Адна з іх мела прамавугольную форму (памеры вызначыць не ўдалося), была паглыблена на 0,1—0,2 м, дзе зафіксаваны рэшткі ачага. Другая пабудова была зафіксавана толькі фрагментарна. Бліжэй да цэнтра пляцоўкі гарадзішча размяшчалася трэцяя пабудова, паглыбленая ў мацярык на 0,4—0,6 м, круглая ў плане (дыям. 6 м). Яна мела цэнтр. апорны слуп, на які абапіралася шатровая канструкцыя сцен. Месца размяшчэння шатра фіксуецца кругавой канаўкай глыб. 0,1—0,2 м і шыр. 0,1—0,15 м, якая ішла ўздоўж краю катлавана пабудовы. У паўд. частцы выяўлены рэшткі адкрытага ачага. У запаўненні пабудовы знойдзены касцяная загатоўка стралы, венчык слабапрафіляванага гаршка з нанесенымі па краі венчыка насечкамі, серп (2—3 ст.) і фр-т шпілі з посахападобным навершам (1-я чв. 1-га тыс.). Магчыма, гэтая пабудова выконвала функцыі свяцілішча. Матэрыялы эпохі Кіеўскай Русі прадстаўлены знаходкамі фр-таў керамікі, шкляных бранзалетаў, фр-там шклянога посуду, наканечнікамі стрэл, шпорай сяр. 12 — сяр. 13 ст., фр-тамі замкоў, ключом 12—13 ст.

*Літ.*: М я ц е л ь с к і А.А., М я д з в е д з е ў А.М. Гарадзішча Карабанавічы // МАБ. 2001. № 3; Е г о р е й ч е н к о А.А. Карабановичское святилище // Древняя история Восточной Европы: сб. науч. статей, посвящ. 80-летию профессора Э.М.Загорульского. Минск, 2009. *А.А.Мяцельскі.*

**КАРАЛЁВА СЛАБАДА́**, археалагічныя помнікі — паселішчы *мезаліту* каля в. Каралёва Слабада 1 Светлагорскага р-на Гомельскай вобл.

П а с е л і ш ч а - 1 ранняга этапу *днепра-дзяснінскай культуры* за 0,5 км на ПдУ ад вёскі, на 2-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна, выш. 10 м. Адкрыў і даследаваў 60 м² у 1977 У.П.Ксяндзоў. Культ. пласт 0,4 м. Выяўлены рэшткі агнішча чашападобнай формы дыям. 0,6 м, глыб. 0,3 м. Знойдзены 425 крамянёвых вырабаў, 35 крамянёвых прылад працы — сярэдзінныя і бакавыя разцы, канцавыя і авальныя скраб-

кі, вастрыі, укладышы, скоблі, рэтушаваныя пласціны і адшчэпы, сякеры. Датуецца 8—7 тыс. да н.э.

П а с е л і ш ч а - 2 за 0,25 м на ПдУ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна. Адкрыў і абследаваў у 1982 У.П. Ксяндзоў. Памер 100 × 200 м. Культ. пласт пашкоджаны ворывам. На паверхні сабраны крамяневыя прылады працы: бакавы разец, канцавы скрабок, праколка, ножападобныя пласціны, а таксама адшчэпы і аморфныя нуклеусы.

*Літ.*: К с е н з о в В.П. Раннемезолитические поселения Михайловка и Королева Слобода на р. Березине // Древности Белоруссии и Литвы. Минск, 1982; Я г о ж. Палеолит и мезолит Белорусского Поднепровья. Минск, 1988. *І.М.Язэпенка.*

**КАРАТКЕ́ВІЧ** (па 1-му мужу Н і к і ц і н а; дзявочае В а т к о в і ч) Валянціна Браніславаўна (28.6.1934, с. Белаводскае Маскоўскага р-на, Кыргызстан — 28.2.1983), беларускі археолаг, гісторык. Канд. гіст. навук (1965). Скончыла БДУ (1956). Працавала навук. супрацоўнікам у Ашмянскім краязнаўчым і Брэсцкім гісторыка-краязнаўчым музеях, выкладала ў Брэсцкім педагагічным ін-це. З 1969 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі. Даследавала старажытнасці паморскай культуры на тэр. Беларусі, займалася вывучэннем гісторыі гарадоў, краязнаўствам. Чл. рэдкалегіі і адзін з аўтараў «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» (т. 1—7, 1984—88). Дзярж. прэмія Беларусі 1990.

*Тв.*: Памятники поморской культуры в Белоруссии и на Украине // СА. 1965. № 1; Памятники истории Витебска. Минск, 1975; Памятники истории и культуры. Минск, 1978; Пусть помнят все. Минск, 1979 (разам з Г.Б.Ватковічам); Помнікі Слоніма. Мінск, 1983 (разам з А.М.Кулагіным).

**КАРБО́ЎКА**, від арнаменту на керамічным посудзе і на манетах. На керамічны посуд наносілася спец. прыладай — карбам (цыліндрычным ролікам з дрэва, косці ці інш. матэрыялу). Мела выгляд сеткі прамавугольнікаў, ромбаў, шматлікіх зігзагаў, камбінаваных арнаментаў з розных элементаў. Вырабы посуду чырвонага і карычневага колераў з К. былі найб. пашыраны ў 17 ст. на З Беларусі і выяўлены пры раскопках у Гальшанскім, Крэўскім, Лідскім, Мірскім замках, Гродне і ў нязначнай колькаці ў інш. месцах. К. манеты рабілася на яе гурце ў выглядзе геам. альбо раслліннага арнаменту (зоркі, кропкі, рыскі і інш.) для дэкаратыўнага аздаблення і прадухілення фальсіфікацыі манет. Наносілася гурцільным станком. Упершыню з'яўляецца на зах.-еўрап. манетах у к. 17 ст. *Н.І.Здановіч, І.І.Сінчук.*

**КА́РГЕР** Міхаіл Канстанцінавіч (30.5.1903, Казань, Татарстан — 26.8.1976), расійскі археолаг і мастацтвазнавец. Д-р гіст. навук (1959), праф. (1949). Скончыў Петраградскі ун-т (1923). З 1949 заг. кафедры гісторыі мастацтва Ленінградскага ун-та, у 1964—72 заг. Ленінградскага аддзялення Ін-та археалогіі АН СССР. Вывучаў славянарус. археалогію і гісторыю старaж.-рус. культуры і мастацтва. З сяр. 1950-х г. пад яго кіраўніцтвам праведзены архіт.-археал. экспедыцыі ў Полацку, Віцебску, Тураве, Навагрудку, Ваўкавыску. Даследаваў : у Полацку — рэшткі храма (1967), жытлы 12 ст. на Верхнім замку (1957), Сафійскі сабор 11 ст. (1964), храм-пахавальню полацкіх епіскапаў на тэр. Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра 12 ст. (1957, 1961—64); помнікі 12 ст. — цэрквы Звеставання ў Віцебску (1968), Барысаглебскую ў Навагрудку (1961—62, 1965), рэшткі храма ў Ваўкавыску (1966). Дзярж. прэмія СССР 1952.

*Тв.*: Новый памятник зодчества XII века в Турове // КСИА. Москва, 1965. Вып. 100; Раскопки храма Бориса и Глеба в Новогрудке // АО 1965. М., 1966; К вопросу о памятниках зодчества XII в. в Волковыске // Славяне и Русь. М., 1968; К истории полоцкого зодчества XII в.: (руины вновь открытого храма на Верхнем замке) // Новое в археологии. М., 1972.

*Літ.*: М.К.Каргер // Культура и искусство Древней Руси. Ленинград, 1967; К и р п и ч н и к о в А.Н. К 70-летию М.К.Каргера // Культура средневековой Руси. Ленинград, 1974. *Т.М.Каробушкіна.*

**КАРДО́Н**, археалагічны помнік — курганны могільнік *дрыгавічоў* на левым беразе р. Дняпро, каля прыстані Кардон Буда-Кашалёўскага р-на Гомельскай вобл. Каля 100 насыпаў. Даследаваў у 1904 Е.Р.Раманаў (16 курганоў). Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З у падкурганных ямах, часам на грунце або ў насыпе, пахаванні адзіночныя, трапляюцца парныя. У жаночых пахаваннях знойдзены драцяныя і трохпацеркавыя скроневыя кольцы, металічныя філігранныя і шкляныя пацеркі, драцяныя бранзалеты, пярсцёнкі, падвескі і інш. У мужчынскіх пахаваннях рэчаў не было. Могільнік размяшчаўся ў радзіміцка-дрыгавіцкім пагранiччы. Датуецца 12—13 ст.

*Літ.*: С о л о в ь е в а Г.Ф. Погребальные обряды // Древности железного века в междуречье Десны и Днепра. М., 1962 (САИ. Вып. Д1—12); Ш т ы х о в Г.В. Археологическая карта Белоруссии. Вып. 2. Памятники железного века и эпохи феодализма. Минск, 1971.



*Т.М.**Каробушкіна**.*

**КАРО́БУШКІНА** Таццяна Мікалаеўна (н. 20.7. 1934, в. Кубышка Цвярской вобл., Расія), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1977). Скончыла БДУ (1958). У 1958—2005 у ІГ НАН Беларусі. Даследавала старaж. Полацк, Тураў, Брэст, Мінск, Пінск. У час падрыхтоўкі выдання «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» (1984—88, 1990) абследавала археал. помнікі Брэсцкага, Жабінкаўскага, Камянецкага, Клімавіцкага, Кобрынскага, Маларыцкага, Пружанскага, Старадарожскага, Хойніцкага р-наў. Упершыню для тэр. Беларусі 10—13 ст. дала характарыстыку прылад працы для апрацоўкі зямлі, уборкі і перапрацоўкі ўраджаю, знойдзеных у ходзе раскопак бел. археолагамі, устанавіла час увядзення ў культуру збожжавых раслін і суадносіны іх паміж сабой на працягу стагоддзяў, даследавала пытанне аб выкарыстанні сістэм земляробства на тэр. Беларусі

ў старажытнасці. На падставе археал. раскопак курганоў на тэр. Бел. Пабужжа вывучала пытанне этнічнага складу насельніцтва гэтага рэгіёна ў 9—13 ст. Адзін з аўтараў «Гісторыі Беларусі» (т. 1, 2000), «Археалогіі Беларусі» (т. 3, 2000). Лаўрэат Дзярж. прэміі Беларусі 2002.

*Тв.*: Гісторыя Мінска. 2 выд. Мінск, 1967 (у сааўт.); Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2. Минск, 1972 (у сааўт.); Земледелие на территории Белоруссии в X—XIII вв. Минск, 1979; Белорусская археология: достижения археологов за годы Сов. власти. Минск, 1987 (у сааўт.); Археология Белоруссии: библиогр. указ. (1932—75). Минск, 1988; Курганы Белорусского Побужья в X—XIII вв. Минск, 1993; Насельніцтва Беларускага Пабужжа X—XIII стст. Мінск, 1999; Археалогія Беларусі. Т. 3. Мінск, 2000 (у сааўт.); Среднее Побужье в IX—XIII вв. // Восточная Европа в древности и средневековье. Мінск, 2004.

*М.М.Чарняўскі.*

**КАРО́МКА**, археалагічны помнік — стаянка каля в. Кісцяні Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл., за 5 км на Пн ад вёскі, 1,5 км на ПдУ ад в. Залаззе, ва ўр. Каромка. Займае ўчастак 2-й надпоймавай тэрасы правага берага Дняпра пры ўпадзенні ў яго безназоўнага ручая. Выш. 16—17 м. Адкрыў у 1893 В.Я.Данілевіч, абследавалі К.М.Палікарповіч, У.Дз.Будзько, У.Ф.Ісаенка, І.М.Ціханенкаў, А.Г.Калечыц. У 1972—73, 1990 В.Ф.Капыцін даследаваў 330 м$^2$. Культ. пласт 0,3—0,4 м. Знаходкі трапляюцца ўздоўж броўкі тэрасы працягласцю да 1 км пры шыр. 100—150 м. Знойдзены 9954 адз. крамянёвага інвентару, у т.л. 2011 прадметаў з другаснай апрацоўкай. Сярод інш. знаходак — канцавыя, падакруглыя і двайныя скрабкі, рэтушаваныя, двухгранныя, на зломе пласцінак разцы, тронкавыя і асіметрычныя (грэнскі тып) на-



*Наканечнікі стрэл (1—16), пласціны з прытупленым краем (17—19), пласціны са скошаным рэтушшу канцом (20—23), скрабкі (24—26), разцы (27—30) са стаянкі **Каромка**.*

канечнікі стрэл, сякеркі з перахватам, пласцінкі з прытупленым краем і інш. Трапляюцца дробныя прылады для апрацоўкі косці, рога, дрэва і скуры: шматлікія вастрыі з тонкім рэжучым канцом, невял. праколкі з кароткім лязом, сячэнні пласцін-укладышаў, вырабы з выемкамі, разнастайныя камбінаваныя прылады. Дробныя асколкі, лускавінкі, адшчэпы, пласціны, нуклеусы сведчаць аб тым, што апрацоўка крэменю адбывалася на стаянцы. Адносіцца да фінальнага палеаліту (12—10 тыс. гадоў таму назад). Вызначаны матэрыялы лінгбійскай, грэнскай і свідэрскай культур.

*Літ.*: Будько В.Д. Памятники свидерско-гренской культуры на территории Белоруссии // МИА. 1966. № 126; Исаенко В.Ф., Тихоненков И.М. Об ареалах археологических культур каменного и бронзового веков на территории Белорусского Поднепровья // Вопросы истории и археологии. Минск, 1966; Поликарпович К.М. Палеолит Верхнего Поднепровья. Минск, 1968; Копытин В.Ф. Новые данные по мезолиту Юго-Восточной Белоруссии // The Mesolithic in Europe. Warszawa, 1973; Я г о ж. Памятники финального палеолита и мезолита Верхнего Поднепровья. Могилев, 1992. *А.У.Коласаў.*

**КА́РПАЎСКІЯ КРЭМЕНЕЗДАБЫЎНЫ́Я ША́ХТЫ**, археалагічны помнік эпохі неаліту і бронзавага веку каля в. Карпаўцы Ваўкавыскага р-на Гродзенскай вобл. За 1 км на ПдУ ад в. Карпаўцы, 1,5 км на У ад в. Навасёлкі на крэйдавых адорвенях. Выявіла і даследавала ў 1967—70 Н.М.Гурына, даследавалі ў 1973 М.М.Чарняўскі, у 1979 В.П.Чамеза. Знойдзены адыходы крамянёвай вытворчасці, пашкоджаныя тыповыя гарняцкія інструменты. З-за аддаленасці ад прыбярэжных стаянак і майстэрняў (каля 5 км ад р. Рось) апрацоўка здабытага крэменю і выраб з яго сякер вяліся непасрэдна на тэр. шахтаў. Участкі з шахтамі разбураны крэйдавымі кар'ерамі. Датуецца 3—2-м тыс. да н.э.

*Літ.*: Чарняўскі М.М., Кудрашоў В.Я., Ліпніцкая В.Л. Старажытныя шахцёры на Росі. Мінск, 1996. *М.М.Чарняўскі.*

**КАРЧА́ГА**, вялікая гліняная пасудзіна з вузкім горлам і валікападобным завяршэннем, звужанай калядоннай часткай і 2 авальнымі вушкамі, што мацаваліся да плечукоў, упрыгожаных рэльефным арнаментам. К. трапляюцца пры раскопках амаль усіх бел. гарадоў у пластах 12—13 ст. і лічацца прывезенымі з таварам з Кіева, дзе ў гэты час іх выраблялі ў вял. колькасці. На К. часам бываюць знакі, літары або цэлыя словы. У Кіеўскай Русі К. наз. таксама прывазныя *амфары* — пасудзіны з круглым дном, вузкім невысокім горлам і 2 масіўнымі ручкамі. К. часам выкарыстоўвалі ў якасці своеасаблівых склепаў. Напр., К. з Мазыра была ўкапана па самае вусце ў мацярык побач з пабудовамі 13 ст. Найб. дыям. яе тулава 50 см, па баках зафіксаваны кроплі зялёнай палівы. Падобная К. знойдзена пры раскопках у Кіеве.

*Н.І.Здановіч, А.А.Трусаў.*

**КАРЧМА́**, піцейны, заезны дом; тып грамадскай пабудовы. На бел. землях былі пашыраны ў 16 — пач. 20 ст. Ставілі іх пры дарозе, каля рачных пераправаў, млыноў, у гарадах — на гандл. плошчах, гал. вуліцах. У сяр. 18 ст. К. былі амаль у кожнай вёсцы. Падзяляліся на заезныя (тыпу гасцініцы) і шынковыя (тыпу харчэўні). Па планіроўцы К. былі вельмі блізкія да нар. жылля, але большыя па памерах. Заезная К. мела вял. хату-шынкоўню, дзе размяшчаліся каморы, гасціныя пакоі; «заезд» — стайні, дзе распрагалі і кармілі коней, і вазоўні, у якіх ставілі вазы і тавары. Незаезная К. складалася з шынка-харчэўні, жытла карчмара і некалькіх гасп. пакояў. Такога тыпу К. мела стадолу, якая стаяла за шынком, і жылыя памяшканні пад адным дахам. Гар. К. маглі аб'ядноўвацца з крамамі, мець 2 шынкі, жылыя памяшканні размяшчаліся на 2-м паверсе альбо ў мезаніне; абаграваліся грубкай альбо камінам, у некаторых былі спец. печы для выпечкі хлеба.

Рэшткі К. 17—18 ст. выяўлены пры даследаванні селішчаў *Гледнявічы* і *Навасёлкі* каля аднайменных вёсак Ваўкавыскага р-на (В.У.Шаблюк) і ў *Віцебскім Ніжнім замку* (Т.С.Бубенька). У в. Гледнявічы К. размяшчалася на фундаменце са шчыльна пакладзеных на гліняную «падушку» камянёў. Даўж. адной са сцен К. складала 8,5 м. У пабудове захаваліся рэшткі печы з зялёнапаліванай кафлі 17 ст. На селішчы Навасёлкі ўскрыты рэшткі 2 драўляных пабудоў, верагодна, К. Ад іх захаваліся асобныя фр-ты муроўкі фундамента і развалы 2 пячэй. Адна з іх (2-й пал. 18 ст.) была складзена з цэглы памерамі 25 × 14 × 6 см і 25 × 13 × 6,5 см. Памеры падмурку печы 1,8 × 3 м. Чарэнь печы складалася са слоя гліны таўшч. 15 см, у якім знаходзілася забіўка з кавалкаў тэракотавых кафляў 17 ст. і невял. (15—20 см у папярочніку) камянёў. Другая печ (17 ст.) была абкладзена тэракотавымі кафлямі. Знойдзены фр-ты керамічнага кухоннага и сталовага посуду, шкляных вырабаў (посуд, аконнае шкло), нажы, ключы, замкі падковы, іголкі і інш., манеты 17—18 ст. Выяўленая ў Віцебску К. ўяўляла сабою зруб памерамі 7,15 × 7,15 м, складзены з бярвён таўшч. 26—38 см спосабам «верхняе абло» з астанцом. Унутраная прастора памяшкання вымашчана каменнем. У паўн.-зах. куце збудавання, пад ніжнім вянком зруба, меўся пограб памерамі 1,9 × 1,9 м, які захаваўся на ўзроўні 11 вянкоў (глыб. пограба 2,2 м). Выяўлены фр-ты паліванага і распіснога сталовага посуду, а таксама рэйнскага каменнага тавара; кафля пач. 17 ст. з гербам кашталяна Хадкевіча, двузубы жал. відэлец з касцянымі тронкамі, дэталі бандарнага посуду. Шматлікія знаходкі — шкляныя вырабы, сярод якіх шкляніцы (таўстасценны посуд для пітва канічнай формы з масіўнымі донцамі, дыям. 38—39 мм, выш. 77—94 мм, другі від — танкасценныя цыліндры, злёгку пашыраныя ўгору), стопкі, келіхі, кварты, бутэлькі, бутлі, некаторыя з вырабаў з клеймамі. На адным з такіх клеймаў дыям. 6 см змешчана выява льва, які трымае ў пярэдніх лапах атрыбуты гутніка: понцію і шкляныя трубкі.

*Літ.*: Ш а б л ю к В.У. Сельскія паселішчы Верхняга Панямоння: XIV—XVIII стст. Мінск, 1996; Б у б е н ь к о Т.С. Раскопки окольного города феодального Витебска // АО 1982. М., 1984; Я е ж. Стеклянная посуда из Витебска // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988; Р о г а ч Л. Беларуская карчма (XVI—XIX стст.) // БГЧ. 2007. № 5.

*Л.У.Калядзінскі, Л.Ф.Рогач.*

**КАРЭ́БЫ**, археалагічныя помнікі — стаянкі і курганны могільнік каля в. Карэбы Дрыбінскага р-на Магілёўскай вобл.

С т а я н к а - 1 каменнага веку за 2 км на З ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Проня, ва ўр. Царкавішча. У 1985 В.Ф.Капыцін даследаваў 9 $м^2$. Культ. пласт 0,1—0,3 м. Знойдзены нуклеусы, адшчэпы, пласціны, канцавыя скрабкі.

С т а я н к а - 2 *верхнедняпроўскай культуры* за 1 км на ПдЗ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага Проні. Адкрыў у 1985 А.А.Седзін, у 1987 В.Ф.Капыцін даследаваў 24 $м^2$. Культ. пласт 0,2—0,5 м. Знойдзены нуклеусы, пласціны, адшчэпы, дробныя асколкі і лускавінкі крэменю, прылады працы — наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі з пласцін і адшчэпаў, вуглавыя разцы, вырабы з выемкай, вастрыі. Керамічны посуд меў слабаадагнуты венчык, арнаментаваны адбіткамі дробназубчастага штампа і пракрэслены радам гарызантальных ямачных уцісканняў. У якасці дамешку выкарыстоўваўся буйназярністы кварцавы пясок.

С т а я н к а - 3 верхнедняпроўскай культуры за 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага Проні. Адкрыў і даследаваў 169 $м^2$ у 1987—91 В.Ф.Капыцін. Культ. пласт 0,2—0,5 м. Знойдзены адна- і двухпляцовачныя нуклеусы, пласціны, адшчэпы, сярэдзінна-вуглавыя разцы, канцавыя скрабкі, у т.л. нуклеападобныя, вастрыі. Фр-ты керамікі з раслінным дамешкам у гліне арнаментаваны ямачнымі ўцісканнямі і адбіткамі дробназубчастага штампа. Матэрыялы раскопак, блізкія да знаходак са стаянкі-2, характарызуюць найб. стараж. этап развіцця неаліту ў Верхнім Падняпроўі.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к эпохі Кіеўскай Русі за 1,5 км на З ад вёскі, на левым беразе Проні, ва ўр. Царкавішча. 51 насып выш. 0,3—1,5 м, дыям. 5,5—12 м. У 1930 І.А.Сербаў даследаваў 1 курган (на той час іх было 60). Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З. Пахаванне знаходзілася на 2 вогнішчах і было абкладзена дубовымі плахамі. Інвентар — бронзавыя падвескі, скроневыя кольцы, пярсцёнкі, дробныя пацеркі і фр-ты ганчарнай пасудзіны з лінейным арнаментам.

*Літ.*: С е р б а ў І.А. Археалагічныя абследаванні ў вадазборах рэк Проні—Ухлясці ў былой Магілёўшчыне // Працы. Т. 3; К о п ы т и н В.Ф. Археологические памятники Дрибинского района Могилевской области. Могилев, 1994. *В.Ф.Капыцін.*

**КАСА́**, ручная прылада для скошвання травы і збожжавых культур. Складаецца з доўгага загнутага ляза, пасаджанага на кассё. Папярэднікам К. лічыцца *касар*. У 2-й пал. 1-га тыс. на тэр. Беларусі з'явілася К.-гарбуша — ударна-рэжучая прылада, якой касілі траву, віку, гарох, грэчку. Яе злёгку загнутае лязо мацавалася да кароткай увагнутай драўлянай ручкі. У 11—13 ст. быў пашыраны тып К. з кароткім (каля 45 см), але шырокім (4,5—5 см) лязом і кароткім дзяржаннем. З 15 ст. стала прымяняцца К. з доўгім палатном (лязом) і доўгім кассём, на сярэдзіне якога мацавалася драўляная ручка. К.-гарбушы звычайна знаходзяць у гарадах (Брэст, Ваўкавыск, Гродна, Друцк, Мінск, Навагрудак, Пінск, Полацк, Слуцк і інш.), значна радзей — у курганах (Курганне Жлобінскага, Церуха Гомельскага, Радамля Чавускага р-наў і інш.).

*Літ.*: К о р о б у ш к и н а Т.Н. Земледелие на территории Белоруссии в X—XIII вв. Минск, 1979.

*У.У.Багамольнікаў.*

**КАСА́Р**, старажытная сельскагаспадарчая прылада працы для расчысткі зямельных участкаў ад кустоў і зразання галінак на корм жывёле. Складаўся з загнутага жал. клінка даўж. да 15 см, шыр. да 5 см і доўгага драўлянага дзяржання. К. 13 ст. знойдзены ў Лукомлі і Лагойску.

*Літ.*: Гл. пры арт. *Каса.*

**КАСПА́РАВА** Ксенія Васілеўна (8.12.1929, Санкт-Пецярбург, Расія — 6.7.1994), расійскі археолаг. Канд. гіст. навук (1982). Скончыла Ленінградскі ун-т (1952). З 1959 вучоны сакратар, з 1964 старшы навук. супрацоўнік аддзела археалогіі Усх. Еўропы і Сібіры Эрмітажа (Санкт-Пецярбург). Вывучала старажытнасці жал. веку, у т.л. *зарубінецкай культуры*. Праводзіла археал. даследаванні ў Беларусі (раскопкі паселішчаў і могільнікаў *Велямічы*, *Атвержычы*, *Рубель* і Рамель Столінскага, *Востраў* Пінскага р-наў), а таксама на тэр. Валынскай, Ровенскай, Хмяльніцкай абласцей Украіны. На матэрыялах могільнікаў Велямічы-2 і Атвержычы дэталёва распрацавала храналогію палескага варыянта зарубінецкай культуры, вызначыла, што зарубінецкія старажытнасці існавалі на Палессі да сяр. 1 ст. Аналізуючы пахавальны абрад і рэчавы матэрыял гэтай культуры, выказала меркаванне, што ў яе фарміраванні прынялі ўдзел носьбіты ясторфскай і паморскай культур.

*Тв.*: Могильник и поселение у дер. Отвержичи // МИА. 1969. № 160; Зарубинецкий могильник Велемичи-II // АСГЭ. Ленинград, 1972. Вып. 14; Новые материалы могильника Отвержичи и некоторые вопросы относительной хронологии зарубинецкой культуры Полесья // Там жа. Ленинград, 1976. Вып. 17; О верхней хронологической границе зарубинецкой культуры Припятского Полесья // СА. 1976. № 3. *В.С.Вяргей.*

**КАСТРЫ́ЦА**, археалагічны помнік — гарадзішча каля в. Кастрыца Лепельскага р-на Віцебскай вобл. За 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, на узгорку выш. да 20 м са стромкімі схіламі. Пляцоўка авальная, памерамі 44 × 24 м. Вядома пад назвай Царкавішча. Даследавалі ў 1965 Г.В.Штыхаў і К.П.Шут, абсле-

давалі ў 1972 А.Р.Мітрафанаў, у 1992 В.І.Шадыра, А.Р.Мітрафанаў. Культ. пласт у цэнтры пляцоўкі 0,2—0,4 м, па краях 1 м. Мае 3 гарызонты. У ніжнім уздоўж края пляцоўкі выяўлены сляды шматкамернай жылой пабудовы слупавой канструкцыі, агнішча з камянёў, рэшткі майстэрні, у якой здабывалі і апрацоўвалі жалеза. Унутры майстэрні, ніжняя частка якой на 0,7—0,8 м паглыблена ў зямлю, выяўлены каменнае кавадла, шлакі і акаліна.

Пры раскопках знойдзены касцяныя праколкі, амулет з мядзведжага ікла, гліняныя прасліцы біканічнай і авальнай форм, грузікі з адцягнутай бакавой сярэдзінай, а таксама грузікі дзякоўскага тыпу, у т.л. адзін з косці, тыглі для плаўкі бронзы, нажы, сярпы, у т. л. з прамавугольнай спінкай, посахападобныя шпількі, жал. і бронзавыя бранзалеты, спражкі, слабапрафіляваныя гаршкі і слоікападобныя пасудзіны *днепра-дзвінскай культуры.* У сярэднім гарызонце былі жал. сякеры, сярпы, рыбалоўныя кручкі, наканечнікі коп'яў, бронзавыя падвескі, іголка, шмат фр-таў пасудзін *банцараўскай культуры.* У верхнім гарызонце, які адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі, знойдзены спружынныя нажніцы, зубілы, нажы, тачыльныя брускі, прасліцы, каменныя таўкачы, ганчарная кераміка.

*Літ.:* Ш а д ы р о В.И. Ранний железный век северной Белоруссии. Минск, 1985; Археалогія Беларусі. Т. 2. Мінск, 1999. *В.І.Шадыра.*

**КАСТЫ́КІ**, археалагічныя помнікі — стаянка, селішча, курганны могільнік каля в. Кастыкі Вілейскага р-на Мінскай вобл.

С т а я н к а і с е л і ш ч а за 1 км на ПдЗ ад вёскі, на дзюне правабярэжнага поплаву р. Вілія, пры ўпадзенні ў яе р. Сэрвач. Выявіў у 1972 і даследаваў 160 $м^2$ у 1973 М.М.Чарняўскі. Памеры помніка 40 × 90 м, культ. пласт да 0,6 м. Выяўлены матэрыялы стаянкі людзей неаліту і бронзавага веку — крамянёвыя вырабы, кераміка (тшцінецкай культуры і з заштрыхаванай паверхняй), а таксама бронзавая плоская сякера. На той жа дзюне існавала селішча ў жал. веку і ў сярэдневякоўі.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к на ўсх. ускраіне вёскі, на правым беразе Віліі. 15 цэлых і 5 часткова пашкоджаных курганоў дыям. 5—14 м, выш. 0,4—1,8 м. Вакол большасці курганоў прасочваюцца неглыбокія кругавыя раўкі. У сяр. 19 ст. К.П.Тышкевіч раскапаў 1 курган без пахавання. У 1973 Я.Г.Звяруга даследаваў 7 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З (з даволі значнымі адхіленнямі). У некаторых курганах пад касцякамі тонкія праслойкі попелу, у нагах стаялі гаршкі. Пахавальны інвентар: жал. нажы, сякера, шыла, іголка, шыйныя грыўні, пацеркі, тачыльны камень, гліняныя прасліцы, шыйныя пацеркі, бронзавыя пярсцёнкі. Бронзавыя скроневыя кольцы прадстаўлены 2 тыпамі: пярсцёнкападобнымі, тыповымі для *дрыгавічоў*, і бранзалетападобнымі завязанымі, характэрнымі для *крывічоў.* Кераміка ганчарная. Могільнік належаў крывіцка-дрыгавіцкаму насельніцтву. Датуецца 11—12 ст.

*Літ.:* З в е р у г о Я.Г. Работы в Понеманье // АО 1973. М., 1974; Ч а р н я ў с к і М.М. Паселішча Кастыкі 1 на Віліі // ГАЗ. Мінск, 2006. Вып. 22.

*Я.Г.Звяруга, М.М.Чарняўскі.*

**КАСТЭ́ЛЬ** (ад франц. castel невялікі замак), ранняя форма мураваных *замкаў* на беларускіх землях ВКЛ, якая, верагодна, паходзіць ад замкаў, што будаваліся на прыбалтыйскіх землях рыцарамі Лівонскага і Тэўтонскага ордэнаў. К. уяўляе сабой невял. памераў замак, сцены якога ўтвараюць замкненую прастору, звычайна ў форме прамавугольніка. Сцены К. завяршаліся баявымі галерэямі з байніцамі, па вуглах меліся вежы, звычайна прамавугольныя, якія прымыкалі да сцен знутры альбо выступалі вонкі за іх лінію. Жылыя, службовыя і гасп. пабудовы размяшчаліся на замкавым палігоне, аднак пад жыллё і службовыя памяшканні маглі адводзіцца і некаторыя паверхі вежаў. К. выконвалі ролю памежных умацаванняў, апорных пунктаў цэнтр. ці рэгіянальнай улады, адміністрацыйна-фіскальных і ваенных цэнтраў. Некаторыя К. з'яўляліся сеньёральнымі рэзідэнцыямі. На тэр. Беларусі да К. належаць *Лідскі замак* і *Крэўскі замак.*

*Літ.:* Т к а ч о ў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мінск, 1978.

*Ю.А.Заяц.*

**КАСЦЯНЕ́ВА**, археалагічны помнік — гарадзішча каля в. Касцянева Шчучынскага р-на Гродзенскай вобл. На паўд.-ўсх. ускраіне вёскі, на схіле ўзвышанага берага р. Касцянёўка. Пляцоўка круглая, дыям. каля 70 м, абкружана валам выш. 2,5—3 м, шыр. 14—16 м, які з У перарываецца ўездам. З У і Пн — сляды рова. Адкрыў у 1968 В.В.Сядоў, даследаваў у 1975 М.А.Ткачоў, у 1989 С.А.Піваварчык. Культ. пласт на ПнЗ пляцоўкі 1 м, на У і Пд — 0,3—0,5 м. Выяўлены абпаленыя камяні, частка згарэлай пабудовы, сляды паўзямлянкі прамавугольнай формы, рэшткі печы-каменкі з керамікай 12—13 ст. Знойдзена кераміка 11—13 ст. і 14—16 ст., металічныя вырабы (жал. спражка 11—12 ст., нажы, рэшткі замка), шлак, косці жывёл, манета 16 ст. Раскопкі М.А.Ткачова паказалі, што вал тройчы падсыпалі, ён меў дубовыя ўмацаванні, унутраны схіл 12 ст. быў забрукаваны. Гарадзішча з'яўлялася адным з паўн. абарончых пунктаў Панямоння, які быў разбураны ў 13 ст. Жыццё на гарадзішчы працягвалася да 16 ст.

*Літ.:* П о к р о в с к и й Ф.В. Археологическая карта Виленской губернии. Вильна, 1893; С е д о в В.В. К истории поселений Черной Руси // КСИА. 1974. Вып. 139. *С.А.Піваварчык.*

**КАЎРЫ** (інд. kauri), невялікая ракавіна марскога малюска (даўж. 1—2,5 см). У стараж. часы выкарыстоўваліся як упрыгажэнні і грашовы сродак у народаў Азіі, Афрыкі, Акіяніі (да пач. 20 ст.), Еўропы. Як грошы вядомы ў Афрыцы з 11—12 ст.

Паліхромная **кафля** 16—17 ст. з гарадзішча Гарадок Маладзечанскага р-на.





У 17—18 ст. тэр. іх выкарыстання пашырылася, у сяр. 19 ст. зафіксаваны іх курс: у Зах. Афрыцы 2,5 тыс. ракавін за 1 талер, у народаў Індыйскага акіяна — 2,5—12 тыс. К. за 1 рупію.

У Беларусі пры раскопках выяўлены адзінкавыя экзэмпляры К. сярод знаходак 12 ст. (Гродзенскі Стары замак, Полацк і інш.), 15—16 ст. (Панямонне), звычайна з адтулінай для нанізвання на шнур. Магчыма, К. выкарыстоўвалі на тэр. Беларусі ў якасці грошай у безманетны перыяд (2-я пал. 11—13 ст.).

**КАЎПАКІ́**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Каўпакі Гродзенскага р-на. За 1 км на Пд ад вёскі, справа ад дарогі на в. Кругляны. 19 круглых курганоў дыям. 4—8 м, выш. 0,6—1,1 м, адзін прадаўгаваты (9 × 6 м, выш. 0,8 м). У 1975 Я.Г.Зверуга даследаваў 12 курганоў, прадаўгаваты і 11 круглых. Ва ўсіх курганах пад дзірваном былі вымасткі са шчыльна пакладзеных камянёў розных памераў. Прамежкі паміж імі запоўнены гумусавым пяском. Часам паверх асн. вымастак у цэнтры насыпаў меліся невял. (дыям. 0,5—2 м) дадатковыя вымасткі з дробных камянёў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце. Пахавальны інвентар: 2 бронзавыя трохпацеркавыя скроневыя кольцы, каля 30 пярсцёнкападобных вісочных кольцаў, 5 шкляных бітрапецадобных пацерак, авальнае крэсіва, мініяцюрны нож, абломак сярпа. Знойдзена невял. колькасць ганчарнай керамікі. Могільнік належаў балцкім плямёнам і датуецца 11—13 ст.

*Літ.*: З в е р у г о Я.Г. Раскопки курганов в Понеманье // АО 1975. М., 1976. *Я.Г.Зверуга.*

**КА́ФЛЯ** (ням. Kachel), керамічны выраб для абліцоўкі і дэкаратыўнага аздаблення печаў (гл. *Кераміка*). Адрозніваецца ад абліцовачных архіт.

Узоры **кафлі** з Аршанскага Куцеінскага Богаяўленскага манастыра 17 ст.





пакрыццяў сістэмай мацавання, якая забяспечвае трываласць К. ў муроўцы печы пры значным перападзе тэмператур і яе лінейных памераў у час нагрэву. У Беларусі К. вядома з пач. 14 ст. Трапіла з Еўропы, магчыма, з Германіі. Паводле тэхналогіі вытворчасці, канструкцый, выкарыстання і дэкору яна мае трывалыя гіст. разнавіднасці. Раннія «гаршковыя» К. (14—16 ст.) мелі функцыю галаснікоў-калярыфераў, служылі для аблягчэння і мацавання скляпенняў глінабітных печаў. Гаршковыя К. паводле тэхнікі фармоўкі былі ляпныя, падпраўленыя або поўнасцю адфармаваныя на ганчарным крузе. Паводле саставу фармовачнай масы — з гліны без дамешкаў, з гліны з дамешкамі жарствы, жвіру, пяску, бітага камення; паводле памеру — вял., сярэднія і малыя; па форме — цыліндрычныя, усечанага конуса, высокія і нізкія; па канфігурацыі вусця — квадратныя, круглыя, 3- або 4-пялёсткавыя; па тэхналогіі вытворчасці — тэракотавыя, задымленыя, паліваныя, з дэкорам і без яго.

У Беларусі ў к. 15—16 ст. існавала пераходная форма ад гаршковай да каробчатай К., у якой вонкавая пласціна была прарэзанай. Такую К. (кратавую) часта вылучаюць у асобны тып. Яна вядома з раскопак у Вільні, Полацку і Клецку.

З 15 ст. на змену гаршковай паступова прыходзіць каробчатая К. Яна мае вонкавую пласціну, адфармаваную з дапамогай глінянай, драўлянай, гіпсавай або металічнай формы і прымацаваную з тыльнага боку румпы з дзіркамі для мацавання. Па агульных характэрных рысах яе можна класіфікаваць: паводле спосабу вытворчасці — ручнога, саматужнага або машыннага, фабрычнага вырабу; паводле фармовачнай масы — без дамешкаў, з дамешкамі жвіру, пяску, са складанай масы з дамешкамі белай гліны і інш. рэчываў; па форме пласціны і памерах румпы; па канструкцыйным прызначэнні — К. палявая, цокальная, паясная, карнізная (гзымсавая), франтонная, перамычкі, каронкі, гарадкі, балясіны, рашотчатыя дэкаратыўныя картушы, медальёны, дахоўкі; па відах дэкору — плоская, рэльефная, гарэльефная, скульпт., прасторавая; па тэхналогіі вытворчасці — тэракотавая, ангабаваная, паліваная зялёнай («мураўлёная»), бясколернай ці каляровымі празрыстымі palівамі, пакрытая непразрыстымі каляровымі palівамі — эмалямі, т.зв. «кунштоўныя», або «цанінныя» вырабы з выкарыстаннем белых эмалей, з размалёўкай па эмалі (галандскі стыль), мяшаныя тэхнікі з выкарыстаннем люстраных пакрыццяў, золата, падпаліўных фарбаў; па тэматыцы дэкаратыўных выяў — з геам., раслінным, геам.-раслінным арнаментамі, з выявамі жывёл, людзей, у т.л. воінаў, коннікаў, з салярнымі знакамі, выявамі на бытавую і гіст. тэматыку, з выявамі гербаў, картушаў, кампазіцыямі з ужываннем абрэвіятур, надпісаў і лічбаў, з рэлігійнай атрыбутыкай; па кампазіцыйных сувязях — адзінкавыя самастойныя выявы, рапортныя (дывано-



*Пячная кафля 17—18 ст. з Віцебска.*

выя) або поўнасцю падпарадкаваныя адзінаму кампазіцыйнаму прыёму і архіт. стылю.

Археолагі адкапалі рэшткі ганчарных горнаў, дзе абпальвалі К. розных тыпаў. Мінскі горан к. 16 ст. быў цыліндрычным, дасягаў 1 м у выш. і меў 2 камеры: ніжнюю — топку з 14 прадухамі ў скляпенні і верхнюю — з праёмам для загрузкі і выгрузкі вырабаў. Рэшткі аналагічнага ганчарнага горана выявілі ў Друі (дыям. крыху болей за 2 м).

Вытворчасць К. была развіта ў многіх бел. гарадах, у т.л. Віцебску, Гродне, Івянцы, Капылі, Крычаве, Магілёве, Мінску, Міры, Мсціславе і інш.

У 17 ст. назіраецца ўплыў бел. кафлярства на рускае. Бел. майстры наладзілі ў розных гарадах Расійскай дзяржавы выраб пячной і архіт. паліхромнай керамікі, якой аздаблялі фасады храмаў і грамадзянскіх будынкаў.

*Літ.*: Здановіч Н.І., Трусаў А.А. Беларуская паліваная кераміка XI—XVIII стст. Мінск, 1993; Трусаў А.А. Беларускае кафлярства. Мінск, 1993; Ганецкая І.У. Маёліка на Беларусі XI—XVIII стст. Мінск, 1995. *А.А.Трусаў.*

**КАХАНÓЎСКІ** Генадзь Аляксандравіч (8.1.1936, в. Дамашы Маладзечанскага р-на Мінскай вобл. — 15.1.1994), беларускі гісторык, краязнавец, фалькларыст, літаратуразнавец. Д-р гіст. навук (1992). Скончыў Маскоўскі педагагічны ін-т (1963). З 1964 супрацоўнік, намеснік дырэктара, дырэктар Мінскага абл. краязнаўчага музея ў г. Маладзечна, з 1981 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі, з 1991 у Нац. навук.-асветным цэнтры імя Ф.Скарыны. Першы старшыня *Беларускага краязнаўчага таварыства* (1989—94). Даследаваў развіццё археалогіі, краязнаўства, музейнай справы, пытанні аховы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Увёў у навук. ўжытак выяўленыя ў архівах невядомыя раней дакументы і творы (грамату З.*Даленгі-Хадакоўскага* на права археал. раскопак, археал. карту Магілёўшчыны Е.Р.Раманава, рукапісы Т.Нарбута, А.Г.К.Кіркора, У.З.Завітневіча і інш.). З 1959 удзельнічаў у раскопках у Крыме, Беларусі (пераважна на Міншчыне). Аўтар літаратурна-краязнаўчых нарысаў пра Я.Купалу, М.Багдановіча, Я.Баршчэўскага, А.Гурыновіча, Ф.Тапчэў- скага, М.Чарота, гісторыка-эканамічных нарысаў «Маладзечна» (1971, 1988), «Вілейка» (1974). Адзін з ініцыятараў і стваральнікаў бел. каляндарных выданняў «Кола дзён», «Каляндар 1991».

*Тв.*: Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мінск, 1984; Адчыніся, таямніца часу. Мінск, 1984; Повязь часоў. Мінск, 1985; Беларуская фалькларыстыка: эпоха феадалізму. Мінск, 1989 (разам з Л.А.Малаш, К.А.Цвіркам); Прадвесне навукі. Мінск, 1990.

*Жалезныя прылады працы і зброя з гарадзішча* ***Кашчэлічы.***



**КАЦЁЛКІ**, археалагічны помнік — курганны могільнік дрыгавічоў каля в. Кацёлкі Пружанскага р-на Брэсцкай вобл. За 1,1 км на ПнУ ад вёскі, у лесе, злева ад дарогі Абруб—Шані. 4 насыпы выш. 0,7—0,9 м, дыям. 12—14 м. Абследавалі ў 1961 В.В.Сядоў, у 1983 і 1985 Т.М.Каробушкіна. У 1961 члены гіст. гуртка Пружанскай школы № 1 (кіраўнік М.А.Шульман) даследавалі 2 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на попельна-вугальнай падсыпцы галавой на З. Знойдзеныя ў курганах каваныя цвікі сведчаць пра тое, што нябожчыкі былі пахаваны ў трунах. Выяўлены ганчарны тонкі гаршчок з ручкай, абломкі керамікі, круглае глінянае і біканічнае сланцавае прасліцы, сярэбранае скроневае кольца, залачоная шкляная біканічная пацерка. Датуецца 11 ст.

За 0,8 км на Пд ад могільніка знаходзяцца 2 падоўжаныя курганы выш. 3—3,5 м, даўж. 20 м, шыр. 12 м.

*Літ.*: Коробушкина Т.Н. Курганы Белорусского Побужья X—XIII вв. Минск, 1993. *Т.М.Каробушкіна.*

**КАЧАРГÍ**, археалагічны помнік — стаянка *тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі культуры* (сяр. 3-га тыс.) каля в. Качаргі Мядзельскага р-на Мінскай вобл. За 0,5 км на Пд ад вёскі, на паўд. пясчаным беразе воз. Мястра. Выявіў і абследаваў у 1964 М.М.Чарняўскі. Даўж. 150 м, шыр. 50 м. Культ. пласт разворваецца. Знойдзены невял. скрабкі на адшчэпах, рэтушаваныя адшчэпы і пласцінкі, авальныя рубячыя прылады, таўстасценная кераміка з дамешкам жарствы, аздобленая глыбокімі ямкамі і адбіткамі шыраказубага грэбеня.

**КАШЧЭ́ЛІЧЫ**, археалагічны помнік — гарадзішча ў в. Кашчэлічы Валожынскага р-на Мінскай вобл. Пляцоўка авальнай формы, памерамі 52 × 42 м без відавочных слядоў умацаванняў, паўн. частка пашкоджана кар'ерам. Культ. пласт да 2,2 м. Выяўлена А.Р.Мітрафанавым у 1967. У



*Бронзавая фібула 40—70-х г. з гарадзішча Кашчэлічы.*

1986 А.А.Егарэйчанка, у 1987—89, 1991 і 1996 А.М.Мядзведзеў даследавалі 523 м². На паўд. напольным баку пляцоўкі выяўлены рэшткі 2 абарончых валоў, а таксама ўваход на гарадзішча. З астатніх бакоў пляцоўка была абнесена драўлянай месцамі двайной, абарончай сцяной. Па размяшчэнні абарончых умацаванняў, жытлаў (захаваліся толькі вогнішчы), гасп. пабудоў і месцаў вытворчасці вызначаюцца 5 этапаў жыцця на гарадзішчы. На першых 2 этапах пабудовы ў выглядзе доўгіх шматкамерных жытлаў слупавой канструкцыі шыр. да 2,5 м размяшчаліся ўздоўж края пляцоўкі і прымыкалі да абарончай сцяны, на апошнім — у цэнтры, прычым сцены мелі зрубавую канструкцыю. На гарадзішчы ўпершыню ў Беларусі выяўлена кузня: паглыбленая чатырохвугольная пабудова памерамі 2,2 × 2,5 м са сценамі слупавой канструкцыі, у цэнтры — камень-накавальня. Знойдзена 350 індывідуальных знаходак (вырабы з каменя, косці, гліны, бронзы і жалеза), што дазволіла дакладна датаваць 5 буд. гарызонтаў на помніку. На раннім этапе выкарыстоўваліся каменныя прылады працы (сякеры, крамянёвы серп) і касцяныя (праколкі, наканечнік дзіды, кінжал), пазней прылады працы, упрыгажэнні, узбраенне рабіліся з металу. З каменя выраблялі таксама прасліцы, зерняцёркі і цёрачнікі, з косці — наральнікі для ворнага рала, праколкі, з гліны — прасліца, грузіла, з бронзы — фібулы, бранзалеты, падвескі трапецападобную і формы вока; з жалеза — пасахападобныя шпілі, нажы, сярпы, касу, наканечнік дзіды, праколкі. Сярод ляпной керамікі (каля 20 тыс. фр-таў) пераважае штрыхаваны посуд, сустракаецца гладкасценны, шурпаты, глянцаваны. Найб. колькасць складаюць гаршкі рабрыстых форм. Помнік адносіцца да *штрыхаванай керамікі культуры*, датуецца апошняй чв. 1-га тыс. да н.э. — 5 ст. н.э.

*Літ.*: Медведев А.М. Белорусское Понеманье в раннем железном веке (I тыс. до н.э. — 5 в. н.э.). Мінск, 1996. *А.М.Мядзведзеў.*

**КВАРЦЫ́Т**, рэгіянальна-метамарфізаваная горная парода светла-шэрага колеру, складзеная ў асн. з зярнят кварцу. У складзе К. сустракаюцца і інш. мінералы, па якіх вылучаюць іх разнавіднасці (слізістыя, рогападманкавыя, гранаватыя і інш.). Утварыўся з кварцавых пясчанікаў ва ўмовах іх рэгіянальнага метамарфізму. Сустракаецца ў раннеархейскіх метамарфічных утварэннях крышталічнага масіву. Характарызуецца высокай вогнетрываласцю (1710—1770 °С), механічнай трываласцю (супраціўленне сціcканню 1000—4550 кгс/см), лёгка паддаецца апрацоўцы. Першабытны чалавек на працягу ўсяго каменнага веку выкарыстоўваў К. у якасці сыравіны для вырабу прылад працы. На тэр. Беларусі ў эпоху каменнага веку К. як сыравіна займаў 2-е месца пасля крэменю. З яго выраблялі сякеры, скрабкі, разцы, праколкі, скоблі, пласціны і інш.

*У.П.Ксяндзоў.*

**КВЯТКО́ЎСКАЯ** (па мужу д'Б р а й а н) Ала Віктараўна (н. 17.7.1956, г. Брэст), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1994). Скончыла БДУ (1980). У 1993—2001 у ІГ НАН Беларусі. Даследавала сярэдневяковыя каменныя могільнікі Беларусі 11—17 ст., праводзіла археал. раскопкі могільнікаў на тэр. Гродзенскай і Віцебскай абласцей, у нац. парку Белавежская пушча, архіт.-археал. раскопкі помнікаў 17—18 ст. у Магілёўскай вобл. Жыве ў Галандыі, вывучае гісторыю Белавежскай пушчы.

*Тв.*: Даследаванні каменнага могільніка каля в. Вынзаўшчына Шчучынскага раёна // Гарадзенскія запісы. 1993. № 1; Вясковы жаночы касцюм XI—XVII стст. (па матэрыялах каменных могільнікаў Беларусі. Спробы рэканструкцыі) (у сааўт.) // ГАЗ. Мінск, 1994. № 4; Вясковы мужчынскі строй XI—XVII стст. паводле матэрыялаў каменных могільнікаў Беларусі: спробы рэканструкцыі // Крыўя. 1996. № 1; Ятвяжские могильники Беларуси (к. XI—XVII вв.). Вильнюс, 1998; Беловежская пуща в третьем тысячелетии. Проблемы сохранения природы и устойчивого развития. Минск, 2002 (у сааўт.).

*Касцяныя вырабы з гарадзішча* ***Кашчэлічы.***







*Кельма* 15 ст. з Гродна.

**КЕ́ЛІХ**, посуд для піцця. Складаецца з чашы (чары, кубачка) і стаяна (стапа і ножкі). Вырабляюць з металу, каштоўных і паўкаштоўных камянёў, шкла, маёлікі, фарфору, фаянсу, гліны, дрэва, рога, косці і інш. К. бываюць літургічныя і свецкія. Літургічныя ўжываюцца ў літургіі хрысціянскага культу: у каталіцкім і уніяцкім веравызнанні наз. К. мшальны, у праваслаўным — пацір. Вырабляюць іх пераважна з металаў, часцей каштоўных. З часоў сярэдневякоўя металічныя літургічныя К. аздаблялі каляровымі эмалямі, каштоўнымі камянямі, літымі і чаканнымі рэльефнымі і скульпт. элементамі, гравіроўкамі выяў евангелістаў. Сустракаюцца чашы паўсферычныя, канічныя, цюльпана-, звонападобныя і інш. Стопы бываюць круглыя, шматбаковыя, пялёсткавыя, плоскія, пукатыя, купалападобныя, ножкі — шматгранныя, капліцападобныя, авальныя, аваідальныя, груша-, балясападобныя і інш. На тэр. Беларусі вядомы літургічныя і свецкія К., пра што сведчаць шматлікія археал. знаходкі. Шкляныя літургічныя К. выраблялі ў 12—13 ст. у Гродне, Полацку, Навагрудку, у 17 ст. — у Мсціславе, Мінску, Гродне; металічныя — з сярэдневякоўя. Захаваліся літургічныя К. 16 ст., вырабленыя ў Ружанах і Навагрудку, 17 ст. — у Брэсце, Дзісне, Ружанах, Слуцку. К. свецкія з тэракоты і серабра пад назвамі «кілік» і «кінтарас» (кожны меў пэўную форму) ужываліся ў Стараж. Грэцыі і Рыме. Шкляныя К., аздобленыя жывапісам на ўзор сірыйскіх 12—16 ст., пачалі вырабляць у Венецыі ў 15 ст., дзе ў 16 ст. сфарміраваўся вядомы на ўвесь свет венецыянскі К. з высокай ножкай, багата аздобленай шкляной ажурнай пластыкай. У 17 ст. ў Германіі і Галандыі сфарміраваўся тып прысадзістага К. для рэйнскага віна, т.зв. ромер. У канцы стагоддзя ў Чэхіі ўзнік барочны, манументальны па прапорцыях шкляны К., аздоблены шліфоўкай і нізкарэльефнай разьбой. Звычайна ён меў вечка, выразную пластыку ножкі, утворанай з некалькіх аб'ёмаў, круглую, пукатую альбо пляскатую стапу. На тэр. Беларусі шкляныя свецкія К. выраблялі з 16 ст. ў Гродне і яго ваколіцах, у Мінску, Мсціславе, Шыдлаўцы (цяпер в. Шылавічы Смаргонскага р-на). Вытворчасць барочных К., накшталт чэшскіх, дасягнула росквіту на шкляных мануфактурах князёў Радзівілаў у 1-й пал. 18 ст. ў в. Налібакі Стаўбцоўскага р-на і ў мястэчку (цяпер гар. пасёлак) Урэчча Любанскага р-на. З 2-й пал. 18 ст. вытворчасць шкляных барочных К., у т.л. ў форме ромераў, арганізаваў у г. Гродна А.Тызенгаўз.

*Літ.:* К а ц е р М.С. Народно-прикладное искусство Белоруссии (от первобытного общества до 1917 г.). Минск, 1972; Я н і ц к а я М.М. Беларускае мастацкае шкло (XVI—XVIII стст.). Мінск, 1977; Я е ж. Вытокі шкларобства Беларусі. Мінск, 1980; Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі XII—XVIII стагоддзяў. Мінск, 1984. *М.М.Яніцкая.*

**КЕ́ЛЬМА**, к е л ь н я (ням. Kelle), прылада муляра ці тынкоўшчыка ў выглядзе трохвугольнай ці лістападобнай лапаткі для набірання і нанясення рошчыны на мур. Стараж. К. мелі форму дзіды, яе выкоўвалі, як правіла, з аднаго кавалка металу. Найб. стараж. К. 11 ст. знойдзены ў час рэстаўрацыі Наўгародскага Сафійскага сабора. У Беларусі К. 12 ст. знойдзена А.А.Трусавым у час раскопак (1990) на тэр. Бельчыцкага манастыра ў Полацку. Памеры яе працоўнай пласціны: даўж. каля 30 см, шыр. каля 12 см. Дзве К. 16—17 ст. знойдзены ў *Мядзельскім замку* М.А.Ткачовым і *Гродзенскім Старым замку* (раскопкі А.А.Трусава). Гродзенская К. выкавана з аднаго кавалка жал. бляхі таўшч. 2—3 мм, які адмыслова выгнуты пад ручку прылады. *А.А.Трусаў.*

**КЕЛЬТ**, старажытная сякерападобная прылада працы, у якой утулка размяшчаецца ў абушковай частцы перпендыкулярна да ляза, дзяржанне каленчатае. Выраблялся з бронзы і жалеза. У Еўропе К. пашырыліся з 2-га тыс. да н.э. На тэр. Беларусі найб. раннія К. адносяцца да т.зв. меларскага тыпу і датуюцца 1-й трэццю 1-га тыс. да н.э. Яны маюць круглаватае вушка недалёка ад краю ўтулкі — гарызантальныя валікі на ўзроўні вушка і зігзагападобны арнамент на абушковай частцы. Выяўлены выпадкова каля вёсак Курганы Мінскага, Смолькаўская Буда Касцюковіцкага, Прудзішча Смалявіцкага р-наў і інш. У раннелатэнскі час (5—3 ст. да н.э.) у Сярэдняй Еўропе ўпершыню паявіліся жал. К. з прамавугольнай утулкай. На тэр. Беларусі яны вядомы ў плямён мілаградскай культуры (гарадзішча *Чаплін* Лоеўскага р-на). У к. 1-га тыс. да н.э. — пач. 1-га тыс. падобныя К., але з больш вузкім тулавам, былі пашыраны ў плямён *зарубінецкай культуры* (іх знаходкі вядомы ў закрытых комплексах могільніка Чаплін). Ад зарубінцаў К. трапілі ў паўд. раёны *штрыхаванай керамікі культуры* (гарадзішча *Івань* Слуцкага р-на). Самы паўн. пункт, дзе знойдзены падобныя К., — гарадзішча каля в. Гарадзішча Мядзельскага р-на. Пасля 1 ст. К. выходзяць з ужытку.

*Літ.:* Е г а р э й ч а н к а А.А. Аб характары земляробства і земляробчых прылад працы ў насельніцтва Беларускага Палесся ў раннім жалезным веку // ВАНБ. 1983. № 3. *А.А.Егарэйчанка.*

**КЕ́ЛЬТЫ** (грэч. keltoi), група плямён у кантынентальнай Еўропе, на Брытанскіх астравах і ў Малой Азіі, аб'яднаная выкарыстаннем кельцкіх

моў, некаторымі агульнымі рысамі матэрыяльнай і духоўнай культуры. Этнонімы «К.», а таксама «галаты» і «галы» (лац. Galli ад пратакельцкага *galā «сіла, моц», стараж.-ірландскага galdae «ваяўнічы», galgart «герой») у антычнай традыцыі выкарыстоўваліся як сінонімы, але не ўжываліся ў дачыненні да кельтамоўнага насельніцтва Брытаніі (брытаў) і Пірэнейскага паўвострава (кельціберы). У сучаснай гістарыяграфіі галатамі прынята наз. К. Малой Азіі, галамі — стараж. насельніцтва сучаснай Францыі.

Кельцкія мовы належаць да індаеўрап. моўнай сям'і. Верагодна, на мяжы 2— 1-га тыс. да н.э. існавала пратакельцкае моўнае адзінства, якое пазней распалася. У сучаснасці вядомы 2 групы кельцкіх моў: гойдэльская, або Q-кельцкая (ірландская і шатландская гэльскія, мэнкская), і брыцкая, або P-кельцкая (валійская, брэтонская, корнская). У старажытнасці на кантыненце былі распаўсюджаны кельціберыйская ў Іспаніі, лепантыйская ў Паўн. Італіі і гальская — сукупнасць маладаследаваных дыялектаў на ўсіх астатніх землях, заселеных К. Кельціберыйская мова была блізкая да гойдэльскай групы, гальская — да брыцкай. Кантынентальныя кельцкія мовы вядомы па анамастычных дадзеных і параўнальна нешматлікіх эпіграфічных помніках, напісаных з выкарыстаннем грэч., лепантыйскага і лац. алфавітаў у 2 ст. да н.э. — 1 ст. н.э. Найб. аб'ёмны пісьмовы помнік — табліца з Батарыты на кельціберыйскай мове (каля 130 слоў). У Галіі вядомы надпісы магічнага (Ларзак, Шамальер і інш.) і каляндарнага (Каліньі) характару.

Этнагенез стараж. К. звязаны з культурай палёў пахавальных урнаў (12—8 ст. да н.э.) у Цэнтр. Еўропе. Пераход да ранняга жал. веку адзначаны фарміраваннем *гальштацкай культуры*, зах. частка якой разам з эпонімным могільнікам і салянымі шахтамі ў Гальштаце (каля сучаснага Зальцбурга) прыпісваецца К. ці пратакельтам. Храналагічныя фазы гэтай культуры: C (каля 750—600-х г. да н.э.), $D_1$ (каля 600—520-х г.), $D_{2-3}$ (каля 530—440-х г.). Для гальштацкай культуры характэрны плоскія бірытуальныя могільнікі, багатыя «княжацкія» пахаванні (Магдалененсберг, Хохдорф, Вікс і інш.), невял. адкрытыя паселішчы і ўмацаваныя рэзідэнцыі знаці (Гайнебург). На фарміраванне культуры паўплывалі гандл. кантакты з этрускамі і грэч. калоніямі, асабліва з Масіліяй.

У сяр. 5 ст. да н.э. ў выніку ўнутраных канфліктаў, прырода якіх не высветлена, на змену гальштацкай прыходзіць *латэнская культура* (ад с. Ла Тэн у Швейцарыі). Цэнтры яе фарміравання знаходзіліся на Пн ад ядра зах.-гальштацкай вобл., у далінах Марны і Мозеля, а таксама ў Багеміі. Храналагічныя фазы латэнскай культуры: $A_{1-2}$ (каля 500—390-х г. да н.э.), $B_{1-2b}$ (каля 390—250-х г.), $C_{1a-2}$ (каля 250—120-х г.), $D_{1-3}$ (120-я г. да н.э. — першыя гады н.э.). Яе фарміраванне па часе супадае з пачаткам гіст. экспансіі К., вядомай па звестках антычных аўтараў (Паўсанія, Юстына, Ціта Лівія, Палібія). У Паўн. Італіі К. асвоілі даліну р. По, каля 390 да н.э. захапілі Рым. Іх ваенныя рэйды дасягалі Апуліі і Кампані. На Балканах кельцкае насельніцтва пачало асваенне занятых ілірыйцамі зямель каля 358 да



*Да арт.* ***Кельты****. Латэнскія наканечнік кап'я, ножны і бранзалеты, упрыгожаныя ў пластычным стылі 3 — пач. 1 ст. да н.э.*

н.э. У 280—279 да н.э. К. здзейснілі шэраг ваенных паходаў у глыб Фракіі, Македоніі і Грэцыі, пасля якіх аселі на Сярэднім Дунаі (скардыскі, таўрыскі) і ў Фракіі (дзяржава Ціла). Трокмы, талістабогіі і тэктасагі перапраўіліся ў Малую Азію, дзе засялілі даліну р. Галіс, сфарміраваўшы гіст. вобл. Галацыя. У якасці наёмнікаў К. неаднойчы прыцягваліся на службу элінскімі дзяржавамі.

Экспансія К. прывяла да распаўсюджання латэнскай культуры, для якой характэрны цэласнасць самабытнага маст. стылю, тэхналогій металургіі і металаапрацоўкі, вытворчасці ганчарнай керамікі, структур паселішчаў. Адначасова ў сферы пахавальнага абраду і вытворчасці ляпной керамікі назіраюцца істотныя рэгіянальныя адрозненні. Асновай гасп. жыцця носьбітаў латэнскай культуры былі жывёлагадоўля, земляробства і рамёствы. Росквіт латэнскай культ. супольнасці прыйшоўся на 2—1 ст. да н.э. і характарызуецца з'яўленнем протагар. пасяленняў, інтэнсіфікацыяй гандлю і рамеснай вытворчасці, тэхналагічнымі дасягненнямі ў сферы апрацоўкі металаў, масавай чаканкай манеты. Латэн істотна паўплываў на культуры Еўропы 3—1 ст. да н.э. (ясторфскую, *пшэворскую культуру*, оксыўскую, паянешты-лукашоўскую і *зарубінецкую культуру*). Адначасова ў кельтамоўных абласцях Іспаніі, на значнай частцы Брытанскіх астравоў, у Фракіі і Малой Азіі прадметы латэнскай культуры вядомы пераважна ў выглядзе імпартаў. На У ад Карпат перамяшчэнні галатаў зафіксаваны альвійскім Дэкрэтам Пратагена (каля сяр. 3 ст. да н.э.). На Баспоры Апіян згадвае кельцкіх наёмнікаў Мітрыдата VI Еўпатара. У лясной і лесастэпавай зоне, а таксама ў Паўн. Прычарнамор'і вядомы асобныя кельцкія тапонімы, частку якіх прыводзіць у працы Клаўдзій Пталамей (Karrodounon, Erakton), 2 латэнскія комплексы (Залессе, Боўшаў) і больш за 100 знаходак латэнскіх імпартаў, часткова ў комплексах, пашыраных у Беларусі *мілаградскай культуры* (Гарошкаў, Мохава), пшэворскай і зарубінецкай культур.

Аб развіцці грамадства ў стараж. К. можна меркаваць па звестках Пасідонія і яго паслядоўнікаў (Цэзар, Страбон, Дыядор Сіцылійскі), згодна з якімі кельцкае грамадства характарызавалася глыбокай сацыяльнай дыферэнцыяцыяй, вылучэннем праслойкі ваеннай знаці і жра-







*Да арт.* ***Кельты.*** *Кельцкая сярэбраная імітацыя статэра Філіпа II. 3 ст. да н.э.*

цоў-друідаў, наяўнасцю шырокіх слаёў залежнага насельніцтва. У найб. моцных племянных аб'яднаннях Галіі (эдуі, гельветы, арверны і інш.) у 1 ст. да н.э. адзначана ўзнікненне ранніх форм дзяржавы. Звесткі аб рэлігійным жыцці К. супярэчлівыя. Паводле эпіграфікі і пісьмовых крыніц вядомы імёны багоў (Тэўтацес, Беленос, Эзус, Эпона і інш.), але яны не мелі агульнакельцкага распаўсюджання. Сустракаюцца антрапа- і зааморфныя сакральныя выявы, а таксама буйныя культавыя цэнтры (Ракеперцюз, Рыбемон-сюр-Анкр, Лібеніцэ).

З к. 3 ст. да н.э. землі К. сталі аб'ектам экспансіі гета-дакійскіх і германскіх плямён, а таксама Рымскай імперыі. Да 9 ст. н.э. ўсе кельцкія плямёны на кантыненце страцілі незалежнасць і былі асіміляваны. Да пачатку сярэдневякоўя кельцкія мовы працягвалі існаваць толькі ў Ірландыі, на Пн і З Брытаніі (Шатландыя, Уэльс, Корнуэл) і на ПнЗ Францыі (паўвостраў Брэтань), дзе ў далейшым сфарміраваліся сучасныя кельцкія народы.

*Літ.*: Биркхан Г. Кельты: история и культура: пер. с нем. М., 2007; Коллис Дж. Кельты: истоки, история, миф: пер. с англ. М., 2007; Cunliffe B. The Ancient Celts. Harmondsworth, 2000; MacAulay D. Celtic Languages. Cambridge, 1992; Filip J. Keltove ve stredni Evrope. Praha, 1956; Moscati S. Les Celtes. Paris, 2001; Rankin D. Celts and classical world. London; New York, 1996; Sims-Williams P. Ancient Celtic place-names in Europe and Asia Minor. Oxford; Boston, 2006; Tomaschitz K. Die Wanderungen der Kelten in der antiken literarischen Überlieferung. Wien, 2002.

*Г.М.Казакевіч.*

**КЕМЯ́НЫ**, археалагічны помнік — селішча жалезнага веку і ранняга сярэдневякоўя каля в. Кемяны Ашмянскага р-на Гродзенскай вобл. Размешчаны ва ўр. Шальціна, пры вытоку р. Вільня (левы прыток р. Вілія). Выяўлены і даследаваны Э.М.Зайкоўскім у 1991—92 і 1994, раскапана 68 м$^2$. Культ. пласт ад 0,4 да 1,3 м. Выяўлены фр-ты ляпнога посуду і кругавой керамікі. Ляпны посуд падзяляецца на 3 групы: гладкасценны, посуд з «аблітай» і штрыхаванай паверхняй. Знойдзены гліняныя біканічныя праслiцы, кавалкі глінянай абмазкі, жал. брытва, косці жывёл, дзындра (шлак), вуголле. У мацерыку прасочваюцца шматлікія ямкі. Па характары знаходак першапачатковы этап існавання помніка можна датаваць пачаткам н.э., калі яшчэ ўжывалася штрыхаваная кераміка, а асн. перыяд функцыяніравання селішча прыпадаў на сяр. — 2-ю пал. 1-га тыс.

*Э.М.Зайкоўскі.*



*Жалезны шлем* ***кельтаў*** *з бронзавай птушкай з Чыумешчы (Румынія). 4 ст. да н.э.*

**КЕНАТА́Ф** (ад грэч. kenotaphion пустая магіла), магіла без пахавання. К. рабілі многія народы свету (Стараж. Грэцыі, Рыма, Егіпта, Сярэдняй Азіі і інш.) у тым выпадку, калі нябожчыка, напр. памерлага на чужыне, немагчыма было пахаваць. Гэты звычай быў звязаны з разуменнем, што душы памерлых, якія не маюць магіл, не знаходзяць заспакаення. К. сустракаюцца пры раскопках стараж. могільнікаў на тэр. Беларусі.

**КЕРАМІКА** (грэч. keramike ганчарнае мастацтва ад keramoc гліна), вырабы з прыродных глін і іх сумесей з мінеральнымі і арганічнымі дамешкамі, абпаленыя да каменепадобнага стану. Паводле прызначэння К. падзяляецца на посуд (сталовы, кухонны, тарная К. і інш.), буд. вырабы (плітка, цэгла, дахоўка, кафля), рэчы мастацтва або культу (дэкаратыўныя вазы, статуэткі, фігуркі, барэльефы, пахавальныя урны) і інш.; па гатунках гліны — на звычайную (з афарбаванай, ажалезненай гліны) і фарфорава-фаянсавую (з белай гліны—кааліну); па дамешках у глінянае цеста — на тэракотавую (з чыстай чырванаватай гліны), з арганічнай (расліннай) дамешкай, з тоўчанымі ракавінамі, пяском (кварцам), жарствой (тоўчаным каменем), крывавікам (балотнай рудой), шамотам (раздробненымі кавалкамі посуду); на фарфоравую (з дамешкай у каалін кварцу, мармуру, мелу), фаянсавую (з дамешкай гіпсу) і інш. Стараж. кераміка змяшчае ў сабе тэхналагічную, храналагічную (стадыяльную), тэрытарыяльную, культурна-археал. інфармацыю. Паводле складу фармовачнага цеста, рэжыму абпальвання нярэдка можна вызначыць час стварэння керамічнай рэчы. Тыпы, формы і арнаментацыя гліняных вырабаў (найперш посуду) з'яўляюцца асн. вызначальнымі прыкметамі пэўнай археал. культуры, а часам і этнічнай прыналежнасці. Паводле спосабу вытворчасці К. падзяляюць на ляпную (вырабленую рукамі) і ганчарную (зробленую на ганчарным крузе). Па апрацоўцы паверхні керамічны посуд бывае гладкасценны, шурпаты, штрыхаваны, храпкаваты (абляпаны), тэкстыльны (з адбіткамі тканіны), глянцаваны, паліраваны, маёлікаваны (пакрыты глазурай) і інш. Найбольш стараж. керамічныя вырабы на верхнепалеалітычнай стаянцы Дольне-Вестаніцы ў Маравіі (Чэхія). Вытворчасць глінянага посуду пачалася за 8—6 тыс. г. да н.э. ў Пярэдняй Азіі (Месапатамія), на Блізкім Усходзе і ў Інданезіі. У Еўропе найб. стараж. посуд (6—5,8 тыс. г. да н.э.) знойдзены на Балканскім паўвостраве (Македонія, Балгарыя). У 5—4-м тыс. да н.э. вытворчасць К. стала вядома насельніцтву Валыні, а з канца 5-га тыс. да н.э. плямёнам, якія насялялі тэр. Беларусі (гл. *Ганчарства* і адпаведныя артыкулы пра археал. культуры Беларусі).



*Да арт.* ***Кераміка****. Гліняны гаршчок канца 3-га — пач. 2-га тыс. да н.э. са стаянкі-2 Асавец Бешанковіцкага р-на.*



*Да арт.* ***Кераміка****. Фрагмент арнаментаванага глінянага посуду канца 3-га тыс. да н.э.*

Спосаб вырабу посуду на ганчарным крузе, хутчэй за ўсё, узнік у Стараж. Грэцыі ў 6—5 ст. да н.э. У перыяд класічнага элінізму К. абпальвалі ў вял. двухкамерных печах. Абпаленую цэглу і дахоўку ў Грэцыі выкарыстоўвалі пры домабудаўніцтве. Праз 2 стагоддзі ганчарны спосаб вырабу посуду стаў вядомы кельтам (латэнская культура), у 2 ст. да н.э. ў іх працавалі ўжо даволі буйныя ганчарныя майстэрні. Германцам стаў вядомы ў 2—3 ст. н.э. Кругавы посуд усх. славяне пачалі вырабляць у сярэдзіне 10 ст. Ганчарнае рамяство тут зрабілася адметнай рысай гар. цывілізацыі, хаця ганчары працавалі і ў вёсках. Першапачаткова ўсх.-слав. ганчары выкарыстоўвалі ганчарны круг для загладжвання ўжо гатовага начыння ці частковай яго фармоўкі. Неганчарная К. 2-й пал. 10—11 ст. мае ў цесце дамешак жарствы і буйназярністага пяску. Таўшч. чарапка

5—8 мм, дна — 1—1,5 см. Асн. формай ганчарнага посуду былі гаршкі, зробленыя на павольным крузе. Іх тулавы былі той жа формы, што і ў ляпных, прыдонная частка ўсечана-канічная. На плечуках і тулаве часцей сустракаецца лінейны арнамент з глыбока пракрэсленых ліній, без інтэрвалаў паміж імі. На крузе фармаваўся і нізкі посуд накшталт місак і патэльняў. На З і ПнЗ Беларусі, дзе пераважаюць тлустыя гліны, пры вырабе посуду для гатавання ежы майстры вымушаны былі дадаваць у гліну шмат жарствы ці буйнога пяску. Таму стужкава-кальцавы налеп захаваўся тут як асноўны прыём фармавання К. нават пасля з'яўлення нажнога ганчарнага круга. На донцы звонку, як і ў масе, маецца падсыпка жарствы, пераважае начынне з S-падобным профілем. На Магілёўшчыне, дзе залягаюць у асн. абястлушчаныя прыродныя гліны, фармовачную масу для кухоннага начыння рабілі з некалькіх гатункаў глін. У выніку яна рабіла яе больш пластычнай. Форма пасудзін больш складаная. Гэта ж характэрна і для ганчарнага посуду ўсх. Палесся. Са з'яўленнем нажнога ганчарнага круга ў Беларусі, як і ва ўсёй Усх. Еўропе, пачаў выкарыстоўвацца спосаб тачэння, або выцягвання, пасудзіны з аднаго кавалка гліны.

Асваенне вытворчасці каляровых паліваў, эмалей, ангобаў адкрыла магчымасць аздабляць посуд і плітку, што выкарыстоўвалася для ўпрыгажэння падлогі і сцен храмаў.

Асабліва шмат ганчарнай К. ў культурных пластах гарадоў 12—13 ст. З выгляду яна шэрая, для абястлушчвання гліны ў цеста дабаўлялася многа пяску, выкарыстоўвалася для гэтага і дробная жарства. Частка К. добра абпалена ў горне. Паводле прызначэння гліняны посуд гэтага часу падзяляецца на кухонны (пячныя гаршкі розных тыпаў, накрыўкі, патэльні), сталовы (міскі, кубкі), тарны (карчагі, сярод іх і таўстасценныя амфары, якія прывозілі ў 11—13 ст. разам з віном у гарады Беларусі з Прычарнамор'я). Адметная рыса гаршкоў 11 ст. — складанапрафіляваны, адагнуты вонкі патоўшчаны венчык, што мае форму «карнізіка» ці «манжэты»; 12—13 ст. — ускладнены венчык, закруглены край якога загнуты ўнутр і прыстасаваны да прылягання накрыўкі. Шыйкі іх высокія, злёгку прафіляваныя. На плечуках гаршкоў лінейны ці хвалісты арнамент, часам спалучэнне 2 арнаментаў (зрэдку яго наносілі пазногцем). Некаторыя гаршкі маюць на донцах рэльефнае кляймо ў выглядзе канцэнтрычных акружнасцей, колаў са спіцамі, пяціканцовых зорак, свастыкі, трызубца і інш. Аб прызначэнні клеймаў ёсць некалькі меркаванняў, але найб. верагодна, што гэта знак ганчара, а не заказчыка. Такое меркаванне пацвярджаюць матэрыялы раскопак гарадзішча і селішча каля в. Гарадзішча Мінскага р-на. На старажытнейшых гаршках кляймо простае — кола (салярны знак); у больш позніх — 2—3 і больш канцэнтрычных ад 2 да 4 ліній. Гэта сведчанне таго, што ганчарнае рамяство перадавалася па спадчыне, з'яўлялася нашчадным (гл. *Клеймы*). У 12 ст. ў Полацку існаваў цэнтр вытворчасці гліняных пацерак з каляровай палівай.

Пасля прыняцця хрысціянства (988) у гарадах Кіеўскай Русі разгарнулася будаўніцтва цэркваў, што адразу расшырыла асартымент К. З гліны пачалі вырабляць *плінфу* (танкасценную цэглу), архіт. дэталі, у т.л. галаснікі, для аздаблення падлогі і сцен выраблялі пліткі, якія часам пакрываліся паліхромнымі палівамі (гл. *Плітка дэкаратыўная*). Найбольш ранняя (11—13 ст.) плітняковая тэракотавая цэгла — плінфа была добра абпалена, мела чырвоны колер. Яе памеры 25—30 × 15—20 см, таўшч. 3—5 см. Плінфа выкарыстоўвалася для будаўніцтва Полацкага Сафійскага сабора, цэркваў у Віцебску, у 12 ст. паліваныя пліткі і архіт. дэкаратыўныя дэталі выраблялі ў Гародні для аздаблення фасадаў Барысаглебскай (Каложскай) царквы, сцен і падлогі Ніжняй, падлогі Пакроўскай цэркваў; у Полацку — для аздаблення падлогі Вялікага сабора Бельчыцкай рэзідэнцыі і пахавальні полацкіх князёў. У 14 ст. з'явілася, а ў 16—17 ст. шырока распаўсюджвалася брусковая цэгла-пальчатка з адбіткамі і разорамі ад пальцаў. Яна буйнапамерная (прыблізна 30 × 15 × 10 см). Частка цэглы перапальвалася і ператваралася ў цэглу — жалязняк цёмна-шэрага



*Да арт. **Кераміка**. Ляпны посуд 2—1 ст. да н.э.*

колеру. У гэты час ганчары навучыліся загартоўваць посуд у растворы хлебнага квасу, у выніку чаго з'явілася «абвараная», «гартаваная», «рабая» К., дэкор якой меў выгляд плям на светла-ружовым фоне. Пачаўся выраб дробнай пластыкі: абярэгаў у форме жывёл і птушак. У 14 ст. рамеснікі ВКЛ перанялі ў нямецкіх майстроў уменне вырабляць кафлю, абліцоўваць ёю печы. Спачатку печы абліцоўвалі гаршковай кафляй, з 15 ст. — міскавай, з пач. 16 ст. — цыліндрычнай і кратападобнай, пазней — каробчатай, г.зн. з прамавугольнай румпай і вонкавай пласцінай, упрыгожанай нізкарэльефным дэкорам. Паводле тэхналогіі вытворчасці, якасці і маст. выканання кафлі 14—16 ст. адпавядалі еўрап. ўзроўню. Выраблялі тэракотавыя, паліваныя, паліваныя паліхромныя. Буд. К. (цэглу, плітку для падлогі, плоскую дахоўку) рабілі ў драўляных формах (скрынях) з дном ці без яго (падсыпаннем пяску), трымалі на адкрытым паветры і абпальвалі ў спец. горнах. Гаршковую кафлю ў 14—16 ст. фармавалі і як посуд. Каробчатую кафлю выраблялі ў 2 этапы: пласціну рабілі ў спец. драўлянай ці гліхнянай форме (часам на тканіне), а рампу выцягвалі на ганчарным крузе, потым абедзве часткі злучалі.

Аб'яднанне рамеснікаў у цэхі ў сяр. 16 ст. спрыяла павышэнню якасці К. Асабліва гэтаму садзейнічала асваенне нажнога ганчарнага круга. У 17 ст. таксама пашырылася тэхніка абточвання (начынне поўнасцю фармавалі спіральна-кальцавым ці спіральна-стужкавым спосабам і пасля гэтага загладжвалі на нажным крузе) і надточванне (донца і частку сценак фармавалі са стужак ці кольцаў, а потым абточвалі, на крузе выцягваўся толькі венчык). Посуд пачалі вырабляць больш тонкі і сіметрычны. Пашырыўся яго асартымент: кухонны — гаршкі, патэльні, макотры, ранкі, латкі; сталовы — міскі, талеркі, сподачкі, кубкі, сальніцы; тарны — збаны, глякі, крынкі, біклагі, спарышы. Выраблялі таксама курыльныя люлькі, скарбонкі, дробную пластыку, цацкі-свістулькі і інш. рэчы. Прадукцыя ганчароў паступала на рынкі, набывала таварны характар. Белагліняны



***Кераміка** 12—13 ст. Амфаркі з Копысі (на першым плане) і збан з Лукомля.*

посуд з зялёнай палівай (зрэдку) прывозілі з Кіева яшчэ ў 12 ст. Значна больш белаглінянага посуду гэтага «каменнага тавару» трапляла ў гарады Беларусі ў 16 ст. з Рэйнскай вобл. Росквіт керамічнай вытворчасці ў Беларусі назіраецца ў к. 16 —1-й пал. 17 ст. З канца 15 — пач. 16 ст. посуд і кафлю сталі пакрываць пераважна зялёнай палівай, з сярэдзіны 16 ст. — вырабляць маёлікавы посуд і кафлю, аздобленыя паверх нізкарэльефнага малюнка жоўтай, белай ці зялёнай эмаллю не ражком, як гэта рабілі ў 12—15 ст., а пэндзлем непасрэдна па непрасушаным чарапку. Для дэкарыравання посуду выкарыстоўвалі дымленне, глянцаванне, падглазурны роспіс ангобам і надглазурны эмалямі. Да гэтага часу асвоены выраб кафлі самага разнастайнага прызначэння: сцянной, каронкавай, вуглавой, медальённай, перамычкавай. Кафляныя печы выконвалі функцыю малых архіт. форм у інтэр'ерах замкаў, культавых будынкаў, убранні жылля мяшчан у гарадах і фальваркавай шляхты. Культавае і жыллёвае каменнае будаўніцтва выклікала павелічэнне вытворчасці цэглы, пліткі для падлогі і керамічнай дахоўкі (чарапіцы). Росквіт вытворчасці паліхромнай кафлі на тэр. Беларусі ў 16—17 ст. дазволіў экспартаваць яе ў Маскоўскую дзяржаву. Туды ж вывозілі і палонных бел. майстроў керамічнай справы. Ценіннікі Сцяпан Палубес (Іваноў) з Мсціслава, П.Заборскі, І.Максімаў, С.Грыгор'еў, старац Іпаліт з Оршы і інш. ўпрыгожвалі кафлямі маскоўскія і падмаскоўныя храмы, харомы, церамы і манастыры, наладзілі вытворчасць кафлі пры Іверскім манастыры на Валдаі. Бел. ганчары ўнеслі ўклад у вытворчасць архітэктурна-дэкаратыўнай К. ў Расіі. У 17 ст. на Беларусі з'явіліся маёлікавы посуд і падсвечнікі, аздобленыя кобальтавым роспісам.

*Літ.*: Бобринский А.А. Гончарство Восточной Европы: источники и методы изучения. М., 1978; Акунова Л.Ф., Крапивин В.А. Технология производства и декорирования художественных керамических изделий. М., 1984; Ганецкая І., Здановіч Н., Трусаў А. Вытокі беларускага фаянсу // Мастацтва Беларусі. 1988. № 6; Трусов О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVIII вв.: архит.-археол. анализ. Минск, 1988; Левко О.Н. Средневековое гончарство северо-восточной Беларуси. Минск, 1992; Археалогія Беларусі. Т. 1—4. Мінск, 1998—2001.

*Н.І.Здановіч, У.Ф.Ісаенка, В.Е.Собаль, Г.В.Штыхаў.*

**КІ́ЕЎСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура канца 2—3 — сяр. 5 ст., помнікі якой размешчаны на вял. тэр. лесастэпавай зоны Усх. Еўропы ад Сярэд. Падняпроў'я на З да р. Аскол на У, шырока распаўсюджаны ў лясным Падняпроў'і і Падзясенні. К.к. вылучана ўкр. археолагам В.М.Даніленкам у 1953. Помнікі К.к. утвараюць 4 лакальныя варыянты: сярэдненяпроўскі (частка басейна Дняпра паміж вусцямі рэк Цецараў і Рось, уключаючы рэкі Ірпень, Стугна, Красная, Трубеж); дзяснінскі (басейн Дзясны ад нізоўяў да р. Вецьма); сеймінска-данецкі ў лесастэпавай зоне на водападзеле рек Дняпро і Дон (паводле А.М.Абломскага); верхнедняпроўскі ў лясной зоне (участак басейна Дняпра ад вусця р. Сож да Оршы, уключаючы большую частку басейна Сажа і нізоўя Бярэзіны, басейн рэк Зах. Дзвіна і Вялікая). Асобныя помнікі К.к. вядомы на З у Падляшшы (усх. Польшча) і Самарскім Паволжы на У. Матэрыяльная культура ў межах кожнага варыянта адрозніваецца шэрагам асаблівасцей у домабудаўніцтве, пахавальным абрадзе, керамічным і рэчавым комплексах.

Помнікі К.к. прадстаўлены неўмацаванымі паселішчамі — селішчамі, якія размешчаны ў ніжніх частках рачных далін па краях 1-й надпоймавай тэрасы. Пл. 0,5—2 га, зрэдку 6—8 га (*Адаменка*, *Тайманава*). Культ. пласт невялікі. У асобных выпадках матэрыялы К.к. выяўлены на гарадзішчах (*Казінова*). Выяўлена 2 тыпы жытлаў: паўзямлянкі і наземныя з адкрытымі агнішчамі. Паўзямлянкі прамавугольныя ў плане (пл. 8—24 $м^2$) з цэнтр. апорным слупам, паглыблены ў зямлю на 0,4—1,2 м. Канструкцыя сцен слупавая ці зрубавая. У гасп. комплекс уваходзілі асобна збудаваныя агнішчы з масіўным подам, замошчаным чарапкамі ці камянямі, і гасп. ямы для захоўвання прадуктаў. Для К.к. характэрны грунтавыя могільнікі, размешчаныя ў непасрэднай блізкасці ад паселішчаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне на старане. Перапаленыя косткі змяшчаліся ў круглыя ці авальныя ямы глыб. 0,2—0,6 м. Вядомы таксама урнавыя пахаванні (замест урнаў выкарыстоўвалі ляпныя гаршкі, некаторыя з іх накрывалі перавернутай уверх дном пасудзінай). Пахавальны інвентар: бытавыя рэчы, прадметы ўбрання, рэшткі трызны. Часам на могільніках сустракаюцца пляцоўкі для спалення памерлых — у выглядзе скапленняў вугалю з кальцыніраванымі косткамі (Новыя Безрадзічы, Рабаўка-1 на Украіне).

Насельніцтва К.к. займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, рыбалоўствам. Добра былі развіты ганчарства, чорная і каляровая металургія, ткацтва.

Кераміка К.к. (гаршкі, міскі, пасудзіны маленькіх памераў, дыскі-накрыўкі, масіўныя гаршкі выш. да 50 см) ляпная, зрэдку арнаментаваная насечкамі і пальцавымі ўціскannнямі па краях ці расчосамі грэбеня па тулаве. Сустракаецца глянцаваны посуд. Характэрна спалучэнне рабрыстых біканічных форм. З жалеза і сталі выраблялі нажы з прамой ці злёгку пукатай спінкай, шылы, свердзелы, кавальскія інструменты, нажніцы, сярпы і інш., з косці — іголкі, тупікі, спіцы, качадыкі, з гліны — тыглі, льячкі, грузілы, прасліцы (плоскабіканічныя з вял. адтулінай), з каменю — тачыльныя брускі, зерняцёркі, жорны. Выяўлены жал. наканечнікі стрэл, рыштунак конніка, шпоры, дэталі конскай збруі.

У залежнасці ад метадычных падыходаў даследчыкаў, у літаратуры сустракаюцца розныя варыянты датавання і перыядызацыі К.к. Ніжняя храналагічная мяжа К.к. вызначаецца фінальнай фазай познязарубінецкіх старажытнасцей к. 2 ст., верхняя — помнікамі пянькоўскай, кало-

чынскай і банцараўскай культур, якія змяняюць кіеўскія на працягу 5 ст. Вылучаюцца 3 перыяды існавання К.к. Для р а н н я г а п е р ы я д у (к. 2—3 ст.) характэрна наяўнасць позназарубінецкіх рыс у формах і дэкоры ляпнога посуду, ранніх тыпаў лунніц з выемчатымі эмалямі, выкарыстоўванне шпор і спражак сярэднееўрап. тыпаў, правінцыйна-рымскі імпарт (шкляныя і пастовыя пацеркі, фібулы-брошкі, кругавы посуд). Для с я р э д н я г а п е р ы я д у (2-я пал. 3 — 4 ст.) характэрна распаўсюджанне ў арэале К.к. чарняхоўскага імпарту (амфары, касцяныя грабяні, воінскія фібулы), вырабаў з эмаллю позніх тыпаў. Позні перыяд характарызуецца фінальнымі кантактамі з чарняхоўскай культурай, з'яўленнем у матэрыяльнай культуры рыс (керамічны




*Керамічны посуд* ***кіеўскай культуры.*** *I перыяд — к. 2 — 3 ст.; II перыяд — 2 пал. 3 — 1-я пал. 4 ст.; III перыяд — 4 — 1-я пал. 5 ст. (паводле Я.У.Максімава і Р.У.Церпілоўскага).*

набор, пахавальны абрад, домабудаўніцтва і інш.), характэрных для раннесярэдневяковых старажытнасцей.

Генезіс помнікаў К.к. для кожнага рэгіёна вывучаны ў рознай ступені. Большасць даследчыкаў мяркуе, што фарміраванне К.к. адбывалася ў працэсе сінтэзу позназарубінецкіх старажытнасцей. У Сярэд. Падняпроўі К.к. фарміруецца на аснове традыцый помнікаў тыпу Люцеж з верхнедняпроўска-пасожскімі тыпу Грыні; на У Дняпроўскага Левабярэжжа — на аснове сінтэзу помнікаў тыпаў Картамышава-2 і Цярноўкі-2; у Падзясенні К.к. складваецца ў выніку міграцыі носьбітаў традыцый тыпу Картамышава-2 з паўд.-ўсх. і верхнедняпроўскіх тыпу Грыні з Пн; верхнедняпроўскі варыянт фарміруецца на аснове традыцыі 2 позназарубінецкіх груповак, што ўзыходзяць да помнікаў тыпу Чаплін і тыпу Грыні.




*Перыядызацыя і храналогія **кіеўскай культуры** (паводле Я.У.Максімава і Р.У.Церпілоўскага).*

На працягу 5 ст. на аснове К.к. складваюцца раннесярэдневяковыя слав. помнікі калочынскай і пянькоўскай культур. Носьбіты К.к. прымалі ўдзел у фарміраванні пражскай (разам з чарняхоўскай верхнеднястроўскага кола) і банцараўскай культур.

*Літ.*: Даниленко В.М. Пізньозарубинецькі пам'ятки київського типу // Археологія. 1976. № 19; Поболь Л.Д. Археологические памятники Белоруссии. Железный век. Минск, 1983; Этнокультурная карта территории Украинской ССР в I тыс.н.э. Киев, 1985; Обломский А.М., Терпиловский Р.В., Петраускас О.В. Распад зарубинецкой культуры и его социально-экономические и идеологические причины. Киев, 1990; Терпиловский Р.В., Абашина Н.С. Памятники киевской культуры (свод археологических источников). Киев, 1992; Славяне и их соседи в конце 1 тысячелетия до н.э. — первой половине 1 тысячелетия н.э. // М., 1993; Обломский А.М. Днепровское лесостепное левобережье в позднеримское и гуннское время (середина 3 — первая половина 5 вв. н.э.). М., 2002; Терпиловский Р.В. Славяне Поднепровья в первой половине 1 тысячелетия н.э. Lublin, 2004; Восточная Европа в середине 1 тысячелетия н.э. // Раннеславянский мир. М., 2007. Вып. 9; Памятники киевской культуры в лесостепной зоне России (3—начало 5 в. н.э.) // Там жа. М., 2007. Вып. 10.

*В.С.Вяргей, Ю.У.Каласоўскі.*

**КІЕЎСКАЯ РУСЬ**, дзяржава ўсходніх славян, адна з найбуйнейшых у Еўропе. Утварылася ў к. 9 ст., калі наўгародскі кн. Алег аб'яднаў пад сваёй уладай 2 раннедзярж. ўтварэнні на тэр. Усх. Еўропы — паўн. з цэнтрам у Ноўгарадзе і паўд. з цэнтрам у Кіеве. Сталіцай новай дзяржавы кн. Алег зрабіў Кіеў, якому ён падпарадкаваў племянныя саюзы драўлян, севяран і радзімічаў, што раней не ўваходзілі ў раннедзярж. ўтварэнні. Збіранне ўсх.-слав. і суседніх з імі плямён у адзіную дзяржаву адбывалася на фоне барацьбы з экспансіяй Хазарскага каганата, нападаў вуграў (венграў), печанегаў, а таксама з праяўленнем сепаратысцкіх тэндэнцый асобных усх.-слав. племянных саюзаў: драўлян, ільменскіх (наўгародскіх) славян, радзімічаў. Да 3-й чв. 10 ст. амаль уся тэр. Беларусі ўваходзіла ў склад Кіеўскай Русі. Набыццё самастойнасці Полацкім княствам пры Рагвалодзе (2-я пал. 10 ст.) было непрацяглым, і неўзабаве яно зноў увайшло ў склад К.Р. У складзе адзінай дзяржавы ўсх. славяне і неслав. плямёны,



Аўтары: В.Г. Белявец, Ю.У. Каласоўскі




Аўтар В.М. Цемушаў

якія былі ўключаны ў К.Р., прынялі хрысціянства ва ўсх. форме ў якасці афіцыйнай рэлігіі. Адбываўся прагрэс іх эканомікі, распаўсюджваліся новыя рысы культуры: пісьменнасць, кніжнасць і адукацыя, развіццё манументальнага дойлідства (узвядзенне храмаў, свецкіх і абарончых пабудоў), развіццё ювелірнага мастацтва. Нават пасля пераходу ад адзінай дзяржавы з пэўнымі элементамі цэнтралізацыі да ўдзельнай сістэмы (перыяд феад. раздробленасці), што было замацавана ў 1097 княжацкім з'ездам у г. Любеч, у фактычна самастойных землях і княствах заставалася дзейсным б. агульнае свецкае і духоўнае заканадаўства, захоўвалася адзінства царквы на чале з кіеўскім мітрапалітам, які падпарадкоўваўся канстанцінопальскаму патрыярху.

У к. 10—11 ст. на тэр. Беларусі на базе Полацкага княства сфарміравалася самастойная Полацкая зямля з уласнай княжацкай дынастыяй, прадстаўнікі якой мелі выключнае права на вышэйшую ўладу ў Полацку.

Уласную княжацкую дынастыю ў 11 ст. мела і Тураўская зямля, аднак асабістасцю тураўскіх князёў было іх легітымнае права на кіеўскі велікакняжацкі стол, займаючы які яны разглядалі Тураўскую зямлю як уласны дамен і распараджаліся яе тэр. па асабістым жаданні. Тэр. Сярэдняга Пабужжа ўваходзіла ў склад Тураўскай зямлі, аднак у пэўныя перыяды часова пераходзіла ў склад Уладзіміра-Валынскага княства.

У Бел. Панямонні Гродзенскае княства 12 ст. распалася на шэраг дробных удзелаў. Суседства з тэр., якую насялялі літ. плямёны, вымушала ўладальнікаў панямонскіх удзелаў засноўваць на межах і ў асабліва значных пунктах невял. ўмацаваныя паселішчы, частка якіх адначасова з'яўлялася апорнымі пунктамі слав. каланізацыі. Да 13 ст. дамінуючае становішча ў Панямонні займаў г. Навагрудак.

Знаходжанне зямель Беларусі ў складзе К.Р. было перыядам паспяховага развіцця іх эканомікі і культуры. Назіраўся хуткі рост і ўзмацненне гарадоў. З'явіліся першыя ўмацаваныя феад. сядзібы-замкі. Пачалося будаўніцтва мураваных храмаў, што прывяло да стварэння на тэр. Беларусі ўласных архіт. школ: Полацкай і Гродзенскай. Назіраўся росквіт рамёстваў рознымі майстрамі, выконвалася шмат высакаякасных і высокамаст. вырабаў. Сярод іх шырока вядомы крыж, зроблены па замове Ефрасініі Полацкай майстрам-ювелірам Лазарам Богшам (1161), упрыгажэнні з *Вішчынскага скарбу* і інш.

Вывучэннем К.Р. на аснове гіст. і археал. крыніц займаліся Б.Дз.Грэкаў, П.П.Талочка, Б.А. Рыбакоў, А.П.П'янкоў; этнічны склад насельніцтва Беларусі часоў К.Р. альбо асобныя ўсх.-слав. этнасы на яе землях даследавалі Б.А.Рыбакоў, У.У.Багамольнікаў, Т.М.Каробушкіна, П.Ф. Лысенка, Г.Ф.Салаўёва, В.В.Сядоў, Г.В.Штыхаў. Гарады, замкі, сядзібы, вёскі, некаторыя рэгіёны, землі і ўдзельныя княствы вывучалі Л.В.Аляксееў, А.К.Ваганава, Л.У.Дучыц, Э.М.Загарульскі, Ю.А.Заяц, Я.Г.Звяруга, А.В.Іоў, М.В.Клімаў, В.І. Кошман, П.Ф.Лысенка, В.М.Ляўко, А.А.Макушнікаў, І.А.Марзалюк, А.А.Мяцельскі, В.С.Пазднякоў, Я.Р.Рыер, Г.В.Штыхаў.

*Літ.*: Н а с о н о в А.Н. «Русская земля» и образование территории древнерусского государства: историко-геогр. исслед. М., 1951; Т р е т ь я к о в П.Н. Восточнославянские племена. М., 1953; Р ы б а к о в Б.А. Начало русского государства // Вестн. МГУ. 1955. № 4—5; Я г о ж. Киевская Русь и русские княжества XII—XIII вв. М., 1982; Т и х о м и р о в М.Н. Древнерусские города. М., 1956; С о л о в ь е в а Г.Ф. Славянские союзы племен по археологическим материалам VIII—XIV вв. // СА. 1956. № 25; Л я п у ш к и н И.И. Славяне Восточной Европы накануне образования древнерусского государства. М., 1968; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2. Минск, 1972; Г у р е в и ч Ф.Д. Два этапа в истории древнерусских городов Понеманья // КСИА. 1976. Вып. 146; Ш т ы х о в Г.В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). Минск, 1978; Я г о ж. Крывічы. Мінск, 1992; Т о л о ч к о П.П. Киев и Киевская земля в эпоху феодальной раздробленности XII—XIII вв. Киев, 1980; Т о л о ч к о П.П. Древняя Русь. Киев, 1987; П ь я н к о в А.П. Происхождение общественного и государственного строя Древней Руси. Минск, 1980; С е д о в В.В. Восточные славяне в VI—XIII вв. М., 1982; Л ы с е н к о П.Ф. Туровская земля IX—XIII вв. Минск, 1988; Археалогія Беларусі. Т. 3. Сярэдневяковы перыяд (IX— XIII стст.). Мінск, 2000; З а я ц Ю.А. Правовой аспект взаимоотношений князей Полоцкого и Киевского домов // Беларусь—Украіна: гістарычны вопыт узаемаадносін. Мінск, 2003; Г р е к о в Б.Д. Киевская Русь. М., 2004; Л е в к о О.Н. Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси: формирование и развитие. Минск, 2004.

*Ю.А.Заяц.*

**КІ́МІЯ**, археалагічны помнік — гарадзішча штрыхаванай керамікі культуры каля в. Кімія Барысаўскага р-на Мінскай вобл. За 0,15 км на Пн ад вёскі, на мысе, абмежаваным нізкай поймай невял. рэчкі і глыбокім ярам. Пляцоўка авальная, памеры 64 × 42 м. Умацавана з У валам выш. 0,5—0,6 м і ровам глыб. 0,3—0,5 м. Адкрыў у 1931 А.М.Ляўданскі, даследаваў 55 $м^2$ у 1950 А.Р.Мітрафанаў. Культ. пласт трохслаёвы, таўшч. ў цэнтры пляцоўкі да 0,5 м, каля ўсх. краю да 0,9 м. У ніжнім і сярэднім пластах знойдзены жал. сярпы, нож, кіепадобныя шпількі, бронзавы бранзалет, касцяныя шпілька і вастрыё, дзяржанне шыла, гліняныя прасліцы, грузікі дзякоўскага тыпу, камяні зерняцёрак, шмат касцей свойскіх і дзікіх жывёл. Ляпная штрыхаваная кераміка прадстаўлена пасудзінамі, аналагічнымі па форме кераміцы мілаградскай культуры. Выяўлены рэшткі горнаў для выплаўкі жалеза, шлакі, шмат перапаленых камянёў, зерняцёркі і іх фр-ты, рэшткі наземнага жытла, каменная пляцоўка, агнішча з пляскатых камянёў, кавалкі глінянай абмазкі сцен жытла. У верхнім пласце выяўлены абломкі вастрарэберных пасудзін. Датуецца помнік 6 ст. да н.э. — 4 ст. н.э.

*Літ.*: М и т р о ф а н о в А.Г. Железный век Средней Белоруссии (VII—VI вв. до н.э. — VIII в. н.э.). Минск, 1978.

*А.А.Егарэйчанка.*

**КІНЖА́Л**, кароткая адна ці двухлязовая колючая клінковая зброя. Ва Усх. Еўропе з'явіўся ў 13 ст. Старaж.-рус. К. мелі кароткі двухлязовы калючы клінок падоўжана-трохвугольнай формы і пласціністую крыжавіну.

На тэр. Беларусі распаўсюджанне К. фіксуецца з 14 ст. К. у выглядзе вял. нажа з крыжавінай, размешчанай перпендыкулярна плоскасці ляза, выяўлены ў пахаванні 14 ст. каля в. Вензаўшчына Шчучынскага р-на. 14—15 ст. датуюцца груба выкананыя К. з Ліды і Копысі, якія маюць форму, блізкую да мячовай. З 16 ст. К. распаўсюджваецца пад назвай пуйнал ці пугінал як фехтавальная, дуэльная і парадная зброя.

*Літ.*: Кирпичников А.Н. Древнерусское оружие. Мечи и сабли IX—XIII вв. // САИ. 1966. Вып. Е1—36; Бохан Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV — канцы XVI ст. Мінск, 2008; Плавінскі М.А. Нарысы гісторыі клінковай зброі X— XIII стагоддзяў на Беларусі. Мінск, 2009. *Ю.М.Бохан, М.А.Плавінскі.*

**КІРКО́Р** Адам Ганоры Карлавіч [псеўд. Ян са Слівіна, Ян Валігурскі, Саборы і інш.; 21.1.1818, в. Слівіна Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ. (цяпер Манастыршчынскі р-н Смаленскай вобл., Расія) — 23.11.1886], археолаг, этнограф, гісторык, выдавец, літаратуразнавец, грамадскі дзеяч ліберальнага кірунку. Чл.-кар. Імператарскага археал. т-ва (1856), чл. Рус. геаграфічнага т-ва (1857), Акадэміі ведаў у Кракаве (1873), Віленскага губернскага статыстычнага к-та (1849), Віленскай археал. камісіі (1855), захавальнік Віленскага музея старажытнасцей, якому ахвяраваў уласную археал.-этнагр. калекцыю, сабраную ў час экспедыцый па Мінскай і Віленскай губ. Вучыўся ў Магілёўскай (да 1834) і Віленскай (да 1838) гімназіях. Археал. дзейнасць пачаў у 1-й пал. 1850-х г. З экспедыцыямі пабываў у Ашмянскім, Барысаўскім, Вілейскім, Віленскім, Лідскім, Мінскім, Навагрудскім, Свянцянскім, Трокскім і інш. паветах. Даследаваў каля 1000 курганоў уласным метадам «накрыж» (раскопкі з верху кургана да нізу ў форме крыжа). Выявіў муры старaж. замка на паўвостраве воз. Мястра, гарадзішча каля в. Рэчкі Вілейскага р-на і інш. Вёў археал. даследаванні на тэр. Зах. Украіны, Польшчы. У 1840—60-я г. ў Вільні выдаваў літаратурна-навук. альманахі, час. «Teka Wileńska» («Віленскі зборнік»), дзе змяшчаў свае працы па гісторыі і этнаграфіі Беларусі і Літвы. Рэдактар газ. «Kurier Wilenski» («Віленскі веснік», 1860—65). З 1859 уладальнік друкарні ў Вільні. У 1868— адзін з выдаўцоў газ. «Новое время» ў Пецярбургу. З 1872 у Кракаве. У працах «Рэшткі язычніцкіх звычаяў на Беларусі» (1839), «Аб этнаграфічнай мяжы літоўскай і славянскай народнасцей у Літве» (1857), «Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню» (1857—59), «Этнаграфічныя нарысы Сувалкскай губерні» (1873), у публікацыях «Літоўскае Палессе» і «Беларускае Палессе» («Жывапісная Расія», т. 3, ч. 1—2, 1882) даў этнічную і сацыяльна-бытавую характарыстыку тыпаў беларуса, падкрэсліў самастойнасць бел. мовы, яе багатыя пісьмовыя традыцыі. Падрабязна разгледзеў бел. вусна-паэтычную творчасць, апісаў абрады, звычаі, гульні, танцы, святы і інш. У кн. «Пра літаратуру братніх славянскіх народаў» (1874) найб. выразна праявіў падыход да бел. культуры як да шматвяковай гіст. з'явы ў адзінстве пісьмовых і вусна-паэтычных, фальклорных відаў творчасці.

*Літ.*: Алексеев Л.В. Очерк истории белорусской дореволюционной археологии и исторического краеведения до 60-х годов XIX в. // СА. 1967. № 4; Кахноўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мінск, 1984.

**КІРПІ́ЧНІКАЎ** Анатоль Мікалаевіч (н. 25.6.1929, г. Санкт-Пецярбург), расійскі археолаг, гісторык. Д-р гіст. навук (1975), праф. (1991). Заслужаны дзеяч навукі Расійскай Федэрацыі (1991). Скончыў Ленінградскі ун-т (1953). З 1953 навук. супрацоўнік Артылерыйскага гіст. музея ў Ленінградзе. З 1955 у Ленінградскім аддзяленні Ін-та археалогіі АН СССР (цяпер ІГ матэрыяльнай культуры РАН), з 1974 заг. сектара (цяпер аддзела) славяна-фінскай археалогіі. Спецыяліст у галіне вывучэння старaж.-рус. зброі, сярэдневяковай ваеннай справы і абарончага дойлідства Усх. Еўропы. Даследуе археал. помнікі ПнЗ Расіі, славяна-скандынаўскія і славяна-фінскія эканамічныя, палітычныя і культ. кантакты. З 1949 прымаў удзел у археал. раскопках паўн.-зах. рус. гарадоў, з 1968 узначальваў археал. экспедыцыі. З 1972 праводзіць археал. даследаванні ў Старой Ладазе. У 1950—60-я г. ў складзе архіт.-археал. экспедыцыі М.К.Каргера удзельнічаў у раскопках помнікаў архітэктуры 12 ст. ў Полацку і Навагрудку. Прымае актыўны ўдзел у папулярызацыі навук. ведаў і прац па ахове археал. спадчыны.

*Тв.*: Древнерусское оружие. Вып. 1. Мечи и сабли IX—XIII вв. М.; Ленинград, 1966; То же. Вып. 2. Копья, сулицы, боевые топоры, булавы, кистени IX—XIII вв. М.; Ленинград, 1966; То же. Вып. 3. Доспех, комплекс боевых средств IX—XIII вв. Ленинград, 1971; Снаряжение всадника и верхового коня на Руси IX—XIII вв. Ленинград, 1973; Военное дело на Руси XIII—XV вв. Ленинград, 1976; Каменные крепости Новгородской земли. Ленинград, 1984; Вооружение (разам з А.Ф.Мядзведзевым) // Древняя Русь. Город, замок, село. М., 1985; Старая Ладога — древняя столица Руси. Санкт-Петербург, 1996 (разам з Б.Д.Сараб'янавым). *М.А.Плавінскі.*

**КІСЦЕ́НЬ**, від абуховай зброі. Складаецца з металічнай ці касцяной гіркі і рукаяці ў выглядзе кароткага драўлянага дрэўка. Гірка змацоўвалася з рукаяццю пры дапамозе скуранога рэменя ці ланцуга (апошняе здаралася вельмі рэдка). Верагодна, часам дрэўка магло адсутнічаць, у такім выпадку скураны рэмень заціскаўся ў кісці (адсюль назва). У старaж.-рус. комплекс узбраення К. пранікаюць са стэпаў Паўд.-Усх. Еўропы ў 10 ст. У Беларусі пачатак іх выкарыстання фіксуецца 2-й пал. 10 — к. 11 ст., а распаўсюджанне прыпадае на 12—14 ст. Усяго ў Беларусі знойдзена 15 К. гэтага часу яйка-, шара- і грушападобнай, сплюшчана грушападобнай і біканічнай




*__Кісцяні__ старажытнарускага часу і іх фрагменты : 1 — Мінск; 2, 4 — Гродна; 3, 6 — Полацк; 5 — Слуцк; 7 — гарадзішча Вішчын.*

формы, зробленых з рога (Брэст, Ваўкавыск, Гродна, Друцк, Мінск, Полацк, гарадзішча Вішчын), бронзы (Друцк, Слуцк, гарадзішча Вішчын), жалеза (Гродна) і свінцу (Полацк). Рагавыя К. яйкападобнай формы мелі скразны прадольны канал, праз які прапускаўся жал. ці бронзавы стрыжань з адтулінай, для прывязвання рэменя (Гродна, Навагрудак). Паверхня іх упрыгожвалася арнаментам (Полацк, Гродна); на брэсцкай гірцы нанесена выява, якая нагадвае літару «Д», а на К. з Мінска выразаны 2 знакі Рурыкавічаў. У 15— 16 ст. К. ўжываліся радзей. Жал. К. у выглядзе дзесяцігранніка з прамавугольным вушкам для мацавання рэменя і 9 шыпамі выяўлены ў пластах 1-й пал. 16 ст. на селішчы Лучна-1.

*Літ.*: К и р п и ч н и к о в А.Н. Древнерусское оружие. Вып. 2. Копья, сулицы, боевые топоры, булавы и кистени IX—XIII вв. М.; Ленинград, 1966; Б е к т и н е е в Ш.И. Булавы и кистени XI—XIV вв. на территории Беларуси // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі: новыя матэрыялы і дослед. Мінск, 1993; Б о х а н Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV — канцы XVI ст. Мінск, 2008.

*Ю.М.Бохан, М.А.Плавінскі.*

**КІСЦЯНІ**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і селішча каля в. Кісцяні Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а *мілаградскай культуры* і *зарубінецкай культуры*. На правым беразе р. Дняпро, амаль у цэнтры вёскі. Займае мыс, утвораны 2 глыбокімі ярамі, з боку поля прасочваюцца рэшткі разаранага вала і амаль заплыўшага рова. Пляцоўка амаль прамавугольная, памеры 40 × 60 м. Вядома з 1873, абследавалі ў 1892 С.Ю.Чалоўскі і М.В.Фурсаў, у 1930 А.М.Ляўданскі, у 1950-я г. Ю.У.Кухарэнка і В.М.Мельнікоўская, у 1967 Л.Д. Побаль. Даследаваў у 1975— 76 Э.М.Загарульскі, раскапана 380 $м^2$. Культ. пласт ад 0,3 м у цэнтры пляцоўкі да 1,7 м каля краю.

Пры падчыстцы мацерыка прасочаны рэшткі наземнай пабудовы слупавой канструкцыі, заглыбленай у зямлю на 0,2 м. Знойдзены фр-ты мілаградскіх ляпных пасудзін яйцападобнай формы з высокім прамым адагнутым вонкі венчыкам. Частка фр-таў арнаментавана ямкавымі ўцісканнямі па шыйцы. Для зарубінецкай керамікі характэрны высокі венчык, злёгку адагнуты вонкі, і круглаватае тулава, якое пераходзіць у плоскае дно. Некаторыя пасудзіны ўпрыгожаны пальцавымі ўцісканнямі па краі венчыка. Частка посуду мае штрыхоўку. Сярод знаходак жал. сярпы, шпілька, жал. і бронзавыя кольцы, абломак бронзавага позналужыцкага бранзалета, арнаментаванага 3 спіралямі і кальцавымі насечкамі па ўсім полі, бронзавыя бранзалеты з патоўшчанымі канцамі, касцяныя праколкі, гліняныя грузікі, шкляныя і гліняныя пацеркі і інш. Гарадзішча функцыянiравала ў 2-й пал. 1-га тыс. да н.э. — пач. 1 ст. н.э. Магчыма, у 6—7 ст. яно выкарыстоўвалася як сховішча.

С е л і ш ч а мілаградскай і зарубінецкай культур. За ярамі, на ПдУ і ПнЗ ад гарадзішча. Пл. каля 1 га. Даследавалі ў 1950-я г. Ю.У.Кухарэнка, Л.Д.Побаль. Культ. пласт прасочаны на ўсёй тэр. помніка. Знойдзены фр-ты ляпной керамікі.

*Літ.*: П о б о л ь Л.Д. Городище Кистени // МИА. 1970. № 176; Я г о ж. Славянские древности Белоруссии: (свод археол. памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н.э. по начало II в. н.э.). Минск, 1974.

*А.А.Егарэйчанка.*

**КІСЯЛІ**, археалагічны помнік — гарадзішча каля в. Кісялі Талачынскага р-на Віцебскай вобл. (у літаратуры пазначана як Кісялі—Дымакуры). За 0,8 км на З ад вёскі, на беразе р. Крывая (прыток р. Друць). Гарадзішча мысавага тыпу, выш. над узроўнем ракі 15 м. Ад суседняга ўзгорка аддзеле-



*Археалагічныя знаходкі з гарадзішча __Кісялі__.*

на глыбокім ярам, з боку поля ўмацавана 3 валамі: па краі пляцоўкі падковападобным валам выш. ад 1—1,5 м (у паўн. і паўд. частках) да 8,2 м (у цэнтр.) і 2 дугападобнымі валамі выш. 1,2—1,5 м. Пляцоўка прамавугольная, памеры 42 × 32 м. Зах. ўчастак пашкоджаны глыбокім ярам, які амаль дасягае яе цэнтра. Абследавалі ў 1950 Л.А.Міхайлоўскі, у 1981 В.М.Ляўко, раскопкі праводзілі ў 1956 Л.В.Аляксееў, у 1988—89 В.М.Ляўко. Ускрыта 168 $м^2$, магутнасць культ. пласта ад 0,4 м (у цэнтры) да 2 м (па краі пляцоўкі). Першы перыяд засялення гарадзішча адносіцца да днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур. Размяшчэнне слупавых ям і развалаў ачагоў сведчыць пра існаванне шматкамерных жылых канструкцый. У гэты перыяд вал адсутнічаў. 2 рады ям глыб. да 1 м і дыям. больш за 0,6 м па краі пляцоўкі сведчаць пра існаванне драўлянай агароджы. Кераміка — слоікападобныя слабапрафіляваныя пасудзіны рабрыстай формы, мілаградскага тыпу — штрыхаваная і гладкасценная. Другому перыяду засялення (6—7 ст.) адпавядае кальцавы вал з рэшткамі драўлянай агароджы па версе. Выяўлена кераміка калочынскай культуры — ляпныя гладкасценныя пасудзіны з выразнымі плечукамі, валікам і насечкамі пад венчыкам. У трэці перыяд існавання гарадзішча (эпоха Кіеўскай Русі) яго пляцоўка расшырана, замест кальцавога збудаваны падковападобны вал. Кераміка са шматрадным хвалістым арнаментам і прамым венчыкам (паўд. ўплыў).

Сярод найб. значных рэчавых знаходак вырабы з бронзы — фібула, у т.л. латэнскага тыпу, пасахападобныя шпількі, пярсцёнкі, бранзалеты



*Бронзавыя ўпрыгажэнні з гарадзішча* ***Кісялі***.



*Л.С.Клейн.*

6—7 ст. з расшыранымі канцамі і арнаментам «у елачку», пласціністы бранзалет, літы пярсцёнак, падвескі, падкowападобныя фібулы 8—11 ст. і інш., з жалеза — косы-гарбушы, серпападобны нож, долата, гарпун, нажы, шпоры, з косці — іклы-амулеты, гарпуны, дзяржанне, гліняныя, шыферныя і бурштынавыя праслiцы, шкляныя бранзалеты, каралі. Шматлікі і разнабаковы матэрыял сведчыць, што гарадзішча знаходзілася ў густа заселенай мясцовасці з высокім узроўнем эканамічнага развіцця. Выгаднае месцазнаходжанне на воднай магістралі, магчыма, дазваляла паселішчу ажыццяўляць кантроль суднаходнага руху на адным з адгалінаванняў будучага шляху «з варагаў у грэкі».

*Літ.*: М і х а й л о ў с к і Л. Гарадзішча Дымакуры // Беларусь. 1951. № 5; А л е к с е е в Л.В. Полоцкая земля в IX—XIII вв.: (очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966. *В.М.Ляўко.*

**КІЯВЕ́Ц**, археалагічны помнік — гарадзішча ўзгоркавага тыпу каля в. Кіявец Крупскага р-на Мінскай вобл. Мясц. назвы Гара Капказ, Гарадзішча. За 0,22 км на Пд ад вёскі, на правым беразе безыменнай рэчкі, якая ўпадае ў р. Бобр (левы прыток р. Бярэзіна). Размешчана на вяршыні ўзгорка, абкружанага лесам. Пляцоўка выцягнута з ПнУ на ПдЗ, памерамі 36 × 23—24 м. Ніжэй зах. краю пляцоўкі цягнецца тэраса шыр. 2 м і даўж. 42—43 м. Яшчэ ніжэй на 3 м — роў і вал выш. ад 0,75—1 да 2,5 м (найб. высокі з Пд і практычна не выдзяляецца з З), якія абкружаюць гарадзішча амаль з усіх бакоў. Адкрыта ў 1907 К.Ц.Анікіевічам, абследавалі ў 1967 Г.В.Штыхаў, у 1979 А.Г.Калечыц. Даследавалі ў 1989 В.Л.Насевіч і Э.М.Зайкоўскі ў зах. (24 м$^2$), паўн. (4 м$^2$), паўн.-ўсх. (4 м$^2$) частках. Культ. пласт у цэнтры пляцоўкі адсутнічае, уздоўж зах. краю — 0,2—0,5 м, шыр. каля 6 м. Знойдзены фр-ты ляпной гладкасценнай керамікі банцараўскай культуры (3-я чв. 1-га тыс.), жал. ўтык кап'я, спіральнае скроневае кольца (6—7 ст.), у ямах — абломкі касцей жывёл, вугалькі. Прыблізна за 4 м на З ад падножжа вонкавага вала знаходзіцца курганападобны насып выш. да 0,4 м, дыям. 5—6 м, пасярэдзіне якога 2 буйныя валуны. Верагодна, гарадзішча выкарыстоўвалася ў культавых мэтах. Назва можа паходзіць ад імя Кій (заснавальнік Кіева), якое ў слав. міфалогіі супрацьпастаўляецца Змею. Мясц. назва, магчыма, ад «каўкасаў» — персанажаў літ. міфалогіі. *Э.М.Зайкоўскі.*

**КЛЕ́ЙМЫ ГАНЧА́РНЫЯ**, рэльефныя адбіткі разнастайных знакаў на донцах ганчарнага посуду. К.г. звычайна вырэзвалі на невялічкім драўляным кружку, што змяшчалі ў цэнтры ганчарнага круга, на якім фармавалі гаршчок. Дыяметр кружка адпавядаў дыяметру донца пасудзіны. Круг пасыпаўся попелам ці пяском, што спрашчала здыманне гатовага вырабу. У 11—15 ст. посуд з К.г. быў пашыраны на тэр. Усх. Еўропы, першапачаткова К.г. мелі, відаць, сімвалічнае значэнне. Кляймёны посуд складае адносна невял. частку знаходак і часцей сустракаецца ў пахаваннях, чым на паселішчах. Найб. распаўсюджаны К.г. ў выглядзе акружнасцей, крыжоў разнастайных форм, у т.л. свастыкі, прамавугольнікаў, трохвугольнікаў і г.д. На землях, што былі заселены славянамі, сімволіка К.г. даволі стабільная, што сведчыць пра іх культ. адзінства ў сярэдневякоўі. Існуе шэраг поглядаў на ўзнікненне К.г. Адны даследчыкі (К.П.Тышкевіч) лічылі, што К.г. мелі магічны характар і павінны былі ратаваць гаспадара пасудзіны ад уздзеянняў звышнатуральных сіл. Другія (Б.А.Рыбакоў) меркавалі, што гэта знакі майстроў, якія ўскладняліся з пакалення ў пакаленне. На думку Р.Л.Розенфельта, К.г. — знакі заказчыкаў. А.А.Бобрынскі лічыць іх прыкметамі рамеснай вытворчасці ў пераходны перыяд ад працы па канкрэтным заказе да працы на рынак. Найб. дасканалым падаецца меркаванне А.Л.Монгайта, які лічыў, што ў язычніцкія часы на тэр. рассялення славян К.г. мелі характар рэлігійных сімвалаў, агульных для слав. народаў, звязаных з салярным культам, якія са з'яўленнем ганчарнага круга былі перанесены на керамічныя вырабы і сталі знакамі майстроў. Шырокае распаўсюджанне знакаў у выглядзе крыжа не звязана з хрысціянствам, бо знак гэты сустракаецца на слав. посудзе да прыняцця хрысціянства. Значэнне К.г. як сімвалаў, якія страцілі першапачатковае культавае значэнне і ператварыліся ў тамгі (знакі ўласнасці рамеснікаў), дазваляе растлумачыць іх падабенства і шырокі геаграфічны дыяпазон.

*Літ.*: Т ы ш к е в и ч К.П. О курганах в Литве и западной Руси. М., 1865; М а н с у р о в А.А. Старорязанские и пронские клейма // СА. 1946. Т. 8; Р ы б а к о в Б.А. Ремесло Древней Руси. М., 1948; М о н г а й т А.Л. Старая Рязань // МИА. 1955. № 49; Р о з е н ф е л ь д т Р.Л. Московское керамическое производство XII—XVIII вв. // САИ. 1968. Вып. Е1—39; Б о б р и н с к и й А.А. Гончарство Восточной Европы: источники и методы изучения. М., 1978; П л а в и н с к и й А.Н. К вопросу о гончарных клеймах // Славяне и их соседи (археология, нумизматика, этнография). Минск, 1998. *А.М.Плавінскі.*

**КЛЕЙН** Леў Самуілавіч (н. 1.7.1927, г. Віцебск), археолаг, культуролаг, гісторык. Д-р гіст. навук (1993), праф. (1994). Скончыў Ленінградскі ун-т (1951), аспірантуру пры ім (1960), у 1961—81 працаваў на кафедры археалогіі Ленінградскага ун-та. У 1968 абараніў кандыдацкую дысертацыю «Паходжанне Данецкай катакомбнай культуры», у 1993 — доктарскую па манаграфіі «Археалагічная тыпалогія». З 1994 праф. кафедры філасофскай антрапалогіі філасофскага ф-та Санкт-Пецярбургскага ун-та, з 1995 праф. этналагічнага ф-та Еўрап. ун-та ў Санкт-Пецярбургу, з 1997 праф. Венскага ун-та. Чытаў лекцыі і курсы ва універсітэтах Англіі, Францыі, Германіі, Аўстрыі, Швецыі, Нарвегіі, Даніі, Іспаніі, Фінляндыі, Славеніі, ЗША. Адзін з буйнейшых сусветных спецыялістаў у галіне тэорыі археалогіі. Даследуе методыку вывучэння этнагенезу, праблемы пахо-

джання індаарыеў, славяна-скандынаўскія кантакты ў раннім сярэдневякоўі, праблемы язычніцкай рэлігіі, гамераўскі эпас і г.д. У 1948 прымаў удзел у раскопках Мінска, у 1955—56, 1958 абследаваў стаянкі каменнага веку зах. часткі верхняга Панямоння.

*Тв.*: Археологические источники. Ленинград, 1978; Археологическая типология. Ленинград, 1991; Феномен советской археологии. Санкт-Петербург, 1993; Бесплотные герои. Происхождение образов «Илиады». Санкт-Петербург, 1994; Анатомия «Илиады». Санкт-Петербург, 1999; Принципы археологии. Санкт-Петербург, 2001; Введение в теоретическую археологию. Санкт-Петербург, 2004; A panorama of theoretical archaeology // Current Anthropology. Chicago, 1977. Vol. 18. № 1; Archaeological typology. Oxford, 1982.

*М.А.Плавінскі.*

**КЛЕПАЧЫ́**, археалагічны помнік — каменны могільнік к. 14 — пач. 16 ст. каля в. Клепачы Слонімскага р-на Гродзенскай вобл. За 2,5 км на З ад вёскі, 20 м на Пд ад воз. Бяздоннае. На пляцоўцы памерамі 200 × 50 м больш за 100 магіл. Адкрыў і даследаваў у 1955 Ф.Д.Гурэвіч. Абследавалі ў 1974 В.Ф.Ісаенка, у 1982 А.В.Кваткоўская. Магілы, згрупаваныя па 2, 3 і больш, працягнуліся няроўнымі радамі з Пн на Пд. У галаве пахаванняў вял. камяні, зрэдку крыху меншыя — у нагах. Некаторыя камяні абчасаны з бакоў, на адным выбіты крыж выш. 9 см. Каменныя вымасткі авальнай формы ў адзін слой, часам адсутнічаюць. У пахаваннях цэнтр. часткі (найб. стараж. часткі могільніка) выяўлены вуглі і інвентар. Большасць даследаваных магіл без інвентару. Паха-



*Клеймы ганчарныя.*



*Пахавальны інвентар з каменнага могільніка* ***Клепачы****.*

вальны абрад — трупапалажэнне ў авальных ямах, звужаных каля дна (глыб. 0,55—1 м). Шкілеты ляжалі на спіне, галавой часцей на ПдЗ ці З, зрэдку на Пн. У большасці пахаванняў выяўлены рэшткі дамавін, вуглі, якія размяшчаліся над усім шкілетам, не дасягаючы чэрапа, над чэрапам і нагамі, толькі над нагамі. Побач прасочаны рэшткі рытуальных вогнішчаў. Пад вымасткамі ў слоі гумусу, зрэдку ў запаўненні магільных ям знойдзены фр-ты непаліванай, у т.л. моранай, ганчарнай керамікі к. 14—16 ст. На венчыках некаторых гаршкоў лінейны арнамент у 1—2 рады, у адным выпадку — на тулаве — хвалісты арнамент. Пахавальны інвентар бедны, у асн. жаночыя ўпрыгажэнні: бронзавае скроневае кольца з 3 кроплепадобнымі падвескамі, кольца з бронзавага дроту, завушніцы, шпількі для мацавання галаўных убораў, пярсцёнкі, бронзавая спражка з кавалачкам тканіны. Аналіз вымасткаў, пахавальнага інвентару і абраду сведчыць, што нябожчыкі пахаваны паводле язычніцкага абраду.

*А.В.Квяткоўская.*

**КЛЕЦК**, горад, цэнтр Клецкага р-на Мінскай вобл., на р. Лань. У 10 ст. на месцы сучаснага К. ўзнікла неўмацаванае паселішча, якое выконвала ролю адміністрацыйнага цэнтра дрыгавіцкага насельніцтва, што жыло ў вярхоўях Лані і Ушы. У 11 ст. пабудаваны дзяцінец, у 12—13 ст. — вакольны горад. Стараж. К. (К л ь ч ь с к, К л е ч ь с к, К л и ч е с к) упершыню ўпамінаецца ў летапісах пад 1127 як цэнтр удзельнага княства. Дзяцінец размешчаны на левым беразе р. Лань, ніжэй упадзення ў яе р. Сільная, на прырэчным схіле марэннага ўзгорка. Даследавалі ў 1961, 1966 і 1967 П.Ф.Лысенка, у 1983 М.А.Ткачоў, у 1988—90 В.С.Пазднякоў. Усяго раскапана 211 м$^2$ пры магутнасці культ. пласта да 3 м.

Першапачатковае неўмацаванае паселішча на месцы дзяцінца існавала ў 1—5 ст. н.э. і належала да культуры штрыхаванай керамікі; знойдзены чарапкі гліняных гаршкоў, грузік, шлакі, косці жывёл. У 2-й пал. 10 ст. на гэтым месцы ўзнікла неўмацаванае слав. паселішча, у сяр. 11 ст. пабудаваны дзяцінец, які формай быў блізкі да круга (памеры 90 × 100 м, пл. 0,75 га), умацаваны пясчаным валам шыр. 14 м, выш. 2,5—3 м (у 12—13 ст. вал падсыпаны, яго шыр. дасягнула 18 м, выш. 3,5—5 м; знешні схіл умацаваны пластом гліны). З боку поля меўся роў, на грэбені валоў — драўляныя сцены. Падчас археал. раскопак дзяцінца сабрана вял. калекцыя вырабаў з жалеза, каляровых металаў, шкла, каменю, косці. З прылад працы знойдзены нажы, долаты, свердлы, наждачны круг, з рэчаў хатняга ўжытку — замкі, ключы, абручы вёдраў, грабяні, крэсівы, з упрыгажэнняў — шкляныя і бронзавыя бранзалеты, пацеркі, скроневае кольца, нашыўныя бляшкі. Даследаваны рэшткі ювелірнай майстэрні 1-й пал. 13 ст., дзе сабрана 3,5 кг неапрацаванага бурштыну. Вял. цікавасць уяўляюць сабой знаходкі 3 наканечнікаў ворных прылад і фр-т бронзавай чашы, выробленай у Германіі. У 14—15 ст. К. перажываў занепад, але дзяцінец працягваў выконваць свае ваенна-абарончыя функцыі. У 1503 і 1506 разбураны крымскімі татарамі. На працягу 16 ст. дзяцінец, як і ўвесь горад, паступова адбудаваны. Інвентар 1626 упершыню дае новую назву дзяцінца — Высокі замак (у адрозненне ад Дольнага замка — б. вакольнага горада). Высокі замак таксама меў драўляныя сцены і вежу-браму, на якой знаходзіўся гадзіннік. У час раскопак дзяцінца ўскрыты рэшткі мураваных сцен, сабрана калекцыя рэчаў 16—17 ст.: цэгла-пальчатка, дахоўка, кафля, наканечнікі стрэл, стальныя пласціны панцыра, ключы, завесы, цвікі і інш. Высокі замак з усімі пабудовамі разбураны ў сяр. 17 ст. расійскім войскам падчас вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67, больш не адбудоўваўся і прыйшоў у занепад. Збярогся ў выглядзе гарадзішча з рэшткамі валоў. Пляцоўка пакрыта дзірваном.

Вакольны горад быў асн. рамесніцкай і гандл. часткай стараж. К. Меў форму паўкруга (даўж. 400 м, пл. 7,6 га), які з 3 бакоў абкружаў дзяцінец і канцамі выходзіў да р. Лань. Пляцоўка вакольнага горада уступам узвышаецца над наваколлем у паўн. частцы на 3,7 м, ва ўсх. — на 0,5—1,2 м, у паўд. — каля 4 м. З боку поля была абкружана ровам (цяпер засыпаны), які ва ўсх. частцы меў шыр. каля 8 м і глыб. 2,2 м. Сцены і дно яго ўмацаваны глінай, перамяшанай з буйназярністым жвірам. На валах стаялі драўляныя абарончыя сцены і вежы. Вакольны горад даследавалі ў 1986 Т.С.Бубенька, у 1986—87 В.С.Пазднякоў. Ускрыта больш за 2,6 тыс. м$^2$. Культ. пласт 0,6—1,2 м. Устаноўлена, што ў 10—11 ст. тут існавала неўмацаванае паселішча. У яго пластах знойдзены наканечнікі кап'я і стралы, ключы, крэсіва, вёдзерныя абручы, шыферныя праслiцы, касцяныя праколкі, нажы, кераміка, жал. і

бронзавыя падкавападобныя фібулы, бранзалеты, шкляныя пацеркі, язычніцкі амулет — прасвідраваны ікол кабана. У 12—13 ст. на месцы паселішча ўзнік вакольны горад. Тут знойдзены нажы, наканечнік кап'я, шпора, разцы, шылы, іголкі, жорны, ключы, вёдзерныя абручы, фр-ты керамікі, шкляныя і бронзавыя бранзалеты. Сярод унікальных знаходак — пярсцёнак-сігнет 12 ст. з выявай грыфона. У 2-й пал. 13—15 ст. вакольны горад заняпаў. Да 15 ст. адносіцца раскапаны тут катлаван вял. склепа, у якім знойдзены сярэбраны пражскі грош. У 16 ст. жыццё ў вакольным горадзе аднавілася. У інвентары К. 1626 ён наз. Дольным замкам. Яго валы былі ўмацаваны драўлянымі сценамі (парканам) з 12 вежамі, 2 з якіх былі адначасова брамамі (адна называлася Глухая). На тэр. Дольнага замка ў 16 ст. размяшчаліся каралеўскі і княжацкі двары, сядзібы баяр, іх абслугі, майстроў. У 17 ст. ўся тэр. Дольнага замка занята дваром князёў Радзівілаў, у 18 ст. — сядзібай іх старасты. Ва ўсх. частцы Дольнага замка выяўлены 2 жытлы 16 ст. — 2-камерныя пабудовы на заглыбленых да 1,5 м у зямлю падклетах. Сабраны вял. колькасць кухоннай і сталовай керамікі 16—18 ст., кафлі (у т.л. ажурнай), фр-ты шклянога посуду, рэчы хатняга ўжытку, зброя, рыштунак вершніка і каня, прылады працы. Матэрыяльная культура гэтага часу сведчыць пра высокі ўзровень развіцця ў К. рамяства і гандлю.

За 0,3 км на ПнЗ ад дзяцінца, на левым беразе Лані, знаходзіўся курганны могільнік (упамінаецца ў інвентары К. за 1552, не захаваўся).

*Літ.*: Лысенко П.Ф. Города Туровской земли. Минск, 1974; Пазднякоў В.С. Клецк X—XVIII стст.: матэрыяльная і духоўная культура беларускага феадальнага горада. Мінск, 2008. *В.С.Пазднякоў.*

**КЛЕ́ЦКІ ТРО́ІЦКІ КАСЦЁЛ**, помнік архітэктуры гатычна-рэнесанснага стылю. Існаваў у 1-й пал. 16 — сяр. 20 ст. Узведзены па заказу каралевы Боны Сфорца на месцы драўлянага храма 15 ст. У 2-й пал. 16 ст. М.Радзівіл Чорныператварыў касцёл у кальвінскі збор, дзе ў 1560—62 магістрам быў вядомы дзеяч Рэфармацыі С.Будны. З к. 16 — пач. 17 ст. ізноў каталіцкі храм. Аб'ёмная кампазіцыя помніка мела трохчасткавую структуру. Складалася з прамавугольнага ў плане нефа, кароткага роўнавысокага з ім аднапраславага прэсбітэрыя, што заканчваўся 3-граннай апсідай. Да гал. фасада прымыкала вежа-званіца, 1-ы ярус якой быў чацверыковай формы. Чатыры верхнія ярусы мелі ў плане аднолькавае сячэнне, але розную вышыню. Такая будова і прапорцыі ярусаў вежы рабілі яе візуальна масіўнай. Завяршалася высокім шатровым пакрыццём. З паўн. боку на ўсю даўжыню вімы прымыкала амаль у адну лінію з паўн. фасадам 2-павярховая сакрысція. Унутраную прастору храма перакрывалі цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі над вокнамі без падпружных арак. Фасады храма былі падзелены рытмічна размешчанымі контрфорсамі пастаяннага сячэння, якія часткова былі ўпушчаны ў інтэр'ер, на асобныя праслы, прарэзаныя вокнамі прамавугольнай формы з паўцыркульным завяршэннем. У бакавых праслах гал. фасада для асвятлення хораў былі зроблены меншых памераў аналагічнай формы вокны.

Вуглавыя контрфорсы асн. аб'ёму былі ўзведзены перпендыкулярна фасадам. Сцены і вежа завяршаліся прафіляванымі карнізамі. Гал. фасад вянчаў франтон трохвугольнай формы. У ім для асвятлення паддашку былі зроблены 2 круглыя акны. Над прэсбітэрыем узвышалася драўляная вежа-званічка. Пасля ўзвядзення асн. аб'ёму была прыбудавана вежа. Сцены касцёла ўзведзены ў тэхніцы гатычнай муроўкі з цэглы на вапнава-пясчаным рошчыне. Падмуркі храма магутнасцю 1,5—2 м выкананы з валуноў вял. і сярэдніх памераў. Касцёл пацярпеў у Вял. Айч. вайну, у 1950-я г. разабраны. Захавалася невял. частка сцяны з зах. боку.

*Літ.*: Кушнеревич А.Н. Троицкий костел в Клецке // Стр-во и архитектура Белоруссии. 1989. № 2; Яго ж. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мінск, 1993. *А.М.Кушнярэвіч.*

**КЛЁНКІ**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Раманавічы Гомельскага р-на (чыг. прыпынак Клёнкі на лініі Жлобін—Унеча, Расія). На Пн ад вёскі, ва ўр. Баравая (Баравіца), на краі 8-метровай надпоймавай тэрасы левага берага р. Сож. Даследаваў у 1890 М.М.Філонаў (10 курганоў). Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены трохгранны бранзалет, пярсцёнак з разамкнутымі канцамі, драцяныя скроневыя кольцы з нізкапробнага серабра, пацеркі (мазаічныя, сінія і пазалочаныя шкляныя, бронзавыя ажурныя ў выглядзе муфтачкі). У 1980 і 1988 абследаваў А.А.Макушнікаў. Захавалася 18 насыпаў выш. 0,5—1,5 м, дыям. 5—10 м. Большасць іх пашкоджана старымі раскопкамі ці акопамі.

*Літ.*: Макушников О.А. Разведки в Гомельском Посожье // АО 1980. М., 1981. *А.А.Макушнікаў.*

**КЛІ́МАЎ** Марат Васілевіч (н. 6.2.1972, г. Чавусы Магілёўскай вобл.), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (2005). Скончыў БДУ (1994). У 1994—95 выкладаў у Полацкім ун-це, з 1995 у ІГ НАН Беларусі. Вывучае вясковыя паселішчы і сістэму рассялення, генезіс і гіст. тапаграфію гарадоў Полацкага Падзвіння 10—16 ст. Даследаваў паселішчы *Астроўшчына*-2, *Двор-Гомель*, *Лучна*-1, *Субаўшчына*-3, *Рудня* Полацкага, *Сакалова* Міёрскага, *Княжыцы* і *Лісна* Верхнядзвінскага р-наў, сакральны цэнтр і курганы *Заскаркі* Полацкага р-на. Выявіў больш за 180 стараж. паселішчаў. Адзін з аўтараў «Гісторыі Беларусі» ў 6 тамах (т. 1, 2000), «Археалогіі Беларусі» ў 4 тамах (т. 4, 2001, з В.У.Шаблюком).


*М.В.Клімаў.*

*Тв.*: Сярэднявечны культавы помнік Заскаркі ў ваколіцах г. Полацка // ГАЗ. Мінск, 2002. № 17; Асаблівасці рассялення ў акрузе Полацка: X — сярэдзіна XVI ст. // Там жа. Мінск, 2006. № 21; Тапаграфія і планіроўка вясковых паселішчаў у акрузе Полацка // МАБ. 2005. № 9; Праблема вялікіх курганоў у сувязі з пытаннем аб з'яўленні новай пахавальнай абраднасці ва ўмо-

вах рассялення на Поўначы Беларусі // Там жа. 2008. № 15.

**КЛІНКО́ВАЯ ЗБРО́Я**, зброя бліжняга бою, якая складаецца з клінка і дзяржання. У залежнасці ад даўжыні клінка К.з. падзяляецца на доўга-, сярэдне- і кароткаклінковую; ад колькасці рабочых паверхняў (лёзаў) — на адна- і двухлязовую; ад наяўнасці выгіну клінка — на прамую і закрыўленую; ад характару пранікальнага дзеяння — на колючую, сякучую, колюча-сякучую, сякуча-колючую. У Беларусі К.з. з'явілася ў жал. веку: мячы-акінакі, баявыя нажы. Фр-т мяча 6 ст. знойдзены на гарадзішчы Нікадзімава. У к. 9 — 1-й пал. 11 ст. ў Беларусі выкарыстоўваліся мячы т.зв. каралінгскага тыпу з шырокімі прамымі, пераважна сякучымі клінкамі. У 11—13 ст. былі ва ўжытку мячы паўд.-ўсходнеприбалтыйскіх і агульнаеўрап. раманскіх тыпаў, якія адрозніваліся ад папярэдніх формамі дэталей дзяржанняў і, часам, больш вузкім сякуча-колючым клінком. Мячы 10—13 ст. насіліся ў похвах, аздобленых наканечнікамі, і карысталіся на бел. землях значнай папулярнасцю да 16 ст. У 14—16 ст. найб. пашыранымі становяцца доўгія «паўтараручныя» колюча-сякучыя мячы даўж. 1—1,5 м, якімі можна было дзейнічаць як адной, так і дзвюма рукамі. З сяр. 12 ст. распаўсюджваюцца шаблі. На працягу 16 ст. мячы выцясняліся кордамі, цесакамі і шаблямі. Корды ўяўлялі сабой аднalязовую зброю з простым ці злёгку выгнутым клінком і з асіметрычным дзяржаннем нажовага тыпу. Блізкую форму клінка мелі цесакі, аднак іх дзяржанне першапачаткова было аналагічным мячоваму. На аснове мяча сфарміраваліся таксама такія віды К.з., як канчар і шпага. Асаблівасцю шпагі было дзяржанне з палепшанай аховай рукі ў выглядзе эфеса, які складаўся з крыжавіны, дужак, шчытка і г.д. Гэта рабіла шпагу больш прыдатнай для фехтавання. З 14 ст. былі вядомы кінжалы, аднак вял. баявога значэння яны не атрымалі. У к. 16—18 ст. найб. пашыраным відам К.з. была шабля, прызначаная для сякучых удараў. Вядома некалькі тыпаў шабель, якія адрозніваліся формай клінка і дзяржання — гусарскія, казацкія, мултаны, серпантыны, карабэлі і г.д.

*Літ.*: Кирпичников А.Н. Древнерусское оружие. Мечи и сабли IX—XIII вв. // САИ. 1966. Вып. Е1—36; Бохан Ю.М. Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV — канцы XVI ст. Мінск, 2008; Плавінскі М.А. Нарысы гісторыі клінковай зброі X—XIII стагоддзяў на Беларусі. Мінск, 2009; Kazakevičius V. IX—XIII a. baltų kalavijai. Vilnius, 1996.

*Ю.М.Бохан, М.А.Плавінскі.*

**КЛІНЫ́**, археалагічныя помнікі — паселішчы і бескурганны могільнік каля б. в. Кліны Слаўгарадскага р-на Магілёўскай вобл.

Паселішча-1 на Пд ад вёскі, на ўсх. і паўд.-ўсх. берагах воз. Чырвонае, на Пн ад вусця р. Нямыльня. Адносіцца да *верхнедняпроўскай культуры* эпохі неаліту. Сляды паселішча выявіў у 1927 К.М.Палікарповіч.

Паселішча-2 на З ад вёскі, на 2-й надпоймавай тэрасе р. Сож (выш. 6 м над узроўнем вады). Выявіла ў 1979, даследавала ў 1980—81 А.Г.Калечыц (106 м²). Культ. пласт да 0,5 м. Знойдзена вял. колькасць адыходаў крамянёвай вытворчасці, а таксама мікралітоідныя вырабы 1-й пал. эпохі мезаліту: канцавыя альбо рэтушаваныя скрабкі на адшчэпах, скрэблы, скоблі, вуглавыя, бакавыя, сярэдзінныя разцы, нажы, праколкі, свярдзёлкі, клінападобныя і з перахватам сякеры, пласціністыя наканечнікі стрэл.

Паселішча-3 за 0,2 км на Пн ад вёскі, ва ўр. Прыстань. Даследавала ў 1989—90 А.Г.Калечыц. Знойдзены крамянёвыя вырабы — скрабкі, праколкі, сякера, пласціністы наканечнік стралы, адыходы крамянёвай вытворчасці.

Паселішча-4 за 1,5 км на ПнУ ад паселішча-2, ва ўр. Мсціж. Даследавала ў 1980—81 А.Г.Калечыц (68 м²). Знойдзены каля 700 вырабаў з крэменю: скрабкі, разцы, скоблі, сякеры, цёслы, наканечнікі стрэл, фр-ты ляпной керамікі, аздобленыя грабеньчатым, ямачным і лінейным арнаментам. Паселішча датуецца неалітам (верхнедняпроўская культура) і бронзавым векам (сярэднедняпроўская культура).

Паселішча-5 за 0,15 км на Пн ад паселішча-4, на тэрасе левага берага р. Сож, ва ўр. Туфлі. Выявіла і даследавала ў 1979 А.Г.Калечыц. Пл. 3500 м². Знойдзены скрабкі, скобля, камбінаваны скрабок-скобля, разцы, нажы, адыходы крамянёвай вытворчасці, фр-ты ляпнога посуду. Паселішча адносіцца да эпохі неаліту (верхнедняпроўская культура), ранняй бронзы (сярэднедняпроўская культура), позняй бронзы, ранняга жал. веку.

Паселішча-6 за 1 км на З ад вёскі, на левым беразе р. Сож, ва ўр. Грыўка. Выявіла ў 1981 і даследавала А.Г.Калечыц. Знойдзены шматлікія адыходы крамянёвай вытворчасці, прылады працы (скрабкі, нажы, разцы, скобля, праколкі), наканечнікі стрэл, фр-ты ляпнога посуду верхнедняпроўскай і сярэднедняпроўскай культур ранняга жал. веку, арнаментаваныя грабеньчатымі і ямачнымі адбіткамі і іх спалучэннямі.

Паселішча-7 на Пн ад могілак каля в. Кліны, ва ўр. Высокая Грыва. Даследаваў у 1968 І.І.Арцёменка. Адносіцца да позняга бронзавага веку.

Бескурганны могільнік за 1 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўр. Вудрышча. Даследаваў І.І.Арцёменка. Выяўлена 45 пахаванняў бронзавага веку.

*Літ.*: Калечиц Е.Г. Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии. Минск, 1987.

*А.Г.Калечыц.*

**КЛІ́ШЫНА**, археалалагічныя помнікі — гарадзішча, селішча і курганны могільнік за 1,5 км на ПдУ ад в. Клішына Крупскага р-на Мінскай вобл.

Гарадзішча знаходзіцца ў зах. частцы вострава на воз. Сялява, за 2 км на Пд ад в.

Янаўшчына, ва ўр. Выспа (Выспянская Гара), на 2 узвышшах выш. 8— 10 м над узроўнем возера. Пляцоўкі падзелены ровам глыб. да 5 м. Пляцоўка № 1 няправільнай трохвугольнай формы, памерамі 25 × 60. З напольнага боку ўмацавана валам выш. да 2 м, шыр. да 5 м. Пляцоўка № 2 мае памеры 20 × 85 м. Абследавалі ў 1955, 1964 Л.Д.Побаль, у 1979 А.Г.Калечыц. З 1999 даследаванні вядзе В.І.Шадыра, ускрыта звыш 500 м². Культ. пласт ад 0,5 да больш за 2 м. Выяўлены рэшткі печаў-дамніц для выплаўкі жалеза, культавая яма-ахвярнік са шматлікімі амулетамі з косці жывёл. Знойдзена шмат разнастайных прылад працы з каменю, жалеза, гліны; упрыгажэнняў з бронзы, шкла. Найб. цікавая знаходка — клад жаночых упрыгажэнняў 6—7 ст.: сярэбраныя скроневыя кольцы, бронзавыя бранзалеты, спіралепадобныя пранізкі ад галаўнога ўбору — вайнагі. Масавы матэрыял складаецца з рэштках посуду *днепра-дзвінскай культуры* позняга этапу, штрыхаванай і з расчосамі керамікі, а таксама пасудзін банцараўскага тыпу. Гарадзішча датуецца 1—8 ст. Выкарыстоўвалі яго і ў больш познія часы, аб чым сведчыць кругавая кераміка 11—13 ст., тэракотавая кафля 15—16 ст.

Селішча за 30 м на Пн ад гарадзішча, на невысокім узвышшы, памеры 40 × 35 м. Адкрыта ў 2001 В.У.Шадырам. З 2006 даследавана 250 м². Матэрыялы (ляпная пасуда, прасліцы з вял. адтулінай, шкляныя пацеркі) адносяцца да носьбітаў традыцый *кіеўскай культуры* і розных этапаў культуры банцараўшчыны-тушамлі, датуюцца к. 3—8 ст. Невял. колькасць кругавой керамікі адносіцца да 11—13 ст.

Курганны могільнік за 0,15 км на ПнЗ ад гарадзішча. 6 курганоў (4 насыпы на сучасных могілках, 2 насыпы справа ад дарогі на в. Баркі). Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.*: Шадыра В. Гарадзішча Клішына («Выспянская Гара») Крупскага раёна (раскопкі 1999—2002 гг.) // ГАЗ. Мінск, 2004. № 19; Яго ж. Археалагічны комплекс на воз. Сялява Крупскага р-на // Там жа. Мінск, 2007. Вып. 23; Яго ж. Таямніцы возера Сялява // БГЧ. 2006. № 2; Шадыра В.І., Махнач А.І. Селішча Клішына на выспе воз. Сялява // МАБ. 2009. № 17;
*В.І.Шадыра.*

**КЛЮЧ**, жалезная прылада для адмыкання замка. Яго канструкцыя і форма залежалі ад тыпу замковага механізма. Найб. стараж. К. (10—11 ст.) знойдзены на тэр. Беларусі ў час раскопак у стараж. Полацку, Навагрудку, Мінску і інш. Адмыкаючая пласціна ў іх адной плоскасці са стрыжнем. З к. 11—12 ст. з'явіліся К., адмыкаючая пласціна якіх адагнута перпендыкулярна да стрыжня. У 12 ст. выкарыстоўваліся К. ў выглядзе лопасці з бакавымі выразамі для спружынных шрыфтаў. Пазней ужываліся і інш. мадыфікацыі К. для цыліндрычных навясных замкоў. Для ўразных замкоў К. мелі цыпель на канцы стрыжня, які пры паварочванні ўціскаў спружыну і перасоўваў за-



*Рэчавы скарб з гарадзішча* ***Клішына***.

саўку. Такі ж прынцып дзеяння быў у К. для навясных замкоў з шарнірнай дужкай, што свабодна адкідвалася (трох-чатырохвугольнай і круглай формы). У адрозненне ад папярэдніх яны мелі трубкавую аснову і параўнальна малыя памеры. У 17—18 ст. для вінтавых замкоў выкарыстоўвалі К. ў выглядзе стрыжня з нарэзанай паверсе разьбой, а да замка «шведскага» тыпу — з падоўжанымі пласцінкамі ці латачкамі. На працягу ўсяго сярэдневякоўя існавалі і прымітыўныя К.-адмычкі для камбінаваных і драўляных дзвярных замкоў. Гэта стрыжань з сагнутым ці прымацаваным на шарніры доўгім канцом для перасоўвання засаўкі.

*Літ.*: К о л ч и н Б.А. Железообрабатывающее ремесло Новгорода Великого // МИА. 1959. № 65; Ш т ы х о в Г.В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). Минск, 1978. *Г.М.Сагановіч.*

**КНЯ́ЖЫЦЫ**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і селішча 3-й чв. 1-га тыс. н.э. і 12—13 ст. каля в. Княжыцы Шклоўскага р-на Магілёўскай вобл. Знаходзіцца на паўн. ускраіне вёскі, на правым беразе р. Капуснік, пры ўпадзенні ў яе безназоўнага ручая.

Г а р а д з і ш ч а. Мясц. назва Гарбылёк. Пляцоўка авальная, памерамі 25 × 18,5 м. Выш. над поймай ручая 3—4,5 м. З боку поля ўмацавана валам выш. да 3 м, шыр. 15—17 м. Помнік выявіў і абследаваў у 1977 В.Ф.Капыцін, у 1983 абследавала В.М.Ляўко. Даследаваў у 1989 А.А.Седзін. Культ. пласт мае 2 гарызонты, на мацерыку прасочваюцца ямы ад слупавых канструкцый. У ніжнім гарызонце знойдзены жал. цуглі, лязо сякеры, нож з прамой спінкай, шыла, ляпны керамічны посуд (венчыкі прамыя або адагнутыя вонкі, на некаторых налеплены валік з косай насечкай); у верхнім — жал. падковы, ключ ад замка, шкляныя бранзалеты, ганчарны посуд.

С е л і ш ч а на ПдУ ад гарадзішча. Пл. каля 2 га. Паверхня здзірванелая. Культ. пласт да 0,4—0,7 м. Знойдзены жал. шпора, шыла, утулка, ляпны посуд 3-й чв. 1-га тыс. і ганчарны посуд 12—13 ст., фр-ты кафлі часоў позняга сярэдневякоўя. Выявіў і абследаваў у 1989, даследаваў у 1995 А.А.Седзін.

*Літ.*: С е д з і н А. Гарадзішча і селішча Княжыцы // Магілёўская даўніна. Магілёў, 1996. *А.А.Седзін.*

**КО́БРЫН**, горад, цэнтр Кобрынскага р-на Брэсцкай вобл., на р. Мухавец. За 52 км на У ад Брэста.

У пісьмовых крыніцах упамінаецца пад 1287. Да 15 ст. цэнтрам К. быў замак, абмежаваны ровам, правым і левым рукавамі р. Кобрынка. Гарадзішча стараж. К. размяшчалася на пясчаных узгорках левага берага Мухаўца, мела дзяцінец (Верхні замак) і вакольны горад (Ніжні замак). Гандл. плошча спачатку знаходзілася на тэр. вакольнага горада. Пазней у сувязі з ростам насельніцтва і тэр. горада яна перанесена да сцен замка. З 16 ст. функцыю гандл. і гар. цэнтра выконвала новая плошча, што ўзнікла на скрыжаванні шляхоў Брэст—Пінск і Пружаны—Ратна. Яна стала вызначальным элементам у архіт.-планіровачнай кампазіцыі К. З цягам часу вакол плошчы склалася сетка вуліц, сама плошча была забудавана па перыметры жылымі, грамадскімі і гандл. будынкамі. Цэрквы і касцёлы знаходзіліся ў сярэдзіне прылеглых кварталаў ардынарнай забудовы. У правабярэжнай частцы К. яна была рэдкай, вял. плошчу займалі агароды.

У 1988 даследаванні праводзілі В.Я.Зайцава і І.І.Сінчук. На тэр. Ніжняга замка на беразе Дняпроўска-Бугскага канала знойдзены манеты сяр. 16—18 ст. (пераважна медныя соліды Рэчы Паспалітай 1660-х г.), на тэр. Верхняга замка, недалёка ад Спаскага манастыра, выяўлены рэшткі дубовай пабудовы (магчыма, паўн.-зах. вежы), кераміка 12 ст., фр-ты скуранога абутку 12—15 ст. і цыліндрычных бутэлек 18 ст., на тэр. пасада ў раёне гандл. плошчы — кафля 1-й пал. 17 ст. Культ. пласт больш за 1,5 м, насычанасць знаходкамі невялікая.

*Літ.*: П л и с к о Н.М., К о з л о в Л.Р. Кобрин: ист.-экон. очерк. Минск, 1987.

*С.П.Адамовіч, В.Я.Зайцава, І.І.Сінчук.*

**КО́ЗЫРАВА**, археалагічны помнік — селішча эпохі Кіеўскай Русі на тэр. Мінска. На 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Свіслач, ніжэй упадзення ў яе р. Лошыца, у зялёнай зоне паміж Свіслаччу і вул. Чыжэўскіх. Пл. 3—3,6 га. Магутнасць культ. пласта 0,2—0,7 м. Адкрыў у 2008 і даследаваў у 2008—09 Ю.А.Заяц. Знойдзеныя матэрыялы адносяцца да 3 эпох, асн. іх колькасць — да 10 — пач. 12 ст. Гэта фр-ты керамічнага посуду, вырабленага на ручным ганчарным крузе, жал. нажы, шылы, брытва, рыбалоўны кручок, фібула, ключ, наральнік і фр-ты наральнікаў; фр-ты бронзавых упрыгажэнняў — шыйных грыўняў, скроневага радзіміцкага кальца, бранзалеты, бразготкі. Матэрыялы 16—18 ст.: свінцовыя кулі, жал. ўтокі (падтокі) ад дзід. У перадмацерыковым пласце і на мацерыку знойдзены фр-ты крамянёвых вырабаў мезалітычнага выгляду, ў т.л. асіметрычны наканечнік чарашковай стралы. Даследаваны падпольныя і прыпечныя ямы ад наземных зрубавых драўляных жытлаў. Жылыя пабудовы на селішчы размяшчаліся ў 1—3 рады, якія паўтаралі контур берагавой лініі.

*Літ.*: З а я ц Ю.А. Новые памятники археологии в пределах городской черты Минска (правый берег Свислочи) // Древняя история Восточной Европы: сб. науч. ст., посвящ. 80-летию проф. Э.М.Загорульского. Минск, 2009. *Ю.А.Заяц.*

**КО́ЛАС**, археалагічны помнік — курганны могільнік *радзімічаў* каля пас. Колас Жлобінскага р-на Гомельскай вобл. На паўд. ускраіне пасёлка 6 пашкоджаных курганоў выш. да 1,8 м, дыям. 10 м. Помнік вядомы з 1873. Выявіў і даследаваў у 1974 У.У.Багамольнікаў. Раскапаны 1 курган. У насыпе і на гарызонце выяўлены рэшткі агароджы з абпаленых калоў, знойдзены абломкі 2 ляпных гаршкоў (адзін калочынскай культуры), кальцыніраваныя косці. Захаванне па характары

абраднасці мае паралелі ў пражскай і мошчынскай культурах. Датуецца 6—7 ст. н.э.

*Літ.*: Богомольников В.В. Работы в Жлобинском районе // АО 1974. М., 1975. *А.А.Макушнікаў.*

**КО́ЛАСАЎ** Аляксандр Уладзіміравіч (н. 12.10. 1979, г. Чэрыкаў Магілёўскай вобл.), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (2007), дацэнт (2008). Скончыў Магілёўскі ун-т імя А.А.Куляшова (2001), працаваў настаўнікам гісторыі ў г. Чэрыкаў. З 2006 выкладчык Магілёўскага ун-та. Даследаваў помнікі каменнага веку Пасожжа: *Бакаў*, *Вусце*, *Дзедня*, Каменка, *Паклады*, *Першакрычаўскі*, *Рудня*, *Стары Дзедзін*. Абгрунтаваў прысутнасць у басейне р. Сож шэрага культ. з'яў эпохі мезаліту — бутаўскай, пясочнароўскай, янісла-віцкай культур.



*А.У.Коласаў.*

*Тв.*: История изучения и проблемы историографии сожской мезолитической культуры // Весн. МДУ імя А.А.Куляшова. 2005. № 4; Мезолитическая стоянка Поклады-2 в Кричевском Посожье // ГАЗ. Мінск, 2005. № 20; Мезолитическая стоянка Дедня // ААА. 2008. № 3.

**КОЛТ**, жаночае ўпрыгажэнне ў гарадах Старажытнай Русі ў 11—13 ст. К. падвешвалі да галаўнога ўбору з двух бакоў на ланцужках альбо стужках. У 11—12 ст. яго выраблялі з золата, серабра, упрыгожвалі перагародчатай эмаллю, аздаблялі зярненнем, завіткамі скані, чарненнем. Усярэдзіне К. звычайна пустацелыя. Мяркуецца,

*Рэчы з селішча Козырава.*

*Колт* 12 ст. з Гродна.



што ў іх змяшчалася тканіна, прамочаная духмяным маслам. На Берасцейскім гарадзішчы знойдзены К., спаяны з 2 сярэбраных пласцін, арнаментаваны ціснёным узорам з раслінных парастак. У *Вішчынскім грашова-рэчавым скарбе* знойдзены 4 сярэбраныя К. 2-й пал. 12 ст. (серабро, залачэнне, перагародчатая эмаль). З к. 12 ст. аналагічныя па форме і арнаменце, але больш танныя К. адлівалі ў каменных формах са сплаву волава і свінцу. Такі К. з выявай 2 птушак знойдзены на Мінскім замчышчы.

*Літ.*: Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі XII—XVIII стагоддзяў: [альбом]. Мінск, 1984.

*Г.В.Штыхаў.*

**КО́МАТАВА**, археалагічныя помнікі — паселішчы (4), стаянкі (2) і селішча каля в. Коматава Гродзенскага р-на.

Першы шматкульт. помнік знойдзены ў 2-й пал. 1960-х г. на правабярэжжы р. Нёман каля вясковых могілак, на 2-й надпоймавай правабярэжнай тэрасе р. Котра, Славяна-літ. атрадам Прыбалтыйскай археолага-этнагр. экспедыцыі пад кіраўніцтвам Ф.Д.Гурэвіч. Пры зачыстцы агаленняў берага быў выяўлены культ. пласт да 0,6 м, у якім трапіліся вугалі, абпаленыя камяні, крамянёвыя вырабы, фр-ты гладкай і штрыхаванай ляпной керамікі, абломкі кругавога посуду. У 1973—75 абследаваў Я.Г.Звяруга. У 2003 у час абследавання зоны будаўніцтва Гродзенскай ГЭС у ваколіцах вёскі былі лакалізаваны 6 стаянак і паселішчаў, у т.л. могільнік. Помнікі былі абазначаны пачаргова ад моманту адкрыцця і абследавання ў накірунку ад в. Мігова да вусця р. Котра — Коматава-1 (ГЭС), 2 (ГЭС), 3 (ГЭС), 4 (ГЭС), 5 (ГЭС) — могільнік, 6 (ГЭС).

Паселішча-1 (ГЭС) за 1,2 км на Пн ад вёскі ўніз па цячэнні, на правабярэжнай тэрасе р. Нёман. Пляцоўка памерамі 90 × 30 м. Культ. пласт 1,1 м. У 2009 М.М.Чарняўскі даследаваў 112 м$^2$. Выяўлены аб'екты гасп. прызначэння, сляды ворыва сярэдневяковага перыяду. Сярод знаходак крамянёвыя вырабы, нуклеусы, кругавая кераміка. Знойдзеныя крамянёвыя вырабы і абломкі кругавой керамікі сведчаць аб тым, што паселішча неаднаразова засялялася на працягу мезаліту, неаліту і бронзавага веку, найб. інтэнсіўна — у эпоху сярэдневякоўя. Пасля будаўніцтва Гродзенскай ГЭС паселішча будзе затоплена вадасховішчам.

Паселішча-2 (ГЭС) насупраць паўн. ускраіны вёскі, на краі правабярэжнай тэрасы р. Нёман. Пляцоўка памерамі 100 × 40 м. У 2009 В.Л.Лакіза даследаваў 120 м$^2$. Культ. пласт 0,8—1 м. Знойдзена некалькі тысяч артэфактаў, у т.л. крамянёвыя вырабы першаснай апрацоўкі, прылады працы з выразным дамінаваннем скрабкоў, фр-ты ляпной неалітычнай і кругавой керамікі, косткі. Датуецца мезалітам і неалітам, эпохай сярэдневякоўя. Пасля будаўніцтва ГЭС зах. частка помніка будзе падмывацца вадасховішчам.

Паселішча-3 (ГЭС) да пачатку правядзення археал. раскопак было знішчана землянымі работамі пры будаўніцтве вадасховішча ГЭС.

Паселішча-4 (ГЭС) насупраць усх. тэр. вёскі на правабярэжнай тэрасе р. Нёман, у вусці невял. ручая. Пляцоўка помніка памерамі 100 × 40 м. У 2009 В.Л.Лакіза даследаваў 484 м$^2$; былі закладзены 3 раскопы. Культ. пласт 0,4—1,1 м. Выяўлена каля 50 аб'ектаў: гасп. ямы, паглыбленні, каменныя выкладкі, частка з якіх з'яўляецца рэштkамі гасп. ці жылой пабудовы эпохі сярэдневякоўя і інш. Знойдзены фр-ты ляпной і кругавой керамікі, крамянёвыя і каменныя прылады працы, металічныя вырабы, упрыгажэнні, манеты і інш. Мае выразны пласт артэфактаў кола культуры шнуравой керамікі. Помнік адносіцца да эпохі неаліту. На думку В.Л.Лакізы, асаблівага росквіту паселішча дасягнула ў 16—18 ст. У выніку будаўніцтва ГЭС значная тэр. помніка пашкоджана землянымі работамі, некранутым застаўся толькі ўсх. участак.

*Колты* 13 ст.



П а с е л і ш ч а - 6 (ГЭС) на паўд. ускраіне вёскі ля вясковых могілак, за 0,5 км на Пд ад паселішча-4 (ГЭС), на правабярэжнай тэрасе р. Нёман паблізу вусця р. Котра, на пясчанай дзюне (выш. 105,1 м). У 2009 В.Л.Лакіза даследаваў 296 м$^2$; былі закладзены 3 раскопы. Культ. пласт 1—1,8 м, месцамі больш за 2,4 м. Вылучаецца найб. складанай стратыграфіяй з магутнымі алювіяльнымі адкладамі (моцныя эразійныя працэсы), выразным пахаваным культ. пластом эпохі позняга сярэдневякоўя і новага часу. З апошнімі перыядамі звязваюцца большасць з выяўленых аб'ектаў: гасп. і слупавыя ямы, рэшткі жылых і гасп. пабудоў з печамі і скляпеннямі, каменнымі выкладкамі і жорнамі. Знойдзены: крамянёвыя знаходкі першаснай апрацоўкі, разнастайныя крамянёвыя прылады працы і зброі, фр-ты ляпной керамікі неаліту і бронзавага веку, жал. (нажы, крэсіва, спражкі і інш.) і касцяныя («жужалкі») вырабы, медная манета і інш. Асабліва прадстаўнічымі з'яўляецца калекцыя кругавой керамікі, асн. колькасць якой выяўлена ў межах жылой пабудовы 17—18 ст. Паселішча датуецца мезалітам (*яніславіцкая культура*), неалітам (*нёманская культура*), познім неалітам (кола культуры шнуравой керамікі), раннім бронзавым векам (тшцінецкае культ. кола), эпохай позняга сярэдневякоўя і новага часу. Пасля будаўніцтва Гродзенскай ГЭС будзе размывацца толькі зах., даследаваны ўчастак помніка.

С т а я н к а і с е л і ш ч а - 1 А (ГЭС) на Пн ад вёскі і паселішча-1, на ніжняй тэрасе р. Нёман. Выяўлены ў 2009 В.Л.Лакізай. Ім жа на селішчы пл. 10 м$^2$ праведзена шурфоўка. Абследаванні не праводзіліся.

С т а я н к а фінальнага палеаліту за ўсх. ускраінай вёскі, на верхняй тэрасе р. Нёман. Выяўлена ў 2009 В.Л.Лакізай. Знойдзены крамянёвыя артэфакты свідэрскай культуры. Абследаванне не праводзілася. *В.Л.Лакіза.*

**КО́МПЛЕКС АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ**, сукупнасць археалагічных знаходак (2 і больш прадметаў), выяўленых разам у адным стратыграфічным пласце. Калі магчыма даказаць, што прадметы апынуліся ў гэтым месцы адначасова, лічыцца, што яны знаходзяцца ў закрытым К.а. ці ўтвараюць яго. Калі адначасовасць толькі мяркуецца і не з'яўляецца даказанай, К.а. наз. адкрытым (выпадковыя супадзенні ў разлік не прымаюцца). Вартасць любой знаходкі ўзрастае дзякуючы спалучэнню з інш. рэчамі, якія дапамагаюць яе інтэрпрэтацыі — датаванню, вызначэнню культ. сувязей, яе прызначэння і інш. Прыкладам закрытага К.а. з'яўляюцца пахаванні, запаўненне гасп. ям і жытлаў, ці скарб. *І.Б.Клепікаў.*

**КО́МПЛЕКС УЗБРАЕ́ННЯ**, набор відаў і тыпаў зброі і рыштунку, якія выкарыстоўваецца носьбітамі пэўнай археал. культуры, пэўным народам ці дзяржавай у пэўную эпоху. Эвалюцыя К.у. напрамую залежыць ад ступені тэхнічнага развіцця грамадства, зменаў у стратэгіі і тактыцы вядзення баявых дзеянняў, сацыяльнага і этнічнага складу войска. У складзе комплексу вылучаюцца 2 асн. функцыянальныя групы: *наступальнае ўзбраенне* і *засцерагальнае ўзбраенне*, а таксама рыштунак вершніка і баявога каня. Развіццё наступальнага і засцерагальнага ўзбраення знаходзілася ў цеснай узаемасувязі і ўзаемаўплыве. *М.А.Плавінскі.*

**КО́ПЫСКАЯ КАПЛІ́ЦА**, археалагічны і архітэктурны помнік к. 19 ст. ў г.п. Копысь Аршанскага р-на Віцебскай вобл. Размешчаны на паўн.-ўсх. ускраіне гіст. цэнтра. Даследавалі ў 2008 В.М. Ляўко і Ю.А.Копцік. Капліца арыентавана па баках свету, выцягнута з У на З. Яе памеры 10,6 × 8,9 м, уяўляе сабой 1-нефавую базіліку, выкананую з цэглы памерамі 25—26 × 12,5—13 × 6,5 см. Рошчына — цэмент, які выкарыстоўваўся ў пабудовах к. 19 ст. Першапачатковы дзвярны праём закладзены, таўшч. сцен складае 0,8 м. У плане мае форму васьмівугольніка, бакавыя скошаныя грані заканчваюцца 8 паўкалонамі, яшчэ па 2 паўкалоны размешчаны на фасадах паўн. і паўд. сцен. Паміж імі спараныя прамавугольныя вокны. Дзвярны праём ва ўсх. сцяне з арачным паўцыркульным завяршэннем і прафіліраванай фігурнай лапаткай над ім. Перад уваходам у капліцу фіксуюцца рэшткі ганку. Верхняя частка храма па перыметры і паўкалоны аздоблены прафіліраваным парэбрыкам. Пры завяршэнні паўкалон верхні рад цэглы напалову выступае над імі і падтрымліваецца ўмураванымі пляскатымі жал. штокамі. Гэты прыём выкарыстоўваўся для большай выразнасці пераходу да 4-скатнага даху. На глыб. 0,4 м ад дзённай паверхні пад пластом гумусу прасочаны праплastак буд. смецця з цэглавага бою і рошчына. Да глыб. 0,8 м залягаюць фр-ты муроўкі, прымыкаючыя да падмурка капліцы. На мацерыку бліжэй да капліцы на глыб. 1,4 м выяўлена дзіцячае пахаванне, арыентаванае галавой на Пд. У мацерыковым пласце за 0,2 м на Пд ад пахавання на глыб. 1,8 м зафіксаваны рэшткі драўлянай накрыўкі труны другога пахавання. Характар пластоў указвае на іх прыналежнасць да могілак. Верхні пласт, які суадносіцца з часам існавання капліцы, прадстаўлены буд. смеццем, а таксама фр-тамі керамікі, шкла 19—20 ст.

*Літ.*: Л е в к о О.Н. Новые исследования древней Копыси // Древняя история Восточной Европы: сб. науч. статей, посвящ. 80-летию проф. Э.М.Загорульского. Минск, 2009. *В.М.Ляўко.*

**КО́ПЫСКІЯ ПАСА́ДЫ**, археалагічныя помнікі ў г.п. Копысь Аршанскага р-на Віцебскай вобл. Размяшчаліся на тэр. сучаснага гар. пасёлка, на ПнУ і ПдЗ ад гарадзішча. Даследавалі ў 1969 Г.В.Штыхаў, у 2003, 2008 В.М.Ляўко, у 2005—07 Д.А.Каваленка. Выяўлены сляды паселішча 12—13 ст. і 14—17 ст. з культ. пластом 1,4 м. Паблізу ўвахода на гарадзішча пласт дасягаў магутнасці звыш 2 м. У ім на глыб. 1,8 м знойдзена шкляная чаша з гербам Астрожскіх і зафіксаваны бярвёны

дрэнажу, умацаваныя вертыкальна пастаўленымі каламі. Вакол гар. умацаванняў, якія мелі даўж. 2190,3 м, у 16—17 ст. узнікаюць слабоды.

Першапачаткова пасад займаў тэрыторыю ў падножжа гарадзішча ў паўн.-ўсх. напрамку ўздоўж сучаснай вул. Ленінскай да р. Страшэўка, абмяжоўваючыся р. Дняпро з аднаго боку і ўчасткам сучаснай плошчы і забудовы ўздоўж яе — з другой. У ніжнім пласце раскопаў выяўлены матэрыялы 12—13 ст. (кераміка, шыферныя прасліцы, шкляныя бранзалеты, пацеркі). Паблізу гарадзішча, за рвом, які аддзяляў яго ад пасада, у раскопе і траншэях выяўлены стараж. пахаванні, арыентаваныя галавой на З, а таксама нацельны бронзавы крыж, маркіраваныя гар. прыходскія могілкі. У верхніх пластах раскопаў выяўлены развалы печаў эпохі позняга сярэднявякоўя (адна з іх з гербавай кафляй князёў Радзівілаў), фр-т мураванага падмурка пабудовы і значная колькасць глінянага і шклянога посуду 16—17 ст. Цэнтр. частка (раней умацаванае места) пасада ў межах сучаснай плошчы і вул. Ленінскай паміж рэкамі Сморкаўка і Страшэўка мае магутнасць адкладанняў да 2 м і больш, на асобных участках (могілкі) ад 0,6 да 1,4 м. Выяўлены драўляныя канструкцыі (зрубы, насцілы вулічных бруковак), а таксама фр-ты мураваных пабудоў, якія датуюцца 16—18 ст.

За межамі воднага бар'еру ў паўд.-зах. напрамку культ. пласт быў прасочаны па вул. Ленінскай да яе перакрыжавання з вул. Нікіцінскай. Напластаванні магутнасцю да 2 м зафіксаваны ў раёне вул. Дняпроўскай, якая перакрыжоўвае вул. Ленінскую за р. Сморкаўка. Тут на мацерыку знойдзены кераміка 14 ст. і драўляныя канструкцыі. Далей на З у раёне вул. 30-годдзя БССР магутнасць пласта склала 1,7 м і паблізу мацерыка выяўлена кераміка 18 ст. У паўд. напрамку культ. пласт магутнасцю 0,9—1,2 м прасочаны ад р. Страшэўка да безыменнага ручая, які абмяжоўвае прамысловую зону і старыя могілкі каля р. Дняпро. Ён утрымлівае кераміку 15—18 ст. На схілах Страшэўкі знойдзены чаранковы бранябойны наканечнік стралы, паліхромная кераміка і зялёнапаліўная кафля. Гэта тая частка неўмацаванага пасада, што была набліжана да сярэдневяковых умацаванняў места. Паўд.-ўсх. ўскраіна гіст. часткі Копысі была прасочана па культ. пласце ў траншэі па вул. К.Маркса. Найб. яго магутнасць да 2 м. Тут выяўлены каменнае ядро, познасярэдневяковая кераміка, разнастайныя жал. вырабы. Далей на У, дзе вул. К.Маркса пераходзіць у вул. Савецкую, культ. пласт сустракаецца на асобных участках. Адзін з іх, які мае магутнасць 0,7—0,9 м, даходзіў да вул. Школьнай. Другі ўчастак пачынаецца паблізу прамысловай зоны, дзе магутнасць пласта дасягае 1,4 м. Тут выяўлены познасярэдневяковая кераміка і шкло. Відаць, гэтыя ўчасткі былі заняты слабодамі.



***Копыская капліца**. 19 ст.*

На паўд.-зах. ускраіне Копысі ў 1991 Ю.А. Копцікам і В.Ф.Абрамовічам выяўлены аб'ект абарончага тыпу часоў Паўн. вайны 1700—21. Земляное збудаванне, якое прадстаўляе сабой артылерыйскі рэдут пач. 18 ст., мае выгляд няправільнай чатырохвугольнай пляцоўкі з даўж. бакоў 38, 35, 36, 32 м. Па краі пляцоўкі праходзіць вал шыр. 5 м і выш. да 1,8 м, звонку па перыметры знаходзіцца роў шыр. 2 м і глыб. да 1,5 м. Гэты рэдут уваходзіў у комплекс абарончых збудаванняў, што ўзводзіліся па загаду расійскага цара Пятра I на подступах да Копысі.

*Літ.*: Гл. да арт. *Копыская капліца*. *В.М.Ляўко.*

**КО́ПЫСЬ**, гарадскі пасёлак у Аршанскім р-не Віцебскай вобл., на левым беразе Дняпра. За 30 км на Пд ад Оршы.

Упершыню згадваецца ў Ніканаўскім летапісе пад 1059. Гарадзішча стараж. К. пад назвай Пятроўскі вал размешчана на левым беразе Дняпра, пры ўпадзенні ў яго невял. р. Сморкаўка. Даследавалі ў 1950 і 1962 Л.А.Міхайлоўскі, у 1968—69 Г.В.Штыхаў, у 1972 Э.М.Загарульскі, у 1980, 2003 В.М.Ляўко. Вывучана звыш 750 $м^2$ на пляцоўцы гарадзішча, дзе культ. пласт таўшч. 0,8—2,2 м. У выніку праведзеных даследаванняў атрымана інфармацыя аб храналогіі гарадзішча (замка), яго абаронных збудаваннях, культ. пласце, элементах планіроўкі і забудовы. У К. знойдзены вял. колькасць прылад працы, разнастайныя рэчы побыту, у т.л. жал. сякеры, нажы, нажніцы, замкі і ключы, крэсівы, рыбалоўныя кручкі, петлі ад куфраў, дужкі ад вядзёр, медарэзка, пісалы сяр. 13 ст.; сельскагасп. прылады — фр-ты жал. сярпоў, касы-гарбушы, каменныя жорны; вырабы з каляровых металаў — сплеценыя з дроцікаў бранзалеты, званочкі, зоркавая спражка, крутарогая лунніца, пярсцёнак са шчытком, фр-ты бронзавых бранзалетаў, падвеска (магчыма, колт), 2 падкованападобныя фібулы са спіральна загнутымі канцамі. Выяўлены таксама рагавыя абрэзкі (200 кавалкаў), цэлыя вырабы з косці

(абломак накладкі з цыркульным арнаментам, двухбаковыя грабяні, 2 касцяныя шахматныя фігуркі — ладдзя і пешка); знаходкі, звязаныя з вайсковай справай: абломак перакрыжавання шаблі, наканечнікі стрэл, цуглі з кольцамі, шпоры, палавіна бронзавага наверша булавы 12—13 ст. з пірамідальнымі шыпамі, прастора паміж якімі ўпрыгожана лініямі буйназярністага ўзору. Выяўлены шматлікія шкляныя бранзалеты, пацеркі, донцы, сценкі і венчыкі шкляных пасудзін. Сярод унікальных знаходак — бронзавыя нацельны абразок з выявай святых Барыса і Глеба ў поўны рост (адносіцца да кіеўскай іканаграфіі) і ліцейная форма для абразка архангела Міхаіла. Да прывазных вырабаў належаць фр-ты чырвонагліняных амфар. У ліку пазнейшых матэрыялаў вылучаюцца абрамленні пячнога вусця і кафля 15—18 ст., вытворчасцю якой славілася К., фр-т шклянога кубка з гербам К.Астрожскага, люлькі і інш.

*Літ.*: Міхайлоўскі Л. Пятроўскі вал // Беларусь. 1951. № 7; Загорульский Э.М. Открытия в Копыси // Неман. 1973. № 1; Яго ж. Раскопки в Копыси // АО 1972. М., 1973; Штыхов Г.В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). Минск, 1978; Левко О.Н. Исследования в северо-восточной Белоруссии // АО 1980. М., 1981; Яе ж. Аршанскае Падняпроўе пад уладай Глеба Менскага // Памяць: Орша. Аршанскі р-н. Мінск, 1999. Кн. 1; Яе ж. Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси. Мінск, 2004. *В.М.Ляўко.*

**КО́САЎСКІ СЯДЗІ́БНЫ ДОМ КАСЦЮ́ШКАЎ**, помнік архітэктуры. Знаходзіцца за 2 км на ПнЗ ад г. Косава Івацэвіцкага р-на Брэсцкай вобл. ва ўр. Мерачоўшчына. Аднапавярховы драўляны будынак меў высокі 2-ярусны дах. У цэнтры гал. фасада знаходзіўся слупавы ганак. У 1746 тут нарадзіўся кіраўнік паўстання 1794 генерал Т.Касцюшка. Дом згарэў у 1944. З мэтай яго адбудовы ў 2003 на месцы помніка В.Е.Собаль правеў археолага-архіт. раскопкі. Таўшч. культ. пласта 0,4—1 м. Дом быў пабудаваны ў 2-й пал. 17 ст. Прамавугольны ў плане, даўж. 17,5 м, меў каменны без рошчыны падмурак таўшч. 0,7—0,8 м. Захаваліся міжпакаёвыя перагародкі і каменны апечак у адным з пакояў. Дах будынка быў пакрыты чырвонай пляскатай керамічнай дахоўкай (яе кавалкі знойдзены пры раскопках). У 1857 дом быў істотна перабудаваны па праекце архіт. М.Астрамецкага. Драўляны прамавугольны ў плане дом памерамі 19,3 × 13,2 м быў пастаўлены на стары, узмоцнены кавалкамі цэглы і вапнавай рошчынай падмурак, выш. якога складала 0,4—0,5 м, таўшч. — 0,6 м. Цаглянымі сценамі-перагародкамі таўшч. 0,3—0,5 м дом быў падзелены на 8 пакояў. У кожнай палавіне пабудовы знаходзілася па 3 пакоі анфіладнага тыпу пл. 11—25 м². У цэнтр. часткі дома знаходзіліся прыхожая (15 м²) і вял. зала (32 м²). Уваход ва ўсе пакоі быў праз прыхожую. Дом меў драўляную падлогу. Кожная яго палавіна ацяплялася 2 кафельнымі печамі з агульным комінам. Цагляныя печы памерамі 2,2 × 1,9; 2,2 × 1,3; 2 × 1,8 м стаялі на каменных падушках; за час існавання дома на іх 4 разы перакладвалася кафля. Пад падлогай залы знаходзіцца цагляны падвал памерамі 5,5 × 5,7 м з земляной падлогай, перакрыты крыжовым скляпеннем выш. 2,3 м. Яго сцены абапіраюцца на падмурак з часанага каменю выш. 0,65 м. Падвал падзяляецца на 2 памяшканні папярочнай перагародкай таўшч. 0,6 м, у якой зроблены праход шыр. 1,4 м. Сцены падвала маюць 3 нішы памерамі 1,2 × 0,85 м, заглыбленыя на 0,4—0,5 м. З тыльнага боку дома расчышчана цагляная муроўка 2 ганкаў. Адзін з іх (памеры 2,8 × 1,5 м) вёў у залу, другі (2,1 × 1,8 м)— на кухню, якая месцілася у правай палавіне пабудовы. Вакол дома зафіксавана выбрукоўка з дробных камянёў шыр. 1,4 м. На гал. фасадзе меўся ганак памерамі 4,85 × 4 м.

Калекцыя прадметаў матэрыяльнай культуры 17—20 ст., сабраная пры раскопках, налічвае больш за 200 адз. цэлых і фрагментарных вырабаў. Знойдзены: гліняны і фаянсавы, а таксама шкляны посуд (бутэлькі, кварты, келіхі, стопкі, шклянкі, аптэчныя флаконы і кавалкі аконнага шкла), медныя бразготкі для конскай вупражы і форменны гузік з выявай аленя, жал. паясная спражка, 2 манеты, каваныя цвікі, дзвярныя ручкі і клямкі, кавалкі пячных каласнікоў і інш. У 2006 сядзібны дом адноўлены. *В.Е.Собаль.*

**КО́САЎШЧЫНА**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Косаўшчына Лідскага р-на Гродзенскай вобл. За 1,5 км на З ад вёскі. Захавалася 13 насыпаў дыям. 6—14 м, выш. 0,7—1 м. Каля падножжа асобных курганоў прасочваюцца аплыўшыя раўкі, месцамі каменныя вымасткі на паверхні насыпаў. Усе курганы абкладзены камянямі. Адкрыла ў 1955 Ф.Д.Гурэвіч. У 1974—76 Я.Г.Зваруга і В.С.Вяргей даследавалі 7 курганоў. У 3 выяўлены вянкі з камянёў рознай велічыні, складзеныя ў 2—3 ярусы. Насыпы 2 іншых перак-



*Форма для ліцця абразка «Архангел Міхаіл» і нацельны крыж 14—18 ст. з* ***Копысі.***



*В.І.Кошман.*

рыты зверху каменнымі вымасткамі. Пахавальны абрад — трупаспаленне. У 5 выпадках рытуальныя вогнішчы прасочваліся на гарызонце па ўсёй плошчы курганоў (у насыпах з каменнымі вянкамі яны выходзілі за іх межы). Пахавальны інвентар: 4 наканечнікі коп'яў (2 ланцэтападобныя, ромбападобны і лаўралісты), вузкалязовая баявая сякера, шыла, спражка, пярсцёнкападобнае бронзавае скроневае кольца, абломкі пашкоджаных агнём бронзавых упрыгажэнняў. Сабрана значная колькасць ганчарнай арнаментаванай керамікі з разнастайнымі венчыкамі. Могільнік належаў балцкім плямёнам. Датуецца 10—11 ст.

*Літ.*: З в е р у г о Я.Г. Исследования в Верхнем Понеманье // АО 1974. М., 1975; Я г о ж. Раскопки курганов в Понеманье // АО 1975. М., 1976; В е р г е й В.С. Раскопки курганов у дер. Косовщина // АО 1976. М., 1977.

*Я.Г.Зваруга.*

**КО́СЦІ З НА́ДПІСАМІ І МАЛЮ́НКАМІ**. Косці жывёл і птушак з надпісамі і малюнкамі (гл. *Графіці*) вядомы з часоў палеаліту, найб. былі пашыраны ў час Кіеўскай Русі. Надпісы або малюнкі наносіліся на распараныя косці цвёрдымі і вострымі прадметамі. Знойдзены арнаментаваныя косці на стаянках *Юравічы* (Калінкавіцкі р-н) і *Юдзінава* (Бранская вобл., Расія). Пласціны і накладкі з раслінным і тэраталагічным арнаментам выяўлены ў Ваўкавыску, накладкі — у Мінску, Полацку, Тураве, Лукомлі (выявы льва). Больш за 100 абломкаў К. з н. і м. знойдзена на гарадзішчы *Маскаўцы* Браслаўскага р-на. Знакі падзяляюцца на асобныя літары, лігатуры, ідэаграмы, некаторыя маюць сувязь са скандынаўскім рунічным пісьмом (гл. *Руны*). *Л.У.Дучыц.*

**КО́ШМАН** Вадзім Іванавіч (н. 13.4.1975, в. Дзмітравічы Бярэзінскага р-на Мінскай вобл.), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (2003), дацэнт (2007). Скончыў Беларускі педагагічны ун-т імя М.Танка (1998). З 2001 навук. супрацоўнік ІГ НАН Беларусі. Даследуе сістэму рассялення, тапаграфічную і планіровачную структуру пасяленняў, матэрыяльную і духоўную культуру насельніцтва, эканамічныя і культ. сувязі бел. зямель у сярэдневяковы перыяд на падставе археал. і пісьмовых крыніц, праводзіць археал. даследаванні на помніках басейна р. Бярэзіна.

*Тв.*: Стан і перспектывы вывучэння сельскіх паселішчаў IX—XIII стст. на Беларусі // Wspólnota dziedzictwa Kulturowego Ziem Białorusi i Polski. Ośrodek Ochrony Dziedzictwa Archeologicznego. Warszawa, 2004; «Свіслацка-бярэзінскі мікрарэгіён» у X—XIII стст. // МАБ. 2006. № 12; Паселішчы міжрэчча Бярэзіны і Дняпра ў X—XIII стст. Мінск, 2008.

**КРА́КАЎСКІ АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ МУЗЕ́Й**. Створаны ў 1850 на базе некалькіх музеяў і прыватных калекцый. Каля 500 тыс. экспанатаў, у т.л. некалькі дзесяткаў тысяч археал. знаходак з Беларусі. Найб. частка з іх пастыпіла ў музей ад польскага вучонага З.*Глогера* (прылады працы эпохі бронзы і ранняга жал. веку). У дарэвалюцыйны час туды трапілі знаходкі В.*Шукевіча* з раскопак каля в. Салапяцішкі (Воранаўскі р-н): жал. зброя, нажы, крэсівы, спражкі, бронзавыя і сярэбраныя пярсцёнкі, скроневыя кольцы, шкляныя пацеркі і інш.; дзённік Ф.*Вярэнькі* з раскопак 36 курганоў каля в. Пуцілкавічы (Ушацкі р-н), археал. карта ваколіц в. Нача (Воранаўскі р-н), складзеная В.Шукевічам. Ёсць знаходкі з раскопак курганоў каля в. Янушкевічы (Лагойскі р-н): 2 бронзавыя бранзалеты з выявамі стылізаваных галоў жывёл на канцах, 3 вітыя бранзалеты з завязанымі канцамі, спіралепадобныя падвескі (ранняе сярэдневякоўе) і інш.

*Літ.*: П о б о л ь Л.Д. Древности Белоруссии в музеях Польши. Минск, 1979.

**КРАМАНЬЁНЦЫ**, н е а н т р а п ы, людзі сучаснага тыпу (Homo sapiens), якія паявіліся на Зямлі 50—40 тыс. гадоў таму назад. Назву атрымалі ад грота Кро-Маньён (Францыя), дзе ў 1868 французскі археолаг Э.Лартэ знайшоў 5 чалавечых шкілетаў разам з крамянёвымі прыладамі працы арыньякскага тыпу. Асн. рысы К.: прамы высокі лоб, высокае скляпенне і вял. ёмістасць чэрапа, шырокі твар, малая адлегласць паміж вачамі і высокі рост. Шматлікія знаходкі рэшткаў К. у Еўропе і за яе межамі сведчыць аб тым, што з самага ранняга перыяду існавання па марфалагічным тыпе падзяляліся на некалькі расавых варыянтаў. Чарапы людзей з грота Грымальдзі (Італія), якія жылі 30 тыс. гадоў таму назад, сумяшчалі ў сабе еўрапеоідныя і негроідныя рысы. Чарапы людзей са стаянкі Сунгір Уладзімірскай вобл., Расія (25 тыс. г. да н.э.), вызначаюцца як еўрапеоіднымі, так і манголоіднымі рысамі. Ад нашых сучаснікаў адрозніваюцца больш масіўным шкілетам.

*Літ.*: А л е к с е е в В.П. Палеоантропология земного шара и формирование человеческих рас: палеолит. М., 1978; Х а р и т о н о в В.М. Лекции по антропогенезу и археологии палеолита. М., 1987; Тегако Л.И., С а л и в о н И.И. Основы современной антропологии. Минск, 1989. *Л.І.Цягака.*

**КРАМЯНЕ́ЦКАЕ СВЯЦІ́ЛІШЧА**, помнік язычніцкага культу каля в. Крамянец Лагойскага р-на Мінскай вобл. За 0,6 км на ПнУ ад вёскі, у лесе, дзе размешчаны т.зв. Дажбогаў (Святы) камень. Яго даўж. 1,03 м, шыр. да 0,7 м, выш. 0,6 м. На амаль плоскай яго паверхні ёсць адпаліраваныя паглыбленні штучнага паходжання: 3 авальныя (даўж. ад 0,2 да 0,36 м, шыр. 0,15—0,2 м) і 2 круглыя талеркападобныя (дыям. каля 2 м). У 1986 Э.М.Зайкоўскі правёў вакол Дажбогава каменя археал. раскопкі (ўскрыта 19 м$^2$). У культ. пласце таўшч. ад 0,1 да 0,4 м знойдзены неапрацаваныя крэмені, невыразныя рэшткі жал. вырабаў, манеты розных часоў. Высветлена, што гэты камень знаходзіцца пасярод выбрукаванай меншымі камянямі прамавугольнай пляцоўкі памерамі 2,8 × 3 м, арыентаванай па магнітных полюсах. На З да пляцоўкі прымыкаў невял. выступ трапецападобнай формы, складзены з камянёў. Верагодна, што круглыя талеркападобныя паглыбленні на камені

рабіліся па асацыяцыі з формай Сонца ў гонар Дажбога. Раней паблізу каменя існаваў калодзеж, вада з якога лічылася святой.

*Літ.*: Бубенько Т.С., Зайковский Э.М., Поздняков В.С. Исследования Белорусской экспедиции // АО 1986. М., 1988. *Э.М.Зайкоўскі.*

**КРАНІЯЛО́ГІЯ** (грэч. kranion чэрап + logos навука), раздзел анатоміі чалавека і жывёл, які вывучае індывідуальныя і групавыя варыяцыі памераў, формы чэрапа і асобных яго частак. Вынікі краніялагічных даследаванняў шырока выкарыстоўваюцца ў антрапалогіі, таксама ў антрапагенезе — пры вызначэнні этапаў фізічнай эвалюцыі малпаў і чалавека, у расазнаўстве — для высвятлення шляхоў фарміравання расавых тыпаў, зменлівасці іх у часе і прасторы, у этнічнай антрапалогіі — для вызначэння генетычнай асновы фарміравання плямён і народаў пры вырашэнні пытанняў іх этнагенезу.

Для краніялагічных даследаванняў выкарыстоўваюцца метады вымярэнняў спец. інструментамі (кранііметрыя), апісанне структурных асаблівасцей па адпаведных шкалах (краніяскапія), вычэрчванне формы чэрапа ў розных плоскасцях пры дапамозе спец. прылад (краніяграфія), а таксама вывучэнне неметрычных прыкмет. У аснову праграмы сучасных краніялагічных даследаванняў пакладзена методыка нямецкага анатама Р.Марціна. Рэканструкцыю твараў па чэрапе антраполагі праводзяць паводле методыкі М.М.Герасімава. Краніялагічнае вывучэнне стараж. ўсх.-слав. насельніцтва ў сувязі з яго этнічнай гісторыяй пачаў А.П.Багданаў, працягвалі В.В.Бунак, Г.Ф.Дэбец, Т.А.Трафімава, Т.І.Аляксеева, В.П.Аляксееў і інш. І.У.Чаквін зрабіў больш за 20 антрапал. рэканструкцый твару і фізічнага тыпу жыхароў бел. зямель 10— 18 ст. паводле краніялагічных матэрыялаў са стараж. курганоў і могіль-



*«Дажбогавы камень» з* ***Крамянецкага свяцілішча****.*

нікаў крывічоў, радзімічаў, дрыгавічоў, балтаў. Калекцыі краніялагічных матэрыялаў са старaж. пахаванняў на тэр. Беларусі пачалі ствараца ў 2-й пал. 19 ст. Частка іх захавалася ў НДІ і Музеі антрапалогіі пры Маскоўскім ун-це (160 чарапоў), у Вільнюскім (67) і Кракаўскім Ягелонскім (81) ун-тах.

У 1920-я г. матэрыялы з раскопак А.М. Ляўданскага і І.А.Сербава ляглі ў аснову першай краніялагічнай калекцыі Бел. АН, якая налічвала больш за 100 чарапоў з курганных пахаванняў 10—13 ст. полацкіх крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў і ўпершыню даследавана ў 1932 Г.Ф. Дэбецам. У Вял. Айч. вайну яна была знішчана. У пасляваенныя гады ў выніку раскопак курганных і бескурганных могільнікаў на тэр. Беларусі супрацоўнікамі аддзелаў археалогіі ІГ НАН Беларусі, БДУ і Гродзенскага ун-та і шэрага музеяў краніялагічная калекцыя адноўлена і дазваляе характарызаваць фізічны тып насельніцтва Беларусі розных гіст. перыядаў. Найб. калекцыя (каля 600 чарапоў) захоўваецца ў ІГ НАН Беларусі, адзінкавыя экземпляры — у абл. краязнаўчых музеях, БДУ, Гродзенскім ун-це імя Ф.Скарыны. Старaж. насельніцтва бронзавага веку прадстаўляюць 2 мужчынскія чарапы з раскопак М.М.Чарняўскага (г.п. Краснасельскі Ваўкавыскага р-на, культура шнуравой керамікі, сяр. 2-га тыс. да н.э.) і А.Г.Калечыц (пас. Пралетарскі Веткаўскага р-на, сярэднедняпроўская культура, 1-я пал. 2-га тыс. н.э.). Да перыяду 10—13 ст. належаць 250 чарапоў з курганных пахаванняў у Заслаўі (знайшлі Г.В.Штыхаў, Ю.А.Заяц), Навагрудку (Ф.Д.Гурэвіч, К.В.Паўлава), вёсках Дарахі Гарадоцкага, Домжарыцы Лепельскага (Г.В.Штыхаў), Перавоз Глыбоцкага (Л.У.Дучыц), Ізбішча Лагойскага (Г.В.Штыхаў, В.У.Казей), Малыя Зводы Брэсцкага, Войская, Хацінава, Кусцічы Камянецкага (Т.М.Каробушкіна), Вензаўшчына Шчучынскага (А.В.Квяткоўская) р-наў. Да перыяду 14—17 ст. належаць каля 190 чарапоў. Самыя вял. па колькасці серыі выяўлены ў могільніках каля вёсак Горы Горацкага (Ш.І.Бекцінееў), Хвезевічы Смаргонскага (Я.Г.Звяруга), каля Слуцка (Л.У.Калядзінскі), з каменных магіл каля вёсак Клепачы і Навасёлкі Зэльвенскага, Куклі Воранаўскага, Мінеўшчына Ваўкавыскага (А.В. Квяткоўская) р-наў. Калекцыя з вясковых могілак Беларусі 18—19 ст. (І.І.Салівон) складае каля 200 чарапоў. Краніялагічныя даследаванні ў сувязі з пытаннямі этнагенезу вядуць супрацоўнікі Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі І.І.Салівон, А.І.Кушнір, І.У.Чаквін. *А.І.Кушнір.*

**КРАПІЎНА**, археалагічны помнік — курганны могільнік 12—16 ст. каля в. Крапіўна Аршанскага р-на Віцебскай вобл. На левым беразе р. Крапівенка (цяпер яр), за 0,5 км ад яе вусця пры ўпадзенні ў Дняпро. 22 паўсферычныя насыпы выш. 0,5—2 м, дыям. 4—12 м. Упершыню згадваюцца ў 1926 Д.Васілеўскім, даследавала 3 курганы ў 1990 В.М.Ляўко. Выяўлены 3 адзіночныя і 1 парнае (жанчына з дзіцем) пахаванні. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў падкурганных ямах. У адным з курганоў выяўлены рэшткі абгарэлага драўлянага насцілу. Сярод знаходак фр-ты гаршкоў 12—16 ст., дзындра (шлак) каляровага металу. Паблізу могільніка ўздоўж Дняпра фіксуецца паласа (шыр. да 0,1 км) культ. пласта магутнасцю да 0,6—0,7 м, дзе знойдзена познасярэдневяковая ганчарная кераміка. Магчыма, тут размяшчалася селішча, адпаведнае па часе могільніку. У больш познія часы могільнік выконваў функцыю рытуальнага аб'екта: тут адзначаліся дні памінання памерлых.

*Літ.*: В а с і л е ў с к і Д. З матэрыялаў да археалагічнай карты Аршанскай акругі // Наш край. 1926. № 6—7; К а с п я р о в і ч М. Валатоўкі і звязаныя з імі перажыткі: (першапачатковыя вынікі даследавання) // Там жа. *В.М.Ляўко.*

**КРА́СНАЕ**, археалагічны помнік — гарадзішча за 0,5 км на ПдУ ад в. Краснае Маладзечанскага р-на Мінскай вобл., на мысе левага карэннага берага р. Уша. Пляцоўка няправільнай чатырохвугольнай формы памерамі 45 × 25—30 м, выш. над поймай ракі 7—8 м. Абследаваў В.І.Шадыра, у 1994 А.М.Мядзведзеў і В.У.Шаблюк даследавалі 24 $м^2$. Культ. пласт 0,98 м. Выяўлена каменная пляцоўка на краі гарадзішча, вял. колькасць жал. шлаку. У мацерыку зафіксаваны ямы ад 6 слупоў двайной абарончай сцяны. Знойдзена 19 індывідуальных знаходак з каменю, косці, гліны, бронзы і жалеза, 2005 фр-таў керамікі, 58 кавалкаў шлаку, 15 — глінянай абмазкі, 78 костак жывёл і 2 крэмені. Асн. частка знаходак (каменны тачыльны брусок, прасліц з пясчаніку, гліняныя праслiцы, абломак бронзавага бранзалета, жал. серп і кольца, ляпная кераміка) належыць *штрыхаванай керамікі культуры*, датуецца 2—5 ст. У верхніх пластах выяўлены кругавы посуд 16 ст., жал. наканечнік стралы, глінянае грузіла.

*Літ.*: М я д з в е д з е ў А.М. Раскопкі гарадзішча каля в. Краснае // МАБ. 2003. № 7. *А.М.Мядзведзеў.*

**КРАСНАСЕ́ЛЛЕ**, археалагічныя помнікі — паселішчы каля в. Краснаселле Хойніцкага р-на Гомельскай вобл.

П а с е л і ш ч а-1 эпох мезаліту і неаліту за 3 км на ПнЗ ад вёскі, на ўсх. схіле пясчанай грады. Выявіў у 1961 і даследаваў у 1962, 1972 У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт таўшч. 0,3 м захаваўся месцамі. Знойдзены крамянёвыя вастры, разцы, скрабкі, нажы, мікраліты, наканечнікі стрэл, фр-ты глінянага ляпнога посуду з грабеньчата-накольчатым арнаментам.

П а с е л і ш ч а-2 за 2 км на Пн ад вёскі, з паўн.-ўсх. боку пагорка. Выявіў у 1962 У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт моцна пашкоджаны. Знойдзены посуд *днепра-данецкай культуры.* Раскопкі не праводзіліся.

П а с е л і ш ч а-3 за 0,5—1 км на ПнУ ад цэнтра вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе. Выявіў у 1962, абследаваў у 1972 і 1986 У.Ф.Ісаенка. Культ.

пласт захаваўся толькі па краях пляцоўкі, усярэдзіне перакапаны і разбураны. Раскопкі не праводзіліся.

П а с е л і ш ч а-4 днепра-данецкай культуры і палескай групы *шнуравой керамікі культуры.* За 1,5 км на У ад вёскі, ва ўр. Царкавішча, на пясчаным узгорку. Выявіла і даследавала ў 1976 Т.М. Каробушкіна, абследаваў у 1980 У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт захаваўся часткова. На пляцоўцы памерамі 50 × 30 м сабраны фр-ты гліняных ляпных гаршкоў і крамянёвыя прылады працы эпохі неаліту і бронзавага веку.

П а с е л і ш ч а-5 за 2,5 км на У ад вёскі, на паўд. схіле пясчанага пагорка 1-й надпоймавай тэрасы. Узровень пляцоўкі над поймай 3—4 м. Выявіў і даследаваў у 1980 У.Ф.Ісаенка. Культ. пласт да 0,5 м. На пл. 2 га выяўлены 4—5 агнішчаў, фр-ты гліняных ляпных вастрадонных гаршкоў днепра-данецкай культуры, больш за 200 крамянёвых прылад працы (наканечнікі стрэл, скрабкі, скоблі, нажы), а таксама кераміка бронзавага і жал. вякоў.

*У.Ф.Ісаенка, Т.М.Каробушкіна.*

**КРАСНАСЕ́ЛЬСКІ АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ КО́МПЛЕКС**, група разначасовых археалагічных помнікаў матэрыяльнай культуры ад эпохі мезаліту да позняга сярэдневякоўя каля г.п. Краснасельскі Ваўкавыскага р-на Гродзенскай вобл. Уключае каля 10 стаянак, крэменездабыўныя шахты, крэменеапрацоўчыя майстэрні, селішча, могільнікі, феад. сядзібы, культавыя збудаванні.

Крэмень са стараж. часоў прыцягваў увагу як сыравіна для вырабу прылад працы. У наваколлі г.п. Краснасельскі шмат адорвеняў крэйды, якія ўтрымліваюць у сабе крамянёвыя канкрэцыі. Таму тут выяўлена шмат помнікаў, звязаных са здабычай і апрацоўкай крэменю. Першымі ў 1920 выяўлены і пачалі даследавацца крэменездабыўныя шахты. У 1958 недалёка ад іх знойдзена майстэрня па апрацоўцы крэменю. У 1970—80-я г. археал. аб'екты каля г.п. Краснасельскі прыцягнулі ўвагу многіх вучоных. У розны час выявілі і вывучылі шэраг каштоўных помнікаў гэтага комплексу Б.Рыдзеўскі, З.Шміт, Н.М.Гурына, М.М.Чарняўскі, М.У.Вераціла, А.М.Гутоўскі, В.Я.Кудрашоў, В.Л.Ліпніцкая, А.М.Мядзведзеў, А.В.Квяткоўская. З дапамогай археал. даследаванняў каля г.п. Краснасельскі ўстаноўлена, што першапачатковае засяленне яго наваколляў датуецца раннім мезалітам. Пра гэта сведчаць знойдзеныя тут крамянёвыя наканечнікі стрэл, аналагічныя вырабам арэнсбургскай культуры (9-е тыс. да н.э.). Найб. колькасць выяўленых каля пасёлка помнікаў адносіцца да эпох неаліту і бронзы. Унікальнымі з'яўляюцца крэменездабыўныя шахты і майстэрні, якія існавалі 5—3 тыс. гадоў таму назад. У адной з шахтаў знойдзена пахаванне *шнуравой керамікі культуры.* Непадалёку ад шахтаў выяўлены і даследаваны могільнік *шарападобных амфар культуры.* На стаянках па берагах р. Рось апрача шматлікіх рэштак крэменеапрацоўкі і крамянёвых прылад працы ёсць знаходкі керамікі позняга этапу *нёманскай культуры* і *тшцінецкай культуры.* На стаянках-4 і 5 знойдзена шмат фр-таў керамікі і некалькі бронзавых фібул 1 ст. За 0,5 км на У ад пасёлка на селішчы ранняга сярэдневякоўя выяўлены асновы 2 жытлаў, верагодна, зрубавай канструкцыі, з рэшткамі печаў-каменак і гасп. яма. На селішчы каля в. Навасёлкі (прымыкае да г.п. Краснасельскі) раскапаны падмурак драўлянай пабудовы з кафлянай печчу. Тут жа выяўлены фр-ты кухоннай, сталовай і буд. керамікі, шкляны посуд, манеты Рэчы Паспалітай 1760—90-х г. У комплекс уключаны і сярэдневяковы могільнік ва ўр. Мінеўшчына.

С т а я н к а-4 эпохі неаліту і бронзавага веку за 0,5 км на Пд ад пасёлка, на левым беразе р. Рось, каля ўр. Піскаўшчына. Выявіў і даследаваў 295 $м^2$ у 1984 В.Я.Кудрашоў. Культ. пласт 0,2—0,3 м. Выяўлены рэшткі 7 вогнішчаў дыям. 0,5—0,8 м, глыб. 0,2 м, запоўненых вуголлем, камянямі, керамічнымі чарапкамі, 3 гасп. і падоўжана-авальная, магчыма, магільная ямы. Знойдзена каля 8,5 тыс. расшчэпленых крэменяў і каля 1 тыс. фр-таў керамікі, разнастайныя сякучыя прылады (у т.л. авальныя і трапецападобныя сякеры, цёслы з жалабатым лязом, долатападобныя прылады), разцы, скрабкі. Знойдзена 320 нуклеусаў і іх загатовак, сярод якіх прызматычныя (адна- і двухпляцовачныя), тарцовыя, ладдзяпадобныя, пірамідальныя, крамянёвыя адбойнікі са спецыяльна апрацаванай ручкай. Крамянёвы інвентар датуецца, пэўна, часам існавання крэменездабыўных шахтаў — 3100—1240 да н.э. Сустракаецца гліняны ляпны посуд з раслліннымі дамешкамі і жарствой у цесце, вонкавая паверхня якога старанна загладжана або ангабавана. Захаваліся арнаментаваныя венчыкі посуду нёманскай культуры эпохі неаліту — пач. бронзы. Ляпны посуд ранняга жал. веку выраблены з гліны з дамешкай жарствы. Знойдзены кавалак венчыка рабрыстага гаршка са штрыхаванай паверхняй, кавалак сценкі чорнаглянцаванага посуду і кераміка з расчосамі на вонкавай паверхні. З улікам знойдзенай тут раней бронзавай фібулы з трохвугольным шчытком гэты посуд можна датаваць 2-й пал. 1 — пач. 2 ст. і аднесці да позняй зарубінецкай культуры. Выяўлены фр-ты ганчарнага посуду Стараж. Русі і позняга сярэдневякоўя.

С т а я н к а-5 эпохі неаліту і бронзавага веку на выступе 2-й надпоймавай тэрасы правага берага р. Рось, на З ад мелавой лінзы «Рэйста». Выявілі і даследуюць В.Л.Ліпніцкая, В.Я.Кудрашоў. Пл. каля 1 га, ускрыта каля 700 $м^2$. У зах. і паўд. частках раскопу выяўлена па 20 вогнішчаў і ям рознага прызначэння, да якіх прымеркавана большасць крамянёвых знаходак. Ступень насычанасці культ. пласта ад 20 да 1440 адз. на 1 $м^2$. У 9 скопішчах сканцэнтравана да 40% крэменю. Тут праведзены даволі рэдкія ў археал. практыцы рэмантажныя работы: да аднапляцовачнага нуклеуса ўдалося падабраць 5 адшчэпаў, якія накладаліся

на яго; паслядоўна склеены 3, 10 і двойчы па 2 адшчэпы. Выяўлена звыш 20,2 тыс. знаходак, у т.л. 434 ядрышчы (пераважна аднапляцовачныя) і 423 прылады працы, сярод іх крамянёвыя наканечнікі, пласціны і мікрапласціны, вастрыі, праколы, трапецыі, разцы, скрабкі, адна- і двухлязовыя скрэблы, абушковыя часткі сякучых прылад, паўфабрыкаты, адшчэпы і пласціны, адбойнікі і рэтушоры.

С т а я н к а-6 арэнсбургскай культуры фінальнага палеаліту за 0,5 км ад пасёлка, на правым беразе р. Рось, ва ўр. Сосны. Выявіў мясц. краязнавец М.У.Вераціла, даследавалі ў 1982 А.М.Гутоўскі (24 $м^2$), у 1986 М.М.Чарняўскі, А.М.Мядзведзеў (8 $м^2$), В.Я.Кудрашоў, В.Л.Ліпніцкая (48 $м^2$). Культ. пласт 0,1 м. Выяўлены рэшткі паўзямлянкі і трох слупавых ям 9—12 ст., 3 рабочыя месцы майстра (кожнае пл. 1—2 $м^2$). Знойдзена 4886 расшчэпленых крэменяў (у т.л. 1256 сколаў, 1220 адшчэпаў, 272 пласціны, 169 нуклеусаў прызматычных, тарцовых, пірамідальных і поліэдрычных; 14 скрабкоў, разцы, 4 тронкавыя наканечнікі стрэл на пласцінах мясц. крэменю), што дае падставы датаваць помнік фінальным палеалітам і аднесці яго да арэнсбургскай культуры, распаўсюджанай у Еўропе 10—12 тыс. гадоў таму назад. Выяўлены 5 фр-таў ляпнога посуду бронзавага і ранняга жал. вякоў, 53 — ганчарнага 9—12 і 18 ст.

С т а я н к а-7 эпохі неаліту і бронзавага веку на астанцы 2-й надпоймавай тэрасы р. Рось, на У ад чыг. лініі Мачуліна—Рось. Памеры 220 × 105 м. Выявіў у 1986 В.Я.Кудрашоў, да 1988 В.Л.Ліпніцкая даследавала 544 $м^2$. Знойдзены 3 скопішчы крэменяў. У адным з іх, якое з'ўлялася рабочым месцам майстра, было 625 крамянёвых артэфактаў. Рэмантажныя работы дазволілі са 144 кавалкаў сабраць каля 30 складанак, у т.л. 1 канкрэцыю, 2 нуклеусы і 32 адшчэпы. Выяўлены 12 ям розных памераў і запаўненняў, 9 вогнішчаў, адно з якіх выкладзена камянямі. Культ. пласт 0,8 м у зах. і паўд. частках раскопаў. Усяго знойдзена больш за 4,2 тыс. крамянёвых рэчаў, у т.л. 18 нуклеусаў, частка якіх прыстасавана пад скрабкі, рэтушор, цясла. Сярод прылад працы наканечнікі, мікрапласцінкі, скрабкі канцавыя, разцы круглаватыя, скоблі на адшчэпах, скрэблы, вастрыё на мікрапласціны, загатоўкі і абломак шліфаванай свідраванай сякеры, сячэнні пласцін з рэтушшу па краях, нажы, пракруткі, праколкі, сколы, адшчэпы. Блізкае размяшчэнне ад крэменездабыўных шахтаў, наяўнасць рабочага месца майстра, шматлікіх крамянёвых адыходаў дазваляюць аднесці гэта паселішча да стаянак-майстэрняў.

С е л і ш ч а *штрыхаванай керамікі культуры* і *зарубінецкай культуры* ў паўн. частцы стаянкі-5. Выявіў і даследаваў у 1988 А.М.Мядзведзеў. У зах. частцы раскопу на пл. 68 $м^2$ знойдзены скопішчы (да 200 абломкаў на 1 $м^2$) дробных абпаленых касцей, вугалля, фр-ты ляпной керамікі (гладкасценнай, штрыхаванай, з расчосамі, шурпатай і глянцаванай), шкляная пацерка з хваліста-папярочным лінейным арнаментам, 2 фібулы зарубінецкага тыпу з трохвугольным шчытком, абломкі дыскападобных патэльняў, выраблены з гліны з дамешкамі саломы і пацярухі. Трапляюцца чарапкі ганчарнай керамікі лука-райкавецкай культуры 9—10 ст. Селішча датуецца 1 ст.

К р э м е н е з д а б ы ў н ы я ш а х т ы эпохі неаліту і бронзавага веку на ПдЗ ад пасёлка, на беразе р. Рось. Выявіў у 1920 Б.Рыдзеўскі, даследавалі ў 1920—24 З.Шміт, у 1961—67 Н.М.Гурына, у 1962 М.М.Чарняўскі. На крэйдавых адорвенях выяўлены сотні шахтавых выпрацовак, якія потым былі знішчаны кар'ерамі. На ўсх. канцы лінзы-адорвеня № 2а захаваліся рэшткі такіх шахтаў, дзе створаны археал. запаведнік, больш за 80 з іх пакуль не даследаваны. У канцы неаліту мясц. насельніцтва ад паверхневага збору крамянёвай сыравіны перайшло да яго здабычы ў крэйдавай тоўшчы траншэйным, а потым і шахтавым спосабамі. Шахты ўяўлялі сабой калодзежападобныя паглыбленні дыям. да 1,5 м, глыб. 2,5—3 м. У месцах праходкі крэменяносных пластоў ад вертыкальнага ствала адыходзілі падбоі, часам суседнія выпрацоўкі злучаліся штрэкамі. На некаторых крэйдавых участках, дзе пласты крэменю былі моцна нахіленыя або арыентаваныя вертыкальна, выпрацоўкі маюць шчылінападобную форму. Здабыча крамянёвай сыравіны вялася разнастайнымі гарняцкімі інструментамі, зробленымі пераважна з рога аленя — кайламі, капалкамі, малаткамі-даўбешкамі. Некаторыя інструменты з дапамогай свідраваных адтулін насаджваліся на дзяржанні. Сценкі выпрацовак захавалі шматлікія сляды шахцёрскай працы. Са здабытай крамянёвай сыравіны выраблялі сякеры, якія распаўсюджваліся ў Панямонні і прызначаліся пераважна для высечкі лесу ва ўмовах ляднага земляробства. У адной шахце знойдзена пахаванне *шнуравой керамікі культуры.* У ім выяўлены пласкадонны гаршчок з аздобай тыпу наразной ялінкі і тоўстая іголка для сшывання скур. Здабычу крэменю шахтавым спосабам каля Красносельскага пачало насельніцтва культуры шарападобных амфар. Працягвалі тут горназдабыўную справу носьбіты культур шнуравой керамікі і тшцінецкай. Помнік датуецца 3—1-м тыс. да н.э.

К р э м е н е а п р а ц о ў ч а я м а й с т э р н я бронзавага веку за 1 км на Пд ад пасёлка, на левым беразе р. Рось, ва ўр. Тры Сасны. Выявіла ў 1958 Н.М.Гурына, даследавала ў 1978 і 1983 В.Л.Ліпніцкая, 2 раскопы пл. 84 і 30 $м^2$ былі закладзены на З ад аўтадарогі Ваўкавыск— Красносельскі. Культ. пласт не мае выразных граніц. Знаходкі выяўлены на глыб. 0,1—0,5 м. У першым раскопе знойдзена 2499 крэменяў (з іх 2033 адшчэпы), 130 пласцін, 16 нуклеусаў, у другім — 5 нуклеусаў, 22 сколы, 387 адшчэпаў, 798 лусак, 69 пласцін. Сярод інш. знаходак — масіўная праколка, разец, адбойнік, 8 фр-таў керамікі і 84 кавалкі абгарэлага крэменю. Блізкае размяшчэнне помніка ад крэменездабыўных шахтаў дазваляе аднесці яго да майстэрняў па апрацоўцы крэменю. Помнік датуецца 3—2-м тыс. да н.э.

Могільнік культуры шарападобных амфар за 1,5 км на ПдЗ ад пасёлка, на зах. краі крэйдавай лінзы № 2а. Выявіў у 1971 М.У.Вераціла, даследаваў М.М.Чарняўскі. Раскапаны 4 магільныя ямы, у якіх знойдзены рэшткі пахавання чалавека і свойскіх жывёл, гліняныя гаршкі, арнаментаваныя насечкамі, пальцавымі ўціскannямі, адбіткамі лінейнага штампа, амфара са шнуравым арнаментам, касцяныя наканечнікі стрэл, бурштын, апрацаваныя крэмені.

*Літ.*: Чарняўскі М.М. Могільнік на Росі // ПГКБ. 1972. № 4; Яго ж. Могільнікі культуры шарападобных амфар на Гродзеншчыне // З глыбі вякоў. Наш край: гіст.-культурал. зб. Мінск, 1992; Гурина Н.Н. Древние кремнедобывающие шахты на территории СССР. Ленинград, 1976; Чарняўскі М.М., Кудрашоў В.Я., Ліпніцкая В.Л. Старажытныя шахцёры на Росі. Мінск, 1996.

*В.Я.Кудрашоў, В.Л.Ліпніцкая, А.М.Мядзведзеў, М.М.Чарняўскі.*

**КРА́СНАЎКА**, археалагічныя помнікі — паселішчы і курган каля в. Краснаўка Светлагорскага р-на Гомельскай вобл.

Паселішча-1 *днепра-дзяснінскай культуры* за 0,25 км на ПдУ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна, на 5 м вышэй узроўню вады. Выявіў у 1974 і даследаваў у 1977 У.П.Ксяндзоў. Культ. пласт разбураны ветравой эрозіяй і другасным засяленнем у раннім жал. веку. У раскопе пл. 90 $м^2$ на глыб. 0,4 м у пласце дробназярністага пяску выяўлена 312 вырабаў з крэменю. Знойдзены: наканечнік стралы, скрабкі з пласцін і адшчэпаў, праколка, скоблі, долатападобныя прылады, нуклеусы, адшчэпы, пласціны. Датуецца 6—5-м тыс. да н.э.

Паселішча-2 *яніславіцкай культуры* за 0,1 км на ПнЗ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага Бярэзіны, на 3,5 м вышэй узроўню вады. Выявіў і даследаваў у 1981 У.П.Ксяндзоў. Культ. пласт разбураны ветравой эрозіяй і другасным засяленнем у бронзавым веку. На глыб. 0,1—0,4 м выяўлены прылады працы з крэйдавага крэменю, авальныя скрабкі з адшчэпаў, бакавыя і сярэдзінныя разцы, вастрыі, скоблі, укладышы з пласцін, рэтушоры, рэтушаваныя пласціны і адшчэпы, нуклеусы. Датуецца 6—5 тыс. да н.э.

Курган за 1,5 км на ПдЗ ад вёскі. Выш. 1,2 м, дыям. 10 м. Абследавала ў 1983 Н.М.Дубіцкая. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.*: Ксяндзоў У. Новыя помнікі позняга мезаліту ўсходняй Беларусі // ВАНБ. 1979. № 6; Яго ж. Поздний мезолит белорусского правобережья Днепра // СА. 1986. №1; Яго ж. Палеолит и мезолит Белорусского Поднепровья. Минск, 1988. *У.П.Ксяндзоў.*

**КРА́СНЫ БОР**, археалагічныя помнікі — селішча і курганны могільнік каля в. Красны Бор Лагойскага р-на Мінскай вобл.

Селішча позняга этапу *зарубінецкай культуры* і ранняга феадалізму. У межах вёскі, часткова занята пабудовамі. Адкрыў у 1962 і даследаваў у 1963 Л.Д.Побаль. Пл. каля 2 га, даследавана 40 $м^2$ у цэнтр. частцы помніка. Культ. пласт 0,4—0,5 м. Знойдзены фр-ты гладкасценнага посуду, у т.л. з расчосамі, сопла ад горна, ганчарны посуд перыяду Стараж. Русі. З селішчам звязваюць знойдзеныя ў сяр. 19 ст. 5 сярэбраных паясоў з разнастайнымі эмалямі.

Курганны могільнік за некалькі соцень метраў на ПнЗ ад вёскі, ва ўр. Курганне. Да 1962 захавалася 26 насыпаў, адзін з якіх даследаваў Л.Д.Побаль (1962). Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на У без рэчаў.

*Літ.*: Побольь Л.Д. Археологические памятники Белоруссии. Железный век. Минск, 1983; Яго ж. Skarb metalowych pasów z okresu rzymskiego odkryty w miejscowości Krasnyj Bor (BSSR) // Wiadomości archeologiczne. Warszawa, 1972. T. 37, z. 2.

**«КРА́ТКИЕ СООБЩЕ́НИЯ О ДОКЛА́ДАХ И ПОЛЕВЫ́Х ИССЛЕ́ДОВАНИЯХ ИНСТИТУ́ТА АРХЕОЛО́ГИИ»** (КСИА), зборнік артыкулаў па археалогіі. Выдаецца з 1939 Ін-там археалогіі РАН у Маскве (на рус. мове) выпускамі (зборнікамі). Да 1960 наз. «Кароткія паведамленні аб дакладах і палявых даследаваннях Інстытута гісторыі матэрыяльнай культуры». З пач. 1960-х г. кожны выпуск прысвячаецца пэўнаму археал. перыяду: каменнаму веку, жал. веку, сярэдневяковую і інш. Выданне даводзіць да шырокай навук. грамадскасці буйнейшыя дасягненні і адкрыцці апошняга часу ў археал. навуцы; разглядае шырокі спектр пытанняў слав. гісторыі, выкарыстання прыродазнаўчых метадаў у археалогіі і інш.

Вынікі даследаванняў археал. помнікаў Беларусі змешчаны ў артыкулах Л.В.Аляксеева, І.І. Арцёменкі, З.М.Сяргеевай і інш., у т.л. пра гарадзішча Барсуковая Горка (1947. № 15), Мінскае замчышча (1952. № 54), Браслаў (1960. № 81), Навагрудак, Мсцібава (1962. № 87), Мсціслаў (1963. № 94), Тураў, Пінск, Навагрудак, Ваўкавыск, курганныя могільнікі Свішчова, Ходасавічы (1963. № 96); неалітычнае паселішча Вець (1964. № 97); шахты па здабычы крэменю, могільнік каля Брэста (1965. № 100); Навагрудак (1964. № 99); паселішчы Кусічы, Трасцяніца (1964. № 102); Полацк, Навагрудак, курганны могільнік Глыбаў (1965. № 104); неалітычнае паселішча Страліца (1966. № 106); грунтавы могільнік у Пінску (1966. № 107); Навагрудак (1967. № 110); могільнік Адвержыцы (Атвержычы) (1967. № 112); каменныя магілы ў Верхнім Панямонні (1968. № 113); курганны могільнік Багрынава, Навагрудак (1969. № 120); могільнікі Сябровічы (1970. № 123), Велямічы (1971. № 125), Сінчукі, Гарадзілаўка, Чаркасова, Арава (1973. № 135); Навагрудак, гарадзішчы Астрэя, Ваверац, курганныя могільнікі Мольнічы, Суляцічы, Узноснае, Дроздава (1974. № 139), Навінка (1975. № 144); Мсціслаў, Навагрудак, Ваўкавыск (1976. № 146); полацкая кафля (1980. № 160); гарадзішчы Бел. Палесся (1980. № 162); палац полацкіх князёў 12 ст., металічныя бранзалеты з Браслава, Віцебска, Ваўкавыска (1981. № 164); курганныя могільнікі Брацянка, Мольнічы, Суляцічы (1981. № 166), Бацвінава



*Ю.І.Крашэўскі.*

(1982. № 171); каменныя могільнікі Клепачы, Мінеўшчына і інш., Гродна, Слонім, Навагрудак, курганныя могільнікі Ігналіна, Сукалі (1989. № 1195); курганны могільнік Вензаўшчына (1989. № 198). Адзін з нумароў (1990. № 201) быў прысвечаны праблемам тэорыі і методыкі ў сучаснай археал. навуцы. Да пач. 1990-х г. выйшла 210 выпускаў, затым не выдаваўся, у 2001 узноўлены. Усяго з 1939 да пач. 2009 выйшла 220 нумароў. *Г.В.Штыхаў.*

**КРАЎЦЭВІЧ** Аляксандр Канстанцінавіч (н. 13.9.1958, в. Лупачы Мастоўскага р-на Гродзенскай вобл.), беларускі археолаг. Д-р гіст. навук (1998). Скончыў БДУ (1981). У 1985—87 працаваў у ІГ АН Беларусі. У 1989—93 вядучы археолаг Творчай майстэрні архіт. С.Г.Багласава. З 1994 1-ы прарэктар Гродзенскага ун-та. У 1995—97 у Ягелонскім ун-це ў Кракаве (Польшча). З 1998 у час. «Гістарычны альманах». Даследуе матэрыяльную культуру гарадоў, мястэчак і замкаў Бел. Панямоння 14—17 ст. (Ашмяны, Гродна, Ліда, Любча, Мір, Навагрудак і інш.).

*Тв.*: Майстар — наш продак. Мінск, 1990; Гарады і замкі Беларускага Панямоння 14—18 стст.: планіроўка, культурны слой. Мінск, 1991; Гродзенскі замак. Мінск, 1993; Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Мінск, 1998; Вялікі князь Вітаўт. Мінск, 1998; Рыцары і дойліды Гародні. Уроцлаў, 2009.

**КРАШЭ́ЎСКІ** (Kraszewski) Юзаф Ігнацы (псеўданім Б.Балеславіта, Др.Амега, К.Пастарнак і інш.; 28.7.1812, Варшава — 19.3. 1887), польскі пісьменнік, гісторык, мастацтвазнавец, грамадскі дзеяч. Акадэмік Акадэміі ведаў у Кракаве (1872), чл. Віленскай археал. камісіі (1856), ганаровы чл. Адэскага т-ва гісторыі і старажытнасцей. З сям'і пружанскага харужага. У дзяцінстве жыў у в. Доўгае каля Пружан. Вучыўся ў Свіслацкай гімназіі, Віленскім ун-це. У 1830—32 у турме за ўдзел у антыцарскай змове. З 1834 жыў у в. Доўгае і на Валыні. У 1841—51 рэдагаваў віленскі час. «Athenaeum» («Атэнэум»), у якім шмат месца адводзіў пытанням археалогіі. З 1860 у Варшаве, рэдактар газ. «Gazeta Polska» («Польская газета»). Як празаік дэбютаваў у 1831. Аўтар 223 раманаў і аповесцей, у т.л. паэтычнай трылогіі з гісторыі Літвы «Анафеляс» (1840—45). Стварыў у польскай літаратуры новы тып рэалістычнага рамана. Мінуламу Польшчы, Беларусі, Літвы і Украіны прысвяціў раманы «Апошнія з слуцкіх князёў» (1841), «Жыгімонтаўскія часы» (1846), «Залаты яблык» (1853), «Графіня Косель» (1873), «Кароль у Нясвіжы. 1784» (1885) і інш. Падарожжы па Беларусі апісаў у нарысах «Пінск і Піншчына» (1837—38), «Успаміны Валыні, Палесся і Літвы» (1840), «Малюнкі з жыцця і падарожжаў» (1841—42), «Адзенне сялян і мяшчан з ваколіц Брэста, Кобрына і Пружан» (1859—60). Аўтар навук. прац «Старажытная Літва. Яе гісторыя, законы, мова, вера, звычаі, песні...» (1847—50), «Барысаў» (1848). У рабоце «Мастацтва ў славян, асабліва ў Польшчы і дахрысціянскай Літве» (1860) выклаў свае канцэпцыі па праблемах археалогіі. Выказаў меркаванне, што славяне пад націскам кельтаў прыйшлі з З. Адносна паўн.-ўсх. славян прытрымліваўся нарманскай тэорыі. Кіруючыся прынцыпамі дацкага археолага К.Томсена, выкарыстоўваючы матэрыялы знаходак мясц. і замежных даследчыкаў, фактычна пацвердзіў *трох эпох тэорыю* К.Томсена. Выказаў меркаванне, што паміж 3 гал. эпохамі (каменя, бронзы і жалеза) няма выразных граніц, а захоўваюцца нейкі час пераходныя стадыі. Планаваў стварыць карту слав. старажытнасцей і археал. слоўнік. На бел. археал. матэрыялах вывучаў стараж. мастацтва. Сачыў за даследаваннямі і публікацыямі К.А.*Гаворскага*, А.Г.К.*Кіркора*, К.П.*Тышкевіча*, Я.П.*Тышкевіча* і інш. Удзельнічаў у археал. кангрэсе ў Балоны (1871), міжнар. з'ездзе археолагаў у Стакгольме (1874).

*Тв.*: Собр. соч. Кн. 1—52. Петербург, 1915; Повести: пер. с пол. М., 1956; Старое предание. М., 1956.

*Літ.*: Каханоўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI— XIX стст. Мінск, 1984.

**КРАЯЗНА́ЎСТВА**, усебаковае вывучэнне пэўнай тэрыторыі, раёна, населенага пункта мясц. насельніцтвам, а таксама спецыялістамі навук. устаноў. Комплекснае К. вывучае ўсе звесткі ў іх узаемасувязі, галіновае — паглыблена даследуе асобныя яго кірункі: гіст., прыродазнаўчы, археал., этнагр., геаграфічны, літаратурны, тапанімічны, мемарыяльны, ахову помнікаў і інш. Асн. метады К. — збор інфармацыі на месцах знаходжання разнастайных стараж. помнікаў, прадметаў матэрыяльнай культуры, архіўных і літаратурных крыніц, вынікаў назіранняў за прыроднымі з'явамі і г.д. Ролю навук.-метадычных цэнтраў К. выконваюць адпаведныя музеі і ін-ты НАН Беларусі, у т.л аддзелы археалогіі ІГ.

Краязнаўчымі звесткамі пра Беларусь напоўнены першыя пісьмовыя крыніцы, асабліва бел.-літ. летапісы і хронікі. У сярэдневякоўі цікавасць да вывучэння краю набыла рысы навуковасці, развівалася пад уплывам ідэй Адраджэння. Значна вырасла цікавасць да К. ў 18 ст. Бібліятэкі, архівы, карцінныя галерэі, нумізматычныя, мінералагічныя і інш. калекцыі існавалі ў рэзідэнцыях магнатаў: у Нясвіжы — Радзівілаў, у Шчорсах — Храптовічаў, у Слоніме — Агінскіх і інш. Багатыя зборы былі пры некаторых манастырах і навуч. установах. Унікальныя зборы мелі Чапскія, Тызенгаўзы, Плятэры, Ельскія, Тышкевічы, Ходзькі і інш. У пач. 18 ст. гродзенскімі старажытнасцямі, у т.л. Гродзенскай Барысаглебскай царквой, займаўся І.Кульчынскі, які першым пачаў даследаваць будову сцен храма і параўноўваць іх з полацкімі. У 2-й пал. 18 ст. краязнаўцы зацікавіліся курганамі ў маёнтку Мосар на Віцебшчыне і пачалі іх раскопваць. А.Меер падрыхтаваў «Апісанне Крычаўскага графства 1786 года» (апублікавана ў 1901), у пач. 19 ст. К.Халдзееўскі ў Полацку — манаграфію «Славянская археалогія», у якой значнае месца адведзена ста-

раж. помнікам Полаччыны. Я.Касакоўскі паведамляў пра адкрыццё курганнага пахавання каля Навагрудка. Помнікі археалогіі Падзвіння даследавалі М.І.Борх, А.А.Плятэр, у інш. мясцінах Беларусі — І.П.Барычэўскі (Тарнава-Барычэўскі), А.Брант, І.Гарыжскі, А.Глябовіч, Г.Э.Гродэк і інш. На пашырэнне К. пэўны ўплыў зрабілі *Віленская археалагічная камісія*, *Віленскі музей старажытнасцей*, Віленскі ун-т, *Віцебскае аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута*, *Віцебская вучоная архіўная камісія*, Паўн.-Зах. аддзел Рус. геаграфічнага т-ва, Т-ва вывучэння Магілёўскай губ., царкоўна-археал. к-ты, музеі. Краязнаўча-археал. матэрыялы друкаваліся ў газетах *«Витебские губернские ведомости»*, *«Гродненские губернские ведомости»*, *«Минские губернские ведомости»*, *«Могилёвские губернские ведомости»* і час. *«Епархиальные ведомости»*, што дало падставу некаторым даследчыкам гаварыць пра «царкоўна-гістарычную археалогію» (А.К.Снітка, І.Я.Спрогіс), а таксама ў Памятных кніжках губерняў, календарах, перыядычных выданнях і зборніках, што выходзілі ў Віцебску, Магілёве, Мінску, Пецярбургу, Маскве, Вільні, Кіеве, Варшаве і інш. У 19 ст. археалогія вылучылася з К. ў самастойную галіну ведаў. Асобныя рэгіёны Беларусі вывучалі З.Я.Даленга-Ходакоўскі, Р.С. Зянькевіч, Т.Нарбут, К.П. і Я.П. Тышкевічы. Пра старажытнасці Падзвіння пісалі М.Ф.Кусцінскі, Р.А.Падбярэскі, А.Ф.Рыпінскі, А.П.Сапуноў, А.М.Семянтоўскі, пра Палессе — П.Контрым, Ю.І.Крашэўскі, П.М.Шпілеўскі, пра Панямонне і Віленшчыну — М.І.Балінскі, Л.А.Кандратовіч (У.Сыракомля), А.Г.К.Кіркор, Ф.В. Пакроўскі, В.А.Шукевіч, І.Ярашэвіч, пра Міншчыну — А.К.Ельскі, У.З.Завітневіч, Я.Завіша, Т.Саподзька, І.А.Сербаў, А.П.Смародскі, Г.Х. Татур, пра Падняпроўе — М.В.Без-Карніловіч, А.С.Дамбавецкі, С.Кутарга, М.В.Фурсаў, С.Цэрхе, С.Ю.Чалоўскі і інш. Уплыў на археал. К. мелі Я.Ф.Арлоўскі, А.Я.Багдановіч, Э.А.Вольтэр, М.А. Гаўсман, І.І.Далгоў, Дз.І.Даўгяла, М.В.Доўнар-Запольскі, І.І.Луцкевіч, М.Я.Нікіфароўскі, П.С. Рыкаў, Дз.Я.Самаквасаў, І.А.Сербаў, А.К.Снітка, А.А.Спіцын, У.К.Стукаліч, Г.І.Тэадаровіч, В.П. Федаровіч, М.Федароўскі, І.Храпавіцкі, М.А.Янчук. У пач. 20 ст. матэрыялы па К. друкаваліся ў бел. газ. «Наша ніва», часопісах, альманахах.

У пач. 20 ст. засн. краязнаўчыя студэнцкія гурткі па вывучэнні Беларусі. У 1920-я г. краязнаўчыя аб'яднанні ствараліся пры навуч. і навук. установах, аддзелах нар. асветы. З 1922 каардынацыйным цэнтрам краязнаўчых арганізацый стаў Ін-т бел. культуры, пры ім — Цэнтр. бюро краязнаўства (ЦБК). У ліст. 1924 адбылася 1-я Усебел. краязнаўчая канферэнцыя, якая арганізацыйна аформіла ЦБК і прыняла рашэнне аб выданні час. «Наш край», першы нумар яго выйшаў у кастрычніку 1925. У апублікаванай праграме ў ліку найважнейшых задач было вывучэнне гісторыі краю, у т.л. археалагічнае. У 1925 у БССР актыўна працавалі Магілёўскае і Віцебскае бюро краязнаўства. Пры ЦБК створаны археал. камісіі, якія кіравалі раскопкамі, складалі археал. карту Беларусі, ахоўвалі помнікі археалогіі. У 1926 і 1927 адбыліся ўсебел. краязнаўчыя з'езды. На 1-м была прынята пастанова «Аб краязнаўчай рабоце ў галіне гісторыі і археалогіі і аб ахове помнікаў старажытнасці». У 1927 дзейнічала 240 краязнаўчых арганізацый. Пад кіраўніцтвам супрацоўнікаў Інбелкульта праводзіліся археал. раскопкі пад Оршай, Магілёвам, Мінскам, абследавана больш за 30 стараж. стаянак на рэках Дняпро і Сож, 53 гарадзішчы і інш., выдаваліся краязнаўчыя зборнікі, запіскі. У гэты час да краязнаўчай дзейнасці далучыліся Д.М.Васілеўскі, Ц.Гартны, М.І.Гарэцкі, В.Д.Дружчыц, М.І.Каспяровіч, Я.Колас, К.Крапіва, Я.Купала, В.А.Самцэвіч, С.В.Скандракоў, А.А.Шлюбскі, Б.І.Эпімах-Шыпіла і інш. У 1930-я г. краязнаўчая работа ў Беларусі была фактычна згорнута, многія вучоныя і краязнаўцы рэпрэсіраваны.

У Зах. Беларусі, якая ў 1921—39 знаходзілася пад уладай Польшчы, цэнтрамі К. сталі Бел. музей імя І.Луцкевіча і Бел. навук. т-ва (1921, Вільня). Пэўную ролю ў развіцці К. адыграла Т-ва бел. школы (1921—37). Клопат пра развіццё бел. К. бралі на сябе бел. гімназіі, а таксама настаўнікі школ, інтэлігенцыя, якія праз публікацыі ў перыядычным друку, календары, кнігі прапагандавалі веды пра родны край. Значны ўклад у развіццё бел. К. ўнеслі дзеячы бел. культуры Л.Вітан-Дубейкаўскі, Л.Войцік, Я.Гаўрылік, Я.Драздовіч, М.Ільяшэвіч, І.Краскоўскі, В.Ластоўскі, А.Луцкевіч, А.Неканда-Трэпка, М.Пецюкевіч, У.Самойла, П.Сергіевіч, І.Стаброўскі, А.Станкевіч і інш. Археал. даследаваннямі займаліся М.Бранштэйн, У.Галубовіч, Г.Пех, Г.Цэгак-Галубовіч, Н.Чарнецкі і інш. Дзейнічалі музеі ў Гродне, Слоніме, Лідзе, Пінску і інш. гарадах. Падтрымліваліся сувязі з навук. т-вам імя Ф.Скарыны ў Празе, Бел. нац. к-там у Чыкага (ЗША), Бел. навук.-краязнаўчым т-вам у Рызе (1920—40).

Пасля Вял. Айч. вайны краязнаўчы рух у Беларусі пачаў аднаўляцца. Найб. ўвага скіроўвалася на даследаванні гісторыі вайны, партыз. руху, пошукавую працу. У 1950-я— пач. 1960-х г. пачалі адкрывацца краязнаўчыя музеі, але ў 2-й пал. 1960-х г. шмат якія з іх пераўтвораны ў музеі нар. славы, дзе выключаліся зборы помнікаў старажытнасцей. Археал. знаходкі траплялі ў некаторыя школьныя музеі (напр., у сярэдніх школах Багушэвіцкай Бярэзінскага р-на, Мядзельскай, Лоскай Валожынскага, Гудзевіцкай Мастоўскага, Гальшанскай Ашмянскага, Валеўскай Навагрудскага р-наў, Клецкай, Сноўскай Нясвіжскага, Навасвержанскай Стаўбцоўскага р-наў і інш.). У К. ўзніклі дыспрапорцыі, што праявілася ў прыярытэтным становішчы ваенна-патрыятычнай тэматыкі. У 1966 для спрыяння ахове старажытнасцей створана *Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.*

У 1987 пры грамадскай арганізацыі «Беларускі фонд культуры» створана і разгарнула дзей-

насць Краязнаўчая камісія, якая на з'ездзе краязнаўцаў Беларусі 27.12.1989 пераўтворана ў *Беларускае краязнаўчае таварыства*. Праблемы К. асвятляюцца ў дзярж. і грамадскіх перыядычных выданнях («Звязда», «Советская Белоруссия», «Літаратура і мастацтва», *«Краязнаўчая газета»*, «Туризм и отдых»), рэгіянальных краязнаўчых («Лунінецкі сшытак», «Куфэрак Віленшчыны», «Ракаўскі шлях», «Павет») і інш. Праца па К. шырока разгорнута ў краязнаўчых музеях, бібліятэках і інш. установах. Каардынатарам К. сярод моладзі навуч. устаноў у краіне з'яўляецца Рэсп. цэнтр турызму і краязнаўства Мін-ва адукацыі Рэспублікі Беларусь. Значны ўклад у развіццё бел. К. зрабілі многія краязнаўцы, у т.л. сучасныя: А.Р.Бензярук, Т.В.Канапацкая, М.П.Клімец, В.Я.Ляшук, М.М.Маліноўскі, Н.Р.Марчук, Л.М. Несцярчук, Н.С.Пракаповіч, С.М.Чыгрын (Брэсцкая вобл.); В.В.Бандарэвіч, А.Ф.Бубала, В.А.Ермалёнак, М.В.Півавар, І.М.Пракаповіч, А.А. Шнейдэр, К.С.Шыдлоўскі, У.К.Шушкевіч (Віцебская вобл.); М.В.Шуканаў (Гомельская вобл.); А.М.Белакоз, У.Ф.Валуевіч, М.У.Верацiла, А.В. Жалкоўскі, С.А.Кошур, М.М.Казлоўскі, Н.М. Леўкевіч, А.М.Пяткевіч, В.Супрун (Гродзенская вобл.); М.А.Карпечанка, Ю.В.Клеванец (Магілёўская вобл.); Б.В.Бароўскі, А.У.Блінец, А.В. Валахановіч, Ю.У.Жыгамонт, А.В.Рогач, М.А. Станкевіч, Л.Целеш (Мінская вобл.); А.І.Бутэвіч, У.А.Гілеп, А.П.Грыцкевіч, А.М.Карлюкевіч, А.І.Мальдзіс, С.С.Панізнік, В.П.Рагойша, В.У. Скалабан, А.А.Трусаў, М.М.Чарняўскі, З.В.Шыбека і інш.

**«КРАЯЗНА́ЎЧАЯ ГАЗЕ́ТА»**, штотыднёвае навукова-папулярнае выданне, прысвечанае пытанням краязнаўства, гісторыі, культуры і мастацтва Беларусі (на бел. мове). Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры» і яго старшыня У.А.Гілеп, вытворчае унітарнае прадпрыемства «Светач». Першае ў Беларусі агульнанац. перыядычнае выданне, цалкам прысвечанае краязнаўству (у т.л. царкоўнаму), якое асвятляе даўніну і сучаснасць, дзейнасць устаноў культуры і адукацыі, свецкіх і духоўных грамадскіх супольнасцей, энтузіястаў-краязнаўцаў па выяўленні і ахове гісторыка-культ. спадчыны. Друкуе навук.-папулярныя артыкулы па археалогіі, тапаніміке, этнаграфіі, фальклоры, гісторыка-літаратурныя эсэ пра Беларусь і інш. Інфармуе пра новую краязнаўчую л-ру, у т.л. рэгіянальную. *У.А.Гілеп.*

**КРУ́ГЛІЦА**, археалагічны помнік — стаянка эпохі неаліту і бронзавага веку каля в. Кругліца Стаўбцоўскага р-на Мінскай вобл. За 1,5 км на ПдУ ад в. Кругліца, 3 км на Пд ад в. Апечкі, на правабярэжнай надпоймавай тэрасе р. Нёман, ва ўр. Лысая Гара. Даследаваў у 1962, 1964, 1965 М.М.Чарняўскі (405 $м^2$). Знойдзены рэшткі агнішчаў, разнастайны крамянёвы і керамічны матэрыял ад ранняга неаліту да сярэднябронзавага часу (4-е — сяр. 2-га тыс. да н.э.). Да ранняга неаліту (*прыпяцка-нёманская культура*) адносяцца крамянёвыя прылады працы, абломкі танкасценных гаршкоў, упрыгожаных накольчатым і грабеньчатым арнаментам. Большасць крамянёвых знаходак і керамікі адносіцца да сярэдняга і позняга неаліту (*нёманская культура*) — трохвугольныя наканечнікі стрэл, лістападобныя наканечнікі коп'яў, нажы, разнастайныя скрабкі, сякеры з прышліфоўкай, абломкі гладкасценнага і падштрыхаванага вастрадоннага посуду, пераважна аздобленага адступаючымі наколамі.

Знаходкі са стаянкі каля Лысай Гары паслужылі падставай для вылучэння першага (лысагорскага) этапу нёманскай культуры. На помніку выяўлены нешматлікія знаходкі *шнуравой керамікі культуры* (к. 3-га — пач. 2-га тыс. да н.э.) і пахаванне сярэднябронзавага часу, дзе былі сляды крэмацыі і абломкі пласкадоннай пасудзіны з валікам, упрыгожанай ружанцовым арнаментам (сяр. 2-га тыс. да н.э.).

*Літ.*: Ч а р н я ў с к і М.М. Неаліт Беларускага Панямоння. Мінск, 1979. *М.М.Чарняўскі.*

**КРУ́МПЛЕВА**, археалагічны помнік — стаянка ранняга мезаліту *кунда культуры* каля в. Крумплева Полацкага р-на Віцебскай вобл. За 2 км на ПдЗ ад вёскі, на надпоймавай тэрасе правага берага р. Зах. Дзвіна (выш. 6 м над узроўнем вады). Адкрыла і даследавала ў 1957 Н.М.Гурына, даследаваў у 1967 І.М.Ціханенкаў. Культ. пласт мезаліту парушаны другасным засяленнем у сярэдневякоўі. Знойдзены прылады працы з высакаякаснага крэйдавага крэменю: постсвідэрскія тронкавыя наканечнікі стрэл свідэрскай культуры, канцавыя скрабкі з пласцін, мікраскрабкі, ланцэтападобныя вастрыі, праколкі, скоблі, пласцінкі з рэтушшу, долатападобныя вырабы, нуклеусы. Датуецца 8—7-м тыс. да н.э.

*Літ.*: Г у р и н а Н.Н. Новые мезолитические памятники лесной полосы Европейской части СССР // СА. 1960. № 1.

**КРУЧО́К РЫБАЛО́ЎНЫ**, асноўная частка вудаў, перамётаў, жарліц. На тэр. Усх. Еўропы вядомы з мезаліту, у Беларусі — з неаліту. Выраблялiся з косці, рога [*Азярное* Любанскага, *Камень* Пінскага, Крывіна (гл. *Галоўск*) Сенненскага р-наў] і дрэва. Прататыпам іх быў завостраны з двух бакоў стрыжань з адтулінай ці канаўкай пасярэдзіне. Гэта прылада ўжывалася ў жал. веку (*Гарані* Смаргонскага р-на) і нават у 2-й пал. 20 ст. У к. 1-га тыс. да н.э. з'явіліся жал. кручкі буйных памераў сучаснага выгляду [*Кублічы* Ушацкага, Аўгустова (гл. *Звязда*) Лепельскага р-наў]. З 2-й пал. 1-га тыс. да 13 ст. колькасць і разнастайнасць кручкоў на археал. помніках значна ўзрасла. Паводле функцыянальнага прызначэння яны ўтвараюць некалькі тыпаў: вудавыя, універсальныя (жыўцовыя) кручкі без бародкі з выцягнутым джалам, кручкі з бародкай, перамётныя, у т.л. доўгія (дауж. да 20 см) з невял. абушком. Пад час раскопак знойдзена каля 380 металічных кручкоў у *Маскаўцах* (каля 50) Браслаўскага р-на, Ваўкавыску, Гродне, Полацку, Мінску, у т.л. ў пахаван-

нях (*Ізбішча* Лагойскага, *Дроздава* Талачынскага р-наў). На тэр. Беларусі самы распаўсюджаны тып — кручкі без бародкі, сустракаюцца пераважна на помніках Падзвіння і Панямоння (Полацк, *Лісна* Верхнядзвінскага, *Дрысвяты* Браслаўскага р-наў, Ваўкавыск, Гродна). На помніках пазнейшых часоў К.р. ўжо не трапляюцца, зменшылася і агульная колькасць кручковых прылад.

*Літ.*: Б р а и м И. Биография рыболовного крючка // Неман. 1972. № 8; І с а е н к а У.Ф. Рыбалоўныя кручкі // ПГКБ. 1983. № 1; Т к а ч о ў М., К а л я д з і н с к і Л. Рыбалоўства ў старажытным Віцебску // Родная прырода. 1983. № 2. *Э.А.Ляшкевіч.*

**КРЫВАЛЬЦЭ́ВІЧ** Мікалай Мікалаевіч (н. 1.1. 1958, в. Канстанцінаўка Любанскага р-на Мінскай вобл.), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1991). Скончыў Мінскі педагагічны ін-т імя А.М.Горкага (1982). З 1987 працуе ў ІГ АН Беларусі. Даследуе археалогію позняга неаліту і бронзавага веку Бел. Палесся.

*Тв.*: Археалогія Беларусі. Т. 1 Мінск, 1997 (у сааўт.); Азярное-1 — паселішча эпохі бронзы на поўначы Палесся. Мінск, 1999; Гісторыя Беларусі. Т. 1. Мінск, 2000 (у сааўт.); Археалагічныя адкрыцьці сьвету. Менск, 2000; Могільнік сярэдзіны 3 — пачатку 2 тыс. да н.э. на Верхнім Дняпры — Прорва 1. Мінск, 2006; Prorwa 1. Cmentarzysko z połowy III — początku II tysiąclecia przed Chr. na górnym Naddnieprzu. Poznań, 2007; Керамика Припятского Полесья в ранний период бронзового века // Gyvenviečių ir keramikos raida baltų žemėse. Vilnius, 1994; Індэнтыфікацыя паўднёвабеларускага «Тшцінца» // «Trzciniec» — system kulturowy czy interkulturowy process? Poznań, 1998; Гаспадарчая дзейнасць насельніцтва сярэдне-дняпроўскай культуры (мікрарэгіянальны аспект) // Nomadyzm a pastoralizm w międzyrzeczu Wisły i Dniepru (neolit, eneolit, epoka brązu). Poznań, 2004.



*М.М.***Крывальцэвіч**.

**КРЫ́ВЕЛЬ**, гл. *Гарадок*.

**КРЫ́ВІНА**, гл. *Галоўск*.

**КРЫВІЧЫ́**, аб'яднанне ўсходнеславянскіх плямён, якое жыло ў басейне верхняга Дняпра, Зах. Дзвіны, Волгі, на Пд Чудскога воз. Вядомы па археал. помніках і пісьмовых крыніцах. На думку адных даследчыкаў, назва паходзіць ад слова «крэўныя» (блізкія па крыві), па меркаванні іншых — ад імя легендарнага родапачынальніка Крыва альбо ад балцкага язычніцкага першасвяшчэнніка Крыва-Крывейтэ, ад узгоркавай мясцовасці (крывізна). Працэс фарміравання К. адбываўся ў 2-й пал. 1-га — пач. 2-га тыс. н.э. ў выніку асіміляцыі славянамі мясц. балцкіх і зах.-фінскіх плямён. У к. 1-га тыс. племяннoe аб'яднанне К. распалася на 3 групы — полацкую, смаленскую і пскоўскую (паводле назвы іх гал. гарадоў). Для полацкіх К. характэрна *доўгіх курганоў паўночнай Беларусі культура*, у якой захавалася шмат элементаў матэрыяльнай культуры *балтаў*. Смаленскія К. па культуры вельмі блізкія да полацкіх. На тэр. рассялення полацкіх К. археолагамі вывучаліся гарадзішчы і селішчы ў Віцебску, Полацку, Заслаўі, Лукомлі, курганныя могільнікі *Баркі*, *Бельчыца*, *Бяльмонты*, *Вышадкі*, *Глівін*, *Глінішча*, *Дарахі*, *Ізбішча*, *Кубліщчына*, *Лісна*, *Плусы*, Пуцілкавічы, *Сінчукі*, *Сосенка*, *Чарневічы*, Янкавічы і інш. На мяжы 10—11 ст. у К. паявіліся круглыя курганы з пахавальным абрадам трупапалажэння на гарызонце, пазней пашыралася трупапалажэнне ў ямах, зрэдку ў насыпах. Большасць нябожчыкаў арыентавана галавой на З, трапляюцца мужчынскія пахаванні з адваротнай арыенціроўкай (галавой на У) альбо мерыдыяльныя (Пн—Пд). Многія даследчыкі лічаць, што ўсх. арыенціроўка з'яўляецца перажыткам балцкага пахавальнага рытуалу, мерыдыянальная — фіна-угорскага. У арыенціроўцы нябожчыкаў назіраюцца сезонныя адхіленні (летам Пд—З—Пн—У, зімой Пн—З—Пд—У). У курганах трапляюцца багатыя пахаванні з мноствам рэчаў і бедныя з невял. колькасцю інвентару альбо зусім без яго, што сведчыць пра маёмасную няроўнасць. Сустракаюцца і драўляныя дамавіны, змацаваныя жал. цвікамі. У кожным могільніку ёсць кенатафы. Пры даследаванні курганоў выяўлены прыкметы трызны і стравы. Для полацкіх (як і смаленскіх) К. характэрны пэўны тып упрыгажэнняў — бранзалетападобныя драцяныя скроневыя кольцы дыям. 5—11 см з завязанымі канцамі і шкляныя залачоныя пацеркі. У жаночых пахаваннях знаходзяць шкляныя і сердалікавыя пацеркі, пярсцёнкі, бранзалеты, шыйныя грыўні. У якасці прывесак выкарыстоўваліся сярэбраныя манеты: дырхемы і іх імітацыі, дэнарыі, візантыйскія міліярысіі (*Багрынава*, Вядзец, *Ізбішча*, *Навасёлкі*, *Слабодка*, *Славені*, *Шо* і інш.). У мужчынскіх пахаваннях трапляюцца сякеры, нажы, крэсівы, спражкі, зрэдку наканечнікі коп'яў і стрэл. Гліняны посуд, драўляныя вёдры, сярпы ёсць у мужчынскіх і жаночых пахаваннях. У некаторых курганах знойдзены баявыя сякеры — чаканы. Курганныя могільнікі дружыннікаў выяўлены каля Полацка і Лукомля, асобныя пахаванні — каля Заслаўя. У курганах 11—12 ст. сустракаюцца язычніцкія амулеты з прасвідраваных іклоў ці зубоў жывёл і вельмі рэдка — металічныя крыжы, якія насілі як упрыгажэнне ў складзе маніста. Пахавальныя абрад і інвентар сведчаць, што язычніцкія вераванні ў сельскай мясцовасці захоўваліся да к. 12 ст. Асн. гасп. адзінкай К. у 2-й пал. 1-га тыс. па-ранейшаму заставалася вял. патрыярхальная сям'я, нягледзячы на працэс вылучэння малых сем'яў, які пачаўся ў 8—9 ст. У сацыяльных адносінах К. — федэрацыя плямён, у рамках якіх фарміраваліся класы, дзяржаўнасць (княствы), пранароднасць. У Полацку, паводле «Аповесці мінулых гадоў», існавала сваё княства. У ваенна-адміністрацыйных адносінах племянныя княствы К. абапіраліся на сістэму ўмацаванняў (Полацк, Віцебск, Лукомль, Браслаў), на аснове якіх фарміраваліся гарады. К. ўпершыню ўпамінаюцца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 859. У 10 ст. на тэр. рассялення полацкіх К. склалася Полацкае княства. Назва «крывіцкія землі» захоўвалася ў асобных выпадках за тэр. паўн. Бела-

русі да 1-й чв. 14 ст. У латышскай мове тэрмінам «krievi» наз. ўсх. славян. Ад этноніма К. паходзяць назвы вёсак у Зэльвенскім, Іўеўскім, Салігорскім, Глыбоцкім, Пінскім, Докшыцкім, Ашмянскім, Мядзельскім, Смаргонскім і інш. р-нах Беларусі.

*Літ.*: Седов В.В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. М., 1970 (МИА. № 163); Я г о ж. Восточные славяне в VI—XIII вв. М., 1982; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2. Минск, 1972; Штыхаў Г.В. Крывічы. Мінск, 1992. *Г.В.Штыхаў.*

**КРЫЖЫ́**, археалагічны помнік — паселішча эпохі мезаліту каля б. в. Навалокі Віцебскага р-на. За 2,5 км на Пд ад вёскі, ва ўр. Крыжы, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Зах. Дзвіна. Выявіў і даследаваў у 1933 К.М.Палікарповіч. У 1988 абследаваў У.П.Ксяндзоў. Культ. пласт каля 0,2 м. Выяўлены крамянёвыя вырабы, тронкавы наканечнік стралы, скрабкі з адшчэпаў, адшчэпы, косці высакароднага аленя.

*Літ.*: Ляўданскі А.М., Палікарповіч К.М. Археалагічныя доследы ў БССР у 1933—34 гг. // Зап. БАН. Мінск, 1936. Кн. 5. *Э.М.Зайкоўскі.*

**КРЫНІ́ЦЫ КУ́ЛЬТАВЫЯ**, язычніцкія свяцілішчы, звязаныя з культам вады. Апрача крыніц ушаноўваліся некаторыя азёры, калодзежы, выгокі буйных рэк. На тэр. Беларусі сувязь азёр і язычніцкіх свяцілішчаў відаць на прыкладзе *Ходасавіцкага свяцілішча*, размешчанага на беразе воз. Святое ў Лепельскім р-не, дзе выяўлены паселішчы каменнага веку. Каля г.п. Краснасельскі Ваўкавыскага р-на, вёсак Драгунова Расонскага, Боркі Пінскага, Любанічы Талачынскага р-наў і інш. вядомы крыніцы, якія ўшаноўваліся як святыя. Каля б. в. Кліны Слаўгарадскага р-на ёсць Сіні калодзеж, а за некалькі кіламетраў ад яго — 2 камяні-следавікі, паводле легенды, звязаныя з ім. Пасля прыняцця хрысціянства царква вымушана была прыстасоўваць язычніцкія святыні да сваіх мэт, многія крыніцы набылі функцыі прошчаў.

*Э.М.Зайкоўскі.*

**КРЫНІ́ЧКА**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і курганныя могільнікі каля в. Крынічка Барысаўскага р-на Мінскай вобл.

Гарадзішча *штрыхаванай керамікі культуры* і *банцараўскай культуры*. За 1,5 км на ПнУ ад вёскі, ва ўр. Ключы, на правым беразе р. Сха (левы прыток р. Бярэзіна). Адкрыў і абследаваў у 1979 Г.В.Штыхаў, у 1990 абследаваў Л.Д.Побаль, раскопкі праводзіў у 1992 Э.М.Зайкоўскі. Пляцоўка авальная, памерамі 50 × 44 м, выцягнута з Пн на Пд. Паверхня пляцоўкі паніжаецца ў зах. бок. З паўд. і зах. краёў знаходзіцца роў, з вонкавага боку якога праходзіць вал, з паўн.-ўсх. і паўн. краёў пляцоўкі паслядоўна размешчаны вал, роў і яшчэ адзін вал. Уезд на гарадзішча (земляная перамычка праз роў) з усх. боку пляцоўкі. Культ. пласт 0,07—0,7 м. Знойдзены 632 фр-ты ляпнога посуду, у т.л. штрыхаванай і гладкасценнай керамікі (апошняя залягала пераважна ў верхнім пласце, што дазваляе аднесці яе да банцараўскай культуры). Сярод штрыхаванай керамікі сустракаецца і рабрысты посуд. З трох знойдзеных гліняных праслiц 2 маюць форму пляскатых кружкоў з адвеснымі бакавымі краямі і ўвагнутымі верхнімі і ніжнімі паверхнямі, а трэцяе — усечана-біканічнай формы. Знойдзены таксама жал. серп, дзындра (у верхнім пласце), гліняная абмазка. Ёсць падставы меркаваць, што ў раннім сярэдневякоўі гарадзішча выкарыстоўвалася ў культавых мэтах.

Курганны могільнік-1 за 40 м на ПдУ ад гарадзішча, па абодва бакі лясной дарогі. Выявіў і абследаваў у 1985 А.А.Егарэйчанка, у 1990 абследаваў Л.Д.Побаль. Усяго 32 насыпы. У 1992 адзін курган быў раскапаны Э.М.Зайкоўскім. На глыб. 0,48—0,64 м ад паверхні насыпу выяўлена падсыпка, у якой прасочваўся попел (займаў пляцоўку памерамі 3,8 × 3,2 м). У паўн. частцы кургана на падсыпцы знойдзена частка чалавечага чэрапа (магчыма, быў пахаваны тварам на У), шкілет і пахавальны інвентар адсутнічалі. Па абпаленай падсыпцы пахаванне датуецца 11—12 ст.

Курганны могільнік-2 за 2 км на ПдУ ад вёскі, пры лясной дарозе ў в. Зачысце. 20 курганоў выш. 0,5—1,5 м, дыям. 6—9 м. Адкрыў і абследаваў у 1979 Г.В.Штыхаў, у 1990 абследаваў Л.Д.Побаль. Раскопкі не праводзіліся.

Курганны могільнік-3 за 0,5 км на З ад вёскі, сярод поля. 18 насыпаў дыям. 7—9 м, выш. 1—1,5 м. Насыпы абкладзены камянямі. Выявіў і абследаваў у 1985 А.А.Егарэйчанка, у 1990 абследаваў Л.Д.Побаль. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.*: Зайкоўскі Э.М. Даследаванне язычніцкіх культавых помнікаў // ВАНБ. 1994. №1.

*Э.М.Зайкоўскі.*

**КРЫНІ́ЧНАЯ**, археалагічны помнік — стаянка эпохі *мезаліту* (7—6-е тыс. да н.э.) за 2 км на ПдЗ ад в. Горкі Чэрыкаўскага р-на Магілёўскай вобл., на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Сож, за 0,1 км на Пн ад вусця ручая Крынічны. Адкрыў у 1928 К.М.Палікарповіч, даследавалі 406 $м^2$ у 1977—78 В.Л.Ліпніцкая, у 1972, 1984 і 1986 В.Ф. Капыцін. Культ. пласт 0,1—0,6 м. Знойдзена больш за 11 тыс. крамянёвых рэчаў, у т.л. каля 280 прылад працы. На асобных участках канцэнтрацыя зыходнай сыравіны — канкрэцыі, кавалкі крэменю і прадуктаў іх расшчаплення (нуклеусы, пласціны, адшчэпы, асколкі, лускавінкі) — перавышала 300 прадметаў, што сведчыць пра наяўнасць рабочых месцаў па пярвічнай апрацоўцы крэменю. Прылады працы — тронкавыя наканечнікі стрэл, вастрыі, пласціны-ўкладышы, вырабы з выемкай, канцавыя двайныя, паўкруглыя і з «шыпам» скрабкі, скрэблападобныя вырабы, скрабачы. Сярод разцоў ёсць рэтушаваныя і двухгранныя, але найбольш на вуглу зламанай пласціны. Шматлікія прылады выпадковага карыстання: пласціны і адшчэпы з рэтушшу. Для іх вырабу выкарыстоўваўся цёмна-шэры крэйдавы крэмень, паклады якога знаходзяцца на беразе

старыцы р. Сож. Каля 2% рэчаў зроблена з прывазнога высакаякаснага паўпразрыстага крэменю шэрага колеру. Выяўлены некалькі агнішчаў і рэшткі жытла-паўзямлянкі чатырохвугольнай формы (3,75 × 2,5 м). Матэрыялы помніка сведчаць аб пранікненні з ПнУ на тэр. Пасожжа асобных груп насельніцтва *бутаўскай культуры*.

*Літ.*: П о л и к а р п о в и ч К.М. Стоянки среднего Посожья // МАБ. 1957. Т. 1; К о п ы т и н В.Ф. Археологические памятники Чериковского района Могилевской области. Могилев, 1994; Яго ж. Свод памятников археологии чернобыльской зоны Могилевской области. Могилев, 1998.

*А.У.Коласаў.*

**КРЫПТА** (лац. crypta ад грэч. kryptе крыты надземны ход, тайнік). У культавай архітэктуры — падземнае або надземнае спец. памяшканне, якое выкарыстоўвалася для пахаванняў. Гэта маглі быць капліцы, прыбудаваныя да храма, ці сутарэнні, звычайна размешчаныя пад алтарнай часткай. У Беларусі археалагічна К. выяўлены ў помніках полацкага дойлідства 12 ст., у цэрквах і касцёлах 16—18 ст. У Пятніцкай царкве Бельчыцкага манастыра К. ўяўляла сабой напаўпадземнае памяшканне. Пахаванні ў саркафагах знойдзены і ў інш. полацкіх храмах. Вакол Сафійскага сабора ў 12 ст. збудаваны цэлы комплекс капліц з К., у т. л. і з боку апсід. Пад алтарнай часткай касцёла Дзевы Марыі ў Гродне (16 ст.) расчышчаны комплекс К. для ганаровых індывідуальных пахаванняў. У Сынкавіцкай царкве і царкве Раства Багародзіцы Жыровіцкага манастыра ў сутарэннях пад падлогай адкрыты вымураваныя асобныя пахавальныя камеры. К. са шматлікімі пахаваннямі даследавана таксама пры раскопках Святадухаўскай царквы ў Віцебску.

*І.У.Ганецкая.*

**КРЫЎСК**, археалагічны помнік — гарадзішча позняга сярэдневякоўя каля в. Крыўск Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл. Мясц. назвы Касцельная гара, Гарадзішча. За 0,5 км на ПдЗ ад вёскі, з правага боку палявой дарогі Крыўск—Мілейкава. Выш. схілаў гарадзішча 20 м з усх. і каля 16 м з паўд. бакоў. Пляцоўка авальнай формы, выцягнута з ПдУ на ПнЗ, памерамі 23 × 16 м. Ніжэй на 4 м ад пляцоўкі на схіле тэраса шыр. каля 3 м. Выявіў Э.М.Зайкоўскі (пры дапамозе краязнаўца У.У.Прыхача) у 1998, даследаваў у 2001 (цэнтр.-зах. частку памерамі 10 × 6 м). Расчышча-




*Трапецыя (1), наканечнікі стрэл (2—4), мікрапласціны з прытупленым краем (5—9), пласціны-ўкладышы (10—13), скрабкі (14—15), разцы (16—19) са стаянкі* ***Крынічная****.*

ны 3 ямы, адна з іх слупавая глыб. 0,5 м і шыр. 0,4 м, астатнія паўавальныя ў разрэзе. Знаходкі адсутнічаюць (акрамя некалькіх касцей і слабага падабенства крамянёвых нажападобных пласцінак), земляных умацаванняў няма. Усё гэта сведчыць, што гарадзішча не было месцам сталага пражывання, а, хутчэй за ўсё, мела культавае прызначэнне. *Э.М.Зайкоўскі.*

**КРЫ́ЦА**, рыхлы кавалак жалеза з розным і часта нераўнамерным размеркаваннем у ім вугляроду з дамешкамі шлаку і інш. уключэнняў. Для выдалення шлакаў К. праграваліі і пракоўвалі. З крычнага жалеза выраблялі прылады працы, зброю, прадметы ўжытку, упрыгажэнні. Знаходкі К. трапляюцца на гарадзішчах і паселішчах ад 7 ст. да н.э. да эпохі Кіеўскай Русі, што сведчыць аб валоданні стараж. насельніцтвам Беларусі спосабамі вытворчасці жалеза з балотных руд у сырадутным *горне*. У раннім жал. веку кавалкі К. былі масай ад некалькіх дзесяткаў да соцень грамаў у перыяд позняга сярэдневякоўя — 25—50 кг. Пры прамым аднаўленні з руды К. ўтваралася дзякуючы пераважна цвердафазнаму спяканню часцінак жалеза з удзелам у некаторых выпадках і вадкай фазы. Пра цвердафазнае спяканне сведчаць т.зв. «мосцікі» паміж часцінкамі, што назіраюцца пры мікраскапічным вывучэнні шлакаў. Сучасныя металургі К. называюць часцінкі металу да 10 мм у папярочніку, прыдатныя для электраметалургічнага пераплаву для атрымання якаснай сталі.

*Літ.*: Гурин М.Ф. Процесс крицеобразования в древней металлургии железа // Slovenská archeológia. Bratislava, 1988. R. 36, č. 2. *М.Ф.Гурын.*

**КРЫ́ЧАЎ**, горад, цэнтр Крычаўскага р-на Магілёўскай вобл., на правым беразе р. Сож. За 104 км на У ад Магілёва, вузел чыгунак на Оршу, Магілёў, Унечу і Рослаўль (Расія), на аўтадарозе Бабруйск—Масква.

Археал. помнікі на тэр. К. — 2 гарадзішчы (Гарадзец і Замкавая гара) і пасады сярэдневяковага горада.

Гарадзішча Гарадзец размешчана ў цэнтр. частцы К., на левым беразе ручая Крычавец (правы прыток р. Сож). Пляцоўка моцна пашкоджана, захавалася яе частка даўж. 50 м, шыр. 16 м на Пн і 5 м на Пд. З паўн. боку ўмацавана ровам шыр. 16 м і глыб. 1,5 м. Абследавалі ў розныя гады В.В.Сядоў, Г.В.Штыхаў, П.Ф.Лысенка. Археал. даследаванні праводзілі М.А.Ткачоў (1974, пл. 46 м$^2$) і А.А.Мяцельскі (1995—2000, пл. 168 м$^2$). Культ. пласт таўшч. да 3,5 м, стратыграфічна падзяляецца на 3 гарызонты. На мацерыку знойдзены фр-ты гаршкоў сярэднедняпроўскай культуры ранняга перыяду бронзавага веку. Ніжні гарызонт культ. пласта дасягае магутнасці 0,6—0,9 м, адносіцца да днепра-дзвінскай культуры і, мяркуючы па знаходках, адклаўся ў 5—3 ст. да н.э. — 1 ст. н.э. У ім выяўлены глінабітныя падлогі рэштакаў пабудоў. Пабудовы размяшчаліся па цэнтры помніка, пакідаючы вольнымі ад забудовы тэр., прылеглую да фартыфікацыйных збудаванняў, што зближае планіроўку і тэхніку будаўніцтва крычаўскага «Гарадца» з домабуд. традыцыяй юхнаўскіх плямёнаў. У гэты ж час на гарадзішчы былі ўзведзены фартыфікацыйныя збудаванні ў выглядзе вастракола і выкапаны роў з паўн. боку. Прыкладна ў 2 ст. да н.э. — 1 ст. н.э. тут быў узведзены абарончы вал выш. да 1 м. Сярэдні стратыграфічны гарызонт мае магутнасць 0,2—0,95 м і датуецца 2—4 ст. У яго запаўненні знойдзена кераміка тыпу сярэдняга слоя гарадзішча *Тушамля*, сярпы, нажы, упрыгажэнні. У гэты час абарончы вал гарадзішча неаднаразова ўзмацняўся. Сярэдні стратыграфічны гарызонт быў аддзелены ад першага праслойкай пажарышча. Верхні стратыграфічны гарызонт таўшч. 0,7—1,2 м моцна пашкоджаны могілкамі 18 ст. У яго ніжняй частцы сустракаюцца нешматлікія фр-ты керамікі гаршкоў тыпу верхняга слоя гарадзішчаў Тушамля і *Дзямідаўка* (5—8 ст.). Асн. маса матэрыялу верхняга стратыграфічнага гарызонта адносіцца да 10—13 ст. Сярод знаходак кераміка, шкляныя бранзалеты, пацеркі, наканечнікі стрэл, нажы, суліцы, пінцэт. Наверсе абарончага вала ў гэты перыяд стаяў вастракол. На Пн ад гарадзішча ў 10—13 ст. знаходзілася селішча (пл. каля 1 га), на якім знойдзена кераміка гэтага часу, шкляныя бранзалеты. Комплекс з гарадзішча і селішча 10—12 ст. складалі аснову першапачатковага «Кречюта», які згадваецца ў Статуце Расціслава Мсціславіча (1136). У 2-й пал. 12 ст. паселішча пачало перамяшчацца на бераг Сажа і спынілася тут на пач. 14 ст.

Гарадзішча Замкавая гара за 0,7 км на ПдУ ад Гарадца, на высокім правым беразе р. Сож. Пляцоўка авальнай формы (100 × 60 м), аддзелена ад астатняга плато ровам шыр. 30—70 м. З паўн., паўд. і зах. бакоў захаваўся абарончы вал выш. каля 5 м і шыр. (каля падэшвы) да 22 м. Даследавалі Г.В.Штыхаў (1967), М.А.Ткачоў (1973—75), А.А.Мяцельскі (1987—88, 1997). Агульная даследаваная пл. складае каля 600 м$^2$. Культ. пласт гарадзішча моцна пашкоджаны познімі раскопамі, найлепш захаваўся ў паўд. і паўн.-зах. частках тэрыторыі, дзе яго магутнасць дасягае 3,5 м. У інш. месцах яго таўшч. 1—1,5 м. Найб. раннія матэрыялы прадстаўлены керамікай тыпу сярэдняга слоя гарадзішча Гарадзец (2—4 ст.). Напластаванні 12—13 ст. магутнасцю 0,1—1 м. У іх знойдзены шыферныя праслічы, шкляныя бранзалеты, наканечнікі стрэл, нажы, прабоі, меч. Выяўлены рэшткі драўляных жытлаў з печкамі-каменкамі. Пабудовы групаваліся ўздоўж трасы вала. Першапачатковы абарончы вал быў насыпаны ў к. 12 — пач. 13 ст. і меў выш. 1,5 м і шыр. каля 8 м, пад валам прасочваецца культ. пласт таўшч. 0,3 м, у якім знойдзена кераміка 12 ст. Наверсе вала стаялі драўляныя пабудовы, канструкцыйныя асаблівасці якіх не ўдалося прасачыць. У 13 ст. яны згарэлі і пасля гэтага вал быў дасыпаны да выш. 3,2 м і меў шыр. каля 12 м. У напластаваннях 14—18 ст. выяўлена шмат

глінянага посуду, нажы, замкі, ключы, наканечнікі стрэл, арбалетныя балты, разнастайная кафля, каменныя і чугунныя ядры, калекцыя манет, у т.л. залаты вугорскі дукат. У гэты ж час адбывалася неаднакратнае павелічэнне фартыфікацыйных збудаванняў. Першы раз вал быў падсыпаны ў 14 ст. да выш. 4,3 м, у 15—16 ст. падсыпаўся двойчы: спачатку да выш. 5 м, другі раз — да 6 м. У 17 ст. падняты да выш. 7 м.

Пасады сярэдневяковага К. Першапачатковы пасад К. (Забялышынскі, Зубялышынск) пачаў фарміравацца ўздоўж Сажа, на суседняй з гарадзішчам Спаскай гары. У 12—13 ст. ён меў пл. каля 0,3 га. На пач. 16 ст. дасягнуў пл. 0,8 га, у 17 ст. 2—2,5 га, у к. 18 ст. — каля 3 га.

З 14 ст. пачаў фарміравацца пасад на З ад Замкавай гары, які на пач. 16 ст. меў пл. каля 2 га. У к. 16 ст. гэты пасад меў пл. каля 10 га, а ў к. 18 ст. каля 30 га. Агульная пл. горада ў к. 18 ст. складала каля 36 га.

*Літ.*: Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў: гістарычна-археал. нарыс горада ад старажыт. часоў да канца XVIII ст. Мінск, 2003. *А.А.Мяцельскі.*

**КРЭ́ВА**, вёска Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл. За 21 км на Пд ад Смаргоні, на аўтадарозе Мінск—Вільнюс. Вядома з 13 ст. як сталіца балцкага племені нальшчан. З к. 13 ст. ў складзе ВКЛ. У 14 ст. тут пабудаваны *Крэўскі замак*. Даследаваў у 1985 А.К.Краўцэвіч (20 м$^2$). Выяўлены культ. пласт таўшч. да 2 м. Знойдзены бытавы посуд (керамічны: непаліваны, паліваны, мораны, шкляныя фр-ты гаршковай кафлі з квадратным вусцем і пласцiністай. Сярод апошняй вылучаецца тэракотавая 2-й пал. 16—17 ст. з выявай кветкі ў вазе, а таксама паліваная кафля з дывановым арнаментам («сонца»). Найб. ранняя знаходка — фр-т непаліванага гаршка 14 ст.

Па ўсёй верагоднасці, сярэдневяковае паселішча размяшчалася на месцы сучаснай вёскі побач з замкам. Сядзібы былі раскіданыя па пагорках, раздзеленых балоцістымі лагчынамі.

*Літ.*: Дзярновіч А.І., Трусаў А.А., Чарняўскі І.М. Лёс Крэва. Мінск, 1993. *А.К.Краўцэвіч.*

**КРЭМЕНЕАПРАЦО́ЎЧАЯ МАЙСТЭ́РНЯ**, месца апрацоўкі крэменю старажытным насельніцтвам. Звычайна знаходзілася ў мясцінах, багатых крамянёвай сыравінай: паблізу выхаду крэменю на паверхню, агалення ў рачных далінах і інш. Асн. прызначэнне майстэрняў — вытворчасць крамянёвых вырабаў. Гал. прыкмета — наяўнасць значнай колькасці прадметаў вытворчага комплексу: прылад вытворчасці, загатовак, паўфабрыкатаў, адыходаў. Прылад працы мала — 0,1% ад агульнай колькасці знаходак.

Існавалі майстэрні: на першасным расшчапленні крэменю; спецыялізаваныя, дзе выраблялі адзін ці некалькі відаў прылад (напр., сякеры, скрабкі); універсальныя, ці майстэрні-стаянкі, дзе выраблялі розныя віды прылад працы. Апошнія ў Беларусі найчасцей сустракаюцца ў Падняпроўі, Пасожжы, Палессі (*Бароўка*, *Баркалабава*, *Горкі*, *Крынічная*, *Камень* і інш.). На іх рабіліся ўсе віды апрацоўкі крэменю — ад першаснай да гатовых вырабаў. У Панямонні, вядомым сваімі крэменездабыўнымі шахтамі, вытворчыя існавалі пры шахтах, меліся спецыялізаваныя і майстэрні-стаянкі каля шахтаў. Майстэрні-шахты размяшчаліся ў вусцях старых шахтаў, сценкі якіх ахоўвалі майстра ад ветру. На мелавой падлозе такіх шахтаў знаходзяць буйныя абпаленыя камяні, вуголле, вял. колькасць сколаў, абабітыя канкрэцыі, адшчэпы, адбойнікі. Майстэрня № 2 каля г.п. Краснасельскі Ваўкавыскага р-на спецыялізавалася на вытворчасці скрабкоў: з 1300 знойдзеных тут крамянёвых прылад пераважную большасць складалі скрабкі розных памераў і прызначэння. Характэрным для майстэрні можа быць працоўнае месца майстра — шчыльнае скопішча расшчэпленых крэменяў на абмежаванай тэр., зрэдку ў паглыбленні. У Беларусі працоўныя месцы майстра па першасным расшчапленні выяўлены на помніках Сеньчыцы-2 на Палессі, *Дубовы Лог*, *Лоша*-1 і 2, *Янава*, Крынічная ў Падняпроўі, Краснасельскі-5—7 у Панямонні. Цікавай з'явай, што мае дачыненне да апрацоўкі крэменю, з'яўляюцца скарбы крамянёвых вырабаў. Найчасцей яны змяшчаліся ў невял. ямах з мэтай захоўвання вільготнасці, уласцівай толькі што здабытаму крэменю, ад якой залежала яго пластычнасць пры расколванні. На тэр. Беларусі скарбы крамянёвых вырабаў выяўлены на археал. помніках *Янава*, *Лоша*, Журавель у Падняпроўі, Навасёлкі-2 на Палессі.

*Літ.*: Ліпніцкая В.Л. Крэмнеапрацоўчыя майстэрні эпохі неаліту // ВАНБ. 1984. № 4; Я е ж. К истории исследования кремнеобрабатывающих мастерских на территории Белоруссии и сопредельной территории // Древности Белоруссии и Литвы. Минск, 1982.

*В.Л.Ліпніцкая.*

**КРЭ́МЕНЬ**, мінеральнае ўтварэнне, якое складаецца з крышталічнага і аморфнага крэменязёму $SiO_2$. У першасным заляганні сустракаецца ў асадкавых пародах (вапняку, крэйдзе, даламітах) у выглядзе жаўлакоў, лінз і праслоек. Багатыя праслойкі К. залягаюць у крэйдавых адорвенях у зах. Беларусі, дзе першабытны чалавек здабываў яго ў шахтах з дапамогай рагавых прылад працы. На агаленых пакладах крэйды па берагах Сажа, Дняпра і ў вярхоўі Нёмана К. проста збіралі ці выкалупвалі. Крыніцай здабычы К. для першабытнага чалавека служылі і ледавіковыя адкладанні на Палессі.

У Беларусі К. залягае пераважна ў форме канкрэцый (жаўлакоў), бываюць і пластавыя залежы. Канкрэцыйныя К. разнастайныя: падобныя да валуноў, галінак, круглаватыя, радзей нагадваюць палачкі, гнёзды. Жаўлакі размяшчаюцца ў пародзе бязладна і нераўнамерна. Іх колер ад светла-шэрага да белага звонку і ад чорнага да светла-шэрага ўсярэдзіне. Неапрацаваныя канкрэцыі маюць кварцава-апалава-кальцытавую абалонку. Пры папярочным сячэнні канкрэцыі відаць кругавая слаістасць. Памеры канкрэцый

разнастайныя: ад 10 см у папярочніку і вагой 200—300 г да 40—60 см і вагой 20—25 кг. Канкрэцыі «сожскага» К. пераважна авальна-выцягнутай формы памерамі ад 5—7 да 20 см. Колер іх ад смаляна-чорнага да светла-шэрага, унутраная маса ўсеяна кропкавымі ўключэннямі белаватага колеру. Зрэдку сустракаюцца К. і інш. па колеры (фіялетавы, руды), масе і форме. На афарбоўку і ўтварэнне на іх паверхні патыны ўплываюць тэмпература, прысутнасць у знешнім асяроддзі вокіслаў жалеза ці марганца і інш. фактары. Са здабытага К. першабытныя людзі выраблялі разнастайныя прылады працы: наканечнікі стрэл, дроцікаў, скрабкі, разцы, праколкі і інш. (гл. *Апрацоўка крэменю*, *Крэменеапрацоўчая майстэрня*). Яны карысталіся крамянёвымі прыладамі на працягу ўсяго каменнага веку, пакуль не навучыліся вырабляць прылады з медзі і бронзы. Прылады з К. трапляюцца нават у помніках жал. веку.

*В.Л.Ліпніцкая.*

**КРЭ́СІВА**, металічная прылада для высякання іскраў з крэменю. На тэр. Беларусі ў археал. матэрыялах вядома з эпохі жал. веку да 18 ст., частая знаходка пры раскопках гарадзішчаў, селішчаў, курганоў і сярэдневяковых гарадоў. Вылучаюць некалькі тыпаў К.: паясныя, абаранкападобныя (з язычком пасярод ударнага ляза і без яго), 2-лязовыя авальныя і прамавугольныя, санкападобныя, у выглядзе прамавугольнай пласцінкі з адагнутымі ўверх канцамі; існавалі і індывідуальныя яго формы. Насілі разам з кнотам і крэменем.

*Літ.*: Сагановіч Г.М. Кавальскія вырабы сярэдневяковага Мсціслава // Помнікі мастацкай культуры Беларусі: новыяälдослед.: зб. арт. Мінск, 1989.

*Г.М.Сагановіч.*

**КРЭ́ЎСКІ ЗА́МАК**, комплекс абарончых збудаванняў каля в. Крэва Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл. Пабудаваны ў 14 ст. каля сутокаў рэк Краўлянка і Шляхцянка. Замак даследавалі: у 1970 М.А.Ткачоў, у 1985 А.А.Трусаў і М.А.Ткачоў, у 1988—89 І.М.Чарняўскі.



*Крэсіва* *17 ст. з Мінскага замка.*

Асн. частка збудаванняў замка была размешчана на балоцістым поплаве, палова паўн.-ўсх. і паўн.-зах. абарончых муроў узведзена на штучна пашыранай пясчанай дзюне. Замак у плане мае форму няправільнага чатырохвугольніка, абнесены мураванымі сценамі. Паўн. сцяна даўж. 85 м, усх. — 108,5, паўд. — 71,55, зах. — 97,2 м. Таўшч. сцен 2,5—3 м, выш. каля 12—13 м. Сцены ад асновы падмуркаў да ўзроўню баявой галерэі вымураваны з палявога каменю. На выш. каля 7 м ад першапачатковай дзённай паверхні па вонкавым перыметры сцены аблямаваны поясам шыр. 2 м з буйнапамернай цэглы. Замак меў 2 вежы, размешчаныя па дыяганалі. Паўн. Княжацкая вежа амаль квадратная ў плане (18,65 × 17 м), выступае за перыметр абарончых муроў. Мела не менш 4 паверхаў і склеп-турму ўнізе, пераходы паміж якімі былі зроблены ў тоўшчы сцен. Сцены да выш. 3 м складзены з камянёў, вышэй шчокі вымураваны з буйнапамернай цэглы, прамежак паміж якімі забутаваны камянямі, і бітай цэглы на вапнавай рошчыне. Першапачатковыя перакрыцці паміж паверхамі былі бэлечныя. У сяр. 15 ст. па цэнтры вежы ўзведзены крыжападобны ў плане слуп, на які абапіраліся нервюрныя скляпенні. Столь і сцены верхніх паверхаў былі аздоблены фрэскамі, выкананымі пераважна ў цёплай колернай гаме. Аснову іх складалі геам. арнамент і выявы людзей. Уваход у вежу знаходзіўся на ўзроўні баявой галерэі. 3-і і 4-ы паверхі мелі вял. аконныя праёмы са спічастымі завяршэннямі, іх адкосы былі размаляваны фрэскамі. Тут размяшчаліся княжацкія пакоі. Ад Княжацкай вежы па дыяганалі праз замкавы двор да паўд. Малой вежы, прыбудаванай знутры да замкавых муроў, вяла брукаваная дарога шыр. каля 8 м. Памеры паўд. вежы 11 × 10,65 м. Уязная брама размяшчалася ў паўд.-ўсх. сцяне. Уздоўж паўн.-зах. сцяны на дзюне знаходзіліся жылыя і гасп. драўляныя будынкі (захаваліся фундаменты з камянёў і часткі драўляных канструкцый). На адлегласці каля 14 м ад Княжацкай вежы пад сцяной існавала кузня, непасрэдна каля вежы — канавязь. На зах. краі дзюны бліжэй да ўязной брамы знаходзіўся прамавугольны ў плане мураваны будынак жылога прызначэння, даўж. каля 8 м. Пад будынкам быў склеп глыб. 3 м. У зах. паніжанай частцы замкавага двара размяшчаўся стаў з вадой. Вежы замка былі накрыты паўцыркульнай дахоўкай. У 14—15 ст. печы выкладаліся з гаршковай кафлі. У 16—18 ст. выкарыстоўвалася кафля з вонкавай пласцінай, аздобленай раслінным, геам. і сюжэтным арнаментамі. Іх асн. часткі былі пакрыты зялёнай палівай. Калекцыя археал. знаходак сведчыць пра інтэнсіўнае жыццё ў замку ў 14—17 ст., калі ён з'яўляўся рэзідэнцыяй вял. князёў. Шырокім асартыментам прадстаўлены керамічны, сталовы і кухонны посуд (гаршкі, збаны, глякі, гладышы, біклагі, куфлі, талеркі, рынкі, латкі і іх фр-ты), абломкі шкляных імпартных пасудзін, металічныя вырабы (падковы, замкі, ключы, ад-

мычкі, кавальскія прылады і інш. гасп. начынне, наканечнікі стрэл і балты арбалетаў).

Замак моцна пацярпеў падчас 1-й сусветнай вайны, калі каля Крэва праходзіла лінія фронту і больш за 3 гады вяліся пазіцыйныя баі (1915—17). У 1929 польскія рэстаўратары ўмацавалі паўн. сцяну контрфорсам шыр. 2 м і закансервавалі. Абліцоўку Княжацкай вежы звязалі жал. сцяжкамі, залілі вапнавай рошчынай шчыліны, падмуравалі ўмацаваныя эскарпам рэшткі паўн.-ўсх. сцяны.

*Літ.*: Т к а ч е в М.А., Т р у с о в О.А. Исторические и архитектурно-археологические исследования Кревского замка // Вопросы архитектуры Литовской ССР. Вильнюс, 1988; Д з я р н о в і ч А.І., Т р у с а ў А.А., Ч а р н я ў с к і І.М. Лёс Крэва. Мінск, 1993; Т р у с а ў А. Матэрыяльная культура Крэўскага замка // З глыбі вякоў. Наш край: гіст.-культурал. зб. Мінск, 1996. [Вып. 1].

*А.А.Трусаў.*

**КСЯНДЗО́ВА ГАРА́**, археалагічны помнік — паселішча *сярэднедняпроўскай культуры* за 4 км на Пд ад г. Быхаў Магілёўскай вобл. Размешчаны ў пойме правага берага р. Дняпро, на пясчаным узгорку. Адкрыў у 1928 К.М.Палікарповіч, даследаваў 420 м$^2$ у 1956 і 1958 І.І.Арцёменка. Культ. пласт 0,3—0,4 м. Выяўлены рэшткі наземных жытлаў слупавой канструкцыі, складзеныя з камянёў агнішчы і ачаговыя ямы. Для вырабу прылад працы выкарыстоўвалі мясц. цёмна-шэры крэмень. Знойдзены: прылады працы — скрабкі, скрэблы, нажы, клінападобныя сякеры, наканечнікі дроцікаў, ліста-, ромбападобныя і трохвугольныя з выемкай каля асновы наканечнікі стрэл; фр-ты керамікі 3 тыпаў — посуд з прамой адагнутай вонкі шыйкай, круглаватым тулавам і плоскім дном, упрыгожаны адбіткамі перавітай вяровачкі, лінейным і зубчастым штампам, наразнымі лініямі, якія ўтвараюць трохвугольнікі, гарызантальныя і дыяганальныя рады; пласкадонныя пасудзіны слоікападобнай формы без арнаменту; танкасценныя пасудзіны з высокай адагнутай вонкі шыйкай, шарападобным тулавам і круглаватым дном. Датуецца 2200—1400 да н.э.

*Літ.*: А р т е м е н к о И.И. Племена Верхнего и Среднего Поднепровья в эпоху бронзы // МИА. 1967. № 148; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1. Минск, 1970; К о п ы т и н В.Ф. Археологические памятники Быховского района Могилевской области. Могилев, 1995; Я г о ж. Свод памятников археологии чернобыльской зоны Могилевской области. Могилев, 1998.

*В.Ф.Капыцін.*

**КСЯНДЗО́Ў** (К с я н з о ў) Уладзімір Паўлавіч (25.7.1951, в. Чарнаўчыцы Брэсцкага р-на — 30.8.2002), беларускі археолаг. Д-р гіст. навук (1994). Скончыў Магілёўскі педагагічны ін-т (1973). Працаваў настаўнікам у школе. З 1978 у ІГ НАН Беларусі, у т.л. з 1983 старшы, з 1994 вядучы навук. супрацоўнік. Даследаваў помнікі палеаліту і мезаліту на тэр. бел. Падняпроўя і басейна Зах. Дзвіны. Вылучыў 2 этапы засялення тэр. Беларусі ў каменным веку, выявіў у мезаліце Падняпроўя і Падзвіння помнікі грэнскай, янісларіцкай і кунда археал. культур.



*У.П.Ксяндзоў.*

*Тв.*: Засяленне тэрыторыі Беларусі ў эпоху палеаліту // ВАНБ. 1983. № 2; Новые мезолитические памятники юга Белоруссии // СА. 1984. № 2; Поздний мезолит белорусского правобережья Днепра // Там жа. 1986. № 1; Палеолит и мезолит Белорусского Поднепровья. Минск, 1988; Мезолит Белорусского Подвинья // РА. 1994. № 3; Финальный палеолит и мезолит Поднепровья Беларуси // Там жа. 1997. № 1; Мезолитическая днепро-деснинская культура // ГАЗ. Мінск, 1994. № 5.

**КУ́БАК**, невялікая пасудзіна для піцця, найчасцей цыліндрычнай, радзей збана- ці бочкападобнай формы з выразаным донцам, 1—2 ручкамі (трапляюцца без іх), звычайна без накрыўкі. Выраблялі К. з гліны, металу, каменнай масы (гл. *Рэйнскі посуд*), дрэва або шкла. Вял. колькасць керамічных (радзей шкляных) К. знойдзена пры раскопках Віцебска, Мінска, Гродна, Магілёва, Крычава, Мсціслава, Слоніма, Лідскага, Мірскага і Гальшанскага замкаў і інш. Керамічныя К. былі пашыраны ў 16—17 ст. Іх унутраную, часам вонкавую паверхню да паловы пакрывалі зялёнай або карычневай палівай (былі і паліхромныя), на плечуках К. упрыгожвалі разнастайным штампавым і рыфлёным (Панямонне) або рыфлёным і наляпным (Магілёўшчына) арнаментам. У 18 ст. сустракаюцца рэдка, іх форма паступова мяняецца, і ў 19— 20 ст. яны саступаюць месца цыліндрычным шырокім пасудзінам з вушкам з той жа назвай. Часам К. выкарыстоўвалі як ёмістасць для падлівак ці сталовы посуд для дзяцей.

*Літ.*: З д а н о в і ч Н.І., Т р у с а ў А.А. Беларуская паліваная кераміка XI—XVIII стст. Мінск, 1993; Т р у с а ў А.А. Беларускае кафлярства. Мінск, 1993.

*А.А.Трусаў.*

**КУ́БЛІЧЫ**, археалагічныя помнікі — гарадзішча і курганныя могільнікі каля в. Кублічы Ушацкага р-на Віцебскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а *днепра-дзвінскай культуры* за 0,5 км на У ад вёскі, на востраве воз. Кубліцкае. Авальнае ў плане, памеры 30 × 65 м, выш. 6—8 м. Выявіў у 1928 І.А.Сербаў. Даследаваў у 1964—66, 1968 К.П.Шут (736 м$^2$). У 1982 абследаваў В.І. Шадыра. Культ. пласт у цэнтры таўшч. 0,25—0,35 м, каля краёў — 1,2 м. Выяўлены рэшткі наземных жытлаў слупавой канструкцыі, што размяшчаліся ўздоўж краю пляцоўкі. Унутры іх прасочаны адкрытыя агнішчы, абкладзеныя камянямі. Керамічны матэрыял у асн. складаюць слабапрафіляваныя слоікападобнай формы гаршкі днепра-дзвінскай культуры, невял. колькасць керамікі штрыхаванай культуры. Выяўлена некалькі фр-таў керамікі з адбіткамі тканіны. Знойдзены жал. нажы, сярпы, рыбалоўныя кручкі, шылы, наканечнікі стрэл, разнастайныя ўпрыгажэнні з жалеза і бронзы (посахападобныя шпількі, пярсцёнкі, бляхі, бранзалеты), прылады працы з крэменю. Зафіксаваны рэшткі печы-домніцы, у якой выплаўлялі жалеза, шмат шлакаў, каменныя кавадлы, зерняцёркі. Датуецца 4 ст. да н.э. — 3 ст. н.э.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к - 1 на паўд.-зах. ускраіне вёскі. 10 курганоў: 4 прадаўгаватыя выш. 2,5—3 м; 6 круглых дыям. 8—12 м, выш. 0,3—2,5 м. Выявіў у 1903 М.Ф.Кусцінскі. Абследавалі ў 1928 І.А.Сербаў, у 1971 А.Г.Калечыц.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к - 2 за 0,3 км ад могільніка-1, ва ўр. Валатоўкі. Мясц. назва Чырвоны Бор. 126 насыпаў дыям. 5—8 м, выш. 0,5—2 м. Выявіў у 1903 М.Ф.Кусцінскі. Абследавалі ў 1928 І.А.Сербаў, у 1971 А.Г.Калечыц.

*Літ.*: К у с ц и н с к и й М.Ф. Из заметок о курганах Лепельского уезда // Полоцкие епархиальные ведомости. Витебск, 1903. № 7; Ш у т К.П. Городище Кубличи Ушачского р-на // Древности Белоруссии. Минск, 1969; Ш а д ы р о В.И. Ранний железный век северной Белоруссии. Минск, 1985. *В.І.Шадыра.*

**КУБЛІ́ШЧЫНА**, курганны могільнік балта-славянскага насельніцтва 10—12 ст. каля в. Кублішчына Міёрскага р-на Віцебскай вобл. за 0,6 км на ПнУ ад вёскі, у лесе, справа ад шашы Міёры—Новы Пагост, ва ўр. Валатоўкі. Адкрыў у к. 19 ст. Ф.П.Пакроўскі. Абследавалі Г.Цэгак-Галубовіч і У.Галубовіч (1938—39), А.Р.Мітрафанаў (1973), Л.У.Дучыц (1977, 1978, 1980). У 1980 Л.У. Дучыц раскапала 22 курганы, у 1986 Л.У.Дучыц і В.З.Шадыра — яшчэ 3. Захаваліся 62 курганы, астатнія разбураны пры выпрацоўцы кар'ера. Насыпы круглыя дыям. 3—17 м і авальныя выш. 0,3—1 м. Каля асобных курганоў прасочваюцца раўкі. Пахавальныя абрады — трупаспаленне ў ямах і трупапалажэнне на гарызонце галавой на З. У парным пахаванні жаночы шкілет арыентаваны на ПдЗ, мужчынскі — на ПдУ. Пахавальны інвентар: нажы, калачападобнае крэсіва, наканечнікі коп'яў, вітыя бранзалеты з завязанымі канцамі, 3 ліράпадобныя спражкі, бранзалет з пашыранымі канцамі, 2 бразготкі з крыжападобнай прорэззю, 5 спіральных пранізак, 2 паясныя кольцы дыям. 33 м, 6 паўтараабаротных кольцаў. Ляпная кераміка і 5 ганчарных пасудзін, адна з якіх арнаментавана лініямі і насечкамі, на днішчы другой — кляймо ў выглядзе 2 перасечаных ліній.

*Літ.*: Г о л у б о в и ч Е., Г о л у б о в и ч В. Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР // КСИИМК. 1945. Вып. 11; Д у ч и ц Л.В. Курганная группа у д. Кублищино // Древности Белоруссии и Литвы. Минск, 1982; П о к р о в с к и й Ф.В. Археологическая карта Виленской губернии. Вильна, 1893.

**КУДЛА́ЕЎСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура плямён, якія ў 8—6-м тыс. да н.э. жылі ў сярэднім цячэнні р. Дзясна, ніжнім Пасожжы, Прыпяцкім Палессі, верхнім і сярэднім цячэнні Нёмана, на ПнУ Польшчы. К.к. атрымала назву па стаянцы Кудлаеўка (Чарнігаўская вобл., Украіна, басейн р. Дзясна), адкрытай у 1925 М.Я.Рудзінскім. Вылучана ў 1972 польскім даследчыкам С.Казлоўскім, абгрунтавана матэрыяламі Д.Я. Цялегіна, Л.Л.Залізняка, Т.Астраўскаса і інш. Паселішчы К.к. прымеркаваны да нізінных ландшафтаў, звычайна размешчаны на пясчаных уз-



Аўтар А.У. Коласаў

вышшах, радзей на берагавых тэрасах. К.к. — прыклад развіцця мікралітычнай індустрыі. Тэхніка расшчаплення крэменю была накіравана на атрыманне пласцінiстых сколаў невял. памераў і няправільнай агранкі з аднапляцовачных нуклеусаў. Тэхніка сколу — удар з дапамогай каменнага адбойніка. У тэхніцы другаснай апрацоўкі насельніцтва К.к. выкарыстоўвала стромкае, паўстромкае і плоскае рэтушаванне. Вядомы таксама тэхніка разцовага сколу і прыёмы аббіўкі. У якасці загатовак для большасці прылад працы (скрабкі, разцы, вырабы з выемкай, сякучыя прылады) выкарыстоўваліся адшчэпы. Пласціна была асн. загатоўкай для вастрый, мікрапласцінак з прытупленым краем, трохвугольнікаў каморніцкага тыпу, сярэдневысокіх і высокіх сіметрычных трапецый, тронкавых наканечнікаў стрэл, што з'яўляецца культуравызначальным для крамянёвага інвентару К.к.

Храналогія К.к. грунтуецца на тыпалагічнай характарыстыцы крамянёвага інвентару, стратыграфічных назіраннях, дадзеных паліналагічнага і радыевугляроднага аналізу. Раннія помнікі датуюцца сяр. 8-га — пач. 7-га тыс. да н.э. і характарызуюцца адсутнасцю геам. мікралітаў. Пачынаючы з 7-га тыс. да н.э. пашыраецца выкарыстанне трапецый, трохвугольнікаў, што тлумачыцца ўплывамі насельніцтва *каморніцкай культуры*.

На тэр. Беларусі помнікі К.к. вядомы з к. 19 ст. Значныя матэрыялы атрыманы ў 20 ст. ў выніку даследаванняў К.М.Палікарповіча, У.Ф. Ісаенкі, У.П.Ксяндзова, А.Г.Калечыц, В.Я.Кудрашова, М.М.Крывальцэвіча. Сярод помнікаў: *Азярное*-1, *Белая Сарока*, *Кажан-Гарадок*, *Ліпля-*

*ны*-3, *Хвашчоўка*, *Цытылле* (Прыпяцкае Палессе); *Новыя Цярэшкавічы* (ур. Крыга), *Прысна* (ур. Замастоўе), *Раманавічы* ў басейне р. Сож; *Рэчыца*-2 (на р. Дняпро), *Куль*-1 (басейн р. Шчара, Панямонне). Наяўнасць трапецый, каморніцкіх трохвугольнікаў і вастрый дазваляе датаваць асн. частку помнікаў К.к. ў Беларусі 7—6-м тыс. да н.э.

К.к. разам з каморніцкай адносіцца да кола культур Дзювензее. Яе паходжанне звязваюць з прадстаўнікамі *арэнсбургскай культуры* фінальнага палеаліту пры ўдзеле носьбітаў традыцый Федэрмесер. На думку С.К.Казлоўскага, генезіс К.к. — вынік міграцый насельніцтва каморніцкай культуры ва ўсх. напрамку. Не выключана, што генезіс К.к. таксама можа быць звязаны з мясц. культурамі позняга і фінальнага палеаліту. Дз.Я.Цялегін падставай для ўзнікнення К.к. лічыў помнікі тыпу Пушкары-7 (Пакроўшчына) пры ўдзеле культур з Пд. Выказваецца меркаванне, што ў фарміраванні К.к. прынялі ўдзел носьбіты ўсх.-еўрап. варыянта культуры Федэрмесер — фінальнапалеалітычнай культуры сегментападобных мікралітаў тыпу Боршава-2, якая ўвасобіла ў сабе традыцыі крэменеапрацоўкі Эпігравету паўд. і цэнтр. Украіны (Л.Л.Залізняк).

*Літ.*: Т е л е г і н Д.Я. Мезолітичні пам'ятки України. Київ, 1982; К с е н з о в В.П. Палеолит и мезолит Белорусского Поднепровья. Минск, 1988; З а л і з н я к Л.Л. Фінальний палеоліт і мезоліт континентальної України. Культурний поділ та періодизація // Кам'яна доба України. Київ, 2005. Вип. 8; O s t r a u s k a s T. Mezolitinė kudlajevkos kultūra Lietuvoje // Lietuvos archeologija. Vilnius, 2002. T. 23; O b u c h o w s k i W. Zabytki krzemienne i kamienne od paleolitu do wczesnej epoki żelaza z terenów Białorusi w zbiórach Państwowego Muzeum Archeologicznego w Warszawie. Warszawa, 2003.

*А.У.Коласаў.*

**КУ́ЗЬМАЎШЧЫНА**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Кузьмаўшчына Браслаўскага р-на Віцебскай вобл. За 0,5 км на ПдУ ад вёскі. Захаваліся 3 насыпы авальнай формы выш. 0,7—1,5 м. Абследаваў у 1938 М.Пецюкевіч. У 1979 даследавала 2 курганы Л.У.Дучыц. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце. Знойдзены металічныя шалі вагаў, жал. наканечнік кап'я, сякеры, абломак крэсіва, ляпны і ганчарны посуд.

**КУЗЬМІЧЫ́**, археалагічны помнік — паселішча неаліту і эпохі бронзы каля в. Кузьмічы Любанскага р-на Мінскай вобл. За 2—2,5 км на ПнЗ ад вёскі. Адкрыў М.М.Крывальцэвіч у 1981. Сляды паселішча знойдзены на пясчаным усх. і паўд.-ўсх. берагах воз. Кузьміцкае (паселішча-1А). Насупраць узвышшаў паўд.-ўсх. берага, на дне возе-




*Крамянёвыя вырабы (1—7) і абломкі панцыраў чарапах са слядамі арнаментавання (8—10) з паселішча-1Б* ***Кузьмічы***.

ра знаходзіцца культ. пласт неалітычнага часу (паселішча-1Б). У межах верхняга паселішча-1А у к. 1980—90-х г. М.М.Крывальцэвічам праводзіліся паверхневыя зборы. Знойдзены фр-ты керамікі і крамянёвыя вырабы *днепра-данецкай культуры*, кола *шнуравой керамікі культуры*. На паселішчы-1Б у 1999—2002 даследавана 130 м$^2$. Культ. рэшткі былі перакрыты гумусаванымі алювіяльнымі адкладамі і залягалі ў донным аргана-мінеральным, чорнага колеру пласце з глыб. 0,15—0,2 м ад паверхні дна. Культ. рэшткі прасочваліся да глыб. 0,4—0,45 м, да таго ўзроўню, дзе пачынаўся торф бурага колеру. Культ. пласт насычаны драўлянымі рэшткамі, у т.л. са слядамі выкарыстання і апрацоўкі. Многія з іх захаваліся ў асмаленым выглядзе. На асобных участках раскопаў прасочвалася сістэмнасць у іх размяшчэнні: адзначалася нагрувашчванне бярвёнаў і кіёў, якія маглі быць рэшткамі пабудовы. Знойдзена каля 4 тыс. фр-таў неалітычнага посуду 3-га ці 4-га этапу ўсх.-палескага варыянта днепра-данецкай культуры. Таксама вылучаецца невял. колькасць танкасценнай керамікі з шамотавымі дамешкамі і слядамі заціранння паверхні, традыцыі кола культуры шнуравой керамікі. Да неалітычнага комплексу належаць таксама вырабы з косці і рога: запаліраваная падвеска акруглай формы з адтулінай для падвешвання, амулет з ікла дзіка, рог тура з папярочнымі надрэзамі і прабітай адтулінай, абломкі востраканечнікаў і інш. Выяўлена няшмат вырабаў з крэменю. Астэалагічны матэрыял даследаваўся А.А.Разлуцкай (млекакормячыя), В.А.Бахаравым (чарапаха), Э.А.Ляшкевіч (рыбы), Е.Н.Курачкіным і Н.В.Зелянковым (птушкі). Суадносіны дзікіх і хатніх жывёл адпаведна 78% і 22%.

Культ. пласт помніка паселішча-1Б фарміраваўся ў неаліце з 2-й пал. 4-га да к. 3-га тыс. да н.э. На месцы верхняга паселішча-1А рассяленне працягвалася ў 2-м тыс. да н.э. Верагодна, што К. былі месцам лакалізацыі часовых паселішчаў.

*Літ.*: Крывальцэвіч М.М. Даследаванне помнікаў неаліту і эпохі бронзы на Палессі // ГАЗ. Мінск, 2003. № 18; Кривальцевич Н.Н., Разлуцкая А.А., Бахарев В.А. Некоторые результаты археозоологических исследований на неолитичес-



*Раскопкі на паселішчы* ***Кузьмічы*** *ў 2001.*

ком поселении Кузьмичи 1 (Предполесье Беларуси) // Человек. Адаптация. Культура. М., 2008.

*М.М.Крывальцэвіч.*

**КУКЛІ́**, археалагічны помнік — каменны могільнік каля в. Куклі Воранаўскага р-на Гродзенскай вобл. За 1,5—2 км на З ад вёскі, на пагорку сярод поля. Мясц. назва Баярскія магілы. Паходжанне могільніка мясц. жыхары тлумачаць як вынік вайны баяр з крыжакамі. Выявіла ў 1982 і абследавала ў 1988—89 А.В.Квяткоўская (48 пахаванняў), абследаваў у 1984 Я.Г.Звяруга.

Магілы згрупаваны па 2—3, цягнуцца няроўнымі радамі з Пн на Пд. Больш старажытныя чаргуюцца з пазнейшымі, ёсць падзахаванні. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў чатырохвугольных ямах глыб. 0,8—1,3 м галавой на Пд ці ПдЗ. Каменныя вымасткі авальнай і падоўжана-авальнай формы (2,1 × 1,5 × 0,25 м, 2,7 × 1,7 × 0,25 м) з камянёў сярэдніх і малых памераў, часткова ці поўнасцю разбураны. У галаве пахаванняў — большыя камяні. Пад вымасткамі выяўлены вуглі і фр-ты непаліванай ганчарнай керамікі чырвонага і брудна-жоўтага колераў. Чырвоныя гаршкі з невысокім, крыху адагнутым венчыкам, лінейным ці хвалістым арнаментам па тулаве; выраблены з дрэнна перамяшанай гліны і слаба абпалены. Датуюцца 12—13 ст. Брудна-жоўтыя гаршкі слоікападобныя, з ледзь прыкметным рабром, па плечуках арнаментаваны перакрыжаванымі лініямі; выраблены з добра перамяшанай гліны, раўнамерна абпалены. Датуюцца 11—13 ст. Аналагі абодвух відаў гаршкоў у пахаваннях на ПдУ Літвы, у курганным могільніку Пуцілкавічы Ушацкага р-на. У запаўненні магілы знойдзены фр-ты керамікі, у слоі гумусу — жал. нажы, бронзавыя і медныя пярсцёнкі, бронзавая бразготка, двухлязовае крэсіва, паясное кольца, кавалак жал. пласціны і медная бляшка ад рыштунку каня. Пад вымасткамі на глыб. каля 0,3 м сляды вогнішчаў, якія не дасягалі касцей. У большасці пахаванняў выяўлены рэшткі дамавін. Іх інвентар: медныя бляшкі ад галаўнога ўбору, шматпацеркавыя скроневыя кольцы з медзі і серабра, рознакаляровыя шкляныя пацеркі, бронзавыя бразготкі, медны крыжык, ракавіны кауры, сімвалічныя ключы, завушніцы, пярсцёнкі, грошы і інш. У 6 магілах без інвентару на зах. ускрайку могільніка пахавальны абрад вызначаецца наяўнасцю керамікі ў вогнішчах пад вымасткамі, дамавіны абмазаны глінай. Адноўлены з фр-таў гаршчок мае тонкі прамы венчык, датуецца 17—18 ст. Яго аналаг у каменным могільнікуকоматава Гродзенскага р-на. Могільнік датуецца 12—13 ст. і к. 14 — пач. 17 ст.

*А.В.Квяткоўская.*

**КУЛЬ**, археалагічныя помнікі — стаянкі каля в. Сваціца Ляхавіцкага р-на Брэсцкай вобл. Знаходзяцца ва ўр. Куль. У 2006 выявілі і даследавалі А.Г.Калечыц, В.Л.Лакіза, М.М.Чарняўскі.

С т а я н к а - 1 *кудлаеўскай культуры* на ўсх. краі ўрочышча. Памеры пляцоўкі 40 × 80 м. Даследавана 78 м². Культ. пласт таўшч. да 0,45 м. Знойдзены адшчэпы, у т.л. пласцiністыя, і іх фр-ты, пласціны, у т.л. рабрыстыя, і іх фр-ты, сколы падпраўкі нуклеусаў, лусачкі, пласціны са скошаным рэтушшу канцом, адшчэпы з рэтушшу, разцы розных тыпаў, скрабкі канцавыя на пласцінах, цёслы, вастрыё з рэтушаванай асновай. Датуецца 7—6-м тыс. да н.э.

С т а я н к а - 2 *яніславіцкай культуры* за 0,2 км на ПнЗ ад стаянкі-1. Памеры пляцоўкі 40 × 60 м. Узвышаецца над балотам на 1,5 м. Даследавана 108 м². Культ. пласт таўшч. да 0,5 м. Выяўлены 2 акруглыя ямы дыям. 1,46 м і 1,2 м, глыб. 0,3 і 0,36 м. Знойдзены крамянёвыя і каменныя вырабы, фр-ты ганчарнага посуду, астэалагічныя рэшткі; мезалітычныя прылады працы: скрабкі, разцы, праколкі, скрэблы, цёслы, нажы, геам. мікраліты, вастрыі, пласціны-ўкладышы. Датуецца 6—5-м тыс. да н.э.

С т а я н к а - 3 на Пд урочышча. Памеры пляцоўкі 50 × 90 м. Выш. над балотам 1 м. Даследавана 118 м². Культ. пласт таўшч. да 0,5 м. Зной-

*Касцяныя прылады (1, 2, 4) і ўпрыгажэнні (3, 5) з паселішча-1Б* ***Кузьмічы.***



дзены крамянёвыя і каменныя вырабы, фр-ты ганчарнага посуду, астэалагічныя рэшткі; прылады працы фінальнага палеаліту і мезаліту: наканечнікі стрэл, разцы, скрабкі, праколкі, рубячыя прылады, цёслы і інш. Склад знаходак дазваляе зрабіць выснову аб тым, што месца стаянкі было заселена двойчы. Першы раз стаянка засялялася фінальнапалеалітычным насельніцтвам *свідэрскай культуры* (к. 9-га — пач. 8-га тыс. да н.э.), другі раз — мезалітычным насельніцтвам янісла-віцкай культуры (6—5-е тыс. да н.э.).

*А.Г.Калечыц, В.Л.Лакіза, М.М.Чарняўскі.*

**КУЛЬБА́ЧЫНА**, археалагічны помнік — гарадзішча 10—13 ст. каля в. Кульбачына Шчучынскага р-на Гродзенскай вобл. За 0,8 км на З ад вёскі, на схіле спусцістага берага р. Астрынка. Пляцоўка авальная, памерамі 70 × 55 м, абкружана з трох бакоў (Пн, Пд і У) валам шыр. 12 м, выш. 3—3,5 м; з З, дзе знаходзіўся ўезд на гарадзішча, — 1,5—2 м. З Пн, з боку забалочанай поймы ракі — роў шыр. 3,5—4 м. Выявіў у 1968 В.В.Сядоў. Абследаваў у 1975 М.А.Ткачоў, даследаваў (зрабіў прарэзку вала і раскапаў 260 м$^2$ на пляцоўцы) у 1989— 90 С.А.Піваварчык. Культ. пласт 0,2—1 м. Жытлы былі наземныя, зрубавыя, у плане па форме блізкія да квадрата, узводзіліся з круглых абчасаных бярвёнаў. Для ацяплення выкарыстоўваліся агнішчы і печы-каменкі. Знойдзеная кераміка (датуецца к. 10—13 ст.) выключна ганчарная, пераважная яе большасць — рэшткі гаршкоў з дамешкамі жарствы, слюды, маленькіх каменьчыкаў; часткова акрамя лінейнага і хвалістага арнаменту ўпрыгожана штампам. На некалькіх донцах — клеймы: крыж у крузе. Выяўлены гліняныя прасліцы (зонныя і біпірамідальныя), касцяныя вырабы (качадык для пляцення, праколкі), жал. нажы, шылы, рыбалоўны кручок, тачыльныя камяні, ручныя зерняцёркі, рэшткі каменных жорнаў; бронзавая падкавападобная фібула са спіралевіднымі канцамі, медная пранізка-спіралька, абломкі шкляных бранзалетаў, зонная шкляная пацерка сіняга колеру, біпірамідальная пацерка з бурштыну; жал. наканечнікі стрэл, ланцэтападобны наканечнік дзіды з утулкай 10—11 ст., арнаментаванай рэльефнымі раўкамі (упершыню ў Беларусі). Прарэзка вала паказала, што ён насыпаны ў адзін прыём адначасова з наладжваннем жыцця на паселішчы ў к. 10 — пач. 11 ст. і меў драўляныя ўмацаванні. Ядро вала з гліны, знешні схіл быў забрукаваны каменнем. Спачатку гэта была крэпасць — апорны пункт каланізацыі правабярэжжа Нёмана слав. насельніцтвам. З развіццём феад. адносін з 12 ст. пасяленне набыло рысы сядзібы-замка.

*Накнечнікі коп'яў, стрэл і шпора з гарадзішча* ***Кульбачына****.*













За 0,2 км на Пн ад вёскі і за 0,3 км на Пд ад гарадзішча — 2 курганныя могільнікі (5 і 4 насыпы).

*Літ.*: С е д о в В.В. К истории поселений Черной Руси // КСИА. 1974. Вып. 139. *С.А.Піваварчык.*

**КУ́ЛЬТАВЫЯ ЯЗЫ́ЧНІЦКІЯ ПО́МНІКІ**, месцы і збудаванні, дзе пакланяліся язычніцкім багам, духам і інш. сакральным істотам і стыхіям. Многія рытуальныя дзеянні амаль не патрабавалі рэквізіту і таму не пакінулі археал. слядоў. Разнастайныя звароты да сіл прыроды, духаў дабра і зла, заклінанні маглі адбывацца ў жытлах, на плошчах паселішчаў, каля крыніц, на лугах, берагах рэк і азёр, на ўскраіне поля, каля свяшчэнных дрэў. Язычніцкія святы часта адзначаліся на свяшчэнных пагорках. На тэр. Беларусі быў шырока распаўсюджаны культ камянёў, у т.л. камянёў-следавікоў. Пад канец існавання першабытнаабшчыннага ладу ўзніклі капішчы. У к. 1-га тыс. існавалі гарадзішчы-свяцілішчы. Пасля прыняцця хрысціянства значная частка К.я.п. выкарыстоўвалася ў час хрысціянскіх свят і набыла функцыі прошчаў.

*Літ.*: Р ы б а к о в Б.А. Язычество Древней Руси. М., 1987. *Э.М.Зайкоўскі.*

**КУЛЬТУ́РА АРХЕАЛАГІ́ЧНАЯ**, паняцце археалагічнай навукі, пад якім разумеюць: 1) сукупнасць археал. помнікаў, аб'яднаных агульнымі тэрытарыяльнымі, храналагічнымі, этнічнымі прыкметамі, якія вызначаюцца тыпалагічным, марфалагічным, тэхналагічным падабенствам рэчавых крыніц (прылады працы, прадметы ўзбраення, упрыгажэнні, керамічныя вырабы, рэшткі жытлаў, пахаванні і г.д.); 2) сістэму традыцый асобнай сацыяльнай групы, што склалася ў пэўных гіст. умовах і знайшла сваё матэрыяльнае азначэнне ў розных відах чалавечай дзейнасці, адлюстраванае пры вывучэнні археал. крыніц; 3) сістэму заканамерна звязаных элементаў (катэгорый, тыпаў) археал. матэрыялу, якія вызначаюць спецыфіку культ.-гасп. традыцый аб'ектыўна існаваўшай грамадскасці людзей у прасторы і часе. Эквівалентамі паняццю «К.а.» выступаюць: «археалагічны комплекс помнікаў», «тэхнакомплекс», «індустрыя», «культурна-гістарычная грамадскасць», «культурнае кола» і г.д. К.а. — дынамічная сістэма, якая дазваляе вызначыць структуру культ. адзінства, прасачыць эвалюцыю развіцця традыцый і навацый, абгрунтаваць лакальныя асаблівасці і храналагічныя этапы.

Кожнай К.а. прысвойваецца назва: па эпанімнаму помніку або групе помнікаў, дзе атрыманы выразныя матэрыялы (*лінгбі культура* фінальнага палеаліту па стаянцы Лінгбі на Пн сучаснай Даніі); па тэр. пашырэння помнікаў, блізкіх па храналогіі і матэрыяльнай культуры (*днепра-дзвінская культура* ранняга жал. веку); па ад-



*Кругавы посуд з гарадзішча **Кульбачына**.*

метнай прыкмеце рэчавага комплексу (напр., *шарападобных амфар культура, шнуравой керамікі культура, штрыхаванай керамікі культура*) і г.д.

Вырашэнне праблемы генезісу і развіцця К.а. непарыўна звязана з вызначэннем яе археал. кантэксту — прыкмет, якія з дапамогай матэрыяльных рэчаў дазваляюць акрэсліць культ. спецыфіку ў прасторы і часе.

Археал. змест К.а. эпохі палеаліту грунтуецца на ўяўленні аб культ. адметнасцях палеаіндустрыі канкрэтнага помніка ці групы помнікаў, тэр. і храналагічна аб'яднаных агульнымі рысамі ў спосабах першаснай і другаснай апрацоўкі каменнай, касцяной, рагавой і драўнінавай сыравіны, марфалогіі рэчаў (прылад працы, прадметаў узбраення, тыпаў жытлаў і пахаванняў). У фінальным палеаліце адметнасці К.а. вылучаюцца ў формах наканечнікаў стрэл і асаблівасцях іх апрацоўкі, у эпоху мезаліту прадметы ўзбраення дапаўняюцца групай мікралітаў — трапецый, трохвугольнікаў, сегментаў і інш. З пачатку эпохі неаліту найважнейшай прыкметай К.а. быў керамічны посуд з арнаментацыяй; на думку некаторых даследчыкаў, выступаў і як этнічны паказчык. У бронзавым, раннім жал. вяках і сярэдневякоўі кантэкст К.а. вызначаецца не толькі ў рэчавым комплексе знаходак (прылады працы, прадметы ўзбраення, упрыгажэнні, кераміка), але і ў тапаграфіі і планіграфіі паселішчаў, тыпах жыллёва-гасп. пабудовы, асаблівасцях пахавальнага абраду. За вытворча-гасп. спецыфікай, безумоўна, стаіць чалавек і адметнасці яго традыцыйнай культуры. Таму адна з гал. задач археалогіі заключаецца ў вызначэнні культ. і гасп. адрозненняў, якія адлюстраваны ў рэчавым матэрыяле пэўнай К.а.

*Літ.*: Каменецкий И.С. Археологическая культура — ее определение и интерпретация // СА. 1970. № 2; Клейн Л.С. Проблема определения археологической культуры // Там жа; Я г о ж. Археологическая типология. Ленинград, 1991; Аникович М.В. Археологическая культура: последствия определения понятия для процедуры археологического исследования // СА. 1989. № 4; Мартынов А.И., Шер Я.А. Методы археологического исследования. М., 2002.

*А.У.Коласаў.*

**КУЛЬТУ́РНЫ ПЛАСТ**, прынятая ў археалогіі і геалогіі назва пласта зямлі, які ўтварыўся ў выніку жыццядзейнасці чалавека. Мае сваю кансістэнцыю (гумус, вуголле, попел, вапну, пясок, гліну, трэскі, буд. друз і інш.), структуру, спецыфічны колер, часам спецыфічны пах. У К.п. захоўваюцца рэшткі стараж. жытлаў, гасп. пабудоў, помнікаў манументальнага дойлідства, прадметы матэрыяльнай культуры, кухонныя адыходы. На фарміраванне К.п. ўплывае інтэнсіўнасць жыцця і род дзейнасці людзей, ступень канцэнтрацыі жыхароў на адпаведнай плошчы ў той ці іншы час, працягласць пражывання на помніку, а таксама знешнія абставіны (стыхійныя бедствы, варожыя навалы і г.д.). Таўшчыня К.п. у гарадах каля храмаў і на гандл. плошчах меншая, чым на месцы сядзіб і майстэрняў, на гарадзішчах і дзяцінцах большая, чым на селішчах і пасадах. На палеалітычных помніках (*Бердыжская стаянка, Падлужжа, Юравічы* і інш.) ён мае таўшч. да 0,6—0,7 м, чырванаватага альбо зеленавата-шэрага колеру, утрымлівае рэшткі жытлаў, крамянёвыя прылады працы, косці маманта і інш. буйных жывёл, але, як правіла, перакрыты пластом баласту таўшч. 3—4 м. К.п. эпохі мезаліту светла-шэры, таўшч. 0,2—0,4 м, з невял. колькасцю знаходак, пераважна крамянёвых вырабаў. Адметнай рысай К.п. эпохі неаліту з'яўляецца наяўнасць у ім рэштках керамікі, а таксама насычанасць знаходкамі. На помніках паўн. Беларусі (*Асавец, Галоўск* і інш.) ён часам дасягае 1—1,2 м, перакрыты пластом торфу. К.п. бронзавага веку ўтрымлівае кераміку, вырабы з крэменю, каменныя сякеры, вельмі рэдка бронзавыя рэчы. На помніках у Бел. Панямонні, на Пн і Пд Беларусі мае таўшч. 0,4—1 м. К.п. жал. веку шэрага альбо чорнага колеру, таўшч. да 1—2 м, на асобных помніках знойдзены рэшткі жытлаў у выглядзе абвугленага дрэва, агнішчаў, грубаляпнога посуду, вырабы з жалеза, косці, каменю, каляровых металаў і інш. Селішчы гэтага перыяду маюць пласт невял. таўшчыні, шэрага колеру, аднароднай структуры, на асобных помніках таўшч. больш за 1 м. К.п. селішчаў ранняга сярэдневякоўя таўшч. 0,2—0,4 м, светла-шэрага колеру, утрымлівае кераміку, радзей рэчы з жалеза, шкла, каменю, каляровых металаў і інш. У гарадах Беларусі К.п. складаў: у Гродне 8,2—10,2 м, Віцебску 5,7—8 м, Мінску 5—6,4 м, Полацку 4,3—5,5 м, Брэсце 5,2 м, Пінску 4,4 м, Слуцку 3,6—4,2 м і інш. Пласт зямлі, што ўтвараўся ў сярэдневяковых гарадах, з цягам часу ствараў для жыхароў нязручнасці, таму рабіліся захады па паляпшэнні камунальнай гаспадаркі: абнаўляліся насцілы вулічных маставых і дваровых вымасткаў, пракладаліся вадасцёкі і інш. Іх рэшткі знойдзены пры раскопках у многіх гарадах. К.п. некаторых помнікаў насычаны вільгаццю і таму добра захоўвае рэчы арганічнага паходжання. У ім добра захоўваюцца рэчы з дрэва, бяросты, скуры, косці і інш., а таксама рэшткі драўляных пабудоў, якія даюць магчымасць рэканструяваць планіроўку і забудову стараж. гарадоў. Канцэнтрацыя ў К.п. рэштках сыравіны і адыходаў вытворчасці сведчыць аб існаванні тут майстэрні рамесніка. Праслойкі пяску і глею, якія не маюць слядоў дзейнасці чалавека і ўтварыліся ў выніку веснавых і дажджавых паводак, а таксама пласты пажарышчаў, зафіксаваныя ў пісьмовых крыніцах, з'яўляюцца добрымі дыферэнцыятарамі ў раздзяленні розных па часе адкладанняў культ. напластаванняў. Датаванне К.п. ажыццяўляецца па знаходках, якія ўжо датаваны на раней даследаваных помніках, — манетах, рэштках мураваных пабудоў (гл. таксама *Археалагічнае датаванне*). Глеба, на якой залягае пласт і якая не мае слядоў жыццёвай дзейнасці чалавека, у археалогіі наз. м а ц е р ы к о м. Як правіла, гэта светлы пясок аль-

бо шчыльная марэнная гліна. К.п., што залягае непасрэдна перад мацерыком, наз. передмацерыковым; гэта найстаражытнейшы пласт у агульнай стратыграфіі помніка. Калі помнік шматпластавы, даследчыкі вылучаюць т.зв. стратыграфічныя пласты. К.п. адносіцца да помнікаў і ахоўваецца дзяржавай, распрацоўка яго вядзецца ў адпаведнасці з заканадаўствам аб ахове помнікаў і існуючай навук. методыкай раскопак (гл. *Раскопкі археалагічныя*). Раскапаны К.п. знікае назаўсёды і ў адрозненне ад помнікаў архітэктуры не паддаецца аднаўленню. Інфармацыя пра яго мае вял. значэнне пры рэканструкцыі і забудове гіст. частак гарадоў. Неаднароднасць саставу К.п., прысутнасць у ім арганічных уключэнняў уплываюць на яго фізіка-механічныя якасці, што не дазваляе ўзводзіць на ім капітальных будынкаў, а хімічныя мікраэлементы, якія ўтрымлівае пласт, шкодна ўплываюць на металічныя канструкцыі падземных камунікацый.

*Літ.*: Авдусин Д.А. Археологические разведки и раскопки. М., 1959; Я г о ж. Полевая археология СССР. 2 изд. М., 1980; Загорульский Э.М. Археология Белоруссии. Минск, 1965; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1—2. Минск, 1970—72. *Л.У.Калядзінскі.*

**КУЛЬЧЫ́НСКІ** Ігнат [1707, каля Гродна — 1747(?)], беларускі археолаг, краязнавец, уніяцкі царкоўны дзеяч, архімандрыт гродзенскі (з 1735). У 1727—35 быў у Рыме, дзе, магчыма, атрымаў адукацыю, вывучаў гісторыю царквы, пісаў і выдаваў багаслоўскія кнігі. У Беларусі даследаваў старажытнасці Гродна, в. Жыровічы (Слонімскі р-н). У выніку вывучэння архіва *Гродзенскай Барысаглебскай царквы* (Каложскай царквы) першым датаваў яе збудаванне 12 ст., выкарыстаўшы для гэтага (упершыню ў археал. практыцы) цэглу-плінфу. Напісаў «Хроніку ігуменаў...» Гродзенскага Каложскага манастыра паводле архіва, які вёўся з 1480. Вывучаў *Гродзенскі Стары замак*. Зрабіў апісанне абразоў кафедральнай царквы ў Полацку і крыжа Ефрасінні Полацкай.

*Літ.*: Археологический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Т. 9. Вильна, 1870; Воронин Н.Н. Древнее Гродно: (по материалам археол. раскопок 1932—1949 гг.). М., 1954 (МИА. № 41).

**КУМГА́Н** (цюрк.), пасудзіна ў форме жбана з вузкім горлам і доўгім носікам, які меў накрыўку і ручку. Выкарыстоўваўся для захоўвання віна, воцату і інш. вадкасцяў. Найб. пашыраны на ўсх. землях. Упамінаецца ў рус. пісьмовых крыніцах 16—17 ст. У вял. колькасці знойдзены ў пластах 15—16 ст. пры раскопках Масквы, 16—17 ст. пры раскопках Смаленска. На тэр. Беларусі ў час раскопак Мінскага старaж. пасада знойдзены зялёнапаліваны носік К., у Віцебску — носік чорнаглянцаванага К. Для Беларусі К. з'яўляецца запазычаным посудам або завезеным у выніку гандл. зносін.

*Літ.*: Розенфельдт Р.Л. Московское керамическое производство XII—XVIII вв. М., 1968 (САИ. Вып. Е1—39); Серегина Т.В. Поливная посуда из Смоленска // СА. 1981. № 2.

**КУ́НДСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура паляўнічых і рыбаловаў эпохі мезаліту, якія ў сяр. 8-га — 5-м тыс. да н.э. жылі на тэр. ўсх. Прыбалтыкі, паўд. Карэліі, Прыанежжа, Ленінградскай вобл. і ў Беларусі — у басейнах Зах. Дзвіны, Нёмана, верхняй і сярэдняй Прыпяці. К.к. атрымала назву па стаянцы Кунда (паўн. Эстонія), яе існаванне абгрунтавана Р.Індрэкам, Л.Ю. і К.Л. Янітсамі, Ф.А.Загорскісам і інш. Паселішчы К.к. размешчаны на берагавых тэрасах, склонах узвышшаў ледавіковага паходжання (друмлінах). Храналагічна вылучаюцца 3 этапы. Першы датуецца сяр. — 2-й пал. 8-га тыс. да н.э. На гэтым этапе сфарміравалася высокаразвітая пласцінiстая індустрыя, заснаваная на выкарыстанні высакаякаснага крэменю. Асн. тыпам загатовак для прылад працы з'яўляліся адціскныя пласціны, атрыманыя пераважна з аднапляцовачных нуклеусаў канічнай і падпрызматычнай форм: разцы на вугле зламанай пласціны, канцавыя скрабкі, шматлікія ўкладышавыя вырабы, у т.л. мікрапласцінкі з рэтушаванымі краямі і канцамі, пласціны са скошанымі канцамі. Наканечнікі стрэл прадстаўлены сіметрычнымі чаранковымі вырабамі, наканечнікамі з бакавой выемкай і тыпу Пулі. Прылады з косці і рога — іголкападобныя наканечнікі стрэл (асобныя з іх маюць пазы для ўкладышаў), наканечнікі дзідаў, аднабаковыя гарпуны, долатападобныя вырабы (пешні), рыбалоўныя кручкі, рагавыя муфты, упрыгажэнні ў выглядзе падвесак з зубоў жывёлін і інш. На 2-м этапе (7-е тыс. да н.э.) захаваліся ўсе культуравызначальныя рысы К.к., але разам з крэменем пачалі выкарыстоўваць менш якасныя крышталічныя пароды каменю, кварц. Комплекс прылад стаў больш разнастайным. Пачалі распаўсю-



Аўтар А.У. Коласаў

дзвацца сякучыя прылады з прышліфоўкай лёзаў. У канцы існавання культуры (6—5-е тыс. да н.э.) пласціністасць крамянёвага інвентару памяншаецца, знікае стабільнасць у вытворчасці прылад. Вядомы пахаванні К.к. — могільнік Звейніэкі (Латвія). Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах на спіне ў выцягнутым стане, радзей на жываце ці баку. Інвентар: скрабкі, нажы, касцяныя кінжалы, наканечнікі і дзіды, падвескі з зубоў жывёлін. Магілы багата пасыпаны вохрай.

На тэр. Беларусі помнікі К.к. даследаваліся Н.М.Гурынай, У.П.Ксяндзовым, В.С.Абухоўскім — стаянкі *Крумплева, Замошша, Плусы* (Падзвінне); асобныя знаходкі: *Жылічы-2, Чарлёнкі, Лічыцы, Шпіль-Гарадок* (Панямонне), *Бабровічы*-1, *Любань* (Прыпяцкае Палессе). Крэменеапрацоўка К.к. ў Беларусі мае сваю спецыфіку: прылады працы зроблены толькі з высакаякаснага крэменю, адсутнічаюць вырабы з арганічных матэрыялаў (не захаваліся). Час існавання яе ў Беларусі вызначаецца 2-й пал. 8-га — 7-м тыс. да н.э.

Генезіс К.к. дыскусійны. Асн. частка даследчыкаў паходжанне К.к. звязвае са старажытнасцямі *свідэрскай культуры* (А.А.Фармозаў, Л.Ю. і К.Л. Янітсы, Л.Л.Залізняк, І.А.Загорская, М.Г. Жылін). Паводле Л.У.Кальцова, К.к. ўяўляе сабой вынік узаемадзеяння постсвідэрскага насельніцтва з носьбітамі культуры Аскола на тэр. Фінскага заліва. А.М.Сарокін генетычным продкам насельніцтва культуры прадстаўнікоў *рэсецінскай культуры* Волга-Окскага міжрэчча, якія на мяжы эпохі плейстацэну — пач. галацэну мігрыравалі па Зах. Дзвіне ва ўсх. Прыбалтыку. Гіст. лёс К.к. звязваецца з *нарвенскай культурай* і помнікамі нарачанскага тыпу позняга мезаліту.

*Літ.*: Ксензов В.П. Культура кунда // ГАЗ. Мінск, 2001. № 16; Сорокин А.Н. Проблемы мезолитоведения. М., 2006; Абухоўскі В.С. Да пытання аб старажытнейшым насельніцтве Беларускага Падзвіння // Актуальные проблемы из исторического прошлого и современности в общественно-гуманитарных и социо-религиоведческих науках Беларуси, ближнего и дальнего зарубежья: материалы междунар. научно-теорет. конф., Витебск, 19—20 апр. 2007 г. Витебск, 2007; Obuchowski W. Zabytki krzemienne i kamienne od paleolitu do wczesnej epoki żelaza z terenów Białorusi w zbiórach Państwowego Muzeum Archeologicznego w Warszawie. Warszawa, 2003.

*А.У.Коласаў.*

*Археалагічныя знаходкі з селішча-1* ***Курадава****: 1, 12—14 — бронза; 2 — бронза і жалеза; 3—8, 11 — шкло; 9 — камень; 10 — шкло і сярэбраная фальга; 15, 16 — жалеза; 1, 2 — фрагменты фібул; 3— 11 — пацеркі; 12, 13 — фрагменты спражак; 14 — абломак бранзалета; 15, 16 — посахападобныя шпількі.*

**КУРАДАВА**, археалагічныя помнікі — селішчы каля в. Курадава Пінскага р-на Брэсцкай вобл.

Селішча-1 за 0,8 км на ПдЗ ад вёскі, на левым беразе р. Прыпяць. Размешчана на краі надпоймавай тэрасы і па яе схіле, пл. каля 4—4,5 га. У 1980, 1982 В.С.Вяргей адкрыла і даследавала 200 м². Культ. пласт 0,4—0,9 м змяшчае розначасовыя, стратыграфічна непадзельныя рэшткі прадметаў эпохі мезаліту (свідэрскай культуры), неаліту (нёманскай культуры), бронзы (шнуравой керамікі і тшцінецкай культур), а таксама жал. веку (мілаградскай і позназарубінецкай культур), ранняга сярэдневякоўя (лука-райкавецкай культуры). У паўд. частцы раскопу выяўлена скопішча кавалкаў балотнай руды (таўшч. слоя 0,1—0,2 м, пл. 8,5 × 3,5 м), у паўд.-ўсх. — гасп. яма, у мацерыку — 15 попель-



на-вугальных плям. На паверхні пляцоўкі зрэдку сустракаюцца чалавечыя косці. Асн. аб'ём матэрыялаў належыць да 1—3 ст.: каля 1200 фр-таў посуду і ўпрыгажэнняў (фр-ты 2 фібул, 2 спражак, 8 пацерак, 2 посахападобныя шпількі, абломак бранзалета і г.д.). Керамічны матэрыял па спосабах апрацоўкі падзяляецца на: грубаляпны гладкасценны посуд (93%), фр-ты посуду з грабень-




*Фрагменты посуду 1—3 ст. з селішча-1* ***Курадава.***

чатымі расчосамі (3%), чорна- і падглянцаваны посуд (2,5%). Асобнымі фр-тамі прадстаўлены посуд са штрыхоўкай і абломкі храпаватага посуду вельбарскай культуры. Гарызонт 1—3 ст. сінхранізуецца з фазамі В1—С1 перыяду рымскіх уплываў паводле цэнтр.-еўрап. шкалы адноснай храналогіі. У абсалютных датах межы функцыяніравання вызначаюцца сяр. 1 — пач. 1-й пал. 3 ст. Прафіліроўка найб. выразных фр-таў пасудзін, наяўнасць керамікі з расчосамі і штрыхоўкай у спалучэнні з глянцаваным посудам, характэрныя прыёмы арнаментацыі вянцоў набліжаюць керамічны матэрыял асн. часткі калекцыі рымскага перыяду селішча-1 да помнікаў тыпу Грыні—Ваўкі і Абідні з тэр. верхняга і сярэдняга Падняпроўя.

Селішча-2 за 0,5 км на З ад селішча-1, на ўзвышшы надпоймавой тэрасы левага берага р. Прыпяць. Выявілі ў 1986 В.С.Вяргей і А.А.Егарэйчанка. Пляцоўка памерамі 190 × 110 м. Знойдзены крамянёвыя вырабы (адшчэпы, пласціны, наканечнік стралы трохвугольнай формы, нуклеусы) эпохі каменнага і бронзавага вякоў, фр-ты ляпнога посуду мілаградскай, зарубінецкай, карчак і лука-райкавецкай культур.

Селішча-3 за 1,5—2 км на З ад селішча-1, на левым беразе р. Прыпяць, на пясчаным узвышшы сярод поплаву. На паверхні сабраны фр-ты ляпнога посуду зарубінецкай, карчак і лука-райкавецкай культур.

*Літ.*: Белявец В., Вяргей В. Курадава I — шматслойнае паселішча з Цэнтральнага Палесся // МАБ. 2002. № 5; Іх жа. Гарызонт перыяду рымскіх уплываў паселішча Курадава-I каля Пінска // ГАЗ. Мінск, 2005. № 20. *В.Г.Белявец, В.С.Вяргей.*

**КУРГА́Н**, земляны насып над старажытным пахаваннем аднаго ці некалькіх нябожчыкаў. Звычай хаваць нябожчыкаў у К. з'явіўся на мяжы эпох неаліту і энеаліту (4—3-е тыс. да н.э.), у Беларусі — на мяжы 3-га і 2-га тыс. да н.э. Вядомы таксама пад назвамі капцы, валатоўкі, сопкі, французскія альбо шведскія магілы. Выяўленыя ў Беларусі К. належаць усх.-слав. плямёнам 2-й пал. 1-га тыс. н.э. і часоў Стараж. Русі, славяна-балцкаму насельніцтву, балтам (гл. *Каменныя курганы*). Адрозніваюцца формай, памерамі, унутранай будовай, палажэннем нябожчыка, абрадам пахавання, характарам пахавальнага інвентару. Вядомы асобныя К. і курганныя могільнікі. Каля некаторых населеных пунктаў ёсць па некалькі курганных груп з колькасцю ад 2 да 200 К. у групе (напр., *Дулебы* Бярэзінскага р-на) альбо па адной курганнай групе (напр., *Таўкачэвічы 1* Уздзенскага р-на). Зрэдку ў К. сустракаюцца драўляныя зрубы з накатам і без яго (Гродзенская і Мінская вобл.), а таксама 4 драўляныя слупы (Віцебская вобл.). Найб. стараж. К. адносяцца да *сярэднедняпроўскай культуры*, круглыя ў плане, выш. да 3 м, дыям. да 30 м. Нябожчыкаў у такіх К. хавалі часцей у авальных падкурганных ямах, радзей — на гарызонце; ад 1 да 4 пахаванняў пад адным насыпам. Пахавальны інвентар: керамічны арнаментаваны посуд, крамянёвыя і бронзавыя прылады працы, упрыгажэнні. Найб. пашыранымі К. з'яўляюцца круглыя, доўгія і падоўжаныя ў плане. У к. 1-га тыс. пахавальны абрад — трупаспаленне, у 11—13 ст. — трупапалажэнне. Доўгія і падоўжаныя К. (даўж. 10—110 м, выш. 1,5—2 м, шыр. 8—10 м) сустракаюцца на Пн Беларусі і адносяцца да перыяду распаду радавых адносін. У такіх К. нябожчыкаў хавалі па абраду трупаспалення. Даўжыня іх насыпу залежала ад колькасці пахаваных членаў роду. Асобныя доўгія К. рабілі ў адзін прыём. Паўсферычныя К. (выш. 0,2—2 м, дыям. 2,2—18 м, зрэдку выш. 3—5 м, дыям. 20—25 м) звычайна размешчаны за 0,5—1,5 км ад стараж. паселішчаў. Сустракаюцца насыпы без пахаванняў, насыпаныя на ўшанаванне памяці памерлых, — *кенатафы*. У некаторых К. выяўлены рэшткі драўляных трун. У 14 ст. на змену курганным пахаванням прыйшлі грунтавыя.

*Літ.*: Грязнов М.П. Курган как архитектурный памятник // Тез. докл. на заседаниях, посвящ. итогам полевых исследований в 1960 г. М., 1961; Соловьева Г.Ф. Итоги изучения радимичских курганов в 1962—65 гг. // Древности Белоруссии. Минск, 1966; Багамольнікаў У.У. Асноўныя вынікі вывучэння радзіміцкіх курганоў // ВАНБ. 1979. № 3; Дучыц Л.У. Да пытання аб познесярэдневяковых курганах Паўночнай Беларусі // Там жа. 1989. № 4; Седов В.В. Длинные курганы кривичей. М., 1974; Коробушкина Т.Н. Курганные древности XI—XIII вв. в Белорусском Побужье // Древнерусское государство и славяне. Минск, 1983. *Т.М.Каробушкіна.*

**КУРГА́ННА-ЖАЛЬНІ́ЧНЫЯ МО́ГІЛЬНІКІ**, катэгорыя пахавальных помнікаў. У адным могільніку могуць быць земляныя курганы, каменныя курганы (пакрытыя камянямі зверху ці абкладзеныя па перыметры, поўнасцю складзеныя з камянёў), каменныя магілы (авальнай, круглай ці прамакутнай формы ў плане) і магілы з вялікімі камянямі ў галавах і нагах. У адных могільніках земляныя насыпы змяняюцца каменнымі курганамі, потым каменнымі магіламі і затым пазнейшымі пахаваннямі (вёскі Перавоз Глыбоцкага, Ваўча Докшыцкага р-наў), у другіх жальнікі і каменныя магілы знаходзяцца паміж землянымі курганнымі насыпамі (вёскі Домжарыцы Лепельскага, Дакучына Крупскага р-наў).

К.-ж.м. распаўсюджаны на ПнУ Еўропы, на тэр. Беларусі ў Віцебскай і Мінскай абласцях. У народзе такія археал. помнікі вядомы пад назвамі Галодныя могільнікі, Галоднік, Каменныя кругі, Французскія могілкі, Шведскія магілы, Паганскія магілы і інш.

Даследаванне гэтых пахаванняў вядзецца з к. 19 ст. Археал. раскопкі праводзілі Ф.Вярэнька (в. Пуцілкавічы Ушацкага р-на), Т.Саподзька (вёскі Смаляры—Мсціж Барысаўскага р-на), А.Семянтоўскі (в. Ляхі Ушацкага р-на), М.Кусцінскі (в. Крывец Лепельскага р-на), М.Шамшур (в. Стары Пагост Міёрскага р-на). У 1920—30-я г. К.-ж.м.

вывучалі А.Дз.Каваленя (вёскі Хаўхоліца Барысаўскага, Пуцілкавічы Ушацкага р-на), І.А.Сербаў (вёскі Кублічы і Славені Ушацкага р-на), А.М.Ляўданскі (вёскі Жукавец Бярэзінскага, Домжарыцы Лепельскага р-наў). У 1970-я г. Я.Г.Звяруга раскопваў могільнік у в. Камена Вілейскага р-на, у 1980-я г. В.Н.Рабцэвіч і А.М. Плавінскі — у в. Гараўцы Барысаўскага р-на, у пач. 1990-х г. Л.У.Дучыц і А.В.Квяткоўская — у вёсках Перавоз Глыбоцкага і Ваўча Докшыцкага р-наў. У к. 1990-х — пач. 2000-х г. Л.У.Дучыц даследавала помнікі каля вёсак Прудзішча, Селішча і Сухая Гара Лагойскага і Малявічы Вілейскага р-наў.

Усе пахаванні па абраду трупапалажэння ў яме (глыб. 0,3—1,2 м). У мужчынскіх пахаваннях выяўлены ў асн. элементы паяснога набору (спражкі, паясныя кольцы); у жаночых — рэшткі галаўных убораў з пазалочанымі бляшкамі розных форм і з ціснёным арнаментам (вёскі Смаляры, Камена, Перавоз, Ваўча, Дакучына, Жукавец), ромбашчытковыя скроневыя кольцы (вёскі Селішча, Прудзішча, Сухая Гара), шматпацеркавыя скроневыя кольцы (вёскі Камена, Малявічы), разнастайныя металічныя пярсцёнкі, бранзалеты, падвескі (ключыкі, «канькі», коўшыкі), шкляныя і інш. пацеркі. Адносяцца да 11—17 ст. Большасць даследчыкаў падкрэслівае сувязь такіх помнікаў з каменнымі магіламі Панямоння.

*Літ.*: Спіцын А.А. Сопки и жальники // Зап. имп. Русского археол. о-ва: тр. отделения Славянской и русской археологии. 1899. Т. 11, вып. 1, 2, кн. 4; Дучыц Л., Квяткоўская А. Пахавальныя помнікі наваколіц Падсвілля // ГАЗ. Мінск, 1994. № 4; Дучыц Л. Курганна-жальнічныя могільнікі на тэр. Полацкай зямлі (да пастаноўкі пытання) // ГАЗ. Мінск, 1996. № 10; Яе ж. Каменные курганы Полоцкой земли // Археология и история Пскова и Псковской земли: материалы 50-го науч. семинара. Псков, 2004; Квятковская А.В. Ятвяжские могильники Беларуси (11—17 вв.). Вильнюс, 1998; Дучыц Л., Вайцяховіч А., Кенька П. Курганна-жальнічны могільнік каля в. Малявічы Вілейскага раёна // ГАЗ. Мінск, 2007. Вып. 23.

*Л.У.Дучыц.*

**КУРГА́ННЕ**, археалагічны помнік — гарадзішча ранняга жалезнага веку каля в. Курганне Горацкага р-на Магілёўскай вобл. За 0,5 км на З ад вёскі, на левым беразе р. Быстрая, 0,1 км на У ад гарадзішча *Нікадзімава*, ад якога аддзелена ярам. Пляцоўка чатырохвугольная, выцягнута з Пн на Пд. Памеры 43 × 22 м. Выш. 7—11 м, нахілена ў паўд. напрамку. З боку поля (паўн.) вал выш. 1,5 м. Выявіў у 1970 В.Ф.Капыцін. Абследавалі ў 1982 Ш.І.Бекцінееў, у 1985—86 А.А. Седзін. Даследавалі ў 1988, 1992 А.А.Седзін, у 1995 П.М. Падгурскі. У мацерыку на пляцоўцы адзначаны ямы ад слупоў і калоў. Пад уздзеяннем воднай эрозіі культ. пласт змясціўся на схілы гарадзішча, дзе дасягаў 1 м; у ніжняй частцы меў цёмна-шэрую афарбоўку, утрымліваў вуголле. Знойдзены 2 бронзавыя бранзалеты, кольцы, жал. посахападобная шпілька, гліняныя грузік, тыглі, льячкі, ліцейныя формы, каменны цёрачнік ад зерняцёркі, касцяная шпілька, слабапрафіляваны гладкасценны ляпны посуд, косткі свойскіх (бык, свіння) і дзікай (лось) жывёл.

*Літ.*: Подгурский П. Находки из городища Курганье // Беларусь у сістэме транс'еўрапейскіх сувязяў у І тысячагоддзі н.э. Мінск, 1996. *А.А.Седзін.*

**КУРГА́ННЕ**, археалагічныя помнікі — курганныя могільнікі каля в. Курганне Жлобінскага р-на Гомельскай вобл.

Могільнік-1 паміж вёскай і р. Дабасна (прыток Дняпра). 55 курганоў выш. 0,5—2,5 м, дыям. 10—12 м. Выявіў і даследаваў 28 насыпаў у 1972—76 У.У.Багамольнікаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на спіне галавой на З (у адным выпадку — на У), сустракаецца трупаспаленне. Адзін курган пусты. Знойдзены ганчарныя гаршкі, пярсцёнкападобныя і сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы, пацеркі (дробны бісер, шкляныя пазалочаныя цыліндрычныя і бочачкападобныя, сердалікавыя біпірамідальныя, бурштынавыя прызматычныя, металічныя), авальнае і абаранкападобныя крэсівы, ліраподобныя спражкі, каса, серп, прасліцы. Асабліва багаты курган з двайным пахаваннем, дзе знойдзены крыж-складзень, паясны кручок з выявамі конскіх галовак, бронзавыя спражка і паясное кольца з інкруставаным раслінным і геам. арнаментам, крэсівы, жал. паясныя кольцы і інш. Могільнік належаў *радзімічам*, датуецца 11 — 1-й трэццю 12 ст.



*Энкалпіён, спражка з інкрустацыяй, паясное кольца, паясны кручок з могільніка-1* ***Курганне*** *Жлобінскага р-на.*

М о г і л ь н і к - 2 побач з могільнікам-1, на З ад яго. 35 курганоў выш. 1—2 м, дыям. 10—12 м. Выявіў і даследаваў 7 насыпаў у 1972 У.У.Багамольнікаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце і ў яме. Знойдзены нож, ганчарная кераміка, шкляныя пазалочаныя, сердалікавыя біпірамідальныя пацеркі і вял. яйкападобныя буйназярністыя пацеркі. Належаў *дрыгавічам*, датуецца 11—12 ст.

М о г і л ь н і к - 3 за 1 км ад могільніка-2. 3 курганы выш. 2 м, дыям. 12—13 м. Выявіў і абследаваў у 1972 У.У.Багамольнікаў. Раскопкі не праводзіліся. *А.А.Макушнікаў.*

**КУРГА́ННЕ**, археалагічны помнік — курганны могільнік *радзімічаў* каля в. Курганне Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл. За 0,5—0,6 км на У ад вёскі. 26 насыпаў выш. 1,6—2,3 м, дыям. 5—7 м. Вядомы з 1873. Даследаваў у 1890 У.І.Зенчанка (раскапаў 3 насыпы), абследавалі ў 1930 А.М.Ляўданскі, у 1976 А.Р.Мітрафанаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены пласціністыя і вітыя бранзалеты, сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы, лунніцы, пярсцёнкі, бразготкі, абломкі шыйнай грыўні.

*Літ.*: Л я ў д а н с к і А.М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг. // Працы. Т. 3; Б о г о м о л ь н и к о в В.В. Радимичи (по материалам курганов X—XII вв.).

*А.А.Макушнікаў.*

**КУРГА́ННЕ**, археалагічны помнік — курганны могільнік каля в. Курганне Смалявіцкага р-на Мінскай вобл. На ўскраіне вёскі, ва ўр. Курганне (або Клёнік), каля ручая Бурлацкі Брод (упадае ў р. Уша). Налічваў 40 курганоў, не захаваліся. У 1886—87 У.З.Завітневіч даследаваў 4 курганы дыям. 7—11 м, выш. 0,8—2 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на мацерыку галавой на З. Адно пахаванне ў драўлянай труне, пры якім знойдзены жал. нож. Іншыя пахаванні без інвентару.

**КУРЦІ́НА** (франц. courtine), сярэдняя частка бастыённага фронту абарончых збудаванняў замкаў і крэпасцей, якая злучае фланкі бастыёнаў і дае магчымасць весці франтальны абстрэл мясцовасці перад умацаваннямі. У зах.-еўрап. фартыфікацыі К. наз. участкі замкавых і гар. абарончых сцен паміж вежамі. К. ранніх бастыённых замкаў (стараітальянская сістэма) мелі вял. (да 500 м) даўж., таму іх умацоўвалі падзяляючы дадатковымі малымі бастыёнамі (piata forma). Паступова даўж. К. зменшылася да 200 м (новаітальянская сістэма). У фартыфікацыйных збудаваннях Германіі з 16 ст. пасярод К. робяцца кавальеры для яруснага абстрэлу мясцовасці. У французскай бастыённай сістэме з 17 ст. К. некалькі змяшчаецца назад і абараняецца перакрыжаваным агнём з фланкаў вял. па памерах бастыёнаў (сістэма інжынера Пагана) альбо робіцца ў выглядзе вугла, што выступае звонку, а перад К. размяшчаецца равелін без рэдзюіта. Ва ўзмоцненых сістэмах французскага фартыфікатара Вабана К. змешчана назад ад бастыёнаў і злучана з іх рэтрашментамі праз пяцівугольныя каменныя вежы — тур-бастыёны (ландаўская сістэма) альбо мае бастыённы абрыс (нэй-брызакская сістэма).

У фартыфікацыі на тэр. Беларусі выкарыстоўвалася пераважна новаітальянская бастыённая сісітэма з К. даўж. каля 200 м. У некаторых бел. познасярэдневяковых бастыённых замках яны рабіліся мураванымі, а пазней прыкрываліся (абкладваліся) зямлёю і дзірваном (*Нясвіж*), у інш. адразу рабіліся землянымі (*Заслаўе*) і маглі абкладацца камянямі (*Ляхавічы*).

*Літ.*: Я к о в л е в В.В. История крепостей. Эволюция долговременной фортификации. Санкт-Петербург, 1995; З а я ц Ю.А. Замкі // Археалогія Беларусі. Мінск, 2001. Т. 4. *Ю.А.Заяц.*

**КУ́СЕЎШЧЫНА**, археалагічны помнік — стаянка эпохі позняга мезаліту (7—6-е тыс. да н.э.) каля в. Кусеўшчына Мядзельскага р-на Мінскай вобл. За 0,4 км на ПнЗ ад вёскі, на марэнным паўвостраве паўд.-ўсх. краю тарфяніку. Выявіў у 1978 Ч.А.Каспарэўскі, даследаваў у 1980, 1987, 1988 М.М.Чарняўскі. Пляцоўка памерамі каля 100 × 30 м, выш. 0,5 м. Культ. пласт слаба выражаны, таўшч. 0,3—0,4 м. Выяўлены невял., крыху заглыбленыя агнішчы, крамянёвыя аднапляцовачныя нуклеусы, ланцэтападобныя вастрыі, рэтушаваныя пласцінкі і адшчэпы, разнастайныя скрабкі і разцы.

**КУСЦІ́НСКІ** Міхаіл Францавіч (28.9.1829, маёнтак Завідзічы, цяпер вёска Лепельскага р-на Віцебскай вобл. — 1905), беларускі археолаг. Чл. Маскоўскага археал. т-ва (з 1874, чл.-кар. 1867). Скончыў Віленскі дваранскі ін-т, Пецярбургскі ун-т. У 1850—90 вывучаў археал. помнікі Віцебшчыны, склаў яе археал. карту. Праз свайго сакурсніка па ун-це А.В.Уварава падтрымліваў сувязь з археолагамі Пецярбурга і Масквы. Для Пецярбургскай акадэміі мастацтваў зрабіў табліцу курганоў і гарадзішчаў па кожным павеце Віцебскай губ. Упершыню ў Беларусі пачаў фатаграфаваць працэс раскопак, складаць фотатэку помнікаў старажытнасцей Віцебскай і суседніх губерняў. Першым у 1874 даследаваў Гняздоўскія курганныя могільнікі пад Смаленскам, тэр. ў вярхоўях Волгі, Зах. Дзвіны, Дняпра. Вывучаў Барысавы камяні. Стварыў у Завідзічах музей, які прыцягваў увагу многіх археолагаў. У аддзеле рукапісаў Цэнтр. бібліятэкі АН Літвы захоўваюцца яго «Успаміны».

*Тв.*: [Доклад о раскопках курганов возле Черцов б. Лепельского пов.] // Тр. Первого археол. съезда в Москве, 1869. М., 1871. Т. 1; [О раскопках в Гнездово, Поречском и Духовщинском поветах Смоленской губернии] // Древности: тр. Московского археол. о-ва. М., 1875. Т. 6, вып. 1.

*Літ.*: А л е к с е е в Л.В. Белорусская археология и историческое краеведение во второй половине XIX — начале XX в. // СА. 1968. № 3; К а х а н о ў с к і Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мінск, 1984.

**КУ́ФЕЛЬ**, кухаль, кухлік, куфлік (польск. kufel), цыліндрычная пасудзіна для піцця, з прамавугольнай або петлепадобнай ручкай для піцця. Выраблялiся з гліны, шкла, фаянсу, фарфору, волава, серабра, часам з дрэва. К. звычайна былі гладкія. Керамічныя К. часам сціпла аздаблялі рэльефным лінейным арнаментам пад венчыкам і ў прыдоннай частцы. Шырока выкарыстоўваліся ў 2-й пал. 16 ст. Фр-ты паліваных (зялёная, радзей карычневая паліва на абедзвюх паверхнях) керамічных, а таксама шкляныя куфлі знойдзены пры раскопках у Віцебску, Крычаве, Лідзе, Магілёве, Мсціславе і інш. гарадах. Часам К. выраблялі на заказ і багата аздаблялі (напр., К. 17 ст. з раскопак Магілёўскай ратушы маюць выяву герба горада). Металічныя К. часта мелі накрыўку. Цяпер вырабляюцца стальныя і металічныя К.

*Літ.*: Здановіч Н.І., Трусаў А.А. Беларуская паліваная кераміка XI—XVIII стст. Мінск, 1993; Ганецкая І.У. Маёліка на Беларусі ў XI—XVIII стст. Мінск, 1995. *А.А.Трусаў.*

**КУХАРЭ́НКА** Юрый Уладзіміравіч (2.4.1919, с. Чапля Хмяльніцкай вобл., Украіна — 6.1.1980), расійскі археолаг. Д-р гіст. навук (1966). Скончыў Хабараўскі педагагічны ін-т (1943). З 1951 працаваў у Ін-це археалогіі АН СССР. Даследаваў гісторыю і археал. помнікі Палесся, верхняга і сярэдняга Падняпроўя (*Атвержычы*, *Вароніна*, *Велямічы*, *Дубай*, *Рамель*, *Рубель*, *Хотамель*, *Чаплін* і інш.). Сабраў і сістэматызаваў звесткі пра археал. помнікі Палесся ад неаліту да сярэдневякоўя і паказаў, што яно з даўніх часоў заселена чалавекам. Працы К. сталі падмуркам у рэканструкцыі гісторыі насельніцтва паўд. Беларусі і паўн. Украіны ў 1-м тыс. да н.э. — 1-м тыс. н.э. Упершыню даў поўную характарыстыку *зарубінецкай культуры*. Паклаў пачатак сістэматызацыі паморскіх старажытнасцей у Беларусі па матэрыялах *Брэсцкага бескурганнага могільніка* (Брэст—Трышын), прасачыў пранікненне плямён *вельбарскай культуры* на тэр. Усх. Еўропы. Першым з сав. даследчыкаў звярнуў увагу на ляпны посуд з больш ранніх раскопак на Жытоміршчыне і звязаў іх з *пражскай культурай*, што паклала пачатак вывучэнню славян 5—7 ст. на тэр. СССР.

*Тв.*: Памятники железного века на территории Полесья. М., 1961; Средневековые памятники Полесья. М., 1961; Первобытные памятники Полесья. М., 1962; Зарубинецкая культура. М., 1964; Полесье и его место в процессе этногенеза славян // Полесье: (Лингвистика. Археология. Топонимика). М., 1968; Пинские курганы // Славяне и Русь. М., 1968; Археология Польши. М., 1969; Могильник Брест—Тришин. М., 1980.

*Літ.*: Русанова И.П. Памяти Юрия Владимировича Кухаренко // СА. 1981. № 2. *В.С.Вяргей.*

**КУ́ХЦІЦКІ КАЛЬВІ́НСКІ ЗБОР**, помнік архітэктуры рэнесансу з элементамі класіцызму. Знаходзіцца ў пас. Першамайскі Уздзенскага р-на Мінскай вобл., раней сядзіба Кухцічы. Узведзены ў сяр.— 2-й пал. 16 ст., пры тагачасным уладальніку Кухціч М.Кавячынскім. У 1648 пры яго ўнуку Крыштофе, мінскім падкаморыі, з пераходам Кавячынскіх з кальвінізму ў каталіцтва, збор пераабсталяваны ў каталіцкую капліцу-пахавальню.

Асн. аб'ём мае звонку шматгранную форму, а ўнутры — акруглую. Раней перакрываўся, напэўна, самкнутым купалам. Цяпер у інтэр'еры драўляная столь, а над ёю шатровы дах. Асн. частка па вышыні раўняецца далучанаму з З прытвору, фланкіраванаму 2 вежамі цыліндрычнай формы, якія пабудаваны ў пач. 1780-х г. італьянскім архіт. К.Спампані. У ім захавалася крыжовае скляпенне. Больш нізкая алтарная частка перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. У інтэр'еры сцены расчлянёны канеліраванымі пілястрамі і завершаны гзымсам. Звонку помнік упрыгожваюць плоскія лапаткі на гал. фасадзе прытвора, ляпныя геральдычныя выявы над уваходам і гзымс у завяршэнні сцен. Яны прарэзаны вокнамі круглай формы, а таксама прамавугольнай з паўцыркульным завяршэннем. Сцены храма былі пабудаваны ў тэхніцы роўнаслаёвай муроўкі з цэглы на вапнава-пясчанай рошчыне. Падмуркі з глыб. залягання 2 м зроблены ў тэхніцы мяшанай муроўкі з цэглы і валуноў. Першапачаткова падлога была высцелена з тэракотавых і зялёных паліваных плітак, якія ляжалі ў шахматным парадку. У даху была ўжыта дахоўка аналагічных колераў.

*Літ.*: Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мінск, 1993; Бажэнаў Ю. Кухціцкі збор — сведка гісторыі // БГЧ. 2003. № 3. *А.М.Кушнярэвіч.*

**КУЦЕ́Ц**, стаянкі каменнага и бронзавага вякоў. Гл. ў арт. *Сверынава*.


*А.М.Кушнярэвіч.*

**КУШНЯРЭ́ВІЧ** Аляксандр Мікалаевіч (н. 26.5.1958, в. Дзедзілавічы Барысаўскага р-на Мінскай вобл.), беларускі археолаг. Д-р мастацтвазнаўства (2005). Канд. гіст. навук (1991), дацэнт (1995). Скончыў Мінскі педагагічны ін-т імя М.Горкага (1982). З 1982 у НДІ «Белспецпраектрэстаўрацыя». З 1990 у ІГ АН Беларусі. З 1992 выкладчык Бел. педагагічнага ун-та імя М.Танка. З 2005 заг. кафедры культуралогіі і міжнар. турызму Мінскага лінгвістычнага ун-та. Даследуе сярэдневяковае культавае дойлідства Беларусі. Аўтар манаграфіі «Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст.: гістарычнае і архітэктурна-археалагічнае даследаванне» (1993) і інш.

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

ААА — Acta Archaeologica Albaruthenica

абл. — абласны

АО — Археологические открытия. Москва

арт. — артыкул

археал. — археалагічны

архіт. — архітэктурны

АСГЭ — Археологический сборник Государственного Эрмитажа. Ленинград

асн. — асноўны

б. — былы

БГЧ — Беларускі гістарычны часопіс

БДУ — Беларускі дзяржаўны універсітэт

бел. — беларускі

буд. — будаўнічы

в. — вёска (пры назве)

в-аў — востраў (пры назве)

ВКЛ — Вялікае княства Літоўскае

ВНУ — вышэйшая навучальная ўстанова

вобл. — вобласць (пры назве)

воз. — возера (пры назве)

выш. — вышыня (пры лічбе)

вял. — вялікі

г. — горад (пры назве); гады (1950-я г.)

га — гектар

газ. — газета (пры назве)

ГАЗ — Гістарычна-археалагічны зборнік. Мінск

гал. — галоўны

гандл. — гандлёвы

гар. — гарадскі

гасп. — гаспадарчы

геам. — геаметрычны

гіст. — гістарычны

гл. — глядзі

глыб. — глыбіня (пры лічбе)

г.п. — гарадскі пасёлак

грэч. — грэчаскі

губ. — губерня (пры назве)

даўж. — даўжыня (пры лічбе)

дзярж. — дзяржаўны

д-р — доктар

дыям. — дыяметр

еўрап. — еўрапейскі

ж. — жыхар

жал. — жалезны

З — захад (напрамак свету)

заг. — загадчык

засн. — заснаваны

зах. — заходні

зб. — зборнік (пры назве)

ІГ — інстытут гісторыі

і г.д. — і гэтак далей

іл. — ілюстрацыя

ін-т — інстытут (пры назве)

інш. — іншы

к. — канец

канд. — кандыдат

кг — кілаграм

км — кіламетр

кн. — кніга (пры назве); князь (пры імені)

КСИА — Краткие сообщения Института археологии АН СССР. Москва

КСИИМК — Краткие сообщения о докладах и исследованиях Института истории материальной культуры. Москва

к-т — камітэт (пры назве)

культ. — культурны

лац. — лацінскі

літ. — літаратура; літоўскі

м — метр

$м^2$ — метр квадратны

МАБ — Матэрыялы па археалогіі Беларусі. Мінск

МИА — Материалы и исследования по археологии СССР. Москва

мін-ва — міністэрства

мяст. — мястэчка

мясц. — мясцовы

н. — нарадзіўся

навук. — навуковы

наз. — называецца

найб. — найбольшы, найбольш

НАН Беларусі — Нацыянальная акадэмія навук Беларусі

напр. — напрыклад

нар. — народны

нац. — нацыянальны

н.-д. — навукова-даследчы

НДІ — навукова-даследчы інстытут

н.ст. — новы стыль

н.э. — наша эра

пав. — павет (пры назве)

пал. — палавіна

пас. — пасёлак (пры назве)

паўд. — паўднёвы

паўн. — паўночны

пач. — пачатак

Пд — поўдзень (напрамак свету)

ПдЗ — паўднёвы захад

ПдУ — паўднёвы ўсход

пл. — плошча

Пн — поўнач (напрамак свету)

ПнЗ — паўночны захад

ПнУ — паўночны ўсход

праф. — прафесар

р. — рака (пры назве)

РА — Российская археология. Москва

р-н — раён (пры назве)

рус. — рускі

с. — сяло

СА — Советская археология. Москва

сав. — савецкі

САИ — Свод археологических источников. Москва

скульпт. — скульптурны

слав. — славянскі

СМ — Савет Міністраў

см — сантыметр

спец. — спецыяльны

ст. — стагоддзе, -і

стараж. — старажытны

сяр. — сярэдзіна

т — тона

таўшч. — таўшчыня (пры лічбе)

т-ва — таварыства

т.зв. — так званы

тыс. — тысяча

тэр. — тэрыторыя

У — усход (напрамак свету)

укр. — украінскі

ун-т — універсітэт (пры назве)

ур. — урочышча

усх. — усходні

феад. — феадальны

фр-т — фрагмент

ф-т — факультэт

цэнтр. — цэнтральны

чал. — чалавек

час. — часопіс (пры назве)

чл. — член

чл.-кар. — член-карэспандэнт

чыг. — чыгуначны

чыг. ст. — чыгуначная станцыя

этнагр. — этнаграфічны

Даведачнае выданне

**АРХЕАЛОГІЯ БЕЛАРУСІ**

Энцыклапедыя

У 2 тамах

Том 1

А—К

Складальнік ***Каласоўскі*** *Юрый Уладзіміравіч*

Рэдактары:

*Ю.В. Бажэнаў, В.В. Грынявецкі, В.А. Кавальчук, Ю.У. Каласоўскі, Дз.В. Кашавар, Л.В. Кірыленка, І.Б. Клепікаў, С.М. Несцярэнка*

Навукова-літаратурны кантроль: *В.М. Лапцева, М.Г. Нікіцін, Д.Дз. Лемехава, Т.І. Нішт, Л.У. Языковіч*

Мастацкае афармленне *Л.У. Ледзянёвай*

Мастацкі рэдактар *І.А. Грынь*

Графічная падрыхтоўка ілюстрацый *І.А. Грынь*

Картографы: *А.А. Лукашоў, Г.Р. Шыкунова*

Камп'ютэрная вёрстка *А.Л. Шалканаўцавай*

Карэктары: *В.А. Кульбіцкая, Д.Дз. Лемехава, Т.І. Нішт, В.М. Чудакова*



Падпісана да друку 01.12.2009. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Гарнітура Ньютан.
Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 52,08.
Ул.-выд. арк. 64,25. Тыраж 2500 экз. Заказ 147.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛИ № 02330/0494061 ад 03.02.2009. Зав. Калініна,16,
220012, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мінская фабрыка каляровага друку».
ЛП № 02330/0494156 ад 30.04.2009. Вул. Каржанеўскага, 20,
220024, Мінск, Рэспубліка Беларусь.

**Археалогія Беларусі** : энцыклапедыя. У 2 т. Т. 1. А—К / рэдкал. : Т.У. Бялова
A 87 (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск : Беларус. Энцыкл. імя П. Броўкі, 2009. — 496 с. : іл.

ISBN 978-985-11-0354-2.

У энцыклапедыі асвятляюцца археалагічныя культуры, якія існавалі на тэрыторыі Беларусі і суседніх краін, археалагічныя помнікі (стаянкі, паселішчы, гарадзішчы, селішчы, могільнікі, свяцілішчы і інш.), а таксама даследаваныя археолагамі помнікі архітэктуры сярэднявечча (мураваныя храмы, замкі, палацы і інш.), рэчы матэрыяльнай культуры і унікальныя творы першабытнага мастацтва. Выданне багата ілюстравана каляровымі і чорна-белымі здымкамі, картамі, планамі і схемамі. Разлічана на выкладчыкаў і студэнтаў ВНУ, настаўнікаў сярэдніх школ і ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі.

**УДК 902/904(476)(031)**
**ББК 63.4(4Беи)я2**